Віктар Цемушаў

# На ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага

## (сярэдзіна XIV — першая палова XVI ст.)



Віктар Цемушаў

# На ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага

## (сярэдзіна XIV — першая палова XVI ст.)




Смаленск
Інбелкульт
2014

УДК 94(474/476 ВКЛ)"14/16"
ББК 63.3 (4Беи)
Ц 36

**Цемушаў, В. М.**

**Ц 36** На ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага (сярэдзіна XIV — першая палова XVI ст.) / В. М. Цемушаў; навук. рэд. В. Ф. Голубеў; пераклад з рускай мовы Н. Бакшанская, М. Мартысевіч, С. Цемушаў. — Смаленск: Інбелкульт, 2014. — 464 с.: [32] с. іл.

ISBN 978-5-9904531-2-8

Дадзеная кніга ўяўляе з сябе тэматычны збор прац вядомага беларускага гісторыка, спецыяліста па гістарычнай геаграфіі, картографа Віктара Цемушава. Асобныя раздзелы кнігі ўпершыню ў айчыннай гістарыяграфіі дазваляюць прасачыць трансфармацыю ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага на працягу XIV — першай паловы XVI ст. Вызначанне літоўска-маскоўскай мяжы разглядаецца на фоне развіцця адносін дзвюх найбуйнейшых дзяржаў Усходняй Еўропы: ад першых тэрытарыяльных кантактаў і канфліктаў другой паловы XIV ст. да ўсталявання трывалай мяжы і памежных войнаў XV — першай трэці XVI ст. Асобны раздзел прысвечаны лёсу Гомейскай воласці, якая на працягу доўгага часу займала памежнае становішча паміж ВКЛ і Вялікім Княствам Маскоўскім. У дадатку змешчаны працы аўтара па праблемах гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і рэгіянальнай гісторыі, звязаныя з агульнай тэмай. Значную каштоўнасць кнізе надаюць гістарычныя карты, шэраг з якіх надрукаваныя ўпершыню.

**УДК 94 (474/476 ВКЛ)"14/16"**
**ББК 63.3 (4Беи)**

Пры афармленні першай старонкі вокладкі выкарыстаныя карта з «Касмаграфіі» Себасцьяна Мюнстэра 1550 г., малюнак маскоўскага баярына аўтарства А. Фёдарава і пячатка вялікага князя літоўскага Вітаўта 1407 г.
Пры афармленні чацвёртай старонкі вокладкі выкарыстаныя гравюра з нямецкага выдання «Масковіі» Сігізмунда Герберштэйна, карта Вялікага Княства Літоўскага Тамаша Макоўскага (Амстэрдам, 1613) і карта Віктара Цемушава «Старадубская вайна 1534–1537 гг.»

**ISBN 978-5-9904531-2-8**

# Змест

# Ад навуковага рэдактара

Віктар Мікалаевіч Цемушаў (04.03.1975 — 23.06.2011) — выдатная асоба беларускага грамадскага і навуковага жыцця канца XX — пачатку XXI ст., а яго навуковая дзейнасць — надзвычай станоўчая з'ява ў беларускай гістарычнай навуцы гэтага перыяду. Чалавек высокіх маральных якасцяў, дэмакратычных перакананняў, адукаваны і працаздольны, ён дасягнуў найвышэйшых для свайго часу вышынь у развіцці гістарычнай геаграфіі і картаграфіі Беларусі. Мне пашчасціла працаваць разам з Віктарам, а потым з ім і пасябраваць, нягледзячы на розніцу ва ўзросце. Нас аб'ядноўвалі падыходы да многіх пытанняў беларускай гісторыі, мы аднолькава ці амаль аднолькава ацэньвалі шматлікія праблемы беларускай рэчаіснасці, у рэшце рэшт, мы былі з ім землякамі — ён з Бабруйска, я з-пад Бабруйска. Нас абодвух прыцягвала даследаванне Усходняй Беларусі, найбольш беларускага Падняпроўя. Магчыма, у тым ліку і з-за гэтага Віктар папрасіў мяне быць навуковым рэдактарам гэтай кнігі пра ўсходнюю мяжу Вялікага Княства Літоўскага.

Напачатку кніга рыхтавалася для выдавецтва ў Расіі, таму рукапіс яе быў падрыхтаваны на рускай мове. Толькі пасля выдання і навуковага абмеркавання рускамоўнага варыянта Цемушаў планаваў выпусціць у свет кнігу аб фарміраванні беларуска-маскоўскай мяжы на роднай, беларускай мове. Аднак пасля сітуацыя змянілася, і аўтар прыняў прынцыповае рашэнне аб выданні сваёй асноўнай кнігі спачатку па-беларуску, за чым прасіў прасачыць калег, сяброў, родных. І вось кніга «На ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага», яшчэ ў рукапісе высока ацэненая спецыялістамі, нарэшце выходзіць у свет.

Праца пра складаныя працэсы фарміравання і ўсталявання мяжы паміж Вялікім Княствам Літоўскім (ВКЛ) і Вялікім Княствам Маскоўскім (ВКМ) стала своеасаблівым падсумаваннем і абагульненнем папярэдніх навуковых напрацовак аўтара. Віктар змог выявіць, апрацаваць і прааналізаваць велізарную колькасць крыніц, інфармацыя з якіх тым ці іншым чынам дазваляла больш глыбока падысці да праблемы вывучэння памежных адносін ВКЛ і ВКМ. Вельмі часта ён зусім панавому чытаў і асэнсоўваў ужо вядомыя даследчыкам тэксты, супастаўляючы іх са сведчаннямі з іншых крыніц, параўноўваючы з напрацоўкамі іншых аўтараў, і ў выніку рабіў новыя, арыгінальныя навуковыя высновы.

Віктар Цемушаў вельмі ўважліва ставіўся да прац папярэднікаў. Без вывучэння гістарыяграфіі пытання ён ніколі не пачынаў яго разгляду. Сведчанне гэтага — тэкст гэтай кнігі, у якой аўтар не толькі выказвае сваю думку, але і аналізуе, крытыкуе або пагаджаецца з высновамі, якія зрабілі папярэднікі. Як вынік, яго працы пра фарміраванне межаў ВКЛ і ВКМ, пра барацьбу паміж дзвюма дзяржавамі за памежныя тэрыторыі і населеныя пункты, пра асабістыя лёсы прадстаўнікоў многіх шляхецкіх родаў, звязаных з гэтымі тэрыторыямі, атрымалі шырокае распаўсюджанне і станоўчую ацэнку не толькі ў беларускай, але таксама ў расійскай і ўкраінскай гістарыяграфіі.

Асноўны перыяд, які ахопліваецца ў працах Віктара Цемушава — гэта XIV — першая палова XVI ст. У гэты час адбываўся працэс «размеркавання» ўсходнеславянскіх зямель паміж двума палітычнымі цэнтрамі — Вільняй і Масквой. На гэтых землях з канца XV ст. пачалася барацьба за пераразмеркаванне прыгранічных тэрыторый і ўладанняў.

Пачалося ж усё з даследавання Віктарам Цемушавым праблемы фарміравання тэрыторыі і межаў уласна Маскоўскай дзяржавы. У 2002 г. ён абараніў дысерта-

цыю: «Тэрыторыя і межы Маскоўскага княства ў канцы XIII — першай палове XIV ст.»[1]. Натуральна, што беларускі даследчык імкнуўся больш дэталёва разглядаць становішча на беларуска-маскоўскім памежжы, а крыніцы, якія ён выкарыстоўваў, толькі пашыралі маштабы даследавання. Гэта была ўжо не проста гістарычная геаграфія: аўтару прыйшлося разглядаць ход вырашэння многіх геапалітычных калізій, ваеннага супрацьстаяння, даследаваць вынікі дынастычнай барацьбы, дыпламатычных адносін, сацыяльна-эканамічнае становішча насельніцтва на памежных тэрыторыях, уплыў геаграфічнага фактару, знешняй вайсковай пагрозы і інш. Вырашаліся гэтыя праблемы паступова і знаходзілі сваё адлюстраванне ў цэлым шэрагу навуковых артыкулаў[2].

Выданню кнігі пра гісторыю «літоўска-маскоўскага памежжа XIV — першай паловы XVI ст.» папярэднічала іншая вельмі сур'ёзная праца Віктара Цемушава пра гісторыю Гомельскай зямлі ў XV — першай палове XVI ст.[3] Адзначыўшы, што з усіх рэгіёнаў сучаснай Беларусі толькі Гомельская зямля ў першай трэці XVI ст. пабывала пад маскоўскай уладай, аўтар паслядоўна разгледзеў працэс фарміравання маскоўска-літоўскай граніцы ў XV — пачатку XVI ст., становішча Гомельскай воласці пад уладай Масквы ў 1535—1537 гг., гомельскае пытанне на міждзяржаўных перагаворах 1537 г. і становішча Гомельскага староства пасля яго вяртання ў ВКЛ.

---

1 Темушев В.Н. Территория и границы Московского княжества в конце XIII — первой половине XIV в.: Автореф. дис. на соискание ученой степени канд. ист. наук: 07.00.03. Минск, 2002. 16 с.

2 Згадаем толькі пра некаторыя з іх: Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю // Российские и славянские исследования: Сборник научных статей / Отв. ред.: О. А. Яновский. Минск, 2004. Вып. 1. С. 71—80; Ён жа. Река Угра — вековой страж московско-литовской границы // Новая локальная история. Ставрополь, 2004. Вып. 2: Новая локальная история: пограничные реки и культура берегов: Материалы второй Международной Интернет-конференции. Ставрополь, 2004. С. 305—318; Ён жа. Сведения о московско-литовском пограничье в посольских книгах времени Ивана III // Труды кафедры истории России с древнейших времен до XX в. / Отв. ред. А. Ю. Дворниченко. Т. 1: [Материалы международной научной конференции «Иван III и проблемы российской государственности». СПб., 2006. С. 294—306; Ён жа. Периферийные княжества в системе обороны ВКЛ: на примере Вяземского княжества // Канструкцыя і дэканструкцыя Вялікага княства Літоўскага: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі / Пад рэд. Н. У. Сліж. Мінск, 2007. С. 95—102 (Серыя «Гістарычная бібліятэка «ВІТ»»); Ён жа. Літоўска-маскоўская граніца ў другой палове XV — пачатку XVI ст. // Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына: Матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі / Адк. рэд.: А. А. Каваленя. Мінск, 2007. С. 325—340; Ён жа. Формирование территории Гомейской волости в составе Великого княжества Литовского (до конца XV в.) // Памяць стагоддзяў на карце Айчыны: Зборнік навуковых прац у гонар 70-годдзя Міхаіла Фёдаравіча Спірыдонава / Укладальнікі: Р. А. Аляхновіч, А. І. Груша, А. Б. Доўнар. Мінск, 2007. С. 16—73; Ён жа. К вопросу о московско-литовской границе в XV в.: (владения князей Крошинских) // Ruthenica. Т. 6. Київ, 2007. С. 299—307; Ён жа. Литовско-тверская граница: (проблемы интерпретации источников) // Российские и славянские исследования: научный сборник / Отв. ред.: А. П. Сальков, О. А. Яновский. Вып. 2. Минск, 2007. С. 135—142; Ён жа. Ржевский участок литовско-московской границы в конце XIV — начале XVI в. // Материалы по археологии Беларуси. № 14: Памятники эпохи железа и средневековья Беларуси. К 60-летию О. Н. Левко. Минск, 2007. С. 241—250; Ён жа. Литовско-тверская граница (вторая половина XIV — начало XVI в.) // Вестник Тверского государственного университета. Сер.: История. 2007. Вып. 4. С. 87—97; Ён жа. К вопросу о московско-литовской границе в XV в.: (Волости Чагоща и Болонеск) // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Вып. 15: Археалогія эпохі сярэднявечча. Да 80-годдзя з дня нараджэння Г. В. Штыхава. Мінск, 2008. С. 186—193.

3 Темушев В.Н. Гомельская земля в конце XV — первой половине XVI в. Территориальные трансформации в пограничном регионе. М.: Квадрига, 2009. 192 с.

Аўтар планаваў падрыхтаваць адпаведныя працы і па іншых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінках беларуска-рускага, ці, як ён сам фармуляваў, «літоўска-маскоўскага» памежжа.

Новая праца, прысвечаная гісторыі складвання, паступовай дэлімітацыі мяжы паміж ВКЛ і ВКМ на працягу XIV — першай паловы XVI ст. аказалася наватарскай і ў навуковым, і ў публіцыстычным сэнсе. Нягледзячы на яе навуковасць і акадэмічнасць, яна чытаецца з захапленнем: аўтар, па-майстэрску цытуючы і аналізуючы гістарычныя дакументы, уводзіць чытача ў тагачаснае жыццё, ненавязліва прымушаючы яго стаць удзельнікам падзей, што апісваюцца ў кнізе.

Віктар Цемушаў паступова выклаў гісторыю развіцця прыгранічных і памежных адносін паміж дзвюма дзяржавамі ад спарадычных кантактаў праз змаганне за спрэчныя памежныя тэрыторыі да міждзяржаўных войнаў. Зацікаўлены чытач прачытае тут і пра спаборніцтва Вільні і Масквы за Смаленск і Чарнігаў, і пра падтрымку ВКЛ Цвярскога княства ды паходы вялікага князя Альгерда на Маскву, і пра малавядомую гісторыю Фамінска-Беразуйскага, Вяземскага, Ржэўскага і некаторых іншых памежных княстваў. Аўтар разгледзеў «літоўска-маскоўскую» барацьбу за памежныя землі падчас войнаў канца XV — першай паловы XVI ст. і даказаў, што ў большасці выпадкаў ініцыятыва пачатку ваенных дзеянняў належала ўсходняму боку.

Прыведзеныя ў самім тэксце і ў якасці дадаткаў дакументы, якія маюць і «літоўскае», і «маскоўскае» паходжанне, значна ўмацоўваюць аўтарскія высновы і «прымушаюць» чытача пагаджацца з імі. Асобным раздзелам у працы прадстаўлена гісторыя Гомельскай зямлі ў «маскоўска-літоўскім супрацьстаянні». Праца аздоблена як некаторымі малавядомымі, так і новымі, выдатна складзенымі аўтарам картамі, а таксама выявамі рэшткаў межавых і абарончых збудаванняў «маскоўска-літоўскага памежжа».

У прапанаваных аўтарам уводзінах лагічна і даступна раскрыта гісторыя памежных адносін ВКЛ і ВКМ, паказаны ўплыў на міждзяржаўныя адносіны ўнутрана- і знешнепалітычных фактараў, а на фарміраванне мяжы ў тым ліку геаграфічнага і прыроднага фактараў, акрэслена навуковая тэрміналогія, што ўжываецца ў працы.

Такім чынам, упершыню ў гістарыяграфіі ў працы Віктара Цемушава «На ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага» на аснове шырокай крыніцазнаўчай базы, з выкарыстаннем значнай колькасці новых крыніц, з глыбокім навуковым аналізам на падставе найноўшай навуковай метадалогіі разгледжана пытанне фарміравання мяжы паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Вялікім Княствам Маскоўскім у канцы XV — сярэдзіне XVI ст. Аўтар разгледзеў палітычныя, эканамічныя і ваенныя ўзаемадачыненні на памежных тэрыторыях як на міждзяржаўным, так і на мясцовым, рэгіянальным узроўні, вызначыў механізмы пабудовы і дзеяння памежнай абарончай сістэмы ВКЛ, паказаў ролю ў гэтым працэсе князёў — прадстаўнікоў мясцовых дынастый.

Навуковую, а ў пэўным сэнсе і палітычную цікавасць выклікаюць высновы, зробленыя аўтарам. Галоўная сярод іх тая, што, нягледзячы на доўгі і складаны працэс складвання мяжы паміж Беларуссю і Маскоўскай дзяржавай, на шэраг памежных войнаў, іншых найперш палітычных падзей, «літоўска-маскоўская мяжа» «ўжо з пачатку XVI ст. выяўляла дзяржаўныя межы сучаснай Рэспублікі Беларусь. Гэта сапраўды дзіўна, бо вядома, што межы Беларусі складваліся не ў адпаведнасці з натуральным тэрытарыяльным развіццём або арэалам рассялення беларускага этнасу, а паводле палітычных рашэнняў. Як бы там ні было, але да сённяшняга дня працягваюць сваё існаванне межы, закладзеныя яшчэ ў пачатку XVI, а можа і ў XV ст.».

Напрыканцы адзначым, што публікацыяй гэтай навуковай працы робіцца важны ўнёсак у гістарыяграфію гісторыі Беларусі XIV—XVI стст., у вывучэнне гісторыі адносін паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Вялікім Княствам Маскоўскім. Манаграфія Віктара Цемушава «На ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага» стане добрым падмуркам для тых, хто пазней будзе займацца вывучэннем гісторыі нашай Бацькаўшчыны падчас знаходжання беларускіх земляў у складзе Вялікага Княства Літоўскага.

*Валянцін Голубеў,*
*доктар гістарычных навук*

# Феномен літоўска-маскоўскага памежжа (замест уводзін)

Сотні гадоў доўжылася фарміраванне меж паміж дзвюма суседнімі дзяржавамі, якія супернічалі паміж сабой за тэрыторыі, што спачатку падзялялі іх, а потым ім непасрэдна належалі.

Станаўленне адносін Вялікага Княства Літоўскага з Вялікім Княствам Маскоўскім адбывалася паступова — ад спарадычных кантактаў да шчыльных сувязяў. І, трэба сказаць, гэтыя адносіны не заўсёды былі мірнымі. Па-рознаму, сваімі спосабамі і са сваімі мэтамі, але абедзве дзяржавы імкнуліся да аднаго — сабраць пад сваёй уладай рускія княствы і землі. А гэта не магло не прывесці да супрацьстаяння і канфліктаў. Нават калі ўладанні Вільні і Масквы былі падзелены вялікімі абшарамі, на якіх месціліся даволі моцныя дзяржавы (Вялікае Княства Смаленскае і інш.), за гэтыя абшары ішла барацьба: заходні і ўсходні суседзі імкнуліся ўсталяваць над імі свой кантроль ці, прынамсі, прасцерці на іх свой уплыў. У той час (другая палова XIV ст.) адкрытыя варожыя дзеянні яшчэ саступалі месца разуменню неабходнасці мірных адносін і супрацоўніцтва, што нейтралізавалі ціск з боку Залатой Арды, якой было карысна ўзаемнае аслабленне дзяржаў Усходняй Еўропы. Так, напрыклад, вядомы канфлікт паміж Альгердам і Дзмітрыем Маскоўскім 1368—1372 гг., справакаваны дзеяннямі маскоўскага боку ў дачыненні да цвярскога князя — сваяка і саюзніка вялікага князя літоўскага, быў у выніку ўлагоджаны заключэннем дамовы і дынастычным шлюбам.

З канца XIV ст. літоўска-маскоўскі саюз стаў яшчэ больш трывалым. Вялікі князь літоўскі Вітаўт выдаў сваю дачку Соф'ю за маскоўскага ўладара Васілія I і фактычна стаў кантраляваць яго палітыку. Літоўскі бок выкарыстаў гэтую сітуацыю, і менавіта тады да ВКЛ былі далучаны тэрыторыі, якія дагэтуль падзялялі літоўскія і маскоўскія ўладанні (Вяземскае, Смаленскае, Вярхоўскія княствы). Аднак імкненне Вітаўта распаўсюдзіць сваю ўладу яшчэ і на Пскоў і Ноўгарад прывяло да пагаршэння літоўска-маскоўскіх адносін. У выніку агульная мяжа, якая толькі-толькі паўстала паміж двума вялікімі княствамі, стала зонай канфрантацыі. Вайна 1406—1408 гг., маштабны канфлікт 1445 г. і несупынныя дробныя памежныя сутычкі стваралі атмасферу пастаяннай пагрозы, чакання варожых дзеянняў з боку суседа. У сувязі з гэтым адной з найважнейшых задач урадаў абодвух канфліктуючых бакоў стала забеспячэнне абароназдольнасці меж сваіх дзяржаў.

З канца XV ст. ініцыятыва вядзення баявых дзеянняў належала ў большай ступені маскоўскаму боку. З-за шэрагу прычын (прыярытэт іншых напрамкаў знешняй палітыкі, недахоп рэсурсаў, своеасаблівасць адносін улады з усходняй ускраінай дзяржавы і г.д.) вялікія князі літоўскія вымушаны былі ісці на значныя саступкі перад прэтэнзіямі валадароў адзінай Расійскай дзяржавы, якая ў гэты час нараджалася. Тым не менш, нельга казаць, што ўлады ВКЛ не ўсвядомілі ўзроўню небяспекі з усходу і не здолелі падрыхтаваць заслон ад яе. Створаная сістэма абароны ўсходняй мяжы ВКЛ была даволі дзейснай. Яе крушэнне было звязана хутчэй з буйнымі палітычнымі няўдачамі стратэгічнага кшталту, чым з тактычнымі пралікамі ў арганізацыі і функцыянаванні абарончых рубяжоў. Цягам амаль стагоддзя, пакуль існавала літоўска-маскоўская мяжа, былі вызначаныя і добра ўмацаваныя часткі памежжа ВКЛ, на якіх існавала пагроза маскоўскіх уварванняў. Вузламі абароны сталі памежныя гарады-крэпасці, якія былі закліканы прыняць асноўны ўдар Масквы.

На сённяшні дзень існуе некалькі прац, непасрэднай ці ўскоснай мэтай якіх было вывучэнне заходняй мяжы Расіі або ўсходняй мяжы ВКЛ у розныя перыяды[1]. Даследчыкі намагаліся адшукаць кропкі судакранання тэрыторый дзвюх дзяржаў і здзяйснялі спробы рэканструкцыі лініі мяжы. Іншыя формы існавання памежжа заўважаны не былі. Перыяд да XV ст., гэта значыць час, калі сфарміравалася і амаль стагоддзе ў нязменным выглядзе існавала літоўска-маскоўская мяжа, не надта зацікавіў спецыялістаў. Нібыта з-за недахопу крыніц, а на самой справе — з-за звыклага ўяўлення пра мяжу як пра лінію, што вызначае граніцы дзяржаўнай тэрыторыі, адбывалася адмаўленне ад вывучэння адной з найважнейшых праблем ва ўзаемаадносінах дзвюх дзяржаў. Даследчыкі не звярталі ўвагі на спецыфічныя асаблівасці памежнай зоны дзвюх дзяржаў, не высвятлялі прычын яе стабільнасці і не разглядалі ўплыў характару мясцовасці, дзе праходзіла мяжа, на паводзіны абодвух бакоў — гэта значыць на мерапрыемствы па ахове дзяржаўнай мяжы або дзеянні з намерам перасячы мяжу і парушыць тэрытарыяльнае адзінства суседняй дзяржавы. Прыродныя асаблівасці ператваралі адны адрэзкі мяжы ў непрыступныя рубяжы або, прынамсі, у нязручныя для вядзення баявых дзеянняў раёны, а іншыя — у адкрытыя для пранікнення і хуткага перасоўвання войскаў мясціны. На апошнія і вымушаны былі звяртаць асаблівую ўвагу ўлады ВКЛ.

Такім чынам, не ўся лінія літоўска-маскоўскай мяжы мела патрэбу ў мерапрыемствах па ўмацаванні. На даволі значных адлегласцях мяжу ўмоўна вызначалі шырокія палосы неасвоеных зямель, лясная і забалочаная бездараж, непераадольныя для вайсковых адзінак. Для ўварванняў звычайна выбіраліся зручнейшыя напрамкі, дзе можна было забяспечыць перамяшчэнне і, часткова, утрыманне вялікай колькасці людзей.

Цалкам верагодна, у некаторых выпадках маскоўскія ўлады свядома падтрымлівалі існаванне своеасаблівай буфернай зоны паміж уладаннямі дзвюх вялікіх княстваў. Для ілюстрацыі гэтага сцверджання можна звярнуцца да аналогіі з фарміраваннем новага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы ў раёне Полацка, захопленага войскамі Івана Грознага ў 1563 г. Паводле Р. Гейдэнштэйна, які карыстаўся інфармацыяй відавочцаў для апісання падзей так званай Маскоўскай вайны 1578—1582 гг., маскоўскі цар пасля захопу Полацка на працягу ўсяго часу свайго панавання пакідаў неўзаранымі і незаселенымі палі з левага боку рэк Дзвіны і Дзісны, «а з прычыны таго на гэтай урадлівай глебе выраслі шматлікія і вельмі густыя пушчы»[2]. Таксама і па другі бок Дзвіны ад Віцебска, Веліжа і Суража «масквіцяне, як гэта рабілі і ў іншых месцах, знарок далі разрасціся непраходным лясам; бо ў іх такі звычай, што яны пакідаюць зямлю, суседнюю з непрыяцелем, на працягу некалькіх міль цалкам неапрацаванай і незаселенай; частыя дрэвы, якія па неабходнасці вырастаюць

---

1 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1: Granica Moskiewska w epoce Jagiełłońskiej. Lwów—Warszawa, 1922; Петрунь Ф. Східна межа Великого Князівства Литовського в 30-х роках XV сторіччя // Збірник Історично-філологічного відділу УАН. Ювілейний збірник на пошану акад. М.С. Грушевського. Київ, 1928. № 76. Ч. I. С. 165—168; Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedłe pokoju polanowskiego (wytyczona w latach 1634—1648) // Prace komisji Atłasu historycznego Polski. Z. III. Kraków, 1935. S. 1—96; Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России в XVI в. в связи с ее отношениями с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой: Дисс. ... канд. истор. наук. М., 1970; яна ж. Рославльский уезд в XVI в. // Материалы по изучению Смоленской области. Вып. VIII. М., 1974. С. 165—193; Французова Е.Б. К истории формирования западной границы России. Смоленский участок. 1678—1772 годы // Проблемы исторической географии России. Вып. 1. Формирование государственной территории России. М., 1982. С. 190—201 і інш.

2 Гейденштейн Р. Записки о московской войне. СПб., 1889. С. 49.

на свабоднай глебе, і густыя лясы затым утвараюць нейкага роду апору супраць непрыяцеля; і яны (лічаць) сябе ў бяспецы ад варожых набегаў, як хутка з усіх бакоў атачаюць сябе наколькі можна бясплоднымі пусткамі»[3]. Акрамя таго, у такіх лясах ладзіліся завалы і засекі, якія страхавалі крэпасці, што былі непадалёку, ад раптоўнага нападу ворага і служылі ўмацаваннямі, «больш надзейнымі, чым якая бы ні была сцяна»[4].

Такім чынам, палосы некранутых зямель у некаторай ступені гарантавалі цэласнасць і непарушнасць літоўска-маскоўскай мяжы. Даследчыкі даўно звярнулі ўвагу на тое, што ўсходняя мяжа ВКЛ XV ст. складаная для рэканструкцыі[5]. Прычына гэтаму — не толькі вядомае маўчанне крыніц, але і размытасць лініі мяжы, якая натуральна вынікае са спецыфікі самой памежнай зоны.

Тое, што літоўскія і маскоўскія ўладанні доўгі час не ўступалі паміж сабой у непасрэдны кантакт, не падштурхоўвала абодва бакі да імкнення вызначыць лінію міждзяржаўнай мяжы. Для гэтага не было ні магчымасці, ні неабходнасці. Можна ўмоўна вылучыць наступныя «глухія» ўчасткі памежжа, на якіх паласа незанятых зямель доўгі час дзяліла тэрыторыі дзвюх дзяржаў: 1) ***Ржэўскі*** (паміж Ржэўскай зямлёй, якая з канца XIV ст. амаль увесь час належала Маскве, і Таропецкім паветам, Бельскім княствам, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ); 2) ***Мажайска-вяземскі*** (у асноўным, паміж Мажайскай зямлёй, уладаннем удзельных маскоўскіх князёў, і Вяземскім княствам, сукупнасцю вотчын мясцовых і прышлых князёў, падданых вялікага князя літоўскага); 3) ***рэгіён Павугор'я*** (паміж мядынскімі, калужскімі і іншымі маскоўскімі памежнымі тэрыторыямі і вяземскімі, смаленскімі і верхняокскімі землямі ВКЛ); 4) ***Верхняокскі рэгіён*** (у асяродку астраўкоў улады ВКЛ — Мцэнскага і Любуцкага намесніцтваў, аточаных уладаннямі так званых вярхоўскіх князёў, што суседзілі з тульскімі, ялецкімі і інш. і сталі на пачатку 60-х гг. XV ст. маскоўскімі землямі).

Характэрна, што ржэўскі ўчастак мяжы, нягледзячы на тое, што быў выразна вызначаны ў маскоўска-літоўскай дамове аб вечным міры 1449 г., да канца XV ст. заставаўся адасобленым і амаль не зазнаваў канфліктаў[6]. Толькі каля 1489 г. намеснік ржэўскай воласці Усялук Васілій Давыдавіч захапіў частку таропецкай воласці Дубны[7].

Паласа, якая падзяляла мажайскія і вяземскія землі, знікла да канца XV ст. дзякуючы асваенню з маскоўскага боку[8]. Непасрэдны кантакт з тэрыторыяй ВКЛ не

3 Гейденштейн Р. Записки о московской войне. С. 116.

4 Тамсама. С. 118.

5 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 81; Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России в XVI в. С. 6.

6 Пра ржэўскі ўчастак маскоўска-літоўскай мяжы гл.: Темушев В.Н. Ржевский участок литовско-московской границы в конце XIV — начале XVI в. // Материалы по археологии Беларуси. № 14. Памятники эпохи железа и средневековья Беларуси. К 60-летию О.Н. Левко. Минск, 2007. С. 241—250.

7 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I // Сборник Императорского Русского Исторического общества. Т. 35. СПб., 1882. № 8. С. 34. Захоп часткі воласці Дубны адбыўся, верагодна, задоўга да скаргі, якая паступіла ў Маскву ў 1489 г.

8 Пра мажайска-вяземскі ўчастак маскоўска-літоўскай мяжы гл.: Темушев В.Н. Периферийные княжества в системе обороны ВКЛ: на примере Вяземского княжества // Канструкцыя і дэканструкцыя Вялікага Княства Літоўскага: матэрыялы міжнар. навук. канф., Гродна, 23—25 крас. 2004 г. Мінск, 2007. С. 95—102; Ён жа. К вопросу о московско-литовской границе в XV в. (Владения князей Крошинских) // Ruthenica. VI. Киев, 2007. С. 299—307.

спыніў маскоўскіх служылых людзей. Пачаліся захопы вотчын князёў Крошынскіх, Глінскіх і ўласна Вяземскіх. Верагодна, улады ВКЛ недаацанілі небяспеку, якая набліжалася з усходу ад Вязьмы, разлічваючы на натуральную абарону мяжы і, у пэўнай ступені, на актыўнасць мясцовых землеўласнікаў. У выніку служылыя людзі маскоўскіх удзельных князёў у сваім прасоўванні ўглыб Вяземскага княства практычна не сустрэлі ніякіх перашкод.

Існуе сведчанне аб правядзенні літоўска-маскоўскай мяжы на пачатку XV ст. уздоўж ракі Угры[9]. Магчыма, пагадненне з такой умовай сапраўды было заключана паміж Вітаўтам і Васіліем I у 1408 г.[10]. Аднак землі на левабярэжжы Угры ў той час яшчэ не былі падзелены. Большая іх частка з цягам часу адышла да літоўскага боку. Ужо ў сярэдзіне XIV ст. раён Павугор'я стаў актыўна выкарыстоўвацца для зручнага і хуткага перакідвання войскаў. На пачатку XV ст. з далучэннем Вялікага Княства Смаленскага і Вярхоўскіх княстваў сюды прасунулася мяжа ВКЛ, і неўзабаве, падчас літоўска-маскоўскай вайны 1406—1408 гг., у яе абароне выявіліся сур'ёзныя прарэхі. Прыродныя ўмовы (мноства даволі буйных рэк, лясны характар мясцовасці) быццам бы павінны былі абараняць непарушнасць мяжы, але здаўна пракладзеныя дарогі, а таксама зручныя брады і пераправы праз Угру, прытокі Угры і нават Аку стваралі сур'ёзную пагрозу прарыву войскаў суперніка ва ўнутраныя раёны ВКЛ[11]. Асаблівую занепакоенасць павінна было выклікаць вусце р. Угры — тут адгаліноўвалася дарога ад Калугі на Вязьму, Бранск і да шэрагу цэнтраў Верхняокскага рэгіёна (Варатынск, Перамышль ды інш.). Аднак у ніжнім цячэнні р. Угры маскоўскія і літоўскія ўладанні сутыкаліся і далей межавалі на значнай адлегласці ўздоўж р. Акі. Таму гэты ўчастак мяжы трэба разглядаць асобна.

Памежныя дачыненні ў раёне Вярхоўскіх княстваў былі абумоўлены блізкасцю стэпу і небяспекай, якая сыходзіла адтуль, а таксама існаваннем напаўсамастойных уладанняў патэнцыяльна ненадзейных вярхоўскіх князёў. Апора вялікакняжацкай улады ў рэгіёне — цэнтры намесніцтваў — служылі ў якасці памежных фарпостаў, а разам з тым выконвалі функцыю кантролю над паводзінамі наравістых васалаў. Пра якую б то ні было мяжу, нават у форме паласы адчужанай зямлі, паміж падуладнымі ВКЛ тэрыторыямі і толькі-толькі прасунутымі за Аку маскоўскімі ўладаннямі гаварыць складана. Тут панавалі татарскія орды, а рэальная ўлада Масквы ў XV ст. распаўсюджвалася на тэрыторыі, якія знаходзіліся непадалёку ад Акі, «берага». Таксама і падкантрольныя ВКЛ землі пад татарскім націскам ўсё болей адступалі бліжэй да Акі. У занядбанні знаходзіліся Навасіль і Стары Варатынск — былыя сталіцы Вярхоўскіх княстваў. Яшчэ адным палітычным суб'ектам, які адыгрываў пэўную ролю ў жыцці рэгіёна, было Вялікае Княства Разанскае. У другой палове XV ст. яно трапіла ў моцную залежнасць ад Масквы, так што нават першыя канфлікты маскоўска-літоўскай памежнай вайны канца XV ст. былі звязаны з дзеяннямі ра-

9 Хроника Быховца // ПСРЛ. Т. XVII. Западнорусские летописи. М., 2008. Стб. 520.

10 Васілій I, «пришед ста у Угры на березе, а Витовтъ тако же со многою силою прииде съ другую сторону реки тоя … и сташа межи собою о реце Угре и стоявшее немного днии и взяша миръ межи себе по давному» (ПСРЛ. Т. XXV. Московский летописный свод конца XV века. М., 2004. С. 238).

11 Пра Павугор'е як прыступнае месца для маскоўскіх і літоўскіх нападаў і пра фарміраванне мяжы ў раёне р. Угры гл.: Темушев В.Н. Река Угра — вековой страж московско-литовской границы // Новая локальная история. Вып. 2. Новая локальная история: пограничные реки и культура берегов: Материалы второй Международной Интернет-конференции. Ставрополь, 20 мая 2004 г. Ставрополь: Изд-во СГУ, 2004. С. 305—318; Ён жа. Пограничные города Великого княжества Литовского: Дмитровец в XV в. // Studia historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. Вып. 2. Минск, 2009. С. 44—122.

занскага князя Івана Васільевіча[12]. Ваенная актыўнасць на памежных тэрыторыях выяўлялася ў маскоўскіх пагромах асноўных цэнтраў улады ВКЛ у рэгіёне (Мцэнск, Любуцк), а з літоўскага боку — у знішчэнні маскоўскіх старожаў, якія сачылі за перамяшчэннямі татар у стэпе.

Паміж «глухімі» палосамі літоўска-маскоўскага памежжа ў двух месцах укліньваліся «адкрытыя» ўчасткі меж, дзе тэрыторыі Маскоўскага і Літоўскага княстваў непасрэдна судакраналіся. Строга гаворачы, адзін з такіх участкаў з'явіўся толькі пасля 1485 г., калі Вялікае Княства Цвярское скарылася маскоўскай уладзе. Былая ***літоўска-цвярская мяжа*** складалася з адрэзанай ад Ржэўскай воласці Асугі і ўладанняў Вяземскага княства, якія суседзілі з паўднёвай ускраінай Вялікага Княства Цвярскога. Да таго часу, як была захоплена Цвер, з іншага боку — мажайскага — да ўсходніх меж ВКЛ таксама падступілі маскоўскія ўладанні. У выніку ў захопе гэтай тэрыторыі своеасаблівым чынам канкурыравалі служылыя людзі вялікага князя Івана Маладога з Цверы і князя Андрэя Васільевіча з Мажайска. У канцы XV ст. стык вяземскіх, цвярскіх і мажайскіх зямель стаў асяродкам сур'ёзнага памежнага канфлікту. Падаецца, што ў гэтым рэгіёне ўлады ВКЛ не былі адпаведна падрыхтаваны да адбіцця маскоўскай агрэсіі.

Іншая сітуацыя склалася на другім «адкрытым» участку літоўска-маскоўскай мяжы — ***вугорска-окскім***. Тут да нізоўяў р. Угры і да яе фактычнага працягу р. Акі набліжаліся калужскія і алексінскія землі Вялікага Княства Маскоўскага, уладанні князёў Навасільскага роду і другая частка Мцэнска-Любуцкага намесніцтва ВКЛ. Неабходнасць абароны брадоў праз р. Аку і пераправы каля вусця р. Угры, а таксама агульнае імкненне прыкрыць стратэгічна важныя шляхі абумовілі павышаную ўвагу ўлад ВКЛ да гэтага рэгіёна. Нягледзячы на тое, што ВКЛ належала шырокая паласа зямель і па левым беразе р. Угры, сістэма абароны будавалася з апорай на натуральны прыродны рубеж. Вопыт літоўска-маскоўскай вайны пачатку XV ст. паказаў, што глухія, тады яшчэ мала засвоеныя прасторы левабярэжжа Угры не могуць прыкрыць тэрыторыю ВКЛ ад раптоўнага прарыву маскоўскіх войскаў. Літоўцы самі актыўна выкарыстоўвалі брады праз Аку ў раёне Любуцка, таму іх абарона таксама з'яўлялася важнай задачай. Акрамя таго, крэпасць Любуцка супрацьпастаўлялася маскоўскім уладанням, што месціліся па правым беразе р. Акі.

У падзеях першай маскоўска-літоўскай памежнай вайны 1486—1494 гг. група гарадоў ВКЛ, размешчаная ўздоўж р. Угры і Акі, паспяхова супрацьстаяла невялікім маскоўскім атрадам, якія аказвалі пастаянны ціск на лінію мяжы. Аднак сіл, здольных спыніць буйны кантынгент маскоўскіх войскаў, у рэгіёне не было. Безумоўна, перад памежнымі гарадкамі ВКЛ такая мэта і не ставілася. Іх штодзённымі клопатамі былі: назіранне за станам мяжы, адбіццё невялікіх набегаў і напады ў адказ на землі непрыяцеля.

За першай лініяй абароны ўсходняй мяжы ВКЛ стаялі больш магутныя крэпасці, разлічаныя на тое, каб стрымліваць значныя вайсковыя фарміраванні. Да іх можна аднесці Белую, Дарагабуж, Вязьму, Варатынск, Мцэнск і іншыя гарады. Агульнае вайсковае кіраванне імі, збор і размеркаванне войскаў ажыццяўляліся са Смаленска. Уся структура вайсковай арганізацыі ўсходніх зямель ВКЛ замыкалася на гэтым горадзе. Паводле М.К. Любаўскага, утвораны пасля далучэння да ВКЛ Смаленскі павет з маскоўскага боку быў аточаны «поясам княстваў і ўладанняў, якія аддаваліся ў судова-адміністрацыйным стаўленні намеснікам, прычым усе гэтыя княствы

[12] Lietuvos Metrika — Lithuanian Metrica — Литовская Метрика (далей: LM). Kn. 4 (1479—1491) / Parengė L. Anužutė. Vilnius, 1994. № 128. С. 139; Акты, относящиеся к истории Западной России (далей: АЗР). Т. I. 1340—1506. СПб., 1846. № 58. С. 71.

і ўладанні ў Смаленску мелі свой ваенна-палітычны цэнтр»[13]. Праўда, не ўсе перыферыйныя княствы і ўладанні, якія «цягнулі» да Смаленска, падначальваліся намеснікам. Але сапраўды, увесь усход ВКЛ ад Таропца да верхняокскіх гарадоў у ваенна-адміністрацыйных, судовых і фінансавых адносінах падначальваўся Смаленску.

Наогул, абарончая сістэма ўсходняй мяжы ВКЛ набывала глыбокі эшаланаваны характар, устойлівы да тэрытарыяльных стратаў. Саступка першай і нават другой лініі гарадоў-крэпасцей не пакідала ўнутраныя вобласці ВКЛ зусім без абароны. Толькі пасля захопу ў 1514 г. маскоўскімі войскамі Смаленска роля аховы мяжы ВКЛ была цалкам перакладзена на іншыя абарончыя структуры, якія да таго часу ўжо скл аліся і функцыянавалі[14].

Пасля шэрагу маскоўска-літоўскіх войнаў сфарміравалася цалкам новая лінія мяжы, у якой засталося не так шмат месца для ўмоўнага яе правядзення. Незасвоеныя прасторы яшчэ заставаліся, напрыклад, у паўночных раёнах Полацкага і Віцебскага ваяводстваў ВКЛ[15] або ў міжрэччы Іпуці і Бесядзі, прытокаў Сожа. Да таго ж у гэты час маскоўскі бок пачаў заахвочваць пашырэнне ў памежнай зоне непралазных лясоў, якія служылі прыкрыццём крэпасцей (Веліж). Тым не менш умовы шэрагу дамоў, а пасля і праведзенае на мясцовасці межаванне пакідалі ў абрысах літоўска-маскоўскай мяжы ўсё менш неакрэсленасці.

Такім чынам, дадзеная праца прысвечана вызначэнню літоўска-маскоўскай мяжы і дзейнасці ўлад ВКЛ па забеспячэнні яе абароны. У асобных раздзелах будзе разгледжана гісторыя адносін дзвюх найбуйнейшых дзяржаў Усходняй Еўропы: ад першых тэрытарыяльных кантактаў і канфліктаў другой паловы XIV ст. да ўсталявання трывалай мяжы і памежных войнаў XV — першай трэці XVI стст. Не выпадкова спробы рэканструкцыі літоўска-маскоўскай мяжы амаль заўсёды спалучаюцца з апісаннямі барацьбы на памежжы. Толькі праз назіранне за ваеннымі дзеяннямі, перагаворным працэсам, які ішоў адначасова ці пасля іх спынення і завяршаўся мірнымі дамовамі (якія своеасаблівым чынам падагульнялі вынікі канфліктаў), можна даведацца пра тыя лініі або памежныя зоны, што падзялялі літоўскія і маскоўскія ўладанні.

Прадстаўленая праца з'яўляецца вынікам шматгадовага даследавання аўтарам літоўска-маскоўскага памежжа ў рамках дзяржаўнай навуковай праграмы, што выконвалася ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі. У апошнія гады ў Інстытуце гісторыі і асабліва ў аддзеле гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу ўсталявалася вельмі добрая атмасфера, якая спрыяе навуковым пошукам і рэалізацыі творчых памкненняў супрацоўнікаў. Падчас працы над тэмай я адчуваў падтрымку з боку калег, кіраўніцтва Інстытута гісторыі, сваякоў. Таксама хочацца падзякаваць за цікавасць, праяўленую да маіх даследаванняў, Валеру Булгакаву, які рызыкнуў здзейсніць публікацыю маёй працы.

[13] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892. С. 286—287.

[14] Сидоренко Б.И. Земли восточной Беларуси во внешней политике Великого Княжества Литовского и Московского княжества в 1500—1537 годах: Дисс. ... канд. истор. наук. Мінск, 2005. С. 72—83.

[15] Паводле Р. Гейдэнштэйна, «у напрамку да Пскова і Лукаў амаль на сто міляў прасціраліся густыя і непраходныя лясы» (Гейденштейн Р. Записки о московской войне. С. 62).

# Раздзел I.
# Фарміраванне і змены літоўска-маскоўскай мяжы ў сярэдзіне XIV — першай трэці XVI ст.

Перш чым пачаць непасрэдны разгляд канкрэтных участкаў літоўска-маскоўскага памежжа, неабходна зрабіць агульны агляд гісторыі ўзнікнення і развіцця тэрытарыяльных сувязяў Вялікіх Княстваў Маскоўскага і Літоўскага з другой паловы XIV да пачатку XVI ст. Так будзе прасцей разабрацца з даволі складанымі для ўспрыняцця тэрытарыяльнымі зменамі, што адбываліся ў асобных рэгіёнах, якія ВКЛ спачатку здабыла, але потым пакрысе саступіла маскоўскаму боку.

Тэрыторыі Вялікіх Княстваў Маскоўскага і Літоўскага доўгі час усяго толькі судакраналіся ў некаторых месцах. Фарміраванне ж агульнай лініі літоўска-маскоўскай мяжы адбываецца на пачатку XV ст., калі ВКЛ здабыла на ўсходзе вялізную тэрыторыю, якая складалася з Вялікага Княства Смаленскага, Вяземскага княства і комплексу так званых Вярхоўскіх (Верхнякокскіх) княстваў. У выніку літоўскія ўладанні шчыльна наблізіліся да маскоўскіх і, такім чынам, склалася літоўска-маскоўская мяжа, якая праіснавала потым без істотных змен амаль стагоддзе (да вайны 1486—1494 гг.)[1].

Але і да гэтага часу паміж дзвюма дзяржавамі, з уласцівай ім актыўнай палітыкай збірання «рускіх» зямель, узнікалі тэрытарыяльныя сувязі. З сярэдзіны XIV ст. інтарэсы абодвух бакоў перасякаліся ў Ржэўскай зямлі і на некаторых тэрыторыях у раёне Верхняй Акі (Серанск — супольнае літоўска-маскоўскае ўладанне[2], Любуцк і Казельск — кароткатэрміновыя маскоўскія трыманні), ішла барацьба за ўплыў на Смаленскае і Бранскае княствы, што падзялялі дзяржавы. Яшчэ ў сярэдзіне XIV ст. паміж маскоўскімі князямі Сямёнам Іванавічам, а потым Іванам Іванавічам, з аднаго боку, і літоўскім князем Альгердам, з другога, былі заключаны пагадненні, асноўным зместам якіх, відавочна, было размеркаванне сфер уплыву ў рускіх землях[3]. Ужо

[1] Пра датаванне першай маскоўска-літоўскай памежнай вайны гл.: Цемушаў В.М. «Вайна падчас міру». Першая памежная вайна ВКЛ з Масквою (1486—1494) // Беларускі гістарычны агляд. Мінск, 2008. Т. 15. Сш. 1/2. С. 15—19.

[2] Унікальныя звесткі пра мястэчка Серанск як супольнае літоўска-маскоўскае ўладанне змяшчаюцца ў пасольскіх кнігах канца XV стагоддзя. Літоўскія пасла выказалі жаданне аднавіць сітуацыю, што існавала ў сярэдзіне XIV ст.: «...как было при Олгерде; ино половина Серенска была великого князя, а половина к Литве» (Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I. № 24. С. 120).

[3] Тэкст іх не захаваўся і невядомы. Дамова Сямёна Іванавіча з Альгердам была заключана ў 1352 г. Тады «Князь де великии Семен Иванович, не оставя Олгордова слова, мир взял, а послы отпустил с миром» (ПСРЛ. Т. XV. М., 2000. Стб. 60—61). Пра існаванне другой літоўска-маскоўскай дамовы сярэдзіны XIV ст. сведчыць вопіс архіва Пасольскага прыказу 1627 г.: «Тетратка, а в ней писаны списки с докончальные грамоты великого князя Ивана Ивановича с великим князем Ольгердом и з братом ево со князем Кестутьем; да тут же против того и Ольгердова грамота докончалная к великому князю Ивану Ивановичу, а которого года, и того не написано» (Опись архива Посольского приказа 1626 года. Ч. 1. М., 1977. С. 33. Аналіз лёсу сшытка з 12-цю маскоўска-літоўскімі і літоўска-маскоўскімі дамовамі XIV ст., а таксама ўдакладненне даты складання вопісу архіва Пасольскага прыказу пасля пажару ў траўні 1626 г.

тады, як сцвярджаў князь Сямён Іванавіч Рапалоўскі ў канцы XV ст., было вырашана, «что при них прислухало к нашему государьству, к Великому Княжству [Маскоўскаму — *В.Ц.*], и к их государьству, к Великому Княжству Литовскому»[4]. Літоўскаму боку прапаноўвалася вярнуцца да тэрытарыяльнага падзелу, які склаўся паўтара стагоддзі таму, і на такіх умовах заключыць пагадненне («по тому с ним [вялікім князем літоўскім Аляксандрам — *В.Ц.*] хотим любви и докончанья и доброго пожитья»)[5]. Зразумела, маскоўскаму боку было вельмі пажадана вярнуцца да таго становішча, пры якім Смаленск і Бранск былі ў сферы яго ўплыву[6]. Успаміны пра некалі існуючае размежаванне сфер уплыву паміж Масквой і Вільняй служылі абгрунтаваннем маскоўскіх прэтэнзій на многія землі ВКЛ. Характэрна, што гэтыя прэтэнзіі сапраўды мелі падставы, абапіраліся на традыцыю, гістарычную рэчаіснасць XIV ст., і літоўскі бок не мог іх адмаўляць.

У другой палове XIV ст. пры літоўскіх валадарах Альгердзе Гедымінавічы і Ягайле Альгердавічы быў складзены шэраг дамоў з маскоўскім вялікім князем Дзмітрыем Іванавічам, які дзейнічаў супольна з удзельным серпухаўскім князем Уладзімірам Андрэевічам Храбрым[7]. Аднак у дамове 1372 г., якая захавалася да нашых часоў, зусім нічога не сказана пра размеркаванне тэрыторый паміж дзвюма Вялікімі Княствамі. У вярхоўях Волгі і Акі літоўскія і маскоўскія ўладанні час ад часу ўжо судакраналіся (Ржэва, Серанск), існавалі таксама пэўныя прэтэнзіі абодвух бакоў на ўплыў у рускіх княствах і землях, якія падзялялі іх, аднак сама па сабе літоўска-маскоўская мяжа ў той час яшчэ не сфарміравалася[8].

Вядома пра існаванне дамовы Вітаўта з Васіліем I, якая была заключана 4 верасня 1407 г.[9]. Змест яе захаваўся толькі ў фрагментах[10], але склалася памылковае

гл.: Кучкин В.А. Договорные грамоты московских князей XIV ст.: внешнеполитические договоры. М., 2003. С. 119—120, 119. Прим. 3). Відавочна, грамата адносілася да перыяду паміж 1353—1359 гг. — у гэты час маскоўскім князем быў Іван Іванавіч Красны. Пра распаўсюджванне маскоўскага ўплыву ў сярэдзіне XIV ст. на Смаленскае і Чарнігаўскае княствы гл.: Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV ст. // Проблемы исторической географии России. Вып. 1. Формирование государственной территории России. М., 1982. С. 65—67.

4 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 114—115.

5 Тамсама. С. 115.

6 Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли. С. 61—65.

7 Опись архива Посольского приказа 1626 года. Ч. 1. М.,1977. С. 34—35. Захавалася толькі адна літоўска-маскоўская дамова 1372 г. (ДДГ. № 6. С. 21—22; Кучкин В.А. Договорные грамоты московских князей XIV ст. С. 119—120).

8 Темушев В.Н. Западная граница Великого княжества Московского к 1380 г. // Куликовская битва в истории России: Сб. ст. Тула, 2006. С. 82—109.

9 Дата 4 верасня пазначана ў самой грамаце. Г.Л. Харашкевіч, якая знайшла і надрукавала невядомыя раней дакументы, зрабіла выснову пра заключэнне дамовы менавіта ў 1407 г. Гэта добра спалучаецца з летапіснымі звесткамі. У Васкрасенскім летапісе паведамляецца, што ў «Спасов день» (1, 6 або 16 жніўня) маскоўскае войска выйшла супраць Вітаўта, спаліла горад Дзмітравец на р. Угры і каля Вязьмы сустрэлася з сіламі Вітаўта. «И ту вземши перемиріе разыдошася». Следам у летапісе, пад датай 14 верасня, ідзе аповед пра смерць князя Юрыя Святаславіча Смаленскага (ПСРЛ. Т. VIII. М., 2001. С. 81; Хорошкевич А.Л. Документы начала XV ст. о русско-литовских отношениях // Культурные связи России и Польши XI—XX ст. М., 1998. С. 47, 51).

10 Хорошкевич А.Л. Документы начала XV ст. С. 39—47. На с. 51—52 прыведзены ацалелы фрагмент дамовы 1407 г.

меркаванне, адлюстраванае ў Хроніцы Быхаўца і падхопленае М.М. Карамзіным, пра тое, што з таго часу ўсталявалася літоўска-маскоўская мяжа ўздоўж р. Угры[11]. Насамрэч нішто не сведчыць пра такога кшталту тэрытарыяльнае размежаванне паміж Масквой і Вільняй на пачатку XV ст., тым больш што нават у другой палове XV ст. маскоўскія ўладанні займалі толькі нізоўі р. Угры[12].

З другой паловы XV ст. вядомы дзве маскоўска-літоўскія дамовы, якія, на думку даследчыкаў, павінны былі вызначыць памежную лінію між дзвюма найбуйнейшымі дзяржавамі Усходняй Еўропы. Але, на жаль, за невялікім выключэннем, сведчанні пра літоўска-маскоўскае памежжа як у пагадненні ад 31 жніўня 1449 г., так і ў грамаце ад 5 лютага 1494 г. практычна адсутнічаюць. У свой час гэта стала падставай для таго, каб адмовіцца ад рэканструкцыі літоўска-маскоўскай мяжы другой паловы XV ст.

Так, выдатная даследчыца заходняй мяжы Расіі XVI ст. Ніна Барысаўна Шаламанава ў прадмове да свайго дысертацыйнага даследавання пісала: «Безумоўна, адпраўной датай даследавання трэба было б узяць 1494 г. — год першага дамоваа адзінай Расійскай дзяржавы з Літвой — «вечнага міру» 1494 г. Аднак крыніцы не дазваляюць у наш час з неабходнай дакладнасцю ўсталяваць тэрыторыю заходніх расійскіх абласцей у канцы XV ст. Але досыць вызначанай заходняя мяжа Расіі вымалёўваецца ўжо для пачатку XVI ст. — па перамір'і 1503 г.»[13]. Таксама і даследчыкі тэрыторыі і меж ВКЛ другой паловы XV ст. (на гэта звярнула ўвагу Н.Б. Шаламанава) не здолелі вызначыць яго ўсходнія межы больш ці менш выразна[14]. М.К. Любаўскі наогул не адлюстраваў літоўска-маскоўскую мяжу сярэдзіны і канца XV ст. на сваёй карце да працы пра тэрытарыяльнае ўладкаванне і кіраванне ВКЛ[15], Я. Натансан-Лескі — польскі даследчык літоўска-маскоўскай мяжы — лічыў, што „trudno dzisiaj rozgraniczyć je dokładnie na mapie»[16].

Такім чынам, ужо некалькі пакаленняў гісторыкаў лічылі невырашальнай праблему рэканструкцыі літоўска-маскоўскай мяжы другой паловы XV ст. Даследчыкі, якія спрабавалі акрэсліць мяжу, зыходзілі з адзінага падыходу — адшукаць усе неабходныя звесткі ў тэксце саміх дамоў. Але адзначаныя дакументы ў гэтым плане былі малакарыснымі. У іх, за некаторымі выключэннямі, немагчыма знайсці неабходных арыенціраў для дакладнага фіксавання лініі літоўска-маскоўскай мяжы. Адсутнасць падобнай інфармацыі была прычынай для адмовы ад далейшага даследавання.

Чым жа было выклікана на першы погляд беспадстаўнае маўчанне дакументаў, з якіх упершыню можна даведацца пра існаванне літоўска-маскоўскай мяжы? Звычайна міждзяржаўныя пагадненні багаты геаграфічнай наменклатурай. У адносінах паміж двума дагаворнымі бакамі патрабавалася дакладнасць у вызначэнні агульнай мяжы. Неакрэсленасць, двухсэнсоўнасць таго ці іншага пункта дамовы магла пазней стварыць падставы для тэрытарыяльных прэтэнзій, прывесці да захопаў, канфрантацыі і, урэшце, вайны. У гэтай сувязі змест абедзвюх дамоў (1449 і 1494 гг.) можа выклікаць здзіўленне. Далучэнне да Масквы Вяземскага княства ў

---

11 ПСРЛ. Т. XVII. М., 2008. Стб. 520; Карамзин Н.М. История государства Российского. Т. V. М., 1993. С. 106.

12 Темушев В.Н. Река Угра — вековой страж московско-литовской границы. С. 306—307; Темушев В.Н. Западная граница Великого Княжества Московского к 1380 г. С. 96.

13 Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 6.

14 Тамсама. С. 9.

15 Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. Вкладыш.

16 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 81.

1494 г. са складу ВКЛ павінна было суправаджацца дакладным пералікам валасцей апошняга, пералік вяземскіх князёў, якія перайшлі разам са сваімі вотчынамі на бок Масквы і г.д. Але гэтага мы не назіраем. Фармулёўка граматы: «Так же мне, великому кн(я)зю Александру, не вступатис(я) в тебе і в твоих детеи у вашу отчину, в город у Вязму, і в городы, і в волости, во вси земли і воды Вяземские, что к Вязме потягло, ни кн(я)зеи мне вяземских к себе не приимати»[17], — выглядае надзвычай недастатковай. Гэты артыкул моцна кантрастуе з прыведзенай вышэй у дакуменце дэлімітацыяй участка ржэўскай мяжы[18]. Але так падаецца толькі на першы погляд. Крайняя беднасць асноўнай крыніцы вывучэння літоўска-маскоўскай мяжы другой паловы XV ст. у некаторых выпадках была цалкам абгрунтаванай і сведчыла пра тое, што неабходнасці вызначаць дакладную працягласць той або іншай тэрыторыі, якая далучалася да Масквы ці заставалася ва ўладанні Вільні, не існавала. У выпадку з Вязьмай усё тлумачыцца проста: увесь масіў Вяземскага княства, цалкам, без выключэнняў перайшоў да Масквы. Гэты факт, між іншым, пацвярджаецца ў пасольскіх прамовах такой фразай маскоўскіх баяр, якія звярталіся да літоўскіх паслоў: «...ино Вязме всей пригож быти за нашим государем»[19]. Відавочна, што апісанне ў дамове вяземскай тэрыторыі было залішнім.

Такім чынам, калі ёсць пераканананасць у пэўнай кампактнасці далучанай да Масквы тэрыторыі, мы можам прыцягнуць да вывучэння літоўска-маскоўскай мяжы значна большую колькасць крыніц, чым дзве дамованыя граматы. Мэтай становіцца вызначэнне тэрыторый і меж асобных тэрытарыяльных фарміраванняў у складзе ВКЛ або Вялікага Княства Маскоўскага. Магчымасці рэканструкцыі літоўска-маскоўскай мяжы другой паловы XV ст. значна пашыраюцца.

Акрамя таго, памятаючы пра цэласнасць маскоўскіх тэрытарыяльных здабыткаў, паводле граматы 1494 г. мы можам меркаваць не толькі пра мяжу, усталяваную падчас заключэння дамовы, але і пра яе ж, але ў ранейшы перыяд. Неабходна толькі адняць ад уладанняў Масквы яе новыя здабыткі. Вызначэнне заходніх і ўсходніх меж аднаго Вяземскага княства дазваляе прасачыць літоўска-маскоўскую мяжу на некаторым прамежку да і пасля 1494 г. Аднак трэба дакладна ведаць, якія тэрыторыі ў канкрэтны час належалі Маскве, а якія былі новымі здабыткамі, бо ў тэксце дамовы 1494 г. прадстаўлены суцэльны пералік уладанняў, што прызнаваліся маскоўскімі.

Няведанне геаграфіі рэгіёна таксама можа прывесці да памылковых высноў. Напрыклад, даволі лёгка можна атаясаміць такія разанскія населеныя пункты граматы 1494 г., як Рослаўль і Мсціслаў, з гарадамі-цёзкамі ў глыбіні ВКЛ (што адбывалася даволі часта ў працах гісторыкаў XIX ст. і раз-пораз сустракаецца ў сучасных даследаваннях)[20].

Першай дамовай, якая вызначыла існаванне літоўска-маскоўскай мяжы і сферы ўплыву ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне дзвюх найбуйнейшых дзяржаў, было «перемирье вечное» ад 31 жніўня 1449 г., заключанае паміж вялікім князем маскоўскім Васіліем ІІ Васільевічам і каралём польскім і вялікім князем літоўскім Казімірам

[17] ДДГ. № 83. С. 330.

[18] Тамсама. С. 329.

[19] СИРИО. Т. 35. № 24. С. 119.

[20] Гл., напрыклад: Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 81. Сучасны даследчык літоўска-маскоўскіх адносін М.М. Кром папракае гісторыка сярэдзіны XIX ст. І.В. Турчыновіча, што той саступіў па міры 1494 г. Расіі Мсціслаў. Але на самой справе так і было, толькі горад гэты быў не смаленскі, а іншы — былы разанскі (Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Пограничные земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в. М., 2010. С. 12). Тут, праўда, неабходна дадаць, што І.В. Турчыновіч, безумоўна, меў на ўвазе смаленскі Мсціслаў (Турчинович И.В. Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен. Минск, 2006. С. 132).

Ягайлавічам[21]. Абодва вялікія княствы (Маскоўскае і Літоўскае) толькі-толькі пазбавіліся ад унутраных канфліктаў, усталявалі адзінадзяржаўе і пачалі ўзмацняць сваё становішча на міжнароднай арэне. Безумоўна, адным з галоўных супольных мерапрыемстваў было ўсталяванне агульнай мяжы з аднačасовай спробай вызначыць залежныя тэрыторыі.

Дамову 1449 г. можна ацэньваць як своеасаблівы рубеж, пасля якога ўзаемная экспансія дзвюх дзяржаў на ўсходнеславянскія землі прыпынілася. Аднак значэнне дамовы глыбейшае. У ёй дэкларавалася размеркаванне сфер уплыву паміж дзвюма найбуйнейшымі дзяржавамі Усходняй Еўропы. Набліжалася завяршэнне працэсу аб'яднання «рускіх» зямель двума цэнтрамі. У поўнай меры два лідары вырашалі лёс пакуль незалежных дзяржаў, якім было наканавана стаць здабычай больш магутных суседзяў.

У 1449 г. адбываўся пэўны пералом у стасунках паміж дзяржавамі-суперніцамі, калі імкненне да пашырэння на захад (для Вялікага Княства Маскоўскага) і на ўсход (для Вялікага Княства Літоўскага) непазбежна вяло да вайсковага канфлікту. Да канца XV ст. поўнамаштабных войнаў паміж Вялікім Княствам Маскоўскім і ВКЛ, па сутнасці, не вялося. Лакальныя сутыкненні тэрытарыяльных інтарэсаў (з-за Ржэўскай зямлі, верхняокскіх зямель і інш.), канечне, мелі месца. Існавалі і пэўныя абгрунтаваныя традыцыяй прэтэнзіі на некаторыя рускія княствы і землі. Аднак доўгі час паміж Масквой і Вільняй існаваў значны буфер яшчэ не размеркаваных тэрыторый. Таму ў стасунках паміж Вялікімі Княствамі панавала імкненне да саюзу перад тварам агульнага ворага — Арды. Саюзныя адносіны былі замацаваны дынастычнымі шлюбамі. Некаторы час Вялікае Княства Маскоўскае знаходзілася ў рэчышчы палітыкі вялікага князя літоўскага Вітаўта. Менавіта тады Масква здала свае пазіцыі ў Смаленску, Вязьме, Верхняокскіх княствах, фактычна не ўмешвалася ў дзеянні войскаў ВКЛ супраць Ноўгарада і Пскова. Урэшце, у другой чвэрці XV ст. увага абедзвюх дзяржаў была адцягнута ўнутранымі праблемамі. І вось у 1449 г. адбыліся сур'ёзныя змены палітычнай сітуацыі ва Усходняй Еўропе. Дзве найбуйнейшыя дзяржавы ўпарадкавалі свае адносіны і размеркавалі сферы панавання. Пазней, як высветлілася, далёка не ўсе ўмовы «вечнага» міру выконваліся, і найперш маскоўскім бокам. На гэта былі шматлікія прычыны, адна з якіх — недастатковая ўвага цэнтральнай літоўскай улады да сваіх усходніх меж, занядбанне Казімірам IV інтарэсаў ВКЛ.

Размеркаванне зон маскоўскага і літоўскага ўплываў ва Усходняй Еўропе ў некаторым сэнсе спыніла і завяршыла працэс аб'яднання «рускіх» зямель Масквой і Вільняй. Па сутнасці, дамова 1449 г. не выклікала значных змен маскоўска-літоўскай мяжы, яна толькі акрэсліла мяжу, што існавала да гэтага часу. Дакладна апісваўся толькі невялікі не размежаваны да таго часу кавалак Ржэўскай зямлі.

Неабходнасць дакладнага вызначэння меж Ржэўскай зямлі стала актуальнай, верагодна, толькі ў сярэдзіне XV ст. Да гэтага часу Ржэва[22] часта пераходзіла з рук у рукі паміж Масквой, Вільняй і Цвер'ю[23]. Акрамя таго, унутраныя праблемы ў

---

[21] Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV—XVI ст. (далей: ДДГ). М.; Л., 1950. № 53. С. 160—163; LM. Kn. 5. № 78.1. С. 131—133; № 136. С. 251—254.

[22] Так тады называўся горад Ржэў, што вядома паводле крыніц разгляданага часу.

[23] Пра гісторыю барацьбы за Ржэву гл.: Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе (Ржева и ее волости в XIV—XV ст.) // История СССР. 1984. № 6. С. 149—162; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII—XV ст. вне Северо-Восточной Руси // Средневековая Русь. Вып. 5. М., 2004. С. 138—143; Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю // Российские и славянские исследования: Сб. науч. статей. Вып. 1. Минск, 2004. С. 71—80.

Вялікіх княствах Маскоўскім і Літоўскім у другой чвэрці XV ст. доўгі час не давалі магчымасці звяртаць увагу на наяўныя памежныя пытанні. Няпэўнасць уладання Ржэвай не спараджала клопату пра яе тэрытарыяльнае ўладкаванне і межы.

Як высвятляецца, для рэканструкцыі ўсяго ржэўскага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы фрагмента граматы 1449 г., паўторанага ў 1494 г., недастаткова. Пачатковы і канцавы адрэзкі гэтай мяжы адсутнічаюць. Іх дапамагаюць удакладніць, здавалася б, другасныя дадзеныя з пасольскіх прамоў князя Цімафея Уладзіміравіча Масальскага (падрабязнае апісанне захопленай усялукскім намеснікам часткі суседняй таропецкай воласці Буец)[24] і разводной граматы вялікага князя Івана III удзельнаму волацкаму князю Барысу Васільевічу (апісанне рубяжа ржэўскай воласці Усялук з наўгародскай воласцю Лапасціца)[25]. Такім чынам вызначаецца месца стыку літоўскай, маскоўскай і наўгародскай меж на паўночным захадзе маскоўскіх уладанняў, даказваецца адасобленасць (да 1478 г.) Ржэўскай зямлі ад асноўнай тэрыторыі Вялікага Княства Маскоўскага, выяўляецца спецыфіка ржэўскай мяжы, якая праходзіла па забалочанай і лясістай мясцовасці, з прычыны чаго нават у актах яна была акрэслена толькі ўмоўна[26].

Верагодна, да 1449 г. заходняя ржэўская мяжа не была ўсталявана на ўзроўні міждзяржаўных пагадненняў. Тым не менш, ужо да сярэдзіны XV ст. склаліся «старыя рубяжы» Ржэўскай зямлі. Відавочна, афіцыйнае размежаванне грунтавалася на традыцыйных уяўленнях пра межы валасцей Таропецкага павета, Бельскага княства, з аднаго боку, і Ржэўскай зямлі (уезда) — з другога. Таму, з некаторымі агаворкамі, пазначаную для другой паловы XV ст. мяжу можна перанесці і на ранейшы час. Спецыфікай ржэўскай мяжы заставалася яе няпэўнасць у сувязі з асаблівасцямі мясцовасці, якая не дазваляла дакладна размежаваць неасвоеныя і нікім не занятыя землі.

Літоўска-маскоўская мяжа да 1494 г. атрымала змены толькі ў двух напрамках: у выніку далучэння да Масквы Вяземскага княства і з прычыны пераходу на маскоўскую службу з усімі вотчынамі шэрагу так званых «вярхоўскіх» князёў (Варатынскіх, Адоеўскіх і Бялёўскіх). Больш тэрытарыяльных змен не адбылося, аднак таксама істотным было прызнанне некаторых тэрыторый за маскоўскімі або літоўскімі вялікімі князямі. Адмова ад прэтэнзій на ўплыў у Вялікім Ноўгарадзе, Вялікім Пскове, Цверы, Пераяслаўлі Разанскім, уступка шэрагу валасцей сумеснага літоўска-наўгародскага кіравання[27] вялікім князем літоўскім Маскве, безумоўна, мелі вялікае значэнне. Самі ж тэрытарыяльныя страты ВКЛ у першую вайну з Вялікім Княствам Маскоўскім не былі значнымі, хаця б у параўнанні з наступнай вайной 1500—1503 гг., калі была згублена велізарная тэрыторыя, па ацэнцы даследчыкаў — трэць ад плошчы ўсёй дзяржавы.

Тэрыторыя, якую здабыла Масква, мела важнае стратэгічнае значэнне. Заняцце вярхоўяў р. Дняпро, прасоўванне да вытокаў рэк Акі і Угры стваралі плацдармы

[24] Прачытана ў Маскве 23 ліпеня 1489 г., напісана 30 траўня таго ж года (СИРИО. Т. 35. № 8. С. 34).

[25] ДДГ. № 77. С. 290—293.

[26] Падрабязна пра ржэўскі ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы гл: Темушев В.Н. Ржевский участок литовско-московской границы в конце XIV — начале XVI ст. С. 241—250.

[27] Паводле дамовы 1449 г. за Вялікім Княствам Літоўскім яшчэ захаваўся пэўны ўплыў на наўгародскія землі. Прыблізна з 1326 г. (Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. М., 1998. С. 57) існавала так званае «чарнакунства» — тэрыторыя, з якой выплачвалася даніна двум бакам — Вялікаму Княству Літоўскаму і Вялікаму Ноўгараду (Пустаржэўская, Луцкая землі, Холмскі пагост, воласці Вяліла, Морава і інш., Бярозаўскі пагост). («А которыи волости или оброки потягнули Новгородские к Литве ъздавна, и мне, кн(я)зю Василью великому, в то не въступатисе по давному». ДДГ. № 53. С. 162.)

для наступу на землі ВКЛ. Была разбурана першая лінія абароны ВКЛ, змецены са сваіх уладанняў пamежныя князі, арыентаваныя на супрацьстаянне магчымаму маскоўскаму наступу. Надзея на актыўнае супраціўленне вяземскіх і верхняокскіх князёў не спраўдзілася, і новая мяжа пасля 1494 г. апынулася пад моцнай пагрозай. Абарончы рубеж уздоўж р. Угры у асноўным захоўваўся, але ўжо не было людзей, здольных забяспечыць яго абарону.

Найбольш буйным і тэрытарыяльна цэласным здабыткам Масквы ў 1494 г. стала Вяземскае княства, якое з 1403 г. знаходзілася ў складзе ВКЛ.

Вяземскае княства амаль стагоддзе вызначала ўсходнюю мяжу ВКЛ, прычым мяжа гэтая была, верагодна, надзвычай стабільнай, бо да моманту захопу маскоўскімі войскамі ваяводы Данілы Шчаняці (зіма 1493 г.) на вяземскім яе ўчастку невядома ніякіх змен. Між тым не захавалася ніводнага дакумента, у якім акрэсліваліся б межы Вяземскага княства. Дамова пра «вечны» мір 1494 г., у адпаведнасці з якім Вяземскае княства адыходзіла да Масквы, не дае ўяўлення пра межы тэрыторыі, якую адрывалі ад ВКЛ. У гэтай сувязі цікавая паралель з далучэннем да Масквы Смаленска. Межы яго тэрыторыі вызначаліся ў перамірнай грамаце вельмі дакладна. І звязана гэта з тым, што Смаленская зямля не цалкам пераходзіла пад маскоўскую ўладу. У той час Вяземскае княства, як было адзначана вышэй, было далучана да Масквы адзіным масівам. Такім чынам, нягледзячы на цэласнасць вяземскіх зямель і доўгачасовую ўстойлівасць вяземскіх меж, вызначэнне апошніх — справа даволі складаная. Пры выяўленні вяземскіх меж неабходна найперш звярнуцца да даследавання меж вотчын шматлікіх мясцовых землеўласнікаў (Вяземскіх, Крошынскіх, Бываліцкіх, Казлоўскіх, Жылінскіх, Глінскіх). Пасля трэба ўдакладніць межы вяземскіх зямель шляхам вызначэння суседніх з вяземскімі тэрыторый і зямель.

Інакш тлумачыцца адсутнасць у грамаце 1494 г. дакладнага вызначэння вотчын шматлікіх верхняокскіх князёў, якія служылі маскоўскаму або літоўскаму вялікім князям. Кожны землеўласнік добра ведаў межы сваіх уладанняў, пры гэтым цэнтральная ўлада мела да іх рознае дачыненне: ад пажалавання «да гаспадарскай волі» да толькі намінальнага кантролю. Як бы там ні было, пазначэнне ў дамованай грамаце толькі імёнаў саміх князёў, а то і проста пералік тытулаў князёў уяўляліся дастатковымі.

Характэрна, што ўсе спрэчныя ўладанні, а таксама разнастайныя наезды, захопы, рабункі вотчын верхняокскіх, вяземскіх і іншых князёў былі зафіксаваны ў пасольскіх кнігах, якія дайшлі да нашага часу. Уладанні князёў Мезецкіх, Варатынскіх, Вяземскіх і г.д., паводле звестак з гэтых кніг, уяўляюцца даволі падрабязна. Аднак, на жаль, размеркаваць уладанні, напрыклад, паміж князямі Мезецкімі, практычна немагчыма. А гэта важна для вызначэння літоўска-маскоўскай мяжы 1494 г. Справа ў тым, што Мезецкія падзяліліся, і частка іх працягвала служыць вялікаму князю літоўскаму, а частка — вялікаму князю маскоўскаму. Пры гэтым сам цэнтр іх уладанняў г. Мезецк (Мезчаск, Мяшчоўск) кіраваўся супольна. Відавочна, што ўчастак мяжы, які праходзіў праз мезецкія землі, не мог быць стабільным. Становішча ў асяродку мезецкіх князёў ускладнялася тым, што частка з іх была ў маскоўскім палоне (князі Сямён Раманавіч і Пётр Фёдаравіч). У адпаведнасці з дамовай 1494 г., маскоўскі вялікі князь абавязаўся адпусціць «на их отчину» згаданых вышэй князёў, а самі яны атрымалі права вырашаць, каму будуць служыць[28].

Такім чынам, увесь масіў вотчын князёў Мезецкіх неабходна пазначыць на карце як супольнае ўладанне Вялікіх Княстваў Маскоўскага і Літоўскага. Мяжа ў раёне Мезецка самой дамовай не была вызначана.

[28] ДДГ. № 83. С. 330.

Распаўсюджанне маскоўскай улады на вярхоўі Акі шмат у чым залежала ад пазіцыі мясцовых землеўласнікаў[29]. Нават вайсковы захоп не гарантаваў далучэння тэрыторыі да Масквы. Так, маскоўскія паходы 1492—1493 гг. закранулі такія гарады, як Любуцк, Мцэнск, Мезецк, Сярпейск, Масальск, Апакаў. Большасць з іх, за выключэннем Мезецка і Сярпейска, была спалена. Аднак ніводны з князёў Масальска не перайшоў на службу да вялікага князя маскоўскага[30]. Тры іншыя спаленыя гарады (Любуцк, Мцэнск, Апакаў) не належалі ўдзельным князям, а кіраваліся вялікакняскімі намеснікамі або прыватнымі ўласнікамі. Далучэння іх да Масквы ў 1494 г. не адбылося. У Апакава была занята толькі частка тэрыторыі яго воласці, якая заходзіла на левы бераг р. Угры[31]. Такім чынам, выраўноўваўся ўчастак мяжы, натуральным абазначэннем якой менавіта цяпер на больш значнай адлегласці служыла р. Угра.

Як бачым, тыя тэрыторыі, на якіх маскоўская ўлада не мела дастаткова цвёрдай апоры, яна пакідала, магчыма, часова, з пэўным разлікам, за ВКЛ. Так, нават Любуцк, аточаны цяпер з усіх бакоў маскоўскімі ўладаннямі і ператвораны, такім чынам, у эксклаў (уладанне адной дзяржавы, з усіх бакоў аточанае тэрыторыяй іншай дзяржавы), быў прызнаны вотчынай вялікага князя літоўскага Аляксандра[32].

З іншага боку, пераход на маскоўскую службу таго ці іншага памежнага князя не гарантаваў распаўсюджання новай улады на ўсе яго ўладанні. Варатынскія князі, якія валодалі велізарным масівам зямель па цячэнні р. Угры, пасля пераходу на бок Масквы згубілі практычна ўсё, нягледзячы нават на тое, што гэтыя землі былі іх вотчыннымі ўладаннямі. Наогул, у абароне меж дзяржавы ўрад ВКЛ, відавочна, рабіў пэўную стаўку на князёў Варатынскіх, якая ў выніку не апраўдалася.

Навасільскія князі (а найперш Варатынскія, як старэйшыя ў родзе) занялі сярод літоўскай арыстакратыі прывілеяванае становішча. Пра гэта сведчыць іх удзел у Луцкім і Троцкім з'ездах, дзе планавалася каранацыя Вітаўта, а таксама дынастычныя сувязі з самымі значнымі літоўскімі княскімі родамі. Літоўскія валадары імкнуліся ператварыць варатынскіх князёў у сваіх надзейных васалаў. Таму невыпадковымі выглядаюць шматлікія зямельныя падараванні князям Варатынскім, якія рабілі Казімір IV і Аляксандр Казіміравіч, «чинячи их собе слугами»[33]. Характэрная геаграфія гэтых падараванняў — тэрыторыі, прылеглыя да рэк Акі і Угры, і смаленскія землі. Уладанні князёў Варатынскіх занялі практычна ўсё цячэнне ракі Угры (не толькі насупраць маскоўскай тэрыторыі). Толькі ў некалькіх месцах (у раёне Лучына-гарадка, Ніжняй Волсты, Апакава) гэтыя ўладанні пераходзілі на левы бок Угры. Наогул, новая вотчына князёў Варатынскіх была значна большай, чым іх старое родавае ўладанне вакол горада Варатынска.

Доўгая паласа ўладанняў князёў Варатынскіх уздоўж правага берага ракі Угры была першай лініяй абароны ВКЛ супраць Вялікага Княства Маскоўскага. У гэтым рэгіёне ўрад ВКЛ зрабіў стаўку менавіта на князёў Варатынскіх, хаця яшчэ раней за іх тэрыторыі, якія прымыкалі да ракі Угры, аддаваліся ў валоданне вялікага князя

29 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 93—94.

30 Масальскія князі па статусе знаходзіліся ніжэй за ўдзельных князёў і з'яўляліся звычайнымі вотчыннікамі на становішчы служылага правінцыйнага баярства (Бычкова М.Е. Состав класса феодалов России в XVI ст. М., 1996. С. 47, 50; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 21, 61—64, 78, 99).

31 У грамаце 1494 г. гаворыцца пра тое, што за Вялікім Княствам Літоўскім застаўся «Апаков по Угру» (ДДГ. № 83. С. 330). Значыць, можна зрабіць выснову пра тое, што ў горада была тэрыторыя і за Угрой, якая цяпер адыходзіла да Масквы.

32 ДДГ. №. 83. С. 330.

33 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 115.

Міхаіла Яўнуццевіча Жаслаўскага (Апакаў, Бышкавічы і інш.)[34]. Толькі на невялікі адрэзак ніжняга цячэння ракі Угры распаўсюджвалася літоўска-маскоўская мяжа, аднак усё цячэнне ракі Угры ператваралася ў абарончы рубеж ВКЛ. Такім чынам, нават пасля страты часткі ўладанняў (напрыклад, Вяземскага княства) рака Угра магла працягваць выконваць функцыю абарончай лініі на подступах да цэнтральных зямель ВКЛ.

Падзеі вайны 1486—1494 гг. паказалі, што разлік на ўмацаванне мяжы ў раёне ракі Угры быў правільным. Паходы з маскоўскага боку на Мезецк, Недаходаў, Меск, Бышкавічы, Лычына (1487 г.) ішлі, відавочна, праз раку Угру. Варатынск у 1489 г. вытрымаў аблогу адзінаццаці маскоўскіх ваявод[35], якія перасяклі, хутчэй за ўсё, раку Угру, а не двойчы Аку. Самі варатынскія князі здзяйснялі напады з-за Угры на суседнія мядынскія валасці[36]. На другім этапе вайны (1492—1494 гг.), калі ў баявых дзеяннях разам з войскамі мясцовых князёў былі выкарыстаны вялікакняжацкія сілы, барацьба ішла за асноўныя цэнтры, якія ўзмацнялі літоўскую мяжу ў раёне Угры (Сярпейск, Мезецк, Апакаў, Масальск). У выніку тэрыторыя правабярэжжа Угры на ўчастку маскоўска-літоўскай мяжы кантралявалася войскамі Івана III, але згодна з умовамі дамовы 1494 г. усе населеныя пункты ў гэтым рэгіёне вярталіся ВКЛ[37]. Маскоўскі бок не мог быць упэўнены ў трываласці сваіх пазіцый у правабярэжжы Угры, тым больш, што многія мясцовыя князі засталіся вернымі вялікаму князю літоўскаму[38]. Такім чынам, літоўска-маскоўская мяжа па рацэ Угры амаль па ўсёй даўжыні (акрамя невялічкага раёна, які належаў Варатынску) захоўвалася. Больш за тое, яна падаўжалася за кошт вяземскіх зямель і левабярэжнай часткі валасці Апакаў, што адышлі да Масквы. Працягласць літоўска-маскоўскай мяжы па рацэ Угры пасля 1494 г. вырасла ўдвая.

Стварэнне заслоны з уладанняў варатынскіх князёў было ў адным шэрагу з іншымі мерапрыемствамі па ўмацаванні ўсходняй мяжы ВКЛ. Заснаванне шэрагу намесніцтваў у цэнтры ўладанняў вярхоўскіх князёў (Мцэнск, Любуцк і інш.) у якасці своеасаблівых фарпостаў літоўскай улады мела на мэце цэментаванне тэрыторый не заўсёды надзейных васалаў. Паводле М.К. Любаўскага, «Літоўскі ўрад трымаў свае гарнізоны ў гэтых гарадах часткова для больш паспяховай абароны меж, часткова для ўтрымання ў падпарадкаванні падручных "вярхоўскіх" князёў»[39]. Захаванне ў некаторай ступені самастойных, па сутнасці буферных тэрытарыяльных утварэнняў, дазваляла без умяшальніцтва цэнтральных улад, мясцовымі сіламі вырашаць памежныя канфлікты. Нарэшце, усе памежныя княствы і землі былі падначаленыя ў ваенна-адміністрацыйных адносінах Смаленску і ўтваралі асобную вайсковую акругу на чале са смаленскім намеснікам[40]. Усе мясцовыя князі са сваімі людзьмі складалі смаленскае апалчэнне. І, што характэрна, нават гарады, што раней не адносіліся да Смаленскага княства (ліквідаванага ў 1404 г.), сталі называцца смаленскімі «прыгарадамі». Сярод такіх гарадоў сталі фігураваць і гарады, размешчаныя ўздоўж ракі Угры (Бышкавічы, Залідаў, Апакаў, Гарадзечна, Лучын)[41].

34 Русина О.В. Сіверська земля у складі Великого князівства Литовського. Київ, 1998. С. 107.

35 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 35.

36 Тамсама. С. 39.

37 ДДГ. №. 83. С. 330.

38 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 93—94 і інш.

39 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 51—52.

40 Тамсама. С. 286—287.

41 СИРИО. Т. 35. С. 118; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 280.

Але ўвогуле адносіны цэнтральнай улады ВКЛ з пэрыферыяй былі пабудаваны на даволі нетрывалым грунце. Шэраг прывілеяў, як ранейшых, так і новых, якія атрымлівалі памежныя князі, пакідаў ім магчымасць адмовіцца ад службы вялікаму князю літоўскаму (даслаць вялікаму князю літоўскаму «отказ» або «целование королю с себя сложить») і перайсці на службу да суседняга гасудара. Князі Адоеўскія, Варатынскія, Мезецкія і інш. бесперашкодна перайшлі на маскоўскі бок разам з усімі сваімі ўладаннямі. Больш таго, гэтыя князі аказвалі ціск на сваякоў і, здаралася, займалі іх і чужыя ўладанні. Так, у снежні 1489 г. князь Дзмітрый Фёдаравіч Варатынскі «бил челом» у службу вялікаму князю маскоўскаму са сваёй і свайго брата Сямёна вотчынамі (гарады Серанск, Бышкавічы, воласці Лычына і Недаходаў)[42]. У 1492 г. князь Сямён Фёдаравіч Варатынскі па шляху ў Маскву захапіў гарады Сярпейск і Мезецк, заняў воласці Вялікае поле (належала Яну Гаштольду і цягнула да Дарагабужа, а не да Вязьмы, як пісаў М.К. Любаўскі[43]), Верхнюю Волсту (вотчыну князя Васілія Дзярлічына), Слабодку і Машчынавічы (князёў Афанасевічаў, але вядома, што «селцо Мошенское» належала князю Сеньку Глінскаму[44]), Серадзее (вотчына князёў Жолтых)[45]. Вяземскія воласці — Верхняя Волста, Слабодка, Машчынавічы і, верагодна, Серадзее — знаходзіліся непадалёку адна ад адной у сярэднім цячэнні ракі Угры і складалі, верагодна, адзіны масіў. Велізарныя прасторы з абодвух бакоў ракі Угры такім чынам былі аддадзены пад уладу вялікага князя маскоўскага.

Аднак, нягледзячы на тое, што землі ўздоўж ракі Угры былі падараваны варатынскім князям у вотчыну, яны, як і захопленыя тэрыторыі з левага боку Угры (акрамя тых, што ўваходзілі ў склад Вяземскага княства), не былі замацаваны за Масквой паводле мірнай дамовы Івана III з Аляксандрам Казіміравічам ад 5 лютага 1494 г. Князі Адоеўскія, Варатынскія, Перамышльскія, Бялёўскія абвяшчаліся на баку Івана III і ягоных дзяцей «и з своими отчизнами, к вашему великому княжству»[46], але «...ни в Лучин, ни в Масалескъ, ни в Дмитровъ, ни в Жулин, ни в Лычино, так жо і в Залидов, і в Бышковичи, і во Іваков по Вгруни» Іван III абавязаўся «не вступатися ничим, і блюсти, и не обидети, ни под(ъ)искивати подо мною всее моеи отчины, великих княжствъ»[47]. Такім чынам, князі Варатынскія пазбаўляліся ўсіх сваіх уладанняў і захопаў уздоўж ракі Угры. Літоўска-маскоўская мяжа ўздоўж гэтай ракі заставалася непарушнай. Але абараняць яе практычна не было каму. Літоўскі ўрад не рызыкнуў раздаваць землі ўздоўж ракі Угры, страчаныя Варатынскімі, ізноў у вотчыну. Уздоўж новай літоўска-маскоўскай мяжы з'явіліся намеснікі: Івашка Сапежыч (з 1495 г. трымаў Дзмітраў «до живота»), Васіль Сапежыч (у 1494 г. валодаў Апакавым, у 1496 г. атрымаў два пустыя сялы ў Мошчыне). «До воли» вялікага князя літоўскага трымаў воласць Гарадзечну князь Фёдар Фёдаравіч Мезецкі[48]. У той жа час былыя гаспадары валасцей за р. Угрой, верагодна, імкнуліся вярнуць свае былыя ўладанні. Так, князь Сямён Варатынскі «засел» Бышкавічы, Лычына, Вежычну, «взял» да Варатынску чатыры залідаўскія сялы[49].

[42] СИРИО. Т. 35. № 12. С. 47—48.

[43] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283.

[44] LM. Kn. 3. P. 47.

[45] ПСРЛ. Т. XXVIII. М.; Л., 1963. С. 157; СИРИО. Т. 35. № 24. С. 137.

[46] ДДГ. №. 83. С. 330.

[47] Тамсама.

[48] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 278.

[49] СИРИО. Т. 35. № 28. С. 152.

Такім чынам, межы, вызначаныя дамовай 1494 г., не набылі стабільнага характару, яны толькі замацавалі прамежкавыя вынікі прасоўвання маскоўскай улады, якая амаль бесперашкодна распаўсюджвалася на землі ВКЛ. На думку Н.Б. Шаламанавай, якая грунтуецца на меркаванні Я. Натансана-Лескага і К.В. Базілевіча: «"Вечны мір" 1494 г. не толькі не вырашыў тэрытарыяльная спрэчкі Расіі і Літвы, але ... яшчэ больш іх абвастрыў, бо да імкненняў Расіі аб'яднаць землі Старажытнай Русі дадалося яшчэ абвастрэнне спрэчак вярхоўскіх князёў за свае вотчыны, падзеленыя паміж Расіяй і Літвой. Іван III скарыстаўся і далей гэтымі спрэчкамі ў сваёй аб'яднальнай палітыцы»[50].

І вось у 1500 г. літоўска-маскоўская мяжа на ўсім сваім працягу папросту знікла. На службу ў Маскву са сваімі вотчынамі (хаця гэта і было забаронена дамовай 1494 г.) пацягнуліся бельскі князь Сямён Іванавіч, вярхоўскія князі (Масальскія, Мезецкія), северскія князі (Сямён Іванавіч Мажайскі і Васілій Іванавіч Шамячыч і інш.)[51]. Магчыма, не ўсе рабілі гэта добраахвотна. Але ва ўмовах вайны 1500—1503 гг. маскоўскі бок, безумоўна, дамінаваў.

Маштаб баявых дзеянняў у маскоўска-літоўскай вайне 1500—1503 гг. быў настолькі вялікі, што закрануў увесь працяг мяжы паміж дзвюма дзяржавамі. У выніку вайны ўся ўсходняя мяжа ВКЛ адчула змены. Вялікі князь літоўскі Аляксандр вымушаны быў саступіць значныя тэрыторыі, якія больш чым паўтара стагоддзі ўваходзілі ў склад ВКЛ. Літоўска-маскоўская мяжа паводле дамовы аб шасцігадовым перамір'і 1503 г. набыла на ўсім працягу новыя рысы, прычым не заўсёды цвёрда ўсталяваныя. Ужо падчас перамоў перад заключэннем перамір'я, у працэсе дэлімітацыі граніцы, адбылася перадача маскоўскім бокам шэрагу валасцей на карысць ВКЛ; мяжа выраўноўвалася і набывала больш устойлівы характар. Праз пэўны час, у 1508 г., ізноў адбылося ўдакладненне мяжы, у выніку чаго быў не толькі ліквідаваны выступ углыб Смаленскай зямлі з боку новых маскоўскіх уладанняў, але і былі перададзены літоўскаму боку стратэгічна вельмі важныя для яго тэрыторыі (па абодвух баках Дняпра ў раёне Любеча).

Пытанне пра памеры тэрыторыі, страчанай ВКЛ у выніку вайны 1500—1503 гг., трэба лічыць дыскусійным. Гэтая тэрыторыя складалася з наступных частак: 1) непадзеленых паміж Масквой і Вільняй уладанняў мезецкіх князёў; 2) тэрыторый, якія толькі намінальна належалі ВКЛ, а фактычна былі ўладаннямі Вялікай Арды і Крымскага ханства і перыядычна выкарыстоўваліся ў якасці качэўяў (Поле); 3) зямель, якія былі захоплены Масквой яшчэ да пачатку вайны (Пуповічы і інш.); 4) уладанняў северскіх і іншых князёў, якія добраахвотна або пад ціскам перайшлі на бок Масквы і 5) гаспадарскіх намесніцтваў.

Такім чынам, не варта перабольшваць маштаб тэрыторый, якія былі страчаны ВКЛ, бо як мінімум трэць іх да пачатку 1500 г. яму фактычна не належала. Акрамя таго, нягледзячы на значнасць плошчы, страчаныя тэрыторыі былі рэгіёнам з нізкай шчыльнасцю насельніцтва, больш адсталым паводле эканамічнага развіцця за цэнтральныя вобласці ВКЛ і, да таго ж, часткова ва ўладанні ўдзельных князёў. Аднак варта прызнаць, што ў стратэгічным сэнсе страты ВКЛ былі вельмі адчувальныя. Для Вялікага Княства Маскоўскага адкрываліся шырокія магчымасці ваенных дзеянняў непасрэдна на асноўнай тэрыторыі ВКЛ, навісла пагроза над асноўным стратэгічным, вайсковым і эканамічным цэнтрам рэгіёна — Смаленскам. Акрамя таго, на кароткі час Масква захапіла ключавыя пункты на рэках Сож і Дняпро (адпаведна, Гомей і Любеч), што дазволіла кантраляваць жыццядзейнасць ВКЛ на

---

50 Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 4—10.

51 ПСРЛ. Т. XII. М., 2000. С. 252.

значнай прасторы, а таксама адкрыла перспектыву для ўмацавання маскоўскага панавання на тэрыторыях не толькі левабярэжжа, але і правабярэжжа Дняпра.

Тэрыторыі, якія былі захоплены маскоўскімі войскамі ў 1500—1503 гг., былі большыя за ўрэшце прызнаныя за Масквой паводле дамовы 1503 г. Па пэўных прычынах у два этапы (падчас перамоваў 1503 г. і паводле дамовы 1508 г.) некаторыя землі вярнуліся ў склад ВКЛ. Перш за ўсё, выраўноўвалася мяжа на смаленскім напрамку — шляхам саступак Літве тых валасцей, у якіх маскоўская ўлада не магла на той час замацавацца. Афіцыйна маскоўскі вялікі князь «паступаўся» шэрагам валасцей «для первого свойства со государемъ съ вашимъ»[52]. Былі вернуты ВКЛ (ці, прынамсі, абвешчаны вернутымі) такія старадаўнія смаленскія воласці, як Ельна, Руда, Шчучча, Ветліца, а таксама надзвычай важныя ў стратэгічным плане віцебскія воласці Свята і Азярышча.

Дагаворная грамата 1503 г. пра шасцігадовае перамір'е мела быццам бы зусім іншы характар, чым дамова 1494 г. У ёй дакладна і паслядоўна пазначаліся памежныя пункты з абодвух бакоў. Пры пераліку, напрыклад, полацкіх валасцей, называліся толькі тыя з іх, якія знаходзіліся на памежжы і на якія мог спакусіцца супрацьлеглы бок. Такім чынам, рэканструкцыя літоўска-маскоўскай мяжы 1503 г. не ўяўляецца складанай. Большасць валасцей была лакалізавана даследчыкамі, мяжа больш-менш дакладна нанесена на карту. Аднак назіранняў за дынамікай тэрытарыяльных далучэнняў да Масквы не было зроблена, таксама як не была разгледжана эвалюцыя адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ў Вялікім Княстве Маскоўскім у сувязі з новымі зямельнымі набыткамі.

Дамове 1503 г. таксама часткова ўласціва пэўная блытаніна і замоўчванні. Так, шэраг валасцей князёў Крошынскіх (Залаконне, Волста [Ніжняя], Клыпіна, Няздзілава, Чарпа, Галовічы), відавочна, былі далучаны да Масквы падчас вайсковых дзеянняў 1500—1503 гг. Аднак у дамове ніводная з валасцей князёў Крошынскіх не была згадана. Прычынай таму быў, верагодна, той факт, што пазначаныя воласці ўжо не былі памежнымі (знаходзіліся ў вярхоўях і сярэднім цячэнні р. Угры), а грамата фіксавала пераважна тыя воласці, якія маркіравалі новую літоўска-маскоўскую граніцу ў рамках працэсу дэлімітацыі. Акрамя таго, некаторыя памежныя воласці папросту выпалі з-пад увагі складальнікаў дамовы, што пазней стала падставай для новых тэрытарыяльных прэтэнзій з боку Масквы.

Тым не менш у дамове 1503 г. упершыню з вялікай дакладнасцю была пазначана літоўска-маскоўская мяжа. Аднак не трэба ўспрымаць сам тэкст граматы 1503 г. як новую з'яву. Так, у граматах 1449 і 1494 гг. таксама быў пазначаны ўчастак мяжы, які да гэтага часу проста не існаваў, не быў вызначаны (раён Ржэўскай зямлі). А да 1503 г. склалася новая мяжа амаль на ўсім працягу судакранання маскоўскіх і літоўскіх уладанняў. Ніводная тэрытарыяльная адзінка на памежжы не была цалкам далучана да Масквы. Адсюль неабходнасць падрабязнага азначэння новай мяжы, якая прайшла скрозь здаўна існуючыя, гістарычна сфарміраваныя ўстойлівыя рэгіёны.

Праўда, адзін, і даволі значны, адрэзак новай маскоўска-літоўскай мяжы ў грамаце 1503 г. застаўся фактычна неасветлены. Тэрыторыя на ўсход ад Дняпра, паміж гарадамі Кіеў, Чаркасы, з літоўскага боку, і Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Пуціўль, з маскоўскага, засталася неразмежаванай. У далейшым пазначаны рэгіён стаў месцам працяглага памежнага канфлікту, і ў выніку менавіта там сфарміравалася этнічная мяжа паміж рускім і ўкраінскім народамі. На момант жа складання граматы большая частка рэгіёна толькі фармальна ўваходзіла ў склад ВКЛ, а потым Вялікага Княства

[52] СИРИО. Т. 35. № 75. С. 396.

Маскоўскага, і была часткай Поля — слаба асвоенай і неапрацаванай людзьмі прасторы, месцам татарскіх качэўяў.

Для дамовы 1503 г. характэрны пералік валасцей адразу для некалькіх гарадоў разам, што можа сведчыць пра тое, што новая ўлада парушыла даўні адміністрацыйны падзел ВКЛ, пры гэтым у рамках Вялікага Княства Маскоўскага новага падзелу яшчэ не склалася. Цэлы спіс валасцей быў прыдадзены да гарадоў Чарнігава, Старадуба, Пуціўля, Рыльска, Ноўгарадка-Северскага, Гомея, Любеча, Почапа, Трубецка, Радагошча, Бранска. Асобным спісам былі пералічаны воласці, якія належалі Мцэнску, Любуцку, Сярпейску, Масальску.

З тых валасцей, што замацоўваліся за Масквой, быў штучна сфарміраваны Дарагабужскі ўезд[53]. У складзе Дарагабужскага ўезда аказалася 28 валасцей (!), аднятых у асноўным ад Смаленска.

Шэраг валасцей, адколатых ад сваіх гістарычных цэнтраў, не быў далучаны да суседніх, ужо маскоўскіх, цэнтраў. Таму некаторым валасным цэнтрам быў нададзены статус гарадоў, і да іх, адпаведна, былі прыпісаны воласці. Так, полацкія воласці Беразай, Невель, Усвея, Лавец, Веснебалога былі далучаны да выдзеленага са складу полацкіх жа валасцей Астрэя (Астрыя)[54].

Такім чынам, у грамаце 1503 г. мы назіраем ломку адміністрацыйнага падзелу ВКЛ і пры гэтым заўважаем першыя спробы стварэння новых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак у складзе Вялікага Княства Маскоўскага (з цэнтрамі ў Дарагабужы і Астрыі). Аднак складванне новага ўладкавання ў нядаўна далучаных да Масквы землях толькі пачыналася.

Дыпламатычную барацьбу, падмацаваную перад гэтым вайсковымі дзеяннямі, за тэрыторыі на захад ад літоўска-маскоўскай мяжы 1494 г. добра характарызуе размешчаная ніжэй табліца (Таб. 1). У ёй у першай калонцы пералічаны воласці, спіс якіх падалі літоўскія паслы маскоўскім баярам. Паводле гэтага спіса можна рэканструяваць адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел усходняй часткі ВКЛ напярэдадні вайны 1500—1503 гг. У другой калонцы пазначаны воласці, прызнаныя маскоўскім бокам як належныя да ВКЛ. Побач, у трэцяй калонцы, падаецца інфармацыя пра тое, да якога адміністрацыйнага цэнтра былі прымацаваны здабытыя Масквой воласці ці хто канкрэтна імі авалодаў. У асноўным гэта матывацыя іх прыналежнасці да некаторых іншых (не пакінутых за ВКЛ) цэнтраў, якія адыходзілі да Масквы. Нарэшце, у 4-й і 5-й калонках адлюстраваны вынікі перамоў, якія былі ўключаны ў тэкст дамовы аб перамір'і 1503 г. Пры гэтым у 5-й калонцы, дзе фігуруюць воласці, замацаваныя за Масквой, пазначана і іх новая адміністрацыйная прыналежнасць. У табліцы адсутнічаюць воласці (Елна, Ветліца, Руда, Шчучча, Свята, Азярышча), якімі завалодаў Іван III, але пазней саступіў літоўскаму боку.

[53] Дарагабуж ужо меў гісторыю адасобленага існавання ў якасці ўдзелу ў складзе ВКЛ. Пасля 1440 г. горад быў падараваны вялікім князем Казімірам на правах вотчыны троцкаму ваяводу Яну Гаштольду (LM. Kn. 3. С. 46).

[54] СИРИО. Т. 35. № 75. С. 400.

Таб. 1. Літоўска-маскоўскае памежжа на пачатку XVI ст.

| Літоўскі бок | Маскоўскі бок | Адміністрацыйная прыналежнасць у ВКМ | Да ВКЛ паводле дамовы 1503 г. | Да ВКМ паводле дамовы 1503 г. |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 2. | 3. | 4. | 5. |
| *Смаленскія валасці* | | | | |
| Рослаўль | Рослаўль | | Рослаўль | |
| Пацын | | да Бранска | | Пацын |
| Святаслаўль | | Усяслаўль да Бранска | | Усяслаўль |
| Вараноч | | да Бранска | | Вароніч (Вароніна) |
| Лазарава Гарадзішча | | цалавалі кн. І. Варатынскаму | | Лазарава Гарадзішча |
| Пруды | Пруды | | Пруды | |
| Елная | | да Дарагабужа | Елна (Ельна) | |
| Белік | Белік | | Белік | |
| Ужыца | | | | |
| Няжода | Няжода | да Дарагабужа | Няжода | Няжэлскія (да Дарагабужа) |
| Іванкава | Іванка | | Іванкава | |
| Просць | | да Дарагабужа | | Просць (да Дарагабужа) |
| Царкоўная воластка Прачыстай Маці Божай уладычня (Смаленскай епархіі) | | | | |
| Сверкавы Лукі | | да Дарагабужа | | Сверкавы Лукі (Сведкавы Лукі) (да Дарагабужа) |
| Вятліцкая | | Ветліца, засеў кн. С. Бельскі | Ветліца | |
| Буй-гарадок | | | | Буй-горад |
| Свадзіта | Свадзіта | | Свадзіта | |
| Наваселле | Наваселле | | Наваселле | |
| Манастыра Траецкага воластка | | | | |
| Ратшчына | Радчына | | Радшын (Ратшчына) | |
| Жэраспер | Жэраспер | | Жэраспер | |
| Рудская | | Руда, засеў кн. С. Бельскі | Руда | |
| Шчучча | | засеў кн. С. Бельскі | Шчучча | |
| Ржавеск | | | | |
| Парэчча | Парэчча | | Парэчча | |
| | Асавік | | | Асавік |
| | Шуя | | | Шуя |
| | | | Мушкавічы | |
| *Віцебскія валасці* | | | | |
| Брус | Брус | | Брус | |
| Дрэччы Лукі | Дрэччы Лукі | | Дрыччы Лукі (Дрэччы Лукі) | |
| Веліж | | | | Веліжскае (да Таропца) |
| Усвят | | | Свято | |
| Азярышча | | | Азярышча | Азярышча (да Дарагабужа) |
| Плавеец | | | | Плавеецкае (да Таропца) |
| Жыжэц | | | | Жыжэцкае (да Таропца) |
| Азёрца | | | | Азерскае (да Таропца) |
| *Полацкія валасці* | | | | |
| Замошша | Замошша | | Замошша (Замашэнне) | |
| Бараўляне | | | | |
| Мошнікі | Мошнікі | | Мошнікі (Мошнікава) | |
| Дрыса | Дрыса | | Дрыса | |
| Асвіе | Асвічча | | Асьвіа (Асьвіс) | |
| Няшчэрда | Няшчорда | | Няшчорда (Няшчэдра) | |
| Ліснавяз | Лісцвіна | | Лісна | |
| Каротае | | | | |
| Вязмо | Вязмо | | Вязмо | |
| Клінно | Кліно | | Кліно | |
| Сітняне | Сітняне | | Сітняне | |
| Азярышча | | | | |
| Кубак | Кубак | | Кубік | |
| Веснебалога | | | | Веснебалога (да Астрыя) |
| Непаротавічы | Непаротавічы | | Непаротавічы | |
| Вярбілава слабада | Вярбілава слабада | | Вярбілава слабада | |
| | Себеж | | Себеж | |
| | | | Астняны | |

Як бачым, маштаб маскоўскага заваявання значна перавышаў замацаваныя ў выніку за Масквой тэрыторыі. Частка валасцей была вернута ў склад ВКЛ. Гэтае вяртанне бяз аглядкі на карту можа падацца натуральным, звязаным з імкненнем згладзіць межы або немагчымасцю ўмацавацца ў шэрагу валасцей. Аднак, як высвятляецца, менавіта перадача назад ВКЛ пералічаных вышэй валасцей наадварот утварала два выступы ў глыб тэрыторыі ВКЛ (воласць Буйгарад) і Вялікага Княства Маскоўскага (Свята, Азярышча). Для вяртання ВКЛ часткі ўжо захопленай тэрыторыі павінны былі быць вельмі важкія прычыны. Відавочна, у некаторых валасцях маскоўская ўлада сустрэла актыўнае супраціўленне мясцовых землеўласнікаў і літоўскіх войскаў, у выніку чаго прызнала сваю нявдольнасць замацавацца ў іх. Гэта былі воласці з унутраных абласцей дзяржавы, трывала інтэграваныя ў склад ВКЛ. Характэрна, што нават пасля літоўска-маскоўскай вайны 1507—1508 гг. «вечны мір» 1508 г. замацоўваў за ВКЛ тэрыторыі, якія раўнялі мяжу не на карысць Масквы (воласць Буйгарад), хаця войскі апошняй ізноў захапілі смаленскія воласці, вернутыя ў 1503 г. Такім чынам, вызначаецца рэгіён, дзе за кароткі час была сфарміравана новая лінія абароны ВКЛ, якая даволі доўга супрацьстаяла маскоўскаму націску.

Толькі ў 1514 г., з захопам Смаленска, літоўска-маскоўская мяжа адсунулася далей на захад, што вымусіла ўлады ВКЛ шукаць новыя магчымасці для стварэння лініі абароны, якую можна было б супрацьпаставіць магутнаму суседу. У выніку перамір'я 1522 г. літоўска-маскоўская мяжа набыла стабільны характар, а з 1537 г. (пасля вяртання вялікаму князю літоўскаму Гомея і перадачы Маскве Себежа) — закончаны выгляд. Разгляду трансфармацыі літоўска-маскоўскай мяжы ў раёне Гомея будзе прысвечаны асобны раздзел гэтай працы.

# Раздзел 2.
# Першыя тэрытарыяльныя кантакты і канфлікты паміж Масквой і Вільняй у другой палове XIV — пачатку XV ст.

## 1. Барацьба Масквы і Вільні за панаванне над смаленскімі і чарнігаўскімі землямі ў сярэдзіне XIV ст.

Вялікія князі ўладзімірскія доўгі час не пакідалі прэтэнзій на верхавенства ва ўсіх землях Старажытнарускай дзяржавы[1], якая знікла з палітычнай карты Усходняй Еўропы. І нават нягледзячы на сітуацыю палітычнай раздробленасці, панаванне Арды, якое знясільвала асобныя княствы, і знешнюю ізаляцыю, што ўсё павялічвалася, Паўночна-Усходняя Русь, як і раней, імкнулася распаўсюдзіць свой уплыў на значную частку «рускіх» зямель[2]. З сярэдзіны XIV ст. уладзімірскі вялікакняжацкі пасад амаль увесь час займалі князі маскоўскага дому, і менавіта яны сталі актыўна замацоўваць свой уплыў на захад ад сваёй сталіцы. Спачатку дзеянні, напрыклад, у напрамку Смаленска (1340 г.), ажыццяўляліся ў кантэксце залежнасці ад Арды і былі звязаны з імкненнем яе кіраўнікоў умацаваць або нават аднавіць уладу над некаторымі рускімі землямі. Але чым далей, тым болей рабілася прыкметнай самастойнасць палітыкі маскоўскіх князёў, якая выявілася ў дынастычных шлюбах (у 1341 г. князь Іван Іванавіч ажаніўся з дачкой Дзмітрыя Бранскага), набыцці зямель са складу смаленскіх, чарнігаўскіх і разанскіх зямель і ў прамых ваенных акцыях[3].

Актывізацыя маскоўскай палітыкі ў заходнім напрамку раней ці пазней павінна была сутыкнуцца з інтарэсамі Вялікага Княства Літоўскага — дзяржавы, якая набірала моц шмат у чым за кошт аскепкаў Старажытнай Русі. Да сярэдзіны XIV ст. уладанні ВКЛ ушчыльную наблізіліся да меж Смаленскага і Чарнігаўскага (Бранскага) княстваў. Пачалася барацьба за ўплыў на землі, што падзялялі Маскву і Вільню. Завязаліся і прамыя сутычкі за прынцыповую па сваім стратэгічным становішчы Ржэўскую зямлю. Да фарміравання кантактнай зоны паміж маскоўскай і літоўскай тэрыторыямі было яшчэ далёка, але ўжо ў той час вызначаліся раёны працяглага ваеннага супрацьстаяння. Адзін з іх узнік у раёне вярхоўяў р. Волгі (Ржэўская зямля), а другі — на тэрыторыі Павугор'я (уздоўж левага прытока р. Акі) і Верхняй Акі (у асяродку Вярхоўскіх княстваў).

Недахоп інфармацыі не дазваляе вызначыць маршруты першых паходаў маскоўскіх і літоўскіх бакоў. Ардынска-рускі напад на Смаленск узімку 1340 г. быў здзейснены з Пераяслаўля Разанскага[4] і мог закрануць нізоўе Угры. 1 кастрычніка

---

[1] Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV в. С. 58.

[2] Тамсама. С. 58—59.

[3] Тамсама. С. 60.

[4] Полное собрание русских летописей (далей: ПСРЛ). Т. XVIII (Симеоновская летопись). М., 2007. С. 93; Т. XXV (Московский летописный свод конца XV в.). М., 2004. С. 172; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. СПб., 2002. С. 363.

1341 г. каля Мажайска з'явілася войска Альгерда[5], але якім шляхам ішоў літоўскі князь (які ў той час правіў у Віцебску), каб дасягнуць маскоўскіх меж, сказаць цяжка. Вядома, што ў звычках Альгерда было трымаць у сакрэце ад іншых маршрут і нават напрамак паходу, «и тако, воюя хитростию и скрадывая, Олгердъ многы земли поималъ и многы места и грады и страны поплънилъ; не толма силою елико умениемъ воеваше»[6]. Праўда, у выпадку з нападам на Мажайск здзейсніць раптоўны напад, верагодна, не ўдалося. Нягледзячы на адсутнасць у Маскве вялікага князя (Сямён Іванавіч знаходзіўся яшчэ ў Ардзе і толькі 30 кастрычніка ў адпаведнасці з ханскім ярлыком з'явіўся ва Уладзімір і заняў вялікакняжацкі пасад)[7], абарона заходняй мяжы Маскоўскага княства была забяспечана загадзя. Літоўская раць спаліла толькі пасад Мажайска, а крэпасць не ўзяла, магчыма, з-за наяўнасці моцнага гарнізона (падаецца, што з яго складу быў забіты нейкі Ругота, магчыма, родапачынальнік дваран Ругоцiных)[8].

Буйныя ваенныя акцыі сярэдзіны XIV ст. дакладна вызначылі памежную паласу, якая падзяляла смаленскія і маскоўскія землі (Смаленскае княства было далучана да ВКЛ толькі на пачатку XV ст.). Рака Угра была смаленскім бокам гэтай паласы. У 1352 г. маскоўскі вялікі князь Сямён Іванавіч, яго браты Іван і Андрэй і «вси князи» пайшлі раццю да Смаленска. Каля Вышгарада («на Поротве») іх сустрэлі паслы Альгерда «съ многыми дары», і справа скончылася заключэннем міру[9]. Але, не пакідаючы намеру ісці на Смаленск, князь Сямён прасунуўся з войскам бліжэй да ракі Угры. Там яго ўжо чакалі смаленскія паслы. З тыдзень (або 8 дзён) праходзіла «стаянне» на рацэ Угра, падчас якога ў Смаленск паспела з'ездзіць, заключыць мір і вярнуцца назад маскоўская дэлегацыя[10]. Пасля гэтага Сямён вярнуўся ў Маскву, войска было распушчана[11]. У выніку Смаленскае і Бранскае княствы аказаліся ў сферы ўплыву Уладзімірскага вялікага княства, на чале якога стаяў маскоўскі князь[12].

Звяртаюць на сябе ўвагу, па-першае, месца сустрэчы паслоў ВКЛ — Вышгарад на Протве, а, па-другое, раён прыпынку маскоўскага войска — бераг р. Угры. Відавочна, літоўскія паслы падышлі да краю маскоўскіх уладанняў, дзе і чакалі князя Сямёна. З другога боку, і маскоўскі вялікі князь не стаў пераходзіць мяжу і ўрывацца на тэрыторыю Смаленскага княства, а спыніўся каля яго меж. Такім чынам, на сярэдзіну XIV ст. можна ўмоўна вылучыць памежную паласу паміж маскоўскімі і смаленскімі землямі, адзін бок якой складала р. Протва з памежным гарадком Вышгарадам, а другі — р. Угра. З'яўляючыся ў рэальнасці паласой незасвоеных зямель, гэтая тэрыторыя фармальна, відаць, належала трэцяму боку — Разанскаму княству. Толькі паміж 1353—1356 гг. (ад пачатку праўлення маскоўскага князя Івана Іванавіча да

5 ПСРЛ. Т. XVIII. С. 93; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 365.

6 ПСРЛ. Т. XV (Рогожский летописец. Тверской сборник). М., 2000. Стб. 88.

7 ПСРЛ. Т. XXV. С. 173.

8 ПСРЛ. Т. XVIII. С. 93; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 365.

9 ПСРЛ. Т. VII (Летопись по Воскресенскому списку). М., 2001. С. 216; ПСРЛ. Т. XV. Стб. 60.

10 ПСРЛ. Т. XV. Стб. 60—61. Цвярскі летапісец паказаў сябе найбольш дасведчаным у падзеях гэтага паходу.

11 ПСРЛ. Т. VII. С. 216; Т. XVII (Западнорусское летописание). М., 2008. Стб. 33, 127; Т. XX (Львовская летопись). Вып. 1. М., 2005. С. 186; Т. XXV. С. 178; ПСРЛ. Т. XXVI (Вологодско-Пермская летопись). М., 2006. С. 115; ПСРЛ. Т. XXVII (Никаноровская летопись. Сокращенные летописные своды конца XV века). М., 2007. С. 240, 325.

12 Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV в. С. 65.

часу складання ім тэстаменту) «места рязанская» сталі маскоўскім уладаннем[13]. І хаця ўжо да гэтага ў канцы 40-х — пачатку 50-х гг. XIV ст. такія разанскія воласці, як Заячкаў, Цешаў, Гардашэвічы і інш. перайшлі да Масквы[14] і, такім чынам, абазначылі яе прысутнасць паміж рэкамі Протвай і Угрой[15], асноўны масіў заокскіх разанскіх «мест» і надалей адасабляў маскоўскую тэрыторыю ад смаленскай.

Такім чынам, у сярэдзіне XIV ст. упершыню выявіўся не толькі памежны характар рэгіёна Павугор'я, але і яго актуальнасць як тэрыторыі, зручнай для прасоўвання войскаў і магчымага вядзення баявых дзеянняў.

Характэрна, што ў 1352 г. маскоўскі вялікі князь ішоў на Смаленск не напрасткі (Масква—Мажайск—Вязьма—Дарагабуж—Смаленск), а праз Вышгарад на Протве і р. Угру. Відавочна, такі маршрут быў прадыктаваны нейкімі прычынамі. Цалкам верагодна, што ў той час найбольш зручны шлях на Смаленск ішоў менавіта праз р. Угру. Адмаўляць існаванне прамой дарогі паміж Масквой і Смаленскам, магчыма, не варта, аднак нельга не заўважыць, што смаленскія паслы невыпадкова чакалі маскоўскае войска ў пэўным месцы каля Угры. Таксама і літоўскія паслы накіраваліся да Вышгарада, спрагназаваўшы і апярэдзіўшы дзеянні масквічоў.

Прамая сувязь паміж Смаленскам і яго былым уладаннем — Мажайскам, несумненна, існавала. У канцы XV ст. іх злучала «старая извечная» дарога[16]. Аднак, верагодна, гэты маршрут быў непрыдатны для перамяшчэння вялікіх кантынгентаў войска. Паводле назіранняў М.М. Ціхамірава, шлях на Смаленск праз Мажайск і Вязьму (Мажайская дарога) набыў значнасць толькі ў XVI ст.[17].

Увогуле, да 1368 г. быў толькі адзін невялічкі рэгіён, у якім сутыкаліся тэрытарыяльныя інтарэсы Масквы і Вільні — Ржэўская зямля. Аднак, трэба адзначыць, што і астатнія буферныя княствы ўжо не выконвалі значнай самастойнай ролі на міжнароднай арэне і ўсё больш уцягваліся ў сферы ўплыву двух галоўных прэтэндэнтаў на панаванне. І ўжо з сярэдзіны XIV ст. адбываецца канкурэнтная барацьба Масквы і Вільні за перавагу ў Смаленскім і Бранскім княствах.

Пэўная залежнасць Смаленска ад Вільні (склалася яшчэ пры Гедыміне)[18] была парушана ў 1352 г., калі маскоўскі князь Сямён Іванавіч здзейсніў вялікі паход на Смаленскае княства. Літоўскія паслы сустрэлі маскоўскае войска яшчэ да смаленскіх меж (у Вышгарадзе на Протве) і хутка заключылі дамову[19], згодна з якой Маскве

---

[13] ДДГ. № 4. С. 15. Пра дату складання духоўнай граматы гл.: Зимин А.А. О хронологии духовных и договорных грамот великих и удельных князей XIV—XV вв. // Проблемы источниковедения. М., 1958. Вып. VI. С. 281, 322.

[14] Ад княгіні Ганны, дачкі маскоўскага князя Данілы Аляксандравіча, выдадзенай за нейкага разанскага князя (Кучкин В.А. Княгиня Анна — тетка Симеона Гордого // Исследования по источниковедению истории России (до 1917 г.). М., 1993. С. 7—9). На думку А.А. Горскага, гэты разанскі князь — Аляксандр Міхайлавіч Пронскі (Горский А.А. Москва и Орда. М., 2000. С. 71; Ён жа. Московские «примыслы» конца XIII—XV в. вне Северо-Восточной Руси // Средневековая Русь. Вып. 5. М., 2004. С. 129).

[15] Пра лакалізацыю воласці Гардашэвічы гл.: Митрошенкова Л.В. К истории формирования Малоярославецкого уезда // Историческая география России: новые подходы. Сб. ст. М., 2004. С. 78—79.

[16] Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I. № 1. С. 2; № 18. С. 79.

[17] Тихомиров М.Н. Древняя Москва. XII—XV вв.; Средневековая Россия на международных путях. XIV—XV вв. М., 1992. С. 246.

[18] Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV в. С. 61, 64.

[19] ПСРЛ. Т. 15. Стб. 60.

давалася свабода дзеянняў у адносінах да Смаленска[20]. Смаленск таксама не пайшоў на канфрантацыю. Да ракі Угры прыбылі смаленскія паслы, а потым у Смаленску маскоўскія паслы «миръ взяша»[21]. Такім чынам літоўскае панаванне ў Смаленску змянілася маскоўскім[22]. Маскоўскі ўплыў распаўсюдзіўся і на Бранск, у якім з канца XIII ст. кіравалі прадстаўнікі смаленскай лініі князёў[23].

З 1356 г. зноў пачалося актыўнае літоўскае наступленне на Смаленскае і Бранскае княствы. Смаленск пазбавіўся часткі сваіх уладанняў (Белая, Мсціслаў, Ржэва), а Бранск увогуле быў далучаны да ВКЛ. У гэты час новы маскоўскі князь Дзмітрый Іванавіч страціў ярлык на Уладзімірскае вялікае княжанне (перададзены ханам Наўрузам ніжагародскаму князю Дзмітрыю Канстанцінавічу) і нічога не мог зрабіць супраць распаўсюджвання ўлады ВКЛ. Смаленск быў вымушаны прызнаць новы парадак рэчаў, але раз-пораз выказваў непаслушэнства[24]. У 1365 г. «смолняномъ бысть розмирие съ Литвою, многаа Литовскаа места повоевали»[25], а пасля гэтага Альгерд «осень всю стоялъ оу Смоленска ратию и много зла сътворивъ и волю свою возма поиде въсвояси»[26]. Як бачым, даволі цяжка было зацвердзіць залежнасць Смаленска ад ВКЛ.

Далучэнне Бранска не гарантавала поўнага кантролю ўладамі ВКЛ чарнігаўскіх зямель. Па-першае, Вярхоўскія княствы толькі на кароткі час трапілі пад уплыў ВКЛ. Падчас паходу 1370 г. Дзмітрыя Маскоўскага да Бранска залежны ад Альгерда князь Іван Навасільскі быў заменены на пасадзе яго прамаскоўска арыентаваным братам Раманам[27]. Па-другое, у самім Бранскім княстве існавалі прыхільнікі маскоўскай улады. Князь Раман Міхайлавіч, пасаджаны на бранскі стол «з літоўскай рукі» (каля 1360 г.)[28], у хуткім часе быў пазбаўлены ўлады і быў вымушаны ўцякаць спачатку ў Коршаў (на р. Сасне), а потым ад літоўскага войска і далей — у Маскву[29]. У 1363 г. Бранск быў перададзены непасрэдна літоўскаму князю — сыну Альгерда Дзмітрыю[30].

Характэрнай з'явай таго часу была арыентацыя дробных княстваў, якія межавалі з Ардой, на антыардынскія сілы[31]. Бітва на Сініх Водах 1362 г. мела вялікі рэзананс і, у пэўнай ступені, садзейнічала паспяховаму пашырэнню ўлады вялікага князя літоўскага

---

20 Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV в. С. 62.

21 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 61.

22 Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV в. С. 62, 64.

23 Тамсама. С. 64—65.

24 Тамсама. С. 69—70.

25 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 78.

26 Тамсама. Стб. 79.

27 Шеков А.В. Верховские княжества (Краткий очерк политической истории. XIII — середина XVI в.) // Труды Тульской археологической экспедиции. Вып. 1. Тула, 1993. С. 35.

28 Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV в. С. 69—70; Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы // Средневековая Русь. Вып. 1. М., 1996. С. 89, 98.

29 Рэканструкцыя падзей, звязаных з дзейнасцю князя Рамана Бранскага, належыць А.А. Горскаму (Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы. С. 90—91).

30 Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы. С. 91. «Дмитрии Брянскии» згадваецца ў літоўска-маскоўскай перамірнай грамаце 1372 г. (ДДГ. №. 6. С. 22).

31 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 39.

не толькі на поўдзень, але і на ўсход[32]. У 70-я гг. XIV ст. палітыку канфрантацыі з Ардой стала праводзіць Масква. Таму невыпадкова шэраг княстваў у вярхоўях р. Акі, а таксама і тэрытарыяльныя фарміраванні на ўскраінах ВКЛ сталі схіляцца да яе.

Тым не менш да 1368 г. на тэрыторыях паміж вялікімі княствамі Літоўскім і Маскоўскім безумоўна дамінаваў літоўскі бок. Таму першы паход Альгерда да Масквы мог адбывацца ў даволі спрыяльных умовах і ісці праз землі, валадары якіх прыхільна ставіліся да вялікага князя літоўскага.

## 2. Падтрымка Цверы і паходы Альгерда на Маскву. 1368—1372 гг.

У другой палове XIV ст. ужо не толькі літоўскі і смаленскі бакі рабілі папераджальныя захады ў чаканні нападу маскоўскага войска на шляху праз р. Угру і Верхнюю Аку, але і маскоўскія ўлады дзеля бяспекі сталіцы дасылалі войскі ў паўднёва-заходнім напрамку — у раён, блізкі да Павугор'я і Верхняга Паочча.

Так, падчас трох «літоўшчын» 1368, 1370 і 1372 гг. маскоўскае памежжа стала арэнай баявых дзеянняў. У першы раз сілы вялікага князя літоўскага Альгерда былі накіраваны праз раку Угру каля яе вусця або праз броды на Ацэ каля Любуцка, воласць Халхол, горад Абаленск на шлях да Масквы (Абаленскі)[33]. У «другую літоўшчыну» быў выбраны напрамак руху праз Цвярское княства, аднак у Маскве, відаць, ізноў чакалі суперніка з поўдня і, у сувязі з гэтым, збіралі войскі ў Перамышлі (на р. Мочы)[34]. І, нарэшце, падчас трэцяга паходу Альгерда маскоўскія і літоўскія войскі сустрэліся каля Любуцка на р. Ацэ[35] — маршрут руху Альгерда і яго дзеянні былі папярэджаны.

Падзеі літоўска-маскоўскага канфлікту 1368—1372 гг. прыцягваюць пільную ўвагу, у асноўным дзякуючы бліскучым ваенным аперацыям Альгерда, які здолеў двойчы падабрацца да муроў Масквы. Аднак да гэтага часу застаюцца цёмныя месцы ў асвятленні хода ваенных дзеянняў. Уяўленне пра літоўска-маскоўскія тэрытарыяльныя кантакты, маршруты паходаў і месцы бітваў таксама цьмянае[36]. У сувязі з гэтым ёсць сэнс падрабязна разгледзець сітуацыю, што склалася ў адносінах паміж вялікімі княствамі Літоўскім і Маскоўскім у сярэдзіне XIV ст.

У 1368 г. адбыўся першы сур'ёзны канфлікт паміж двума цэнтрамі збірання «рускіх» зямель — вялікімі княствамі Літоўскім і Маскоўскім. Ужо раней літоўска-маскоўскія інтарэсы сутыкаліся ў смаленскіх землях (з 1335 г. адбывалася барацьба за Ржэву[37],

[32] Шабульдо Ф.М. Земли юго-западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987. С. 70.

[33] ПСРЛ. Т. XV. Стб. 429; Т. XXV. С. 184; ПСРЛ. Т. XI (Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью). М., 2000. С. 11.

[34] ПСРЛ. Т. XV. Стб. 94.

[35] ПСРЛ. Т. XI. С. 19; ПСРЛ. Т. XV. Стб. 433.

[36] Рэканструкцыі маршрута Альгерда прысвечана нядаўна апублікаваная праца А.І. Харужанкі (Хоруженко О.И. «Первая литовщина» в летописной статье 1368 г. // Istorijos šaltinių tyrimai. Kn. 2. Vilnius, 2010. P. 33—41). Аднак аўтар пачаў вызначаць шлях войска вялікага князя літоўскага чамусьці адразу ад маскоўскіх меж, і толькі ў канцы свайго артыкула абгрунтаваў пачатак паходу ад г. Бранска. Да таго ж А.І. Харужанка схіліўся да абаленскай версіі лакалізацыі Тросценскай бітвы (гл. ніжэй).

[37] Тады маскоўскі князь Іван Каліта з наўгародскім войскам «пожже городки Литовьскыи Осеченъ и Рясну и иных городковъ много» (Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов (далей: НПЛ). М., 2000. С. 347). Асечан і Расна адносіліся да Ржэўскай зямлі (Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе (Ржева и ее волости в XIV—XV вв.). С. 152; Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю. С. 74—75.

а ў 1341 г. Альгерд здзейсніў няўдалы паход на Мажайск[38]), але да буйнамаштабнай вайны справа не даходзіла, мабыць, таму, што нават агульнай мяжы дзвюх дзяржаў пакуль не існавала[39].

Актыўная палітыка маскоўскага вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча выклікала не толькі падтрымку з боку вялікай колькасці рускіх князёў і шырокі народны патрыятычны рух, але і незадаволенасць пэўных цэнтраў Паўночна-Усходняй Русі пашырэннем маскоўскай улады і, адпаведна, стратай уласнай самастойнасці. Паводле цвярскога летапісу, масквічы «князи Русьскыи начаша приводити въ свою волю, а которыи почалъ не повиноватися ихъ воле, на тыхъ почали посягати злобою»[40].

Пэўныя інтарэсы ў маскоўскага вялікага князя былі і ў дачыненні да Вялікага Княства Цвярскога, якое ў сярэдзіне XIV ст. зазнала чарговы этап княжацкіх міжусобіц. Умяшанне ў цвярскія справы, здавалася б, павінна было скончыцца пасля смерці аднаго з прэтэндэнтаў на ўладу ў Вялікім Княстве Цвярскім князя Васіля Міхайлавіча Кашынскага (24 ліпеня 1368 г.) і ўсталяванні на цвярскім пасадзе князя Міхаіла Аляксандравіча. Аднак такі ход падзей не задаволіў Маскву. Улетку 1368 г. «князь велики Дмитреи Ивановихь[ь] събравъ воя многы и посылалъ рать на князя великаго Михаила Александровича Тферьскаго, князь же Михаило бежа въ Литву къ князю Олгерду, зятю своему, и тамо многы оукоры изнесе и жалобы изложи, прося помощи собе и оборони, дабы сътворилъ месть его въскоре, паче же вабячи и завучи его ити ратию къ Москве»[41]. Такім чынам неўзабаве Вялікае Княства Літоўскае апынулася ў стане вайны з Вялікім Княствам Маскоўскім.

Альгерд, чыя жонка Ульяна была сястрой цвярскога князя Міхаіла[42], хутка і рашуча адрэагаваў на просьбы сваяка. Ужо ўвосень было сабрана вялікае войска, у складзе якога знаходзіліся, апроч самога Альгерда, яго брат Кейстут, сын Кейстута Вітаўт («тогда бо еще младъ и неславенъ»), сыны Альгерда, шмат літоўскіх князёў, а таксама раці вялікага князя цвярскога і са Смаленска[43]. Маршрут войска Альгерда да маскоўскіх меж застаўся невядомым, што было растлумачана летапісцам асобым звычаем вялікага князя літоўскага. Ён таму «и превзыде княженіемъ и богатьствомъ паче многихъ», што ніхто не ведаў яго планаў: ні навошта збірае шматлікае войска, ні куды яно ідзе, — усё гэта ён рабіў употай, і ў выніку «многи земли поималъ и многи грады и страны попленилъ»[44].

Даволі прыхільнае стаўленне маскоўскага летапісца да валадара суседняй, часам варожай, дзяржавы можна растлумачыць наступнай непаваротлівасцю маскоўскіх улад, якія не здолелі арганізаваць абарону сваіх граніц, хутка сабраць войска і, урэшце, зазналі паразу ад вялікага князя літоўскага і аблогу сваёй сталіцы. Тым самым апраўдваліся наступствы дзеянняў Альгерда, які амаль бесперашкодна прайшоўся па ўладаннях Вялікага Княства Маскоўскага да самага яго цэнтра і такім жа чынам вярнуўся ў свае межы з вялікім палонам і здабычай[45]. «Преже сего таково зло не бывало Москве отъ Литвы», — рэзюмуе летапісец[46]. Між іншым, у цвярскім летапісанні

---

38 ПСРЛ. Т. 10. М., 2000. С. 213. Мажайск з 1303 г. знаходзіўся ў складзе маскоўскіх уладанняў.

39 Темушев В.Н. Западная граница Великого княжества Московского к 1380 г. С. 84, 100—101.

40 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 84.

41 Тамсама. Стб. 88.

42 ПСРЛ Т. 10. С. 221.

43 ПСРЛ. Т. 11. С. 10.

44 Тамсама. С. 11.

45 Такую ж думку выказваў Л.В. Чарапнін (Гл.: Черепнин Л.В. Образование Русского централизованного государства в XIV—XV веках. М., 1960. С. 553).

46 Тамсама.

разважанні аб паводзінах Альгерда адсутнічаюць, а ў канцы ўсяго апавядання аб літоўскім паходзе 1368 г. мы не бачым спачування разрабаваным маскоўскім уладанням: Альгерд «отъиде въ своаси, учинивъ лихо за лихо»[47].

Аб прасоўванні літоўска-смаленска-цвярскога войска на маскоўскую тэрыторыю вялікі князь Дзмітрый Іванавіч даведаўся толькі тады, калі яно пачало ваяваць памежныя месцы[48]. Тут трэба заўважыць (для будучых высноў), што ў Маскве ведалі, адкуль ідзе пагроза, і дасылалі ў заставу вартавы полк менавіта ў небяспечным кірунку.

Збор войска — марудная справа, і пакуль па ўсім княстве імчаліся ганцы з граматамі з загадам «съвокупляти воя», насустрач Альгерду выступілі тыя, хто знаходзіўся ў Маскве («обретошас[я] тогда въ граде»)[49]. Пад ваяводствам Дзмітрыя Мініна (ад вялікага князя) і Акінфа Фёдаравіча Шубы (ад маскоўскага ўдзельнага князя Уладзіміра Андрэевіча Серпухаўскага) у паход выйшлі маскоўская, каломенская і дзмітраўская раці.

У гэты час Альгерд дасягнуў воласці Холхла[50], дзе забіў «на встрече» князя Сямёна Дзмітрыевіча Старадубскага-Крапіву, а потым у Абаленску пакараў смерцю князя Канстанціна Юр'евіча. І вось, ад ракі Протва (на ёй знаходзіўся цэнтр Абаленскага княства), войска Альгерда перайшло да ракі Тросны (Тростны)[51], дзе адбылася сустрэча з маскоўскай заставай. У выніку бітвы Альгерд «ту изби сторожевыи плъкъ князя великаго, заставу Московьскую и князи и воеводы и бояры своя поби. Се же сдеяся тогды въ осенине въ Филипово говение, месяца ноября въ 21 день, на Введение святыя Богородица во вторникъ»[52].

Упэўнены ў адсутнасці перашкод Альгерд рушыў да Масквы, дзе ўжо перабывалі ў аблозе вялікі князь маскоўскі, яго стрыечны брат Уладзімір Андрэевіч, мітрапаліт Аляксей, мноства баяр і простых людзей. Масква была падрыхтавана: загадзя быў спалены пасад вакол гораду, а новыя каменныя муры, пабудаваныя за год да таго, як пад імі з'явіўся Альгерд[53], гарантавалі адносную бяспеку. Тры дні прастаяў вялікі князь літоўскі каля Масквы, нічога зрабіць не здолеў і вымушаны быў вярнуцца ў свае межы.

---

47 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 429.

48 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 426; ПСРЛ. Т. 25. М., 2004. С. 184; ПСРЛ. Т. 11. С. 11. Сумненні наконт раптоўнасці першага паходу Альгерда выказвае С.Л. Кінеў. Таксама і маштаб паражэння нібыта «вартавога» маскоўскага палка атрымаў, на думку даследчыка, ідэалагічную апрацоўку ў летапісанні з мэтай «спасти репутацию московского князя Дмитрия Ивановича как героя-победителя» (Кинев С.Л. Битва на Тростне: опыт интерпретации событий в русском летописании // Восточная Европа в древности и средневековье: Проблемы источниковедения. XVII Чтения памяти члена-корреспондента АН СССР В.Т. Пашуто; IV Чтения памяти доктора исторических наук А.А. Зимина, 19—22 апр. 2005 г . Тезисы докладов. Ч. 2. М., 2005. С. 206—208).

49 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 89.

50 Летапісныя варыянты назвы гэтай воласці: «Хвольхла» (Рагожскі летапісец), «Холхле» (Сіміёнаўскі летапіс), «Холъхла» (Маскоўскі летапісны звод канца XV ст.), «Холхла» і «Холохла» (Ніканаўскі летапіс) (ПСРЛ. Т. 15. Стб. 89; Т. 18. СПб., 1913. С. 108; Т. 25. С. 185).

51 Варыянт назвы ракі, ля якой адбылася бітва, у форме «Тросна» ўжываецца толькі ў Ніканаўскім летапісе і, мабыць, недзе яшчэ (ПСРЛ. Т. 11. С. 11). У большасці ж выпадкаў сустракаецца варыянт «Тростна» (Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. СПб., 2002. С. 388; ПСРЛ. Т. 15. Стб. 89; Т. 18. С. 108; Т. 25. С. 185). Паколькі ў беларускай мове адбылося спрашчэнне шмат якіх груп зычных (*здьн-здн-зн*; *стьн-стн-сн* і інш.), то на месцы этымалагічнага *стн* у слове *Тростна* маем *сн* — *Тросна*. Адпаведна і бітва па-беларуску будзе называцца Тросненская (рус. Тростненская).

52 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 89. У некаторых летапісах даецца памылковая дата — 21 снежня (ПСРЛ. Т. 23. М., 2004. С. 115; Т. 25. С. 185).

53 «Того же лета [1367 г.] князь велики Дмитрей Ивановичь заложи градъ Москву каменъ, и начаша делати безпрестани» (ПСРЛ. Т. 11. С. 8).

Тым не менш пэўны рэзананс паход Альгерда атрымаў. Вялікі князь цвярскі Міхаіл Аляксандравіч зноў сеў на свой прастол, Дзмітрый Маскоўскі адступіўся на яго карысць ад часткі цвярской тэрыторыі (удзел памерлага князя Сямёна Канстанцінавіча з горадам Гарадцом), якую ўтрымлівала за сабой Масква з зімы 1368 года[54]. Палонны цвярскі ўдзельны князь Ерамей Канстанцінавіч быў адпушчаны ў Цвер. Акрамя таго, Альгерд, магчыма, зноў стаў уладальнікам Ржэўскай зямлі, якая раней, у тым жа 1368 г., у чарговы раз была захоплена Масквой[55].

Такім чынам скончылася так званая «першая літоўшчына»[56], вядомая падзея, што неаднаразова трапляла на старонкі спецыяльных даследаванняў, навукова-папулярных кніг і знайшла адбітак на гістарычных картах. Але апошні момант, а менавіта — гісторыка-геаграфічныя падрабязнасці паходу Альгерда на Маскву ў 1368 г. застаюцца нявысветленымі. Дагэтуль не вызначаны: маршрут руху войскаў на чале з Альгердам, месцы баявых дзеянняў і, галоўнае, дзе знаходзілася тая рака Тросна, каля якой адбылася бітва. Асобная праблема — лакалізацыя лініі маскоўскай мяжы, ад якой Альгерд пачынаў ваяваць маскоўскія «порубежнаа места». Адначасова можна праверыць магчымасць існавання на той час літоўска-маскоўскай мяжы ў раёне рэк Угры і Протвы — прытокаў Акі ў яе верхнім цячэнні.

Перш за ўсё трэба даць характарыстыку геапалітычнай сітуацыі, якая склалася ў рэгіёне, што падзяляў тэрыторыі вялікіх княстваў Літоўскага і Маскоўскага, а пасля перайсці да вызначэння маскоўскага памежжа на момант 1368 г.

Да сярэдзіны XIV ст. канчаткова вызначыліся два цэнтры збірання «рускіх» зямель, але сам працэс аб'яднання апошніх быў далёкім ад завяршэння. Тэрыторыі вялікіх княстваў Літоўскага і Маскоўскага ў той час падзяляліся масівамі зямель, якія належалі калісьці Смаленскаму, Чарнігаўскаму і Разанскаму княствам. У XIV ст. Смаленскае і Чарнігаўскае (Бранскае)[57] княствы былі раздроблены на шэраг удзелаў. І вось гэтыя ўдзелы паступова прыбіралі да рук больш моцныя суседзі. На самым пачатку XIV ст. (1303 г.) да Масквы быў далучаны Мажайскі ўдзел Смаленскага княства[58]. Вялікая частка Таропецкага княства каля 1320 г. адышла да ВКЛ[59]. Спазнаўшы мэтанакіраваны

---

[54] ПСРЛ. Т. 15. Стб. 87.

[55] Клюг Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.). Тверь, 1994. С. 197. На думку У.А. Кучкіна, гэта адбылося да лета 1372 г. (Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 152; Ён жа. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой // Куликовская битва: Сборник статей. М., 1980. С. 76, 91—93).

[56] ПСРЛ. Т. 15. Стб. 88.

[57] Бранскі князь адначасова лічыўся чарнігаўскім князем, і ў цэлым Бранскае княства з'явілася пераемнікам Чарнігаўскага (Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы. С. 76, 77). У першай палове — сярэдзіне 90-х гг. XIII ст. Бранскам завалодалі князі смаленскай дынастыі (Тамсама. С. 77, 97).

[58] У 1303 г. князь Юрый Маскоўскі «с братьею своею ходил к Можайску, и Можаеск взял», пры гэтым мажайскага князя Святаслава Глебавіча «ял и привел к собе на Москву» (ПСРЛ. Т. 18. М., 2007. С. 86). Далучэнне да Масквы Мажайска ў 1303 г. — традыцыйнае меркаванне, якога прытрымліваліся С.М. Салаўёў (Соловьев С.М. Сочинения. В 18 кн. Кн. II. Т. 3—4. История России с древнейших времен. М., 1993. С. 226), А.Е. Праснякоў (Пресняков А.Е. Образование Великорусского государства. М., 1997. С. 97), Л.В.Чарапнін (Черепнин Л.В. Образование Русского централизованного государства в XIV—XV веках. С. 459) і інш. Аднак А.А. Горскі лічыць, што Мажайск стаў маскоўскім ужо ў канцы XIII ст. (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 134—138).

[59] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 31.

пагром з боку Залатой Арды, Чарнігаўскае княства[60] яшчэ да сярэдзіны XIV ст. таксама пачало схіляцца пад літоўскую ўладу[61]. Ад яго ў гэты час канчаткова аддзяліліся Верхняокскія княствы — Карачаўскае, Навасільскае і Тарускае[62]. У такіх маленькіх дзяржавах амаль не было магчымасці доўга захоўваць самастойнасць.

У адрозненне ад ВКЛ, тэрыторыя якога павялічвалася на ўсходзе вялікімі масівамі зямель, Вялікае Княства Маскоўскае задавальнялася на захадзе значна меншымі кавалкамі. У сярэдзіне XIV ст. маскоўскія князі набылі пэўныя ўладанні са складу Вялікага Княства Разанскага і Вярхоўскіх княстваў.

Да канца 40-х — пачатку 50-х гг. XIV ст., калі меркаваць па дамове вялікага князя Сямёна Іванавіча са сваімі братамі Іванам і Андрээм[63], Масква набыла воласць Забярэгу[64]. Як высвятляецца з духоўнай граматы князя Сямёна, Забярэга была куплена «оу Семена оу Новосильского»[65]. Гэта быў аскепак уладанняў чарнігаўскіх князёў, які захаваўся ў атачэнні мажайскіх, вяземскіх і разанскіх зямель. Знаходзілася Забярэга, зыходзячы з назвы, за ракой Бярэгай, прытокам верхняй Протвы, па левым яе боку[66]. Ю.В. Гацье звязаў воласць з паўсталым пазней Зарубежскім станам Мажайскага павета[67].

Забярэга склала толькі невялікі кавалак заходняй маскоўскай мяжы. А далей на паўднёвы ўсход мяжа гублялася сярод незасвоеных, амаль незаселеных «мест Рязаньских», якія былі далучаны да Масквы ў 50-х гг. XIV ст., а дагэтуль, калі меркаваць па назве, належалі Разані[68]. «А что ся мне достали места Рязаньская на сеи стороне Оки, и с тыхъ местъ дал есмь князю Володимеру, в Лопастны места, Новыи городокъ на оусть Поротли, а иная места Рязаньская отменная сыномъ моимъ, князю Дмитрью и князю Ивану, поделятся наполы, безъ обиды»[69]. Так у сваёй духоўнай грамаце вялікі князь маскоўскі Іван Іванавіч распавядаў пра абмен землямі паміж Маскоўскім і Разанскім княствамі. Мабыць, гэты абмен быў здзейснены дзесьці паміж вясной 1353 г. (смерць князя Сямёна Гордага і заняцце маскоўскага прастолу князем Іванам Красным)[70] і 1356 г. (час складання тэстамента гэтым князем)[71].

---

60 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 31—33.

61 Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы. С. 82, 98 і інш.

62 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 33.

63 Аб датаванні граматы гл.: Зимин А.А. О хронологии духовных и договорных грамот великих и удельных князей XIV—XV вв. С. 280, 322. Па А.А. Горскаму — паміж 1340 і 1348 гг. (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 150).

64 ДДГ. № 2. С. 12.

65 ДДГ. № 3. С. 14.

66 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 56, 58; Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV ст. Киев, 1895. С. 70.

67 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. Опыт исследования по истории экономического быта Московской Руси. М., 1906. С. 554.

68 ДДГ. № 4. С. 15, 18; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 150; Темушев В.Н. Приобретения московских князей в середине XIV в. «Иная места Рязаньская» // Славянский мир и славянские культуры в Европе и мире: место и значимость в развитии цивилизаций и культур (история, уроки, опыт, современность). Материалы международной научно-теоретической конференции. Ч. 1. Витебск, 2002. С. 18—21.

69 ДДГ. № 4. С. 15.

70 ПСРЛ. Т. 7. М., 2001. С. 217; Т. 18. С. 97; Т. 15. Стб. 76; Т. 25. С. 179. Кучкин В.А. К датировке завещания Симеона Гордого // Древнейшие государства на территории СССР. 1987 год. М., 1989. С. 99—107.

71 Зимин А.А. О хронологии духовных и договорных грамот великих и удельных князей XIV—XV вв. С. 281, 322.

З духоўнай граматы Івана Краснага мы не даведваемся пра падрабязнасці абмену і не бачым пераліку канкрэтных тэрыторый, атрыманых як Масквой, так і Разанню. Маскоўска-разанская даканчальная грамата 1381 г.[72] — першая дамова Масквы з Разанню, што захавалася да нашых дзён, — у пэўнай ступені праясняе сітуацыю. Як высвятляецца, да Масквы адышлі землі, якія месціліся на левым (маскоўскім) боку Акі, у ліку якіх былі «почен Новыи городок, Лужа, Верея, Боровескъ», а таксама «и иная места Рязанская»[73]. Разань жа атрымала землі на правым (разанскім) боку Акі, тое, «что доселе потягло къ Москве»[74].

Такім чынам, Масква набыла вялікую па плошчы тэрыторыю ўздоўж р. Протвы і па яе прытоках. Але, у выніку абмену, разанскія князі перадавалі Маскве далёка не ўсе землі вакол р. Протвы. Частка ўладанняў у гэтым раёне або наогул не належала Разані, або ўжо дагэтуль была маскоўскай.

Так, у дамове канца 40-х — пачатку 50-х гг. XIV ст. згадваецца княгіня Анна, «цётка» князя Сямёна Іванавіча. Яна «блаславіла» валасцямі Заячкавым, Цешавым і іншымі (якія не чытаюцца з-за дэфектаў граматы) князя Сямёна[75]. У сваёй духоўнай грамаце апошні называе яшчэ і Гардашэвічы[76]. Як высвятліў У.А. Кучкін, «цётка» Анна была дачкой князя Данілы Аляксандравіча, замужам за нейкім разанскім князем[77]. Менавіта праз княгіню Анну князь Сямён Горды і займеў частку атрыманых ёю разанскіх уладанняў.

Што тычыцца зноў «разанскіх месцаў», то да 1356 г. быў згаданы толькі адзін іх цэнтр — «Новыи городокъ на оусть Поротли»[78]. Да 1381 г. набываюць значэнне яшчэ тры цэнтры — Лужа, Вярэя і Баровеск[79]. Месцазнаходжанне ўсіх пунктаў вядома. Новы Гарадок (Гарадзец)[80], Бораўск, Вярэя размяшчаліся на р. Протве, Лужа знаходзілася ля р. Лужы, правага прытоку Протвы[81].

Паступова граматы маскоўскіх князёў пералічваюць усё большую колькасць валасцей, слабодак і сёл, якія ўзнікаюць ці ўпершыню згадваюцца на нядаўна далу-

---

[72] Аб датаванні граматы гл.: Зимин А.А. О хронологии духовных и договорных грамот великих и удельных князей XIV—XV вв. С. 286, 322; Кучкин В.А. Договорные грамоты московских князей XIV века. Внешнеполитические договоры. С. 245—249.

[73] ДДГ. № 10. С. 29.

[74] Тамсама.

[75] ДДГ. № 2. С. 12. У.А. Кучкін, аднаўляючы склад уладанняў княгіні Анны, называе воласці Заячкаў, Гардашэвічы, Вышгарад, Грэмічы, Рудзь, Крапіўну і Сушаў (Кучкин В.А. Княгиня Анна — тетка Симеона Гордого. С. 7—9).

[76] ДДГ. № 3. С. 13.

[77] Кучкин В.А. Княгиня Анна — тетка Симеона Гордого. С. 7—9. На думку А.А. Горскага, гэты разанскі князь — Аляксандр Міхайлавіч Пронскі (Горский А.А. Москва и Орда. С. 71; Ён жа. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 129).

[78] ДДГ. № 4. С. 15.

[79] ДДГ. № 10. С. 29.

[80] Новы Гарадок быў аддадзены Іванам Красным князю Уладзіміру Андрэевічу (ДДГ. № 4. С. 15.). У серпухаўскіх князёў горад заставаўся да канца існавання іх удзельнага княства. Яго месцазнаходжанне звязваецца з гарадзішчам Спас-Гарадзец непадалёку ад вусця Протвы (Археологическая карта России. Калужская область. М., 2006. С. 128—129).

[81] Лужа, напэўна, справядліва лічыцца старой назвай г. Малаяраслаўца. Гл.: Тихомиров М.Н. Список русских городов дальних и ближних // Исторические записки. М., 1952. Т. 40. С. 250; Юшко А.А. Московская земля IX—XIV веков. М., 1991. С. 138; Митрошенкова Л.В. К истории формирования Малоярославецкого уезда. С. 75—77.

чанай тэрыторыі. Так, ужо тэстамент вялікага князя Івана Краснага называе «село на Репне в Боровьсце»[82].

У дамове вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча з серпухаўскім князем Уладзімірам Андрэевічам 1371 г.[83] з'яўляюцца воласці: Вышгарад (на р. Протве)[84], Рудзь з Крапіўнаю (уздоўж рэк Рудзь і Крапівенка)[85], Сушаў (у раёне р. Сушкі)[86], Гардашэвічы (каля р. Лужы паблізу Малаяраслаўца)[87] і Грэмічы (раён на р. Протве на поўдзень ад Вярэі)[88].

І вось, нарэшце, у духоўнай грамаце Дзмітрыя Данскога з'явіліся новыя воласці, якія можна аднесці да тэрыторыі «разанскіх месцаў»: Халхол, Коржань (па р. Коржанцы)[89] і Мойшын Холм (месцазнаходжанне невядома). Дзве апошнія воласці былі «прыдадзены» да Мажайска, а першая пазначана як «ад'яздная»[90]. Такім чынам, мы сустракаемся з той тэрытарыяльнай адзінкай, згадванне якой звязана з падзеямі 1368 г. Трэба зазначыць, што дадзеная воласць атаясамліваецца даследчыкамі з пагостам Халхол (Халахолна), вядомага з граматы разанскага вялікага князя Алега Іванавіча ігумену Вольгава манастыра Арсенію (складзена прыблізна ў снежні 1370 г.)[91]. Між іншым, у самой грамаце 1370 г. ёсць спасылка на дакумент XIII ст.[92]. Менавіта там і пералічаны пагосты Пясочна, Халахолна, Заячыны, Вепрыя, Заячкаў[93]. Большасць пагостаў з адпаведнай назвай можна ўбачыць у «разанскіх месцах», якія набыла Масква ў сярэдзіне XIV ст. Пазней гэта — воласці і станы Малаяраславецкага і Бораўскага паветаў[94]. Але нельга быць да канца ўпэўненымі ў абсалютнай дакладнасці тэрытарыяльнай прывязкі ўсіх згаданых населеных пунктаў. Так, назва разанскага пагоста Халахолна робіць магчымай яго

---

82 ДДГ. № 4. С. 15. Сяло на Рэпне ў Бораўску атаясамліваецца з сялом Рэпенскім, якое знаходзілася на тэрыторыі сучаснага г. Обнінска (Митрошенкова Л.В. К истории формирования Малоярославецкого уезда. С. 82).

83 ДДГ. № 7. С. 23. Пра датаванне граматы гл.: Зимин А.А. О хронологии духовных и договорных грамот великих и удельных князей XIV—XV вв. С. 285, 322.

84 Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей как историко-географический источник // Записки императорского русского археологического общества. Т. XII. Вып. II. Новая серия. Кн. 5. СПБ., 1901. С. 161.

85 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 554; Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности (заселение и объединение Центра). Л., 1929. С. 57—58; Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV ст. С. 70.

86 Митрошенкова Л.В. К истории формирования Малоярославецкого уезда. С. 79.

87 Тамсама. С. 78—79.

88 Веселовский С.Б. Исследования по истории класса служилых землевладельцев. М., 1969. С. 221.

89 Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV ст. С. 70; Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 58.

90 ДДГ. № 12. С. 34.

91 Акты социально-экономической истории Северо-Восточной Руси конца XIV — начала XVI в. (далей АСЭИ). Т. 3. М., 1964. № 322. С. 351; Сборник Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. Ч. 1. М., 1913. С. 9.

92 Датуецца часам паміж 1219—1237 гг. (Романов Б.А. Изыскания о русском сельском поселении эпохи феодализма // Вопросы экономики и классовых отношений в Русском государстве XII—XVII вв. М.; Л., 1960. С. 350—352).

93 АСЭИ. Т. 3. № 322. С. 351.

94 Цветаев Д.В. Великий князь Олег Рязанский и его жалованная грамота Ольгову монастырю // Сборник Московского архива Министерства юстиции. С. 22.

лакалізацыю ў іншым рэгіёне, уздоўж р. Халахольні, левага прытоку Плавы, якая ўпадае з правага боку ва Упу.

Трэба заўважыць, што ў даравальнай грамаце 1371 г. Вольгаву манастыру на сяло Арэстаўскае князь Алег Іванавіч назваў шэраг пагостаў (Пясочна, Халахолна, Заячыны, Вепрыя і Заячкаў) у якасці разанскіх уладанняў[95]. Пры гэтым даследчыкі амаль адзінадушна змяшчаюць некаторыя з іх каля р. Протвы і яе прытокаў[96]. Гэта дало падставы расійскаму гісторыку А.І. Харужанку зрабіць выснову, што разанская воласць Халхол адышла да Масквы разам з землямі левабярэжжа («маскоўскага боку») Акі па ўмовах маскоўска-разанскага пагаднення 1382 г. Такім чынам, на час паходу Альгерда 1368 г. Халхол «быў яшчэ фармальна разанскай тэрыторыяй»[97]. Аднак, неабходна зазначыць, што дадзеныя аб 5 разанскіх пагостах трапілі ў даравальную грамату 1371 г. у складзе так званай актыкацыі, якая адносілася да XIII ст. (каля 1219 г.)[98]. І хаця князь Алег Разанскі абяцаў «боронити» тыя месцы, «што прадеди наши подавали» Вольгаву манастыру[99], частка іх яму ўжо не належала. Напрыклад, Заячкаў яшчэ ў канцы 40-х — пачатку 50-х гг. XIV ст. перайшоў ад княгіні Анны (жонка аднаго з разанскіх князёў) да маскоўскага князя Сямёна Іванавіча (гл. вышэй). Магчыма, сярод валасцей княгіні Анны, што засталіся невядомымі, былі і Вепрын, і Халахолна (Халхол)[100]. Таксама існуе магчымасць набыцця Масквой згаданых пагостаў-валасцей разам з іншымі «разанскімі месцамі» па абмене 1353—1356 гг. Такім чынам: у 1382, а дакладней, у 1381 г. (гэтым часам датуе маскоўска-разанскую дамову А.А. Зімін), верагодна, была толькі канчаткова замацавана сітуацыя з тэрытарыяльнымі ўладаннямі вакол Акі, якая склалася задоўга да гэтага.

Пакуль пакінем Халхол убаку, таму што высвятленне яго месцазнаходжання — асобная праблема.

Пералічаныя пункты мелі дачыненне да больш-менш асвоенага ядра «разанскіх месцаў», дзе падчас далучэння да Масквы існавалі такія цэнтры, як Бораўск, Лужа, Новы Гарадок і інш. Перыферыя былой разанскай тэрыторыі заставалася пустэчай. Верагодна, паміж разанскімі, смаленскімі землямі і ўладаннямі вярхоўскіх князёў пунктаў судакранання не існавала.

Уладанні князёў Абаленскіх на р. Протве і смаленскіх на р. Шані, Мядынцы і Воры ў сярэдзіне XIV ст., магчыма, яшчэ не сутыкаліся з маскоўскай тэрыторыяй. Актыўная

95 АСЭИ. Т. 3. № 322. С. 351.

96 Па р. Вяпрэйцы, прытоку Лужы — пагост Вепрыя; у раёне с. Таруціна на р. Нары — Заячкаў, у ніжнім цячэнні Протвы — Халахолну; Пясочну і Заячыны — па-за рэгіёнам, што разглядаецца. (Митрошенкова Л.В. Малоярославецкий уезд в конце XV—XVIII вв. (Историко-географическое исследование): Дис. ... канд. ист. наук: 07.00.02. М., 2004. С. 43—44; Яна ж. К истории формирования Малоярославецкого уезда. С. 78).

97 Хоруженко О.И. «Первая литовщина» в летописной статье 1368 г. Р. 35. Сам А.І. Харужанка прызнае, што згодна з летапісамі Халхол адносіўся да «порубежных пределов области Московскыя», а Масква задоўга да 1382 г. «стремилась обеспечить здесь свое военное присутствие» (Тамсама).

98 Датуецца часам паміж 1219—1237 гг. (Романов Б.А. Изыскания о русском сельском поселении эпохи феодализма. С. 350—352).

99 АСЭИ. Т. 3. № 322. С. 351.

100 Не толькі Халахолну, якая толькі па сугуччы атаясамліваецца з Халхолам, але і Вепрыю можна лакалізаваць у іншым месцы, з правага, «разанскага» боку Акі. Трохі вышэй г. Тарусы з правага боку ў Аку ўпадае р. Выпрэйка, вакол якой сфарміраваўся стан Вепрын, што цалкам супастаўляецца з пагостам Вепрыя.

дзейнасць маскоўскіх князёў на паўднёва-заходняй ускраіне Маскоўскага княства прывяла да таго, што паступова пад іх уладу перайшлі як некаторыя смаленскія ўладанні (Мядынь), так і аскепкі былых чарнігаўскіх зямель (Калуга і Рошча, Таруса, Алексін і г.д.). Мясцовыя землеўласнікі з роду чарнігаўскіх князёў паступілі на службу да вялікага князя маскоўскага (князі Абаленскія, частка Тарускіх і інш.).

Такім чынам, умоўная маскоўская мяжа праходзіла ад воласці Забярэгі на паўднёвы захад, паралельна р. Лужы, тэрыторыя вакол якой толькі пачынала асвойвацца маскоўскімі князямі. З левага боку заставаліся землі, якія належалі Мядыні — частцы Вялікага Княства Смаленскага, верагодна, яго Вяземскага ўдзелу[101]. У 1371 г. (або, на думку У.А. Кучкіна, у 1368 г.)[102] Мядынь была далучана да Масквы. Яе «вытягал боярин... Федоръ Аньдреевич [Свибло] на обчем рете... оу смолнян»[103].

Сама мядынская тэрыторыя была для таго часу, відаць, даволі невялікай. Гэта ў канцы XV ст. згадваюцца 8 мядынскіх валасцей[104], частка якіх была толькі што адарвана ад ВКЛ, а для XIV ст. Мядынь была толькі цэнтрам воласці. Мядынскія землі распасціраліся да р. Шані (левага прытоку Угры) і не дасягалі р. Угры, на левабярэжжа якой выходзілі смаленскія воласці[105]. Межы воласці на паўночным усходзе губляліся ў лясах і, магчыма, не дасягалі р. Лужы. Маскоўская мяжа на момант 1368 г., такім чынам, прасоўвалася далей на паўднёвы ўсход уздоўж р. Лужы і судакраналася з уладаннямі вярхоўскіх князёў. Тут, у раёне прытоку Угры Сухадрэва і прытокаў Акі Протвы і Тарусы знаходзіліся землі Навасільскага (у тым выпадку, калі яму належалі Калуга і Рошча)[106] і Тарускага (Таруска-Абаленскага) княстваў.

Тарускія князі паступова распрадавалі свае ўладанні[107]. Іх набылі і смаленскі князь Фёдар Святаславіч («Уезд Мстиславль» і інш. — перайшлі потым да Масквы і да 1381 г. былі абменены з Разанню)[108], і мітрапаліт Пётр (Алексін — каля 1390 г. абменены маскоўскім вялікім князем Васіліем І на слабаду Караш у Растоўскім княстве)[109], і, нават, маскоўскі баярын Аляксандр Перасвет (Перасветава купля)[110]. Урэшце, у 1393 г. вялікі князь Васілій І купіў у Ардзе ў Тахтамыша ярлык на Тарускае княства і тым самым набыў вярхоўную ўладу над тарускімі князямі, якія, аднак,

---

101 Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 146.

102 Кучкин В.А. Последнее завещание Дмитрия Донского // Средневековая Русь. М., 2001. Вып. 3. С. 143.

103 ДДГ. № 12. С. 34.

104 СИРИО. Т. 35. С. 119.

105 Темушев В.Н. Западная граница Великого княжества Московского к 1380 г. С. 95.

106 Так лічылі У.А. Кучкін, а за ім А.А. Горскі (Кучкин В.А. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой. С. 50—51. Прим. 135; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 150). М.К. Любаўскі сцвярджаў, што Калуга і Рошча належалі тарускім князям. Апошнія і прадалі свае ўладанні Дзмітрыю Данскому (Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 76).

107 Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 76; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 153—154; Темушев В.Н. Западная граница Великого княжества Московского к 1380 г. С. 95—96.

108 ДДГ. № 10. С. 29.

109 Веселовский С.Б. Феодальное землевладение в Северо-Восточной Руси. Т. 1. М.; Л., 1947. С. 376—377.

110 ДДГ. №. 16. С. 43; Кузьмин А.В. Андрей Ослябя, Александр Пересвет и их потомки в конце XIV — первой половине XVI века // Н.И. Троицкий и современные исследования историко-культурного наследия Центральной России. Т. II. Тула, 2002. С. 20—21.

працягвалі валодаць сваімі землямі[111]. Частка тарускіх князёў пасля гэтага перайшла на службу да вялікага князя літоўскага Вітаўта, які выдзеліў ім значныя ўладанні са складу карачаўскіх, казельскіх і бялёўскіх зямель[112]. Па цэнтры гэтых уладанняў — Мезецку (Мезочаску, Мяшчоўску) адна з галін тарускіх князёў атрымала прозвішча Мезецкіх.

З іншых тарускіх князёў — Абаленскія, на момант 1368 г., былі саюзнікамі Масквы. Нездарма Альгерд накіраваў свае войскі на Абаленск, дзе і быў забіты старэйшы тарускі князь Канстанцін Юр'евіч Абаленскі[113]. Існуе меркаванне, што наогул г. Абаленск на той час з'яўляўся сталіцай Тарускага княства[114]. Таму выправа Альгерда можа расцэньвацца як акцыя супраць усяго княства, якое арыентавалася на саюз з Масквой.

Уладары астатніх дробных удзелаў Тарускага княства (Канінскі, Мышагскі, Валконскі)[115], верагодна, вялі тую ж самую палітыку, што і князі Абаленскія[116]. Супольнасць дзеянняў тарускіх князёў замацоўвала асобая сістэма, згодна з якой усе прадстаўнікі роду мелі некаторыя ўладанні (дольніцы) у сталіцы княства. Гэтая сістэма, між іншым, не парушылася і пасля ўсталявання маскоўскай улады[117]. Аднак пазней частка тарускіх князёў (Валконскія) ад'ехала на перыферыю, непасрэдна ў свае вотчыны, потым страціла дольніцы ў Тарусе і недзе ў сярэдзіне XV ст. стала васаламі вялікага князя літоўскага[118].

Неабходна спыніцца на агульным аглядзе тэрыторыі ўсяго Тарускага княства (якім яно паўстае ў 1368 г.) і на больш падрабязным апісанні яго Абаленскага ўдзелу.

Уладанні тарускіх князёў у XIV ст. распасціраліся на абодва бакі р. Акі, у тым ліку на яе левыя прытокі Мышэгу, Тарусу, частку Протвы, правыя прытокі, Крушму, Вашану, сярэдняе цячэнне Упы і інш. Сталіца княства знаходзілася пры вусці р. Тарусы. Зараз гэта раённы цэнтр Калужскай вобласці Расіі. Да Тарусы належалі такія населеныя пункты, як Мышэга (на аднайменнай рацэ непадалёку ад яе вусця), Канін (сучасная вёска Спас-Коніна Алексінскага раёна Тульскай вобласці Расіі)[119], Валкона (Цімафееўскае гарадзішча на аднайменнай рацэ пры ўпадзенні яе ў р. Упу)[120] — усе цэнтры ўдзелаў. Амаль у цэнтры княства, каля ракі Акі, прыблізна з 1308—1326 гг. знаходзілася тэрыторыя, якая належала мітраполіі. Пазней на ёй паўстаў горад Алексін. Усходняя частка княства была адрэзана на карысць князя Фёдара Святаславіча. У 1368 г. ёй ужо, напэўна, валодала Разань.

---

[111] ПСРЛ. Т. 4. Ч. 1. Вып. 2. Л., 1925. С. 373; Т. 5. СПб., 1851. С. 245; Фетищев С.А. К вопросу о присоединении Муромы, Мещеры, Тарусы и Козельска к Московскому княжеству в 90-е гг. XIV в. // Российское государство в XIV—XVII вв. Сборник статей, посвященный 75-летию со дня рождения Ю.Г. Алексеева. СПб., 2002. С. 35—36, 38; Ён жа. Московская Русь после Дмитрия Донского: 1389—1395 гг. М., 2003. С. 117.

[112] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 47—56; Шеков А.В. Верховские княжества. С. 37.

[113] Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 154.

[114] Тамсама.

[115] Вылучыліся са складу Тарускага княства ўжо ў канцы XIII — пачатку XIV ст. (Шеков А.В. Верховские княжества. С. 56).

[116] У маскоўска-разанскіх дамовах першай паловы XV ст. тарускія князі выступаюць як «один человекъ» з вялікім князем маскоўскім (ДДГ. № 19. С. 53; № 33. С. 85; № 47. С. 144).

[117] Шеков А.В. Верховские княжества. С. 63.

[118] Тамсама. С. 63—64.

[119] Тамсама. С. 63.

[120] Тамсама. С. 52—53.

Абаленск стаяў крыху ўбаку ад асноўнага масіву Тарускага княства. Старажытны цэнтр удзельнага княства размяшчаўся на правым беразе ракі Протвы на паўночны захад ад Тарусы. Зараз гэта сяло Абаленскае[121], а сам горад не трэба блытаць з сучасным Абаленскам у Жукоўскім раёне Калужскай вобласці Расіі. Апошні паўстаў толькі ў 1975 г. як навуковы цэнтр мікрабіялогіі.

Тэрыторыя Абаленскага ўдзелу ўразалася ў знаёмыя нам «разанскія месцы» — на момант 1368 г. гэта былі ўжо маскоўскія ўладанні. Звестак пра зямельныя ўладанні князёў Абаленскіх у актавых крыніцах вельмі няшмат. Вядома, што, страціўшы княжацкія правы, князі Абаленскія даволі доўга ўтрымлівалі ў сваіх руках зямельныя ўладанні (на працягу XV—XVI і, нават, у XVII ст.)[122]. Але даведацца аб іх складзе даволі цяжка. Некаторую інфармацыю пра вотчыну князёў Абаленскіх даюць матэрыялы аб іх спрэчках з уладамі Троіца-Сергіева манастыра, зафіксаваныя ў актах[123]. Генеалагічныя звесткі ў суадносінах з геаграфічнай наменклатурай навакольных з Абаленскам мясцовасцей таксама карысныя для вывучэння тэрыторыі старажытнага Абаленскага княства. Так, напрыклад, у пісцовых кнігах Абаленскага павета 20-х гг. XVII ст. згадваецца сяло Спаскае Загор'е, якое належала князям Лыкавым і Кашыным. Іх агульным продкам быў князь Уладзімір Іванавіч Абаленскі, які жыў у сярэдзіне XV ст. Можна зрабіць выснову, што сяло Спаскае Загор'е — частка старажытнай вотчыны Абаленскіх[124]. Другі прыклад. Сярод князёў Абаленскіх вядомы Аляксандр Андрэевіч Тросценскі, унук загінуўшага ў 1368 г. Канстанціна Абаленскага[125]. Яго прозвішча, хутчэй за ўсё, паходзіць ад сяла Тросце, якое існуе дагэтуль і месціцца на поўнач ад р. Протвы, на прытоку апошняй — Аложы[126]. Да гэтага сяла і яго назвы трэба будзе яшчэ вярнуцца.

Такім чынам, у агульных рысах тэрыторыя Абаленскага княства займала прастору па абодвух баках р. Протвы, крыху не дасягала вусця апошняй на ўсходзе (тут ніжняе цячэнне Протвы кантраляваў маскоўскі Новы Гарадок) і сустракалася з супрацьлеглага боку з ніжнім цячэннем р. Лужы (на р. Протве каля вусця Лужы знаходзілася сяло Спаскае Загор'е). З поўначы і з поўдня абаленскія землі (для канца XV — XVI стст. — Абаленскі павет або Абаленскі стан розных паветаў)[127] абмяжоўвалі воласці Перадоль і Почап, якія з другой паловы XV ст. належалі Троіца-Сергіеву манастыру.

Зыходзячы з дадзеных аб геаграфіі Абаленскага княства, трэба было б пазначыць яшчэ адзін адрэзак маскоўскай мяжы 1368 г. як лінію, якая ішла да вусця р. Лужы, потым пакідала ўбаку частку зямель левабярэжжа р. Протвы (інакш уладанні Абаленскага княства) і замыкалася на вусці Протвы. Далей маскоўская мяжа ішла

---

121 Археологическая карта России (далей: АКР). Калужская область / Под общей редакцией Ю.А. Краснова. М., 1992. С. 129—130. Па здагадцы А.І. Харужанкі «во время "первой литовщины" Оболенск был разрушен и позднее не отстраивался заново, превратившись в село» (Хоруженко О.И. «Первая литовщина» в летописной статье 1368 г. Р. 36).

122 Кобрин В.Б. Власть и собственность в средневековой России. М., 1985. С. 59; Ён жа. Землевладельческие права княжат в XV — первой трети XVI в. и процесс централизации Руси // История СССР. № 4. 1981. С. 42.

123 АСЭИ. Т. 1. М., 1952. № 504. С. 382—383, 627, № 607. С. 505, 632, № 608. С. 515, № 609. С. 518, № 610. С. 519, № 681. С. 543; Шумаков С.А. Сотницы, грамоты и записи. Вып. III. М., 1904. С. 29—31.

124 Кобрин В.Б. Власть и собственность в средневековой России. С. 25.

125 Кобрин В.Б. Материалы генеалогии княжеско-боярской аристократии XV—XVI вв. М., 1995. С. 96.

126 А.І. Харужанка адзначыў, што назва Тросце замацавалася за сялом Пакроўскім, а старое сяло Тросце, вядомае па пісцовых матэрыялах XVII ст., зараз вядома як Пакроў (Хоруженко О.И. «Первая литовщина» в летописной статье 1368 г. Р. 37). Яно знаходзіцца трохі ніжэй па цячэнні р. Аложы ад сучаснага Тросця (Атлас Калужской области. Масштаб — в 1 см: 1 км. М., 2002. С. 22).

127 Кобрин В.Б. Власть и собственность в средневековой России. С. 27.

дакладна ўздоўж р. Акі. Такая яе працягласць была ўсталявана разанска-маскоўскай дамовай, складзенай паміж 1353—1356 гг. Маскоўскіх уладанняў на правябярэжжы Акі ўжо не было. А вось з правабярэжжам р. Протвы варта было б разабрацца. Там знаходзілася сяло (ці нават воласць) Почап, прыналежнасць якога на XIV ст. пакуль не высветлена. Вернемся да гэтага пытання пазней.

З захаду да Тарускага княства ў цэлым і з поўдня ад яго Абаленскага ўдзелу прымыкалі тэрыторыі валасцей (?) Калугі і Рошчы. Мы даведваемся аб іх маскоўскай прыналежнасці з духоўнай граматы Дзмітрыя Данскога 1389 г. Маскоўскі вялікі князь перадаваў «Колугу и Рощу» свайму сыну Андрэю[128]. Калі з'явіліся гэтыя ўладанні ў складзе Вялікага Княства Маскоўскага — дакладна невядома. Але пэўныя здагадкі даследчыкамі выказваліся.

У 1371 г. Альгерд накіраваў да канстанцінопальскага патрыярха Філафея ліст, у якім скардзіўся на дзеянні маскоўскага вялікага князя. Апошні дзевяць разоў нападаў на самога Альгерда і дрэнна абышоўся з яго сваякамі. Так, насуперак клятвенным абяцанням, быў захоплены цвярскі князь Міхаіл (швагер Альгерда); ніжагародскі князь Барыс (зяць Альгерда) быў сам захоплены, а княства ў яго адабралі, навасільскі князь Іван таксама пацярпеў: яго маці і жонку (дачку Альгерда) узялі ў палон, а княства паваявалі[129]. Нарэшце, «противъ своего крестного целования» ў літоўскага вялікага князя былі ўзяты наступныя гарады: Ржэва, Сішка, Гудзін, Асечан, Гарышана, Расна, Лукі Вялікія, Клічань, Усялук, Волга, Казлова, Ліпіца, Цесаў, Хлепень, Фамін Гарадок, Беразуеск, Калуга, Мцэнеск[130]. Ад Ржэвы да Волгі — гэта ўсё гарады, якія належалі да Ржэўскай зямлі (нават і Лукі Вялікія — цэнтр адной з ржэўскіх валасцей, яго не трэба блытаць з вядомымі Вялікімі Лукамі)[131]. Казлова (Казлоў) — адзін з цэнтраў Вяземскага княства[132]. Ліпіца і Цёсаў таксама лакалізаваны на тэрыторыі Вяземскага княства. Хлепень, Фамін Гарадок і Беразуеск былі рэзідэнцыямі дробных князёў так званага Фамінска-Беразуйскага княства[133].

Захоп пералічаных гарадоў, безумоўна, варта суаднесці з паходам маскоўскай і валацкай (Волака Ламскага) рацяў на «Смоленьскую волость» узімку 1369 г.[134]. А вось утрыманне Калугі і Мцэнска можна звязаць з карным паходам маскоўскага войска ў напрамку Бранска. Летам 1370 г. «князь велики Дмитрей Ивановичь събравъ воиньства много и посылалъ рать къ граду Бряньску»[135]. Да самога Бранска Дзмітрый Маскоўскі, відаць, не дайшоў, і больш пацярпела Навасільскае княства[136]. Менавіта да яго, з гэтай прычыны, гісторыкі і адносяць як Мцэнск, так і Калугу[137]. Адпаведна, часам далучэння Калугі, а таксама і Рошчы да Масквы лічыцца 1370 г.

---

128 ДДГ. № 12. С. 34.

129 Русская историческая библиотека. Т. 6. СПб., 1908. № 24. Стб. 136.

130 Тамсама. С. 138.

131 Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 64—65.

132 Тамсама. С. 69.

133 Тамсама. С. 66; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 140.

134 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 91.

135 ПСРЛ. Т. 11. С. 12; Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле // Куликовская битва. М., 1980. С. 152—153.

136 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 35.

137 В.Л. Янін прыводзіць здагадку, адпаведна з якой у лісце Альгерда згадваюцца не Мцэнск і Калуга, а смаленскія воласці Міцэнкі і Калугавічы (Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 69).

Намаляваная схема выглядае даволі праўдападобна. Толькі адзін маленькі недахоп робіць яе недасканалай. Фраза ў лісце Альгерда пра парушэнне маскоўскім уладаром «крестного целования»[138], пасля якога і адбыліся захопы гарадоў, была напісана невыпадкова. Дык вось упершыню дамову аб вечным міры, якая, безумоўна, была замацавана працэдурай цалавання крыжа, Альгерд з Дзмітрыем Маскоўскім заключылі толькі ў снежні 1370 г., г.зн. пасля вышэйапісаных падзей. Такім чынам, звязваць утрыманне Масквой Калугі з паходам у напрамку Бранска праз Навасільскае княства, магчыма, і нельга. Тады застаецца невядомым, каму спрадвечна належала Калуга і чаму на яе прэтэндаваў Альгерд.

У свой час М.К. Любаўскі прыводзіў аргументы наконт былой прыналежнасці нават Мцэнска не да Навасільскага, а да Карачаўскага княства[139] (а першае сцверджанне цяпер не выклікае пярэчанняў). А што тычыцца Калугі, дык прыведзены вышэй ускосны довад — адзіны для вызначэння яе месца сярод княстваў у вярхоўях Акі. Тым не менш іншых дадзеных даследчыкі не маюць.

Трэба заўважыць, што Альгерд у сваім лісце да патрыярха адзначыў менавіта горад Калугу[140], Дзмітрый жа Данскі ў сваім тэстаменце згадваў воласці Калугу і Рошчу. Тэрыторыі апошніх, верагодна, ахаплівалі прастору вакол рэчак Калужкі (левы прыток Акі) і Рошчы (левы прыток Тарусы). Абедзве воласці цягнуліся з поўначы на поўдзень прыкладна ад вядомага ўжо нам Почапа да р. Акі. Магчыма, тэрыторыя воласці Калугі падыходзіла да вусця р. Угры, якая ўпадае злева ў Аку. Заходняй мяжой валасцей можна дапусціць р. Сухадрэў (левы прыток Угры), а з усходу яны сутыкаліся з землямі Тарускага княства.

Такім чынам, за некаторым выключэннем (яшчэ не вызначана ўладальніцкая прыналежнасць Почапа), мы можам рэканструяваць маскоўскую мяжу напярэдадні паходу Альгерда і зрабіць выснову аб той тэрыторыі, якая лічылася памежнай і магла быць абрабавана ў першую чаргу на пачатку баявых дзеянняў 1368 г. Можна з упэўненасцю сцвярджаць пра няўстойлівы характар памежнай лініі, яе адсутнасць як такой на даволі вялікай працягласці. Мяжа толькі пачынала фарміравацца, яе умоўным пазначэннем на паўднёвым захадзе Маскоўскага княства была паласа незасвоенай лясной зоны, якая працягнулася з правага боку ад ракі Лужы да самога яе вусця. Далей на нейкай адлегласці мяжа ішла ўздоўж р. Протвы[141], потым адрывалася ад яе на левы бок (на поўнач), каб вярнуцца да вусця Протвы, дзе знаходзіўся маскоўскі Новы Гарадок. Напад Альгерда зведалі, без сумневу, землі ў гэтым рэгіёне — так званыя «разанскія месцы», зусім нядаўна далучаныя да Масквы. Да іх належала і воласць Халхла, праз якую літоўскае войска рухалася да Абаленска і, нарэшце, дасягнула р. Тросны, дзе разбіла маскоўскі полк.

Заўважым, што акрамя няпэўных прэтэнзій Альгерда на Калугу, ніякіх іншых тэрытарыяльных супярэчнасцей паміж Масквой і Вільняй у гэтым рэгіёне ў той час не існавала, як не існавала і агульнай мяжы паміж дзвюма дзяржавамі.

З улікам размеркавання зямель паводле ўладальніцкай прыналежнасці і адносін да вялікага князя літоўскага набліжэнне літоўска-смаленска-цвярскога войска ў 1368 г. да маскоўскіх паўднёва-заходніх меж можна дапусціць па трох напрамках: 1) праз тэрыторыю Смаленшчыны і ўладанні так званых вярхоўскіх князёў (карачаўскіх і навасільскіх), магчыма, уздоўж р. Угры; 2) ад Бранска, які належаў ВКЛ і, таксама, праз Вярхоўскія княствы; 3) непасрэдна праз тэрыторыю

138 Русская историческая библиотека. Т. 6. № 24. Стб. 136.

139 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 52—53.

140 Большасць пералічаных у лісце «гарадоў» на самой справе былі толькі валаснымі цэнтрамі.

141 Да левага боку р. Протвы прымыкалі воласці Перадол і Угота. Пра іх гл. далей.

Смаленскага княства, з Вязьмы на раён Мядыні і далей на маскоўскія ўладанні вакол ракі Протвы і яе прытока Лужы. Наяўнасць у альгердавым войску смаленскай раці рабіла магчымым беспярашкоднае і, галоўнае, скрытнае перамяшчэнне па тэрыторыі Вялікага Княства Смаленскага. Але не трэба забывацца аб тым, што таксама і навасільскі князь быў саюзнікам Альгерда.

Паводле некаторых звестак ствараецца ўражанне, што канчатковы збор і падрыхтоўка да баявых дзеянняў саюзнага войска ажыццяўляліся каля горада Любуцка.

Наступны напад Альгерда на Маскву (лістапад-снежань 1370 г.) быў зроблены як дапамога цвярскому князю Міхаілу, які зноў быў вымушаны ўцячы ў ВКЛ, і адбыўся ў іншым рэгіёне (у напрамку Волак Ламскі — Масква)[142]. Такім чынам, у свой другі паход («другая літоўшчына»)[143] Альгерд пайшоў на Маскву з поўначы. У той жа час у Маскве праціўніка, хутчэй за ўсё, зноў чакалі з поўдня. Аб гэтым, напрыклад, сведчыць размяшчэнне моцнага маскоўскага войска на чале з князем Уладзімірам Андрэевічам у Перамышлі (на р. Мочы), на поўдзень ад Масквы («князь Володимеръ Андреевичь събрався съ силою и стояше въ Перемышле, ополчився»)[144]. На дапамогу Маскве да Перамышля рушыў таксама пронскі князь Уладзімір Дзмітрыевіч з усёй разанскай рацію. Наяўнасць пагрозы вымусіла Альгерда пайсці на заключэнне мірнага пагаднення. Аднак, паводле легенды, якая ўзнікла на прасторах ВКЛ, гэта сам Дзмітрый Маскоўскі паспяшаўся выехаць з-за маскоўскіх муроў насустрач Альгерду, прынёс яму дары і замірыўся. У знак перамогі вялікі князь літоўскі «копие свое к городу приклонил»[145]. Мірныя адносіны былі замацаваны шлюбам дачкі Альгерда Алены з князем Уладзімірам Андрэевічам[146].

І вось у 1372 г. войскі ВКЛ на чале з Альгердам зноў з'явіліся на поўдні ад маскоўскіх уладанняў. Паводле летапісу: «Того же лета, месяца июля въ 12 день, князь великий Михайло поиде съ Твери ратию, и совокупися со Олгердомъ подъ Люботьскомъ; а съ Москвы прииде противь князь великий Дмитрей»[147]. І гэтым разам справа таксама скончылася мірным пагадненнем.

Як бачым, маскоўскія ўлады адрэагавалі даволі хутка і, пакуль войскі ВКЛ і Вялікага Княства Цвярскога збіраліся каля Любуцка, да горада ўжо паспелі падысці маскоўскія сілы. Апошнія нават разбілі вартаўнічы атрад Альгерда («Москвичи изгониша сторожевый ихъ полкъ Олгирдовъ и побиша»)[148], і толькі шырокі яр, які падзяляў войскі, спыніў пачатак вялікай бітвы.

У 1396 г. падчас вайны з Вітаўтам Любуцк браў у аблогу Алег Разанскі, але вялікі князь маскоўскі Васілій I «посла к нему и отведе его от Любутьска»[149]. Пасля гэтага адбыўся вялікі паход Вітаўта на Разань.

Летам 1402 г. сын Алега Разанскага Радаслаў ішоў паходам да Бранска, а каля Любуцка яго сустрэла група літоўскіх князёў, разбіла яго войскі, а самога ўзяла ў палон[150].

Як бачым, у другой палове XIV — пачатку XV ст. Любуцк быў своеасаблівым месцам збору войскаў і пачатку ваенных дзеянняў. Здаецца, што такую ролю ён стаў

142 ПСРЛ. Т. 11. С. 14; Т. 15. Стб. 94, 430; Т. 25. С. 186.

143 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 92.

144 Тамсама.

145 ПСРЛ. Т. 17. М., 2008. С. 379.

146 ПСРЛ. Т. 11. С. 15, 17.

147 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 433.

148 ПСРЛ. Т. 11. С. 19.

149 ПСРЛ. Т. 25. С. 227.

150 Тамсама. С. 231.

адыгрываць невыпадкова. Існуе меркаванне, што Любуцк з наваколлем былі часткай Бранскага княства, эксклавам у атачэнні Навасільскага і Тарускага княстваў. Любуцкімі землямі быццам працягвалі валодаць князь Раман Міхайлавіч пасля выгнання яго з Бранска і некаторы час — яго нашчадкі[151]. Аднак, калі прыняць гіпотэзу аб уваходжанні Любуцка ў склад Бранскага княства, пагадзіцца з яго адарванасцю ад асноўнага масіву княства пасля далучэння да ВКЛ нельга. Пастаяннае выкарыстанне Любуцка ў ваенных дзеяннях уладамі ВКЛ робіць верагоднай выснову аб яго адпаведнай прыналежнасці[152]. Такім чынам, магчыма, яшчэ з другой паловы 50-х гг. XIV ст. на Ацэ, зусім побач з маскоўскімі ўладаннямі, хаця і не ў прамым кантакце з імі, паўстала літоўскае ўладанне[153].

Варта яшчэ адзначыць, што Любуцк знаходзіўся на правым беразе р. Акі пры вусці р. Любуткі. Цяпер ён вядомы як гарадзішча каля вёскі Троіцкай (Любуцкае гарадзішча) у Ферзікаўскім раёне Калужскай вобласці Расіі[154]. У свой час гэта быў сапраўды горад са сваім пасадам[155], баярствам[156] і сістэмай прыналежных валасцей[157].

Такім чынам, існуе пэўная верагоднасць, што ў паходзе 1368 г. Альгердава войска сканцэнтравалася каля Любуцка, а потым рушыла праз р. Аку на тэрыторыю Вялікага Княства Маскоўскага (праўда, неабходна было яшчэ перайсці праз тарускія ўладанні).

З пазначаных вышэй варыянтаў маршруту паходу Альгерда 1368 г. два першыя павінны былі мець прамежкавым пунктам Любуцк. Больш верагодны варыянт пазначаны бліжэй да р. Угры і, адпаведна, Смаленскага княства. Падаецца, што было больш складаным і немэтазгодным весці войскі аж да Бранска, а потым пераадольваць вялікую адлегласць да Любуцка. З другога боку, выкарыстанне базы на Ацэ ў падзеях 1368 г. — толькі здагадка, і яшчэ адзін прапанаваны шлях непасрэдна праз глухія раёны Смаленскага княства па-ранейшаму заслугоўвае ўвагі.

Як бы там ні было, войска на чале з Альгердам уступіла ў маскоўскія межы і пачало ваяваць наваколле. Даставалася новым маскоўскім уладанням з ліку так званых «разанскіх месцаў». Так, адна з іх валасцей — Халхла — апынулася на шляху Альгерда. Выпадкова ў ёй знаходзіўся маскоўскі службовы князь Сямён Дзмітрыевіч Старадубскі-Крапіва[158]. Ён, магчыма, выконваў абавязак аховы маскоўскага памеж-

151 Кузьмин А.В. Верховские княжества // Большая Российская Энциклопедия. М., 2006. Т. 5. С. 197.

152 М.К. Любаўскі лічыў, што Любуцк быў першапачаткова разанскім уладаннем (Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 51—52).

153 Кароткі час у канцы XIV — пачатку XV ст. Любуцкам магла валодаць Масква (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 150—152).

154 АКР. Калужская область. С. 232—233; Болдин И.В. Археологическое исследование городища летописного Любутска (по материалам раскопок 2000 г.) // Дмитрий Донской и эпоха возрождения Руси. События, памятники, традиции. Тула, 2001. С. 24—29.

155 АКР. Калужская область. С. 233—234.

156 У 1408 г. сярод літоўскай знаці, якая перайшла служыць да маскоўскага вялікага князя, былі і любуцкія баяры (ПСРЛ. Т. 25. С. 237).

157 У канцы XV ст. у крыніцах згадваюцца любуцкія воласці ў множным ліку (СИРИО. Т. 35. С. 37).

158 Ён быў сынам старадубскага князя Дзмітрыя Фёдаравіча (памёр летам 1355 г.), уладара маленькага Старадубскага княства ў сярэднім цячэнні р. Клязьмы. Пасля Дзмітрыя ў Старадубе правіў яго малодшы брат Іван, а ў 1363 г. гэты апошні быў сагнаны з пасады маскоўскім войскам і замест яго стаў правіць яшчэ адзін брат — Андрэй, прыхільнік маскоўскай палітыкі (Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV вв. М., 1984. С. 263). Лічыцца, што з гэтага часу Старадубскае княства было пазбаўлена самастойнасці і пасля ўвайшло ў склад Вялікага Княства Маскоўскага (Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 66; Кобрин В.Б. Землевладельческие права княжат в XV — первой трети XVI в. и процесс централизации Руси. С. 40).

жа, але, безумоўна, прыход вялікага варожага войска быў для яго нечаканым. Князь Сямён «на стрече» быў забіты Альгердам[159], што сведчыць аб імклівым нападзе на старадубскага князя, які не паспеў аказаць супраціву[160].

Месцазнаходжанне воласці Халхла дагэтуль свядома намі не вызначалася. Даследчыкі змяшчалі яе вакол рэчкі Халхол, якая нібыта злева ўпадае ў Протву непадалёку ад маскоўскага Новага Гарадка[161]. Але насамрэч з левага боку Протвы такой рэчкі няма. Аўтар дадзенай працы адмовіўся ад пошуку няўлоўнага геаграфічнага арыенціру і больш уважліва прасачыў даступныя крыніцы.

Прагляд матэрыялаў XVII ст. па сумежных з р. Протвай раёнах прывёў да выяўлення Халхоўскага стана «в Ерославецком уезде Малого»[162]. Да яго належала пустка Казанава, якую, безумоўна, зараз на карце знайсці немагчыма. Халхоўскі стан існаваў і ў XVIII ст.[163] і, што мае большае значэнне, адшукаўся ў XVI ст.[164]. Больш таго, высветлілася, што знаёмае ўжо нам сяло Почап належала менавіта да гэтага стана (воласці)!

Як Почап, так і Перадол, а таксама і яшчэ адно сяло (воласць) — Ілемна — складалі масіў уладанняў Троіцкага манастыра на паўднёвым захадзе Вялікага Княства Маскоўскага (у Вярэйскім і Малаяраславецкім паветах).

Манастырская вотчына фарміруецца ў другой палове XV ст. Каля 1466—1467 гг. ад вялікага князя Івана III была атрымана воласць Ілемна (уздоўж рэк Руці — правы прыток Протвы — і Бычка — прыток Руці)[165]. На поўначы тэрыторыя воласці ўпіралася ў лясы (Сасноўскі і інш.)[166], на захадзе, верагодна, яе мяжой была р. Лужа, на поўдні і ўсходзе яна сутыкалася, адпаведна, з валасцямі Бубол (пазней Бабольскі стан, па р. Бабольскай)[167] і Рудзь (па р. Руць)[168]. Цэнтрам воласці было сяло Троіцкае (Ілемны).

---

159 ПСРЛ. Т. 15. Стб. 89, 429; Т. 25. С. 185.

160 С.Л. Кінеў, наадварот, лічыць, што факт забойства князя «на стрече» «говорит о том, что имело место правильное сражение» (Кинев С.Л. Битва на Тростне: опыт интерпретатации событий в русском летописании. С. 207).

161 Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV ст. С. 70; Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 58; Романов Б.А. Изыскания о русском сельском поселении эпохи феодализма. С. 353; Хоруженко О.И. «Первая литовщина» в летописной статье 1368 г. Р. 34—35.

162 Боровский уезд в XVII в. (Материалы дозора 1613 г.). М., 1992. С. 74.

163 У даравальнай грамаце імператрыцы Елізаветы Пятроўны Троіца-Сергіевай лаўры на ўсе прыпісныя манастыры і вотчыны ад 11 чэрвеня 1752 г. згадваюцца «в Ярославецком Уезде Малаго, в Холховском стана село Почеп» і «в Угоцкой волости село Передол» з пералікам усіх вёсак, што належалі да іх (Горский А.В. Историческое описание Свято-Троицкия Сергиевы лавры. М., 1890. С. 152). Большасць вёсак сяла Почап лакалізуецца на ваенна-тапаграфічнай карце Калужскай губерні 1850 г. (Военно-топографическая карта. Калужская губерния. 1850. 3 версты в дюйме. Ряд 13. Лист 14). На сучаснай карце мы не ўбачым нават самога сяла, а з вёсак адшукваюцца толькі дзве, адна з іх нежылая (Атлас Калужской области. С. 36).

164 Сёлы Троіца-Сергіева манастыра Перадол («в Уготе село Передоль») і Почап («въ Хохле село Почапъ») у 1537 г. былі прыпісаныя да Малога Яраслаўца для адбывання зелійнай павіннасці (Дьяконов М. Акты, относящиеся к истории тяглого населения в Московском государстве. Вып. II. Грамоты и записи. Юрьев, 1897. № 19. С. 8).

165 АСЭИ. Т. I. № 257. С. 185—187, № 342. С. 250. Заўв. на с. 616, № 366. С. 268, № 378. С. 275; Шумаков С.А. Сотницы (1537—1597 гг.), грамоты и записи (1561—1696 гг.). Вып. 1. М., 1902. № V. С. 52—55, № XLVI. С. 173—178; Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 554.

166 Холмогоровы В. и Г. Исторические материалы о церквах и селах XVI—XVIII вв. Вып. 11. М., 1911. С. 93.

167 АСЭИ. Т. I. № 257. С. 185—187.

168 Тамсама. № 378. С. 275.

Яшчэ раней (у 1458—1459 гг.) Троіцкі манастыр стаў уладальнікам дзвюх валасцей Малаяраславецкага ўезда[169]. Почап і Перадол былі дадзены троіцкім старцам княгіняй Анастасіяй, дачкой маскоўскага вялікага князя Васілія Дзмітрыевіча, якая атрымала пэўныя зямельныя ўладанні ў пасаг, калі ў 1417 г. выходзіла замуж за кіеўскага князя Алельку Уладзіміравіча[170]. І.А. Галубцоў, складальнік каментароў да актаў сацыяльна-эканамічнай гісторыі Паўночна-Усходняй Русі, зазначыў, што і Почап, і Перадол месціліся там, дзе зараз існуе сяло Перадол[171]. Аднак насамрэч абедзве воласці былі падзелены вотчынамі князёў Абаленскіх. Між іншым, гэта суседства выклікала пэўныя супярэчнасці паміж землеўласнікамі, што адлюстравана ў актавых матэрыялах, якія дайшлі да нашага часу.

Як бачым, нягледзячы на наяўнасць некаторай колькасці геаграфічных звестак, спроб дакладнай лакалізацыі воласці Халхол дагэтуль зроблена не было. Пастаянная спасылка на неіснуючую з левага боку р. Протвы рэчку Халахоленку або змяшчэнне воласці побач з Перадолам нельга прызнаць здавальняючымі.

Цікава, што сяло Почап існавала яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. і магло быць знойдзена даследчыкамі разам з усімі сваімі вёскамі. Яно знаходзілася на р. Ічы (правы прыток Протвы), а яго вёскі — у асноўным на захад ад сяла. Якое ж было здзіўленне аўтара гэтай кнігі, калі побач з сялом Почап нечакана знайшлася рэчка Халахоўка — **правы** прыток ракі Протвы!

У канцы XV ст. Почап і Перадол робяцца аб'ектамі пільнай увагі манастырскіх улад, вялікакняжацкай і ўдзельнай маскоўскай адміністрацыі. Вярэйска-белазёрскі князь Міхаіл Андрэевіч прыблізна ў 1484—1485 гг. арганізаваў межаванне сваіх Рэпенскай і Угоцкай зямель з манастырскай Перадольскай зямлёй. Дзякуючы гэтаму мы даведваемся пра тэрыторыю воласці Перадол, якая абапіралася на р. Протву з паўночнага захаду, а з іншага боку заходзіла за р. Дырачную (Дзірачну), на якой стаяў цэнтр уладання[172].

Спрэчкі з князямі Абаленскімі выяўляюць плошчу воласці Почап. Манастырскія ўладанні знаходзіліся ў вельмі шчыльным кантакце з вотчынамі Абаленскіх (Алтухоўскай і Шэбанаўскай землямі, Хазнікоўскім сяльцом)[173] з правага боку р. Ічы. Нават калі дадаць да Почапа тыя вёскі, што вядомы ў ім у XVIII ст., складваецца ўражанне, што сама воласць была вельмі маленькая. На жаль, не ўдалося знайсці сяло Ражкова, якое з боку тарускага рубяжа аддзяляла гэтае ўладанне князя Васілія Іванавіча Шамячыча ад Почапскай зямлі[174].

Першыя звесткі аб ўваходжанні сяла Почап у Халхол адносяцца да 1537 г. Магчыма, дагэтуль сяло з'яўлялася цэнтрам асобнай воласці і толькі пасля было далучана да суседняй тэрытарыяльнай адзінкі. Таксама маленькай была воласць Перадол. І вось у XVI ст. мы бачым яе ў складзе Угоцкай воласці. Між іншым, у гэтым другім выпадку нам дакладна вядома, што апошняя існавала асобна ад Перадола. Такім чынам, такая ж гісторыя, відаць, адбылася і з Почапам. Тым не менш падаецца дзіўным, што землі, якія па-ранейшаму заставаліся ўладаннямі Троіцкага манастыра, паўсталі часткамі ў адміністрацыйных адзінках суседзяў. Аднак гэта былі ўжо не воласці, а станы, а апошнія цалкам адрозніваліся ад старажытных фарміраванняў, якімі былі першыя.

---

[169] АСЭИ. Т. І. № 279. С. 200.

[170] Тамсама. Камент. на с. 613.

[171] Тамсама.

[172] Тамсама. № 504. С. 382—384, № 608. С. 515.

[173] Тамсама. № 607. С. 505, № 609. С. 518, № 610. С. 519.

[174] Тамсама. № 659. С. 584.

Населеныя пункты стана (дакладней, сукупнасць яго населеных мясцовасцей і пустак) не былі аб'яднаны агульнай арганізацыяй, належалі розным уладальнікам на розным праве і складалі адзінае цэлае толькі ў тэрытарыяльным сэнсе. У сваёй большасці станы былі раней валасцямі, але іх абшчыннае ўладкаванне паступова распалася ў выніку зямельных раздач служылым людзям і духоўным установам. Аб'ядноўвала станы толькі адно — падаткавая арганізацыя[175]. Такім чынам, абшчынны падзел на валасці быў заменены адміністрацыйным — на станы[176]. Такая ўнутраная змена адбывалася нават тады, калі ў назве тэрытарыяльнай адзінкі захоўвалася слова «воласць». У нашым выпадку, актуальна, відаць, іншая сітуацыя, калі адміністрацыйны падзел падпарадкаваў сабе абшчынны. Гэта значыць, у склад стана ўвайшла група валасцей[177].

Варта заўважыць, што ўладанні Троіца-Сергіева манастыра не складалі адзінага комплексу зямель, усе яны былі раскіданы ў раёне р. Протвы і яе прытока Лужы. Дзякуючы сваёй велічыні воласць Ілемна цалкам пераўтварылася ў стан, іншыя манастырскія валасці — Перадол і Почап — былі аб'яднаны з суседнімі тэрытарыяльнымі адзінкамі. Вельмі маленькай уяўляецца воласць Почап. Яна ўвайшла ў склад валасці (стана) Халхол.

Такім чынам, мы вымушаны зрабіць крок назад і адмовіцца ад прыналежнасці Почапа да тэрыторыі старажытнай валасці Халхол. Але вызначэнне тэрыторыі Почапа дакладна маркіруе месца Халхола, робіць больш пераканаўчай выснову аб яе лакалізацыі менавіта з правага боку р. Протвы.

У выніку трэба канстатаваць, што тэрыторыя старажытнай валасці Халхол змяшчалася на ўсход ад Почапа на р. Ічы і ўключала ў сябе лясную прастору паміж рэкамі Протвай і Тарусай[178]. Аднак месца вакол саміх гэтых рэк воласць саступала вотчынам князёў Абаленскіх з поўначы і тарускім землям з поўдня. Магчыма, толькі пры вусці р. Халахоўкі тэрыторыя валасці дасягала р. Протвы і злучалася там з маскоўскімі ўладаннямі. Крыху ўбаку, таксама на правым беразе Протвы, размяшчаўся маскоўскі Новы Гарадок (гарадзішча каля сяла Спас-Гарадзец, якое сёння не існуе)[179]. Такім чынам, заняўшы вусце Протвы, Масква ўжо з сярэдзіны XIV ст. кантралявала ўсё цячэнне гэтай ракі.

Больш таго, воласць Халхол фактычна адразала ўладанні князёў Абаленскіх ад асноўнага масіву Тарускага княства (вядома, у выпадку, калі Калуга і Рошча не належалі Тарусе). Пасля далучэння да Масквы Калугі Абаленскае княства ўжо дакладна апынулася ў атачэнні маскоўскіх зямель.

---

[175] Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 96—97.

[176] Лаппо-Данилевский А. Организация прямого обложения в Московском государстве со времен смуты до эпохи преобразований. СПб., 1890. С. 83; Лаппо И.И. Тверской уезд в XVI веке. Его население и виды земельного владения (Этюд по истории провинции Московского государства). М., 1893. С. 16.

[177] Лаппо-Данилевский А. Организация прямого обложения в Московском государстве. С. 85.

[178] Да тэрыторыі старажытнай валасці А.І. Харужанка аднёс сяло Льгова на р. Тулогме (на самой справе — Тулоўне), якое існуе і цяпер і размешчана крыху на паўднёвы захад ад вытока р. Халахолкі (Хахлы, Халхолы) (Хоруженко О.И. «Первая литовщина» в летописной статье 1368 г. Р. 35; Атлас Калужской области. С. 36—37).

[179] АКР. Калужская область. С. 128—129; Тихомиров М.Н. «Список русских городов дальних и ближних». С. 250. Л.В. Мітрашэнкава ў спецыяльным даследаванні, прысвечаным гісторыі фарміравання Малаяраславецкага павета, заўважыла, што Новы Гарадок знаходзіўся на ўсход ад Халахольны. Але нават простай арыентацыі (правы ці левы бок р. Протвы) наконт валасці і горада гісторыкам адзначана не было (Митрошенкова Л.В. К истории формирования Малоярославецкого уезда. С. 79). Калі ж улічваць, што Новы Гарадок часам таксама змяшчаўся даследчыкамі на левым боку р. Протвы, то можна здагадацца і пра адпаведна недакладную лакалізацыю Л.В. Мітрашэнкавай валасці Халхол (Гл., напрыклад: История Москвы с древнейших времен до наших дней: В 3 т. Т.1. XII—XVIII века. М., 1997. Карта У.А. Кучкіна на с. 50).

У сувязі з вызначэннем месцазнаходжання воласці Халхол патрэбна пэўная карэкціроўка адзначанай вышэй паўднёва-заходняй маскоўскай мяжы. Яна ішла на некаторай адлегласці не толькі паралельна р. Протве на левым боку (поўначы) ад яе, але і рабіла ў самым ніжнім яе цячэнні рэзкі паварот на правы бок. З правага боку ад вусця Протвы маскоўская мяжа набывала стабільны характар і вызначалася далей на вялікай адлегласці натуральнай лініяй р. Акі.

Непасрэдна на пазначаны выступ у глыбіню Тарускага княства — тэрыторыю воласці Халхол — амаль адразу ж трапіў са сваім войскам Альгерд, калі пачаў ваяваць маскоўскія памежныя месцы. Адгэтуль недалёка было ісці да Абаленска (15—20 км). А вось ад апошняга, відаць, недалёка было і да р. Тросны, дзе адбылася знакамітая бітва.

Наконт таго, дзе ж войска Альгерда сустрэла вартавы маскоўскі полк, існуе тры меркаванні. Найбольш распаўсюджаны погляд, адпаведна з якім месца бітвы адносіцца да рэчкі Тросценкі (Тростні), якая ўпадае ў Тросценскае возера (Тросцянае, Тростна)[180]. Вакол возера пашыралася тэрыторыя воласці Тросны[181], вядомай з самай першай граматы вялікіх князёў маскоўскіх — духоўнай Івана Каліты (каля 1339 г.)[182]. У агульным уяўленні гэта быў рэгіён паміж маскоўскімі гарадамі Рузай і Звянігарадам, з левага боку ад ракі Масквы. Ад яго было недалёка да наўгародска-маскоўскага сумеснага ўладання Волака Ламскага або цвярскога Кліна. Трошкі на поўнач ад р. Тросценкі якраз і праходзіў шлях з Масквы (Волацкая дарога)[183].

Такім чынам, калі б Масква чакала нападу з боку Цверы або Смаленска (шлях ад Волака Ламскага ішоў да цвярскога Зубцова і спрэчнай паміж Масквой і Вільняй Ржэвы, а далей — у Наўгародскую зямлю або Смаленскае княства) — месца для вартаўнічага палка ў раёне р. Тросценкі было б ідэальным[184]. Але якраз у актуальнасці абароны заходняга ад Масквы напрамку існуюць пэўныя сумненні. У Маскве даведаліся аб прыходзе Альгерда толькі тады, калі ён ужо пачаў спусташаць яе памежныя месцы. Аб гэтым сведчаць усе летапісы. Напрыклад, у найбольшай ступені пазбаўлены тэндэнцыйнасці цвярскі летапіс перадаваў падзеі такім чынам: «И то слышавъ князь великий Дмитрей Олгирда приближающася къ собе, разосла грамоты по градомъ, и повеле въскоре силамъ многымъ быть къ собе; и ничтоже успеша събрати силы, занеже въскоре. И отпусти князь великий заставу противу Олгирда»[185]. І навошта тады было дасылаць войска не насустрач ворагу, а ў супрацьлеглы ад яго бок? І яшчэ адно. Навошта спатрэбілася Альгерду шукаць сустрэчы з маскоўскай заставай, якая знаходзілася так далёка, што аніяк не магла замінаць яму ісці беспарашкодна аж да Масквы?

---

[180] Карамзин Н.М. История государства Российского в 12-ти томах. Т. V. С. 15, 228; Соловьев С.М. Сочинения. Кн. II. Т. 3—4. История России с древнейших времен. С. 381; Тихомиров М.Н. Древняя Москва. XII—XV вв.; Средневековая Россия на международных путях. XIV—XV вв. С. 86.

[181] Писцовые книги Московского государства. Ч. I. Отделение II. СПб., 1877. С. 695—709; ДДГ. № 95. С. 384; Акты феодального землевладения и хозяйства XIV—XVI вв. (далей: АФЗХ). Ч. 1. М., 1951. № 16. С. 36—37, № 105. С. 100; Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей... С. 150—151; Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 34; Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 562; Веселовский С.Б. Феодальное землевладение в Северо-Восточной Руси. С. 358.

[182] ДДГ. № 1. С. 7, 9.

[183] Тихомиров М.Н. Средневековая Москва в XIV—XV веках. М., 1957. С. 137, 138, 142; Ён жа. Древняя Москва. XII—XV вв.; Средневековая Россия на международных путях. XIV—XV вв. С. 41.

[184] Шлях на Смаленск праз Мажайск і Вязьму (Мажайская дарога) набыў значэнне толькі ў XVI ст., таму абараняць яго не было мэтазгодна (Тихомиров М.Н. Древняя Москва. XII—XV вв.; Средневековая Россия на международных путях. XIV—XV вв. С. 246).

[185] ПСРЛ. Т. 15. Стб. 429.

Калі ўсё ж пагадзіцца з, умоўна кажучы, рузска-звянігародскай лакалізацыяй месца Тросненскай бітвы, то трэба прызнаць, што напад Альгерда загадзя чакаўся маскоўскімі ўладамі менавіта з цвярскіх або суседніх смаленскіх зямель. Каб абараніць гэты напрамак, у раён р. Тросні і быў дасланы вартаўнічы полк. Аднак гэтая абстракцыя не вытрымлівае аніякай крытыкі.

Можна таксама дапусціць варыянт нападу з двух бакоў — цвярскога войска з паўночнага захаду і літоўскіх сіл з паўднёвага захаду. Калі прыняць такое меркаванне, то пры з'яўленні на маскоўскім памежжы цвярскіх атрадаў супраць іх быў адпраўлены з Масквы спешна сабраны полк. Пры набліжэнні ж Альгерда на яго дзеянні адказаць не было чым. Між іншым, такую схему быццам бы падтрымлівае і тэкст цвярскога летапісу. У ім, пасля паведамлення аб зборы Альгерда і выхадзе яго супраць Масквы з усімі літоўскімі князямі, была зроблена нечаканая заява: «Князь великый Миха(й)ло Александровичь Тверскый прииде къ рубежу Московскому»[186]. Пасля гэтага адзначаўся перапалох у Маскве, а потым цвярскі летапісец выправіўся і ўжо распавядаў пра чуткі аб набліжэнні Альгерда і выхадзе маскоўскай заставы менавіта супраць літоўскага вялікага князя. Такім чынам ізноў штучна пабудаваная схема не можа быць прынята. Аднак варта заўважыць, што праз тэкст цвярскога летапісу праступае магчымасць скажэння падзей, якія, на жаль, не могуць быць рэканструяваны з дапамогай вядомых крыніц. Толькі зусім няпэўна можна дапусціць, што на дапамогу нешматлікаму цвярскому войску падаспелі літоўскія сілы, якія і разбілі маскоўскі полк далёка на поўначы ад месца з'яўлення Альгерда. Але гэта ўяўляецца амаль немагчымым.

Як бачым, першая, найбольш распаўсюджаная версія месца Тросненскай бітвы[187] ніяк не ўпісваецца ў рэальнасць падзей 1368 г. Аднак існуюць і іншыя погляды на геаграфію першага значнага ваеннага сутыкнення Масквы і Вільні.

У самым вярхоўі р. Нары ў так званыя Нарскія пруды з левага боку ўпадае маленькая рэчка Трасна[188]. Падабенства назвы Тросна — Трасна не магло не звярнуць на сябе ўвагі даследчыкаў. Так і здарылася. Другая, нарская, лакалізацыя месца Тросненскай бітвы набыла значэнне і нават трапіла на старонкі энцыклапедый[189].

Рэчка Трасна знаходзіцца зусім побач з Масквой-ракой і, што істотна, — са шляхам з Масквы да Мажайска і далей на Вязьму—Смаленск. «Книга Большому чертежу», складзеная ў 1627 г. паводле матэрыялаў больш ранняга часу, так апісвае наваколле: «А река Нара вытекла по Можаискои дороги от озера, близко от реки от Москвы. На реке на Наре, от Москвы 70 верст, село Баибирино, а на то село с Москвы в Колугу дорога Оболенская»[190].

Такім чынам, выстаўленая на Мажайскую дарогу маскоўская застава магла прыкрыць заходні напрамак (з боку Вязьмы—Смаленска) і, у некаторай ступені, назіраць за пагрозай з паўднёвага захаду (з боку Абаленска). Аднак тут таксама незразумела, навошта было накіроўваць войскі на Мажайскі шлях, на захад Вялікага Княства Маскоўскага, у той момант, калі было вядома, што Альгерд знаходзіўся ў раёне Аба-

---

[186] ПСРЛ. Т.15. Стб. 426.

[187] Упэўненасць у рузска-звянігародскай лакалізацыі Тросненскай бітвы такая вялікая, што суправаджаецца нават легендай аб пахаванні воінаў, якія загінулі каля Тросценскага возера, на беразе р. Перавалочні (прыток Азёрны) у сяле Анніна.

[188] Атлас Московской области. Масштаб 1 : 100 000. М., 2001. С. 71—72.

[189] Белы А. Тросненская бітва 1368 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кн. 1. Мінск, 2001. С. 520—521; Ён жа. Тросненская бітва 1368 // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Мінск, 2006. С. 668.

[190] Книга Большому чертежу. М.; Л., 1950. С 56. Падрабязнае апісанне Мажайскага шляху са згадкай р. Нары гл.: Миллер Г.Ф. Сочинения по истории России. Избранное. М., 1996. С. 271.

ленскага княства? Такі ўчынак меў бы сэнс, калі б прамога шляху на Маскву ў 1368 г. не было і, каб трапіць туды, неабходна было спачатку дасягнуць Мажайскага шляху, напрыклад, уздоўж р. Нары. Але звесткі больш позніх крыніц («Книга Большому чертежу» XVII ст.) і карт XIX — пачатку XX ст. сведчаць пра існаванне прамога шляху ад Абаленска да Масквы, які, між іншым, праходзіў недалёка ад маскоўскага Перамышля, дзе, як мы ведаем, збіраліся маскоўскія войскі ў 1370 г.

Дапушчэнне існавання Абаленскай дарогі ўжо ў XIV ст., якую нібыта прыкрывала маскоўскае войска ў 1370 г. з разлікам на чарговы прыход Альгерда з паўднёвага захаду, прымушае з большай увагай прасачыць яе працягласць ад Абаленска да Масквы. Доўга шукаць не трэба. На адрэзку паміж Абаленскам і Таруціным (на р. Нары) заўважаем ужо знаёмае нам сяло Тросце на р. Аложы[191]. Ніякіх намёкаў на р. Тросну ў раёне сяла Тросце няма, калі б толькі не ўбачыць яе ў безыменных ручаях з левага ці правага боку ад Аложы. Наяўнасць у апошняй двух прытокаў з аднолькавымі назвамі Сухая Аложа, якія ўпадаюць у Аложу ў раёне с. Тросце (вядомы з XVII ст.), можа сведчыць аб змене назвы адной з рэк у больш позні ад падзей 1368 г. час[192]. Само сяло Тросце магло існаваць у XIV ст.[193], хаця гэта і не пацверджана пакуль археалагічнымі дадзенымі[194].

Як бачым, абаленская лакалізацыя месца Тросненскай бітвы мае сур'ёзнае абгрунтаванне. З усіх існуючых версій яна найбольш лагічная. Калі прыняць гэтую лакалізацыю, падзеі 1368 г. могуць быць рэканстраяваны наступным чынам. У Маскве даведаліся аб прыходзе Альгерда і імгненна выслалі насустрач яму вартавы полк. Пакуль літоўска-смаленска-цвярское войска з прыпынкамі для рабавання праходзіла шлях ад маскоўскіх меж праз Халхол і Абаленск да шляху на Маскву, маскоўская застава па прамой дарозе паспела падысці да меж Абаленскага княства. Тут, магчыма, і адбылася бітва, пасля якой ужо нішто не замінала Альгерду накіравацца да Масквы[195].

Трэба заўважыць, што з Абаленска да Тросця Альгердаву войску трэба было ісці толькі 11 (калі напрасткі) — 15 км, а не каля 70 км да Трасны і, тым больш, не каля 110 км да воз. Тросценскага. Хуткасць падзей, якая праступае ў тэксце летапісаў, дае перавагу менавіта абаленскай лакалізацыі месца бітвы. Тым не менш усе версіі маюць свае плюсы і мінусы і спыніцца толькі на адной з іх пакуль не ўяўляецца магчымым[196].

Вось да такіх высноў можна прыйсці пры вывучэнні гісторыка-геаграфічных акалічнасцей падзей 1368—1372 гг. Мы ўбачылі, якую прастору для разваг даюць толькі тры тапонімы, пакінутыя нам у крыніцах. І сапраўды, са згадкай воласці Халхол звязвалася праблема фарміравання паўднёва-заходняга маскоўскага памежжа, са згадкай Абаленска — праблема вызначэння стану і лёсу буферных княстваў паміж

---

191 Саму дарогу гл. у: Большой всемирный настольный атлас Маркса. СПб., 1910. № 20. Л. 6. Сяло Тросце каля дарогі ад Абаленска да Таруціна гл. у: Военно-топографическая карта. Калужская губерния. 1850. 3 версты в дюйме. Ряд 12. Лист 14.

192 Так лічыць А.І. Харужанка (Хоруженко О.И. «Первая литовщина» в летописной статье 1368 г. Р. 37—38).

193 Родапачынальнік князёў Тросценскіх — Аляксандр Андрэевіч (унук Канстанціна Абаленскага, забітага Альгердам) жыў недзе ў сярэдзіне XV ст. (Кобрин В.Б. Материалы генеалогии княжеско-боярской аристократии XV—XVI вв. С. 96).

194 У Жукоўскім раёне Калужскай вобласці Расіі на р. Аложы не адзначана ніводнага археалагічнага помніка (АКР. Калужская область. С. 126).

195 Пра тое, што бітва на р. Тросне адбылася ў межах Абаленскага княства, пісаў С.Б. Весялоўскі (Веселовский С.Б. Подмосковье в древности. Три очерка. М., 2002. С. 18).

196 Цікава, што вядомая бітва на р. Вядрошы 1500 г. у шэрагу крыніц фіксуецца на яшчэ адной р. Тросне (Вядроша — яе левы прыток). Не на Вядрошы, а за мастом, у правабярэжжы Тросны, на Міцькавым полі адбываліся асноўныя падзеі маскоўска-літоўскага сутыкнення 14 ліпеня 1500 г. (Гл., напрыклад: ПСРЛ. Т. 37. Устюжские и Вологодские летописи XVI—XVIII вв. Л., 1982. С. 51, 99).

Літоўскай і Маскоўскай дзяржавамі, нарэшце, з заўвагай аб р. Тросне — праблема пошуку месца найбольш значнага літоўска-маскоўскага ваеннага сутыкнення XIV ст. Да гэтага далучыліся асобныя пытанні: якім маршрутам ішоў Альгерд да маскоўскіх памежных месцаў, ці існавалі пункты сутыкнення паміж літоўскімі і маскоўскімі ўладаннямі? Такі шэраг цяжкасцей і адначасова магчымасцей адкрыўся для даследавання. І калі некаторыя пазначаныя праблемы знайшлі сваё рашэнне (напрыклад, выяўленне маскоўскай мяжы), іншыя засталіся толькі на стадыі гіпатэтычных дапушчэнняў (маршрут паходу Альгерда, месца Тросненскай бітвы).

На жаль, адзінкавыя каштоўныя дадзеныя крыніц даследчыкі скарысталі вельмі няўважліва. Халхла з кнігі ў кнігу пазначалася не на сваім месцы, рака Тросна адшуквалася занадта далёка ад раёна ваенных дзеянняў, назіранні за маскоўскім памежжам не рабіліся, агульны маршрут Альгердава войска не высвятляўся...

Такім чынам, у перыяд літоўска-маскоўскай вайны 1368—1372 гг. асноўны масіў уладанняў ВКЛ знаходзіўся яшчэ на значнай адлегласці ад рэгіёнаў Павугор'я і Верхняй Акі. Верагодна, толькі літоўскі анклаў Любуцка вылучаўся далёка на ўсход. Ён і быў скарыстаны як плацдарм для вядзення баявых дзеянняў супраць Масквы. Варта яшчэ раз адзначыць, што і пазней г. Любуцк адыгрываў асаблівую ролю ў планах вайсковага кіраўніцтва ВКЛ. Менавіта каля яго муроў неаднаразова канцэнтраваліся літоўскія войскі і ішлі баявыя дзеянні (1396, 1402 гг.)[197].

Такім чынам, у другой палове XIV — пачатку XV ст. у непасрэдным суседстве з залежнымі ад Масквы ці належнымі ёй землямі паўстаў асяродак ваеннай напружанасці. Адбылося гэта яшчэ да таго, як склалася непарыўная лінія (паласа) маскоўска-літоўскай мяжы. Апошняя сфарміравалася каля 1403—1408 гг. Магчыма, на пачатку XV ст. пагроза з боку Любуцка была ліквідавана — гэты горад на кароткі час стаў нават маскоўскім уладаннем[198]. У той жа час узрасло стратэгічнае значэнне рэгіёна Павугор'я.

## 3. Літоўска-маскоўскае супрацьстаянне на пачатку XV ст.

Падчас маскоўска-літоўскай вайны («нестроения»), якая пачалася 25 траўня 1406 г.[199], Васілій І «посла князя своа воеводы на гради Литовскыя»[200]. Маскоўскае войска ўзяло два напрамкі. Магчыма, менавіта каля р. Угры яно падзялілася. Частка пайшла на поўнач да Вязьмы, а частка павярнула на поўдзень — да Сярпейска. Не даходзячы да Сярпейска, адна частка войска вярнулася назад[201]. Вязьма трапіла ў аблогу, але выстаяла. У масквічоў пры гэтым быў забіты ваявода князь Іван Ліпятыч[202].

У адказ на маскоўскі паход літоўскія сілы на чале з мсціслаўскім князем Лугвенем[203], «въступль же глубле въ страну Московскую», узялі і спалілі Варатынск,

[197] ПСРЛ. Т. XXV. С. 227, 231.

[198] ДДГ. № 17. С. 47; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 150—152.

[199] Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 461. Э. Клюг на падставе аналізу звестак Цвярскога летапісу датуе гэту падзею таксама канцом траўня 1406 г. (Клюг Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.). С. 262).

[200] ПСРЛ. Т. XV. Стб. 472.

[201] Тамсама. Стб. 472; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 461.

[202] ПСРЛ. Т. XV. Стб. 472.

[203] Codex epistolaris Vitoldi magni ducis lithuanie. 1376—1430. Collectus opera A. Prochaska. Cracoviae, 1882. № 369. P. 150.

пасадзілі намеснікаў у Казельску і ваявалі да Мажайска[204]. Зафіксаваўшы на карце пералічаныя пункты, можна меркаваць, што войскі ВКЛ рухаліся да Мажайска ад Варатынска і Казельска праз нізоўі Угры, а не перасякалі двойчы Аку, хаця і такі варыянт магчымы[205].

Нельга не звярнуць увагу на праблему прыналежнасці гарадоў каля Павугор'я. Калі меркаваць па летапісных звестках, Варатынск быў маскоўскім, бо «Литва же, въступль же глубле въ страну Московскую, градъ Воротынескъ взяша»[206]. Маскоўскае войска накіроўвалася да Казельска, але горада не дасягнула. Гэтае імкненне стварае пэўную праблему. Вядома, што на пачатку XV ст. Казельск належаў Маскве[207]. У 1404 г. удзельны маскоўскі князь Уладзімір Андрэевіч Серпухаўскі адпісаў «Козелеск со всеми пошлинами» сыну Івану, праўда, выказваў няўпэўненасць ва ўтрыманні гэтага ўладання[208]. Няма сведчанняў таму, што да 1406 г. Казельск Масквой быў страчаны. «Літва» завалодала гэтым горадам толькі ў выніку паходу ў адказ, калі «въ Козелсте посадиша посадникы своа»[209]. Само ж Карачаўскае княства, насуперак меркаванню М.К. Любаўскага[210], магчыма, было далучана да ВКЛ яшчэ ў 60-я гг. XIV ст.[211]. Такім чынам, падчас вайны 1406—1408 гг. Масква часткова страціла свой уплыў у правабярэжжы Угры і Ніжняй Акі, тады як ВКЛ яшчэ далей распаўсюдзіла свой уплыў у Вярхоўскіх княствах, умацаваўшы свае становішча і непадалёку ад вусця р. Угры. Але князі Варатынскія, нягледзячы на тое, што іх рэзідэнцыя была ўзята і спалена, хутчэй за ўсё, працягвалі арыентавацца на Маскву. Так, у лісце вялікага князя літоўскага Вітаўта магістру Тэўтонскага ордэна ад 3 ліпеня 1407 г. Варатынск (*Wrotinsko*) названы «замкам нашых ворагаў»[212]. Па назіранні М.М. Крома, да 1425 г. увесь клан Навасільскіх князёў служыў Маскве[213]. Толькі ў 1427 г. падчас паездкі Вітаўта ў раён Верхняй Акі, у Пронскае і Разанскае княствы, сярод іншых Навасільскіх князёў і Варатынскія прысягнулі літоўскаму вялікаму князю[214].

204 ПСРЛ. Т. XV. Стб. 472.

205 Праз нізіну р. Угры ішоў зручны шлях. Перапраўляцца трэба было з дапамогай парома: «Паром на канате, на почтовой дороге из Калуги в Мещовск, близ Угорских постоялых дворов» (Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VI. Ч. 6. Калужская губерния. СПб., 1849. Таб. 3). Тым не менш у ніжнім цячэнні р. Угры брадоў не існавала, тады як Аку можна было перайсці крыху вышэй па цячэнні ад упадзення р. Угры, а пасля перасячы яе па брадах паміж Калугай і Любуцкам.

206 ПСРЛ. Т. XV. Стб. 472.

207 ДДГ. №. 16. С. 43.

208 ДДГ. № 17. С. 47. Пра датаванне тэстамента гл.: Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 118, 160—161.

209 ПСРЛ. Т. XV. Стб. 472.

210 М.К. Любаўскі пісаў пра тое, што Карачаўскае княства «занято было Литвою в начале XV века, скорее всего в 1407—1408 г., когда Витовт воевал с зятем своим, Василием Димитриевичем Московским» (Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 53).

211 Шеков А.В. О времени упоминания средневековых верхнеокских городов в обзоре «А се имена всем градом руским, далним и ближним» // Верхнее Подонье: Природа. Археология. История: Сб. ст. в 2-х т. Т. 2. История. Этнография. Искусствоведение. Тула, 2004. С. 129.

212 Codex epistolaris Vitoldi magni ducis lithuanie. № 369. P. 150.

213 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 47.

214 Codex epistolaris Vitoldi magni ducis lithuanie. № 1298. P. 779.

У верасні 1406 г.[215] Вітаўт і Васілій I сустракаліся асабіста, але далёка ад Угры, на р. Плаве і Пашковай гаці (Плава — левы прыток р. Упы, што ўпадае з правага боку ў Аку). Падрыхтаваўшыся да бою, літоўскія і маскоўскія войскі стаялі дзевяць дзён[216], прычым падзяляла іх, паводле цвярскога летапісу, рака Ака[217] (хутчэй за ўсё, усё-такі Упа, і тады «стаянне» адбывалася блізка каля вусця р. Плавы). Было заключана перамір'е «до того же году» або, больш дакладна, ад 1 кастрычніка да «Съшествия Святаго Духа» (15 мая 1407 г.)[218]. Паводле Яна Длугаша, у гэтым першым паходзе супраць Масквы[219] многія палякі атрымалі рыцарскія гербы, якія раздаваў ім Аляксандр (Вітаўт) над ракой Угрой[220]. Верагодна, менавіта адсюль накіроўваў свае атрады вялікі князь для спусташэння Маскоўскай зямлі, а пасля за «подзвігі» ўзнагароджваў палякаў, што вярнуліся. Дарэчы, у паходзе польскім аддзелам кіраваў князь Свідрыгайла Альгердавіч, які праз два гады ізноў возьме ўдзел у вайне, але ўжо на маскоўскім боку (гл. далей)[221].

Іншы польскі храніст — Мацей Стрыйкоўскі — наогул перанёс сюжэт пра заключэнне міру на р. Угры ў 1408 г. на 1406 г., узяўшы яго, напэўна, з недакладна датаванай часткі тэксту «Хронікі Быхаўца»[222]. Можна, канечне, лічыць, што замест

---

215 Паводле Цвярскога летапісу, «на страстной недели, в пяток великий» (ПСРЛ. Т. XV. Стб. 472), гэта значыць у Вялікую пятніцу перадвелікоднага тыдня. Такое датаванне не адпавядае ні пададзенай у той самай крыніцы даце пачатку перамір'я (1 кастрычніка), ні інфармацыі іншых летапісаў (Васілій I выйшаў з Масквы 7 верасня) (ПСРЛ. Т. XVIII. С. 151; Т. XXV. С. 234). А.Л. Каняўская пераканаўча давяла, што датаванне Цвярскога зборніка адносіцца да іншага года і іншай падзеі, а яе з'яўленне можа быць вынікам свядомага пропуску часткі тэксту з мэтай пазбегнуць дублявання летапісных звестак (Конявская Е.Л. «Повесть о Плаве» и летописные статьи Тверского сборника за первое десятилетие XV в. // Древняя Русь. Вопросы медиевистики. № 28. 2007. С. 84—85).

216 Войска Вітаўта складалася з сіл некалькіх дзяржаў. Акрамя «палякаў, літвінаў і русі», у паходзе ўдзельнічалі прадстаўнікі Тэўтонскага ордэна (атрады «прусаў і жмуйдзінаў»), людзі з навакольляў Балгі і Брандэнбурга і нават галандскі і брандэнбурскі герольды (Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. Przekład K. Mecherzyńskiego. T. III. Ks. IX, X. Kraków, 1868. S. 532; Dzieje Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego od roku 1380 do 1535. Przez Bernarda z Rachtamowic Wapowskiego, ze świeżo odkrytego spółczesnego rękopismu, z języka łacińskiego na ojczysty przetłumaczył, przypisami objaśnił, poczęt rzeczy i osób dodał Mikołaj Malinowski. T. I. Wilno, 1847. S. 170; Skarbiec diplomatów papieźkich, cesarskich, królewskich, książęcych; uhwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów. Zebrał i w treści opisał Ignacy Daniłowicz. T. I. Wilno, 1860. № 843. S. 352.

217 ПСРЛ. Т. XV. Стб. 475.

218 ПСРЛ. Т. XV. Стб. 475; Т. XXV. С. 234. Вялікдзень у 1407 г. прыпаў на 27 сакавіка (падлічана па: Черепнин Л.В. Русская хронология. М., 1944. С. 45, 51—64). Сашэсце Святога Духа (Дзень Святой Тройцы) святкуецца на 49-ы дзень пасля Вялікадня. Значыць, перамір'е было заключана да 15 траўня.

219 Хутчэй за ўсё гэту падзею, у якой браў непасрэдны ўдзел Вітаўт, неабходна звязваць менавіта са стаяннем на Плаве.

220 Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. III. Ks. IX, X. S. 532. У гэтым першым паходзе супраць Масквы з асабістым удзелам Вітаўта, паводле слоў польскага храніста М. Кромера, войскі прыбылі да ракі Угры (Kronika polska Marcina Kromera biskupa warmińskiego ksiąg XXX: dotąd w trzech językach, a mianowicie w łacińskim, polskim i niemieckim wydana, na język polski z łacińskiego przełożona przez Marcina z Błażowa Błażowskiego i wydana w Krakowie w drukarni M. Loba r. 1611. Sanok, 1857. S. 766). Але гэта, верагодна, памылковае меркаванне.

221 Codex epistolaris Vitoldi magni ducis lithuanie. № 352. P. 136.

222 Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego. T. II. Warszawa, 1846. S. 122—123.

Угры ў гэтым апісанні варта чытаць Плава або Упа, аднак замацаванне мяжы па адной з гэтых рэк — умова наўрад ці магчымая.

Яшчэ да заканчэння перамір'я («яко в перемирие миру не сътворишася»)[223] Вітаўт працягнуў ваенныя дзеянні. Было спустошана Навасільскае княства, а Адоеў спалены[224]. Праўда, калі сыходзіць з даты захопу Адоева, зафіксаванай, напрыклад, у Маскоўскім летапісным зводзе канца XV ст., — 20 траўня[225], атрымліваецца, што літоўскі бок усё ж такі выканаў дамоўленасць.

І вось, у 1407 г. на Спасаў дзень[226] маскоўскі вялікі князь Васілій І, сабраўшы вялікае войска, пайшоў раццю на Літоўскую зямлю «и взя град Дмитровецъ и огнемъ пожьже»[227]. Ужо каля Вязьмы маскоўскае войска сустрэў Вітаўт. Было ізноў заключана перамір'е ад свята Нараджэння Прасвятой Багародзіцы (8 верасня) да Пятрова дня (29 чэрвеня)[228]. Сам паход ад Масквы да Вязьмы праходзіў з 16 жніўня (Трэці Спас) да пачатку верасня[229]. Захаваўся фрагмент перамірнай граматы Вітаўта і Васілія І з пазначэннем месца яе напісання — Вязьма, і даты — 4 верасня. Г.Л. Харашкевіч пераканаўча даказала, што гэты дакумент адносіўся менавіта да апісаных падзей, вынікам якіх і стала яго складанне[230].

Згодна з Хронікай Быхаўца, у адказ на пагром маскоўскімі мужыкамі пад Пуціўлем і на Ціхай Сасне сеўрукоў (жыхароў Севершчыны) вялікі князь літоўскі Вітаўт з войскам ізноў выйшаў супраць Васілія І «y mnoho požoh y powoiewał i poplenił około reki Uhry y Oki»[231]. Арэнай баявых дзеянняў ізноў стаў раён р. Угры, дакладней яго левабярэжжа аж да р. Акі. На просьбу Васілія І Вітаўт прыехаў да ракі Угры «…y pośle mnohich rozmow meży soboiu mir wczynili, y hranicu zemlam swoim po Uhru reku położyli… mir i pokoy weczny wczyniwszy, y hranicu po Uhru reku położywszy, rozjechalisia so wsimi ludmi swoimi rozno»[232]. Адбываліся апісаныя

[223] ПСРЛ. Т. XV. Стб. 477. С.М. Кучыньскі таксама лічыў, што перамір'е было парушана літоўскім бокам (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy // Prace Ukraińskiego Institutu Naukowego. T. 33. Warszawa, 1936. S. 219).

[224] ПСРЛ. Т. XV. Стб. 477.

[225] ПСРЛ. Т. XXV. С. 236.

[226] Згодна з Ніканаўскім летапісам, Васілій І выйшаў з Масквы 6 (16) жніўня (ПСРЛ. Т. XI. С. 202), згодна з Львоўскім — 6 жніўня (ПСРЛ. Т. XX. С. 225), паводле А.Л. Харашкевіч — 16 жніўня (Хорошкевич А.Л. Документы начала XV в. о русско-литовских отношениях. С. 46). Гаворка ідзе пра так званы Яблычны спас, што адзначаецца 19 жніўня (6 жніўня па старым стылі), або пра Трэці спас (Арэхавы або Хлебны), які святкуюць 29 жніўня (16 па старым стылі).

[227] ПСРЛ. Т. XXV. С. 237. Гл. таксама: ПСРЛ. Т. VIII. С. 81; ПСРЛ. Т. XI. С. 202; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 465. У Цвярскім летапісе дадзенае паведамленне моцна скажона: «Тогда же Москвичи и Дмитровци взяша градъ Литовский» (ПСРЛ. Т. XV. Стб. 478).

[228] ПСРЛ. Т. І. Лаврентьевская летопись. М., 2001. Стб. 538; ПСРЛ. Т. XV. Стб. 478.

[229] Згодна з назіраннямі А.Л. Харашкевіч, следам за апісанай падзеяй у Васкрасенскім летапісе змешчана паведамленне пра смерць смаленскага князя Юрыя Святаславіча 14 верасня (Хорошкевич А.Л. Документы начала XV ст. С. 47).

[230] Хорошкевич А.Л. Документы начала XV ст. С. 46—47.

[231] ПСРЛ. Т. XVII. Стб. 519.

[232] Тамсама. Стб. 520. Гэтыя падзеі апісаны ў хроніцы пад 1402 г., што не адпавядае рэчаіснасці. Пар. з перакладам на беларускую мову: «У год 6910 [1402] …І пасля доўгае размовы яны мір паміж сабою ўчынілі і мяжу паміж землямі сваімі па Угры-рацэ палажылі… мір ды спакой вечны заключыўшы і мяжу па Угры-рацэ палажыўшы, раз'ехаліся з усімі людзьмі сваімі розна» (Беларускія летапісы і хронікі: Пер. са старажытнарускай, старабеларус. і польск. Мінск, 1997. С. 117).

падзеі, насуперак датаванню Хронікі Быхаўца (1402 г.), верагодней за ўсё, у 1408 г. Тады (1 верасня) Васілій І, сабраўшы войска, выступіў супраць Вітаўта «и пришед ста у Угры на березе, а Витовтъ тако же со многою силою прииде съ другую сторону рекы тоя... и сташа межи собою о реце Угре и стоявшее немного днии и взяша миръ межи себе по давному»[233]. Паводле ўстаўкі ў Цвярскім летапісе: «И стоаша Литва съ Москвичи на Угре 12 дни, и умиришася сентебра въ 14»[234]. Акрамя таго, у іншым месцы цвярскі летапісец зрабіў істотны дадатак: «Того же лета прииде зловерний Витовть на усть рекы Угры съ силою Литовскою, и Немецкою и Лядцкою»[235]. Відавочна, войска Вітаўта набліжалася да пераправы ля вусця р. Угры, праз якую ішоў шлях на Маскву і да якой падышло таксама і маскоўскае войска.

Ваенная кампанія 1408 г. («другая война») была для Вітаўта, мяркуючы па хроніках Я. Длугаша, М. Бельскага, Б. Вапоўскага, М. Кромера і М. Стрыйкоўскага, даволі цяжкай. Велізарнае войска, што складалася з сіл Польшчы, Тэўтонскага ордэна і ВКЛ (вялікакняжацкія харугвы, атрады са Смаленска і Кіева), выйшла са Смаленска[236] і мела шмат выпрабаванняў ужо падчас шляху на Маскоўскую зямлю. І ўдзень, і ўначы на абозы Вітаўта нападалі атрады Свідрыгайлы, які толькі што спаліў свае замкі Старадуб і Бранск і перайшоў на маскоўскі бок[237]. Апошні, паводле Длугаша, не даў пераправіцца войску Вітаўта праз вярхоўі Акі, а маскоўскія сілы разбегліся па ўмацаваных месцах, так што не было магчымасці даць ім адкрыты бой[238]. М. Стрыйкоўскі таксама сведчыў пра глыбокае месца на Ацэ, якое «заступіў» Свідрыгайла[239]. Можа, тут ідзе размова пра месца ўпадзення Угры ў Аку, дзе была зручная пераправа? Але, паводле Б. Вапоўскага, толькі пасля акцыі Свідрыгайлы Вітаўт вырашыў пайсці да вусця Угры, дзе і стаў рыхтаваць пераправу і адкуль быў усяго ў трох днях шляху ад маскоўскай сталіцы[240]. Вось тады, быццам бы напалоханы небяспекай Васілій І даслаў паслоў. Далей Б. Вапоўскі, ужо, відавочна, памылкова, пісаў пра просьбу маскоўскіх паслоў да Вітаўта не пераходзіць р. Аку, як і пра пазнейшае ўсталяванне мяжы ўздоўж гэтай ракі[241].

Большасць храністаў усё ж згадвае Угру як лінію маскоўска-літоўскай мяжы. М. Стрыйкоўскі сцвярджаў, што згодна з умовамі міру быў захаваны стары рубеж па Угры (на яго думку, усталяваны ўжо ў 1406 г.), а Васілій І «вярнуў замкі, што быў узяў»[242]. З вялікай доляй верагоднасці можна ўбачыць сярод гэтых замкаў

---

233 ПСРЛ. Т. XXV. С. 238. Гл. таксама: ПСРЛ. Т. VIII. С. 82; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 468; ПСРЛ. Т. XVIII. С. 155; Т. XXVI. С. 175. Паводле Львоўскага летапісу, 11 верасня «миръ взяша вечный по преднему доскончанию» (ПСРЛ. Т. XX. С. 225).

234 ПСРЛ. Т. XV. Стб. 474. Гл. таксама стб. 482, дзе дата заключэння «вечнага міру», якім, відавочна, скончылася вайна, паўтараецца.

235 Тамсама. Стб. 482.

236 Месца збору войска і дакладны яго склад з кіраўнікамі пазначыў М. Стрыйкоўскі (Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego. T. II. S. 124).

237 Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. III. S. 536—537; Kronika polska Marcina Bielskiego. T. 1. Księga 3: Ludwik, Król Polski i Węgierski / Wydanie K.J. Turowskiego. Sanok, 1856. S. 507; Kronika polska Marcina Kromera. S. 766—767; Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego. T. II. S. 123—124.

238 Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. III. S. 537.

239 Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego. T. II. S. 124.

240 Dzieje Korony Polskiéj i Wielkiego Księstwa Litewskiego od roku 1380 do 1535. S. 174.

241 Тамсама.

242 Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego. T. II. S. 124. Такая перастаноўка падзей дазваляе лагічна патлумачыць заключэнне міру ў 1408 г. «по давному».

Дзмітравец, захоплены маскоўскімі войскамі ў 1407 г. Храністы пішуць пра тое, што войскі Вітаўта спустошылі «ўздоўж і ўпоперак» маскоўскія землі, аднак ствараецца ўражанне аб рабунку «літвой, немцамі і палякамі» ў асноўным сваіх жа тэрыторый: бо за Аку або за Угру іх не пусцілі. Акрамя таго, за Акой, паводле М. Кромера, былі не маскоўскія, а разанскія землі[243]. З маскоўскіх уладанняў на спустошаным Вітаўтам баку Акі да таго часу можна адзначыць толькі некаторыя гарады ў Вярхоўскіх княствах.

Пасля заключэння міру Вітаўт пакінуў свае войска на волю лёсу (з'ехаў да жонкі Анастасіі, якую вельмі кахаў). У выніку намаганнямі татар, якія служылі Маскве, з-за характару мясцовасці (лясы і бары, невялікая колькасць і так спустошаных сёл і вёсак) і ўмоў надвор'я (ішлі дажджы) войска Вітаўта ледзь не знішчылі. Адзіная дарога (Вяземская?) стала надзвычай слізкай і немагчымай для выкарыстання. Перасякаючы суцэльны лес, «рыцарству» даводзілася класці памосты паўзверх сваіх жа коней, каб перайсці праз багну. Ішлі лакальныя баі з татарамі, у якіх даводзілася біцца ўжо пехатой[244]. У выніку сыход войска Вітаўта ад Угры стаў падобны да адступлення. Толькі 11 лістапада ацалелыя палякі вярнуліся да свайго караля[245].

У падзеях 1408 г. выразна выявіўся памежны характар р. Угры, каля берагоў якой ужо не ўпершыню адбывалася «стаянне» войскаў двух супернікаў. Шэраг прамых ці ўскосных звестак быццам бы пэўна сведчыць аб тым, што маскоўска-літоўская мяжа праходзіла і нават была ўсталявана ўздоўж р. Угры. Заўвага С. Герберштэйна аб тым, што «гэта рака некалі аддзяляла Літву ад Масковіі»[246], таксама пацвярджае гэтую інфармацыю. У выніку падаецца цалкам пераканаўчай рэканструкцыя, прапанаваная Я. Натансанам-Лескім. Даследчык правёў мяжу ВКЛ пры Вітаўце праз вярхоўі рэк Масквы і Протвы на поўдзень у бок на 1—2 мілі ад р. Воры, уключна з яе прытокам р. Магіленкай, і ніжэй вусця р. Воры — зігзагам уздоўж р. Угры[247]. Аднак даўняе ўяўленне пра раку Угру як векавую мяжу паміж Вялікімі Княствамі Маскоўскім і Літоўскімі можа быць аспрэчана[248].

Такім чынам, на пачатку XV ст. з прыходам улады ВКЛ у вярхоўі Акі каля вусця р. Угры, магчыма, адбылося сутыкненне літоўскіх уладанняў з маскоўскімі. Існуюць сведчанні пра ўсталяванне на пачатку XV ст. паміж вялікімі княствамі Маскоўскім і Літоўскім мяжы ўздоўж р. Угры[249], аднак да канца стагоддзя не толькі правабярэжжа, але і левабярэжжа Угры на значнай адлегласці было запоўнена літоўскімі

---

243 Kronika polska Marcina Kromera. S. 767.

244 Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. III. S. 537; Kronika polska Marcina Bielskiego. T. 1. Księga 3. S. 507; Kronika polska Marcina Kromera. S. 767.

245 Тамсама.

246 Герберштейн С. Записки о Московии: В 2 т. / Под ред. А.Л. Хорошкевич. Т. I. М., 2008. С. 323. Цалкам верагодна, што ўяўленне аб памежным характары р. Угры ўзяў у Герберштэйна А. Гваньіні. Апошні пісаў пра р. Гугзу (Hugza), якая ўпадала паміж Вароцінам і Калугай у Аку і падзяляла два вялікія княствы — Маскоўскае і Літоўскае (Гваньїні О. Хроніка європейської Сарматії / Упорядкув. та пер. з пол. о. Юрія Мицика. Київ, 2009. С. 585). Складальнік каментароў да Хронікі Гваньіні асцярожна выказаў меркаванне, што маецца на ўвазе р. Вязьма. Аднак яна ўпадае ў Дняпро далёка ад Варатынска і Калугі (Тамсама. С. 910). Згадка яшчэ адной старой мяжы паміж Літвой і Масквой — за шэсць міляў ад Мажайска — відавочна, узята ў Герберштэйна (Тамсама. С. 586; Герберштейн С. Записки о Московии. Т. I. С. 327).

247 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 38.

248 Темушев В.Н. Река Угра — вековой страж московско-литовской границы. С. 305—318.

249 ПСРЛ. Т. XVII. Западнорусские летописи. М., 2008. Стб. 520; Герберштейн С. Записки о Московии. Т. I. С. 323.

валасцямі[250]. Верагодна, у момант заключэння маскоўска-літоўскага міру (14 верасня 1408 г.)[251] і была прынята ўмова аб правядзенні мяжы па натуральным прыродным рубяжы[252] — адной з сур'ёзных перашкод на шляху з Маскоўскага княства ў Літоўскае. Але пазней у каланізацыйны працэс з літоўскага боку былі ўключаны нікім не занятыя тэрыторыі левабярэжжа Угры. Маскоўскі бок таксама асвойваў і далучаў землі па рэках Протве, Лужы, Сухадрэву, Шані і інш. (праўда, у гады Феадальнай вайны другой чвэрці XV ст. гэты працэс, відаць, прыпыніўся). Востравам гаспадарчай дзейнасці чалавека ў атачэнні лясоў і балот выглядала Мядынь, якая каля 1371 г. была саступлена Смаленскам Маскве (магчыма, праз крайнюю сваю аддаленасць). У цэлым, да канца XV в. непасрэдных кантактаў маскоўскіх і літоўскіх уладанняў не адбывалася (за выключэннем, магчыма, вусця Угры), а мяжа не была вызначана. Тым не менш, паводле пэўных прыкмет, менавіта рэгіён Павугор'я стаў арэнай ваеннага супрацьстаяння з моманту першых маскоўска-літоўскіх сутыкненняў.

250 Темушев В.Н. Западная граница Великого княжества Московского к 1380 г. С. 95.

251 ПСРЛ. Т. XV. Стб. 474, 482.

252 ПСРЛ. Т. XVII. Стб. 520. Гэтыя падзеі апісаны ў Хроніцы Быхаўца пад 1402 г., што не адпавядае сапраўднасці.

# Раздзел 3.
# Падзел сфер уплыву ва Усходняй Еўропе. Перыяд устойлівай літоўска-маскоўскай мяжы

## 1. Літоўска-маскоўская дамова 1449 г.

Першай дамовай, дзе былі дакладна вызначаны не толькі літоўска-маскоўскія межы, але і сферы ўплыву ва ўсходне-еўрапейскім рэгіёне дзвюх буйнейшых дзяржаў — вялікіх княстваў Літоўскага і Маскоўскага — было пагадненне 31 жніўня 1449 г.[1] Абедзве дзяржавы толькі-толькі пазбавіліся ад унутраных звадак, умацавалі цэнтральную ўладу і пачалі зацвярджаць сваё становішча на міжнароднай арэне.

Безумоўна, адным з галоўных напрамкаў знешняй палітыкі абедзвюх дзяржаў стала ўзнаўленне барацьбы за ўсходнеславянскія землі, якія яшчэ заставаліся незалежнымі ці ўплыў на якія быў страчаны ў другой чвэрці XV ст. Сутыкненне інтарэсаў двух цэнтраў аб'яднання рускіх зямель стала непазбежным.

У гэтай сувязі дамова пра «вечны» мір 1449 г. стала адным з важнейшых этапаў развіцця адносін паміж ВКЛ і ВКМ. Фактычна менавіта гэтая дамова зацвердзіла зоны панавання дзвюх дзяржаў ва Усходняй Еўропе і, у нейкім сэнсе, скончыла працэс аб'яднання рускіх зямель Масквой і Вільняй. Упершыню была дакладна зафіксавана мяжа паміж маскоўскімі і літоўскімі уладаннямі і вызначаны князі і гарады, што знаходзіліся на маскоўскім або літоўскім «баку». Рускія землі былі падзелены паміж двума цэнтрамі. Пасля гэтага пачынаўся час перадзелу сфарміраванай палітычнай карты. Абодва бакі рыхтаваліся да новай барацьбы.

Па сутнасці, дамова 1449 г. не выклікала істотных змен літоўска-маскоўскай мяжы, яна толькі зафіксавала існую мяжу, вызначыла яе. Дакладна фіксаваўся толькі невялікі спрэчны ўчастак Ржэўскай зямлі. Больш істотным было дакладнае размеркаванне прыналежнасці таму ці іншаму боку пэўных тэрыторый і князёў з іх вотчынамі.

У дамове згадваецца і абгаворваецца прыналежнасць толькі тых тэрыторый і (або) іх уладароў, якія: 1) або нядаўна ўвайшлі ў склад адной ці другой дзяржавы і на якія маглі існаваць прэтэнзіі ў супрацьлеглага боку, 2) або пакуль яшчэ былі суверэннымі княствамі і землямі, улада над якімі вызначалася дамовай. Тэрыторыі, якія трывала і здаўна ўваходзілі ў склад дзвюх дзяржаў, згадваюцца хіба што ў тытулатуры Васілія II і Казіміра IV. Васілій Васільевіч — вялікі князь маскоўскі, наўгародскі, растоўскі, пермскі «и иных»; Казімір — кароль польскі і вялікі князь літоўскі, рускі, жамойцкі «и иных».

Па сутнасці, любыя ўзгодненыя тэрыторыі або іх уладары маглі быць аб'ектамі інтарэсаў абодвух бакоў, і ў пагадненні адбывалася іх размеркаванне на сферы ўладання або ўплыву. Прычым часта заўважыць розніцу паміж суверэннымі дзяржавамі (Вялікі Ноўгарад, Вялікі Пскоў) і тэрыторыямі, якія шчыльна зліліся з ВКЛ або Вялікім Княствам Маскоўскім, даволі цяжка.

---

1 ДДГ. М.; Л., 1950. № 53. С. 160—163; LM. Kn. 5: (1427—1506). Vilnius, 1993. № 78.1. С. 131—133; № 136. С. 251—254.

Да літоўскага боку аднесены Смаленск і «смоленские места», Любуцк, Мцэнск, «вкраинъньıи места». Да маскоўскага — Ржэва з валасцямі, Мяшчэра. Вярхоўскія князі (меліся на ўвазе Навасільскія)[2], якія захавалі частковую аўтаномію, заставаліся пад літоўскай уладай, вотчыны ж Фёдара Блудава, Аляксандра Хлапенскага і Рамана Фамінскага, а таксама доля Юрыя Рамейкавіча і месцы Фёдара Святаславіча павінны былі належаць Маскве. Асобнае сумеснае кіраванне яшчэ з часоў Альгерда захоўвалася ў Серанска[3].

Несумненнай перамогай маскоўскага боку варта лічыць фактычнае пазбаўленне ВКЛ магчымасці ўплываць на Вялікі Ноўгарад і Пскоў[4]. У дамове 1449 г. абгаворваліся ўсе магчымыя варыянты ўмяшання Казіміра IV у справы Наўгародскай і Пскоўскай зямель. Кароль і вялікі князь абавязаўся «не прынимати» наўгародцаў і пскавічоў нават у выпадку іх жадання прыняць падданства ВКЛ. Таксама і выкарыстанне ў якасці прычыны для ўмяшання ў справы Ноўгарада і Пскова «грубости» мясцовых жыхароў абмяжоўвалася абавязкам Казіміра IV паведаміць пра гэта Васілію II і ўзгадняць з ім урэгуляванне канфлікту («А в чомъ тобе, королю и великому кн(я)зю Казимиру, новгородъцы и пъсковичы зъгрубять, и тобе мене, великого кн(я)зя Васил(ь)я, обослав, да с нимя ся ведати»). Магчымая вайна Вялікага Ноўгарада і Пскова з Лівонскім ордэнам («с немцы») таксама павінна была весціся без удзелу ВКЛ. Літоўскі валадар абавязваўся «межы ими не въступатисе». І, нарэшце, у выпадку магчымага канфлікту наўгародцаў і пскавічоў з Васіліем II, у Казіміра IV ізноў рукі былі звязаны дамовай («А коли мне, великому князю Васил(ь)ю, новгородцы и псковичы зъгрубять, а усхочу их показнити, и тобе, королю Казимиру, за них не въступатисе»)[5]. Такім чынам, дамова 1449 г. амаль цалкам паралізавала магчымасць палітычнага ўздзеяння ВКЛ на Наўгародскую і Пскоўскую землі.

Хаця за ВКЛ усё ж заставалася доля ўплыву ў наўгародскіх землях. З даўняга часу існавалі так званыя «чернокунства» — тэрыторыі, якія плацілі даніну абодвум бакам — ВКЛ і Вялікаму Ноўгараду (Пустаржэўская, Луцкая землі, Холмскі пагост, воласці Вяліла, Морава і інш., Бярозаўскі пагост). Улада над імі захоўвалася за ВКЛ. («А которыи волости или оброки потягнули Новгородские к Литве зъдавна, и мне, кн(я)зю Василью великому, в то не въступатисе по давному»)[6].

З іншага боку, у Масквы заставаўся пралаз для ўмяшальніцтва ў справы вярхоўскіх князёў, якія заставаліся пад уладай ВКЛ. З іх вялікі князь літоўскі не меў права патрабаваць больш за тое, што яны плацілі («А верховъстии князи, што будуть издавна давали в Литву, то имъ и нинечы давати, а болшы того не примышляти»).

Пэўная свабода дзеянняў захоўвалася ў вялікага князя разанскага Івана Фёдаравіча. Ён хаця і быў «братом молодшим» Васілія II і Казімір IV абавязаўся яго «не обидети», але, у выпадку канфлікту з вялікім князем літоўскім, апошні мог «показнити» разанскага вялікага князя (праўда, і тут арбітрам павінен быў быць маскоўскі валадар). Такім чынам, у Казіміра IV заставалася магчымасць умяшальніцтва ў разанскія справы[7]. Акрамя таго, тэарэтычна разанскі вялікі князь наогул мог перайсці на службу да Казіміра. Васілій Васільевіч не мог перашкодзіць такому жаданню Івана Фёдаравіча і абавязаўся «не гневатьсе, не мстити ему»[8].

---

2 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 78—79.

3 ДДГ. № 53. С. 160—162.

4 Зимин А.А. Витязь на распутье: Феодальная война в России XV ст. М., 1991. С. 135.

5 ДДГ. № 53. С. 162.

6 Тамсама.

7 Флоря Б.Н. Великое Княжество Литовское и Рязанская земля в XV ст. // Славяне в эпоху феодализма. К столетию академика В.И. Пичеты. М., 1978. С. 186.

8 ДДГ. № 53. С. 162.

Крыху іншае становішча было ў вялікага князя цвярскога Барыса Аляксандравіча. Ён быў «в стороне» Казіміра IV, хаця і «в любви и въ доконъчаньи» з Васіліем II. Характэрна, што ў выпадку спрэчнай судовай наўгародска-цвярской справы, пры «неисправлении» наўгародца, прымусіць выконваць судовы загад павінен быў вялікі князь маскоўскі, а пры непадпарадкаванні суду цверчука справу канчаткова разглядаў вялікі князь літоўскі[9]. Такім чынам, залежнасць Вялікага Княства Цвярскога ад ВКЛ у дамове выяўляецца ў даволі значнай ступені.

Нягледзячы на тое, што Вялікае Княства Цвярское было прызнана ў сферы ўплыву ВКЛ, адносіны дзвюх дзяржаў былі даволі напружанымі. Так, Казімір IV вымушаны быў саступіць цвярскому вялікаму князю Барысу Аляксандравічу Ржэву, таму што справа ледзь не дайшла да ваеннага сутыкнення. А сама Ржэва была перададзена Барысу Аляксандравічу маскоўскім вялікім князем Васіліем Цёмным за падтрымку ў барацьбе за маскоўскі прастол, заняты князем Дзмітрыем Юр'евічам Шамякам. Цвярскі валадар, верагодна, разлічваў, што сляпы і бездапаможны Васілій Цёмны будзе больш выгадным суседам, чым актыўны і ваяўнічы Дзмітрый Шамяка.

Павелічэнне цвярской тэрыторыі за кошт Ржэўскай зямлі было вельмі кароткачасовым. У літоўска-маскоўскай дамове 1449 г. вялікі князь маскоўскі паводзіў сябе так, як быццам бы ён не саступаў Ржэву Цверы, а літоўскі вялікі князь — як быццам бы ён і не імкнуўся адняць гэты горад у Барыса Аляксандравіча. Казімер IV абавязаўся «не въступатисе» «во Ржеву з волостьми», прычым у гэтай частцы дамовы адзіны раз дакладна вызначаецца новая літоўска-маскоўская мяжа[10]. Ужо ў 1462 г. Ржэва дасталася ва ўдзел чацвёртаму сыну Васілія Цёмнага Барысу[11].

Рэальна і Разань, і Цвер, нягледзячы на дэклараваную ў грамаце свабоду дзеянняў або нават залежнасць ад ВКЛ, даволі хутка аказаліся ў сферы ўплыву Масквы.

Дамову 1449 г. можна расцэньваць як рубеж, пасля якога экспансія ВКЛ на ўсходнеславянскія землі спынілася. Аднак значэнне дамовы больш глыбокае. У ёй дэкларавалася размеркаванне сфер уплыву паміж дзвюма найбуйнейшымі дзяржавамі Усходняй Еўропы. Блізілася заканчэнне працэсу аб'яднання рускіх зямель паміж двума цэнтрамі. У поўнай меры два лідары буйнейшых дзяржаў Усходняй Еўропы вырашалі лёс яшчэ не трапіўшых пад іх уладу незалежных дзяржаў, якім было наканавана стаць здабычай больш моцных суседзяў.

У 1449 г. наступіў пэўны перелом у адносінах паміж дзвюма найбуйнейшымі дзяржавамі Усходняй Еўропы, калі імкненне да далейшага павелічэння тэрыторыі на захад (для ВКМ) і ўсход (для ВКЛ) непазбежна вяло да ваеннага канфлікту паміж імі. Да канца XV ст. поўнамаштабных войнаў паміж ВКЛ і ВКМ, па сутнасці, не вялося. Лакальныя сутыкненні тэрытарыяльных інтарэсаў (з-за Ржэўскай зямлі, Вярхоўскіх княстваў і г.д.), натуральна, узнікалі. Існавалі і пэўныя, абгрунтаваныя традыцыяй, прэтэнзіі на некаторыя рускія княствы і землі. Аднак доўгі час паміж Масквой і Вільняй існаваў значны буфер яшчэ не размеркаваных тэрыторый, потым у адносінах паміж імі панавала імкненне да саюзу перад аблічам агульнага ворага — Арды. Саюзніцкія адносіны былі замацаваны дынастычнымі шлюбамі. Пэўны час ВКМ трымалася палітыкі вялікага князя літоўскага Вітаўта. Менавіта тады Масква здае свае пазіцыі ў Смаленску, Вязьме, Вярхоўскіх княствах і фактычна не ўмешвалася ў дзеянні войскаў ВКЛ супраць Ноўгарада і Пскова. Нарэшце, у другой чвэрці XV ст. абедзве дзяржавы былі заняты ўнутранымі праблемамі. А вось у 1449 г.

---

9 ДДГ. № 53. С. 161.

10 Тамсама. С. 162.

11 Тамсама. № 61. С. 193.

адбываецца сур'ёзная змена палітычнай сітуацыі ва Усходняй Еўропе. Дзве найбуйнейшыя дзяржавы пачалі ўпарадкоўваць свае адносіны і размяркоўваць сферы панавання. Пазней, як выявілася, далёка не ўсе ўмовы «вечнага міру» выконваліся, найперш маскоўскім бокам. Звязана гэта з многімі прычынамі, галоўная з якіх — недастатковая ўвага цэнтральнай улады ВКЛ да сваіх усходніх меж, занядбанне Казімірам IV інтарэсаў ВКЛ.

## 2. Барацьба за Ржэву і ржэўскі адрэзак літоўска-маскоўскай мяжы ў сярэдзіне XIV — пачатку XVI ст.

Звесткі гісторыкаў пра мяжу паміж дзвюма найбуйнейшымі дзяржавамі Усходняй Еўропы — вялікім княствамі Літоўскім і Маскоўскім — вельмі фрагментарныя. Да цяперашняга часу характэрна адмова даследчыкаў ад апісання і паказу на картах усходняй мяжы ВКЛ або заходняй мяжы Вялікага Княства Маскоўскага на перыяд з канца XIV (з'яўленне агульнай мяжы) да пачатку XVI ст. (складванне ўстойлівай мяжы).

Асноўнай крыніцай, да якой перш за ўсё звяртаюцца даследчыкі пры спробе рэканструяваць літоўска-маскоўскую мяжу XIV—XV стст., з'яўляюцца дагаворныя граматы паміж дзвюма дзяржавамі-суседзямі. Аднак звычайна тэкст саміх дамоў да пачатку XVI ст. не дае неабходных геаграфічных арыенціраў для дакладнага фіксавання мяжы. Такая спецыфіка пазначаных дакументаў можа тлумачыцца простай прычынай: адсутнасцю неабходнасці пазначаць межы той ці іншай тэрыторыі з-за яе цэласнасці, нязменнасці, яе ўстойлівасці на працягу доўгага часу. Кампактная тэрыторыя, якая далучалася да Масквы або заставалася ў Вільні, не падзялялася, яе структура не парушалася, а таму не было патрэбы ў падрабязным апісанні.

Унікальным выключэннем з'яўляюцца ідэнтычныя фрагменты дзвюх мірных дамоў паміж вялікімі княствамі Літоўскім і Маскоўскім 1449 і 1494 гг., дзе падрабязна апісваецца ржэўскі ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы. Ні ў адной літоўска-маскоўскай дамове XV—XVI стст. падобнай увагі да нейкага іншага ўчастка мяжы няма.

Асобнае ўпамінанне і падрабязнае апісанне мяжы Ржэўскай зямлі звязана, магчыма, з нядаўнім далучэннем Ржэвы да Масквы і адсутнасцю ў гэтым раёне да сярэдзіны XV ст. размежавання паміж літоўскімі і маскоўскімі ўладаннямі (ржэўскімі валасцямі, з аднаго боку, і Таропецкім уездам і Бельскім княствам, з другога).

Неабходнасць дакладнага вызначэння меж Ржэўскай зямлі стала актуальнай, верагодна, толькі ў сярэдзіне XV ст. Да гэтага часу Ржэва ўвесь час пераходзіла з рук у рукі паміж Масквой, Вільняй і Цвер'ю[12]. Акрамя таго, унутраная бязладзіца ў вялікіх княствах Літоўскім і Маскоўскім у другой чвэрці XV ст. доўга не давала магчымасці звяртаць увагу на неўрэгуляваныя памежныя праблемы. Непастаянства ўладання Ржэвай не садзейнічала імкненню клапаціцца аб яе тэрытарыяльным уладкаванні і межах.

[12] Пра перыпетыі барацьбы за Ржэву гл.: Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе (Ржева и ее волости в XIV—XV ст.). С. 149—162; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII—XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 138—143; Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю. С. 71—80; Чернов С.З. Волок Ламский в XIV — первой половине XVI ст. Структуры землевладения и формирование военно-служилой корпорации (Акты Московской Руси: микрорегиональные исследования. Т. 1). М., 1998. С. 164—165.

Тым не менш і адзін, і другі бок выказвалі жаданне валодаць Ржэвай. Яе гісторыя напоўнена пастаянным узброеным супрацьстаяннем.

На пачатку XIII ст. Ржэва (Ржэўка) уваходзіла ў склад Таропецкага княства Мсціслава Мсціславіча Удатнага. Пад 1216 г. у летапісах гаворыцца пра тое, што «князь Святославъ оселъ бе городецъ Ржевку Мъстиславль съ полки»[13], гэта значыць, Ржэва называлася горадам Мсціслава.

На пачатку XIV ст. існавала асобнае Ржэўскае княства. Вядомы яго князь — Фёдар Ржэўскі[14], у 1314 г. пасланы маскоўскім князем Юрыем Данілавічам у Ноўгарад, каб звесці вялікакняжацкіх намеснікаў (Міхаіла Цвярскога)[15]. Што характэрна, наўгародцы трымаліся маскоўскага князя і разам з князем Фёдарам выйшлі да Волгі супраць цвярскога князя Дзмітрыя Міхайлавіча. «Стояша же ту 6 недель, даже до замороза», пакуль не быў заключаны мір «на всей воли Новгородцкой», а ў Ноўгарад на прастол сеў Юрый Данілавіч з братам Афанасіем[16]. У наступным годзе князь Афанасій разам з князем Фёдарам Ржэўскім быў вымушаны пры адсутнасці старэйшага брата, закліканага ў Арду, адстойваць наўгародскі прастол. З Арды вярнуўся князь Міхаіл і тут жа «со всею землею Низовьскою и с Татары» рушыў да Таржка, дзе яго ўжо 6 тыдняў чакалі наўгародскія сілы[17]. Бой каля Таржка быў прайграны наваторжцамі і наўгародцамі. Наўгародцам, якія зачыніліся ў горадзе, Міхаіл Цвярскі прапанаваў мір у выпадку выдачы князёў Афанасія і Фёдара Ржэўскага. Урэшце цвярскі князь пагадзіўся на аднаго Фёдара Ржэўскага, заключыў мір, узяў з Ноўгарада «5 темъ гривенъ серебра», але потым «по миру» схапіў і князя Афанасія, і наўгародскіх баяр, а астатніх людзей пачаў прадаваць[18]. Цвярскі князь, нарэшце, здолеў пасадзіць сваіх намеснікаў у Ноўгарад, але на кароткі час. Ужо ў наступным годзе яны былі выгнаны з горада[19].

Князь Фёдар Ржэўскі падчас службы Маскве, верагодна, страціў свае ўладанні. Калі ў 1335 г. частка ржэўскіх гарадкоў была названа літоўскімі, то магчыма, на пачатку XIV ст. літоўскае пранікненне ў вярхоўі Волгі ўжо пачалося. Магчыма, што ржэўскія землі на пэўны час вярнуліся пад уладу смаленскіх князёў[20].

У 30-я гг. XIV ст. у палітычным плане мацнейшымі дзяржавамі Усходняй Еўропы былі ВКМ, ВКЛ і Вялікі Ноўгарад. За імі стаяла Залатая Арда, якая паспяхова маніпулявала рускімі князямі і пэўны час кантралявала палітычнае жыццё ўсяго рэгіёна. Пры гэтым поўны давер і падтрымку ў дзеяннях з боку Арды атрымліваў

---

[13] ПСРЛ. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. М., 2001. С. 120. У працягу Лаўрэнцьеўскага летапісу: «...князь Святославъ обшелъ городець Ржевку Мстиславъ с полки» (ПСРЛ. Лаврентьевская летопись и Суздальская летопись по Академическому списку. Т. 1. М., 1962. Стб. 492).

[14] М.К. Любаўскі называе яго Фёдарам Фёдаравічам (Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 81).

[15] ПСРЛ. Т. 7. С. 186. У Наўгародскім першым летапісе пад 6822 (1315) г. (НПЛ. С. 335).

[16] ПСРЛ. Т. 7. С. 186. «И ради быша новгородци своему хотению», — дадае наўгародскі летапісец (НПЛ. С. 335).

[17] Летапісец свядома не называе яго вялікім князем, хаця Міхаіл Цвярскі займаў уладзімірскі прастол і не толькі меў тытул вялікага князя, але і па праве павінен быў займаць наўгародскі прастол (НПЛ. С. 336).

[18] НПЛ. С.336.

[19] Тамсама. С.337.

[20] Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе (Ржева и ее волости в XIV—XV ст.). С. 150.

маскоўскі князь. Хітры палітык маскоўскі князь Іван Данілавіч Каліта здолеў, лавіруючы паміж інтарэсамі некалькіх дзяржаў, значна павялічыць свой уплыў у рускіх землях. У ягоным падначаленні знаходзіліся ўсе «нізоўскія» (паводле наўгародскай тэрміналогіі) князі, і сам Ноўгарад вымушаны быў саступаць патрабаванням маскоўскага валадара, які ў якасці ўладзімірскага вялікага князя лічыў наўгародскія землі сваёй вотчынай.

Па вяртанні ў 1332 г. з Арды Іван Каліта запатрабаваў ад Ноўгарада дадатковай даніны для Арды («прося у них серебра закамьское»)[21]. Пасля адмовы наўгародцаў маскоўскі князь «за то взя у Новогородцевъ Тръжокъ и Бежецкій Верхъ»[22]. Далей Іван Каліта пачаў ажыццяўляць моцны палітычны ціск на Ноўгарад. Перш за ўсё ён пайшоў на дынастычны саюз з літоўскімі князямі, ажаніўшы сына Сямёна з літоўскай князёўнай Аўгустай, у хрышчэнні Анастасіяй[23]. Пасля гэтага Іван Даніілавіч прыйшоў з войскам у Таржок «со всеми князи низовьскыми»[24], звёў сваіх намеснікаў з Ноўгарада і фактычна распачаў вайну супраць суседняй дзяржавы («воюющи волость Новгородцкую»)[25], ведаючы, што дапамогі наўгародцам чакаць няма адкуль — літоўцаў звязваў дынастычны саюз. Не маючы моцы супрацьстаяць кааліцыі Івана Каліты, наўгародцы паспяшаліся з паклонам да маскоўскага князя. Але Каліта не прыняў наўгародскіх паслоў і з'ехаў з Таржка. Сам наўгародскі архіепіскап накіраваўся наўздагон Івану Каліце, прапаноўваў маскоўскаму князю ў Пераяслаўлі 500 рублёў, але Іван Каліта ізноў наўгародцаў «не послуша»[26]. Пасля вяртання ў Ноўгарад архіепіскап Васілій адразу ж накіраваўся ў Пскоў, што не здаралася ўжо 7 гадоў. Ноўгарад імкнуўся тэрмінова ўмацаваць сваё становішча. У Пскове хаваўся цвярскі князь Аляксандр Міхайлавіч, які ў 1327 г. далучыўся да антытатарскага народнага паўстання.

Выступленне Ноўгарада супраць Арды станавілася відавочным. Аб гэтым сведчылі і адмова плаціць даніну з часткі сваіх уладанняў, і саюз з Псковам, які дапамагаў ворагам Арды (пскавічы прынялі ўладыку «с великою честью», і ён хрысціў сына цвярскога князя Міхаіла[27]). Адчуўшы палітычную кан'юктуру, да наўгародцаў вярнуўся літоўскі князь Нарымонт Гедымінавіч. Хутка ён «приеха» ў Ноўгарад «на пригороды, что ему ркли въ Литве»[28]. Літоўскі князь атрымаў «Ладогу, и Ореховыи, и Корельскыи, и Корельскую землю, и половину Копорья в отцину и в медину, и его детем»[29]. Фраза летапісца «что ему ркли въ Литве» мела на ўвазе падзеі 1331 г. Тады Грыгорый Каліка (пасля пастрыжэння — Васілій)[30], які ішоў на

---

21 НПЛ. С. 344. У Васкрасенскім летапісе, відаць, памылкова: «сребра Закаменьское» (ПСРЛ. Т. 7. С. 203).

22 ПСРЛ. Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью. Т. 10. М., 2000. С. 206.

23 ПСРЛ. Т. 7. С. 204.

24 НПЛ. С. 345. У Ніканаўскім летапісе: «со всеми князи и со мъногою силою иде въ Торжекъ ратью» (ПСРЛ. Т. 10. С. 206).

25 ПСРЛ. Т. 7. С. 204. У НПЛ: «...теряя волость новгородчкую» (НПЛ. С. 345).

26 НПЛ. С. 345; Татищев В.Н. Собрание сочинений. Т. 5, 6. История Российская. М., 1996. С. 87.

27 НПЛ. С. 345; ПСРЛ. Т. 10. С. 206.

28 ПСРЛ. Т. 7. С. 203. Гл. таксама: ПСРЛ. Т. 10. С. 206. В.М. Тацішчаў піша пра тое, што наўгародцы самі паклікалі літоўскага князя («позван новгородцами») і «прияша его с радостию». (Татищев В.Н. Собрание сочинений. Т. 5, 6. С. 87).

29 НПЛ. С. 346.

30 НПЛ. С. 342—343. Ранейшы наўгародскі архіепіскап Маісей па сваёй волі пастрыгся ў манахі (НПЛ. С. 342).

пастаўленне ў архіепіскапы з Ноўгарада ў Валынскую зямлю[31], разам з некалькімі баярамі быў «на міру» схоплены Гедымінам і вымушаны паабяцаць наўгародскія прыгарады сыну літоўскага князя Нарымонту «въ вотчину и в дедину и его детемъ»[32]. Саюз Ноўгарада з Літвой быў, такім чынам, вымушаным.

Зрэшты, і адносіны з Псковам не маглі быць бясхмарнымі. Яшчэ зусім нядаўна (1331 г.) пскавічы («възнесшеся высокоумиемъ своимъ») са сваім князем Аляксандрам Міхайлавічам, падтрыманыя літоўскімі князямі, імкнуліся выбраць свайго архіепіскапа (Арсенія), накіраваўшы вельмі прадстаўнічую дэлегацыю да мітрапаліта[33]. «Арсений жид со Пъсковичи» быў зняслаўлены мітрапалітам і вярнуўся ні з чым[34]. Новага ж наўгародскага архіепіскапа спрабавалі схапіць літоўцы, ён ледзь адкупіўся ад разбойнага кіеўскага князя Фёдара і насілу дабраўся да Ноўгарада[35]. Відавочна, што адносіны Масквы і Арды з Псковам, у якім сядзеў, парушаючы традыцыю і хроснае цалаванне да Ноўгарада «из Литовьские руки»[36] цвярскі князь, былі напружанымі.

У выніку ў 1333 г. склалася, хаця і хісткая, кааліцыя (Ноўгарад, Пскоў, Літва), якой супрацьстаяла Арда і залежныя ад яе рускія князі. Але супярэчнасці Ноўгарада і Пскова засталіся нявырашанымі[37]. Відаць, і саюз з Літвой быў не ў наўгародскіх інтарэсах. У 1334 г. архіепіскап Васілій ездзіў да мітрапаліта ва Уладзімір[38], а апошні, верагодна, паўплываў на Івана Каліту, які, па вяртанні з Арды, прыняў наўгародскіх паслоў і «взяша миръ по старине»[39]. Відаць, невыпадкова наўгародскі архіепіскап яшчэ раз накіраваўся ва Уладзімір да мітрапаліта Феагноста «со многими дары и съ честію»[40]. Яшчэ адна палітычная сіла часова аднавіла раўнавагу на палітычнай арэне Усходняй Еўропы[41]. Князь Нарымонт вымушаны быў сысці ў Літву (праўда, пакінуўшы за сабой кармленне)[42], а Іван Каліта «иде въ Новгородъ на столъ»[43].

---

31 Мітрапаліт Феагност знаходзіўся ў той час у Валынскай зямлі, ва Уладзіміры Валынскім (ПСРЛ. Т. 10. С. 203; НПЛ. С. 343; ПСРЛ. Ермолинская летопись. Т. 23. СПб., 1910. С. 141).

32 ПСРЛ. Т. 7. С. 203. Гл. таксама: ПСРЛ. Т. 10. С. 204.

33 НПЛ. С. 343; ПСРЛ. Т. 15. С. 233.

34 ПСРЛ. Т. 15. С. 233. Менш экспрэсіўна гл.: НПЛ. С. 343; ПСРЛ. Т. 10. С. 205.

35 ПСРЛ. Т. 15. С. 233—234; Т. 23. С. 141. Прычым згодна з Ніканаўскім летапісам з архіепіскапам было 600 чалавек. І іх тэрарызаваў князь Фёдар, які быў з баскакам і малой дружынай — усяго толькі ў 50 чалавек (ПСРЛ. Т. 10. С. 205). Наўгародскі летапісец факт водкупу наогул замоўчвае (НПЛ. С. 344).

36 НПЛ. С. 343; ПСРЛ. Т. 15. С. 233.

37 Ужо ў 1335 г. наўгародцы хацелі ісці разам з Іванам Калітой «и со всею Низовьскою землею» на пскавічоў, але маскоўскі князь пачаў з наўгародцамі «по любви речь» і адклаў паход (НПЛ. С. 346).

38 НПЛ. С. 346.

39 ПСРЛ. Т. 7. С. 204; Т. 10. С. 207.

40 ПСРЛ. Т. 10. С. 207.

41 Больш верагоднае іншае тлумачэнне дзеянняў Івана Каліты. Маскоўскага князя, відавочна, цалкам кантраляваў хан Узбек, які падчас вайны з Ноўгарадам даслаў «по великого князя Ивана Даниловичя» свайго пасла, заклікаючы першага да сябе (ПСРЛ. Т. 10. С. 206). Праінструктаваны маскоўскі князь, вярнуўшыся ў Маскву, дзейнічаў у адносінах да Ноўгарада больш міралюбіва. Відаць, Арда, ацаніўшы стараннасць Каліты па выбіванні дадатковай даніны з наўгародцаў, палічыла яе залішняй, бо тэндэнцыя саюзу Ноўгарада і Літвы была не ў татарскіх інтарэсах.

42 Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 90—91. У 1338 г., калі на наўгародскія ўладанні напалі немцы, наўгародцы неаднаразова клікалі яго на дапамогу, але літоўскі князь не толькі сам не прыехаў, але і вярнуў у Літву свайго сына Аляксандра. Пры гэтым намеснікі літоўскага князя засталіся на месцах (НПЛ. С. 349).

43 ПСРЛ. Т. 7. С. 204.

Ва Усходняй Еўропе напярэдадні першага ваеннага сутыкнення Масквы і Літвы склалася новая палітычная сітуацыя. Узнавіўся непазбежны саюз Масквы і Ноўгарада, якому супрацьстаялі Пскоў і Літва. Палітычнае супрацьстаянне хутка знайшло сваё адлюстраванне ў ваенных дзеяннях. Нягледзячы на існаванне мірнай дамовы Ноўгарада і Літвы, у 1335 г. «воеваша Литва Новоторжьскую волость на миру»[44]. Маскоўскі князь, які даволі доўгі час ужо знаходзіўся ў Ноўгарадзе, на момант нападу літоўцаў якраз прыбыў у Таржок[45]. Іван Каліта сабраў з наўгародцаў войска і «пожже городке Литовьскыи Осеченъ и Рясну и иных городковъ много»[46].

Асечан і Расна, а таксама незгаданыя «литовские городки» адносіліся да Ржэўскай зямлі, праўда, сам горад Ржэва, магчыма, або тады яшчэ не належаў Літве, або на яго не нападалі. Падаецца слушнай здагадка пра тое, што Ржэва была часткай былога Таропецкага княства і нават пасля далучэння да ВКЛ Таропца стала сталіцай паменшанага ў памерах княства[47]. Калі так, то прэтэнзіі літоўскіх вялікіх князёў на Ржэву цалкам зразумелыя.

Першы захоп Літвой непасрэдна Ржэвы трэба, верагодна, датаваць 1356 годам. Летам гэтага года «Сижского сынъ Иван седе съ Литвою во Ржеве»[48]. Такім чынам, адзін з удзельных ржэўскіх князёў[49], ужо пазбаўлены сваіх уладанняў (яго не называюць сіжскім князем, а ўсяго-толькі сынам сіжскага князя) быў пасаджаны ў Ржэву з дапамогай літоўскай сілы. Але летам 1358 г. войскі Волака Ламскага (або Цверы) і Мажайска адбілі раней захопленую літоўцамі Ржэву[50].

З сярэдзіны XIV ст. літоўскія ўладанні паступова набліжаліся да маскоўскіх. Дастаткова кароткі тэрмін валодання Ржэвай (1356—1358 гг.), верагодна, усё ж даў магчымасць Альгерду ажыццявіць пэўныя дзеянні для ўмацавання свайго становішча ў рэгіёне. У 1359 г. «смольняне воевали Белоую»[51], значыць, да гэтага

---

44 НПЛ. С. 347.

45 Цікавае спалучэнне летапісных падзей. Іван Данілавіч прыбыў у Таржок, літоўцы ваявалі Наваторжскую воласць, вялікі князь спаліў літоўскія гарадкі (ПСРЛ. Т. 10. С. 207; РЛ. Т.8. С. 233). Магчыма, Літва мела нейкія тэрытарыяльныя прэтэнзіі да часткі наўгародскіх зямель. Таржок (Новы Торг) знаходзіўся ў сумесным кіраванні Ноўгарада і Уладзіміра, і можна меркаваць, што да 1335 г. частка прыбыткаў з гэтага горада і яго воласці пачала пастунаць у ВКЛ. Сваім прыездам Іван Каліта спыніў гэтыя пастунленні, чым і выклікаў ваенную актыўнасць літоўцаў.

46 НПЛ. С. 347. Пры гэтым Ніканаўскі летапіс дадае, што «убиша тогда Литва много мужей добрыхъ Новогородцкыхъ» (ПСРЛ. Т. 10. С. 207). Гэтая заўвага можа сведчыць пра тое, што войска Іван Каліта набіраў менавіта з наўгародцаў. Цікавыя паводзіны вялікага князя пасля апісанай падзеі. Хутка ў Маскву былі выкліканы знатнейшыя людзі Ноўгарада («князь великыи позва владыку к собе на Москву на честь, и посадника и тысяцкого и вятших бояръ»). «И владыка Василии ездивъ, и чести великои много видилъ», — дадае летапісец. Відавочна, Іван Каліта разглядаў наўгародскія землі ў якасці сваёй вотчыны, а ваенную дапамогу наўгародцаў успрыняў з удзячнасцю.

47 Кузьмин А.В. Торопецкая знать в XIII ст. Из истории Смоленской земли // Russia mediaevalis. Т. X, 1. München, 2000. P. 75.

48 ПСРЛ. Т. 15. С. 66.

49 Сіжка — адна з валасцей Ржэўскай зямлі. Гарадок Сіжка знаходзіўся зусім непадалёку ад Ржэвы, пры ўпадзенні рэчкі Сіжкі ў Волгу.

50 У Ніканаўскім летапісе: «Того же лета [1358 г. — В.Ц.] Тверская рать да Можайская взяша Ржеву, а Литву изгнаша» (ПСРЛ. Т. 10. С. 230). У Рагожскім летапісцы: «Того же лета [1358 г. — В.Ц.] Волотьская рать да Можаиская взяли Ржевоу, а Литвоу выслали вонъ» (ПСРЛ. Т. 15. С. 68).

51 ПСРЛ. Т. 15. С. 68.

часу горад Белая быў ужо ў складзе ВКЛ, прычым, як відаць з летапіснай заметкі, у Смаленскага княства не ўдалося адваяваць свае былыя ўладанні. У адказ у той жа год вялікі князь літоўскі Альгерд напаў на Смаленск, захапіў Мсціслаў («а Литвоу свою въ немь посадилъ»), а затым узімку даслаў сына Андрэя на Ржэву і зноў адваяваў яе[52]. Відаць, літоўскі валадар імкнуўся грунтоўна замацавацца ў такім стратэгічна важным пункце, як Ржэва, таму ў 1360 г. сам прыяджаў «Ржевы смотрит[ь]»[53].

Умацаваўшыся ў раёне вярхоўяў Волгі, Дзвіны і Дняпра, літоўскія князі палічылі магчымым далейшае наступленне на суседнія землі. Так, зімой 6869 (1361/62) г. «литва волости Тферьскыи имали»[54]. Верагодна, пацярпелі валасці цвярскога ўдзельнага князя Міхаіла Аляксандравіча Мікулінскага, бо хутка менавіта ён «ездилъ въ Литву о миру и взялъ миръ съ Олгердомъ»[55]. Уладанні князя Міхаіла Аляксандравіча тады знаходзіліся параўнаўча далёка ад мяжы з ВКЛ, аднак хутка быў здзейснены напад і на былы Холмскі ўдзел, які займаў памежную заходнюю частку Цвярскога княства. У 1368 г. Андрэй Альгердавіч Полацкі, відавочна, са Ржэвы напаў на бліжэйшыя цвярскія валасці Хорвач і Родню[56]. Аднак адразу ж за літоўскім нападам адбыўся паход серпухаўскага ўдзельнага князя Уладзіміра Андрэевіча на Ржэву і захоп яе («...князь Андреи Олгердович[ь] Полотьскыи воевалъ Хорвачь и Родню, а князь Володимеръ Андреевичь ходилъ ратию да взялъ Ржеву, а литву отъпустилъ изъ города»)[57]. Праз восем гадоў ізноў той самы князь Уладзімір Андрэевіч спрабаваў заваяваць для Масквы Ржэву, але няўдала[58]. Значыць, да 1376 г. горад ізноў перайшоў да ВКЛ. На думку У.А. Кучкіна, гэта адбылося да лета 1372 г.[59]. У 1390 г., паводле летапіснай заметкі, Ржэва разам з Волакам Ламскім была перададзена вялікім князем Васіліем Дзмітрыевічам ва ўдзел усё таму ж Уладзіміру Андрэевічу[60]. Як даказаў У.А. Кучкін, ізноў у руках Масквы Ржэва аказалася да 1386 г., а хутчэй за ўсё ў 1381—1382 гг., калі вялікім князем літоўскім на час стаў Кейстут — прыхільнік сяброўскіх адносін з Масквой[61]. Аб існаванні маскоўска-літоўскай дамовы, заключанай да часу праўлення ў Літве Кейстута (1381—1382 гг.), відаць з аналізу мірнай дамовы 31 жніўня 1449 г.

---

52 ПСРЛ. Т. 15. С. 68.

53 Тамсама. С. 69.

54 Тамсама. С. 72.

55 Тамсама. С. 73 (1462/1363 г.).

56 Тамсама. С. 81. Аб прыналежнасці валасцей Хорвача і Родні да Цверы гл.: Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV ст. С. 148.

57 ПСРЛ. Т. 15. С. 81.

58 Трохтыднёвая аблога не дала вынікаў. Гл.: ПСРЛ. Т. 15. С. 100.

59 Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 152; Ён жа. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой. С. 76, 91—93.

60 ПСРЛ. Т. 15. С. 128. Да нас дайшла дамова паміж Васіліем I і Уладзімірам Андрэевічам Серпухаўскім, па якой серпухаўскі князь надзяляўся Волакам і Ржэвай з валасцямі (ДДГ. № 13. С. 37). Вялікі князь маскоўскі не быў упэўнены ў валоданні Ржэвай, а таму ўнёс у дамову спецыяльны артыкул, дзе агаворваўся выпадак страты горада: «А ци какимь деломь отойметься от тобе Ржева, а дати ми тобе во Ржевы место Ярополчь и Медуши. А искать ны Ржевы, а тобе с нами с одиного; а найдем Ржеву, и Ржева тобе, а волости наши нам» (ДДГ. № 13. С. 38; Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С.81).

61 Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 152.

паміж Васіліем II Цёмным і Казімірам IV[62]. Маскоўска-літоўскае пагадненне 1381 або 1382 г. тычылася непасрэдна ржэўскіх зямель і рэгулявала адносіны маскоўскага і літоўскага бакоў у рэгіёне, які на той час быў адзіным месцам судакранання маскоўскіх і літоўскіх уладанняў. На думку У.А. Кучкіна, пераход Ржэвы да Масквы быў «наступствам тых змен сіл ва Усходняй Еўропе, якія выклікала перамога Дзмітрыя Данскога над Мамаем у бітве на Куліковым полі»[63].

Аднак не ўсе ржэўскія воласці сталі маскоўскімі. Як вынікае са згаданай дамовы 1449 г., воласць Асуга засталася пад кіраваннем вялікага князя Кейстута («А которыи места волостили веда[ли] Осугу пры великом князи Кестутьи, и твоим волостелемъ по тому ж ведати, а мне, великому князю Василью, не вступатисе»)[64]. Тэрыторыя воласці, верагодна, займала прастору ўздоўж ракі Асугі, што ўпадала ў Вазузу вельмі блізка ад упадзення апошняй у Волгу. Усходнім суседам воласці непазбежна былі ўладанні Фамінска-Беразуйскага княства, а паўночным — цвярскія землі.

Ржэва знаходзілася ў складзе Маскоўскага княства да канца XIV ст. У 1399 г., верагодна, дзякуючы дзейнасці Арды, для якой узнікла небяспека з боку сіл Вітаўта і сагнанага з сарайскага прастолу Тахтамыша, «съединишася Русстии князи вси за единъ»[65]. Тады ж маскоўскі і цвярскі вялікія князі Васілій Дзмітрыевіч і Міхаіл Аляксандравіч «покрепиша миру»[66]. Першым крокам аб'яднаных рускіх князёў стала абвяшчэнне вайны Вітаўту («Того же лета послаша князи Русстии грамоты разметныи к Витовъту»)[67]. І вось неўзабаве, 12 жніўня 1399 г., у бітве на р. Ворскле Вітаўт з Тахтамышам былі разгромлены ардынскім «царом» Цімур-Кутлугам[68].

Каб прыцягнуць да саюзу спрадвечнага маскоўскага ворага і літоўскага саюзніка цвярскога князя Міхаіла Аляксандравіча, маскоўскі вялікі князь Васілій Дзмітрыевіч, несумненна, павінен быў пайсці на пэўныя саступкі. Грунтуючыся на шэрагу крыніц, У.А. Кучкін даказаў, што такой саступкай былі ржэўскія землі[69]. Такім чынам, у 1399 г. Ржэва стала цвярскім уладаннем і хутка была завешчана Міхаілам Цвярскім старэйшаму сыну Івану[70].

Пад цвярской уладай Ржэва пабыла нядоўга. Ужо на пачатку XV ст. ёю распараджаліся як сваім уладаннем маскоўскія князі. Згодна з дамовай паміж вялікім князем маскоўскім Васіліем Дзмітрыевічам і ўдзельным серпухаўскім князем Уладзімірам Андрэевічам Волак Ламскі і Ржэва з усімі валасцямі ізноў перайшлі да старэйшага маскоўскага князя, але перад гэтым пабылі ў руках серпухаўскага

---

62 Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 152.

63 Тамсама.

64 ДДГ. № 53. С. 160—161.

65 ПСРЛ. Т. 15. С. 133. Аўтарскі погляд, адлюстраваны ў гэтай працы, не супадае з меркаваннем У.А. Кучкіна, які лічыць, што небяспека з боку Вітаўта і ардынскага экс-хана Тахтамыша пагражала рускім князям (Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 153).

66 ПСРЛ. Т. 15. С. 133. Як пераканаўча даказаў У.А. Кучкін, маскоўска-цвярская дамова была заключана паміж 10 лютага і 12 жніўня 1399 г. (Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 153). Тэкст дамовы, дзе, праўда, адсутнічае згадка Ржэвы, гл.: ДДГ. № 15. С. 40—43.

67 ПСРЛ. Т. 15. С. 133.

68 Тамсама.

69 Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 153.

70 ПСРЛ. Т. 4. Ч. 1. Вып. 2. С. 388; Т. 5. С. 252.

князя[71]. У адпаведнасці з рознымі меркаваннямі, дамова была заключана ў 1401—1402 гг.[72] або да лета 1404 г.[73]. Такім чынам, да гэтых магчымых дат па невядомай прычыне Цвер пазбавілася Ржэвы.

У 1408 г. на бок Масквы перайшоў малодшы сын Альгерда Свідрыгайла — супернік вялікага літоўскага князя Вітаўта. Васілій Дзмітрыевіч, які займеў козыр у барацьбе з ВКЛ, даў Свідрыгайлу намесніцтвы шмат у якіх землях Маскоўскай Русі (Уладзіміры, Пераяслаўлі, Юр'еве Польскім, Волаку Ламскім), а таксама аддаў яму і Ржэву[74].

Але літоўскі княжыч нядоўга валодаў Ржэвай. Хутка Васілій I аддаў яе (разам з Волакам) Уладзіміру Андрэевічу, абавязанаму арганізоўваць абарону заходніх меж Масквы[75], аднак хутка ўзяў Ржэву назад і аддаў яе свайму малодшаму брату Канстанціну[76]. У 1419 г. Васілій I адабраў у Канстанціна ягоную вотчыну, але ў 1425 г. ужо Васілій II ізноў далучыў Ржэву да ўладанняў малодшага сына Дзмітрыя Данскога[77]. У 1433 г. князь Канстанцін памёр, і ў 1434 г. Ржэва ў якасці ўзнагароды за дапамогу Васілію II перайшла да Дзмітрыя Шамякі[78].

Такім чынам, на працягу доўгага часу Ржэўская зямля належала маскоўскім удзельным князям.

У 1446 г. за абяцанне дапамогі ў барацьбе за маскоўскі прастол Васілій II Цёмны перадаў Ржэву вялікаму князю цвярскому Барысу Аляксандравічу (Васілій Цёмны «князю великому Борису Александровичу далъ Ржеву»[79], цвярскую «прадедину», якую «досягли были наши братиа, великие князи московские»[80]). Аднак з прычыны супраціўлення саміх ржэвічаў цвярскі ўладар захапіў горад толькі пасля трохтыднёвай аблогі (пачатак вясны 1447 г.)[81]. А неўзабаве Ржэвай завалодалі літоўскія сілы (4 лютага 1448 г.)[82]. Наспявала буйнамаштабная вайна, якая нечакана скончылася заключэннем мірнай дамовы. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір адмовіўся ад прэтэнзій на Ржэву («А што былъ еси взялъ подо мною [вялікім князем цвярскім Барысам Аляксандравічам] Ржову, буда со мною не в любви, и я тебе [караля і вялікага князя Казімера], и великого князя [Васілія Цёмнага?], перепросил, с тобою взял любов(ь), и ты ся Ржовы мне отъступилъ»)[83]. Пры гэтым у дамове было згадана

[71] ДДГ. № 16. С. 43.

[72] Черепнин Л.В. Русские феодальные архивы XIV—XVI вв. Ч. 1. М., 1948. С. 68—69.

[73] Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 155.

[74] ПСРЛ. Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью. Т. 11. М., 2000. С. 204.

[75] Очерки истории СССР. Период феодализма IX—XV ст. Ч. II. (XIV—XV ст.). М., 1953. С. 224.

[76] Соловьев С.М. Сочинения. Кн. 2. Т. 4. С. 513. На думку С. Герберштэйна, менавіта з таго часу за Ржэвай надоўга захавалася назва Валадзімеравай, у памяць пра ўладанне ёю Уладзімірам Серпухаўскім (Герберштейн С. Записки о Московии. М., 1988. С. 329).

[77] ДДГ. № 34. С. 87.

[78] Зимин А.А. Витязь на распутье. С. 71.

[79] ПСРЛ. М., 2000. Т. 15. Стб. 493.

[80] Лихачев Н.П. «Инока Фомы слово похвальное о благоверном великом князе Борисе Александровиче» // Памятники древней письменности и искусства. 1908. Вып. CLXVIII. С. 54.

[81] Тамсама. С. 50; Зимин А.А. Витязь на распутье. С. 122.

[82] ПСРЛ. Т. 15. Стб. 494. Пра датаванне гл.: Клюг Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.). Прим. 179. С. 342.

[83] ДДГ. №. 54. С. 163.

існаванне ржэўскіх меж («А рубежъ Ржове и Ръжовъскимъ волостемъ по старыне»)[84]. Такім чынам было падкрэслена, што мяжа паміж Ржэўскімі валасцямі і ВКЛ існавала да 1448 г.

Зрэшты, Ржэва толькі кароткі час заставалася цвярскім уладаннем. 31 жніўня 1449 г. у літоўска-маскоўскай дамове яна, без згадак пра папярэднюю прыналежнасць, была бясспрэчна зафіксавана за Масквой. І менавіта тады ў грамаце пра саюз і «вечны» мір Казіміра з Васіліем Цёмным упершыню быў падрабязна апісаны ржэўскі ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы. У 1494 г. ржэўская мяжа была яшчэ актуальнай (да яе яшчэ падыходзілі валоданні ВКЛ), і фрагмент з яе апісаннем быў паўтораны ў літоўска-маскоўскай дамове.

У тэксце першай граматы («Лист перемир(ь)я вечног(о)» 1449 г.) Ржэва выносіцца асобна пасля пераліку тых уладанняў Вялікага Княства Маскоўскага, на якія не мог прэтэндаваць кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір («А тобе, Казимиру, королю полскому и великому князю литовскому, не въступатисе в мою отчыну, ни во все мое великое княженье, ни в мое братьи молодшое отчыну, и во Ржеву з волостьми…»)[85]. Адразу ж за згадкай Ржэвы ідзе апісанне памежнай лініі (ад возера Арлінца да ракі Асугі), якая падзяляла маскоўскія і літоўскія ўладанні.

У другой грамаце («вечное докончанье» 1494 г.) Ржэва фігуруе ўжо ў складзе валоданняў малодшага брата вялікага князя маскоўскага Івана III удзельнага валоцкага князя Барыса Васільевіча. Пасля заўвагі аб «отчине» князя Барыса, у якую нельга ўступацца вялікаму князю літоўскаму Аляксандру, у грамаце ізноў была згадана Ржэва з валасцямі і быў паўтораны той жа фрагмент з апісаннем ржэўскага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы, што і ў грамаце 1449 г.

Розніца ў тэкстах паміж двума фрагментамі мінімальная і тычыцца яна ў асноўным невялікіх скажэнняў у выкарыстаных назвах тапонімаў. Вось параўнальная табліца спісаў грамат 1449 і 1494 гг.

Таб. 2. Ржэўская мяжа ў граматах 1449 і 1494 гг.

| Грамата 1449 г. Ад імя Васілія Цёмнага | Грамата 1449 г. Ад імя Васілія Цёмнага | Грамата 1449 г. (Спіс 1498 г.) Ад імя Васілія Цёмнага | Грамата 1494 г. Ад імя Аляксандра Казіміравіча | Грамата 1494 г. Ад імя Івана III |
|---|---|---|---|---|
| «…и во Ржеву з волостьми, по озеро по Орлинце наполы, по озеро по Плотинцо, по Красныи борокъ, по Баран(ь)ю речку, на верхъ Белеики, по Белеике на Поникль, с Поникль на верхъ Сижки, з березы на мох, со мху на верхъ Осухи…»[86] | «…и во Ржову з волостьми, по озеро по Орлинцо наполы, по озеро по Плотинъце, по Красныи борокъ, по Баранью речку, по Белике на по на Поникль, с Поникль на веръхъ Сижъки, з Березы на Мохъ, со Моху на веръхъ Осуги…»[87] | «…и во Ржеву з волостьми, по озеро по Орлинце наполы, по озеро по Плотинцо, по Красныи борокъ, по Бараню речку, наверхъ Белеики, по Белеике на Поникль, с Поникль наверхъ Сижки, з Березы на Мох, со Мху наверхъ Осухи…»[88] | «…і во Ржову с волостми, по озеро по Орлинцо наполы, по озеро по Плотинцо, по Краснои Борокъ, по Боран(ь)ю речку, на верхъ Белеики, по Белеику на Пониклъ, с Поникли на верхъ Сижки, з березы на мох, со мху на верхъ Осуги…»[89] | «…и во Ржову з волостьми, по озеро по Орълинъцо наполы, по озеро по Плотинъцо, по Красныи Борокъ, по Боранъю речку, наверхъ Белеики, по Белеику на Пониклъ, с Поникли наверхъ Сижки, з Березы на Мох, со Мху наверхъ Осуги…»[90] |

Як сведчыць інфармацыя, прыведзеная ў табл. 2, важнай з'яўляецца варыятыўнасць напісання толькі трох геаграфічных аб'ектаў: Ржэва — Ржова, Арлінцэ — Арлінцо, Асуха — Асуга. Магчыма, у спісах грамат адбывалася пэўная

[84] ДДГ. №. 54. С. 163; LM. Kn. 5: (1427—1506). № 141. С. 258.

[85] ДДГ. № 53. С. 160.

[86] Тамсама. С. 160.

[87] LM. Kn. 5. № 136. С. 252.

[88] Тамсама. № 78.1. С. 131—132.

[89] ДДГ. № 83. С. 329.

[90] LM. Kn. 5. № 78.2. С. 134.

карэкціроўка назваў у бок іх адпаведнасці больш характэрнаму на той момант напісанню. У выпадку з напісаннем «Осуха» ў першай грамаце нельга выключыць, што адбылася простая апіска. Не апошнюю ролю, напэўна, адыграла і інтэрпрэтацыя тэксту выдаўцамі гэтай крыніцы.

Звяртае на сябе ўвагу падыход да публікацыі разгляданага фрагмента грамат. Так, Л.У. Чарапнін, верагодна, разумеў пад фразай граматы «з березы на мох» праходжанне мяжы праз бярозавы гай і балота. Э. Баніёніс, які падрыхтаваў да друку 5 кнігу Літоўскай метрыкі, быў, магчыма, больш знаёмы з мясцовасцю і пазначыў «Бярозу» і «Мох» з вялікіх літар, лічачы іх, верагодна, назвамі нейкіх геаграфічных аб'ектаў. Аднак варта скарэкціраваць абодва варыянты напісання. Паміж вярхоўямі рэк Сішка і Асуга сапраўды цячэ рака Бяроза (прыток Мяжы), але «мох» — гэта звычайнае пазначэнне балота (гл., напрыклад, назвы балот у раёне праходжання ржэўскай мяжы: Шылаўскі Мох, Яшкін Мох, Ямскі Мох, Дзерзкі Мох, Дзяміхаўскі Мох, Мухаяраўскі Мох і г.д.[91]).

Спэцыфікай апісання ржэўскага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы з'яўляецца выкарыстанне амаль выключна водных аб'ектаў (гідронімаў) без указання бліжэйшых населеных пунктаў (айконімаў) з адзінкавай згадкай мікратапоніма (Красны барок). Магчыма, падобны характар апісання мяжы сведчыць пра тое, што ў рэгіёне, блізкім да мяжы, зусім не было паселішчаў. У разгледжаным фрагменце не пазначаны нават валасці, да якіх цягнуліся землі па баках ад лініі мяжы і, што выклікае здзіўленне, не было зарыентавана размяшчэнне літоўскіх і маскоўскіх уладанняў. Можна зрабіць параўнанне з фармулёўкамі адной з раз'езджых грамат: «Направе земля от реки от Клязьмы Вохонские волости до Селенские волости, а налеве земля Володимерскаа Сенежские волости»[92]; ці больш блізкай па мясцовасці разводной граматы: «Направе — земли и воды великаг(о) кн(я)зя, Новугородские, Лопастицскои волости, Аркажа монастыря, а налеве — земли и воды кн(я)жы Борисовы Васил(ь)евич(а), Ржевскіе, Вселуцскои волости»[93].

Тым не менш, менавіта такі характар апісання ржэўскага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы (з прыярытэтам у выкарыстанні гідронімаў) дазваляе сёння ўпэўнена правесці лінію даўняй мяжы. Практычна ўсе згаданыя ў разгледжаным фрагменце грамат рэкі і азёры лакалізуюцца па картах XVIII—XIX стст.

У якасці геаграфічных арыенціраў, што складаюць апору пры рэканструкцыі мяжы, служаць наступныя назвы геаграфічных аб'ектаў: возера Арлінца (сучаснае Арлінскае), возера Плацінца (на поўдзень ад воз. Арлінскага цячэ рэчка Плацічанка, якая цяпер упадае ў воз. Цыніцкае)[94], Красны барок (ліставы лес, відавочна, на поўдзень ад рэчкі Плацічанкі[95]), Барання рэчка (сучасная рачулка Баранька, левы

[91] Тверская область. Топографическая карта. Масштаб 1:200 000. М., 1992. С. 37, 51.

[92] АФЗХ. Ч. 1. № 217. С. 191.

[93] ДДГ. № 77. С. 292.

[94] Мяркуючы па карце Цвярской губерні А.І. Мендэ, р. Плацічанка ўпадала не ў воз. Цініцкае (яго не існавала), а ў воз. Арлінскае, гэта значыць, наогул цякла ў супрацьлеглым напрамку! Характэрна, што р. Плацічанку паводле той ж карты неабходна атаясамліваць з сучаснай Арлінкай. Плацічанка ж, якая зараз абмінае воз. Арлоўскае і ўпадае ў воз. Цініцкае, на карце 1850 г. не пазначана (Межевой атлас Тверской губернии, составленный в 1848—49 гг. под наблюд. ген. Менде. Масштаб: в 1 дюйме — 2 версты. S:W:A:3).

[95] На карце Цвярской губерні А.І. Мендэ пасярод вялікага лесу на паляне пазначана в. Красная, якая сваёй назвай можа ўказваць на месцазнаходжанне Краснага бора. Месца вёскі — на ўсход ад воз. Ахват і больш на поўдзень ад воз. Арлінскага (Межевой атлас Тверской губернии… S:W:B:3).

прыток Жукопы)[96], Бялейка (правы прыток р. Мяжы), Панікль (сучасная рэчка Паніклля, левы прыток р. Мяжы, крыху вышэй па цячэнні ад вусця рэчкі Бялейкі), Сіжка (у сучасным напісанні рэчка Сішка, але, відаць, больш даўні варыянт менавіта Сіжка — так называўся валасны цэнтр, «літоўскі» гарадок каля вусця р. Сіжкі, а таксама ад назвы гарадка менаваўся князь сіжскі), Бяроза (як і Паніклля — левы прыток Мяжы, але значна ніжэй па цячэнні за апошнюю), мох (відавочна, балота паміж рэкамі Бярозай і Асугай) і, нарэшце, Асуга (левы прыток Вазузы)[97]. Згадванне азёр і вярхоўяў (дакладней «вярхоў», гэта значыць вытокаў) рэк дазваляе намеціць кантрольныя кропкі праходжання лініі мяжы. У астатніх выпадках маецца на ўвазе следаванне мяжы на нейкай адлегласці ўздоўж цячэння рэк і праз лясную і балоцістую прастору. На карце Цвярской губерні, складзенай паводле матэрыялаў Генеральнага межавання А.І. Мендэ ў сярэдзіне XIX ст. (у 1 дзюйме 2 вярсты або ў 1 см 840 метраў) мы знаходзім усе лакалізаваныя геаграфічныя аб'екты, а таксама можам выказаць здагадку пра месцазнаходжанне Краснага барка на поўнач або вакол вёскі Краснай (на ўсход ад воз. Ахват). Калі меркаваць па карце, рэчка Плацічанка яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. упадала ў Арлінскае возера.

Такім чынам, у агульным плане ржэўская мяжа ішла на поўдзень ад возера Арлінца, уздоўж возера Плацінца, абмінаючы Красны барок, паварочвала на паўднёвы ўсход на Бараннюю рэчку, затым пераходзіла ў тым жа напрамку да вытоку рэчкі Бялейкі, рухаючыся па Бялейцы, адрывалася ад яе і пераходзіла на ўсход на рэчку Паніклю, ад апошняй ішла на ўсход і паўднёвы ўсход да вытоку р. Сіжкі, потым даходзіла да р. Бярозы і паварочвала на ўсход да верху р. Асугі, на якой завяршалася апісанне ржэўскай мяжы.

Пасля фіксавання на карце ўсіх геаграфічных арыенціраў, якія згадваліся ў разгляданым фрагменце дзвюх дагаворных грамат, і пазначэння агульнага напрамку праходжання мяжы, становіцца зразумелым, што для дакладнага правядзення яе на карце (а тым больш у рэальных умовах на мясцовасці) наяўных дадзеных недастаткова.

Перш за ўсё, застаюцца вялікія прасторы, правесці праз якія лінію мяжы можна толькі ўмоўна. Напрыклад, адрэзак паміж возерам Арлінскім і рэчкай Баранькай выклікае шмат пытанняў. Возера Плацінца і Красны барок, што знаходзяцца паміж імі, дакладна не лакалізуюцца, але, акрамя таго, лінія мяжы магла перасякаць некалькі рэчак, вартых згадвання ў грамаце, прынамсі, таму што яны значна буйнейшыя за Бараньку. Тая ж сітуацыя складваецца і паміж рэчкамі Баранькай і верхам Бялейкі. Паміж Паніклляй і верхам Сішкі таксама магчыма перасячэнне прытокаў Бярозы і Тудоўкі.

Невядома таксама, якую адлегласць складала лінія мяжы, што ішла па рэках. Так, незразумела, дзе лінія мяжы адрывалася ад ракі Бялейкі і пераходзіла да Паніклі. Яна павінна была або перасекчы р. Мяжу, правым і левым прытокамі якой, адпаведна, былі Бялейка і Панікль, або, адыходзячы ад Бялейкі, перайсці прама да вусця р. Паніклі. Адразу «по Белейке на Поникль» перайсці немагчыма. Да вярхоўяў Сішкі мяжа пераходзіла, перасякаючы пэўную адлегласць па р. Паніклі. Верагодна, гэта павінна было адбыцца ў тым месцы, дзе цячэнне рэчкі Панікль рэзка паварочвае з паўночнага захаду на паўднёвы захад.

Акрамя таго, ржэўская мяжа пачынаецца і раптоўна абрываецца без абазначэння стыкаў з суседнімі тэрытарыяльнымі фарміраваннямі і пазначэння сувязей з іншымі ўчасткамі літоўска-маскоўскай мяжы.

[96] Меркаванне Л.А. Басалыгі і В.Л. Яніна пра магчымую сугучную назву в. Баранкінай з быццам бы безыменнай рэчкай, каля вусця якой яна размяшчаецца, аказалася дакладным (Бассалыго Л.А., Янин В.Л. Историко-географический обзор новгородско-литовской границы // Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 208).

[97] Тверская область. Топографическая карта. С. 37, 38, 51, 52 і інш.

Пачатак мяжы адзначаецца ад воз. Арлінца (суч. Арлінскае). Пры гэтым можна з упэўненасцю гаварыць, што ад яго не пачынаўся ржэўскі ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы і наогул не тут сустракаліся ўладанні ВКЛ і Вялікага Княства Маскоўскага. Тэрыторыя ржэўскай воласці Усялук праходзіла і далей на поўнач і нават паўночны захад ад воз. Арлінца. Таксама далей на поўнач з той жа Усялуцкай воласцю змыкаліся землі наўгародскіх валасцей Лапасціцы, Вяліла і Сцерж[98]. Відавочна, што на тэрыторыі на паўночны захад ад воз. Арлінца да мяжы наўгародскіх і ржэўскіх зямель павінна была існаваць літоўска-маскоўская мяжа. Такім чынам, атрымліваецца, што граматы фіксуюць ржэўскі ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы не з самага яе пачатку.

Праўда, цалкам магчыма сітуацыя незасвоенасці тэрыторыі, на якой павінны былі сутыкацца ўладанні трох дзяржаў (Вялікага Ноўгарада, ВКЛ і Вялікага Княства Маскоўскага). Мясцовасць паміж воз. Арлінцам і р. Куддзю да сённяшняга часу забалочаная. Непасрэдныя, засвоеныя ўладанні ВКЛ маглі выходзіць толькі да возера Арлінца (невыпадкова яно дзялілася напалову з Вялікім Княствам Маскоўскім), на паўночны ж захад ад яго знаходзіліся незанятыя землі.

Наогул, увесь разгляданы рэгіён з'яўляўся часткай старадаўняга Акоўскага лесу — велізарнай лясной прасторы, што ахоплівала вярхоўі рэк Заходняй Дзвіны, Дняпра і Волгі, і ўяўляла ў сувязі з гэтым інтарэс тутэйшымі волакамі, якія звязвалі важныя гандлёвыя шляхі паміж марамі Балтыйскім, Чорным і Каспійскім[99]. Адзін з волакаў якраз і праходзіў у раёне воз. Арлінца. Ён злучаў рэкі Заходнюю Дзвіну і Волгу праз воз. Ахват і ручай Дзвініцу з аднаго боку і раку Жукопу (магчыма і Плацічанку) з боку Волгі. Узнікненне мяжы ў раёне волаку падаецца цалкам натуральным з'явішчам.

Цалкам верагодна, што тут або ў іншых месцах (напрыклад, каля р. Бараньki), дзе ржэўскія землі недалёка адрываліся ад р. Жукопы, праходзіў даўні маскоўскі рубеж. Пра яго існаванне як бы «згадвае» даволі позняя крыніца — «Выпись из Новгородских изгонных книг» (1703 г.). Паводле гэтага дакумента, звесткі якога, на думку І.А. Галубцова, адносяцца да канца XVI — пачатку XVII ст.[100], полацкі шлях складаў «от Торопца до Московского рубежа до Жукопского яму 40 ст.»[101]. Ям на р. Жукопе лакалізваць не ўдалося, але ёсць верагоднасць, што сухапутны шлях пралёг у напрамку даўняга воднага шляху. Акрамя таго, у раёнах волакаў — пунктах вымушанай затрымкі купцоў — княжацкай адміністрацыяй часта ладзіліся месцы збору мыта. Такім чынам, тут фарміраваліся межы ўладанняў. Гэтае сведчанне пра маскоўскі рубеж каля р. Жукопы варта аднесці, па меншай меры, да самага пачатку XVI ст.[102].

Нявызначанасць мяжы на паўночны захад ад воз. Арлінца стварала, верагодна, магчымасці для пранікнення на тэрыторыю суседняй дзяржавы і захопу яе зямель. Так, вядома скарга, датаваная 1489 г., якую падаў вялікаму князю маскоўскаму

---

98 Бассалыго Л.А., Янин В.Л. Историко-географический обзор новгородско-литовской границы. С. 198—199.

99 Алексеев Л.В. «Оковский лес» Повести временных лет // Культура средневековой Руси. Л., 1974. С. 5—11; Ён жа. Смоленская земля в IX—XIII ст. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980. С. 36—39; Ён жа. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры: в 2 кн. Кн. 1. М., 2006. С. 6—8.

100 Голубцов И.А. Пути сообщения в бывших землях Новгорода Великого в XVI—XVII веках и отражение их на русской карте середины XVII века // Вопросы географии. Сб. 20. Историческая география СССР. М., 1950. С. 285.

101 Выпись из Новгородских изгонных книг // Тамсама. С. 298.

102 Паводле І.А. Галубцова: «Московский рубеж на Жукопе пропал в 1500 г. — по отвоевании Торопца у Литвы — и никогда более уже здесь не восстанавливался» (Голубцов И.А. Пути сообщения в бывших землях Новгорода Великого. Прим. 1. С. 280).

Івану III літоўскі пасол князь Цімафей Уладзіміравіч Масальскі, на ўсялукскага (ржэўскай воласці Усялук) намесніка Васілія Давыдавіча, што захапіў частку таропецкай воласці Дубны[103]. У тэксце пасольскай прамовы дадзена дакладнае апісанне меж той тэрыторыі, якую «адрубіў» усялукскі намеснік. Па стылі гэтае апісанне адпавядае разгледжанаму вышэй фрагменту дзвюх грамат, дзе вызначалася ржэўская мяжа. Тут таксама адсутнічаюць населеныя пункты, указанні на валасную або іншую тэрытарыяльную прыналежнасць, а ўсё апісанне таксама складаецца ў асноўным з гідронімаў (рэчкі, азёры і балоты) з адзінкавым упамінаннем мікратапоніма — «острова»[104].

Падрабязны разгляд часткі яшчэ адной крыніцы важны па дзвюх прычынах. Па-першае, выяўленне тэрыторыі, далучанай да воласці Усялук, дазваляе намеціць яшчэ адзін участак ржэўскай мяжы на паўночны захад ад возера Арлінца і, па-другое, дае магчымасць вызначыць месца, дзе сыходзіліся тры мяжы: наўгародская (з 1478 г. — ужо частка маскоўскай), літоўская і маскоўская. Для перыяду з XIV ст. (тых адрэзкаў часу, калі ў складзе маскоўскіх уладанняў знаходзілася Ржэўская зямля) да далучэння да Масквы Ноўгарада Вялікага менавіта ў разгляданым рэгіёне брала пачатак літоўска-маскоўская мяжа.

Варта працытаваць фрагмент пасольскай прамовы князя Цімафея Масальскага, а затым прааналізаваць яе геаграфічныя складнікі. Згодна са словамі літоўскага пасла: «Наместник князь Васильев Ивановичя, Вселуцкий, Василей Давыдович, отрубил волости нашое Дубны половину земли тыми разы, а врочищи Павиницею речкою на Хороший остров, да у Кривицю, да у Моринцо озеро, да з Маринца озера да в речку Студеницю, Студеницею речкою у озеро Студенец и устья речки Поляницы мхом Студенецким»[105].

Амаль усе водныя аб'екты лакалізуюцца на сучаснай карце, прычым, у адрозненне ад папярэдняга разгледжанага фрагмента літоўска-маскоўскіх дагаворных грамат, тут межы занятай тэрыторыі могуць быць вызначаны даволі дакладна.

Так, у пасольскай прамове пералічаны наступныя тапонімы: рэчка Павініца (пэўна, сучасная Пайніца, прыток Арлінкі, якая выцякае з воз. Арлінскага), Харошы востраў (магчыма, паляна ў лесе паміж рэчкамі Пайніцай і Крывіцай), Крывіца (рэчка, якая ўпадае ў воз. Ахват), возера Марынца (Марынца, па цячэнні ракі Крывіцы), рэчка Студзяніца (прыток Крывіцы), возера Студзянец (існуюць два возеры — Вялікі і Малы Студзянец — крыху на поўнач ад вытоку р. Студзянец, верагодна, раней было адно возера, з якога выцякала Студзяніца), вусце рэчкі Паляніцы (вызначыць складана, але з некаторай верагоднасцю можна паспрабаваць атаясаміць з рэчкай Палутняй — яе вусце знаходзіцца амаль насупраць Студзянецкіх азёр, сама Палутня з'яўляецца прытокам рэчкі Калпінкі) і, нарэшце, мох Студзянецкі (відавочна, балота ў раёне Студзянецкіх азёр)[106]. Такім чынам, тэрыторыя, занятая ўсялукскім намеснікам, праходзіла па правым беразе р. Пайніцы да р. Крывіцы, праз возера Марынца, па рэчцы Студзяніцы, абмінаючы азёры Студзянецкія, магчыма, да вусця рэчкі Палутні.

Калі меркаваць па плошчы тэрыторыі воласці Дубна, вызначанай Л.А. Басалыгам і В.Л. Янінам паводле Таропецкай пісцовай кнігі 1540/41 гг.[107], усялукскі намеснік «адрубіў» зусім не «палову зямлі» гэтай воласці.

---

[103] Прачытана ў Маскве 23 ліпеня 1489 г., напісана 30 траўня таго ж года (СИРИО. Т. 35. № 8. С. 34). Сам захоп воласці Дубны адбыўся, магчыма, задоўга да пазначанага года.

[104] Востравам у большасці выпадкаў называлі свабодную ад дрэваў прастору пасярод лесу. Аднак і іншыя асаблівасці масіву раслiннасці (напрыклад, ліставы лес пасярод хваёвага) або проста нечым адметнае месца ў лесе (урочышчы) таксама маглі быць названыя востравам.

[105] СИРИО. Т. 35. № 8. С. 36.

[106] Тверская область. Топографическая карта. С. 37.

[107] Бассалыго Л.А., Янин В.Л. Историко-географический обзор новгородско-литовской границы. С. 194—195, 196—197.

Такія дакладныя звесткі пра межы адарванай ад таропецкай воласці тэрыторыі, на жаль, даюць толькі павярхоўнае ўяўленне пра тую граніцу, за якую перайшлі маскоўскія служылыя людзі, урываючыся ў чужыя ўладанні. Пэўна можна сказаць, што за воз. Арлінцам ржэўская мяжа працягвалася па рэчцы Павініцы (сучасная Пайніца). Відаць, не ўся яна была памежнай. Адштурхоўваючыся ад яе, апошні адрэзак літоўска-маскоўскай мяжы падыходзіў да рэчкі Арэхаўкі (упадае ў воз. Пена) і губляўся сярод балот і лясоў.

Значна ўдакладніць месца судакранання літоўскіх, маскоўскіх і наўгародскіх уладанняў дазваляе разводная грамата Наўгародскай і Ржэўскай зямель, складзеная ў 1483 г. і прызначаная вызначыць «рубеж» паміж вялікакняжацкімі ўладаннямі Івана III і вотчынай удзельнага валацкага князя Барыса Васільевіча[108]. Грамата апісвае ўсю паўночную мяжу Ржэўскай зямлі (ржэўскіх валасцей Клічан і Усялук з наўгародскімі валасцямі Бярозаўскай, Сцержам, Вялілай і Лапасціцай).

Звяртае на сябе ўвагу адсутнасць цікавасці даследчыкаў да пазначанай граматы. Паводле У.А. Кучкіна, толькі гісторык Цвярскога княства У.С. Барзакоўскі звярнуў на яе ўвагу, але з больш чым 50 згаданых там геаграфічных аб'ектаў здолеў лакалізаваць толькі 6[109]. У выніку ржэўска-наўгародская мяжа атрымалася празмерна схематычнай. Выкарыстанне двухвёрстных планаў Асташкоўскага ўезда з Атласа Цвярской губерні 1825 г. дазволіла У.А. Кучкіну істотна ўдакладніць вынікі работы папярэдніка.

У нашым выпадку для мэты даследавання важнасць уяўляе толькі невялікі фрагмент граматы 1483 г., у якім гаворыцца пра мяжу ржэўскай Усялуцкай воласці з наўгародскай воласцю Лапасціца. Менавіта ў апошняй кропцы судакрання тэрыторый вылучаных валасцей трэба бачыць стык наўгародскіх і ржэўскіх зямель з уладаннямі Вялікага Княства Літоўскага.

Падрабязны разгляд усяго рубяжа Усялуцкай і Лапасціцкай валасцей не патрабуецца, а апошні адрэзак іх мяжы ішоў па рацэ Сырычанка («Сырычена», паводле граматы 1483 г., левы прыток Кудзі), а потым паварочваў у раку Кудзь, дасягаючы па ёй Ціхага возера. З правага боку ад Ціхага возера знаходзілася тэрыторыя Лапасціцкай воласці — уладання Наўгародскага Аркадзьеўскага манастыра (Арката), а з левага боку — завяршалася тэрыторыя Усялуцкай воласці[110]. Рака Кудзь цячэ, пятляючы, з захаду на ўсход і ўпадае ў возера Усялуг, таму пад фразай граматы «да вверхъ Куд(ь)ю, да в Тихое озеро» варта разумець пераход лініі мяжы з ракі Сырычанкі на паўднёвы захад, поўдзень і заканчэнне яе ў заходнім напрамку каля воз. Ціхага. Месцазнаходжанне апошняга ўстанавіць не ўдалося, але відавочна, што яно было першым з сістэмы азёр, на якія разліваецца рака Кудзь (з захаду на ўсход: Віцьбіна, Пнева, Доўгае)[111]. Атаясамленне Л.А. Басалыга, В.Л. Яніным возера Ціхага з Трэшыным, на жаль, не знаходзіць пацвярджэння на карце[112].

Ад возера Ціхага (ракі Кудзь) з правага боку (на поўнач) працягвалася тэрыторыя Лапасціцкай воласці, а з левага боку (на поўдзень) пачыналіся ўжо землі

[108] ДДГ. № 77. С. 290—293.

[109] Кучкин В.А. Межевание 1483 г. и вопрос о древней новгородско-смоленской границе // Новгородский исторический сборник. 2 (12). Л., 1984. С. 167.

[110] ДДГ. № 77. С. 292.

[111] Тверская область. Топографическая карта. С. 37. Параўнанне незалежна зробленай рэканструкцыі часткі ржэўска-наўгародскай мяжы паказвае яе поўную ідэнтычнасць аналагічнай рабоце, зробленай У.А. Кучкіным (Кучкин В.А. Межевание 1483 г. и вопрос о древней новгородско-смоленской границе. С. 173).

[112] Бассалыго Л.А., Янин В.Л. Историко-географический обзор новгородско-литовской границы. С. 207. Размешчанае паблізу воз. Трэсціна не мае ніякага дачынення да апісанай мяжы.

Таропецкага павета ВКЛ. Відаць, тут падступалі землі воласці Дубна, менавіта ў той частцы, якая была адрэзана ўсялукскім наміеснікам у 1489 г. або раней. З населеных пунктаў воласці Дубна, вядомых з Таропецкай пісцовай кнігі 1540/41 гг., найбольш аддаленай была в. Арэхава на р. Арэхаўцы, якая ўпадала ў воз. Пена[113]. Такім чынам, можна меркаваць, што мяжа паміж таропецкай воласцю Дубна і ржэўскай воласцю Усялук пераходзіла ад р. Пайніцы на р. Арэхаўку, а ад вытоку апошняй скіроўвалася на захад і паўночны захад да р. Кудзі і воз. Ціхага.

Дабівацца больш дакладнай рэканструкцыі пачатковага адрэзку літоўска-маскоўскай мяжы і вызначэння кропкі судакранання тэрыторый трох найбуйнейшых дзяржаў Усходняй Еўропы, напэўна, не варта. Верагодна, такі стык літоўскіх, наўгародскіх і маскоўскіх зямель у той час яшчэ не сфарміраваўся. Балоцістая, малакарысная ў гаспадарчых адносінах зямля доўгі час не прыцягвала ўвагі навакольнага насельніцтва і мясцовых улад. Невыпадкова ў літоўска-маскоўскіх дамовах апісанне ржэўскай мяжы пачыналася ад воз. Арлінца. Тэрыторыя на паўночны захад не была размежавана. Толькі на пэўную адлегласць умоўная лінія літоўска-маскоўскай мяжы працягвалася па р. Пайніцы, а затым, магчыма, па р. Арэхаўцы. Далей памежную зону ўмоўна вызначала паласа балот і лясоў. Дзесьці ў раёне р. Кудзі, што злівалася з невядомым цяпер возерам Ціхім, тэрыторыі трох дзяржаў судакраналіся.

Такой уяўляецца сітуацыя з пачатковым адрэзкам літоўска-маскоўскай мяжы. Праблематычны таксама і супрацьлеглы бок пазначанай у літоўска-маскоўскіх дагаворных граматах ржэўскай мяжы.

На «верху» (вытоку) ракі Асугі апісанне ржэўскай мяжы спыняецца. Аднак можна з упэўненасцю гаварыць пра тое, што і далей ржэўскія землі працягвалі суседзіць з літоўскімі ўладаннямі. Больш за тое, гэтыя літоўскія ўладанні складалі калісьці частку Ржэўскай зямлі.

Ускосныя звесткі сведчаць аб існаванні літоўска-маскоўскай дамовы, заключанай паміж 1381—1382 гг., у кароткі пэрыяд праўлення ў ВКЛ Кейстута. Тады, пасля перамогі на Куліковым полі, Масква дамінавала ва Усходняй Еўропе і зноў завалодала Ржэўскай зямлёй[114]. Мірныя адносіны з ВКЛ былі замацаваны дамовай, паводле якой, відаць, Ржэва была прызнана за Дзмітрыем Данскім. Аднак не ўсе ржэўскія воласці сталі маскоўскімі. Як вынікае з літоўска-маскоўскай дамовы аб «вечным міры» ад 31 жніўня 1449 г., заключанай паміж Васіліем II Цёмным і Казімірам IV (выснова пра існаванне дамовы 1381—1382 гг. якраз і робіцца на падставе аналізу зместу гэтага дакумента), ржэўская воласць Асуга засталася ў кіраванні валасцеляў вялікага князя Кейстута («А которыи места волостили веда Осугу пры великомъ князи Кестут(ь)и, и твоим волостелемъ по тому ж ведати, а мне, великому князю Василью, не въступатисе»)[115].

Асужская воласць, якая захавала літоўскае кіраванне, кампенсавала даволі адчувальныя тэрытарыяльныя страты. Яна ахоплівала паўднёвую частку Ржэўскай зямлі і, тым самым, пакідала магчымасць пэўнага кантролю за ржэўскай тэрыторыяй наогул. Акрамя таго, у канцы XIV ст. раён воласці Асуга заставаўся адзіным месцам судакранання ўладанняў ВКЛ з цвярскімі землямі і быў своеасаблівым мастком паміж дзвюма дзяржавамі.

Тэрыторыя воласці, відавочна, займала прастору ўздоўж ракі Асугі, якая ўпадала ў Вазузу вельмі блізка ад зліцця апошняй з Волгай. Усходнім суседам Асугі непаз-

---

[113] Бассалыго Л.А., Янин В.Л. Историко-географический обзор новгородско-литовской границы. С. 194—195. Відавочна, усялуцкі намеснік усё ж быў вымушаны вярнуць тэрыторыю, адрэзаную ад воласці Дубна ў склад уладанняў ВКЛ.

[114] Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 152.

[115] ДДГ. № 53. С. 160—161. Той жа тэкст паўтораны ў літоўска-маскоўскай дамове 1494 г. (ДДГ. № 83. С. 329—330).

бежна станавіліся ўладанні Цвярскога і Фамінска-Беразуйскага княстваў. Больш дакладна вызначыць прасторавую працягласць воласці Асуга, на жаль, пакуль немагчыма. Метад рэтраспекцыі ў гэтым выпадку не працуе, бо ў раёне р. Асугі пазней утвараліся воласці і станы (напрыклад, Лапцеўская Ржэўскага ўезду), якія цяжка атаясаміць ці неяк звязаць з воласцю Асугай.

У сувязі з набыццём ВКЛ воласці Асугі, а таксама з-за існавання на працягу доўгага часу літоўска-цвярской мяжы варта зрабіць наступную выснову. Паміж асноўным масівам Вялікага Княства Маскоўскага і Ржэўскай зямлёй да ліквідацыі дзяржаўнасці Вялікага Ноўгарада і Вялікага Княства Цвярскога не існавала сухапутнай сувязі. Ржэўская зямля з сярэдзіны XIV ст. папераменна належала Маскве, Вільні або Цверы, але прыблізна з 1381—1382 гг. амаль увесь час (акрамя кароткіх перыядаў 1399 і 1447—1449 гг.) знаходзілася ў складзе маскоўскіх уладанняў[116], пры гэтым застаючыся, па сутнасці, эксклавам[117]. Унікальны ўчастак літоўска-цвярской мяжы на працягу стагоддзя перакрываў Маскве прамы доступ да яе верхняволжскага ўладання, якое мела, відавочна, вялікае стратэгічнае значэнне. У свой час імкненне авалодаць землямі Фамінска-Беразуйскага княства выдавалася гісторыкамі за жаданне Масквы наладзіць сухапутную сувязь з Ржэвай[118]. Аднак насамрэч, нават набыўшы нізоўі р. Вазузы, маскоўскія князі ўсё так жа былі вымушаны карыстацца транзітным шляхам праз цвярскія або літоўскія ўладанні. Такім чынам, становіцца відавочным асаблівая значнасць зоны літоўска-цвярскога памежжа як пэўнага рычага ўздзеяння на сферу маскоўскіх інтарэсаў.

Няпэўнасць літоўска-цвярскога памежжа XIV—XV стст. значна ўскладняе працэс рэканструкцыі апошняга адрэзка літоўска-маскоўскай мяжы. На лініі, што злучае вярхоўі р. Асугі з р. Волгай (у раёне паміж маскоўскай Ржэвай і цвярскімі Апокамі), умоўная літоўска-маскоўская мяжа ператваралася ў маскоўска-цвярскую. Канкрэтнае месца стыку трох меж вызначыць цяжка. Прычынамі гэтага можна назваць як ужо вышэйзгаданы асаблівы статус літоўска-цвярскіх уладанняў у памежнай зоне, так і характар мясцовасці — суцэльнае балота.

Такім чынам, зварот да ўнікальнага фрагмента літоўска-маскоўскіх дамоў 1449 і 1494 гг. дазволіў намеціць адзін з участкаў мяжы дзвюх суседніх дзяржаў, што змагаліся за аб'яднанне рускіх зямель. У выніку папярэдняга этапу работы высветлілася, што для рэканструкцыі ўсяго ржэўскага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы разглядаемага фрагмента грамат недастаткова. Пачатковы і канцавы адрэзкі гэтай мяжы адсутнічалі. Іх дапамаглі ўдакладніць, здавалася б, другасныя звесткі з пасольскіх прамоў князя Ц.У. Масальскага (падрабязнае апісанне захопленай усялукскім намеснікам часткі суседняй таропецкай воласці Дубна), разводной граматы вялікага князя Івана III удзельнаму валоцкаму князю Барысу Васільевічу (пазначэнне рубяжа ржэўскай воласці Усялук з наўгародскай воласці Лапасціца) і ўсё тых жа грамат 1449 і 1494 гг. (звесткі пра далучэнне ржэўскай воласці Асугі да ВКЛ). Такім чынам, з максімальна магчымай дакладнасцю было вызначана месца стыку літоўскай, маскоўскай і наўгародскай меж на крайнім паўночным захадзе маскоўскіх уладанняў, даказана адасобленасць (да 1478 г.) Ржэўскай зямлі ад асноўнай тэрыторыі Вялікага

[116] Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе. С. 149—162; Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. Борьба за Ржевскую землю. С. 77, 78—79.

[117] Эксклаў (ад лац. ex — па-за, clavis — ключ) — частка тэрыторыі дзяржавы, геаграфічна аддаленая ад асноўнай і аточаная тэрыторыяй іншых краін.

[118] Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. Тверь, 1887. С. 3.

Княства Маскоўскага, высветлена спецыфіка ржэўскай мяжы, якая праходзіла па багністай і лясістай мясцовасці, а таму нават у актах была пазначана толькі ўмоўна.

Відаць, да 1449 г. заходняя ржэўская мяжа не была ўсталявана на ўзроўні міждзяржаўных пагадненняў. Тым не менш, ужо да сярэдзіны XV ст. склаліся «старыя рубяжы» Ржэўскай зямлі. Відавочна, афіцыйнае размежаванне грунтавалася на традыцыйна склаўшыхся ўяўленнях аб межах валасцей Таропецкага павета, Бельскага княства, з аднаго боку, і Ржэўскай зямлі (уезду), з іншага. Таму, з некаторымі агаворкамі, намечаную на другую палову XV ст. мяжу можна адносіць і да больш ранняга часу.

Размежаванне ржэўскіх зямель з Таропецкім паветам і Бельскім княствам адбылося толькі пасля канчатковага замацавання Ржэвы за Масквой. Пры гэтым на ржэўскім напрамку не ўвесь працяг літоўска-маскоўскай мяжы быў зафіксаваны. Засталіся ўчасткі, дзе павінны былі судакранацца літоўскія і маскоўскія ўладанні, аднак у другой палове XV ст. яны не былі размежаваны. Таксама і апісаная ў дамове лінія праходжання мяжы (дэлімітацыя) не давала дастатковых звестак для рэальнага правядзення мяжы на мясцовасці (дэмаркацыі). Спецыфікай ржэўскай мяжы заставалася яе недакладнасць з прычыны асаблівасцей мясцовасці, якія не стваралі падстаў для падзелу нікім не засвоеных і нікім не занятых зямель.

Складаная, насычаная падзеямі барацьба за валоданне Ржэўскай зямлёй вельмі яскрава ілюструе пачатковы этап з'яўлення і станаўлення літоўска-маскоўскай мяжы. Замацаваўшы за сабой Ржэўскую зямлю, Масква забяспечыла трывалую аснову для развіцця далейшай экспансіі і зрабіла значны крок на шляху аб'яднання рускіх зямель.

## 3. Літоўска-цвярская мяжа

Літоўска-цвярскія палітычныя сувязі мелі глыбокія карані і завязваліся яшчэ з XIII ст.

Пад 6793 (1285) г. у Суздальскім летапісе па Лаўрэнцьеўскім спісе паведамлялася: «Воевали Литва Тферьского владыкы волость Олешню»[119]. Аб'яднанае рускае войска, якое складалася з рацяў гарадоў Цверы, Масквы, Волака Ламскага, Таржка, Дзмітрава, Зубцова і Ржэвы, гэта значыць памежных гарадоў, выступіла супраць літоўцаў і разбіла іх. Якія ж прычыны і абставіны гэтай літоўска-цвярской канфрантацыі?

У свой час (1266 г.) князь Даўмонт, які толькі што заняў пскоўскі прастол, захапіў жонку і двух сыноў (сярод іх, магчыма, быў Андрэй) князя Гердзеня (у той час намесніка літоўскага князя Войшалка ў Полацку) і цалкам разбіў полацкага князя, які пагнаўся за ім, а потым паспрабаваў пераправіцца праз Дзвіну[120].

У тым жа годзе ў Ноўгарад прыбыў з палкамі вялікі князь уладзімірскі Яраслаў Яраславіч (першы цвярскі князь) з намерам «ити на Плесковъ на князя Домонта»[121]. Наўгародцы не падтрымалі Яраслава. Аднак гэтая падзея выявіла відавочную саюзніцкую сувязь паміж полацкім намеснікам князем Гердзенем, а следам за ім і літоўскім князем Войшалкам (адным з нямногіх праваслаўных у той час літоўскіх князёў), з валадарамі Цвярской зямлі.

У гэтай сувязі паказальна, што першы цвярскі епіскап Сімяон прыбыў на новую кафедру менавіта з Полацка, з якога быў вымушаны сысці ў сувязі з распаўсюджваннем

---

119 ПСРЛ. М., 2001. Т. 1. Стб. 483.

120 ПСРЛ. Т. 3: Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М., 2000. С. 85.

121 Тамсама.

там пасля князя Гердзеня каталіцкага ўплыву (пераехаў у Цвер паміж 1267 і 1271 гг.)[122]. Невыпадкова напад 1285 г. князя Даўмонта быў менавіта на епіскапскія валоданні Сімяона. Пастаўленне ў цвярскія епіскапы ў 1289 г. сына Гердзеня Андрэя відавочна сведчыць на карысць шчыльных сувязей паміж пэўнымі палітычнымі сіламі ў Літве і Цвярскім княстве. Варта адзначыць, што даследчык гісторыі Цверы Экехард Клюг адмаўляе магчымасць літоўска-цвярскіх саюзніцкіх адносін[123].

Як бы там ні было, але ўжо ў XIII ст. супярэчнасці паміж ВКЛ і Цвярскім княствам прывялі да вышэйзгаданага канфлікту, які закрануў і вызначыў літоўска-цвярское памежжа. Тым часам, непасрэднай мяжы паміж літоўскімі і цвярскімі ўладаннямі ў той час, відавочна, яшчэ не існавала.

Адсутнасць любой мяжы, а, значыць, і перасячэння тэрытарыяльных інтарэсаў, стала, магчыма, адной з прычын палітычнага збліжэння Літоўскага і Цвярскога княстваў у XIV ст. Ужо ўзімку 6828 (1320/21) г. цвярскі князь Дзмітрый Міхайлавіч узяў шлюб з дачкой вялікага князя літоўскага Гедыміна Марыяй («...за князя Дмитриа Михаиловича приведоша княжну Марию изъ Литвы Гедиминову дщьрь»)[124].

Далейшае ўмацаванне літоўска-цвярскіх адносін, як гэта ні парадаксальна, было звязана з пасрэдніцтвам Масквы. Менавіта да маскоўскага князя (вялікага князя ўладзімірскага) Сямёна Іванавіча ў 1349 г. прыбылі паслы ад вялікага князя літоўскага Альгерда з просьбай аддаць за свайго валадара дачку цвярскога князя Аляксандра Міхайлавіча Ульяну («...князь Литовьскыи Олгордъ прислаль свои послы къ князю великому Семену Иванович[ю] бити челомъ и просити за себе свести княжи Семеновы княжны Ульяны княжи дчери Александровы Михаиловича Тферьского»)[125]. Зварот з такой просьбай да маскоўскага князя быў невыпадковым. Па-першае, Сямён Іванавіч як вялікі князь уладзімірскі, быў фармальным главой Паўночна-Усходняй Русі; па-другое, Ульяна была сястрой жонкі маскоўскага князя Марыі[126]. Шлюб Альгерда з цвярской князёўнай, сваячкай маскоўскага князя, а таксама вяселле (у 1350/51 г.) сына цвярскога князя Васілія Міхайлавіча Міхаіла з дачкой маскоўскага князя Сямёна Іванавіча Васілісай[127], стварылі асобую сістэму ўстойлівых палітычных сувязяў паміж Вільняй, Цвер'ю і Масквой.

Гэтая сістэма раўнавагі вельмі хутка была парушана. Умяшальніцтва Арды, якая дала ў 1352 г. аднаму з цвярскіх князёў ярлык на княжэнне (Васілію Міхайлавічу), выклікала «неимоверьство и нелюбие» ў іх асяродку[128]. Паміж Масквой і Вільняй таксама сталі выяўляцца рознагалоссі з-за ўплыву на Смаленск і ў сувязі з імкненнем Альгерда стварыць уласную праваслаўную мітраполію. Праблемы са Смаленскам былі ўрэгуляваны ў літоўска-маскоўскай дамове, заключанай на р. Протве ў 1352 г., прычым тады літоўскае панаванне над Смаленскам змянілася на маскоўскае[129]. Аднак ужо ў 1356 г. разгарэлася барацьба за панаванне над смаленскімі і бранскімі землямі. Менавіта да гэтага года адносіцца, хаця і на кароткі перыяд, набліжэнне літоўскіх уладанняў да цвярскіх меж.

---

122 Клюг Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.). С. 67.

123 Тамсама. С. 123—124.

124 ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. М., 2000. Стб. 41.

125 Тамсама. Вып. 1. Стб. 59.

126 Тамсама. Стб. 57.

127 Тамсама. Стб. 60; ПСРЛ. Т. 10. М., 2000. С. 222.

128 ПСРЛ. Т. 10. С. 223.

129 Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV ст. С. 62.

Летам 1356 г. сын сіжскага князя (гэта значыць валадара адной з ржэўскіх валасцей) з дапамогай літоўскай сілы быў пасаджаны ў Ржэве (гл. вышэй)[130]. У тым жа годзе, увосень, Альгерд напаў на Бранск і Смаленск і нават паланіў сына смаленскага князя[131]. Хутка пасля невыразных падзей, мяцяжу «отъ лихихъ людей»[132] (партыі прыхільнікаў ВКЛ?) Бранск апынуўся цалкам пад уладай ВКЛ («и потом нача обладати Брянскомъ князь велики Литовскій»)[133]. Зрэшты, у Смаленску літоўскі ўплыў не замацаваўся[134], а з Ржэвы сумесныя сілы Волака Ламскага (або Цверы) і Мажайска летам 1358 г. выбілі літоўскага стаўленіка (у Ніканаўскім летапісе чытаем: «Тверская рать да Можайская взяша Ржеву, а Литву изгнаша»[135]; у Рагожскім летапісцы маюцца іншыя звесткі: «Волотьская рать да Можаиская взяли Ржевоу, а Литвоу выслали вонъ»[136]).

Ржэўская зямля на паўднёвым усходзе непасрэдна судакраналася з цвярскімі ўладаннямі. Ржэўскія воласці, што знаходзіліся ў гэтым рэгіёне — Расна і Асечан — сталі вядомы дзякуючы падзеям 1335 г., калі сабранае з наўгародцаў войска Івана Каліты «пожже городке Литовьскыи Осеченъ и Рясну и иных городковъ много»[137]. Такім чынам, ужо даволі даўно літоўскія ўладанні пранікалі на ўсход, клінам урэзаўшыся ў тэрыторыю, на якую прэтэндавалі Смаленск, Ноўгарад і Цвер. Асечан і Расна, відавочна, мелі надзвычай выгаднае стратэгічнае становішча, фактычна ставілі пад кантроль участак цвярской мяжы і стваралі плацдарм для наступлення на наваторжскія і іншыя наўгародскія землі (так, напрыклад, у 1335 г. «воеваша Литва Новоторжьскую волость на миру»[138]), а таксама, непасрэдна, на саму Ржэву (да 1356 г. яшчэ не захопленую літоўскімі сіламі). Акрамя таго, можна адзначыць, што ўжо да 1335 г., хаця і часова, вярхоўі Волгі аказаліся пад літоўскай уладай. З двух згаданых «літоўскіх гарадкоў» Асечан знаходзіўся на левым беразе Волгі, а Расна крыху на ўсход ад ракі. Абодва гарадкі далёка прыкрывалі прасунуўшыяся на ўсход літоўскія ўладанні.

Усталяванне ўлады літоўскіх князёў у вярхоўях Волгі стала магчымым дзякуючы далучэнню Таропецкай зямлі, якая знаходзілася на паўночным ўсходзе паміж наўгародскімі і смаленскімі ўладаннямі. Таропец у свой час зазнаў спусташальны набег «літвы»[139] і прыблізна з 1320 г. ужо знаходзіўся ў складзе ВКЛ[140]. Вярхоўі Ловаці, Дзвіны і Волгі сталі літоўскімі.

---

130 ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Стб. 65.

131 ПСРЛ. Т. 10. С. 228.

132 Kuczyński S.M. Ziemie czernigowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 114—117.

133 ПСРЛ. Т. 10. С. 228.

134 Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV ст. С. 66.

135 ПСРЛ. Т. 10. С. 230.

136 ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Стб. 67. Тое, што ў названых летапісах указваюцца атрады з розных гарадоў, мае прынцыповае значэнне: калі ад Волака Ламскага цалкам натуральна чакаць падначалення маскоўскаму, або дакладней, вялікаму князю ўладзімірскаму, то ад Цверы, тым больш канца 1350-х гг., гэтага чакаць не даводзіцца. Акрамя таго, Рагожскі летапісец адлюстроўвае, хутчэй за ўсё, летапісны тэкст, першасны ў адносінах да Ніканаўскага летапісу.

137 ПСРЛ. Т. 3. С. 247.

138 Тамсама.

139 ПСРЛ. Т. 1. Стб. 447—448 (1225 г.); паведамленне пад гэтым годам у складзе Суздальскага летапісу па Акадэмічным спісе больш кароткае, гл.: ПСРЛ. Т. 1. Вып. 3 (Продолжение Суздальской летописи по Академическому списку. Указатели). Л., 1928. Стб. 510 (1225 г.).

140 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 31.

Пасля далучэння Белай (да 1359 г.) тэрыторыя ВКЛ выйшла таксама і да вярхоўяў Дняпра. Такім чынам, вярхоўі трох найбуйнейшых рэк Усходняй Еўропы (Дзвіна, Волга і Дняпро) у сярэдзіне XIV ст. належалі ВКЛ. Да таго ж Смаленскае княства было акружана паўколам літоўскіх уладанняў, што шмат у чым прадвызначыла яго падначаленне літоўскай уладзе. Смаленск да таго часу пазбавіўся амаль паловы сваёй тэрыторыі (Ржэва, Белая, Мсціслаў). Бранск, які з канца XIII ст. быў у сферы ўплыву Смаленска, пад кіраваннем князёў смаленскай дынастыі, хутка пасля 1356 г. таксама быў уключаны ў склад ВКЛ. Тым самым і цячэнне р. Дзясны (левы прыток Дняпра) цяпер кантралявалася літоўскай уладай.

У 1356—1358 і 1359—1368, 1372—1382 гг. пад уладай ВКЛ знаходзілася Ржэва. Аднак яе пранікненне ў вярхоўі Волгі выклікала актыўнае супрацьдзеянне ўсіх палітычных сіл рэгіёна.

Першы выяўлены на кароткі час участак літоўска-цвярской мяжы (з боку Ржэвы) стаў раёнам канфрантацыі. Прычым у адсутнасці літоўскай улады ў вярхоўях Волгі былі аднолькава зацікаўлены Цвер, Масква і Ноўгарад. Відавочна, як вярхоўі Волгі, так і горад Ржэва, размешчаны на яе левым беразе, былі звязуючым тэрытарыяльным звяном паміж Паўночна-Заходняй і Паўночна-Усходняй Руссю, таму мы бачым, што ў барацьбе за Ржэўскую зямлю сумесна дзейнічалі цвярскія, маскоўскія і наўгародскія сілы. Зрэшты, і імкненне ВКЛ захаваць за сабой важнейшы стратэгічны пункт было вельмі настойлівым.

Хаця, урэшце рэшт, у колах літоўскай знаці была, верагодна, асэнсавана перавага ў верхняволжскім рэгіёне пазіцый Масквы, за якой да таго часу стаяла сіла амаль усёй Паўночна-Усходняй Русі, здольная супрацьстаяць Ардзе. Таму новы вялікі князь літоўскі Кейстут у перыяд свайго кароткага праўлення (1381—1382 гг.) пайшоў на кампраміс з вялікім князем маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам. Згодна з заключанай паміж 1381—1382 гг. дамоўленасцю, ВКЛ саступала Ржэву і большую частку яе валасцей Маскве. Пры гэтым адна воласць — Асуга — заставалася за ВКЛ.

Захаваўшая літоўскае кіраванне воласць у некаторай ступені кампенсавала даволі адчувальныя тэрытарыяльныя страты. Займаючы цячэнне ракі Асугі (левы прыток Вазузы), яна ахоплівала паўднёвую частку Ржэўскай зямлі і, тым самым, пакідала магчымасць пэўнага кантролю за ржэўскай тэрыторыяй наогул. Акрамя таго, у канцы XIV ст. раён воласці Асуга застаўся адзіным месцам судакранання ўладанняў ВКЛ з цвярскімі землямі, служыў своеасаблівым «мастом» паміж двума княствамі.

Такім чынам, да кароткага часу княжання ў ВКЛ Кейстута можна аднесці пачатак фарміравання ўстойлівага ўчастка літоўска-цвярской мяжы, які пратрымаўся на працягу амаль стагоддзя з чвэрцю. Паміж двума княствамі з'яўляліся і іншыя ўчасткі агульнай мяжы, аднак яны існавалі або кароткі перыяд часу, або не мелі істотнага значэння.

Так, літаральна на некалькі гадоў усталёўвалася літоўска-цвярская мяжа паміж Ржэўскай зямлёй з цвярскога боку і землямі Таропца і Белай — з літоўскага. Справа ў тым, што Ржэва двойчы трапляла ва ўладанне цвярскіх вялікіх князёў. Адбывалася гэта ў 1399 — пачатку XV ст. і ў 1446 (фактычна, у 1447) — 1449 гг. У абодвух выпадках Ржэву саступалі вялікім князям цвярскім маскоўскія валадары, і абодва разы горад з валасцямі вяртаўся да Масквы.

Параўнаўча большы тэрмін захоўваўся ўчастак літоўска-цвярской мяжы, які сфарміраваўся пасля далучэння да ВКЛ тэрыторыі Вяземскага княства (1403 г.). Такім чынам, разам з перыядычна залежным ад ВКЛ Фамінска-Беразуйскім княствам (нізоўі рэк Асугі і Вазузы, пры ўпадзенні апошняй у Волгу) і часткай Ржэўскай зямлі (воласць Асуга) паўночна-ўсходнія вяземскія межы склалі даволі працяглую лінію судакранання літоўскіх і цвярскіх уладанняў.

Вяземска-холмская мяжа (як участак літоўска-цвярской) мела, верагодна, своеасаблівы характар, і намеціць яе можна толькі ўмоўна. Па-першае, паміж літоўскімі і цвярскімі ўладаннямі ў тым рэгіёне існавала паласа незанятых, незасвоеных зямель. Гэта была балоцістая мясцовасць з астраўкамі ліставых лясоў (пра гэта гаворыць нават назва адной з валасцей — Альховец). Археалагічныя звесткі даюць уяўленне пра вельмі невялікую колькасць помнікаў часоў сярэднявечча ў рэгіёне[141]. Так, можа быць апісана тая частка літоўска-цвярской мяжы, што ішла на ўсход ад фамінска-беразуйскіх зямель.

Па-другое, далей выяўляецца супрацьлеглы, паводле характару засялення і засвоенасці, раён з церазпалоснымі літоўска-цвярскімі ўладаннямі. Крайні паўночны ўсход Вяземскага княства з пачатку XV ст. быў аддадзены ў вотчыну князям Крошынскім. Воласці апошніх (Цешынавічы, Сукромна, Альховец, Надслаўль, Ад'езд, Лела) выяўляюцца на тэрыторыі на ўсход ад р. Гжаць (прыток Вазузы) у напрамку да мажайскіх зямель Вялікага Княства Маскоўскага)[142]. Найбольш блізкімі да цвярскіх зямель былі, відавочна, воласці Сукромна і Ад'ездзец, бо пазней яны з'явіліся ў складзе менавіта цвярскіх уездаў. Так, з граматы 1530 г. мы даведваемся пра існаванне Сукроменскага стана ў складзе Старыцкага ўезду, холмскія воласці Стары і Новы Ад'езд[143]. Пазней станы Адвоцкі і Сукроменскі выяўляюцца ў Мажайскім уездзе[144]. Верагодна, Сукромна была падзелена паміж двума ўездамі — Старыцкім і Мажайскім. Цалкам магчыма, тэрыторыі пазначаных валасцей так зліліся паміж сабой, што іх цяжка было размежаваць, таму пазней мы назіраем знікненне Холмскага ўезду з сістэмай валасцей, а на яго месцы — з'яўленне Холмскай воласці ў складзе Старыцкага ўезду. Відавочна, некалькі валасцей (у мінулым літоўскіх і цвярскіх) былі аб'яднаны.

Пра існаванне шчыльнага кантакту паміж літоўскімі і цвярскімі валоданнямі сведчыць цэлы шэраг дагаворных грамат. Так, у літоўска-цвярской дамове 1427 г. упершыню згадваецца рубеж паміж ВКЛ (Смаленскам) з Вялікім Княствам Цвярскім і агаворваюцца ўмовы валодання памежнымі местамі[145]. Але зусім верагодна, што згаданы артыкул дагаворных грамат мог тычыцца таксама і іншага ўчастка літоўска-цвярской мяжы (у раёне воласці Асугі).

Вось вытрымкі з дамоў, якая датычацца асаблівага статусу літоўска-цвярскога памежжа:

---

141 Археологическая карта России: Смоленская область. Ч. 1—2. М., 1997; Шмидт Е.А. Древнерусские археологические памятники Смоленской области. Ч. 1—2. Смоленск, 1982—1983.

142 Темушев В.Н. К вопросу о московско-литовской границе в XV ст. (Владения князей Крошинских). С. 299—307.

143 ДДГ. № 102. С. 421.

144 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII ст. С. 574.

145 ДДГ. № 23. С. 62—63; LM. Kn. 5: (1427—1506). № 141. P. 259.

Таб. 3. Літоўска-цвярская мяжа ў граматах 1427, 1449 і 1483 гг.

| Лист перемирный Бориса Александровича, князя великого тверского, з великим князем Витовтом (1427). | Лист перемирный того ж кн(я)зя, Борыса Тферског(о), с королем Казимером (1449). | Лист перемирный великого князя Михаила Борысовича Тферского с королем Казимером (1483). |
|---|---|---|
| «А рубежъ отъчыне моего г(о)с(по)дина, деда, великого кн(я)зя Витовъта, по старыне. А которыи места порубежныи потягли будуть к Литве или к Смоленьску, а подать будуть давали ко Тъферы, ино имъ и нинечы тягнути по-старому. А которыи места порубежъныи потягли будуть ко Тферы, а подать будуть даивали к Литве или к Смоленьску, ино имъ и нинечи тягнути по-давному, а подать давати по-давному»[146]. | «А рубежъ отъчыне моеи, великого князя Борысове, по старыне. А места порубежная, котории будуть зъдавна потягли к Литве или к Смоленъску, а подать будуть даивали ко Тферы, ино имъ и нинечы тягнути по-давному, а мне, великому князю, не въступатисе. А которыи места потягли будуть ко Тьферы, а подат даивали к Литве или к Смоленъску, а то имъ и нинечи тягнути по-давному, а тобе, королю, не въступатисе. А што вчыниться межы вашыми людми и нашыми, и волостели нашы, зъехався, да вчынять исправу без перевода, а про то намъ нелюбовъя не держати»[147]. | «А рубежъ отчыне моеи, великого кн(я)зя Михаилове, по старыне. А места порубежная, которыи будуть потягли зъдавна к Литве или к Смоленску, а подать даивали ко Тферы, ино имъ и нинечы тягнуть по-давному, а мне, великому князю Михаилу, не въступатисе. А которыи места потягли будуть ко Тферы, а подать будуть даивали зъдавна к Литве или к Смоленску, то имъ и нинечи тягнути по-давному, а подать давати по-давному, а тобе, королю, не въступатисе»[148]. |

З пададзеных фрагментаў бачна, што ў памежнай зоне паміж вялікімі княствамі Літоўскім і Цвярскім сфарміравалася асаблівая сістэма тэрытарыяльна-данніцкіх адносін, пры якой уладанні таго ці іншага боку, якія належалі адной дзяржаве, частку падаткаў плацілі суседу. Паводле прыведзеных вытрымак, такая сітуацыя была характэрна не толькі для ўчастка агульнай мяжы, што з'явілася пры Кейстуце, але і для смаленскіх (вяземскіх) зямель, памежных з Вялікім Княствам Цвярскім (Вяземскае княства было далучана да ВКЛ у 1403 г.).

З двух участкаў літоўска-цвярской мяжы даўжэй праіснаваў першы, ён застаўся актуальным нават пасля далучэння Вяземскай зямлі да Масквы (што адсунула далёка на захад маскоўскую мяжу). У «Листе перемирном великого князя московского Иоанна с королем Казимиром» ад 2 траўня 1494 г. чытаем: «Такъже и Тферы, отчыне нашои [Івана III — *В.Ц.*], и всеи Тверскои земли рубеж с Литвою по старому рубежу»[149]. Такім чынам, пасля 1494 г. яшчэ пэўны час (да 1505 г., далучэння да Масквы Бельскага княства) працягваў існаваць самы даўні ўчастак літоўска-цвярской мяжы. Праўда, Цвер ужо была маскоўскім уладаннем, вотчынай гасудара ўсяе Русі Івана III.

Неабходна таксама пазначыць тыя тэрыторыі, што прымыкалі да мяжы з цвярскога боку. Памежнымі гарадамі на паўднёвым захадзе Вялікага Княства Цвярскога былі Апокі (каля 2 км на ўсход ад Ржэвы, на левым беразе р. Волгі)[150], Зубцоў (у лукавіне р. Волгі, насупраць вусця р. Вазузы), Хорвач (Новы Гарадок, Пагарэлае гарадзішча каля ракі Дзержы, правага прытоку Волгі)[151] і Холм (на ўсход ад Хорвачу).

Відаць, непасрэдна каля мяжы размяшчалася воласць Алешня, вядомая яшчэ з 1285 г. Існуе некалькі версій месцазнаходжання гэтай воласці. Пошукі падобнай назвы (метад лінгвістычнай адпаведнасці) прывялі У.С. Барзакоўскага да атаясамлен-

146 ДДГ. № 23. С. 62—63; LM. Kn. 5. № 140. P. 257.

147 LM. Kn. 5. № 141. P. 259.

148 Тамсама. № 135. P. 251.

149 ДДГ. № 83. С. 329; LM. Kn. 5. № 78.2. P. 134.

150 Клюг Э. Княжество Тверское (1247—1485 гг.). С. 259—260; Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV ст. С. 196.

151 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 34; Кучкин В.А. Формирование государственной территории… С. 148, 196.

ня цэнтра воласці з в. Алешава Зубцоўскага ўезду[152]. Такая лакалізацыя выклікала крытыку У.А. Кучкіна, які, выкарыстоўваючы шэраг дакументаў, здолеў пазначыць прыблізнае месца воласці паміж рэкамі Шэшмай (правы прыток Вазузы) і Вазузай[153]. Аднак у сістэме доказаў сваёй версіі У.А. Кучкін дапусціў адну сур'ёзную памылку (пераблытаў месцы населеных пунктаў Хлепень і Беразуеск)[154], што дазволіла цвярскому гісторыку В.В. Лялецкаму зрабіць цалкам неверагодную выснову пра месцазнаходжанне воласці Алешні ў раёне р. Алешні, правага прытоку р. Гжаць, у вярхоўях апошняй[155].

Па сутнасці В.В. Лялецкім быў выкарыстаны ўсё той жа метад лінгвістычнай адпаведнасці. Аднак радыус пошуку назвы Алешня быў значна пашыраны, хаця ў свой час У.С. Барзакоўскі карэктна імкнуўся шукаць воласць у раёне месцаў, у сувязі з якімі яна згадвалася (напрыклад, у духоўнай грамаце Івана III, які перадаваў сыну Андрэю «Холмъских вотчину, Холмъ и Новои городок, да волости Олешню, да волость Синюю, и иные волости, и пути, и села, со всеми пошлинами»[156]). На значным аддаленні на поўдзень ад Холма і р. Сіняй, вакол якой месцілася воласць Сіняя, у раёне р. Алешні (правы прыток Вялікай Гжаці) і была лакалізавана даўняя цвярская воласць[157]. Назіранне В.В. Лялецкага адносна ранняга засялення раёна р. Алешні (там знаходзілася Ветца, вядомая яшчэ з устаўной граматы князя Расціслава Смаленскага 1136 г.) не выклікае сумненняў. Таксама і прыналежнасць тэрыторыі на ўсход ад р. Гжаці да Цвярской епархіі ў больш позні час вартая ўвагі. Дадатковым аргументам можа случыць заўвага С. Герберштэйна, які сцвярджаў, нібыта «истоки реки Москвы находятся в Тверской области, приблизительно в семидесяти верстах выше Можайска недалеко от места по имени Олешно»[158]. Менавіта там убачыў воласць Алешню В.В. Лялецкі. Аднак усё ж выснову даследчыка неабходна ізноў крытычна разгледзець.

Асновай сістэмы доказаў як В.В. Лялецкага, так і У.А. Кучкіна паслужыла вытрымка з тэксту жалаванай граматы вялікага князя Івана IV ігумену Іосіфа-Валакаламскага манастыра Ніфанту ад 21 верасня 1539 г. на с. Фаўстову Гару ў Зубцоўскім павеце. Сяляне гэтага сяла не павінны былі плаціць «мыто» і іншыя падаткі, «коли повезут те крестьяне монастырские дрова, бревна и всякий лес из Олешни рекою Вазузою мимо Хлепень»[159]. В.В. Лялецкі паправіў У.А. Кучкіна ў яго памылковай лакалізацыі Фаўстовай Гары (сяло каля р. Шэшмы) і Хлепеня (на

---

[152] Борзаковский В.С. История Тверского княжества. СПб., 1876. С. 29—30.

[153] Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV ст. С. 149.

[154] Тамсама. На самой справе памылка У.А. Кучкіна не такая істотная, яна як памылка друку: Беразуеск і Хлепень былі пазначаны не вышэй, а ніжэй па цячэнні р. Вазузы ад Фаміна Гарадка. Паводле іншых арыенціраў (напрыклад, згадцы р. Гарадзенкі, каля вусця якой стаяў Хлепень) можна зразумець, што У.А. Кучкін меў правільнае ўяўленне пра месцазнаходжанне трох гарадоў.

[155] Лелецкий В.В. О местоположении тверской волости Олешни и территории Тверского княжества // Отечественная история. 1998. № 2. С. 175—176.

[156] ДДГ. № 89. С. 361.

[157] Лелецкий В.В. О местоположении тверской волости Олешни и территории Тверского княжества. С. 176.

[158] Герберштейн С. Записки о Московии. Т. I. С. 287.

[159] АФЗХ. Ч. 2. М., 1956. С. 146.

р. Вазузе, ніжэй Беразуеска)[160] і, адпаведна, разбіў высновы гісторыка, дзе ў лініі Алешня — Вазуза — Хлепень — Фаўстова Гара вышэйпазначаная воласць аказваецца ў раёне міжрэчча Шэшмы і Вазузы. Новая сістэма доказаў выбудоўваецца паводле той жа схемы, але з больш дакладнай лакалізацыяй. Сяло Фаўстова Гара размяшчалася на правым беразе р. Волгі пры ўпадзенні ў яе р. Вазузы, насупраць горада Зубцова[161], а горад Хлепень не ніжэй, а вышэй цячэння р. Вазузы ад Беразуеска. Тым самым лагічны ланцужок разгортваецца ў супрацьлеглы бок, а Алешню, на думку В.В. Лялецкага, варта шукаць вышэй Хлепеня на р. Вазузе або яе прытоках. І вось такім чынам В.В. Лялецкі знайшоў р. Алешню значна на поўдзень ад усіх існуючых у сістэме доказаў тапонімаў і гідронімаў, вакол якой і абвясціў месцазнаходжанне шукаемай воласці.

Аднак варта адзначыць, што р. Алешня ўпадае ў р. Гжаць, адпаведна, у разгляданай грамаце павінна быць сказана, што лес везлі не толькі Вазузай, але і Гжаццю, працягласць якой ад вусця Алешні да вусця самой Гжаці прыблізна ў 10 разоў большая, чым ад Хлепеня да вусця Гжаці. Далей, незразумела, чаму было вырашана, што менавіта да сябе ў сяло сяляне Фаўстовай Гары везлі дровы і іншае? Магчыма яны нарыхтоўвалі лес у воласці Алешні, а потым везлі (не сплаўлялі, бо ішлі супраць цячэння) яго па Вазузе паўз Хлепень далей на поўдзень, без намеру ў дадзеным выпадку спыняцца ў родным сяле. Больш таго, вельмі верагодна, што воласць Алешня была побач з сялом Фаўстова Гара. З апошняга сялянам зручна было хадзіць у Алешню, дзе яны і нарыхтоўвалі дровы. Тым самым воласць Алешню варта ўсё ж шукаць побач з воласцю Сіняй, не выходзячы за рамкі ўезда Холма і Новага Гарадка (пазней увайшлі ў склад Старыцкага ўезда). Паўднёвая мяжа ўезду (якая, між іншым, уключала і шэраг былых вотчын літоўскіх князёў Крошынскіх) не даходзіла нават да р. Гжаці і яе прытоку Яузы, не гаворачы ўжо пра р. Алешню, якая размешчана больш на поўдзень.

І, нарэшце, варта адзначыць, што ў выпадку прыняцця лакалізацыі В.В. Лялецкага, паміж воласцю Алешняй і асноўным масівам цвярскіх зямель быў бы шэраг валасцей князёў Крошынскіх, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ, а таксама некаторыя мажайскія землі Маскоўскага княства, гэта значыць, Алешня абавязкова была б цвярскім эксклавам, акружаным літоўскімі і маскоўскімі ўладаннямі.

Трэба пагадзіцца з тым, што сяляне нарыхтоўвалі лес недалёка ад свайго сяла і, канечне, не прыходзіцца сумнявацца ў тым, што везлі яго па р. Вазузе, абмінаючы Хлепень (магчыма, рабілі гэта санным шляхам, узімку). Здавалася б, Алешня абавязкова павінна была б апынуцца паміж рэкамі Шэшмай і Вазузай, пра што зрабіў выснову У.А. Кучкін[162]. Аднак ведаючы, дзе знаходзіцца с. Фаўстова Гара (пра лакалізацыю сяла гл. ніжэй), можна пераканацца ў тым, што месца для цэлай воласці паміж ім і Вазузай проста няма. Паведамленне граматы 1539 г. можна разумець інакш. Воласць Алешня знаходзілася ў баку ад с. Фаўстова Гара: сяляне везлі лес спачатку ў роднае сяло, распілоўвалі, секлі яго і толькі адтуль везлі па Вазузе далей Хлепеня.

Тут ізноў трэба згадаць меркаванне У.С. Барзакоўскага, які ўбачыў у Цвярской губерні некалькі мясцовасцей з назвамі, сугучнымі з Алешняй, але карэктна адабраў толькі адну з іх — в. Алешава каля р. Дзержы — і ў выніку прызнаў яе даўняй

---

[160] Кучкин В.А. Формирование государственной территории… С. 146.

[161] Лелецкий В.В. О местоположении тверской волости Олешни и территории Тверского княжества. С. 175.

[162] Аўтар гэтай працы ў свой час падтрымаў версію У.А. Кучкіна (Темушев В.Н. Литовско-тверская граница. С. 95).

воласцю. З абодвух бакоў ніжняга цячэння р. Дзержы, так, што Алешава аказвалася ў цэнтры, у XVII ст. месціўся Ляпкоўскі стан[163]. Можна з асцярожнасцю выказаць меркаванне, што яго назва — скажоная ад Ляшкоўскі (Аляшкоўскі — Алешня).

Гэтая лакалізацыя добра адпавядае згадцы ў духоўнай грамаце Івана III у адной звязцы валасцей Алешні і Сіняй, якія дадаваліся (верагодна, са складу зубцоўскіх валасцей) да ўдзелу Андрэя Іванавіча (родапачынальніка Старыцкіх князёў)[164]. Воласць Сіняя ляжала на паўднёвы ўсход ад Ляпкоўскага стана (Алешні?) уздоўж левага прытоку Дзержы р. Сіняй[165]. Разам з воласцю Сіняй у грамаце Івана III былі названы дварцовыя сёлы Вахнава і Ракава. Іх і цяпер можна знайсці на сучаснай карце[166].

Р. Сіняя сваім вытокам дакраналася тэрыторыі, якая адносілася ў XVII ст. да стана Стары Беразуй[167]. Такім чынам, цвярская воласць Сіняя на паўночным усходзе суседзіла з Фамінска-Беразуйскім княствам. Тое самае можна сказаць пра воласць Алешню або Шэшму, у залежнасці ад таго, ці з'яўлялася апошняя часткай княства.

Выснову пра месцазнаходжанне цвярскіх уладанняў у раёне Апок і Зубцова і на правым беразе р. Волгі можна зрабіць толькі гіпатэтычна. Левы бераг (на захад амаль да Ржэвы), без сумневу, займалі цвярскія ўладанні, і калі б р. Волга была тут мяжой, то гэта абавязкова было б адзначана ў дагаворных граматах, аднак у іх гаворыцца пра сумеснае і цераспалоснае літоўска-цвярское валоданне.

Такая працягласць літоўска-цвярской мяжы захоўвалася амаль стагоддзе (з 1403 да 1494 г.), пакуль Вяземскае княства не было далучана да Масквы. Лінія мяжы знаходзілася паміж ржэўскімі і мажайскімі (магчыма, волацкімі) землямі, якія належалі Маскве. Акрамя таго, гэты ўчастак літоўска-цвярской мяжы перарываўся пасярэдзіне масівам зямель (Хлепень, Рагачоў, Беразуйск, Фамінскае), на якія здаўна мелі прэтэнзіі маскоўскія вялікія князі і валадары якіх з 1449 г. былі прызнаны падуладнымі вялікаму князю маскоўскаму. Рэальна хлепенскія і іншыя землі заставаліся ў складзе ВКЛ, Вяземскага княства, а хлепенская воласць Рагачоў была нават аддадзена ў вотчыну сыну пана Івана (Яна) Хадкевіча[168]. У 1494 г. гэтыя землі сталі часткай Маскоўскага княства, таксама як і ўсходні ад іх участак літоўска-цвярской мяжы, дзе знаходзіліся ўладанні князёў Крошынскіх, што ўваходзілі ў склад Вяземскага княства і ВКЛ.

Аднак нават пасля далучэння Вяземскай зямлі да Масквы (што адсунула далёка на захад маскоўскую мяжу), участак літоўска-цвярскога памежжа захоўваўся. У «Листе перемирном великого князя московского Иоанна с королем Казимиром» ад 2 траўня 1494 г. чытаем: «Такъже и Тферы, отчыне нашои [Івана III. — *В.Ц.*], и всеи Тверскои земли рубеж с Литвою по старому рубежу»[169]. Такім чынам, пасля 1494 г. яшчэ некаторы час (да 1505 г. — часу далучэння да Масквы Бельскага ўдзелу ВКЛ)

---

163 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 381; Водарский Я.Е. Население России в конце XVII — начале XVIII ст. (Численность, сословно-классовый состав, размещение). М., 1977. С. 237.

164 ДДГ. № 89. С. 361.

165 Тверская область. Топографическая карта. С. 63; Общегеографический региональный атлас «Смоленская область». Масштаб 1:200 000. М., 2001. С. 6. На карце А.І. Мендэ рэчка пазначана як Сіняўка (Межевой атлас Тверской губернии... S:W:C:1). На карце І.А. Стральбіцкага — Сіняя (Специальная десятиверстная карта Европейской России И.А. Стрельбицкого. 1865—1871. Масштаб: в 1 дюйме 10 верст (1:420 000). Л. 43).

166 Тверская область. Топографическая карта. С. 63.

167 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 401, карта (Карта издания 1906 г.)

168 СИРИО. Т. 35. С. 72.

169 ДДГ. № 83. С. 329; LM. Kn. 5. № 78.2. P. 134.

працягваў існаваць самы даўні ўчастак літоўска-літоўскай мяжы. Праўда, Цвер ужо была маскоўскім уладаннем, вотчынай гасудара «всея Русі» Івана III.

У сувязі з існаваннем на працягу доўгага часу літоўска-цвярской мяжы трэба зрабіць наступную выснову. Паміж асноўным масівам Маскоўскага княства і Ржэўскай зямлёй да ліквідацыі дзяржаўнасці Вялікага Ноўгарада і Цвярскога княства не існавала сухапутнай сувязі. Ржэўская зямля з сярэдзіны XIV ст. папераменна належала Маскве, Вільні або Цверы, але прыблізна з 1381—1382 гг. амаль увесь час (за выключэннем кароткіх перыядаў 1399 і 1447—1449 гг.) знаходзілася ў складзе маскоўскіх уладанняў[170], застаючыся пры гэтым, па сутнасці, эксклавам. Унікальны ўчастак літоўска-цвярской мяжы на працягу стагоддзя перакрываў Маскве прамы доступ да яе верхняволжскага ўладання, якое мела, верагодна, вялікае стратэгічнае значэнне. У свой час імкненне валодаць землямі Фамінска-Беразуйскага княства выдавалася гісторыкамі за жаданне Масквы наладзіць сухапутную сувязь з Ржэвай[171]. Аднак у рэальнасці, нават пасля набыцця тэрыторый у нізоўях р. Вазузы, маскоўскія князі ўсё ж былі вымушаны карыстацца транзітным шляхам праз цвярскія або літоўскія ўладанні. Такім чынам, становіцца відавочным асаблівае значэнне зоны літоўска-цвярскога памежжа як пэўнага рычага ўздзеяння на сферу маскоўскіх інтарэсаў з боку ВКЛ.

Напрыканцы адзначым, што пачатак фарміравання літоўска-цвярской мяжы неабходна аднесці да кароткага перыяду праўлення Кейстута (1381—1382 гг.). Тады з'явіўся вельмі маленькі, але стратэгічна важны ўчастак памежжа ў раёне воласці Асугі. Літоўска-маскоўская дамова пра вечны мір ад 1449 г. спецыяльна агаворвала валоданне Казімірам гэтай былой часткі Ржэўскай зямлі[172]. Відавочна, і пасля 1494 г. Асуга заставалася ў складзе ВКЛ.

Значна прасунулася на ўсход літоўска-цвярская мяжа пры Вітаўце, у 1403—1404 гг., калі ВКЛ захапіла вяземскія і смаленскія землі. Можно ўбачыць, што літоўская мяжа захапіла стары смаленскі рубеж. Што характэрна, новая ўлада захавала ў непарушнасці цераспалосіцу, якуя тут існавала, і сумеснае кіраванне смаленска-цвярскімі ўладаннямі, у сувязі з чым мяжа так і засталася без выразнага вызначэння.

## 4. Фамінска-Беразуйскае княства паміж Вільняй, Масквой і Цвер'ю

Паміж асноўным масівам зямель Маскоўскага княства і яго эксклавам — Ржэўскай зямлёй на паўднёвы ўсход ад апошняй у XIV ст. размяшчалася Фамінска-Беразуйскае княства, чые валадары былі звязаны з ржэўскімі князямі адной дынастыяй (князёў Фамінскіх) і таксама, як яны, у выніку страцілі свае першапачатковыя ўладанні і перайшлі на службу да маскоўскіх вялікіх князёў[173]. Пры гэтым, згодна з агульнапры-

[170] Кучкин В.А. К изучению процесса централизации в Восточной Европе... С. 149—162; Темушев В.Н. Начало складывания московско-литовской границы. С. 77, 78—79.

[171] Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 3.

[172] ДДГ. № 53. С. 160—161; LM. Kn. 5. № 136. P. 252.

[173] Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 30; Веселовский С.Б. Исследования по истории класса служилых землевладельцев. М., 1969. С. 359, 363; Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV — первой трети XVI ст. М., 1988. С. 223, 229; Чернов С.З. Волок Ламский в XIV — первой половине XVI ст. С. 160—161, 164; Михайлова И.Б. Служилые люди Северо-Восточной Руси в XIV — первой половине XVI века: Очерки социальной истории. СПб., 2003. С. 278; Юшко А.А. Феодальное землевладение Московской земли XIV века. М., 2003. С. 170.

нятым меркаваннем (якое, як высветлілася, у сувязі з існаваннем літоўска-цвярской мяжы, не адпавядае сапраўднасці), Масква магла і не мець тэрытарыяльнай сувязі з Ржэвай, калі не трымала ў падначаленні князёў Фамінска-Беразуйскага княства[174]. Суседняе ж Вялікае Княства Літоўскае губляла кантакт з Вялікім Княствам Цвярскім — сваім саюзнікам, калі не валодала Ржэвай або не распаўсюджвала ўладу на тых жа фамінска-беразуйскіх князёў.

Магчыма, водгукам нерэалізаванага імкнення ВКЛ да больш шчыльнага тэрытарыяльнага кантакту з Цвер'ю з'явіўся захоп з боку Масквы ў канцы 60-х гг. XIV ст. разам з Ржэўскай зямлёй, Фамінскам і Беразуескам таксама і такіх мястэчак, як Ліпіца і Цесаў, якія размяшчаліся на Вазузе і яе прытоку Касне на поўдзень ад масіва Фамінска-Беразуйскага княства[175].

Пра маскоўскія поспехі ў супрацьстаянні з ВКЛ даведваемся з вядомага паслання Альгерда канстанцінопальскаму патрыярху Філафею 1371 г. Вялікі князь літоўскі, адводзячы ад сябе абвінавачванне ў нападзе на падлеглыя мітрапаліту Аляксею землі, пералічыў гарады, якія «против своего крестного целования» ўзяў у яго маскоўскі вораг: «Ржеву, Сишку, Гудин, Осечен, Горышено, Рясну, Луки Великия, Кличень, Вселук, Волго, Козлово, Липицу, Тесов, Хлепен, Фомин городок, Березуеск, Калугу, Мценеск»[176]. Большасць пералічаных населеных пунктаў лакалізавана, таксама вырашана праблема часу захопу іх Масквой[177]. Аднак некаторыя пытанні ўсё ж засталіся без адказаў.

У пераліку маскоўскіх захопаў можна вылучыць паводле тэрытарыяльнай прыкметы тры групы гарадоў: 1) ржэўскія; 2) смаленскія, 3) верхняокскія (навасільскія?). Ад Сішкі да Волгі названы, безумоўна, ржэўскія гарадкі — цэнтры валасцей. Нават у Луках Вялікіх варта бачыць не знакаміты наўгародскі горад на р. Ловаці, а пагост Лукома на р. Волзе, паміж Асечанам і Гарышынам[178]. Таксама не выклікаюць сумненняў лакалізацыі Калугі і Мцэнска — у верхнім цячэнні р. Акі. Прычым, згадванне ў пасланні 1371 г. маскоўскага нападу на навасільскага князя Івана (адбылося, верагодна, у 1370 г., падчас маскоўскага паходу на Бранск)[179], дае пэўную магчымасць залічыць

---

[174] Пра тэрытарыяльную сувязь асноўнага масіву маскоўскіх уладанняў з Ржэўскай зямлёй з дапамогай Фамінска-Беразуйскага княства пісалі М.К. Любаўскі і М.Дз. Квашнін-Самарын (Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 285; Ён жа. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 82; Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 22).

[175] Пра лакалізацыю Ліпіц і Цесава гл.: Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 65. Старажытнасць Ліпіц на р. Вазузе пацвярджаецца картаграфічным матэрыялам XVIII ст. і археалагічнымі дадзенымі (Куза А.В. Древнерусские городища X—XIII ст. Свод археологических памятников. М., 1996. № 495. С. 115; Археологическая карта России. Смоленская область. Ч. 2 / Под ред. Ю.А. Краснова. М., 1997. № 979 (14). С. 61, 64). Пра Цесава гэтага сказаць нельга.

[176] Памятники древнерусского канонического права. Ч. 1 // Русская историческая библиотека. Т. 6. СПб., 1908. № 24. Стб. 136, 138.

[177] Успенский В.П. Литовские пограничные городки: Селук, Горышин и другие. К вопросу об определении мест, упоминаемых в летописях, пограничных литовских городков: Селука, Горышина и др. и проведение границы прежнего Ржевского уезда с Литвою. Тверь, 1892. С. 1—34; Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV ст. С. 146—147; Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 63, 64—66.

[178] Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 65; Межевой атлас Тверской губернии... S:W:B:2.

[179] Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 66; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 150. Прим. 194.

абодва гарады да тэрыторыі Навасільскага княства[180], хаця некаторыя, настолькі ж ускосныя, звесткі, могуць сведчыць на карысць іншага пункта гледжання[181].

Нарэшце, вылучэнне другой групы гарадоў, умоўна названай смаленскай, неабходна абгрунтаваць. Фамін гарадок і Беразуеск — цэнтры невялікіх княстваў, якія адасобіліся разам з Ржэвай ад Смаленска. Ржэва, верагодна, першапачаткова ўваходзіла ў склад Таропецкага княства, а на пачатку 30-х гг. XIV ст. узяла на сябе ролю сталіцы саслабелага і невялікага (з-за ўздзеяння ВКЛ) княства[182]. Хлепен (Хлепень) — горад, размешчаны на р. Вазузе, вышэй па цячэнні за Беразуеск, традыцыйна адносяць да Фамінска-Беразуйскага княства (гл. ніжэй).

З групы гарадоў, залічаных да смаленскіх, засталіся тры пункты. Тэрытарыяльная прыналежнасць двух з іх (Ліпіцаў і Цесава) незразумела, а трэці (Казлова) усё ж можна звязаць са Смаленскам. Казлова — гэта, хутчэй за ўсё, Казлоў — горад у Вяземскім княстве, цэнтр уладанняў князёў Казлоўскіх (якія паходзілі, дарэчы, ад князёў Фамінскіх)[183]. Ён размяшчаўся на поўдзень ад Цесава, на р. Жыжале, прытоку р. Угры[184]. Хлепень больш на поўнач ад Ліпіцы і Цесава, а Казлоў — больш на поўдзень у канцы XV ст. належалі да Вяземскага княства, таксама, як і некаторыя іншыя пункты, што знаходзіліся ў тым самым раёне (Негамір, Сачоўкі, Бываліцы). Значыць, ёсць падставы аднесці ўсе разглядаемыя гарадкі да ліку смаленскіх. Імі ўжо да зімы 1369 г. валодаў Альгерд, бо ў пазначаны час «Москвичи и Волочане воевали Смоленьскую» воласць[185] і, відаць, вярнулі ўплыў на частку Смаленскага княства[186]. ВКЛ адцяснілі ад р. Вазузы, і яно на пэўны час згубіла агульную мяжу з Вялікім Княствам Цвярскім. Ад размешчанага паблізу вярхоўяў Дняпра да левага прытока Вазузы р. Лоцмені ішоў волак[187]. Такім чынам, перарываўся яшчэ адзін водны шлях (першы — па Волзе) для літоўскіх кантактаў са сваім саюзнікам.

Вышэй было сказана, што прыналежнасць Маскве Фамінска-Беразуйскага княства магла забяспечыць ёй тэрытарыяльную сувязь са Ржэўскай зямлёй.

---

180 Кучкин В.А. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой. С. 50—51. Прим. 135; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 150.

181 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 52—53; Темушев В.Н. Представления о территории и границах Верхнеокских княжеств в работах исследователей // Верхнее Подонье: Природа. Археология. История. Вып. 2: Сб. ст. в 2-х т. Т. 2. История. Тула, 2007. С. 261, 266, 268.

182 Борзаковский В.С. История Тверского княжества. С. 41; Успенский В.П. Литовские пограничные городки... С. 8; Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 50, 51; Кузьмин А.В. Торопецкая знать в XIII ст. Из истории Смоленской земли. Р. 75; Герберштейн С. Записки о Московии. Т. II. Прим. 543. С. 418—419. Аўтар каментарыя — А.В. Кузьмін.

183 Веселовский С.Б. Исследования по истории класса служилых землевладельцев. С. 366.

184 Археологическая карта России. Смоленская область. Ч. 2. № 792 (15). С. 15—16 (Городище Козловцы); № 793. С. 16 (Селище Козловцы).

185 ПСРЛ. Т. XV (Рогожский летописец. Тверской сборник). М., 2000. Стб. 91.

186 Выказана меркаванне, што шэраг гарадкоў па р. Вазузе быў заняты літоўскімі сіламі ў 1356 г. разам з захопам Ржэвы (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 141; Чернов С.З. Волок Ламский в XIV — первой половине XVI ст. С. 164). Да той жа даты можна аднесці і набыццё Альгердам Ліпіцы, Цесава і Казлова.

187 Воронин Н.Н. Средства и пути сообщения // История культуры Древней Руси. Домонгольский период. Т. I. Материальная культура / Под ред. Н.Н. Воронина, М.К. Каргера и М.А. Тихановой. М.; Л, 1948. С. 303. Л.В. Аляксееў меркаваў, што гэты водна-сухапутны шлях сфарміраваўся ўжо ў пэрыяд развітага Сярэднявечча (Алексеев Л.В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры. Кн. 1. М., 2006. С. 50).

Аднак, відаць, гэта не адпавядала сапраўднасці. На паўднёвы ўсход ад Фамінска-Беразуйскага княства, з правага боку прытока Вазузы р. Гжаці і па абодвух баках прытока апошняй р. Яузы размяшчаліся воласці, якія з пачатку XV ст. былі падначалены князям Крошынскім (Цешынавічы (Цешынава), Сукромна (Сукрома), Альховец, Надслаўль, Лела, Ад'ездзец [Ад'езд])[188]. Толькі яшчэ далей на ўсход, за паласой незасвоеных зямель, пачыналіся маскоўскія ўладанні (мажайскія і валацкія землі). На поўдні воласці Крошынскіх суседзілі з цвярскімі землямі, прычым менавіта гэтаму раёну была ўласціва цераспалосіца ўладанняў.

У літоўска-цвярской дамове 1427 г. згадваўся рубеж паміж ВКЛ (Смаленскам) і Вялікім Княствам Цвярскім і агаворваліся ўмовы ўладання памежнымі тэрыторыямі: «А которыи места порубежныи потягли будуть к Литве или к Смоленьску, а подать будуть давали к Тфери, ино имъ и ныненя тягнути по давному, а подать давати по давномоу. А которы места порубежныи потягли будуть ко Тфери, а подать боудуть давали к [Літве або к Смаленску — *В.Ц.*], ино им и нынеча тягнути по давному, а подать давати по давному»[189]. Пад смаленскімі варта разумець вяземскія воласці, падлеглыя князям Крошынскім. «Места порубежныи», якія адносіліся да Літвы, таксама сумеснага ўладання, фарміравалі памежную зону з Цвер'ю крыху больш на захад (з воласцю Асугай?).

Такім чынам, для ВКЛ у XV ст. існавалі дзве кантактныя зоны з тэрыторыяй Вялікага Княства Цвярскога — з боку ўладанняў ВКЛ і з боку названых асобна смаленскіх (вяземскіх) зямель. Відавочна, тэрыторыя Фамінска-Беразуйскага княства, калі б яна была падлеглая ўладзе ВКЛ, магла лічыцца смаленскай.

Аднак літоўская прыналежнасць шэрагу зямель на поўнач ад Вяземскага княства ў кантакце з Вялікім Княствам Цвярскім выклікае сумненні. У маскоўска-літоўскія дамовы 1449 і 1494 гг. уключаны артыкул з падрабязным апісаннем уладанняў памежных князёў, якія падпарадкоўваліся маскоўскаму валадару: «А Федора Блудова а Олексанъдрова Борысова, сына Хлепенъского, и кн(я)зя Романова Фоминског(о), и их братьи, и братаничов отчыны земли и воды — все мое, великого князя Васильево. Такежъ Юрева доля Ромеикович(а) и кн(я)жа Федорова места Святославичъ — вся за мною, за Вялікімъ княземъ, за Васильемъ»[190]. Фармулёўка граматы дазваляе зрабіць выснову аб тым, што землі пазначаных асоб належалі непасрэдна вялікаму князю маскоўскаму. Тут не гаворыцца пра іх службу або саюзніцкія адносіны з Масквой. І сапраўды, Фёдар Блудаў быў пакараны ў 1440 г.[191], Аляксандр Барысавіч Поле (калі

---

[188] Пра месца і лёс гэтых валасцей гл.: Цемушаў В.М. Крайнія ўсходнія межы зямель Вялікага Княства Літоўскага ў XV ст. (Уладанні князёў Крошынскіх) // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 3. Мінск, 2008. С. 60—64; Темушев В. К вопросу о московско-литовской границе в XV ст. (владения князей Крошинских). С. 299—307.

[189] ДДГ. № 23. С. 62—63. Гл. іншы варыянт: LM. Kn. 5. № 140. С. 257. Тая самая фармулёўка паўтараецца ў дамове паміж Міхаілам Барысавічам і Казімірам у 1449 г. (LM. Kn. 5. № 141. С. 259).

[190] Цытуецца дакумент 1449 г. (LM. Kn. 5. № 78.1. P. 132—133). Той самы тэкст гл.: LM. Kn. 5. № 78.2. P. 135; ДДГ. № 53. С. 160—161; № 83. С. 329—330.

[191] Фёдар (Федко) Блудаў утапіў сына знакамітага мцэнскага ваяводы Грыгорыя Пратасьева Івана, за што сам быў пакараны павешаннем (ПСРЛ. Т. XXIII (Ярмолінскі летапіс). М., 2004. С. 150; Мазуров А.Б. Средневековая Коломна в XIV — первой трети XVI ст. Комплексное исследование региональных аспектов становления единого Русского государства. М., 2001. С. 145; Пономарева И.Г. История одного выезда на московскую службу (о предках Чаадаевых) // Древняя Русь: вопросы медиевистики. № 4. 2005. С. 45). Захавалася паданне пра існаванне ў раёне Вязьмы мясцовасці з назвай «Ступня Фёдара Блудава». Дзе дакладна яна знаходзілася, невядома, але, верагодна, адносілася да ўладанняў менавіта таго Фёдара Блудава, які быў згаданы ў дзвюх маскоўска-літоўскіх дамовах (Виноградов И.П. Исторический очерк города Вязьмы с древнейших времен до XVII ст. (включительно). М., 1890. С. 20).

бачыць яго ў сыне хлепеньскага князя), верагодна, да сярэдзіны XV ст. даўно памёр (згадваўся ў 1390 і 1401 гг.)[192]. Князь Раман Фамінскі быў атаясамлены А.А. Зіміным з князем Раманам Іванавічам Казлоўскім, прадстаўніком Фамінскай дынастыі[193]. У сувязі з гэтым можна выказаць меркаванне, што Раман Фамінскі дзесьці на пачатку XV ст. вымушаны быў з нейкай прычыны пакінуць свае ўладанні і перайсці на службу да вялікага князя літоўскага. Ад апошняга ён і атрымаў у Вяземскім княстве Казлоў, які даў новае імя роду[194]. Уладанні астатніх сваякоў пералічаных у граматах 1449 і 1494 гг. князёў таксама перайшлі да Масквы. Самі ж князі Фамінскага роду ў канцы XIV ст. служылі Маскве[195]. Але, часткова або цалкам страціўшы ўладанні на мяжы з ВКЛ, яны працягвалі несці службу па абароне заходніх меж Вялікага Княства Маскоўскага[196].

Пералік грамат 1449 і 1494 гг. натуральным чынам распадаецца на дзве часткі, у першай з якіх пераважаюць князі Фамінскія. Магчыма, і Фёдар Блудаў адносіўся да іх ліку. Сярод князёў Фамінскіх імя Фёдар было вельмі папулярным, так што князь Канстанцін Беразуйскі назваў усіх трох сваіх сыноў Фёдарамі[197].

У другой групе названы Юрый Рамейкавіч (Раманавіч) і князь Фёдар Святаславіч. Верагодна, першы з іх таксама меў княжацкі тытул, але, магчыма, не варта звязваць яго з князямі Фамінскімі, як гэта робіць А.А. Горскі, тым больш, што невядома ці быў у князя Рамана Казлоўскага сын Юрый[198]. У асобе князя Фёдара Святаславіча Ржэўскага і Вяземскага (Вяземскага і Дарагабужскага?), які дзейнічаў у сярэдзіне XIV ст., таксама цяжка ўбачыць згаданага ў граматах сярэдзіны і канца XV ст. князя. Але выказаць іншую здагадку праблематычна. Адзін з пералічаных князёў валодаў нейкай доляй зямельнага надзелу, другі — нейкімі, відавочна, памежнымі мясцінамі. Магчыма, гэтыя землі знаходзіліся побач з Фамінска-Беразуйскім княствам, былі часткай смаленскай тэрыторыі.

Такім чынам, у паласе літоўска-цвярскога памежжа на працягу, прынамсі, некалькіх дзесяцігоддзяў другой паловы XV ст. (да 1485 г.) сустракаліся астраўкі маскоўскіх уладанняў. Магчыма, не ўсё Фамінска-Беразуйскае княства стала маскоўскім, існуе магчымасць яго падзелу паміж Масквой і Вільняй. Таму важна разабраць яго першапачатковы склад.

---

192 ПСРЛ. Т. VIII (Летопись по Воскресенскому списку). М., 2001. С. 61; Т. XXV (Московский летописный свод конца XV ст.). М., 2004. С. 219; Т. III (Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов). М., 2000. С. 396.

193 Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России... Прим. 91. С. 247. Тое ж самае паўтарыў А.А. Горскі (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. Прим. 144. С. 140).

194 Н.Д. Квашнін-Самарын выказаў здагадку, што адзін з князёў Фамінскіх (Васілій) атрымаў Казлоў «за женой» (Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 32). Населеныя пункты з назвай Казлова сустракаюцца і ў раёне, блізкім да тэрыторыі Фамінска-Беразуйскага княства, напрыклад, с. Казлова і побач в. Казлова каля р. Шэшмы або в. Казлова крыху на ўсход ад пагоста Малады Беразуй (Межевой атлас Тверской губернии... S:W:C:1).

195 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 30; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 140.

196 Чернов С.З. Волок Ламский в XIV — первой половине XVI ст. С. 165.

197 Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России... С. 230.

198 Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. Прим. 144. С. 141.

Да тэрыторыі Фамінска-Беразуйскага княства[199] традыцыйна адносяць шэраг гарадкоў на р. Вазузе (Фамін Гарадок, Беразуеск, Хлепень)[200], а таксама некаторыя валасці, якія цягнулі да гэтых гарадкоў (напрыклад, Негамір і Рагачоў)[201].

Фамін Гарадок атаясамліваецца з сялом Фамінскім, якое размешчана пры ўпадзенні р. Асугі ў Вазузу[202]. На паўночна-заходняй ускраіне сучаснай вёскі Фоміна, на месцы былых могілак знойдзена гаразішча, якое існавала з ранняга жалезнага веку і да новага часу[203]. У Фамінскай воласці на пачатку XVII ст. былі вёскі Якаўлева, Сігава, Насонава, Падаловая і пустка Церахава[204]. Сяло Насонава вядома паводле матэрыялаў межавання канца XVIII ст.[205]. Становіцца відавочным, што тэрыторыя Фамінскай воласці заходзіла і на правы бераг р. Вазузы.

У XVI ст. былі вядомы два пункты — Стары і Малады Беразуй. З іх менавіта апошні быў старым удзельным цэнтрам[206], што пацвярджаецца і археалагічнымі дадзенымі[207]. Да Старога Беразуя на пачатку XVII ст. адносіліся сёлы Апалеева і

---

199 Верагодна, тэрыторыя будучага княства была разам са Ржэўскай зямлёй часткай Таропецкага княства (адасобілася ад Смаленска ў другой палове XII ст.), і толькі ў першай палове XIV ст. афармілася ў самастойны ўдзел. Прынята лічыць, што з Фамінскага крыху пазней выдзелілася Беразуйскае княства (Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси. С. 146).

200 Веселовский С.Б. Исследования по истории класса служилых землевладельцев. Прим. 22. С. 368; Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси. С. 146; Чернов С.З. Волок Ламский в XIV — первой половине XVI ст. С. 162; Юшко А.А. Феодальное землевладение Московской земли XIV века. С. 170—171.

201 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 26.

202 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 22; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 285; Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 381; Чернов С.З. Волок Ламский в XIV — первой половине XVI ст. С. 162—163. Прим. 144.

203 Куза А.В. Древнерусские городища X—XIII ст. № 503. С. 116; Археологическая карта России. Тверская область. Ч. 1 / Под ред. А.В. Кашкина. М., 2003. № 414 (81). С. 168, 194—195. На карце А.І. Мендэ пазначана сяло Фамінскае Гарадзішча (Межевой атлас под наблюд. ген. Менде. Масштаб в 1 дюйме. S:W:F:2); на карце ж Ф.Ф. Шуберта — проста Гарадзішча (Специальная карта Западной части Российской Империи, составленная и гравированная… при Военно-Топографическом депо с 1826 по 1840 год под руководством генерал-лейтенанта Шуберта. Масштаб в 1 дюйме — 10 верст. Лист XXIV).

204 Акты XIII—XVII ст., представленные в Разрядный приказ представителями служилых фамилий после отмены местничества. Ч. I. 1257—1613 гг. // Чтения в обществе истории и древностей российских при Московском университете. Кн. 3. М., 1898. № 292. С. 312.

205 Генерального плана Зубцовского уезда часть I. Масштаб в 1 дюйме — 2 версты. 1780—1790.

206 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 285; Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси. С. 146. На плане Генеральнага межавання Зубцоўскага ўезда пазначана як паг. Малады Беразуй (Генерального плана Зубцовского уезда часть I), на карце А.І. Мендэ — пагост Беразуеў (Межевой атлас, составленный в 1848—49 гг. под наблюд. ген. Менде. Масштаб в 1 дюйме — 1 верста. S:W:F:2); на карце Ф.Ф. Шуберта — сяло Беразуй (Специальная карта Западной части Российской Империи. Лист XXIV).

207 Куза А.В. Древнерусские городища X—XIII ст. № 502. С. 116; Археологическая карта России. Тверская область. Ч. 1. № 350 (86). С. 168, 180—181. Складальнікі археалагічнай карты Цвярской вобласці памылкова пазначылі Беразуеск як гарадзішча каля пагоста В. (Ст.) Беразуй. Супастаўленне з картаграфічнымі матэрыяламі XIX ст. адназначна ўказвае на правільнасць лакалізацыі помніка менавіта каля пагоста Малады Беразуй. Акрамя таго, не Стары, а Малады Беразуй насіў другую назву Вялікі (Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 380). Па паселішчы, якое захавалася да нашага часу, гарадзішча атрымала назву Залацілава. Апошняе ў

Паротвіна, вёска Лукіна з пусткамі[208]. З іх Протвіна (Іванова) лёгка знаходзіцца на поўдзень ад пагоста Стары Беразуй на карце А.І. Мендэ[209].

Хлепень існуе дагэтуль. На ўскраіне вёскі на мысу правага берага р. Вазузы захавалася гарадзішча[210]. Напярэдадні першай маскоўска-літоўскай памежнай вайны канца XV ст. гэты горад з валасцямі належаў старэйшаму вяземскаму князю Міхаілу Дзмітрыевічу[211]. Уключэнне ў склад Фамінска-Беразуйскага княства Хлепеня, а, значыць, і ўсіх яго валасцей грунтуецца на згадцы ў дамовах 1449 і 1494 гг. князя Аляксандра Барысава, сына Хлепенскага, у адным блоку з князямі Фамінскага роду. Названы князь з вялікай ступенню верагоднасці можа быць прыняты за Аляксандра Барысавіча Полева (Поле), унука Фёдара Фамінскага[212]. Дадатковым аргументам на карысць сувязі Хлепеня з тэрыторыяй княства з'яўляецца другая назва Старога Беразуя (знаходзіўся паміж Фаміным Гарадком і Беразуескам) — Полева[213].

Станаўленне Хлепеня ў якасці значнага адміністрацыйнага цэнтра з сістэмай валасцей магло адбыцца ўжо пад уладай ВКЛ, але, тым не менш, вядомы яго валасці — Джаць (Ждаць) і Панізоўе[214], але іх было, верагодна, больш — можна з пэўнай асцярожнасцю аднесці да тэрыторыі Фамінска-Беразуйскага княства. З ліку хлепенскіх, нягледзячы на меркаванне М.Дз. Квашніна-Самарына, трэба адняць воласці Рагачоў і Негамір[215]. Апошняя, як і воласць Сачоўкі (абедзве на р. Вазузе, вышэй па цячэнні ад Хлепеня) належала князю Васілію Бываліцкаму[216]. Рагачовам жа (на р. Асузе) валодаў сын пана Івана (Яна) Хадкевіча[217].

Меркаванне аб прыналежнасці пазначаных валасцей да Хлепеня склалася, верагодна, на падставе тэксту духоўнай граматы Івана III, у якой ён перадаваў сыну

---

XIX ст. стаяла крыху на поўнач ад Маладога Беразуя (Межевой атлас, составленный в 1848—49 гг. под наблюд. ген. Менде. Масштаб в 1 дюйме — 2 версты. S:W:C:1; Специальная десятиверстная карта Европейской России И.А. Стрельбицкого. Л. 43). У канцы XVIII ст. Залацілава яшчэ не існавала (Генерального плана Зубцовского уезда часть I).

208 АЗР. Т. IV. 1588—1632. СПб., 1851. № 183. С. 342.

209 Межевой атлас, составленный в 1848—49 гг. под наблюд. ген. Менде. Масштаб в 1 дюйме — 2 версты. S:W:C:1.

210 Куза А.В. Древнерусские городища X—XIII ст. № 501. С. 115—116; Археологическая карта России. Смоленская область. Ч. 2. № 1318 (3). С. 138, 142; Чернов С.З. Волок Ламский в XIV — первой половине XVI ст. С. 163. Прим. 144. Узнік на месцы ўмацаванай феадальнай сядзібы, знішчанай пажарам у сярэдзіне XIII ст. Атрымаў новыя абарончыя збудаванні ў XIV ст.

211 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 2, 3; № 4. С. 16; № 12. С. 49; № 14. С. 54.

212 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 26; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 140—141. Прим. 144.

213 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 27.

214 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 49.

215 Н.Д. Квашнін-Самарын пісаў: «Итак Александр Поле, а стало быть и его отец, владели Хлепнем, брат же Бориса Евстафий мог сидеть или в смежном Негомири, или в Рогачеве, которые в грамотах ставятся рядом с Хлепнем, как Хлепенские волости» (Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 27). Аднак факт згадкі Рагачова і Негаміры побач з Хлепенем не дае ім права лічыцца адміністрацыйна падначаленымі гэтаму гораду. Гэтыя воласці нідзе не былі названы хлепенскімі.

216 СИРИО. Т. 35. № 4. С. 16; № 12. С. 49.

217 Тамсама. № 18. С. 73; № 36. С. 195. Магчыма, сына пана Яна Хадкевіча звалі Алешкам (Тамсама. № 16. С. 63, 66).

Дзмітрыю «город Хлепен, и с Рогачевым, и с Негомиремъ, с волостьми, и с путми, и з селы, и со всеми пошлинами»[218]. Аднак такая фармулёўка тэстамента, наадварот, сведчыць пра штучнае далучэнне да ліку хлепенскіх яшчэ дзвюх валасцей. Таксама і да Мажайска быў дабаўлены шэраг валасцей, якія зусім нядаўна ўваходзілі ў склад ВКЛ (Тур'е, Арэхаўна, Дзмітравец і інш.)[219]. Характэрна, што ў духоўнай Івана III Хлепень выразна адасоблены ад Цвярской зямлі і Зубцова[220]. Але пазней Хлепень з нованабытымі валасцямі стаў часткай Зубцоўскага ўезда. Варта адзначыць, што апошні паглынуў усю тэрыторыю Фамінска-Беразуйскага княства.

З вядомых хлепенскіх валасцей (Ждаць і Панізоўе) прыблізна вызначаецца месца толькі адной. Воласць Джаць (Ждаць)[221] — гэта пазнейшы Гжацкі стан Зубцоўскага ўезда на правабярэжжы р. Гжаці пры ўпадзенні яе ў Вазузу[222]. Дзе быў цэнтр гэтай воласці — невядома. Але яго не варта атаясамліваць з Гжацкам (сучасным Гагарыным), які знаходзіцца значна на поўдзень, хаця відавочна запазычанне назваў воласці і пазнейшага горада ад ракі Гжаць. У апошняй быў правы прыток — Ржаць. Уздоўж яе, калі меркаваць па карце Ю.В. Гацье, і размяшчалася воласць[223]. Варыятыўнасць назвы дазваляе выказаць меркаванне пра паходжанне яе ад імя прытоку Гжаці. Але пазней зацвердзілася форма «Гжацкі», што робіць больш верагоднай першую версію.

Указанне пасольскіх кніг на множны лік хлепенскіх валасцей, а таксама адсутнасць згадкі ў маскоўска-літоўскіх памежных канфліктах Фаміна Гарадка і Беразуеска робіць верагоднай думку аб уключэнні іх у адміністрацыйную сістэму Хлепеня. Аднак умовы дамовы 1449 г. прымушаюць думаць, што, прынамсі, значная частка тэрыторый, якія належалі да двух гарадкоў на р. Вазузе, заставалася ў распараджэнні маскоўскага гасудара. Такія ўмацаваныя цэнтры, як Фамін Гарадок і Беразуеск, без сумневу, павінны былі б выкарыстоўвацца ў абароне меж ВКЛ, калі б яны былі на боку апошняга. Аб прыналежнасці Фамінска-Беразуйскага княства ў сярэдзіне XV ст. Маскве цалкам упэўнена пісаў М.К. Любаўскі[224].

З-за няправільнага прачытання тэксту дамовы 1449 г. склалася памылковая думка аб тым, што Масква валодала Хлепенем у другой палове XV ст.[225]. Выказвалася нават здагадка пра захоп яго каралём і вялікім князем Казімірам пасля 1485 г.[226].

---

218 ДДГ. № 89. С. 360.

219 Тамсама. С. 355.

220 Тамсама. С. 360.

221 СИРИО. Т. 35. С. 2, 49.

222 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 381; Водарский Я.Е. Население России в конце XVII — начале XVIII ст. (Численность, сословно-классовый состав, размещение). М., 1977. С. 237, 247.

223 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. Опыт исследования по истории экономического быта Московской Руси. М., 1906. Карта. У перавыданні 1937 г. карта Ю.В. Гацье была моцна спрошчана: на ёй не былі паказаны межы валасцей і станаў.

224 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. С. 284—285; Ён жа. Образование основной государственной территории. С. 82.

225 Пра тое, што Хлепень «в старых докончаньех предков наших и в отца его королеве докончанье записан к нашему великому княжству», сцвярджалі маскоўскія баяры на сустрэчы з літоўскімі пасламі (СИРИО. Т. 35. № 18. С. 77). Верагодна, так яно і было. Але сітуацыя да сярэдзіны XV ст. моцна змянілася.

226 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 38. Прим. 1.

Але ў граматах уласна пра горад нічога не пазначана і пры гэтым згадваецца нават не хлепенскі князь, а ягоны сын, ужо без прозвішча «Хлепенскі». Горад Хлепень, без сумневу, належаў ВКЛ. Такім чынам, відавочна, што тэрыторыя Фамінска-Беразуйскага княства да сярэдзіны XV ст. была падзелена паміж Масквой і Вільняй. Першай дасталіся Фамін Гарадок і Беразуеск з некаторымі іншымі памежнымі тэрыторыямі, а другой — Хлепень з валасцямі.

Да спіса фамінскіх уладанняў С.Б. Весялоўскі дадаў населены пункт Крукава (размешчаны паміж Асугай і Вазузай), звязаўшы яго назву з імем князя Міхаіла Фёдаравіча Крука, сына князя Фёдара Фамінскага, які жыў у канцы XIV ст.[227]. Вёска з назвай Крукава існавала таксама ў ваколіцах пагоста Стары Беразуй, на правым беразе р. Вазузы[228]. Уважлівы прагляд населеных пунктаў у раёне рэк Вазузы і Асугі і супастаўленне іх назваў з прозвішчамі князёў Фамінскага роду можа даць дадатковыя вынікі ў справе вызначэння тэрыторыі Фамінска-Беразуйскага княства.

Як праз князя Аляксандра Барысавіча Поля ўдалося звязаць горад Хлепень з тэрыторыяй Фамінска-Беразуйскага княства, так і з дапамогай нашчадкаў гэтага князя можна выказаць (праўда, больш асцярожна) здагадку аб прыналежнасці да складу княства зямель па р. Шэшме.

У 1525—1526 гг. келар Іосіфа-Валакаламскага манастыра набыў у Івана Васільева, сына Полева, і ягоных дзяцей Івана і Міхаіла вёскі Пратасава і Галаўкова ў воласці Шэшме (Шэшамскай) Зубцоўскага ўезду[229]. Да 1539 г. вакол р. Шэшмы склаўся комплекс уладанняў Іосіфа-Валакаламскага манастыра, дзе абедзве згаданыя вёскі «тянули» да сяла Фаўстова Гара[230]. Месцазнаходжанне сяла дакладна вызначаецца дзякуючы матэрыялам Генеральнага межавання канца XVIII ст. — каля самага вусця р. Вазузы, насупраць горада Зубцова[231], але, на жаль, з 12 належачых да яго вёсак лакалізуецца толькі Галаўкова — каля правага берага ніжняга цячэння р. Шэшмы[232]. Відавочна і в. Ігумнава, размешчаная ніжэй па цячэнні Шэшмы ад Галаўкова, мела адносіны да манастырскіх уладанняў[233].

Прададзеныя Полевымі вёскі, без сумневу, былі вотчынамі, але якім чынам яны ім дасталіся? Магчыма, што князь Міхаіл Фёдаравіч Крук з сынам Іванам (з роду Фамінскіх) набылі ў наўгародскага пасадніка Юрыя Анцыфарава сяло Медну на цвярской мяжы[234], так і Полевы ў свой час набылі нейкія землі побач са сваім княствам — у Вялікім Княстве Цвярскім. Але непасрэднае суседства робіць верагодным і думку аб іх першапачатковай прыналежнасці да фамінскай тэрыторыі.

---

227 Веселовский С.Б. Исследования по истории класса служилых землевладельцев. С. 368.

228 Межевой атлас, составленный в 1848—49 гг. под наблюд. ген. Менде. Масштаб в 1 дюйме — 2 версты. S:W:C:1.

229 АФЗХ. XIV—XVI ст. Ч. 2. № 96. С. 91.

230 Тамсама. № 149. С. 144—145; № 189. С. 190—191.

231 Генерального плана Зубцовского уезда часть I.

232 Межевой атлас, составленный в 1848—49 гг. под наблюд. ген. Менде. Масштаб в 1 дюйме — 2 версты. S:W:C:2. У вусці р. Шэшмы стаяла яшчэ адна вёска Галаўкова, але на плане Генеральнага межавання Зубцоўскага ўезда яна пазначана як Мазжарына і толькі на карце А.І. Мендэ з'яўляецца з другой назвай — Мазжарына, Галаўкова (Генерального плана Зубцовского уезда часть I. Межевой атлас, составленный в 1848—49 гг. под наблюд. ген. Менде. Масштаб в 1 дюйме — 1 верста. S:W:F:2).

233 Тамсама.

234 АСЭИ. Т. I. М., 1952. № 2. С. 26—27; Веселовский С.Б. Исследования по истории класса служилых землевладельцев. С. 364.

Можа і ўсё цячэнне р. Шэшмы (Шэшамская воласць) калісьці ўваходзіла ў склад Фамінска-Беразуйскага княства? Ці не з'яўляецца гэты выпадак прыкладам таго, што пасля пераходу на маскоўскую службу і страты суверэнных княжацкіх правоў князі Фамінскага роду захавалі за сабой уладанні ў родным княстве?

Па тэрыторыі Шэшамскай воласці і непасрэдна праз с. Фаўстова Гара праходзіла Волацкая дарога. Тым самым прыналежнасць гэтай воласці да Фамінска-Беразуйскага княства стварала магчымасць кантролю руху па адным з найбольш важных гандлёвых шляхоў Усходняй Еўропы. Відавочна, са свайго геаграфічнага становішча невялікае па памерах княства магло б мець пэўныя выгады, калі б участак дарогі яму сапраўды належаў.

Такім чынам, на думку даследчыкаў, Фамінска-Беразуйскае княства займала басейн ніжняга цячэння р. Вазузы і прытока апошняй Асугі[235]. Пасля аналізу нешматлікіх звестак аб тэрыторыі княства складваецца ўражанне, што яго асноўная тэрыторыя знаходзілася на левым боку р. Вазузы, уздоўж двух прытокаў з аднолькавай назвай — Беразуйка. У другой Беразуйкі, што ўпадала ў Вазузу вышэй па цячэнні ад Хлепеня, быў левы прыток — ручай Палеўскі. Ці не звязаны ён з Аляксандрам Барысавічам Полевым? Можа, менавіта ад валоданняў уздоўж гэтага ручая ён і атрымаў сваё прозвішча? Ці наадварот?

Да тэрыторыі княства на паўднёвым усходзе адносілася і правабярэжжа ніжняга цячэння р. Гжаці (правы прыток Вазузы), дзе ляжала хлепенская воласць Джаць (Ждаць). Паўднёва-заходнія межы з левага боку р. Вазузы ўтваралі шчыльнае суседства хлепенскіх зямель з Негамірам і Рагачовым.

Цэнтр воласці Негамір справядліва звязваецца з сялом Нямгор, якое знаходзілася крыху на поўдзень ад Хлепеня, таксама на беразе р. Вазузы[236]. Паселішча было добра ўмацавана, мела вартавую вежу[237].

У цэнтры воласці Рагачоў (відавочна — сяло з такой самай назвай каля правага берага р. Асуга) не выяўлены абарончыя збудаванні. Ад яго, магчыма, засталося толькі селішча[238], хаця М.Дз. Квашнін-Самарын піша пра пагост Рагачоў як пра гарадок[239].

На захадзе міжрэчча Вазузы і Асугі ад Фаміна Гарадка да Хлепеня займалі пераважна Фамінская і Хлепенская воласці, але часткова правабярэжжа Асугі яны саступалі воласці Рагачоў (калі меркаваць па сітуацыі сярэдзіны XVII ст.). Няма аніякіх звестак аб тым, ці распаўсюджвалася тэрыторыя княства за левы бераг Асугі. Зубцоўскія станы (Лоцкі, Барысаглебскі, Гасціжскі і Атрубскі), што запаўнялі прастору да Ржэўскага ўезда, у мінулым маглі быць падзелены паміж Цвярскім і Літоўскім Вялікімі Княствамі. У сувязі з тым, што Ржэўскае і Фамінска-Беразуйскае княствы былі на пачатку XIV ст., верагодна, адным цэлым. Тады некаторыя будучыя зубцоўскія станы неабходна аднесці да фамінскай тэрыторыі (Ржэўскі ўезд сфарміраваўся раней за Зубцоўскі і быў больш устойлівы да змен).

---

235 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 3; Любавский М.К. Образование основной государственной территории. С. 82; Веселовский С.Б. Исследования по истории класса служилых землевладельцев. С. 368. Прим. 22.

236 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 27; Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 381.

237 Куза А.В. Древнерусские городища X—XIII ст. № 500. С. 115; Археологическая карта России. Смоленская область. Ч. 2. № 1313 (4). С. 138, 141.

238 Можна дапусціць у селішчы Нікольскім, размешчаным каля сяла, якое знікла да нашага часу (Археологическая карта России. Смоленская область. Ч. 2. № 1310 (12). С. 138, 140).

239 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 27.

Аднак, як адзначалася раней, у літоўска-цвярскіх дагаворных граматах 1427 і 1449 гг. вылучаны дзве памежныя зоны суседніх дзяржаў — смаленская і, уласна, літоўская[240]. Калі першая — гэта месца кантакту валасцей літоўскіх князёў Крошынскіх з цвярскімі землямі Новага Гарадка (Хорвача) і Холма, то дзе шукаць другую? Тут, безумоўна, варта прыгадаць перадачу ў склад ВКЛ ржэўскай воласці Асугі, што адбылася падчас праўлення вялікага князя літоўскага Кейстута (1381—1382 гг.). У XIV ст. і пазней воласць Асуга была, верагодна, вельмі вялікай і мела ў сваім складзе значную тэрыторыю па цячэнні р. Асугі і зямель вакол яе.

Саступка з усяго комплексу ржэўскіх валасцей ВКЛ адной толькі Асугі завяршыла доўгі маскоўска-літоўскі канфлікт з-за Ржэўскай зямлі.

Кантроль над вярхоўямі р. Волгі і воднага шляху па ёй, выхад праз сістэму волакаў да вытоку Заходняй Дзвіны, зручныя сухапутныя шляхі з Масквы ў Ноўгарад, Цвер і Смаленск надавалі Ржэўскай зямлі выключна важнае стратэгічнае значэнне[241]. Акрамя таго, на думку У.А. Кучкіна, валоданне Ржэвай давала ваенны і эканамічны кантроль над паўднёва-ўсходнімі межамі Ноўгарада, паўночнымі межамі Смаленска і паўднёвымі межамі Цверы[242].

Такім чынам, барацьба за Ржэву мела прынцыповы характар. Саступаць не жадаў ніхто. Але ў кароткі перыяд праўлення ў ВКЛ Кейстута (1381—1382 гг.) быў дасягнуты цікавы кампраміс. Масква дамаглася зацвярджэння свайго панавання ў Ржэўскай зямлі, але ад апошняй у склад ВКЛ была перададзена адна воласць — Асуга. Можа ўзнікнуць сумненне у выгаднасці для літоўскага боку такога пагадання. Аднак назіранне за месцазнаходжаннем воласці (уздоўж цячэння р. Асугі, левага прытока р. Вазузы) дазваляе зразумець сутнасць кампрамісу. Справа ў тым, што цяпер Ржэўская зямля надзейна адасаблялася ад маскоўскіх зямель, станавілася эксклавам, а ВКЛ набывала прамую сувязь з Цвер'ю. Літоўскія ўлады маглі кантраляваць грузапатокі і рух людзей па шляху з Масквы ў Ржэву і далей і бесперашкодна падтрымліваць кантакты са сваім цвярскім саюзнікам. Далучэнне Смаленска і Вязьмы, падначаленне часткі Фамінска-Беразуйскага княства яшчэ больш ўмацавала становішча ВКЛ у рэгіёне, які прымыкаў да вярхоўяў Волгі, хаця апошнія, як і раней, заставаліся падкантрольнымі Маскве.

Такім чынам, тэрыторыя па баках р. Асугі была мацуючым звяном паміж Ржэўскай зямлёй і Фамінска-Беразуйскім княствам. Цвярскія землі пераходзілі ў раёне Апок і Зубцова на правы бок Волгі, дзе перамяжоўваліся з уладаннямі ВКЛ.

Сапраўды, паўночная мяжа Фамінска-Беразуйскага княства, відаць, не дасягала р. Волгі. Яна магла захапіць толькі вусце р. Вазузы, ды і то калі браць пад увагу прыналежнасць княству хаця б часткі Шэшамскай воласці.

На паўночным усходзе з фамінска-беразуйскімі суседзілі цвярскія землі — воласці Шэшма (калі б яна была цвярской), Алешня і Сіняя. Шэшма, магчыма, засланіла б цалкам тэрыторыю княства, пакінуўшы толькі частку прасторы для воласці Сіняй. Але У.А. Кучкін уклініў воласць Алешню паміж рэкамі Шэшмай

240 ДДГ. № 23. С. 62—63; LM. Kn. 5. № 140. P. 257; № 141. P. 259.

241 Борзаковский В.С. История Тверского княжества. С. 61; Виноградов И.П. Исторический очерк города Вязьмы. С. 77; Воронин Н.Н. Средства и пути сообщения. С. 303; Алексеев Л.В. Западные земли домонгольской Руси. Кн. 1. С. 49—50; Мазуров А.Б., Никандров А.Ю. Русский удел эпохи создания единого государства: Серпуховское княжение в середине XIV — первой половине XV ст. М., 2008. С. 76.

242 Кучкин В.А. Договорные грамоты московских князей XIV ст.: внешнеполитические договоры. С. 164.

і Вазузай, бліжэй да апошняй[243], і, такім чынам, адсунуў Шэшамскую воласць ад меж Фамінска-Беразуйскага княства і значна паменшыў яго тэрыторыю. Зрэшты, праблема лакалізацыі цвярской воласці Алешні не вырашана і па сёння (аб праблеме лакалізацыі воласці Алешні гл. вышэй).

На паўднёва-ўсходніх межах Фамінска-Беразуйскага княства за хлепенскай воласцю Джаць выяўляецца значная пустая прастора, дзе, верагодна, варта шукаць нелакалізаваныя воласці горада Хлепеня або князёў Крошынскіх. Тут пачынаецца ўчастак літоўска-цвярской мяжы з цераспалосіцай уладанняў абедзвюх дзяржаў.

Такім чынам, на пачатку XV ст. умоўная лінія ўсходняй мяжы ВКЛ пераходзіла ад няпэўнага стану ржэўскага ўчастка да цераспалосіцы «літоўскага» фрагмента літоўска-цвярской мяжы, затым разразала фамінска-беразуйскія землі і ізноў трапляла на цераспалосны «смаленскі» фрагмент літоўска-цвярской мяжы. Па кантакце з цвярской тэрыторыяй мяжа змяняла напрамак на паўднёвы, дзе ізноў сустракалася з паласой неразмежаваных зямель мажайска-вяземскага ўчастка.

У сувязі з перакананнем у падзеле Фамінска-Беразуйскага княства паміж Масквой і Вільняй узнікае праблема размеркавання яго тэрыторыі. Верагодна, будзе правільна адвольна аднесці да ліку маскоўскіх уласна фамінскія і беразуйскія землі, а да ліку літоўскіх — горад Хлепень з яго валасцямі (праўда, з апошніх вядомы не ўсе). Такім чынам, мяжа ВКЛ праходзіла паблізу фамінска-беразуйскага эксклаву Вялікага Княства Маскоўскага, перасякаючы р. Асугу, абапіраючыся нейкі час на р. Вазузу, а потым накіроўвалася на захад, да цвярскіх зямель. Пустынны багністы характар мясцовасці паміж фамінска-беразуйскімі землямі і ўладаннямі князёў Крошынскіх дазваляе пазначыць лакальную зону «глухога» памежжа, але там маглі знаходзіцца і нелакалізаваныя хлепенскія або вяземскія воласці.

Своеасаблівы стан літоўска-цвярскога ўчастка ўсходняй мяжы ВКЛ захоўваўся з пачатку XV ст. даволі працяглы час. Але пасля далучэння да Масквы Цверы (1485 г.) літоўска-маскоўская мяжа ператварылася ў частку літоўска-маскоўскай. Падчас вайны гэты ўчастак стаў арэнай баявых дзеянняў. Маскоўскі бок нападаў з двух напрамкаў — з Цверы, якой валодаў сын Івана III князь Іван Іванавіч Малады, і з Мажайска, дзе сядзеў князь Андрэй Васільевіч Угліцкі, брат маскоўскага гасудара.

Перш чым атрымаць прамы доступ да горада Хлепеня і яго валасцей былі спустошаны і заняты вотчыны князёў Крошынскіх, што знаходзіліся на ўсход ад р. Гжаці, правага прытока р. Вазузы. Да пачатку вайны намаганнямі мясцовай маскоўскай адміністрацыі (непасрэдна служылымі людзьмі ўдзельных князёў) была пераадолена шырокая памежная паласа, якая і з боку Вяземскага княства сцерагла спакой літоўска-маскоўскай мяжы. За гэтымі землямі маскоўскія сілы практычна не сустрэлі супраціўлення. Крошынскія князі былі здольныя толькі на скаргі вялікаму князю літоўскаму[244].

З боку Цверы не было перашкодаў для ўздзеяння на хлепенскія землі. Тут змыкаліся і нават цераспалосна размяшчаліся цвярскія (цяпер маскоўскія) і літоўскія землі, былі пракладзены для падводу войскаў дарогі. Гэта быў адзін з нешматлікіх непасрэдных выхадаў да тэрыторыі ВКЛ. Падаецца, што ўлады ВКЛ асабліва не хваляваліся з прычыны магчымасці нападу з боку Масквы, бо да 1485 г. іх суседам была саюзная Цвер. Больш на поўдзень пачыналася памежная паласа, якая стварала натуральную заслону ад магчымых нападаў з боку Масквы. Адзін гарадок Хлепень не мог быць надзейным ахоўнікам літоўскай мяжы. Іншых моцных крэпасцей у раёне р. Вазузы і яе прытокаў, здаецца, не было.

---

243 Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси. С. 149.

244 СИРИО. Т. 35. № 18. С. 74.

Такім чынам, маскоўска-літоўскае супрацьстаянне ў рэгіёне Верхняй Акі, для якога было характэрна імкненне абодвух бакоў стварыць больш трывалыя сувязі са сваім саюзнікам (Літва — Цвер) або аддаленым уладаннем (Масква — Ржэва), мела вынікам стварэнне цікавага феномену, у цэнтры якога былі землі Фамінска-Беразуйскага княства. Вакол апошняга склалася своеасаблівая сітуацыя, якая захоўвалася на працягу другой паловы XIV — канца XV ст. — устойлівае становішча маскоўска-літоўска-цвярской памежнай зоны. Тут было месца і ўзаемным саступкам (Ржэва — Маскве, а яе воласць Асуга — ВКЛ) і, верагодна, меў месца прамы падзел тэрыторыі дробнага і слабага дзяржаўнага ўтварэння — Фамінска-Беразуйскага княства. Мяжа на даволі вузкай прасторы мела ўчасткі цераспалосных уладанняў (смаленска-цвярскі і літоўска-цвярскі), зоны прамога кантакту тэрыторый суседніх дзяржаў (верагодна, па лініі падзелу Фамінска-Беразуйскага княства) і «глухія» рубяжы з палосамі незасвоеных зямель (паміж вяземскімі і мажайскімі валасцямі). Розныя формы мяжы на доўгі час забяспечылі палітычную раўнавагу ў стратэгічна важным рэгіёне, праз які праходзіла Волацкая дарога, «Серегерский путь» (з Масквы ў Ноўтарад)[245] і ў якім адбываўся кантроль за воднымі шляхамі па Волзе, Вазузе і г.д.

Аднак са знікненнем ў рэгіёне аднаго з палітычных суб'ектаў (Вялікага Княства Цвярскога) мяжа адразу страціла сваю стабільнасць. За кароткі час уся памежная зона паглынулася маскоўскай уладай, злілася з цвярскімі і мажайскімі землямі і інтэгравалася ў новыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі ўнутры Вялікага Княства Маскоўскага. Рэканструкцыя першапачатковага складу як старадаўняга Фамінска-Беразуйскага княства, так і суседніх з ім тэрытарыяльных утварэнняў даецца з цяжкасцю і, наогул, можа лічыцца справай, да канца невырашальнай.

## 5. Вяземскае княства на перыферыі Вялікага Княства Літоўскага. Уладанні князёў Крошынскіх

Існаванне на ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага Вяземскага княства можа падацца выпадковай з'явай, звязанай з тым, што яно даволі позна ўвайшло ў склад ВКЛ (1403 г.)[246]. Аднак побач знаходзілася Бельскае княства — адзін з першых набыткаў літоўскіх валадароў, на пачатку XV ст. ізноў створанае ўжо для прадстаўніка роду Гедымінавічаў. На поўдзень ад Вяземскага княства знаходзіўся масіў так званых Вярхоўскіх княстваў, чые князі знаходзіліся ў рознай ступені залежнасці ад вялікага князя літоўскага. Верагодна, у іх поўнай лаяльнасці ў літоўскіх князёў не было ўпэўненасці, таму яўнымі фарпостамі ў землях вярхоўскіх князёў выглядаюць гарады-крэпасці, непасрэдна падлеглыя вялікаму князю (Мцэнск і Любуцк)[247]. Нарэшце, да разгляданай групы тэрытарыяльных утварэнняў неабходна аднесці княствы Старадубскае і Ноўгарад-Северскае, якія былі спецыяльна створаны для князёў — уцекачоў ад маскоўскага валадара (Іван Андрэевіч Мажайскі і Іван Дзмітрыевіч Шамячыч).

Відавочна, вылучэнне адных, захаванне іншых і штучнае ўтварэнне трэціх княстваў мела пэўную мэту, а менавіта: стварэнне моцнага бар'ера на шляху экспансіі Вялікага Княства Маскоўскага, у афіцыйнай ідэалогіі якога, адзначанай, між ін-

[245] Голубцов И.А. Пути сообщения в бывших землях Новгорода Великого. С. 280, 299; Тихомиров М.Н. Средневековая Москва в XIV—XV веках. С. 138.

[246] ПСРЛ. Т. 11. М., 2000. С. 188.

[247] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 51—52.

шым, і ў тытуле валадара («Государь всея Руси»), было адлюстравана імкненне да аб'яднання ўсіх рускіх зямель, што ўваходзілі калісьці ў склад Старажытнай Русі.

Вяземскае княства амаль стагоддзе вызначала ўсходнюю мяжу Вялікага Княства Літоўскага. Прычым мяжа гэтая была вельмі стабільнай, бо да моманту захопу маскоўскімі войскамі (1493 г.) на вяземскім яе ўчастку невядома ніводнай змены.

Захаванне ў непарушнасці Вяземскага княства вялікім князем літоўскім было шмат у чым звязана з яго памежным становішчам. Адразу пасля далучэння да ВКЛ Вяземскага княства на яго тэрыторыі пачынаюцца вайсковыя дзеянні. Ужо ў 1406 г., нягледзячы на існуючы літоўска-маскоўскі саюз, «князь великий Василей Дмитриевич московский», а разам з ім «и князь Іван Михайлович тверский сложиша крестное целование к Витовту», сабралі вялікае войска і накіравалі ваяваць літоўскія землі (гарады Вязьму, Сярпейск і Казельск)[248]. У 1408 г. паход паўтарыўся, і пад Вязьмай было заключана перамір'е[249]. Масква фактычна не прызнала ўладу ВКЛ над Вязьмай. Толькі ўласная ўнутраная бязладзіца не дазволіла ёй працягнуць барацьбу. Але адразу ж пасля ліквідацыі ўнутраных праблем у 1445 г. адбыўся набег двух татарскіх царэвічаў (відаць, Мамуцяка і Якуба, якія перайшлі на службу да Васілія Цёмнага) на Вязьму, Бранск і іншыя гарады ВКЛ. У адказ Казімір Ягайлавіч накіраваў свае войска на Мажайск, а пад Сухадрэвам адбылася бітва[250]. На пэўны час барацьба за Вязьму прыпынілася. У 1449 г. быў заключаны так званы «вечны» мір, дзе былі вызначаны спрэчныя ўчасткі літоўска-маскоўскай мяжы. Вяземскія межы ў іх лік не ўваходзілі.

Умацаванне ўсходняй мяжы ажыццяўлялася Казімірам Ягайлавічам шляхам захавання старых парадкаў на нядаўна далучаных да ВКЛ землях і саступак найбольш значным васальным князям. Можна заўважыць пэўную тэндэнцыю: чым бліжэй тэрыторыі былі да мяжы, тым большай самастойнасцю і прывілеямі яны карысталіся.

Стаўленне цэнтральнай улады да васальных і служэбных князёў прайшло пэўную эвалюцыю. Паводле традыцыі, якая абаранялася перад судом паноў-рады ў 1495 г. Аляксандрам Хадкевічам, ён як пляменнік уцёкшага князя Фёдара Бельскага меў права на частку вотчыны здрадніка, тады як яна «з ласкі» гаспадара была аддадзена Сямёну Іванавічу Бельскаму[251]. Аднак Рада вырашыла, па-першае, пакінуць маёнткі ў брата-ўцекача, а, па-другое, на будучыню, «который коли зрадца утечет от господаря челом не ударивши, ни на кого его именья по близкости не спадуть, только на господаря»[252]. Такім чынам, у 1495 г. было зацверджана радыкальнае рашэнне — перавод вотчын князёў-уцекачоў у вялікняжацкую казну. У 1509 г. быў выдазены спецыяльны «Устав о имениях государских изменников»[253]. Пры здрадзе бацькі ўся яго маёмасць адыходзіла да вялікага князя. У яго волі было аддаваць маёмасць ці не дзецям здрадніка. У выпадку, калі адзін з братоў «зраду вчинит», а іх маёмасць яшчэ не падзелена, усё пераходзіла да вялікага князя. Але калі агульная маёмасць ужо падзелена паміж братамі па «делницам», а адзін з братоў здрадзіў,

---

248 ПСРЛ. Т. 11. С. 193; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 461.

249 ПСРЛ. Т. 1. М., 2001. Стб. 465; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 465.

250 ПСРЛ. Т. III. С. 424—425..

251 АЗР. Т. I. 1340—1506. СПб., 1846. № 126. С. 149.

252 Тамсама.

253 АЗР. Т.II. 1506—1544. СПб., 1848. № 50. С. 62.

то толькі ягоная «делница» адыходзіла ў казну, іншыя ўладанні не краналіся[254]. Такім чынам, гэта была запозненая спроба ўзмацнення вялікакняжацкай улады над паўсамастойнымі літоўскімі князямі. Ці магчыма было рэалізаваць прынятыя рашэнні, калі за спінай князёў-здраднікаў стаяла сіла, на той момант большая, чым у вялікага князя літоўскага?

У памежных спрэчках Іван III зыходзіў з таго, што князі, якія перайшлі на яго бок, «и наперед сего нашему отцу и нашим прежним великим князем ... служили с своими вотчинами»[255]. Нават вяземскія князі былі аднесены да ліку старых маскоўскіх слуг: «а из старины князи Вяземские и Мосальские служили предком нашим великим князем и с своими вотчинами, а и в старых докончаньех то писано»[256].

Адразу пасля далучэння Вяземскага і Смаленскага княстваў да ВКЛ для ўмацавання ўлады вялікага князя літоўскага над Вярхоўскімі княствамі была створана асаблівая сістэма кіравання для цэлага шэрагу перыферыйных княстваў і ўладанняў, на чале якіх стаяў смаленскі намеснік. Паводле М.К. Любаўскага, утвораны Смаленскі павет з маскоўскага боку быў акружаны «поясам княстваў і ўладанняў, якія аддаваліся ў судова-адміністрацыйным стаўленні намеснікам, прычым усе гэтыя княствы і ўладанні ў Смаленску мелі свой ваенна-палітычны цэнтр»[257]. Аднак далёка не ўсе перыферыйныя княствы і ўладанні, што імкнуліся ў адміністрацыйна-вайсковых адносінах да Смаленска, падначальваліся намеснікам. Вялікакняжацкія намеснікі былі толькі ў Любуцку і Мцэнску (Іван Юр'евіч Трубяцкі), Сярпейску, Бранску (Дзмітрый Пуцяціч Друцкі), Таропцу і некаторых іншых гарадах. Многія гарады заставаліся цэнтрамі княжацкіх уладанняў, што былі ў рознай ступені залежнасці ад вялікакняжацкай улады. Выявіць ступень гэтай залежнасці дапамагаюць дагаворныя граматы, якія былі заключаны паміж вялікім князем літоўскім, з аднаго боку, і мясцовымі князямі, з другога.

У падначаленне смаленскаму намесніку трапілі і вяземскія князі, якіх пасля далучэння іх княства да ВКЛ пакінулі на сваіх месцах са сваімі вотчынамі[258]. Вяземскія князі са сваімі баярамі і слугамі ўваходзілі ў склад смаленскага апалчэння, падпарадкоўваліся ў ваенных адносінах смаленскаму намесніку і плацілі штогод спецыяльны падатак — пасошчыну ў смаленскую казну[259].

Верагодна, вялікі князь літоўскі мог умешвацца ў зямельныя адносіны ў Вяземскім княстве. Так, вядома, што хлепенскай воласцю Рагачоў валодаў сын Івана (Яна) Хадкевіча[260], а ў непасрэднай блізкасці ад маскоўскай мяжы атабарыліся князі Глінскія (князь Фёдар Глінскі з братамі)[261]. Такім чынам, існаванне ў межах Вяземскага княства ўладанняў прышлых князёў, судовы разбор пазямельных спрэчак вяземскіх князёў (справа князя Казлоўскага) у вялікакняжацкай радзе сведчыць аб тым, што цэнтральныя ўлады ўмешваліся і кантралявалі зямельныя адносіны вяземскіх князёў.

---

254 АЗР. Т.II. 1506—1544. СПб., 1848. № 50. С. 62..

255 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. 1. № 1. С. 5.

256 СИРИО. Т. 35. № 22. С. 107.

257 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 286—287.

258 Тамсама. С. 33.

259 Тамсама.

260 СИРИО. Т. 35. № 17. С. 72.

261 Тамсама. № 1. С. 3.

Як адзначае М.М. Кром, адсутнасць дамоў вялікняжацкай літоўскай улады з вяземскімі князямі звязана з двума абставінамі: па-першае, далучэнне Вязьмы да ВКЛ было гвалтоўным, а, па-другое, самі вяземскія князі не былі цалкам самастойнымі, а былі ў васальнай залежнасці ад смаленскіх князёў, а Смаленскае княства было ліквідавана[262]. Аднак адносіны з пакінутымі на сваіх месцах і са сваімі ўладаннямі вяземскімі князямі, відаць, былі ўрэгуляваны. Перш за ўсё, вяземскія князі павінны былі плаціць пасошчыну, так, як гэта рабілі і вярхоўскія князі[263]. «Кн(я)зю Костянтину Вяземъскому самому посощину на своих людех имати, а давати ему зъ года на годъ по тридцати рублев къ Смоленьску у нашу казну»[264]. Пасошчына з вяземскіх зямель, як мы бачым, канцэнтравалася ў Смаленску — адміністрацыйным цэнтры буйнога рэгіёна.

Цяжка меркаваць аб ролі ў Вяземскім княстве старэйшага князя, які збіраў даніну для літоўскага валадара з усіх вяземскіх князёў. Відаць, некаторыя князі, што мелі вотчыны ў Вяземскім княстве, самі дакладалі перад вярхоўнай уладай (напрыклад, Глінскія). Наогул жа Вяземскае княства з'яўлялася сукупнасцю ўладанняў многіх княжацкіх родаў (Бываліцкіх, Жылінскіх, Казлоўскіх, Крошынскіх ды інш.), якія часта губляліся сярод дробных уласнікаў і невядомы нават па імёнах і імёнах па бацьку.

Уладанні некаторых вяземскіх князёў былі даволі вялікія па плошчы. На момант маскоўска-літоўскіх канфліктаў (з-за якіх і адклалася ў крыніцах большасць звестак пра землеўладанне вяземскіх князёў) старэйшы вяземскі князь Міхаіл Дзмітрыевіч валодаў сваёй доляй у Вязьме, горадам Хлепенем з валасцямі, валасцямі Дубровай (з Дуброўскім дваром), Арэхаўнай, Магіленам, Нягодзіным, Міцэнкамі, Ждаццю[265]. Акрамя таго, на карысць Міхаіла Дзмітрыевіча ішло гандлёвае мыта ў Вязьме і ў Валочку Вяземскім[266].

Шматлікія ўладанні ў Вяземскім княстве мелі і князі Крошынскія. Воласці Цешынавічы, Сукромна, Альховец, Надслаўль, Ад'ездзец на самым пачатку вайны ВКЛ з ВКМ у 1487 г. былі заняты маскоўскім бокам.

Характэрна, што найбольш забяспечаныя ў зямельных адносінах вяземскія князі не здрадзілі вялікаму князю літоўскаму і не перайшлі на маскоўскую службу. Метадычны ціск на вяземскіх князёў не меў жаданага выніку. Самыя буйныя землеўласнікі Вяземскага княства засталіся вернымі вялікаму князю літоўскаму. У канцы 1492 г. на бок Масквы перайшоў толькі Андрэй Юр'евіч Вяземскі, вотчынай якога было адзінае сяло з вёскамі на Дняпры, праўда, у самой Вязьме князь Андрэй валодаў дварамі, збіраў мыта, меў казну і людзей[267]. Усе ўладанні князя Андрэя ўзяў сабе князь Міхаіл Дзмітрыевіч Вяземскі[268], але неўзабаве (узімку 1492/93 г.) Вязьма была захоплена вялікім маскоўскім войскам (пяць палкоў на чале з Даніілам Васільевічам Шчанём). Паводле летапісу, вяземскія князі і паны былі ўзяты ў палон, прыведзены ў Маскву, «и князь великій ихъ пожаловалъ ихъ же вотчиною Вязмою и повеле имъ себе служити»[269].

---

262 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 65.

263 Тамсама. С. 53—54.

264 Lietuvos Metrica — Lithuanian Metrica — Литовская Метрика. Kn. 3 (1440—1498). Vilnius, 1998. P. 47.

265 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 49; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 65.

266 СИРИО. Т. 35. № 2. С. 9.

267 LM. Kn.5: (1427—1506). Vilnius, 1994. P. 67; СИРИО. Т. 35. № 19. С. 81.

268 АЗР. Т. I. № 109. С. 127.

269 ПСРЛ. Т. 31. С. 235. У беларуска-літоўскіх летапісах адсутнічаюць звесткі пра вяртанне на свае вотчыны вяземскіх князёў, затое гаворыцца пра гібель у вязніцы вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча і пра трыманне «в заставе» і «нятстве» смаленскіх князёў і баяр (ПСРЛ. Т. 35. С. 122).

Аднак рэальнасць не адпавядала сведчанню тэндэнцыйнай крыніцы. Перш за ўсё, землеўладанне мясцовых князёў не было пакінута некранутым. Паводле У.Б. Кобрына, «указанні на ўладанні вяземскіх князёў у іх былой вотчыне, ласкава ім падараванай у канцы XV ст., да сярэдзіны XVI ст. адсутнічаюць не амаль, а проста цалкам»[270]. Вяземскія князі былі распылены па тэрыторыі ўсёй Расійскай дзяржавы і лічыліся па Пераяслаўль-Залескім, Раманаўскім (Пашахонскім), Белазёрскім, Кастрамскім, Кашынскім і Серпухаўскім уездах[271]. Што тычыцца вяземскіх паноў, то толькі некаторыя з іх захавалі свае ўладанні ў былым Вяземскім княстве (Маршалковы, Волжанскія, Каковінскія, Здзяшкоўскія, Ласьмінскія). Але і яны набылі статус памешчыкаў[272]. Прозвішчы карэннага паходжання вылічыліся У.Б. Кобрыным па іх польскім корані (Маршалковы) або па геаграфічных арыенцірах (Волжанскія, Каковінскія, Здзяшкоўскія, Ласьмінскія — Волжанская воласць, Каковінскі і Какоў станы, рака Каковінка, сяло Іздзешкава, рака Ласьміна, або Ласьмінка і Ласьмінскі стан). Выснова У.Б. Кобрына адназначная: «Вяземскі ўезд у XVI ст. — край выключна паместнага землеўладання»[273]. Тэндэнцыя ператварэння Вяземскага княства ў край паместнага землеўладання, відавочна, адлюстроўвае паслядоўную палітыку маскоўскіх улад. Даволі доўга захоўвалася небяспека страты памежнага рэгіёна, у якім, тым больш, заставаліся на сваіх месцах мясцовыя землеўласнікі. Насаджэнне паместнага землеўладання з адначасовай ліквідацыяй мясцовага вотчыннага відавочна сведчыла аб імкненні трывала замацавацца ў нядаўна далучаным рэгіёне. Палітычна ненадзейныя вяземскія землеўласнікі, многія з якіх былі гвалтам прыведзены да прысягі, канечне ж, не маглі быць апорай маскоўскай вялікакняжацкай улады.

Такім чынам, Вязьма была захоплена, але трэба было ўрэгуляваць яе далучэнне дагаворным шляхам. Літоўскія паслы першапачаткова згаджаліся толькі на падзел вяземскіх зямель па тым, хто каму слугуе[274]. Але прадстаўнік Івана III заявіў: «О Вязме так нелзе быти, за все будут брани да жалобы, ино Вязме всей пригож быти за нашим государем»[275]. У выніку, пад моцным ціскам, пераважыў пункт гледжання маскоўскага боку.

Фармулёўка даканчання Івана III з Аляксандрам Казіміравічам «ни кн(я)зеи мне вяземских к себе не приимати» азначае, відавочна, не проста адмову ад вяртання да сябе на службу вяземскіх князёў, а перастрахоўку на выпадак зямельных прэтэнзій вяземскіх землеўласнікаў. Гэта значыць, што вяземскія князі, канечне, маглі вярнуцца на бок вялікага князя літоўскага, але ўладанні іх у гэтым выпадку заставаліся за Масквой. Характэрна ў гэтай сувязі, што з маскоўскага палону многія вяземскія князі вярнуліся ў ВКЛ. Старэйшы вяземскі князь Міхаіл Дзмітрыевіч памёр у маскоўскім палоне, але яго маці, княгіню Мар'ю, адпусцілі. Таксама вярнуліся «к себе» дзеці князя Міхаіла Васілій і Андрэй, князь Васілій Бываліцкі, два сыны князя Міхаіла Юр'евіча, князь Казлоўскі[276].

Перакананыя ў тым, што далучэнне да Масквы Вяземскага княства адбылося з захаваннем яго тэрытарыяльнай цэласнасці, кампактнасці, мы можам прыцяг-

---

270 Кобрин В.Б. Власть и собственность в средневековой России. С. 123.

271 Тамсама.

272 Тамсама. С. 123—124.

273 Тамсама. С. 124.

274 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 118.

275 Тамсама. С. 119.

276 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 133; № 25. С. 141.

нуць для вывучэння літоўска-маскоўскай мяжы значна большае кола крыніц, чым адны толькі дагаворныя граматы. Мэтай становіцца вызначэнне тэрыторыі і меж самога адарванага тэрытарыяльнага фарміравання, з ягоным адміністрацыйным уладкаваннем, складам зямельных уладанняў і населенымі пунктамі. Такім чынам, магчымасці рэканструкцыі літоўска-маскоўскай мяжы значна пашыраюцца.

На гэтым шляху падаецца пэрспектыўным назіранне за зменай тэрытарыяльнага складу буйных адміністрацыйных адзінак. У дадзеным выпадку звернемся да мажайска-вяземскага памежжа і спынімся на разглядзе гісторыі дзвюх памежных валасцей, чыё месцазнаходжанне і ўладальная прыналежнасць з'яўляюцца нявырашанай праблемай. Верагодна, высвятленне гістарычнага лёсу валасцей Чагошчы і Балонеска дазволіць у выніку прыадкрыць завесу над цалкам схаваным крыніцамі працэсам фарміравання маскоўска-літоўскай мяжы, па-новаму зірнуць на гісторыю ўзаемаадносін дзяржаў — суперніц у справе аб'яднання рускіх зямель.

Дзве абраныя для разгляду воласці прасочваюцца па пісьмовых крыніцах ужо з другой паловы XIV ст. Чагошча, верагодна, і з'явілася недзе ў сярэдзіне XIV ст., бо згадваецца з прывязкай да часу праўлення вялікага князя маскоўскага Васілія Дзмітрыевіча у якасці слабодкі. Відавочна, толькі-толькі аселыя на новым месцы, на раней пустым памежжы, сяляне атрымалі пэўныя льготы, што выявілася ў найменні Чагошчы слабодкай. Назва воласці адлюстравалася ў дзвюх не дайшоўшых да нас граматах, што згадваюцца ў вопісе Пасольскага прыказу 1626 г.[277]. Датуюцца гэтыя акты часам праўлення вялікага князя маскоўскага Васілія Дзмітрыевіча (1389—1425 гг.) (1-я), і да 17 верасня 1373 г. (2-я)[278].

Валасць Балонеск становіцца вядомай даследчыкам дзякуючы духоўнай грамаце вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча (першая палова траўня 1389 г.)[279].

---

277 ДДГ. С. 462; Гл. таксама: Опись архива Посольского приказа 1626 года. Л. 10 об. С. 37.

278 Пра датаванне гл.: Кузьмин А.В. Из истории можайских землевладельцев в XIV — начале XV ст. (Вельяминовы, Валуевы, Новосильцовы) // Исследования по истории средневековой Руси. К 80-летию Ю. Г. Алексеева: Сборник статей. СПб. С. 230—253.

279 Пра датаванне гл.: Кучкин В.А. Последнее завещание Дмитрия Донского // Средневековая Русь. Ч. 3. М., 2001. С. 123. Паведамленне ў летапісе аб Балонскім (Баложскім) лесе з вялікай цяжкасцю можна лічыць першай згадкай пра цэнтр воласці горад Балонеск (Баложск). Хаця верагодна, што і назва лесу, і назва самой воласці і яе цэнтра паходзяць ад рэчкі Абалонкі, левага прытока Гжаці. Таксама верагодна паходжанне назвы лесу ад р. Болвы (Алексеев Л.В. Смоленская земля в IX—XIII ст. Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. С. 38). М.М. Карамзін, спасылаючыся на нейкую «краткую летопись», а П.В. Галубоўскі — на летапісец Ігнацiя Смальняніна, пішуць пра асобны ад Альгерда паход смаленскага князя Святаслава да Паротвы, вяртанне часткі смаленскага войска з ваяводам Вазгрыўцам са шматлікімі палоннымі да Смаленска і пра паразу смалян «на лесе на Болон(ь)ском» ад мажайскага войска (Карамзин Н.М. История государства Российского в 12-ти томах. Т. V. Прим. 19. С. 231; Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV ст. С. 68). Варта адзначыць, што асноўны маршрут паходу Альгерда да Масквы ўзімку 1370 г. праходзіў у зусім іншых месцах — верагодна, праз тэрыторыю Цвярскога княства, да Волака Ламскага, а потым да Масквы. Аднак паведамленне М.М. Карамзіна і П.В. Галубоўскага можа быць і вартым даверу: смаленскі князь Святаслаў Іванавіч сапраўды далучыўся да паходу Альгерда (ПСРЛ. Т. 11. М., 2000. С. 14), а свой маршрут да сустрэчы з вялікім князем літоўскім ён мог выбраць самастойна. Князь Святаслаў прайшоў са сваіх зямель да вярхоўяў р. Протвы, дзе знаходзілася воласць Паротва, вядомая з тэстамента Дзмітрыя Данскога, потым адпусціў частку свайго войска, а сам пайшоў да Вярэі, якую захапіў (паводле паведамлення М.М. Карамзіна), а потым ужо пайшоў на злучэнне з Альгердам да Волака Ламскага або, больш верагодна, проста да Масквы (у летапісах распавядаецца пра паход ад Волака аднаго Альгерда).

У тэстаменце Дзмітрыя Данскога былі ўпершыню пералічаны мажайскія воласці, хаця падлеглым Маскве «со всими волостми» Мажайск быў названы ўжо ў другой духоўнай грамаце Івана Каліты (каля 1339 г.)[280]. Такім чынам, Дзмітрый Данскі перадаваў свайму сыну Андрэю «Можаескъ со всеми волостми, и с тамгою, и с мыты, и з бортью, и съ селы, и со всеми пошлинами, и с отъездными волостми. А волости Можаиские: Исмея, Числов, Боянь, Берестовъ, Поротва, Колоча, Тушков, Вышнее, Глиньское, Пневичи съ Загорьем, Болонескъ»[281]. Калі ўлічваць той факт, што паводле археалагічных звестак цэнтр воласці Балонеск існаваў яшчэ ў дамангольскі час (гарадзішча і селішча, што значыць горад з пасадам)[282], можна меркаваць, што Масква набыла ў 1303 г. Мажайск разам з Балонескам. Акрамя таго, цэнтр воласці Балонеск у якасці горада фігуруе ў вядомым «Спісе гарадоў рускіх дальніх і бліжніх», складзеным у канцы XIV ст.[283].

Воласці Чагошча і Балонеск розніліся не толькі часам з'яўлення (адпаведна, каля сярэдзіны XV ст. і старажытнарускі час), але і гаспадарскай прыналежнасцю. Чагошча пры першай згадцы была вотчынай Сямёна Васільевіча і Юрыя Барысавіча, якіх А.В. Кузьмін атаясаміў з маскоўскімі баярамі Сямёнам Васільевічам Акацьевым, продкам Валуевых, і Юрыем Барысавічам, продкам Навасільцавых[284]. Два баярыны прадавалі сваю вотчыну Васілію Васільевічу Вельямінаву[285], што магло адбыцца да 17 верасня 1373 г. (дата пакарання маскоўскага тысяцкага). Па смерці В.В. Вельямінава, як паказаў А.В. Кузьмін, Чагошча перайшла да другога сына тысяцкага — Мікулы[286]. Гэта становіцца відавочным дзякуючы таму, што вялікі князь маскоўскі Васілій Дзмітрыевіч пацвердзіў валоданне Чагошчай жонцы Мікулы Васільевіча Марыі[287]. Пасля гэтага паведамлення воласць Чагошча не згадваецца ў пісьмовых крыніцах да пачатку XVI ст.

Балонеск, у адрозненне ад Чагошчы, ад самага пачатку складаў частку ўладанняў маскоўскага княжацкага дому. У 1389 г. воласць была перададзена трэцяму сыну Дзмітрыя Данскога Андрэю[288]. Андрэй Дзмітрыевіч Мажайскі мог валодаць Балонескам да 1432 г. (году сваёй смерці), а пасля перадаць гэтую воласць сыну Івану (разам з Мажайскам). Аднак, як і Чагошча, воласць Балонеск ізноў згадваецца праз значны адрэзак часу. Разам з тым існуе ўскоснае сведчанне таго, што ў канцы XIV ст.

---

280 ДДГ. № 1. С. 9.

281 ДДГ. № 12. С. 34.

282 Археологическая карта России. Смоленская область. Ч. 2. М., 1997. С. 25—26.

283 На думку М.М. Ціхамірава — паміж 1387 і 1392 г., Я.П. Навумава — паміж 1394 і 1396 г., В.Л. Яніна — паміж 1375 і 1381 г. (Тихомиров М.Н. Русское летописание. М., 1979. С. 89; Наумов Е.П. К истории летописного «Списка русских городов дальних и ближних» // Летописи и хроники. 1973 г. М., 1974. С. 155; Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 67).

284 Кузьмин А.В. Из истории можайских землевладельцев в XIV — начале XV ст. С. 230—253.

285 «Грамота Василья тысецкого, что купил у Семена Васильевича да у Юрья Борисовича Чагощу вотчину всю» (ДДГ. С. 462; Опись архива Посольского приказа 1626 года. Л. 10 об. С. 37).

286 Кузьмин А.В. Из истории можайских землевладельцев в XIV — начале XV ст. С. 237.

287 «Грамота великого князя Василья ж Дмитреевича, дана дядине ево Марье на слободку на Чагощу» (ДДГ. С. 462; Опись архива Посольского приказа 1626 года. Л. 10 об. С. 37). Марыя Дзмітрыеўна была старэйшай дачкой суздальска-ніжагародскага князя Дзмітрыя Канстанцінавіча, другая дачка якога — Еўдакія — была выдадзена замуж за вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча.

288 ДДГ. № 12. С. 34.

(да 1389 г. або, больш верагодна, пасля) воласць Балонеск перайшла да смаленскіх уладанняў.

Назва горада, блізкая да Балонеска, двойчы згадваецца ў «Спісе гарадоў рускіх дальніх і бліжніх». Сярод залескіх гарадоў пазначаны «Болонеск» (у Ярмолінскім летапісе), або «Боленеск» (у Васкрасенскім летапісе), або «Оболенеск» (у Сафійскім летапісе)[289]. Гэты апошні тапонім М.М. Ціхаміраў суаднёс з «Балонескам» і лічыў яго цэнтрам аднайменнай воласці. Аднак у «Спісе гарадоў рускіх дальніх і бліжніх» сярод смаленскіх заўважаецца Абаленск. Яго М.М. Ціхаміраў памылкова (як справядліва зазначыў У.А. Кучкін) атаясаміў з Абаленскам на р. Протве[290]. Хутчэй за ўсё менавіта залескі горад «Болонеск» з'яўляецца Абаленскам — цэнтрам удзельнага княства, а смаленскі горад «Абаленеск» — Балонескам — цэнтрам воласці[291]. Дарэчы, у Мажайскіх актах былая воласць называецца станам «Балонскім» або «Абалонскім»[292].

У 1389 г. Балонеск быў названы сярод мажайскіх валасцей, а ў канцы XIV ст. (час складання «Спіса гарадоў рускіх дальніх і бліжніх») яго раптам залічылі да смаленскіх гарадоў. У той жа час Мажайск названы залескім горадам[293]. Такім чынам, магчыма, што Балонеск на некаторы час быў адарваны ад Масквы[294]. Вяртанне Балонеска ў склад маскоўскіх уладанняў, верагодна, варта аднесці да канца XV ст., калі маскоўскія ўдзельныя князі і служылыя людзі павялі актыўнае наступленне на суседняе з мажайскімі і цвярскімі землямі Вяземскае княства.

Вызначэнне месцазнаходжання воласці Балонеск не ўяўляе складанасці. Асноўны масіў яе тэрыторыі ўтваралі, відавочна, землі ў раёне р. Абалонкі (Абалоні), якая ўпадала ў Вялікую Гжаць у вярхоўях апошняй[295]. Акрамя таго, паселішчы Балонскага (Абалонскага) стана ў сярэдзіне XVII ст. знаходзіліся на р. Гжаці і займалі вусце р. Малой Воркі пры ўпадзенні яе ў Вору (прыток Угры)[296]. Магчыма, да Балонскага стана адносіліся таксама апусцелае сяло Бараноўскае на р. Калочы і сяло Вешкі (аднайменны населены пункт на р. Вялікай Гжаці ў 16 км на поўдзень ад вусця р. Абаленкі або Ветцы на р. Алешні — цэнтр даўняй смаленскай воласці Вецкай)[297]. За р. Гжаць тэрыторыя воласці Балонеск, відавочна, не заходзіла. Там знаходзіліся ўжо паселішчы Магіленскага стана (які, магчыма, значна павялічыў сваю тэрыто-

---

289 Тихомиров М.Н. «Список русских городов дальних и ближних». С. 251.

290 Кучкин В.А. Города Северо-Восточной Руси в XIII—XV ст. (Число и политико-географическое размещение) // История СССР. 1990. № 6. С. 75.

291 Згадваныя ў «Списке...» гарады знаходзяцца, як правіла, блізка адзін да аднога, што з'яўляецца дадатковым доказам правільнасці прынятай лакалізацыі, бо Балонеск упісаны ў наступны шэраг: «Серпохов. Новый городок. Лужа. Боровск. Болонеск. Одоев. Любутеск». (Тихомиров М.Н. «Список русских городов дальних и ближних». С. 225).

292 Можайские акты 1506—1775 гг., сообщил архимандрит Дионисий. СПб., 1892. С. 198.

293 Тихомиров М.Н. «Список русских городов дальних и ближних». С. 225.

294 Кучкин В.А. Города Северо-Восточной Руси в XIII—XV ст. С. 75.

295 Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV ст. С. 68; Можайские акты. С. 198. Відаць, воласць Балонеск займала не ўсё цячэнне р. Абалоні, бо на гэтай рацэ згадваюцца сяленні Магіленскага стана (сяло Нікольскае-Дзятлава) (Можайские акты. С. 177).

296 Апусцелыя пагосты Раждзэственскі і Нікольскі на р. Гжаці, у вусці р. Малой Воркі сяло Варганава (Можайские акты. С. 198). На Малой Ворцы знаходзілася апусцелае сяло Сямёнаўскае, якое належала Магіленскаму стану (Тамсама. С. 197).

297 Можайские акты. С. 199. Атаясамліванне цэнтра старажытнай смаленскай воласці Вецкай з сучасным сялом Ветцы знаходзіць пацвярджэнне па археалагічных звестках (Археологическая карта России. Смоленская область. Ч. 2. М., 1997. С. 23).

рыю да сярэдзіны XVII ст.)[298]. Такім чынам, ядро воласці Балонеск складалі землі па абодвух баках ад вусця р. Абаленкі, выцягнутыя на ўсход да самых вярхоўяў р. Воры.

Каля вусця р. Абаленкі знаходзіўся цэнтр воласці — даўні Балонеск. Археалагічныя звесткі пацвярджаюць як старажытнасць Балонеска, так і яго існаванне ў час усяго сярэднявечча[299]. Велічыня гарадзішча Балонеска, існаванне пасада сведчаць пра вялікую гандлёва-рамесную значнасць валаснога цэнтра, які знаходзіўся на шляху паміж Вязьмай і Мажайскам. Несумненная таксама і абарончая значнасць Балонеска, які быў, відавочна, маскоўскім фарпостам на скрайніх заходніх межах княства. Улічваючы той факт, што р. Абаленка зусім кароткая (крыху даўжэй за 3 км), тады як не ўсё яе цячэнне належала воласці Балонеск, можна прыйсці да высновы аб непасрэднай блізкасці мяжы да самога г. Балонеска. Такім чынам, гарадок Балонеск, які ўкліньваўся ў вяземскія землі, прыкрываў не толькі тэрыторыю сваёй воласці, выцягнутай за ім на ўсход, але і служыў перадавым абаронным пунктам на заходняй маскоўскай мяжы. Тым не менш, верагодна, з канца XIV ст. значэнне Балонеска ўпала. Звесткі пра Балонскі стан з'яўляюцца ў крыніцах толькі ў XVII ст.

Воласць Балонеск непасрэдна суседзіла з шэрагам вяземскіх валасцей, якія былі вядомы з XV ст. На поўдзень, паўднёвы захад і паўднёвы ўсход ад яе знаходзіліся ўладанні старэйшага вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча Дуброва (з Дуброўскім дваром), Магілна (Магілен) (на самой мяжы па р. Гжаці і Воры і прытоку апошняй Магіленцы)[300], Мічэнкі (Міцэнкі), Арэхаўна (на р. Істры, прытоку Воры)[301] і князёў Глінскіх — Сулідаў (Судзілаў), Шацеш (Щацелша) і Тур'еў (Тур'е) (на рэках Воры, Гарадзенцы і прытоку Угры Турэі)[302]. Гэтыя воласці кампактна размяшчаліся па абодвух баках р. Воры, прасціраючыся ад р. Жыжалы (прыток Угры) да р. Жалонні (прыток Істры).

Многія згаданыя вышэй вяземскія воласці, пазначаныя ў духоўнай грамаце Івана III 1504 г., прылічаны да складу Мажайскага ўезда. «Да ему ж [сыну Васілію. — *В.Ц.*] даю город Можаескъ с волостьми, и с путми, и з селы, и со всеми пошлинами, и з Чягощъю, и с Турьевым, и с Ореховною, и с Могилном, и с Миченками, и съ Шатеш(ь)ю, и з Сулидовым, и з Дмитровцом по обе стороны Угры, и с-ыными месты, что к ним потягло»[303]. Не выклікае сумненняў тое, што даданыя да Мажайска воласці — гэта нядаўнія набыткі. Пасольскія кнігі сведчаць пра захоп пазначаных валасцей ужо ў 1486—1492 гг.[304]. Сярод новых мажайскіх валасцей мы сустракаем і Чагошчу, а з прычыны таго што тэрыторыя воласці Балонеск апынулася як бы ў

298 Сяло Мікулева-Касцівец (сучаснае Касціўцы) і апусцелае сяло Обручава (Варанцова) на р. Гжаці (Можайские акты. С. 198).

299 Археологическая карта России. Смоленская область. Ч. 2. М., 1997. С. 25—26.

300 Можайские акты. С. 177—178, 197—198; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283; Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 574. Калі меркаваць па актах, Магіленскі стан судакранаўся і з рэкамі Протва, Гжаць і Абалонь, прымаў у свой склад участкі рэчак Малая Ворка і Калодзезенка.

301 СИРИО. Т. 35. С. 49; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283.

302 СИРИО. Т. 35. С. 3, 20; ДДГ. № 89. С. 355; Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей... Ч. I. С. 13—14; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283.

303 ДДГ. № 89. С. 355.

304 СИРИО. Т. 35. С. 2, 36, 48, 74, 119.

тыле маскоўскіх уладанняў, паміж старымі і новымі мажайскімі валасцямі, можна зрабіць выснову і пра яе далучэнне да Масквы.

Такім чынам, у тэстаменце Івана III асобна згадваюцца не старыя мажайскія валасці, а толькі навіны. Усе прыпісаныя да Мажайска воласці, запісаны ў грамаце па стандартнай формуле «город Можаескъ с волостьми, и с путми, и з селы, и со всеми пошлинами» — гэта нядаўнія ўладанні ВКЛ. Толькі Чагошча выпадае са спіса. Невядома, каму яна належала да пачатку XVI ст., ды і дзе дакладна размяшчалася, таксама. Амаль усе воласці (акрамя Дзмітраўца[305]), якія былі прыпісаны да Мажайска, кампактна займалі прастору з абодвух бакоў р. Воры (прыток Угры). Лагічна тады меркаваць, што Чагошча таксама была дзесьці паблізу ад прыпісаных да Мажайска валасцей. Але, мяркуючы па тым, што спіс валасцей пачынаецца з Чагошчы, яна таксама магла быць і аддаленай ад вяземскіх валасцей, як, скажам, Дзмітравец, які размяшчаўся ў канцы спіса і ў баку ад асноўнага зямельнага масіва. Лакалізацыя М.К. Любаўскім Чагошчы «между верховьем Москвы и Гжатью»[306], на жаль, не знаходзіць пацвярджэння.

У.М. Дзябольскі, абапіраючыся на матэрыялы, сабраныя братамі В. і Г. Халмагоравымі, лакалізаваў Чагошчу каля р. Гжаці[307]. Там стаяла сяло Бульчова, аб якім вядома, што яно належала да Цягожскай воласці ў канцы XVII ст. Магчыма, справядліва атаясамленне яго са старажытнай Чагошчай. Халмагоравы ўзгадваюць сяло «Тягощи, Болычево тож» у дварцовай Цягожскай воласці[308]. У 1691 г. яно было падаравана царамі Пятром і Іванам баярыну Пятру Іванавічу Празароўскаму[309]. Дагэтуль, у 1666 г., пры с. Цягошчы знаходзілася вёска Балычова. Верагодна, неўзабаве абодва паселішчы зліліся, пры гэтым паступова зацвердзілася адзіная назва Балычова-Бульчова.

Балычова захавалася да нашых дзён. Яно знаходзіцца недалёка на паўночны ўсход ад г. Гагарына (былы Гжацк) на р. Алешні[310]. Здавалася б, вось ён — цэнтр старой воласці. На поўнач ад яго, зусім побач, бачым Балонеск. Разам абедзве воласці добра маркіравалі б літоўска-маскоўскую мяжу. Аднак, трэба прызнаць, што Чагошча лакалізавана недакладна.

Справа ў тым, што В.М. Дзябольскі, выпадкова ўбачыўшы на зручным месцы першае ж сугучнае з шуканым паселішча, ім і задаволіўся. Але, па-першае, у наваколлі хапае і іншых Балычовых-Бульчовых, а, па-другое, дадатковыя дадзеныя падрыхтаваных да друку архім. Дыянісіем так званых Мажайскіх актаў дазваляюць з большым абгрунтаваннем лакалізаваць с. Цягошчы (Цягішчы) і вызначыцца з тэрыторыяй яго воласці.

Гасударава дварцовае сяло Цягішчы згадваецца ў 1653 г. У ім былі пералічаны пустыя царкоўныя землі: царкоўнае месца (царквы ўжо не было, відаць пасля «литовского разорения» пачатку XVII ст.), месцы былых двароў і ворыва, якое ўжо парасло лесам. Межы тых уладанняў пацвердзілі сяляне сёл Парэчча і Мышкіна, без сумнення, памежных з Цягішчамі[311].

---

305 Не ўваходзіў у склад Вяземскага княства.

306 Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 46.

307 Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей. С. 43.

308 Холмогоровы В. и Г. Исторические материалы о церквах и селах XVI—XVIII ст. Вып. 10. Можайская десятина (Московского уезда). М., 1901. С. 57.

309 Тамсама. С. 36, 57—58.

310 Общегеографический региональный атлас. Смоленская область. С. 17.

311 Можайские акты. № XX. С. 193—194.

У 1668 г. сітуацыя з царкоўнымі ўладаннямі ў с. Цягошчах, відавочна, палепшылася. З іх збіраўся аброк (праўда, маленькі, толькі 6 паўтрошаў), узворвалася зямля (агульна 2 з паловай дзесяціны, а пад лесам стаяла 8 дзесяцін), збіралася сена (10 копен). Узгадваецца дарога ад сяла да вёскі Бульчовай, гасудараў лес да рэчкі Мядзведкі, грані на дарозе ў с. Лісавіна ды пусташка Хацяйка.

Такім чынам, с. Цягішча-Цягошча знаходзілася ў суседстве з с. Парэчча, Мышкіна і Лісавіна, недалёка ад ручая Мядзведкі. Між іншым, усе гэтыя пункты лёгка адшукаць нават на сучаснай карце. Мышкіна (на р. Маскве), Парэчча (у вусці р. Іначы, якая ўпадае злева ў Маскву) і Лісавіна (побач з р.Ісконай, левым прытокам Масквы) складаюць трохвугольнік, трошкі на ўсход ад якога на рэчцыІсконе пры ўпадзенні ў яе ручая Мядзведкі размяшчаецца Бальчова. На дарозе ад Парэчча і Мышкіна ў Лісавіна і Бальчова заўважаем вв. Старая Цяга і Цяжэнка[312]. Тую ж сітуацыю можна назіраць на планах Генеральнага межавання канца XVIII ст.[313]. Цікава, што в. Новая Цяга, яшчэ пазначаная на плане Мажайскага ўезда паміж вусцямі рр. Мядзведкі і Цяжэнкі (правыя прытокіІсконы), да нашага часа не дажыла. С. Бальчова, сапраўды, вялікае, з царквой і значнай колькасцю двароў. Яно яўна дамінуе ў навакольным рэгіёне. У сярэдзіне XIX ст. гэта ўжо панскі двор Бульчава[314]. Але такая назва не прыжылася і, наогул, была выпадковай.

Такім чынам, калі прыняць Цягожскую воласць за старажытную Чагошчу, яе месца ўяўляецца для нас вельмі нечаканым. Прастора паміж двума вялікімі прытокамі Масквы-ракі — Іначчу іІсконай была вельмі шчыльна запоўнена, магчыма, яшчэ з канца XIV ст. Аднак, напрыклад, воласць Тушкаў (на поўдзень ад Чагошчы, на іншым беразе р. Масквы) лічылася памежнай. Памежнай магла быць (відавочна, і была) Чагошча. На захад ад яе пачыналася та паласа незанятых зямель, якая складала ўмоўную мяжу паміж маскоўскімі і літоўскімі ўладаннямі. Здаецца, што з гэтай прычыны, Чагошча, у адрозненне ад Балонеска, не магла быць адарвана ад Вялікага Княства Маскоўскага. Чаму яна была пералічана ў пачатку XVI ст. сярод навін — прыпісаных да Мажайска валасцей — застаецца загадкай. З таго часу і да канца XVII ст. воласць заставалася ў дзяржаўным кіраванні. На доўгі час яе лёс быў схаваны маўчаннем крыніц.

Да XVII ст. у тэрытарыяльным уладкаванні заходніх маскоўскіх уездаў адбыліся істотныя змены, а «литовские разорения» і наступствы смуты наогул зрабілі вельмі цяжкай нават прыблізную лакалізацыю цэлага шэрагу мажайскіх валасцей і станаў. Так, Ю.У. Гацье неаднаразова памыляўся пры вызначэнні месцазнаходжання мажайскіх станаў (Тарусіцкага і Рэнінскага) ці быў няўпэўнены ў месцазнаходжанні такіх мажайскіх станаў, як Ворскі, Старкоўскі, Цешынаў і Загор'е, Зубаты і інш., бо ў іх амаль не фіксавалася населеных пунктаў[315]. Невядома, наколькі верагоднае ўяўленне пра цэнтр воласці Чагошча ў вёсцы Старая Цяга (Старая Ціга) і месцазнаходжанні тэрыторыі воласці ў вярхоўях р.Ісконы[316]. Гэтая думка ідзе насуперак логіцы пераліку ў духоўнай грамаце Івана III прыпісаных да Мажайска валасцей.

312 Общегеографический региональный атлас. Московская область. Масштаб — в 1 см : 2 км. М., 2002. С. 16—17; Атлас Московской области. С. 48, 68.

313 Генерального плана Можайского уезда часть II. Масштаб — в 1 дюйме : 2 версты. 1796—1797; Генеральный план Можайского уезда. Масштаб — в 1 дюйме : 1 верста. 1778—1796.

314 Военно-топографическая карта Московской губернии Ф.Ф. Шуберта. Масштаб — в 1 дюйме: 2 версты. 1860. Л. IV — 2 (Можайск).

315 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 574.

316 Тамсама. С. 575. Вёска Старая Цяга (Старая Ціга) і с. Бульчова (саўгас Бальчова) існуюць і сёння.

Але лакалізацыя Чагошчы каля р. Гжаці падаецца не толькі менш верагоднай, а, як высветлілася, поўнасцю памылковай[317]. І хоць, у такім выпадку, пералічаныя Іванам III воласці выбудоўваюцца акуратна з поўначы на поўдзень, ад Чагошчы і да Дзмітраўца, а воласць Чагошча, чый асяродак можна бачыць у раёне р. Алешні[318], трапляе ў непасрэдную блізкасць з воласцю Балонеск, ад зручнай версіі трэба адмовіцца. Але, па-ранейшаму, абедзве воласці заходзіліся на самай мяжы паміж мажайскімі і вяземскімі землямі. Крыху на поўнач ад Балонеска, магчыма, знаходзілася вотчына вяземскага князя Барыса Дзмітрыевіча Труфонаў (сучаснае Трафаны), а на ўсходзе — Ветцы — цэнтр даўняй воласці Вецкай. Магчыма апошняя ўваходзіла ў склад воласці Балонеск.

Такім чынам, воласць Балонеск з канца XIV ст., у выніку нявысветленых абставінаў (абмен, саступка, захоп, продаж?) перайшла са складу Вялікага Княства Маскоўскага да вяземскіх уладанняў (удзелу Смаленскага княства або, што больш верагодна, ужо непасрэдна да Вялікага Княства Літоўскага).

Саступка або абмен валасцей Балонеск і, што малаверагодна, Чагошча маглі адбыцца ў 1407 г. Тады «месяца Августа въ 6 день, князь велики Василей Дмитреевичь Московскій собравъ воя многи и поиде ратью на Литовьскую землю, на Витофта Кестутьевичя великого князя Литовского, и взя градъ Дмитровець и огнемъ пожже; срете же его Витофтъ со многою силою, бывшимъ же имъ у Вязмы, и тамо веземъ перемиріе, разыдошася кождо во свояси»[319]. Склалася традыцыйнае ўяўленне пра тое, што маскоўска-літоўскай дамовай 1407 г. нібыта быў зафіксаваны памежны характар р. Угры. У летапісах нічога не гаворыцца пра змест дамовы, заключанай на беразе р. Угры паміж Васіліем I і Вітаўтам. Але калі б у ёй і гаварылася пра правядзенне або фіксаванне мяжы, яна магла быць праведзена толькі на нязначнай адлегласці па нізоўях р. Угры (пра гэта гл. ніжэй). Тым не менш, паводле ўмоў заключанага перамір'я, нейкія тэрытарыяльныя змены адбыцца маглі. Менавіта тады за ВКЛ магла быць замацавана воласць Балонеск і, з меншай верагоднасцю, воласць Чагошча. Такім чынам выраўноўвалася мяжа, якая да гэтага часу мела выступ з боку маскоўскіх уладанняў да раёна вярхоўяў р. Гжаці, але адначасова ўбіваўся клін пасярод мажайскіх зямель. Магчыма, Масква атрымлівала кампенсацыю за страчаныя воласці або за ёй замацоўваліся нейкія землі (напрыклад, Калуга).

Адной з прычын страты Масквой воласці Балонеск можна лічыць значную аддаленасць гэтай асвоенай мясцовасці, якая знаходзілася на захад за вялізнай незаселенай балоцістай прасторай, што сама па сабе служыла бар'ерам, своеасаблівай шырокай памежнай паласой. Толькі пад канец XV ст. гэтая паласа была пераадолена маскоўскімі землеўласнікамі.

Характэрна, што ў складзе Мажайскага ўезда на момант складання тэстамента Іванам III не было многіх валасцей, захопленых удзельным мажайскім князем Ан-

[317] Гэта версія заснавана выключна на груба выкарыстаным метадзе лінгвістычнай адпаведнасці: па суседстве з г. Гагарын, крыху больш за 1 км на паўночны ўсход, на правым беразе р. Алешні знойдзены населены пункт Бальчова, які і быў абвешчаны цэнтрам воласці без ніякіх дадатковых праверак і доказаў.

[318] Археалагічныя звесткі па згаданым раёне адсутнічаць.

[319] ПСРЛ. Т. 11. М., 2000. С. 202. У Ніканаўскім і Троіцкім летапісах падзея апісана пад 1407 г. (Тамсама; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 465). Суздальскі летапіс і В.М. Тацішчаў даюць 1408 г. (ПСРЛ. Т. 1. М., 2001. Стб. 538; Татищев В.Н. Собрание сочинений: в 8-ми томах (5-ти книгах). Т. 5, 6. С. 208). У Суздальскім летапісе дадаецца, што перамір'е было заключана «от Рождества святыя Богородица до Петрова дни» (ПСРЛ. Т. 1. Стб. 538).

дрэем Васільевічам і непасрэдна прымыкаючых да яго ўладанняў (пра дзейнасць мажайскага князя гл. ніжэй). Сярод іх трэба назваць цэлы комплекс вотчын князёў Крошынскіх, а таксама, відавочна, воласць Балонеск. Тэрыторыя апошняй, вельмі верагодна, увайшла ў склад Мажайскага ўезда. Па-першае, туды трапілі воласці, якія размяшчаліся на захад ад Балонеска, а па другое, Балонскі стан у XVII ст. фігуруе ў складзе гэтага ўезда. Таксама магчыма, што на некаторы час воласць Балонеск злілася з суседнімі тэрытарыяльнымі адзінкамі (напрыклад, воласцю Магільнай) і ізноў вылучыліся ўжо ў якасці стана (вынік развіцця адміністрацый дзейнасці, а не абшчыннага дзялення) да XVII ст.[320]

Можна меркаваць, што малая ўвага актавых крыніц, пасольскіх прамоў і інш. пісьмовых крыніц да абедзвюх разгляданых валасцей была выклікана іх уласніцкай прыналежнасцю. Скаргаў на захоп валасцей Балонеск і Чагошча не паступала з той прычыны, што яны належалі непасрэдна вялікаму князю літоўскаму. Спусташэнне, захоп палонных, заняцце валасцей і маёнткаў буйных вяземскіх землеўласнікаў (князёў Вяземскіх, Крошынскіх, Глінскіх і інш.) выклікалі абурэнне і пастаянныя звароты апошніх у цэнтральныя інстанцыі, што і адбілася ў крыніцах, якія дайшлі да нас. Пры гэтым пра лёс вялікай часткі ўладанняў вялікага князя літоўскага мы нічога не ведаем. Існаванне Чагошчы на пачатку XVI ст. усё ж адбілася ў духоўнай грамаце Івана III, а Балонеск заўважаем у актавых крыніцах толькі ў XVII ст.

Такім чынам, вызначаецца частка літоўска-маскоўскага памежжа (вярхоўі рэк Гжаці і Воры), пра стан якой у цэлым (з-за адсутнасці інфармацыі) складвалася памылковае ўяўленне стабільнасці і нязменнасці на працягу амаль стагоддзя. Між тым, у пагранічных адносінах паміж дзвюма найбуйнейшымі дзяржавамі Усходняй Еўропы існавалі, верагодна, схаваныя маўчаннем крыніц супярэчнасці. Канфлікты на літоўска-маскоўскім памежжы ў канцы XIV—XV стст. не ўзнікалі, аднак сутыкненні тэрытарыяльных інтарэсаў, несумненна, здараліся. Акрамя пазначанага рэгіёна варта звярнуць увагу на тэрыторыю Фамінска-Беразуйскага княства, воласці князёў Крошынскіх, вобласць Верхнеокскіх княстваў.

Мажайска-вяземскі ўчастак мяжы паміж Вялікімі Княствамі Маскоўскім і Літоўскім у 1403—80-я гг. XV ст. быў найбольш устойлівым. Відавочна, менавіта ў гэтым прычына крайняй складанасці ягонай рэканструкцыі. Канфлікты, якія здараліся на літоўска-маскоўскім памежжы (1406, 1408, 1445 гг.), хаця і тычыліся Вязьмы або Мажайска, але не выяўлялі меж.

31 жніўня 1449 г. паміж вялікімі княствамі Маскоўскім і Літоўскім была заключана дамова пра «вечны мір», якая вызначыла літоўска-маскоўскую мяжу і сферу ўплыву ва ўсходне-еўрапейскім рэгіёне дзвюх найбуйнейшых дзяржаў[321]. Характэрна, што дамова 1449 г. падрабязна акрэслівала спрэчныя літоўска-маскоўскія адрэзкі мяжы (напрыклад, на ржэўска-таропецкім напрамку); вызначала гаспадароў дробных уладанняў, якія пераходзілі на маскоўскі або літоўскі бок; пералічвала рэгіёны, на якія распаўсюджвалася ўлада або ўплыў маскоўскага ці літоўскага вялікіх князёў, але шматлікіх вяземскіх князёў, нават саму Вязьму, не згадвала. Безумоўна, Вязьма і вяземскія землеўласнікі хаваліся за формулай «ни у Смоленьскъ, ни во вси Смоленские места, што издавна к Смоленьску потягло… не въступатисе»[322], і ігнараванне ўсходняй мяжы Смаленскай зямлі сведчыла аб яе стабільным характары з боку

---

[320] Пра суадносіны валасцей і станаў гл.: Лаппо-Данилевский А. Организация прямого обложения в Московском государстве со времен смуты до эпохи преобразований. С. 82—84; Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 95—97.

[321] ДДГ. № 53. С. 160—163.

[322] Тамсама. С. 160.

маскоўскіх уладанняў. Аднак у сувязі з гэтым мы губляем шанц акрэсліць працягласць мажайска-вяземска-мажайскага адрэзку літоўска-маскоўскай мяжы. Такую магчымасць мы не атрымліваем і пры разглядзе наступнай маскоўска-літоўскай дамовы, а таксама ўмоў «вечнага міру» («перемирье вечное») 1494 г. У выніку маскоўска-літоўскай вайны Вяземскае княства было цалкам далучана да Масквы, але маштаб далучанай тэрыторыі, яе працягласць, межы ў грамаце не пазначаліся. Відавочна, як ужо было адзначана, масіў Вяземскага княства цалкам, без выключэнняў, адышоў да Масквы, таму вызначэнне яго тэрыторыі не ўяўлялася неабходным. Але, такім чынам, мы, верагодна, губляем яшчэ адзін шанц вызначыць першапачатковую літоўска-маскоўскую мяжу, адрэзак якой на вяземска-мажайскім напрамку стаў адной з першых кропак прамога сутыкнення дзвюх дзяржаў — збіральніц рускіх зямель.

Неабходна адзначыць, што і з маскоўскага боку геаграфічных арыенціраў, якія б вызначалі вяземскую мяжу, вельмі мала. Традыцыйна меркавалася, што літоўска-маскоўская мяжа ў гэтым рэгіёне праходзіла па Гжаці і яе прытоку Яузе[323], якіх дасягалі мажайскія воласці Балонеск (вакол басейна рэчкі Абалонкі — прытока Гжаці), Загор'е і Пневічы. Аднак лакалізацыя апошніх дзвюх валасцей заснавана на вельмі хісткім грунце. Справа ў тым, што адносна разгляданага рэгіёна амаль адсутнічаюць адпаведныя крыніцы. Прычына гэтага — «литовские разорения» XVI — пачатку XVII стст., калі вялікая колькасць населеных пунктаў і цэлыя воласці зніклі[324]. Такім чынам, вельмі зручны метад гістарычнай геаграфіі — рэтраспекцыя — губляе сваё значэнне ў выпадку вызначэння меж вяземска-мажайскага памежжа. Частка мажайскіх валасцей згадвалася ў духоўных граматах Дзмітрыя Данскога, Івана III (разам з далучанымі да іх вяземскімі), Івана IV і інш., але пісцовых апісанняў заходняй часткі Мажайскага ўезда XVI ст. не захавалася, а ў XVII ст. ужо не было што апісваць.

Рэканструкцыя літоўска-маскоўскай мяжы на вяземскім напрамку становіцца магчымай дзякуючы лакалізацыі ўладанняў шматлікіх вяземскіх князёў (уласна Вяземскіх, Бываліцкіх, Казлоўскіх, Жылінскіх, Глінскіх, Крошынскіх).

Існуе меркаванне, што пасля далучэння Вяземскага княства да ВКЛ (1403 г.), уладанні мясцовых князёў засталіся непарушнымі. Аднак вялікакняжацкая ўлада ўсё ж умешвалася ў пазямельныя справы вяземскіх князёў, таму, напрыклад, сярод вяземскіх землеўласнікаў мы сустракаем сына пана Яна (Івана) Хадкевіча, якому належала хлепенская воласць Рагачоў[325]. Гедымінавічамі, магчыма, былі князі Крошынскія, якіх выводзяць ад князя Івана, сына Войдата Кейстутавіча[326]. Верагодна, князі Глінскія таксама былі не мясцовага паходжання[327].

---

[323] Гл., напрыклад, карту І.А. Галубцова «Ликвидация феодальной раздробленности и татарского ига, присоединение к Русскому государству исконных русских земель» // Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. Вторая половина XV века. М., 1952. Вкладыш.

[324] Апісанне 1594—1595 гг. Каменскага і Бываліцкага станаў: Павлов-Сильванский В.Б. Новые сведения о писцовых книгах Вяземского уезда конца XVI века // Археографический ежегодник за 1959 г. М., 1960. С. 97. Дадзеныя пра станы і воласці Мажайскага ўезда на сярэдзіну XVII ст.: Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 387—389.

[325] СИРИО. Т. 35. СПб., 1882. С. 72.

[326] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 190—193.

[327] Род князёў Глінскіх гісторыкі і геральдзісты выводзяць ад татарскага князя *Leksady*, які ў час праўлення Вітаўта прыбыў у Літву і пасля хросту прыняў імя Аляксандра, а, атрымаўшы Глінск і Глінніцу, назваўся Глінскім. У XV ст. вядома некалькі прадстаўнікоў літоўскай знаці з прозвішчам Глінскія, іх цяжка звязаць паміж сабой, яны далі пачатак чатыром асобным галінам роду (Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 63).

Можна меркаваць, што надзяленне вяземскімі землямі адданых вялікаму князю літоўскаму людзей ажыццяўлялася з разлікам забяспечыць абарону крайніх усходніх меж дзяржавы. Таму мы і бачым вотчыну сына пана Івана Хадкевіча (воласць Рагачоў — крайні паўночны ўсход Вяземскай зямлі)[328] на самай мяжы з Ржэўскай і Цвярской землямі, у кантакце з уладаннямі ненадзейных фамінска-беразуйскіх князёў. Князі Глінскія пры гэтым валодалі вотчынамі ў супрацлеглай частцы Вяземшчыны — на крайнім паўднёвым усходзе (воласці Тур'е[329], Судзілаў[330], Шацельша[331]). Гэтыя іх воласці кампактна размяшчаліся ў вярхоўях р. Воры, расцягнуўшыся ад р. Жыжалы (прыток Угры) да р. Жалонні (прыток Істры).

Месцазнаходжанне вотчын мясцовых вяземскіх князёў (уласна Вяземскіх, Бываліцкіх, Казлоўскіх, Жылінскіх) вызначаецца ў асноўным[332] некалькі ў баку ад мяжы, у глыбіні Вяземскага княства. Такім чынам, мы зноў сустракаемся з немагчымасцю вызначыць вялікую частку ўсходняй вяземскай мяжы.

Цяпер прыйшоў час звярнуцца да свядома пакінутых намі вяземскіх землеўласнікаў князёў Крошынскіх. Іх лёс яскрава ілюструе падзеі пачатку маскоўска-літоўскага супрацьстаяння, калі мноства памежных князёў былі пазбаўлены сваіх уладанняў і адкінуты ў глыб ВКЛ. Назіранне за падзеямі, звязанымі з князямі Крошынскімі, у гэтым выпадку можа быць прыкладам.

Магчыма, да 1486 г. на мажайска-вяземскім участку маскоўска-літоўскай мяжы і не магло ўзнікнуць асяродку канфлікту. Калі паміж літоўскімі (смаленскімі) і цвярскімі ўладаннямі ішло актыўнае ўзаемадзеянне (што адлюстроўваецца ў дагаворных граматах)[333], то паміж літоўскімі і маскоўскімі (мажайскімі) землямі доўгі час, відаць, не было судакранання. Сігізмунд Герберштэйн сцвярджаў, што «ў часы Вітольда ўладанні валадароў маскоўскіх распасціраліся на пяць-шэсць міль за Мажайск» («...на шэсць міль не даходзілі да Мажайска»)[334]. У той жа час вядомыя літоўскія ўладанні ў гэтым рэгіёне (воласці ў раёне р. Гжаці, падлеглыя князям Крошынскім) размяшчаліся значна далей ад Мажайска.

Сітуацыя магла змяніцца ў 1473 г., калі Мажайск нечакана атрымаў у дадатак да ўдзела маскоўскі князь Андрэй Васільевіч[335]. Ён (а, магчыма, і да яго ўдзельныя князі Андрэй Дзмітрыевіч Мажайскі (1389—1432 гг.), Іван Андрэевіч (1432—1454 гг.), Юрый Васільевіч Дзмітраўскі [1462—1471 гг.]) пачаў актыўную каланізацыйную палітыку

---

328 Не трэба блытаць хлепенскі Рагачоў з аднайменным беларускім горадам, як гэта здаралася ў XIX ст. (Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 2. Могилев, 1884. С. 94).

329 Тур'еў паводле духоўнай Івана III знаходзіўся, верагодна, у раёне рэчкі Турэі (на яго ў 1488 г. напалі людзі ўдзельнага мажайскага князя Андрэя Васільевіча).

330 Сулідаў духоўнай Івана III атаясамляецца з сучасным Судзімавым.

331 Шацеш у духоўнай Івана III; сучасная Шацеша на р. Воры (Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283; ДДГ. № 89. С. 355).

332 За выключэннем валасцей Магілен, Нягодзін і Міцэнкі старэйшага вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча.

333 Дагавор 1427 г.: ДДГ. № 23. С. 62—63; LM. Kn. 5. № 140. P. 257. Дагавор 1449 г.: ДДГ. № 83. С. 329; LM. Kn. 5. № 141. P. 259; № 78.2. P. 134.

334 Герберштейн С. Записки о Московии. С. 144.

335 Неаднаразова праўлены спіс тэксту дагаворной граматы Івана III з князем Андрэем Васільевічам спачатку наогул не меў ніякага пажалавання вялікага князя свайму ўдзельнаму брату. Але ў апошнім варыянце граматы знаходзіцца фармулёўка: «...и что яз, князь велики, пожаловал тобя...», у якой спачатку з'явілася прыбаўка да ўдзелу Андрэя «Колуги», потым перапраўленай на Мажайск (ДДГ. № 70. С. 248).

і даволі хутка прасунуўся да літоўскіх уладанняў. Верагодна, да тэрыторыі, якая была непасрэдна занята падданымі ВКЛ, князь Андрэй не знайшоў карысных для выкарыстання ў гаспадарчым плане зямель. Тут пераважалі лясы і балоты. Прамы кантакт з тэрыторыяй ВКЛ Андрэя Васільевіча не толькі не спыніў, але наадварот, дадаў энергіі, бо цяпер з'явілася магчымасць засяляць і далучаць да сваіх уладанняў ужо асвоеныя землі. Відавочна, у іншых частках свайго ўдзелу (Угліч, Бежацкі Верх, Звянігарад і інш.) удзельны князь Андрэй не мог актыўна павялічваць свае ўладанні. Тут жа ўмяшальніцтва ў справы суседняй дзяржавы магло, па-першае, ухваляцца з боку цэнтральнай улады, а, па другое, застацца беспакараным з боку ВКЛ. Усё, што здолелі зрабіць князі Крошынскія, на чыю вотчыну была накіравана цікавасць маскоўскага ўдзельнага князя — гэта скаргі ў пасольскіх прамовах. Наступленне Вялікага Княства Маскоўскага ішло так імкліва, што князі Крошынскія, страціўшы адны землі, паспелі атрымаць іншыя (у раёне р. Угры), але хутка страцілі і іх.

Характэрна, што, ледзь прасунуўшыся да вяземскіх зямель, маскоўскі бок стаў выказваць прэтэнзіі на іх як на спрадвечна мажайскія землі[336]. Цэлы шэраг валасцей быў абвешчаны прыналежным да Мажайска і, тым самым захопніцкія мэты набывалі легітымны характар з апорай на традыцыю і старыну. Даволі хутка ў складзе мажайскіх мы бачым воласці, якія яшчэ нядаўна складалі масівы ўладанняў князёў Крошынскіх[337], Глінскіх, Вяземскіх.

Дзеянні ўдзельнага князя Андрэя Васільевіча, відавочна, не толькі ўхваляліся, але і кіраваліся цэнтральнай уладай. Так, пасля ваенных аперацый мажайскага князя (напады 1486—90 гг. на воласць Арэхаўну (Арэхаўскую) князя Міхаіла Глінскага, воласці Магілен, Нягодзін і Міцэнкі, двор і воласць Дуброву (Дуброўскую) князя Міхаіла Дзмітрыевіча Вяземскага, на хлепенскую воласць Ждат, воласці князёў Крошынскіх, воласць Тур'е князёў Глінскіх і інш.) у гульню ўступілі афіцыйныя маскоўскія ўлады. Арганізацыяй засялення нядаўна адабраных уладанняў князёў Крошынскіх займаўся дзяк вялікага князя Васілій Далматаў. Ён «посадил» у валасцях Альховец, Лела і Ад'езд больш за 200 сем'яў, а ў Цешынаве і Сукроме — больш за 300 сем'яў сялян з Вялікага Княства Маскоўскага[338].

Тую ж палітыку, што і князь Андрэй Васільевіч, праводзіў яго сусед удзельны князь цвярскі Іван Малады. Ён таксама здзяйсняў спусташальныя набегі на суседнія са сваімі літоўскія ўладанні і пакідаў за сабой навакольныя воласці. (Скаргі 1488 г. — напады і спустошэнне Хлепеня, валасцей Труфонаў, Негамір і Сачоўкі; скаргі 1490 г. — «выбрали и выжгли» хлепенскія воласці Джаць, Панізоўе, тое самае ізноў з валасцямі Труфонаў, Негамір і Сачоўкі; скаргі 1492 г. — заселі Хлепень і Рагачоў[339]. І ізноў прагучала заява, што Рагачоў «волость изстарины нашие отчины Тферские земли», а Хлепень «в старых докончаньех предков наших и в отца его королеве докончанье записан к нашему великому княжьству»[340]).

---

[336] Пасля скаргі князя Міхаіла Вяземскага на тое, што ў яго адабралі землі да Мажайска, Іван ІІІ у адказе літоўскім паслам быццам бы прывёў словы князя Андрэя Мажайскага пра тое, што апошні «у князя у Михайла у Вяземского земель к Можайску не имывал, а ведает и держит земли, которые издавна к Можайску потягли к нашему великому князству Московскому» (СИРИО. Т. 35. № 2. С. 6).

[337] Іван ІІІ наўпрост гаварыў літоўскаму паслу Цімафею Масальскаму, звяртаючыся да Казіміра: «Что тебе били челом Крошинские князи, Филип да Костантин з братье о Тешинове, да о Сукрумне, да о Олховце, да о Надславле, да об Отъездце, на нашего дияка на Василья на Долматова: ино те места, сказывают, издавна тянут к Можайску к нашему Великому Княжству Московскому» (СИРИО. Т. 35. № 2. С. 6).

[338] СИРИО. Т. 35. № 18. С. 74.

[339] Тамсама. № 4. С. 16; № 12. С. 49; № 18. С. 73.

[340] Тамсама. № 18. С. 77.

Князі Крошынскія, пазбавіўшыся сваіх валоданняў, не кінулі службу вялікаму князю літоўскаму. Хутка яны атрымалі новыя ўладанні таксама і каля мяжы (у раёне р. Угры): Залаконне, Волста [Ніжняя], Клыпіна, Нядзілава, Чарпа, Галовічы[341]. Аднак ужо ў 1494 г. пералічаныя воласці фігуравалі ў складзе ўладанняў князя Сямёна Фёдаравіча Варатынскага — перабежчыка на маскоўскі бок (у 1492 г.)[342]. Праўда, маскоўскія баяры саступілі пералічаныя воласці ВКЛ[343] і да наступнай маскоўска-літоўскай вайны 1500—1503 гг. яны былі па-ранейшаму ў складзе ВКЛ. І вось пасля 1500 г. Крошынскія ізноў страцілі свае ўладанні. Пазбавіўшыся зямельных уладанняў, яны атрымалі выгадную пасаду скарбніка ў Смаленску (Канстанцін Фёдаравіч — у 1506 г., Цімафей Філіпавіч — у 1507—1508 гг.). Князь Цімафей Філіпавіч змог за ўласныя грошы набыць уладанні (у 1507 г. адбылося пацвярджэнне куплі ім у смаленскай баярыні Арыны «делницы села ее отчизного»[344]). Характэрна, што князь Канстанцін Фёдаравіч Крошынскі атрымаў двор Дубна ў Гарадзенскім павеце «до очищенья отчизны его в Смоленску»[345]. З тэксту пацвярджэння на двор Дубна дазнаемся, што ў князя Крошынскага «именеица его остали ся вбогие около Смоленска, ино тые именеица от неприятеля жо на корень скаженны»[346].

Такім чынам, князі Крошынскія, нягледзячы на ўдары лёсу, засталіся аднымі з самых надзейных для вялікага князя літоўскага падданымі, невядома ніводнага пераходу іх на маскоўскі бок.

Крошынскія князі валодалі валасцямі Цешынавічы (Цешынава), Сукромна (Сукрома), Альховец, Надслаўль, Лела, Ад'ездзец (Ад'езд), верагодна, з самага пачатку XV ст., гэта значыць з часу далучэння Вязьмы да ВКЛ. З'яўленне на самым краі выхадцаў з ягонай глыбіні[347] не можа быць выпадковым. Перадача памежных земель князям Крошынскім азначала і іх клопат аб абароне ўсходняй мяжы ВКЛ. Зрэшты, з гэтай задачай Крошынскія не справіліся.

Да нядаўняга часу спроб вызначэння месца вотчыны князёў Крошынскіх не было. М.К. Любаўскі толькі няпэўна зазначыў, што яны ляжалі па суседстве з мажайскімі[348]. Тое самае пісаў Я. Натансан-Лескі («...na możajskiem pograniczu włośćmi kn. Kroszyńskich»)[349]. Такую выснову можна зрабіць, калі звярнуцца да пасольскіх кніг, у якіх маскоўскі бок, напрыклад, заяўляў, што «ино те места, сказывают, издавна тянут к Можайску к нашему великому княжству Московскому» (меліся на ўвазе воласці князёў Крошынскіх)[350].

Некаторыя памежныя воласці ВКЛ сапраўды з'явіліся сярод мажайскіх (у духоўнай грамаце Івана III)[351], але ўладанняў князёў Крошынскіх сярод іх не было. Толькі паступова, у дакументах XVI ст. можна выявіць гэтыя воласці. Некаторыя з іх аказаліся ў складзе цвярскіх уездаў, у прыватнасці, сярод холмскіх валасцей і станаў.

---

341 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 118—119, 136.

342 Тамсама. № 24. С. 136.

343 Тамсама. С. 120.

344 LM. Kn. 8: (1499—1514). P. 229.

345 Тамсама. P. 168.

346 Тамсама.

347 Пра паходжанне князёў гл.: Tęgowski J. Kilka uwag o genealogii kniaziów Kroszyńskich do końca XV wieku // Genealogia. Studia i Materiały Historyczne. T. 15. Poznań—Wrocław, 2003. S. 35—43.

348 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 284.

349 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 73.

350 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 6.

351 Напрыклад Магілен, Міцэнкі, Сулідаў, Арэхаўна, Чагошча і інш. (ДДГ. № 96. С. 397—398).

Да сярэдзіны XVII ст. Холм страціў свой уезны статус, а ўсе яго воласці зліліся ў адну — Холм Старыцкага ўезда[352]. А стагоддзем раней сярод холмскіх значыліся: Стары і Новы Аўезд (Ад'езд?), Крывы Холм, Насіл, Дзяржа і Жыжнен[353]. У пераліку можна заўважыць адну з валасцей князёў Крошынскіх — Ад'езд. Пазнейшую воласць Холм падзяляла на паўночную і паўднёвую (меншую) часткі р. Дзяржы (правы прыток Волгі). Уздоўж яе цячэння трэба адзначыць воласць Дзяржу XVI ст. Відавочна, на поўдзень ад яе размяшчалася воласць Ад'езд (да 1530 г. распалася на дзве — Стары і Новы, магчыма, за кошт асваення незанятых зямель).

Воласць Ад'езд магла ахопліваць ніжняе цячэнне левага прытока Дзяржы Сукромлі. Вакол апошняй у сярэдзіне XVII ст. ляжалі землі Вярхоўскага стана Старыцкага ўезда, а Сукроменскі стан таго ж уезда знаходзіўся больш на захад, зусім не кранаючы цячэння ракі, ад якой, відавочна, і атрымаў назву[354]. На поўдзень ці нават на паўднёвы ўсход ад Вярхоўскага стана, ужо ў Мажайскім уездзе ў сярэдзіне XVII ст. існаваў стан Атвоцкі і Сукроменскі[355]. Такім чынам, першапачатковая тэрыторыя воласці Сукромны складалася з двух станаў Старыцкага ўезда (Вярхоўскага і Сукроменскага) і часткі стана Мажайскага ўезда (Атвоцкага). Магчыма, і іншыя суседнія станы, напрыклад, Сямёнаўскі (Старыцкага ўезда), Ільінскі (Мажайскага ўезда), калісьці былі часткай Сукромны. У XV ст. гэта была даволі буйная воласць, але з рэдкім насельніцтвам і вельмі забалочанай мясцовасцю. У вярхоўях р. Сукромлі яшчэ ў першай палове XIX ст. стаяла вёска Сукромня або В. Сукромня[356].

Паводле апісання 1520 г., у складзе ўезда Новага Гарадзішча (былы Новы Гарадок, Хорвач) ужо існавалі Вярхоўскі, Сукроменскі і Сямёнаўскі станы[357], гэта значыць, што да гэтага часу воласць Сукромна ўжо магла быць падзелена. Апісанне 1520 г. дае магчымасць зрабіць выснову, што да Новага Гарадка належалі, а гэта значыць, з самага пачатку былі цвярскімі толькі стан Парэцкі і воласць Сіняя, ды і то з агаворкамі. Стан Парэцкі размяшчаўся ўніз па цячэнні р. Дзяржы ад Новага Гарадка, на паўночны захад ад апошняга. Па такім сваім становішчы ён, без сумнення, павінен быў адносіцца да вотчыны князёў Холмскіх (у яе ўваходзілі гарады Холм і Новы Гарадок)[358] і старажытнай Цвярской зямлі. А вось воласць Сіняя да XVI ст. не фігуравала сярод цвярскіх, больш таго, першыя згадкі пра яе ў духоўнай грамаце Івана III 1504 г. могуць сведчыць пра «навіну» далучэння як яе, так і воласці Алешні да ўдзела князя Андрэя Іванавіча: «Холмъских вотчину, Холмъ и Новои городок, да волости Олешню, да волость Синюю, и иные волости, и пути, и села, со

---

[352] Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 401, карта (Карта выдання 1906 г.).

[353] Паводле пісцовай кнігі Васілія Палікарпава Рамейкава 7038 (1530) г. (ДДГ. № 102. С. 421).

[354] Варта адзначыць, што на карце Ю.У. Гацье некаторым месцам уласцівы значныя скажэнні (напрыклад, у паўднёвай частцы Зубцоўскага ўезда), таму правільнасць лакалізацыі валасцей і станаў XVII ст. не вельмі дакладная.

[355] Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 388, 401. Да канца XVII ст. у Мажайскім уездзе такі стан ужо невядомы (Водарский Я.Е. Население России в конце XVII начале XVIII ст. С. 240).

[356] Специальная карта Западной части Российской Империи. Лист XXIV; Специальная десятиверстная карта Европейской России И.А. Стрельбицкого. Л. 43. Пры лакалізацыі воласці на гэтую вёску спасылаўся і У.С. Барзакоўскі (Борзаковский В.С. История Тверского княжества. С. 30).

[357] ДДГ. № 102. С. 421.

[358] Тамсама. № 89. С. 361.

всеми пошлинами...»[359]. Зрэшты, Алешня — даўняя цвярская воласць, якая вядома з 1285 г.[360]. Варта прызнаць такой і воласць Сінюю, бо ніякіх іншых звестак пра яе прыналежнасць няма. Магчыма, што Алешня і Сіняя да пачатку XVI ст. адносіліся да Зубцова, а пазней іх далучылі да новага маскоўскага ўдзела. Адсюль і іх вылучэнне ў грамаце 1504 г.

Шчыльны кантакт цвярскіх валасцей з былымі літоўскімі і наступнае іх зліццё ў адну вялікую воласць Холм добра ілюструе сітуацыю сумеснага літоўска-цвярскога ўладання ў зоне памежжа, якое вядома з дакументаў XV ст. Вялізная воласць Сукромна ў XVI—XVII стст. значна трансфарміравалася. Частка яе пасля захопу ў 80-я гг. XV ст. удзельным князем Андрэем Васільевічам так і засталася ў складзе Мажайскага ўезда. Але асноўная тэрыторыя трапіла ў распараджэнне князёў Старыцкіх.

На поўдзень ад Сукромны, у раёне р. Яузы (правы прыток Гжаці), побач з Іначчу (левы прыток Масквы) у сярэдзіне XVII ст. яшчэ згадваўся стан Цешынаў і Загор'е Мажайскага ўезда (яго тэрыторыя была моцна спустошана ў Смутны час)[361]. У ім зліліся дзве даўнія воласці, адна з якіх належала князям Крошынскім (Цешынавічы), а другая стала вядомай дзякуючы перадачы Дзмітрыем Данскім сыну Андрэю згодна з тэстаментам 1389 г. (мажайская воласць Загор'е)[362]. Логіка каланізацыйнага працэсу падказвае, што воласць Загор'е ўзнікла, абапіраючыся на р. Інач, як вынік рассялення людзей з усходу на захад з боку маскоўскага княства. Інач блізка падступае да р. Яузы, па якой з захаду на ўсход ішло асваенне тэрыторый з боку волжскіх прытокаў і рэк дняпроўскага басейна, гэта значыць — Смаленскага княства. Верагодна, у водападзеле басейнаў рэк Волгі і Акі (а ён праходзіў якраз паміж Яузай і Іначчу, а на поўдзень — Гжаццю з прытокамі і Масквой) і сфарміравалася мяжа паміж смаленскімі (затым — літоўскімі) і маскоўскімі ўладаннямі. У гэтай сувязі падаецца, што ранейшае далучэнне да Масквы Мажайска са складу Смаленскага княства (1303 г. ці нават канец XIII ст.)[363] было абумоўлена не толькі палітычнымі падзеямі, але і натуральным імкненнем тэрыторыі вакол верхняга цячэння р. Масквы да Паўночна-Усходняй Русі. Мяркуючы па ўсім, да канца XV ст. нават кантакты паміж Мажайскай зямлёй і цэнтрамі так званай Заходняй Русі[364] не былі наладжаны: рэкі волакамі не злучаліся, а сухапутныя шляхі ішлі ў абход (Масква — Волак Ламскі — Зубцоў — Ржэва, Масква — вусце р. Угры — Вязьма). Прамы шлях (Масква — Мажайск — Вязьма) яшчэ не функцыяніраваў[365].

Яшчэ адной памежнай мажайскай воласцю, вядомай з духоўнай граматы Дзмітрыя Данскога, былі Пневічы. Загор'е было моцна звязана з гэтай воласцю і, магчыма, вылучылася з яе складу (згаданае як «Пневичи с Загорьем»)[366]. У сярэдзіне

---

359 ДДГ. № 89. С. 361.

360 ПСРЛ. Т. I (Лаврентьевская летопись). М., 2001. Стб. 483; Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси. С. 148—149.

361 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 388.

362 ДДГ. № 12. С. 34.

363 Горский А.А. Москва и Орда. С. 18—20; Ён жа. Московские «примыслы» конца XIII—XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 134—138.

364 Тэрмін «Заходняя Русь» не зусім карэктны. Ён сфарміраваўся ва ўмовах панавання ўяўлення аб Маскве як аб цэнтры рускіх зямель, аднак, у адносінах да Кіева (цэнтра Старажытнай Русі) такія тэрыторыі, як Смаленшчына, Полаччына і інш., былі зусім не на захадзе Русі.

365 Тихомиров М.Н. Древняя Москва. XII—XV ст.; Средневековая Россия на международных путях. XIV—XV ст. С. 246.

366 ДДГ. № 12. С. 34.

XVII ст. вызначалася толькі прыблізнае месца Пневічаў — у вярхоўях р. Рузы (левы прыток р. Масквы), на ўсход ад Атвоцкага і Сукроменскага стану[367]. Значыць, Загор'е знаходзілася на поўдзень ад Пневічаў.

Наогул, воласці Пневічы і Загор'е павінны былі быць моцна аддаленымі ад асвоеных у перыяд позняга сярэднявечча зямель. Паводле археалагічных звестак, толькі не вельмі далёка ад вусця Іначы знаходзіліся помнікі XIV ст. і пазней (селішча Глядкава)[368]. Фарпостам маскоўскай улады на захадзе Маскоўскага княства з'яўляўся Тушкаў Гарадок (каля правага берага р. Масквы)[369]. Такое размяшчэнне маскоўскіх уладанняў аж да канца XV ст. цалкам адпавядае заяве С. Герберштэйна пра тое, што ў часы Вітаўта «ўладанні валадароў маскоўскіх распасціраліся на пяць-шэсць міляў за Мажайск»[370].

Зліццё валасцей Цешынавічы і Загор'е ў адзін стан азначае іх блізкае суседства. Аднак падаецца, што ў XV ст. іх падзяляла вялікая прастора незанятай зямлі волга-окскага міжрэчча. Магчыма, толькі разбурэнні перыядаў Лівонскай вайны і Смутнага часу прымусілі аб'яднацца такія розныя гістарычнымі лёсамі і месцазнаходжаннем масівы зямель.

Цешынавічы, відаць, займалі частку цячэння р. Яузы, а яшчэ больш на поўдзень размяшчалася яшчэ адна воласць князёў Крошынскіх — Лела. Яе асяродкам, верагодна, была р. Алеля (на плане Генеральнага межавання канца XVIII ст. — Ляля), левы прыток Яузы[371].

Вызначыць месцазнаходжанне валасцей Надслаўль і Альховец, на жаль, не ўяўляецца магчымым. Верагодна, іх варта шукаць у пустуючай прасторы паміж Фамінска-Беразуйскім княствам і вядомымі валасцямі князёў Крошынскіх.

На жаль, звесткі археалогіі не могуць дапамагчы пры лакалізацыі ўладанняў князёў Крошынскіх. Нешматлікія вядомыя селішчы і гарадзішчы ў разглядаемым рэгіёне цяжка супаставіць з цэнтрамі валасцей (гарадзішчы старажытнарускага часу Спаскае, Гарадок, гарадзішча XI—XVII стст. Карманава). Даследаваных і пазначаных на карце археалагічных помнікаў на межах трох абласцей (Цвярской, Смаленскай і Маскоўскай) вельмі мала. Магчыма, будучыя даследаванні дадуць больш станоўчыя вынікі.

Такім чынам, воласці князёў Крошынскіх займалі прастору на ўсход ад р. Гжаці (прыток Вазузы) па абодвух баках р. Яузы (правы прыток Гжаці). Прыблізна праз вярхоўі р. Яузы паралельна Гжаці праходзіла маскоўска-літоўская мяжа, дакладнае вызначэнне якой немагчыма з-за фрагментарнасці крыніц. Князі Крошынскія, што першапачаткова мелі нейкія землі ў цэнтральнай частцы ВКЛ, пасля 1403—1404 гг. атрымалі на новых межах дзяржавы, верагодна, значна больш буйныя ўладанні. Можна выказаць меркаванне, што маскоўскія асвоеныя землі доўгі час не падыходзілі ўсутыч да іх валасцей. Але калі гэта ўрэшце адбылося, маскоўская ўлада стала распаўсюджвацца далей. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір не здолеў арганізаваць абарону сваіх падданых. Уладанні князёў Крошынскіх

---

[367] Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 388.

[368] Археологическая карта России. Московская область. Ч. 2 / Под ред. Ю.А. Краснова. М., 1995. № 997 (25). С. 85.

[369] Археологическая карта России. Московская область. Ч. 2. № 1033 (5). С. 94—95.

[370] Герберштейн С. Записки о Московии. Т. I. С. 327. Нямецкая міля раўнялася 7420 м, гэта значыць, мяжа ішла прыблізна за 40 км на захад ад Мажайска. Гэта прыблізна ўзровень вусця р. Іначы.

[371] Генерального плана Гжатского уезда часть I, II. Масштаб в 1 дюйме — 2 версты. 1792; Общегеографический региональный атлас «Смоленская область». С. 16—17.

знаходзіліся ў аддаленні ад асноўнага масіву асвоеных зямель ВКЛ, становішча іх гаспадароў было ненадзейным, што і пацвердзілася на самым пачатку маскоўска-літоўскай канфрантацыі ў 1486 г. — князёў проста змялі з тых месцаў, якія «деди и отци их дръжали, и они породилися на той своей отчине»[372].

## 6. Павугор'е і Верхняя Ака ў сістэме абароны Вялікага Княства Літоўскага

Да цяперашняга моманту ў вывучэнні маскоўска-літоўскага памежжа склалася сітуацыя, калі мэтай і аб'ектам даследавання станавілася сама лінія мяжы. У выніку рэканструкцыя канкрэтных меж уладанняў Вялікага Княства Літоўскага і Вялікага Княства Маскоўскага, назіранне за тэрытарыяльнымі зменамі — следствам шэрагу памежных войнаў, вызначэнне складу і адміністрацыйнага падзелу тэрытарыяльных утварэнняў зоны памежжа і іншая блізкая да вызначэння меж тэматыка была ў цэлым добра распрацавана. Пры гэтым ўбаку засталіся вельмі важныя праблемы, звязаныя з забеспячэннем цэласнасці, функцыянаваннем і штодзённым жыццём памежжа. Асаблівай увагі заслугоўваюць мерапрыемствы ВКЛ па фарміраванні сістэмы абароны ўсходняй мяжы сваёй дзяржавы. Першыя тэрытарыяльныя кантакты паміж Масквой і Вільняй праявіліся ў другой палове XIV ст. (Ржэўская зямля, Верхнеокскі рэгіён). І з самага пачатку ў адносінах двух супернічаючых у збіранні рускіх зямель цэнтраў сталі развівацца і нарастаць тэрытарыяльныя праблемы. Перыяд літоўска-маскоўскіх адносін XV — першай трэці XVI ст. характарызаваўся памежнымі канфліктамі (што з канца XV ст. перараслі ў шэраг памежных войнаў), у якіх наступальная ініцыятыва паступова пераходзіла да маскоўскага боку, а ВКЛ было вымушана звяртаць усё болей увагі на абарону сваіх усходніх меж. У гэтай сувязі задачы арганізацыі вартавой службы, забеспячэння аховы камунікацый і агульнага ўзмацнення абарончых магчымасцей слабых участкаў мяжы менавіта літоўскім бокам уяўляюць значную цікавасць для даследавання.

Варта адзначыць, што ўмовы мясцовасці, па якой праходзіла паласа літоўска-маскоўскай мяжы, не былі аднолькавымі. Нейкія раёны вымагалі большай да сябе ўвагі, нейкія наогул не мелі патрэбы ў забеспячэнні сваёй функцыянальнасці. На значным адрэзку вобраз мяжы не ўкладаўся ў сучаснае ўяўленне аб ёй. Палосы незасвоеных, забалочаных або лясных масіваў умоўна служылі мяжой і самім сваім існаваннем мусілі забяспечваць пэўную стабільнасць у адносінах суседніх дзяржаў. З іншага боку, фарміраваліся зоны прамых кантактаў маскоўскіх і літоўскіх уладанняў і нават складваліся ўчасткі сумеснага або цераспалоснага ўладання памежнымі тэрыторыямі. Тут падтрыманне непарушнага і бесканфліктнага стану мяжы, безумоўна, вымагала дыпламатычнага ўрэгулявання. Пры гэтым у некаторых выпадках памежныя адносіны трымаліся правіл і традыцый, якія ўсталяваліся яшчэ да прыходу ў той ці іншы рэгіён маскоўскай або літоўскай улады (напрыклад, у смаленска-цвярскім памежжы).

Канечне, падчас маскоўска-літоўскіх канфліктаў прававыя нормы (у зонах прамых кантактаў) і ўмовы функцыянавання, якія склаліся на неасвоеных прасторах памежжа, адыходзілі на другі план. Мяжа ператваралася, па сутнасці, у ваенны палігон. У непасрэдных дзеяннях каля мяжы варожыя бакі шукалі найбольш зручныя месцы для перакідвання войскаў да ключавых пунктаў ускраінных раёнаў дзяржавы або імкнуліся разнастайным чынам учыніць шкоду свайму ворагу ў памежнай зоне. У

[372] СИРИО. Т. 35. № 18. С. 74.

выніку ваенная неабходнасць прывяла да фарміравання на найбольш небяспечных участках літоўска-маскоўскай мяжы рубяжоў абароны дзеля папярэджвання і, па меры магчымасці, прадухілення агрэсіўных дзеянняў з боку суседа.

Падаецца, што створаная на ўсходняй мяжы ВКЛ сістэма абароны даволі паспяхова спраўлялася з ускладзенымі на яе задачамі. Памежныя гарадкі-крэпасці эфектыўна дзейнічалі супраць нападаў маскоўскіх служылых людзей, абараняючы ад рабункаў і спусташэнняў памежныя тэрыторыі. Для літоўскага боку таксама былі ўласцівы набегі на маскоўскія тэрыторыі, прычым складанасць і заблытанасць памежных адносін не дазваляе вызначыць, які бок быў ініцыятарам агрэсіўных дзеянняў.

У выпадку нападаў значных кантынгентаў маскоўскіх войскаў, арыентаваных на мерапрыемствы зусім не лакальнага характару, памежныя пункты адыгрывалі іншую ролю. Стрымаць ворага яны не маглі, але маглі выконваць функцыю апавяшчэння. Своечасовая інфармацыя ці нават часовая затрымка маскоўскіх войскаў каля мяжы дазваляла сабраць сілы і падрыхтаваць да абароны тыя ключавыя пункты ўскраінных рэгіёнаў ВКЛ (Вязьма, Дарагабуж, Віцебск, Полацк і інш.), якія прыкрывалі важнейшыя шляхі ўглыб ВКЛ і ў якіх часта вырашаўся зыход вайны. Моцныя гарады-крэпасці былі таксама ўключаны ў адзіную сістэму абароны ўсходняй мяжы ВКЛ. А асяродкам кіравання ўсім памежным рэгіёнам быў горад Смаленск[373].

Існаванне ва ўмоўнай лініі маскоўска-літоўскай мяжы ўчасткаў 1) сумеснага ўладання (або цераспалосіцы), 2) прамых кантактаў тэрыторый, а таксама 3) «глухіх» зон з палосамі неасвоеных зямель можа стварыць уяўленне аб асаблівай напружанасці у памежных адносінах менавіта ў месцах сутыкнення меж дзвюх дзяржаў. І сапраўды, цвярскія землі (калі сталі маскоўскімі) у суседстве з вяземскімі, Верхняокскі рэгіён і г.д. сталі асяродкамі канфліктаў. У той жа час да канца XV ст. паміж вяземскімі (якія належалі ВКЛ) і мажайскімі (якія належалі Маскве) землямі не было прыметна варожых адносін. Іх да пэўнага моманту стрымлівала неразмежаваная прастора.

Аднак існаваў раён пастаяннай ваеннай актыўнасці на маскоўска-літоўскай мяжы, у якім маскоўскія і літоўскія ўладанні змыкаліся толькі на невялікім адрэзку. Гаворка ідзе пра рэгіён Павугор'я і часткова Вярхняга Паочча — тэрыторыі па баках р. Угры, ад рэзкага павароту гэтай ракі з паўночнага ўсходу на паўднёвы ўсход да зліцця з Акой і ўніз па Ацэ да г. Любуцка. Пазначаныя часткі цячэння рэк Угры і Акі складаюць як бы адзіную лінію, з напрамкам з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, так што раней яны ўспрымаліся нават як адна рака[374]. Менавіта ўздоўж гэтай лініі складваўся адзін з найбольш важных рубяжоў абароны ўсходняй мяжы ВКЛ.

Характэрна, што да прыходу літоўскай улады з захаду і маскоўскай — з усходу рэгіён Павугор'я амаль не быў закрануты гаспадарчай дзейнасцю чалавека. Ён з'яўляўся крайняй перыферыяй для Смаленскай зямлі і зусім аддаленай ўскраінай для Чарнігаўскага (затым Разанскага) княства.

Асваенне лясных масіваў Павугор'я пачалося даволі позна. Да сярэдзіны XII ст. толькі на верхняе цячэнне р. Угры пашырыліся ўладанні Смаленскага княства. Тады (у 1147 г.) саюзныя з князем Святаславам Усеваладавічам Чарнігаўскім палаўцы былі накіраваны «на Смольняны, и повоеваша Угры верхъ»[375]. У той жа час за

---

[373] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 286—287.

[374] На думку польскага храніста Б. Вапоўскага, Пталемей пазначаў ракой Ра (Rha) спалучэнне рэк Угры, частак Акі і Волгі (Dzieje Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego od roku 1380 do 1535. S. 170).

[375] ПСРЛ. Т. XXV. Московский летописный свод конца XV века. М., 2004. С. 40.

ракой Угрой у вярхоўях р. Протвы (яшчэ адзін левы прыток Акі) жыло балцкае племя голядзь, якое таксама падпарадкоўвалася Смаленску. У 1147 г., захапіўшы Новы Торг (Таржок) і «Мьстоу всю взя» (у «Новгорочкои волости»), суздальскі князь Юрый Уладзіміравіч Даўгарукі загадаў ноўгарад-северскаму князю Святаславу Вольгавічу «Смоленьскоую волость воевати»[376]. Святаслаў паваяваў «люди Голядь верхъ Поротве»[377].

«В восточной половине Смоленской земли», у тым ліку і ў раёне р. Протвы, бліз Павугор'я размясціў некаторыя населеныя пункты Устаўной граматы 1136 г. князя Расціслава Смаленскага П.В. Галубоўскі[378]. Аднак, згодна са справядлівай крытыкай В.В. Сядова і У.А. Кучкіна, Пуцін, Беніцы, Баброўніцы, Даброчкаў і Дабраціна ніяк нельга звязаць з падобнымі па назве паселішчамі каля р. Протвы і далей на ўсход[379]. Смаленскія землі, такім чынам, у старажытнарускі час ледзь дакраналіся рэгіёна Павугор'я.

З другога боку да гэтага рэгіёна паступова набліжаліся ўладанні Чарнігаўскага княства. У вусці р. Протвы знаходзіўся чарнігаўскі г. Лабыньск[380]. Таксама ўся прастора ўздоўж ракі Протвы і яе прытоку Лужы, прынамсі намінальна, падпарадкоўвалася Чарнігаву[381]. Яна заставалася доўгі час у занядбанні, бо археалагічныя дадзеныя сведчаць, што на месцы, напрыклад, такога горада, як Вярэя, проста няма культурнага слоя, ранейшага за XIV ст.[382]. І бліжэйшыя курганы таксама датуюцца

---

376 ПСРЛ. Т. II. Ипатьевская летопись. М., 1998. Стб. 339.

377 Тамсама. Д.П. Макоўскі пісаў пра заснаванне князем Ізяславам на р. Протве пасля заваявання племені голядзь крэпасці Ізяслаўль (Маковский Д.П. Смоленское княжество. Смоленск, 1948. С. 204).

378 Пра датаванне граматы гл.: Щапов Я.Н. Смоленский устав князя Ростислава Мстиславича // Археографический ежегодник за 1962 год. М., 1963. С. 39.

379 Седов В.В. Смоленская земля // Древнерусские княжества X—XIII ст. М., 1975. С. 255—256; Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV ст. С. 83—84.

380 Горад Лабыньск стаяў у вусці р. Протвы, пра што наўпрост кажа Іпацьеўскі летапіс пад 1146 г.: «А Святославъ възвратися поиде оу верх Окы и пришедъ ста на оусть Поротве в городе Лобыньске» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 339, под 6654 г. Гл. таксама: ПСРЛ. Т. VII. Летопись по Воскресенскому списку. М., 2001. С. 38).

381 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 40.

382 Голубева Л.А. Раскопки в Верейском кремле // МИА СССР. № 12. М.; Л., 1949. С. 143. А.А. Юшко падтрымаў Л.А. Голубеву і пісаў пра заснаванне ў XIV ст. такіх гарадоў, як Бораўск, Вярэя і Новы Гарадок. Гл.: Юшко А.А. Московская земля IX—XIV веков. С. 64, 86. П.А. Рапапорт пісаў больш асцярожна: абарончыя сістэмы Вярэі і Рузы былі створаны ў XIV ст. (Раппопорт П.А. Очерки по истории военного зодчества Северо-Восточной и Северо-Западной Руси X—XV ст. // МИА СССР. № 105. М.; Л., 1961. С. 47). М.Г. Рабіновіч сцвярджаў, што Вярэя ўзнікла на мяжы XI і XII стагоддзяў, а паселішча на месцы Рузы існавала ўжо ў IX—X стст. (Рабинович М.Г. К типологии восточнославянских городов. Средневековая Москва и города Московского княжества // Проблемы типологии в этнографии. М., 1979. С. 235, 236). Строга кажучы, меркаваць пра час узнікнення гарадоў у раёне рэк Протвы і Лужы цяжка з прычыны невялікай колькасці праведзеных археалагічных раскопак (Города Подмосковья. Т. 3. М., 1981. С. 504—505). Цалкам магчыма, што згадваная ў 1159 г. Вераісча магла быць пазнейшай Вярэяй (Татищев В.Н. Собрание сочинений: в 8-ми томах. Т. 2, 3. История Российская. Ч. 2. М., 1994. С. 70). Р.Л. Разенфельдт наогул адносіць Вярэйскае гарадзішча да ліку ранніх славянскіх паселішчаў Падмаскоўя (Розенфельдт Р.Л. Древнейшие города Подмосковья и процесс их возникновения (по археологическим материалам) // Русский город. М., 1976. С. 12).

XIV ст.[383]. У сярэдзіне XIII ст. ад Чарнігаўскага адасобіліся тры княствы, што атрымалі ў даследчыкаў агульную назву Вярхоўскіх (Верхняокскіх) — Навасільскае, Карачаўскае і Тарускае[384]. Тэрыторыя Вярхоўскіх княстваў ахоплівала прастору па абодвух баках Верхняй Акі, з уключэннем такіх яе буйных прытокаў, як Зуша, Жыздра, Таруса, Протва, часткова Упа і Угра. Прынята лічыць, што ў нейкі момант у другой палове XIII — пачатку XIV ст. намінальная ўлада над землямі па рэках Протве і Лужы без цяжкасці перайшла ад чарнігаўскіх князёў да разанскіх[385].

Умоўны характар уладання слаба асвоенымі землямі для Разані — за р. Акой, а для Смаленска — за р. Угрой з'явіўся адной з прычын нарастання ўплыву ў гэтым рэгіёне Вялікага Княства Маскоўскага. Разгляданая тэрыторыя геапалітычна, безумоўна, адчувала большае прыцягненне да Масквы, чым да такіх аддаленых цэнтраў, як Разань і Смаленск. У гэтай сувязі характэрны абмен тэрыторыямі, які быў зацверджаны паміж Масквой і Разанню ў 1381 г.[386]. Першая набыла землі на левым («Маскоўскім») баку Акі, а другой дасталіся маскоўскія ўладанні («что доселе потягло къ Москве») у правабярэжжы Акі (на «Рязанской» стороне)[387].

Таксама «смолняне» саступілі каля 1371 г. маскоўскаму баярыну Фёдару Андрэевічу Свіблу Мядынь[388] (на р. Мядынцы, каля левага прытоку р. Угры — Шані). Непадалёку ад р. Угры ў XIV ст. захоўваліся і ўладанні князёў чарнігаўскага роду. Так, маскоўскі князь Сямён Іванавіч да канца 40-х — пачатку 50-х гг. XIV ст. набыў у князя Сямёна Навасільскага воласць Забярэгу[389] — у вярхоўях р. Протвы, за яе прытокам р. Бярэгай[390]. Да былых чарнігаўскіх зямель адносілася, верагодна, і Калуга, упершыню згаданая ў 1371 г. як пункт, адабраны Масквой у вялікага князя літоўскага Альгерда[391]. Калугу як сваю страту назваў у пасланні патрыярху Філафею сам вялікі князь літоўскі. Але, відаць, непасрэдна ён Калугай не валодаў. Згадка ў пасланні 1371 г. маскоўскага нападу на навасільскага князя Івана (адбыўся, верагодна, у 1370 г., падчас маскоўскага паходу на Бранск)[392] — саюзніка Альгерда,

383 Тамсама.

384 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 30.

385 Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII—XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 149—150.

386 Пра датаванне маскоўска-разанскай дамовы гл.: Зимин А.А. О хронологии духовных и договорных грамот великих и удельных князей XIV—XV ст. С. 286, 322; Кучкин В.А. Договорные грамоты московских князей XIV ст.: внешнеполитическое договоры. С. 245—249.

387 ДДГ. № 10. С. 29.

388 ДДГ. № 12. С. 34. Датаванне гэтай падзеі звязваецца з літоўска-маскоўскай дамовай 1371 г. (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 143). У.А. Кучкін падае іншую дату — 1368 г. (Кучкин В.А. Последнее завещание Дмитрия Донского. С. 143).

389 ДДГ. № 2. С. 12; № 3. С. 14.

390 Звязваецца з Зарубежскім станам Вярэйскага ўезда (Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 374; Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 62; Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV ст. С. 78).

391 Памятники древнерусского канонического права. № 24. Стб. 138; Кучкин В.А. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой. С. 50—51. Прим. 135; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 150.

392 Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле. С. 152—153; Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 66; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII—XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 150. Прим. 194.

дае некаторыя падставы залічыць Калугу да тэрыторыі Навасільскага княства[393]. Аднак паводле свайго месцазнаходжання яна больш цягнулася да суседняй Тарусы: за Акой ляжалі неасвоеныя землі і, крыху далей на ўсход, уладанні Любуцка. Такім чынам, паміж асноўным масівам Навасільскага княства ўзнікаў буфер, які абапіраўся на прыродны бар'ер — р. Аку.

Непасрэдна да воласці Калугі прымыкала Таруска-Абаленскае княства (што таксама вылучылася з Чарнігаўскага), яго князі паступова распрадавалі свае ўладанні і ўсё больш уцягваліся ў залежнасць ад Масквы. У 1392 г. маскоўскі вялікі князь Васілій I Дзмітрыевіч набыў у Ардзе вярхоўныя правы на Тарусу[394]. Частка тарускіх князёў пасля гэтага перайшла на службу да вялікага князя літоўскага Вітаўта, які выдзеліў ім значныя ўладанні са складу карачаўскіх, казельскіх і бялёўскіх зямель[395]. Па цэнтры гэтых уладанняў — Мезецку (Мязочаску, Мяшчоўску) адна з галін тарускіх князёў стала называцца мезецкімі. Тарускія і абаленскія князі, якія засталіся на маскоўскай службе, працягвалі валодаць сваімі вотчынамі, але значную частку сваіх уладанняў яны ўжо страцілі. Так, на ўсход ад Калугі вызначаецца месца «Пересветовой купли» — тэрыторыя ўздоўж левага берагу р. Акі[396], якую набыў у тарускіх князёў бранскі баярын Аляксандр Перасвет, які выехаў у 1370—1371 гг. на службу ў Маскву[397]. Свае новыя ўладанні баярын мог «высмотреть» з-за р. Акі, бо якраз насупраць іх размяшчаліся землі, якія адносіліся да Любуцка, а апошні, у сваю чаргу, мог быць бранскім (чарнігаўскім) анклавам. Верагодна, што разам з далучэннем Бранска (неўзабаве пасля 1356 г.)[398] ВКЛ распаўсюдзіла сваю ўладу і на Любуцк.

Сувязь Любуцка з Бранскам з'яўляецца толькі гіпотэзай, вынікам назіранняў за сумеснымі дзеяннямі бранскіх і любуцкіх баяр. Да гэтага часу выказваліся меркаванні аб першапачатковай прыналежнасці Любуцка Разані (М.К. Любаўскі) або Навасіллю (А.А. Горскі). Першае грунтуецца на існаванні аднайменнага пункта ў Разанскім княстве і нібыта імкненні разанцаў адваяваць гэты горад у ВКЛ[399]. Другое — на яшчэ больш хісткім падмурку: згадцы Любуцка ў «Спісе гарадоў рускіх дальніх и бліжніх» паміж Адоевым і Навасіллю[400].

---

393 Кучкин В.А. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой. С. 50—51. Прим. 135; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 150.

394 ПСРЛ. Т. IV. Ч. 1. Вып. 2. Новгородская 4-я летопись. Л., 1925. С. 373; Т. V. СПб., 1851. С. 245; Фетищев С.А. К вопросу о присоединении Муромы, Мещеры, Тарусы и Козельска к Московскому княжеству в 90-е гг. XIV ст. С. 35—36, 38; Ён жа. Московская Русь после Дмитрия Донского: 1389—1395 гг. М., 2003. С. 117.

395 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 37.

396 Упершыню згадваецца ў дагаворы вялікага князя Васілія I з князем Уладзімірам Андрэевічам Серпухаўскім, заключаным паміж пачаткам траўня 1402 — 20 ліпеня 1404 г. (ДДГ. № 16. С. 43). Пра датаванне дагавора гл.: Кучкин В.А. К характеристике второго договора Василия I с Владимиром Серпуховским // Великий Новгород и средневековая Русь. М., 2009. С. 403). Атаясамліваецца з Куплінскім станам Калужскага ўезда XVI ст. (Водарский Я.Е. Население России в конце XVII — начале XVIII ст. С. 238).

397 «Александръ Пересветъ, бывъ преже бояринъ Дьбряньскыи» (ПСРЛ. Т. XXV. С. 204; Кузьмин А.В. Андрей Ослябя, Александр Пересвет и их потомки в конце XIV — первой половине XVI века. С. 17, 19).

398 ПСРЛ. Т. X (Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью). М., 2000. С. 228.

399 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 52.

400 Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 151.

Любуцк займаў надзвычай важнае становішча ў вярхоўях р. Акі, і ліквідацыя пагрозы, што зыходзіла ад яго, стала адной з важнейшых задач для маскоўскага ўрада. У адрозненне ад сістэмы абароны, якая складвалася ўздоўж лініі р. Угры, кароткая лінія мяжы па р. Ацэ ў раёне Любуцка для ВКЛ выкарыстоўвалася таксама і з супрацьлеглай мэтай — для нападу на маскоўскія землі. Тут знаходзіліся брады, якія выкарыстоўвалі пры нападах на левы (маскоўскі) бераг Акі, зручна было канцэнтраваць войскі, каб самім рыхтавацца для нападу, а таксама сустракаць маскоўскія і разанскія войскі ў выпадку іх уступлення на тэрыторыю ВКЛ.

У 1402 г. горад быў яшчэ літоўскім[401]. Але калі меркаваць па дамове, заключанай паміж Васіліем I і серпухаўскім князем Уладзімірам Андрэевічам паміж 1402—1404 гг.[402], Любуцк стаў належаць Маскве[403]. Такім, праўда, ён заставаўся толькі на кароткі час і да 1408 г. вярнуўся пад уладу ВКЛ, ізноў стварыўшы асяродак напружанасці на літоўска-маскоўскай мяжы.

З'яўленне ў канцы XV ст. у межах ВКЛ двухскладовага Мцэнска-Любуцкага намесніцтва[404] і згадванне з пачатку 20-х гг. XV ст. толькі мцэнскага намесніка, магчыма, можа сведчыць пра больш позні ўзрост Любуцка пад уладай ВКЛ. Таксама і памежныя канфлікты ў яго ваколіцах фіксуюцца крыніцамі толькі з 1474 г.[405]. Аднак шэраг ключавых дат дазваляе пераканацца ў пастаяннай прыналежнасці Любуцка ВКЛ. Так, у 1408 г. разам з князем Свідрыгайлам у Маскву сярод іншых рушылі і «любутьскые» баяры[406]. У спісе гарадоў, якімі валодаў Свідрыгайла каля 1432 г. пералічаны і Любуцк (Lyubutesk)[407]. Нарэшце, у маскоўска-літоўскай дамове пра «вечны» мір 1449 г. вялікі князь маскоўскі Васілій II абавязаўся «не въступатисе» у «Любутескъ»[408]. Ніякіх, нават ускосных звестак, якія б дазволілі, напрыклад, убачыць горад маскоўскім паміж пазначанымі датамі, няма. Такім чынам, амаль непарыўна на працягу другой паловы XIV—XV ст. Любуцкам валодала ВКЛ. Характэрна, што нават пасля першай маскоўска-літоўскай памежнай вайны 1486—1494 гг. і заключанага «вечнага» міра, калі мяжа сышла на захад ад горада, за левы бераг р. Акі, сам ён застаўся (у якасці анклаву) пад літоўскай уладай. Толькі ў выніку наступнай вайны (1500—1503 гг.) Любуцк назаўсёды быў страчаны ВКЛ.

Калі па р. Ацэ ў раёне Любуцка ў канцы XIV ст. цвёрда ўсталяваўся ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы з прамым кантактам тэрыторый дзвюх дзяржаў, то астатняя частка памежжа (у асноўным у Павугор'і) знаходзілася яшчэ ў стадыі фарміравання.

---

401 ПСРЛ. Т. XXV. С. 231.

402 ДДГ. № 16. С. 44.

403 Кучкин В.А. Об одной лакуне во втором договоре Василия I с Владимиром Серпуховским // Особенности российского исторического процесса: Сборник статей памяти академика Л.В. Милова (к 80-летию со дня рождения). М., 2009. С. 90—91 и др.

404 У 1467 г. у Метрыцы ВКЛ згадваецца смаленскі, любуцкі і мцэнскі намеснік Мікалай Неміровіч. LM. Kn. 3 (1440—1498) / Parengė L. Anužutė ir A. Baliulis. Vilnius, 1998. P. 44). Такім чынам, у той час нават Мцэнскае намесніцтва не было вылучана адміністрацыйна.

405 ПСРЛ. Т. VI (Софийские летописи). М., 2000. С. 198; Т. VIII (Продолжение летописи по Воскресенскому списку). М., 2001. С. 178.

406 ПСРЛ. Т. XXV. С. 237.

407 Коцебу А. Свитригайло, великий князь Литовский или Дополнение к историям Литовской, Российской, Польской и Прусской. СПб., 1835. Прибавления. С. 130; Skarbiec diplomatów papiezkich, cesarskich, królewskich, książęcych; uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów. № 746. S. 330.

408 ДДГ. № 53. С. 160.

Прастора на захад ад р. Протвы і яе прытокаў у напрамку р. Угры ў другой палове XIV — пачатку XV стст. актыўна асвойвалася дзякуючы дзейнасці маскоўскіх удзельных князёў[409]. Паміж 1353—1359 гг. Масква завалодала так званымі «местами рязанскими» па р. Протве і яе правых прытоках (найперш Лужы)[410]. Значная частка былых «мест рязанских» была перададзена ва ўдзел князю Уладзіміру Андрэевічу[411], і пасля гэтага пачалося іх актыўнае асваенне. Лужа і Бораўск ператварыліся ў гарады з цягнучымі да іх валасцямі[412]. Новыя воласці і слабоды запоўнілі прастору з левага боку р. Лужы ад вярхоўяў да яе лукавіны на поўнач (Сасновец, Лавышына, Тур'і Горы, Бубол), а пасля і з правага боку (Вяпрэйка)[413]. Таксама і на поўдзень ад г. Лужы з'явіліся воласці Макавец і Сятунка[414]. Апошнія былі найбольш аддаленыя на поўдзень з усіх маскоўскіх уладанняў, але не дасягалі р. Угры. Толькі далучэнне да 1371 г. Калугі і Рошчы[415], магчыма, адкрывала Маскве доступ да самых нізоўяў р. Угры[416]. Воласць Калуга займала, відавочна, прастору вакол р. Калужкі (левы прыток Акі), а Рошча размяшчалася ў сярэднім цячэнні р. Тарусы, вакол яе левага прытока Рошчы[417]. Паміж Калугай і Рошчай, тэрытарыяльна далёкіх адна ад другой, на пачатку XV ст. з'явіўся Лісін — воласць у верхнім цячэнні р. Тарусы[418]. Акрамя таго, у другой палове XIV ст. маскоўскі (былы бранскі) баярын Аляксандр Перасвет набыў даволі значную частку тарускіх уладанняў уздоўж берага ракі Акі на захад ад Алексіна, названых «Пересветовой куплей»[419]. У выніку маскоўскія ўладанні з некалькіх бакоў абступілі тэрыторыю Тарускага княства. Нарэшце, у 1392 г. маскоўскі вялікі князь Васілій І купіў у Ардзе ў Тахтамыша ярлык на г. Тарусу, і, у выніку, — вярхоўную ўладу над тарускімі князямі, некаторыя з якіх працягвалі валодаць сваімі землямі, а другія перайшлі на службу да Вітаўта[420]. У атачэнні маскоўскіх

409 Падрабязна пра асваенне міжрэчча рэк Протвы і Угры гл.: Темушев В.Н. Западная граница Великого Княжества Московского к 1380 г. С. 89—95.

410 ДДГ. № 4. С. 15, 18; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII—XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 150; Темушев В.Н. Приобретения московских князей в середине XIV ст. «Иная места Рязаньская». С. 18—21; Темушев В.Н. Западная граница Великого Княжества Московского к 1380 г. С. 89—92.

411 ДДГ. № 11. С. 31.

412 ДДГ. № 17. С. 47.

413 АСЭИ Северо-Восточной Руси конца XIV — начала XVI ст. Т. 1. № 257. С. 185—187; Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей как историко-географический источник. Ч. II. СПб., 1902. С. 13—14; Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 550 и карта; Мазуров А.Б., Никандров А.Ю. Русский удел эпохи создания единого государства. С. 56.

414 Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей. С. 14; Мазуров А.Б., Никандров А.Ю. Русский удел эпохи создания единого государства. С. 56.

415 ДДГ. № 12. С. 34; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 150.

416 Темушев В.Н. Западная граница Великого Княжества Московского к 1380 г. С. 95.

417 Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей. С. 22—23.

418 Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей. С. 2; Мазуров А.Б., Никандров А.Ю. Русский удел эпохи создания единого государства. С. 50.

419 ДДГ. №. 16. С. 43; Кузьмин А.В. Андрей Ослябя, Александр Пересвет и их потомки в конце XIV — первой половине XVI века. С. 20—21.

420 ПСРЛ. Т. IV. Ч. 1. Вып. 2. Новгородская 4-я летопись. Л., 1925. С. 373; Т. V. Софийская 1-я летопись. СПб., 1851. С. 245; Шеков А.В. Верховские княжества. С. 37; Фетищев С.А. К вопросу о присоединении Муромы, Мещеры, Тарусы и Козельска к Московскому княжеству в 90-е гг. XIV ст. С. 35—36, 38; Ён жа. Московская Русь после Дмитрия Донского: 1389—1395 гг. М., 2003. С. 117.

уладанняў аказаліся таксама вотчыны князёў Абаленскіх[421]. Апошнія страцілі статус незалежных валадараў і паступілі на службу да вялікага князя маскоўскага[422].

У канцы XIV ст. маскоўскія ўладанні пашырыліся таксама на поўдзень ад р. Угры і за р. Аку. Пад непасрэднае кіраванне Васілія I трапіла Казельскае княства[423]. Паміж 1402—1404 гг. Казельск быў далучаны да ўдзела серпухаўскага князя Уладзіміра Андрэевіча Храбрага[424]. Але ўжо ў 1406 г. горад стаў набыткам Вялікага Княства Літоўскага[425]. Тады ж быў захоплены і Варатынск[426]. Відавочна, абодва гарады да таго часу падначальваліся Маскве, бо ў паходзе 1406 г. князь Лугвень Альгердавіч (ён узначальваў літоўскае войска)[427], «въступль же глубле въ страну Московскую, градъ Воротынескъ взяша, и въ Козелсте посадиша посадникы своа»[428]. ВКЛ толькі ў 1404 г. канчаткова замацавала за сабой Смаленск, прасунула свае ўладанні да р. Угры, а ўжо ў 1406 г. стала актыўна распаўсюджваць сваю ўладу далей на ўсход. Праўда, верагодна, у 1408 г., паводле ўмоў маскоўска-літоўскага міру, заключанага «по давному»[429], Казельск павінен быў вярнуцца ў склад Вялікага Княства Маскоўскага. У тэстаментах Васілія I ён не быў названы[430]. Тым не менш у дамове 1433 г. вялікага князя маскоўскага Васілія II Васільевіча з серпухаўска-бораўскім князем Васіліем Яраславічам у сувязі з прыналежнасцю Казельска першаму сказана: «А чем, г(осподи)не, княз(ь) велики, бл(а)гословил тебя от(е)ць твои, княз(ь) велики Василеи Дмитреевич». Пры гэтым, аднак, быў названы не сам Казельск, а толькі «козельские места»[431]. Зрэшты, у заключанай у тым жа годзе дамове Васілія II з галіцкім князем Юрыем Дзмітрыевічам тая ж фармулёўка паўтараецца, але Васілій I благаславіў старэйшага сына «Козельском с месты»[432]. Такім чынам, можна зрабіць выснову аб тым, што паміж 1423—1425 гг., гэта значыць у перыяд паміж напісаннем 3-й духоўнай Васіліем I і ягонай смерцю (1425 г.) Казельск зноў стаў маскоўскім, прычым у гэты раз не быў аднесены да ўдзельных уладанняў, а застаўся ў складзе

[421] Гл., напрыклад: АСЭИ. Т. 1. № 504. С. 382—383, 627, № 607. С. 505, 632, № 608. С. 515, № 609. С. 518, № 610. С. 519, № 681. С. 543. Сам г. Абаленск знаходзіўся каля р. Протвы (АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 322/185. С. 129).

[422] Кобрин В.Б. Власть и собственность в средневековой России. С. 59; Ён жа. Землевладельческие права княжат в XV — первой трети XVI ст. и процесс централизации Руси // История СССР. 1981. № 4. С. 42.

[423] Фетищев С.А. К вопросу о присоединении Муромы, Мещеры, Тарусы и Козельска. С. 36—38.

[424] ДДГ. № 16. С. 43.

[425] ПСРЛ. Т. XV (Рогожский летописец. Тверской сборник). М., 2000. Стб. 472; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 461.

[426] Тамсама.

[427] Codex epistolaris Vitoldi magni ducis lithuanie. № 369. P. 150.

[428] ПСРЛ. Т. XV. Стб. 472.

[429] ПСРЛ. Т. XXV. С. 238. Гл. таксама: ПСРЛ. Т. VIII. С. 82; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 468; ПСРЛ. Т. XVIII (Симеоновская летопись). М., 2007. С. 155; Т. XXVI (Вологодско-Пермская летопись). М., 2007. С. 175. Паводле Львоўскага летапісу — 11 верасня «миръ взяша вечный по преднему докончанию» (ПСРЛ. Т. XX (Львовская летопись). М., 2005. С. 225).

[430] ДДГ. № 20. С. 55—57; № 21. С. 57—60; № 22. С. 60—62.

[431] ДДГ. № 27. С. 70.

[432] Тамсама. № 30. С. 76.

вялікакняжацкіх зямель[433]. У далейшым (у 30—40-я гг. XV ст.) Казельск з некаторымі сваімі валасцямі неаднаразова згадваўся сярод уладанняў вялікага князя маскоўскага і ўдзельных маскоўскіх князёў[434]. Толькі да 1448 г. ВКЛ ізноў авалодала Казельскам. 5 лютага 1448 г. горад атрымаў у «держан(ь)е» ад караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра князь Фёдар Львовіч Варатынскі[435]. У 1488 г. Казельск атрымаў князь Дзмітрый Фёдаравіч Варатынскі[436], а ўжо ў снежні 1489 г. апошні разам з усімі сваімі ўладаннямі перайшоў на маскоўскую службу[437]. Канчаткова горад быў замацаваны за Масквой згодна з мірам 1494 г.[438].

З валасцей, якія згадваюцца ў крыніцах разам з Казельскам, называюцца Серанск (Cеранеск) і Людзімск (Людзімеск)[439]. З іх апошні знаходзіўся зусім блізка ад нізоўяў р. Угры, прычым з яе правага боку[440]. Для ўлад ВКЛ, безумоўна, важна было выправіць узніклую сітуацыю, калі Масква магла кантраляваць важныя шляхі, што вялі ўглыб дзяржавы (да Дарагабужа, Вязьмы, Бранска), і перакрывалі доступ да Варатынска, Адоева і іншых цэнтраў Верхнеокскага рэгіёна. Але, падаецца, што ў перыяд уладання Казельскам і навакольнай тэрыторыяй (пасля 1430 і да пачатку 1448 г.), падчас якога адбываліся сур'ёзныя ўнутраныя бязладдзіцы, Вялікае Княства Маскоўскае не здолела адчувальна паўплываць на памежныя адносіны ў раёне Павугор'я.

Непасрэдным маскоўскім суседам у раёне Павугор'я станавілася Навасільскае княства, а дакладней — яго Варатынскі ўдзел, што вылучыўся пад канец XIV ст.[441]. Горад Варатынск на р. Высе, левым прытоку Акі[442], размешчаны зусім блізка ад вусця р. Угры. Можна было б выказаць здагадку аб працягласці варатынскіх уладанняў да цячэння апошняй[443], калі б не існаванне Крайшына — воласці, цэнтр якой знаходзіўся паміж Варатынскам і вусцем р. Угры. Воласць Крайшына «по обе стороне Высы реки» была пажалавана каралём і вялікім князем Казімірам князю Фёдару Львовічу Варатынскаму «у вотчину и его детемъ» толькі ў 1455 г.[444]. Цэнтр воласці атаясамляецца з сялом Спаскім (суч. Спас) каля самага вусця р. Угры і каля

433 А.А. Горскі лічыў, што Вітаўт утрымліваў Казельск да сваёй смерці — 1430 г. (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 162).

434 ДДГ. № 30. С. 76, 78; № 41. С. 122; № 45. С. 129, 132, 135, 138; № 46. С. 141; № 48. С. 147.

435 Тамсама. № 49. С. 149.

436 Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. I. 1377—1499. Warszawa, 1930. S. 392; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 92.

437 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 47—48; № 14. С. 54; Памятники истории Восточной Европы. Источники XV—XVII ст. Т. II. «Выписка из посольских книг» о сношениях Российского государства с Польско-Литовским за 1487—1572 гг. / Составитель Б.Н. Морозов (далей: «Выписка из посольских книг»). М.; Варшава, 1997. С. 42; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 91—92.

438 ДДГ. № 83. С. 330.

439 Тамсама. № 41. С. 122; № 48. С. 147; № 83. С. 330. Над Серанскам з часоў Альгерда ўсталявалася сумеснае маскоўска-літоўскае кіраванне (СИРИО. Т. 35. № 24. С. 121; ДДГ. № 53. С. 161).

440 Атаясамліваецца з гарадзішчам каля в. Грышава Бабынінскага раёна Калужскай вобласці Расійскай Федэрацыі (АКР: Калужская область. Изд. 2-е. М., 2006. № 107/44. С. 79—80).

441 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 131; Шеков А.В. Верховские княжества. С. 30.

442 АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 556/411. С. 194—195.

443 Так меркаваў С.М. Кучыньскі (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 61).

444 АЗР. Т. I. № 57. С. 70; LM. Kn. 3. P. 39; СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

Акі[445]. Спас-Гарадок — гарадзішча з навакольнымі селішчамі, з'яўляўся буйным паселішчам ужо ў час Старажытнай Русі[446]. Можна меркаваць, што ўладанне пунктам, які ставіў пад кантроль шлях праз р. Угру каля яе вусця, прыносіла Варатынскім немалы прыбытак. З іншага боку, абавязкі памежнай службы таксама леглі на плечы гэтых князёў.

У тым жа 1455 г. у склад Варатынскіх уладанняў увайшоў Лагінеск, што ляжаў на поўдзень ад сталіцы княства[447]. Такім чынам, выяўляецца, што з уладанняў Варатынскага княства толькі сам горад Варатынск з невялікай акругай з самага пачатку знаходзіўся на левым баку р. Акі[448]. Увесь асноўны масіў княства быў згрупаваны на правабярэжжы.

Тэрытарыяльную прыналежнасць Крайшына, а значыць і вусця р. Угры да сярэдзіны XV ст. вызначыць складана. Згодна са спісам 1494 г., прадастаўленым падчас перамоў літоўскімі пасламі маскоўскім баярам, Крайшына, як і Лагінеск, лічыліся смаленскімі валасцямі[449]. Але там і цэлы шэраг іншых валасцей, а таксама гарадоў былі залічаны да Смаленска. Верагодна, змест спіса сведчыў аб падначаленні некаторых гарадоў і валасцей вялікаму князю літоўскаму і кіраванне імі праз смаленскіх ураднікаў. Пры гэтым ігнаравалася тэрытарыяльная структура, што склалася гістарычна. Можна толькі меркаваць, што да пачатку XV ст. частка зямель у Павугор'і падначальвалася Карачаву. Калі вялікі князь Вітаўт ліквідаваў Карачаўскае княства, многія землі, у тым ліку, магчыма, і ў раёне Угры, склалі фонд гаспадарскіх уладанняў.

У склад Карачаўскага княства да пачатку XV ст., відаць, уваходзіў яшчэ шэраг валасцей у Павугор'і: Ганвенца (?), Апакаў, Недаходаў, Бушкевічы (Бышкавічы), Лычына і Ашчыцеск (Ашчытаў). Паводле запісаў у кнізе данін Казіміра Метрыкі ВКЛ гэтыя ўладанні («братня Анъреевая доля»), за выключэннем Ашчыцеска, паміж 1440 — пачаткам 1443 гг. атрымаў князь Юрый Міхайлавіч[450], які хутчэй за ўсё

---

445 Зельницкая Е.Г. Исследование древних исторических мест или урочищ, которые должны находиться в пределах нынешней Калужской губернии // Отечественные записки. Ч. 27. СПб., 1826. С. 81—83; Беляев Л.А. Спасский «на Усть-Угры» монастырь в XVI веке (Археология, история, архитектура) // Реставрация и архитектурная археология. Новые материалы и исследования. Вып. II. М., 1995. С. 55, 64—65, 67, 69. Складальнікі Археалагічнай карты Калужскай вобласці прывялі памылковае меркаванне аб атаясамліванні гарадзішча Спас-Гарадок з Варатынскам Старым, які згадваўся ў падзеях 1480 г. (АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 91/31. С. 73—74).

446 Никольская Т.Н. Земля вятичей: К истории населения бассейна верхней и средней Оки в IX—XIII ст. М., 1981. С. 164, 167.

447 Зельницкая Е.Г. Исследование древних исторических мест или урочищ, которые должны находиться в пределах нынешней Калужской губернии. С. 84—85; АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 574/421. С. 198.

448 Магчыма, сам горад Варатынск калісьці належаў Карачаўскаму княству, горад жа быў перанесены на новае месца з берагоў р. Зушы, правага прытоку Акі толькі ў канцы XIV — пачатку XV ст. Гэтае меркаванне часткова пацвярджаецца археалагічнымі звесткамі: на гарадзішчы адсутнічае слой XI—XIII стст., а асноўная маса знаходак адносіцца да XV—XVI стст. Зусім побач з Варатынскам Старым знаходзіўся горад Навасіль, з якога ў 1375 г. «от насилья от татарского» рэзідэнцыя князёў была перанесена ў Адоеў (Редкие источники по истории России. Вып. 2: Новые родословные книги XVI ст. М., 1977. С. 112). Ці не было запусценне старога Варатынска і ўзнікненне новага звязана з тымі ж падзеямі? Хаця асобныя знаходкі дамангольскага часу на гарадзішчы Варатынска ўсё ж былі выяўлены (АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 556/411. С. 194; Памятники истории и культуры национального парка «Угра» / Под ред. В.П. Новикова, Т.А. Гордеевой. Калуга, 2007. С. 38).

449 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 118.

450 LM. Kn. 3. P. 31.

справядліва атаясамляецца з унукам масальскага князя Святаслава Цітавіча[451]; Ашчыцеск (супастаўляецца з вядомай у канцы XV ст. смаленскай воласцю Ашчытаў) быў дадзены паміж 1440—1447 гг. вялікім князем Казімірам масальскаму князю Валодку[452]. 7 лістапада 1449 г. («инъдикт 13, ноября 7») апошні атрымаў таксама пустую воластку Недаходаў[453].

Масальскам у XV ст. працягвалі валодаць не паводле княжацкага права, а паводле права вотчыны князі з роду карачаўскіх[454], але сам горад і пералічаныя воласці, без сумнення, адносіліся да даўняй тэрыторыі Карачаўскага княства[455]. У 1449 г. толькі адзін Недаходаў быў дадзены князю Валодку Масальскаму (Уладзіміру Юр'евічу)[456], што ўскосна сведчыць пра смерць другога брата Міхайлавіча і пераход усіх яго валасцей да вялікага князя літоўскага. З новых гаспадарскіх уладанняў толькі воластка Недаходаў, якая засталася без гаспадара («пуста деи, а не дана никому»), была размеркавана, астатнія, відаць, засталіся ў вялікакняжацкім фондзе.

Праблем з лакалізацыяй валасцей, блізкіх да р. Угры, не ўзнікае. Толькі Ганвенца цяжка супаставіць з якім-небудзь населеным пунктам Павугор'я. Пасля сярэдзіны XV ст. ён у крыніцах больш не згадваўся. Цалкам магчыма, што ў працэсе перапісвання 3-й кнігі Метрыкі ВКЛ у канцы XVI ст. назва воласці была скажоная[457]. Напрыклад, выпадкова двойчы была пастаўлена вынасная «н». Паходжанне назвы воласці ў такім выпадку можна звязаць з імем Говен (Гавенец). Яно сустракаецца ў той жа 3-й кнізе запісаў[458]. Сярод станаў Варатынскага ўезда канца XVII — пачатку XVIII ст. вядомы Гавенскі стан[459]. Ён ляжаў на поўнач ад Варатынска каля правага берага р. Угры на поўдзень ад Залідаўскага стана Мяшчоўскага ўезда[460]. Зусім побач, на захадзе, можна заўважыць групу валасцей (Бышкавічы, Лычына і Недаходава). Верагодней за ўсё сярод іх і была згаданая ў сярэдзіне XV ст. воласць Ганвенца.

Акрамя таго, у раёне, блізкім да Ашчытава (суч. Фядоткава)[461], што размяшчаўся на паўночным захадзе ад Дзмітраўца на р. Угры, з XVII ст. вядома сяло Гавяндзегі

---

451 Пра існаванне сына Міхаіла ў князя Святаслава Цітавіча, невядомага з радаслоўцаў, гл.: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 231.

452 LM. Kn. 3. P. 46.

453 Тамсама. P. 37.

454 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 61—62.

455 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 52.

456 LM. Kn. 3. P. 37.

457 Варыянт напісання «Гонвенце», дзе прысутнічаюць дзве вынасныя літары «н», несумненны (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. КМФ—18 (Ф. 389). Оп. 1. Д. 3. Л. 15 б.).

458 LM. Kn. 3. P. 23, 65.

459 Водарский Я.Е. Население России в конце XVII начале XVIII ст. С. 236. Карта на с. 256—257.

460 Тамсама. С. 256—257 (карта).

461 АКР: Смоленская область. Ч. 2 / Сост. Ю.А. Краснов, С.Е. Михальченко, В.С. Нефедов, Г.К. Патрик. М., 1997. № 1359. С. 153—154. Гарадзішча не было ідэнтыфікавана як Ашчытаў. Такая выснова падмацоўваецца матэрыяламі пасольскіх кніг (прыблізнае размяшчэнне адносна іншых населеных пунктаў) і дзякуючы сведчанню плана XVIII ст., на якім пазначана р. Шчытоўка, якая ўпадае ў р. Угру каля сяла Фядоткава (Геометрический план Юхновского целого уезда со всеми внутри оного лежащими градскими, казенными и владельческими землями с показанием в нем каждого селения с отделением градскими и специальными от других межами, сочинен в смоленской межевой конторе землемером прапорщиком Григорьевым Накоскиным в 1780 году, января 10 дня. В 1 дюйме — 500 саженей).

(Гавяндзюгі, суч. Знаменка), што знаходзілася таксама на правым беразе р. Угры, на паўднёвым захадзе, пасля рэзкага выгібу ракі[462]. Сяло адносілася да Вялікапольскага стана Вяземскага ўезда. Улічваючы месца с. Гавяндзюгі (побач з Ашчытавым) і некаторае падабенства назвы (адзін корань, звязаны з імем Гавен), яго можна атаясаміць з цэнтрам воласці XV ст. Ганвенца. У выніку з'яўляецца верагоднасць значнай аддаленасці часткі комплекса ўладанняў масальскіх князёў (Ашчыцеск-Ганвенца) ад асноўнага масіву іх валасцей, што размяшчаліся ў нізоўях Угры.

Лакалізацыя Апакава не выклікае цяжкасцей. Яго гарадзішча размешчана на мысе правага берага р. Угры, на паўночна-заходняй ускраіне с. Палаткі Юхноўскага раёна Калужскай вобласці[463]. У выніку нядаўніх раскопак на Апакаўскім гарадзішчы, у паўночнай, найбольш узвышанай яго частцы, каля самага краю, былі знойдзены рэшткі каменнай вартавой вежы, збудаванай з вялікіх кавалкаў вапняку[464]. Такім чынам, пацвердзілася заўвага перапісчыка духоўнай граматы Івана Грознага 1572 г., у якой сказана: «Опаков ныне село в Медынском уезде, в котором знак каменная палатка доднесь осталась. Сей был на границе Литовского владения во время Витолдово, но великий князь Василей Иванович с прочими от Литвы взял в... году»[465]. «Каменная палатка» — гэта, без сумнення, рэшткі паўразбуранай вежы. Дарэчы, гэтае збудаванне, відаць, і дало новую назву Апакаву.

Вышэй Апакава па цячэнні р. Угры з левага боку яе прытока Рэсы знаходзіліся воласці Мошчын і Пусты Мошчын. На левым баку Рэсы стаяў Масальск, ніжняе цячэнне гэтай ракі, магчыма, служыла мяжой паміж Смаленскім і Карачаўскім княствамі. Праз вусце Рэсы каля Пустога Мошчына праходзіў шлях на Вязьму. Там знаходзіліся заезджыя двары[466], а збор мыта быў арганізаваны ў Апакаве[467]. Далейшае цячэнне р. Рэсы і яе прытокаў (перш за ўсё — Паполты) заставалася, відавочна, у сферы ўплыву Масальска (а раней — Карачава). Да такой высновы можна прыйсці, назіраючы за прыроднымі асаблівасцямі наваколля. На захад ад вусця р. Рэсы (сама яна цякла з поўдня) знаходзіліся вялікія лясы і балоты[468]. Нават да сённяшняга часу яны слаба заселены. Горад Масальск з поўначы на захад (аж да Сярпейска) знаходзіўся ў атачэнні глухіх лясоў, якія, цалкам магчыма, утваралі

---

462 «За окольничьим Матвеем Степановичем Пушкиным вотчина село Мишино, Говендеги тож, а в селе церковь во имя Пресвятой Богородицы Знамения да придел святомученников Флора и Лавра» (Подлинная переписная книга посадских дворов города и поместных и вотчинных сел, деревень и дворов... переписи Никифора Кондратьевича Озерова и подьячего Аввакума Григорьева. Копия. 1677 г. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10818. Л. 321 об.).

463 АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 825/618. С. 255; Памятники истории и культуры национального парка «Угра». С. 20—21; Массалитина Г.А., Болдин И.В. Реконструкция истории летописного Опакова с привлечением данных археологии и картографии // Труды регионального конкурса научных проектов в области гуманитарных наук. Вып. 7. Калуга, 2006. С. 25—26.

464 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Реконструкция истории летописного Опакова... С. 28—32.

465 ДДГ. № 104. С. 440.

466 Вядомыя ў сярэдзіне XIX ст., але не пазначаныя на карце Генеральнага межавання Юхноўскага ўезда канца XVIII ст.

467 Акты Литовской метрики / Собраны Ф.И. Леонтовичем (далей: АЛМ). Т. 1. Вып. 1. 1413—1498 гг. Варшава, 1896. № 152. С. 59; LM. Kn. 6 (1494—1506) / Parengė A. Baliulis. Vilnius, 2007. № 243. P. 168.

468 У гэтым можна ўпэўніцца, калі паглядзець, напрыклад, на карту А. Рыццы-Дзаноні. На ёй вакол Масальска размешчаны Масальскі бор (Bor Masalski), Вядзенскі бор (Bor Wedenskoi) і іншыя лясы (Rizzi-Zannoni A. Carte de la Pologne dividé par Provinces et Palatinats et subdivisée par districts... 1772. Paris, 1772. № 8).

і баранілі яго межы. Цікава, што ў замкнутую прастору траплялі такія воласці, як Мошчын і Пусты Мошчын. Гэта ўскосна сведчыць аб іх былой прыналежнасці да Карачаўскага княства. Ашчытаў і Ганвенца маглі складаць анклаў уладанняў карачаўскіх князёў, як у свой час воласць Забярэга, падлеглая Навасіллю, стаяла ў значнай аддаленасці ад асноўнай тэрыторыі княства. Але можна прапанаваць і іншае дапушчэнне. Ашчытаў мог быць сапраўды смаленскай воласцю, толькі ў 1440—1447 гг. асобна перададзенай вялікім князем Казімірам масальскаму князю Валодку (гл. вышэй). А што тычыцца Ганвенца, дык яго месцазнаходжанне поўнасцю ўпісваецца ў вылучаны рэгіён. Масальскія воласці ў нізоўях Угры ў другой палове XV ст. перайшлі ў прамое падначаленне Смаленску.

Такім чынам, варыянт першапачатковай прыналежнасці як абедзвюх валасцей Мошчыных, так і Ганвенца (які размяшчаўся на поўдзень ад іх), Карачаўскаму княству не дае падставаў для цэрапалосіцы ўладанняў, а агульная канфігурацыя меж княстваў (Смаленскага і Карачаўскага) выраўноўваецца за кошт ліквідацыі рэзкага выступу карачаўскіх зямель на поўнач.

Аб тэрыторыі Карачаўскага княства за Угрой (на яе левым баку) нічога не вядома, але Смаленску належала размешчаная далёка за гэтай ракой і яе прытокам Шаняй Мядынь. Каля 1371 г. яе для Масквы «вытягал боярин… Федоръ Аньдреевич [Свібла — *В.Ц.*] на обчем рете… оу смолнян»[469] (магчыма, са складу Вяземскага княства)[470]. Назіранне за тэрыторыяй, якая адносілася да Мядыні ў канцы XVI—XVIII ст., можа даць дадатковае пацвярджэнне памежнага характару р. Угры на пачатку XV ст. І сапраўды, калі, выкарыстоўваючы метад рэтраспекцыі, перанесці дадзеныя канца XVI ст. на сітуацыю больш ранняга часу, дадаць фактар прысутнасці калужскіх зямель каля вусця р. Угры, то можна выявіць значную працягласць літоўска-маскоўскай мяжы ўздоўж гэтай ракі (трэба ўлічыць, што ў 1403—1404 гг. Вязьма і Смаленск былі далучаны да ВКЛ, і смаленска-маскоўская мяжа ператварылася ў літоўска-маскоўскую).

На пачатку 1494 г. падчас перамоў маскоўскія баяры назвалі літоўскім паслам 8 валасцей, залічаных да мядынскіх: Гарадзечна, Нярожа, Даражміра Гара, Кнутава Дуброва, Скавародзеск, Гасціжа, Белыя Вста, Вежкі[471]. Паводле пісцовага апісання 1586—1587 г. захаваліся Гарадзенскі, Вежацкі, Гарадскі, Радамскі станы і воласць Гародня[472]. Тым самым частка валасцей канца XV ст. або злілася з іншымі, або перайшла да суседніх уезных цэнтраў.

Тэрытарыяльны склад Мядынскага ўезда канца XV ст. быццам бы ў цэлым адпавядае яго стану праз стагоддзе. Аднак у перагаворным працэсе 1494 г. звяртае на сябе ўвагу тое, што насуперак маскоўскім баярам, якія адносілі шэраг валасцей да мядынскіх, літоўскія паслы назвалі іх «смоленскими из старины» і ў папярэдне пададзеным спісе смаленскіх прыгарадаў і валасцей пазначылі ўсе пункты[473]. Смаленскімі літоўскім бокам лічыліся таксама воласці, якія былі абвешчаны маскоўскімі баярамі бораўскімі (Трубна, Путынь) і мажайскімі (Тур'е, Цешынаў, Сукрома, Альховец, Ад'езд)[474]. У выніку ўсе спрэчныя тэрыторыі былі аддадзены

---

469 ДДГ. № 12. С. 34. Паводле даціроўкі У.А. Кучкіна — 1368 г. (Кучкин В.А. Последнее завещание Дмитрия Донского. С. 143).

470 Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV ст. вне Северо-Восточной Руси. С. 146.

471 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 119, 137.

472 Писцовые книги Московского государства. Ч. I. Отделение I. СПб., 1872. С. 832—852.

473 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 118, 119, 137.

474 Тамсама.

Маскве, але выяўляецца, што яны належалі ВКЛ да маскоўскіх захопаў — вынікаў ваенных дзеянняў 1486—1493 гг.

З пералічаных валасцей вызначаецца месцазнаходжанне наступных. Уздоўж р. Гарадзенкі, правага прытока Шані, якая ўпадала злева ў Угру, знаходзілася воласць Гарадзечна (воласць Гародня канца XVI ст.)[475]. Па рэчцы Нярошцы (Нярошанцы ў XVIII ст.)[476], левым прытоку Ізверы, якая ўпадала злева ў Угру, ляжала Няронка. Воласць Гасціжа, без сумнення, звязана з р. Касціжай (Гасціжай у XVIII ст.)[477], правым прытокам Шані. Нарэшце, у раёне р. Вярэжкі (Вярэшкі ў XVIII ст.)[478], левага прытока Угры, знаходзілася воласць Вежкі (Вежацкі стан канца XVI ст.)[479]. На поўнач ад вытока р. Вярэжкі, ужо каля супрацьлеглага берага іншай ракі — Ізверы (левы прыток Угры), яшчэ ў канцы XVIII ст. стаяў пагост Вежкі[480], ад якога да цяперашняга часу засталося толькі ўрочышча. Гэта, верагодна, быў цэнтр воласці.

Астатнія воласці, якія сталі ў канцы XV ст. мядынскімі, пакуль не лакалізаваны, але і тыя, чыё месцазнаходжанне з вялікай ступенню верагоднасці вызначана, займаюць прастору своеасаблівым трохкутнікам ад р. Шані на ўсходзе да р. Угры на поўдні, тым самым адсякаючы маскоўскія ўладанні канца XIV ст. ад выхаду да р. Угры. Такім чынам, цэлы шэраг валасцей, адарваных у канцы XV ст. ад ВКЛ, склаў уезную структуру Мядыні, якая да гэтага, відаць, мела статус толькі цэнтра воласці. Відавочна, тэрыторыю Мядыні да канца XV ст. можна супаставіць з пазнейшым Гарадскім станам, які цягнуўся толькі да р. Шані, левага прытока р. Угры[481].

Іншыя смаленскія воласці, якія ў канцы XV ст. адносіліся да ліку бараўскіх і мажайскіх, таксама выключалі пранікненне маскоўскіх уладанняў да р. Угры. Так, з захаду мядынскія землі абмяжоўваліся тэрыторыяй воласці Трубна, якая займала, верагодна, прастору вакол ракі Трубенкі (левы прыток Шані). Разам з воласцю Ашчытаў і Дзмітраўскай зямлёй у 1494 г. згадвалася воласць Пагарэлае[482], цэнтр якой можна няўпэўнена атаясаміць з сучаснай Пагарэлаўкай (в. Пагарэлка ў XVIII ст.)[483], на поўнач ад р. Угры непадалёку ад упадзення ў апошнюю р. Вярэжкі. З нейкай доляй верагоднасці можна бачыць воласць Пагарэлае ў стане Пажога (Пажэга, Пажэскі) (цэнтр — с. Пажога на р. Угры), вядомым з пісцовых апісанняў канца

475 Писцовые книги Московского государства. С. 849—851.

476 Генерального плана Медынского уезда часть II-я. Масштаб — в английском дюйме 2 версты // Атлас Калужского наместничества, состоящего из двенадцати городов и уездов... СПб., 1782; Геометрический генеральный план Калугского наместничества оконч... Медынскому уезду со всеми внутри оного лежащими владельческими землями с показанием в нем каждого селения с отделенными специальными и городскими от других уездов межами, сочинен в орловской межевой конторе в городе Болхове первого класса землемером порутчиком Петром Нееловым Генваря дня 1779 году. Масштаб: в английском дюйме 500 саженей.

477 Генерального плана Медынского уезда часть I-я. Масштаб: в английском дюйме 2 версты // Атлас Калужского наместничества, состоящего из двенадцати городов и уездов... СПб., 1782.

478 Генерального плана Медынского уезда часть II-я.

479 Писцовые книги Московского государства. С. 836.

480 Генерального плана Медынского уезда часть I-я.

481 Писцовые книги Московского государства. С. 835, 846. На Шані знаходзіліся в. Ракіціна і Свіціна, якія лакалізуюцца на сучаснай карце (Атлас Калужской области. С. 17).

482 СИРИО. Т. 35. № 28. С. 152

483 Генерального плана Медынского уезда часть I-я.

XVI ст.[484]. Размяшчаўся стан зусім побач з Ашчытавым — уздоўж левага берага Угры, за рэзкім выгібам ракі. Праўда, назва сяла і воласці Пажога паходзіць, верагодна, ад ручая Пажэга, тады як воласць Пагарэлае — магчыма, ад падзеі, звязанай з пажарам.

Па заключэнні міру 1494 г. воласць Пагарэлае заставалася ў складзе ВКЛ: у адказ на скаргу літоўскага пасла маскоўскі баярын Дзмітрый Уладзіміравіч Хоўрын[485] заверыў, што маскоўскім «украиникам» будзе забаронена «вступаться» «въ Ощытовъ и въ Погорелое и въ Дмитровские земли»[486]. У перамірнай грамаце 1503 г. воласць Пагарэлае і яшчэ 27 валасцей названы каля горада Дарагабужа, замацаванага за Масквой[487].

У адносінах да вышэйпералічаных валасцей адзіным пацвярджэннем іх сувязі са Смаленскам з'яўляюцца паказанні паслоў ВКЛ, што магло не адпавядаць рэчаіснасці. Аднак гэта яшчэ далёка не ўсе дадзеныя, якія сведчаць аб прыналежнасці ВКЛ тэрыторыі з левага боку р. Угры. Дакладна вядома, што, напрыклад, горад Апакаў, размешчаны на правым беразе Угры (суч. Палаткі)[488], меў значныя землі і на левым беразе гэтай ракі. Фармулёўка «Опаков по Угру» нават увайшла ў тэкст маскоўска-літоўскай дамовы аб вечным міры 1494 г.[489]. За ВКЛ захоўваўся Апакаў з землямі да Угры, значыць, у горада была тэрыторыя і за Угрой, якая пасля дамовы адыходзіла да Масквы. Апакавым, як і Дзмітраўцом у свой час (1492 г.) авалодаў князь Сямён Фёдаравіч Варатынскі. Але ад вялікага князя Івана III ён атрымаў толькі тэрыторыю да р. Угры («городъ Опаковъ съ волостьми по Угру»)[490], гэта значыць, левабярэжжа Угры насупраць Апакава было ўжо да гэтага цвёрда замацавана за Масквой. Да Варатынскага Апакаў належаў Сапегам. Вярнуўшы гарадок у 1494 г., адзін з іх — Васілій (Васка) Сапежыч скардзіўся вялікаму князю Аляксандру, што амаль усе яго ўладанні адышлі за Угру да вялікага князя маскоўскага[491] і добра было б атрымаць што-небудзь узамен[492]. Верагодна, вялікая частка апакаўскіх зямель ляжала за Угрой.

Таксама два іншыя гарады, захопленыя князем Варатынскім з санкцыі Івана III, былі аддадзены новаму маскоўскаму падданаму з землямі толькі па Угру[493]. Гарады Бышкавічы і Залідаў знаходзіліся ўжо недалёка ад вусця р. Угры. Пры гэтым

---

[484] Писцовые книги Московского государства. 1877. С. 814—822.

[485] Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России... С. 272.

[486] СИРИО. Т. 35. № 28. С. 152.

[487] Тамсама. № 75. С. 400

[488] Алексеев Ю.Г. Освобождение Руси от ордынского ига. Л., 1989. Прим. 264. С. 192; АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 825/618. С. 255.

[489] ДДГ. № 83. С. 330; СИРИО. № 24. С. 126

[490] СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

[491] «...много дей ее за Вгру отошло» (Литовская метрика. Отдел 1. Ч. 1. Книги записей // Русская историческая библиотека. Т. XXVII. СПб., 1910. № 55. Стб. 565); «отчина его вся за Вгру отошла къ великому князю Московскому» (Литовская метрика. Отдел 1. Ч. 1. Книги записей. № 130. Стб. 649); «отчина его за Вгрою в Опакове мало не вся к Москве отошла» (LM. Kn. 6. № 229. С. 161).

[492] «...и абыхмо противъ его отчины чимъ пожаловали» (Литовская метрика. Отдел 1. Ч. 1. Книги записей. № 130. Стб. 650). Іншы Сапежыч — Івашка вымяняў да пачатку 1495 г. сваю частку (дзелніцу) Апакава брату на сяло Шчокіна (АЛМ. Т. 1. Вып. 1. № 152. С. 59; Литовская метрика. Отдел 1. Ч. 1. Книги записей. Стб. 567—569. № 58).

[493] «Город Бышковичи с волостьми по Угру, город Залидов с волостьми по Угру, город Опаков с волостьми по Угру» (СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136).

Бышкавічы стаялі не на Угры, а каля яе прытока рэчкі Вялікі Беразуй[494], Залідаў жа знаходзіўся ніжэй па цячэнні ад вусця р. Шані[495]. Месца Залідава прымушае размясціць яго землі на левабярэжжы Угры ўпрытык да р. Шані і яе прытока Сухадрэва, так што для маскоўскіх уладанняў заставаўся зусім вузкі выхад да р. Угры. Здавалася б, у дамове 1494 г. толькі Апакаў названы па р. Угру. Аднак указанне ў тэксце дакумента: «...і в Залидов, і в Бышковичи, і в Опаковъ по Угру»[496], без сумнення, адносіцца да ўсіх трох гарадоў. Левабярэжжа р. Угры ад Апакава да Залідава ў 1494 г. было замацавана за Масквой, а рэальна далучана і асвоена яно было яшчэ да пераходу на маскоўскую службу князя С.Ф. Варатынскага (лістапад—снежань 1492 г.)[497], бо апошні здолеў завалодаць толькі тэрыторыяй правабярэжжа. Воласці ж з левага берагу Угры, відавочна, да таго часу ўліліся ў склад Мядынскага ўезда. Менавіта іх і назвалі маскоўскія баяры ў перамовах пачатку 1494 г.

У тэстаменце Івана III былі згаданы шматлікія слабоды на левабярэжжы Угры, заснаваныя, верагодна, у канцы XV ст. Вялікі князь маскоўскі перадаваў сыну «...город Медын(ь), и Радомль, и с Вешками по Угру, да на Шане слобода, что Товарков садил, по Угру ж, и с Песочною с меншею, и з слободами, что садили Андреи Картъмазов, да Митя Загрязскои, да Ивашко Гладкои. А что Филипповых детеи Полтева села и д(е)р(е)вни на сеи стороне Угры, и те села и д(е)р(е)вни со всем, что к ним потягло, къ Медыни»[498]. З пералічаных слабод упэўнена лакалізуецца толькі тая, «что Товарков садил» — гэта, без сумнення, Таваркава, воласць у вусці р. Шані, якая ўпадае злева ў Угру. Пасля 1505 г. «волости на Угре, Товарков, Конопнарь (Конопка), и иныя волости по Угре» былі дадзены вялікім князем Васіліем III у сумеснае валоданне князям Васілію Шамячычу і Васілію Старадубскаму[499]. Актыўная каланізацыйная дзейнасць маскоўскіх улад захапіла левабярэжжа Угры яшчэ да 1492 г. Фактычна адбываўся захоп тэрыторыі суседняй дзяржавы.

Нарэшце, унікальныя звесткі, адлюстраваныя ў пасольскіх кнігах, канчаткова прымушаюць перагледзець пазіцыю адносна памежнага характару р. Угры. У 1494 г. «боярин твой [Івана III. — *В.Ц.*], брата нашего, на имя Олферей, волостель Туреский, тыми разы вжо сего году Дмитровское нашое волости засел десять деревень у Радунки; а перво сего, вжо после нашего с тобою докончаниа, тоежо волости нашое Дмитровское Скряба Травин засел два села, на имя Луково а Шибнево; а тивун вежецкий Абрам тоежо Дмитровское волости засел одинатцать деревень»[500]. Тры розначасавыя падзеі (адна да, другая пасля заключэння міру — 5 лютага і трэцяя без удакладнення часу) тычацца непасрэдна Дзмітраўца і па сутнасці сваім апісаннем дапамагаюць рэканструяваць межы ягонай воласці. Характэрна, што аб наездзе на дзмітраўскія землі ў 1494 г. было вядома Я. Натансану-Лескаму, але польскі дас-

494 Гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча з правага боку р. Вялікі Беразуй (АКР: Калужская область. № 255—256. С. 66, 65 (карта); АКР: Калужская область. Изд. 2-е. М., 2006. № 223/255—224/256. С. 105, 103 (карта). Спасылка на старое выданне дадзена ў сувязі з тым, што на карце 2-га, перапрацаванага і дапоўненага выдання месца гарадзішча на карце пазначана недакладна.

495 Гарадзішча каля в. Свінухава ў раёне знакамітых Залідаўскіх лугоў (АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 257/282. С. 105, 103 (карта); Памятники истории и культуры национального парка «Угра». С. 34—35). Пра Залідаўскія лугі гл.: Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VI. Ч. 6. С. 21; Залидовские луга (сборник научных трудов) / Под науч. ред. Т.А. Гордеевой, В.П. Новикова. Калуга, 2009.

496 ДДГ. № 83. С. 330.

497 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 99—100.

498 ДДГ. № 89. С. 355.

499 ДДГ. № 104. С. 440, 441; Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России. С. 139.

500 СИРИО. Т. 35. № 56. С. 268.

ледчык, упэўнена акрэсліўшы лінію мяжы па р. Угры, вымушаны быў прызнацца ў немагчымасці лакалізаваць згаданыя аб'екты[501].

Такім чынам, яшчэ ў тым самым годзе (пачынаўся з 1 верасня 1493 г.) баярын Алфярэй — «туреский» валасцель (валасць Тур'е, да гэтага часу, відаць, ужо была аднесена да Мажайска, а да таго належала князям Глінскім)[502] «засел» 10 вёсак Дзмітраўскай воласці каля рэчкі Радункі. Напад, такім чынам, ішоў з боку левага прытока р. Угры Турэі, вакол якой групавалася воласць, на другі левы прыток Угры — Радунку, вядомую па карце Генеральнага межавання як Рудзенка[503].

Скраба Травін па заключэнні міру (пасля 5 лютага) «засел» два дзмітраўскія сёлы — Лукава і Шыбнева, якія сустракаюцца і на сучаснай карце па розныя бакі р. Воры, пры ўпадзенні ў апошнюю Істры[504].

Абрам —вежацкі цівун (воласці Вежкі, магчыма, ужо аднесенай да Мядыні) «засел» 11 вёсак Дзмітраўскай воласці. Час не пазначаны, але, верагодна, адбывалася гэта тады ж, калі і папярэдняе. Месцазнаходжанне вёсак не пазначана, але воласць Вежкі адзначана ў раёне яшчэ аднаго прытока Угры — Вярэжкі.

Такім чынам, тэрыторыя Дзмітраўскай воласці ў левабярэжжы Угры (пра яе працягласць на правым беразе ракі нічога не вядома) размяшчалася па абодвух баках р. Воры і абмяжоўвалася на паўночным захадзе рэчкай Радункай, на паўднёвым усходзе не даходзіла да рэчкі Вярэжкі, а на поўдні і паўднёвым усходзе ўступала ў кантакт з воласцю Тур'е, а таксама яшчэ адной вядомай у гэтым раёне воласцю — Арэхаўнай (на р. Істры, прытоку Воры)[505].

Цячэнне р. Угры ўверх ад Дзмітраўца ішло на паўночны захад, мінаючы Апчытаў, а потым рабіла рэзкі паварот на паўднёвы захад, сыходзячы ў глыб зямель ВКЛ. У выніку для маскоўскіх уладанняў заставаўся толькі вузкі ўчастак каля самага вусця р. Угры.

Неабходна заўважыць, што і пасля заключэння міру 1494 г. Дзмітравец захаваў сваю тэрыторыю на левым беразе Угры. Пры гэтым прыкметна імкненне маскоўскай адміністрацыі суседніх валасцей адрэзаць частку дзмітраўскіх зямель. Дзмітравец страціў некаторыя тэрыторыі, аднак па-ранейшаму кантраляваў частку левабярэжжа Угры. Акрамя таго, калі ўлічваць няўпэўненую лакалізацыяю воласці Пагарэлае на левым беразе Угры амаль насупраць Апакава, то і яшчэ ў адным месцы мяжа па р. Угры была парушана. Такім чынам, у 1494 г. маскоўска-літоўская мяжа была ўсталявана па Угры на адрэзку ніжэй Дзмітраўца да вусця ракі. Верагодна, менавіта пра сітуацыю 1494—1503 гг., яшчэ свежую ў памяці масквічоў, і выказаўся С. Герберштэйн у сваіх «Запісках пра Масковію».

Вяртаючыся да пачатку XV ст., неабходна адзначыць, што заключаны ў 1408 г. літоўска-маскоўскі мір не ўнёс змен у стан мяжы паміж дзвюма вялікімі княствамі — Літоўскім і Маскоўскім. Дамова была заключана «по давному», а паводле папярэдняга літоўска-маскоўскага пагаднення ад 4 верасня 1407 г. маскоўская мяжа захоўвалася такой самай, якой была пры Дзмітрыі Данскім («рубеж отчине моего отца по старине»)[506]. Значыць, і ў 1408 г. мяжа заставалася ранейшай, прычым менавіта для Масквы, бо да пачатку XV ст. ВКЛ яшчэ не далучыла Смаленск, Вязьму і вярхоўі Акі, і яго ўладанні не ўвайшлі ў судакрананне з маскоўскімі. Грунтуючыся на падрабязным аглядзе

501 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 85. Pr. 179.

502 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 36.

503 Геометрический план Юхновского целого уезда...

504 Атлас Калужской области. С. 14.

505 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283.

506 Хорошкевич А.Л. Документы начала XV ст. С. 41.

зямель у раёне р. Угры, можна гаварыць аб адсутнасці у разгляданы час літоўска-маскоўскай мяжы ўздоўж р. Угры на колькі-небудзь значнай адлегласці. Крыніцы канца XV ст. паказваюць значны пераход уладанняў ВКЛ на левы бок р. Угры[507]. І толькі да яе вусця маглі падступаць маскоўскія землі (у выпадку, калі воласць Калуга шырылася далей на захад ад свайго асяродка — р. Калужкі). Меркаваць пра захоп часткі Вялікага Княства Маскоўскага жыхарамі ВКЛ пасля 1408 г. няма падстаў.

Тым не менш мяжа па р. Угры на пачатку XV ст. усё ж магла быць абазначана, хаця і ўмоўна. Цалкам верагодна, што да таго часу ў левабярэжжы Угры захоўваліся значныя незасвоеныя прасторы. У смаленскіх князёў, відаць, не было цікавасці, ды і магчымасці да асваення і развіцця перыферыйнага для іх рэгіёна. А для ВКЛ участак забранай у Смаленскага княства мяжы паміж абароненай лясамі і балотамі Вяземшчынай і перасечаным мноствам рэк Верхняокскім рэгіёнам выявіў сур'ёзную слабасць. Дзякуючы разуменню стратэгічнай важнасці Павугор'я ўладамі ВКЛ быў здзейснены шэраг мерапрыемстваў, скіраваных на ўмацаванне ўчастка новай дзяржаўнай мяжы. Гарадкі ўздоўж Угры былі раздадзены ва ўладанне верным вялікаму князю людзям з ліку вялікакняжацкіх службовых асоб (Сапега атрымаў Апакаў) і мясцовых князёў (Ф.Л. Варатынскі — Крайшыну, Лучын, С.Ф. Варатынскі — Мошчын). Як адна з праяў палітыкі ВКЛ — узвядзенне новых абарончых збудаванняў Дзмітраўца[508]. А павышаная ўвага да рэгіёна, выяўленая, відавочна, і ў выдаткоўванні значных сродкаў на яго развіццё, паслужыла штуршком для гаспадарчага асваення пустуючага левабярэжжа Угры.

Такім чынам, зусім адмаўляць магчымасць існавання літоўска-маскоўскай мяжы па р. Угры нельга. Такая яе канфігурацыя магла быць зафіксавана на пачатку XV ст. Аднак насамрэч утварылася своеасаблівая буферная зона — шырокая паласа незанятых зямель, якая ўмоўна служыла мяжой. Рака Угра акрэслівала адзін бок памежнай паласы, а супрацьлеглы яе бок губляўся ў лясах каля р. Шані і далей на ўсход. Толькі да самага вусця р. Угры на пачатку XV ст. маглі падступаць маскоўскія ўладанні. Праз буферную зону свабодна праходзілі войскі, што рухаліся, напрыклад, да вусця р. Угры або зварочвалі напрасткі да брода каля гарадка Дзмітравец, каб скараціць шлях да Вязьмы. Паступова плошча незанятых зямель скарачалася з-за іх асваення як літоўскім, так — і менш эфэктыўна — маскоўскім бокам. Да канца XV ст. ВКЛ належала большая частка пазначанай тэрыторыі. А Вялікае Княства Маскоўскае, верагодна, з-за ўнураных праблем, рэзка запаволіла сваё пранікненне ў раёне на захад р. Шані. Калі ў другой палове XIV — пачатку XV ст. назіралася актыўная дзейнасць удзельных маскоўскіх князёў па каланізацыі і асваенні рэгіёна вакол р. Протвы і яе прытокаў, то на працягу амаль усяго XV ст. згадкі пра новыя гарады, воласці і слабоды амаль не сустракаліся.

Пры гэтым характэрна, што рубеж абароны ў гэтым рэгіёне будаваўся ўладамі ВКЛ з апорай на р. Угру. Такая сітуацыя, відаць, можа лёгка растлумачана тым, што круты правы бераг р. Угры ствараў для прасоўвання войскаў суперніка натуральную перашкоду, умацаваную самой прыродай. У гэтай сувязі можна згадаць падзеі Вялікай Айчыннай вайны, калі ўздоўж р. Угры і яе левага прытока Воры доўгі час трымалася лінія фронту. Сляды акопаў і іншых палявых умацаванняў да гэтага часу захоўваюцца на абодвух берагах пазначаных рэк. На ўсход ад Угры, хаця там і працягваліся ўладанні ВКЛ, не было такога ж зручнага абарончага рубяжа, да таго ж быццам бы

507 Пры гэтым, насуперак многім сведчанням крыніц, Я. Натансан-Лескі, найбуйнейшы даследчык маскоўска-літоўскай мяжы, сцвярджаў: «Niema żadnych śladów, by Litwa sięgała kiedy poza Ugrę dolną (bo o dolnej tylko może być tu mowa)» (Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Ad. 47. S. 27).

508 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. К постановке проблемы // Позднесредневековый город: археология и история: Сб. ст. в 2-х частях. Ч. 2. Изучение позднесредневековых городов России / Под ред. А.Н. Наумова. Тула, 2007. С. 128.

спецыяльна разгорнутага для прыкрыцця ўнутраных раёнаў дзяржавы. З іншага боку, маскоўская тэрыторыя аказвалася адкрытай для нападаў з-за Угры. Практычна да р. Протвы і яе прытока Лужы (за выключэннем Мядыні, якую можна было лёгка абысці з поўдня) не сустракалася ні буйных рэк, ні моцных крэпасцей. Да таго ж так склалася, што значныя апорныя пункты рэгіёна (Абаленск, Малаяраславец, Бораўск, Вышгарад, Вярэя) апынуліся пад маскоўскай уладай. Яны размяшчаліся на правых (заходніх) берагах рэк Протвы і Лужы, што рабіла іх менш паспяховымі ў выпадку нападаў з не абароненага вадой фронту. Таксама і Калугу не магла прыкрыць Ака, бо да горада лёгка маглі падысці войскі суперніка з захаду, пераправіўшыся праз Угру.

Верагодна, так і здарылася ўзімку 1444/45 г., калі «приходи Литва къ Колузе»[509]. Вялікі паход 7-тысячнага войска ВКЛ на чале з першымі службовымі асобамі дзяржавы панам Валімунтам Судзівоем[510], Радзівілам Осцікавічам[511], Андрушкам Масцілавічам[512], Іванам панам Ганцэвічам[513], панам Юршам[514], Андрэем Ісакавічам[515], Якубам Раловічам[516], Мікалаем Няміравым[517], Захарыем Іванавічам Кошкіным[518]

---

509 ПСРЛ. Т. VIII. С. 111.

510 Судзівой Валімунтавіч у 1444 г. яшчэ быў канцлерам, а ўжо ў 1445 г. стаў смаленскім намеснікам. Насуперак сцверджанням А.А. Зіміна (Зимин А.А. Витязь на распутье. С. 102), ковенскім старастам ён быў толькі з 1447 г. (Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku. Spisy / Opracowali H. Lulewicz i A. Rachuba. Kórnik, 1994. S. 51, 249; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. Ziemia smoleńska i województwo smoleńskie XIV—XVIII wiek / Pod redakcją A. Rachuby. Warszawa, 2003. S. 49, 405; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 1. Województwo Wileńskie, XIV—XVIII wiek / Pod redakcją A. Rachuby. Warszawa, 2004. S. 107, 750; Petrauskas R. Lietuvos diduomene XIV a. pabaigoje — XV a. Vilnius, 2003. P. 299).

511 Людвік Радзівіл Осцікавіч, маршалак гаспадарскі (Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku. S. 81, 232; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 1. S. 73, 703; Petrauskas R. Lietuvos diduomene XIV a. pabaigoje — XV a. P. 215—216).

512 Андрушка Масцівілавіч (Масцьвілавіч) (LM. Kn. 3. P. 23, 25, 43, 68).

513 Магчыма, гаворыцца пра Івана (Івашку) Кгойцава (Кгайцэвіча) (LM. Kn. 3. P. 22).

514 Магчыма, Юрша Іванавіч, ураднік, які змяніў розныя пасады ў першай палове XV ст. (намеснік луцкі, бранскі, кіеўскі, крамянецкі, браслаўскі) (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. S. 45, 362; Petrauskas R. Lietuvos diduomene XIV a. pabaigoje — XV a. P. 248).

515 Андрэй Саковіч, полацкі намеснік прыблізна з 1444 г., але з 1440 г. ён быў смаленскім намеснікам (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. S. 49, 391; Petrauskas R. Lietuvos diduomene XIV a. pabaigoje — XV a. P. 287—288).

516 Якуб Раловіч у другой палове XV ст. быў маршалкам гаспадарскім (Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku. S. 83, 235; Petrauskas R. Lietuvos diduomene XIV a. pabaigoje — XV a. P. 283—284).

517 Мікалай Няміравіч, насуперак думцы А.А. Зіміна (Зимин А.А. Витязь на распутье. С. 102) у той час не быў смаленскім намеснікам. З 1463 г. ён вядомы як віцебскі намеснік і толькі з 1467 г. — смаленскі (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. S. 50, 380; Petrauskas R. Lietuvos diduomene XIV a. pabaigoje — XV a. P. 277—278).

518 Прысутнасць у спісе літоўскіх ваявод прадстаўніка знакамітага маскоўскага роду, бацькі таленавітага палітычнага дзеяча і палкаводца, які паспяхова ваяваў супраць ВКЛ (Якава Захар'евіча), застаецца загадкай. А.А. Зімін з гэтай нагоды тлумачэнняў не даў і нават не назваў З.І. Кошкіна сярод літоўскіх ваявод (Зимин А.А. Витязь на распутье. С. 102). Між іншым, сярод смаленскіх баяр існаваў род з прозвішчам Кошка. Вядомы акольнічы Іван (Івашка) Кошка, які дзейнічаў у 90-я гг. XV ст. (LM. Kn. 5 (1427—1506). № 14. P. 67; Акты Литовско-Русского государства, изданные М.В. Довнар-Запольским. Вып. 1. (1390—1529 гг.). М., 1900. № 55. С. 81). Цалкам магчыма, што ён з'яўляўся ўнукам поўнага цёзкі знакамітага маскоўскага баярына.

мяжы можа даць уяўленне аб тым, дзе сфарміравалася першая лінія абароны ВКЛ супраць усходняга суседа. Акурат назіранне за тым, дзе адбываліся памежныя сутыкненні першай вайны, дазваляюць дакладна вызначыць тэрыторыі, прызначаныя для стрымлівання праціўніка. Трэба заўважыць, што і ў наступнай вайне сфарміраваная лінія абароны на некаторых напрамках заставалася па-ранейшаму актуальнай.

На жаль, большасць даследчыкаў не выяўляла цікавасці да гісторыка-геаграфічных абставін першай памежнай вайны. Крыніцы даюць дастаткова інфармацыі, але да гэтага часу спроб на яе аснове зрабіць высновы аб ходзе ваенных дзеянняў, іх накіраванасці, падлічыць тэрытарыяльныя страты і пазначыць праблемныя рэгіёны, слабыя месцы, вакол якіх і разгарэўся наступны канфлікт, амаль не сустракаецца. Прыкладам можна прадставіць лёс уладанняў князёў Крошынскіх. Воласці Крошынскіх у поўным складзе былі пералічаны ўжо на першых старонках пасольскіх кніг, яны звычайна называліся ў адпаведных месцах даследванняў, але іх месцазнаходжанне нават не спрабавалі ўстанавіць. Толькі М.К. Любаўскі няпэўна заўважыў, што яны знаходзіліся ля мажайскіх земель[3]. Таксама Я. Натансан-Лескі сцвярджаў амаль тое ж самае[4]. У той жа час, Крошынскія першымі адчулі на сабе подых вайны, былі хутка пазбаўлены сваіх уладанняў, паспелі атрымаць новыя, таксама на памежжы, але неўзабаве страцілі і іх. Як высвятляецца, уладанні Крошынскіх распасціраліся далёка ўглыб маскоўскіх зямель і, магчыма, менавіта ім адводзілася значная роля ў арганізацыі абароны ВКЛ на ўсходнім кірунку. З гэтай мэтай і былі пераведзены князі Крошынскія аж з-пад Новагародка (сучасны Навагрудак) у самы ўсходні кут дзяржавы (таксама можна ўспомніць гіпотэзу аб іх высылцы Жыгімонтам, магчыма, з-за падтрымкі Свідрыгайлы, аднак і гэта не адмаўляе магчымага разліку на выкананне князямі абарончай ролі)[5].

З прычыны нявызначанасці храналагічных рамак вайны і адсутнасці ўвагі да тэрыторыі, на якой яна вялася, узнікае шэраг нявырашаных пакуль пытанняў. Так, Ю.Г. Аляксееў вельмі ўдала заўважыў аб агульным кіраванні і каардынацыі маскоўскіх баявых дзеянняў на ўсіх кірунках з боку ВГК (вярхоўнага галоўнакамандавання)[6], але яго даціроўка вайны 1492—1493 гг. не дазволіла распаўсюдзіць сувязную дзейнасць вялікакняжацкай улады на тыя мерапрыемствы, што ажыццяўлялі ўдзельныя маскоўскія князі, асобныя прадстаўнікі вялікакняжацкай адміністрацыі і залежныя ад ВКЛ памежныя князі паміж 1486—1492 гг. Наадварот, Ю.Г. Аляксееў засяродзіўся на апісанні паходаў маскоўскіх вялікакняжацкіх войскаў, у сувязі з чым бліскучы разбор ваеннай кампаніі Івана III 1492—1493 гг. выглядае незавершаным.

З іншага боку, веданне мясцовасці і канфігурацыі літоўска-маскоўскай мяжы дазваляе зразумець тактычныя і нават стратэгічныя задумкі маскоўскіх і літоўскіх кіраўнікоў. Напрыклад, надзяленне літоўскага перабежчыка князя Ф.І. Бельскага

---

3 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 284.

4 «...na możajskiem pograniczu włośćmi kn. Kroszyńskich» (Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 73).

5 Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 186. Уяўленне аб ссылцы Крошынскіх пры Жыгімонце адмаўляецца крыніцай. «Князей Крошиньских дело», змешчанае ў пасольскіх кнігах, пра ўладанні Крошынскіх на крайнім усходзе сведчыць наступнае: «А то отчина и дедина от великого князя Витовта» (СИРИО. Т. 35. № 18. С. 74).

6 Алексеев Ю.Г. Походы русских войск при Иване III: Некоторые вопросы стратегического руководства. С. 44.

землямі на мяжы з Таропецкім паветам ВКЛ было выклікана свядомым імкненнем маскоўскага ўрада стварыць умовы пастаяннага ціску і трывогі на тэрыторыі пагранічча[7]. Такія ж задачы выконвалі новы кіраўнік Цверы вялікі князь Іван Малады, уладальнік Ржэвы — князь Барыс Волацкі, Мажайска — князь Андрэй Угліцкі. Вялікакняжацкі дзяк Васілій Далматаў, мядынскі наменік Васілій Давыдавіч таксама клапаціліся пра інтарэсы гаспадара на літоўскай мяжы. Між іншым, палітыка стварэння невыносных умоў жыцця на памежжы стала своеасаблівай формай вядзення вайны з боку Масквы.

Каб канчаткова аслабіць пазіцыі літоўскай вялікакняжацкай улады маскоўскі бок наносіў кропкавыя ўдары па цэнтрах намесніцтваў ВКЛ і цэнтрах мясцовай княжацкай улады — гарадах Любуцку, Мцэнску, Сярпейску, Варатынску, Вязьме ды інш. Гэтыя гарады знаходзіліся ў атачэнні ўладанняў князёў — васалаў вялікага князя літоўскага, і ў выніку вернасць апошніх у спалучэнні з пастаяннай бояззю рэпрэсій з-за мяжы рабілася вельмі хісткай.

Тэрор і запалохванне насельніцтва, спыненне гандлю, рабаўніцкія наезды, паслабленне цэнтраў літоўскай вялікакняжацкай улады з мэтай прыцягнення да сябе мясцовых князёў, прамыя захопы і каланізацыя зямель ВКЛ сталі неад'емнымі кампанентамі той вайны. Можна ўбачыць, што ў разнастайнасці прыёмаў вядзення вайны месца для непасрэдных баявых дзеянняў маскоўскіх вялікакняжацкіх войскаў заставалася не так шмат. Такім чынам, калі засяродзіцца на пошуку «чыстай» вайны, гэта значыць на руху войскаў і бразгаце зброі, то маем шанц вайну і не ўбачыць. Нарэшце, трэба заўважыць, што шэраг мерапрыемстваў, мэтай якіх было жаданне выкарыстоўваць як мага менш сіл у барацьбе з ВКЛ і паклапаціцца аб утоенасці, незаўважнасці ходу вайны, былі выкліканы натуральнымі прычынамі — імкненнем Івана III дасягнуць поспехаў паміж тымі шматлікімі складанымі міжнароднымі і ўнутранымі справамі, якімі ён быў у той час заняты. Паход на Казань, крымскія клопаты, канфлікты з рэшткамі Вялікай Арды, заваяванне Вяткі, праблемы са сваімі ўдзельнымі князямі — усё гэта не дазваляла адначасова весці адкрытую сур'ёзную вайну яшчэ і з ВКЛ.

Такім чынам, асноўны змест дадзенага раздзела прысвечаны высвятленню тых праблем, якія маюць спрэчны характар (даціроўка вайны) і засталіся па-за ўвагай даследчыкаў (гісторыка-геаграфічныя абставіны вайны). У сувязі з іншым разуменнем часу і прасторы, у якіх адбывалася вайна, адкрываюцца магчымасці для новай рэканструкцыі падзей першага сур'ёзнага канфлікту паміж найбуйнейшымі дзяржавамі Усходняй Еўропы.

За рамкамі разгляданай праблематыкі засталіся вельмі значныя праблемы, без вырашэння якіх нельга лічыць поўным разуменне падзей першай памежнай вайны. Яна праходзіла ў непасрэднай сувязі і пад уплывам зменлівай міжнароднай сітуацыі і, між іншым, міжнародныя сілы ў той ці іншай ступені адыгрывалі ў ёй сваю ролю. Напрыклад, прыярытэт турэцкага напрамку знешняй палітыкі караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча не дазволіў надаць дастатковую ўвагу ўсходнім межам ВКЛ. Таксама значнае месца ў вайне абодва канфліктуючыя бакі адводзілі крымскаму фактару, а складаныя адносіны Масквы з рэшткамі Вялікай Арды, Казанню і г.д. прама паўплывалі на той «дзіўны» характар вайны, які заўважалі гісторыкі.

Мы не зразумеем падзей, якія адбываліся ў канцы XV ст., калі не звернемся да вывучэння ідэалагічнага абгрунтавання прэтэнзій Івана III, які, як вядома, прыняў тытул гасудара ўсяе Русі і ўжо нават гэтым абвясціў праграму збірання пад сваёй уладай «рускіх» зямель ВКЛ.

[7] Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 283, 287.

Таксама ўнутранае развіццё дзяржаў-суседак (праблемы адносін вялікакняжацкай улады з удзельнымі і ў рознай ступені залежнымі ад яе князямі) павінна знайсці (і знаходзіць) свайго даследчыка.

## 2. Гісторыя даследавання і крыніцы па гісторыі першай памежнай вайны

Уяўленні даследчыкаў аб ходзе першай памежнай вайны, як правіла, моцна звязаны з праблематыкай літоўска-маскоўскіх адносін канца XV ст., а то і, у цэлым, з разглядам міжнароднай сітуацыі ва Усходняй Еўропе таго часу. Таму ў працах агульнага характару даволі цяжка вылучыць тыя драбніцы, якія вызначаюць пункт гледжання аўтара на прыватную праблему маскоўска-літоўскай вайны. Падзейная частка вайны ў такіх працах калі і адлюстравана, то служыць іншым мэтам: праілюстраваць працэс збірання рускіх зямель рознымі цэнтрамі, адносіны памежных князёў з цэнтральнай уладай і г.д. Часта даціроўка вайны даецца без абгрунтавання, у лепшым выпадку бярэцца са спасылкай на іншага даследчыка. Ва ўсіх аўтараў практычна адсутнічаюць назіранні за геаграфічнымі абставінамі вядзення вайны, хаця і напісаны сур'ёзныя працы па фарміраванні і трансфармацыі літоўска-маскоўскай мяжы. Ёсць спецыяльныя працы і па ваеннай гісторыі, але ў іх слабы геаграфічны кампанент — ваенныя падзеі аналізуюцца без увязвання з той тэрыторыяй, на якой яны адбываліся. Часам наогул складваецца ўражанне пра дрэннае арыентаванне шэрагу аўтараў у тэатры баявых дзеянняў першай памежнай вайны.

Дзяленне гістарыяграфіі па прыкмеце нацыянальнай прыналежнасці даследчыкаў, што яе прадстаўляюць (расійская, польская, літоўская, украінская і беларуская), хаця і адпавядае традыцыі, але павінна быць прызнана не зусім удалым. Навукоўцы розных краін і пакаленняў абапіраліся, выкарыстоўвалі, запазычвалі і развівалі ідэі адзін аднаго часта без агляду на дзяржаўныя межы, моўныя, этнічныя, ідэалагічныя і іншыя бар'еры, якія падзялялі іх. Безумоўна, на іх накладвалі свой адбітак месца і час, у якія рыхтаваліся тыя ці іншыя даследаванні, сацыяльнае, этнічнае і канфесіянальнае асяроддзе грамадства, у якім яны працавалі. Так, ацэнка дзеянняў суб'ектаў літоўска-маскоўскіх адносін натуральна вызначалася паходжаннем гісторыка. Тым не менш такія праблемы, як даціроўка і лакалізацыя месцаў падзей, маршруты паходаў, вынікі заключаных дамоў і г.д. заставаліся і застаюцца па-за палітычнымі поглядамі і вывучаюцца на грунце аб'ектыўнага падыходу да крыніц, у рэчышчы строгай навуковай метадалогіі.

Асноўную базу навуковых напрацовак, якія тычацца тэмы першай памежнай вайны, фарміруюць працы расійскіх (у тым ліку савецкіх) і польскіх даследчыкаў.

У рамках расійскай гістарыяграфіі асаблівая ўвага была звернута на аналіз і інтэрпрэтацыю матэрыялу, які змяшчаецца ў пасольскіх кнігах. Разам з тым гэтым гісторыкам так і не ўдалося выпрацаваць адзінага погляду на час, калі адбывалася першая маскоўска-літоўская памежная вайна.

Працуючы ў 1780—1784 гг. у архіве калегіі замежных спраў, М.М. Бантыш-Каменскі, на аснове пасольскіх кніг склаў 5-томную працу аб «справах» паміж расійскім і польскім дварамі з 1487 па 1700 г.[8]. Аўтар працаваў з гістарычным матэрыялам, не пазбавіўшыся ад уласцівых яго сучаснікам стэрэатыпаў. Так, напрыклад,

---

[8] Бантыш-Каменский Н.Н. Переписка между Россиею и Польшею по 1700 год, составленная по дипломатическим бумагам. Ч. I. 1487—1584. М., 1862.

звычайнае для XVIII ст. уяўленне пра заходняга суседа Рэч Паспалітую як польскую дзяржаву, пераносілася і на часы ВКЛ, праз што цалкам неверагодна выглядаюць «польскія» пасольствы з ВКЛ, «украінныя польскія князі» Масальскія, Мезецкія ды інш., «украінныя польскія жыхары» з Любуцка, «польскія гарады» Вялікія Лукі і Ржэў і г.д.[9]. Уласна як пра вайну паміж Расіяй і Польшчай М.М. Бантыш-Каменскі не згадвае, а адносіны двух суседніх дзяржаў ахарактарызаваў як спрэчкі і варожасць[10]. Гістарычны кантэкст канца XV ст., быў, відаць, недастаткова добра знаёмы аўтару, адсюль іменаванне князёў Крошынскіх Кашырскімі, чарнакунскага намесніка — чарнакуцкім або чарнакускім, а Чарнакунства Чарнакусцевым або Чарнцкусцем і г.д.[11]. Такім чынам, сачыненне М.М. Бантыш-Каменскага з'яўляецца ні чым іншым як перакладаннем матэрыялу пасольскіх кніг у даступнай для разумення чытача форме, распачатае без глыбокага вывучэння гісторыі Расіі і разумення рэальнасці далёкага мінулага.

М.М. Карамзін назіраў стан «ні вайны, ні міру» паміж Расіяй і Літвой з пачатку 80-х гг. XV ст. Абодва бакі мелі адзін да аднаго тэрытарыяльныя прэтэнзіі, «недображычылі» і імкнуліся «шкодзіць тайна і яўна», хаця «ужо стары і заўсёды маладушны» Казімір і «не адважваўся пачаць вайну», а Іван III «адкладаў вайну па выкліканні дзяржаўнай мудрасці»[12]. Аб варожых дзеяннях вялікага князя Івана III супраць Літвы было згадана яшчэ пад 1485 г., калі заваяванне Цверы было прадстаўлена маскоўскай дыпламатыяй вугорскаму каралю як пачатак вайны з Казімірам. Але падобная заява не заахвоціла караля Мацвея Корвіна на вайну з Польшчай[13].

З 1487 па 1492 гг. на маскоўскі бок пачалі пераходзіць удзельныя князі старажытнай Чарнігаўскай зямлі. Прычыны такіх дзеянняў, ва ўяўленні М.М. Карамзіна, даволі суб'ектыўныя: князі з вотчынамі ішлі ў Маскву, «бачачы нарэшце ўзрастаючую сілу Івана, скланяльныя да яго адзінаверствам і ласкавым іх сэрцу імем Рускім»[14]. Яны служылі маскоўскаму ўладару і вялі пастаянную вайну са сваімі сваякамі, што засталіся яшчэ ў Літве. Гэты тэзіс аб унутранай вайне ў асяроддзі саміх памежных князёў быў пасля развіты, у тым ліку, і польскімі гісторыкамі.

«Важная змена» ў літоўска-маскоўскіх адносінах адбылася толькі ў 1492 г., пасля смерці караля Казіміра. Гэты выпадак быў спрыяльны для Расіі, таму што Літва, на думку М.М. Карамзіна, абраўшы сабе асобнага ўладара, ужо не магла спадзявацца на сілы Польшчы[15]. Скарыстаўшы смерць караля, Іван III падахвочваў крымскага хана ісці на літоўскую зямлю, верагодна, з той жа мэтай адправіў пасла да малдаўскага ваяводы Стэфана і сам разгарнуў «варожыя дзеянні»[16]. Такім чынам, варта думаць, што менавіта з 1492 г. гістарыёграф адлічваў ход першай

---

[9] Бантыш-Каменский Н.Н. Переписка между Россиею и Польшею по 1700 год. Ч. 1. С. 3, 4, 5, 7, 9. У падзеях пасля смерці караля Казіміра і выбрання ў ВКЛ асобнага валадара паслы і жыхары ВКЛ называліся ўжо літоўскімі (Тамсама. С. 11, 12). Тым не менш літоўска-маскоўскія адносіны па-ранейшаму разглядаліся ў рамках «дел» расійскага і польскага двароў.

[10] Тамсама. С. 10.

[11] Тамсама. С. 1, 3, 7, 8.

[12] Карамзин Н.М. История государства Российского в 12-ти томах. Т. VI / Под ред. А.Н. Сахарова. М., 1998. С. 104, 144.

[13] Тамсама. С. 110.

[14] Тамсама. С. 144.

[15] Тамсама. С. 144, 145—146.

[16] Тамсама. С. 146.

маскоўска-літоўскай памежнай вайны. Зрэшты, новы «Гасудар Літоўскі» Аляксандр, па словах М.М. Карамзіна, «усяго больш жадаў міру з Расіяй, ад юных гадоў чуўшы бесперастанку пра веліч і пра перамогі яе Самадзержца»[17]. Пачаліся перамовы аб сватанні, што не перашкодзіла маскоўскаму боку пасля ад'езду паслоў працягнуць варожыя дзеянні. Яшчэ болей наважыла Івана III на вайну спроба замаху на яго падасланага нібыта яшчэ Казімірам князя Івана Лукомскага[18].

Вялікі князь літоўскі Аляксандр аказаўся без дапамогі Польшчы ў асяроддзі ворагаў, найнебяспечнейшым з якіх быў Іван III. М.М. Карамзін пазначыў пашырэнне маскоўскіх меж — да р. Жыздры і нават Дняпра, што было ажыццёўлена, карыстаючыся «не столько мечом, сколько приманом». Гэты спосаб вядзення вайны палягаў на тым, што маскоўскі ўладар «імем айчыны і адзінаверства» заклікаў «да сябе ўсіх старажытных Расіян»[19]. Тут, вядома, не толькі адыгрывала ролю сумнеўная тэза пра ўціск правоў праваслаўных у ВКЛ, але і выстаўляліся патрыятычныя пачуцці, якія наўрад ці адчувалі жыхары ВКЛ у адносінах да Вялікага Княства Маскоўскага.

Рашучае імкненне Аляксандра да міру цалкам зразумела. Не гэтак лёгка было М.М. Карамзіну растлумачыць «міралюбнасць Івана», дзейнасці якога ўсё вакол спрыяла. Тут прычынамі стаў характар Івана III, жаданне цішыні пасля больш чым 30 гадоў кіравання і, мабыць, галоўнае — прадбачанне непазбежнасці вайны з Польшчай, Вугоршчынай і Багеміяй, а таксама няўпэўненасць у саюзе крымскага хана і малдаўскага ваяводы. Акрамя таго, як справядліва заўважыў гістарыёграф, у той час Літоўская Расія разглядалася як чужая, а Іван III, заняўшы яе частку, быў задаволены сваёй перавагай і мірам хацеў зацвердзіць набытае[20].

Па выніках заключанага міру ў студзені 1494 г. М.М. Карамзін пералічыў шэраг гарадоў, якія засталіся за Расіяй[21], чым, верагодна, увёў у зман вялікую колькасць наступных гісторыкаў. Алексін, Цяшылаў, Рослаўль, Венеў, Мсціслаў, Таруса, Абаленск, Мяшчэра і дагэтуль падпарадкоўваліся Маскве, а іх пералік у дамове быў наступствам натуральнага вызначэння памежных месцаў, якія стаялі ў маскоўскім баку і сваім месцаразмяшчэннем у нейкай ступені вызначалі мяжу. Няведанне гістарычнай геаграфіі прывяло да няправільных высноў іншых даследчыкаў, а таксама абвінавачванняў у памылках самога М.М. Карамзіна. Гэта звязана, перш за ўсё, з пазначэннем у ліку маскоўскіх Рослаўля і Мсціслава, пад якім хаваліся не гарады ВКЛ, далучаныя да Масквы ў пачатку XVI ст., а разанскія пасяленні, вядомыя здаўна.

Такім чынам, М.М. Карамзін унёс істотны ўклад у развіццё ўяўленняў аб ходзе, часе і характары першай памежнай вайны. Яго ўяўленні былі ў далейшым развіты, пазбаўлены ад суб'ектывізму, у чымсьці раскрытыкаваны. У частцы, якая адносіцца да часу праўлення Івана III, «апошні летапісец» практычна адмовіўся ад апавядальнай формы выкладання матэрыялу, характэрнай, напрыклад, для перыяду Старажытнай Русі, і перайшоў да аналізу і сур'ёзнага абагульнення падзей канца XV ст.

Г.Ф. Карпаў, які апублікаваў асноўную крыніцу па адносінах Масквы і Вільні ў другой палове XV ст. — пасольскія кнігі, задоўга да гэтага напісаў самастойнае

[17] Карамзин Н.М. История государства Российского в 12-ти томах. Т. VI. С. 104, 144.

[18] Тамсама. С. 148.

[19] Тамсама. С. 149.

[20] Тамсама. С. 150.

[21] Тамсама. С. 151.

даследаванне аб барацьбе Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ[22]. Аўтар аднёс пачатак варожых дзеянняў Масквы супраць Літвы да 1473 г., калі Сямён Беклямышаў хадзіў на Любуцк з раццю вялікага князя[23]. Але, па словах даследчыка, адносіны паміж дзяржавамі не парарываліся, Казімір вайны не пачынаў, і толькі пасля далучэння да Масквы Цверы і ўзяцця Казані (гэта значыць пасля 1485—1487 гг.) наступленне Масквы пачалося на самой справе[24]. Разам з тым, урад ВКЛ чамусьці не лічыў, што ён вядзе вайну з Масквой. У выніку маскоўскае наступленне было спынена своеасаблівым сродкам «Ягайлаўцаў» — іх шлюбнай палітыкай. Такім чынам, даціроўка маскоўска-літоўскіх варожых дзеянняў ва ўяўленні Г.Ф. Карпава выпадае прыкладна на 1487—1494 гг., хаця сам ён даволі асцярожна падыходзіў нават да самога факту вайны. Характэрна, што ў 1494 г. — часе заключэння мірнай дамовы, Г.Ф. Карпаў убачыў пэўную мяжу ў адносінах суседніх дзяржаў, пасля якой «рускі ўрад» атрымаў права і абавязак абараняць праваслаўных у ВКЛ[25].

М.К. Любаўскі разглядаў літоўска-маскоўскія адносіны да 1492 г. у кантэксце аддзялення ад Літвы вярхоўскіх князёў (з Верхняокскай украйны). Дапамога мясцовых князёў была карыснай у барацьбе з татарамі, і Масква не толькі прывабліва іх да пераходу на сваю службу[26], але і аказвала пэўны ціск[27]. І толькі ў жніўні 1492 г. «нацягнутыя адносіны паміж Масквой і Літвой урэшце рэшт вырашыліся адкрытай вайной паміж імі»[28].

У лекцыях па гісторыі Заходняй Русі і Літоўска-Рускай дзяржавы, якія чытаў А.Я. Праснякоў у Пецярбургскім універсітэце ў 1908—1910 гг., пытанне аб маскоўска-літоўскім супрацьстаянні прадстаўлена ў непасрэднай сувязі са спецыфікай дзяржаўнага ладу ВКЛ. На думку гісторыка, палітычнае аб'яднанне ВКЛ адбылося з-за неабходнасці барацьбы са знешняй небяспекай. Такім чынам, вакол ВКЛ з'ядналіся землі-анэксы, паўстала польска-літоўская унія[29]. У апошнія ж дзесяцігоддзі XV ст. былі адноўлены знешнія ўмовы развіцця Літоўска-Рускай дзяржавы. У яе палітыцы дамінуючую ролю зноў пачалі адыгрываць усходнярускія (з Вялікім Княствам Маскоўскім) і татарскія (з Крымскім ханствам) адносіны[30].

Але становішча ВКЛ ужо было не тое, што пры Вітаўце. Яшчэ ў 1449 г. была заключана дамова, якая размяжоўвала сферы ўплыву Масквы і Літвы, а ў далейшым палітыка літоўскага ўрада на ўсходзе адрознівалася пасіўнасцю, нават перад пагрозай падзення Ноўгарада і Цверы і фактычнага пераходу ўлады над Разанню ў маскоўскія рукі. Магчымую рэакцыю караля і вялікага князя Казіміра паралізавалі спачатку пруская вайна (да 1466 г.), а потым напружанасць ва ўнутраных адносінах[31].

22 Карпов Г.Ф. История борьбы Московского государства с Польско-Литовским. 1462—1508. Ч. 1—2. М., 1867.

23 Карпов Г.Ф. История борьбы Московского государства с Польско-Литовским. Ч. 2. С. 2.

24 Тамсама. С. 3.

25 Тамсама. С. 19.

26 Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 123.

27 Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. СПб., 2004. С. 208.

28 Любавский М.К. Образование основной государственной территории. С. 123.

29 Пресняков А.Е. Лекции по русской истории. Т. II. Вып. 1. Западная Русь и Литовско-Русское государство. М., 1939. С. 151.

30 Тамсама. С. 152.

31 Тамсама.

А.Я. Праснякоў прыводзіць заўвагу Я. Длугаша пра тое, што Казімір лічыў магчымай барацьбу супраць узмацнелага суседа толькі супольнымі сіламі Літвы і Польшчы, пры гэтым на дапамогу рускіх (падданых вялікага князя літоўскага) спадзявацца не даводзілася — яны паспрыялі б хутчэй згубе, чым перамозе ліцвінаў[32].

Характарызуючы літоўска-маскоўскія адносіны ў апошняй чвэрці XV ст., А.Я. Праснякоў вобразна паказаў Маскоўскую дзяржаву, якая насунулася «на самую літоўскую граніцу», а ціск яе на ўнутраныя адносіны (перш за ўсё памежныя) у Літоўска-Рускай дзяржаве ўзмацніўся. У выніку падзей 80—90-х гг. XV ст., па словах А.Я. Праснякова, «дэмаркацыйная лінія паміж абедзвюма дзяржавамі — лінія напаўсамастойных буйных і дробных княстваў з падзелам сфер літоўскага і маскоўскага ўплываў — сцёрта напорам Масквы»[33].

Першым клопатам новага вялікага князя Аляксандра, сына Казіміра, было імкненне захаваць адзінства Літоўска-Рускай дзяржавы ад якіх небудзь узрушэнняў. У агульназемскім прывілеі вялікага князя Аляксандра (6 жніўня 1492 г.) у першым з новых артыкулаў (што дапаўнялі аналагічны акт Казіміра 1447 г.) утрымлівалася абяцанне «не прымяншаць зямель Вялікага Княства Літоўскага, але захаваць межы часоў Вітаўта і Жыгімонта, а па магчымасці і пашыраць іх»[34]. Таксама Аляксандр абавязаўся падтрымліваць адносіны з суседнімі дзяржавамі і, што важна, захоўваць усе раней заключаныя дамовы[35]. Уплыў прыведзеных артыкулаў на знешнюю палітыку ВКЛ А.Я. Праснякоў не разглядае. Асноўнае значэнне прывілея Аляксандра, на яго думку, было ў стварэнні ўрада новага тыпу, які зводзіў на нішто актыўную асабістую ролю манарха. Таму ў 1492 г. гісторык заўважыў мяжу, якая падзяліла два перыяды ў гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы[36].

Іншым істотным бокам тых умоў, у якіх прыняў уладу ў ВКЛ Аляксандр, быў стан польска-літоўскіх адносін. Беручы пад увагу магчымую вайну з Масквой вясной 1493 г., Аляксандр і рада ВКЛ звярнуліся па ваенную дапамогу да Польшчы. Але ў перамовах паўсталі некаторыя перашкоды, а маскоўская небяспека ў выніку была

32 Пресняков А.Е. Лекции по русской истории. Т. II. Вып. 1. С. 152—153.

33 Тамсама. С. 153.

34 Тамсама. С. 162. «Et primo ac principaliter, promittimus ac spondemus: quod dominia seu terras Magniducatus Lithvanie non diminuemus, sed in suis limitibus, prout antecessores nostri, et signanter Dux Allexander alias Vitowdus et Sigismundus tenuerunt et possidebant sic et nos easdem integras tenebimus et possidebimus, ac tuebimur, atque cum dei auxilio, pro cunctis veribus nostris, studebimus dilatare et ampliare, tempore competenti» (Kodex dyplomatyczny Polski… wydany za staraniem i pracą L. Rzyszczewskiego i A. Muczkowskiego przez A.Z. Helcel. T. I. Warszawa, 1847. № CXCIV. S. 348—349). Параўнайце з перакладам на беларускую мову: «§ 12. Перш і пераважна мы абяцаем і ручаемся, што даміній, або зямель Вялікага Княства Літоўскага, мы не паменшым, але іх павялічым у сваіх межах. Як нашы продкі, і ў прыватнасці князь Аляксандр, інакш Вітаўт і Жыгімонт, трымалі і ўладалі, таксама і мы іх у цэласці будзем трымаць, уладаць і захоўваць і, з божай дапамогай, паклапоцімся ўсімі нашымі сіламі іх пашырыць і павялічыць у адпаведны час» (Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. IX—XVIII ст. / Склалі В.К. Шчарбакоў, К.І. Кернажыцкі і Д.І. Даўгяла. Менск, 1936. С. 223).

35 Пресняков А.Е. Лекции по русской истории. Т. II. Вып. 1. С. 162. «Item cum quibus terries et dominijs inscripciones, confederaciones, ligas, et iuramenta, ab antiquo habemus pacis perpetue, eas nolumus infringere, sed in melius, cum dei auxilio, ducere atque adaugere» (Kodex dyplomatyczny Polski. T. I. № CXCIV. S. 349). Параўнайце з перакладам на беларускую мову: «Таксама з якімі землямі і дамініямі мы са здаўна маем запісы, канфедэрацыі, саюзы і клятвенныя абязацельствы светлага міру, мы іх не жадаем разрываць, але, з божай дапамогай, будзем даводзіць іх да лепшага становішча і павелічэння» (Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. С. 223).

36 Пресняков А.Е. Лекции по русской истории. Т. II. Вып. 1. С. 163.

ўладжана дыпламатычным спосабам, хаця становішча ВКЛ было цяжкім. У ходзе памежнай вайны, па словах А.Я. Праснякова, «спробы літоўскіх ваявод абараніць спрэчныя тэрыторыі скончыліся няўдачай» і Аляксандр вымушаны быў заключыць дамову, паводле якой за Масквой былі прызнаны ўсе яе захопы. Гісторык называў умову дамовы надалей не прымаць службовых князёў з вотчынамі «платанічнай», а саму дамову не мірнай, а саюзнай[37]. Зрэшты, факт усталявання міру з Масквой, А.Я. Праснякоў тут жа ўвязвае са з'яўленнем свабоды рук у віленскага ўрада ў адносінах з Польшчай, якія апісвае падрабязна, так што агульнай характарыстыкі літоўска-маскоўскіх адносінаў у канцы XV ст. не прагучала, а сама першая памежная вайна па сутнасці была толькі мімаходзь згадана.

Несумненна, лепшы на сённяшні дзень агляд памежнай вайны Вялікага Княства Маскоўскага з Вялікім Княствам Літоўскім даў у сваёй кнізе аб знешняй палітыцы Расіі другой паловы XV ст. К.В. Базілевіч. Перш чым прыступіць да апісання самой вайны, гісторык звярнуўся да аналізу міжнароднай сітуацыі, прычым зрабіў яго бліскуча. Вайна пазначана пад 1487—1494 гг., але ў тэксце аўтар сцвярджаў, што ваенныя дзеянні набылі сур'ёзны характар ужо з канца 1486 г.[38]. У іншым жа месцы К.В. Базілевіч адводзіў памежнай вайне 1492—1493 гг. і пры гэтым па-майстэрску апісваў яе своеасаблівы характар, звязаны з хітрай палітыкай маскоўскага вялікага князя[39].

Варта было б чакаць ад працы, напісанай у 1950 г. і выдадзенай у 1952 г. моцнай тэндэнцыйнасці, прадыктаванай сталінскай эпохай. Аднак кнігу характарызуе строга навуковы падыход, выкарыстанне шырокага кола крыніц, прыцягненне малавядомых нават і ў цяперашні час у Расіі польскіх даследаванняў, лёгкая і цікавая манера выкладання матэрыяла.

На жаль, слабым месцам даследавання К.В. Базілевіча з'яўляецца недастатковая ўвага да гістарычнай геаграфіі літоўска-маскоўскага памежжа. Прадастаўленне спісаў гарадоў і валасцей, пералік спрэчных рэгіёнаў і нават апісанне ўсталяванай паводле ўмоў міру 1494 г. мяжы не дапамагаюць разабрацца ў сэнсе і задумцы дзеянняў маскоўскіх удзельных князёў і ваявод, метадах вядзення памежнай вайны і г.д. У значнай ступені гэты прабел кампенсавалі карты, прыкладзеныя да кнігі і падрыхтаваныя выдатным спецыялістам І.А. Галубцовым. Асобная карта («Ліквідацыя феадальнай раздробленасці і татарскага іга, далучэнне да Рускай дзяржавы спрадвечных рускіх зямель») праілюстравала памежную сітуацыю ад г. Нарвы на поўначы да рэк Самары і Северскага Данца на поўдні з пазначэннем тэрытарыяльных змен і ваенных дзеянняў з 60-х гг. XV ст. да 1503 г.[40]. Карта не пазбегла некаторых вядомых толькі спецыялістам недакладных уяўленняў (участак літоўска-маскоўскай мяжы па рр. Гжаці і Угры, межы Любецкай воласці па Дняпры, лакалізацыя населеных пунктаў і г.д.), але па-ранейшаму застаецца найбольш падрабязнай і дакладнай.

На фоне міжнародных адносін ва Усходняй Еўропе разглядаў тую ж вайну І.Б. Грэкаў. Гісторык са спасылкай на Л. Калянкоўскага, заўважыў, што вайна, якая не была афіцыйна аб'яўленай, фактычна вялася з 1487 да 1494 г.[41].

---

[37] Пресняков А.Е. Лекции по русской истории. Т. II. Вып. 1. С. 164.

[38] Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 283.

[39] Тамсама. С. 304—305.

[40] Ликвидация феодальной раздробленности и татарского ига, присоединение к Русскому государству исконных русских земель (карта). Составил И. Голубцов // Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. Вкладыш.

[41] Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XV вв. М., 1963. С. 201.

А.А. Зімін у сваёй працы, прысвечанай гісторыі Расіі мяжы XV—XVI стст., наогул адмовіўся ад вызначэння дакладнай даты вайны[42], і гэтая пазіцыя ўяўляецца даволі абгрунтаванай. Вайна, якая цягнулася да заключэння дамовы ў 1494 г., была ахарактарызавана гісторыкам як «дзіўная»[43], але што з'явілася прычынай такой назвы — ён не патлумачыў.

У фундаментальнай манаграфіі М.М. Крома асаблівая ўвага надаецца даследаванню ролі памежных князёў у барацьбе ВКЛ з Вялікім Княствам Маскоўскім, а таксама высвятленню пазіцыі заходнярускіх гарадоў у гэтым супрацьстаянні. У 80—90-я гг. XV ст., на думку М.М. Крома, адбываўся руска-літоўскі канфлікт, аднак адкрытая вайна пачалася менавіта ў 1492 г. і скончылася з падпісаннем «вечнага» міру 5 лютага 1494 г.[44].

У сваёй кнізе, прысвечанай дзейнасці Івана III, М.С. Барысаў апісвае маскоўска-літоўскую вайну, якая мела з боку Масквы характар наступлення, пачалася ў 1487, а скончылася ў 1494 г.[45]. Вайна вялася за памежныя рэгіёны з нявызначаным або падвойным палітычным статусам.

Ю.Р. Аляксееў у аналагічнай працы свядома сцвярджаў, што вайна пачалася ў 1486 г. Пры гэтым ён прывёў вытрымку (без спасылкі) з крымскіх пасольскіх кніг за той час (людзі вялікага князя маскоўскага «беспрестанно емлют королеву землю»)[46], якая, на яго думку, сведчыла пра няспынную памежную вайну, што ўжо тады вялася паміж Руссю і Літвой[47]. Аднак пазней Ю.Р. Аляксееў змяніў пазіцыю ў адносінах да дацыроўкі першай памежнай вайны і ўжо характарызаваў Літоўскую вайну 1492—1493 гг. як першую кампанію наступлення Расіі ў заходнім кірунку з мэтай вяртання рускіх зямель, страчаных у перыяд літоўска-татарскага ліхалецця[48]. Агульнымі рысамі вайны было ажыццяўленне шэрагу аперацый ва ўсіх кірунках на невялікай адлегласці. Пры гэтым вялікую ролю ў вырашэнні канкрэтных задач — захопаў гарадоў, адыграла ВГК (вярхоўнае галоўнакамандаванне), якое ажыццяўляла агульнае кіраванне і каардынацыю, стварала стратэгічны рэзерв на выпадак контрнаступлення праціўніка. Такім чынам, з невялікімі стратамі быў дасягнуты значны стратэгічны і палітычны вынік[49].

Неабходна ўзгадаць таксама кнігу А.У. Шэкава — адзіную манаграфію, прысвечаную гісторыі Вярхоўскіх княстваў[50]. На думку даследчыка, «з 1487 г. маскоўска-літоўскія памежныя сутыкненні набываюць устойлівы характар» і з гэтага часу да 1494 г. характарызуюцца крыніцамі як памежная вайна[51]. У выніку вайны Вярхоўскія княствы былі далучаны да Масквы, існавалі яшчэ тры чвэрці XVI ст., але ў сувязі з тым, што страцілі магчымасць лавіравання паміж раўнамоцнымі дзяржавамі, былі ў выніку ліквідаваны.

---

42 Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий. М., 1982. С. 93.

43 Тамсама.

44 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в. М., 1995. С. 80, 90—91, 171.

45 Борисов Н.С. Иван III. М., 2000. С. 471.

46 Згодна з публікацыяй Г.Ф. Карпава гэта цытата гучыць наступным чынам: «А осподаря нашего великого князя люди безпрестанно емлют королеву землю» (Памятники дипломатических сношений России с азиатскими народами. Т. 1 // СИРИО. Т. 41. СПб., 1884. № 13. С. 48).

47 Алексеев Ю.Г. Государь всея Руси. С. 179.

48 Алексеев Ю.Г. Походы русских войск при Иване III: Некоторые вопросы стратегического руководства. С. 44. У выданні «Литовская война» памылкова надрукавана як «Ливонская».

49 Тамсама.

50 Шеков А.В. Верховские княжества.

51 Тамсама. С. 45.

Сярод апошніх прац, якія тычацца падзей першай памежнай вайны, нельга не звярнуць увагу на артыкул У.А. Волкава «Хітрая вайна», у якой аўтар крытыкуе характарыстыку вайны А.А. Зіміна як «дзіўнай» і адначасова прапануе сваё разуменне падзей. У падзагалоўку назвы артыкула адразу заяўлена храналогія вайны: «Маскоўска-літоўскае супрацьстаянне 1492—1494 гг.»[52], тым не менш значная частка тэксту прысвечана апісанню ад'ездаў вярхоўскіх князёў на маскоўскую службу, якія адбываліся з пачатку 1470-х гг. Аўтар згадвае паход 11 маскоўскіх ваявод на Варатынск у 1489 г., але чамусьці далей сцвярджае, што да смерці Казіміра IV справы абмяжоўваліся лакальнымі памежнымі сутыкненнямі і ўзаемнымі папрокамі[53]. Пасля агляду падзей вайны 1492—1494 гг. У.А. Волкаў прыступае да высноў. На яго думку, узброены канфлікт не меў ніякіх «дзівацтваў», як лічыў А.А. Зімін, а адбываўся паводле старанна прадуманага плана. Пры гэтым маскоўскія ваяводы выпраўляліся ў бой толькі тады, калі трэба было абараніць таго князя, які пажадаў перайсці на маскоўскі бок[54]. Безумоўна, трэба пагадзіцца з існаваннем нейкага плана ці, дакладней, прадуманай тактыкі з маскоўскага боку ў імкненні захапіць памежныя землі ВКЛ. Але, неабходна заўважыць, па-першае, што А.А. Зімін аднёс тэрмін «дзіўная» да вайны, якая разгортвалася з 80-х гг. XV ст., што мае зусім іншы сэнс, а, па-другое, сапраўды «дзіўна» выглядае тэзіс У. Волкава пра абарону памежных князёў. У адной са спасылак да свайго артыкула аўтар зачапіў яшчэ М.М. Крома і М.С. Барысава, якія падтрымалі погляд А.А. Зіміна і лічылі, быццам вайна ішла амаль без прыцягнення Іванам III уласнай ваеннай сілы і пачалася яшчэ ў 1487 г.[55]. Чамусьці, па словах У.А. Волкава, усе крыніцы пераканаўча сведчаць пра пачатак вайны ў жніўні 1492 г.[56].

Артыкул У.А. Волкава падводзіць своеасаблівы вынік развіццю расійскай гістарыяграфіі па праблеме першай памежнай вайны. Можна заўважыць, што расійскія даследчыкі ў пытанні дацiроўкі вайны падзяліліся на два лагеры: прыхільнікаў вядзення своеасаблівай вайны з 80-х гг. XV ст. і абаронцаў выразна абазначаных ваенных дзеянняў 1492—1494 гг.

Уяўленні пра дацiроўку, ход і спецыфіку літоўска-маскоўскіх узаемаадносін у канцы XV ст. знайшлі дэталёвую распрацоўку ў польскай гістарыяграфіі.

Даследчык усходняй мяжы ВКЛ Я. Натансан-Лескі падзяляў літоўска-маскоўскія адносіны канца XV ст. на два канфлікты: памежную вайну падчас міру («Wojna kresowa podczas pokoju») 1486—1492 гг. і першую маскоўскую вайну 1492—1493 гг. Апошняя скончылася ў лютым 1494 г., калі быў заключаны мір[57]. Памежная вайна пры гэтым характарызавалася шэрагам наездаў на межы, якія спалучаліся са здрадай мясцовых князёў і далучэннем іх уладанняў да Масквы, а першая маскоўская вайна — рухам трох вялікіх войскаў на тэрыторыю Літвы і захопам гарадоў у Паочы, Вяземшчыне і Смаленшчыне[58].

---

52 Волков В. Хитрая война. Московско-литовское противостояние 1492—1494 гг. // Родина. 2003. № 11. С. 60. Карту да гэтага артыкула склаў В.М. Цемушаў. Гл.: Темушев В.Н. Пограничная война Великого Княжества Московского с Великим Княжеством Литовским. 1487—1494 гг. // Родина. № 11. 2003. С. 58—59. Карта.

53 Тамсама. С. 60—61.

54 Тамсама. С. 62.

55 Тамсама. С. 63.

56 Тамсама.

57 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 68, 76, 78.

58 Тамсама. S. 68, 76.

Л. Калянкоўскі ў сваёй працы па гісторыі ВКЛ пісаў пра маскоўскі націск на ўсходнія літоўскія межы ў 1486—1492 гг., сэнс якога палягаў у імкненні да тэрытарыяльных набыткаў[59]. Па словах гісторыка, яшчэ ў 1485 г. праз сваіх паслоў Літва заяўляла пра маскоўскія рабаванні і разбоі на ўскраінах ВКЛ[60]. Таксама згадваецца спусташэнне Мцэнска з боку Разані, якое адбылося ў пачатку траўня 1486 г. Потым даецца падрабязны разбор канфліктаў на памежжы да 1492 г., што перарываюцца смерцю Казіміра Ягайлавіча, а потым працягваюцца маскоўскімі нападамі на гарады ВКЛ пры Аляксандры Казіміравічы і спыняюцца з заключэннем міру 5 (7) лютага 1494 г.[61]. Польскі даследчык не карыстаўся тэрмінам «вайна», але, па сутнасці, час баявых дзеянняў працягвае з 1486 па 1494 г.

У іншай сваёй працы Л. Калянкоўскі сцвярджаў, што націск Івана III на ўсходнія літоўскія землі фактычна пачаўся пасля далучэння да яго імперыі Ноўгарада, але бесперапынныя войны працягваліся з 1487 г. З пачатку 1492 г. вялікі князь маскоўскі выступаў ужо з прэтэнзіямі на шэраг гарадоў і валасцей[62].

У даследаванні С.М. Кучыньскага, прысвечаным чарнігаўска-северскім землям пад уладай ВКЛ, канкрэтныя даты маскоўска-літоўскага супрацьстаяння канца XV ст. вылучыць складана. Вялікія маскоўскія наезды на Вярхоўскія княствы пачаліся з 1484 г., але адбываліся яны ўжо ў 1470—1474 гг.[63]. На падставе згадкі ў крыніцах маскоўскіх «наездаў», якія адносяцца да перыяду да 1485 і 1487 гг. (на якія абапіраліся, адпаведна, Л. Калянкоўскі і Ф. Попэ), С.М. Кучыньскі перасоўвае датыроўку пачатку ваенных дзеянняў да 1468—1470 гг.[64]. Пры гэтым хочацца заўважыць, што параўнанне і нават некаторае атаясамленне сітуацыі, якая склалася ў літоўска-маскоўкім памежжы да 1470 г., з канфрантацыяй двух бакоў, што назіралася ў 1480-я гг. моцна перабольшанае. Апора толькі на адну нявызначаную фразу, вымаўленую спрабаваўшым абгаварыць маскоўскага гаспадара паслом ад Казіміра ў Вялікую Арду Кірэем («понеже бо многаа истома земли моей [Казіміра. — *В.Ц.*] от его [Івана III. — *В.Ц.*]»)[65] не дае падстаў падаўжаць вайну на паўтара дзясятка гадоў.

З іншага боку, гісторык лічыў, што не варта называць першым годам маскоўска-літоўскай вайны 1492. Гэты год быў толькі часам узмацнення ваеннай актыўнасці і пачаткам канца 20-гадовай памежнай вайны, якая вялася з абодвух бакоў без фармальнага абвяшчэння[66]. Яшчэ да пазначанага года ў памежных справах выкарыстоўваліся рэгулярныя палкі, «відавочнай вайной» выглядае справа пад сценамі Варатынска 1489 г., калі туды рушылі 11 маскоўскіх ваявод[67]. Узмацненне вайны ў 1492 г. не суправаджалася яе абвяшчэннем, наогул не існуе звестак аб пачатку канфрантацыі. Па словах Кучыньскага, «фармальна абодва ўрады не

[59] Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. S. 389.

[60] Тамсама. S. 389. У сучасным выданні той дакумент з Метрыкі ВКЛ, на які спасылаецца Л. Калянкоўскі, датуецца 1486 г. (LM. Kn. 4 (1479—1491) / Parengė L. Anužutė. Vilnius, 1994. № 128. P. 138).

[61] Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. S. 390—412.

[62] Kolankowski L. Polska Jagiellonów. Dzieje polityczne. Lwów, 1936. S. 145.

[63] Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 279.

[64] Тамсама. S. 268.

[65] ПСРЛ. Т. VIII (Летопись по Воскресенскому списку). М., 2001. С. 158.

[66] Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 289.

[67] Тамсама.

называлі сваім імем тое, што адбывалася фактычна»[68]. У выніку гісторык прапануе або прызнаць вайну дваццацігадовай — паміж 1473—1493 гг. — «вайной пасярод міру», або лічыць літаральна, што яе не было, а першая літоўска-маскоўская вайна адбылася ў 1500—1503 гг.[69].

Г. Лаўмяньскі ўслед за іншымі гісторыкамі вылучаў перыяд памежнай вайны падчас міру («wojna kresowa podczas pokoju»), які адносіцца да 1486—1492 гг. Гэтая вайна складалася з памежных сутыкненняў, якія мелі дваякі характар: 1) дзеянні маскоўскіх атрадаў і 2) справы памежных князёў[70]. Пасля аперацый дыверсійнага характару, якія так і не прывялі да сур'ёзнай канфрантацыі, пачалася першая маскоўская вайна, якая скончылася «вечным» мірам[71].

І нарэшце, Г. Блашчык лічыў, што ў пачатку праўлення ў ВКЛ Аляксандра Ягелончыка стаяла праблема завяршэння вайны з Масквой, якая была ўрэгулявана ў 1494 г.[72]. Першая маскоўская вайна адбывалася паміж 1492—1494 гг., але ёй папярэднічалі падзеі, якія А.А. Зімін вызначыў як «дзіўную вайну», а Л. Калянкоўскі — «памежную вайну». Вытокі той вайны гісторык прапануе шукаць у ад'ездзе да Масквы вярхоўскіх князёў. Апошнія таксама адыгралі ключавую ролю ва ўсім канфлікце[73].

Такім чынам, можна заўважыць, што большасць польскіх гісторыкаў амаль адзінадушна распаўсюджвае час маскоўска-літоўскага супрацьстаяння на 1486—1494 гг. (з пэўнымі нюансамі). Істотным з'яўляецца падзел вайны на два этапы, для якіх мяжой з'яўляецца 1492 г. — год смерці караля Казіміра і час пералому ў гісторыі ВКЛ. Але С.М. Кучыньскі прадставіў пераканаўчую крытыку такога падыходу, якая прымушае звязаць усе падзеі пэўнага часу ў адну вайну.

Прадстаўнік літоўскай гістарыяграфіі Э. Гудавічус згадвае памежныя сутыкненні або інцыдэнты, якія адбываліся з 1486 г.[74]. Непрыхаванае спусташэнне і заваяванне залежных зямель, якое пачалося ў 1486 г., набыло ў наступным годзе характар бесперапыннай вайны, якая ў апісанні падзей 1490—1491 гг. называецца «малой» памежнай вайной[75]. Паспяховай для ВКЛ была толькі абарона на мцэнска-любуцкай мяжы, але падчас вайны 1492—1494 гг. крэпасці Мцэнск і Любуцк былі страчаны[76]. Па словах гісторыка, у пачатку 1493 г. Літве была афіцыйна аб'яўлена вайна, і ВКЛ зноў страціла шэраг гарадоў і валасцей. Сярод апошніх пералічаны Алексін, Цяшылаў, Рослаўль, Таруса, Абаленск[77], якія або ніколі ВКЛ не належалі, або не былі страчаны да таго часу (гэта ў выпадку, калі маецца на ўвазе літоўскі, а не разанскі Рослаўль, а менавіта апошні ў маскоўскім баку згаданы ў тэксце дамовы 1494 г.). Таксама сярод вернутых ВКЛ гарадоў не магло быць Лучына і Бранска[78] — яны не былі захоплены. Э. Гудавічус не бачыць вялікага маштабу вайны 1492—1494 гг.

---

68 «Formalnie obydwa rządy nie nazywały po imieniu tego, co się działo faktycznie» (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 290).

69 Тамсама. S. 291.

70 Łowmiański H. Polityka Jagiellonów. Poznań, 1999. S. 402—403.

71 Тамсама. S. 400, 407.

72 Błaszczyk G. Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności (1492—1569). Poznań, 2002. S. 13.

73 Тамсама. S. 22.

74 Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года. М., 2005. С. 344.

75 Тамсама. С. 347.

76 Тамсама. С. 348, 489.

77 Тамсама. С. 490.

78 Тамсама. С. 493.

Паводле яго словаў, горш за тэрытарыяльныя страты былі маральныя наступствы, а заключаная дамова не давала ніякіх гарантый, а толькі фіксавала пачатак рускага ўварвання[79].

У беларускай гістарыяграфіі не склалася адзінага погляду на храналогію маскоўска-літоўскага канфлікту. Да цяперашняга часу адсутнічае асобная праца акадэмічнага ўзроўню, у якой разглядалася б не толькі першая маскоўска-літоўская памежная вайна канца XV ст., але і наогул адносіны Масквы і Вільні ў XV—XVI стст. З нешматлікіх артыкулаў, навукова-папулярнай, вучэбнай і даведачнай літаратуры складваецца ўражанне, што ў айчыннай гістарычнай навуцы пануе ўяўленне аб тым, што вайна пачалася пасля смерці Казіміра Ягайлавіча і завяршылася «вечным» мірам 1494 г.[80].

З усіх поглядаў можна вылучыць два асноўныя падыходы. У першым перавага аддаецца буйнамаштабным баявым дзеянням у пачатку праўлення Аляксандра Казіміравіча (1492—1494 гг.), у другім — не зважаючы на змены ў кіраўніцтве ВКЛ — другой палове 80-х гг. XV ст. — 1494 г. Пры гэтым неабходна заўважыць, што паміж прыхільнікамі абодвух падыходаў вялікіх супярэчнасцей няма. Ніхто не адмаўляў вядзення баявых дзеянняў да 1492 г., але хтосьці лічыў іх толькі падрыхтоўкай да адкрытай вайны, хтосьці — дробнымі памежнымі сутычкамі або справамі мясцовых князёў, іншыя лічылі іх такімі ж па праяве падзеямі, але патаемнымі па характары, што дыктавалася імкненнем абодвух бакоў не ўвязвацца ў вялікую вайну і не пераносіць на яе ўвагу з больш значных напрамкаў.

Уяўляецца, што на пазіцыю прыхільнікаў пачатку вайны з 1492 г. значна паўплывала сведчанне крыніцы, а менавіта Хронікі Быхаўца, у якой недвухсэнсоўна сцвярджалася: «Tohož hodu [1492 г. — *В.Ц.*] na zimu poczał walku na welikoie kniaženije Litowskoje weliki kniaź Moskowski Iwan Wasiljewicz»[81]. У цэлым жа неабходна адзначыць, што ўяўленні аб часе вядзення ваенных дзеянняў, іх характары і падзейным баку складаліся, зыходзячы са стану крыніцазнаўчай базы. Так, напрыклад, пасольскія кнігі, якія ілюструюць адносіны паміж ВКЛ і Вялікім Княствам Маскоўскім, захаваліся толькі з 1487 г. Першыя ж матэрыялы ў іх сведчылі аб

---

79 Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года. С. 494.

80 Пічэта У.І. Гісторыя Беларусі. Мінск, 2005. С. 130; Сагановіч Г.М. Вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім 1492—94 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 2. Беліцк—Гімн. Мінск, 1994. С. 185—186; Кананові́ч У. І. Усходняя палітыка Казіміра ў апошняй чвэрці XV ст. // Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў: Тэзісы дакладаў. Ч. 2. Мінск, 1993. С. 112—115; Ён жа. Змаганне за спадчыну Рурыкавічаў (Палітычныя дачыненні Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы ў XV—XVI стст.) // Беларуская мінуўшчына. 1997. № 5. С. 2—7; Салей С. М. Усходні напрамак знешняй палітыкі Вялікага княства Літоўскага ў 1385—1569 гг. // Шлях у навуку. Мінск, 1997. С. 142—145; Сагановіч Г.М. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. Мінск, 2001. С. 108; Снапкоўскі У.Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі: Вучэб. дапам. для студэнтаў фак. міжнар. адносін: У 2 ч. Ч. 1. Ад пачаткаў дзяржаўнасці да канца XVIII ст. Мінск, 2003. С. 124 (Тэкст, які датычыцца вайны, амаль даслоўна перапісаны з энцыклапедычнага артыкула, аўтар якога — Г. Сагановіч); Шэйфер В.А. Узаемаадносіны Вялікага Княства Літоўскага і маскоўскай дзяржавы ў канцы XV — першай трэці XVI ст. у ацэнцы пачынальнікаў найноўшай беларускай гістарыяграфіі // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. 2003. № 2 (20). С. 3—6; Сагановіч Г.М. Вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім 1492—94 // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1: Абаленскі—Кадэнцыя. Мінск, 2005. С. 370; Доўнар А.Б. Войны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай у канцы XV — першай трэці XVI ст. // Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 2008. С. 411.

81 Список Быховца // ПСРЛ. Т. 17. М., 2008. Стб. 552.

маскоўска-літоўскай вайне, якая ўжо ішла, і ў сувязі з гэтым шэраг даследчыкаў пачатковай датай вайны паказалі менавіта 1487 г. Пасольскія кнігі даюць найбольшую колькасць інфармацыі аб першай памежнай вайне[82]. Падзеі і наогул увесь ход вайны маглі б застацца невядомымі, калі б не яны. Пры гэтым інфармацыя аб самым пачатку вайны (у пасольскай кнізе адсутнічаюць два першыя аркушы) захавалася толькі ў выпісцы з пасольскіх кніг[83].

У іншай крыніцы — разрадных кнігах (фіксавалі мерапрыемствы маскоўскага ўраду па прызначэнні, размяшчэнні і накіраванні служылых людзей)[84], падзеі маскоўска-літоўскай канфрантацыі фіксуюцца толькі з 1492 г., і гэта таксама можа служыць падставай для адліку часу вядзення вайны з дадзенага года.

Дадатковыя звесткі афіцыйна-тэндэнцыйнага характару можна знайсці ў маскоўскім летапісанні[85], а некаторыя падзеі адбіліся і ў беларуска-літоўскіх летапісах і хроніках[86]. Дадзеныя асобных актаў Метрыкі ВКЛ запаўняюць прабелы пры вывучэнні гісторыка-геаграфічных абставін вайны.

## 3. Даціроўка вайны

Галоўныя прычыны пачатку вайны ў 1492 г. даследчыкі бачылі ў адсутнасці маштабных баявых дзеянняў з выкарыстаннем вялікакняжацкіх войскаў раней гэтага часу, а таксама ў тым, што са смерцю караля і вялікага князя Казіміра быццам бы спынілася дзеянне папярэдніх дамоў, чым скарысталася Масква.

І сапраўды, ці можна дробныя памежныя сутычкі, якія маглі пастаянна суправаджаць паўсядзённае жыццё ў памежжы, пераводзіць у ранг вайны? Калі не, то неабходна звязваць пачатак вайны з прыцягненнем да ваенных дзеянняў вялікакняжацкіх («рэгулярных» паводле польскай тэрміналогіі) войскаў. Так, сцвярджалі тыя даследчыкі, якія вялі вайну з 1492 г. Але не варта забываць, што ўжо ў 1489 г. 11 маскоўскіх ваявод на чале з князем Васіліем Іванавічам Касым Патрыкеевым прыйшлі пад Варатынск, горад спалілі, а жыхароў вывелі ў палон[87]. Таксама і ў 1487 г. на памежжы з маскоўскага боку дзейнічалі не толькі слугі мясцовых удзельных князёў, але і прадстаўнікі вялікакняжацкай адміністрацыі. Прыклад таму — захоп вотчын князёў Крошынскіх і кіраванне імі вялікакняжацкім дзякам Васілём Далматавым[88].

Характар узаемаадносін дзвюх дзяржаў, якія знаходзіліся ў стане вайны адна з другой, выяўляўся як у перыяд, які папярэднічаў смерці Казіміра, так і ў наступны час. Так, напрыклад, маскоўскі пасол баярын Іван Андрэевіч Лобан Колычаў, які

---

82 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I.

83 «Выписка из посольских книг». С. 14—15.

84 Разрядная книга 1475—1598 гг. Разрядная книга 1475—1605 гг.

85 ПСРЛ. Т. 6. Вып. 2 (Софийская вторая летопись). М., 2001; ПСРЛ. Т. 8 (Летопись по Воскресенскому списку). М., 2001; ПСРЛ. Т. 12 (Летописный сборник, именуемый Патриаршею или Никоновскою летописью). М., 2000.

86 Хроника Быховца. М., 1966; ПСРЛ. Т. 17 (Западнорусские летописи). М., 2008; ПСРЛ. Т. 32 (Хроника Литовская и Жмойтская и Хроника Быховца). М., 1975; ПСРЛ. Т. 35 (Летописи белорусско-литовские). М., 1980.

87 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I. № 8. С. 35. ПСРЛ. Т. 6. Вып. 2. (Софийская вторая летопись). М., 2001. Стб. 325.

88 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 1, 3.

выехаў з Масквы 20 сакавіка 1492 г. (гэта значыць да смерці Казіміра, што мела месца 7 чэрвеня), павінен быў сказаць крымскаму хану Менглі-Гірэю наступнае: «А землю, господине, королеву государя нашего люди со всех сторон емлют»[89]. На магчымае пытанне хана: «Отколе королеву землю емлют?», — трэба былоназваць Ноўгарад, Пскоў, Цвер і Маскоўскую зямлю і, акрамя таго, згадаць захопы Варатынскіх і Бялёўскіх князёў з іх землямі і гарадоў тых Варатынскіх і Адоеўскіх князёў, што засталіся служыць каралю[90]. Маскоўскі пасол баярын Канстанцін Рыгоравіч Забалоцкі, які выехаў у Крым 30 жніўня 1492 г. з мэтай паведаміць хану аб смерці Казіміра, перадаваў намер Івана III самому «всести на конь», ісці раццю супраць дзяцей караля і «недружбу свою... им чинити, сколко... бог пособит»[91]. У заяве маскоўскага вялікага князя ранейшыя дзеянні аддзяляліся ад новых, хаця і аналагічных, намераў. Зараз яго ворагаў прадстаўлялі іншыя асобы. Але заставалася цвёрдым жаданне працягнуць вайну, якую планавалася актывізаваць, бо сам вялікі князь пажадаў узначаліць войска.

Прамых спасылак на страту сілы ўсіх дамоў пасля смерці аднаго з суб'ектаў, які іх складаў ці падпісваў, не сустракаецца. Заўважна адваротнае імкненне абаперціся на існаваўшыя раней адносіны пры іх абнаўленні. У першым жа пасольстве вялікага князя літоўскага Аляксандра да вялікага князя маскоўскага Івана III было выказана жаданне, «помнячы докон(ч)анье предковъ твоихъ с нашими предки и твоего отца з нашымъ отцомъ [дамова 1449 г. Казіміра з Васіліем II. — *В.Ц.*], и на насъ, на дети... ажъ бы еси тыи крывды и шкоды, и грабежы, котории ся стали отчыне нашои, к Великому Князству Литовскому, в землях и въ водахъ с твое земли, то нам оправилъ»[92]. Таксама і заключэнне новага пагаднення бачылася літоўскаму боку ў прамой адпаведнасці з раней афармленымі дамовамі пры Казіміры і Васілію II і аж да часоў Вітаўта і Васілія I[93]. Можна зразумець імкненне новага вялікага князя літоўскага «отчыну нашу в целости мети, какъ было за предковъ нашых» або каб «зъдавна котории места прыслухали к нашому г(о)с(по)д(а)ръству, к Великому Князству Литовъскому, за великого кн(я)зя Витовта и за великого кн(я)зя Жыкгимонъта, и пры отцы нашомъ, короли его м(и)л(о)сти, абы то нине слухано к н(а)шому Великому кн(я)зству по-давному»[94]. Аднак, у такіх абставінах, калі адна дзяржава перажывае ўнутраныя цяжкасці («нежитие»), звязаныя са смерцю старога кіраўніка, больш значнай варта лічыць пазіцыю іншага, нападаючага боку. Па словах вялікага князя Аляксандра, менавіта «в нашомъ нежитьи твои [Івана III. — *В.Ц.*] вкраинники позабрали земли и воды нашы, и слугъ нашых через старии рубежи»[95].

Безумоўна, нельга адмаўляць той акалічнасці, што ў часе вырашэння ўзніклых унутраных праблем у адной дзяржаве, іншая імкнецца скарыстацца становішчам суседа і актывізуе ваенныя дзеянні. Такая небяспека выразна ўсведамлялася ў асяроддзі самога ВКЛ. Яшчэ не стаўшы вялікім князем літоўскім, Аляксандр Казіміравіч, звяртаючыся да жыхароў розных зямель ВКЛ, пісаў пра сваё хуткае абранне: «...ажбы некотории неприятели, побачивши тую нашу пригоду [гэта значыць смерць Казіміра. — *В.Ц.*], Боже ухоаи, не сягнули на тое панство, на отчину нашу, на Великое Кн(я)ж(ес)тво

[89] СИРИО. Т. 41. № 34. С. 139.

[90] Тамсама. С. 139—140.

[91] Тамсама. № 36. С. 158.

[92] LM. Kn. 5 (1427—1506). Vilnius, 1993. № 9. P. 62.

[93] Тамсама. № 27.1. P. 77—78; № 15.2. P. 69. Размова ідзе, відавочна, пра дамовы 1449 і 1408 гг.

[94] Тамсама. № 23.2. P. 74; № 27.2. P. 78.

[95] Тамсама. № 34. P. 86.

Літ(о)вское и русское, для того есмо тут застали [гэта значыць, застаўся ў ВКЛ, каб узначаліць яго. — *В.Ц.*]»[96]. Гэтак жа выразна ўсведамлялася неабходнасць уласнага, асобнага ад Польшчы, валадара ў ВКЛ. Прадстаўнікі паноў рады ВКЛ у звароце да жыхароў тых жа зямель (Віцебскай, Валынскай, Кіеўскай, Полацкай і Смаленскай) заяўлялі: «Королевича, его м(и)л(о)сти сына Алексанъдра у Великом Кн(я)ж(е)стве Литовском зоставили есмо для того, ажъ бы земля была безъпечна [у небяспецы. — *В.Ц.*] отъ сторонъ неприятельских»[97].

Небяспека маскоўскага нападу прымусіла ўрад ВКЛ ажыццявіць шэраг знешне- і ўнутрыпалітычных акцый. Перш за ўсё былі наладжаны адносіны і агучана просьба аб дапамозе ў Польшчы («людми и пенезми»)[98]. Таксама пэўны разлік быў і на «цара заволского» (хана Вялікай Арды), якога ўгаворвалі «абы намъ был помочонъ противъ тог(о) нашого непрыятеля»[99]. «Радни и помоцни» маглі быць магістры Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў[100]. Горш ішлі справы з крымскім ханам Менглі-Гірэем. Якраз у гэты час разгарэлася барацьба вакол крэпасці Цягін, якую татары будавалі на Дняпры[101]. Канфрантацыя нарастала, і пасля (ужо ў 1495 г.) «царь перекопский» прама «войну пустил в нашу землю»[102]. Відавочна, нядобрасуседскімі выглядалі адносіны ўрада ВКЛ і з верным маскоўскім саюзнікам, «воеводой волоским» (малдаўскім) Стэфанам[103].

У 1493 г. ужо пасля зваротнага паходу маскоўскіх ваявод на гарады Павугор'я і Верхняй Акі, вялікі князь Аляксандр выказваў гатоўнасць смаленскаму намесніку Юрыю Глябовічу «з всими нашыми землями» выступіць, «безъ мешканья» супраць непрыяцеля «ку обороне панъства нашого и всих добрыхъ людеи подданыхъ нашыхъ». Наперад нібыта быў высланы намеснік пан Юры Пацовіч[104]. Такім чынам, да пачатку 1493 г. у ВКЛ была, нарэшце, праведзена мабілізацыя ваенных рэсурсаў на вайну з Масквой. Але, відавочна, сам вялікі князь літоўскі ўсведамляў мізэрнасць сваіх магчымасцей. Прыярытэтнай стала задача заключэння міру, нават шляхам значных саступак. З панамі радай было дамоўлена на перамовах адступіцца ад прэтэнзій на Вялікі Ноўгарад, Вялікае Княства Цвярское, Вялікае Княства Разанскае і г.д., «aby dokonczanie tym się newzruszyło»[105].

Прыход да ўлады ў ВКЛ вялікага князя Аляксандра сапраўды стаў мяжой паміж двума перыядамі як, у цэлым, знешняй палітыкі дзяржавы, так і, у прыватнасці, у ходзе маскоўска-літоўскай памежнай вайны. Ураду ВКЛ тэрмінова давялося наладжваць сувязі з Польшчай, што адасобілася ад ВКЛ, пацвярджаць дамовы з іншымі суседзямі, знаходзіць новыя ўнутраныя магчымасці для вядзення вайны. Станам нестабільнасці, няўстойлівасцю абароны ВКЛ паспяшаўся скарыстацца вялікі князь Іван III. Такая натуральная рэакцыя Масквы на паслабленне заходняга суседа і была прынята шэрагам даследчыкаў у якасці пачатку сапраўднай вайны.

96 LM. Kn. 5 (1427—1506). № 3. P. 54. Дакумент складзены пасля 7 чэрвеня (смерць Казіміра), але да 20 ліпеня 1492 г. (абранне Аляксандра на сойме вялікім князем літоўскім).

97 Тамсама. № 3. P. 55.

98 Тамсама. № 17.1. P. 70; № 17.2. P. 71.

99 Тамсама. № 18. P. 71.

100 Тамсама. № 19. P. 72; № 21. P. 73.

101 Тамсама. № 4. P. 56.

102 Тамсама. № 47. P. 96.

103 Тамсама. № 8. P. 62.

104 Тамсама. № 16.1. P. 69.

105 Тамсама. № 27.3. P. 79.

Такім чынам, у адносінах да першай памежнай вайны ВКЛ з Вялікім Княствам Маскоўскім пытанне аб часе яе праходжання застаецца адкрытым. І калі дата заканчэння вайны не можа выклікаць сумнення — 5 лютага 1494 г., дзень заключэння мірнай дамовы («вечное докончанье»)[106], то яе пачатак цвёрда вызначыць складана. Гэтая вайна так і не была абвешчана[107], а падчас яе вядзення не абрываліся дыпламатычныя сувязі. Пры гэтым абодва бакі вінавацілі адзін аднаго, адмаўлялі свае варожыя дзеянні і імкнуліся перакласці віну на суседа. Сітуацыя ўскладняецца тым, што асноўная крыніца, якая дае абсалютную большасць дадзеных аб літоўска-маскоўскіх адносінах (пасольскія кнігі), захавалася толькі ад 1487 г., хаця вядома, што, напрыклад, у 1484 г. у Маскве знаходзіўся пасол ад караля Казіміра Ян Забярэжскі[108].

У верасні 1487 г. у Маскву прыбыло пасольства ад вугорскага караля Мацвея Корвіна на чале з дзякам Іванам[109]. У зваротнай прамове вялікага князя Івана III, якая была агучана вугорскаму паслу дзякамі Андрэем Адзінцом і Фёдарам Курыцыным, заяўлялася наступнае: «Наш пак посол Федор, как до нас дошол и грамоту королеву утверженую до нас донесл, и мы, видев грамоту утверженую брата своего королеву, тогды ж с Божьею волею почали есмя дело делати и наступили есмя на своего на вопчего недруга на Казимира на короля на Полского и не съ одну сторону»[110]. Пасол Фёдар (Курыцын) вярнуўся ў Маскву ў канцы 1486 або ў пачатку 1487 г. Такім чынам, маскоўскі ўрад афіцыйна паведамляў трэцяму, варожаму Казіміру боку, аб пачатку ў канцы 1486 — пачатку 1487 г.[111] вайны з Вялікім Княствам Літоўскім. І яшчэ раней, з паслом Фёдцам Кузьмінскім, вугорскаму каралю былі адпраўлены запэўніванні, «что нам с королём с полским міру нет»[112]. Аднак, як высвятляецца з інструкцый, дадзеных адпраўленаму ў Вугоршчыну паслу Штыбору, пад «почином и наступом» на караля Казіміра разумеліся захоп Вялікага Княства Цвярскога, валадар якога «был заодин» з каралём, а таксама ўтрыманне «ворагам» шэрагу гарадоў і валасцей, сярод якіх названыя Вялікія Лукі і Ржэва (Пустая)[113]. Размова ідзе пра падзеі 1478 і 1485 гг., якія цяжка расцэньваць як ваенныя дзеянні, скіраваныя непасрэдна супраць караля Казіміра. Становіцца відавочнай дыпламатычная хітрасць, несумненнай мэтай якой з'яўлялася пабуджэнне да ваенных дзеянняў супраць Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага яшчэ аднаго боку. Пры гэтым нават факт захавання маскоўска-літоўскіх дыпламатычных сувязей тлумачыўся не імкненнем заключыць мір з Казімірам, а ўсяго толькі жаданнем вырашыць памежныя справы[114].

Тым не менш да таго ж часу адносяцца больш пэўныя дадзеныя аб пачатку канфрантацыі на літоўска-маскоўскай мяжы.

Згодна з першымі старонкамі маскоўска-літоўскіх пасольскіх кніг, у 1487 г. (а магчыма ўжо і ў 1486 г., калі адносіць тыя падзеі, пра якія паведамлялі паслы, да больш

106 ДДГ. № 83. С. 329—332; LM. Kn. 5. № 78.2. P. 134—136.

107 Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XV вв. С. 201; Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий. С. 93.

108 СИРИО. Т. 41. № 11. С. 43.

109 Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 250.

110 Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. Ч. 1. Сношения с государствами европейскими. Т. I. Памятники дипломатических сношений с Империею Римскою (с 1488 по 1594 год). СПб., 1851. Стб. 161. Тое ж паўтараецца ў грамаце, дасланай каралю Мацвею Корвіну (Тамсама. Стб. 166).

111 Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 250.

112 Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. Ч. 1. Т. 1. Стб. 162. Гл. таксама паўтарэнні гэтай заявы: Тамсама. Стб. 163, 166—167, 167, 170.

113 Тамсама. Стб. 169—170.

114 Тамсама. Стб. 170.

ранняга часу) на мяжы не было спакою. Аднак, можа, памежныя сутычкі (ці вайна з такім характарам вядзення) пачаліся яшчэ раней? У інструкцыі маскоўскаму паслу ў Крым князю Васілію Наздраватаму загадвалася на пытанне аб мэтах прыезду згаданага вышэй Яна Забярэжскага ў Маскву адказваць, што кароль даслаў таго «о порубежных делех»[115]. Да таго ж маскоўскі вялікі князь неаднаразова даваў зразумець, што кароль польскі і вялікі князь літоўскі яго вораг, з якім павінен ваяваць і крымскі хан[116]. Такім чынам, калі вайна і не ішла ў першай палове 80-х гг. XV ст., то падрыхтоўка да яе актыўна вялася, і ўжо ўзнікалі нейкія канфлікты на мяжы.

Крымскія пасольскія кнігі вяліся з 1474 г., і з іх можна даведацца калі не аб падзеях, якія рэальна адбываліся паміж Масквой і Вільняй, то, хутчэй, аб намерах і пажаданнях маскоўскага боку, напрыклад, зацвердзіць мірныя адносіны з заходнім суседам, ці наадварот — падбіць крымскага хана на вайну з ім. Перыяды імкнення да міру і жадання вайны маскоўскага боку ў крымскіх пасольскіх кнігах адбіліся вельмі дакладна. У 1474—1480 гг. Іван III паслядоўна называў Казіміра сваім ворагам, з якім павінен быў змагацца і крымскі хан. У перыяд 1481—1482 гг. адносіны паміж Масквой і Вільняй памякчэлі, адчувалася імкненне Івана III адвярнуць хана ад жадання ісці на ВКЛ[117], нарэшце, сустракаліся прамыя сведчанні аб спробах усталявання мірных адносін Масквы і Вільні, хаця яны і былі няўдалымі[118]. Нават пасля ахалоджання маскоўска-літоўскіх адносін[119] Іван III не планаваў варожых дзеянняў супраць ВКЛ, таму што «нынеча делает свое дело с казанским»[120]. З траўня 1482 г. маскоўскі вялікі князь зноў падбіваў Менглі-Гірэя ісці на ВКЛ, хаця у хана і была заключана дамова з каралём Казімірам. У той жа час і пазней сам маскоўскі валадар варожых дзеянняў супраць ВКЛ не пачынаў[121]. Новы этап абвастрэння адносін назіраўся з пачатку 1486 г. З гэтага часу засведчаны не толькі заявы аб варожых адносінах і падбухторванне хана да набегаў на тэрыторыю ВКЛ, але і факты непасрэднага маскоўскага наступу.

У сакавіку 1486 г. маскоўскаму паслу баярыну Сямёну Барысавічу, які выпраўляўся ў Крым, упершыню загадвалася адказваць на магчымыя пытанні хана Менглі-Гірэя наступным чынам: «Послы меж их [Иваном III и Казимиром — *В.Ц.*] ездят о мелких делех о порубежных; а гладости никоторые и миру осподарю нашему великому князю с королем нет»[122]. І пасля, каб падштурхнуць хана да актыўных дзеянняў супраць ВКЛ, адкрыта заяўлялася: «А осподаря нашего великого князя люди безпрестанно емлют королеву землю»[123]. Характэрна, што маскоўскі пасол павінен быў адгаворваць хана ісці «ў Пуціўль, або на Север», а накіроўваць яго на Падолле або кіеўскія мясціны[124]. Відавочна, Севершчына ўжо ўяўлялася сферай маскоўскіх інтарэсаў, таму не пажадана было яе закранаць.

---

115 Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. Ч. 1. Т. 1. Стб. 170.

116 Тамсама. С. 3, 5, 10, 11, 12, 20, 46, 48, 55, 60.

117 СИРИО. Т. 41. № 6. С. 27.

118 У пачатку 1482 г. «король ко мне [Ивану III — *В.Ц.*] присылал послов своих о любви и о докончаніе, и яз к нему своих послов послал» (СИРИО. Т. 41. № 7. С. 29).

119 «Он [король] нынеча с моим осподарем любви и докончанія не хочет» (СИРИО. Т. 41. № 7. С. 30).

120 Тамсама.

121 Тамсама.

122 Тамсама. № 13. С. 48.

123 Тамсама.

124 Тамсама. С. 50.

Такім чынам, неабходна прызнаць, што ўжо ў пачатку 1486 г. паміж двума бакамі вяліся баявыя дзеянні. Маскоўска-літоўская вайна пачалася. У верасні таго ж года гэтая вайна ў адказе хана Менглі-Гірэя атрымала сваю назву — «литовская»[125].

Да таго ж 1486 г. адносяцца і іншыя, больш канкрэтныя, звесткі аб вайне, як ужо распачатай.

У пачатку чэрвеня 1486 г.[126] праз пасла Зеньку Казімір Ягайлавіч перадаваў Івану III скаргу мцэнскага і любуцкага намесніка князя Дзмітрыя Пуцяціча на тое, што «съ твоее [маскоўскага вялікага князя. — *В.Ц.*] земълі люди нашимъ людем вкраинным мецняномъ и любучаномъ многие шкоды починили в татбах и въ розбоехъ, и в грабежох тьми разы недавно»[127]. Таксама з ведама, а хутчэй за ўсё, па загадзе Івана III вясной 1486 г. адбылося нападзенне на землі ВКЛ з боку Вялікага Княства Разанскага. У пачатку траўня (напярэдадні Ніколіна дня) людзі вялікага князя разанскага Івана Васільевіча прыйшлі пад Мцэнск, «место выжъгли, села повоевали и многие шкоды починили и люди головами в полонъ повели»[128]. Неабходна заўважыць, што справы ішлі не з памежнымі князямі і не ў іх вотчынах, а непасрэдна з дзяржаўнымі намеснікамі ВКЛ і ў вялікакняжацкіх уладаннях. А гэта сведчыць аб такім узроўні канфрантацыі, які ўжо нельга прадставіць дробнымі памежнымі сутыкненнямі або «разборкамі» мясцовых князёў. Аднак, трэба думаць, абодва нападзенні ажыццяўляліся з разлікам менавіта на рэакцыю вярхоўскіх князёў — васалаў Казіміра. Мэтай было жаданне аслабіць пазіцыі літоўскай вялікакняжацкай улады ў рэгіёне з панаваннем напаўсамастойнага княжацкага землеўладання, каб забяспечыць уплыў на яго з боку Масквы.

Восенню 1487 г. у Маскве з'явілася пасольства ад вялікага князя літоўскага Казіміра на чале з князем Цімафеем Уладзіміравічам Масальскім. 6 кастрычніка князь выступіў перад маскоўскім бокам з прамовай[129]. Увесь змест апошняй, сэнс і нават тэрміналогія сведчылі аб трактоўцы падзей, якія разгортваліся на літоўска-маскоўскім памежжы, як пачатку вайны. Слова «вайна» гучала неаднаразова, хаця пад ёй разумеліся асобныя варожыя дзеянні з боку Масквы, а не наогул усе падзеі.

Сярод шматлікіх скаргаў на дзеянні з боку маскоўскіх удзельных князёў, намеснікаў і нават вялікакняжацкага дзяка сустракаецца пералік падзей, якія адбыліся яшчэ ў 1486 г. Высвятляецца, што «тому год минул», як на памежныя землі ВКЛ абрынуўся вал нападаў[130]. Да характарыстыкі апошніх неабходна вярнуцца пазней, а зараз важна звярнуць увагу на тое, што падзеі датуюцца 1486 г. Менавіта з яго пачаўся бесперапынны ціск на памежжа ВКЛ. У той час на паўночнай літоўска-маскоўскай (раней — літоўска-наўгародскай) мяжы было яшчэ ціха, а каля былога Цвярскога княства, Мажайска, Мядыні, у Верхнім Паоччы мірнае жыццё было перарвана. Праўда, будзе памылкай лічыць, што ўся літоўска-маскоўская мяжа стала адзінай лініяй фронту. Можна звярнуць увагу на памежныя рэгіёны, якія наогул не былі закрануты спусташэннем — гэта вялікая частка заходняй ржэўскай і некаторыя адрэзкі вяземска-мажайскай меж. Але прычынай гэтага была іх прыродная адасобленасць. Балоты і лясы «паклапаціліся» пра абарону некаторых рэгіёнаў. Верагодна,

[125] СИРИО. Т. 41. № 13. С. 51.

[126] Дакумент мае дату: індыкт 4, чэрвень 3, што выпадае менавіта на 1486 г.

[127] Литовская метрика. Отдел 1. Ч. 1. Книги записей. № 128. Стб. 445; LM. Kn. 4 (1479—1491). № 128. P. 139.

[128] АЗР. Т. I. 1340—1506. № 58. С. 71 (дакумент памылкова датаваны 1456 г.); Русская историческая библиотека. Т. XXVII. № 129. Стб. 445—446; LM. Kn. 4. № 129. P. 139.

[129] Адказ на прамову літоўскіх паслоў быў прадстаўлены ўжо на наступны дзень — 7 кастрычніка.

[130] СИРИО. Т. 35. № 1. С. 2.

там маскоўскія ўладанні (асвоеныя або па якой-небудзь прычыне карысныя землі) не межавалі з літоўскімі, таму і не было канфліктаў паміж імі.

Мяркуецца, што прыведзены комплекс звестак досыць пераканаўча сведчыць пра час пачатку маскоўска-літоўскай вайны. З 1486 г. ажыццяўляўся цэлы шэраг мерапрыемстваў сіламі ўдзельных маскоўскіх князёў, вялікакняжацкіх служылых людзей і слуг залежнага ад Масквы вялікага князя разанскага. Назіранне за развіццём падзей ужо першага году вайны паказвае прадуманую скіраванасць, добрую спланаванасць і выразную скаардынаванасць дзеянняў маскоўскіх сіл. Гаворка ідзе толькі аб адным суб'екце канфлікту, таму што ініцыятыва вядзення вайны адразу ж аказалася на баку Масквы.

Удалую характарыстыку ходу ўсёй вайны выказалі ў 1493 г. прадстаўнікі паноў-рады ў Маскве перад князем Іванам Юр'евічам Патрыкеевым. Па іх словах маскоўскі вялікі князь разбурыў даўніну, «нашому господару великие ся шкоды подеяли з вашого гаспадара земли, **войну на миру пустил**, городы его милости и волости пожжены, а иныи побраны, и люди многии со многими статки их в полон поведены»[131]. Тут у сціслым выглядзе можна ўбачыць і прэтэнзіі Івана III на валоданне ўсімі землямі Русі, і рэалізацыю гэтых намераў — праз спусташэнне і рабаванне тэрыторыі ВКЛ, яе захоп і вывад палону. А вось і формула, якая тлумачыць незвычайны, «дзіўны» характар вайны: «войну на миру пустил», што ў пераасэнсаванні польскіх даследчыкаў гучыць як «вайна падчас міру» («wojna podczas pokoju»).

## 4. Структура баявых дзеянняў

Баявыя дзеянні Вялікага Княства Маскоўскага падчас першай памежнай вайны можна структураваць наступным чынам.

1. *Мерапрыемствы, якія зыходзілі ад вялікакняжацкай адміністрацыі.* Яны не былі характэрнымі для першых гадоў вайны, хаця у асаблівых формах ажыццяўляліся і тады. Сярод іх можна вылучыць наступныя дзеянні:

1.1. *Паходы магутных груповак вялікакняжацкіх войскаў* з мэтай захопу або паслаблення цэнтраў улады ВКЛ у памежных рэгіёнах (Варатынск, Любуцк, Мцэнск, Мезецк і г.д.). На іх звярталі асаблівую ўвагу даследчыкі, чаму і звязвалі пачатак вайны з 1492 г. Аднак зноў трэба заўважыць, што мерапрыемства такога ж плану было ажыццёўлена ў 1489 г. Яно, як правіла, ігнаравалася з-за жадання пачаць адлік вайны ад смерці Казіміра Ягайлавіча. Паходы па мэтах умоўна падзяляюцца на 1.1.1. *«заахвочваючыя»* (такія, як пагром асяродкаў улады ВКЛ або цэнтраў, кіраўнікі якіх не ўсвядомілі свой лёс быць падданымі маскоўскага гаспадара) і 1.1.2. *захопніцкія* (гэта значыць, скіраваныя на прамое далучэнне тэрыторый да Масквы).

1.2. *Дзеянні прадстаўнікоў вялікакняжацкай улады па заняцці і асваенні вызначаных* тэрыторый. Іх не заўважалі даследчыкі, хаця маштаб экспансіі з маскоўскага боку быў даволі значным. Яна накіроўвалася і кіравалася з цэнтра і мэтай яе быў не толькі 1.2.1. *захоп* (які мог быць лёгка адабраны), але і 1.2.2. *каланізацыя* тэрыторыі людзьмі з унутраных маскоўскіх абласцей. Такім чынам дасягалася ўстойлівае прырашчэнне тэрыторыі дзяржавы, хоць, трэба прызнаць, такі шлях даваў сціплыя вынікі. Для яго ажыццяўлення патрабаваўся працяглы тэрмін, разлічваць можна было толькі на ўласныя людскія ды іншыя рэсурсы. Зразу-

[131] АЗР. Т. I. 1340—1506. № 110. С. 129. Той жа тэкст гл.: СИРИО. Т. 35. № 22. С. 105; LM. Kn. 5 (1427—1506). № 23.3. P. 75.

мела, больш прывабнымі былі іншыя сродкі вядзення вайны. Дарэчы, менавіта такі шлях экспансіі знаходзіў абгрунтаванне ў пасольскіх спрэчках, калі пэўная колькасць валасцей на памежжы абвяшчалася прыналежнай да якога-небудзь цэнтра ў Вялікім Княстве Маскоўскім. Захопленыя і асвоеныя воласці пасля вайны заставаліся, як правіла, у складзе ўездаў, якія прынялі іх у часе вайны. Яшчэ неабходна дадаць, што такія ж дзеянні на памежжы ажыццяўлялі маскоўскія ўдзельныя князі.

1.3. *Рабаўніцкія напады вялікакняжацкіх служылых людзей* з мэтай стварэння невыносных умоў жыцця на памежжы, разбурэння абарончых здольнасцей рэгіёна і з разлікам на далейшую рэакцыю мясцовага насельніцтва, а найперш — памежных князёў, якія, каб пазбегнуць ціску і, безумоўна, з пэўнай выгадай для сябе, вырашаліся перайсці на маскоўскую службу. За мяжу адводзілі людзей, жывёлу, вывозілі маёмасць, перарывалі гандаль, пераразалі камунікацыі, у выніку мясцовасць спусташалася, даводзілася да таго стану, калі ўжо не магла супраціўляцца маскоўскаму наступу.

1.4. *Напады ў адказ маскоўскіх служылых людзей, пераслед уварваўшыхся ў маскоўскія межы літоўскіх людзей*. Вельмі часта даволі складана вызначыць да якога пункта (1.3. або 1.4.) адносіцца тая ці іншая падзея. Справа ў тым, што яе маглі па-рознаму ацаніць або прадставіць два канфліктуючыя бакі.

1.5. Канцэнтрацыя *войскаў недалёка ад мяжы ВКЛ* у стратэгічна важных пунктах (Вялікія Лукі, Ноўгарад, Таржок, Цвер, Мажайск, Серпухаў, Таруса, «Бераг»). Непасрэдна ў баявых дзеяннях гэтыя фарміраванні маглі не ўдзельнічаць, але яны выконвалі важную функцыю — прыкрывалі межы (не толькі літоўскія, але і з Полем) у месцах магчымага наступлення праціўніка і ў пэўнай ступені гарантавалі ўтрыманне занятых тэрыторый.

2. *Дзеянні маскоўскіх удзельных князёў і асобна вялікага князя разанскага*, якія мелі ўладанні на памежжы і адтуль ажыццяўлялі рэйды і асобныя напады на землі ВКЛ (Іван Іванавіч Малады з Цверы, Барыс Васільевіч Валоцкі з Ржэва, Андрэй Васільевіч Угліцкі з Мажайска, Іван Васільевіч з Пераяслаўля-Разанскага). Маштабы аперацый гэтых князёў з-за абмежаванасці рэсурсаў былі не вельмі вялікімі. Спосабы вядзення вайны адпавядалі тым, што ажыццяўлялі прадстаўнікі вялікакняжацкай адміністрацыі. Здаецца, дадзены пункт са структуры ходу вайны наогул застаўся без увагі большасці даследчыкаў. Умоўна можна падзяліць на:

2.1. Асобныя *напады на памежныя воласці*, якія часам пераўтвараліся ў даволі працяглыя рэйды ўглыб тэрыторыі ВКЛ. Тым самым аказваўся ціск у асноўным на вяземскіх землеўладальнікаў з мэтай аслаблення іх абароназдольнасці і падштурхоўвання да пераходу на маскоўскую службу.

2.2. *Дзеянні па 2.2.1. занятцi і 2.2.2. асваенні вызначаных тэрыторый*. Ажыццяўляліся ў напрамку Таропецкага павета ВКЛ і на Вяземшчыне. Спроб каланізацыі не заўважана, хоць, магчыма, у пэўнай ступені існавалі і яны.

2.3.1. *Перашкоды гандлю, 2.3.2. дробныя дыверсіі* іншага плану (напрыклад, засекі на дарогах). Безумоўна, і гэтыя мерапрыемствы служылі адзінай мэце знясільвання і падрыхтоўцы далучэння да Масквы памежных зямель ВКЛ.

3. *Дзейнасць князёў, якія служылі ВКЛ і знаходзіліся ў рознай ступені залежнасці ад яго*, але яшчэ да вайны або падчас яе перайшлі на маскоўскую службу (Фёдар Іванавіч Бельскі, вярхоўскія князі, адзін вяземскі князь). У сваіх учынках вярхоўскія князі праследвалі і асабістыя мэты, хаця у той ці іншай ступені ўсе іх дзеянні былі справакаваны ўплывам Масквы. Дзейнасці вярхоўскіх князёў у гістарыяграфіі надавалася асаблівая ўвага, але часта яна разглядалася па-за ваенным кантэкстам. Сапраўды, знешне падзеі ў асяроддзі вярхоўскіх князёў здаваліся і нават свядома прадстаўляліся ўнутранымі іх справамі. Аднак у рэальнасці тое,

што адбывалася ў рэгіёне Верхняй Акі, было ініцыіравана і пастаўлена пад апеку з боку Масквы, з'яўлялася часткай і своеасаблівай формай вядзення вайны. У выніку палітыка Івана III у адносінах да Вярхоўскіх княстваў ВКЛ дасягнула найбольшага поспеху. Тым не менш праблема прыналежнасці названага рэгіёна ў першай памежнай вайне была вырашана толькі часткова. Незавершанасць спраў у вярхоўі Акі стала адной з прычын або была выкарыстана ў якасці падставы для пачатку наступнай вайны. Заблытаныя падзеі на верхняокскім участку літоўска-маскоўскай мяжы цяжка якім-небудзь чынам структураваць, але ўмоўна можна вылучыць наступныя напрамкі вядзення вайны:

3.1. *Напады вярхоўскіх князёў і асобна князя Ф.І. Бельскага* на ўладанні сваякоў і іншыя памежныя землі ВКЛ з мэтай прымусу да пераходу на маскоўскі бок тых князёў, якія засталіся вернымі вялікаму князю літоўскаму, і аслабіць, падарваць лінію абароны ВКЛ.

3.2. *Пераходы вярхоўскіх князёў на маскоўскую службу*, якія суправаджаліся пагромам і спусташэннем тых тэрыторый, якія засталіся ў складзе ВКЛ і, перш за ўсё, захопам уладанняў іншых князёў. Рэальнасцю таго часу было тое, што даведзеныя да неабходнасці пераходу на маскоўскую службу вярхоўскія князі імкнуліся дасягнуць асабістай выгады шляхам заняцця ўладанняў суседзяў. Такая зацікаўленасць падагравалася абяцаннямі маскоўскага ўрада пакінуць усё захопленае ў карыстанні князя, які здрадзіў ВКЛ.

Вось так абагульнена ўяўляюцца формы вядзення той вайны. Тут у чарговы раз трэба адзначыць агульную сувязь, запланаванасць і мэтазгоднасць усіх мерапрыемстваў, якія ажыццяўляліся на розных узроўнях маскоўскай улады. На думку К.В. Базілевіча, у маскоўскіх нападах на памежныя землі ВКЛ, нягледзячы на іх хаатычны характар, «адсутнічаў элемент выпадковасці ці асабістай ініцыятывы асобных маскоўскіх вотчыннікаў»[132]. Як заўважаў А.А. Зімін, на паўднёвым захадзе краіны Іван III сам кіраваў ваеннымі дзеяннямі[133]. Што ж магло супрацьпаставіць Вялікае Княства Літоўскае такой магутнай арганізацыі і падрыхтаванасці да вядзення вайны?

Безумоўна, для большай бяспекі на ўсходняй мяжы ВКЛ была створана свая сістэма абароны. Яна пачала складвацца яшчэ ў пачатку XV ст., з таго часу, калі сфарміравалася літоўска-маскоўская мяжа[134]. На чале шэрагу перыферыйных княстваў і ўладанняў быў пастаўлены смаленскі намеснік, які, акрамя іншага (напрыклад, збору даніны), выконваў функцыі ваеннага кіраўніка, камандзіра апалчэння. Па словах М.К. Любаўскага, Смаленскі павет з маскоўскага боку быў абкружаны «поясам княстваў і ўладанняў, якія аддаваліся ў судова-адміністрацыйным стаўленні намеснікам, прычым усе гэтыя княствы і ўладанні ў Смаленску мелі свой ваенна-палітычны цэнтр»[135]. Аднак далёка не ўсе памежныя княствы і ўладанні падпарадкоўваліся дзяржаўным намеснікам. Намеснікі былі толькі ў Мцэнску і Лю-

---

132 Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 283—284.

133 Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий. С. 96.

134 Пра фарміраванне літоўска-маскоўскай мяжы гл.: Цемушаў В.М. Літоўска-маскоўская граніца ў другой палове XV — пачатку XVI ст. // Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына: матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф. (Гальшаны—Навагрудак, 8—10 верас. 2006 г.). Мінск, 2007. С. 325—340; Ён жа. Формирование московско-литовской границы в XV — начале XVI в. // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. Вып. 1. Минск, 2008. С. 56—77.

135 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 286—287.

буцку, Сярпейску, Бранску і Таропцы. Іншыя гарады заставаліся цэнтрамі княжацкіх уладанняў, якія знаходзіліся ў рознай ступені залежнасці ад вялікакняжацкай улады.

Зусім верагодна, што вялікі князь літоўскі меў магчымасць умешвацца ў зямельныя справы ў памежных княствах. Вядома, што ў Вяземскім княстве хлепенскай воласцю Рагачоў валодаў сын пана Івана (Яна) Хадкевіча, а ў непасрэднай блізкасці ад маскоўскай мяжы размясціліся князі Крошынскія і Глінскія[136]. Разбаўленне асяроддзя мясцовых князёў выхадцамі з іншых абласцей ВКЛ у пэўнай ступені гарантавала інтэграцыю перыферыі з цэнтрам. Да таго ж прышлыя землеўладальнікі займалі самы край дзяржавы, насупраць магчымага ўдару з маскоўскага боку.

Можна лічыць, што сістэма абароны Вяземскага княства даказала сваю ўстойлівасць[137]. Метадычны ціск на вяземскае памежжа не прывёў да чаканага выніку. Пераважная большасць вяземскіх землеўласнікаў засталася вернай вялікаму князю літоўскаму. У канцы 1492 г. на бок Масквы перайшоў толькі князь Андрэй Юр'евіч Вяземскі, вотчынай якога было адзінае сяло з вёскамі на Дняпры, праўда, у самой Вязьме ён валодаў дварамі, збіраў пошліны, меў казну і людзей[138]. Усе ўладанні князя Андрэя дасталіся старэйшаму вяземскаму князю Міхаілу Дзмітрыевічу[139].

А вось падобныя мерапрыемствы, якія былі праведзены ў асяроддзі так званых вярхоўскіх князёў[140], не мелі поспеху. Стрымліваць свавольныя імкненні мясцовых землеўласнікаў павінен быў шэраг дзяржаўных намесніцтваў, і сярод іх, перш за ўсё — Мцэнскае і Любуцкае. Пасля шматлікіх паходаў, аблогаў і спусташэння наваколляў падчас першай вайны гарады Мцэнск і Любуцк засталіся ў складзе ВКЛ[141]. Любуцк пры гэтым аказаўся ў асяроддзі маскоўскіх уладанняў і набыў, такім чынам, характар анклава. Мцэнск таксама стаў выглядаць фарпостам, высунутым далёка на правы бок Акі, пры тым, што ўсё правабярэжжа ракі (за выключэннем, вядома, Любуцка) было ўжо маскоўскім.

Аднак хісткае асяроддзе вярхоўскіх князёў не вытрымала. Шэраг прывілеяў, што захоўваліся або з'яўляліся ў памежных князёў, пакідаў магчымасць адмовіцца ад службы гаспадару (паслаць яму «отказ» або «целование королю с себя сложить») і перайсці на маскоўскі бок разам са сваімі вотчыннымі ўладаннямі[142]. Гэтая акалічнасць у спалучэнні з маскоўскім ціскам і канфліктам у асяроддзі саміх вярхоўскіх князёў спрашчала далучэнне вярхоўяў Акі да Масквы.

Тым не менш пашырэнне маскоўскай улады на вярхоўі Акі не было простай справай і шмат у чым залежала ад пазіцыі мясцовых князёў[143]. Нават ваенны захоп

---

136 СИРИО. Т. 35. № 18. С. 73; № 1. С. 1—3; № 2. С. 6.

137 Пра Вяземскае княства ў сістэме абароны ВКЛ гл.: Цемушаў В.М. Перыферыйныя княствы ў сістэме абароны ВКЛ (Вяземскае княства ў 15 ст.). // Канструкцыя і дэканструкцыя Вялікага Княства Літоўскага: матэрыялы міжнар. навук. канф., Гродна, 23—25 крас. 2004 г. Мінск, 2007. С. 95—102.

138 Lietuvos Metrica — Lithuanian Metrica — Литовская Метрика. Kn. 5: (1427—1506). Vilnius, 1994. P. 67; СИРИО. Т. 35. № 19. С. 81.

139 АЗР. Т. I. № 109. С. 127.

140 Пра ўжыванне тэрмінаў «Вярхоўскія княствы» і «вярхоўскія князі» гл.: Темушев В.Н. Представления о территории и границах Верхнеокских княжеств в работах исследователей // Верхнее Подонье: Природа. Археология. История. Вып. 2: Сб. ст. в 2-х т. Т. 2. История. Тула, 2007. С. 257—277.

141 ДДГ. №. 83. С. 330.

142 Першы выпадак, калі князь, які перайшоў на службу да другога ўладара, не захаваў за сабой сваю вотчыну — уцёкі ў Маскву князя Фёдара Іванавіча Бельскага.

143 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 91—92.

не гарантаваў далучэння пэўнай тэрыторыі да Масквы. Так, маскоўскія паходы 1492—1493 гг. закранулі такія гарады, як Любуцк, Мцэнск, Мезецк, Сярпейск, Масальск, Апакаў. Большасць з іх, за выключэннем Мезецка і Сярпейска, былі спалены. Аднак ні адзін з князёў Масальскіх не перайшоў на службу да вялікага князя маскоўскага, а тры іншыя спаленыя гарады (Любуцк, Мцэнск, Апакаў) належалі не ўдзельным князям, а кіраваліся вялікакняжацкім намеснікам ці прыватнымі ўласнікамі. І далучэння іх да Масквы ў 1494 г. не адбылося. У Апакава была занята толькі частка тэрыторыі яго воласці, якая заходзіла на левы бераг р. Угры[144]. Такім чынам, выпростваўся ўчастак мяжы, натуральным абазначэннем якой менавіта зараз на больш значнай адлегласці стала р. Угра.

Як бачым, тыя тэрыторыі, у якіх маскоўская ўлада не мела дастаткова цвёрдай апоры, пакідаліся, магчыма часова, з далейшым разлікам, за ВКЛ. З іншага боку, пераход на маскоўскую службу таго ці іншага памежнага князя не гарантаваў распаўсюджвання новай улады на ўсе яго ўладанні. Варатынскія князі, якія валодалі вялікім масівам зямель уздоўж цячэння р. Угры, пасля пераходу на маскоўскі бок практычна ўсё страцілі, нягледзячы на тое, што гэтыя землі былі іх вотчыннымі ўладаннямі. Наогул жа ў абароне меж дзяржавы на князёў Варатынскіх урад ВКЛ рабіў пэўную стаўку, якая, відавочна, не апраўдалася[145].

Калі акінуць позіркам усю працягласць літоўска-маскоўскай мяжы, якая ў першую вайну адчула вынікі ваенных дзеянняў, то можна пераканацца, што тэрыторыі пад вялікакняжацкім кіраваннем у поўным складзе захаваліся за ВКЛ. Пад маскоўскім ціскам ВКЛ страціла частку ўладанняў вярхоўскіх князёў, але галоўнае захавала — Мцэнска-Любуцкае намесніцтва і лінію абароны ўздоўж р. Угры[146]. Вяземскія князі трымаліся, але не змаглі нічога супрацьпаставіць зімоваму 1492/93 гг. наступленню магутнага маскоўскага войска (5 палкоў на чале з ваяводам Даніілам Васільевічам Шчанём)[147]. Вяземскае княства было цалкам далучана да Масквы і паступова стала цэнтрам паместнага землеўладання[148].

Тут можна адхіліцца ад тэмы і заўважыць, што тэндэнцыя пераўтварэння Вяземскага княства ў край паместнага землеўладання добра ілюструе паслядоўную палітыку маскоўскіх улад. Магчымасць страты памежнага рэгіёна, у якім, да таго ж, заставаліся на сваіх месцах мясцовыя землеўласнікі, магла захоўвацца даволі доўга. Як прыклад, Гомейская зямля ў 1537 г. была вернута ВКЛ шмат у чым з-за таго, што пасля маскоўскага захопу ў 1500 г. з яе не была выведзена мясцовая шляхта. Насаджэнне паместнага землеўладання з адначасовай ліквідацыяй мясцовага вотчыннага відавочна сведчыць аб імкненні цвёрда замацавацца ў толькі што далучаным рэгіёне. Палітычна ненадзейныя вяземскія землеўласнікі, многія з якіх былі гвалтам прыведзены да прысягі, безумоўна, не маглі служыць апорай маскоўскай вялікакняжацкай уладзе.

Сістэме абароны ўсходняй мяжы ВКЛ, аснову якой складаў шэраг перыферыйных княстваў і намесніцтваў, супрацьстаяла падобная сістэма ўдзельных

---

[144] У грамаце 1494 г. гаворыцца пра тое, што за ВКЛ захаваўся Апакаў па Угру (ДДГ. № 83. С. 330). Такім чынам, можна зрабіць выснову пра тое, што ў горада была тэрыторыя і за Угрой, якая зараз адыходзіла да Масквы.

[145] Аб ролі князёў Варатынскіх у абароне ўсходняй мяжы ВКЛ гл.: Темушев В.Н. Река Угра — вековой страж московско-литовской границы. С. 305—318.

[146] Темушев В.Н. Река Угра — вековой страж московско-литовской границы. С. 313.

[147] ПСРЛ. Т. 11 (Летописный сборник, именуемый Патриаршею или Никоновскою летописью). М., 2000. С. 235; ПСРЛ. Т. 35 (Летописи белорусско-литовские). М., 1980. С. 122.

[148] Кобрин В.Б. Власть и собственность в средневековой России. С. 123—124.

княстваў Вялікага Княства Маскоўскага. Відавочна наўмысным выглядае вылучэнне літоўскаму ўцекачу князю Фёдару Іванавічу Бельскаму вотчыны ў наўгародскіх землях на мяжы з Таропецкім паветам ВКЛ[149]. Менавіта адсюль арганізоўваліся набегі людзей князя Бельскага на таропецкія воласці ў 1489 і 1490 гг. Непасрэдна супраць Вяземскага княства былі скіраваны дзеянні вялікага князя Івана Іванавіча Маладога з Цвярской зямлі і ўдзельнага князя Андрэя Васільевіча Угліцкага з Мажайска. Побач з мяжой размяшчаўся таксама масіў зямель Волацкага надзелу князя Барыса Васільевіча (Волак Ламскі, Ржэва, Руза, Вышгарад, Шопкава слабада). З Ржэўскага ўезда аказваўся ціск на Таропецкі павет. У 1486 г. у Маскве адбылося перааформленне дамоў з тымі ўдзельнымі князямі, якія яшчэ захаваліся — Андрэем Васільевічам Вялікім Угліцкім і Барысам Васільевічам Волацкім, а Міхаіл Андрэевіч Вярэйскі і Белазёрскі пад маскоўскую дыктоўку напісаў духоўную[150]. У адрозненне ад вялікага князя літоўскага, які імкнуўся замацаваць вернасць удзельных князёў шляхам пацвярджэння іх правоў і прывілеяў, а таксама раздачай новых уладанняў, у Маскве працягваўся наступ на ўдзельныя правы сваякоў вялікага князя, рэгламентаваліся і кантраляваліся ўсе іх дзеянні, замацоўвалася іх сувязь і падпарадкаванне вялікакняжацкай уладзе. Удзельныя князі ў Вялікім Княстве Маскоўскім былі асуджаны. Характэрны іх лёс. Князь Андрэй Угліцкі памёр у зняволенні ў 1493 г. пасля арышту ў 1491 г. «за здраду»[151]. Старэйшы сын князя Міхаіла Андрэевіча Васілій у 1483 г. збег ад гневу Івана III у ВКЛ[152], а вярэйска-белазёрскі князь вымушаны быў у сваім тэстаменце пакінуць усе свае ўладанні вялікаму князю[153].

Сістэма абароны маскоўскай мяжы мела актыўны характар і наогул была арыентавана хутчэй не на стрымліванне варожых дзеянняў, а на разгортванне свайго наступу. У гэтай сувязі ўзнікаюць пытанні: якія баявыя дзеянні з боку ВКЛ былі супрацьпастаўлены маскоўскай пагрозе і ці ажыццяўляліся спробы «прамацаць» абарону маскоўскай мяжы? Нягледзячы на крайнюю нязначнасць войскаў, якія знаходзіліся і маглі быць выкарыстаны на месцах маскоўскіх удараў, і амаль поўнае ігнараванне ўсходняга напрамку знешняй палітыкі Казімірам Ягайлавічам, рэакцыя з боку ВКЛ была адчувальнай. Перш за ўсё ўлады ВКЛ спрабавалі задзейнічаць дыпламатычны шлях урэгулявання канфлікту. Але з некаторага часу адпрацаваны механізм вырашэння памежных праблем перастаў дзейнічаць. Тое, што раней магло знайсці разуменне на мясцовым узроўні, зараз перадавалася ў верхнія інстанцыі, станавілася справай пасольстваў, але сутыкалася з глухімі мурамі маскоўскай палітыкі. У адказ на скаргі аб парушэннях мяжы, захопах і рабаваннях з Масквы ішлі адпаведныя пратэсты аб літоўскіх дзеяннях, але ў пасольскіх кнігах лёгка заўважыць нявызначанасць і нават некаторую абстрактнасць маскоўскіх скаргаў у адрозненне ад канкрэтных, падрабязных дакументальных сведчанняў, якія ішлі з боку ВКЛ. Уяўляецца, што той момант, калі Масква пакінула без увагі неабходнасць дыпламатычнага рашэння канфлікту, інакш кажучы, уступіла на шлях вайны, сапраўды адбіўся ў словах баярына Сямёна Барысавіча, які выказаў іх хану Менглі-

---

[149] Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 283, 287.

[150] ДДГ. № 80—82. С. 301—329.

[151] Зимин А.А. Удельные князья и их дворы во второй половине XV и первой половине XVI в. // История и генеалогия. С.Б. Веселовский и проблемы историко-генеалогических исследований. М., 1977. С. 164.

[152] ПСРЛ. Т. 28. (Летописный свод 1497 г. Летописный свод 1518 г. [Уваровская летопись]). М.; Л., 1963. С. 151.

[153] ДДГ. № 80. С. 302.

Гірэю ў сакавіку 1486 г.: «А осподаря нашего великого князя люди безпрестанно емлют королеву землю»[154]. Вось тая мяжа, якая аддзяліла час, калі Масква магла пайсці на кантакт, ад яе цвёрдага намеру пачаць канфрантацыю.

Спробы дыпламатычнага рашэння канфлікту не перарываліся на працягу ўсёй вайны, якая, як вядома, фармальна быццам бы і не вялася. Але сітуацыя патрабавала дзеянняў іншага плану. У барацьбе на памежжы літоўскі бок ажыццяўляў спосабы пасіўнай і актыўнай абароны. Структура баявых дзеянняў ВКЛ не такая складаная, як маскоўская, але і яе можна класіфікаваць па некалькіх катэгорыях.

1. Адзінкавы *вялікі паход аб'яднаных войскаў усходняй часткі ВКЛ* са Смаленска да вярхоўяў р. Акі з мэтай вызвалення страчаных там гарадоў (1492 г.). Паход быў паспяховы, але ў адказ Іван III прыслаў магутнае войска, якое ліквідавала дасягнуты вынік.

2. *Дзеянні дробных фарміраванняў мцэнска-любуцкага, бранскага і таропецкага намеснікаў*, задачамі якіх былі: 2.1. *дыверсіі на маскоўскай мяжы з Полем* і 2.2. *напады на маскоўскія землі* ў адказ на спусташэнні з боку масквічоў. Верагодна, знішчэнне маскоўскіх вартаўнікоў, якія сачылі за небяспекай з Поля, ажыццяўлялася з мэтай паслаблення маскоўскай мяжы. Што тычыцца рабаўнічых па характары нападаў на калужскія, алексінскія і іншыя землі (калі яны на самой справе адбыліся, таму што заявы аб іх маскоўскага боку выклікаюць сумненне), то можна растлумачыць іх помстай за адпаведныя дзеянні з-за мяжы. Але нельга адмаўляць і магчымасці злачынных дзеянняў з боку прадстаўнікоў ВКЛ.

3. *Напады на маскоўскае памежжа з боку вяземскіх і вярхоўскіх князёў, намеснікаў памежных зямель ВКЛ, іншых землеўласнікаў.* Звесткі аб гэтых дзеяннях змяшчаюцца выключна ў прамовах, якія зыходзілі ад маскоўскіх паслоў і баяр, і часта маюць нявызначаны характар, без канкрэтызацыі часу, месца і наступстваў гэтых нападаў. Уяўляецца, што памежныя сутычкі перарасталі ва ўзаемную помсту, у якой ужо немагчыма вызначыць, хто вінаваты.

4. *Міжусобная барацьба вярхоўскіх і вяземскі князёў*, частка якіх служыла ВКЛ, а частка — Маскве. Сюды ж трэба адносіць тыя дзеянні, якія ажыццяўлялі менавіта князі, якія трымаліся літоўскага боку.

5. *Арганізацыя пераследу маскоўскіх войскаў і людзей*, якія рухаліся на сваю тэрыторыю з палонам і здабычай пасля рабаўніцкіх нападаў на ўладанні ВКЛ або пасля пераходу на маскоўскую службу. Гэтыя дзеянні суправаджаліся баямі, якіх не так шмат было на працягу ўсёй вайны. Адзін з такіх баёў (за Варатынск у 1489 г.) прынёс перамогу войскам ВКЛ. Як бачым, маштаб ваеннай актыўнасці літоўскага боку быў параўнальна невялікі. Ініцыятыва і безумоўнае дамінаванне ў вайне належала Вялікаму Княству Маскоўскаму. З улікам гэтых абставін вызначаецца наступная структура разгортвання баявых дзеянняў на памежжы.

Баявыя дзеянні на літоўска-маскоўскай мяжы можна ўмоўна падзяліць на тры асноўныя напрамкі: А) паўночны захад (датычыўся Таропецкага павета), Б) захад (супраць Вяземскага княства) і В) паўднёвы захад (у бок Акі і Угры)[155]. Найбольш актыўна вайна вялася на другім і трэцім напрамках. Першы знаходзіўся ў баку і быў адрэзаны ад асноўнага тэатра ваенных дзеянняў дрэнна асвоенымі прасторамі, якія стваралі ўмоўную мяжу паміж Бельскім княствам ВКЛ і Ржэўскай зямлёй (у складзе надзелу маскоўскага князя Барыса Васільевіча Волацкага).

---

154 СИРИО. Т. 41. № 13. С. 48.

155 Вылучыў гэтыя напрамкі Ю.Г. Аляксееў, але для першых двух ён абазначыў не рэгіёны, на якія наступалі, а месцы, адкуль вялося наступленне (Алексеев Ю.Г. Походы русских войск при Иване III. С. 333).

Тут неабходна заўважыць, што на паўночна-заходнім кірунку вядзення вайны існавала значная тэрытарыяльная праблема, вырашэнню якой не будзе нададзена належнай увагі ў дадзенай працы. Сярод памежных наўгародскіх зямель былі такія, якія яшчэ з XIV ст. выплачвалі даніну (чорную куну) ВКЛ — гэта так званае Чарнакунства[156]. Выплата чорнай куны з шэрагу наўгародскіх валасцей гарантавала бяспеку паўднёвай мяжы Ноўгарада Вялікага. Непасрэдна да Чарнакунства адносіліся Холмскі пагост і воласці Марава, Малвяціцы, Сцерж, Кунска, Беразавец, Лапасціца, Буйцы і Жабна. Непасрэдна ад Чарнакунства аддзяляліся Вялікія Лукі і Ржэва[157], якія былі спрадвечнымі наўгародскімі ўладаннямі. Акрамя чорнай куны з іх выплачваліся ў ВКЛ і іншыя падаткі (са Ржэўскай зямлі «ялаўшчына» і цівунскае мыта). Вялікалуцкая і Ржэўская землі набліжаліся да статуса сумеснага наўгародска-літоўскага валодання. Вядома, што ў Ржэўскай зямлі збіраў чорную куну і спраўляў суд літоўскі намеснік, наўгародскімі былі землеўладанне і некаторыя даходы. Пасля далучэння Ноўгарада да Вялікага Княства Маскоўскага (1478 г.) ВКЛ на працягу некаторага часу прад'яўляла прэтэнзіі на чорную куну, чаго спачатку не адмаўляў і Іван III, аднак выплаты спыніў і літоўскіх даннікаў і *валасцелей* не пускаў[158].

Трэба думаць, што наданне князю Ф.І. Бельскаму валасцей з ліку чарнакунскіх і размяшчэнне ў Вялікіх Луках магутнага кантынгенту маскоўскіх войскаў рабілася і дзеля таго, каб замацаваць гэтыя тэрыторыі за Масквой[159]. У выніку яшчэ адным дасягненнем вайны для маскоўскага боку стала канчатковае далучэнне значнай тэрыторыі, таму што пасля заключэння «вечнага» міру 1494 г. улады ВКЛ перасталі прад'яўляць прэтэнзіі на Чарнакунства.

Такім чынам, на паўночна-заходнім кірунку баявых дзеянняў, нягледзячы на тое, што ён быў перыферыйным, таксама вырашаліся вельмі важныя задачы — замацаванне за Масквой літоўска-наўгародскіх сумесных уладанняў і аказанне ціску на Таропецкі павет ВКЛ, які, між іншым, меў цесныя сувязі з Чарнакунствам[160].

Такім жа ўдалым для Масквы быў заходні кірунак. На працягу некалькіх гадоў Вяземшчына зведала спусташальныя напады з-за мяжы і паступовыя захопы сваіх валасцей, у выніку аказалася ў такім становішчы, што не здолела ў неабходны момант даць адпор маскоўскаму войску. Менавіта для заходняга напрамку баявых дзеянняў характэрна выдзяленне двух перыядаў вайны: 1486—1492 гг. — падрыхтоўчы перыяд «схаванай» вайны, 1492—1493 гг. — рашучыя дзеянні па рэалізацыі вынікаў першага перыяду.

У паўднёва-заходнім напрамку маскоўская палітыка была вельмі прадуманай. Асцярожнымі дзеяннямі можна было дасягнуць больш значных поспехаў, чым адкрытым ваенным ціскам. І сапраўды, Масква выкарыстала пэўныя рычагі ў адносінах з мясцовымі князямі, кропкавыя ўдары па пунктах супраціву і ў выніку малымі сродкамі дабілася многага. Але неабходна заўважыць, што пасля некаторых поспехаў развіццё наступлення ў рэгіёне Верхняй Акі і далей было свядома прыпынена. Працяг вайны мог, на думку Ю.Р. Аляксеева, прывесці да канфлікту з усімі

[156] Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 11—12, 85, 140, 177 і інш.; Фролов А.А. Статус земель южного пограничья Новгородской земли в XVI — начале XVIII века // Очерки феодальной России. Вып. 9. М., 2005. С. 106—120.

[157] Нельга блытаць Ржэву Пустую — наўгародскую і Ржэву Валадзімераву — да таго часу ўжо маскоўскую.

[158] СИРИО. Т. 35. № 4. С. 15; № 8. С. 34; № 8. С. 38; № 12. С. 48; № 14. С. 54; № 24. С. 115; «Выписка из посольских книг». С. 40.

[159] Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 287.

[160] Фролов А.А. Статус земель южного пограничья Новгородской земли. С. 115.

дзяржавамі Ягелонаў, што, безумоўна, не магло не насцярожыць Івана III[161]. Такім чынам, трэці напрамак баявых дзеянняў не быў да канца рэалізаваны. Пытанне прыналежнасці рэшткаў Вярхоўскіх княстваў, а таксама Северскай зямлі вырашаўся ў наступнай вайне — 1500—1503 гг. Традыцыйнае дзяленне ходу вайны на трэцім напрамку на два перыяды не вытрымлівае крытыкі, таму што не толькі з 1492 г., але ўжо ў 1489 г. быў ажыццёўлены вялікі паход вялікакняжацкіх маскоўскіх войскаў на найбольш значныя асяродкі ўлады ВКЛ у рэгіёне — Любуцк і Мцэнск.

Тым не менш услед за іншымі даследчыкамі ў ходзе вайны можна вылучыць два перыяды. Даўно заўважана, што ваенныя дзеянні да 1492 г. і пасля яго адрозніваюцца па характары вельмі адчувальна. Перыяд 1486—1492 гг. запоўнены дробнымі нападамі маскоўскіх служылых людзей на памежныя землі ВКЛ, рэйдамі маскоўскіх удзельных князёў углыб памежнай зоны, захопам блізкіх да мяжы валасцей. Ваенныя дзеянні 1492—1493 гг. за малым выключэннем скіроўваліся з маскоўскага боку на галоўныя цэнтры ўлады ВКЛ у памежным рэгіёне і ў пэўным сэнсе завяршалі тое, што было пачата ў першыя гады вайны. Да таго часу адносяцца больш-менш актыўныя дзеянні і з літоўскага боку. Таму цалкам справядліва вылучыць у ходзе вайны два перыяды: першы — 1486—1492 гг. і другі — 1492—1494 гг. Менавіта для першага перыяду больш адпавядаюць азначэнні расійскіх даследчыкаў «хітрая» або «дзіўная» вайна. Як маскоўскія, так і літоўскія цэнтральныя ўлады ў гэты час лічылі за лепшае не выкарыстоўваць вялікакняжацкія войскі, а задавольвацца сіламі намеснікаў, служылых і ўдзельных князёў, якія знаходзіліся ўздоўж мяжы. Вынікам і наступствам першага перыяду вайны быў падрыў абароны ўсходняй мяжы ВКЛ[162]. У другі перыяд на першы план выйшлі дзеянні вялікіх кантынгентаў войскаў, якія ажыццяўлялі буйныя аперацыі. Для Масквы здабываліся гарады, замацоўваліся княжацкія ўладанні. Іншы, больш маштабны характар баявых дзеянняў, які праявіўся пасля смерці караля і вялікага князя Казіміра (7 чэрвеня 1492 г.), быў заўважаны і літоўскім бокам. Пасля ўступлення на пасаду вялікага князя ВКЛ Аляксандр Казіміравіч, звяртаючыся ў пасольскай прамове да Івана III з нагоды новых маскоўскіх нападаў, гаварыў: «Ино самъ того посмотры, гораздо ль то деятьсе, чого *перьво сего за отца нашого от тебе дел знаменитыхъ не было*»[163].

Зараз, абапіраючыся на распрацаваную схему (структура баявых дзеянняў, напрамкі іх рэалізацыі, перыядызацыя), можна прапанаваць разгорнуты збор падзей перыяду першай памежнай вайны. Пры гэтым каментары і характарыстыкі датычацца ў асноўным гісторыка-геаграфічных яе абставін. Нумарацыя падзей адпавядае структуры, прыведзенай вышэй, літарамі пазначаны напрамкі ваеннай актыўнасці. Асобна, скаротам «ВКЛ» вылучаны дзеянні менавіта літоўскіх войскаў (іх было няшмат).

## 5. Падзеі вайны

У дадзеным раздзеле па прынцыпе храналагічнай паслядоўнасці і ў адпаведнасці з напрамкамі вядзення баявых дзеянняў прадстаўлены пералік падзей першай памежнай вайны.

Дацiроўка шмат якіх падзей носіць умоўны характар, што звязана ў большасці выпадкаў са спецыфікай крыніцы, якая іх адлюстроўвае. У пасольскіх кнігах адкладваліся звесткі аб адбыўшыхся падзеях праз некаторы (часам значны) пра-

161 Алексеев Ю.Г. Походы русских войск при Иване III. С. 333.

162 Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 290.

163 LM. Kn. 5 (1427—1506). № 9. P. 63.

межак часу. Часам храналагічнай прывязкай служаць згадкі царкоўных свят, але часцей даводзіцца задавольвацца даволі нявызначанымі часовымі адрэзкамі (восень, лета і г.д.), і не выключана, што некаторыя з іх могуць аказацца лжывымі. Падзеі, якія трапілі на старонкі разрадных кніг, на жаль, часта пераблытаныя, прадубліраваныя і скажоныя. Іх бывае даволі складана супаставіць з вядомымі па іншых крыніцах звесткамі. З іншага боку, сустракаюцца згадкі пра такія паходы маскоўскіх сіл, якіх больш нідзе не знайсці. Напрамкі вядзення баявых дзеянняў (паўднёва-заходні, заходні і паўночна-заходні) выразна аддзяляюцца адзін ад аднаго. Выхад за рамкі выдзеленых напрамкаў сустракаецца рэдка.

Аддаючы даніну гістарыяграфічнай традыцыі, увесь ход вайны падзелены на два перыяды. Пры гэтым асобна, па-за межамі самой вайны, пастаўлены падзеі, якія папярэднічалі ёй па часе, але, несумненна, паўплывалі на выпрацоўку тактыкі вядзення баявых дзеянняў, вызначэнне напрамкаў, аб'ектаў і суб'ектаў нападаў.

У пераліку прадстаўлены ў асноўным толькі канкрэтныя падзеі. Заўвагі таго ці іншага боку аб шматлікіх «кривдах», тацьбах і разбоях на мяжы, без указання на месца, час і аб'ект нападу пакідаліся без увагі. Тым не менш адмаўляць рэальнасць пастаяннай трывогі на маскоўска-літоўскай мяжы і ажыццяўленне дробных дыверсій, рабункаў і г.д. не варта. Згодна з выпрацаванай структурай баявых дзеянняў (для маскоўскага і літоўскага бакоў) кожная падзея пранумаравана. Для літоўскага боку да нумара катэгорыі падзеі дададзена абрэвіятура ВКЛ. Пасля абазначэння катэгорыі падзеі і часу, калі яна адбылася, ідзе яе апісанне з характарыстыкай складу нападаўшых, указаннем аб'ектаў нападзення і, па магчымасці, вызначэннем страт бакоў, мэт і вынікаў якіх-небудзь дзеянняў.

Асобныя нарысы, што часам толькі ўскосна адносяцца да самой падзеі, дапаўняюць рознага роду звесткамі асноўны змест артыкулаў. Даецца разгорнутая характарыстыка згаданых геаграфічных аб'ектаў, з экскурсамі ў гісторыю іх далучэння да Масквы ці Вільні і вызначэннем іх месцазнаходжання; выносяцца здагадкі і робяцца высновы аб чарговых этапах вядзення вайны; ажыццяўляецца назіранне за маштабамі захопаў тэрыторыі ВКЛ і г.д.

На наш погляд, такі, некалькі фармалізаваны, падыход да аналізу ходу першай памежнай вайны паміж Вялікімі Княствамі Маскоўскім і Літоўскім дазволіць панову зірнуць на сутнасць літоўска-маскоўскіх адносін даследаванага перыяду, убачыць своеасаблівасць адбываўшыхся падзей, а таксама іх прадуманасць, адпаведнасць мэце і пэўную абумоўленасць сітуацыяй таго гістарычнага перыяду.

1.1.1. *Восень 1474 г.* Маскоўскае войска на чале з ваяводам Сямёнам Беклямышавым паслана вялікім князем Іванам III да Любуцка. Любуцкія воласці былі спустошаны, але горад выстаяў[164].

2.2. ВКЛ. *Восень 1474 г.* «Любучане» раптам прыйшлі ва ўладанні князя Сямёна Адоеўскага (служыў Маскве і, відаць, удзельнічаў у нядаўнім паходзе на Любуцк), якія паспеў сабраць толькі нешматлікіх сваіх людзей, і ў баі забілі толькі яго аднаго[165].

Несумненна, князь Сямён Адоеўскі быў заспеты знянацку і забіты ў сваіх уладаннях. Апошнія, відавочна, знаходзіліся побач з Любуцкам, з якога і быў арганізаваны напад. А.У. Антонаў звярнуў увагу на згадванне ў духоўнай грамаце Івана III 1504 г. горада Любуцка з Вепрынам, «что за Одоевскими князми»[166]. Згодна з цалкам пераканаўчымі

[164] ПСРЛ. Т. 6. С. 198; Т. 8. С. 178.

[165] ПСРЛ. Т. 8. С. 178.

[166] ДДГ. № 89. С. 360.

высновамі гісторыка, гэтымі Адоеўскімі былі сыны забітага князя, а магчымымі месцамі лакалізацыі Вепрына з'яўляліся раёны рэчкі Выпрынкі (левы прыток Чарапеці) за 35 км на паўднёвы захад ад Любуцка або рэчкі Выпрэйкі (правы прыток Акі) за 30 км на паўночны ўсход ад горада[167]. Такім чынам, князь Сямён пасля пераходу на маскоўскую службу пакінуў за сабой землі ў родным надзеле (у выпадку першай лакалізацыі Вепрына) або атрымаў новыя ўладанні сярод Вялікага Княства Маскоўскага побач з гарадамі Тарусай і Алексіным (у выпадку другой лакалізацыі Вепрына, якая ўяўляецца найбольш слушнай). Дзесьці, у Вепрыне або ў іншым сваім уладанні, што ляжыць недалёка ад Любуцка, князь Сямён у 1474 г. быў забіты.

1.2.1. Пасля 15 студзеня 1478 г.[168]. Князь Іван Уладзіміравіч Абаленскі-Лыка прыбыў з Вялікіх Лук, дзе быў намеснікам[169], у Ржэўскую воласць (Ржэвы Пустой) «и судилъ и грабил людъ — што хотелъ, то на них бралъ». Гэтаксама рабілі і пакінутыя ў Ржэве слугі князя. Пасля гэтага ад наўгародскага намесніка князя Лыка былі дасланыя яшчэ слугі, якія прывялі да цалавання крыжа на імя Івана III усіх людзей «и от мала и до велика»[170]. Магчыма, неўзабаве Ржэва атрымала асобнага намесніка — князя Канстанціна (Вушатага?), які зноў прывёў жыхароў да прысягі (прычым, двойчы), прысвоіў даніны, якія ішлі не толькі на караля, але і на наўгародскіх уладара і баяр, а таксама спаганяў свавольныя пабory[171]. Людзі цярпелі ад рабаванняў, водкупаў, многія разбегліся (да Пскова, у Пуповічы да пана Зяноўева, у Вялікія Лукі і іншыя месцы). Асабліва пацярпела воласць Уліцы (Уліцкая), дзе Канстанцін стаяў два тыдні. Скаргі прадстаўнікоў Ржэўскай воласці мелі вынік: Іван III даў грамату, паводле якой мясцовыя жыхары павінны былі даваць сакольшчыну і плаціць мыта, «какъ издавна бывало»[172]. Пры гэтым Канстанціну вялікі князь «не велелъ там судит» што, верагодна, азначала пазбаўленне пасады намесніка. Знаходзіўся ў Ржэўскай воласці Канстанцін да 2 жніўня (да Ільы)[173], але і пасля працягваў збіраць даніну з людзей, якія раней плацілі каралю («до Матьки Божьи», гэта значыць да Нараджэння Багародзіцы 21 верасня).

Дадзеныя мерапрыемствы маскоўскіх улад, безумоўна, нельга разглядаць як чыста ваенныя дзеянні. Тым не менш яны насілі відавочна варожы характар у адносінах да караля і вялікага князя Казіміра. Заняцце Вялікіх Лукаў і Ржэвы («Лутцкой город, да Ржевской город») услед за Вялікім Ноўгарадам і Цвер'ю самім Іванам III расцэньвалася як «почин и наступ на Казимира на Короля», аб чым ён і паведамляў вугорскаму каралю Мацвею Корвіну, падбіваючы яго пачаць вайну супраць Польшчы[174].

Ржэву Пустую, аб якой ідзе гаворка ў дадзеным выпадку, часта блытаюць з Ржэвай Уладзіміравай на р. Волзе. Не пазбег гэтай памылкі нават такі буйны даследчык, як

[167] Антонов А.В. К истории удела князей Одоевских // Русский дипломатарий. Вып. 7. Тула, 2001. С. 262.

[168] Дата скасавання незалежнасці Вялікага Ноўгарада (ПСРЛ. Т. 25. С. 321).

[169] LM. Kn. 4 (1479—1491). № 140. P. 149; ПСРЛ. Т. 6 (Софийские летописи). СПб., 1853. С. 222; Пашкова Т.И. Местное управление в Русском государстве первой половины XVI в. (наместники и волостели). М., 2000. С. 133.

[170] LM. Kn. 4 (1479—1491). № 140. P. 148, 151.

[171] Тамсама. P. 148, 150.

[172] Тамсама. P. 148.

[173] Тамсама. P. 150.

[174] Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. Стб. 167—170.

К.В. Базілевіч[175]. Лакалізацыя Пустой Ржэвы, статус уезнага цэнтра якой перайшоў у 1536 г. да Завалочча, як і вызначэнне яе адміністрацыйнай сістэмы належаць Л.А. Басалыгу і В.Л. Яніну[176].

1.2.1. *Пасля 15 студзеня 1478 г.* Князь Іван Уладзіміравіч Абаленскі-Лыка даслаў свайго слугу Бурца ў Бардоўскі пагост Ржэўскай воласці. Літоўскі намеснік Еська быў абрабаваны і забіты. Пасля на двор забітага намесніка прыбыў князь Канстанцін: уся маёмасць была абрабавана (на 200 рыжскіх рублёў), насельніцтва зноў прыведзена да прысягі, абкладзена паборамі, вывезена жыта. Таксама двойчы быў абрабаваны двор новага намесніка Сцяхна Федкавіча (на 100, а потым яшчэ на 130 рублёў), дачка і чэлядзь былі выведзеныя ў Маскву. Быў абрабаваны і дом Пацка Еськавіча (на 100 рублёў). «Люди судил и грабилъ, и брал што хотелъ» князь Канстанцін з 6 снежня («осеньнего Николина дня») да 21 верасня («до Матъки Божъи»), а пасля з'ехаў у Маскву, пакінуўшы ў воласці сваіх слуг. Разам з Канстанцінам, у згодзе з ім, у воласці бясчынствавалі наўгародскія баяры[177].

1.2.1. *9 траўня (або 6 снежня)* 1478 г. *(«на Николен день»).* Князь Канстанцін прыехаў у Будкінскую трацíну Ошаўскага пагоста Ржэўскай воласці[178], схапіў і забіў «каралёва» намесніка Анісіма, а таксама некаторых іншых галоўных («головных») людзей[179], якія, відавочна, з'яўляліся прыхільнікамі Казіміра і прадстаўлялі адміністрацыю ВКЛ. Быў узяты ў палон нехта Зянько, за якога атрыманы выкуп у 20 рублёў; дом і маёмасць Зянька абрабаваны на 100 рублёў, забраныя коні («полтретядцать»). Пасля выплаты выкупу Зянько з сям'ёй уцёк у Астрэю да намесніка Багдана, але апошні вярнуў яго назад з прызначэннем намеснікам ад імя караля. Як толькі слугі пана Багдана ад'ехалі са Ржэўскай воласці і сам ён пакінуў Астрэю, князь Канстанцін з людзьмі напаў ноччу і ледзь не схапіў Зянька, а яго старэйшага сына і чэлядзь адправіў палоннымі ў Маскву. Маёмасць новапрызначанага літоўскага намесніка ў Ржэве зноў была абрабавана, пры гэтым было ўзята жыта на 1000 бочак[180]. З таго часу Зянько жыў у Астрэі і, такім чынам, адміністрацыя ВКЛ была выцеснена з меж воласці.

Згаданыя Астрэя і Пуповічы — цэнтры валасцей, знаходзіліся каля самай мяжы на літоўскім баку, па суседстве з Пустаржэўскай і Луцкай землямі — сумеснымі літоўска-наўгародскімі ўладаннямі. Як бачым, адразу пасля далучэння да Масквы Ноўгарада маскоўская ўлада распаўсюдзілася і на яго сумесныя ўладанні, з якіх ішлі напады ўжо непасрэдна на тэрыторыю ВКЛ. За валоданне Астрэяй, Пуповічамі і шэрагам іншых суседніх валасцей ішла актыўная барацьба ўжо пасля заключэння міру 1494 г.

1.3. *Каля 1484 г.* Нападзенне маскоўскіх людзей («Ивана Таваркова тати») на вотчыну князя Цімафея Уладзіміравіча Масальскага (Недаходаў і інш.)[181], забранне

[175] Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 285.

[176] Бассалыго Л.А., Янин В.Л. Историко-географический обзор новгородско-литовской границы. С. 140—160.

[177] LM. Kn. 4 (1479—1491). № 140. P. 152.

[178] Аб лакалізацыі Будкінскай трэці гл.: Бассалыго Л.А., Янин В.Л. Историко-географический обзор новгородско-литовской границы. С. 151.

[179] LM. Kn. 4 (1479—1491). № 140. P. 149.

[180] LM. Kn. 4. № 140. P. 149.

[181] СИРИО. Т. 35. № 1. С. 3.

коней («полтретьятцатеро»), адзення і іншай маёмасці на 20 маскоўскіх рублёў, забойства 2 чалавек[182].

Гэтая падзея, па словах самога князя — пасла Казіміра, які знаходзіўся ў Маскве і асабіста прамаўляў пасольскія прамовы са скаргамі на дзеянні маскоўскага боку, адбылася «третьего лета», гэта значыць за тры гады да восені 1487 г., калі прыехала пасольства. У духоўнай грамаце Івана III 1504 г. згадана «на Шане слобода, что Товарков садил, по Угру ж»[183]. Да часу складання тэстамента Іванам IV Грозным (1572 г.) слабодка ператварылася ў апакаўскую (горада Апакава) воласць Таваркаў[184]. Несумненна, з'яўленне слабодкі на левым баку Угры пры ўпадзенні р. Шані, акурат недалёка ад Недаходава звязана з дзейнасцю «татей» Івана Таваркава. Магчыма, захоп і асваенне левабярэжжа р. Угры маскоўскім бокам рабілася яшчэ да пачатку вайны 1486—1494 гг. Прырошчвалася, відавочна, тэрыторыя Мядынскага ўезда. Каля 1484 г. нападу падвяргалася ўжо правабярэжжа р. Угры.

## I перыяд вайны

(пачатак 1486 — сярэдзіна лета 1492 г.)

### *Паўднёва-заходні напрамак*

1.3. *Вясна 1486 г.* «Тацьба», разбой і рабаванне жыхароў Любуцка і Мцэнска з боку людзей Івана III («мецняномъ и любучаномъ многие шкоды починили») — гэта значыць спалучэнне прыхаванага і адкрытага рабавання тэрыторыі Мцэнска-Любуцкага намесніцтва[185]. Мэта — удар па цэнтры ўлады ВКЛ у Верхняокскім рэгіёне.

Мцэнска-Любуцкае намесніцтва з'яўлялася вылучаным далёка на ўсход асяродкам улады вялікага князя літоўскага. Вакол размяшчаліся ўладанні вярхоўскіх князёў (Варатынскіх, Адоеўскіх і Бялёўскіх), чыю вернасць вялікаму князю літоўскаму неабходна было падмацоўваць.

2.1. *Да 9 траўня 1486 г.* (напярэдадні Міколіна дня). Нападзенне людзей вялікага князя разанскага Івана Васільевіча на Мцэнск. Горад (відавочна, без замка) быў спалены, навакольныя вёскі абрабаваныя, з іх выведзены палон[186]. Мэта — тая ж самая.

4. ВКЛ. *Лета 1487 г.* Прыход людзей князёў Мезецкіх на вотчыну князёў Адоеўскіх, якія служылі Маскве (верагодна, на Адоеў і наваколлі)[187], рабаванне, вывад палону (жанчын і дзяцей)[188].

---

182 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 3; № 8. С. 36.

183 ДДГ. № 89. С. 355.

184 ДДГ. № 104. С. 440, 441.

185 LM. Kn. 4. № 128. P. 139.

186 Тамсама. № 129. P. 139; АЗР. Т. I. № 58. С. 71.

187 Палова Адоева і пэўныя тэрыторыі вакол яго па-ранейшаму належалі князям, якія служылі Маскве з 60-х — пачатку 70-х гг. XV ст. (Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 71—72).

188 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 4.

Паводле пасольскай прамовы акольнічага маскоўскага вялікага князя Пятра Міхайлавіча Пляшчэева, першымі напалі на вотчыны маскоўскіх служылых людзей менавіта людзі князёў Мезецкіх (якія служылі ВКЛ). Быццам бы ў адказ, з мэтай адбіць палон, была ажыццёўлена акцыя з маскоўскага боку.

3.1. *Жніўня 1487 г.* Нападзенне людзей князёў Івана, Васілія і Пятра Сямёнавічаў Адоеўскіх і Івана Міхайлавіча Перамышльскага (Варатынскага), якія служылі Маскве, на Мезецк, узяцце палону і захоп маёмасці. Мясцовыя князі Мезецкія дагналі рабаўнікоў, адбыўся бой, у выніку якога Мезецкія пацярпелі паразу[189].

Гэта першае сур'ёзнае ваеннае сутыкненне той вайны. Бой паміж маскоўскімі і літоўскімі атрадамі адбыўся 13 жніўня 1487 г.[190]. З боку ВКЛ удзельнічалі князі Мезецкія — Міхаіл Рамановіч, Іван Гаўдырэўскі, Фёдар Сухі, Пётр, Васіль Фёдараў з людзьмі і людзі князя Сямёна Фёдаравіча Варатынскага. Нягледзячы на паразу, Мезецкія ўзялі палон, а іншых абрабавалі[191].
З вышэйзгаданымі падзеямі звязана праблема пераходу на маскоўскую службу шэрагу вярхоўскіх князёў і, у прыватнасці, князя Івана Міхайлавіча Варатынскага. На час ад'езду ў Маскву (першая палова 1487 г.)[192] І.М. Варатынскі валодаў трацінай Варатынска (дзвюма астатнімі часткамі — яго дзядзькі Дзмітрый і Сямён), а таксама Перамышлем[193].

1.3. *Лета 1487 г.* Нападзенне «татей» на чале з Іванам Таваркавым з боку мядынскага намесніка Васілія Давыдавіча Пёстрага на вотчыну князя Цімафея Уладзіміравіча Масальскага Недаходава, захоп коней (13) і маёмасці на 15 маскоўскіх рублёў[194].

Верагодна, гэта адно з трох нападзенняў людзей мядынскага намесніка, пра якія згадваў у пасольскіх прамовах князь Цімафей Уладзіміравіч Масальскі, калі гаварыў пра дзеянні ў напрамку сваёй вотчыны. Паводле слоў пасла, пасля трохразовага прыходу на Недаходаў людзей Васілія Давыдавіча Пёстрага, «от сих часов за полтора года» адбыўся яшчэ адзін напад на яго вотчыны людзей князя Івана Міхайлавіча Перамышльскага (гл. ніжэй)[195]. Значыць, апісаная падзея мела месца яшчэ раней, летам 1487 г., як і сказана ў пасольскай прамове за кастрычнік 1487 г.
У выніку трох нападзенняў на недаходаўскія землі 70-ці чалавек, некаторыя з якіх былі названы пайменна, былі захоплены палонныя (за аднаго з іх — княжацкага слугу Лягу быў атрыманы выкуп ад смаленскага баярына Піліпа Полцева[196] ў 15 рублёў), забраны коні, адзенне і маёмасць на 190 рублёў[197].

---

[189] СИРИО. Т. 35. № 1. С. 3; № 2. С. 7—8; № 4. С. 16.

[190] Згодна з крыніцай, падзея адбылася ў панядзелак напярэдадні Успення Прачыстай Багародзіцы, гэта значыць да 15 жніўня. Гэты дзень у 1487 г. выпадаў на сераду (падлічана па формулах Д. Перавозчыкава і Я.Ф. Карскага. Гл.: Черепнин Л.В. Русская хронология. С. 44—47). Такім чынам, панядзелак — гэта 13 жніўня.

[191] СИРИО. Т. 35. № 1. С. 5; № 2. С. 7—8; № 4. С. 16—17.

[192] Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 77.

[193] Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России... С. 132.

[194] СИРИО. Т. 35. № 1. С. 4.

[195] Тамсама. № 8. С. 36.

[196] Пра смаленскіх баяр Полцевых гл.: Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 206.

[197] СИРИО. Т. 35. № 8. С. 36.

2.1.? *Да сярэдзіны восені 1487 г.* Прыход маскоўскіх людзей на вотчыну смаленскага намесніка князя Цімафея Уладзіміравіча Масальскага Недаходаў[198].

Цэнтр гэтай вотчыны знаходзіўся недалёка ад правага берага р. Угры, але да яе адносіліся і землі на левым беразе гэтай ракі. Найбольш блізкія да недаходаўскіх маскоўскія ўладанні — калужскія, хаця маглі дзейнічаць і людзі з Мядыні. Аднак, магчыма, гэта тая падзея, пра якую было паведамлена ў прамове пасла князя Цімафея Уладзіміравіча Масальскага летам 1489 г. са спасылкай на больш ранні час («от сих чясов за полтора года»). Тады ў напрамку Недаходава дзейнічалі людзі князя Івана Міхайлавіча Перамышльскага (Варатынскага) («полтретьятцать»), узялі коней і маёмасці (на 50 рублёў)[199]. Такім чынам, нападзенне магло быць ажыццёўлена з поўдня — непасрэдна з уладанняў князя Варатынскага, калі ён і яго людзі там знаходзіліся.

4. ВКЛ. *Да канца 1487 г.* Згодна са скаргай князя Івана Васільевіча Бялёўскага (магчыма, служыў Маскве з канца 1487 г.)[200], з боку князёў Дзмітрыя і Сямёна Фёдаравічаў Варатынскіх (служылі ВКЛ) чыніліся рабаванні і захопы ў палон яго людзей, з разлікам на наступны продаж апошніх[201].

2.2. ВКЛ. *Канец сакавіка — пачатак красавіка 1488 г.* Паход людзей з Любуцка ўздоўж Серпухаўскай дарогі да р. Лопасны (левы прыток Акі), перамога над вялікакняжацкімі людзьмі Федкі Ардынца («неделю в четвертую поста»), адабранне грошай, коней і іншай маёмасці на 25 рублёў[202].

Гэта даволі значны паход з мэтай рабавання ўглыб маскоўскай тэрыторыі, аж за Серпухаў да р. Лопасны. З маскоўскага боку схапілі аднаго «розбойника», які аказаўся слугой мцэнска-любуцкага намесніка князя Івана Юр'евіча Трубяцкога[203]. Відавочна, напад ажыццяўляўся з ведама апошняга. Гэтае ды іншыя наступальныя дзеянні з тэрыторыі Мцэнска-Любуцкага намесніцтва сведчаць аб даволі моцных ваенных рэсурсах вялікакняжацкай улады ВКЛ у рэгіёне Верхняй Акі.

1.3. *Да канца 1488 г.* Прыход маскоўскіх палкоў (!) з Калугі на гарады Верхняга Паочча (Любуцк і Мцэнск?), забойствы людзей, палон, захоп маёмасці[204].

Цалкам магчыма, што гэтае нападзенне было скіравана супраць цэнтраў вялікакняжацкай улады ў рэгіёне і не закранула ўладанняў мясцовых князёў.

1.3. *Да канца 1488 г.* Прыход людзей князя Глазыніча[205], Васілія Пёстрага і Міткі Губатага, захоп Меска, Бышкавічаў, Лычына (князёў Д.Ф. і С.Ф. Варатынскіх) і Недаходава (князя Ц. У. Масальскага)[206].

---

198 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 3.

199 Тамсама. № 8. С. 36.

200 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 77.

201 СИРИО. Т. 35. № 2. С. 8.

202 Тамсама. № 4. С. 17.

203 Тамсама.

204 Тамсама. № 6. С. 19—20.

205 У публікацыі пасольскіх кніг памылкова пазначана: «приходили люди с Лазычина, а Василья Пестрого, а Митка Губастово» (СИРИО. Т. 35. № 6. С. 20).

206 СИРИО. Т. 35. № 6. С. 20.

Верагодна, нападзенне адбылося з боку Мядыні ў напрамку правабярэжжа нізоўя р. Угры з мэтай аказання ціску на князёў, якія заставаліся вернымі Казіміру. Цікава, што разам з маскоўскімі служылымі людзьмі дзейнічаў князь Іван Васільевіч Глазына (Глазыніч, Пузына), брат смаленскага акольнічага Алехны Васільевіча Глазыны[207]. Да канца 1486 г. Іван Глазына разам з сынамі імкнуўся ўцячы ў Маскву, але ўдалося гэта зрабіць яму аднаму — сыноў па дарозе перанялі[208].

3. ВКЛ. *Восень 1488 г.* Нападзенне значнага войска князёў Д.Ф. і С.Ф. Варатынскіх «з знамями и с трубами войною» на мядынскія воласці, якія былі абрабаваны і спалены, шмат людзей забіта, а іншыя ўзяты ў палон[209].

Верагодна, гэтая акцыя была ажыццёўлена ў адказ на папярэдні прыход маскоўскіх людзей з Глазынічам. Уражвае маштаб мерапрыемства і яго арганізаванасць, на што звярнуў увагу М.М. Кром[210].

2.2. ВКЛ. Снежань 1488 г.[211] *(«в Филиппов пост, перед Рождеством Христовым»).* «Наезд» з Любуцка на Калужскую воласць «лихих» людзей, забойствы, рабаванні.

Усяго калужане тройчы прыходзілі ваяваць любуцкія воласці.

1.4. *Снежань 1488 г.* Маскоўскі сын баярскі Барыс Фёдараў сын Чалішчава ў пагоні за «лихими» людзьмі, якія прыходзілі з Любуцка, уступіў у бой з падаспелым «воеводкой любутским» Васкам Пратасьевым, узяў яго і яшчэ трох чалавек у палон[212]. Пры гэтым любуцкія людзі паспелі ўцячы з усім нарабаваным.

«Воеводка» Васілій (Васка) Іванавіч Пратасьеў — асобны любуцкі намеснік, падпарадкаваны мцэнскаму і любуцкаму намесніку Івану Юр'евічу Трубяцкому. (Ці не з'яўляецца ён сваяком Грыгорыя Пратасьева — мцэнскага намесніка?)

---

207 Вядомы з 1486 да 1500 г. З 1495 па 1499 гг. з'яўляўся намеснікам у Лучыне Гарадку (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. № 54. S. 52; № 84. S. 56). Пра род Глазынічаў гл.: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 288; Boniecki A. Herbarz Polski. Cz. I. Wiadomości historyczno-genealogiczne o rodach szlacheckich. T. I. Warszawa, 1899. S. 293—294; Ён жа. Poczet rodów w Wielkim Ksęstwie Litewskim w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 75; Пташицкий С.Л. Князья Пузыны. СПб., 1899; Власьев А.Г. Потомство Рюрика. Материалы для составления родословий. Т. I. Князья Черниговские. Ч. 1. СПб., 1906. С. 343—347.

208 LM. Kn. 6. № 147. P. 125. Дата ўцёкаў І.В. Глазыны ў Маскву вызначаецца па часе намесніцтва ў Смаленску Мікалая Мікалаевіча Радзівілавіча, пры якім гэта адбылося — з 1482 па канец 1486 г. (LM. Kn. 4. № 72—74. P. 114—115; № 77. P. 116; № 92—94. P. 121—122; № 97. P. 124; № 100. P. 125; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. № 40. S. 50). 23 студзеня 1487 г. Мікалай Радзівілавіч узгадваўся як былы смаленскі намеснік. Гэтую пасаду займаў ужо Іван Ільініч (LM. Kn. 4. № 100. P. 125).

209 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 39. На чале пахода стаялі людзі князёў Варатынскіх: Іван Шчэпель, Іван Бахта, Феадор Валконскі, Звяга Іваноў і Сеня Паўлаў (Тамсама). Сярод іх вылучаецца Феадор Валконскі — магчыма адзін з валконскіх князёў, які страціў на службе свой тытул.

210 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 53.

211 Тамсама.

212 СИРИО. Т. 35. № 6. С. 21; № 8. С. 37; № 12. С. 49.

1.1.1. *Вясна 1489 г.* Паход маскоўскага войска на чале з князем Васіліем Іванавічам Касым (Крывым) Патрыкеевым (усяго 11 ваявод) на Варатынск, супраць князёў Дзмітрыя і Сямёна Фёдаравічаў Варатынскіх. Аблога і спаленне горада (відавочна, толькі пасада), захоп і паланенне баяр і баярынь і іншых людзей (усяго 7000)[213].

Гэта адна з самых значных падзей першай памежнай вайны. Мэтай было аслабленне цэнтраў улады ВКЛ у рэгіёне Верхняй Акі з адначасовым уздзеяннем на князёў, якія заставаліся вернымі вялікаму князю Казіміру. Непасрэдным вынікам паходу быў ад'езд на маскоўскую службу князя Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага[214].

5. ВКЛ. *Вясна 1489 г.* Пры вяртанні маскоўскага войска з паходу на Варатынск «изгоном» яго нагналі ваяводы ВКЛ «со многою силою», разбілі і вярнулі палонных[215].

Гэты адзін са значных поспехаў войскаў ВКЛ тым не менш не меў ніякіх наступстваў[216].

3. ВКЛ. *Вясна («сее зимы, в велики пост») 1489 г.*[217]. Прыход «не тайно, явно войною» людзей князёў Дзмітрыя Фёдаравіча і Сямёна Фёдаравіча Варатынскіх на маскоўскія валасці за р. Акой, рабаванне, захоп у палон жанчын і дзяцей[218].

3.2. *Снежань 1489 г.*[219]. Пераход на маскоўскі бок князя Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага разам са сваёй вотчынай, «дольницей» і казной брата Сямёна; прымус баяр і слуг брата Сямёна да прысягі і службы на сваё імя. Захоп і ўсталяванне намеснікаў у гарадах Серанск і Бышкавічы, валасцях Лычына і Недаходаў, утрыманне горада Казельска[220].

Пад уладай князя Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага апынулася вялікая тэрыторыя, якая прылягала да Варатынска ад захаду да поўдня. Адносна Казельска ад імя Івана III у адказе літоўскаму паслу пану Станіславу Петрашковічу сцвярджалася, што той горад з усімі месцамі па нейкай «особной» даканчальнай грамаце Васілія II з Казімірам адыходзіў да Масквы[221]. Аднак у дамове 1449 г. такі запіс адсутнічае, а сведчанне аб «особной» грамаце нідзе не знаходзіць пацвярджэння.
Праз некаторы час захопы князя Дзмітрыя былі, мабыць, адваяваны. Ва ўсялякім выпадку, у 1492 г. яны з'ўляліся ўжо ўладаннямі яго брата Сямёна (гл. ніжэй).

---

213 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 35; ПСРЛ. Т. 6. Вып. 2. Стб. 325.

214 СИРИО. Т. 35. № 9. С. 40; № 12. С. 47.

215 ПСРЛ. Т. 6. Вып. 2. Стб. 325.

216 Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 290.

217 У той год Пасха выпадала на 19 красавіка (падлічана па формуле К.-Ф. Гаўса: Леонтьева Г.А. Палеография, хронология, археография, геральдика: Учеб. пособие для студ. высш. учеб. заведений. М., 2000. С. 33), таму з каляндарных зімовых дзён для паста (7 тыдняў) нічога не заставалася. Відавочна, мелася на ўвазе «прыродная» зіма, калі яшчэ не сышоў снег.

218 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 39.

219 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 77—78.

220 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 47—48; № 14. С. 54; «Выписка из посольских книг». С. 42. Казельск не так даўно (12 сакавіка 1488 г.) быў дадзены князю Дзмітрыю ў якасці трымання (Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. S. 392; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 79).

221 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 51.

1.3. В. *Да канца красавіка 1490 г.* Прыход маскоўскіх людзей на чале з Хацэтаўскім пад горад Апакаў (належаў Сапежыным дзецям), рабаванне горада, вывад палону[222].

Гэты напад на Апакаў (на правым беразе р. Угры), як потым і на Дзмітраў, сведчыць аб імкненні аслабіць абарону ўсходняй мяжы ВКЛ. Апакаў таксама меў землі за р. Угрой, якія па дамове 1494 г. адышлі да Масквы[223]. Пасля пераходу на маскоўскі бок у 1492 г. Апакавам авалодаў князь С.Ф. Варатынскі, але ў сваё ўладанне ён атрымаў толькі тэрыторыю да р. Угры («городъ Опаковъ зь волостьми по Угру»)[224], гэта значыць левабярэжжа Угры насупраць Апакава было ўжо да гэтага цвёрда замацавана за Масквой. У 1495 і 1496 гг., набыўшы Апакаў зноў, Васіль Сапежыч скардзіўся вялікаму князю Аляксандру, што ўся яго вотчына адышла за Угру да вялікага князя маскоўскага і добра б было атрымаць што-небудзь узамен[225].
Характэрна, што напад на Апакаў узначальваў Хацэтаўскі. Ці не з тых ён князёў Хацэтаўскіх, якія з'ўляліся мцэнскімі баярамі?[226] Уяўляецца, што на той час Хацэтава (на паўночны захад ад Мцэнска, на другім баку р. Акі) па-ранейшаму заставалася ў складзе ВКЛ.

2.1. ВКЛ. *Вясна 1490 г.* Рабаванне людзьмі з Мцэнска маскоўскіх застаў на р. Шаці (на 70 руб.) і на р. Данец (на 150 руб.)[227] з мэтай аслаблення маскоўскай мяжы з Полем.

Па словах Ю.Р. Аляксеева, нападзенні мячнян (жыхароў Мцэнска) пагражалі ўсёй сістэме вартавой службы ў Полі[228], што расцэньвалася, безумоўна, негатыўна.

3. ВКЛ. *1490 (?) г.* «Мечнянин» Астапок Варанцоў з таварышамі абрабаваў вёску Ермакова Лапаціна ў Мсціславе на 100 рублёў[229].

Маецца на ўвазе «уезд Мстисловль», які ад тарускіх князёў у сярэдзіне XIV ст. адышоў да Масквы, потым (каля 1381 г.) стаў разанскім, а прыкладна з 1461—1462 гг. — зноў маскоўскім. Знаходзіўся на поўнач ад Тулы[230].

1.3. *Да канца кастрычніка 1491 г.* Прыход вайной на Мцэнскую «державу» людзей Васка Галахвастава, вывад палону (100 чал.) і рабаванні[231].

2.1. ВКЛ. *Лета 1491 г.* «Наезд» людзей з Мцэнска, Бранска і іншых «мест украйных» на маскоўскія заставы ў Полі, было нарабавана «на многое рублев»[232].

222 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 49.

223 ДДГ. №. 83. С. 330.

224 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

225 Русская историческая библиотека. Т. XXVII. № 56. Стб. 566; № 130, 649—650.

226 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 52—53.

227 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 50; № 16. С. 66.

228 Алексеев Ю.Г. Походы русских войск при Иване III. С. 321.

229 СИРИО. Т. 35. № 16. С. 66.

230 Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности… Карта; Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей. Ч. I. С. 162; Юшко А.А. Московская земля IX—XIV веков. С. 72.

231 СИРИО. Т. 35. № 14. С. 55.

232 Тамсама. № 16. С. 63.

2.1. ВКЛ. *Лета 1491 г.* «Мечняне» (жыхары Мцэнска) абрабавалі заставы «олексинцов» (з горада Алексіна на Ацэ, недалёка ад Любуцка) на 50 рублёў[233].

2.1. ВКЛ. *Лета 1491 г.* «Мечняне» абрабавалі заставы каля р. Шаць на 50 рублёў[234].

3.1. *Да пачатку вясны 1492 г.* У час ад'езду князя Фёдара Іванавіча Адоеўскага (служыў ВКЛ) яго стрыечныя браты Іван, Васілій і Пётр Сямёнавічы (служылі Маскве) захапілі маці князя Фёдара, «засели» вотчыну і надзел апошняга (палову Адоева і воласці) з яго баярамі і ўраднікамі, выкралі казну[235].

Дадзеная акалічнасць потым тлумачылася Іванам III як унутраная спрэчка князёў Адоеўскіх «о вотчине о болшом княженіе по роду по старейшиньству»[236].

3.1. *Да пачатку вясны 1492 г.* Нападзенне людзей князя Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага разам з калужанамі і перамышлянамі на бранскія землі, рабаванне чатырох валасцей, захоп коней (70) і маёмасці на 200 коп грошай[237].

У дадзеным выпадку князь Дзмітрый Фёдаравіч Варатынскі ўжо выконваў загады свайго новага гаспадара — непакоіў памежныя землі ВКЛ ажно ў раёне Бранска, які пасля 1486 г. з'яўляўся цэнтрам намесніцтва[238] (у пачатку 1492 г. намеснікам быў князь Сямён Фёдаравіч Сакалінскі)[239]. Магчыма, нападзенне людзей князя Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага было арганізавана з валасцей Кцын і Хвастовічы, якія належалі гэтаму князю і знаходзіліся паблізу ад бранскіх зямель.

3.2. *Пачатак 1492 г.* У адсутнасць князя Андрэя Васільевіча Бялёўскага (служыў ВКЛ), яго брат Іван схапіў іх трэцяга брата Васілія, гвалтам прымусіў апошняга прыняць прысягу на імя Івана III, заняў вотчыну князя Андрэя, а баяр, слуг і чорных людзей прывёў да прысягі на сваё імя[240].

1.1.1. *1492 г.* Паход 5 маскоўскіх палкоў на чале з князем Даніілам Дзмітрыевічам Холмскім, Якавам Захар'евічам, князем Уладзімірам Андрэевічам Мікулінскім і інш. «в Северу ко князьям»[241].

Пра баявыя дзеянні ў час гэтага паходу і наогул, ці адбыўся ён і дзе праходзіў, нічога не вядома. Магчыма, шэраг пазначаных вышэй падзей, якія адбываліся ў рэгіёне верхняй Акі, быў непасрэдна звязаны з прыходам «в Северу ко князьям» магутнага кантынгенту маскоўскіх вялікакняскіх войскаў. Адсюль і пераход некаторых вярхоўскіх князёў на маскоўскі бок, і ўварванне князя Дзмітрыя Фёдаравіча Варатынскага на бранскія землі (толькі яны і адносіліся да Севера — Северскай зямлі, Северщчыны).

Фармулёўка «в Северу ко князьям» у разрадных кнігах сустракаецца некалькі разоў[242] і адносіцца, як высвятляецца, да руху маскоўскіх ваявод на злучэнне з князямі Старадубскімі

233 СИРИО. Т. 35. № 16. С. 66.

234 Тамсама.

235 Тамсама. № 15. С. 57; «Выписка из посольских книг». С. 44.

236 Тамсама. № 15. С. 59; № 16. С. 65.

237 Тамсама. № 15. С. 58, 59.

238 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 62.

239 СИРИО. Т. 35. № 15. С. 58.

240 Тамсама. С. 58, 60.

241 Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 21—22; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 31.

242 Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 99, 115, 154.

(гэта хутчэй за ўсё Сямён Іванавіч і яго сын Васілій, але, магчыма — адзін з іх дваіх і Васілій Іванавіч Шамячыч). Такім чынам, можна выказаць здагадку, што ўжо каля 1492 г. існавалі нейкія сувязі паміж маскоўскім урадам і северскімі князямі. Ва ўсялякім выпадку, ад іх чакалася нейкая рэакцыя пры з'яўленні значнага кантынгенту маскоўскіх войскаў. Крыху пазней (увосень 1493 г.) з боку вялікага князя літоўскага Аляксандра разгортвалася, але так і засталося няскончанай, дыпламатычная гульня з прапановай маскоўскаму боку прыняць да сабе назад князёў «з Масквы», гэта значыць Сямёна Іванавіча Мажайскага, Васілія Іванавіча Шамячыча, Васіля Міхайлавіча Вярэйскага і Івана Васільевіча Яраславіча. Зразумела, яны павінны былі сысці без сваіх уладанняў. Трэба было, каб маскоўскі гасудар «гнев свои им отпустил, а отчин их им поступился»[243]. Жаданне «отпустити из своего панства» князёў-эмігрантаў або іх дзяцей было, магчыма, выклікана няўпэўненасцю ў іх вернасці. Зманліва было гэтак лёгка вырашыць праблему з палітычна ненадзейнымі элементамі, ды яшчэ і за кошт маскоўскага боку. Але працягу перамоваў у гэтым кірунку не было.

2.2. *Пачатак 1492 г.* Прадстаўнік любуцкага намесніка Барыса Сямёнавіча Аляксандрава напаў на ўладанні сына баярскага Чалішчава ў Алексіне, узяў у палон 4 чалавекі, учыніў шкоду на 15 рублёў[244].

2.1. ВКЛ. *Лета 1492 г.* Рабаванне і знішчэнне людзьмі з Мцэнска і Любуцка маскоўскіх застаў[245].

2.2. ВКЛ. *Лета 1492 г.* Людзі з Мцэнска і Любуцка спалілі і абрабавалі воласці і вёскі маскоўскай ускраіны, набралі маёмасці і палонных[246].

Гэтыя дзеянні ажыццяўляліся па загадзе мцэнска-любуцкага намесніка.

### *Заходні напрамак*

2.1. *Да восені 1486 г.* Спусташэнне людзьмі князя Андрэя Васільевіча хлепенскіх валасцей (сярод іх, магчыма, Ждат і Панізоўе) і вёсак, вывад коней (150) і іншай жывёлы (сярод іх 150 кароў), рабаванне маёмасці на 60 рыжскіх рублёў[247].

Хлепень (Хлепен) — горад на левым беразе р. Вазузы, правага прытока Волгі[248]. У канцы XV ст. — адзін з трох гарадоў Вяземскага княства (яшчэ Вязьма і Казлоў).

2.1. *Да восені 1486 г.* Спусташэнне служылымі людзьмі князя Андрэя Васільевіча (баярскімі дзецьмі) валасцей вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча (Магілен, Нягодзін, Міцэнкі), спаленне вёсак, рабаванне царквы, вывад коней (70) і іншай жывёлы (сярод іх 150 кароў), вываз маёмасці на 60 рыжскіх рублёў[249].

2.1. *Да восені 1486 г.* Спусташэнне служылымі людзьмі князя Андрэя Васільевіча воласці вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча Арэхаўны, спаленне вёсак, захоп коней (8), кароў (40) і маёмасці на 12 рыжскіх рублёў[250].

---

243 АЗР. Т. I. № 114. С. 136.

244 Тамсама. № 16. С. 66—67.

245 Тамсама. № 18. С. 76.

246 Тамсама. С. 76—77.

247 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 2.

248 Квашнин-Самарин Н.Д. Исследование об истории княжеств Ржевского и Фоминского. С. 27.

249 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 2.

250 Тамсама.

2.1. *Восень 1486 г.* Спусташэнне служылымі людзьмі князя Андрэя Васільевіча Дуброўскага двара і Дуброўскай воласці, якія належалі вяземскаму князю Міхаілу Дзмітрыевічу, захоп валаснога намесніка пад выкуп, рабаванне дома намесніка, вывад коней (300) і вываз маёмасці на 40 рыжскіх рублёў[251].

1.2.1. (2.2.1.?) *1486—1487 гг.* Захоп валасцей князёў Крошынскіх — Цешынавічы (Цешынава), Сукромна (Сукрома), Альховец, Надслаўль, Лела, Ад'ездзец (Ад'езд) людзьмі вялікага князя; далейшае кіраванне валасцямі дзякам Васілём Далматавым[252]. У валасцях Альховец, Лела і Ад'езд Васіль Далматаў пасадзіў больш за 200 сем'яў, у валасцях Цяшынаве і Сукроме — больш за 300[253].

Васіль Далматаў — адзін з найбольш выбітных прадстаўнікоў маскоўскай вялікакняжацкай адміністрацыі[254]. Вось як яго характарызуе Ю.Р. Аляксееў: «Васілій Далматаў — характэрная постаць новага часу, актыўны ўдзельнік палітыкі вялікага князя, аўтарытэтны дзяк-сакратар, які праводзіў у жыццё рэформы і выконваў адказныя даручэнні гасудара всея Русі»[255]. Безумоўна, прыцягненне такой фігуры для выканання даручэнняў вялікага князя сведчыць аб вялікім значэнні, якое надавалася вяземскаму напрамку вядзення ваенных дзеянняў. Нягледзячы на тое, што Васіль Далматаў у крыніцы прама названы дзякам Івана III, вядома, што ў той час ён служыў тытульнаму вялікаму князю Івану Іванавічу Маладому[256]. Апошні трымаў Цвер, якая межавала непасрэдна з уладаннямі Крошынскага (у далейшым частка іх валасцей растварылася ў складзе Зубцоўскага ўезда). Таму вельмі магчыма, што захоп валасцей князёў Крошынскіх быў справай удзельнага цвярскога князя, хоць, вядома, ініцыятыва гэтага дзеяння магла зыходзіць ад Івана III. У далейшым у воласці Цішынаўшы (Цешынавічы) згадваецца цівун князя Андрэя Васільевіча, што сведчыць пра пэўную зацікаўленасць у гэтым рэгіёне і гэтага ўдзельнага князя.
У адказе на пасольства князя Ц.У. Масальскага ў самым пачатку 1488 г. маскоўскі бок сцвярджаў, што воласці Крошынскага «издавна тянут к Можайску к нашему великому княжству Московскому»[257].

2.1.2. *Да сярэдзіны восені 1487 г.* З'яўленне ў хлепенскай воласці Ждат дворскага цівуна князя Андрэя Васільевіча (цівун кіраваў былой воласцю князёў Крошынскіх — Цішынавічамі), спусташэнне воласці, спаленне вёсак, захоп коней, кароў і іншай жывёлы, маёмасці[258].

Магчыма, адпраўленне ў воласць Ждат менавіта цівуна сведчыць аб падрыхтоўцы яе тэрыторыі для арганізацыі слабод і далучэння да ўладанняў князя Андрэя Васільевіча. Не-

---

251 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 2; № 12. С. 49.

252 Тамсама. № 1. С. 1, 3; № 18. С. 74.

253 Тамсама. № 18. С. 74; «Выписка из посольских книг». С. 35.

254 Веселовский С.Б. Дьяки и подьячие XV—XVII вв. М., 1975. С. 155; Зимин А.А. Дьяческий аппарат в России второй половины XV — первой трети XVI в. // Исторические записки. Вып. 87. М., 1971. С. 233—234; Алексеев Ю.Г. Кто такой Василий Долматов? // Общественное сознание, книжность, литература периода феодализма. Новосибирск, 1990. С. 237—243.

255 Алексеев Ю.Г. У кормила Российского государства: Очерк развития аппарата управления XIV—XV вв. СПб., 1998. С. 201.

256 Алексеев Ю.Г. Кто такой Василий Долматов? С. 241; Алексеев Ю.Г. У кормила Российского государства. С. 198.

257 СИРИО. Т. 35. № 2. С. 6. Гл. таксама: «Выписка из посольских книг». С. 36.

258 СИРИО. Т. 35. № 1. С. 2.

абходна заўважыць, што нельга атаясамліваць цэнтр гэтай воласці з пазнейшым горадам Гжацкам[259] (сучасны Гагарын). Хлепенская воласць Ждат (Джат) знаходзілася з правага боку р. Гжаці насупраць г. Хлепеня[260].

2.1. *Да сярэдзіны восені 1487 г.* Спусташэнне служылымі людзьмі князя Андрэя Васільевіча валасцей вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча (Магілен, Нягодзін, Міцэнкі)[261].

2.2. *Да сярэдзіны восені 1487 г.* Захоп воласці Арэхаўна і арганізацыя ў ёй слабады прадстаўнікамі князя Андрэя Васільевіча[262].

Верагодна тэрыторыя воласці пасля папярэдніх выпрабаванняў стала пустой, таму, у пэўным сэнсе, была падрыхтавана для засялення выхадцамі з Вялікага Княства Маскоўскага. У адказе на пасольства князя Ц.У. Масальскага ў самым пачатку 1488 г. маскоўскі бок сцвярджаў, што князь Андрэй у князя Міхаіла Вяземскага «земель к Можайску не имывал», а трымае зямлі, якія «издавна к Можайску потягли к нашему великому князству Московскому»[263]. Відавочна, тады ж былі заняты воласці Магілен і Міцэнкі (Міцонкі), у якіх, у адпаведнасці з пасольскай скаргай 1490 г., былі пасаджаны намеснікі князя Андрэя Васільевіча[264].

2.3.2. *Да сярэдзіны восені 1487 г.* Рабаванне слуг вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча, якія везлі даніну з воласці Нягодзін (12 рыжскіх рублёў, 8 коней з вазамі, маёмасць на 10 рыжскіх рублёў). Ажыццявілі яго людзі князя Андрэя Васільевіча[265].

2.3.2. *Да сярэдзіны восені 1487 г.* Знішчэнне пасольскай дарогі, стварэнне новай на воласць Дуброва (Дуброўская) і двор Дуброўскі людзьмі князя Андрэя Васільевіча[266].

2.3.1. *Да сярэдзіны восені 1487 г.* Павелічэнне гандлёвых пошлін (мыта) князем Міхаілам Вяземскім[267].

Вышэйпералічаныя падзеі ў асноўным ілюструюць скаргу старэйшага вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча на дзеянні з боку Мажайска. У выніку іх былі спустошаны воласці не толькі каля мяжы (Магілен, Нягодзін, Міцэнкі, Арэхаўна), але і размешчаныя далей, бліжэй да Вязьмы (Дуброва). Пачаўся працэс засялення абезлюдзелых валасцей, усталяванне ў іх слабод (Арэхаўна). Памежныя воласці князёў Крошынскіх, верагодна, былі захоплены разам з жыхарамі і пазбеглі спусташэння. Ужо ў 1487 г. апошнія сталі плацдармам, з якога вялося наступленне на хлепенскія воласці, якія па большасці знаходзіліся ва ўладанні князя Міхаіла Вяземскага. Пачалася падрыхтоўка да каланізацыі хлепенскай

[259] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283.

[260] Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 381; Водарский Я.Е. Население России в конце XVII — начале XVIII в. С. 237, 247.

[261] СИРИО. Т. 35. № 1. С. 2.

[262] Тамсама. № 1. С. 2; «Выписка из посольских книг». С. 35.

[263] СИРИО. № 2. С. 6.

[264] Тамсама. № 12. С. 49. Гл. таксама: Тамсама. № 18. С. 74.

[265] СИРИО. Т. 35. № 1. С. 2.

[266] Тамсама.

[267] Тамсама. С. 3.

воласці Ждат. Акрамя таго, слугі князя Андрэя Васільевіча цалкам кантралявалі шляхі зносін Вяземскага княства і ажыццяўлялі перашкоды гандлю.

У той жа час з боку ўлад ВКЛ таксама былі павышаны гандлёвыя мыты («а мыты и пошлины новые уставили») і, акрамя таго, былі частыя розныя злоўжыванні ў дачыненні да маскоўскіх купцоў, якія ішлі праз літоўскую тэрыторыю[268]. З пасольскіх кніг ствараецца ўражанне, што супраць маскоўскіх купцоў была абвешчана сапраўдная гандлёвая вайна.

1.2.1. і 1.3. *Да сярэдзіны восені 1487 г.* Прыход людзей маскоўскага вялікага князя на вотчыны князёў Глінскіх («засели» дзве воласці — Шчацельшу і Судзілаў[269]), рабаванне царквы (на 10 коп грошаў), спаленне двароў, вывад палону (4 жанчыны), крадзёж коней (100), кароў (150), авечак (200) і іншай маёмасці больш чым на 100 коп грошаў.

Вотчына князёў Глінскіх размяшчалася на захад ад ужо вядомых уладанняў князя Міхаіла Вяземскага (Магілен, Міцэнкі, Арэхаўна). Такім чынам, прадстаўнікі Івана III (дзейнічалі, магчыма, з Вярэі, Крамянца або Мядыні) падтрымалі мерапрыемствы ўдзельнага князя Андрэя і рушылі далей углыб Вяземскага княства. Характэрна, што Шчацельша (Шацеш) і Судзілаў (Сулідаў), таксама як і Магілен (Магілна), Міцэнкі (Мічэнкі), неўзабаве аказаліся ў складзе мажайскіх валасцей[270].

3. ВКЛ. *Да канца 1487 г.* Па сцверджанні маскоўскага ўдзельнага князя Андрэя Васільевіча, яго людзям і «иным нашим украинным людем» з боку ўкраінных князёў і іншых людзей прычыняліся разбоі, наезды і рабаванні, шмат людзей пабіта і адведзена ў палон, захоплена маёмасць, знішчана, абрабавана і адведзена ў палон мноства вартаўнікоў. Вядомы такія скаргі не толькі ад князя Андрэя, але і ад іншых маскоўскіх «украинников»[271].

Вось прыклад нявызначанасці заяў аб варожых дзеяннях літоўскага боку, з якіх нельга даведацца аб часе, месцы і канкрэтных стратах у маскоўскім памежжы. Тым не менш уяўляецца, што зусім адмаўляць літоўскія напады няма прычыны.

2.1. *Восень 1487 г.* Прыход «вайною» служылых людзей князя Івана Іванавіча Маладога з боку Цверы пад Хлепень (належаў князю Міхаілу Вяземскаму), рабаванне горада, захоп палону, спусташэнне валасцей Джат (Ждат) і Панізоўе — «выбрали и выжгли», спусташэнне воласці Труфанаў (вяземскага князя Барыса Дзмітрыевіча) — «звоевали и огнем выжгли», спусташэнне валасцей Негамір і Сачоўкі (князя Васілія Бываліцкага) — «звоевали и выграбили»[272].

Гэтыя падзеі ілюструюць далейшае маскоўскае наступленне на хлепенскія землі (поўнач Вяземскага княства). Адносна іх існавала абгрунтаваная прэтэнзія маскоўскага боку, якая абапіралася на маскоўска-літоўскую дамову 1449 г. У ёй адзначалася: «А Федора Блудова, а Алексанъдрова Борисова сына Хлепенъского, и кн(я)зя Романова Фоминског(о), и их братьи и братаничов отчыны, земли и воды все мое, великого князя Васильево

[268] СИРИО. Т. 35. № 2. С. 8—12; № 7. С. 22—33; № 8. С. 36, 38; № 11. С. 41—46; № 16. С. 62—63; № 16. С. 64—65; «Выписка из посольских книг». С. 39, 41.

[269] СИРИО. Т. 35. № 1. С. 4.

[270] Узгадваюцца ў тэстаменце Івана III 1504 г. (ДДГ. № 89. С. 355).

[271] СИРИО. Т. 35. № 2. С. 7.

[272] Тамсама. № 4. С. 16; № 12. С. 49; № 14. С. 54. У выпісках з пасольскіх кніг называецца кіраўнік людзей цвярскога князя — князь Васіль Абаленскі («Выписка из посольских книг». С. 37).

[маскоўскага вялікага князя Васілія Цёмнага — В.Ц.]»[273]. Цэнтры валасцей Негамір і Сачоўкі знаходзіліся на розных берагах р. Вазузы, на поўдзень ад Хлепеня. На ўсход ад іх размяшчаліся воласці князёў Крошынскіх, якія да таго часу былі ўжо маскоўскімі.
Магчыма, тут аб'яднаны дзве падзеі — прыход дзяцей баярскіх князя Андрэя Васільевіча пад Хлепень і спусташэнне хлепенскіх валасцей людзьмі князя Івана Маладога. Яны згадваюцца праз некалькі гадоў (ліпень 1490 г.) у пасольскіх скаргах літоўскага боку[274].
У скаргах 1492 г. адзначаецца, што людзі вялікага князя воласць Негамір «засели». Пры гэтым быў зроблены напад і на цэнтр уладанняў князя Васілія Бываліцкага — Бываліцы[275].

2.1. *Да канца 1488 г.* Рэйд людзей князя Андрэя Васільевіча на Дзмітраўскую воласць (цэнтр — Дзмітравец на р. Угры насупраць вусця р. Воры), забойствы, палон, захоп маёмасці[276].

Горад Дзмітраў (Дзмітравец) адносіўся да Смаленскай зямлі (павета) і з'яўляўся важным фарпостам у сістэме абароны ўсходняй мяжы ВКЛ. Лінія гарадоў-крэпасцей уздоўж вярхоўяў Дняпра (Дарагабуж), Угры (Лучын, Ашчытаў, Дзмітраў, Апакаў, Бышкавічы, Залідаў, Варатынск) і Акі (Любуцк, Мцэнск) разам складалі магутную перашкоду для варожых уварванняў. Значэнне Дзмітрава (Дзмітраўца) як пункта, які кантраляваў пэўную акругу, было заўважана ўжо ў пачатку XV ст. У 1408 г. ён быў спалены маскоўскім войскам[277]. З мэтай аслабіць абарону ВКЛ і адначасова распаўсюдзіць уплыў на землі вакол яго і быў ажыццёўлены напад на Дзмітраўскую воласць у 1487 г. Магчыма, пра тыя ж самыя падзеі ідзе гаворка ў пасольскіх кнігах у 1489 г. са спасылкай на падзеі, якія адбыліся на два гады раней. Тады было разрабавана 50 вёсак, забрана 42 кані і маёмасці на 70 рыжскіх грошаў[278].
Сам горад змяшчаўся на правым беразе р. Угры, але і на левым беразе яму належалі значныя тэрыторыі[279], якія даходзілі на поўначы аж да воласці Арэхаўны — той самай, якую крыху раней захапіў князь Андрэй. Як бачым, ад Арэхаўны наступленне працягвалася ў напрамку Дзмітрава. Забягаючы наперад, можна сказаць, што горад Дзмітраў пасля 1494 г. застаўся ў складзе ВКЛ і нават не страціў сваіх пазарэчных зямель. Гарадок некаторы час кіраваўся намеснікам — Івашкам Сапежычам, уладальнікам суседняга Апакава.

2.1. *Да канца 1488 г.* Прыход людзей князя Андрэя Васільевіча на воласць князёў Глінскіх Тур'е, спаленне вёсак (200), забойствы і захоп палону (150 чал.), рабаванне маёмасці на 500 рублёў[280]. Пасля прыходзілі «розбоем» людзі з валасцей Сасновец і Холм (непадалёку ад вярхоўяў р. Протвы, насупраць воласці Тур'е), якія спустошылі 32 вёскі і нарабавалі на 100 рублёў[281].

Воласць размяшчалася ўздоўж левага прытока Угры Турэі. Напад вёўся з усходу дзецьмі баярскімі князя Андрэя Мажайскага (верагодна, з Арэхаўны), а таксама асобна сіламі Холм-

273 ДДГ. № 53. С. 161—162.
274 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 49.
275 Тамсама. № 18. С. 74.
276 Тамсама. № 6. С. 20.
277 ПСРЛ. Т. 25 (Московский летописный свод конца XV в.). М., 2004. С. 237.
278 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 37.
279 Тамсама. № 56. С. 268.
280 Тамсама. № 6. С. 20; № 8. С. 37.
281 Тамсама. № 8. С. 37.

скага валасцеля (воласці Брагін Холм?)[282], сасніцкага даводчыка і іншымі[283]. Праз Холм (Брагін Холм) ішла дарога ад Мажайска на Вязьму — тая самая, па якой суправаджалі паслоў[284]. Верагодна таксама, што тут згаданы даводчык (судовы выканаўца, памочнік валасцеля) не з воласці Сасновец, а з размешчанага непадалёку ад Брагіна Халма пагоста Сасніцкага на р. Воры, вядомага па карце Генеральнага межавання[285].

3. ВКЛ. *Восень 1491 г.* Людзі Алёшкі Хаткевіча (Хадкевіча) напалі на цвярскія землі ў Ляствіцына, дзе абрабавалі 20 вёсак, вывелі ў палон 15 чалавек з жонкамі і дзецьмі, здзейснілі забойствы, захапілі маёмасці на 150 рублёў; і ў Грыдзіну Слабодку Залацілава, у якой абрабавалі і спалілі 15 вёсак, узялі ў палон 10 чалавек з жонкамі і дзецьмі, здзейснілі забойствы, вывезлі маёмасці на 100 рублёў[286].

Вядома, што сыну Івана Хадкевіча належала воласць Рагачоў (на захад ад Хлепеня, каля р. Асугі). Тут ідзе гаворка пра нейкага Алёшку. Відавочна, гэта і ёсць сын пана Івана Хадкевіча: «А волость пана Иванова сына Рогачевъ тежъ засели и извоевали»[287]. Грыдзіна слабодка Залацілава (в. Залацілава) знаходзілася побач — з правага боку р. Вазузы[288].

1.1.1. *9 сакавіка 1492* (?). Паход 4-х маскоўскіх палкоў на чале з Якавам Захар'евічам (вялікі полк), князем Фёдарам Васільевічам Целяпнём Абаленскім (полк правай рукі), князямі Іванам Міхайлавічам Рапнём Абаленскім і Фёдарам Юр'евічам Празароўскім (перадавы полк) і князем Пятром Сямёнавічам Адоеўскім (вартавы полк) да Смаленска[289].

Цяжка супаставіць гэтае паведамленне Разраднай кнігі з якой-небудзь вядомай па іншых крыніцах падзеяй. Магчыма, гэта толькі адлюстраванне прызначэння ў паход, які ў выніку ажыццёўлены не быў.

### *Паўночна-заходні напрамак*

3.1. *Да канца 1488 г.* «Наездки», рабаванні, гвалт і іншая шкода тарапчанам (жыхарам Таропца) з боку князя Фёдара Іванавіча Бельскага[290]. Князь Ф.І. Бельскі сядзеў на поўнач ад Таропца ў Мараве і аказваў адтуль метадычны ціск на памежныя землі ВКЛ. Тарапчане завуцца «даннікамі» Казіміра, што сведчыць аб абмежаванасці іх залежнасці ад ВКЛ. Масква мела абгрунтаваныя прэтэнзіі на Таропец, бо ён меў цесную сувязь з Чарнакунствам і Ноўгарадам[291].

---

[282] Калі гаворка ідзе пра прадстаўніка маскоўскай адміністрацыі ў воласці Брагін Холм, то трэба зрабіць выснову пра яе адпаведную прыналежнасць.

[283] СИРИО. Т. 35. № 8. С. 37.

[284] Тамсама. № 18. С. 79.

[285] Генерального плана Гжатского уезда часть III-я.

[286] СИРИО. Т. 35. № 16. С. 63, 66; № 36. С. 195.

[287] Тамсама. № 18. С. 73.

[288] На р. Дзержы побач з горадам Пагарэлае Гарадзішча размешчана в. Залацілава (Межевой атлас, составленный в 1848—49 гг. под наблюд. ген. Менде, в 2-вер. масш. S:W:B:2). Пагарэлае Гарадзішча атаясамліваюць з цвярскім горадам Хорвачам.

[289] Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 30—31.

[290] СИРИО. Т. 35. № 6. С. 20.

[291] Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий. С. 95.

2.2. ВКЛ. *Да канца 1488 г.* Спусташэнне наўгародскіх валасцей (верагодна, Вяліла, Марава і інш.) з боку таропецкага намесніка князя Сямёна Сакалінскага, забойствы слуг князя Ф.І. Бельскага, вывад палону[292].

І гэтае дзеянне было зроблена ў адказ на папярэдняе нападзенне з маскоўскага боку. Пад наўгародскімі валасцямі, хутчэй за ўсё, маюцца на ўвазе тыя, якімі валодаў князь Ф.І. Бельскі.

3.1. *Да лета 1489 г.* Спусташэнне вёсак віцебскіх баяр у таропецкіх валасцях людзьмі князя Фёдара Іванавіча Бельскага: у Казарынскай воласці спалена спачатку 50 двароў, потым яшчэ 50, выведзены палон, абрабаваны («выбрали») 150 двароў; спалены вёскі каля Таропца, выведзены палон; на Столпні спалена 50 двароў, выведзены палон (22 чал.), захоплена маёмасць («животы и състатки»); на Варацігорцах і Панізоўі спалена 30 двароў, выведзены палон (10 чал.), захоплена маёмасць; у Сялку (Сялцы) спалены спачатку 1 двор, потым яшчэ 10, выведзены палон (20 чал.), выведзены коні («полчетвертнатцать»), захоплена маёмасці; ва Унцове спалена 10 двароў, 3 чалавекі павешаны (?)[293], захоплена маёмасць; на Наволцы спалена 10 двароў, захоплена маёмасць; у Мірылаве спалена 10 двароў, захоплена маёмасць; у Цяполаве спалена 20 двароў, захоплена маёмасць; у Палессі павешана 6 чалавек; спалены іншыя двары, абрабавана маёмасць, узяты ў палон таропецкія землеўласнікі. Казна ВКЛ не атрымала даходаў з таропецкіх валасцей за 11 гадоў (усяго — 8562 руб. грошай — «полдевяты тысячи рублев грошей и шестьдесять рублев и два рубли грошей)[294].

На самой справе тут ідзе гаворка аб двух нападзеннях: 1-ы на Казарынскую воласць і сёлы каля Таропца, 2-гі — усё астатняе.

3.1. *Сярэдзіна вясны («перед семою суботою за неделю»)*[295] *1489 (?) г.* Людзі князя Фёдара Іванавіча Бельскага, «наехавши войском, волость звоевали», спалена 500 двароў, узята ў палон 500 чалавек, шмат забіта, паранена і павешана[296].

3.1. *29 чэрвеня (?) (На святога Пятра Запусты)*[297] *1489 г.* Баяры князя Фёдара Іванавіча Бельскага ваявалі таропецкія валасці, 30 двароў спалілі, 50 чалавек узялі ў палон[298].

2.2.1. *Да лета 1489 г.* Намеснік воласці Усялук (Ржэўскай зямлі) Васілій Давыдавіч захапіў частку (палову?) таропецкай воласці Дубны[299].

---

292 СИРИО. Т. 35. № 6. С. 21.

293 У тэксце крыніцы «три головы обесили» (СИРИО. Т. 35. № 8. С. 35).

294 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 35. Зразумела, што даніна не выплачвалася з 1478 г. — часу далучэння Ноўгарада да Масквы. Таму пагром Таропецкага павета трэба адносіць менавіта да 1489 г.

295 Відавочна, маецца на ўвазе 7-тыднёвы пост перад Пасхай і так званая «святая субота», за тыдзень да якой адбывалася згаданая падзея.

296 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 35—36.

297 Магчыма, маюцца на ўвазе так званыя Пятроўкі, Пятроў дзень — 29 чэрвеня. Ён цесна звязаны з пастом (запусты — загавенне). Калі абапірацца на дадзеную дапіроўку, то ўзнікаюць сумненні наконт года дзвюх падзей, якія ішлі адна за другой. Ліст Казіміра быў адпраўлены 30 траўня 1489 г. Хутчэй за ўсё, пасол князь Цімафей Уладзіміравіч Масальскі ўжо не дадаваў да сваіх прамоў у Маскве што-небудзь новае, чаго не было ў лісце караля і вялікага князя.

298 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 36.

299 Тамсама.

На самай справе была занята не «палова зямлі» воласці Дубна, а толькі яе частка[300]. Больш пранікненняў на захад з ржэўскага боку не заўважана, але ў раёне вярхоўя Волгі было шмат незасвоеных месцаў, якія, верагодна, паступова каланізаваліся.

1.2.1., 1.3. *Да канца кастрычніка 1491 г.* Намеснік у Чарнакунстве (у дадзеным выпадку — Халме) Андрэй Кольчаў наслаў людзей на таропецкі пагост Балагое, былі захоплены палонныя, некаторых з якіх утапілі ў возеры, астатніх прывялі да прысягі. Затым быў ажыццёўлены напад самога Кольчава з людзьмі, забойства таропецкага намесніка і іншых людзей, вывад палону, спусташэнне Таропецкай воласці наогул і, у прыватнасці, Казарынскай воласці. У выніку значныя часткі Таропецкай і Казарынскай валасцей былі далучаны да Чарнакунства[301].

Ад Холмскага пагоста (Чарнакунства) Таропец і яго воласці знаходзіліся на паўднёвы ўсход. Казарын і сам Таропец размяшчаліся на поўдзень ад тых тэрыторый, якія ўжо заваяваў князь Фёдар Іванавіч Бельскі. З усходу «асвойваў» таропецкую воласць Дубну ржэўскі ўсялуцкі намеснік. Такім чынам, наступленне на Таропецкі павет вялося з трох бакоў. Некранутай пакуль што заставалася толькі самая паўднёвая частка павета.
Казарынская воласць, у якой згадваюцца вёскі віцебскіх баяр, выразна аддзялялася ад астатняй Таропецкай воласці, дзякуючы чаму робіцца выснова аб яе прыналежнасці да Віцебска[302].

3. ВКЛ. *Вясна 1492 г.* Таропецкі намеснік Зенка з людзьмі прыйшоў вайной на Холмскі пагост, нарабавалі на 1000 рыжскіх рублёў і спалілі двор намесніка Андрэя Кольчава, таксама спусташылі і воласць, спалілі 60 вёсак, шмат людзей пабілі, а 30 чалавек з жонкамі і дзецьмі ўзялі ў палон (шкода ад гэтых дзеянняў склала 700 рыжскіх рублёў)[303].

Мабыць, гэты напад таропецкага намесніка быў помстай за падобную акцыю з боку Холмскага намесніка.

3. ВКЛ. *Пачатак 1492 г.* Напад літоўскіх людзей на Хранскі стан — Лугскую воласць Вялікіх Лук, рабаванне вёсак на 200 рыжскіх рублёў, захоп у палон 16 чалавек, пры гэтым было павешана 8 чалавек[304].

## II перыяд вайны
(жнівень 1492 — пачатак 1494 г.)

### *Паўднёва-заходні напрамак*

1.1.1. *Жнівень 1492 г.* Паход маскоўскага войска на чале з князем Фёдарам Васільевічам Целяпнём Абаленскім «со многими людми войною безвестно», захоп і спаленне гарадоў Любуцк і Мцэнск, паланенне намесніка Барыса Сямёнавіча Аляк-

300 Темушев В.Н. Ржевский участок литовско-московской границы в конце XIV — начале XVI в. С. 241—250.

301 СИРИО. Т. 35. № 14. С. 55.

302 Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 193.

303 СИРИО. Т. 35. № 16. С. 63, 68.

304 Тамсама. С. 64, 67.

сандрава, мцэнскіх і любуцкіх баяр з жонкамі і дзецьмі і іншых людзей (1500 чал.), рабаванне маёмасці[305].

Гэта была адна з апошніх акцый па знішчэнні сістэмы абароны ВКЛ у рэгіёне Верхняй Акі. Больш апоры ўлады ВКЛ тут не існавала. Непасрэдным вынікам паходу з'явіўся пераход на маскоўскі бок шэрагу князёў, якія трымаліся амаль да канца: Сямёна Фёдаравіча Варатынскага, Андрэя і Васілія Васільевічаў Бялёўскіх, Міхаіла Раманавіча Мезецкага[306]. Любуцк і Мцэнск былі заняты і заставаліся пад маскоўскай уладай да заключэння міру 1494 г. Згодна з заўвагай Разраднай кнігі, па ўмовах дамовы «взяли назад город Мценеск литва»[307]. Такім чынам, нягледзячы на ўладанне горадам, маскоўскі бок палічыў мэтазгодным вярнуць яго ў склад ВКЛ. Тое ж адбылося і з Любуцкам.

3.1. *Жнівень 1492 г.* Прыход князёў Івана Міхайлавіча Варатынскага і братоў Адоеўскіх на Масальск (належаў вялікаму князю літоўскаму). У выніку горад быў спалены, князі Масальскія з жонкамі, дзецьмі і іншымі людзьмі выведзены ў палон, учынены вялікія шкоды і рабаванні[308].

Як заўважыў М.М. Кром, горад Масальск знаходзіўся ў валоданні вялікага князя літоўскага, а не належаў князям Масальскім, якія ўжо страцілі княжыя правы і з'яўляліся простымі вотчыннікамі[309].

3.2. *Лістапад-снежань 1492 г.*[310]. Князь Сямён Фёдаравіч Варатынскі разам з князямі Міхаілам Раманавічам Мезецкім і братамі Васілём і Андрэем Васільевічамі Бялёўскімі пры пераходзе на маскоўскі бок захапілі гарады Сярпейск і Мезецк[311], воласці вяземскіх князёў (Вялікае Поле, Волста Верхняя, Слабодка, Машчынавічы, Серадзея)[312]. Міхаіл Раманавіч Мезецкі прывёў сілай у Маскву братоў Сямёна і Пятра (адпраўлены ў зняволенне ў Яраслаўль)[313].

Насамрэч маштабы набыткаў князя Сямёна былі яшчэ большымі. У адпаведнасці з пералікам 1494 г., у якім пазначалася, чаго «поступился князь велики [Іван III — *В.Ц.*] великому князю Александру», за князем Варатынскім лічыліся: гарады Масальск, Сярпейск, Бышкавічы, Залідаў, Апакаў, Гарадзечна, Лучын і мноства валасцей да іх, а таксама

[305] ПСРЛ. Т. 12. С. 233—234; Т. 28. С. 157; Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 32; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 32; СИРИО. Т. 35. № 18. С. 73; № 56. С. 267; «Выписка из посольских книг». С. 46; LM. Kn. 5 (1427—1506). № 9. P. 63.

[306] СИРИО. Т. 35. № 18. С. 81.

[307] Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 38.

[308] СИРИО. Т. 35. № 18. С. 73, 77; «Выписка из посольских книг». С. 47; ПСРЛ. Т. 8. М., 2001. С. 225.

[309] Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 62.

[310] Тамсама. С. 99—100. Можа быць, пра гэтыя падзеі згадваецца ў крымскіх пасольскіх кнігах: «...Которые городы у литовского осподарь мой осенесь поималъ» (СИРИО. Т. 41. № 41. С. 186). Дзякуючы гэтаму фрагменту даціроўку падзеі можна ўдакладніць.

[311] ПСРЛ. Т. 12. С. 234; Т. 20. Вып. 1. М., 2005. С. 358; Т. 28. С. 322; Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 32—33; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 32; LM. Kn. 5 (1427—1506). № 14. P. 67.

[312] СИРИО. Т. 35. № 24. С. 137. Воласці ў перагаворах 1494 г. запісаны за вяземскімі князямі, аднак вядома, што, напрыклад, Вялікае Поле належала некалі Яну Гаштольду і адносілася да Дарагабужа (Lietuvos Metrica = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика. Vilnius, 1998. Kn. 3 (1440—1498). P. 46).

[313] ПСРЛ. Т. 12. С. 235; Т. 20. С. 358; Т. 24. С. 211.

воласці смаленскага ўладыкі (Любунь, Бліжавічы, Печкі) ды воласці вяземскіх князёў (Вялікае Поле, Волста Верхняя, Слабодка, Машчынавічы, Серадзея)[314]. Безумоўна, сярод пералічаных пунктаў былі тыя, якія ў якасці вотчынаў належалі князям Варатынскім яшчэ з сярэдзіны XV ст. (Гарадзечна), але значная частка — гэта захопы. Пасля паходу войскаў ВКЛ у пачатку 1493 г. значную частку тэрыторыі князь Сямён страціў (Сярпейск, верагодна, Залідаў, Апакаў ды інш.). Аднак пасля зімовага паходу маскоўскіх войскаў усё было вернута і, магчыма, уладанні варатынскага князя былі нават павялічаны. Характэрна, што шэраг гарадоў (Бышкавічы, Залідаў і Апакаў) князь Сямён атрымаў ад Івана III з валасцямі толькі да р. Угры. Тэрыторыі на левабярэжжы ракі, верагодна, яшчэ да 1492 г. былі заняты і асвоены маскоўскімі ўладамі, а разам з тым адведзены да іншых адміністрацыйных цэнтраў. Іх прыналежнасць Бораўску і Мядыні нават асабліва не аспрэчвалася літоўскімі пасламі падчас вядзення перамоў у 1494 г.[315].

5. ВКЛ. *Канец 1492 — пачатак 1493 г.* Смаленскі акольнічы Іван (Івашка) Кошка напаў на людзей (баяр?) князя Сямёна Фёдаравіча Варатынскага, якія ехалі з сем'ямі, сваімі людзьмі і маёмасцю за межы ВКЛ, узяў іх у палон і адвёў ў Смаленск[316].

1. ВКЛ. *Пачатак 1493 г.* Паход войска ВКЛ на чале са смаленскім намеснікам Юрыем Глябовічам і князем Сямёнам Іванавічам Мажайскім пры ўдзеле князёў Друцкіх са Смаленска ў рэгіён Верхняй Акі, захоп гарадоў Сярпейска і Мезецка, спусташэнне валасцей, забойствы і паланенне людзей, захоп казны князя Міхаіла Раманавіча Мезецкага[317].

Актывізацыя дзеянняў з боку ВКЛ з'явілася рэакцыяй на адпадзенне ад дзяржавы значнай тэрыторыі (Варатынск, Сярпейск, Мезецк і інш.)[318]. Верагодна, прадстаўнікі літоўскай вялікакняжацкай улады ўжо не разлічвалі на вернасць мясцовых жыхароў, а таму паводзілі сябе, як захопнікі. Цікава, што камандуючых літоўскімі войскамі не клапаціў лёс Любуцка і Мцэнска, хаця вызваленне іх варта было б лічыць прыярытэтнай задачай.

1.1.2. *Люты 1493 г.*[319]. Паход маскоўскага войска (5 палкоў, дапоўненых палкамі вярхоўскіх князёў) на чале з князямі Фёдарам Васільевічам Разанскім, Міхаілам Іванавічам Булгакавым-Колышкай, Аляксандрам Васільевічам Абаленскім, ваяводам вялікага князя разанскага Івана Васільевіча Інкай Ізмайлавым і інш., разам з Варатынскімі, Адоеўскімі і Бялёўскімі князямі і князем Міхаілам Раманавічам Мезецкім, захоп гарадоў Мезецк, Сярпейск, Масальск, Гарадзечна, Апакаў, Лучын, Мошчын, Дзмітраў, Залідаў і інш., спаленне гарадоў (верагодна, толькі ўмацаванняў), паланенне «літвы» , смалянаў і гарадской знаці (530 чал.)[320].

[314] СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136—137.

[315] Тамсама. С. 118.

[316] LM. Kn. 5 (1427—1506). № 14. P. 67.

[317] СИРИО. Т. 35. № 22. С. 107; ПСРЛ. Т. 12. С. 234; Т. 28. С. 322—323; Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 22; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 33.

[318] Летапісец заўважае, што гэты паход адбыўся «в погоню» за князем Сямёнам Фёдаравічам Варатынскім (ПСРЛ. Т. 20. Вып. 1. С. 358).

[319] Войска выйшла з Масквы 29 студзеня (Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 22; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 33).

[320] СИРИО. Т. 35. № 22. С. 104, 106; Т. 41. № 41. С. 186; ПСРЛ. Т. 8. С. 225; Т. 12. С. 234; Т. 20. М., 2005. С. 358; Т. 28. С. 322—323; Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 22—23; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 33; LM. Kn. 5 (1427—1506). № 16.1. P. 69; № 23.2. P. 74. Згодна з Васкрасенскім летапісам, які супярэчыць Разраднай кнізе, Мезецк не быў спалены (ПСРЛ. Т. 8. С. 225).

Гэтым лакальны поспех войскаў ВКЛ быў зведзены да нуля. Пры набліжэнні маскоўскіх сіл камандуючыя войскамі ВКЛ збеглі ў Смаленск, пакінуўшы ў гарадах свае гарнізоны[321]. Думаецца, акрамя апошніх, ніхто не супрацьстаяў маскоўскаму наступленню[322]. У звароце вялікага князя Аляксандра да смаленскага ўладара, акольнічых, князёў, баяр, мяшчан і ўсіх людзей з нагоды здачы гарадоў Сярпейска, Мезецка, Вязьмы і іншых было сказана: «Которыи люди наши были на тых замкох, под которыми жъ замковъ подобывано, недолги часы замкох ся держали и неприятелем нашым подобно не хотели твердо отъпирати», і выказана надзея, «што ж нашого доброго будете тверъдо смотрети, а намъ верно послужити такъ, как жо, дали Богъ, замокъ нашъ Смолнескъ будеть в целости захованъ»[323].

У выпісках з пасольскіх кніг захавалася аргументаванае апраўданне паходу з маскоўскага боку: вялікаму князю літоўскаму загадзя паведамілі пра ад'езд князя Сямёна Варатынскага з вотчынамі, аднак пасля гэтага прыйшлі князь Сямён Мажайскі і Юрый Глебаў (смаленскі намеснік Юрый Глябовіч) вайной і занялі ўжо чужыя гарады, «и государь своих слуг велел боронити»[324].

Магчыма, за асобную фазу гэтага паходу варта прымаць указанне Разраднай кнігі на дзеянні князёў Дзмітрыя і Сямёна Варатынскіх, якія занялі Масальск[325]. Аднак больш верагодна тое, што Сямён Варатынскі ў дадзеным выпадку названы памылкова (крыху далей па тэксце ў Разраднай кнізе гаворыцца пра яго прыезд у Маскву), а гаворка ідзе аб паходзе ў жніўні 1492 г. князёў Івана Варатынскага і Адоеўскага (гл. вышэй).

1.5. *1493 г.* Канцэнтрацыя войскаў на паўднёвых межах Вялікага Княства Маскоўскага (на Беразе): сын Івана III Юрый Іванавіч і брат Барыс Васільевіч, а таксама князь Міхаіл Іванавіч Абаленскі, з Цверы князь Восіп Андрэевіч Дарагабужскі, князь Міхаіл Фёдаравіч Мікулінскі і Іван Барысавіч Бараздзін, у Серпухаве князі Васілій Іванавіч Абаленскі, Барыс Міхайлавіч Турэня Абаленскі, у Тарусе князь Іван Лыка Абаленскі і інш.[326].

### *Заходні напрамак*

1.2.1. *Восень 1492 г.* Людзі Івана III на чале з Васіліем Лапіным і Андрэем Істомай прыйшлі вайной і «засели» горад Хлепень (князя Міхаіла Дзмітрыевіча Вяземскага) і воласць Рагачоў (сына пана Івана Хадкевіча), узялі ў палон намеснікаў і іншых людзей, забралі маёмасць («животы и статки»)[327].

Пазней Хлепень быў абвешчаны маскоўскім у адпаведнасці са старымі дамовамі (што адпавядала рэчаіснасці), а Рагачоў аднесены да Цвярской зямлі[328]. Гэтую падзею можна было б прыняць за адлюстраваную ў Разраднай кнізе пад 7001 г.: «А изо Твери князь великий велел

321 «Смоленскый же воевода панъ Юрьи Глебовичь и князь Семен Ивановичь Можайской, слышавъ рать силу великого князя идущу противу ихъ, и во граде посадиша князей и пановъ многыхъ въ осаде, а сами побоявшеся и побегоша къ Смоленску» (ПСРЛ. Т. 20. Вып. 1. С. 358).

322 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 174.

323 LM. Kn. 5 (1427—1506). № 16.3. P. 70.

324 «Выписка из посольских книг». С. 49.

325 Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 32.

326 Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 23—24; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 36.

327 СИРИО. Т. 35. № 18. С. 73; «Выписка из посольских книг». С. 46; LM. Kn. 5 (1427—1506). № 9. P. 63.

328 СИРИО. Т. 35. № 18. С. 77; «Выписка из посольских книг». С. 47.

итить воевать в Литовскую землю по полком жа»[329]. Аднак іншы варыянт Разраднай кнігі перад пералікам тых жа камандуючых палкамі паведамляе наступнае: «А изо Твери воеводы»[330]. Такім чынам, гаворка ідзе толькі аб канцэнтрацыі войскаў у раёне Цверы, што мела месца, мабыць, ужо ў 1493 г. Акрамя таго, ваяводы палкоў (князь Даніла Васільевіч Шчаня і інш.) былі рангам, відавочна, вышэй, чым кіраўнікі атрадаў (Васілій Лапін і Андрэй Істома).

4. ВКЛ. *Канец 1492 г.* У адказ на пераход князя Андрэя Юр'евіча Вяземскага на маскоўскую службу князь Міхаіл Вяземскі захапіў вотчыну (сяло на Дняпры), двары, мыта і казну ўцекача[331].

Гэта адзіны выпадак пераходу хаця кагосьці са шматлікіх вяземскіх князёў на маскоўскі бок. Уладанні здрадніка былі даволі невялікімі, да таго ж яму не ўдалося захаваць і іх.

1.5. *Зіма 1492—1493 гг. (?).* У Цвер адпраўлены сын вялікага князя маскоўскага Васілій Іванавіч з ваяводамі князем Даніілам Васільевічам Шчанём, Юрыем Захар'евічам, князем Пятром Мікіцічам Абаленскім, князем Фёдарам Сямёнавічам Хрыпуном Рапалоўскім і Пятром Барысавічам Бараздзіным[332].

1.5. *Зіма 1492—1493 гг.* Канцэнтрацыя маскоўскіх войскаў з Цверы ў Мажайску: князь Васілій Іванавіч Касой Патрыкееў і Сямён Іванавіч Варанцоў (вялікі полк), князь Пётр Мікіціч Абаленскі і Фёдар Сямёнавіч Хрыпун Абаленскі (перадавы полк), князі Восіп Андрэевіч Дарагабужскі і Пётр Васільевіч Голы Абаленскі (полк правай рукі), князь Уладзімір Андрэевіч Мікулінскі, Іван і Пётр Барысавічы Бараздзіны (полк левай рукі)[333].

1.1.2. *Зіма 1492—1493 гг.* Паход маскоўскага войска на чале з князем Даніілам Васільевічам Шчэнем (вялікі полк), князем Іванам Міхайлавічам Рапнём Абаленскім (перадавы полк), князем Міхаілам Даніілавічам Шчаняцевым (полк правай рукі), князем Андрэем Іванавічам Курак Булгакавым (полк левай рукі) і акольнічым Андрэем Васільевічам Сабуравым (вартавы полк) на Вязьму, захоп яе, палон вяземскіх князёў, прывядзенне да прысягі як князёў і паноў, так і іншых жыхароў[334].

Вялікая частка войска была, мабыць, ужо блізка каля мяжы і чакала загаду ў Мажайску. Адтуль і быў здзейснены паход на Вязьму.
Згодна з унікальным паведамленнем усцюжскіх летапісцаў, акрамя Вязьмы быў заняты яшчэ і Дарагабуж. Акрамя таго памылкова дзеянням ваяводы Д.В. Шчаняці прыпісаны захоп Мцэнска («И взяша Вязьму, Дорогобуж, Мченеск и много панов привели»)[335].
Вяземскія князі неўзабаве былі вернуты на свае месцы, але праз некалькі гадоў усіх іх адправілі ва ўнутраныя раёны Вялікага Княства Маскоўскага. Вяземшчына стала краем

329 Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 35.

330 Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 23.

331 СИРИО. Т. 35. № 19. С. 81; № 22. С. 107; LM. Kn. 5. № 14. P. 67.

332 Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 35—36.

333 Тамсама. С. 36—37.

334 СИРИО. Т. 35. № 22. С. 104, 106; Т. 41. № 41. С. 186—187; ПСРЛ. Т. 8. С. 226; Т. 12. С. 235; ПСРЛ. Т. 28. С. 323; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 32, 37. У Разраднай кнізе 1475—1605 гг. запіс аб захопе Вязьмы паўтараецца пад рознымі гадамі (7000 и 7001), пры гэтым у першым выпадку сярод ваявод названы князі Данііл Васільевіч Шчаня і Васілій Іванавіч (відавочна, Касой Патрыкееў) (Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 32).

335 ПСРЛ. Т. 37. Устюжские и Вологодские летописи XVI—XVIII вв. Л., 1982. С. 51. Гл. таксама: Тамсама. С. 98.

маскоўскага памеснага землеўладання[336]. У беларуска-літоўскім летапісанні адсутнічаюць звесткі аб вяртанні ў свае вотчыны вяземскіх князёў, затое гаворыцца аб гібелі ў зняволенні старэйшага вяземскага князя Міхаіла Дзмітрыевіча[337].
Дасведчаны ў літоўска-маскоўскіх адносінах усцюжскі летапісец паведамляе пра тое, як паноў «служивых» з захопленых гарадоў «князь великии розослал по городом в засаду, а князь Михаила Вяземскага послал на Двину, и там умре в железех»[338].

### *Паўночна-заходні напрамак*

1.5. *1492—1493 гг. (?)* У Ноўгарадзе размешчана войска на чале з князем Даніілам Аляксандравічам Пенкам, князем Іванам Уладзіміравічам Лыка Абаленскім і дварэцкім Васіліем Міхайлавічам Валынскім[339].

1.5. *1493 г.* Адпраўка вялікім князем Іванам III у Вялікія Лукі 5 палкоў на чале з князем Данілам Аляксандравічам Пенкам (вялікі полк), князем Сямёнам Раманавічам Яраслаўскім і Васіліем Барысавічам Бараздзіным (перадавы полк), Дзмітрыем Іванавічам Кіндыравым (полк правай рукі), Андрэем Колычавым і князем Канстанцінам Фёдаравічам Вушатым або князем Андрэем Юр'евічам Празароўскім (полк левай рукі) і Андрэем Рудным (старажавы полк)[340].

Магчыма, у Разраднай кнізе адлюстравалася падрыхтоўка яшчэ аднаго значнага паходу на ВКЛ. І сапраўды, «тово же году ходили воеводы против Литвы»[341] з Ноўгарада і Пскова, а з Маскоўскай зямлі (дакладней — Цвярской) ім «в помочь». Былі пералічаны ўсё тыя ж ваяводы, акрамя князя Васілія Фёдаравіча Шуйскага (з Пскова) і князя Пятра Васільевіча Нагога Абаленскага (са складу «помочи»)[342]. Ці адбыўся гэты паход — невядома. У пададзенай вышэй цытаце слова «ходили», магчыма, з'яўляецца пазнейшай устаўкай. Параўнайце з іншым варыянтам Разраднай кнігі: «Того же лета против Литвы: из Новагорода воевода Яков Захарьич...»[343]. Тут маецца на ўвазе не рух на тэрыторыю ВКЛ, а канцэнтрацыя войскаў насупраць мяжы княства. Такім чынам, можна выказаць здагадку аб імкненні маскоўскага боку прыкрыць на той момант патэнцыйна небяспечны для нападаў рэгіён. Верагодна, актывізацыя баявых дзеянняў з боку ВКЛ выклікала такую рэакцыю маскоўскага ўрада.

Вось так праходзяць перад намі падзеі той малавядомай вайны, вайны падчас міру... Звесткі не пра ўсе падзеі былі адлюстраваны ў пасольскіх кнігах. Штосьці дапаўняецца матэрыяламі разрадных кніг, нешта ўдалося ўзяць з летапісаў, але, відавочна, засталіся і прабелы. Тым не менш, сабранай інфармацыі хапае, каб даследчыкі маглі зрабіць высновы пра характар вайны, яе агульны ход, наступствы і г.д.

---

336 Кобрин В.Б. Власть и собственность в средневековой России. С. 123—125.

337 ПСРЛ. Т. 35. С. 122.

338 ПСРЛ. Т. 37. С. 98.

339 Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 32, 37. Паведамленне паўтараецца пад 7000 і 7001 гг.

340 Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 23; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 34—35.

341 Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 23.

342 Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 35.

343 Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 23.

## 6. Вынікі вайны

Цяпер неабходна звярнуцца да разгляду ўмоў «вечнага міру» 1494 г., але перад гэтым — да абставін іх прыняцця і спрэчак вакол іх.

Імкненне да ўсталявання мірных адносін і замацавання іх праз дынастычны шлюб адлюстроўваецца з літоўскага боку ў першых жа пасля смерці Казіміра Ягайлавіча дыпламатычных кантактах з Масквой. Дакладней, спробы аднавіць сувязі спачатку ішлі не наўпрост у Маскву, а ўскосным шляхам праз Ноўгарад і асабіста яго ваяводу Якава Захар'евіча. У сярэдзіне лета 1492 г. полацкі намеснік пан Ян Забярэзінскі праз пісара Лаўрына паведаміў наўгародскаму ваяводзе Якаву Захар'евічу пра намер ажыццявіць сватанне вялікага князя літоўскага да дачкі маскоўскага валадара[344]. Маскоўскага ваяводу, дзеянні якога цалкам кантраляваліся з цэнтра, спачатку перасцераглі ад пасольства ў ВКЛ, але пазней змянілі пазіцыю з прычыны таго, што «межи государи съсылка бываетъ, хоти бы и полки сходилися»[345]. Ваяводзе Якаву Захар'евічу была накіравана інструкцыя, з якой ён павінен быў суадносіць свае паводзіны. Лінія, выпрацаваная з самага пачатку і якой далей прытрымліваўся маскоўскі ўрад, палягала ў наступным. Каб пачаць перамовы пра шлюб дачкі Івана III з Аляксандрам Казіміравічам, трэба было спачатку заключыць мірнае пагадненне («абы межи государей згода была»)[346]. Між іншым, і літоўскі бок падтрымліваў такую ўмову, з пажаданнем, «ино бы межи ихъ милостью была любовь и докончанье по тому, какъ отци ихъ жили въ любви и въ докончаньи; а што здавна слушало ко обоимъ паньствомъ, то бы и ныне было по тому»[347]. Неабходна заўважыць, што на той час (восень 1492 г.) літоўска-маскоўская мяжа, відавочна, зазнала ўжо значныя змены і вяртанне да яе ранейшага стану наўрад ці было сустрэта з разуменнем.

Афіцыйнае пасольства з боку ВКЛ на чале з панам Станіславам Глебавічам і Іванам Яцковічам Уладыкам (Уладычкам) з'явілася ў Маскве на пачатку лістапада 1492 г. Мэтамі пасольства было абвяшчэнне аб з'яўленні на прастоле ВКЛ новага вялікага князя Аляксандра Казіміравіча і «обидных» справах на памежжы[348]. Цікава, што яшчэ адна мэта пасольства (сватанне і заключэнне міру) была прад'яўлена спачатку кулуарна на пірах у гутарцы з маскоўскімі баярамі і тлумачылася ініцыятывай выключна рады літоўскага валадара[349]. Пасярэднікам паміж пасламі і вялікім князем маскоўскім выступіў князь Іван Юр'евіч Патрыкееў. Праз апошняга было перададзена жаданне Івана III прыняць з боку ВКЛ паслоў, якія атрымаюць паўнамоцтвы на заключэнне пагаднення, і толькі пасля зацвярджэння міру можна будзе пачаць гаворку пра шлюб[350]. З гэтым паслы і з'ехалі з Масквы.

Праз некалькі дзён (16 лістапада) ліст з ужо пэўнай пазіцыяй маскоўскага боку быў накіраваны ад імя князя Івана Юр'евіча троцкаму пану і полацкаму намесніку Яну Юр'евічу. У лісце, у адказ на пажаданне ўрада ВКЛ захаваць старыя межы («что здавна слушало ко обоимъ панствомъ, то бы и ныне было по тому») і каб папярэдзіць магчымыя ад яго прэтэнзіі, адзначалася: «Ино государь нашъ князь велики великого

344 СИРИО. Т. 35. № 17. С. 68.

345 Тамсама. С. 69.

346 Тамсама. С. 71.

347 Тамсама. С. 71—72.

348 LM. Kn. 5. Vilnius, 1993. № 9. P. 62—63.

349 СИРИО. Т. 35. № 18. С. 74, 75.

350 Тамсама. С. 77—78.

княжества Литовского за собою не дръжитъ ничего, а дръжитъ зъ Божьею волею земли свои, что ему далъ Богъ»[351]. Адказ з ВКЛ прыйшоў у канцы снежня 1492 г. Вялікі князь літоўскі быў гатовы слаць у Маскву «свои послы великии», толькі аўтар ліста Ян Юр'евіч непакоіўся, каб не здарылася таго, што гэтыя паслы вернуцца «без доброго конца»[352].

Наладзілася ліставанне, але да рэальных дзеянняў па ўсталяванні мірных адносін не даходзіла. У снежні 1492 г. Ян Юр'евіч выказаў занепакоенасць у беспаспяховасці перамоў, а ў пачатку студзеня 1493 г. Іван Юр'евіч Патрыкееў абвяшчаў, што толькі тады, «коли промежи государей велкіе люди ездят», справа і ладзіцца[353]. У той час ішла актывізацыя вайсковых дзеянняў (паход войска ВКЛ, а потым маскоўскай раці ў Верхняокскі рэгіён і, магчыма, захоп Масквой Вязьмы), таму літоўска-маскоўскія кантакты спыніліся.

Новыя спробы аднаўлення перарваных сувязей былі здзейснены ізноў праз Ноўгарад. У сакавіку 1493 г. у горадзе як быццам з мэтай набыцця крэчатаў з'явіўся сакольнічы пана Яна Юр'евіча Забярэжскага (Забярэзінскага)[354]. Сапраўдная мэта прыезду сакольнічага была адразу зразумета маскоўскім бокам: «не кречатов деля», а «передняго для дела», пад якім разумеліся перарваныя перамовы аб заключэнні міру. Тым не менш у Маскве былі знойдзены крэчаты, арганізавана іх суправаджэнне да пана Яна, а таксама для апошняга падрыхтавана чалабіцце ад імя ваяводы Якава Захар'евіча. У чалабіцці літоўскі бок быў абвінавачаны ў спыненні руху да ўсталявання мірных адносін і ў тым, што «великіе зацепки съ вашіе стороны състалися»[355]. Наконт апошніх у сваім лісце пан Ян справядліва адзначаў: «Наш государь сягнул не по чюжее, по свое, что з веку слушало ко отчине осподаря нашего, Великому Князьству Литовскому» і заклікаў да пакрыцця стратаў і заключэння міру «по старине»[356].

Імкненне да міру, ініцыятарам якога і гэтым разам выступілі ўлады ВКЛ, безумоўна, неабходна звязаць з падзеямі пачатку 1493 г., калі пасля лакальных поспехаў у рэгіёне Верхняй Акі ВКЛ пацярпела там вялікую паразу і прыблізна ў той жа самы час згубіла Вязьму. Неабходна было як мага хутчэй спыніць далейшае маскоўскае наступленне ў сітуацыі аслаблення абароназдольнасці ўсходняй мяжы ВКЛ.

Адразу за адказам на чалабіцце маскоўскага ваяводы (18 траўня 1493 г.) з ВКЛ было накіравана пасольства на чале з Андрэем Алехнавічам і Войткам Яновічам (прыбыло ў Маскву 29 чэрвеня з граматай ад вялікага князя літоўскага ад 18 траўня)[357]. Літоўскія паслы не мелі паўнамоцтваў на заключэнне міру, яны толькі выказалі маскоўскаму боку шэраг прэтэнзій, агульны сэнс якіх быў у парушэнні традыцыйна існаваўшых парадкаў («старину оставляете, а въ новые дела въступаете»)[358]. Галоўным было дасягненне ўпэўненасці ў наладжванні перамоўнага працэсу, і наступнае літоўскае пасольства ў тым жа складзе прыбыло ў верасні ў Маскву ўжо з мэтай арганізацыі руху вялікіх паслоў[359].

---

351 СИРИО. Т. 35. № 18. С. 79.

352 Тамсама. С. 79—80.

353 Тамсама. № 19. С. 83.

354 Тамсама. № 20. С. 85.

355 Тамсама. С. 87.

356 Тамсама. С. 88.

357 Тамсама. № 22. С. 103; LM. Kn. 5. № 23.1—23.3. P. 74—76.

358 СИРИО. Т. 35. № 22. С. 105.

359 Тамсама. № 23. С. 108.

17 студзеня 1494 г. вялікае пасольства на чале з панамі Пятром Яначічам Мантыгірдавічам, ваяводам троцкім і маршалкам земскім, дасягнула Масквы[360]. Першапачатковая пазіцыя пасольства была відавочнай: заключыць мір па тым жа ўзоры, што ўжо быў рэалізаваны Казімірам і Васіліем II Цёмным у 1449 г., і замацаваць паміж дзяржавамі тое размеркаванне ўладанняў, якое існавала з часоў Вітаўта і Васілія I Дзмітрыевіча[361].

Паміж тым, у інструкцыі паслам, накіраваным у Маскву, вялікі князь Аляксандр з панамі радай «намовил и установил» пайсці на значныя саступкі. Канечне, спачатку трэба было арыентавацца на ўмовы старой дамовы, падчас перамоваў заўважаць, «какъ тамъ тая речъ пойдеть», каб весці да замацавання сваёй пазіцыі. У тым жа выпадку, калі паслы Пётр і Станіслаў «не възмогуть к тому прыперети», планавалася пакінуць Вялікі Ноўгарад маскоўскаму боку, а затое ў літоўскі бок паставіць Ліфлянты (Лівонію). Цвёрда трэба было стаяць і за Вялікае Княства Цвярское (каб было запісана так, як у дамове 1449 г.), але затым адмовіцца ад прэтэнзій на яго ў абмен на Казельск, вотчыны мезецкіх князёў і Хлепень. Калі ж і на гэтую ўмову вялікі князь маскоўскі не пагодзіцца, яму і таго паслы маглі паступіцца, «aby dokonczanie szło pred sia». Тое ж тычылася і вялікага князя разанскага. А вось князёў Навасільскіх з іх вотчынамі трэба было адстаяць цалкам або хаця б паставіць у дамове згодна са старымі фармулёўкамі (1449 г.). Планавалася прасіць маскоўскі бок адпусціць у ВКЛ князёў Вяземскіх, Мезецкіх і Масальскіх і пры гэтым захаваць за імі іх вотчыны. Калі ж маскоўскі гасудар выкажа занепакоенасць магчымым смяротным пакараннем гэтых князёў «za ich wystupy», то нагадаць пра князёў-эмігрантаў з Масквы (Сямён Іванавіч Мажайскі, Сямён Іванавіч Шамячыч, Васілій Міхайлавіч Вярэйскі), каб Іван III «hniew swoy im otpustił», аддаў іх старыя вотчыны, а вялікі князь Аляксандр іх адпусціць «iz swoieho panstwa»[362]. Абмен князямі азначаў вяртанне ВКЛ значных тэрыторый, з адначасовым узнаўленнем у складзе Вялікага Княства Маскоўскага буйных удзелаў. Не дзіва, што такі фантастычны праект не быў нават агучаны падчас перамоў. Характэрна, што крыху пазней (у 1495 г.) вялікі князь Аляксандр назаве князёў Вяземскіх і Мезецкіх здраднікамі, якія «нашы были слуги, а зрадивши насъ через присяги свои и втекли до твоей м(и)л(о)сти земли, какъ то лихии люди»[363].

23 студзеня паслоў прынялі ў двары вялікага князя маскоўскага Івана III. Непасрэдна гутарку з імі вялі баяры князь Васілій Іванавіч Касой-Патрыкееў, князь Сямён Іванавіч Рапалоўскі і Дзмітрый Уладзіміравіч. Насуперак пазіцыі літоўскіх паслоў князь Сямён прапанаваў заключыць пагадненне так, як было пры вялікіх князях маскоўскіх Сямёне Іванавічу і Іване Іванавічу і вялікім князі літоўскім Альгердзе і ў адпаведнасці з тым часам размеркаваць уладанні. У выніку абодва бакі са спасылкай на «незгоду» ранейшых часоў адмовіліся ад маларэальных праектаў і пачалі вырашаць, «как межи государей пригожъ делу быти»[364].

Літоўскі бок адразу ж пайшоў на значныя саступкі. Забываліся інтарэсы ў Ноўгарадзе, Пскове, Цверы і пакідаліся Маскве адчувальныя прыбыткі з шэрагу наўгародскіх валасцей (Чарнакунства). З іншага боку, «новины», якія набыў маскоўскі гасудар (Вязьму, Мезецк, Сярпейск, Масальск, Апакаў, воласці князёў Варатынскіх, «атрубленую» частку Таропецкай зямлі), паслы патрабавалі вярнуць[365].

360 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 112; ПСРЛ. Т. 8. С. 227; Т. 12. С. 237—238; Т. 17. М., 2008. Стб. 552.

361 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 113; LM. Kn. 5. № 27.1. P. 77—78.

362 LM. Kn. 5. № 27.3. P. 78—80.

363 Тамсама. № 43. P. 93.

364 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 114—115.

365 Тамсама. С. 115; LM. Kn. 5. № 27.3. P. 78—79.

Праз два дні ў тым самым месцы і з тым самым складам удзельнікаў перамовы працягнуліся. Гэтым разам шэраг заяў быў зроблены маскоўскім бокам. Па-першае, вялікі князь літоўскі прапанаваў маскоўскаму тое, што яму і так належыць («онъ нашего же намъ поступается»). Па-другое, добра было б, каб Аляксандр Казіміравіч паступіўся тым, што напісана ў граматах часоў вялікіх князёў маскоўскіх Сямёна і Івана Іванавічаў і літоўскага Альгерда; аднак Іван III «выпускае» з тых грамат Смаленск і Бранск. Па-трэцяе, сцвярджаўся намер заключыць пагадненне па прынцыпе хто чым валодае («что ныне мы ... дръжимъ къ своему государьству, то будемъ и дръжати; а что онъ держитъ къ своему государьству, то бы он и дръжалъ»)[366].

Такім чынам, можна ўбачыць тыя дзве зыходныя пазіцыі для вядзення перамоў, якія былі прадстаўлены літоўскімі пасламі і маскоўскімі баярамі. Наступаў час пошуку шляхоў да збліжэння. У далейшым спрэчкі вяліся вакол двух рэгіёнаў — Вяземскага княства і смаленскіх прыгарадаў з валасцямі, пад якімі разумеліся і землі ў вярхоўях Акі.

На першыя саступкі пайшоў літоўскі бок: «для любви и докончанія меж государей и кровного связка» Маскве пакідаліся вяземскія князі са сваімі вотчынамі, якія служылі Івану III; тыя ж вяземскія князі, якія падпарадкоўваліся вялікаму князю Аляксандру, павінны былі па-ранейшаму валодаць сваімі ўладаннямі ў Вязьме. Пры гэтым лёс самой Вязьмы трэба было вырашыць пасля заключэння дамовы і шлюбу. Смаленскія гарады і воласці паслы жадалі захаваць за Смаленскам[367].

Каб вырашыць лёс смаленскіх уладанняў, паслы падалі спецыяльны спіс, складзены, праўда, па памяці, а таму ў ім не былі адзначаны многія памежныя воласці (напрыклад, князёў Крошынскіх). Між іншым, горад Вязьма таксама быў аднесены да ліку смаленскіх[368]. Цікава, што паслы лёгка адступіліся ад шэрагу валасцей, якія лічыліся «смоленскими из старины», але былі прадстаўлены баярамі як бораўскія (Трубна, Путын), мядынскія (Гарадзечна, Нярожа, Даражміра Гара, Кнутава Дуброва, Скавародаск, Гасціжа, Белыя Уста, Вежкі) і мажайскія (Тур'е, Цешынаў, Сукрома, Альховец, Ад'езд)[369]. Падаецца, што на той час новая адміністрацыйная прыналежнасць пазначаных валасцей стала рэальнасцю: яны кіраваліся маскоўскімі ўладамі і нават былі заселены выхадцамі з цэнтральных уездаў. Пэўным чынам шэраг валасцей на левабярэжжы р. Угры быў адасоблены ад сваіх старых цэнтраў ужо да канца 1492 г., калі князь С.Ф. Варатынскі авалодаў гарадамі Бышкавічы, Залідаў, Апакаў «с волостьми по Угру»[370]. Воласці насупраць пазначаных гарадоў, за Угрой (Гарадзечна, Нярожа, Вежкі і інш.) былі да гэтага часу інтэграваны да іншых маскоўскіх цэнтраў.

Баяры моцна трымаліся за Вязьму, якой, згодна з іх словамі, «всей пригож быти за нашим государем»[371]. Вязьму нават прапаноўвалі ў тэкст дамовы не ўпісваць, але каб трымаў яе маскоўскі вялікі князь. Аднак такая ўмова не задаволіла маскоўскі бок. Працяг перамоў быў пастаўлены ў залежнасць ад станоўчага для Масквы вырашэння лёсу горада. У выніку паслы «о Вязьме спустили, что Вязьма вся великому князю и в докончанье ее вписати»[372].

Пасля Вязьмы спрэчкі разгарнуліся вакол Мезецка і Любуцка. Праблема Мезецка была звязана з тарускімі князямі, частка якіх у свой час (канец XIV ст.) не

[366] СИРИО. Т. 35. № 24. С. 116.

[367] Тамсама. С. 118.

[368] Тамсама. С. 118—119.

[369] Тамсама. С. 119, 137.

[370] Тамсама. С. 136.

[371] Тамсама.

[372] Тамсама. С. 120.

змірылася з пераходам іх радавога цэнтра Тарусы да Масквы і перайшла на службу да Вітаўта, ад якога і атрымала Мезецк з шэрагам валасцей[373]. На Мезецк нават зачыталі грамату вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча. Літоўскі бок пагаджаўся пакінуць мезецкім князям, якія служаць цяпер Маскве, толькі тыя воласці, з якімі яны прыбылі ў ВКЛ (Гаўдыраў, Усце, Жабынь), а іншыя, якія былі падараваннямі вялікіх князёў літоўскіх, захаваць за тымі Мезецкімі, якія засталіся на баку ВКЛ.

Быў згаданы таксама і Серанск, якім яшчэ пры Альгердзе па паловах валодалі Масква і Вільня. Верагодна, у другой палове XV ст. Серанск цалкам належаў ВКЛ[374], але быў заняты ў канцы 1489 г. князем Д.Ф. Варатынскім, які накіроўваўся на службу ў Маскву. Літоўскія паслы вырашылі ахвяраваць гэтым горадам, а за гэта атрымаць цалкам Мезецк. Аднак баяры паставілі іншыя ўмовы: калі жадаеце Мезецк — адмаўляйцеся ад Любуцка, калі жадаеце Любуцк — саступіце Мезецк[375]. Серанск нейкім чынам застаўся ўбаку ад перамоўнага працэсу і ў выніку апынуўся пад маскоўскай уладай. Затое, дзякуючы цвёрдай пазіцыі літоўскіх паслоў, за ВКЛ быў замацаваны Любуцк, а Мезецк падзелены паміж дзвюма дзяржавамі ў адпаведнасці з тым, каму служылі тыя ці іншыя мезецкія князі[376].

Сістэма сумеснага ўладання Мезецкам і падлеглымі яму валасцямі стварала фактар нестабільнасці ў рэгіёне Верхняй Акі. Нездарма князь Іван Патрыкееў адмоўна ўспрыняў ідэю падзелу па дольніцах Вяземскага княства, бо, згодна з ягонымі словамі «так нелзе быти, за все будут брани да жалобы»[377]. Становішча вакол Мезецка ўскладнялася тым, што некаторыя мезецкія князі (Сямён Раманавіч і Пётр Фёдаравіч) былі ў маскоўскім палоне. Ім прапаноўвалася вырашыць, на чыім баку яны застануцца, але рабіць гэты выбар князям давялося ўжо пасля заключэння дамовы (увесну 1494 г.)[378], а да гэтага часу пра іх уладанні «паклапаціліся». З вялікімі складанасцямі пры вяртанні сваёй вотчыны сутыкнуўся князь Пётр Фёдаравіч Мезецкі, які пасля атрымання свабоды рызыкнуў вярнуцца на службу вялікаму князю літоўскаму. Акрамя іншых уладанняў Пётр у свой час набыў у дзядзькі Івана Андрэевіча траціну Мезецка («и в месте и в селех»). Дык вось, гэтая даволі значная частка княства аказалася нейкім чынам у яшчэ аднаго мезецкага князя Міхаіла Раманавіча[379]. Літоўскі бок скардзіўся, што і іншыя вотчыны мезецкіх князёў — слуг вялікага князя Аляксандра — трымаюць князі Бялёўскія[380]. Паводле звестак самога літоўскага боку, мезецкімі валасцямі Хостцы, Орань і Барацін кіраваў князь Дзмітрый Варатынскі[381]. Такім чынам, верным вялікаму князю Аляксандру мезецкім князям не знаходзілася месца ў радавым гняздзе. Іван III увогуле сцвярджаў, што Мезецк цалкам належаў яму («Месческ был весь наш»), і ўсё, «что не писана в докончаніе, ино то все наше»[382]. Характэрна ў гэтай сувязі ўспрыняцце летапісцаў: яны пералічвалі Мезецк сярод гарадоў, якія дасталіся

---

373 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 37.

374 У дамове 1449 г. Серанск яшчэ пазначаецца як сумеснае ўладанне (ДДГ. № 53. С. 161).

375 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 121.

376 Тамсама.

377 Тамсама. С. 119.

378 Тамсама. С. 132.

379 Тамсама. № 28. С. 152. Цяжка вызначыць, князь Міхаіл спачатку захапіў чужыя ўладанні, а потым атрымаў на гэта ўхвалу вялікага князя маскоўскага, ці, наадварот, адразу дзейнічаў паводле ўказанняў Івана III.

380 СИРИО. Т. 35. № 28. С. 152.

381 Тамсама. № 24. С. 137.

382 Тамсама.

Івану III («и городовъ отступишася великому князю Вязмы и Серпейска, и Мезетцка, и Воротынска, и Одоева и иныхъ по Угру реку»[383]).

Цікава, што на перамовах не разгарнулася вялікай дыскусіі вакол даволі значных тэрыторый уздоўж цячэння р. Угры з гарадамі (лічыліся «каралеўскімі»)[384] Масальск, Сярпейск, Бышкавічы, Залідаў, Апакаў, Гарадзечна і Лучын, якім належалі шматлікія валасці (Недаходаў, Лычына, Дзмітраў, Мошчын і інш.). Паступова Сярпейск, Гарадзечна і валасці[385], потым Лучын, Дзмітраў і валасці, а яшчэ Масальск, былі захаваны за ВКЛ[386].

Карыстаючыся спісам смаленскіх прыгарадаў, складзеным літоўскімі пасламі, маскоўскі бок падаў разгорнуты пералік гарадоў і валасцей, якіх «поступился князь велики великому князю Александру»[387]. Усе ўладанні фактычна адбіраліся ў князёў Варатынскіх (Сямёна і Дзмітрыя Фёдаравічаў), якія рознымі шляхамі набылі іх і трымалі пэўны час пад маскоўскай уладай. Падаецца, што адной з асноўных прычын пераходу князя Сямёна на бок Івана III у лістападзе—снежні 1492 г.[388] было абяцанне замацаваць за ім тыя тэрыторыі, з якімі ён прыйдзе на маскоўскую службу. У сваёй грамаце, дасланай вялікаму князю літоўскаму Аляксандру, князь Сямён скардзіўся: «И твоя милость, господине, мене не жаловалъ, города не далъ и въ докончанья не принялъ, а за отчину за мою не стоялъ, а боярина моего, господине, не жаловалъ, не чтилъ, как отецъ твой нашихъ бояр жаловалъ, чтилъ»[389]. Занядбанне інтарэсаў мясцовых князёў з боку цэнтральнай улады ВКЛ у выніку выклікала адмову ад яе. А вось пад маскоўскай апекай князь Сямён адчуў падтрымку не толькі ў забеспячэнні сябе валоданнямі, але і ў рэальнай іх абароне. Так, пасля нападу войск ВКЛ у рэгіён р. Угры (на Сярпейск і Мезецк), вынікам якога стала адваяванне вялікай тэрыторыі, адбыўся найбольш значны за ўсю вайну паход маскоўскіх сіл, якія проста знішчылі тут рэшткі ўлады ВКЛ. Такім чынам, валоданне князем Сямёнам гарадамі Масальскам, Сярпейскам, Бышкавічамі, Залідавым, Апакавым, Гарадзечнай і Лучынам было цвёрда гарантавана маскоўскай вайсковай дапамогай.

Акрамя таго, неабходна адзначыць, што яшчэ ў снежні 1489 г. у Маскву накіраваўся князь Дзмітрый Фёдаравіч Варатынскі[390]. Тады ён захапіў і прызначыў намеснікаў у гарадах Серанск і Бышкавічы, валасцях Лычына і Недаходаў[391]. За ім жа заставаўся Казельск. Князь Дзмітрый, магчыма, таксама быў спакушаны да пераходу на маскоўскі бок набыццём новых і захаваннем старых уладанняў. Аднак думаецца, што ягоны брат Сямён Фёдаравіч, які застаўся верным Казіміру Ягайлавічу, у хуткім часе «ачысціў» большасць занятых пунктаў (за выключэннем Серанска і Казельска), а з канца 1492 г. ужо сам трымаў Бышкавічы, Лычына і Недаходаў. Прынамсі, да пачатку 1494 г. князь Дзмітрый працягваў валодаць толькі смаленскімі

---

383 ПСРЛ. Т. 20. Вып. 1. С. 360. Гл. таксама: Тамсама. Т. 8. С. 227; Т. 12. С. 238.

384 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136; «Выписка из посольских книг». С. 52.

385 Валасці Гарадзечна, Кавылна, Дзямена, Ужапераць з сярэдзіны XV ст. у якасці вотчыны належалі князям Варатынскім (АЗР. Т. I. 1340—1506. № 57. С. 70; Lietuvos Metrica = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика. Vilnius, 1998. Kn. 3 (1440—1498). P. 37, 39). Дзіўна, што ад іх так лёгка адмовіўся маскоўскі бок. Магчыма, шэраг уладанняў у другой палове стагоддзя Варатынскія страцілі, напрыклад, па ад'ездзе ў Маскву князя Івана Міхайлавіча Перамышльскага (Варатынскага), які мог імі валодаць.

386 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 119, 120. Дзмітраў падчас перамоваў пазначаўся то горадам, то воласцю.

387 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

388 Датаванне падзей належыць М.М. Крому (Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 51).

389 СИРИО. Т. 35. № 19. С. 84.

390 Датаванне падзеі належыць М.М. Крому (Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 77—78).

391 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 48.

валасцямі Фамінічы і Пагосцішчы і шэрагам тых валасцей, якія знаходзіліся ўбаку ад разгляданага рэгіёна і ў выніку не былі перададзены літоўскаму боку[392].

Дынаміка каралеўскіх пажалаванняў і ўласных набыткаў князёў Варатынскіх падаецца ў табліцы.

Таб. 4. Уладанні князёў Варатынскіх у XV ст.

| *Уласніцкая прыналежнасць* | *Дата набыцця* | *Валоданні* | *Спосаб набыцця, статус валодання* | *Адміністрацыйная прыналежнасць* |
|---|---|---|---|---|
| Фёдар Львовіч Варатынскі | 10 лютага 1447 г. | валасці Гарадзечна, Скалуговічы, Ужаперадзь, Кавылна, Дзямяна са Снапатцом, Нямынаўскі двор | Пажалаванне ў вотчыну Казіміра | «у Смоленскои державе»[393] |
| | 1448 г. | Дзямена | Пацвярджэнне ў вотчыну Казіміра[394] | |
| | 5 лютага 1448 г. | Казельск | Пажалаванне ў намесніцтва Казімера[395] | |
| | 28 сакавіка 1455 г. | Дзямона, Гарадзечна з Ужаперацццю, Кавылна, Крайшына («по обе стороне Высы реки»), Кцынь, Азярэск, Перамышль, Лагінеск, Нямчынаўскі двор у Смаленску | Пажалаванне «у вотчину и его детемъ» Казіміра[396] | Смаленскія валасці паводле спіса 1494 г.: Дзямена, Гарадзечна, Ужапе-рат, Калвына, Крайшына, Азярэск, Лагінеск[397] |
| | 1480 г. | валасць Лучын | Пажалаванне Казіміра[398] | Смаленскі прыгарадак паводле спіса 1494 г.[399] |
| Іван Міхайлавіч Перамышльскі (Варатынскі) | да 1487 г. | горад Перамышль[400] | [вотчына] | |
| | 1494 г. | Тарбееў, Алопаў, Азярэск | Трымае маскоўскай уладай | Перамышльская валасць Азярэск[401] |
| Сямён Фёдаравіч Варатынскі | (1480—1492 гг.) | валасць Мошчын | Пажалаванне Аляксандра[402] | Смаленская валасць Мошчын паводле спіса 1494 г.[403] |
| | 1492 г. | горад Масальск з валасцямі Путогіным і Недаходавым, горад Сярпейск з валасцямі, горад Бышкавічы з валасцямі па Угру, горад Залідаў з валасцямі па Угру, горад Апакаў з валасцямі па Угру, горад Гарадзечна з валасцямі, горад Лучын з валасцямі (валасці Лычына, Жулін, Машкова Гара, Ашчытаў, Дзмітраў, Мошчын, Пусты Мошчын, Вежычна, Дзягна, Кавылна, Дзямена, Ужаперадзь, Замошша, Залаконне, Волста Ніжняя, Клыпіна, Няздзілава, Чарпа, Галовічы); валасці смаленскага ўладыкі (Любунь, Бліжэвічы, Печкі) | Уладанні, захопы, санкцыянаваныя Іванам III[404] | |
| | Канец 1492 г. | Валасці вяземскіх князёў (Вялікае Поле, Волста Верхняя, Слабодка, Машчыгавічы, Серадзе) | Захоп | Вяземскія валасці[405] |
| | 1494 г. | Бышкавічы, Лычына, Вежычна, да Варатынска чатыры залідоўскія сёлы | Захоп пасля заключэння міру[406] | |
| Дзмітрый і Сямён Фёдаравічы Варатынскія | да канца 1488 г. | Меск, Бышкавічы, Лычына[407] | [Пажалаванне Казіміра ў дзяржанне?][408] | Бышкавічы і Лычын — смаленскія валасці[409] |
| Дзмітрый Фёдаравіч Варатынскі | 12 сакавіка 1488 г. | Казельск | У дзяржанне ад Казіміра[410] | |
| | сьнежань 1489 г. | гарады Серанск, Бышкавічы, валасці Лычына, Недаходаў | Захоп | «панов и слуг» Казіміра IV[411]; Бышкавічы, Лычын і Недаходаў — смаленскія валасці[412] |
| | 1494 г. | валасці Фамінічы, Пагосцішчы, Лугань, Мясцілаў, Куінь (Кцынь?), Хвастовічы, Хостцы, Арэнь, Барацін | Трымае пад маскоўскай уладай | Да Смаленска (Фамінічы, Пагосцішчы), Мезецка (Арэнь і Барацін) і Казельска (Хостцы)[413] |
| | 1494 г. | Лагінеск і Крайшына | Паслы адступіліся Маскве | да Варатынска[414] |

[392] СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

Сярод уладанняў князя Сямёна неабходна звярнуць увагу на тыя, што не былі захоплены, а належалі роду князёў Варатынскіх на вотчынным праве з сярэдзіны XV ст. Яны не ўваходзілі ў першапачатковы склад Варатынскага княства (рашэнне пра далучэнне якога да Масквы было прынята даволі хутка), але менавіта на іх утрыманне мог разлічваць князь Сямён. Ён нават згадваў грамату ад караля Казіміра, у якой былі пералічаны воласці, перададзеныя бацьку (Дзямона, Гарадзечна, Ужапераць, Снопат і Кавылна), а таксама называў іншыя пажалаванні Казіміра бацьку (Лучын) і яму самому (Мошчын)[415].

Як бачым, маскоўскі бок меў сур'ёзныя падставы, каб на дыпламатычным фронце адстойваць значную частку тэрыторыі ВКЛ. Аднак, верагодна, з прычыны моцнай інтэграванасці азначанага рэгіёна ў склад Смаленскай зямлі і з-за адсутнасці апоры ў асяродку мясцовых землеўласнікаў, асцярожнасці, разліку на хуткія далейшыя поспехі маскоўскія ўлады вырашылі саступіць. Поспехам Масквы можна лічыць прасоўванне да р. Угры (гл. вышэй), якая фактычна толькі з 1492 г. стала памежнай. (Традыцыйнае меркаванне аб памежным характары р. Угры, якая быццам бы падзяляла літоўскія і маскоўскія ўладанні з часоў Вітаўта — пачатак XV ст. — уяўляецца памылковым.)

---

393 LM. Kn. 3. P. 37; СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

394 LM. Kn. 3. P. 37.

395 АЗР. Т. I. 1340—1506. № 48. С. 61.

396 Тамсама. № 57. С. 70; LM. Kn. 3. P. 39; СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

397 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 118.

398 Тамсама. С. 136.

399 Тамсама. С. 118.

400 Тамсама. № 1. С. 4.

401 Тамсама. № 24. С. 136.

402 Тамсама. С. 136.

403 Тамсама. С. 118.

404 Тамсама. С. 136.

405 Тамсама. С. 137. Воласці пазначаны за вяземскімі князямі, але Вялікае Поле належала Яну Гаштольду і цягнула да Дарагабужу, «селцо Мошенское» належала князю Сеньку Глінскаму (LM. Kn. 3. P. 47).

406 СИРИО. Т. 35. С. 152.

407 Улічваючы той факт, што Бышкавічы і Лычына ў снежні 1489 г. захапіў князь Дзмітрый Фёдаравіч Варатынскі, можна зрабіць выснову, што дагэтуль яны належалі яго брату Сямёну.

408 СИРИО. Т. 35. № 6. С. 20.

409 Тамсама. № 24. С. 121.

410 Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. S. 392; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в. М., 1995. С. 78—79.

411 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 47—48; № 14. С. 54.

412 Тамсама. № 24. С. 121.

413 Тамсама. С. 136, 137.

414 Тамсама. С. 137.

415 Тамсама. С. 136.

Што ж у выніку адбылося? Вялікі князь маскоўскі абяцаннямі надання ўладанняў і іх абароны схіліў да пераходу на свой бок аднаго з апошніх гарантаў улады ВКЛ у Верхняокскім рэгіёне, а потым, безумоўна, з пэўным разлікам, проста ахвяраваў памкненнямі і інтарэсамі новага падданага. Гэта характэрны прыклад маскоўскай палітыкі, скіраванай на ўзаемадзеянне з заходнім суседам без прыцягнення ўласных ваенных рэсурсаў і праз выкарыстанне супярэчнасцей сярод князёў памежжа ВКЛ.

Але ўсё ж частка валасцей, змешчаных у спісе смаленскіх прыгарадаў, маскоўскі князь адмовіўся вяртаць («а в отступе их не было»). У другі раз князь Д.Ф. Варатынскі заняў смаленскія воласці Порыскі, Верх Сярэны, Ліпіцы і Узбынаў. Дзве першыя знаходзіліся недалёка ад гарадоў Казельск і Серанск[416], якія, верагодна, засталіся ва ўладанні князя Дзмітрыя, а другія былі вотчынай Івана Бабіна, які служыў гэтаму князю. Такім чынам, зразумела інтэграванасць пералічаных валасцей да ўстойлівых уладанняў князёў Варатынскіх. Відавочна, за Масквой засталіся воласці Лугань, Мясцілаў, Куінь (Кцын?) і Хвастовічы князя Дзмітрыя Фёдаравіча; Тарбееў, Алопаў, Азярэск князя Івана Міхайлавіча; Жарэмін — адоеўскіх; Лагінеск і Крайшына — варатынскіх. Хаця паслы абвясцілі іх каралеўскім падараваннем («данье королево»), гэта не дапамагло[417]. Між тым, Крайшына, Кцын, Азярэск і Лагінеск згадваюцца сярод падараванняў караля Казіміра ў вотчыну князю Фёдару Варатынскаму і яго дзецям (1455 г.)[418].

Замацаваныя за Масквой воласці за некаторым выключэннем (Кцын і Хвастовічы былі высунуты ўглыб тэрыторыі, якая засталася за ВКЛ) абкружалі масіў зямель спрадвечных уладанняў князёў Навасільскага роду. Усе князі Навасільскія (Адоеўскія, Варатынскія і Бялёўскія) з вотчынамі і данінай амаль без спрэчак пакідаліся на баку вялікага князя маскоўскага[419].

На правым беразе р. Акі сярод зямель князёў Навасільскіх (магчыма, у іх атачэнні) размяшчаўся цэнтр гаспадарскага намесніцтва ВКЛ — горад Мцэнск. Ягоная літоўская прыналежнасць не выклікала пратэстаў з маскоўскага боку[420]. Фарпостам улады ВКЛ, анклавам сярод тэрыторыі Вялікага Княства Маскоўскага застаўся таксама і Любуцк (гл. вышэй).

У маскоўска-літоўскіх перамовах пачыналі закранаць яшчэ адзін спрэчны рэгіён, у будучыні арэну актыўнага супрацьстаяння на мяжы. З боку Вялікіх Лук на захад паступова, з дапамогай лакальных захопаў і каланізацыі, пашыраліся маскоўскія ўладанні (у той час да Вялікіх Лук была ўзята воласць Пуповічы). Аднак у канцы XV ст. праблема яшчэ не набыла актуальнага характару. Паводле прапановы маскоўскіх баяр было вырашана вызначыць «великому Новугороду рубежъ съ Литвою по старому рубежу» і гэта пазначыць у дамове[421].

І вось 1 лютага 1494 г. перамовы скончыліся. Пачаліся іншыя клопаты — арганізацыя ўрачыстага пасольства да вялікага князя з мэтай сватання. Паслы палічылі за лепшае прыйсці ўжо наступным днём[422]. А 5 лютага перад імі быў прачытаны чарнавы спіс даканчальнай граматы, які яны «похвалили и велели съ того списка писати докончянье начисто»[423]. Паводле прапановы паслоў да тэксту дамовы дадалі згадку пра Бранск і

---

416 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

417 Тамсама. С. 136—137.

418 АЗР. Т. I. 1340—1506. № 57. С. 70; LM. Kn. 3. P. 39.

419 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 120.

420 Тамсама. С. 120, 136.

421 Тамсама. С. 122.

422 Тамсама.

423 Тамсама. С. 123.

іншыя ўскраінныя гарады і, галоўнае, патрабаванне «князей бы служебныхъ съ вотчинами не приимати»[424]. Такім чынам гарантавалася цэласнасць тэрыторыі ВКЛ перад прэтэнзіямі з маскоўскага боку і ў сувязі з магчымымі ад'ездамі памежных князёў. Формула дамовы аб непрыняцці з вотчынамі павінна была засцерагчы князёў ад пераходу на маскоўскую службу і ў пэўнай ступені ўмацаваць іх вернасць вялікаму князю літоўскаму.

7 лютага 1494 г. абедзве граматы (ад імя вялікіх князёў Аляксандра і Івана III) былі прачытаны дзякам Фёдарам Курыцыным і пісарам Федкам Грыгоравічам (Грыгор'евым). Пасля гэтага вялікі князь маскоўскі цалаваў крыж сам, а за вялікага князя літоўскага гэта зрабілі паслы Пётр і Станіслаў. Да грамат прымацавалі пячаткі (праўда, залатую маскоўскую не паспелі адліць)[425]. Толькі 22 красавіка ў Вільні перад маскоўскімі пасламі цалаваў крыж вялікі князь Аляксандр[426]. Дамова была зацверджана.

Наглядна ўбачыць тэрытарыяльныя змены, якія адбыліся паводле маскоўска-літоўскай дамовы аб «вечным» міры, дапамагае параўнанне з аналагічным дакументам, складзеным у 1449 г. У пададзенай табліцы размеркаваны па ўладаннях у залежнасці ад маскоўскага або літоўскага боку рускія землі і іх князі.

Таб. 5. Размеркаванне ўладанняў у дамовах 1449 і 1494 гг.

| **Дамова 1449 г.** | | **Дамова 1494 г.** | |
|---|---|---|---|
| *У маскоўскім баку* | *У літоўскім баку* | *У маскоўскім баку* | *У літоўскім баку* |
| | Смаленск, смаленскія гарады | | Смаленск, смаленскія гарады |
| | Любуцк, Мцэнск | | Любуцк, Мцэнск |
| | | | Бранск, Сярпейск, Лучын, Масальск, Дзмітраў, Жулін, Лычына, Залідаў, Бышкавічы, Апакаў па Угру, усе «Вкраиныи» месцы |
| | | Мезецкія князі — на абодва бакі | |
| Ржэва з валасцямі | | Ржэва з валасцямі | |
| | Ржэўская воласць Асуга | | Ржэўская воласць Асуга |
| | | Вязьма з гарадамі, валасцямі, землямі і водамі | |
| Серанск — сумеснае ўладанне | | | |
| | Вялікі князь Барыс Аляксандравіч Цвярскі | Цвер, цвярскія гарады | |
| Тарускія князі | | | |
| Фёдара Блудава, Аляксандра Барысава сына Хлепенскага, князя Рамана Фамінскага, іх братоў і братанічаў вотчыны | | Фёдара Блудава, Аляксандра Барысава сына Хлепенскага, княэя Рамана Фамінскага, іх братоў і братанічаў вотчыны | |
| Юр'ева доля Рамейкавіча і князя Фёдарава места Святаславіча | | Юр'ева доля Раманавіча і князя Фёдарава места Святаславіча | |
| | | Алексін, Цяшылаў, Рослаўль, Венеў, Мсціслаў, Таруса, Абаленск | |
| | | Казельск, Людзімск, Серанск, казельскія, людзімскія, серанскія гарады | |
| Мяшчора | | Мяшчэра | |
| Ноўгарад Вялікі, Пскоў, наўгародскія і пскоўскія гарады | | Ноўгарад Вялікі, Пскоў, наўгародскія і пскоўскія гарады | |
| | Воласці і аброкі наўгародскія | | |
| Вялікі князь Іван Фёдаравіч Разанскі | | Вялікі князь Іван Фёдаравіч Разанскі і брат яго князь Фёдар | |
| | Вярхоўскія князі | Навасільскія князі: Адоеўскія, Варатынскія, Перамышльскія, Бялёўскія з вотчынамі | |

[424] СИРИО. Т. 35. № 24. С. 123.

[425] Тамсама. С. 125. У самой дамове пазначана дата: «А писанъ на Москве, лета 7002, февраля въ пятый день». Аднак сапраўднай датай заключэння «вечнага» міру трэба лічыць 7 лютага.

[426] СИРИО. Т. 35. № 25. С. 142.

Паводле Н.Б. Шаламанавай: «“Вечны мір” 1494 г. не толькі не вырашыў тэрытарыяльнай спрэчкі Расіі і Літвы, але, як лічаць некаторыя даследчыкі (Я.Натансан-Лескі, К.В. Базілевіч), яшчэ больш яго абвастрыў, бо да імкненняў Расіі аб'яднаць землі Старажытнай Русі дадалося яшчэ абвастрэнне спрэчак «вярхоўскіх» князёў за свае вотчыны, падзеленыя паміж Расіяй і Літвой. Іван III скарыстаўся і далей гэтымі спрэчкамі ў сваёй аб'яднальнай палітыцы»[427]. Такім чынам, межы, вызначаныя дамовай 1494 г., не займелі стабільнага характару, яны толькі замацавалі прамежкавыя вынікі пашырэння маскоўскай улады, якая бесперарыўна распаўсюджвалася на землі ВКЛ.

Знешне вынікі вайны для Масквы выглядаюць даволі сціпла, хаця б у параўнанні з выгаднымі для яе зменамі, якія адбыліся падчас наступнага канфлікту 1500—1503 гг. У канцы XV ст. ВКЛ страціла толькі адносна невялікую тэрыторыю Вяземскага княства і пазбавілася і так напаўнезалежных уладанняў часткі вярхоўскіх князёў. І гэта быццам бы ўсё. Аднак насамрэч мір 1494 г. замацаваў вельмі значныя змены ў палітычнай сітуацыі Усходняй Еўропы. Ён не толькі замацаваў агульныя намаганні шэрагу маскоўскіх князёў па збіранні рускіх зямель, але і адкрываў перспектывы, даваў магчымасці для далейшага развіцця маскоўскага наступлення. Фактычна літоўскі бок пагадзіўся з тым, што Цвер, Вялікі Ноўгарад, Разань і г.д. — гарады, якія знаходзіліся раней таксама ў сферы інтарэсаў ВКЛ — цяпер з'яўляліся вотчынай вялікага князя маскоўскага. Нават пакідаліся прэтэнзіі на тэрыторыі сумеснага літоўска-наўгародскага кіравання (Чарнакунства). Няпэўнасць новай мяжы ствярала Маскве магчымасці для пашырэння сваёй улады ў напрамку полацкіх і віцебскіх зямель, уладанняў князёў Мезецкіх.

Нябачнымі воку засталіся значныя вайсковыя поспехі, якіх дасягнула Вялікае Княства Маскоўскае — амаль поўнае знішчэнне сістэмы абароны ВКЛ, перахоп ініцыятывы ў памежных справах і прадбачанне любых дзеянняў з боку літоўскіх князёў. У замацаванні вынікаў вайны выявілася некаторая асцярожнасць маскоўскіх улад. Вярталіся захопленыя гарады, сям-там аднаўлялася старая мяжа. Адной з прычын гэтага была адсутнасць апоры і сімпатый да маскоўскага боку ў многіх месцах (М.М. Кром), аднак не апошнюю ролю адыграла і свядомае спыненне наступлення Іванам III, магчыма, і з разлікам на далейшы рэванш (Ю.Р. Аляксееў).

[427] Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России в XVI в. в связи с ее отношениями с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой. С. 4—10.

# Раздзел 5.
# Землі Беларусі на літоўска-маскоўскім памежжы ў першай палове XVI ст.

## 1. Гомейская зямля як рэгіён даследавання

Да сярэдзіны XV ст. рускія землі, якія складалі калісьці тэрыторыю Старажытнарускай дзяржавы, былі аб'яднаны або размеркаваны на сферы ўплыву паміж двума асноўнымі цэнтрамі — Вільняй і Масквой[1]. У канцы XV ст. пачалася барацьба за пераразмеркаванне ўладанняў. З шэрагу прычын (разгляд якіх знаходзіцца па-за межамі гэтай працы) Вялікае Княства Літоўскае аказалася значна слабейшым за свайго канкурэнта — Вялікае Княства Маскоўскага[2]. За кароткі час, у выніку дзвюх войнаў (1486—1494 і 1500—1503 гг.) ВКЛ страціла вялікія прасторы, а маскоўскія ўладанні наблізіліся да тых раёнаў, якія на сённяшні дзень складаюць частку тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Адзіным рэгіёнам сучаснай Беларусі, які ў першай трэці XVI ст. пабываў пад маскоўскай уладай, была Гомейская зямля. Гэтай абагульненай назвай будзе пазначаны шэраг тэрыторый, якія ў розны час адміністрацыйна адносіліся да Гомея. За трэць стагоддзя Гомейская зямля некалькі разоў вельмі істотна мяняла свае абрысы. Гомейскія воласць (павет), уезд і староства (воласць) хаця і захоўвалі ў асноўным сваю тэрыторыю, але, тым не менш, далёка не былі раўназначныя.

Так, у 1500 г. разам з уласна Гомейскай воласцю (якая ў некаторых выпадках называлася паветам) аскепкі некалькіх суседніх валасцей увайшлі ў склад Вялікага Княства Маскоўскага і склалі асобную адміністрацыйную адзінку — уезд. У выніку Гомейскі ўезд утварыўся з часткі стрэшынскіх, горвальскіх і чачэрскіх сёл (усе на тэрыторыі сучаснай Беларусі) і ўсіх гомейскіх пасяленняў. Ён праіснаваў да 1535 г., калі ў выніку паходу гетмана Юрыя Мікалаевіча Радзівіла 16 ліпеня Гомей быў узяты і вернуты ў склад ВКЛ[3]. Канчаткова горад быў прызнаны ў літоўскім баку паводле перамір'я 1537 г.

---

[1] Маецца на ўвазе маскоўска-літоўская дамова 1449 г., у якой былі вызначаны сферы ўплыву і панавання абодвух бакоў у рускіх землях (ДДГ. М.; Л., 1950. № 53. С. 160—163; LM. Vilnius, 1994. Kn. 5: (1427—1506). № 78.1. P. 131—133; № 136. P. 251—254; Skopińska Z. Traktat 31 sierpnia 1449 roku w świetle polityki Litwy i Moskwy w latach 1440—1453 // Ateneum Wileńskie. 1928. Z. 15. S. 108—150; Темушев В.Н. Литовско-московский договор 1449 года. Раздел сфер влияния в Восточной Европе // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук. 2005. № 5. Ч. 2. С. 77—80). Часткі «старажытнарускай спадчыны» набылі таксама іншыя дзяржавы: Каралеўства Польскае, Каралеўства Венгрыя, Малдаўскае княства, Лівонскі ордэн і некаторыя іншыя. Але асноўная барацьба разгарнулася паміж Вялікімі Княствамі Літоўскім і Маскоўскім.

[2] Гэтая праблематыка разглядаецца, напрыклад, у працах: Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982; Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий. М., 1982; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в. М., 1995; Бычкова М.Е. Русское государство и Великое Княжество Литовское с конца XV в. до 1569 г.: опыт сравнительно-исторического изучения политического строя.

[3] Пра дату захопу Гомея маскоўскімі войскамі гл. ніжэй.

Характэрна, што Гомей у маскоўска-літоўскіх дамовах паміж 1500—1537 гг. паслядоўна пазначаны як горад, да якога, паводле звычайнай сістэмы адміністрацыйнага падзелу ўсходняй ускраіны ВКЛ і значнай часткі Вялікага Княства Маскоўскага, павінны былі «цягнуць» воласці. У дагаворных граматах звычайна выкарыстоўвалася формула «Гомей с волостми»[4]. Аднак спецыфікай, відаць, менавіта Гомея было тое, што ягоную тэрытарыяльную структуру складалі сёлы. Да пачатку XVI ст. існавала Гомейская воласць, часам называная паветам, але ніводнай гомейскай воласці не было вядома.

Уяўляецца, што значэнне Гомея перарасло ўзровень валаснога цэнтра. Горад займаў вельмі важнае стратэгічнае становішча і быў цэнтрам шчыльна заселенай акругі. Нямногія воласці мелі столькі сёл, колькі адносілася да Гомея. Пасля далучэння да Масквы ў склад Гомейскай зямлі была ўключана вялікая колькасць новых сёл, сталі таксама з'яўляцца і воласці. Гомей, такім чынам, набыў значэнне сапраўднага горада (у адміністрацыйных адносінах), цэнтра маскоўскага ўезда. Зрэшты, пазначэння гомейскай акругі ўездам у параўнальна кароткі перыяд маскоўскага панавання (паміж 1500—1535 гг.) у крыніцах не сустракаецца. Прычыну гэтага часткова можна бачыць у тым, што да канца другога дзесяцігоддзя XVI ст. Гомей па-ранейшаму заставаўся ў складзе Старадубскага ўдзела князёў Сямёна Іванавіча і Васілія Сямёнавіча Мажайскіх, тады як уездамі ў Вялікім Княстве Маскоўскім станавіліся тэрыторыі, якія належалі гасудару (праўда, былі і выключэнні). Уезд — фарміраванне менавіта вялікакняжацкай улады, якая імкнулася да цэнтралізацыі. Застаючыся ва ўладанні старадубскіх князёў, Гомей не мог атрымаць статус уезнага цэнтра. Ці атрымаў ён яго пасля 1518 г. (год далучэння вымарачнага Старадубскага ўдзела да маскоўскіх вялікакняжацкіх уладанняў)? Крыніцы не даюць адказу на гэтае пытанне. Аднак той факт, што Гомей меў сваіх намеснікаў, прама сведчыць пра яго ўезны статус[5]. У гэтай працы ўмоўна на ўвесь перыяд маскоўскага панавання, паводле аналогіі з іншымі падобнымі адміністрацыйнымі адзінкамі, Гомейская зямля будзе называцца ўездам.

Ужо хутка пасля вяртання Гомея, у верасні 1535 г., у ім з'явіўся намеснік-дзяржаўца[6], у падначаленне якому ўвайшла не толькі тэрыторыя старой Гомейскай воласці (памяць пра памеры якой была вельмі ўстойлівай), але і маскоўскія да яе дадаткі, а таксама іншыя землі паміж Дняпром і Сожам. Пры гэтым частку былых чачэрскіх зямель (па левы бераг р. Сож), што лічыліся ў складзе Гомейскага ўезда, Масква не вярнула (яны ўвайшлі ў склад вылучанага ў той час Паповагорскага ўезда). Так у ВКЛ сфарміравалася тэрыторыя Гомейскай зямлі (яе працягвалі называць воласцю), межы якой ва ўсходняй частцы (за р. Сож) у асноўным адпавядалі межам Гомейскай воласці XV ст., а ў заходняй частцы (міжрэчча рэк Дняпра і Сожа) значна змянілі першапачатковыя абрысы.

4 Дамова 1503 г.: «города Гомья з волостми»; дамова 1508 г.: «в город в Гомеи з волостми»; дамова 1522 г.: «города Гомья съ волостми»; дамова 1527 г.: «города Гомья съ волостми»; дамова 1537 г.: «города Гомя с волостьми» (Гомей ужо ў складзе ВКЛ) (LM. Kn. 5: (1427—1506). Vilnius, 1994. № 118.13. P. 210; LM. Kn. 8: (1499—1514). Vilnius, 1994. № 80. P. 126; СИРИО. Т. 35. СПб., 1882. № 94. С. 638; СИРИО. Т. 35. № 102. С. 744; LM. Kn. 15: (1528—1538). Vilnius, 2002. № 164. P. 212).

5 Пашкова Т.И. Местное управление в Русском государстве первой половины XVI в. (наместники и волостели). М., 2000. С. 25. Думка пра непасрэдную сувязь паміж існаваннем у горадзе намесніка і павятовым статусам гэтага горада падказана аўтару М.М. Кромам.

6 Виноградов Л.А. Гомель. Его прошлое и настоящее. М., 1900. С. 13—14. Першы дзяржаўца — князь Аляксандр Андрэевіч Сангушка-Кашырскі (LM. Kn. 19 (1535—1537) / Parengė D. Vilimas. Vilnius, 2009. № 13. P. 66; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. XXIX).

Што тычыцца назвы цэнтра Гомейскай зямлі — Гомель, то ў такой форме ў крыніцах разгляданага перыяду яна не сустракалася[7]. У пераважнай большасці выпадкаў назва горада пісалася як «Гомей», радзей «Гомий»[8]. Таму ў гэтым даследаванні будзе выкарыстоўвацца нязвыклае для сучаснага чытача найменне як самога горада, так і вытворнай ад яго тэрыторыі (Гомейская зямля, Гомейская воласць і г.д.)[9].

Безумоўна, гісторыя Гомейскай зямлі канца XV — першай паловы XVI ст. не заставалася без увагі даследчыкаў.

Усе ўчасткі гомейскіх меж у розны час былі часткай агульнай лініі мяжы паміж Вялікімі Княствамі Літоўскім і Маскоўскім. Таму гісторыкі, чые працы былі прысвечаны вывучэнню літоўска-маскоўскага памежжа канца XV — першай паловы XVI ст., у той ці іншай ступені пісалі і пра межы Гомейскай зямлі. Тут варта згадаць даследаванні Я. Натансана-Лескага і Н.Б. Шаламанавай, дзе вывучаны з супрацьлеглых бакоў літоўска-маскоўская мяжа і памежныя тэрыторыі. Я. Натансан-Лескі рэканструяваў «маскоўскую» мяжу з боку ВКЛ[10], Н.Б. Шаламанава прысвяціла сваю дысертацыйную працу праблеме фарміравання заходняй частцы тэрыторыі Расіі ў XVI ст.[11]. Калі меркаваць па каментарах даследчыцы, многія высновы польскага калегі адпавядалі ўяўленням, выпрацаваным на матэрыяле маскоўскага боку, аднак знайшліся і разыходжанні. Так, Н.Б. Шаламанава не пагадзілася з сапраўды памылковай думкай Я. Натансана-Лескага пра тое, што гомейская тэрыторыя XVII ст. не змянілася ў параўнанні з XVI ст. Наогул жа, частка дысертацыі Н.Б. Шаламанавай (на жаль, у большай частцы ненадрукаваная), у якой адлюстроўваецца, у прыватнасці, тэрытарыяльнае ўладкаванне і межы Гомейскай зямлі, да сённяшняга часу застаецца найбольш поўным і глыбокім даследаваннем разгляданай праблематыкі.

Як складовая частка вялікіх рэгіёнаў Гомейская зямля разглядалася ў працах М.К. Любаўскага (у Чарнігава-Старадубскім княстве вылучана акруга горада Гомея)[12], С.М. Кучыньскага і А.У. Русінай (у складзе Северскай зямлі)[13]. М.К. Любаўскага адрознівала скрупулёзная выбарка ўсіх згадваных у крыніцах населеных пунктаў, што адносіліся да той ці іншай тэрытарыяльнай адзінкі, хаця, як правіла, без сур'ёзных спроб іх лакалізацыі. С.М. Кучыньскі даў падрабязнае апісанне Гомейскай і сумежных з ёй валасцей. А.У. Русіна асаблівую ўвагу звяр-

---

7 Макушников О.А. В поисках древнего Гомия. Гомель, 1994. С. 25. Публікацыя ў Зборніку Муханава прывілея князю Івану Андрэевічу Мажайскаму з выкарыстаннем назвы горада ў форме «Гомель», відаць, з'яўляецца памылковай. Мадэрнізацыя тэксту — тыповая сітуацыя для археаграфіі XIX ст. (Сборник Муханова. СПб., 1866. № 58. С. 87, 88). На гэта звярнуў увагу А.А. Макушнікаў (Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. Гомель, 2002. С. 91. Прим. 17).

8 Форма напісання «Гомий» больш уласцівая старажытнарускаму перыяду (Макушников О.А. В поисках древнего Гомия. С. 26).

9 Л.А. Вінаградаў зрабіў, відаць, справядлівую выснову пра тое, што горад пачаў называцца Гомелем (Homel) «при польском владычестве, под влиянием латинского языка» (Виноградов Л.А. Гомель. С. 6).

10 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej.

11 Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России в XVI в. в связи с ее отношениями с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой.

12 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 289.

13 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy; Русина О.В. Сіверська земля у складі Великого Князівства Литовського.

нула на палітычную гісторыю Северскай зямлі, але асобна ёю быў прааналізаваны ўнікальны комплекс дакументаў першай чвэрці XVI ст. («Реестры границ») пад агульнай назвай «Память 1527 г.». З усіх рэестраў А.У. Русіна пракаментавала толькі тыя, што тычыліся чарнігаўскіх і любецкіх меж. Да іх была складзена карта, на якой, праўда, саміх меж пазначана не было[14].

Тэрыторыя і межы Гомейскай воласці другой паловы XVI ст. у рамках Рэчыцкага павета ВКЛ адлюстраваны на картах М.Ф. Спірыдонава[15]. Аснова яго гістарычных карт — гэта вынік шматгадовага даследавання — апрацоўкі велізарнай колькасьці крыніц[16]. Асобна трэба згадаць пра маленькую работу М.Ф. Спірыдонава — тэзісы даклада адной з канферэнцый[17]. Гэтая публікацыя важна тым, што яна прысвечана каштоўнай крыніцы — «Рэестру рэвізіі гаспадарскай Гомейскай воласці» 1560 г. з унікальнымі звесткамі па гістарычнай геаграфіі вывучаемага рэгіёна.

Непасрэдна гісторыя Гомея і яго ваколіц разглядаецца ў працах гісторыка-краязнаўчага і навукова-папулярнага кшталту Л.А. Вінаградава[18] і А.А. Макушнікава[19]. Апошняя, нягледзячы на свой навукова-папулярны характар, з'яўляецца сур'ёзным даследаваннем, у якім знайшлося месца для глыбокага аналізу крыніц і дакладнай лакалізацыі населеных пунктаў, што адносіліся да Гомея. Зусім нядаўна А.А. Макушнікаў надрукаваў фундаментальную навуковую працу з абагульненнем сваіх шматгадовых археалагічных даследаванняў[20]. На жаль, храналагічныя рамкі манаграфіі далёка адстаяць ад перыяду, які нас цікавіць, аднак назіранне за практычна ідэнтычным рэгіёнам даследавання дазваляе ў некаторых момантах пацвердзіць, у іншых канкрэтызаваць, а недзе і абвергнуць высновы, атрыманыя з пісьмовых матэрыялаў позняга сярэднявечча і пачатку Новага часу.

---

14 Русина О.В. Сіверська земля. С. 216.

15 Спірыдонаў М.Ф. Рэчыцкі павет у канцы XVI ст. 1: 2 200 000 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мінск, 2001. Т. 6. Кн. 1. С. 181; Ён жа. Рэчыцкі павет у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. Мінск, 2006. С. 42; Ён жа. Рэчыцкі павет у другой палове XVI ст. // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Мінск, 2006 (2-е выд.: Мінск, 2007). С. 533. Гл. таксама далёка не поўны пералік карт М.Ф. Спірыдонова, якія ілюструюць тэрыторыю Беларусі ў XVI ст.: Беларусь в конце XVI в. 1: 3 000 000 // Родина. 1993. № 4. С. 93; Беларусь в конце XVI в. 1:1 000 000 // Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.) Минск, 1993. Приложение; Беларусь у канцы XVI ст. 1: 2 578 000 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 2. Мінск, 1994. С. 394—395; Беларусь у канцы XVI ст. 1 : 2 578 000 // Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі: Ад старажытнасці да пачатку XX ст. Мінск, 1995. С. 90—91; Беларусь у другой палове XVI ст. 1 : 1 500 000 // Нацыянальны атлас Беларусі. Мінск, 2002. С. 266—267; Беларусь у канцы XVI ст. // Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Т. 18. Кн. 2. Мінск, 2004. С. 158—159; Беларусь у канцы XVI ст. // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. Мінск, 2005 (2-е выд.: Мінск, 2007). С. 16—17; Беларусь в конце XVI в. // Республика Беларусь: Энциклопедия: В 6 т. Т. 1. Минск, 2005. С. 212—213; Беларусь у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. Мінск, 2006. С. 22—23.

16 Поўную бібліяграфію работ М.Ф. Спірыдонава гл.: Памяць стагоддзяў на карце Айчыны: Спіс публікацый М.Ф. Спірыдонава // Зборнік навуковых прац у гонар 70-годдзя Міхаіла Фёдаравіча Спірыдонава. Мінск, 2007. С. 397—429.

17 Спиридонов М.Ф. Гомельская волость в 1560 г. // Тезисы докладов 1-ой Гомельской обл. научн. конф. по историческому краеведению (февраль 1989 г.). Гомель, 1989. С. 52—53.

18 Виноградов Л.А. Гомель.

19 Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в.

20 Макушников О.А. Гомельское Поднепровье в V — середине XIII вв.: Социально-экономическое и этнокультурное развитие. Гомель, 2009.

Не прэтэндуюць на строгую навуковую аснову, але, тым не менш, маюць вялікую інфармацыйную каштоўнасць працы філолага А.Ф. Рогалева пра геаграфічныя назвы Гомейшчыны[21]. Даследчык цягам доўгіх гадоў збіраў звесткі пра мясцовыя назвы ўрочышчаў, лясоў, балот і г.д., матэрыялы пра археалагічныя помнікі, легенды пра ўзнікненне населеных пунктаў, выпрацоўваў уласную думку пра гісторую засялення і развіццё структуры пасяленняў у наваколлях Гомея.

Пры вызначэнні меж той ці іншай устойлівай тэрытарыяльнай адзінкі неабходна звяртаць увагу не толькі на населеныя пункты і іншыя геаграфічныя арыенціры, што ўваходзяць у яе, але і на склад суседніх абласцей, чые межы на пэўным гістарычным адрэзку былі агульнымі з вывучаемай тэрыторыяй. Гомейская зямля на поўдні межавала з землямі, якія цягнулі да двух цэнтраў — Кіева і Чарнігава. На ўсходзе з ёй змыкаліся старадубскія землі. У этнапалітычным маштабе на гэтай прасторы складвалася будучая беларуска-расійска-ўкраінская мяжа. Непасрэднымі суседзямі Гомея былі Любецкая (і вылучаная з яе складу Лоеўская), Чарнігаўская і Старадубская воласці (староствы, паветы, уезды). Гістарычнай геаграфіі Кіеўшчыны, Чарнігаўшчыны і Старадубшчыны, а ў цэлым — Украіны[22], прысвечаны вялікі комплекс работ. Што датычыцца да разгляданага часу і блізкага да Гомейскай зямлі рэгіёна (Любеч, Лоеў, Чарнігаў, Старадуб), неабходна згадаць важнейшыя з іх.

Каштоўныя звесткі па гісторыі населеных пунктаў і мясцовага землеўладання на тэрыторыях, якія ў другой палове XIX ст. належалі да Чарнігаўскай епархіі, дае праца Філарэта (Ф.І. Гумілеўскага)[23]. Аўтар абагуліў звесткі надрукаваных да яго часу крыніц і гістарычных твораў, але, акрамя гэтага, часта дзяліўся сваімі асабістымі назіраннямі і выяўленымі дакументамі.

Унікальныя матэрыялы пра ўнутраную каланізацыю Левабярэжнай Украіны (Маларосіі) сабраў А.Л. Лазарэўскі[24]. У асноўным ім разглядаўся час з XVII ст., аднак уяўленне пра ступень заселенасці і гаспадарчай асвоенасці рэгіёнаў, сумежных з Гомейшчынай, нават праз стагоддзі дазваляе рабіць высновы і пра больш ранні час.

Фундаментальная праца польскага гісторыка А.В. Ябланоўскага дае вычарпальныя звесткі пра адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, распаўсюджанне землеўладання, населеныя пункты Кіеўскага ваяводства XVI — першай трэці XVII стст. (тут, перш за ўсё, цікавае апісанне Любецкага павета)[25]. Аснову абагульненняў статыстычнага характару склала шырокае кола актавых і справаводчых крыніц.

---

21 Рогалев А.Ф. Родные названия: Топонимический словарь Гомеля и окрестностей. Гомель, 2003; Ён жа. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. Гомель, 2004; Ён жа. От Гомиюка до Гомья: Городская старина в фактах, именах, лицах. Гомель, 2006.

22 Доўгі час Старадуб таксама адносіўся да тэрыторыі Украіны (Маларасіі).

23 Филарет, архим. (Ф.И. Гумилевский). Историко-статистическое описание Черниговской епархии. Кн. 5: Губ. город Чернигов. Уезды: Черниговский, Козелецкий, Суражский, Кролевецкий и Остерский. Чернигов, 1874; Кн. 6: Уезды: Новгород-Северский, Сосницкий, Городницкий, Конотопский и Борзенский. Чернигов, 1874; Кн. 7: Стародубский, Мглинский, Новозыбковский, Глуховский и Нежинский уезды. Чернигов, 1873.

24 Лазаревский А.М. Описание старой Малороссии: Материалы для истории заселения, землевладения и управления. Т. 1: Полк Стародубский. Киев, 1888.

25 Jabłonowski A. Polska XVI wieku pod względem geograficzno-statystycznym. T. IX. Ziemie ruskie. Ukraina (Kijów—Bracław). Dz. 1—3. 1894—1897; Яблоновский А. Левобережная Украина в XV—XVII ст. Очерк колонизации // Киевская старина. № 4. 1896. С. 85—101; № 5. 249—267; № 6. С. 369—379.

Класічнае ўяўленне аб тэрыторыі і мяжы Любецкага павета XVI ст. было сфарміравана ў працы П.Р. Кляпацкага[26]. Аўтар выкарыстаў люстрацыю Любеча 1571 г., «обвод» (рэестр меж) 1522 г. і на іх аснове склаў карту[27].

Нарэшце, найбольш плённа над гісторыяй Чарнігаўшчыны працуе сучасны украінскі даследчык І.В. Кандрацьеў. Ім былі грунтоўна вывучаны наваколлі Чарнігава XV — першай паловы XVII ст., звернута ўвага на лакальныя рэгіёны — Любецкую воласць і Лоеўскае староства[28]. Асобна хочацца адзначыць здзейсненую гісторыкам вычарпальную рэканструкцыю любецкай мяжы паводле рэестра 1522 г.

У выніку веды пра тэрыторыі суседніх з Гомейскай зямлёй рэгіёнаў дазваляюць удакладніць і скарэктаваць уяўленне пра яе паўднёвую і ўсходнюю мяжу.

Згодна з рашэннем урада ў Беларусі было здзейснена ўнікальнае выданне Кніг Памяці — своеасаблівай гісторыка-дакументальнай хронікі падзей па гарадах і раёнах рэспублікі (1985—2005 гг., 146 кніг)[29]. Да працы былі прыцягнуты розныя калектывы аўтараў, таму ў форме падачы і ўзроўні распрацоўкі матэрыялу для кожнага тома ёсць істотныя адрозненні. Даўні перыяд гісторыі ад тома да тома разглядаўся па-рознаму: ад беглага павярхоўнага агляду да скрупулёзнага аналізу крыніц з прыцягненнем архіўных матэрыялаў. Структурны падзел не заўсёды захоўваўся, але, як правіла, да раздзелаў, прысвечаных таму ці іншаму гістарычнаму перыяду, дадаваліся выбаркі крыніц («Дакументы сведчаць»), звычайна — урыўкі з ужо надрукаваных дакументаў. Аднак, напрыклад, у кнігу «Памяць» Чачэрскага раёна ўвайшла да гэтага часу не надрукаваная люстрацыя Чачэрскага староства за 1765 г., перакладзеная на беларускую мову[30]. У многіх тамах серыі прысутнічаюць раздзелы «З гісторыі населеных пунктаў», у якіх сабраны звесткі пра першыя згадкі паселішчаў раёна, пазначаны археалагічныя помнікі ў іх ваколіцах, коратка распавядаецца пра звязаныя з імі падзеі, памятныя мясціны, знакамітых мясцовых ураджэнцаў і г.д.

---

26 Клепатский П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Литовский период. Біла Церква, 2007.

27 Тамсама. С. 231.

28 Кондратьєв І.В. Під Литвою, Москвою та Польщею (до історії сіл Чернігівського району у XV — першій половині XVII ст.). Чернігів, 2005; Ён жа. Любецька волость у 1471—1480 рр. // Вісник Чернігівського державного педагогічного університету. Вип. 73. Серія: Історичні науки. № 6. Чернігів, 2009. С. 110—115; Ён жа. Любецька волость наприкінці XV — на початку XVI ст. // Сіверянський літопис. 2006. № 6. С. 27—37; Ён жа. Любецька волость у першій половині — середині XVI ст. // Сіверянський літопис. 2008. № 1. С. 22—30; Ён жа. Лоєвська округа у XVI ст. (до 420-річчя утворення Лоєвського староства) // Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты, Каментарыі: Матэрыялы міжнароднай навук.-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю ўтварэння г.п. Лоеў (Лоеў, 20 кастрычніка 2005 г.) / Рэд. кал. С.А. Чаропка (адк. рэд.) і інш. Гомель, 2006. С. 27—30; Ён жа. Лоєвське староство у 1585 — середині XVII ст. // Пятыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 22—23 верасня 2005 г. Гомель, 2005. С. 195—204.

29 У рабоце выкарыстоўваліся наступныя тамы серыі: Памяць: Брагін. р-н: Гіст.-дакум. хронікі гарадоў і р-наў Беларусі / Уклад. І.Ф. Ганжураў. Мінск, 2003; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Буда-Кашалёўскага р-на. У 2 кн. Кн. 1 / Уклад. У.Я. Райскі. Мінск, 2001; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Веткаўскага р-на. У 2 кн. Кн. 1 / Уклад. У.Я. Райскі. Мінск, 1997; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Веткаўскага р-на. У 2 кн. Кн. 2 / Уклад. У.Я. Райскі. Мінск, 1998; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Гомельскага р-на. У 2 кн. Кн. 1 / Уклад. М.З. Башлакоў, Т.А. Карасік. Мінск, 1998; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Гомельскага р-на. У 2 кн. Кн. 2 / Уклад. М.З. Башлакоў, Т.А. Карасік. Мінск, 1998; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Рагачоўскага р-на. Мінск, 1994; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Рэчыцкага р-на. У 2 кн. Кн. 1 / Уклад. П.П. Рабянок. Мінск, 1998; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Чачэрскага р-на / Уклад І.Я. Райскі, Я.А. Шыпенка. Мінск, 2000.

30 З люстрацыі Чачэрскага староства… // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Чачэрскага р-на. С. 66—73.

Некаторыя карысныя назіранні і заўвагі можна ўзяць з прац, прысвечаных знешняй палітыцы Расіі. Так, у даследаванні К.В. Базілевіча падрабязна апісваецца новая літоўска-маскоўская мяжа 1503 г., паводле якой Гомей быў пакінуты на маскоўскім баку[31]. Гісторык памыляўся ў вызначэнні складу гомейскіх сёл, што сведчыла пра яго няўвагу да вывучаемай тэрыторыі, але прыкладзеная да манаграфіі падборка карт, выкананая І.А. Галубцовым, якая ілюструе, напрыклад, далучэнне да Масквы «спрадвечна рускіх зямель»[32], без сумнення, значна павялічыла навуковую значнасць працы.

Даследаванні, прысвечаныя генеалогіі і біяграфіі князёў, якія ўваходзілі ў лік найбольш знакамітай расійскай і літоўскай арыстакратыі, даюць неабходныя звесткі пра палітычных дзеячоў, чыё жыццё ў той ці іншай ступені было звязана з Гомеем (удзельныя князі Старадубскага княства, намеснікі памежных валасцей ВКЛ і г.д.)[33].

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на даследаванні М.М. Крома[34]. Нягледзячы на прыярытэт у разглядзе маскоўска-літоўскіх палітычных стасункаў канца XV — першай трэці XVI ст. і меншую ўвагу да гісторыка-геаграфічных характарыстык разглядаемых падзей, гісторык асвятляе праблемы, звязаныя і з тэрыторыяй Гомейскай зямлі. Так, ім былі рэканструяваны працэс фарміравання тэрыторыі Старадубскага княства ў другой палове XV ст. (у княства ўваходзіў і Гомей), раскрыты прычыны вяртання Гомейскай зямлі ў склад ВКЛ у 1537 г. Адказы на многія іншыя пытанні, звязаныя з узаемаадносінамі дзвюх суседніх дзяржаў, ходам маскоўска-літоўскіх войнаў канца XV — першай трэці XVI ст., што маюць другаснае значэнне для гэтай працы, чытач можа знайсці ў даследаваннях М.М. Крома. Высновы гісторыка былі пацверджаны і цудоўна праілюстраваны дзякуючы выданню ім часткі архіву Радзівілаў першай паловы XVI ст.[35]. У гэтым комплексе дакументаў маюцца ўнікальныя, да публікацыі М.М. Крома не ўведзеныя ў навуковы ўжытак звесткі, якія датычацца, у прыватнасці, гісторыі Гомея і ягонай тэрыторыі.

Падводзячы вынікі агляду работ, у той ці іншай ступені звязаных з вывучэннем Гомейскай зямлі, можна сцвярджаць, што тэрыторыя Гомейскай зямлі ўжо

---

31 . Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 518—521.

32 Прыведзеная частка назвы карты для сучаснага чытача можа падацца тэндэнцыйнай. Аднак ідэя пераходу правоў на ўсе рускія землі ад Кіева да Масквы (і звязаныя з гэтым прэтэнзіі на тэрыторыі суседніх дзяржаў) дастаткова традыцыйная і каранямі сыходзіць да часу маскоўска-літоўскіх канфліктаў канца XV в. Погляд на захоп Расіяй тэрыторыі ВКЛ, а затым Рэчы Паспалітай як на «вяртанне» адвечных рускіх зямель панаваў у расійскай дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі і замацаваўся сярод савецкіх гісторыкаў. На жаль, і ў гістарычных даследаваннях сучаснай Расіі можна сустрэць адгалоссе ідэалогіі, што панавала не так даўно, у адпаведнасці з якой маскоўска-літоўскія войны канца XV — першай трэці XVI ст. былі крокамі «в освобождении русских земель от литовского владычества» (Алексеев Ю.Г. Победа на Ведроше // Rossica antique 2006. Исследования и материалы. СПб., 2006. С. 342).

33 Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku; Зимин А.А. Служилые князья в Русском государстве конца XV — первой трети XVI в. // Дворянство и крепостной строй России XVI—XVIII вв. Сб. ст. М., 1975. С. 28—56; Ён жа. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV — первой трети XVI в. М., 1988; Бычкова М.Е. Состав класса феодалов России в XVI в.

34 Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в.; Ён жа. Стародубская война (1534—1537). Из истории русско-литовских отношений. М., 2008.

35 Памятники истории Восточной Европы. Источники XV—XVII вв. Т. VI. Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в. / Составитель М.М. Кром (далей: Радзивилловские акты). М.; Варшава, 2002.

была аб'ектам даследавання. Вызначаны склад яе населеных пунктаў, на аснове пісьмовых крыніц і дадзеных археалогіі зроблены спробы рэканструкцыі меж Гомейскай воласці ў XII—XIV ст., нарэшце, намечаны адрэзкі гомейскіх меж, якія былі ў розны час часткамі дзяржаўнай мяжы паміж Вялікімі Княствамі Літоўскім і Маскоўскім. Аднак да гэтага часу не існуе спецыяльнай работы, дзе б разглядалася трансфармацыя тэрыторыі Гомейскай зямлі ад воласці-павета да ўезда і ад уезда да староства, абставіны і прычыны такіх перамен. Так, Н.Б. Шаламанава, хаця і заяўляла пра зменлівы характар гомейскіх меж, але, тым не менш, не прасачыла іх дынамікі. Укараніліся ўяўленні пра адпаведнасць і прамую пераемнасць тэрыторыі Гомейскай воласці старажытнарускага перыяду з часамі ВКЛ і кароткачасовага маскоўскага кіравання, без увагі да змен, якія адбываліся на рубяжы XV—XVI стст.

Вывучэнне тэрыторыі Гомейскай зямлі ўскладняецца вузкасцю крыніцазнаўчай базы. Для XV ст. адзінкавыя згадкі ў пісьмовых крыніцах населеных пунктаў, якія адносіліся да Гомея — гэта ўсё, што маюць даследчыкі. Для XVI ст. даступны наступныя крыніцы: маскоўска-літоўскія дамовы, матэрыялы пасольскіх кніг, асобныя акты Літоўскай метрыкі, рэестры меж першай чвэрці XVI ст., апісанне (інвентар) Гомейскай воласці 1560 г. Згодна з імі ўзнаўляецца даволі поўная карціна тэрытарыяльнага ўладкавання Гомейскай зямлі ў XVI ст. і рэканструюецца яго стан у папярэдні час.

Пераважная большасць выкарыстаных у працы крыніц адносіцца да групы пісьмовых — справаводчых (актавыя матэрыялы, пасольскія кнігі, інвентары і інш.) і наратыўных (летапісы, хронікі). Пры гэтым другая група пісьмовых крыніц мае другаснае значэнне.

Археалагічныя дадзеныя служаць толькі для дапаможных мэтаў — яны выкарыстоўваюцца пры працы з пісьмовымі крыніцамі, як правіла, для пацвярджэння лакалізацыі населеных пунктаў. Паселішчы, якія ўпершыню згадваюцца ў XV—XVII стст. і пазней, па звестках археалогіі існавалі і раней, што дазваляе з большай дакладнасцю вызначыць тэрытарыяльны склад Гомейскай зямлі для таго часу, калі звесткі пра яе ў пісьмовых крыніцах былі нешматлікімі. Таксама ў выпадках сумненняў пры лакалізацыі нейкага населенага пункта пэўная ступень верагоднасці ўзнікае, калі ў наваколлях або на тэрыторыі самога паселішча існуе археалагічны помнік (гарадзішча, селішча, магільнік і г.д.).

Крыніцы летапіснага характару даюць даты тэрытарыяльных набыткаў маскоўскага або літоўскага боку, звесткі пра дамовы паміж суседзямі, падзелы маёмасці паміж спадкаемцамі і г.д., не раскрываючы ў падрабязнасцях ні маштабаў набыткаў, ні абласцей падзеленых сфер уплыву, ні меж раздадзеных зямель. У летапісах і хроніках цалкам адсутнічаюць звесткі пра тэрытарыяльную структуру Гомейскай зямлі. Так, яшчэ ў летапісным артыкуле за 1142 г. сустракаецца ўскоснае сведчанне пра існаванне вакол Гомея групы паселішчаў[36], але назвы некаторых з іх пачынаюць з'яўляцца ў крыніцах толькі з другой паловы XV ст.

У той жа час нават адзінкавыя звесткі пра гомейскія населеныя пункты, раскіданыя па кнігах Літоўскай метрыкі, у выніку запаўняюць прастору вакол Гомея і дазваляюць зрабіць высновы пра структуру яго паселішчаў з сярэдзіны XV ст. Група справаводчых крыніц складае аснову даследавання.

Памежны стан Гомейскай зямлі адбіўся ў маскоўска-літоўскіх дамовах XVI ст. (1503, 1508, 1522, 1526, 1537, 1542, 1549, 1553, 1556, 1567 (планавалася), 1570, 1578 і 1582 гг.). Спецыфіка дакумента мае пад сабой дакладнае вызначэнне памежнай лініі ў тых месцах, дзе парушалася цэласнасць буйных адміністрацыйна-тэрытарыяльных

[36] ПСРЛ. Т. II. М., 2001. Стб. 311.

адзінак. І сапраўды, у раёне Гомея называецца шэраг населеных пунктаў, якія выразна пазначаюць сфарміраваны на пачатку XVI ст. участак літоўска-маскоўскай мяжы.

Маскоўска-літоўскія дамовы XVI ст. з'яўляюцца неад'емным складнікам пасольскіх кніг[37]. Яны арганічна ўплятаюцца ў структуру крыніцы, як бы падсумоўваючы і падводзячы вынікі пасольскім прамовам, зваротам, скаргам, самому ходу перамоў. Інфармацыйная недастатковасць дамоў, на якую звярталі ўвагу даследчыкі, адыходзіць на другі план, бо выкладзены ў іх змест доўгага перамоўнага працэсу раскрывае змест незразумелых месцаў і недамоваак дагаворных грамат[38].

Раёны ваеннай напружанасці ў наваколлях Гомея выразна фіксуюцца дзякуючы ўказанням пасольскіх кніг, на якія сёлы і валасці рабіліся нападзенні, што за тэрыторыі былі заняты тым або іншым бокам, адкуль і куды забралі людзей і жывёлу і г.д. З дапамогай лакалізацый адзначаных геаграфічных аб'ектаў вызначаецца памежны рэгіён, а пасля пазначаецца з даволі высокай дакладнасцю лінія літоўска-маскоўскай мяжы.

Пасольскія кнігі не толькі дапамагаюць вызначыць лінію гомейскай мяжы ў тых выпадках, калі іншых крыніц недастаткова, але і паказваюць яе няўстойлівы характар і, наогул, выяўляюць працэс паступовага пашырэння маскоўскай улады на землі ВКЛ.

Акрамя таго, гэтая крыніца змяшчае ўнікальныя звесткі пра тэрытарыяльную структуру памежных рэгіёнаў Вялікіх Княстваў Маскоўскага і Літоўскага. Мы назіраем ломку ранейшага адміністрацыйнага падзелу ВКЛ і пры гэтым заўважаем мерапрыемствы па стварэнні новых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак у складзе Вялікага Княства Маскоўскага.

У гады маскоўска-літоўскай канфрантацыі былі складзены рэестры чарнігаўскіх, любецкіх, мглінскіх, рослаўльскіх і мсціслаўскіх меж[39]. З'яўленне гэтай унікальнай крыніцы даследчыкі адносяць да рознага часу паміж 1522—1527 гг.[40], але, відаць,

[37] У даследаванні выкарыстоўваліся наступныя публікацыі пасольскіх кніг, якія датычацца літоўска-маскоўскіх стасункаў і ахопліваюць перыяд з канца XV да сярэдзіны XVI в.: Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I; Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. II // СИРИО. Т. 59. СПб., 1887; «Выписка из посольских книг».

[38] Пра пасольскія кнігі як крыніцы па вывучэнні літоўска-маскоўскай мяжы гл.: Темушев В.Н. Сведения о московско-литовском пограничье в посольских книгах времени Ивана III // Труды кафедры истории России с древнейших времен до XX века. СПб., 2006. С. 294—306.

[39] Границы Литовского государства с вел. кн. Московским, с показанием числа домов в пограничных селениях // МАМЮ. Т. 1. М., 1897. С. 63—67; «Пам'ять» 1527 р. // Русина О.В. Сіверська земля. С. 207—215.

[40] М.В. Доўнар-Запольскі, складальнік першай публікацыі «Рэестраў» — да 1523 г. (Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897. Т. 1. С. 63), М.К. Любаўскі — да 1526 г. (Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892. С. 288). А.У. Русіна абгрунтоўвае іншую дату — 1527 г. Увесь комплекс дакументаў названы даследчыцай «Памяццю» 1527 г. (Русина О.В. Сіверська земля. С. 14). Сама А.У. Русіна прызнае, што больш распаўсюджаная дата 1526 г. Пры гэтым яна адкідае дату 1523 г. на той падставе, што, на яе думку, тэкст аднаго з рэестраў (а менавіта рослаўльска-мсціслаўскай мяжы) увайшоў у склад літоўска-маскоўскай дамовы 1526 г. (Русина О.В. Сіверська земля. С. 18). Аднак і ў дамове 1522 г. прысутнічае ідэнтычны фрагмент тэксту (СИРИО. Т. 35. № 102. С. 744—745). Нарэшце, А.А. Мяцельскі адносіць час складання «Рэестраў» да 1522 г. (Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў: Гіст.-археал. нарыс горада ад старажыт. часоў да канца XVIII ст. Мінск, 2003. С. 124). Такім чынам, у гэтай працы адносна да ўсяго комплексу дакументаў будзе ўмоўна выкарыстоўвацца датыроўка 1522 г.

прамое ўказанне крыніцы на тое, што «Мглын город Мстиславского повету, за московским, а вжо тому есть 20 и 3 лета, зо всимъ»[41], сведчыць на карысць складання рэестраў у 1523 г., а дакладней у 1522 г.[42], калі 2 часткі рослаўльскага рэестра («Граница роцлавская со Мъстиславлем» и «от Крычова городу Рославлю рубеж»)[43] былі прыняты ў склад літоўска-маскоўскай дамовы аб перамір'і.

Рэестры меж дэталёва выяўляюць памежную зону ў вывучаемым рэгіёне, прычым ахопліваюць не толькі міждзяржаўныя межы (паміж ВКЛ і Вялікім Княствам Маскоўскім), але і ўнутраныя межы маскоўскіх уездаў. Комплекс рэестравых звестак, на думку А.У. Русінай, належыць да апошніх дзесяцігоддзяў XV ст. і, у сувязі з гэтым, складанне большасці з іх не мела мэтай фіксаванне літоўска-маскоўскай мяжы (тады яна была яшчэ далёка), а з'яўлялася хутчэй за ўсё вопісам страчаных на пачатку XV ст. ВКЛ уладанняў[44].

Уся сукупнасць рэестраў 1522 г. дае звесткі толькі пра паўднёвыя межы Гомейскай зямлі, прычым па абодвух баках р. Сож. Заяўлены ў мглінскім рэестры рубеж, які «пришол из Гомглия Ипуть река»[45], не тычыцца непасрэдна гомейскай мяжы, як меркавала А.У. Русіна[46], а проста канстатуе факт таго, што р. Іпуць упадае ў р. Сож каля Гомея. Мглінская мяжа пачыналася ад Іпуці, умоўна ідучы ад самога Гомея. На самой справе Гомейская і Мглінская воласці не мелі агульных меж, паміж імі ляжалі вялікія прасторы Старадубскага павета.

Найбольш значны дакумент, у якім фіксуецца стан Гомейскай зямлі ў сярэдзіне XVI ст. — так званы «Реестр ревизии господарской Гомейской волости». Большасць даследчыкаў безагаворочна адносяць яго да 1560 г. і даюць яму ўказаную назву[47]. Аднак у дзвюх публікацыях гэтай крыніцы пастаўлена дата 1640 г. або 164... г. (з пропускам). Таксама і загаловак гучыць інакш: «Опись королевской волости, принадлежащей к Гомейскому староству...» і «Инвентарь Гомейского староства»[48].

Н.Б. Шаламанава выкарыстала «Рэестр», не сумняваючыся ў тым, што яго звесткі адлюстроўваюць стан Гомейскай воласці ў сярэдзіне XVII ст. Невыпадкова даследчыца палічыла думку Я. Натансана-Лескага памылковай, а ён заўважыў адпаведнасць апісання 1640 г. (як ён думаў) гомейскай мяжы 1537 г. і нават знаходзіў тлумачэнне згадцы «маскоўскай мяжы» ў тым раёне, дзе яна не магла быць у сярэдзіне XVII ст. (Северпічына з 1618 г. увайшла ў склад Рэчы Паспалітай), яе навізной[49]. На самой жа справе, звяртаючыся да апісання-інвентара 1640-х гг., заўважаючы нават прамыя ўказанні на яго складанне пры гомейскім старасце Аляксандры Служку (якраз той час), мы карыстаемся дакументам, які па змесце, безумоўна, адносіцца да сярэдзіны XVI ст. Як бачым, інтуітыўна Я. Натансан-Лескі разумеў гэта, але для поўнага пераканання варта супаставіць тэкст «Описи» з «Выписью из донесения ревизоров

41 «Пам'ять» 1527 р. С. 212.

42 1523 год з'явіўся з-за недакладнага вызначэння даты заключэння літоўска-маскоўскага перамір'я.

43 «Пам'ять» 1527 р. С. 212, 213; Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. С. 67.

44 Русина О.В. Сіверська земля. С. 21.

45 «Пам'ять» 1527 р. С. 211.

46 Русина О.В. Сіверська земля. С. 17.

47 Магчыма, першым датаваў пазначаны дакумент 1560-м годам Л.А. Вінаградаў (Виноградов Л.А. Гомель. С. 15). Даследчык таксама адзначыў той факт, што захавалася толькі апошняя частка апісання, складзенага пры старасце Тышкевічу (Тамсама).

48 АЗР. Т. V. СПб., 1853. № 16. С. 37—67; АВАК. Т. XIII. Вильна, 1886. № 100. С. 343—377.

49 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 135. Prz. 235.

Нарушевича и Воловича», складзенай у 1560 г. і датычнай уладанняў царквы св. Спаса ў Гомеі[50]. Згадкі ўсіх асоб, зямель, уладанняў, нават вялікія фрагменты тэксту цалкам ідэнтычныя дакумента, аднесенаму да 1640 г. Нават пра некаторых людзей вядзецца гаворка ў цяперашнім часе як у першым, так і ў другім дакументах.

Яшчэ адно ўказанне на складальнікаў, час і нават загаловак разгляданага дакумента дае «лист» караля, вялікага князя Жыгімонта Аўгуста да гаспадарскага маршалка, гомейскага старасты і шарашоўскага дзяржаўцы, пана Каленіцкага Васільевіча Цішкевіча, датаваны 10 студзеня 1566 г.[51]. Са зместу ліста высвятляецца, што «будучи у Гомьи ревизоромъ ... марьшалок нашъ, староста слонимъскии, пан Григореи Воловичъ а писарь и секретаръ нашъ, державъца марковъскии и мяделскии, панъ Миколаи Нарушевичъ» памылкова прыпісалі да замка зямлю Пакалюбічы (Пакалюбаўшчыну), якая належала мясцоваму баярыну Івану Хамаровічу, пра што «и в реестре своемъ описали»[52]. Цяпер, па загадзе караля, зямля Пакалюбічы з усімі сенажацямі вярталася да свайго ранейшага гаспадара[53].

Дадатковыя звесткі пра рэвізораў, якія праводзілі апісанне Гомейскай воласці, важныя яшчэ і таму, што ў тэксце захаванага Рэестра і, адпаведна, у ягонай публікацыі, ёсць значныя пропускі. Згадваецца толькі рэвізор Валовіч (Wołłowicz), маршалак, хаця сказана, што рэвізія замка, горада і воласці («rewizyi zamku, miasta y włości») праводзілася панамі («przez zeszłych imć panów»)[54].

З другой публікацыі разгляданага дакумента становіцца зразумелым, што ён з'яўляецца так званым уключаным актам у кнігу Галоўнага літоўскага трыбунала (за 1752 г.)[55]. Але, што характэрна, у гэтую вышэйшую апеляцыйную інстанцыю ВКЛ быў пададзены дакумент менавіта 1640-х гг.[56], а вось у складзе апошняга аказаўся рэестр 1560 г., дакладней, вытрымка з яго, мяркуючы па словах з уводзін да тэксту («extrakt inwentarza y ograniczenia starostwa Homelskiego»[57]). Можа, у гэтым прычына таго, што апісанні ўласна замка і места (горада) далей па тэксце няма, ёсць толькі рэестр воласці замка гаспадарскага Гомейскага.

Можна таксама выказаць здагадку, што трокскага ваяводу Аляксандра Служку апісанне замка на той момант зусім не цікавіла. Для яго мэтаў былі патрэбны звесткі менавіта пра гомейскія землі. Справа ў тым, што 27 жніўня 1646 г. А. Служка атрымаў ад караля права 10 гадоў эксплуатаваць лясныя рэсурсы гомейскіх пушчаў[58]. Таму з рэестра 1560 г. і была зроблена выпіска толькі з апісаннем Гомейскай воласці. Таксама можна асцярожна прапанаваць іншую дату складання гэтай выпіскі, 1646 г.

Характэрна, што менш чым за 3 гады да гэтага (2 снежня 1643 г.) той самы Аляксандр Служка — трокскі ваявода і прапойскі стараста — атрымаў такое ж права на

---

50 АЮЗР. Т. 1. СПб., 1863. № 142. С. 153.

51 Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 44: Кніга запісаў 44 (1559—1566) / Падрыхт. А.І. Груша. Мінск, 2001. № 91. С. 105—106.

52 Тамсама. С. 105. У «Рэестры» сапраўды гаворыцца пра тое, што зямля Пакалюбіцкая з сенажацямі была «на фольварок замковый зоставлено» (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 375).

53 Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 44. С. 106.

54 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 343—344.

55 Lietuvos valstybės istorijos archyvas. F. SA. Bib. 115. P. 253—288.

56 «Roku tysiąc sześćset cztyr...», далей пропуск (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 343).

57 Тамсама.

58 Літаральна: на выраб на працягу 10 гадоў лясных тавараў у Гомельскіх пушчах («na robienie przes dziesiec lat towarow lesnyh w Puszczach Homelskich») (НГАБ. КМФ—18. Воп. 1. Спр. 119. Арк. 659).

10-гадовую эксплуатацыю лясных угоддзяў, але ў Прапойскім старостве[59]. У 1646 г. А. Служка названы ўжо гомейскім старастам. З набыццём яшчэ адной пасады ён, канечне ж, і зацікавіўся апісаннем падапечнай тэрыторыі[60].

Поўнае апісанне Гомейскай воласці, здзейсненае рэвізорамі Г. Валовічам і М. Нарушэвічам, магчыма, насіла назву «Реестр ревизии замка, места и волости староства Гомейского»[61], аднак да нас дайшла толькі вытрымка (extrakt) з яго, дзе апісваецца «волость замку господарского Гомейского»[62]. Таму гэты апошні дакумент быў справядліва названы як «Реестр ревизии господарской Гомейской волости». Для мэтаў дадзенага даследавання менавіта гэтая трэцяя частка рэестра найбольш цікавая.

Дакумент першапачаткова быў напісаны па-руску («po ruski»), але потым транслітараваны лацінскімі літарамі («z ruskiego języka na polski język przetłumaczonego»)[63]. Верагодна ўжо пры «перакладзе» былі скажоны назвы некаторых паселішчаў. А пры публікацыі дакумента незразумелыя месцы таксама маглі сказіцца. Прынамсі, паміж варыянтамі тэкстаў, выдадзеных у 1853 і 1886 гг., ёсць разыходжанні.

Складанне апісання Гомейскай воласці праводзілася ў рамках рэарганізацыі сістэмы землекарыстання і абкладання сялян у гаспадарскіх Падняпроўскіх («Рускіх») валасцях ВКЛ (Бабруйскай, Гомейскай, Крычаўскай, Магілёўскай, Мазырскай, Свіслацкай і інш.)[64]. «Постановенье и поровнанье платов и пожитков» было больш мяккім аналагам аграрнай рэформы («померы волочной»), што праводзілася на астатняй тэрыторыі ВКЛ[65]. Пры гэтым асцярожнае стаўленне ўлад ВКЛ да традыцый і нормаў падняпроўскіх валасцей было самым шчыльным чынам звязана з іх памежным становішчам[66].

Рэалізацыя рэформы на ўсходзе ВКЛ была даручана слонімскаму старасце пану Грыгорыю Валовічу (які займеў значны досвед у падобных справах дзякуючы рэвізіі гаспадарскіх пушчаў) і гаспадарскаму сакратару, маркаўскаму і мядзельскаму дзяржаўцы пану Мікалаю Нарушэвічу[67]. На працягу 1560—1561 гг. яны ажыццявілі «поравнения кгрунтов» «для постановенья платов» — правялі ўлік

---

59 НГАБ. КМФ—18. Воп. 1. Д. 114. Л. 301.

60 В. Галубовіч падае спасылкі на два згаданыя дакументы, але піша толькі пра пажалаванне права экплуатаваць Гомельскія пушчы і лясы. Пры гэтым, насуперак тэксту, даецца іншая дата гэтай падзеі — 28 лютага 1643 г. (Галубовіч В. Дакументы па гісторыі Рэчыцкага павета ў кнігах запісаў метрыкі Вялікага Княства Літоўскага за перыяд праўлення Уладзіслава IV Вазы // Трэція Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 14—15 верасня 2001 г. Мінск, 2002. С. 251). Між тым, «dnia XXVII msca sierpnia roku Panskiego MDCXLVI» — гэта, безумоўна, 27 жніўня 1646 г. (НГАБ. КМФ—18. Воп. 1. Спр. 119. Арк. 659).

61 Гэта ўгадваецца па ўводнай частцы дакумента са шматлікімі пропускамі: «extrakt… rewizyi zamku, miasta y włości… Homelskiego» (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 343).

62 Тамсама. С. 344.

63 Тамсама.

64 Спірыдонаў М.Ф. Сялянства ў перыяд усталявання паншчыны і прыгонніцтва // Гісторыя сялянства Беларусі: у 3 т. Т. 1. Мінск, 1997. С. 78, 84—85.

65 Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Минск, 1993. С. 73.

66 Голубеў В.Ф. Абшчына ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці насельніцтва Горвальскай воласці Рэчыцкага павета (Паводле інвентарных апісанняў першай паловы—сярэдзіны XVIII ст.) // Чацвёртыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 18—19 верасня 2003 г.: у 2 ч. Ч. 2. Гомель, 2004. С. 64; Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. Мінск, 2008. С. 111.

67 Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. М., 1958. С. 243; Спірыдонаў М.Ф. Сялянства ў перыяд усталявання паншчыны і прыгонніцтва. С. 78.

якасці і колькасці сялянскіх надзелаў для назначэння з іх плацяжоў[68]. Складанне інвентарных апісанняў (інвентароў, рэестраў рэвізіі, рэестраў) было адным з галоўных мерапрыемстваў рэформы.

Пазней кантроль стану таго ці іншага маёнтка і складанне рэестраў, інвентароў, люстрацый сталі звычайнай з'явай. Для дапаможных мэтаў (лакалізацыя зніклых паселішчаў, назіранне за зменамі тэрытарыяльнага складу і г.д.) у працы актыўна выкарыстоўваліся апісанні XVII—XVIII стст. як самога Гомейскага староства, так і суседніх з ім адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак.

Спецыфічныя крыніцы, якія выкарыстаны ў гэтым даследаванні, — спісы населеных месцаў і картаграфічныя матэрыялы.

Спісы населеных месцаў даюць звесткі пра адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел разгляданага рэгіёна, назвы існуючых на пэўны момант часу населеных пунктаў з пазначэннем іх месцазнаходжання і статыстычныя звесткі (колькасць двароў, насельніцтва і г.д.). Для вывучэння тэрыторыі Гомейскай зямлі выкарыстоўваліся спісы паселішчаў Магілёўскай губерні (Гомейскага, Рагачоўскага і іншых уездаў), з дадзенымі перапісу 1897 г.[69] і Гомейскай акругі, з дадзенымі 1926 г.[70]. Населеныя пункты сумежнага рэгіёна прасочваліся паводле спісаў населеных месцаў Чарнігаўскай губерні (1866 і 1924 гг.)[71]. Акрамя таго, апроч карт Генеральнага межавання канца XVIII ст., выкарыстоўваўся спіс населеных пунктаў, узяты з эканамічных заўваг да іх[72].

Спісы населеных мест дзякуючы сваёй спецыфіцы не прапускаюць ніводнага паселішча і ствараюць вычарпальную карціну засялення той ці іншай тэрыторыі. У той жа час інфармацыя, адлюстраваная на картах, бывае далёка не поўнай і залежыць як ад маштабу самой карты, так і ад многіх іншых фактараў (прызначэння карты, узроўню ведаў мясцовасці і г.д.)[73]. Пэўную цікавасць маюць карты, што з'яўляюцца з канца XVIII ст. Карты, складзеныя раней, у большасці маюць умоўны характар адлюстравання мяцовасці, меж, месцазнаходжання населеных пунктаў. Нават размеркаванне населеных пунктаў паміж адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі ВКЛ часам не адпавядае сапраўднасці. Напрыклад, Магілёў і Быхаў на картах да апошняй чвэрці XVIII ст. пазначаліся ў складзе Мсціслаўскага ваяводства[74],

---

68 Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. С. 244; Спірыдонаў М.Ф. Сялянства ў перыяд усталявання паншчыны і прыгонніцтва. С. 84—85; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі: XVI—XVIII стст. Мінск, 1992. С. 53.

69 Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.

70 Список населенных мест Гомельского округа. Гомель, 1927.

71 Список населенных мест Российской империи. Черниговская губерния. СПб., 1866; Список населенных мест Черниговской губернии. Чернигов, 1924.

72 Спіс населеных пунктаў усходнебеларускіх губерняў у 1783—1785 гг. // Анішчанка Я.К. Генеральнае межаванне ў Беларусі. Дапаўненне да кнігі «Генеральнае межаванне на Беларусі». Горкі—Магілёў, 2002. С.38—120.

73 Агляд картаграфічных крыніц XVII — першай паловы XIX ст. гл. у наступных работах: Медушевская О.М. Картографические источники XVII—XVIII вв. М., 1957; Яна ж. Картографические источники первой половины XIX в. М., 1959.

74 Гл., напрыклад: Perthees de H.K. Polonia secundum legitimas proiectionis stereographicae regulas et iuxta recentissimas observationes adhibitis. MDCCLXX // Madej J. «Polonia… 1770» Karola de Perthéesa na tle osiemnastowiecznej kartografii polskiej i krajów ościennych. Warszawa, 1987; Carte generale de la Pologne avec tous les Etats qui en dependent dressee… par M. Rizzi Zannoni de la Societe Cosmog. de Gottingue. [po 1772]. Skala ok. 1 : 4 000 000 // POLONIA. Atlas map z XVI—XVIII wieku. Warszawa, 2005. S. 24.

хаця на самой справе гэтыя гарады адносіліся да Аршанскага павета Віцебскага ваяводства[75]. Тыповай памылкай было правядзенне мяжы Расіі з Рэччу Паспалітай уздоўж ракі Сож ці крыху на ўсход ад яе, гэта значыць у непасрэднай блізкасці ад Гомея[76].

Маштаб карт, створаных да сярэдзіны XVIII ст., таксама пакідае жадаць лепшага. Толькі нешматлікія карты, напрыклад, Караля Германа дэ Пэртэеса (Перці), або Антонія Рыццы-Дзаноні, ці Якуба Кантэра, складзеныя напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай, вельмі падрабязна ілюструюць вобласці велізарнай дзяржавы[77].

Гомей увайшоў у склад Расійскай імперыі ўжо пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.). Хутка ў новых расійскіх уладаннях (ва ўтвораных Полацкім і Магілёўскім намесніцтвах[78]) пачало праводзіцца так званае Генеральнае межаванне. Ужо ў 1772—1782 гг. з дапамогай межавой канцылярыі была закартаграфавана і апісана вялікая колькасць маёнткаў Беліцкага, Клімавіцкага і іншых уездаў (акруг) Магілёўскага намесніцтва (губерні)[79].

Асноўныя мерапрыемствы па межаванні Магілёўскага і Полацкага намесніцтваў праводзіліся ў 1783—1785 гг. Смаленскай межавой канторай на чале са стацкім саветнікам В.С. Вакселем[80]. Яе праца выявілася ў стварэнні Генеральных планаў уездаў у маштабе 500 сажняў у дзюйме і рознамаштабных Генеральных карт намесніцтваў[81].

Картаграфічныя матэрыялы Генеральнага межавання на працягу доўгага часу служылі асновай для стварэння новых карт. Набытыя на захадзе тэрыторыі былі прадстаўлены ў Атласе, выдадзеным у 1792 г., дзе былі адлюстраваны 42 намесніцтвы Расійскай імперыі[82]. Для вывучэння Гомея і яго наваколляў важны Магілёўскае, Чарнігаўскае і Ноўгарад-Северскае намесніцтвы (маштаб: у 1 дзюйме — 8 вёрст). Ваенна-тапаграфічная карта 1850 г. (так званая «трохвёрстка»)[83] таксама запазычвала звесткі, сабраныя яшчэ ў канцы XVIII ст.

Характэрна, што мясцовыя губернскія чарцёжнікі не прыцягваліся да працы над межаваннем. Яны рабілі толькі аглядныя карты адміністрацыйна-тэрытарыяльнага

---

75 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 266—267; Анішчанка Я.К. Беларусь у другой палове XVIII ст. // Тамсама. С. 270—271.

76 Гл., напрыклад: Magn Ducatus Lituaniae infuos Palatinatus et Districtus divisus deliniatus a Rever Parte Ioanne Nieprecki. Norimberga, 1749 // Казлоў Л.Р. Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. 1. Мінск, 2005. С. 24—25.

77 Perthees de H.K. Polonia Secundum Legitimas Proiectionis stereographicae Regulas et luxta Recentissimas Observationes Adhibitis. Anno 1770, scale of ca. 1 : 934 000. Рукапісная карта складаецца з 48 секцый, памерам 17,8 × 23,6 см, маштаб: 1 : 934 000 (Казлоў Л.Р. Беларусь у працах польскіх картографаў (XVI—XX стст.). Мінск, 2004. С. 53, 56). Rizzi-Zannoni A. Carte de la Pologne dividé par Provinces et Palatinats et subdivisée par districts… 1772. Paris, 1772; Regni Poloniae, Magni Ducatus Lituaniae, Provinciarum Foedere et Vassallagio Illis Junctarum et Regionum Vicinarum Nova Mappa Geographica, Joanne Jacobo Kanter Bibliopola. Regiomonti 1770, ca. 1 : 675 000.

78 Часта яны называліся таксама губернямі, а адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі, якія складалі іх, — не ўездамі, а паветамі або акругамі.

79 Анішчанка Я.К. Генеральнае межаванне на Беларусі. Мінск, 1996. С. 12.

80 Тамсама. С. 22—23.

81 Тамсама. С. 63—65.

82 Российской атлас, из 44 карт состоящий и на 42 наместничества империю разделяющий. СПб., 1792; Медушевская О.М. Картографические источники XVII—XVIII вв. С. 22.

83 У гэтым даследаванні выкарыстоўваліся, напрыклад, наступныя наменклатурныя аркушы: Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. СПб, 1850. 3 версты в дюйме. Ряд 18. Лист 9; Ряд 17. Л. 9—10; Ряд 16. Л. 10.

падзелу, асноўных паселішчаў і шляхоў[84]. Вынікам дзейнасці магілёўскіх чарцёжнікаў стала стварэнне Генеральнай карты Магілёўскай губерні з асобнымі картамі яе акруг (агулам 12, маштаб: у 1 дзюйме — 5 вёрст (1 : 210 000))[85].

У Атласе, «сочиненном» падпалкоўнікам Пядышавым у 1821 г. (маштаб: у 1 дзюйме — 10 вёрст), назіраецца ўжо Магілёўская губерня і суседняя з ёй у раёне Навабеліцкага ўезда (як мястэчка ў яго ўваходзіў Гомей) Чарнігаўская губерня[86]. (Ноўгарад-Северскі да гэтага часу ўвайшоў у склад апошняй).

Карты Магілёўскай губерні, складзеныя ў другой палове XIX ст.[87], а таксама падрабязны Атлас Маркса 1910 г.[88] дазваляюць скласці ўяўленне пра структуру паселішчаў вакол Гомея ў дарэвалюцыйны перыяд.

З картаграфічных работ савецкага часу асаблівае значэнне маюць тапаграфічныя карты (маштаб: у 1 см — 2 км), складзеныя Генеральным штабам Чырвонай Арміі ў 1942 г. на аснове 500-метровых і кіламетровых карт[89]. На іх адлюстравана мясцовасць, якая яшчэ не пацярпела ад ваенных дзеянняў. Карты, складзеныя Генеральным штабам паводле вынікаў тапаграфічных здымкаў 70—80-х гг. XX ст. (маштабы: у 1 см — 1 км і ў 1 см — 2 км), канечне ж, паказваюць тэрыторыю зусім у іншым выглядзе. Шматлікія перайменаванні населеных пунктаў, знікненні апошніх у сувязі з ростам гарадоў, узбуйненнем і ліквідацыяй саўгасаў і калгасаў, паскарэнне працэсу ўрбанізацыі моцна змянілі структуру сельскіх паселішчаў у раёне Гомея.

Сучасныя геаграфічныя атласы[90] і асобныя аркушы тапаграфічных карт часта не маюць карысці пры працы са звесткамі даўніх крыніц. Тым не менш яны зручныя для самага першага пошуку і лакалізацыі геаграфічных аб'ектаў.

Такім чынам, дзякуючы картам і спісам населеных месцаў з канца XVIII ст. праз кожныя 10—30 гадоў можна правяраць існаванне населеных пунктаў, блізкіх да Гомея, фіксаваць змены ў іх назве і месцазнаходжанні.

Спісы населеных месцаў і картаграфічныя матэрыялы выступаюць адным з абавязковых кампанентаў метаду лакалізацыі геаграфічных аб'ектаў, распрацаванага М.У. Вітавым. Паводле ідэі даследчыка, неабходна прасочваць гісторыю вывучаемага паселішча ад першай ягонай згадкі ў крыніцы да моманту, калі яго можна знайсці на сучасных картах[91]. На жаль, з-за частай адсутнасці звестак у крыніцах такі метад (генетыка-геаграфічны) далёка не заўсёды можа выкарыстоўвацца датычна выву-

---

84 Анішчанка Я.К. Генеральнае межаванне на Беларусі. С. 65.

85 Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты, представляющей Могилевскую губернию. Могилев, 1777. Л. 1—13.

86 Географический атлас Российской империи, Царства Польского и Великого Кн. Финляндского, расположенный по губерниям на двух языках / Соч. и грав.: 6-го Кл. Пядышев. СПб., 1821. № 13, 21. Карты атласа былі перавыдадзены ў 1824 і 1829 гг.

87 Карта Могилевской губернии / Испр. и доп. А. Ильин. СПб., 1871. Масштаб: в 1 дюйме — 15 верст (1 : 630 000); Карта Могилевской губернии. СПб., 1880. Масштаб: в 1 дюйме — 20 верст (1 : 840 000).

88 Большой всемирный настольный атлас Маркса / Под ред. Э.Ю. Петри и Ю.М. Шокальского. СПб., 1910. Л. 10. Масштаб: в 1 см — 20 км (1:2 000 000).

89 Генеральный штаб Красной Армии. Карты. М., 1942. Масштаб 1 : 200 000. Л. N-36-XXVII, N-36-XXVIII, N-36-XXXIII, N-36-XXXIV.

90 Гомельская область. Атлас. Мінск, 2006. Масштаб 1 : 200 000.

91 Витов М.В. Приемы составления карт поселений XV—XVII вв. по данным писцовых и переписных книг (на примере Шунгского погоста Обонежской пятины) // Проблемы источниковедения. Вып. V. М., 1956. С. 240—245.

чаемай тэрыторыі. Сам жа М.У. Вітаў працаваў на наўгародскім матэрыяле[92], які параўнаўча поўна адлюстроўваў геаграфію Паўночнай Русі.

З прычыны недастатковасці звестак крыніц, якія дазволілі б рэканструяваць тэрыторыю і межы Гомейскай зямлі, а ў большым маштабе —літоўска-маскоўскую мяжу, асаблівае значэнне набывае методыка даследавання.

Пры вызначэнні літоўска-маскоўскай мяжы і меж Гомейскай зямлі можна пайсці дзвюма шляхамі (арыентуючыся па часе). Гэтыя два шляхі (метады) абазначаюць спосаб атрымання вынікаў — рухаючыся ад мінулага да будучыні і ад будучыні да мінулага.

Перш за ўсё, межы тэрытарыяльных фарміраванняў разгляданага часу натуральным чынам рэканструююцца з дапамогай звестак, якія папярэднічаюць канцу XV ст. Пры гэтым улічваюцца змены, звязаныя з далучэннем новых тэрыторый, з'яўленнем новых уладанняў і г.д.

Другім шляхам можна ісці, абапіраючыся на звесткі крыніц канца XVI—XVIII стст. Тут можна выкарыстоўваць інфармацыю, узятую з дагаворных грамат, пісцовых кніг, пасольскіх прамоў, рэестраў меж і іншых крыніц. Межы, вызначаныя з дапамогай першага метаду, значна ўдакладняюцца звесткамі, атрыманымі з дапамогай другога метаду (рэтраспекцыі і рэтрагрэсіі), аднак пры гэтым трэба ўлічваць дэмаграфічны і каланізацыйны фактары.

З цягам часу павялічвалася колькасць насельніцтва, асвойваліся новыя, да гэтага часу не заселеныя землі, пашыраліся тэрыторыі валасцей, з'яўляліся новыя тэрытарыяльныя адзінкі. З іншага боку, бывае, што крыніцы фіксуюць стан тэрыторый пасля перажытых цяжкіх для насельніцтва часоў. Таму сустракаюцца выпадкі скарачэння асвоеных зямель, з'яўлення пустак на месцы вёсак і сёл. Так, акты XVII ст. не могуць даць звестак пра межы многіх зямель, апусцелых пасля Смутнага часу ў Расіі пачатку стагоддзя[93]. Ю.У. Гацье было цяжка вызначыць для XVII ст. месцазнаходжанне такіх мажайскіх станаў, як Ворскі, Старкоўскі, Рэнінскі, Тарусіцкі, Цешынаў, Загор'е, Зубаты і інш., бо ў іх амаль не фіксуюцца населеныя пункты. Тэрыторыі валасцей заставаліся, але вызначыць іх складана, таму частку станаў гісторык адзначае не на сваіх месцах, вядомых з актаў больш ранняга часу[94]. Гомейскія землі ў сувязі са сваім памежным становішчам перажывалі цяжкія часы на працягу ўсяго XVI ст., а ў сярэдзіне XVII ст. яны сталі палігонам казацка-сялянскай і чарговай маскоўска-літоўскай вайны.

Адзначым неабходнасць камбінавання яшчэ двух шляхоў (метадаў) вывучэння літоўска-маскоўскай мяжы і меж Гомейскай зямлі (рухаючыся ў прасторы). Пункты Вялікага Княства Літоўскага, якія лакалізуюцца каля мяжы, ці, канкрэтна, Гомейскай зямлі выяўляюць іх граніцы як бы знутры. Вызначаныя памежныя вобласці суседніх з ВКЛ і Гомеем паветаў, уездаў, валасцей і г.д. (Любецкі павет ВКЛ, Старадубскі ўезд Расіі, Чачэрская, Стрэшынская і інш. воласці) звонку пацвярджаюць і ўдакладняюць ужо намечаныя межы.

На першым этапе працы з выяўленымі ў крыніцах назвамі паселішчаў выкарыстоўваецца звычайны метад лінгвістычнай адпаведнасці. На сучаснай карце ў раёне Гомея шукаюцца населеныя пункты з тоеснымі або блізкімі па напісанні назвамі. Далей дакладнасць гэтага не надта надзейнага метаду шмат у якіх выпадках пацвярджаецца генетыка-геаграфічным метадам і археалагічнымі звесткамі.

---

92 Витов М.В. Историко-географические очерки Заонежья XVI—XVII вв. М., 1962; Ён жа. Севернорусская топонимия XV—XVIII вв. // Вопросы языкознания. 1967. № 4. С. 75—91.

93 Дегтярев А.Я. Русская деревня в XV—XVII вв. Очерки истории сельского расселения. Л., 1980. С. 125, 128—129.

94 Готье Ю.В. Замосковный край в XVII в. С. 574 и карта.

Безумоўна, для разгляданага часу паняцце «мяжа» вельмі ўмоўнае. Пад гомейскай мяжой варта разумець граніцу зямель, што адносяцца да Гомея, прычым не заўсёды гэтыя граніцы судакраналіся з землямі суседзяў. Таксама і ў цэлым літоўска-маскоўская мяжа на многіх участках была ўмоўнай. Характэрна, што праведзеная на карце мяжа магла і не адасабляць, скажам, тэрыторыю Гомейскай воласці ад любецкіх зямель, і паміж імі маглі знаходзіцца прасторы, нікім не занятыя, не асвоеныя і не каланізаваныя.

Рэгіён Гомея асабліва яскрава ілюструе працэс трансфармацыі тэрыторыі і меж асобна ўзятай адміністрацыйнай адзінкі ў сувязі з яе памежным станам. Тут ішла найбольш зацятая барацьба за зацвярджэнне сваіх геапалітычных інтарэсаў маскоўскім і літоўскім бакамі.

Такім чынам, мэта гэтай працы — на канкрэтным прыкладзе Гомейскай зямлі паказаць, якія змены адбываліся ў параўнаўча кароткі час са сфарміраванымі тэрытарыяльнымі адзінкамі з прычыны іх памежнага становішча. Адначасова будуць вырашацца задачы лакалізацыі населеных пунктаў дадзенага рэгіёна; рэканструкцыі меж як міждзяржаўнага ўзроўню, так і ўнутраных, паміж валасцямі, паветамі і г.д.; вызначэнне ўнутранага складу Гомейскай зямлі ў розныя перыяды яе існавання (да, у час і пасля маскоўскага кіравання); аналізу маскоўска-літоўскіх перамоў, матэрыял якіх дапамагае дасягнуць пастаўленай мэты і вырашыць некаторыя задачы.

З'яўленне ў першай трэці XVI ст. новага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы паказальнае тым, што ён, хаця і з істотнымі зменамі, з'явіўся пачаткам фарміравання меж, якія цяпер падзяляюць Рэспубліку Беларусь, Расійскую Федэрацыю і Украіну. Пэўная пераемнасць паміж падзеямі пяцісотгадовай даўніны і сучасным станам тэрытарыльнага ўладкавання беларускай дзяржавы надае актуальнасць выбранай тэме даследавання.

## 2. Гомейская воласць да канца XV ст.

Перш за ўсё трэба звярнуць увагу на тыя згадкі населеных пунктаў Гомея, якія адносяцца да часу перад далучэннем горада да Вялікага Княства Маскоўскага (1500 г.). У гэтым выпадку ёсць магчымасць вылучыць тую частку спрадвечна гомейскіх паселішчаў, якія складалі тэрыторыю Гомейскай воласці да яе сутнасных змен, якія адбыліся з-за фарміравання пад маскоўскай уладай новай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай сістэмы.

Да XV ст. у крыніцах не згадваецца ніводнага пункта Гомейскай зямлі, хаця ўжо з летапіснага артыкула 1142 г. становіцца вядома, што наваколлі Гомея былі шчыльна заселены. У той год князь Расціслаў Мсціславіч са смаленскім войскам ішоў у Кіеў, але, даведаўшыся, што чарнігаўскія князі Вольгавічы змагаюцца супраць яго дзядзькі і брата каля Пераяслаўля, «поиде на волость ихъ и взя около Гомия волость ихъ всю»[95]. Тут мелася на ўвазе ўся сукупнасць уладанняў Ольгавічаў — Чарнігаўская воласць, а каля Гомея была разрабавана частка гэтай воласці. Тым не менш ужо для XII ст. гісторыкі вылучаюць у складзе Чарнігаўскага княства шэраг тэрытарыяльна-адміністрацыйных адзінак, сярод якіх называюць Гомейскую воласць[96].

---

[95] ПСРЛ. Т. II. Стб. 311.

[96] Зайцев А.К. Черниговское княжество // Древнерусские княжества X—XIII вв. М., 1975. С. 104, 110; Макушников О.А. В поисках древнего Гомия. С. 29; Ён жа. Рубяжы Гомійскай воласці ў XII—XIV ст. (спроба рэканструкцыі) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Ч. 2. Мінск, 1993. С. 43 і інш. А.М. Насонаў, насуперак указанню А.А. Макушнікава, не згадвае пра Гомійскую воласць (Насонов А.Н. «Русская земля» и образование территории Древнерусского государства. Историко-географическое исследование; Монголы и Русь. История татарской политики на Руси. СПб., 2002).

Да 1142 г. Гомей у пісьмовых крыніцах не згадваўся. Аднак існуе імкненне звязаць з яго наваколлем падзею, якая адбылася больш чым за 1,5 стагоддзі раней — т.зв. Пясчанскую бітву 984 г. Тады князь Уладзімір Святаславіч даслаў свайго ваяводу, які меў характэрнае імя Воўчы Хвост, для пакарэння радзімічаў. Апошніх сустрэлі на р. Пішчане (менавіта ў такім напісанні) і перамаглі[97]. Так было завершана пакарэнне яшчэ аднаго славянскага аб'яднання, якое трывала ўвайшло цяпер у склад Старажытнарускай дзяржавы.

Спрэчкі пра месца бітвы ідуць даўно, прычым пануючым стала ўяўленне пра месцазнаходжанне летапіснай р. Пішчаны непадалёку ад Прапойска (суч. Слаўгарад) каля р. Сож. З правага боку ў Сож упадае невялікая рэчка Пісчана[98]. Аднак адна толькі лінгвістычная блізкасць назвы не магла задаволіць даследчыкаў. Слабасць традыцыйнага варыянта месца бітвы — у яго аддаленасці ад паўднёвага рубяжа рассялення радзімічаў: бо сустракалі ваяводу князя Уладзіміра відавочна не ў глыбіні сваіх зямель, а недзе каля іх пачатку. Зыходзячы з такой логікі, А.А. Макушнікаў вылучыў сваю, безумоўна, выгадную для сябе, але вельмі добра абгрунтаваную гіпотэзу. Найперш, даследчык зрабіў выснову пра абавязковае нападзенне Воўчага Хваста на Гомей — паўднёвы фарпост зямлі радзімічаў, мінуць які ці пакінуць у сябе ў тыле нельга было ні ў якім разе, а затым звярнуўся да рэканструкцыі сухапутнага шляху з Русі на поўдзень (ад Кіева праз Чарнігаў на Гомей). Методыка лакалізацыі даўняга шляху быццам бы не выклікае пярэчанняў (хаця за тысячагоддзе ландшафты маглі моцна змяніцца), аднак прывязка месца бітвы да ручая Пясошанкі (дробны прыток р. Цярухі, якая ўпадае з левага боку ў Сож на поўдзень ад Гомеля)[99], які знаходзіцца на лініі згаданага гандлёвага шляху, выклікае пэўныя сумненні. Атаясаміць р. Пясошанку (варыянты: Пясочанка, Пясочна) з летапіснай Пішчанай (аўтар чамусьці ўвесь час называе яе Пясчанай) можна толькі пры вельмі вялікім жаданні.

Між тым падобная ж методыка прывяла даследчыка Браншчыны У.В. Крашанціннікава да яшчэ аднаго варыянта лакалізацыі месца бітвы. У раёне праходжання ўсходняй мяжы радзіміцкай тэрыторыі была заўважана р. Пішчань, якая ўпадае ў р. Дзясну на поўдзень ад Выгоніч[100]. Пры гэтым аўтар сыходзіў з верагоднасці перамяшчэння кіеўскага войска па вадзе (рэках Дняпры і Дзясне), што, сапраўды, лепш за хаджэнне па сушы.

Такім чынам, з прычыны некаторай недакладнасці гіпотэзы А.А. Макушнікава і існавання альтэрнатыўных даволі абгрунтаваных пунктаў гледжання нельга з упэўненасцю адносіць падзею 984 г. да гісторыі Гомейскай зямлі.

Пасля 1142 г. Гомей яшчэ некалькі разоў згадваецца ў крыніцах, але ўжо без сувязі з наваколлем. У якасці горада «Гомій» названы ў «Списке русских городов дальних и ближних» канца XIV ст.[101]. У так званых «заходнерускіх летапісах» захаваліся сведчанні, што ў канцы XIV ст. «в Литве держал Новъгородок князь Федор, и к тому еще Гомеи»[102].

---

97 ПСРЛ. Т. I. М., 2001. Стб. 83—84; Т. II. Стб. 71.

98 Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 37; Крашенинников В.В. Взгляд через столетия. Очерки истории брянского края. Тула, 1990. С. 17.

99 Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 38—40.

100 Крашенинников В.В. Взгляд через столетия. Очерки истории брянского края. С. 17.

101 ПСРЛ. Т. VII (Воскресенская летопись). М., 2001. С. 240; Тихомиров М.Н. «Список русских городов дальних и ближних». С. 224, 229. Складзены «Список» быў: на думку М.М. Ціхамірава — паміж 1387 і 1392 г., на думку Я.П. Навумава — паміж 1394 і 1396 г., на думку В.Л. Яніна — паміж 1375 і 1381 г., на думку К.А. Авяр'янава ён быў вытрымкай з дакумента, складзенага каля 1375 г. (Наумов Е.П. К истории летописного «Списка русских городов дальних и ближних». С. 155; Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII — XV веков. С. 67; Аверьянов К.А. Купли Ивана Калиты. М., 2001. С. 186).

102 ПСРЛ. Т. XVII (Западнорусские летописи). М., 2008. Стб. 171. Гл. таксама: Тамсама. Стб. 279, 328, 390.

гаворка ідзе пра князя Фёдара Карыятавіча, які валодаў Падольскай зямлёй, але не пажадаў «князю великому Витовту с Подолскою землею слоужити»[103], за што ў 1493 г. быў пазбаўлены сваіх уладанняў. Да 18 студзеня 1401 г. вялікі князь літоўскі Вітаўт перадаў акрамя ўсяго іншага свайму брату Жыгімонту Кейстутавічу замак Гомей («castro, qui nomen Hoymi») разам з местам Рэчыцай («item quondam loco dicto Ryczhicza»)[104]. У так званым «Списке городов Свидригайло», датаваным 1432 г., таксама заўважаем Гомей (Homey)[105].

Менавіта да дзейнасці Свідрыгайлы Альгердавіча адносіцца ўскоснае ўказанне крыніцы на існаванне трох гомейскіх сёл — Данілавіч, Дуравіч і Валосавіч. У красавіку 1483 г. кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір з панамі-радай разглядаў судовую справу паміж князямі Андрэем і Сямёнам Іванавічамі Мажайскімі, з аднаго боку, і полацкім намеснікам, панам Багданам Андрэевічам, з другога[106]. У выніку сёлы былі прысуджаны пану Багдану[107]. Князі прызналіся, што іх бацька, Іван Андрэевіч Мажайскі, узяў тыя сёлы сабе пасля смерці бацькі пана Багдана — Андрэя Юкавіча (Саковіча)[108], якому даў уладанні «князь Швитригайло»[109].

Калі Свідрыгайла распараджаўся гомейскімі сёламі — пытанне спрэчнае. Тэарэтычна гэта мог быць перыяд яго кароткага праўлення ў Вільні (1430—1432 гг.)[110] або падчас фактычнага валодання ім Северскай зямлёй (1432 — канец 30-х гг. XV ст.)[111]. Але таксама варта згадаць яшчэ адзін эпізод з жыцця князя, калі ён «сделался верным слугою Казимира»[112] і атрымаў ад вялікага князя частку даменіяльных

103 ПСРЛ. Т. XVII. Стб. 171.

104 Vitoldiana. Codex privilegiorum Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae 1386—1430 / Zebrał i wydał J. Ochmański. Warszawa—Poznań, 1986. № 7. S. 12.

105 Коцебу А. Свитригайло, великий князь Литовский... Прибавления. С. 8.

106 Пазначаны дакумент, змешчаны ў IV Кнізе запісаў Метрыкі ВКЛ, друкаваўся неаднаразова: АЗР. Т. I. С. 101—102; Литовская метрика. Отдел 1. Ч. 1. Книги записей. № 62. Стб. 373—375; LM. Kn. 4 (1479—1491). Vilnius, 1994. № 62. P. 109—110.

107 LM. Кн. 4. № 62. P. 109. Энцыклапедычнае выданне «Гарады і вёскі Беларусі» памылкова прысуджае сяло Валосавічы князю Мажайскаму (Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 2. Гомельская вобласць. Мінск, 2005. С. 481). Зрэшты, і праведзенае там атаясамленне гомейскіх Валосавічаў граматы 1483 г. з аднайменным сялом Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці таксама выклікае сумненні (Гл.: Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 90. Прим. 3).

108 Андрэй Саковіч — староста троцкі (1433—1440 гг.), намеснік смаленскі (1440 г.) і полацкі (1444—1453 гг.), троцкі ваявода (1458—1465 гг.) (Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 290; Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Lituano-slavica Posnaniensia. Studia historica. III. Poznań, 1989. S. 115—116; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. S. 49; Вяроўкін-Шэлюта У. Саковічы // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 2. С. 536).

109 LM. Кн. 4. № 62. P. 109.

110 Па словах летапісца, пасля смерці Вітаўта ў Вільні «княжив великии князь Швитригаило 2 годы без дву месяцеи» (ПСРЛ. Т. XXXV. М., 2004. С. 76). За гэты кароткі перыяд праўлення Свідрыгайлы не захавалася ніводнага пажалавання або згадкі пра пажалаванні гэтага князя.

111 Русина О.В. Сіверська земля. С. 113—114. У лютым 1436 г. у лісце тэўтонскаму магістру Свідрыгайла прызнаўся, што страціў Смаленск і Старадуб, але апошні быў хутка вернуты (Коцебу А. Свитригайло, великий князь литовский... С. 221). С.М. Кучыньскі лічыў, што Свідрыгайла быў выцеснены з Северскіх зямель на мяжы 1438—1439 гг. (Kuczyński S. M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 228).

112 Фраза самога Свідрыгайлы з ліста магістра Тэўтонскага ордэна 1446 г. (Коцебу А. Свитригайло, великий князь литовский... С. 233).

уладанняў. У Кнізе данін 1440—1455 гг. Метрыкі ВКЛ[113] сустракаем кароткі запіс (рэестр): «Князю Швитригаилу Гомеи»[114]. Акрамя таго, тут пад асобнай назвай «У Гомеи» было сабрана некалькі пажалаванняў Казіміра ў Гомейскай зямлі. Усе яны недатаваныя. Тэкст пажалавання, змешчаны пасля блока гомельскіх падараванняў, датаваны 21 траўнем 11-га індыкта і пры гэтым пазначана: «Пр(иказал) сам корол». Такім чынам, становіцца відавочным, што пазначанае асобнае пажалаванне было зроблена пасля 1447 г. (каранацыі Казіміра) і, вельмі верагодна, адносілася да 1448 г.[115]. Разам з тым лічыць верхнім храналагічным рубяжом дату дакумента, што выпадкова апынуўся побач з гомейскім блокам, для ўсіх папярэдніх дакументаў наўрад ці карэктна[116]. Тым не менш іншыя вызначальныя звесткі адсутнічаюць.

Удакладніць час распараджэння Свідрыгайлам гомейскімі сёламі дазваляе назіранне за лёсам Гомея ў сярэдзіне XV ст.

З 1440 г. Гомеем, відаць, валодаў новы вялікі князь літоўскі Казімір. Але вось у лютым 1446 г. з Масквы ў ВКЛ уцяклі актыўныя прыхільнікі скінутага з трона і асляпленага вялікага князя Васілія II — князі Васілій Яраславіч Серпухаўскі і Сямён Іванавіч Абаленскі[117]. Збеглы крыху пазней Фёдар Басенак прыбыў у Бранск (Дзябранаск), якім у гэты час разам з Гомеем, Старадубам і Мсціславам ужо валодаў князь Васілій Серпухаўскі. Бранск быў саступлены князю Абаленскаму і баярыну Басенку, а сам Васілій Яраславіч спыніўся ў Мсціславе[118]. Казімір, аддаючы такія вялікія землі князям, пазбаўленым падтрымкі, відавочна, разлічваў на нейкую палітычную выгаду. Але, як бы там ні было, увосень 1446 г. усе выхадцы з Вялікага Княства Маскоўскага дружна зняліся, пайшлі да Пацына, потым да Елны і на самым пачатку зімы пакінулі тэрыторыю ВКЛ[119]. На маскоўскі пасад зноў быў пасаджаны Васілій II.

Такім чынам, у самым канцы 1446 г. Гомей зноў вярнуўся да вялікага князя Казіміра[120] і, магчыма, паміж самым канцом 1446 — траўнем 1448 г. быў пажалаваны

---

113 Бережков Н.Г. Литовская метрика как исторический источник. Ч. 1. О первоначальном составе книг Литовской метрики по 1522 год. М.; Л., 1946. С. 140.

114 LM. Kn. 3. P. 29.

115 11-ы індыкт прыпадае на год паміж 1 верасня 1447 — 31 жніўня 1448 г., але ў тэксце названа вызначальная дата — 21 траўня. Наступныя 11-я індыкты прыпадаюць на гады, што выходзяць за межы 1455 г., а менавіта апошнім вызначаецца храналагічны рубеж асноўнай масы запісаў гэтай III кнігі Метрыкі (Бережков Н.Г. Литовская метрика как исторический источник. С. 74—76).

116 Да самой даты ў тэксце Метрыкі ёсць яшчэ прыпіска: «Лета 6960. П(и)сан у Вилни» (LM. Кн. 3. С. 29). Адкуль з'явіўся яшчэ і 1452 г. — незразумела.

117 ПСРЛ. Т. XXXV. С. 266.

118 Тамсама.

119 Тамсама. С. 268. Час сыходу маскоўскіх служылых людзей з ВКЛ неабходна супастаўляць з дзеяннямі іх супернікаў — князёў Дзмітрыя Юр'евіча Шамякі і Івана Андрэевіча Мажайскага. Справа ў тым, што падчас руху змоўцаў з ВКЛ да іх прыбягалі ганцы з паведамленнямі аб перамяшчэннях Шамякі і Мажайскага. Прыбыццё Васілія Яраславіча ў Елну адпавядала стаянню ў Волаку Ламскім войскаў на чале з Шамякам. Адбывалася гэта на працягу ўсяго Філіпавага паста (з 15 лістапада да 25 снежня) (Гл.: Зимин А.А. Витязь на распутье. С. 119).

120 Сцвярджэнне пра тое, што толькі ў 1449 г. князь Васілій Яраславіч пакінуў свае ўладанні, выказанае А.А. Макушнікавым следам за В.Л. Насевічам (Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 80; Насевіч В.Л. У складзе Вялікага Княства Літоўскага // Памяць. Веткаўскі раён. Кн. 1. Мінск, 1997. С. 45), ні на чым не грунтуецца. Маскоўскія госці з'ехалі з тэрыторыі ВКЛ ужо ў канцы 1446 г. Пра гэта піша летапісец, калі заўважае пра падзеі восені 1446 г.: «Князь же Василеи Ярославич со всеми бояры и съ всеми людьми и з женами и з детми поидоша изо Мъстиславля, а изъ Дебряньска князь Семенъ да Басенок, тако же съ всем» (ПСРЛ. Т. XXXV. С. 268).

Свідрыгайлу[121]. Зрэшты, калі не звяртаць увагі на ўмоўны прыняты часавы рубеж, магчымую дату набыцця Гомея трэба працягнуць да 10 лютага 1452 г. — даты смерці Свідрыгайлы[122].

Варта звярнуць увагу таксама і на тыя гомейскія пажалаванні, якія былі раздадзены Казімірам да перадачы Свідрыгайлу самога горада Гомея. Віленскім ваяводам Доўгірдам было зафіксавана пажалаванне двух уладанняў: двара Хальча Гарману (Герману) Радзівонавічу і сяла Прэсна Яўлашку Хурсавічу[123].

Акрамя таго, за подпісам віленскага ваяводы і пісара Логвіна 5 чалавек у Навасёлках былі дадзены Бумонту[124]. Улічваючы той факт, што Доўгірд памёр на пачатку 1443 г.[125], для першай згадкі трох гомейскіх паселішчаў застаецца кароткі часавы адрэзак — 1440—1442 гг.

Хальч (Хальча) стаў вядомы ўжо да пазначанага часу. У 1437 г. ад Свідрыгайлы замест Сноўска (у Чарнігаўскай зямлі на мяжы з Гомейскай воласцю) яго атрымаў Павел Мішкавіч, родапачынальнік Халецкіх[126]. Прозвішча Халецкіх было ўтворана менавіта ад назвы новага ўладання[127]. Са стратай у канцы 30-х гг. XV ст. у рэгіёне ўлады Свідрыгайлам, відаць, і Павел Мішкавіч на час пазбавіўся Хальча. Аднак у другой палове XV ст. Халецкія, верагодна, вярнулі сваё ўладанне[128].

Яшчэ два гомейскія паселішчы — Шэрсціна і Нямковічы — былі аддадзены, паводле Кнігі данін 1440—1455 гг., Юшку Драніцу за подпісам пісара Кушлейкі[129]. Нарэшце, той самы Шэрсцін, відаць, пасля Юшкі Драніцы[130], зноў жалаваўся Міхаілу

---

[121] Свідрыгайла атрымаў Гомей у дадатак да Луцка і ўсёй Валыні (Грушевський М. Історія України-Руси. Т. IV. Київ, 1993. С. 234). Падаецца, што гэта адбылося ўжо пасля таго, як з Гомея сышлі маскоўскія гаспадары, бо інакш на пачатку 1446 г. горад давялося б у Свідрыгайлы адбіраць.

[122] Długosz J. Dziejów polskich ksiąg dwanaście. T. V. Ks. XII. Kraków, 1870. S. 96.

[123] LM. Kn. 3. P. 29.

[124] Дзейнасць пісара Логвіна адносіцца да 40-х гг. XV в. (Груша А.І. Канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага. С. 142).

[125] Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 47; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. S. 192. Пра смерць Доўгірда гл.: Хроника Быховца. С. 97.

[126] Kuczyński S.M. Rodowód Michała Chaleckiego // Miesięcznik Heraldyczny. 1934. № 1. S. 10; ён жа. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 366—367. Насуперак сцверджанню В.Л. Насевіча, Гарман Радзівонавіч не мае адносінаў да Халецкіх, а тым больш не з'яўляецца іх родапачынальнікам (Насевіч В.Л. У складзе Вялікага Княства Літоўскага. С. 45; Ён жа. Гомельская воласць // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. Мінск, 2007. С. 543). Характэрна, што ў 2-м томе згаданай энцыклапедыі родапачынальнікам Халецкіх называецца Павел Мішкавіч, які атрымаў ад Свідрыгайлы замест Сноўска маёнтак Хальч (Вяроўкін-Шэлюта У. Халецкія // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Мінск, 2007. С. 711).

[127] Пра род Халецкіх гл.: Halecki O. Chaleccy na Ukrainie // Miesięcznik Heraldyczny. 1910. № 8—12; Kuczyński S.M. Rodowód Michała Chaleckiego // Miesięcznik Heraldyczny. 1934. № 1. S. 6—12; № 2. S. 17—23; Яковенко Н.М. Українська шляхта з кінця XIV — до середини XVII століття. Волинь і Центральна Україна. Київ, 2008. С. 179—185; Мицик Ю. Халецкі — провідний шляхетський рід Речицького краю у XVII—XVIII ст. // Україна крізь віки: Збірник наукових праць на пошану академіка НАН України професора Валерія Смолія. Київ, 2010. С. 1050—1072.

[128] Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 367.

[129] Пісар Іван Кушлейка працаваў у вялікакняжацкай канцылярыі паміж 1440—1460 гг. (Груша А.І. Канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага. С. 142).

[130] Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 228.

Мантоўтавічу[131]. Час пажалавання двух уладанняў можна значна ўдакладніць, бо вядома, што на пачатку 1445 г. «пан» Юшка Драніца быў ужо на маскоўскай службе[132]. На пачатку 1447 г. ён загінуў падчас штурму Угліча войскамі вялікага князя Васілія II[133]. Такім чынам, першую згадку яшчэ двух гомейскіх паселішчаў варта аднесці да перыяду паміж 1440—1444 гг.[134].

Украпваннямі паміж іншымі пажалаваннямі ў Кнізе данін 1440—1455 гг. выглядаюць адзінкавыя згадкі Гомея («Гомья»), звязаныя з нейкімі ўладаннямі, назвы якіх, на жаль, не пазначаны. Так, нейкаму Еску даецца «свободка, отчина его у Гомъи»[135]. Магчыма «свободка» — імя ўласнае, але атаясаміць яе з канкрэтным населеным пунктам пакуль цяжка. Еска, відаць, быў буйным землеўласнікам. У тэксце Кнігі данін сустракаем яшчэ такі рэестр: «Бумонъту у Гомъи село его, што был Еско подпросилъ Протасович подъ нимъ»[136]. Вельмі верагодна, што Бумонту вярталася яго сяло ўжо пасля смерці Ескі. Таксама магчыма, што «Еско, местич смоленский», і Еска, гомейскі землеўласнік — адна і тая ж асоба. Сярод пажалаванняў «У Смоленску» Еска згадваецца яшчэ раз у сувязі з тым, што «того деи Еска в животе не стало», і сяльцо, якое ён трымаў, перадавалася іншаму[137]. Гэты рэестр мае дату: 20 траўня, 15 індыкт. Значыць, два гомейскія ўладанні, адно з якіх магло называцца Свабодка, фігуравалі ў зямельных адносінах паміж 1440—1452 гг.

На жаль, больш згадак населеных пунктаў Гомейскай воласці (павета) да канца XV ст. у пісьмовых крыніцах не сустракаецца.

Такім чынам, у кола вядомых з крыніц XV ст. населеных пунктаў Гомейскай воласці ўваходзяць: сёлы Данілавічы, Дуравічы, Валосавічы (каля 1447 г.)[138],

---

131 В.Л. Насевіч у «Кнізе Памяці Веткаўскага раёна» чамусьці перablытаў некаторыя пажалаванні. За подпісам Доўгірда аддавалася не Шэрсціна, а Прэсна, і не двор, а сяло (Насевіч В.Л. У складзе Вялікага Княства Літоўскага. С. 45). Даты пажалаванняў таксама выклікаюць сумненні. Аднак усе яны без крытыкі былі ўспрыняты А.А. Макушнікавым.

132 Ужо на самым пачатку 1445 г. (з Вадохрышча) ваявода князь Фёдар Далголдаў з Юрыем (Юшкам) Драніцам сядзелі ў аблозе ў Ніжнім Ноўгарадзе «Новым», абараняючыся ад Улу-Мухамеда (ПСРЛ. Т. XXIII. М., 2004. С. 151; Зимин А.А. Витязь на распутье. С. 102).

133 «...князь велики со Тфери поиде на Углечь... и туто убиша подъ городомъ пана Юшку Драницю» (ПСРЛ. Т. XXIII. С. 154) або «Убиенъ же бысть тогда под градом Литвин, храбрыи человекъ Юшко Драница» (ПСРЛ. Т. XXVI. М., 2006. С. 207).

134 Датай усіх гомейскіх пажалаванняў Кнігі данін 1440—1455 гг. С.М. Кучыньскі называе 1440—1448 гг. (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 228).

135 LM. Kn. 3. P. 51.

136 LM. Kn. 3. P. 69. Датаваць набыццё Буманта 1442 годам у сувязі з тым, што ў большай часткі запісаў, перадапошняй з якіх з'яўляецца разгляданая, стаіць умоўная назва «[1442] 11.07», канечне ж, нельга.

137 LM. Kn. 3. P. 43.

138 У спецыяльнай працы, прысвечанай роду Саковічаў, Е. Кэльма, са спасылкай на А. Банецкага, сцвярджае, што Андрэй Саковіч атрымаў тры гомейскія сялы да 1432 г. Потым, быццам бы развіваючы думку ўсё таго ж А. Банецкага, даследчыца змясціла сёлы каля мяжы Менскага ўезда (Данілавічы), у Вілейскім уездзе (Дуравічы) і ў Барысаўскім уездзе (Валосавічы) (Kelma E. Ród Sakowiczów i jego majętności w XV i pierwszej połowie XVI wieku // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. III. Poznań, 1989. S. 164, 170, 174). Пры гэтым было не толькі праігнаравана непасрэднае ўказанне крыніц на гомейскую прыналежнасць усіх трох сёл, але і быў некарэктна выкарыстаны аўтарытэт А. Банецкага. Гісторык не пісаў пра атрыманне Саковічам трох сёл да 1432 г. і не змяшчаў іх у Вілейскім уездзе і г.д., як сцвярджала Е. Кельма (Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 291).

Прэсна, двор Хальча, Навасёлкі (1440—1442 гг.), Шэрсціна (Шэрсцін), Нямковічы (1440—1444 гг.), магчыма, Свабодка (1440—1452 гг.).

Большасць пазначаных населеных пунктаў вызначаецца на карце[139]. Толькі Валосавічы, Нямковічы і Свабодка застаюцца без дакладнай лакалізацыі. Гісторыя большасці паселішчаў прасочваецца па крыніцах XVI—XVII стст., іх можна знайсці на картах XVIII—XIX ст., акрамя таго, археалагічныя дадзеныя пацвярджаюць іх старажытнасць.

Адносна першых гомейскіх паселішчаў можна выкарыстаць метад лакалізацыі геаграфічных аб'ектаў, распрацаваны М.У. Вітавым. На першым этапе працы, канечне ж, ужываўся звычайны метад лінгвістычнай адпаведнасці. Ён спрацаваў і пры пошуках сяла Валосавічы. Населены пункт з ідэнтычнай назвай быў знойдзены на сучаснай карце на паўднёвым усходзе ад Чачэрска на р. Покаці, правым прытоку Сожа[140]. Характэрна, што сяло Валосавічы з першай чвэрці XVI ст. сустракаецца сярод чачэрскіх сёл[141]. Далейшае яго існаванне таксама прасочваецца. Сяло існуе і зараз. Аднак ягое месцазнаходжанне і сведчанні крыніц пра чачэрскую прыналежнасць усё ж выклікалі сумненні ў зробленай лакалізацыі. Глыбокае веданне А.А. Макушнікавым тэрыторыі Гомельшчыны дазволіла яму прыйсці да іншых высноў. У «Реестре ревизии господарской Гомейской волости» 1560 г.[142] было заўважана сяло Валазковічы, якое, на думку даследчыка, і з'яўляецца тым гомейскім сялом Валосавічы, якое вядома з XV ст.[143]. Знаходзілася яно быццам бы зусім побач з Гомейскім замкам і сялом Волатавым, якое таксама згадваецца ў «Рэестры»[144]. А.А. Макушнікаў вырашыў, што сяло Валосавічы знікла прыблізна ў сярэдзіне XVII ст., праўда, ніякіх пацвярджэнняў гэтаму не прывёў.

Варта адзначыць, што ў вялікім дакуменце са шматлікімі апісаннямі меж гомейскіх сёл і з пастаяннай згадкай сумежных з імі ўладанняў сяло Валазковічы названа толькі аднойчы. І гэта не дзіўна. У больш ранняй публікацыі «Рэестра» мы не сустракаем сяла Валазковічы, на яго месцы знаходзіцца «село боярское Волчковичи»[145]. Больш таго, пры апісанні меж такіх сёл, як Юркавічы і Навасёлкі, часта згадваецца сяло Валковічы (у публікацыі 1886 г.) або Валчковічы (у публікацыі 1853 г.)[146]. Уладанні трох сёл былі «спольнымі» паміж сабой. І ў той частцы «Рэ-

[139] Старажытнасць Навасёлак (селішча часоў Кіеўскай Русі), Хальча (гарадзішча і селішча часоў Кіеўскай Русі), Шэрсціна (2 селішчы часоў Кіеўскай Русі) пацвярджаецца археалагічнымі звесткамі (Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мінск, 1985. С. 123, 129; Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. Гомельская вобласць. Мінск, 2004. С. 225, 252, 254).

[140] Гомельская область. Атлас. С. 9.

[141] СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751.

[142] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 375.

[143] Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 90. Прим. 3.

[144] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 375. Волатава належала тым жа баярам Івану і Нячаю Хаміраву. Не Волатава, а блізкае па назве Волава можна ўбачыць на карце-трохвёрстцы 1860 г. на паўночны ўсход ад Гомея (Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. Ряд 18. Лист 9). У 1974 г. вёска Волатава была ўключана ў склад горада (Рогалев А.Ф. От Гомиюка до Гомья. С. 191). Цяпер на яе месцы ўскраіна горада Гомеля, пазначана на карце як Старое Волатава (Гомельская область. Атлас. С. 36).

[145] АЗР. Т. V. № 16. С. 65.

[146] Відаць, рэдактар 13-га тома актаў Віленскай археаграфічнай камісіі няўдала прачытаў назву баярскага сяла, сумежнага з Юркавічамі і Навасёлкамі, і прыняў яго за Волкавічы, што таксама згадваюцца ў дакуменце, але размяшчаюцца даволі далёка ад нібыта суседніх з ім сёл (каля р. Узы, правага прытока Сожа) (АЮЗР. Т. 1. № 142. С. 153; АВАК. Т. XIII. № 100. С. 363). Цяпер Волкавічы носяць назву Урыцкае (Рогалев А.Ф. Родные названия. С. 25—26; Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. Гомельская вобласць. С. 315). Трэба прызнаць, што рэдактар 5-га тома «Актов, относящихся к истории Западной России» — протаіерэй Іаан Грыгаровіч — быў больш уважлівым пры працы з тэкстам «Рэестра».

стра», дзе гаварылася непасрэдна пра Валчковічы[147], пацвярджаецца заяўленае раней суседства.

Некаторыя землі сяла Валчковічы сапраўды знаходзіліся побач з Гомейскім замкам. Так, зямля гэтага сяла Пакалюбіцкая з сенажацямі ў 1560 г. была «на фольварок замковый зоставлено»[148]. У інвентары Гомейскага староства 1681 г. згадваецца сяло Пакалюбічы (Pokolubicze)[149], якое можна атаясаміць з зямлёй сяла Валазковічы. На карце Беліцкай акругі 1777 г. адзначаны населены пункт Пакалюбічы[150], на Генеральным плане Беліцкага павета 1784 г. — вёска Пакалюбічы[151], а на карцетрохвёрстцы 1860 г. — с. Пакалюбічы[152]. Сучасныя Пакалюбічы непасрэдна прымыкаюць да рысы горада Гомеля[153]. Аднак блізкасць зямлі сяла Валчковічы да горада не значыла, што само яно знаходзілася ледзь не ў яго межах і хутка злілося з ім. Наадварот, інфармацыя «Рэестра» пераконвае, што сяло Валчковічы знаходзілася на поўнач ад Пакалюбічаў (Гомей на поўдзень ад іх) у суседстве з сёламі Юркавічы і Навасёлкі, гэта значыць у супрацьлеглым ад Гомея баку. Сумежнасць уладанняў Валчковічаў з сёламі, блізкімі да горада (Плёса, Старое, Волатава) крыніцай не адзначаецца.

Ці ёсць падставы атаясамліваць Валчковічы-Валазковічы XVI ст. з Валосавічамі XV ст.? Верагоднасць гэтага існуе. Калі пагадзіцца з прыблізнай лакалізацыяй сяла XVI ст., то разам з двума іншымі сёламі XV ст. (Данілавічы, Дуравічы) яно склала б адзіны масіў зямель, буйную вотчыну, што было б цалкам слушна для пажалавання. Пры сяле Данілавічы (таксама сумежным з Валчковічамі) згадваецца пусташ Валосаўшчына[154], чыя назва, магчыма, узнікла пад уплывам суседняга сяла. І, нарэшце, магчыма ўсё ж такі не варта сумнявацца ў правільнасці напісання сяла ў форме Валазковічы, што было адлюстравана ў актах Віленскай археаграфічнай камісіі і з'яўляецца вельмі блізкім да Валосавічаў?

Пра месцазнаходжанне Нямковічаў і Свабодкі можна толькі здагадвацца. На ўсход ад Чачэрска, каля правага берага р. Бесядзі, прытока Сожа існуе сяло Вялікія Нямкі. Здаецца, што нават лінгвістычнай адпаведнасці паміж Нямковічамі і Вялікімі Нямкамі няшмат. Аднак можна сцвярджаць, што менавіта Вялікія Нямкі (ёсць яшчэ Малыя Нямкі на другім баку р. Бесядзі) у XVI ст. мелі назву Нямковічаў. У гэтым пераконвае ўнікальны дакумент — «Описание дорог из Минска на Северщину» 1534 г.[155]. Паводле крыніцы, 3-і шлях «з Менска на Северу» пересякаў Сож ніжэй Чачэрска каля Залесся, ішоў да Бабічаў, затым да Нямковічаў, пад якімі «Бесед(ь) возитца»[156]. Ад Нямковічаў шлях ішоў да Верашчакаў, ад апошніх — да Унукавічаў,

[147] Далей будзе выкарыстоўвацца менавіта такая форма напісання гэтага сяла.

[148] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 375.

[149] НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 259. Арк. 12 адв.

[150] Белицкой округ // Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты.

[151] Генерального плана Белицкого уезда часть 2-я / Генеральное межевание Могилевской губернии. 1784.

[152] Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. Ряд 18. Лист 9.

[153] Гомельская область. Атлас. С. 17, 36.

[154] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 371.

[155] Радзивилловские акты. № 18. С. 71. Датаванне гэтага дакумента належыць М.М. Крому.

[156] Пераправа каля в. Вялікія Нямкі існавала і ў сярэдзіне XIX в. (Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 3. Могилевская губерния / Сост. Ген. штаба капитан Черницкий. СПб., 1848. С. 32).

каля якіх была пераправа праз Іпуць, і г.д.[157]. Усе пералічаныя геаграфічныя арыенціры лёгка можна знайсці на сучаснай карце[158]. Паміж Бібічамі і Верашчакамі каля р. Бесядзі, з правага яе боку, і знаходзяцца Вялікія Нямкі, якія, без сумнення, трэба атаясаміць з Нямковічамі «Описания» 1534 г.

Ці тыя гэта Нямковічы, што вядомы з сярэдзіны XV ст. у складзе Гомейскай воласці, сказаць цяжка[159]. Вядома, што на поўдзень і на захад ад Нямковічаў, займаючы ўсю прастору паміж рэкамі Бесяддзю і Сожам, былі землі Чачэрскай воласці[160]. У сувязі з гэтым можна выказаць арыгінальную здагадку, што ў Кнізе данін 1440—1455 гг. Юшку Драніцу давалася Шэрсціна ў Гомейскай воласці, а Нямковічы ў суседняй — Чачэрскай, але іх змясцілі побач пад адной назвай «У Гомеи» з-за тэрытарыяльнай блізкасці і ў сувязі з пажалаваннем аднаму і таму ж гаспадару. Але гэтае меркаванне застаецца гіпатэтычным.

Калі ж прызнаць Нямковічы на Бесядзі гомейскімі для XV ст., то, магчыма, варта перагледзець выснову і пра чачэрскія Валосавічы, якія размяшчаліся зусім непадалёку. Зрэшты, крыніцы XVI ст. прымушаюць лічыць тэрыторыі правабярэжжа Сожа аж да левага яго прытока Бесядзі чачэрскімі і для часу перад маскоўскім захопам Гомея.

Свабодку (калі паселішча з такой назвай сапраўды існавала) можна атаясаміць са шматлікімі населенымі пунктамі. Назваў Свабода, Слабода, Слабодка сустракаецца шмат. Высвятляецца, што многія з іх былі заснаваны ўжо ў XX ст. Толькі Слабода ў Добрушскім раёне Гомельскай вобласці можа быць суаднесена з даўняй Свабодкай[161]. Але і гэта пад сумненнем.

Падаецца магчымым атаясаміць паселішча XV ст. са Слабодкай (Слабадой), вядомай паводле «Реестров границ» першай чвэрці XVI ст. і «Реестру ревизии господарской Гомейской волости» 1560 г. У першым выпадку насупраць «панских» (любецкіх) Пазнаховічаў называецца гомейскае сяло Слабодка[162], у другім выпадку згадваецца «село боярское Слобода, на границе Московской»[163]. Магчыма, Свабодка знаходзілася паміж сёламі Рылавічы і Бабовічы, бо такая паслядоўнасць пералічэння населеных пунктаў у «Рэестры» 1560 г. Але Рылавічы (сучаснае Сноўскае ў самых вярхоўях р. Сноў) і Бабовічы (каля р. Узы, правага прытоку Сожа) знаходзяцца вельмі далёка адно ад аднога. Відавочна адно: Слабада знаходзілася ў левабярэжжы Сожа на мяжы з чачэрскімі землямі. Карпатлівы пошук блізкіх па гучанні назваў прывёў да выяўлення на карце-трохвёрстцы 1860 г. населенага пункта Слабада каля існуючага і цяпер сяла Дзеравіны (па карце відаць, што Слабада стала часткай сяла Дзеравіны)[164]. Зараз у гэтым раёне, уздоўж рэчкі Цярухі (левы прыток Сожа), праходзіць беларуска-ўкраінская дзяржаўная мяжа. Месцазнаходжанне зніклай Слабады зручна і лагічна для пазначэння рубяжа даўняй Гомейскай воласці, але,

[157] Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 3. С. 32.

[158] Гл., напрыклад: Рэспубліка Беларусь. Аглядна-тапаграфічная карта. Маштаб 1 : 500 000. Мінск, 2003.

[159] Пра старажытнасць Нямковічаў сведчыць факт існавання гарадзішча за 1 км на поўдзень ад вёскі (Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. С. 121; Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. С. 212).

[160] Пра гэта сведчаць, напрыклад, дадзеныя пасольскіх кніг (СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751—752).

[161] Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. С. 366.

[162] «Пам'ять» 1527 р. С. 211.

[163] АВАК. Т. XIII. Вильна, 1886. № 100. С. 362. У той час Чарнігаў належаў Маскве.

[164] Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. Ряд 19. Лист 9.

на жаль, больш ні на чым не грунтуецца. Варта толькі дадаць, што лакалізацыя Свабодкі (Слабады) вельмі важна, бо ад яе залежыць вызначэнне значнага кавалка чарнігава-гомейскай мяжы, дзяржаўнай з 1537 г.

Што тычыцца астатніх гомейскіх паселішчаў, вядомых з XV ст., то ўсе яны размяшчаліся на поўнач ад горада Гомея, уздоўж правага берага Сожа, у асноўным каля самай ракі. Толькі Дуравічы крыху адрываліся на захад ад Сожа і размяшчаліся ў сярэднім цячэнні р. Ліпы (правы прыток Сожа), крыху на поўдзень ад апошняй. Далейшае даследаванне пакажа, што гэты населены пункт стаяў каля самай мяжы Гомейскай воласці.

Такім чынам, размяшчэнне гомейскіх паселішчаў XV ст. не дае нават агульнага ўяўлення пра тэрыторыю воласці таго часу. Можа, толькі частка меж воласці вызначаецца цячэннем Сожа. Як далёка землі воласці шырыліся на поўдзень ад Гомея, ці пераходзілі на левы бераг Сожа і наколькі — гэта высветліць не атрымліваецца.

Назіранне за характарам мясцовасці на паўднёвы захад ад сёл Дуравічы, Данілавічы, Навасёлкі і верагодным месцазнаходжаннем Валосавічаў дазваляе прыйсці да цікавых высноў. Аж да р. Узы (правы прыток Сожа) у гэтым раёне было вялізнае балота, вядомае з «Рэестра» 1560 г. як Кабыліна (Кобылье)[165]. Кабыліна балота, якое існавала і ў сярэдзіне XIX ст., цягнулася ад с. Валковічы (ніжняе цячэнне р. Узы, непадалёку ад Гомея) на поўнач да вёскі Кунтароўкі[166]. У сярэдзіне XVI ст. яно займала яшчэ большую тэрыторыю — амаль дасягала Гомея каля сяла Плёса, фіксавалася каля с. Уваравічы (у раёне р. Узы), падступала да Данілавічаў і да зямель с. Хальч. Напалам балота разразала р. Беліца (Белічанка)[167]. Верагодна, у XVI ст. і раней усе землі на захад ад Гомея да р. Узы займалі балоты і лясы. Для асваення заставалася толькі вузкая паласа (не больш за 10 км) уздоўж правага берага р. Сож і далей уздоўж правых прытокаў апошняй — Узы і Ліпы. Гэтыя рэкі кальцом агіналі Кабыліна балота. На поўнач ад яго ў найбольшай аддаленасці ад Гомея стаяла с. Дуравічы.

Не толькі Кабыліна балота, але і лясы (Красны бор, бор Карма і інш.), што атачалі яго, стваралі натуральную перашкоду для пашырэння тэрыторыі Гомейскай воласці на захад. Такім чынам, тэрыторыя старажытнай воласці была прыціснута да правага баку р. Сож і фарміравалася ўздоўж яе, пераходзячы на прытокі.

Звесткі пра гомейскія землі ў левабярэжжы р. Сож вельмі нешматлікія. Існуе толькі адно паведамленне пра бортныя землі с. Церашковічы, якія атрымалі ад князя Сямёна Іванавіча Мажайскага святары царквы св. Міколы ў Оршы[168]. Сяло Церашковічы (суч. Цяруха) знаходзілася на поўдзень ад Гомея на левым беразе р. Сож пры вусці р. Уці. Паводле археалагічных звестак, жыццё сяла пачалося прыблізна ў XIV—XV стст.[169].

Такое ўяўленне пра тэрыторыю Гомейскай воласці атрымана дзякуючы крыніцам XV ст. і папярэднім высновам аб характары бліжэйшай мясцовасці. Больш дакладна выявіць першапачатковыя гомейскія межы дазваляюць матэрыялы першай трэці XVI ст. Спробы маскоўскіх улад замацаваць тэрытарыяльныя адзінкі ў новым складзе

[165] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 364, 370, 371, 376.

[166] Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 3. С. 38. В. Кунтароўка існуе цяпер, за 4 км на паўднёвы захад ад Навасёлак, непадалёку ад р. Сож (Гомельская область. Атлас. С. 17).

[167] На беразе гэтай рэчкі ўзнікла сяло Беліца (суч. Старая Беліца), што ператварылася ў канцы XVIII ст. у горад — цэнтр уезда. Згадваная ў «Рэестры» 1560 г. мяжа «Белицкое», магчыма, сведчыць пра існаванне населенага пункта з падобнай назвай (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 370).

[168] АЗР. Т. II. № 48. С. 59—60. Пра тое, што бортныя ўгоддзі адносіліся да с. Церашковічы, даведаемся з «Рэестра» 1560 г. (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 355).

[169] Рогалев А.Ф. От Гомиюка до Гомья. С. 138.

сутыкаліся з імкненнем адміністрацыі ВКЛ захаваць непарушнымі старыя межы. З літоўскага боку ўвесь час заяўляліся прэтэнзіі на тыя ці іншыя воласці і сёлы, адарваныя ад тэрытарыяльных адзінак ВКЛ і аднесеныя адміністрацыйна да маскоўскага Гомея. Тым самым назіранне за складваннем пад маскоўскай уладай Гомейскага ўезда дазваляе вызначыць першапачатковую тэрыторыю Гомейскай воласці.

Сам горад Гомей да пачатку 1452 г., відаць, заставаўся ва ўладанні Свідрыгайлы, а затым зноў вярнуўся ў склад вялікакняжацкіх уладанняў.

Але вось у 1454 г. у ВКЛ уцёк «з женою и з детми и со всеми своими» князь Іван Андрэевіч Мажайскі[170]. Яго «неисправление» (гэта значыць пастаянная нявернасць вялікаму князю маскоўскаму) выклікала паход на Мажайск войска Васілія ІІ Цёмнага і ліквідацыю ўдзельнага княства. Ад Казіміра Іван Мажайскі атрымаў гарады Старадуб і Гомей, пра што мы даведваемся з жалаванай граматы 1496 г. і прывілея 1499 г. вялікага князя Аляксандра[171]. Грамата на пажалаванне Старадуба і Гомея князю Івану Мажайскаму не захавалася, але, без сумнення, існавала. Паводле самога Аляксандра, сын мажайскага князя Сямён «лист отца нашого передъ нами вказывалъ»[172]. У 1465 г. з некаторымі абмежаваннямі ў правах да ўладанняў князя Івана Андрэевіча далучылі Бранск[173].

Старадуб, Гомей і Бранск склалі асобнае ўдзельнае княства на тэрыторыі ВКЛ, амаль на межах з Вялікім Княствам Маскоўскім. Князь Іван Андрэевіч кіраваў у ім да сваёй смерці (паміж 1471—1483 гг.)[174], перад якой падзяліў свае ўладанні паміж двума сынамі — Андрэем і Сямёнам. Старэйшаму, Андрэю, дастаўся Бранск[175]. Сямён застаўся з бацькавымі Старадубам і Гомеем[176]. На пачатку ліпеня 1496 г. князь Сямён Іванавіч Мажайскі быў пажалаваны вялікім князем горадам Чарнігавам «вечьностью» (разам са Старадубам і Гомеем) і Карачаўскай воласцю «до воли»[177]. Праз некаторы час (да 1499 г.) да іх далучылі яшчэ воласць Хоцімль[178]. Вялікае Старадубскае княства набыло пры вялікім князі літоўскім Аляксандры значную самастойнасць. А імкненне яшчэ мацней замацаваць за сабой атрыманыя землі і захапіць новыя ўладанні падштурхнула старадубскага князя да здрады[179].

Разам з іншымі князямі (Васіліем Іванавічам Шамячычам і Сямёнам Іванавічам Бельскім) Сямён Іванавіч уступіў у таемныя адносіны з маскоўскім вялікім кня-

---

170 ПСРЛ. Т. XXV. С. 273.

171 АЗР. Т. 1. № 139. С. 163; Сборник Муханова. № 58. С. 87—88.

172 АЗР. Т. 1. № 139. С. 163.

173 Сборник Муханова. № 20. С. 22; LM. Кн. 3. № 4. P. 69. Г.Л. Харашкевіч апублікавала грамату караля Казіміра бранскім жыхарам аб перадачы Бранска ў вотчыну князю Івану Мажайскаму, якая захавалася ў копіі XIX ст., датаваўшы яе 1446 г. (Хорошкевич А.Л. Документы начала XV в. С. 54—55).

174 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 243; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 62.

175 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 243. Князь Андрэй Іванавіч, відаць, памёр хутка пасля таго, як у 1486 г. у яго адабралі Бранск (Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 62). Ю. Вольф датай гібелі князя Андрэя ад атруты называе 1487 г. (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy. S. 262).

176 С.М. Кучыньскі лічыў, што Гомеем князі Андрэй і Сямён спачатку кіравалі разам. Аднак пасля таго, як князь Андрэй пазбавіўся Бранска і ўлады на Северщчыне, увесь Гомей дастаўся Сямёну (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 243—244).

177 АЗР. Т. 1. № 139. С. 163, 164; LM. Kn. 6. Vilnius, 2007. № 156—157. P. 129.

178 Сборник Муханова. № 58. С. 87—88.

179 Афіцыйны маскоўскі пункт гледжання на прычыну ад'езду ў Маскву шэрагу памежных літоўскіх князёў («пришла на них великаа нужа о греческом законе») не выклікае даверу ў даследчыкаў (Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий. С. 183—184; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 96—97).

зем Іванам III, і ўжо ў красавіку 1500 г. адкрыта заявіў Маскве пра сваё рашэнне перайсці ў маскоўскую службу[180]. Умовамі здрады былі абяцанні вялікага князя маскоўскага пакінуць за старадубскім князем усе тэрыторыі, якімі ён валодаў, выдзяліць яму новыя землі, а таксама замацаваць за ім магчымыя захопы[181]. Пасля захопу 3 траўня 1500 г. баярынам Якавам Захар'евічам Кошкіным Бранска князі Сямён Мажайскі і Васілій Шамячыч адкрыта прысягнулі Івану III і са сваімі вотчынамі перайшлі на яго службу[182]. Пры гэтым старадубскі князь прыхапіў яшчэ Любеч[183], і, відавочна, шэраг сёл з суседніх з Гомеем валасцей.

Крыху пазней (жнівень-верасень 1500 г.) з боку ўдзельнага князя быў здзейснены захоп мсціслаўскіх гарадоў Паповай Гары, Дрокава і Мгліна. Да такой высновы можна прыйсці, аналізуючы інструкцыі маскоўскім паслам, якія накіроўваліся ў Крым. У «памяти» І.Г. Мамонаву ад 11 жніўня 1500 г. сярод занятых вялікім князем маскоўскім гарадоў не былі названы Пуціўль, Папова Гара, Дрокаў, Мглін і Таропец[184]. 29 верасня 1500 г. услед паслу былі накіраваны адкарэктаваныя інструкцыі. У іх адзначаны новыя заваяваныя гарады, а таксама названы захоплены ў палон пуціўльскі намеснік князь Багдан Глінскі[185]. З летапісаў і разрадных запісаў вядома дакладная дата захопу Пуціўля — 6 жніўня[186]. Таропец, паводле разрадаў, быў захоплены 9 жніўня[187]. Паведамленне пра гэтыя поспехі да 11 жніўня яшчэ не паступіла ў Маскву і не трапіла ў інструкцыю паслу І.Г. Мамонаву.

Хутчэй за ўсё прыблізна тады ж ці крыху пазней былі заняты і іншыя гарады — Папова Гара, Дрокаў і Мглін. Дзякуючы свайму суседству яны, відавочна, былі захоплены ў выніку аднаго скіраванага на іх пахода. І сапраўды, паводле разрадаў: «Лета 7009-го году сентебря в 7 день послал государь и великий князь Иван Васильевич всеа Русии из Стародуба в Литовскую землю ко Мстисловлю воевать служивых князей

---

180 «Апреля же, прислали къ великому князю Ивану Васильевичу государю всеа Русіи бити челомъ князь Семенъ княжь Ивановъ сынъ Андреевича Можайского да князь Василей княжь Ивановъ сынъ Дмитреевича Шемякинъ, что на нихъ пришла великаа нужа о Греческомъ законе, и государь бы ихъ пожаловалъ, взялъ къ себе и съ вотчинами» (ПСРЛ. Т. VIII. С. 239). Гл. таксама: ПСРЛ. Т. VI. Вып. 2. М., 2001. Стб. 362; Т. XII. С. 252; Т. XXVI. С. 293; Т. XXVIII. М.; Л., 1963. С. 333.

181 «И послал [вялікі князь Іван III. — *В.Ц.*] втайне к князю Семену Ивановичу Бельскому и к князю Семену Ивановичу Можайскому, и к князю Василию Ивановичу Шемячичу, чтобы они с городами и волостями отступились от зятя его великого князя Александра, и со всем с тем служили бы ему, а к тому еще обещал им многие свои города и волости. И такое соглашение сделали и присягнули, что им с помощью его воевать с Великим Княжеством Литовским непрестанно, а которые города и волости они у Литвы заберут, то им все держать» (Хроника Быховца. С. 110). Гл. тое ж самае на лацінцы: ПСРЛ. Т. XVII. Стб. 558.

182 ПСРЛ. Т. VI. Вып. 2. Стб. 362; Т. VIII. С. 239; Т. XII. С. 252; Т. XXVI. С. 293; Т. XXVIII. С. 334.

183 СИРИО. Т. 41. СПб., 1884. № 65. С. 318; № 67. С. 327; № 70. С. 344—345. Любечам на Дняпры да гэтага валодаў князь Васілій Міхайлавіч Вярэйскі, які нядаўна збег з маскоўскіх зямель (РИБ. Т. XXVII. № 79. Стб. 390; LM. Kn. 4. № 79. P. 116 (пажалаванне 2 кастрычніка 1483 г.); № 209. Стб. 754—757 (пацвярджэнне 18 красавіка 1499 г.). Праўда, існуе верагоднасць таго, што пад Любечам маецца на ўвазе іншае паселішча — Любча каля р. Нёман побач з іншымі пажалаваннямі князю Вярэйскаму (Койданава, Уса, Рубяжэвічы, Валожын і інш.). Любча ў крыніцах часта называлася Любечам (РИБ. Т. XXVII. № 219. Стб. 773—775; АЛМ. Т. 1. Вып. 2: 1499—1507 гг. Варшава, 1897. № 516. С. 45—46).

184 СИРИО. Т. 41. № 65. С. 318.

185 Тамсама. № 67. С. 327—328.

186 ПСРЛ. Т. VI. вып. 2. Стб. 362; Т. VIII. С. 239; Т. XII. С. 252; Т. XXVIII. С. 333; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 57.

187 Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 57.

князя Семена Стародубского да князя Василья Шемятича. А с ними послал воевод своих...»[188] У выніку пад Мсціславам быў разбіты князь Міхаіл Жаслаўскі[189]. Пабочным вынікам паходу 7 верасня 1500 г., відавочна, і стаў захоп мсціслаўскіх гарадоў[190].

Як і абяцаў Іван III, князь Сямён Іванавіч атрымаў у дадатак да свайго ўдзела новыя гарады: «И князь великій пожаловалъ, придалъ... князю Семену Почапъ да Мглинъ да Дроковъ да Попову Гору»[191]. Яны размяшчаліся сумежна з астатняй тэрыторыяй Старадубскага княства. Акрамя таго, у 1506 г. сын удзельнага князя Васілій пасля шлюбу з сястрой жонкі вялікага князя Васілія III Саламоніяй Сабуравай атрымаў некаторыя землі па р. Угры (разам з Васіліем Шамячычам)[192] і Хатунскую валасць[193]. Існуюць таксама даволі пэўныя звесткі пра тое, што чарнігаўскія землі, ды і сам Чарнігаў засталіся ў падначаленні князя Сямёна. Так, у лістападзе 1510 г. у Маскву была дастаўлена скарга ад імя караля і вялікага князя Жыгімонта I Старога, у прыватнасці, з тым, што людзі, «которые ж служат Можайскому съ Стародуба, зъ Гомя, с Чернигова собравъшыся, втягнули у волости наши до Свислочи, до Бобруйска, до Любошан и инъдей еще болшую шкоду вчинили, нижли тые татарове [якія прыходзілі раней. — *В.Ц.*], животы и статки людей наших розграбили, многих посекли а иных в полон повели»[194]. Крыху пазней (у 1511 г.) ужо Васілій III выказваў наступныя прэтэнзіі: «А слуга нашъ княз Василей Семенович Стародубский писалъ к нам, а сказывает, что твои державъца киевской Ян Щитов, наслав своих людей на его села черниговъские, на Жукин, да людей его пограбил, а иных головами свел»[195]. Відавочна, што разам са Старадубам і Гомеем, чарнігаўскія землі засталіся ва ўладанні князя Сямёна. Пра Карачаў і Хоцімль таго ж з упэўненасцю і апорай на крыніцы сцвярджаць нельга. Невядома таксама, ці захоўваў за сабой старадубскі князь Любеч (з якім у 1500 г. прыехаў на маскоўскую службу[196]) у той кароткі час, пакуль горад не вярнуўся пад уладу ВКЛ (у 1500—1508 гг.).

У выніку Старадубскае княства значна вырасла тэрытарыяльна і статусна працягвала стаяць вышэй за вотчыны служылых князёў[197].

---

188 Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 63—64.

189 Тамсама. С. 64.

190 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 242; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 136, 290. Князь Міхаіл Іванавіч Жаслаўскі (Жослаўскі) атрымаў ад караля Аляксандра гарады Мсціслаўль і Мглін зусім нядаўна — 19 траўня 1499 г. (АЗР. Т. I. № 172. С. 196—197; Любавский М.К. Областное деление. С. 14). Пры гэтым мсціслаўскія гарады Папова Гара і Дрокаў перайшлі пад кіраванне вялікакняжацкіх намеснікаў, або, згодна з тэрміналогіяй таго часу, «спали на короля» (Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 14, 137). М.К. Любаўскі лічыў, што і Хоцімль належаў Мсціслаўскаму княству. Гісторык памылкова атаясамліваў яго з мястэчкам Хоцімск на р. Бесядзі Клімавіцкага ўезда (цяпер — пасёлак гарадскога тыпу, раённы цэнтр Магілёўскай вобласці Беларусі) (Тамсама. С. 136, 137).

191 ПСРЛ. Т. XXIII. С. 196.

192 «...да волости на Угре, Товарков, Конопнарь, и иныя волости по Угре, что были даны [вялікім князем Васіліем III. — *В.Ц.*] князю Василью Шемечичу да князю Василью Стародубскому» (ДДГ. № 104. С. 440).

193 Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России... С. 138; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 98. А.А. Зімін спасылаўся на ненадрукаваную працу У.Дз. Назарава.

194 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 7. Арк. 279; АЗР. Т. II. № 62. С. 79.

195 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 7. Арк. 379; АЗР. Т. II. № 74. С. 96.

196 «А князь Семен княж Иванов сын Андреевича приехал с городы: с Черниговым, с Стародубом, да с Гомьем, да с Любичем» (СИРИО. Т. 41. № 65. С. 318).

197 Зимин А.А. Служилые князья в Русском государстве. С. 42.

Пасля 1500 г., уступіўшы ў новы перыяд сваёй гісторыі, Гомейская зямля паранейшаму заставалася ў складзе Старадубскага княства да яго ліквідацыі. Каля 1508 г., пасля смерці Сямёна Іванавіча[198], Гомей (як і астатнія ўладанні) атрымаў адзіны сын старадубскага князя — Васілій[199].

Як сведчыць С. Герберштэйн, «по наущению» князя Васілія Шамячыча вялікі князь Васілій III захапіў «своего родного брата» і давёў яго да смерці ў турме[200]. Пад «родным братом» маскоўскага гасудара, на думку А.А. Зіміна, хаваецца князь Васілій Старадубскі[201]. Герберштэйн таксама распавядае пра тое, як Васілій Шамячыч стаў «домогаться» суседняга княства, «и не успокоился до тех пор, пока не довел Василия Стародубского до последней крайности, а после его изгнания занял его области»[202].

Удакладніць дату смерці апошняга старадубскага князя дапамагаюць матэрыялы маскоўска-крымскіх перамоў канца жніўня — сярэдзіны верасня 1518 г. Каб пазбегнуць пратэстаў крымскага боку з нагоды таго, чаму ў шэртную (клятвенную) грамату для подпісу хана былі ўпісаны гарады Старадуб, Чарнігаў, Почап і Гомей, маскоўскім дыпламатам давялося даваць спецыяльныя тлумачэнні. Раней пералічаныя гарады не ўключаліся ў тэкст дамоў, таму што належалі «слуге» Васілія III — князю Васілію Старадубскаму. Гарады гэтыя насамрэч і тады пазначаліся, але схавана, пад фармулёўкай «царю не воевати слуг его отчин княж Васильевы Шемячичевы и княж Васильевы Стародубского»[203]. Цяпер жа «Божия воля ссталась — слуги его [Васілія III — *В.Ц.*] князя Василья Семеновича в животе не стало, и те городы вотчина государя нашего ныне за государем за нашим»[204]. Менавіта таму ў шэртнай грамаце і ўдакладняўся пералік гарадоў, якія непасрэдна належалі маскоўскаму князю.

Такім чынам, апошні ўладар Старадубскага княтва памёр у 1518 г., а яго вымарачны ўдзел быў, нарэшце, ліквідаваны і стаў належаць непасрэдна вялікаму князю маскоўскаму[205].

Пасля гэтага ў Гомеі з'явіліся маскоўскія намеснікі (Васілій Пушкін, Фёдар Грыгор'евіч Пляшчэеў, князь Дзмітрый Дзмітрыевіч Шчэпін-Абаленскі)[206]. Быў сфарміраваны Гомейскі ўезд.

---

198 Дату смерці кн. Сямёна пазначаюць звычайна каля 1505 г. (гл., напрыклад: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 262), аднак, верагодна, ён памёр незадоўга да заключэння маскоўска-літоўскай мірнай дамовы 8.10.1508 г. У маскоўскіх дзеяннях па захопе шэрагу рэчыцкіх сёл у 1508 г. літоўскі бок абвінавачваў менавіта свайго «зрядчика» князя Мажайскага (НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 7. Арк. 325).

199 Князі, якія працягвалі ў ВКЛ называцца Мажайскімі, зноў вярнуўшыся ў падначаленне Маскве, звычайна пачыналі называцца Старадубскімі (Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 262).

200 Герберштейн С. Записки о Московии. С. 141.

201 Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России… С. 141.

202 Герберштейн С. Записки о Московии. С. 140.

203 СИРИО. Т. 95. СПб., 1895. С. 555.

204 Тамсама. С. 554.

205 Зимин А.А. Служилые князья в Русском государстве. С. 44; Ён жа. Формирование боярской аристократии в России. С. 138. На думку У.Дз. Назарава, князь Васілій Сямёнавіч, які не меў нашчадкаў мужчынскага полу, памёр у канцы 1517 — самым пачатку 1518 г. (Акты Русского государства 1505—1526 гг. М., 1975. С. 317).

206 Пашкова Т.И. Местное управление в Русском государстве первой половины XVI в. (наместники и волостели). С. 137.

## 3. Гомейская воласць пад уладай Масквы і фарміраванне ўезда ў 1500—1535 гг.

Верагодна, толькі пасля ліквідацыі Старадубскага княства можна гаворыць пра пачатак фарміравання Гомейскага ўезда. Тым не менш тэрыторыя апошняга, без сумнення, стала вызначацца з моманту ўключэння ў склад Вялікага Княства Маскоўскага зямель на захад ад р. Сож.

Першыя звесткі пра тэрыторыі, якія былі далучаны да Вялікага Княства Маскоўскага ў выніку вайны 1500—1503 гг. (сярод іх была і Гомейская воласць), знаходзяцца ў перамірнай грамаце 1503 г.[207]. Дакумент адлюстраваў той узровень дасягнутага кампрамісу ў выніку праведзеных у Маскве перамоў, які дазволіў на пэўны час спыніць ваенныя дзеянні і задаволіцца дасягнутым або захаваным. Паколькі аснову канфрантацыі, безумоўна, складалі тэрытарыяльныя інтарэсы, галоўным зместам перамірнай граматы былі спісы ўладанняў маскоўскага і літоўскага бакоў.

Найперш, склад уладанняў і прэтэнзіі на іх у двух варожых дзяржаў адлюстроўваліся ў тытулах манархаў[208], затым замацоўваліся за бакамі ў форме пазначэння тых гарадоў з іх рэгіёнамі, адносна якіх маглі ўзнікнуць прэтэнзіі[209]. На трэцім узроўні называліся гарады і валасці і іх гаспадары, чые землі з'яўляліся нядаўнімі набыткамі маскоўскага боку. І, нарэшце, чацвёрты ўзровень складалі спісы валасцей ці нават сёл, якія знаходзіліся пад непасрэдным наглядам і ўвагай кожнага боку — як правіла, яны былі памежнымі.

Пералік у граматах шэрагу валасцей і сёл пасля пазначэння гарадоў не меў на мэце даць схему ўсяго адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу. Асноўная маса валасцей, а тым больш сёл заставалася па-за полем зроку складальнікаў грамат. У тэкст дамовы ўводзіліся толькі тыя населеныя пункты, адносна якіх у абодвух бакоў быў нейкі інтарэс або пазначэнне якіх мела пэўны сэнс. Пасля лакалізацыі на карце спецыяльна вылучаных у граматах валасцей і сёл выяўляецца, што ўсе яны былі ў памежнай зоне і вызначалі, а іншымі словамі — маркіравалі, лінію мяжы.

Для большай часткі пазначаных у грамаце гарадоў наогул не падаецца ніводнай воласці ці сяла. Як ужо было заўважана, асаблівую ўвагу складальнікі граматы звярталі толькі на тыя тэрытарыяльныя адзінкі, якія ўтваралі і вызначалі памежную зону. Так, у пераліку валасцей Смаленска, Віцебска і Полацка, якія заставаліся літоўскімі, заўважаем выключна тэрыторыі ўскраін. Менавіта на іх найперш мог прэтэндаваць маскоўскі бок і нават, магчыма, ужо рэальна завалодаў імі ў выніку ваенных дзеянняў. Дзякуючы вызначэнню месцазнаходжання пералічаных у грамаце валасцей можна намеціць увесь усходні смаленскі рубеж з поўначы на поўдзень і зафіксаваць паўночнае віцебскае і полацкае памежжа.

Таксама і для маскоўскага боку ў грамаце 1503 г. былі заяўлены не толькі спісы гарадоў, але і ў некаторых выпадках рабіўся разгорнуты пералік валасцей і сёл. Спецыфічнай асаблівасцю «маскоўскай» часткі граматы з'яўляецца тое, што далёка не заўсёды ў ёй адзначалі толькі тыя воласці, чые адміністрацыйныя цэнтры (га-

[207] LM. Kn. 5. № 118.13. P. 209—212.

[208] «...мы, Алексанъдръ, Божьею м(и)л(о)стью, корол полскии и великии княз литовъскии, рускии, княжа пруское, жомоитскии и иныхъ, целовалъ есми крестъ к тобе, брату своему и тстю Иоанну, Божьею м(и)л(о)стью, г(о)с(по)д(а)ру всея Руси и великому князю володимерскому, и московъскому, и новгородскому, и псковъскому, и тферъскому, и югоръскому, и пермъскому, и болгаръскому...» (LM. Кн. 5. № 118.13. P. 211).

[209] З літоўскага боку называюцца толькі тыя гарады, якія лічыліся «русскими» і на якія ў сувязі з гэтым мог прэтэндаваць «государь всея Руси».

рады) ужо знаходзіліся пад маскоўскай уладай. Згаданыя ў грамаце 1503 г. воласці, аднесеныя да ліку маскоўскіх, можна падзяліць на 4 групы.

1. Воласці з горадам, да якога яны цягнулі, што пераходзілі, відавочна, у поўным складзе са сваім цэнтрам пад уладу маскоўскага гасудара (Дарагабуж, Белая (Белы), Таропец). Пералік побач з горадам яго валасцей сустракаецца ў грамаце 1503 г. рэдка. Дастаткова было пазначыць толькі сам горад з формулай «с волостьми», і станавілася зразумелым, што да Масквы адыходзіла цалкам уся яго структура валасцей і сёл. Удакладненне валаснога складу таго ці іншага горада звязанае было, відаць, з яго месцазнаходжаннем каля самай мяжы. У такім разе выключаліся магчымыя прэтэнзіі літоўскага боку пра іншую прыналежнасць тэрытарыяльных адзінак. Маскоўскія дыпламаты самі актыўна карысталіся такім прыёмам.

2. Воласці, уключаныя ў склад суседніх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія ў поўным складзе пераходзілі пад уладу Масквы. Так, акрамя ўласных валасцей, да Таропца далучаліся і суседнія, захопленыя ў Віцебскай зямлі (Веліжская, Плавеецкая, Жыжыцкая, Азярэцкая і Казарынаўская воласці)[210]. Відавочна, да Бранска і Старадуба былі далучаны воласці Карачаў, Хоцімль, Папова Гара, Мглін, Дрокаў. Карачаў у свой час (у другой палове XIII — пачатку XV ст.) быў цэнтрам асобнага княства, а тры апошнія воласці былі адарваны ад Мсціслаўскага княства, якое мела статус удзела ў складзе ВКЛ.

3. Воласці, адарваныя ад ВКЛ і пад маскоўскай уладай сцягнутыя да новага цэнтра (да горада або вылучанага ў якасці такога валаснога цэнтра). З вялікай колькасці смаленскіх валасцей быў створаны Дарагабужскі ўезд[211]. Вядома, што ў вотчыне трокскага ваяводы Яна (Івана) Гаштольда былі воласці Вялікае Поле і Муцішын[212]. З іх першая ўвайшла ў склад Дарагабужскага ўезда, а другая наогул не згадваецца ў грамаце 1503 г. Ужо да 1500 г. Дарагабуж быў выдзелены ў асобнае ад Смаленска намесніцтва (таксама як Дзямена і Лучын Гарадок)[213]. Відавочна, гэта было зроблена з мэтай фарміравання лініі абароны на маскоўскай мяжы. У стадыі фарміравання знаходзіліся ўезды Сярпейска і Масальска, былога ўдзельнага цэнтра Карачаўскага княства. Для іх было прызначана шмат валасцей, у мінулым смаленскіх. З часткі віцебскіх валасцей быў сфарміраваны асобны ўезд, у якім валасны цэнтр Острые (Астрэе) па статусе быў павышаны да горада.

4. Воласці, адарваныя ад буйных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак ВКЛ, але не аднесеныя пакуль маскоўскай уладай да нейкага цэнтра. Двума блокамі былі запісаны смаленскія воласці. Вержава і Буйгарад укліньваліся ў Смаленскую зямлю на паўночным захадзе ад Дарагабужа, а шэраг валасцей (Пацынь, Фёдараўскае, Асавік і інш.) фарміравалі раней усю паўднёвую ўскраіну Смаленска.

Чамусьці асобна былі названы чарнігаўскія воласці Сноўск і Харабор. Яны не былі памежнымі, не былі адабраны ад аднаго і далучаны да іншага адміністрацыйнага цэнтра, але, відаць, выклікалі інтарэс з-за сваёй значнай тэрыторыі[214].

Да чацвёртай групы варта аднесці і адзіны прадстаўлены ў грамаце 1503 г. спіс сёл. Памылковай з'яўляецца думка, што сёлы Уваравічы, Целяшэвічы, Цярэнічы,

[210] СИРИО. Т. 35. № 75. С. 395.

[211] Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieku. Poznań, 1995. S. 60.

[212] LM. Kn. 3. P. 46. Ян Гаштольд да 1440 г. быў смаленскім намеснікам (старастам) (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. S. 49).

[213] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. S. 7, 55.

[214] Паводле «Реестра черниговских границ» Сновеск і Харабор з'яўляліся самымі буйнымі населенымі пунктамі ў рэгіёне (50 і 100 дамоў, адпаведна) («Пам'ять» 1527 р. С. 208). Сноўск у свой час быў адным з найважнейшых цэнтраў Чарнігаўскага княства (Зайцев А.К. Черниговское княжество. С. 68—69, 80).

Кашалёў Лес, Марозавічы, Ліпінічы, Скарбовічы, Залессе, Бабічы, Свяцілавічы, Галодна, Лапічы і Паляшане былі гомейскімі[215]. Як высвятляецца са «Списка о порубежных землях и о жалобах», дасланага ад імя караля, вялікага князя Жыгімонта ў Маскву 30 сакавіка 1527 г., усе пералічаныя сёлы перайшлі «в сторону великого князя, по перемирной грамоте» са складу Чачэрскай, Стрэшынскай і Горвальскай валасцей[216]. Відавочна, менавіта старадубскі князь Сямён Іванавіч набыў дадатковыя землі пры пераходзе на маскоўскую службу. Названыя ў грамаце, а таксама некаторыя неназваныя сёлы і воласці былі далучаны да ўдзельнага княства князя Сямёна і сталі часткай узнікаючага Гомейскага ўезда.

Гомейская воласць увайшла ў склад Вялікага Княства Маскоўскага цалкам, але нягледзячы на свой памежны стан, толькі невялікая частка яе тэрыторыі судакраналася з уладаннямі ВКЛ. Улічваючы той факт, што разам з Гомеем да Масквы на кароткі час адышоў і Любеч (да 1508 г.), можна лічыць, што толькі ў суседстве з чачэрскімі землямі ў Гомейскай воласці намеціўся ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы. На значнай адлегласці ўздоўж меж Гомейскай воласці, абмінаючы яе тэрыторыю з захаду на поўнач, працягнуліся сёлы, адарваныя ад суседніх з Гомеем валасцей. Яны і складалі памежную зону, што адасобіла гомейскую тэрыторыю ад зямель, якія засталіся ў складзе ВКЛ.

Тэрыторыя Гомейскай зямлі пасля ўключэння ў яе склад суседніх сёл і іншых змен (пра якія будзе яшчэ сказана) значна змянілася. Але, тым не менш, дзякуючы звесткам пра гэтыя тэрытарыяльныя трансфармацыі, можна значна ўдакладніць першапачатковыя межы Гомейскай воласці.

Такім чынам, лакалізацыя і выдзяленне буфернай тэрыторыі, на пачатку XVI ст. аднесенай да Гомея, дазволіць выявіць частку заходняй і амаль усю паўночную мяжу Гомейскай воласці.

Амаль усе сёлы Чачэрскай, Стрэшынскай і Горвальскай валасцей лёгка знаходзяцца на карце. Сумненні ўзнікаюць толькі адносна Скарбовічаў, Лапічаў і Паляшанаў.

У грамаце 1503 г. выклікае цікавасць парадак пераліку сёл, пакінутых за Масквой[217]. Спіс пачынаецца са стрэшынскіх Уваравічаў, якія ўпэўнена лакалізуюцца на правым беразе р. Узы, правым прытоку Сожа[218]. Затым указваюцца Целяшэвічы — гэта сучасныя Целяшы, таксама на правым беразе р. Узы, на поўдзень ад Уваравічаў. 3-і пункт — Цярэнічы — таксама лакалізуецца на правым беразе р. Узы, на паўночным усходзе ад папярэдняга (рака Уза робіць паварот). Пасля гэтага спіс працягваецца горвальскім сялом Кашалёў Лес. Яго не трэба блытаць з сучасным раённым цэнтрам Гомельскай вобласці Будай-Кашалёвам[219]. Сяло Кашалёў Лес (Кашалёва) размяшчалася каля пра-

---

215 Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 519. Гэтую памылку заўважыла Н.Б. Шаламанава (Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 80).

216 СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751—752.

217 Тамсама.

218 За 1 км на ўсход ад сучаснага сяла выяўлены гарадзішча, курганны могільнік і селішча, якія сведчаць пра даўнасць засялення гэтай тэрыторыі (Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. С. 115—116; Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. С. 187).

219 На карце М.Ф. Спірыдонава сяло Кашалёва паказана якраз на месцы сучаснага раённага цэнтра, горада Буда-Кашалёва (Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267). Населены пункт Буда вядомы з 1824 г., і толькі ў другой палове XIX ст. яго назва набыла сучаснае гучанне (Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. С. 121). Магчыма, на прадпрыемства па выпрацоўцы паташу (буду) былі прыцягнуты выхадцы з суседняга сяла, адкуль і з'явілася падвойная назва, але атаясамліваць старадаўняе сяло Кашалёва з адносна нядаўнім паселішчам, канечне ж, нельга.

вага берага р. Ліпы (правага прытока Сожа) бліжэй да вярхоўяў[220]. Месцазнаходжанне наступнага сяла, зноў стрэшынскага — Марозавічы — таксама дакладна вядома. Яно намячаецца ў самых вярхоўях р. Узы, з левага яе боку. Упэўнена вызначаецца і месца чачэрскага сяла Ліпінічы — непадалёку ад Кашалёва Лесу на паўночны захад ад яго за р. Ліпай (ад р. Ліпы, верагодна, сяло і атрымала сваю назву)[221]. А вось наступнае чачэрскае сяло — Скарбовічы — знайсці не ўдалося. Існуе невялікая верагоднасць таго, што яно тоесна Сябровічам, якія знаходзяцца на ўсход ад Ліпінічаў каля самай ракі Сож[222]. Нягледзячы на тое, што археалагічныя звесткі пацвярджаюць даўнюю гісторыю гэтага паселішча каля правага берага р. Сож[223], розніца ў назвах Скарбовічы і Сябровічы не дазваляе ўпэўнена супастаўляць абодва сялы.

Спіс сёл граматы 1503 г. пасля Скарбовічаў пераносіць нас у левабярэжжа р. Сож. Пералічаныя тут 4 сялы размяшчаліся ад р. Сож (Залессе) да яе левага прытока Бесядзі (праз Бабічы да Свяцілавічаў і Галодна) і сваім месцазнаходжаннем адсякалі ўсё міжрэчча Сожа і Бесядзі ў бок Чачэрскай воласці. Побач за р. Сож стаялі гомейскія сёлы Шэрсціна і Прэсна, вядомыя з сярэдзіны XV ст.

Пасля сяла Галодна спіс нечакана працягваецца чачэрскім жа сялом Лапічы, якое даследчыкі змяшчаюць у правабярэжжы Сожа, на поўнач ад Уваравічаў і р. Узы[224]. Папярэдне пагодзімся з такой лакалізацыяй, аднак пасля с. Лапічы ў грамаце 1503 г. называецца с. Паляшане, месца якога, магчыма, зноў у левабярэжжы р. Сож. Атрымліваецца, што Лапічы выбіваюцца з агульнай логікі складання спіса. Такім чынам, у пошуках сяла Лапічы варта больш уважліва вывучыць тэрыторыю паміж Свяцілавічамі і Паляшанамі, у раёне рэчак Покаці (левы прыток Сожа) і Бесядзі[225]. Карты XVIII—XX ст. не дапамагаюць у пошуках, аднак у інвэнтарах Чачэрскага староства 1704 і 1726 гг. пры апісанні меж с. Хлусы (на р. Бесядзі, гл. ніжэй) каля р. Нёманкі (прыток Сожа) сустракаюцца землі с. Лапічы, па суседству з тэрыторыяй сёл Жалезнікі і Рэчка[226]. У інвентары 1726 г. ёсць нават апісанне сяла Лапічы. Аднак нечакана гэта аказваецца тым самым сялом, якое знаходзілася (існуе і цяпер) у правабярэжжы р. Сож[227]. Суседзямі Лапічаў названы сёлы Дуравічы і Данілавічы[228].

---

220 За 0,5 км на поўнач ад сучаснага сяла, відаць, каля самага берага р. Ліпы, знойдзена гарадзішча, калісьці ўмацаванае валам і ровам (Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. С. 112; Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. С. 152).

221 Усе пералічаныя сёлы (Уваравічы, Целяшы, Цярэнічы, Кашалёва, Марозавічы, Ліпінічы) назіраем на планах Генеральнага межавання (Генерального плана Белицкого уезда часть 1-я / Генеральное межевание Могилевской губернии. 1784; Генерального плана Рогачевского уезда часть 3-я / Генеральное межевание Могилевской губернии. 1784).

222 На Генеральным плане Рагачоўскага павета пазначаны: в. Сябровічы непадалёку ад правага берага р. Сож і с. Сябровічы на адным з левых прытокаў Сожа (Генерального плана Рогачевского уезда часть 5-я / Генеральное межевание Могилевской губернии. 1784).

223 Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 2. С. 512.

224 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 88; Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 504, 508 і карта.

225 У перамірнай грамаце 1522 г. Лапічы, відаць, памылкова названы Ліпічамі (СИРИО. Т. 35. № 94. С. 638).

226 Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в центральном архиве в Витебске / Под ред. Д.И. Довгялло. Вып. 28. Витебск, 1900. С. 20, 21, 71.

227 Тамсама. С. 37.

228 Тамсама.

у падрабязным інвентары Чачэрскага староства 1754 г. Лапічы левабярэжжа Сожа ўжо не згадваюцца[229]. Магчыма, да сярэдзіны XVIII ст. гэтае сяло апусцела і таму не было зафіксавана на складзеных пазней картах.

Пэўнасці ў вызначэнні месцазнаходжання Паляшанаў таксама няма. Населены пункт Палессе, у якім можна бачыць даўнія Паляшане, і па сваім аддаленым становішчы, і па існуючай розніцы ў назве, толькі з вялікімі дапушчэннямі можа быць атаясамлены з шуканым сялом. Пасольскія кнігі пэўна сведчаць пра існаванне як Паляшанаў, так і Палесся[230].

У пасланні вялікага князя Васілія III каралю Жыгімонту (травень 1531 г.) былі выказаны скаргі маскоўскіх наменікаў і прыказных людзей на тое, што падданыя Жыгімонта «вступаются» ў гомейскія сёлы і ў старадубскія воласці і сёлы. Пры гэтым былі пералічаны ўсе сёлы з граматы 1503 г., якія да гэтага часу сталі часткай Гомейскага ўезда (сярод іх, канечне, і Паляшане), а таксама дадзены гомейскія або старадубскія воласці Лучыцкая (Алучычы), Маслаў і Крукаў дзясяткі і сёлы Валосавічы, Арэхавічы, Палессе, Анісімкавічы і інш. Большасць «старадубскіх» сёл і воласці Маслаў і Крукаў дзясяткі насамрэч былі часткай Чачэрскай воласці і запаўнялі прастору паміж Бесяддзю і яе прытокам Калпітай, з аднаго боку, і Сожам, з другога. Такім чынам, у гэтым рэгіёне таксама выяўлялася настойлівае імкненне маскоўскіх улад усталяваць дакладную мяжу па натуральным прыродным рубяжы — у гэтым выпадку па р. Сож. Але зараз важна тое, што с. Палессе цалкам натуральна выглядае ў атачэнні сёл, якія заяўлены старадубскімі. Яно знаходзіцца побач з Валосавічамі і Анісімкавічамі (на поўнач) і Струменем (на захад)[231]. Значыць, сяло Паляшане, якое вядома з 1503 г., не варта атаясамліваць з сялом Палессе. Ускосныя дадзеныя прымушаюць шукаць сяло Паляшане ў правабярэжжы Сожа, а Лапічы на яго левым, усходнім баку.

У выніку маскоўска-літоўскіх перамоў 1537 г. частка сёл, «которые были писаны в перемирной грамоте имянно в великого князя сторону», вярнуліся ў склад ВКЛ. Сярод іх былі названы і Паляшане[232]. Зразумела, што маскоўскія ўлады паступіліся менавіта тымі сёламі, якія пасля вяртання Гомейскай воласці аказаліся б у атачэнні літоўскіх зямель. Яны размяшчаліся на захад і паўночны захад ад асноўнай гомейскай тэрыторыі. У той жа час іншая частка сёл са спіса граматы 1503 г. (сярод іх бачым і Лапічы) заставалася за Масквой[233]. Адзначым, што пасля страты Гомея, адміністрацыйна яны былі падначалены Паповай Гары.

Такім чынам, сёлы, адведзеныя на пачатку XVI ст. у склад Гомейскага ўезда, можна падзяліць на 2 групы — правабярэжныя і левабярэжныя. Яны стваралі два тэрытарыяльныя масівы на ўсход і захад ад р. Сож. Пры гэтым хутчэй за ўсё паміж заходняй і ўсходняй тэрыторыямі, што дасталіся Гомею, не было агульнай сувязі. Падаецца, што маскоўскае наступленне 1500 г. прывяло да захопу значнай часткі Чачэрскай воласці паміж рэкамі Сож і Бесядзь і аскепкаў розных валасцей да вярхоўяў правых прытокаў Сожа Ліпы і Узы. Цераспалосіца ўладанняў у гэтым раёне спрашчала адарванне пэўнай колькасці сёл ад іх валасных цэнтраў.

Справа ў тым, што суседнія з Гомейскай воласцю сёлы былі раскіданы так, што, напрыклад, стрэшынскія сёлы знаходзіліся на захад ад зямель Горвальскай воласці,

[229] З люстрацыі Чачэрскага староства… // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Чачэрскага р-на. С. 66—73.

[230] СИРИО. Т. 35. № 109. С. 838; № 110. С. 843.

[231] Сяло Палессе на карце Генеральнага межавання (Генерального плана Рогачевского уезда часть 5-я).

[232] СИРИО. Т. 59. СПб., 1887. № 6. С. 105.

[233] Тамсама; LM. Kn. 15: (1528—1538). Vilnius, 2002. № 164. P. 211.

у адрыве ад асноўнай тэрыторыі сваёй воласці. Горвальскі Кашалёў Лес пры гэтым укліньваўся на паўночны ўсход, да ракі Ліпы, магчыма, засланяючы сваімі землямі прамы доступ Стрэшынскай воласці да сваіх сёл па р. Узе.

Не звяртаючы пакуль увагі на новыя павятовыя гомейскія межы, паспрабуем папярэдне пазначыць частку межы першапачатковай Гомейскай воласці. Ад Чачэрскай воласці гомейскую тэрыторыю аддзяляла рака Сож (ад вусця р. Бесядзі)[234]. Далей гомейская мяжа адрывалася ад Сожа ў раёне вусця р. Ліпы і ішла ўздоўж апошняй да ўчастка паміж сёламі Дуравічы (гомейскае) і Кашалёў Лес (горвальскае). Нейкі ўчастак р. Ліпы ў якасці мяжы застаўся, відаць, актуальны і для пачатку XVI ст. Непасрэдна каля левага берага Ліпы заставалася пад літоўскай уладай чачэрскае с. Лугінічы, пра што мы даведваемся са «Списка о порубежных землях и о жалобах» 1527 г.[235]. Становіцца відавочным, што два масівы сёл са спіса граматы 1503 г. былі адасоблены адно ад аднаго чачэрскімі землямі.

Ад р. Ліпы мяжа адступала на поўдзень, пакідаючы ўбаку чачэрскія Лапічы (калі яны знаходзіліся на гэтым месцы), і, магчыма, дасягала Узы ў месце павароту яе цячэння з усходу на поўдзень або, дакладней, у раёне Кабылінага балота, што знаходзілася крыху на ўсход. Калі ж Лапічы знаходзіліся ў іншым месцы, з левага боку р. Сож (што адпавядае логіцы пабудовы спіса граматы 1503 г.), то ўсё адно, ад р. Ліпы гомейская мяжа ішла на поўдзень да р. Узы або да Кабылінага балота, дзе гомейскія землі былі б аддзелены стрэшынскім сялом Марозавічы, размешчаным на левым баку р. Узы. Тры стрэшынскія сялы каля правага берага р. Узы (Уваравічы, Цярэнічы, Целяшэвічы) пазначалі гомейскую мяжу на значнай адлегласці ўздоўж р. Узы. Пасля чарговага павароту р. Узы, за сялом Целяшэвічы, гомейскія землі сустракаліся з тэрыторыяй Рэчыцкай воласці.

Рэчыцка-гомейская мяжа XV — першай трэці XVI стст. вызначаецца цяжка. Стварaецца ўражанне, што ў напрамку Рэчыцы мяжа як такая яшчэ не сфарміравалася і ў XVI ст. Прыметна імкненне маскоўскага боку адсунуць свае ўладанні да Дняпра і ўсталяваць па ім мяжу[236]. Так, ужо ў 1504 г. пасланнік караля Аляксандра Мацвей Кунцэвіч прад'явіў у Маскве спіс валасцей і сёл, якія былі заняты пасля заключэння перамір'я. Сярод іх былі названы горвальскія сёлы Чабатовічы, Буцоні, Засоўе, Калскевічы, Чорныя і рэчыцкія сёлы Кісловічы, Басаткавічы, Лемяшэвічы. Усімі імі кіраваў слуга князя Сямёна Мажайскага (Старадубскага)[237]. У 1511 г. шляхціц караля Жыгімонта Багдан Даўгердаў прывёз у Маскву грамату са скаргай на князя Мажайскага. Апошні «забрал» рэчыцкія сёлы Засуеў (відавочна, Засоўе), Габатовічы (відавочна, Чабатовічы), Калскевічы, Бацуні, Чорныя, Агірова, Заспу, Левашэвічы,

---

234 Па рэчышчы р. Сож ад вусця р. Ліпы да вусця р. Бесядзі праводзіць мяжу Гомейскай воласці і С.М. Кучыньскі (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 87).

235 СИРИО. Т. 35. № 102. С. 752.

236 Характэрна, што пасля захопаў 1500 г. у інструкцыях маскоўскім паслам, якія адпраўляліся ў Крым, была адзначана неабходнасць арыентаваць крымскага хана на паходы ўглыб ВКЛ (да Турава, Пінска, Менска), мінаючы левабярэжжа Дняпра («чтобы не ходили воевати по сей стороне Днепра к Путивлю, и к Чернигову, и к Рылску, и к Новому городку к Северскому, и к Стародубу, и к Гомью, и к Любечу, к Трубецку, и ко Дбрянску, и ко Мченску» [СИРИО. Т. 41. № 67. С. 327]). Тое самае было паўторана ў 1501 і 1503 гг. (Тамсама. № 70. С. 343; № 71. С. 350; № 92. С. 494). Маскоўскі бок ужо часткова валодаў левым бокам Дняпра (раён Любеча) і, відавочна, планаваў авалодаць астатнімі раёнамі на ўсход ад гэтай ракі (Рослаўль, Прапойск, Мсціслаў і нават Смаленск). Адсюль імкненне Івана III засцерагчы ад крымскіх набегаў зону сваіх інтарэсаў.

237 СИРИО. Т. 35. № 80. С. 469.

Кісловічы, Баркі «и чинит себе рубеж по Днепр»[238]. Палова названых сёл адносілася ўсё ж да Горваля, але ў параўнанні з 1504 г. склад рэчыцкіх сёл таксама павялічыўся. Значыць, захопы працягваліся. Прычым маскоўскія землі перакінуліся ўжо на правы бок Дняпра: там знаходзіліся сёлы Заспа і Левашэвічы (сучасныя Левашы). З астатніх рэчыцкіх сёл лакалізуюцца толькі Баркі (Борхаў) (на поўдзень ад Целяшэвічаў на р. Узе) у левабярэжжы Дняпра.

Багдан Даўгердаў прапанаваў выслаць маскоўскаму гасудару сваіх баяр, а кароль даслаў бы сваіх паноў, а яны, з'ехаўшыся, «управу учинят и виноватых казнят, а пограничным местом рубежи покладут»[239]. Значыць, да гэтага часу мяжа ў напрамку Рэчыцы не была вызначана. Гэтым, відаць, і скарыстаўся маскоўскі бок, выразна выявіўшы імкненне пашырыць свае ўладанні да натуральнага рубяжа — р. Дняпро. Дарэчы, высланыя вялікім князем маскоўскім Васіліем III у раён «обидных порубежных дел» дзеці баярскія заўважылі толькі дробныя парушэнні («обиды невеликие»), якія маглі б ліквідаваць і намеснікі, што там знаходзіліся[240].

Няпэўнасць рэчыцка-гомейскай мяжы, відаць, была звязана з балоцістым характарам мясцовасці, што падзяляла рэкі Дняпро і Сож у раёне іх зліцця[241]. З гомейскага боку ў ніжнім цячэнні Сожа вядомыя сёлы Бабовічы і Дзятлавічы (апісаны ў «Рэестры» 1560 г.)[242]. Адзін са згаданых у 1527 г. рэчыцкіх «заходов» — Міхалкава — відаць, адпавядае сучасным Міхалькам, што размешчаны крыху на захад ад Дзятлавічаў[243]. Такім чынам, гомейскія межы заходзілі за р. Узу ў ніжнім яе цячэнні і дзесьці на захад ад гэтай ракі сустракаліся з рэчыцкімі землямі.

Гэта — даўняя гомейская мяжа, якая замыкала сваёй лініяй тэрыторыю воласці паміж ракой Сож і яе левымі прытокамі Ліпай і Узой.

Да гэтага часу мы мелі справу толькі з тымі населенымі пунктамі, якія размяшчаліся з правага боку р. Сож; таксама была апісана мяжа Гомейскай воласці толькі ў правабярэжжы Сожа. Той факт, што да пераходу пад маскоўскую ўладу не фіксуецца ніякіх гомейскіх уладанняў на іншым беразе Сожа, нават выклікае думку пра лакалізацыю тэрыторыі першапачатковай Гомейскай воласці выключна паміж рэкамі Дняпро і Сож, прычым з апорай менавіта на апошнюю. Выяўлены ўчастак гомейскай мяжы ад вусця р. Бесядзі на паўночны-захад па цячэнні р. Сож быццам бы ўказвае на такую ж самую яе працягласць і ўніз па цячэнні гэтага прытока Дняпра. Аднак існуюць неабвержныя доказы таго, што гомейская тэрыторыя ўжо да 1500 г. даволі далёка шырылася і на ўсход ад Гомея, за р. Сож.

У выніку доўгіх перамоў 1537 г. літоўская дэлегацыя адстаяла для ВКЛ усю Гомейскую воласць, у тых межах, з якімі яна існавала да далучэння да Вялікага Княства Маскоўскага. З пасольскіх кніг высвятляецца, што гомейская тэрыторыя заходзіла больш чым за 60 вёрст на ўсход ад Сожа, дзе сустракалася са старадубскімі землямі. (Пра перамовы 1537 г. гл. ніжэй.) Канкрэтная інфармацыя пра гомейскія межы ў перамовах 1537 г. адсутнічае, але сам факт таго, што ў некаторай частцы Гомейская воласць вярталася ў сваіх межах да перыяду да 1500 г. дае падставы

238 СИРИО. Т. 35. № 84. С. 495.

239 Тамсама. С. 495—496.

240 Тамсама. С. 496. Каля Бабовічаў знойдзены гарадзішча і селішча часоў Кіеўскай Русі (Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. С. 134; Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. С. 264).

241 Гомельская область. Атлас. С. 25—26.

242 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 362, 355.

243 СИРИО. Т. 35. № 102. С. 752. Так сама лічыў і С.М. Кучыньскі (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 87).

выкарыстоўваць дадатковыя крыніцы, найперш «Реестр ревизии господарской Гомейской волости» 1560 г. Падаецца, што ўсходняя частка Гомейскай воласці (з левага боку р. Сож) вярнулася ў склад ВКЛ практычна без змен. Ад яе аднялі наслаенні перыяду маскоўскага панавання і ў «чыстым» выглядзе перадалі ВКЛ.

Акрамя таго, паўднёвую гомейскую мяжу вызначае комплекс дакументаў з рэестрамі меж усходніх рэгіёнаў ВКЛ. Звесткі пра гомейскую мяжу маюцца ў двух рэестрах: чарнігаўскім і любецкім.

Пры апісанні меж чарнігаўскай тэрыторыі (вызначаюцца з дапамогай пералічэння сёл чарнігаўскай зямлі) у «Реистре границ черниговских» згадваецца і «от Гомя граница»[244]. Памежным з Гомейскай воласцю было сяло Ліствен. З яго і пачынаецца рэестр. Наступным названа сяло (Гораск), якое вызначала ўжо чарнігаўска-старадубскі рубеж. Аднак тут можна зрабіць выснову, што дзесьці да гэтага сяла завяршалася тэрыторыя Гомея. Абодва сялы існуюць і зараз. Ліствен (Вялікі Ліствен) знаходзіўся на р. Крукавой, правым прытоку Снова. Гораск (Горск) размешчаны на правым беразе р. Сноў на паўночны ўсход ад Ліствена. Далей названа ў рэестры чарнігаўскае сяло Баровічы, ужо не памежнае. Яго можна знайсці ніжэй па цячэнні р. Сноў ад Гораска[245]. Астатнія чарнігаўскія сёлы былі размешчаны далёка ад гомейскай мяжы.

Такім чынам, звесткі «Реестра границ черниговских» вельмі небагатыя. Больш карысны для нас «Реестр любецкий», дзе сапраўды апісваюцца межы, а не проста пералічваюцца сёлы, некаторыя з якіх — памежныя[246]. Асобная частка гэтага дакумента прысвечана непасрэдна гомейскай мяжы з Любечам. Мяжа Любецкай воласці апісваецца вельмі падрабязна, і цяпер, дзякуючы даследаванню І.В. Кандрацьева, практычна ўсе геаграфічныя арыенціры, пазначаныя ў тэксце, могуць быць адлюстраваны на карце[247].

Такім чынам, ад гомейскіх Ігарэвічаў (Агарэўшчыны) гомейска-любецкая мяжа ішла да р. Уці (левы прыток р. Сож), пакідаючы на любецкім баку Ярылавічы (Ярылаўцы)[248]. Апошнія, без сумнення, тоесныя сучаснаму сялу Старыя Ярылавічы каля левага берага р. Сож у ніжнім яе цячэнні крыху вышэй (на поўнач) ад вусця р. Нямыльні[249]. Ярылавічы знаходзяцца даволі далёка ад р. Уці, але, відаць, у гэтым рэгіёне з нешматлікімі населенымі пунктамі ім належалі вялікія абшары, а палосы неасвоеных зямель былі ўмоўнымі межамі паміж імі.

---

244 «Пам'ять» 1527 р. С. 207.

245 Магчыма, гэта сяло (як і Гораск) у сярэдзіне XVI ст. ужо лічылася старадубскім. У «Списке обидных дел», складзеным у 1550 г. маскоўскім бокам, гучыць скарга на рабунак і захоп «в Боровичех» борцей старадубскага гарадавога прыказчыка (СИРИО. Т. 59. № 21. С. 345).

246 А.У. Русіна прапанавала нават назваць «Реестр границ черниговских» «Реестром сел черниговских» (Русина О.В. Сіверська земля. С. 16).

247 Кондратьєв І.В. Під Литвою, Москвою та Польщею. С. 18; Ён жа. Любецька волость у першій половині — середині XVI ст. С. 24—25.

248 «Пам'ять» 1527 р. С. 209, 211. У 3-й кнізе судовых спраў Метрыкі ВКЛ сяло Ярылавічы згадваецца як гомейскае (Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 37). Аднак С.М. Кучыньскі выказаў меркаванне, што там вядзецца не пра Ярылавічы, а пра гомейскія Рылавічы (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 85).

249 На карце М.Ф. Спірыдонава, напэўна, памылкова Ярылавічы пазначаны на месцы сучасных Новых Ярылавічаў (Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267). Тая ж памылка выяўляецца на асобнай карце Рэчыцкага павета (Спірыдонаў М.Ф. Рэчыцкі павет у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 42).

Ад р. Уці мяжа пераходзіла ў Сож і ішла, прытрымліваючыся цячэння ракі, да Саколяга (Саколскага) гнязда. Каля апошняга мяжа адрывалася ад р. Сож і ішла «поперекъ три мили» да Калодчычаў да Серабронскага еза на Дняпры[250]. Каштоўнае ўказанне для пошуку лініі мяжы — гэта тры мілі паміж Дняпром і Сожам, якія аддзялялі гомейскія землі ад любецкіх. Іх можна размясціць паміж Дняпром і Сожам на даволі значнай адлегласці, пачынаючы ад вусця р. Уці[251]. Тым не менш канцавая кропка адрэзка гомейскай мяжы — Калодчычы — вядома (гл. ніжэй).

У апісанні любецка-чарнігаўскай мяжы выклікае цікавасць фрагмент, у якім гаворыцца пра апошні яе адрэзак: «Сухии Вир — то останок границ черниговских з любецкими»[252]. Відавочна, ад р. Сухі Вір[253] (левы прыток Сожа) пачыналіся гомейскія землі і ішла гомейска-чарнігаўская мяжа.

У другім варыянце любецкага рэестра звыш апісання меж дадаткова пералічваюцца памежныя паселішчы. Так, насупраць любецкіх Пазнаховічаў называецца Слабодка, «село гомеиская»; насупраць панскіх[254] Ярылавічаў — гомейскія Маркавічы. Заяўлена, што Калодчычы на Дняпры належаць напалову Любечу і «Сенскому» — князю Івану Грыгор'евічу Сенскаму[255]. З усіх пазначаных сёл з пэўнымі агаворкамі лакалізуюцца Ярылавічы, Маркавічы, Калодчычы і Пазнаховічы. Два першыя сялы вядомы таксама з «Реестра ревизии господарской Гомейской волости» 1560 г.[256]. Сяло Маркавічы размяшчалася крыху на поўдзень ад р. Цярухі (левы прыток Сожа) у сярэднім яе цячэнні. (Менавіта так пазначыў месца сяла на сваёй карце М.Ф. Спірыдонаў[257], але, магчыма, з улікам звестак дакумента 1560 г., гэтая лакалізацыя будзе перагледжана.) Побач, на паўднёвым усходзе, знаходзілася сяло Ярылавічы (гл. вышэй). Калодчычы, у якасці рэчыцкага сяла, згадваюцца ў 1541 г. Тады князь Дзмітр Раманавіч Відзініцкі разам з прыёмнымі дзецьмі (ад князя Івана Грыгор'евіча Сенскага[258]) адстаяў сяло ад прэтэнзій рэчыцкіх

250 «Пам'ять» 1527 р. С. 209, 211. Меўся на ўвазе, канечне, ез — перагарода ракі для лоўлі рыбы, а не лес, як меркаваў С.М. Кучыньскі (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. Prz. 319. S. 85).

251 Не зважаючы на тое, якая міля выкарыстоўвалася (руская, польская ці нямецкая), адлегласць у 3 мілі прыблізна роўная 20—25 км (С.М. Кучыньскі, следам за Я. Натансанам-Лескім, называе 20—22 км (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 86).

252 «Пам'ять» 1527 р. С. 209.

253 Вір — геаграфічны тэрмін, які азначае вадаварот, хуткі ручай, крыніцу (Рогалев А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. С. 37).

254 Любеч у 1516—1542 гг. належаў пану Альберту Гаштольду (Русина О.В. Сіверська земля. С. 17).

255 «Пам'ять» 1527 р. С. 211, 215. Прим. 11; LM. Kn. 10 (1540—1541) / Parengė S. Lazutka, I. Valikonytė, S. Viskantaitė-Saviščevienė, J. Karpavičienė. Vilnius, 2003. № 191. P. 120; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 313; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 456—457.

256 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 353, 354.

257 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267; Ён жа. Рэчыцкі павет у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 42. Польскі даследчык Л. Калянкоўскі змясціў Маркавічы ў ніжнім цячэнні р. Уці (Kolankowski L. Zygmunt August, Wielki książę Litwy do r. 1548. Lwów, 1913. Tab. IV. Granica Litwy z Moskwą). Але такая лакалізацыя нічым не пацвярджаецца.

258 Пасля смерці Івана Сенскага яго ўдаву (княгіню Феннy Сямёнаўну Полазаўну) узяў за жонку князь Дзмітр Раманавіч Відзініцкі-Любецкі (LM. Kn. 10. № 191. P. 120; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 313; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 457).

мяшчан[259]. М.Ф. Спірыдонаў атаясаміў Калодчычы з населеным пунктам Холміч (сучасны Холмеч), які ўжо ў канцы XVI ст. меў статус мястэчка[260]. Прычыны такога супастаўлення, на жаль, невядомы. Побач знаходзіцца вёска Калочын, што дала назву вядомай археалагічнай культуры. Пэўнае падабенства назваў Калочын — Калодчычы (Калотчычы) дазваляе выказаць здагадку аб тоеснасці двух населеных пунктаў[261]. Нарэшце, Пазнаховічы — гэта сучасныя Пазнапалы на р. Сухі Вір. Трансфармацыя назвы гэтага сяла добра прасочваецца па матэрыялах люстрацый (апісанняў) Любецкага і вылучанага з яго ў 1585 г. Лоеўскага староства ў[262].

Такім чынам, гомейская мяжа шырокай дугой агінала тэрыторыю Любецкай воласці, накіроўваючыся ад р. Сухі Вір на поўнач праз іншыя прытокі Сожа Нямыльню і Цяруху да р. Уці. Рэкі Уць і Сож вызначалі адрэзкі мяжы, а амаль каля самага вусця Сожа мяжа пераходзіла да Дняпра. У выніку значная частка Любецкай воласці з трох бакоў суседнічала з гомейскімі тэрыторыямі. Адна частка гэтай тэрыторыі ўяўляла вузкі клін з правага боку ад Сожа ў напрамку Дняпра. Тут гомейскія землі павінны былі сустракацца з рэчыцкімі. Аднак, цалкам верагодна, гэтага не адбывалася.

Можна меркаваць, што, страціўшы ў 1508 г. Любеч, Вялікае Княства Маскоўскае захавала адзіны невялікі выхад да Дняпра каля вусця р. Сож. Натуральным было імкненне больш грунтоўна замацавацца ў раёне буйнейшай воднай артэрыі Усходняй Еўропы, каб паставіць пад свой кантроль грузапаток і перамяшчэнне людзей. У сувязі з гэтым назіралася актыўнае імкненне маскоўскіх улад пашырыць межы Гомейскага павета да Дняпра за кошт Рэчыцкай воласці (пра гэта гл. вышэй).

Няпэўнасць гомейскай мяжы па суседстве з Рэчыцкай воласцю паўтаралася і ў адносінах з чарнігаўскімі землямі. Толькі ўмоўна адрэзак гомейскай мяжы можна працягнуць ад вярхоўяў р. Сухі Вір на ўсход да р. Сноў. «Реистр любецкий» так характарызуе апісаныя межы: «А тыи границы идуть не по селом, все пущею з Днепра у Дунипръ»[263]. Вялікія адлегласці паміж памежнымі населенымі пунктамі сведчаць пра слабае асваенне тэрыторыі паміж ніжнім цячэннем р. Сож і сярэднім цячэннем р. Сноў (правы прыток Дзясны).

У раёне р. Уці, там, дзе праходзіла мяжа Гомея з чарнігаўскімі і любецкімі землямі, яшчэ ў сярэдзіне XVI ст. былі вялізныя лясы, дзе было шмат «яко великого, так и малого зверя»[264]. У рэках было многа рыбы і баброў. У цэлым пра рэгіён, які займалі рэкі Дзясна, Судосць, Сноў, Іпуць і Бесядзь з іх прытокамі, А. Лазарэўскі пісаў: «Все это пространство покрыто было почти сплошными лесами, значительная часть которых в первобытном своем виде сохранялась еще в XVIII ст.»[265].

Тым не менш у любецкім рэестры было заяўлена пра непарушнасць існуючых меж («а вступу нетъ») і іх даўнасць («якъ была съ стародавна»)[266].

---

259 LM. Kn. 10. № 191. P. 120; LM. Kn. 229 (1540—1541). Vilnius, 2003. № 191. P. 120—122.

260 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267; Ён жа. Рэчыцкі павет у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 42; Ён жа. Беларусь на карце Вялікага Княства Літоўскага 1613 г. // Гістарычны альманах. Т. 8. Гародня, 2003. С. 32 і карта на с. 12.

261 Да такой высновы прыйшоў С.М. Кучыньскі (Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 86).

262 Кондратьев И. Лоєвське староство у 1585 — середині XVII ст. // Пятыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 22—23 верасня 2005 г. Гомель, 2005. С. 200, 201.

263 «Пам'ять» 1527 р. С. 209.

264 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 353.

265 Лазаревский А. Описание старой Малороссии. С. 105.

266 «Пам'ять» 1527 р. С. 209.

Для ўдакладнення паўднёвай і вызначэння ўсходняй і паўночнай меж воласці з яе левага боку (адносна р. Сож), звернемся да «Реестра ревизии господарской Гомейской волости» 1560 г.[267]. Нягледзячы на тое, што Н.Б. Шаламанава просіць асцярожна карыстацца гэтай крыніцай, лічачы, што рэестр складзены ў 1640 г.[268], варта пагадзіцца з думкай Я. Натансана-Лескага, які заўважыў несумненнае падабенства тэрыторыі Гомея, апісанай у разгляданай крыніцы, з той, якую ён выявіў для Гомея да 1537 г.[269].

Падрабязныя апісанні меж зямельных угоддзяў гомейскіх сёл дазваляюць беспамылкова вызначыць раён іх размяшчэння або ідэнтыфікаваць з сучаснымі населенымі пунктамі, або пазначыць прыблізнае месцазнаходжанне. Назіранне за парадкам пералічэння сёл у «Рэестры» 1560 г. таксама можа дапамагчы пры некаторых высновах і абагульненнях.

Пры разглядзе «Рэестра» варта звяртаць асаблівую ўвагу на тыя сёлы, якія сваім месцазнаходжаннем фіксавалі межы гомейскай тэрыторыі. Унутраны склад Гомейскай зямлі ў дадзеным выпадку мае другаснае значэнне.

Апісанне гомейскіх сёл у «Рэестре» 1560 г. пачынаецца з Раманавічаў. Яны знаходзіліся каля самага горада, на супрацьлеглым баку р. Сож каля правага берага р. Іпуці. Пералік і далей працягвае прытрымлівацца р. Іпуці: называюцца сёлы Добруша (Добруш), Дзям'янавічы і Бярозцы (верагодна, сучасныя Бярозкі або Дзям'янкі)[270]. Затым увага пераносіцца на левы бок Іпуці. Наступнае сяло — Тростынь (Тростань) стаіць ужо каля самай мяжы па суседстве з маскоўскімі Бабовічамі[271]. Апісаннем меж сяла фактычна намячаецца ўчастак дзяржаўнай літоўска-маскоўскай мяжы.

Землі сяла пачыналіся ад Кармы Завіхвоста (?) і працягваліся да р. Іпуці. Тут яшчэ не сустракаліся маскоўскія ўладанні, яны знаходзіліся далей, каля ракі, што ўпадала з левага боку ў Іпуць — Карны. Апошняя на ўсім сваім працягу служыла мяжой. Выток Карны зусім блізка размешчаны да вярхоўяў р. Сноў (правы прыток Дзясны), і мяжа ішла ад Карны прама ў Сноў і ўверх па яго цячэнні[272]. Да Снову падступалі землі маскоўскага сяла Мікулічы, якое з пэўнымі дапушчэннямі можна атаясаміць з вёскай Мікалаеўкай каля сяла Рылавічы (цяпер не існуе)[273]. У 14 км на ўсход ад Рылавіч (сучаснае Сноўскае) заўважаем сяло Рубежнае, назва якога, магчыма, невыпадковая.

---

267 АЗР. Т. V. № 16. С. 37-67; АВАК. Т. XIII. № 100. С. 343—377.

268 Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 499.

269 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 135. Prz. 235—237.

270 Дзям'янавічы і Бярозцы (Дземіянавічы і Бярэсцы) — гэта адно сяло (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 346).

271 Гэта сучаснае сяло Старыя Бабовічы каля правага берага р. Іпуці. Новыя Бабовічы былі заснаваны толькі ў першай палове XVII в. (Лазаревский А. Описание старой Малороссии. С. 389—390).

272 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 347.

273 Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 505—506. А. Лазарэўскі указаў на сяло Мікулічы, якое разам з блізкім сялом Засуха (Старая Тростань) апусцела ў канцы XVI або на пачатку XVII ст. Пры гэтым сяло Старая Тростань было ўзноўлена каля 1640 г. (Лазаревский А. Описание старой Малороссии. С. 418). Архім. Філарэт, заўважыўшы ў Рылавіцкім прыходзе вёску Нікалаеўку, таксама палічыў яе маскоўскім сялом Мікулічы 1560 г. (Филарет, архим. (Ф.И. Гумилевский). Историко-статистическое описание Черниговской епархии. Кн. 7. С. 235). Мікулічы вядомыя з 1550 г. Тады людзьмі гомейскага намесніка гэтае сяло было разрабавана (СИРИО. Т. 59. № 21. С. 346).

Яшчэ далей на ўсход, з левага боку (на поўнач) р. Сноў знаходзілася старадубскае сяло Топаль. Н.Б. Шаламанава са спасылкай на дакумент РДАСА піша пра перадачу воласці Топаль мазырскаму старасце Стравінскаму[274]. Пазней маёнткі Топалі, Радманава і Высокае «w Powiete Starodubskim» былі аддадзены ва ўладанне Мартыну Валовічу[275].

Адрэзак гомейскай мяжы па р. Карне быў, відаць, вельмі ўстойлівым. Яшчэ на пачатку 1498 г. чарнігаўскі намеснік князь Іван Багданавіч Глінскі атрымаў пацвярджэнне на трыманне чатырох чалавек: двух братоў Унучковічаў, Халеевіча і Кандратовіча ў Старадубскім павеце, з іх землямі, сенажацямі, рэкамі і бабровымі гонамі[276]. Імёны першых людзей звязваюць з назвамі сёл Унуковічы і Халеевічы[277]. Знаходзіліся яны крыху на поўнач ад р. Карны, пры гэтым другое сяло стаяла на левым беразе Іпуці. Унуковічы (Внуковичи) згадваюцца ў «Описании дорог из Минска на Северщину» 1534 г., але без пазначэння гаспадарскай прыналежнасці[278]. Відаць, паміж 1500—1535 гг. раён паміж Іпуццю і яе прытокам Карной заставаўся па-ранейшаму старадубскім, і змены гомейскай мяжы тут не адбылося.

Пасля Тростыні можна было б адразу звярнуцца да сяла Рылавічы, якое таксама згадваецца ў «Рээстры» 1560 г. сярод гомейскіх, але парадак пералічэння сёл зноў пераносіць нас у глыб Гомейскай зямлі. Карма, Кузьмічы (Кузьмінічы) каля р. Харапуці (левы прыток Іпуці) і Галовінцы каля Іпуці існуюць і цяпер і лёгка знаходзяцца на карце. Праблемы ўзнікаюць з лакалізацыяй сяла Данілкавічы. Толькі апісанне меж гэтага сяла дазваляе з упэўненасцю назваць раён яго месцазнаходжання — паміж рэчкамі Камяніцай (Каменка, левы прыток Іпуці), Хмеленкай (левы прыток Каменкі), Рэктай, Крыўкай (прытокі Харапуці?) і Цалай (Цата?). Такім чынам, Данілкавічы знаходзіліся недзе на ўсход ад самых вярхоўяў Харапуці (левы прыток Іпуці) па суседстве з сялом Кузьмічы, што вынікае з апісання меж апошняга[279].

Асобна («зособна») ад сяла Кузьмічы пасярод лесу размяшчаўся востраў Перанаўскі (Перуноўскі), які належаў таму ж баярыну, які валодаў востравам Кузьмінскім (відавочна, і само сяло Кузьмічы знаходзілася пасярод паляны ў лесе, таму часта называлася востравам)[280]. Востраў Перанаўскі займаў тэрыторыю ад вярхоўяў ракі Уці «до границы Митковское»[281]. Паселішчаў з назвамі, блізкімі да Міткоўскае-Міцькоўскае, у раёне вярхоўяў р. Уці не выяўлена. У сувязі з гэтым, магчыма, мае сэнс прапанаваны А.Ф. Рогалевым варыянт прачытання назвы мяжы як «Литовской»[282]. Літоўска-маскоўская мяжа, сапраўды, магла праходзіць непадалёку

[274] Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 507.

[275] НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 823. Арк. 1—2. Два лісты каралёў Уладзіслава IV і Яна Казіміра адносяцца да 1642 і 1650 гг.

[276] АЗР. Т. 1. № 134.II. С. 154.

[277] Филарет, архим. (Ф.И. Гумилевский). Историко-статистическое описание Черниговской епархии. Кн. 7. С. 33; Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 506.

[278] Радзивилловские акты. № 18. С. 71.

[279] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 349.

[280] АЗР. Т. V. № 16. С. 41; АВАК. Т. XIII. № 100. С. 349.

[281] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 349. У арыгінале дакумента напісана «perenowski», пры гэтым другая літара «е» відавочна выпраўляе іншую літару, цалкам магчыма «u» (Lietuvos valstybės istorijos archyvas. F. SA. Bib. 115. P. 259).

[282] Рогалев А.Ф. От Гомиюка до Гомья. С. 81. У дакуменце без сумненняў напісана «mitkowskoie» (LVIA. F. SA. Bib. 115. P. 259).

ад вярхоўяў р. Уці. У тым жа раёне знаходзіцца стык сучасных расійскай, беларускай і ўкраінскай дзяржаўных граніц.

Затым пералік гомейскіх сёл пераходзіць да ракі Уці, левага прытока Сожа. Апісанні меж групы сёл, чые землі знаходзіліся па абодвух баках р. Сож у раёне яе левых прытокаў Уці і Цярухі, дапамагаюць удакладніць паўднёвую гомейскую мяжу. Землі сёл Антонавічы, Лагуновічы, Прыбытковічы, Маркавічы, Церашковічы, Дзятлавічы, Уцце, Насовічы шчыльна запаўняюць прастору на поўдзень ад Іпуці паміж іншымі левымі прытокамі р. Сож, а таксама пераходзяць на правы бераг Сожа. Нават сяло Маркавічы, якое знаходзіцца параўнальна недалёка ад левага берага р. Сож, мела ўгоддзі на правым баку гэтай ракі, па суседстве з землямі любецкага сяла Ісаковічы[283].

Большасць пералічаных сёл размяшчалася на левым баку р. Сож, па абодвух баках р. Уці. Толькі Дзятлавічы стаялі насупраць вусця р. Уці на правым беразе р. Сож і Маркавічы былі высунуты на поўдзень ад р. Уці, за р. Цяруху. Вызначэнне меж сёл Дзятлавічы і Маркавічы мае вялікае значэнне, бо гэтыя паселішчы, відаць, былі самымі крайнімі ў разгляданым рэгіёне (Маркавічы названы памежнымі ўжо ў «Рэестрах» 1522 г.)[284].

Землі і ўгоддзі сяла Маркавічы займалі тэрыторыю па абодвух баках р. Сож. Пры гэтым сумежнымі з імі былі землі любецкіх сёл Ісакавічы (з захаду), Ярылавічы (з поўдня) і гомейскага сяла Дзятлавічы (з поўначы). Вызначыць дакладную мяжу Маркавіч цяжка, бо немагчыма знайсці на карце невялікія рэчкі Сялечну (прыток Нямыльні?) і Добрую (прыток Цярухі?). Тым не менш, відавочна, што землі сяла Маркавічы знаходзіліся паміж левымі прытокамі Сожа Нямыльняй (паводле крыніцы — Нілільна, Нігілна)[285] і Цярухай з заходам на правы бок р. Сож. Ніжняе цячэнне Нямыльні належала Любечу. Магчыма, сучасная мяжа Беларусі і Украіны, што праходзіць ад Сожа праз р. Нямыльню, у нейкіх рысах адпавядала даўняму яе працяжэнню.

Нават няпоўнае ўяўленне пра зямельныя межы Маркавічаў паказвае, што само сяло аказваецца па-за імі. Таму ўзнікае сумненне ў правільнасці прынятай для Маркавічаў лакалізацыі. На карце Генеральнага штаба Чырвонай Арміі 1942 г. менавіта пасярэдзіне выяўленай тэрыторыі сяла Маркавічы, каля левага берага Сожа, пазначаны населены пункт з ідэнтычнай назвай[286]. Вельмі заманліва прызнаць яго даўнім сялом. Аднак на картах канца XVIII—XIX стст. такое паселішча не пазначана. І больш таго, новая лакалізацыя сяла Маркавічы ўступае ў супярэчнасць з вызначанай па «Рэестры» 1522 г. гомейска-любецкай мяжой. Атрымліваецца, што мяжа стварала рэзкую выгнутую лінію, то прыступаючы да Сожа, то адрываючыся ад гэтай ракі да яе прытока Уці і зноў вяртаючыся да свайго пачатку. Можна, канечне, выказаць думку пра існаванне двух населеных пунктаў з аднолькавай назвай або верагоднасць пераносу сяла з аднаго месца ў іншае, але даказаць гэта цяжка. У любым разе, у гэтым выпадку, адносна да «Рэестра» 1560 г., відавочна месцазнаходжанне сяла Маркавічы менавіта каля р. Сож, у атачэнні зямель, якія яму належалі.

Да правага (паўночнага) берага р. Цярухі прымыкалі, захопліваючы і паласу зямлі каля р. Сож, землі сяла Церашковічы. Апошняе атрымала сваю назву,

---

283 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 354.

284 Магчыма, пра памежны стан Маркавічаў сведчыць даўні земляны вал, размешчаны каля сяла. Мясцовыя жыхары знаходзілі ў ім дзіды, тарчы, рэшткі абмундзіравання вояроў (Рогалев А.Ф. Родные названия. С. 83).

285 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 354; АЗР. Т. V. № 16. С. 46.

286 Генеральный штаб Красной Армии. Карты. Л. N-36-XXXIII.

відаць, ад р. Цярухі, хаця і размяшчалася каля вусця Уці[287]. Сумежнымі з сялом Церашковічы называюцца Сеўрукі[288], якія ў іншым месцы «Рэестра» 1560 г. аказваюцца «на границе московской»[289]. У вадаёмах каля Сожа сяло Церашковічы мела супольныя (сумесныя) тоні з сёламі Бабовічы і Дзятлавічы[290], якія самі размяшчаліся на правым баку р. Сож.

Сяло Дзятлавічы знаходзілася амаль насупраць Церашковіч. Яго землі можна было б палічыць крайнімі ў паўднёвых межах Гомея, але, як ужо высветлілася, яшчэ больш на поўдзень і на правым беразе Сожа ляжалі землі сяла Маркавічы. Аднак землі Дзятлавіч маглі быць памежнымі адносна Любецкай і Рэчыцкай валасцей, што прымыкалі з захаду[291]. У самім «Рэестры» 1560 г. пра гэта нічога не сказана, але такая выснова відавочная, бо далей на захад ад Дзятлавічаў і больш паўночных Бабовічаў гомейскіх паселішчаў не было[292].

У апісанні меж сяла Дзятлавічы згадваецца тапонім Арлова гняздо[293]. Ці нельга звязаць яго з Сакаліным (Саколскім) гняздом «Реистра любецкого» 1522 г.[294]? Верагодна, пад назвамі Арлінае і Сакалінае гняздо першапачаткова хаваюцца сапраўды месцы гнездаванняў гэтых драпежных птушак, якія былі выбраны арыенцірамі для правядзення мяжы. Пазней магчыма ўжо саміх гнёздаў і не было, але так пачалі называць урочышчы, мясціны, дзе яны раней існавалі. У сувязі з гэтым можна асцярожна дапусціць тоеснасць абодвух пазначэнняў, бо яны блізкія па змесце. Зрэшты, ствараецца ўражанне, што Сакалінае гняздо стаяла непадалёку ад р. Сож («Сожом на низ до Соколе Гнезда»)[295], тады як паміж Арловым гняздом і Сожам знаходзіліся лес Ахібішча (Ахіба) і Жазейскае возера[296]. Згаданы лес быў памежным з іншым лесам — Бортным, які належаў любецкаму сялу Ісаковічы[297].

---

[287] С. Старыя Церашковічы на карце Генеральнага межавання пазначана каля самага вусця р. Уці. Крыху ніжэй па цячэнні Сожа стаіць с. Церашковічы, а яшчэ ніжэй, амаль каля вусця рэчкі Цярэхі — в. Цяруха (Генерального плана Белицкого уезда часть 2-я).

[288] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 355.

[289] Тамсама. С. 361. Магчыма, гаворка ідзе пра розныя Сеўрукі, і тады адмова Н.Б. Шаламанавай ад прызнання лакалізацыі сяла з такой назвай каля Гомея (а такі населены пункт існуе там і зараз) не зусім дакладная (Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 505)

[290] З гэтых вадаёмаў возера Глушча (Глушэц) можа быць знойдзена на сучаснай карце.

[291] Паводле «Рэестра» 1560 г. любецкія землі (сёлы Ісаковічы) сустракаліся з гомейскімі больш на поўдзень, у раёне леса Ахабішча (Ахібішча, Ахібы), той яго часткі, якая належала сялу Маркавічы (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 354). У сувязі з гэтым можна выказаць здагадку, што ніжэй за Ісаковічы па цячэнні р. Дняпро левы бок гэтай ракі да самага вусця Сожа займалі толькі любецкія землі. Значыць, шукаць выхад гомейскай тэрыторыі да Дняпра (пра яго існаванне ведаем з «Рэестраў» 1522 г.) варта вышэй (на поўнач) Ісаковічаў. Зрэшты, для гэтага рэгіёна ўласціва цераспалосіца ўладанняў і ніякіх пэўных высноў рабіць нельга.

[292] Верагодна, каля с. Дзятлавічы каля берага р. Сож (у раёне старога рэчышча) была даўняя прыстань. У XIX ст. мясцовыя сяляне знаходзілі тут рэшткі рачных караблёў (Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. С. 312).

[293] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 356.

[294] «Пам'ять» 1527 р. С. 209, 211.

[295] Тамсама. С. 209.

[296] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 356. Паміж Сожам і Дняпром, там, дзе адлегласць паміж імі ўсяго каля 8 км, на сучаснай карце можна заўважыць вёску Арол. Аднак малаверагодна, што яна мае адносіны да Арлова гнязда.

[297] Тамсама. С. 354.

Пасля Дзятлавіч у «Рэестры» 1560 г. называюцца сёлы Уцце і Насовічы, якія стаялі (адпаведна) на левым і правым берагах р. Уці. Падавалася б, самі гэтыя два сялы не былі памежнымі, але землі с. Уцце шырыліся да р. Турухі (Цярухі)[298], а землі с. Насовічы — яшчэ далей — перасякалі р. Цяруху і дасягалі больш паўднёвага прытока Сожа — Нямыльні (Нямільны)[299]. Нямыльня, паводле крыніцы, была мяжой гомейскай тэрыторыі.

Назіранні за размяшчэннем гомейскіх сёл у раёне р. Уці паказваюць, што нераспалосіца і значная аддаленасць іх зямель і ўгоддзяў ад сваіх цэнтраў — звычайная з'ява. Сяло Маркавічы, магчыма, увогуле было адарвана ад сваіх зямель па абодва бакі ад ракі Сож, бо адлегласць да іх перакрывалі ўладанні с. Насовічы, якія, дарэчы, таксама, стаялі далёка на поўначы. (Безумоўна, такія высновы рабіліся з улікам сучаснага месцазнаходжання сёл Маркавічы, Насовічы і інш. Магчыма, у мінулым сёлы былі ў іншых месцах.)

Іншай асаблівасцю гомейскай тэрыторыі ў правабярэжжы Сожа было тое, што размешчаныя тут землі (бабровыя гоны і рыбныя ловы) часта выкарыстоўваліся сумесна суседнімі паселішчамі, якія адносіліся да розных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак. Таму гомейскай мяжы як такой тут не існавала. Выразнае імкненне ўсталяваць яе назіраем з маскоўскага боку, але ў 1535 г. Гомейская зямля вярнулася ў склад ВКЛ, і, як відаць паводле «Рэестра» 1560 г., тэрытарыяльнае размежаванне так і не было зроблена.

У выніку высвятляецца, што дадзеныя рэестраў 1522 г. не адпавядаюць рэчаіснасці 1560 г. Гомейская тэрыторыя не толькі падыходзіла да правага берага р. Уці (у 1522 г. мяжа праходзіла строга па гэтай рацэ), але і распаўсюджвалася на поўдзень аж да р. Нямыльні.

Пасля Насовічаў «Рэестр» 1560 г. звяртаўся да ўсходняй мяжы Гомейскай зямлі, дзе тры сялы (Юркавічы, Азарчычы, Вага) групаваліся ў раёне р. Цаты (правы прыток Снова), а адно (Рылавічы) знаходзілася асобна — больш на паўночны ўсход каля вытоку р. Сноў.

Землі Юркавічаў (Старых Юркавічаў) дасягалі р. Жавяды (правы прыток Цаты), уздоўж якой праходзіць сучасная мяжа паміж Расіяй і Украінай. Мяжа сяла адрывалася ад р. Жавяды і ішла да р. Цаты (правы прыток Снова). Бабровыя гоны, якія належалі сялу, былі і на р. Вазе (левы прыток Цаты)[300].

Сяло Азарчычы (сучаснае Азарычы) знаходзілася ўбаку ад мяжы, на паўночным захадзе ад Юркавічаў. А вось сяло Вага (Уважа) стаяла «неподалеку от границы Московское»[301]. Назва сяла, безумоўна, звязана з р. Вагай (левы прыток Цаты), і сама гэтая рака, магчыма, служыла мяжой, хаця гэта і не пазначана ў «Рэестры» 1560 г. Зрэшты, і на межы сяла Вага не было звернута ўвагі, таму цяжка зрабіць нейкія пэўныя высновы. Пры сяле згадвалася зямля Хоеўская, якая можа быць неяк звязана са старадубскім сялом Фаевічы, што размяшчалася насупраць сяла Вага, непадалёку ад супрацьлеглага берага ракі Вагі[302]. Магчыма, маленькая рака, якая ўпадае ў Вагу, ад якой атрымалі назвы старадубскае сяло і зямля гомейскага сяла, носіць назву Хоеўка-Фаёўка. Значыць, гомейская тэрыторыя пераходзіла за р. Вагу,

[298] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 357.

[299] Тамсама. С. 358.

[300] Тамсама. С. 359.

[301] Тамсама. С. 360.

[302] Архім. Філарэт лічыў Фаевічы даўнім паселішчам, якое ўзнікла не пазней за 1500 г. (Филарет, архим. (Ф.И. Гумилевский). Историко-статистическое описание Черниговской епархии. Кн. 7. С. 237).

на ўсход ад якой можна намеціць праходжанне літоўска-маскоўскай мяжы. Але гэта толькі здагадка.

У апісанні павіннасцей баярскага сяла Вага «на границе Московской» згадваецца таксама баярскае сяло Сеўрукі[303]. Канечне, яго нельга атаясамліваць з аднайменным сялом на поўдзень ад Гомея, але ў іншых месцах аналагічная назва не сустракаецца.

За Вагай у «Рэестры» 1560 г. названа баярскае сяло Рылавічы[304]. Яго межы ў рэестры зноў не пазначаны, і знайсці месцазнаходжанне цяжка. Але гэта, відавочна, тое сяло Рылавічы, якое зараз мае назву Сноўскае і знаходзіцца ў самых вярхоўях р. Сноў[305]. Рылавічы, без сумнення, таксама былі блізкія да маскоўскай мяжы, але ў «Рэестры» пра гэта не сказана. Таму, магчыма, варта аднесці гомейскія ўладанні на ўсход аж да паселішча Рубежнае. Гэта было б тым больш верагодным, калі не пагадзіцца з атаясамліваннем маскоўскага сяла Мікулічы з населеным пунктам каля Рылавічаў Мікалаеўкай.

Адразу пасля Рылавічаў называецца сяло баярскае Слабада[306], і было б лагічным шукаць яго дзесьці паблізу. Але назіранне за пералікам сёл у «Рэестры» 1560 г. паказвае, што яны часта напісаны без усялякага парадку, хаця і бывае, што групуюцца, скажам, вакол р. Уці. Наступнае ў «Рэестры» за Слабадой сяло Бабовічы знаходзіцца на правым беразе р. Сож[307], у супрацьлеглым баку ад Рылавічаў. На вялікай прасторы паміж Рылавічамі і Бабовічамі цяжка весці пошукі. Важнае ўказанне «Рэестра» 1560 г. на тое, што Слабада стаіць «на границе Московской», на жаль, зусім не спрашчае магчымасці вызначэння месца гэтага сяла. Толькі адна згадка ў апісанні сяла Насовічы «слободицкого» баярына, магчыма, дазваляе прыйсці да пэўнай высновы[308]. Высвятляецца, што «в дереве бортном бояре гомейские, слободицкие Тимох Тешко...» мелі доступ у раён р. Пясочны (верагодна, сучасная Пясошанка, правы прыток Цярухі)[309]. Значыць, недзе ўбаку ад сярэдняга цячэння р. Цярухі і знаходзілася само сяло Слабада. Тут варта зноў прыгадаць здагадку аб вызначэнні месца Слабады ў вярхоўях сучаснай р. Цярухі ў раёне сучаснай беларуска-ўкраінскай мяжы (гл. вышэй). Вельмі верагодна, што такая лакалізацыя адпавядае сапраўднасці.

Пасля Слабады «Рэестр» 1560 г. апісвае гомейскія сёлы на правым баку р. Сож і ў левабярэжжа гэтай ракі ўжо не вяртаецца. Далейшае выкарыстанне дадзеных «Рэестра» карысна для рэканструкцыі тэрытарыяльнага складу Гомейскай воласці, які сфарміраваўся пасля 1535 г. Першапачатковыя межы Гомейскай воласці займелі ў яе заходнім (правабярэжным адносна да р. Сож) баку значныя змены.

Такім чынам, выкарыстанне звестак дзвюх крыніц, чыя інфармацыя адносіцца да перыядаў перад і пасля маскоўскага панавання, дае наступнае ўяўленне пра межы Гомейскай воласці.

303 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 361. На карце Генеральнага межавання — Северукі (Генерального плана Белицкого уезда часть 3-я). Назва сяла паходзіць ад калектыўнай назвы жыхароў Северщчыны, што можа служыць яшчэ адным доказам прыналежнасці Гомейскай зямлі да гэтага гісторыка-геаграфічнага рэгіёна (Рогалев А.Ф. Родные названия. С. 120—121).

304 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 361.

305 Лазаревский А. Описание старой Малороссии. С. 423.

306 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 362.

307 Побач з Рылавічамі ёсць яшчэ адно сяло Бабовічы, але ў 1560 г. яно было маскоўскім, а апісанне меж гомейскага сяла Бабовічы пэўна фіксуе яго каля р. Узы (Ужы) непадалёку ад правага берага р. Сож.

308 Сярод тых баяр, якія «держат тое сельцо Слободское», Цімох Цешка не названы (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 362). Зрэшты, Цімох Цешка валодаў не часткай самога сяла, а толькі яго бортнымі ўгоддзямі.

309 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 359.

Паўднёвая гомейская мяжа, відавочна, не была ўстойлівай і мела магчымасць для змен за кошт неасвоеных прастораў. Нягледзечы на тое, што «Рэестры» 1522 г. выразна сведчаць пра праходжанне мяжы па р. Уці, «Рэестр» 1560 г. адносіць граніцы гомейскіх зямель значна на поўдзень, да р. Нямыльні. На ўсходзе на вялікай прасторы гомейская мяжа паводле абедзвюх крыніц вызначаецца толькі наяўнасцю аднаго паселішча — сяла Свабодка-Слабада.

Усходняя мяжа Гомейскай зямлі толькі на пачатковым і заключным участках больш-менш дакладна рэканструюецца. З поўдня сёлы Юркавічы і Вага, а з поўначы — Рылавічы і Тростынь фіксавалі гомейскія межы. Паміж гэтымі сёламі, з абодвух бакоў р. Вагі на вялікай адлегласці да сярэдзіны XVI ст. невядома ніводнага населенага пункта. Тут, відавочна, былі глухія непралазныя лясы. Аднак тое, што гомейская тэрыторыя заходзіла за р. Вагу, у напрамку да р. Сноў, даказваецца існаваннем у гэтым раёне сяла Супрунава, згаданага ў 1552 г. «В повете Речицком староства гомейскаго село Супруново над речкою Вагою, Роговом новоназванное» належала панам Плескім[310]. З назвай Рогава сяло дажыло да нашых дзён.

Паўднёвая мяжа ад с. Тростынь да р. Іпуці праходзіла дакладна па р. Карне. На правым баку Іпуці гомейскія межы акрэсліваюцца толькі прыблізна. Верагодна, уся прастора паміж Сожам і яго прытокам Іпуццю на поўдзень ад маскоўскіх Бабовічаў, з аднаго боку, і вусця Бесядзі, з другога, была гомейскай[311]. С.М. Кучыньскі праводзіў гомейскую мяжу ўздоўж рэчышча р. Бесядзі ад яе вусця да Патэскіх балот, месца якіх пазначае вёска Патэсы (каля левага прытока р. Вядзерні, якую даследчык назваў безыменнай). Умоўная лінія ад Патэскіх балот да р. Іпуці (на поўдзень ад Бабовічаў) вызначала далейшую мяжу[312]. Уся прастора на поўдзень і паўднёвы захад ад гэтай лініі, такім чынам, была аднесена да Гомейскай воласці. Аднак у пазначаным раёне да канца XV — першай паловы XVI ст. невядома ніводнага населенага пункта. Паводле А. Лазарэўскага, «заселение ипутских берегов шло медленно по той причине, что они были покрыты громадными лесами»[313]. Складальнік вайскова-статыстычнага агляду Магілёўскай губерні капітан Чарніцкі заўважыў, што мясцовасць Беліцкага павета па абодвух баках рэк Іпуць і Бесядзь аж да Чарнігаўскай губерні ў сярэдзіне XIX ст. мела выгляд Палесся з роўнай паверхняй, пакрытай балоцістым лесам[314]. Балоты ў Беліцкім і Рагачоўскім паветах, у адрозненне ад іншых мясцовасцей губерні, былі «окружнее, топче и даже в сухое лето не проходимы»[315]. Да канца XX ст. захоўваліся назвы навакольнай мясцовасці, якія сведчылі пра яе лясны і балоцісты характар[316]. Вёска Малыя Немкі (левы бок Бесядзі, насупраць Вялікіх Немкаў) мела тут толькі адзін шлях, які звязваў яе са знешнім светам[317]. Акрамя таго, старажылы вёскі Неглюбка (на паўднёвы ўсход ад Малых Немкаў) сцвярджалі, што ў раёне

310 Лазаревский А. Описание старой Малороссии. С. 438.

311 Правесці частку гомейскай мяжы па лініі сучаснай мяжы Рэспублікі Беларусь, як гэта зрабіў М.Ф. Спірыдонаў для другой паловы XVI ст., для канца XV — першай паловы XVI ст. не дазваляе практычна поўная адсутнасць інфармацыі ў крыніцах.

312 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie. S. 87.

313 Лазаревский А. Описание старой Малороссии. С. 324. У дадзеным выпадку А. Лазарэўскі пісаў пра р. Іпуць у раёне горада Мгліна.

314 Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 3. С. 6, 9—10.

315 Тамсама. С. 36.

316 Рогалев А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. С. 25, 26.

317 Тамсама. С. 35.

ўчастка лесу, які называўся Кардон, калісьці праходзіла мяжа з Польшчай[318]. На праходжанне ў гэтым раёне мяжы, магчыма, таксама ўказвае назва в. Сталбун і р. Сталбункі. Уздоўж берагоў рэчкі ў наваколлях в. Янава захаваліся напаўзгнілыя драўляныя слупы, што, цалкам верагодна, адзначалі даўнюю мяжу[319].

Такім чынам, на многіх участках на ўсход ад Сожа гомейскую мяжу характарызуе няпэўнасць, прычым звязана яна не толькі з маўчаннем крыніц, але і з рэальнасцю таго часу. Наогул, прыкметна, што левабярэжжа Сожа ў XVI ст. было ахоплена актыўным каланізацыйным працэсам. Гомейская воласць пераадолела свае вузкія рубяжы на правым баку р. Сож, відаць, незадоўга да пачатку XVI ст. параўнальна вузкім калідорам гомейская тэрыторыя выйшла на левы бок Сожа, а затым па Іпуці і Уці пашырылася на паўднёвы і паўночны ўсход. Пры гэтым строга на ўсход ад Гомея заставаліся некранутымі лясныя прасторы.

Нягледзячы на шчыльную заселенасць і даўнюю асвоенасць правабярэжжа р. Сож, там таксама заставаліся раёны, якіх толькі-толькі кранулася гаспадарчая дзейнасць чалавека. На поўдзень ад Гомея, паміж рэкамі Сожам і Дняпром, так і не сфарміравалася мяжа з Рэчыцкай і Любецкай валасцямі. Аднак пэўныя тэрытарыяльныя змены адбыліся. Так, згодна з «Рэестрам» 1522 г. гомейская тэрыторыя мела выхад да Дняпра. Звесткі ж «Рэестра» 1560 г. не даюць пацвярджэння такой інфармацыі. Акрамя таго, можна падумаць, што землі некаторых гомейскіх сёл (Маркавічы, Дзятлавічы) занялі тыя прасторы, якія ў першай чвэрці XVI ст. намінальна лічыліся за Любечам. Гомейская тэрыторыя адсунулася на поўдзень не толькі ў левабярэжжы Сожа, але і на правым яго баку.

У цэлым можна пацвердзіць, што тэрыторыя Гомейскай зямлі вярнулася ў склад ВКЛ без змен у той частцы, дзе былі межы з маскоўскімі ўладаннямі. Новыя землі Гомейскага ўезда (пра іх гл. ніжэй) былі проста адняты ад спыніўшай сваё існаванне адміністрацыйнай адзінкі. У тых жа раёнах, якія суседнічалі з землямі ВКЛ (Любецкая, Рэчыцкая і іншыя валасці), тэрытарыяльныя набыткі былі прыняты і замацаваны ў складзе Гомейскай воласці. На момант рэвізіі 1560 г. назіраецца частковая адпаведнасць тэрыторыі Гомейскай воласці канца XV і сярэдзіны XVI ст., але толькі ў суседстве з маскоўскімі межамі.

## 4. Гомейскі ўезд напярэдадні літоўска-маскоўскай вайны 1534—1537 гг.

Фарміраванне Гомейскага ўезда ў складзе Вялікага Княства Маскоўскага адбывалася фактычна на працягу ўсяго часу маскоўскага панавання.

Ужо ў 1500 г. падчас маскоўскага наступлення на землі ВКЛ быў заняты не толькі Гомей і яго воласць, але і тэрыторыі на захад і поўнач ад горада. У 1504 г. была здзейснена спроба адсунуць мяжу да р. Дняпро, уключыўшы ў маскоўскія тэрыторыі горвальскія і рэчыцкія землі. Магчыма, «рубеж по Днепр» захоўваўся да 1511 г.

[318] Рогалев А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. С. 82. Калі дадзеная згадка мае пад сабой падставы, то яна сведчыць пра мяжу Расіі з Рэччу Паспалітай, што, магчыма, моцна змянілася пасля тэрытарыяльных змен XVII ст.

[319] Тамсама. С. 150—151. Зноў жа гэтая мяжа-граніца магла адносіцца да іншага часу. Сяло Сталбун (Сталбынь) паводле «Инвентаря Чечерского староства» 1704 г. адносілася да Чачэрскага староства (Историко-юридические материалы. С. 3, 18—19). Сярод валасных сёл таго ж староства ў Інвентары 1680 г. Сталбун не згадваецца (НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 888. Арк. 30—30 адв.). Магчыма, чачэрская тэрыторыя пашырылася на балоцістыя землі левабярэжжа Бесядзі толькі на рубяжы XVII—XVIII стст.

Тады з маскоўскага боку было выказана імкненне даслаць сваіх упаўнаважаных і заклікаць маскоўскіх прадстаўнікоў, якія разам «сьехався, управу учинят и виноватых казнят, а пограничным местом рубежи покладут»[320].

Верагодна, што хутка пасля заключэння маскоўска-літоўскай дамовы пра вечны мір 1508 г. князь Васілій Сямёнавіч «привернул» да Старадуба воласці Алучычы, Маслаў дзясятак і Крукаў дзясятак (падрабязней пра гэта гл. ніжэй)[321]. Даніна з валасцей плацілася дзвюм дзяржавам («а дань давали князю Василью и в королеву сторону»)[322].

У 1524—1527 гг. на ўсім працягу гомейскага ўчастка мяжы здзяйсняліся захопы і рабункі тэрыторыі ВКЛ з маскоўскага боку і нападзенні ў адказ з літоўскага. Усе падняпроўскія воласці адчулі маскоўскі ціск і, відавочна, з гэтай прычыны пад канец красавіка 1527 г. быў складзены спецыяльны «Список о порубежных землях и о жалобах», у якім дакладна адасабляліся маскоўскія і літоўскія ўладанні. Пры гэтым адносна таго, што «перешло в сторону великого князя [московского — *В.Ц.*], по перемирной грамоте» было пазначана тэрытарыяльнае падначаленне, якое існавала да 1500 г.

У 1529—1530 гг. сітуацыя паўтарылася. Пры гэтым наступленне ішло ўжо і на землі з правага боку р. Сож. Намеснікі Старадуба і Гомея «воевали засожские села и привернули их к Гомью»[323]. Актыўныя перамовы аб высылцы людзей для «поправенья» меж так і не скончыліся рэальнай дэмаркацыяй іх на мясцовасці. Прадстаўнікі літоўскага і маскоўскага бакоў «на рубеже» так і не сустрэліся.

У грамаце ад імя Васілія III, адпраўленай 7 траўня 1531 г. з Масквы, каралю Жыгімонту паведамлялася, што не «наши люди вступаютца в твои земли», а «твои люди вступаютца в наши земли и воды»[324]. Высвятляецца, што маскоўскімі ў той час лічыліся не толькі спрэчныя воласці Лучыцкая (Алучычы), Маслаў і Крукаў дзясяткі, але і значная колькасць чачэрскіх і прапойскіх сёл, якія прымыкалі да левага боку р. Сож на поўнач ад маскоўскіх набыткаў 1500 г. (сёлы Валосавічы, Палессе і інш.). Такім чынам, ужо да пачатку 1531 г. маскоўскія ўладанні наблізіліся да р. Сож.

У 1532 г. спробы замацаваць сваё становішча ў спрэчных валасцях і сёлах рабіліся з абодвух бакоў. З маскоўскага боку актыўна дзейнічаў гомейскі намеснік Фёдар Пляшчэеў, а з літоўскага — рэчыцкі дзяржаўца пан Сямён Палазовіч (Сенка Полазаў)[325], чачэрскі і прапойскі дзяржаўца князь Фёдар Вішнявецкі (Вішнеўскі)[326]. Людзі апошняга прабіраліся даволі далёка ў гомейскія землі, рабавалі сёлы Юркавічы, Бабовічы і Данілкавічы[327].

---

320 СИРИО. Т. 35. № 84. С. 495—496.

321 Тамсама. № 101. С. 728.

322 Тамсама. С. 728—729.

323 Тамсама. № 105. С. 789—790.

324 СИРИО. Т. 35. № 109. С. 838; LM. Kn. 5. № 99. P. 133—134.

325 Сямён Палазовіч быў рэчыцкім дзяржаўцам у 1522—1532 гг. (LM. Kn. 224 (1522—1530). Vilnius, 1997. № 383. P. 319; LM. Kn. 15. № 13. P. 60; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. XXXVIII, 251, 252).

326 Князь Фёдар Міхайлавіч Вішнявецкі (Вішнеўскі) быў чачэрскім і прапойскім дзяржаўцам (старастам) у 1524—1533 гг. (LM. Kn. 224 (1522—1530). № 374. P. 311; LM. Kn. 225 (1528—1547). Vilnius, 1995. № 86. P. 73; № 116. P. 91; № 253. P. 182; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. XXVII, XXXVII, 368; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 553—554).

327 СИРИО. Т. 35. № 112. С. 861.

Летам 1534 г. пачалася літоўска-маскоўская вайна, якую звычайна называюць Старадубскай[328]. Старадубскі напрамак сапраўды быў галоўным у вайсковых аперацыях войскаў ВКЛ, аднак толькі ў адносінах да Гомея былі дасягнуты рэальныя вынікі[329]. Нягледзячы на поспех паходу літоўскага гетмана Юрыя Радзівіла на Гомей і Старадуб у 1535 г., маскоўскія войскі ўжо ўзімку 1536 г. без бою вызвалілі амаль усю Севершчыну[330]. У іншых раёнах вайсковых дзеянняў ВКЛ таксама страціла ініцыятыву: з маскоўскага боку былі пастаўлены тры крэпасці (Іван-горад на Себежы, Завалочча і Веліж), якія добра прыкрылі межы Расіі. У такіх умовах на пачатку 1536 г. у Маскве пачаліся перамовы. Адным з асноўных пытанняў, што вырашалася падчас перамоў, было вызначэнне прыналежнасці Гомея і яго тэрыторыі. У выніку літоўская дэлегацыя ва ўмовах вельмі моцнага ціску з боку маскоўскіх баяр здолела адстаяць усю Гомейскую воласць разам з далучанымі да яе на правабярэжжы Сожа тэрыторыямі (падрабязней пра гэта гл. ніжэй).

Такім чынам, на працягу першай трэці XVI ст. Гомейская зямля зазнавала пастаянныя тэрытарыяльныя змены. Характэрна, што склад Гомейскага ўезда так і не склаўся. Надзвычай цяжка вызначыць тэрытарыяльную падлегласць валасцей Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Алучычы[331]. У тыя перыяды, калі яны падначальваліся маскоўскай уладзе, можна сутыкнуцца з падначаленнем іх як Гомею, так і Старадубу. Нейкі час пакуль існавала ўдзельнае Старадубскае княства (у склад якога, апрача Гомея, уваходзілі яшчэ і Папова Гара, Дрокаў, Почап і Мглін), здаецца, не меў асаблівага значэння дакладны падзел тэрыторый паміж тым ці іншым адміністрацыйным цэнтрам. Усё належала аднаму гаспадару. Часта ў скаргах у адказ і прэтэнзіях маскоўскага боку старадубскія і гомейскія воласці і сёлы запісваліся адзіным спісам, таму адасобіць іх немагчыма («А именно вступаютца в волости и села стародубские и гомейские села: в Уваровичи, в Телешовичи...» і г.д.)[332]. Здаралася, што да некаторых валасцей і сёл, адносна якіх існуе пэўнасць у іх гомейскай падлегласці, выкарыстоўваўся прыметнік «стародубские» («...вступаютца твои люди в наши волости в Стародубские в Маслов десяток, да в Крюков десяток, да в Лучитцкую волость»)[333]. Аднак гэтыя ўказанні не могуць быць прыняты як прамое сцверджанне. Найперш, Старадуб заставаўся галоўным горадам у рэгіёне, так што прывязка да яго ўсіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак былога ўдзельнага княства выглядае цалкам натуральнай. Па сутнасці, нават сам горад Гомей мог быць названы старадубскім. Затым, ужо падчас перамоў 1537 г. маскоўскаму боку было з рукі прадставіць многія гомейскія воласці і сёлы менавіта старадубскімі, каб аспрэчыць іх у ВКЛ.

Пры гэтым не варта змяншаць статус Гомея — ён, як і Старадуб, лічыўся горадам з валасцямі, у адрозненне ад гарадоў Паповай Гары, Мгліна і Дрокава — проста валасных цэнтраў. Для Гомея характэрна пералічэнне падлеглых яму сёл у якасці валасцей («Гомей с волостми, да волости Бабичи, Светиловичи, Голодна...» і г.д.)[334].

---

[328] Кром М.М. Стародубская война. С. 5 і інш.

[329] Тамсама. С. 139.

[330] Ужо ўвесну 1536 г. пачалося аднаўленне крэпасці Старадуба (Тамсама. С. 142).

[331] Відаць, упершыню цэнтр воласці Алучычы згадваецца ў «листе безмытном», выдадзеным 4 сакавіка 1488 г. менскаму мешчаніну Луку Церашковічу. У дакуменце паміж Рагачовам і Стрэшынам названы Лучын (LM. Kn. 4 (1479—1491). № 138. P. 146).

[332] СИРИО. Т. 35. № 109. С. 838.

[333] Тамсама. № 100. С. 708—709.

[334] Тамсама. № 6. С. 102.

у гэтым трэба бачыць імкненне да надання Гомею большай значнасці, чым блізкім ад яго Паповай Гары, Мгліну і Дрокаву.

Яшчэ адна характэрная дэталь у адносінах да Гомейскай зямлі — амаль поўная адсутнасць згадак у крыніцах спрадвечных гомейскіх паселішчаў (якія належалі Гомею да 1500 г.). Так, на старонкі пасольскіх кніг траплялі толькі тыя валасці і сёлы, што былі нядаўна далучаны да Гомея. З вялікай колькасці ўласна гомейскіх сёл, магчыма, толькі тры (Юркавічы, Бабовічы і Данілкавічы) былі названы ў сувязі з тым, што былі аб'ектамі нападаў літоўскага боку.

Пазначэнне тэрыторый, занятых Масквой у першай трэці XVI ст. і адведзеных да Гомея і Старадуба, — задача даволі простая. Праблемы ўзнікаюць пры непасрэдным вызначэнні месцазнаходжання некаторых валасцей і сёл і размежаванні старадубскіх і гомейскіх зямель.

Далучаныя да Гомейскай воласці ў 1500—1535 гг. валасці і сёлы ўмоўна можна падзяліць на тры катэгорыі: 1) адарваныя ад суседніх з Гомеем тэрытарыяльных адзінак і на час перамір'яў прызнаныя за Масквой (1500 г.), 2) пакінутыя па-за ўвагай складальнікаў дагаворных грамат і потым гвалтам утрыманыя Масквой (пасля 1508 г.) і 3) занятыя на кароткі час, але з прычыны адсутнасці правоў на іх маскоўскага боку вернутыя ў склад ВКЛ (1504—1511 гг., да 1531 г.).

Як было ўжо высветлена, у 1500 г. акрамя Гомейскай воласці да Вялікага Княства Маскоўскага былі далучаны два масівы зямель. Першы складаўся з сёл розных валасцей (Чачэрскай, Горвальскай і Стрэшынскай), у другі ўваходзілі толькі чачэрскія сёлы. Адно ад аднаго яны былі адасоблены тэрыторыяй на правым беразе р. Сож у раёне яе прытока Ліпы.

Спіс адрэзаных ад сваіх валасцей сёл паслядоўна ўзнаўляўся ва ўсіх маскоўска-літоўскіх дамовах першай трэці XVI ст. Прычым рабілася гэта яшчэ і дзеля таго, каб пазначыць лінію літоўска-маскоўскай мяжы. Сёлы першага масіву зямель прымыкалі да Гомейскай воласці з захаду і працягваліся ўздоўж усёй мяжы. Другі масіў зямель (на поўнач ад Гомея) запаўняў прастору паміж ракой Сож і яе левым прытокам Бесяддзю. Тут мяжа вызначалася, відаць, ракой Сож (на поўнач ад вусця Ліпы) і землямі некаторых сёл. Не ўсе сёлы паўночнага масіву зямель былі памежнымі. Магчыма таксама, што ў дадзеным рэгіёне ўтварылася цераспалосіца літоўскіх і маскоўскіх уладанняў, а мяжа па р. Сож парушалася пераходам на маскоўскі (левы) бок чачэрскага сяла Аношкавічы (сучасная вёска Аношкі)[335], а на літоўскі (правы) бок — маскоўскага сяла Скарбовічы (калі атаясамліваць яго з сучаснымі Сябровічамі, што малаверагодна).

Далей тэрыторыя Гомейскай зямлі развівалася ў тых жа двух напрамках (заходнім і паўночным), што былі пазначаны маскоўскім наступленнем 1500 г.

Разгледзім спачатку развіццё гомейскай тэрыторыі ў заходнім напрамку.

У маскоўска-літоўскіх дамовах 1503, 1508, 1522, 1527 гг. асобным блокам пералічаны наступныя сёлы: Уваравічы, Целяшэвічы (Целяшовічы), Цярэнічы, Кашалёў Лес, Марозавічы, Ліпінічы, Скарбовічы, Залессе (Залесе), Бабічы, Свяцілавічы, Галодна, Лапічы, Паляшане (Палшане)[336]. Дамова пра перамір'е 1537 г. пакінула на маскоўскім баку «волости» Залессе, Бабічы, Свяцілавічы, Галодна, Скарбовічы, Лапічы[337], гэта значыць тыя сёлы, якія знаходзіліся за Сожам у кантакце з землямі, якія засталіся ў Масквы. Адпаведна, астатнія сёлы, якія, відавочна, размяшчаліся на захад ад Гомейскай воласці, вярнуліся ў склад

---

335 Згадваецца ў 1527 г. (СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751).

336 LM. Kn. 5. № 118.13. P. 210; LM. Kn. 8. № 80. P. 126.

337 LM. Kn. 8. № 164. P. 211.

ВКЛ. Яны таксама згадваюцца ў грамаце 1537 г. і ўжо як літоўскія: Уваравічы, Целяшовічы, Цярэнічы, Кашалёў Лес, Марозавічы, Ліпінічы, Палшане[338]. Менавіта гэтыя сёлы сталі першым далучэннем да Гомейскага ўезда, які фарміраваўся ў той час. Большасць з іх знаходзілася ўздоўж берагоў правых прытокаў Сожа, Узы і Ліпы. Сяло Ліпінічы стаяла крыху ўбаку ад р. Ліпы, хаця, відавочна, і атрымала ад яе сваю назву. Нарэшце, яшчэ адно чачэрскае сяло — Паляшане (Палшане) не паддаецца лакалізацыі. Акрамя таго, у сярэднім цячэнні р. Узы на сучаснай карце заўважаем населены пункт Лапічы[339], які звычайна атаясамліваецца з аднайменным сялом XVI ст.[340]. Аднак, безумоўна, апошняе трэба шукаць на левым баку р. Сож, паміж сёл, якія засталіся ў Масквы паводле дамовы 1537 г. Лапічы, дарэчы, не згадваюцца ў «Рэестры» 1560 г., хаця заходняя тэрыторыя Гомейскай воласці апісана там вельмі падрабязна.

Такім чынам, вузкай паласой уздоўж рэк Уза і Ліпа ў 1500 г. гомейская тэрыторыя пашырылася на захад, у напрамку Дняпра. Трывалая мяжа ў гэтым раёне, напэўна, не сфарміравалася: з маскоўскага боку назіраецца настойлівае імкненне давесці свае землі да натуральнага прыроднага рубяжа — р. Дняпро.

На пачатку лета 1504 г. каралеўскі пасол Мацвей Кунцэвіч падаў вялікаму князю Івану III спіс, «в которые волости и села великого князя люди вступаютца»[341]. Высвятляецца, што некаторыя горвальскія (Чабатовічы, Буцоні, Засоўе, Калскевічы, Чорныя) і рэчыцкія (Кісловічы, Басаткавічы, Лемяшэвічы) сёлы пасля заключэння перамір'я (пачатак красавіка 1503 г.), але да часу складання спіса (25 красавіка 1504 г.) былі «забраны» маскоўскім бокам. Сёламі распараджаўся слуга князя Сямёна Іванавіча Старадубскага. На рацэ Дняпро ім быў зладжаны ез (перагародка ўсёй ракі для лоўлі рыбы[342]).

Тэрыторыя да Дняпра, хутчэй за ўсё, нядоўга ўтрымлівалася пад маскоўскім кіраваннем. Але гэта была толькі першая, няўдалая спроба Масквы замацаваць свае пазіцыі каля натуральнай прыроднай мяжы. Пасля вяртання ВКЛ у 1508 г. Любеча і страты ўчастка мяжы па Дняпры ў яго раёне, маскоўскія прэтэнзіі на частку цячэння ракі з боку Гомея ўзнавіліся. У 1511 г. да вялікага князя Васілія III прыехаў ад караля, вялікага князя Жыгімонта яшчэ адзін пасол — шляхціц Багдан Даўгірдавіч (Даўгердаў) з граматай, у якой былі скаргі на захоп усё тых жа сёл (усе названы рэчыцкімі) князем Мажайскім (меўся на ўвазе Сямён Іванавіч Старадубскі, сын князя Івана Андрэевіча, які валодаў калісьці Мажайскам)[343]. Гэтым разам было проста адзначана жаданне маскоўскага боку зладзіць мяжу па р. Дняпро («чинит себе рубеж по Днепр»)[344]. Праўда, лакалізацыя захопленых сёл паказвае, што маскоўская ўлада пашырылася і на правы бераг гэтай ракі.

338 LM. Kn. 8. № 164. P. 212.

339 Адзначаны ўжо на карце Магілёўскага намесніцтва 1786 г. (Атлас Российской империи, состоящий из 45 карт. СПб., 1792. Могилевское наместничество).

340 Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 504, 508. У сувязі з няправільнай лакалізацыяй Лапічаў Н.Б. Шаламанава нават абгрунтоўвае існаваннне кліна ў глыбіню гомейскай тэрыторыі.

341 СИРИО. Т. 35. № 80. С. 469.

342 Срезневский И.И. Материалы для словаря древнерусского языка по письменным памятникам. Т. 1. СПб., 1893. Стб. 821; Даль В.И. Толковый словарь живого великорусского языка. Т. 1. М., 1995. С. 517.

343 СИРИО. Т. 35. № 84. С. 495.

344 Тамсама.

Матэрыялы пасольскіх спраў з літоўскага боку, адлюстраваныя ў 7-й кнізе Метрыкі ВКЛ, маюць дадатковыя падрабязнасці. Ліст ад імя вялікага князя Жыгімонта Старога да вялікага князя маскоўскага Васілія Іванавіча быў накіраваны з Багданам Даўгірдавічам з Берасця 4 ліпеня. У ім, сярод іншых скаргаў, была наступная: «Такъже и наместьникъ нашъ речицкий Михайло Халецъкий сам приехал к нам [Жыгімонту. — *В.Ц.*], поведаючи, штож тот зрядъчикъ нашъ можайский, вжо после нашого с тобою [Васіліем III. — *В.Ц.*] докончаня, забралъ села наши речицкии на имя Засувя, а Чоботовичи, а Калскевичи, а Бацуни, а Ярные [павінна быць «Черные». — *В.Ц.*], а Гирево, а Заспа, а Левошевича, а Кисловичи, а Борки и чинит собе рубежъ по самый Днепъръ»[345]. Такім чынам, князь Сямён Іванавіч Старадубскі (Мажайскі) дзейнічаў пасля заключэння перамір'я 1508 г., напэўна, неўзабаве пасля гэтай падзеі. Магчыма, яго дзеянні былі санкцыянаваны вялікім князем маскоўскім.

Нельга не звярнуць увагі на тое, што ў нападах на пamежжа ВКЛ літоўскім бокам быў абвінавачаны «зрядъчикъ нашъ можайский», гэта значыць князь Сямён Іванавіч. Але ён памёр яшчэ да 1508 г.[346]. У мірнай дамове, заключанай 8 кастрычніка 1508 г., сярод зямель, у якія не павінен уступацца кароль і вялікі князь Жыгімонт, названыя гарады і валасці, што «за кн(я)земъ Василемъ Семеновичомъ», сынам князя Сямёна[347]. Магчыма, тут спрацавала пэўная інертнасць літоўскага боку, бо яму было вядома пра смерць старога князя (хаця б з тэксту дамовы 1508 г., дзе фігуруе ўжо яго сын). Ці ўсё ж захопы рабіліся да заканчэння вайны, пры жыцці Сямёна Мажайскага?

Яснага адказу на свае скаргі літоўскі бок так і не атрымаў. Крыху пазней праблема дзеянняў князя Васілія Сямёнавіча Старадубскага (сына памерлага князя Сямёна) супраць Прапойскай, Чачэрскай і Рэчыцкай валасцей была агучана, але не прызнана[348].

Такім чынам, каля 1508 г. маскоўскія землі былі аднесены на захад, за кошт сёл дзвюх валасцей ВКЛ — Горвальскай і Рэчыцкай. Горвальскія сёлы Чабатовічы, Буцоні, Засоўе, Калскевічы і Чорныя[349] знаходзяцца дакладна на захад ад таго кавалка тэрыторыі, што быў далучаны да Гомея ў 1500 г. Сучасныя населеныя пункты Чабатовічы, Бацунь, Чорныя з левага боку Дняпра, насупраць свайго валаснога цэнтра Горваля, несумненна, адпавядаюць сёлам XVI ст.[350]. Усе яны згадваюцца ў «Рэестры» 1560 г. Там жа названы яшчэ два сялы: Кальскевічы (Скальскевічы), што размяшчаліся паміж Цярэнічамі, Чабатовічамі і Чорнымі, і Засоўе[351]. Зараз абодва сялы не існуюць, але фальварак Засоўе на карце Генеральнага межавання, а таксама Старое і Новае Засоўе на карце-трохвёрстцы 1860 г. яшчэ адзначаны, крыху на захад ад Чабатовічаў[352].

---

345 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 7. Арк. 325.

346 Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 262.

347 LM. Kn. 8. № 80. P. 126.

348 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 7. Арк. 354.

349 У 1511 г. фігуруюць як рэчыцкія сёлы Засуеў, Габатовічы, Калскевічы, Бацуні і Чорныя (СИРИО. Т. 35. № 84. С. 495). Іх назвы, канечне, скажоныя.

350 Н.Б. Шаламанава не здолела знайсці сёл Засоўе і Буцоні (Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 502).

351 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 365, 376. Сёлы Чабатовічы, Засоўе, Калскевічы і Чорныя належалі панам Васілію і Андрэю Халецкім, род якіх валодаў гомейскімі землямі ўжо з першай паловы XV в.

352 Генерального плана Белицкого уезда часть 1-я. Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. Ряд 18. Лист 9.

У 1504 г. былі названы толькі тры рэчыцкія сялы: Кісловічы, Басаткавічы, Лемяшэвічы; у 1511 г. да іх дадалі Агірава, Заспу і Боркі. Лемяшэвічы запісаны Левашэвічамі, што дазваляе атаясаміць іх з сучасным населеным пунктам Левашы каля правага берага р. Дняпро ніжэй Рэчыцы. Месцазнаходжанне Кісловічаў і Басаткавічаў (Батковічаў), на жаль, не вызначана. Агірава, відаць, адпавядае сучаснай вёсцы Гірова (на поўнач ад Рэчыцы, але на іншым, левым баку р. Дняпро). Заспа — гэта, без сумнення, продак сучаснай вёскі з той самай назвай (убаку ад правага берага р. Дняпро, паміж Рэчыцай і Левашамі). Нарэшце, Боркі можна атаясаміць з сучасным Борхавам (на ўсход ад Рэчыцы, адносна далёка за Дняпром).

Такім чынам, шырокая паласа зямель, прыблізна ад вусця р. Бярэзіны і вытоку Узы на поўначы да вядомых ужо Калодчычаў і Міхалкава[353] на поўдні, увайшла ў склад маскоўскіх уладанняў, і яе аднеслі да Гомея. Як бачым, не толькі левабярэжжа, але і правы бераг Дняпра стаў асвойвацца маскоўскай уладай (сёлы Левашэвічы і Заспа).

Зрэшты, горвальскія і рэчыцкія землі толькі на кароткі час сталі маскоўскімі. Заходняя мяжа Гомейскага ўезда, відаць, не дасягала р. Дняпро, аднак праходзіла блізка. Захавалася паведамленне пра землі за р. Дняпро (з левага, заходняга яго боку) Кіславіцкую і Ціменскую, якія трымалі людзі рэчыцкага с. Калодчычы (Каладчыцкага). Калі «московский державъ Гомей», людзі з гэтых зямель «тягнули на обе стороне», гэта значыць служылі і давалі даніну літоўскаму і маскоўскаму бакам[354]. Склалася сітуацыя сумеснага маскоўска-літоўскага ўладання ў памежнай буфернай зоне. На жаль, лакалізаваць Кіславіцкую і Ціменскую землі не ўдалося, але можна выказаць думку пра іх нязначную аддаленасць ад с. Калодчычы (суч. Калочын ці Холмеч). Менавіта тут знаходзіўся стык Гомейскай, Рэчыцкай і Любецкай валасцей[355].

Неабходна яшчэ заўважыць, што ў 1527 г. усе горвальскія і рэчыцкія сёлы, што былі ў 1511 г. пад маскоўскай уладай, у «Списке о порубежных землях и о жалобах» былі аддадзены на бок «великого короля»[356]. Невядома, ці знаходзіліся да гэтага часу ўсе землі да Дняпра ў маскоўскім кіраванні, але прэтэнзіі на іх відавочна існавалі, таму і быў складзены вышэйазначаны акт.

8 жніўня 1529 г. літоўскія паслы Мацвей Яновіч і Васілій Чыж распавялі вялікаму князю маскоўскаму Васілію III пра дзеянні гомейскага намесніка, які руйнаваў сёлы Рэчыцкай воласці, выводзіў адтуль у Гомей сем'і і браў за палонных выкуп («и многие пенези с них побрали»). Затым гэты ж намеснік зноў паваяваў засожскія рэчыцкія сёлы, пасадзіў у турму мясцовага старасту, а людзям тых сёл загадаў «к городу Речитцкому не ходити», і «привернули» іх да Гомея[357]. Такім чынам, спробы замацавацца на дадняпроўскай тэрыторыі (за Сожам, значыць да Дняпра) не былі пакінуты маскоўскім бокам. У канцы 1532 г. старадубскі намеснік князь Фёдар Васільевіч Целяпень-Абаленскі атрымаў ліст ад гомейскага намесніка Фёдара Пляшчэева пра нападзенне з боку Рэчыцы і спусташэнне Гомейскага ўезда («по самыи город Гомевъ повоевали»)[358]. Відавочна, да гэтага часу рэчыцкія землі на ўсход

---

353 Згадваецца ў 1526 г. (СИРИО. Т. 35. № 102. С. 752).

354 LM. Kn. 10 (1540—1541) / Parengė S. Lazutka, I. Valikonytė, S. Viskantaitė-Saviščevienė, J. Karpavičienė. Vilnius, 2003. № 191. P. 121.

355 Тамсама. P. 122.

356 СИРИО. Т. 35. № 102. С. 752. Горвальскія сёлы: Буцунічы, Чобат, Засоўе, Бакініш, Карскевічы, Чорныя; рэчыцкія сёлы: Батковічы, Кісловічы, Левашэвічы. Сярод «заходов» Рэчыцы названы Борхаў і Гірэеў, якія, відаць, адпавядаюць Боркам і Агіраву.

357 СИРИО. Т. 35. № 105. С. 789—790.

358 LM. Kn. 15. № 177. P. 227.

ад Дняпра былі адваяваны літоўскім бокам. У рэгіёне стаў пераважаць уплыў улад ВКЛ, якія пачалі ціснуць на тэрыторыю ў раёне Гомея.

У 1527 г. згадваюцца таксама стрэшынскія сёлы — аб'екты прэтэнзій маскоўскага боку. Елянцы (суч. Елянец), Губічы, Скепна (суч. Скепня) і Пырэевічы (суч. Пірэвічы), усе размяшчаліся з левага боку р. Дняпро насупраць Стрэшына і запаўнялі прастору на ўсход да вытокаў рэк Уза і Ліпа, дзе з 1500 г. былі маскоўскія ўладанні.

Захавалася ўнікальнае паведамленне пра тое, што пасля заняцця Гомея «село капитульное» Скепна, таксама «в руки неприятельские зашедши», вымушана было працаваць на Гомейскі замак («тот замок робыти мусило»)[359]. Далей, ужо пад уладай ВКЛ, людзей с. Скепна як і раней прыводзілі на работы ў Гомей. Толькі ў пачатку звароту ўпраўляючага Стрэшынскім уладаннем Віленскай капітулы Паўла Кгедройта да рэвізораў у Гомеі Грыгорыя Валовіча і Мікалая Нарушэвіча Скепна, відаць, было вызвалена ад павіннасці і канчаткова вернута ў склад Стрэшынскай воласці[360]. Падаецца, што разам з с. Скепна, падобных адпрацовак патрабавалі і з суседніх сёл, названых у пераліку 1527 г., але з прычыны таго што яны не належалі Віленскай капітуле, яны не згадваліся ў звароце «врадника» Паўла Кгедройта. Такім чынам, Елянцы, Губічы і Пырэевічы ў перыяд да 1527 г. і да вызвалення ў 1535 г. таксама падначальваліся Гомею.

Таму не дзіўна, што левабярэжныя адносна Дняпра землі валасцей Стрэшына і Горваля ўвайшлі ў склад утворанага ў 1535 г. староства. Толькі рэчыцкія сёлы засталіся ў падначаленні свайго цэнтра, і Ліпінічы, у 1527 г. заяўленыя ў сумесным маскоўска-літоўскім уладанні (па паловах), былі вернуты ў склад Чачэрскай воласці (мяжа апошняй, відаць, вярнулася да р. Ліпы)[361].

Такім чынам, маскоўская мяжа мела тэндэнцыю да ўсталявання ад вярхоўяў р. Ліпы да Дняпра і ўздоўж апошняга (з заходам у некаторых мясцінах на правы бок) да тэрыторыі Любецкай воласці. З 1500 да 1508 г. Любеч знаходзіўся ў складзе Вялікага Княства Маскоўскага і, такім чынам, Масква кантралявала цячэнне р. Дняпро, а таксама важнейшы сухапутны шлях на Кіеў і ўглыб ВКЛ. Паводле К.В. Базілевіча, «з далучэннем Любеча была перарэзана Дняпроўская водная магістраль, якая мела першараднае значэнне ў эканамічным жыцці рускіх і літоўскіх зямель. Да Масквы адышла амаль на ўсім працягу сухапутная дарога на Кіеў праз Бранск, Радагошч і Ноўгарад-Северскі, што, несумненна, умацоўвала эканамічныя сувязі з правабярэжжам Дняпра і палягчала гандлёвыя зносіны з Крымам праз Кіеў»[362].

Відавочна, кантроль над Дняпром мог ажыццяўляцца толькі ў тым выпадку, калі абодва яго берагі належалі Маскве. У перыяд уладання Любечам так і было. Акрамя таго, важным было ўладанне вусцем р. Сож. Зрэшты, і пасля страты Любеча ў 1508 г. частка ніжняга цячэння Сожа заставалася на маскоўскай тэрыторыі (Гомей), але страта выхаду да Дняпра была адчувальнай. Таму імкненне дасягнуць Дняпра і заняць абодва яго берагі мела для Масквы аграмадную стратэгічную значнасць. Як высветлілася, гэта было дасягнута ўжо паміж красавіком 1503 і красавіком 1504 г. Тады ў склад Гомейскага ўезда былі прыняты тэрыторыі да Дняпра (за кошт Горвальскай і Рэчыцкай валасцей), заняты некаторыя сёлы на правым яго беразе, а сама рака перагароджана драўляным частаколам (езам). Выхад да Дняпра захоўваўся і пасля

[359] Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. С. 252.

[360] Тамсама.

[361] У «Рэестры» 1560 г. не згадваецца таксама сяло Дуравічы, якое знаходзілася на правым баку р. Ліпы. Ці вярнулася яно ў склад Чачэрскай воласці і ці перайшла ў сувязі з гэтым яе мяжа на поўдзень ад р. Ліпы — невядома.

[362] Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 520—521.

страты Любеча ў 1508 г. у сувязі з гэтым падаецца, што страта Масквой Гомейскай зямлі ў 1535 г. стала канцом маскоўскага дамінавання ў значным рэгіёне. Вялікае Княства Маскоўскае пазбавілася тут выхаду да Дняпра і, акрамя гэтага, цячэнне ракі Сож таксама станавілася свабодным для выкарыстання жыхарамі ВКЛ (некаторы час яшчэ захоўвалася суседства маскоўскай тэрыторыі з Сожам у раёне Чачэрска).

Імкненне дасягнуць, а пазней і замацаваць за сабой тэрыторыі, якія прымыкалі да натуральных прыродных рубяжоў (буйных рэк) было характэрным для маскоўскіх улад і ў напрамку на поўнач ад Гомея. Барацьба ішла за землі, якія прымыкалі з левага боку да ракі Сож.

У 1500 г. разам з Гомеем маскоўскія войскі занялі тэрыторыю ад вусця р. Бесядзі на поўнач уздоўж р. Сож да г. Чачэрска і нават за яго. Пра пашырэнне маскоўскіх зямель уздоўж Сожа сведчыць наступны факт. На поўнач ад Чачэрска было сяло Турышчэвічы, замацаванае ў 1510 г. за Косцем Пішчыковічам[363]. Да сяла адносіліся землі не толькі на правым баку р. Сож, дзе яно і стаяла, але і на супрацьлеглым баку ракі. Але да 1510 г. «того села земли много отошло за Сожъ, в сторону великого князя московъского»[364]. Адбылося гэта, відаць, яшчэ ў 1500 г.

Паводле перамір'я 1503 г. сёлы на ўсход ад ракі Сож: Скарбовічы, Залессе, Бабічы, Свяцілавічы, Галодна, Лапічы былі замацаваны за Масквой[365]. За выключэннем Скарбовічаў і Лапічаў усе астатнія населеныя пункты ўпэўнена лакалізуюцца паміж ракой Сож і яе прытокам Бесяддзю. Скарбовічы толькі з невялікай доляй верагоднасці можна атаясаміць з вядомымі ўжо з XVI ст. Сябровічамі[366]. Залессе знаходзілася непадалёку ад Чачэрска, на супрацьлеглым баку р. Сож; Бабічы — пасярэдзіне паміж рэкамі Сож і Бесядзь, каля берага яшчэ аднаго прытока Сожа — Покаці. Свяцілавічы і Галодна стаялі каля правага берага р. Бесядзі, прычым апошняе сяло — непадалёку ад вусця гэтай ракі[367]. Такім чынам, месцы лакалізаваных паселішчаў па перыметры ахоплівалі частку тэрыторыі Чачэрскай воласці, з 1500 г. далучаную да Гомея. Існуе магчымасць таго, што новыя маскоўскія ўладанні заходзілі ў гэтым раёне на правы бок р. Сож. Паводле Інвентара Чачэрскага староства 1704 г. да Залесся адносіўся асобны масіў зямель («osobliwa służba») на супрацьлеглым ад сяла баку Сожа аж да р. Чачэры і ўніз па ёй да Сожа, гэта значыць землі ўсутыч падыходзілі да г. Чачэрска[368]. Таксама чачэрскія землі маглі застацца на левым беразе, укліньваючыся паміж цяпер ужо маскоўскімі ўладаннямі.

Магчыма, на «маскоўскім» баку Сожа каля самага берагу стаяла чачэрскае сяло Аношкавічы, якое з пэўнай ступенню верагоднасці можна звязаць з сучаснай вёскай Аношкі, адзначанай таксама на картах XVIII—XIX стст.[369]. Калі такая лакалізацыя

363 LM. Kn. 8. № 537. P. 387—388.

364 Тамсама. P. 387. Косця Пішчыковіч атрымаў таксама права на валоданне востравам Бердыжам, які можна звязаць з рэчкай Бердыжкай і в. Бердыж каля правага берага р. Сож, на поўдзень ад Чачэрска.

365 LM. Kn. 5. № 118.13. P. 210; LM. Kn. 8. № 80. P. 126.

366 Знаходзяцца побач з правым берагам р. Сож, на поўдзень ад Чачэрска (Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267).

367 З 1924 г. вёска Галодная (Галоднае) стала называцца Новаіванаўкай. На пачатку XX ст. існавалі абедзве назвы (Рогалев А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. С. 48, 107).

368 Историко-юридические материалы. С. 18.

369 Рогачевской округ // Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты; Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. Ряд 17. Л. 9. У інвентарах Чачэрскага староства канца XVII — першай чвэрці XVIII ст. Аношкавічы не згадваюцца. На карце Генеральнага межавання — аколіца Аношкі (Генерального плана Рогачевского уезда часть 5-я).

адпавядае сапраўднасці, то на поўнач ад Аношкавічаў знаходзілася маскоўскае сяло Залессе, а на ўсход і паўночны ўсход — чачэрскія сёлы Пуклічы (суч. Куклічы) і Навілаўка. Аношкавічы, такім чынам, былі з трох бакоў аточаны маскоўскімі землямі, калі, канечне, Залессе не было маскоўскім эксклавам.

Вернемся да «Списка о порубежных землях и о жалобах» 1527 г. У ім змешчаны ўнікальны пералік памежных сёл («села, которые по рубежу сидят») з пазнакай іх адміністрацыйнай падлегласці. Мэта складання «Спіса» відавочная: паказаць «во што ся не вступати великому князю по перемирным грамотам»[370]. Пры гэтым і ў адносінах да тых сёл, якія паводле перамір'я былі замацаваны за маскоўскім бокам, пазначаецца цэнтр іх ранейшага падпарадкавання. Менавіта са «Спіса» 1527 г. мы даведваемся, да якіх валасцей адносіліся тыя ці іншыя сёлы, якія перайшлі на мяжы XV—XVI стст. у склад Вялікага Княства Маскоўскага. Падаецца, што разгляданы дакумент складаўся на аснове звестак, пададзеных непасрэдна намеснікамі з памежных рэгіёнаў, і яго інфармацыі можна давяраць. Значэнне «Спіса» 1527 г. набліжаецца да «Рэестраў» 1522 г. Абедзве крыніцы, па сутнасці, вызначаюць межы, дзесьці з дапамогай апісання іх працягласці, а дзесьці з дапамогай фіксавання памежных населеных пунктаў.

Менш вартыя даверу ўказанні ў пасольскіх кнігах на тую або іншую адміністрацыйную падлегласць некаторых валасцей і сёл. У іх інфармацыя часта або свядома скажалася, або падавалася наогул без рэальнага ведання сітуацыі. Так, напрыклад, падчас перамоў 1537 г. сёлы Залессе і інш. з паўночнага масіву зямель, далучаных у 1500 г. да Гомея, адзін раз названы чачэрскімі і прапойскімі, а другі — чачэрскімі і крычаўскімі[371]. Тады як, паводле «Спіса» 1527 г., усе яны былі чачэрскімі. Маскоўскі бок ніколі не адмаўляў былой прыналежнасці вялікай колькасці сваіх паселішчаў тым цэнтрам, якія заставаліся ў складзе ВКЛ, але ўвесь час спасылаўся на той факт, што ўсе яны былі «писаны в великого князя сторону в перемирных грамотах»[372]. Гэтыя захопы пасля ўключэння іх у перамірныя граматы, з пазнакай падлегласці маскоўскаму боку, набывалі законнае абгрунтаванне. Хаця тэрытарыяльныя саступкі і рабіліся на кароткі час перамір'я, але потым, не маючы сілавых аргументаў, уладам ВКЛ было вельмі складана вярнуць свае ранейшыя ўладанні.

Для маскоўска-літоўскіх дамоў была ўласціва пэўная традыцыйнасць. Зацверджаны спіс уладанняў, адлюстраваны ў дакуменце, было ўжо вельмі складана змяніць пры складанні новай дамовы. У 1537 г. у спецыяльнай выпісцы, пададзенай маскоўскімі баярамі літоўскім паслам, сярод гомейскіх «волостей» паўночнага масіву зямель былі названы да гэтага не згадваныя сёлы Жалезніковічы, Ухавічы, Валковічы. Месцазнаходжанне апошніх невядома, а Жалезніковічы (суч. Жалезнікі)[373] і Ухавічы (суч. Ухава) знаходзіліся, адпаведна, каля правага берага р. Бесядзі і непадалёку ад левага берага р. Сож. Абодва сялы добра ўпісваюцца ў навакольную тэрыторыю, з 1500 г. падлеглую Гомею. Аднак у спісы перамірнай граматы іх не ўлічылі. Пры гэтым падчас перамоў 1537 г. воласці Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Алучычы было вырашана «не писати ни в одну сторону», бо да гэтага яны кіраваліся сумесна «и на великого князя и на короля, кто силнее держит»[374].

---

370 СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751.

371 Тамсама. Т. 59. № 6. С. 103, 105.

372 Тамсама. № 6. С. 102 і інш.

373 На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі знойдзены гарадзішча і селішча часу Кіеўскай Русі (Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. С. 122; Гарады і вёскі Беларусі: Энцыклапедыя. Кн. 1. С. 217; Рогалев А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. С. 49).

374 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 105.

У выніку тэксты ўсіх маскоўска-літоўскіх дамоў першай трэці XVI ст. уяўлялі калькі адзін з аднаго, з невялічкімі нюансамі, якія датычыліся тэрытарыяльных змен (напрыклад, пасля далучэння да Масквы Смаленскай зямлі) або статусаў некаторых населеных пунктаў (напрыклад, у 1503 г. Мазыр падаваўся як валасць, а ўжо ў 1508 г. як горад з валасцямі). (Гл. таб. 6.) Нават у грамаце 1537 г. у спіс гарадоў, валасцей і сёл змены ці дадаткі не ўносіліся. Гомей гэтым разам быў аднесены да супрацьлеглага боку — да ўладанняў караля Жыгімонта Старога, захаваў за сабой частку прыпісаных у 1500 г. сёл, а другая іх частка заставалася ў Масквы і была запісана як воласці Паповай Горы[375]. Ніякіх змен або дадаткаў у спіс валасцей і сёл, падлеглых Гомею, унесена не было, хаця, відавочна, адноўленая літоўска-маскоўская мяжа патрабавала нейкага вызначэння.

Таб. 6. Змены адміністрацыйна-тэрытарыяльнага складу ўсходняй ускраіны ВКЛ у першай трэці XVI ст.

| | | |
|---|---|---|
| Грамата 1503 г. | у маскоўскім баку | «…города Житомира з волостьми, города Вручъя з волостьми, волостеи: Мозыра, Пчыча, Брагиня, Речыцы, Горволя, Стрешына, Чечерска, Пропоиска, Могилева, города Мстиславля з волостьми, города Крычева з волостьми…»[376] |
| | у літоўскім баку | «…города Чернигова зъ волостьми, города Стародуба з волостьми, города Путивля з волостьми, города Рыльска з волостьми, города Новгородка Северъского з волостьми, города Гомъя з волостми, города Любеча з волостьми, города Почопа з волостми, города Трубецка з волостми, города Радогоща з волостьми, города Бранска з волостьми, да волостеи: Карачова, Хотимля, Попопы Горы, Мъглина, Дрокова и сел: Уваровичъ, Телешевичъ, Тереничъ, Кошелева Леса, Морозовичъ, Липиничъ, Скарбовичъ, Залесья, Бабичъ, Светиловичъ, Голодна, Лапичъ, Полешанъ…»[377] |
| Грамата 1508 г. | у літоўскім баку | «…в городъ в Житомир з волостми, в город Вручаи з волостми, в город в Любечъ з волостми, в город в Туровъ з волостми, в городъ въ Мозыр з волостми, и въ волости ваши, во Бчич, в Брягин, в Речицу, в Горволь, в Стрешино, в Чичерескъ, в Пропоескъ, в город Могилевъ з волостми, в город в Кричовъ з волостми…»[378] |
| | у маскоўскім баку | «…в город в Рылескъ с волостми, в город Путивль с волостми, в город в Радогощъ с волостми, в город в Черниговъ с волостми, в городъ въ Стародубъ с волостми, в городъ в Почебъ з волостми, в город в Гомеи з волостми, в город в Попову Гору зъ волостми, в Карачевъ, в Хотимль, в Сновескъ, в Хороборъ, во Мглинъ, Дроковъ, и в села, в Уваровичи, в Телешовичи, в Тереничи, в Кошелевъ лесъ, в Морозовичи, в Липичичи, в Скарбовичи, в Залесе, в Бабичи, в Светиловичи, в Голодно, в Лапичи, в Полешане…»[379] |
| Грамата 1522 г. | у літоўскім баку | «…города Житомира зъ волостьми, города Вручья зъ волостьми, города Любеча зъ волостьми, города Турова зъ волостьми, города Мозыра зъ волостьми, да волостей Бчича, Брегиня, Речицы, Горволя, Стрешина, Чичереска, Пропойска, Могилева, города Мстиславля зъ волостьми, и волости Хотславичь, города Кричова зъ волостьми…»[380] |
| | у маскоўскім баку | «…города Рыльска зъ волостьми, города Путивля зъ волостьми, города Новгородка Сиверского зъ волостьми, города Радогоща зъ волостьми, города Чернигова зъ волостьми, города Стародуба зъ волостьми, города Почепа зъ волостьми, города Гомья зъ волостьми, города Поповы Горы зъ волостьми, города Карачева зъ волостьми, и волостей Хотимля, Сновска, Хоробора, Мглина, Дрокова, и селъ Уваровичъ, Телешевичъ, Тереничъ, Кошелева леса, Морозовичъ, Липиничъ, Скарбовичъ, Залесья, Бабичъ, Светиловичь, Голодна, Лапичъ, Полешанъ…»[381] |
| Грамата 1526 г. | у літоўскім баку | «…города Жытомира с волостьми, города Вручъя с волостми, города Любича с волостьми, города Турова с волостьми, города Мозыра с волостьми да волости Бчыча, Брагина, Речыцы, Горволя, Стрешина, Чычеръска, Пропоиска, Могилева, города Мстиславля с волостми и волостеи Хотъславичъ; города Крычова с волостьми…»[382] |
| | у маскоўскім баку | «…города Рылска с волостми, города Путивъля с волостми, города Новагородка с волостми, города Радо[го]ща с волостми, города Чернигова з волостми, города Стародуба с волостьми, города Почапа с волостьми, города Гомъя съ волостьми, города Поповъ Горы с волостьми, города Карачова с волостьми, и волостеи Хотимъля, Сновска, Хоробора, Мглина, Дрокова, и сел Уваровичъ, Телешовичъ, Тереничъ, Кошелева леса, Морозовичъ, Липининъ, Скарбовичъ, Залеся, Бабич, Светиловичъ, Голодна, Лапичъ, Полшанъ…»[383] |
| Грамата 1537 г. | у літоўскім баку | «…города Жытомира з волостьми, города Вручоя с волостьми, города Любеча с волостьми, города Гомя с волостьми, и сел Уваровичъ, Телешовичъ, Тереничъ, Кошелева Лесу, Морозович, Липинич, Полшан, города Турова с волостьми, города Мозыра с волостьми до волостеи Пчыча, Брагиня, Речыцы, Горволя, Стрешына, Чычерска, Пропоиска, Могилева, города Мъстиславля з волостьми и волостеи Хотславич, города Крычева с волостми…»[384] |
| | у маскоўскім баку | «…города Рылска с волостми; города Путивъля с волостьми; города Радогоща с волостми; города Черънигова с волостми; города Стародуба с волостьми; города Почепа с волостми; города Поповы Горы з волостми и волостеи Залеся, Бабич, Светиловичъ, Голодни, Скарбовичъ, Лапичъ; города Карачева с волостми и волостеи Хотимъля, Сновъска, Хо[ро]бора, Мглина, Дрокова; города Трубъчева с волостми…»[385] |

375 LM. Kn. 15. № 164. P. 211, 212.

Тая частка сёл, якая засталася з Гомеем, ужо страціла памежнае становішча, тады як актуальнасць так званых «валасцей» у міжрэччы Сожа і Бесядзі захоўвалася.

Паводле перамірнай граматы 1537 г. і аналагічных ёй дамоў 1542, 1549, 1553 і 1556 гг. раён вакол сёл Залессе, Бабічы і інш. замацоўваўся за Масквой[386]. Тэкст Ям-Запольскага перамір'я 1582 г. зазнаў істотныя змены, але толькі не ў той частцы, што тычылася сёл міжрэчча Сожа і Бесядзі, а ў гады Смуты яна ў складзе Старадубскай зямлі адышла ад Расіі да Рэчы Паспалітай (замацавана Дзеўлінскім перамір'ем 1618 г.). Такім чынам, недзе на пачатку XVII ст. землі паміж Сожам і Бесяддзю вярнуліся ў адміністрацыйнае падначаленне Чачэрска. На момант заключэння Андросаўскага перамір'я 1667 г. пазначаная тэрыторыя моцна прырасла да свайго старога цэнтра і ў выніку не была аддадзена Расіі. Шэраг сёл міжрэчча Сожа і Бесядзі названы ў «Инвентаре староства Чечерского» 1680 г.: Анісімкавічы, Валосі (Валосавічы?), Палессе, Залессе, Рэчка, Струмене[387]. З іх у гэты рэгіён, які да канца XVI ст. лічыўся маскоўскім, трапляюць толькі Залессе і Рэчка (суч. Рэчкі). Апошняе стаіць на поўнач ад вусця р. Бесядзі на прытоку Сожа Нёманцы[388]. Паміж Нёманкай і Бесяддзю інвентар 1704 г. апісвае землі сёл Пліскі і Хлусы (цяпер не існуюць)[389] і згадвае прыватнаўласніцкія сёлы Жалезнікі і Грамыкі (суч. Старыя Грамыкі на беразе р. Бесядзі)[390]. На пачатак XVIII ст. тэрыторыя Чачэрскага староства пашырылася на ўсход, за р. Бесядзь. Там з'явілася сяло Сталбынь (суч. Сталбун)[391]. Інвентар 1726 г. таксама пазначыў землі с. Свяцілавічы на супрацьлеглым, левым беразе р. Бесядзі[392]. Падаецца, што ўжо ў той час была занята прастора, што ўсутыч наблізіла чачэрскія землі да лініі сучаснай расійска-беларускай мяжы.

Такім чынам, у 1667 г. маскоўская мяжа зноў наблізілася да гомейскіх зямель і хутка набыла такую канфігурацыю, якая праіснавала цягам доўгага часу (у якасці

---

376 LM. Kn. 5. № 118.13. P. 209.

377 Тамсама. P. 210.

378 LM. Kn. 8. № 80. P. 125.

379 Тамсама. P. 126.

380 АЗР. Т. II. 1506—1544. СПб., 1848. № 120. С. 148.

381 Тамсама. С. 149.

382 LM. Kn. 15. № 156. P. 200.

383 Тамсама. С. 199.

384 Тамсама. № 164. P. 212.

385 Тамсама. P. 211.

386 СИРИО. Т. 59. № 7. С. 126; № 10. С. 190; № 18. С. 302; № 27. С. 408; № 32. С. 511.

387 НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 888. Арк. 30—30 адв.

388 Абмежаванне зямель с. Рэчкі ў інвентарах 1704 і 1726 гг. пацвярджае дакладнасць лакалізацыі (Историко-юридические материалы. С. 21, 74).

389 На карце 1777 г. Хлусы адзначаны на правым беразе р. Бесядзі на поўдзень ад Свяцілавічаў амаль на месцы в. Жалезнікі (Рогачевской округ // Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты).

390 Инвентарь Чечерского староства 1704 года // Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в центральном архиве в Витебске / Под ред. Д.И. Довгялло. Вып. 28. Витебск, 1900. С. 3, 19—20.

391 Тамсама. С. 3, 18—19.

392 Тамсама. С. 36.

мяжы Менскага ваяводства, Магілёўскага намесніцтва і Магілёўскай губерні) і стала асновай на некаторых участках для фарміравання дзяржаўнай мяжы БССР. На ранняй карце М.Ф. Спірыдонава «Беларусь у канцы XVI ст.»[393] раён паміж Сожам і Бесяддзю з пазначэннем сёл Бабічы, Свяцілавічы, Жалезнікі і Галодна аднесены да тэрыторыі Pacii[394]. Аднак на больш позняй карце з, па сутнасці, такой самай назвай і ўнутраным зместам «Беларусь у другой палове XVI ст.» тая самая тэрыторыя і ўсе тыя ж сёлы ўключаны ўжо ў склад ВКЛ[395]. Адбылася тут нейкая памылка або былі высветлены новыя факты, якія дазволілі аднесці міжрэчча Сожа і Бесядзі да ВКЛ яшчэ ў сярэдзіне XVI ст. — невядома. Магчыма, у выніку высокай ваеннай актыўнасці на літоўска-маскоўскай мяжы падчас Лівонскай вайны ці адразу ж пасля яе была захоплена частка маскоўскіх уладанняў. Звесткі пра гэта маглі і не ўвайсці ў тэкст Ям-Запольскага перамір'я 1582 г. і перамір'я 1584, 1585, 1587, 1590, 1601 і 1608 гг. Магчыма, М.Ф. Спірыдонаў знайшоў дакументы, дзе пацвярджаецца прыналежнасць сёл Бабічы, Свяцілавічы і г.д. у другой палове XVI ст. да Чачэрскай воласці і Рэчыцкага павета, а таму і ўнёс змены ў сваю карту.

Іншыя чачэрскія сёлы, суседнія з толькі што разгледжаным рэгіёнам (Анісімкавічы, Навілаўка, Валосавічы, Струмень, Лугінічы, Пуклічы, Арэхвічы, палова Ліпінічаў, Аношкавічы, Зелянова, Карповічы, Выстрыганаў), відаць, невыпадкова былі пералічаны ў «Спісе» 1527 г.[396]. Ужо тады яны прыцягвалі ўвагу маскоўскіх улад. І вось у траўні 1531 г. сёлы Валосавічы, Арэхавічы, Палессе, Анісімкавічы, Струмень, Куклічы былі прадстаўлены ў пасланні вялікага князя Васілія III каралю Жыгімонту так, нібыта людзі апошняга «вступаютца в наши [вялікага князя маскоўскага — *В.Ц.*] земли и в воды»[397]. Як бачым, пра пералічаныя сёлы даволі ўпэўнена заяўлена як пра маскоўскія ўладанні.

Аднак спіс тых старадубскіх валасцей і сёл і гомейскіх сёл, якія абараняліся ад пасягальніцтваў літоўскага боку, значна шырэйшы. Блок чачэрскіх сёл ішоў следам за шэрагам населеных пунктаў, прызнаных за Масквой у 1503 г., а таксама за валасцямі Маславым і Крукавым дзясяткамі. Зрэшты, у яго трапіла, відаць, і адно не чачэрскае сяло — Палессе. Магчыма, яно належала Прапойскай воласці. У «Спісе» 1527 г. яго няма. Замыкаюць пералік сёлы Вілаўка, Яркавічы, Бабовічы, Данілкавічы і Лучыцкая воласць[398]. Сярод іх Вілаўка (суч. Віхалка?) і Бабовічы былі дакладна

---

393 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 2. Мінск, 1994. С. 394—395. Перавыдадзена таксама ў «Атласе гісторыі Беларусі» — дадатку да 6-томной «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 22—23). Да манаграфіі М.Ф. Спірыдонава «Закрепощение крестьянства Беларуси», выдадзенай у 1993 г. дадаецца карта, на якой раён паміж Сожам і Бесяддзю таксама аднесены да маскоўскага боку, але населеныя пункты там не пазначаныя (Спиридонов М.Ф. Беларусь в конце XVI в. // Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мінск, 1993. Приложение).

394 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 23. На асобнай карце Рэчыцкага павета заўважаем дадзены рэгіён у складзе Вялікага Княства Літоўскага, што выдае агульную неадпаведнасць карт Атласа (Спірыдонаў М.Ф. Рэчыцкі павет у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 42).

395 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267.

396 СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751.

397 Тамсама. С. 838; LM. Kn. 15. № 99. P. 133—134.

398 СИРИО. Т. 35. № 109. С. 838; LM. Kn. 15. № 99. P. 134.

старадубскімі, Яркавічы (Юркавічы)[399] і Данілкавічы — верагодна, гомейскімі, а Лучыцкая воласць (Алучыгчы) — сумеснага маскоўска-літоўскага ўладання з незразумелым адміністрацыйным падначаленнем пад маскоўскім кіраваннем.

Вызначэнне месцазнаходжання абвешчаных у 1531 г. маскоўскімі чачэрскіх сёл паказвае, што ўсе яны знаходзіліся на тэрыторыі паміж ракой Бесяддзю і яе правым прытокам Калпітай на ўсходзе і ракой Сожам на захадзе. Сяло Арэхавічы не паддаецца лакалізацыі[400]; Валосавічы — ужо знаёмыя нам Валосавічы на р. Покаці (размешчаны паміж Калпітай і Сожам); Палессе — тое сяло на правым беразе Калпіты, якое (цяпер ужо відавочна) памылкова прымалася за Паляшане[401]; Анісімкавічы — сучасная вёска Нісімкавічы на р. Покаці, на поўдзень ад Валосавічаў; Струмень, відавочна, адпавядае населенаму пункту з такой самай назвай каля левага берага р. Сож, на поўнач ад усіх іншых чачэрскіх сёл; і, нарэшце, Куклічы — відавочна, сучасныя Пуклічы на ўсход ад Чачэрска за Сожам і вельмі блізка ад сяла Залессе, якое ўвайшло ў склад Вялікага Княства Маскоўскага яшчэ ў 1500 г.

Трэба таксама звярнуць увагу на пералік чачэрскіх сёл, пададзены ў «Спісе» 1527 г. Месцазнаходжанне Арэхвічаў (у 1531 г. — Арэхавічаў), Зелянова, Карповічаў, Выстрыганава не вызначана, а Навілаўка — сучасная Навілаўка на левым беразе р. Покаці на паўднёвым усходзе ад Залесся (гэта сведчыць пра аддаленасць апошняга ад астатніх маскоўскіх уладанняў); Лугінічы — сяло на р. Ліпе з правага боку р. Сож; Ліпінічы — сумеснае маскоўска-літоўскае ўладанне таксама каля р. Ліпы; Аношкавічы — верагодна, Аношкі каля левага берага р. Сож, на поўдзень ад Залесся (таму ўкліньвалася ў маскоўскія з 1500 г. землі). Таксама існуе невялікая верагоднасць таго, што Карповічы — сучасны населены пункт Паўла-Карпоўскі.

Такім чынам, у паўночным адносна Гомея рэгіёне таксама выразна адзначаецца імкненне маскоўскага боку ўсталяваць мяжу па натуральным прыродным рубяжы, у дадзеным выпадку — па р. Сож. Не ўсе чачэрскія сёлы, якія згадваліся ў 1527 г. і, як выявілася, размешчаны на левым баку р. Сож, у 1531 г. былі заяўлены як маскоўскія. Аднак існуе вялікая верагоднасць таго, што і яны былі ўключаны ў склад маскоўскіх уладанняў. Сяло Навілаўка было з усіх бакоў аточана маскоўскімі сёламі, а Аношкавічы адразала ад масіву Чачэрскай воласці, што застаўся ў ВКЛ, балоцістая мясцовасць.

Гэтае падначаленне, верагодна, адбылося да пачатку жніўня 1529 г. Да 8 жніўня 1529 г. адносіцца скарга літоўскіх паслоў Мацвея Яновіча і Васілія Чыжа, выказаная ў Маскве вялікаму князю Васілію III. Паводле паслоў, людзі вялікага князя маскоўскага з Гомея і Старадуба неаднойчы прыходзілі вайной на воласці Горваль, Рэчыцу, Прапойск, Чачэрск, Крычаў, Алучыгчы і іншыя, рабавалі, бралі ў палон, і, урэшце, «люди, села, земли и воды тых волостей» да сваіх гарадоў «привернули»[402]. Акрамя таго, маскоўскія войскі «войной звоевали и до конца вы-

[399] 17 снежня 1531 г. да караля, вялікага князя Жыгімонта было накіравана аналагічнае, але пашыранае пасланне, дзе назва Яркавічы была зменена на Юркавічы (СИРИО. Т. 35. № 110. С. 843).

[400] Да 1974 г. у Сівенскім сельсавеце Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці існаваў пасёлак Арэхаўка. Вядомы ён і на пачатку XX ст. (Рогалев А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. С. 111). Знаходзіўся на ўсход ад Сівінкі, на паўночны захад ад Дзям'янак і Бярозак. Аднак Арэхаўка знаходзіцца даволі далёка ад магчымага месца Арэхавічаў.

[401] У пераліку 1531 г. названы як Паляшане, так і Палессе (СИРИО. Т. 35. № 109. С. 838; № 110. С. 843).

[402] СИРИО. Т. 35. № 105. С. 789.

бралі» воласць Абідаўскую, што належала канцлеру Ольбрахту Гаштольду[403]. Цэнтр гэтай воласці знаходзіўся якраз на паўночным захадзе ад тых чачэрскіх і іншых сёл, якія менавіта ў гэты час, відаць, і былі далучаны да маскоўскіх зямель.

Панаванне Масквы над тэрыторыямі на поўнач ад Гомейскага ўезда і на захад ад Паповагорскай воласці было, відаць, непрацяглым. Пасля 1531 г. прэтэнзій на іх больш не гучала. Па-ранейшаму ішла актыўная барацьба за воласці Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Алучычы, гучалі скаргі на рабаванне сёл Юркавічы, Бабовічы і Данілкавічы[404], але сёлы, захопленыя ў 1529 г., больш не згадваліся.

Аб'яднанне ў групу сёл Юркавічы, Бабовічы і Данілкавічы дазваляе выказаць меркаванне аб тым, што яны знаходзіліся побач адно з адным і непадалёку ад мяжы, таму і былі ў небяспецы. Тым не менш у адрозненне ад некаторых іншых месцаў, літоўскі бок ніколі не спрабаваў падпарадкаваць сабе гэтыя сёлы, іх толькі рабавалі, людзей зводзілі ў палон ці забівалі[405]. Напады ішлі з боку Чачэрска і Прапойска (сіламі князя Фёдара Вішнявецкага)[406], і сёлы, відаць, трэба шукаць бліжэй да тэрыторыі гэтых гарадоў. Аднак у Гомейскай зямлі і па суседстве з ёй можна знайсці некалькі сёл з ідэнтычнымі назвамі, таму цвёрда вызначыцца, якія з іх цярпелі ад нападаў, пакуль складана.

Відавочна, што калі ішло аднačасовае наступленне на раён трох сёл, шукаць іх трэба на нейкім адным баку такой значнай воднай перашкоды, якой была р. Сож. Тры сялы з назвамі Юркавічы, Бабовічы і Данілкавічы могуць быць звязаны ў групу з левага боку р. Сож, ад р. Іпуці на поўдзень у раён р. Цаты, прытоку Снова. Юркавічы, Бабовічы, Данілавічы (назва апошняга сяла супадае не цалкам) вядомы з левага боку р. Сож, каля гэтай ракі, але пры гэтым Бабовічы аддалены на поўдзень, за горад Гомей. Магчыма, прыярытэт усё ж застаецца за другой групай сёл, бо ў крыніцы яны называюцца гомейскімі[407], а ў першай групе Бабовічы былі старадубскім сялом. Аднак канчатковых высноў рабіць пакуль не варта.

Такім чынам, Юркавічы, Бабовічы і Данілкавічы належалі маскоўскаму боку з 1500 г. Цікавай гістарычнай загадкай падаецца вызначэнне месца валасцей Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Алучычы. Незразумелы ні час іх далучэння да Вялікага Княства Маскоўскага, ні месцазнаходжанне, ні адміністрацыйная прыналежнасць ужо ў маскоўскай сістэме тэрытарыяльнага ўладкавання.

Каля самага берага р. Сож знаходзілася ўжо знаёмае нам сяло Залессе (каля яго, паводле крыніцы, «нижей города [Чичерска] 3 версты Сож возитца»[408]), далучанае да Гомея са складу Чачэрскай воласці[409]. У 1534 г. ва ўнікальным дакуменце («Описание дорог из Минска на Северщину») яно называецца гомейскім у Маславым

[403] СИРИО. Т. 35. № 105. С. 789.

[404] Скаргі паступілі ўвесну 1531, увосень 1532, узімку 1534 гг. (СИРИО. Т. 35. № 109. С. 838; № 112. С. 861, 866).

[405] Тамсама. № 112. С. 861, 866.

[406] Князь, які рабіў напады — Фёдар Вішнявецкі (Вішнеўскі) — быў чачэрскім і прапойскім дзяржаўцам у 1524—1533 гг. (Перапіс войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. Публічных спраў 1. Мінск, 2003. С. 149. Л. 201; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 368; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 553).

[407] СИРИО. Т. 35. № 112. С. 861; LM. Kn. 15. № 177. P. 227.

[408] Радзивилловские акты. № 18. С. 71.

[409] СИРИО. Т. 35. № 102. С. 752.

дзясятку[410]. Можна зрабіць выснову, што воласць Маслаў дзясятак прыняла ў свой склад адно з чачэрскіх сёл. У сувязі з гэтым можна выказаць здагадку аб тым, што яшчэ два паселішчы (Навілаўка і Аношкавічы), не названыя сярод сёл, далучаных да маскоўскіх уладанняў да 1531 г. (гл. вышэй), таксама былі прыняты ў склад воласці. Усе тры сялы знаходзіліся побач, у раёне зліцця рэк Сожа і Покаці. Ва ўжо згаданым лісце вялікага князя Васілія III 1531 г. заяўлена пра тое, што людзі караля Жыгімонта ўступаюцца «в села Гомеиские Маслова десятъка и Крукова десятка»[411]. Такім чынам, адміністрацыйна-тэрытарыяльная прыналежнасць абедзвюх валасцей Гомея пазначана пэўна.

Падаецца, што Маслаў і Крукаў дзясяткі — новаўтварэнні маскоўскага часу. У раёне Гомея ніякіх падобных па назве на Маслаў ці Крукаў тапонімаў знайсці не ўдалося. Таксама дарма шукаць там рэшткі нейкага даўняга адміністрацыйнага ўладкавання (дзесяцічны падзел характэрны, напрыклад, для некаторых рэгіёнаў Паўночна-Заходняй Русі). Згадванне ў пасольскіх кнігах дзяцей баярскіх Левы і Андрэйца Маславых[412], а таксама тое, што да Маслава дзясятка належала сяло Залессе, раней чачэрскае, сведчыць пра тое, што менавіта для Маславых было створана асобае тэрытарыяльнае фарміраванне, верагодна, выдзелены буйны маёнтак[413]. Вядомыя і памешчыкі Крукавы[414]. Можа, ва ўтварэнні новых валасцей ёсць вельмі простае тлумачэнне: ці не былі дадзены дзецям баярскім Маславым і Крукавым з дзясятак населеных пунктаў з нядаўна далучаных абласцей, у прыватнасці, са складу чачэрскіх сёл?

У сувязі з тым, што Маслаў і Крукаў дзясяткі пачынаюць згадвацца з сярэдзіны 20-х гг. XVI ст., можна выказаць меркаванне, што фарміраванне гэтых валасцей адбывалася пасля ліквідацыі Старадубскага ўдзельнага княства (1518 г.). На нядаўна далучаных да Масквы землях дзецям баярскім Маславым і Крукавым былі выдзелены вялізныя землі, якія набылі назвы ад імён сваіх уласнікаў і атрымалі статус валасцей.

Месцазнаходжанне воласці Маслаў дзясятак вызначаецца даволі дакладна. Да яе належалі сяло Залессе і, магчыма блізкія сёлы Навілаўка і Аношкавічы. Такім чынам, воласць займала тэрыторыю з левага боку р. Сож, насупраць Чачэрска. Вусце р. Покаці і частка яе ніжняга цячэння таксама ўваходзілі ў склад Маслава дзясятка.

---

410 Радзивилловские акты. № 18. С. 71.

411 LM. Kn. 15. № 99. P. 134.

412 «А ныне на сей земле Федор Вишневской прислал своих людей в наших детей боярских поместья в гомейские, в Левино да в Ондрейцово Масловых» (СИРИО. Т. 35. № 103. С. 767).

413 Вядомыя тры роды Маславых: 1) нашчадкі Аляксандра Маслава, які выехаў з ВКЛ да разанскага князя Алега Іванавіча; 2) нашчадкі Анцыфара Маслава, якія таксама прыбылі з ВКЛ у 1519 г. да вялікага князя Васілія III і 3) нашчадкі рослаўльскага сына баярскага Канстанціна Фёдаравіча Маслава, які жыў на пачатку XVII ст. (Арсеньев Ю.В. Новые данные о роде Масловых // Летопись историко-родословного общества в Москве. Вып. 2 (30). М., 1912. С. 43). Верагодна, прадстаўнікі менавіта другога роду (сыны Анцыфара?) атрымалі ва ўладанне абмежаваныя маскоўскія землі, хаця згадка Левы і Андрэйца Маславых адносіцца да 1528 г.

414 У XVI ст. вядомы два роды Крукавых, не звязаныя блізкімі сваяцкімі адносінамі (Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России… С. 217, 230). У апублікаваным М.Е. Бычковай «Синодике по убиенных во брани» згадваецца шляхціц маскоўскі Мікіта Крукаў (Бычкова М.Е. Состав класса феодалов России. С. 188, 181). На пачатку XVII ст. вядомы баярскія Крукавы ў Белгародскім, Тульскім і Курскім паветах (Танков А.А. Историческая летопись курского дворянства. Т. 1. М., 1913; Народное движение в России в эпоху Смуты начала XVII века 1601—1608. М., 2003; Раздорский А.И. Торговля Курска в XVII веке (По материалам таможенных и оброчных книг города). СПб., 2001. С. 673).

Крукаў дзясятак не паддаецца нават прыблізнай лакалізацыі. Ёсць верагоднасць таго, што яго тэрыторыя ляжала побач з воласцю Маслаў дзясятак, магчыма, на паўночным усходзе, але ўказаць на штосьці пэўнае пакуль складана.

Маслаў і Крукаў дзясяткі часта згадваюцца разам з воласцю Алучычы[415]. Пасля змены ў Пасожжы геапалітычнай сітуацыі, звязанай з маскоўскімі заваяваннямі ў гэтым рэгіёне, гэтая воласць паступова ўсё больш імкнулася да Крычава[416]. Недаглядам літоўскага боку было вырашэнне не выкарыстоўваць яе ў тэксце перамірнай граматы ў складзе ВКЛ. Гэтым, відавочна, і скарысталіся маскоўскія дыпламаты.

Адну з меж воласці і частку яе тэрыторыі вызначае «Реистръ рославскии» 1522 г., «Список о порубежных землях и о жалобах» 1527 г. і некаторыя іншыя дакументы з Метрыкі ВКЛ. Паўночныя алучыцкія межы, а таксама сёлы воласці вызначаюцца паводле «Ограничения Кричевского староства» 1604 г.[417]. Поўнае ўяўленне пра населеныя пункты воласці (войтаўства) даюць інвентары апошняй трэці XVII — першай паловы XVIII ст.[418].

Рослаўльскі рэестр дае апісанне мяжы Паповай Гары з Лучычамі. За прапойскім сялом Локічы (месцазнаходжанне невядома) і супрацьлеглым яму наўгародскім сялом Кібілшчычы (суч. Кібіршчына) заканчвалася прапойская мяжа («То граница пропоиская вышла») і пачыналася сумежная з Паповай Гарой тэрыторыя воласці Лучычы[419]. Кібілшчычы знаходзіліся на левым беразе правага прытока р. Бесядзі Палужы[420]. Насупраць іх дзесьці павінны былі быць Локічы. Мяжа Паповай Гары «з лучичаны» пачыналася далей, ад сёл Рагозічы (Паповай Гары) і Слабады (Лучычаў). Першае сяло не лакалізуецца, а другое, на думку А.А. Мяцельскага, адпавядае сучаснай вёсцы Кісялёўка, што размяшчаецца побач з правым берагам р. Бесядзі[421]. Слабада як крычаўскае сяло згадваецца таксама ў «Спісе» 1527 г.[422].

На ўсход ад Кібілшчычаў, магчыма, знаходзілася яшчэ адно прапойскае сяло — Папарочычы, вядомае са «Спіса» 1527 г.[423]. Яго можна суаднесці з сучаснай вёскай

---

415 У крыніцах воласць называецца па-рознаму: Алучычы, Лучычы, Лучыцкая, Алучыцкая і г.д.

416 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. Як паказаў А.А. Мяцельскі, канчаткова Алучычы былі падпарадкаваны Крычаву 17 сакавіка 1529 г., калі кароль Жыгімонт Стары перадаў воласць пад кіраванне крычаўскага дзяржаўцы князя Васілія Сямёнавіча Жылінскага (Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 123). Хаця і пазней Алучычы выдзяляліся ў складзе Крычаўскай воласці або староства.

417 «Ограничение» захавалася як уключаны акт у гродскія кнігі Мсціслаўскага ваяводства сярэдзіны XVIII ст. (НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 1155. Ч. 1. Арк. 60—71). Дакумент паўтараецца 4 разы з рознай ступенню скарачэння і рэдакцыі.

418 НГАБ. КМФ-5. Воп. 1. Спр. 1922 (1671 г.), 1923 (1673 г.), 1924 (1670 г.), 1925 (1679 г.), 1926 (1682 г.), 1927 (1693 г.), 1928 (1694 г.), 1929 (1709 г.), 1930 (1712, 1713, 1714 гг.), 1931 (1720 г.), 1932 (1723 г.), 1933 (1723 г.), 1934 (1727 г.), 1935 (1727 г.), 1936 (1747 г.).

419 «Пам'ять» 1527 р. С. 213.

420 У сярэдзіне XVII ст. вядомая вёска Кібіршчына каля рэчкі Палужы, паводле рэвізіі 1723 г. — Скібілшчына (Лазаревский А. Описание старой Малороссии. С. 368).

421 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 126. На жаль, крыніца, у якой была б пацверджана сапраўднасць такога сцверджання, названа не была. Аднак выснова дакладная: на карце-трохвёрсцы 1860 г. Кісялёўкі няма, на яе месцы стаіць Слабодка (Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. Ряд 16. Лист 10).

422 СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751.

423 Тамсама.

Папаротнай на правым беразе р. Алешні, правым прытоку Бесядзі[424]. На супрацьлеглым беразе Алешні стаяла ўжо крычаўскае сяло Відуйцы, згаданае ў 1560 г.[425] (на пачатку XVI ст. яно, магчыма, належала да Алучыч). Такім чынам, хаця мы і не ведаем, дзе стаялі сёлы Локічы і Рагозічы «Рэестра» 1522 г., іншыя паселішчы дапамагаюць вызначыць пачатак лучыцкай мяжы. Памежнымі для воласці Алучычы былі, відаць, вярхоўі р. Алешні[426].

На ўсход ад р. Алешні, ужо каля р. Бесядзі знаходзіліся чатыры сялы, названыя ў «Спісе» 1527 г.: Зянковічы (усходняя частка суч. вёскі Самацэвічы), Уклеевічы (суч. Кляевічы), Кавычычы (суч. Кавычыцы) і Хадзімска (суч. Хоцімск)[427]. Вельмі верагодна, што на пачатку XVI ст. яны адносіліся да воласці Алучычы.

«Рэестр» 1522 г. працягвае мяжу, паказваючы сёлы Кузняцэвічы (Паповай Гары) і Мокрае («лучицкое»)[428]. Месца Кузняцэвічаў (да сёння не захаваліся) можна звязаць з возерам Кузнецкім, размешчаным непадалёку ад левага берага р. Бесядзі, а Мокрае і сёння стаіць каля ракі Свінкі, левага прытоку Бесядзі.

Абодва сялы, паміж якімі праходзіла мяжа Алучычаў, пакідалі ўбаку р. Бесядзь і крычаўскія сёлы на яе правым баку (Хадзімск і Укляевічы). З гэтага і робіцца выснова пра прыналежнасць апошніх да складу воласці.

Далей у тэксце рослаўльскага рэестра, на жаль, ёсць пропускі. Каля нейкага сяла (назва не пазначана) «граница лучицкая вышла, а пришла граница з Дроковом»[429]. Пачыналася дрокаўская мяжа ад сёл Панкевічы (Паповай Гары) і Улазовічы (Дрокава). Улазовічы існуюць і зараз, знаходзяцца на Іржачы (правы прыток Іпуці), крыху на захад ад горада Сураж. Панкевічы (Панковічы) адзначаны на карце-трохвёрстцы 1860 г.[430]. Паводле іх месцазнаходжання (каля правага прытока р. Іпуці) становіцца зразумелым, што гэтае сяло злілося з населеным пунктам Тварышына (у сярэдзіне XIX ст. — Тварышын), які дажыў да нашага часу. Значыць, дзесьці на поўнач ад р. Іпуці, паміж Панкевічамі і Улазовічамі, заканчвалася тэрыторыя воласці Алучычы.

Такім чынам, паўднёвая мяжа Алучычаў ішла ад ракі Алешні на паўднёвы ўсход, перасякала раку Бесядзь і накіроўвалася на ўсход да зямель Дрокаўскай воласці. Некаторыя сёлы вызначаюць тэрыторыю Алучычаў уздоўж ракі Бесядзі, а ў найбольшым аддаленні на поўнач вядома сяло Касцюкова «Лучицкои волости», згаданае ў 1508 г.[431], якое, магчыма, адпавядае сучасным Касцюковічам на р. Жадунцы, правым прытоку Бесядзі. Тэрыторыя па абодвух баках апошняй, бліжэй да вярхоўяў, відавочна, і была асноўнай тэрыторыяй воласці.

---

[424] М.Ф. Спірыдонаў атаясаміў сяло Папарочычы з сучаснай вёскай Папароткі на р. Якушоўцы — левым прытоку р. Сож (Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267).

[425] Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 126.

[426] Гэта ўсяго толькі асцярожная здагадка, бо М.Ф. Спірыдонаў, а за ім А.А. Мяцельскі праводзяць крычаўска-прапойскую мяжу па цячэнні р. Палуж, яшчэ адным правым прытоку Бесядзі, на захад ад Алешні (Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 126).

[427] СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 126. На карце-трохвёрстцы 1860 г. крыху на ўсход ад Самацэвічаў пазначаны Зелянковічы (Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. Ряд 16. Лист 10).

[428] «Пам'ять» 1527 р. С. 213.

[429] Тамсама.

[430] Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. Ряд 17. Лист 10.

[431] LM. Kn. 8. № 353. P. 276.

На жаль, далёка не ўсе сёлы, згаданыя ў рослаўльскім рэестры 1522 г., можна знайсці на карце, аднак тыя, чыё месцазнаходжанне вызначана, выяўляюць на значнай адлегласці дакладную адпаведнасць мяжы Алучыч сучаснай мяжы Рэспублікі Беларусь[432]. Так, сяло Мокрае лічылася «лучицким» і засталося ў складзе ВКЛ, а сяло Кузняцэвічы (магчыма, было ў раёне возера Кузнецкага) адносілася ўжо да Паповай Гары — тэрыторыі маскоўскага боку[433]. Якраз паміж імі праходзіць сучасная беларуска-расійская мяжа. Улічваючы тое, што звесткі рэестраў 1522 г. адлюстроўвалі сітуацыю XV ст., можна зрабіць выснову пра ўстойлівасць некаторых адрэзкаў беларускай мяжы на працягу больш чым 500 гадоў.

Вызначэнне месцазнаходжання воласці Алучычы паказвае, што яна знаходзілася на значным аддаленні ад гомейскіх зямель (паміж і крыху на поўнач ад гарадоў Папова Гара і Дрокаў). Адміністрацыйная падлегласць воласці Алучычы ў першай трэці XVI ст. незразумелая. Аднак, улічваючы яе геаграфічнае становішча, думаецца, што яна імкнулася хутчэй да Старадуба, чым Гомея. Тым не менш варта падрабязна вывучыць матэрыялы пасольскіх кніг, каб зрабіць канчатковыя высновы.

Яшчэ 24 сакавіка 1503 г. у Маскве баяры заявілі літоўскім паслам, што пасля спецыяльнага разбору («обыска») высветлілася наступнае: шмат валасцей «к целованью не приваживаны и не сидит на них никто». Сярод гэтых валасцей былі названы Рэчыца, Брагін, Горбаль (Горваль), Лучычы, Свержань, Тураў і інш. Многае са сказанага баярамі не адпавядала сапраўднасці. І Рэчыца, і Брагін, і Горваль, і Тураў, і некаторыя іншыя воласці былі запісаны ў перамірнай грамаце 1503 г. у бок вялікага князя літоўскага. З пералічаных тут гарадоў толькі Свержань і Лучычы (Алучычы) не згадваюцца ў грамаце 1503 г. Недаглядам складальнікаў дамовы 1503 г. маскоўскі бок хутка скарыстаўся.

У 1503 г. воласць Алучычы яшчэ належала ВКЛ. Паводле інфармацыі князя Сямёна Іванавіча Старадубскага, перададзенай у Маскву, «Кричевцы и Лучичане, после Велика дни» (Вялікадня, 16 красавіка)[434] 1503 г. двойчы нападалі на воласці вялікага князя маскоўскага, Папову Гару і Старадубскія сёлы[435]. У чэрвені 1503 г. той жа князь пісаў, што «Мстиславцы, и Кричевцы, и Чечеряне, и Лучичане» тройчы прыходзілі ў вялікакняжацкія ўладанні ў Паповай Гары і на старадубскія сёлы[436]. Характэрна, што ў снежні таго ж году князь Сямён Старадубскі скардзіўся ў Маскву пра крыўды, учыненыя толькі «от Чечерян, и от Кричевцов»[437]. Можа, гэта сведчыла пра тое, што пад канец 1503 г. воласць Алучычы (Лучычы) стала маскоўскай, але больш верагодныя два іншыя варыянты: жыхары Алучыч проста не ўдзельнічалі ў той раз у нападзеннях або пад крычаўцамі разумеліся і «лучичане».

У 1526 г. у адказ на скаргі літоўскага боку вялікі князь маскоўскі Васілій III падаў сітуацыю так, быццам воласць Алучычы была далучана да маскоўскіх зямель па ініцыятыве старадубскага князя Васілія Сямёнавіча і адбылося гэта пасля 1508 г. (падрабязней гл. ніжэй). Значыць, да таго часу Алучычы заставаліся пад уладай ВКЛ. Зрэшты, спроба захапіць воласць каля 1508 г. была або няўдалай або кароткапаспяховай, калі была ўвогуле.

---

432 Да такой жа высновы прыйшлі М.Ф. Спірыдонаў і А.А. Мяцельскі (Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 126).

433 Папова Гара з 1922 г. пачала называцца Краснай Гарой. Цяпер гэта пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр раёна Бранскай вобласці Расійскай Федэрацыі.

434 Wierzbowski T. Vademecum. Podręcznik dla studjów archiwalnych. Lwów—Warszawa, 1926. S. 134.

435 СИРИО. Т. 35. № 76. С. 430.

436 Тамсама. С. 431.

437 Тамсама. № 77. С. 447.

На два дзесяцігоддзі воласць Алучычы знікла з дыпламатычных дакументаў, а з сярэдзіны 20-х гг. XVI ст. яна стала амаль увесь час згадвацца побач з дзвюма іншымі валасцямі, маскоўскімі тэрытарыяльнымі новаўтварэннямі — Маславым і Крукавым дзясяткамі.

Падаецца, што ўвесь гэты час Алучычы заставаліся пад уладай ВКЛ. У сакавіку 1524 г. паступіла скарга ад літоўскага пасла Станіслава Даўгірдавіча, у якой, між іншым, вялікаму князю Васілію III было заяўлена наступнае: «А волостей наших Крычова, Пропостьска, Чичерска, Олучичь, Речицы, Стрешына, люди и земли и воды и всякие пожитки наместники твои у твою сторону забирают и поседают, а наши воеводы и наместники их в том обсылают, и они отказуют, иж от тебе брата нашего в том жадное науки не мают»[438]. Верагодна, менавіта напачатку 1524 г. воласць Алучычы ўпершыню трапіла пад уладу Масквы.

Паміж 1524—1526 гг. пра Алучычы не згадвалі. У гэты час на палітычную арэну выйшлі невядомыя да гэтага тэрытарыяльныя ўтварэнні — валасці Маслаў дзясятак і Крукаў дзясятак. Яны ўпершыню згадваюцца ў матэрыялах пасольскіх кніг 1525 г.[439]. У пасланні каралю, вялікаму князю Жыгімонту, напісаным 9 красавіка 1525 г. ад імя вялікага князя Васілія III, была пададзена скарга старадубскага намесніка князя Аляксандра Іванавіча Абаленскага на дзеянні літоўскіх людзей з Рэчыцы і Прапойска. Апошнія «вступались» у старадубскія і гомейскія валасці і сёлы Папову Гару, Дрокаў, Маслаў дзясятак і Крукаў дзясятак. Дзве апошнія валасці (або сёлы?)[440], магчыма, лічыліся гомейскімі, бо Папова Гара і Дрокаў, несумненна, былі старадубскімі. У інструкцыі («памяти») маскоўскаму паслу Фёдару Грыгор'еву 1525 г. загадвалася сцвярджаць, што ўсе чатыры валасці «писаны были в перемирных грамотах в государя нашего сторону» і пры каралі, вялікім князі Аляксандры, і пры каралі, вялікім князі Жыгімонце два разы[441].

Улада Васілія III над валасцю Алучычы трымалася да пачатку 1526 г. Да траўня 1526 г. адносіцца скарга маскоўскага боку на збор даніны і чыншу з валасцей Маслаў дзясятак і Лучыцкай літоўскім вялікакняжацкім пісарам Івашкам Гарнастаем[442]. У кастрычніку таго ж году ўжо літоўскі бок выказаў прэтэнзіі з прычыны нападзенняў маскоўскіх намеснікаў і памешчыкаў на шэраг памежных валасцей ВКЛ, сярод якіх былі названы і Лучычы[443].

30 кастрычніка 1526 г. літоўскія паслы заявілі, што людзі Васілія III «ново почали приворачивати к собе… королевы волости, Олучичи, да Маслов десяток и Крюков десяток». Вялікі князь маскоўскі высветліў («обыскал того»), што тры валасці былі далучаны да Старадуба «после докончанья великого князя Васильева з Жигимонтом королем»[444]. Да 1522 г. Васілій III двойчы заключаў дамовы з Жыгімонтам I Старым — у 1508 і 1522 гг. (першы раз — вечны мір, другі раз — перамір'е). З прычыны таго, што старадубскі князь Васілій Сямёнавіч памёр у 1518 г., застаецца адна дата — 1508 г. Незразумела, як успрымаць інфармацыю Васілія III. Падаецца, што

[438] СИРИО. Т. 35. № 96. С. 684.

[439] Тамсама. № 93. С. 693.

[440] Магчыма, у 1532 г. абедзве валасці таксама былі названы сёламі: «А Федор Вишневской прислал в наши ж села в гомейские, в Маслов десяток и в Крюков десяток» (СИРИО. Т. 35. № 112. С. 861). Зрэшты, тут можна падумаць, што гаворка ідзе асобна пра гомейскія сёлы і асобна пра дзве валасці.

[441] СИРИО. Т. 35. № 98. С. 694.

[442] Тамсама. № 99. С. 703.

[443] Тамсама. № 101. С. 717.

[444] Тамсама. С. 728.

яна не зусім адпавядае рэчаіснасці. Воласці Маслаў і Крукаў дзясяткі — тэрытарыяльныя ўтварэнні, якія ўзніклі пад маскоўскім кіраваннем. Хаця не выключана, што некаторыя сёлы, што ўвайшлі ў склад новых валасцей, былі далучаны да маскоўскіх уладанняў пасля заключэння міру ў 1508 г.

Васілій III абяцаў літоўскім паслам: «Да будет те волости не изстари к Стародубу, а приворотил их к Стародубу князь Василей Семенович, и мы тех волостей велим отступитись»[445]. Сумнеўна, каб абяцанне было выканана.

У наступны раз Маслаў і Крукаў дзясяткі згадваюцца ў 1529 г. Каралю, вялікаму князю Жыгімонту зноў была накіравана маскоўская грамата. У ёй выказана скарга на напады літоўскіх наменнікаў: «...и ныне твои люди вступаются, через перемирные грамоты: в Поповы Горы села и деревни, и в Крюков десяток в села и в деревни, и в Маслов десяток в села и в деревни...»[446] Відавочна, што абодва разгляданыя тэрытарыяльныя фарміраванні былі валасцямі: да іх адносіліся сёлы і вёскі. Пра адміністрацыйную падлегласць валасцей сведчыць згадка з пасольскіх кніг: «У Стародуба вступаютца в Попову Гору, в Маслов десяток, в Крюков десяток»[447].

Хаця іншая інфармацыя абвяргае папярэднюю і, акрамя таго, выразна паказвае, што адміністрацыйна-тэрытарыяльнае ўладкаванне заходняй ускраіны Вялікага Княства Маскоўскага было яшчэ ў стадыі фарміравання. Выразнага вызначэння прыналежнасці шэрагу валасцей і нават статусу населеных пунктаў не было.

У жніўні 1529 г. у адказе вялікага князя Васілія III каралеўскім паслам Гомей, Дрокаў і Папова Гара былі названы гарадамі з валасцямі і сёламі, і побач з імі былі запісаны воласці Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Алучыцы («А в земли наши и воды и ныне вступаютца наших городов Гомья, и Дрокова, и Поповы Горы в волости и села, в Маслов десяток, и в Крюков десяток, и в Олучицы, и в села и в деревни тех волостей»)[448]. Тут не зусім зразумела, ці былі пералічаны воласці як бы расшыфроўкай іх спіса для нейкіх з трох гарадоў, ці былі названы асобна з-за таго, што не атрымалі яшчэ пэўнай адміністрацыйнай прывязкі.

Адносна воласці Алучычы ў канцы 20-х гг. XVI ст. склалася дзіўная сітуацыя. Літоўскі і маскоўскі бакі, быццам бы не заўважаючы адрасаваных адзін аднаму пасланняў, выказвалі прэтэнзіі на дзеянні памежнай адміністрацыі суседзяў, скіраваныя на захоп або рабаванне гэтай воласці. Так, у жніўні 1529 г. літоўскія паслы ў Маскве скардзіліся, што маскоўскія наменнікі з Гомея і Старадуба Алучычы і яшчэ шэраг валасцей «воевали и казили»[449], а хутка ў маскоўскім адказе паслам гаварылася, каб літоўскія наменнікі «украинных городов» не ўступаліся «в наши земли и воды и в волости и в села наших городов», сярод якіх называліся Алучычы[450]. Відавочна, у гэты час ішла барацьба за падначаленне воласці, умацаванне ў ёй сваёй адміністрацыі. З красавіка 1529 г. уласнага кіраўніка з літоўскага боку воласць ужо не мела, яна была пераведзена пад кіраванне крычаўскага наменніка-дзяржаўцы. Такі крок, канечне, прызнаваў слабасць улады ВКЛ у гэтым памежным рэгіёне. Калі меркаваць па звестках з пасольскіх кніг, воласць Алучычы ўтрымлівалася сіламі маскоўскіх наменнікаў Гомея і Старадуба.

---

445 СИРИО. Т. 35. № 101. С. 729.

446 Тамсама. № 104. С. 771.

447 Тамсама. С. 773. Старадуб быў цэнтрам усяго рэгіёна, таму цалкам магчыма, што ўказанне на сувязь з ім зусім не азначала непасрэдную да яго адміністрацыйную падлегласць.

448 СИРИО. Т. 35. № 105. С. 796.

449 Тамсама. С. 789.

450 Тамсама. С. 796—797.

Між тым, наўрад ці варта пагаджацца з думкай А.А. Мяцельскага аб тым, што воласць Алучычы была сумесным уладаннем маскоўскага і літоўскага бакоў і пры гэтым была падзелена на дзве часткі[451]. Калі і быў перыяд сумеснага ўладання воласцю (толькі адна сумнеўная згадка падчас перамоў 1537 г.)[452], то ён заключаўся, хутчэй за ўсё, у падзеле атрыманых прыбыткаў. Распад воласці на дзве часткі непазбежна вёў да значных тэрытарыяльных трансфармацый (утварэнне новай воласці, зліццё часткі воласці з іншай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай, фарміраванне новага валаснога цэнтра на адколатых землях і г.д.), што было б абавязкова адзначана ў крыніцах. Мы ж увесь час сустракаем заявы, датычныя ўсёй воласці цалкам. Відавочна, захопы Алучычаў выяўляліся ў падначаленні мясцовай адміністрацыі, якая распаўсюджвала ўладу на ўсю яе тэрыторыю.

У 1530 г. на воласці Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Алучычы зноў было здзейснена нападзенне з боку ВКЛ. Гэтым разам яны быццам бы пададзены асобна ад старадубскіх і гомейскіх валасцей («...вступаютца в наши волости в Гомейские и в Стародубские, в Маслов десяток и в Крюков десяток и во Лучитскую волость»)[453]. Такім чынам, тры воласці маглі мець статус асобых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, не звязаных з якім-небудзь уездным цэнтрам. Аднак, можа быць, гэтыя воласці варта размеркаваць паміж двума цэнтрамі — Старадубам і Гомеем?

У Спісе 1531 г. (гл. вышэй) пералічваліся старадубскія воласці і сёлы і гомейскія сёлы[454], а з прычыны таго што згаданыя тут Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Алучычы былі валасцямі, то выснова пра іх падлегласць Старадубу відавочная.

У 1532 г. з розных гарадоў (Рэчыцы, Прапойска, Чачэрска, Крычава і нават Кіева) ішло нападзенне на старадубскія і гомейскія землі, на Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Лучыцкую воласць[455]. Тады ж прапойскі дзяржаўца Фёдар Вішнеўскі даслаў сваіх людзей у гомейскія сёлы, у Маслаў і Крукаў дзясяткі[456]. Тут зноў незразумелая падлегласць трох валасцей, але ўсё ж больш пэўнасці ў іх асобым статусе.

Напэўна, пра Маслаў дзясятак як гомейскую воласць сведчыць «Описание дорог из Минска на Северщину», складзенае ў 1534 г. літоўскім бокам, несумненна, з ваеннымі мэтамі[457]. Тут, канечне, былі адлюстраваны невялікі зрэз рэальнага адміністрацыйнага ўладкавання Вялікага Княства Маскоўскага, так, як яно бачылася з тэрыторыі суседняй дзяржавы.

Праблема трох валасцей з няпэўным статусам узнікла на канечным этапе мірных перамоў у Маскве на пачатку 1537 г. Ужо пасля складання пражмірнай граматы, пры чытанні яе спісаў, літоўскія паслы не пагадзіліся з пачутым («а слышим, пописаны волости господаря нашего в вашего государя сторону») і папрасілі даць тэкст для

451 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 123.

452 Нават заўвагі маскоўскіх баяр пра тое, што Алучычы «ведали и на великого князя и на короля, кто силнее держит» (СИРИО. Т. 59. № 6. С. 105), не з'яўляюцца доказам існавання сумеснага ўладання або кіравання воласцю. Відавочна, уся воласць перыядычна зазнавала ўладу то аднаго боку, то другога.

453 СИРИО. Т. 35. № 108. С. 833.

454 Тамсама. № 109. С. 838; № 110. С. 843.

455 СИРИО. Т. 35. № 112. С. 860.

456 Тамсама. С. 861.

457 «У Чичерска нижей города 3 версты Сож возитца под Залес(ь)ем, селом московским гомейским Маслова десятка» (Радзивилловские акты. № 18. С. 71).

падрабязнага вывучэння[458]. Яго ім не далі, але зрабілі выпіску, дзе былі пералічаны гомейскія валасці (што былі ў большасці, канечне ж, сёламі). Сярод гэтых валасцей заўважаем Маслаў дзясятак, Алучычы і Крукаў дзясятак (у такім парадку). Крыху далей пра іх сказана, што валасці гэтыя ў перамірных граматах «не писаны ни в одну сторону: держат их силно в великого князя сторону»[459]. Паслы ж заявілі, што шэраг валасцей належыць іх гаспадару і сярод іх назвалі валасці Папову Гару і Дрокаў, а таксама чачэрскія і прапойскія сёлы, сярод якіх заўважаем Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Алучычы[460]. Маскоўскія баяры сталі тады ўказваць на перамірныя граматы, складзеныя яшчэ з часоў Івана III, быццам бы ў іх былі пазначаны валасці і сёлы, прыпісаныя да Старадуба. Аднак паслы запярэчылі, заўважыўшы, што «тянули те волости и села из начала к Кричеву, и к Чичерску, и к Пропойску»[461], і прапанавалі запісаць іх у перамірнай грамаце да Гомея. Пасля нарады з вялікім князем маскоўскія баяры цвёрда вырашылі адстойваць нягомейскую прыналежнасць названых спярша імі ж гомейскіх валасцей і сёл («а те волости и села не гомейские»)[462].

У выніку кампраміс быў усё ж дасягнуты (падрабязней гл. ніжэй). Тут важна адзначыць, што сёлы заходняга масіву зямель, прыпісаныя да Гомея ў 1500 г. так і былі прызнаны за ім і аддадзены ВКЛ. Сёлы паўночнага масіву, хаця і былі прызнаны чачэрскімі і крычаўскімі, але пакінуты па-ранейшаму пад уладай вялікага князя маскоўскага. Валасці Маслаў і Крукаў дзясяткі і Алучычы аднадушна было вырашана зноў не пісаць ні ў адзін з бакоў, бо «их ведали и на великого князя и на короля, кто силнее держит»[463]. Такім чынам, асобы статус трох памежных валасцей быў афіцыйна прызнаны. З іх Маслаў і Крукаў дзясяткі засталіся, відаць, маскоўскімі, а Алучычы праз пэўны час усё ж зліліся з Крычаўскай воласцю. Аб гэтым выразна сведчаць звесткі «Ограничения» Крычаўскай валасці 1560 г.: у раёне былой алучыцкай мяжы названы крычаўскія паселішчы Відуйцы, Панкі, Боханы, Ганаўка і інш.[464].

Няпэўнасць адміністрацыйнай падлегласці валасці Алучычы была звязана, відавочна, з тым, што яе ўладанне Масквой не было канчаткова вырашанай задачай. За гэтую воласць ішла зацятая барацьба. Падначаленне Алучычаў было сумесным клопатам як старадубскага, так і гомейскага маскоўскіх намеснікаў. Гэтую выснову добра ілюструюць падзеі восені 1532 г. Тады гомейскі намеснік Фёдар Грыгор'евіч Пляшчэеў даслаў у лучыцкую воласць свайго даводчыка (судовага выканаўцу), а там яго загадаў схапіць крычаўскі дзяржаўца Васілій Чыж[465]. Апошні збіраўся прывесці ўсіх жыхароў Алучычаў да цалавання, «что им к Кричеву тянути». І тут ужо пачаў дзейнічаць старадубскі намеснік князь Фёдар Абаленскі. Ён звярнуўся да крычаўскага дзяржаўцы з патрабаваннем не ўступацца ў маскоўскую воласць і адпусціць палонных. Чыж матываваў свае дзеянні загадам караля[466]. Як бачым, фарміраваннем у Алучычах маскоўскай судовай адміністрацыі займаўся гомейскі

[458] СИРИО. Т. 59. № 6. С. 102.

[459] Тамсама.

[460] Тамсама. С. 102—103.

[461] Тамсама. С. 103.

[462] Тамсама. С. 103—104.

[463] Тамсама. С. 105.

[464] Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 126.

[465] СИРИО. Т. 35. № 112. С. 861.

[466] Тамсама.

намеснік, агульнае ж кіраванне воласцю было прэрагатывай старадубскага намесніка. Алучычы з-за тэрытарыяльнай аддаленасці не маглі стаць часткай Гомейскага ўезда, аднак яго намеснік браў актыўны ўдзел у забеспячэнні інтэграцыі воласці ў склад Вялікага Княства Маскоўскага.

Відаць, сапраўды варта прызнаць няскончанасць фарміравання ў першай трэці XVI ст. адміністрацыйна-тэрытарыяльнай сістэмы заходняй ускраіны Вялікага Княства Маскоўскага. Яшчэ не былі дакладна вызначаны ўезныя цэнтры (напрыклад, Папова Гара і Дрокаў аднойчы названыя гарадамі з валасцямі), прыналежнасць валасцей і сёл розным павятовым і валасным цэнтрам была непастаяннай. Таксама фарміраваліся тэрыторыі і такіх адміністрацыйных адзінак, як воласці. У дадзеным выпадку некаторыя воласці былі менавіта адміністрацыйнымі адзінкамі, а не цэнтрамі сельскіх абшчын, і штучна ствараліся дзяржаўнай уладай (дакладна вядома, што так была ўтворана воласць Маслаў дзясятак). Многім сёлам быў дадзены статус валасных цэнтраў, але невядома, ці набылі яны пасля гэтага характэрную для валасцей структуру сельскіх паселішчаў.

Пры існаванні Старадубскага ўдзела (да 1518 г.) кіраванне яго землямі наогул было больш клопатам мясцовых кіраўнікоў, а за кароткі перыяд ад 1518 да 1535 г. новы тэрытарыяльны лад на землях былога княства не паспеў сфарміравацца. Акрамя таго, мяжа паміж маскоўскімі і літоўскімі ўладаннямі не была стабільнай. Калі воласці Маслаў і Крукаў дзясяткі Масква трывала ўтрымлівала за сабой (няма ніякіх звестак аб спробах літоўскага боку далучыць іх да сваёй тэрыторыі), то воласць Алучычы ўвесь час пераходзіла з рук у рукі. Маскоўская тэрыторыя адносна Гомея развівалася ў заходні і паўночны бакі. Далучаныя на захадзе землі натуральным чынам адразу ж прыпісваліся да Гомея (ніякіх іншых гарадскіх цэнтраў побач проста не было). А вось паўночныя землі, відаць, не ўсе сталі адносіцца да Гомея. Набыткі 1500 г. яшчэ сталі часткай Гомейскага ўезда, а вось тое, што было занята яшчэ больш на поўнач ад іх, паступіла, магчыма, у падначаленне Старадубу і непасрэдна Паповагорскай воласці. Па вяртанні Гомея пад уладу ВКЛ пакінутыя ў Масквы засожскія сёлы (прыпісаныя да Гомея ў 1500 г.) былі запісаны валасцямі горада Папова Гара[467], які, нарэшце, набыў статус уезнага цэнтра.

Такім чынам, абрысы Гомейскага ўезда складваліся наступным чынам. Заходнія яго межы імкнуліся да Дняпра. Хаця ў выніку ўтрымаць задняпроўскія сёлы Стрэшынскай, Горвальскай і Рэчыцкай валасцей Маскве не ўдалося, але ўжо ў 1560 г. мы бачым вялікую іх частку ў складзе Гомейскай воласці. Між іншым, на ўсход ад р. Дняпро пачалі фарміравацца раёны сумеснага маскоўска-літоўскага ўладання тэрыторыямі (каля сёл Скепна і Калодчычы). Ад Дняпра мяжа ішла на ўсход да самых вярхоўяў р. Ліпы, заходзіла часткова і на яе левы (паўночны) бок, але потым вярталася да рэчышча гэтай ракі і ішла па ім да Сожа. Па Сожы мяжа падымалася ўверх (на поўнач) аж за горад Чачэрск, але потым рабіла рэзкі паварот на паўднёвы ўсход, перасякала р. Покаць і дасягала р. Бесядзі. Апошняя, магчыма, да самага вусця служыла ўчасткам гомейскай мяжы: на ўсход ад яе былі глухія лясныя і балоцістыя прасторы (цалкам не асвоеныя і сёння)[468], або намінальна падлеглыя Старадубскай воласці, або ўвогуле нікім не занятыя. Частка далейшай паўночнай і ўсходняй мяжы, відавочна, адпавядала ўжо апісанай мяжы Гомейскай воласці, хаця ёсць звесткі пра яе парушэнне.

Многія гомейскія сёлы ў левым (усходнім) баку р. Сож да 1535 г. былі раздадзены старадубскім служылым людзям. Паводле маскоўскіх баяр на перамовах 1537 г.: «А

---

[467] LM. Kn. 15. № 164. P. 211.

[468] Гомельская область. Атлас. С. 17—18.

Гомей город из начала отчина государя отчина, и наместники на нем были опричь Стародуба; а на сей стороне Сожа были села, и держали их дети боярские, Стародубцы, государя нашего, а тянули те села к Стародубу: и государю нашему как тех сел к Гомью поступитися?»[469]. Намецілася выразная тэндэнцыя адыходу значнай тэрыторыі Гомейскага ўезда ў напрамку суседняга Старадуба. Гэта і было адной з абвешчаных прычын настойлівасці маскоўскага боку на перамовах 1537 г. Аддаваць усю тэрыторыю Гомейскай воласці, якой яна была да 1500 г., паводле сцверджання маскоўскіх баяр, было складана, таму што яе займалі старадубскія землеўласнікі, «испоместить» якіх адразу на іншых землях краіны было складана[470].

Такім чынам, аднача́сова з пашырэннем тэрыторыі Гомейскага ўезда на захад да Дняпра адбывалася памяншэнне яго тэрыторыі на ўсходзе з набліжэннем мяжы да Сожа.

Паўднёвая гомейская мяжа, магчыма, пры маскоўскай уладзе таксама зазнала змены. Былі асвоены тэрыторыі да гэтага глухой мясцовасці ў раёне левых прытокаў Сожа Уці, Цярухі і Нямыльні і з правага боку Сожа ў напрамку яго вусця.

Трансфармацыя тэрыторыі, якая належала Гомею, падчас кароткага перыяду маскоўскага панавання (1500—1535 гг.) была вельмі значнай. Практычна толькі адзін маленькі ўчастак гомейскай мяжы ўздоўж левага прытока Сожа р. Ліпы адпавядаў першапачатковай мяжы Гомейскай воласці. Канчаткова сфарміравацца і замацавацца новыя межы Гомейскай зямлі так і не паспелі. Аднак некаторыя мерапрыемствы маскоўскай адміністрацыі былі пераняты ўладамі ВКЛ пры фарміраванні новай тэрыторыі Гомейскай воласці.

## 5. Праблема Гомея на літоўска-маскоўскіх перагаворах 1537 г.

Падчас літоўска-маскоўскай вайны 1534—1537 гг. у перыяд ваеннай кампаніі на Севершчыне войскі ВКЛ на чале з гетманам Юрыем Мікалаевічам Радзівілам наблізіліся да Гомейскага замка[471]. Так здарылася, што на той момант у Гомеі знаходзіліся ў асноўным «тутошние» людзі[472]. Горад па сутнасці не быў падрыхтаваны да аблогі, хаця задоўга да з'яўлення літоўскіх сіл можна было ўпэўніцца ў іх намерах — вельмі павольна войскі збіраліся ў блізкай Рэчыцы[473]. Зрэшты, аблога Гомейскага замка магла зацягнуцца, калі б не пазіцыя значнай часткі яго насельніцтва — «черни» або, што, відавочна, больш адпавядае рэчаіснасці — мясцовай знаці, баяр[474]. Гомейскі ваявода князь Дзмітрый Дзмітрыевіч Шчэпін-Растоўскі

[469] СИРИО. Т. 59. № 6. С. 96. Пазней у пасольскіх прамовах баяры казалі пра тое, што Іван IV паступіўся з Гомеем, «которые были церковные земли и детей боарских путные» (СИРИО. Т. 59. № 9. С. 166).

[470] На гомейскія землі паспелі распаўсюдзіцца не толькі землі старадубскіх дзяцей баярскіх, але і ўладанні царквы: «Государь наш Гомья королю поступился, и которые были церковные земли и детей боарских путные, и государь наш и тех земель всех поступился» (СИРИО. Т. 59. № 9. С. 166).

[471] Пра падзеі Старадубскай вайны гл.: Кром М.М. Стародубская война. С. 37—96.

[472] ПСРЛ. Т. VIII. С. 290.

[473] Кром М.М. Стародубская война. С. 60—61.

[474] Зимин А.А. Краткие летописцы XV—XVI вв. // Исторический архив. Т. V. М.; Л., 1950. С. 13; Acta Tomiciana: Epistole. Legationes. Responsa. Actiones res Geste Sigismundi I Regis Poloniae Magni Ducis Lithuaniae. T. XVII. Wratislavia; Cracovia; Posnania, 1966. № 2. P. 6; Кром М.М. Стародубская война. С. 72.

не здолеў управіцца з сітуацыяй і пасля 2—3 дзён бамбардзіроўкі вымушаны быў пакінуць горад разам з вернымі маскоўскай прысяге людзьмі (баярамі, дзецьмі баярскімі і пішчальнікамі)[475]. Пры выхадзе з горада прыхільнікаў князя Дзмітрыя абрабавалі, а частку з іх схапілі («поимали»). Сам ваявода пасля вяртання ў Маскву быў абвінавачаны ў здрадзе і пасаджаны ў адну з крамлёўскіх вежаў («Свиблаву стрельню»)[476].

Вызначэнне дакладнай даты заняцця войскам Юрыя Радзівіла Гомея — асобная праблема. Гэта адбылося або ў чацвер («...и в четверг мало не весь день з наших дел стрел(ь)бу чинили, гдежь князь Дмитрей Оболенский и вси люди... далей того на том ся замку боронити не могли и вышли к вашой милости, а его вам подали»), або, што менш верагодна, у пятніцу («Homel wzięli w piątek»)[477]. 22 ліпеня 1535 г. у атачэнні караля, вялікага князя Жыгімонта ўжо ведалі пра тое, што здарылася. У той дзень з рэзідэнцыі вялікага князя ў Васілішках (каля Ліды) было накіравана сама меней 6 пасланняў з віншаваннямі гетману[478]. З папярэдняга адказу Жыгімонта Старога Ю.М. Радзівілу ад 18 ліпеня вядома, што да гэтага часу войскі ВКЛ перапраўіліся каля Рэчыцы праз Дняпро[479]. Верагодна, падчас атрымання гэтага паведамлення ў Вільні ўжо ішла аблога Гомея. 22 ліпеня 1535 г. прыпадае на сераду[480]. У такім разе заняцце Гомея трэба аднесці на 6 дзён раней, да 16 ліпеня[481]. Думаецца, што калі б гэта адбылася ў больш ранні чацвер, напрыклад, 9 ліпеня, 19 ліпеня ў Вільні ўжо ведалі б пра перамогу[482].

Цікава, што яшчэ да заняцця Гомейскага замка для будаўніцтва ў ім новых і аднаўлення старых умацаванняў кароль і вялікі князь Жыгімонт I Стары загадаў намеснікам суседніх гарадоў дасылаць людзей або да самога Гомея або да таго месца, якое ўкажа гетман Ю. Радзівіл (з Горваля 20 чалавек, з Прапойска і Чачэрска 20 чалавек, з Рэчыцы 30 чалавек, з Магілёва 60 чалавек, са Свіслачы 30 чалавек, з Мазыра і Бчыга 60 чалавек)[483]. Сэнс гэтага маштабнага мерапрыемства быў у тым, каб падчас прысутнасці войскаў ВКЛ на варожай тэрыторыі паспець адбудаваць крэпасць у захопленым горадзе і «люди московскии не впередили а зася того замку Гомья не заробили»[484]. Такім чынам у нейкай ступені гарантавалася замацаванне за ВКЛ зямель, цэнтрам якіх быў, у гэтым выпадку, Гомей. Такія самыя дзеянні

---

475 Радзивилловские акты. № 73. С. 163; ПСРЛ. Т. XXIX. Летописец начала царства царя и великого князя Ивана Васильевича. Александро-Невская летопись. Лебедевская летопись. М., 2009. С. 19.

476 Зимин А.А. Краткие летописцы XV—XVI вв. С. 13.

477 Радзивилловские акты. № 73. С. 163; ПСРЛ. Т. XXXV. С. 192.

478 Радзивилловские акты. № 73—78. С. 162—170; АЗР. Т. II. № 184. С. 337.

479 Тамсама. № 70. С. 157.

480 Дзень тыдня ў адпаведнасці з датай юліянскага календара падлічаны паводле формул, пададзеных у кнізе: Черепнин Л.В. Русская хронология. С. 44—48.

481 Такую ж дату, з прыцягненнем некаторых іншых крыніц, падаюць Л. Калянкоўскі і М.М. Кром (Kolankowski L. Zygmunt August, Wielki książę Litwy do r. 1548. S. 143; Кром М.М. Стародубская война. С. 68; Ён жа. Меж Русью и Литвой. С. 225).

482 Пасля прыведзеных разлікаў можна сцвярджаць, што дата захопу Гомея — 17 ліпеня, пададзеная А.А. Макушнікавым, недакладная (Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 94).

483 АЗР. Т. II. № 183. С. 336—337; Радзивилловские акты. № 58—60, 62—64. С. 139—142, 143—146.

484 Радзивилловские акты. № 58. С. 140.

спрабаваў ажыццявіць пан віленскі, гетман Ю. Радзівіл адносна Старадуба, цалкам спаленага, але безвынікова[485]. Падобны клопат аб абароназдольнасці Гомейскага замка шмат у чым дапамог у яго ўтрыманні пад уладай ВКЛ.

Пасля няўдалай кампаніі 1536 г., калі маскоўскія войскі вярнулі амаль усё захопленае гетманам Радзівілам, асноўнай задачай літоўскага боку стала захаванне за сабой таго, што яшчэ засталося. Падчас перамоў аб перамір'і 1537 г. галоўным, без сумнення, было пытанне Гомея.

Да кастрычніка 1536 г. у Вільні было цвёрда вырашана пачаць перамовы аб міры «для покою христьянского, чтобы кровь христьянская не лилася»[486], і ў Маскву былі накіраваны паслы Ян Юр'евіч Глябовіч (полацкі ваявода, маршалак), Мацвей Война Войцехавіч Яновіч (віцебскі ваявода, маршалак, ваўкавыскі дзяржаўца)[487] і пісар (сакратар) Венцлаў Мікалаевіч. Паслы мелі намер прыбыць у Маскву ў лепшым выпадку да Калядаў, у горшым — да Вадохрышча[488].

Ужо 13 снежня 1536 г. са Смаленска намеснік Мікіта Васільевіч Абаленскі пісаў вялікаму князю пра з'яўленне літоўскіх паслоў[489]. Было арганізавана іх суправаджэнне і харчаванне. 12 студзеня 1537 г. «литвы всех 415 человек» прыбылі ў Маскву[490]. Акрамя трох згаданых паслоў, усіх «рымского закона», таксама важнымі прадстаўнікамі дэлегацыі былі каралеўскія дваране Глеб Іваноў сын Зіноўева Корсакаў і Лукаш[491].

У нядзелю, 14 студзеня, адбылася першая сустрэча літоўскіх паслоў з вялікім князем Іванам IV. Паслы падалі даверчую («верющую») грамату, сказалі наказныя прамовы, «явили поминки», і на гэтым першая сустрэча скончылася, бо, спасылаючыся на непаўналецце вялікага князя, паслам у сумесным абедзе было адмоўлена[492].

18 студзеня паслы зноў былі запрошаны ў палаты да вялікага князя. «Посидев мало» з пасламі, Іван IV загадаў правесці іх у іншую палату, дзе перад імі з адказам выступілі яго прадстаўнікі[493]. Сэнс прамоў апошніх зводзіўся да таго, што вайна пачалася не па віне маскоўскага боку («и те валки ссталися не нашею стороною»)[494], але цяпер абодва бакі жадаюць, каб не праліваласся хрысціянская кроў, а «бесерменская бы рука не высилася», «мир и добрую смолву делати»[495]. Пачаліся ўзаемныя папрокі і спрэчкі паміж баярамі і пасламі з высвятлення таго, хто пачаў вайну і ў чым яе прычына. Паслы зазначалі, што Старадуб і іншыя гарады належалі «изначала» літоўскім валадарам, а потым былі перададзены ўцекачам з Масквы. І толькі з-за чарговай здрады Шамячыча і Мажайскага гэтыя гарады трапілі ў рукі маскоўскаму валадару. Такім чынам, літоўскі вялікі князь дасылаў войскі «под свои городы»[496]. Аднак, як сцвярджалі маскоўскія баяры, паслам павінна быць вядома, «из начала

485 LM. Kn. 19 (1535—1537) / Parengė D. Vilimas. Vilnius, 2009. № 11. P. 64, № 12. P. 66, № 15. P. 69.

486 СИРИО. Т. 59. № 5. С. 61.

487 Крыху пазней называецца дзяржаўцам «дорогитцким» (СИРИО. Т. 59. № 6. С. 64; АЗР. Т. II. № 175. С. 267).

488 СИРИО. Т. 59. № 5. С. 62; АЗР. Т. II. № 175. С. 266.

489 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 63.

490 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 65; АЗР. Т. II. № 175. С. 267, 268.

491 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 64; АЗР. Т. II. № 175. С. 267.

492 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 66—67; АЗР. Т. II. № 175. С. 268—269.

493 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 69—70.

494 Тамсама. С. 72.

495 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 72; АЗР. Т. II. № 175. С. 272.

496 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 74; АЗР. Т. II. № 175. С. 274—275.

чья то отчина, и куды прислухали Киев и иные городы», і што ўсё гэта вотчына маскоўскага вялікага князя.

Урэшце было вырашана пакінуць бясплённыя размовы («мимошедшие дела») і вырашаць канкрэтнае пытанне заключэння вечнага міру, да чаго імкнуліся абодва бакі. Літоўскія паслы адышлі ад баяр, параіліся і, вярнуўшыся, пачалі пытацца аб тым, на якіх умовах маскоўскі бок жадае заключыць мір. Аднак баяры тое ж пытанне адрасавалі паслам. Нарэшце апошнія выказалі жаданне свайго гаспадара, каб маскоўскі гасудар «поступился» Вялікага Ноўгарада і Пскова[497]. Канечне, чакаць згоды баяр на такія ўмовы не варта было, і паступова ад імкнення заключыць мір паводле варыянта дамовы Казіміра Ягайлавіча з Васіліем Цёмным (1449 г.) літоўскі бок прыйшоў да апоры на пагадненне Жыгімонта з Васіліем III (відавочна, міру 1508 г., а не перамір'я 1522 г.). Баяры, выказаўшы думку вялікага князя, вырашылі, што і на такіх умовах мір заключаць нельга. Не дасягнуўшы згоды, паслы з'ехалі на прызначанае для іх падвор'е[498].

Перамовы працягнуліся 21 студзеня. Паслы зноў нядоўга «очи видели» маскоўскага гасудара, а потым былі пераведзены ў іншую палату для вядзення далейшых перамоў. Па першым часе літоўскія паслы наогул не жадалі размаўляць («молчали долго»), але потым зноў агучылі сваю ранейшую пазіцыю: заключыць вечны мір паводле ўмоў дагавароў Аляксандра Ягелончыка з Іванам III (перамір'я 1503 г. ці, усё ж, міру 1494 г.) і Жыгімонта з Васіліем III (1508 г.). Паслы скардзіліся, што ўвесь час ідуць на саступкі, а маскоўскі бок ніводнага слова не «спускает» і, нарэшце, запатрабавалі ў баяр іх умоў вечнага міру. Канечне ж, было прапанавана перавесці перамір'е Васілія III з Жыгімонтам (1522 г.) у вечны мір з некаторымі зменамі, звязанымі са справамі новага маскоўскага гасудара Івана IV Васільевіча[499]. Такі паварот падзей быў зусім не даспадобы літоўскім паслам. На іх думку, многія гарады і воласці былі ўпісаны ў перамірнай грамаце ў маскоўскі бок «на время, для покоя христьянского» і гаспадар аніяк не можа запісаць навечна сваю вотчыну маскоўскаму гасудару[500]. У пасольскіх прамовах адкрыта не гаворыцца, але, відавочна, галоўная праблема была ў прыналежнасці Смаленска. Літоўскі бок, натуральна, не жадаў прызнаваць за Масквой літоўскі бок. Паслы з баярамі зноў пасварыліся, і перамовы не зрушыліся з месца.

26 студзеня паслам, якія зноў прыйшлі ў набярэжную палату, было абвешчана пра жаданне заключыць не мір, а перамір'е, абмеркаванне якога пачалося праз два дні. Паслы з баярамі зноў доўга спрачаліся пра тое, хто першы выкажа тыя ўмовы перамір'я, да якіх жадае прыйсці. Урэшце, літоўская дэлегацыя выказала намер свайго гаспадара вярнуць сваю вотчыну, северскія гарады (пры гэтым Гомей заяўлены як ужо вернуты горад: «а Гомей готов у нашего господаря»), і зруйнаваць гарадкі Завалочча, Себеж і Веліж, пастаўленыя на тэрыторыі ВКЛ у полацкіх і віцебскіх землях[501]. У адказ баяры заўважылі, што пералічаныя гарады дасталіся Івану IV яшчэ ад дзеда і няма ніякай прычыны іх саступаць, а новыя гарадкі пастаўлены падчас варожых дзеянняў валадара ВКЛ, з іх Веліж неаднаразова ўжо быў запісаны ў граматах на маскоўскім баку.

Літоўскія паслы, не жадаючы саступаць і спаслаўшыся на такую волю свайго гаспадара, патрабавалі ад баяр абвяшчэння маскоўскіх умоў перамір'я. Гэтыя ўмовы

497 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 74—75; АЗР. Т. II. № 175. С. 275.

498 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 75—76; АЗР. Т. II. № 175. С. 276.

499 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 76—77; АЗР. Т. II. № 175. С. 277.

500 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 78; АЗР. Т. II. № 175. С. 278.

501 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 82; АЗР. Т. II. № 175. С. 280—281.

аказаліся практычна такімі ж самымі, што і ўмовы міру. Пры гэтым трэба было даць свабоду палонным і пакінуць на баку Масквы Себеж і Завалочча. Цяпер паслы ўжо адкрыта перайшлі да праблемных пытанняў: палонным у перамір'е свабоду даваць нельга, і Гомеем, якога «достал» іх гаспадар, «свою отчину», ніяк немагчыма паступіцца[502]. Пра лёс палонных размаўлялі шмат, літоўскія паслы прапаноўвалі нават памяняць іх на гарады Чарнігаў або Смаленск, але ў выніку, да заключэння міру, пытанне палонных вырашылі не ўздымаць[503].

Яшчэ адным этапам перагавораў сталі новыя, канчатковыя, патрабаванні паслоў («конечной наказ господаря нашего»), згодна з якімі Гомей з усімі валасцямі павінен быў застацца ў ВКЛ, а гарадкі Завалочча і Себеж — разбураны. На гэтыя ўмовы маскоўскі бок згоды не даў[504]. Аднак варта адзначыць, што адносна Гомея літоўская пазіцыя заставалася непарушнай.

Нарэшце, літоўскія паслы агучылі звычайную для перамір'я ўмову: «Кто что ныне держит, тот и держи», і перагаворы часова спыніліся.

Выкліканыя 30 студзеня да вялікага князя літоўскія паслы цвёрда трымаліся наказу свайго гаспадара: палонных і Гомей не аддаваць, новапабудаваныя гарадкі разбурыць. Праўда, маскоўскаму боку было прапанавана паступіцца за палонных Чарнігавам, але гэтае патрабаванне, канечне, было адкінута. Нарэшце, не дасягнуўшы згоды, маскоўскія прадстаўнікі сталі пакідаць палату са словамі аб тым, што гасудар прызначыць паслам дзень, калі яны будуць адпушчаны[505]. Перамовы былі на мяжы зрыву.

Тады паслы спынілі баяр і пасля доўгай шчымлівай прамовы пайшлі на чарговыя саступкі: ВКЛ заставаўся толькі Гомей з валасцямі, а гарадкі, пастаўленыя на літоўскіх землях, і волисці, у якіх яны былі пабудаваны, даставаліся Маскве. Перамір'е прапаноўвалася заключыць на год[506]. Баяры не адмовіліся ад гэтай прапановы, але, параіўшыся ў вялікага князя, агучылі жаданне апошняга саступіць гомейскую тэрыторыю толькі да р. Сож. Што ж тычылася Себежа і Завалочча, то, паводле баяр, трэба было яшчэ вырашыць, якія волисці «к тем городом пригоже быти»[507]. На гэтым чарговы дзень перагавораў скончыўся.

3 лютага паслам быў пададзены спіс («писанье») з тымі валасцямі, якія павінны былі б належаць пастаўленым маскоўскім бокам гарадам. Да Себежа былі аднесены волисці Асвея, Невядрэя, Нішча, Непаротавічы і Лісна. Паслы адмовіліся разглядаць пытанне пра яшчэ адно перамір'е (Жыгімонта з валошскім (малдаўскім) ваяводам Пятром) і абяцалі даслаць свайго пісара з адказам на пададзены спіс[508].

Пісар Венцлаў, які прыйшоў да баяр 4 лютага, заявіў, што ўсе волисці ў спісе полацкія і віцебскія. А 5 лютага ўжо ўсе паслы сутыкнуліся з тупіком у перагаворным працэсе. Маскоўскія баяры імкнуліся атрымаць Себеж і Завалочча з сістэмамі валасцей («а городом без волостей как быть?»), а самі не жадалі паступіцца Гомеем з усімі падлеглымі яму тэрыторыямі[509]. Справа дайшла да вяртання падарункаў («поминков»), адмовы ад гасударава жалавання, і пачалася падрыхтоўка да ад'езду. Аднак і гэтым разам розум перамог.

---

502 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 83; АЗР. Т. II. № 175. С. 282.

503 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 84; АЗР. Т. II. № 175. С. 282—283.

504 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 85; АЗР. Т. II. № 175. С. 283.

505 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 86—87; АЗР. Т. II. № 175. С. 283—284.

506 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 88; АЗР. Т. II. № 175. С. 285.

507 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 89; АЗР. Т. II. № 175. С. 285.

508 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 89—91; АЗР. Т. II. № 175. С. 286—287.

509 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 92; АЗР. Т. II. № 175. С. 287—288.

8 лютага перамовы працягнуліся. Праца пачалася з абмеркавання чутак пра быццам бы нежаданне паслоў «доброго дела делати». У выніку было вырашана, калі казаць сучаснай мовай, шукаць кансэнсус («И бояре говорили: вы поищите, а мы также поищем, чтоб межи государей на доброе согласие пришло»)[510]. Баяры агучылі жаданне вялікага князя паступіцца шэрагам валасцей ад Себежа і Завалочча (ад Себежа — Невядрэя, Межава, Дзярнова, Сволненская; ад Завалочча — Няшчэрда, Вярбілава Слабада, Кубак, Астроўна, Бярозна. У Себежа павінны былі застацца Нішча, Непаротавічы, Лістня; у Завалочча — Яса і Далыса)[511]. На гэта паслы адказалі, што дзівяцца развагам не вялікага князя, які яшчэ малы гадамі, а баяр, якія саступаюць гаспадару воласці, што і так з'яўляюцца яго вотчынай. Яшчэ маскоўскі бок саступіў воласці Асвею і Ліствену ад Себежа, а Далыскую і Невядрэйскую ад Завалочча, з жаданнем пакінуць за сабой да Себежа Нішчу і Непаротавічы, а да Завалочча — Ясу і Серадзею. Аднак пазіцыя паслоў ужо цвёрда вызначылася: аддаць толькі самі новыя гарады з валасцямі, на якіх яны стаяць, і патрабаваць замацавання за сабой Гомея «по старым рубежем»[512]. Тады баяры сталі апраўдваць сваё жаданне набыць да Себежа воласці Нішчу і Непаротавічы тым, што праз іх ідзе шлях на Апочку, а інакш паміж валасцямі няма сувязі. Некаторыя ж гомейскія сёлы павінны застацца за Масквой, таму што іх трымаюць старадубскія дзеці баярскія і цягнуць цяпер тыя сёлы да Старадуба. Узніклі спрэчкі, і паслоў ужо хацелі адправіць на падвор'е, але яны пайшлі яшчэ на саступку: адмовіліся ад завалоцкай воласці Далысы[513]. Перамовы на гэтым скончыліся, але на наступны дзень узнавіліся.

З маскоўскага боку папярэдне было вырашана, а 9 лютага агучана імкненне замацаваць за сабой па 10 вёрст ад валасцей Нішчы і Непаротавічаў да себежскага рубяжа і столькі ж вёрст ад Ясы да Завалочча. Ад Гомея саступалася тэрыторыя на 10 вёрст на ўсход ад ракі Сож па раку Шчанаву, да с. Прыбытковічы і р. Уці[514]. Паслы зноў сталі на старую пазіцыю: аддаць толькі самі гарадкі з іх валасцямі, а Гомей трымаць за сабой па старых рубяжах. Баяры схадзілі да вялікага князя, а па вяртанні абвясцілі, каб на наступны дзень баяры былі ў гасудара і ён адпусціў іх «к брату своему к Жигимонту»[515].

10 лютага баяры зноў паспрабавалі навязаць паслам свае ўмовы перамір'я, саступаючы гэтым разам гомейскай тэрыторыі 20 вёрст ад р. Сож па раку Харапот (суч. Харапуць) і да с. Прыбытковічы. Паслы былі непахіснымі. Тады іх адвялі да вялікага князя, які і адпусціў іх да Жыгімонта. Выязджаць трэба было ў аўторак (13 лютага), але паслы заявілі, што могуць выехаць хутчэй, у панядзелак (12 лютага)[516].

І толькі прыстаў Фёдар Андрэевіч Нявежын-Квашнін — дыпламат з вялікім досведам перагавораў з ВКЛ — здолеў зноў наладзіць адносіны паміж пасламі і баярамі. Перамовы ўзнавіліся б на наступны дзень, калі б не хвароба аднаго з паслоў — Яна Юр'евіча[517].

---

510 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 95; АЗР. Т. II. № 175. С. 290.

511 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 95; АЗР. Т. II. № 175. С. 290.

512 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 96; АЗР. Т. II. № 175. С. 291.

513 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 97; АЗР. Т. II. № 175. С. 291.

514 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 97; АЗР. Т. II. № 175. С. 292. На ўсход ад сучаснай в. Прыбытковічы каля в. Клімаўка размешчаны даўнія гарадзішчы і прыстань. На беразе р. Уці жыхары Клімаўкі знаходзілі рэшткі старых чоўнаў (Рогалев А.Ф. Родные названия. С. 39).

515 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 98; АЗР. Т. II. № 175. С. 292.

516 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 98—99; АЗР. Т. II. № 175. С. 293.

517 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 100; АЗР. Т. II. № 175. С. 294.

13 лютага паслам для пачатку была абвешчана новая «саступка» — 30 вёрст ад р. Сож, але, бачачы цвёрдую пазіцыю літоўскай дэлегацыі, баяры сказалі «конечное слово»: мяжу правесці «по половинам» — 60 вёрст ад Гомея і столькі ж ад Старадуба і з валасцей Нішчы, Непаротавічы і Яса саступіць па 10 вёрст да Себежа і Завалочча[518]. Паслы пачалі клясціся і пераконваць у немажлівасці іншых умоў, апроч замацавання за ВКЛ Гомея з усімі яго валасцямі і саступалі маскоўскаму боку Себеж і Завалочча з іх валасцямі, на якіх яны пастаўлены, і да апошняга яшчэ волосць Далысу, а перамір'е прапаноўвалася на 5 гадоў. Тады баяры заявілі, што будуць аб гэтым угаворваць Івана IV («и мы на то государя хотим наводити, чтобы так учинил»)[519].

«Перамовіўшыся» з вялікім князем, баяры вырашылі пагадзіцца з умовамі паслоў, бо «порвати с ними прибытка не будет, толко с ними валчити»[520]. Вярнуўшыся, яны прамовілі ўсе тыя словы, што ўжо гучалі ад паслоў у якасці ўмоў перамір'я на пяць гадоў. Маскоўскі бок браўся складаць спісы, паводле якіх па абмеркаванні з літоўскай дэлегацыяй была б складзена перамірная грамата[521].

Праз два дні падрыхтаваныя спісы былі прачытаны паслам. Яну Юр'евічу падалося «нечто… неразумно и невнятно в тех списках». На просьбу ж даць абмеркаваць спісы на падвор'і была афармлена толькі выпіска незразумелых фрагментаў граматы. Яна ўяўляла пералік гомейскіх валасцей і сёл, запісаных раней у перамірных граматах у маскоўскі бок. Пры гэтым высветлілася, што тры волосці (Маслаў і Крукаў дзясяткі, Алучычы) не былі запісаны нікому, а «держат их силно в великого князя сторону». Літоўскім паслам прапанавалі пасступіцца гэтымі валасцямі[522].

16 лютага паслы адразу ж прайшлі ў палату да баяр, не жадаючы марнаваць час на пратакольную сустрэчу з вялікім князем. Вынікам пытання баяр, што яны «уразумели в тех списках», быў пералік тых валасцей і сёл, якія быццам бы неправамерна былі запісаны ў маскоўскі бок: Папова Гара, Дрокаў, шэраг чачэрскіх і прапойскіх сёл, Крукаў дзясятак, Алучычы, Маслаў дзясятак[523]. Паслы, відавочна, правакавалі негатыўную рэакцыю маскоўскага боку, бо, як і паведамілі ў адказ баяры, тыя волосці і сёлы яшчэ з часоў Івана III былі запісаны за Масквой. Заява паслоў была часткова справядлівай. Пералічаныя волосці і сёлы цягнулі раней да Крычава, Чачэрска і Прапойска. Аднак ужо ў чатырох маскоўска-літоўскіх дамовах (уключна з дамовай 1508 г. аб вечным міры) амаль усе яны (за выключэннем трох, што выпалі з поля зроку складальнікаў грамат валасцей і некаторых сёл) былі прызнаны часткай Вялікага Княства Маскоўскага.

Паслы мелі намер запісаць спрэчныя тэрыторыі да Гомея, а ў кампенсацыю за іх прапанавалі да Завалочча волосці «Неведревскую и Истцо». Баяры сышлі да вялікага князя, а вярнуліся з указаннем паслам «бранно молвити». Перамовы зноў былі амаль сарваны, і паслоў, абвінавачаных у тым, што прыехалі ў Маскву «как бы развратным обычаем», ледзь не адправілі назад. Зразумеўшы, што дарма было пад канец перагавораў, калі згода была вельмі нетрывалай, вылучаць новыя патрабаванні, паслы вярнуліся да ўжо амаль прынятых рашэнняў[524].

518 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 100—101; АЗР. Т. II. № 175. С. 294.

519 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 101; АЗР. Т. II. № 175. С. 294.

520 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 101; АЗР. Т. II. № 175. С. 294—295.

521 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 101; АЗР. Т. II. № 175. С. 295.

522 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 102; АЗР. Т. II. № 175. С. 295.

523 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 102—103; АЗР. Т. II. № 175. С. 296.

524 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 104; АЗР. Т. II. № 175. С. 296—297.

Каб далей не ўзнікала непаразуменняў, паслам прапанавалі ў дамове зноў не згадваць воласці Маслаў і Крукаў дзясяткі і Алучычы, хаця і іх утрымліваюць «великого князя люди», а гомейскія сёлы «имянно написати» так, як яны былі пералічаны ў папярэдніх граматах, але тады ў маскоўскі бок. Апошнюю прапанову ўхваліў сам Іван IV[525].

Такім чынам, урэшце дамовіліся ўстанавіць перамір'е ад Дабравешчання (25 сакавіка) 7045 (1537) г. да Дабравешчання 7050 (1542) г. Умовы перамір'я ўжо вядомы, трэба толькі адзначыць, што да Гомея былі запісаны наступныя сёлы: Уваравічы, Целяшовічы, Цярэнічы, Кашалёў Лес, Марозавічы, Ліпінічы, Палшане[526]. У свой час гэтыя сёлы, якія належалі розным валасцям, былі прыпісаны да Гомея. Сваім становішчам яны як бы маркіравалі літоўска-маскоўскую мяжу, цяпер жа гэтыя сёлы, канечне, аказаліся вельмі далёка ад адноўленай мяжы, на супрацьлеглым баку р. Сож. Іншых населеных пунктаў, якія пазначалі б цяпер не заходнія, а ўсходнія межы гомейскай тэрыторыі, у дамове пералічана не было.

Па сыходзе паслоў на падвор'е, у набярэжнай палаце застаўся пісар Венцлаў з каралеўскім пад'ячым Угрымам. Разам з вялікакняжацкімі дзякамі і пад'ячымі яны да наступнага дня складалі і перапісвалі тэкст дамовы. І ўсё ж, калі 18 лютага павінна было адбыцца ўрачыстае прывешванне да граматы вялікай пячаткі вялікага князя Івана IV, пячаткі паслоў і пісара і цалаванне крыжа як маскоўскім гасударом, там і пасламі, выявілася, што ў тэксце замест «город Себеж и волость Себежская» запісана: «города Себежа и всее земли Себежьские»[527]. Канечне, грамату хутка выправілі, інцыдэнт быў вычарпаны. Далейшая цырымонія прайшла без эксцэсаў.

20 лютага маскоўскія паслы выехалі з Масквы, а 22 красавіка ў іх бок накіраваліся маскоўскі паслы — прысутнічаць на цырымоніі цалавання крыжа на дагаворнай грамаце каралём і вялікім князем Жыгімонтам. У ліпені дамова была зацверджана і літоўскім бокам[528].

Такім чынам, ключавым у маскоўска-літоўскіх перагаворах было пытанне пра дзяржаўную прыналежнасць Гомея і яго тэрыторыі. Літоўская дэлегацыя, цвёрда трымаючыся інструкцый, якія былі атрыманы на радзіме, ва ўмовах пастаяннага ціску, здолела абараніць правы ВКЛ на ўсю Гомейскую зямлю. Карацей, перамог звычайны для перамір'я прынцып размеркавання тэрыторый: «Кто чем владеет»[529]. Гомей увесь, з усімі сваімі валасцямі і сёламі, увайшоў у склад ВКЛ.

Характар перамір'я падкрэсліваў часовы характар саступкі ВКЛ Гомея з валасцямі, але рэальная практыка паказвала, што аднойчы замацаваныя за адным з бакоў тэрыторыі было вельмі складана вярнуць назад. Пытанне пра Гомей яшчэ не адзін раз ставілася маскоўскімі дыпламатамі, але ўрэшце «бояре послом Гомья поступились»[530].

У выніку вайны 1534—1537 гг. сфарміравалася лінія літоўска-маскоўскай мяжы, якая з некаторымі зменамі праіснавала аж да першага падзелу Рэчы Паспалітай.

---

525 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 104—105; АЗР. Т. II. № 175. С. 297.

526 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 105; АЗР. Т. II. № 175. С. 297—298, 314; № 7. С. 128; LM. Kn. 15. № 164. P. 212.

527 СИРИО. Т. 59. № 6. С. 106; АЗР. Т. II. № 175. С. 298.

528 АЗР. Т. II. № 175. С. 316.

529 Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 103.

530 «Выписка из посольских книг». С. 170.

## 6. Гомейская зямля ў першыя гады пасля вызвалення (1535—1560 гг.)

Памежнае становішча Гомейскай зямлі, якая зазнала даволі значны перыяд маскоўскага кіравання (за гэты час вырасла новае пакаленне людзей), патрабавала ад цэнтральных улад ВКЛ вельмі асцярожнага стаўлення да вернутых зямель. Шэраг мерапрыемстваў сапраўды сведчыць аб такім імкненні. Умоўна іх можна падзяліць на некалькі груп. 1) Дзеянні цэнтральных улад ВКЛ па падтрыманні лаяльнасці насельніцтва. 2) Кантроль над дзейнасцю наменікаў-дзяржаўцаў. 3) Умацаванне ў памежнай зоне шляхецкага землеўласніцтва і, наогул, ваенна-служылага саслоўя — апоры вялікакняжацкай улады на месцах. На ўсходняй ускраіне дзяржавы не склаліся асяродкі буйнога землеўладання (выключэнне — Стрэшынская воласць — уласнасць Віленскай капітулы), і амаль увесь масіў падняпроўскіх і падзвінскіх валасцей уяўляў гаспадарскія ўладанні, дзе функцыі кіравання ўскладваліся на наменікаў-дзяржаўцаў. Гэтыя прадстаўнікі вялікакняжацкай улады забяспечвалі функцыянаванне адміністрацыйнай і судовай сістэм, выкананне рознага кшталту павіннасцей і збор падаткаў[531]. Намеснікі-дзяржаўцы былі абавязаны клапаціцца пра захаванне правоў і абарону насельніцтва. І адначасова прымушаць яго выконваць павіннасці, усведамляючы пры гэтым, напрыклад, у адносінах да Гомея, «иж тот замок на украине есть, а к людемъ украиннымъ треба ся ласкаве заховати и не годиться им ни в чомъ обътяженя чинити»[532]. Аднак рэальнае кіраванне ўсходнімі землямі ВКЛ на месцах было далёкім ад ідэалу.

Ужо 21 верасня 1535 г., хутка пасля вызвалення (16 ліпеня), Гомей у дзяржанне «до воли господарской» атрымаў князь Аляксандр Андрэевіч Сангушка-Кашырскі[533]. Як адзначана ў самім прывілеі, гэтаму пажалаванню спрыяў сам найвышэйшы гетман ВКЛ пан Юрый Мікалаевіч Радзівіл. Цікава, што пасля заняцця Гомея гетман разлічваў на атрыманне горада ў дзяржанне сынам Мікалаем і нават прасіў віленскага ваяводу, канцлера пана Ольбрахта Марцінавіча Гаштольда перадаць сваю просьбу вялікаму князю літоўскаму[534]. Гаштольд сапраўды «о том господарю его милости мовил», але Жыгімонт вырашыў не спяшацца, а потым, калі сам будзе ў Літве, разам з панам віленскім (Ю.М. Радзівілам), калі на тое будзе яго жаданне, разгледзець гэтую просьбу[535]. Аднак, як відаць, хутка сам Ю.М. Радзівіл адмовіўся ад сваёй ідэі. Прычына гэтага, напэўна, у тым, што Гомей заставаўся ўскраінным замкам на небяспечнай маскоўскай мяжы, у спустошанай вайной мясцовасці. Канечне ж, такога ўраду (пасаду) цяжка жадаць сыну.

Паводле Л.А. Вінаградава, праз месяц пасля заняцця Гомея, вялікі князь літоўскі даручыў гетману Ю.М. Радзівілу самому вызначыць для воласці мыта і даніны[536]. Відавочна, Гомельскай зямлёй па першым часе распараджалася ваенная

---

531 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 300—301. У XVI ст. у асноўным выкарыстоўвалася назва пасады (ураду) дзяржаўцы, але ўжо з'яўляліся (у больш значных асоб) старасты. У XVII ст. больш распаўсюджанай была назва «староста». Намеснік (больш архаічная форма) больш уласцівы быў для перыяду да XVI ст.

532 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389).Воп. 1. Спр. 21. Арк. 188; Довнар-Запольский М.В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905. Приложение. С. 36.

533 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 19. Арк. 69—69 адв.; LM. Кп. 19 (1535—1537). № 13. Р. 66.

534 Радзивилловские акты. № 80. С. 174.

535 Тамсама.

536 Виноградов Л.А. Гомель. С. 13.

адміністрацыя, якая ўжо ў верасні 1535 г. змянілася грамадзянскім кіраваннем у асобе дзяржаўцы. З прыбыткаў апошняга забіраліся даніны грашовая, мядовая, бабровая і кунічная, гэта значыць тое, што звычайна і з іншых гаспадарскіх валасцей ішло ў вялікакняжацкі скарб[537].

Нягледзячы на пратэкцыю аднаго з самых уплывовых магнатаў дзяржавы, князь А.А. Кашырскі кіраваў Гомеем нядоўга. 27 траўня 1536 г. вялікі князь Жыгімонт Стары «замокъ наш Гомеи со въсимъ» падараваў ужо «до живота» ў дзяржанне князю Васілію Юр'евічу Талачынскаму[538]. Рашэнне аб перадачы Гомея князю было прынята дзякуючы яго вернай службе і згодна з жаданнем паноў-рады. В.Ю. Талачынскі атрымліваў прыбыткі ад Гомея і ўсяго таго, што да яго адносілася, у тым самым аб'ёме, якім валодаў князь Сямён Іванавіч Мажайскі пры Казіміры (гаворка не ішла пра правы ўдзельнага валадара). Праўда, і ў гэтым выпадку грашовая, мядовая, бабровая і кунічная даніны павінны былі пакідацца гаспадару, і, наогул, паводле фармуляра граматы непрыметна ніякіх асаблівых адрозненняў ва ўмовах распараджэння Гомеем у параўнанні з тымі, што атрымаў А.А. Кашырскі. Цікава, што ў выпадку з князем Васіліем да аналагічнай фразы абедзвюх грамат («мает... тотъ замок нашъ Гомеи держати и на немъ ся рядити и справовати з добрымъ а пожиточънымъ нашимъ г(о)с(по)д(а)ръскимъ») прыпісана: «...и без обътяженья подданых нашых тамошних»[539]. Ці не гэта было прычынай «адстаўкі» папярэдняга дзяржаўцы?

Акрамя таго, мяркуючы па тэксце першага прывілея, гомейскія падданыя не былі вызвалены пасля пераходу пад уладу ВКЛ ад унясення традыцыйных платаў гаспадару. А ў 1536 г. выявілася, што «тыи платы и пожитки» яны пачнуць даваць толькі пасля таго, як мінуць тыя гады, на якія іх «вызвалілі». Пры гэтым дзяржаўца мог браць усе «доходы и пожитъки», што яму павінны былі сплочваць «подле давного обычаю»[540]. Відаць, пасля захопу Гомея эканамічны стан горада і воласці быў вызначаны не адразу. Да таго ж, сваю ролю адыгралі і злоўжыванні першага намесніка. У сувязі з гэтым на нейкі час (10 гадоў) гаспадар паступіўся сваімі інтарэсамі на карысць аднаўлення края і захавання лаяльнасці яго насельніцтва[541].

Аднак дзейнасць новага намесніка не магла садзейнічаць эканамічнаму росту і фарміраванню станоўчага стаўлення насельніцтва да ўлады ВКЛ. З ліста вялікага князя Жыгімонта Старога віленскаму ваяводу, канцлеру пану Ольбрахту Марцінавічу Гаштольду ад 18 чэрвеня 1537 г. даведваемся пра значныя злоўжыванні князя В.Ю. Талачынскага, якія той паспеў здзейсніць падчас свайго кароткага (крыху больш чым за год) кіравання ў Гомеі[542].

---

537 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 19. Арк. 69—69 адв.; LM. Kn. 19. № 13. P. 66.

538 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 19. Арк. 195—196; LM. Kn. 19. № 149 (147). P. 158.

539 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 19. Арк. 69 адв., 195 адв.; LM. Kn. 19. № 13. P. 66; № 149 (147). P. 158.

540 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 19. Арк. 195 адв.; LM. Kn. 19. № 149 (147). P. 158.

541 А.А. Макушнікаў на старонках сваёй навукова-папулярнай працы, прысвечанай Гомею, памылкова сцвярджаў, што гомейскія мяшчане і валашчане былі вызвалены ад дзяржаўных падаткаў у 1537 г., у сувязі з заканчэннем вайны (Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 96).

542 Ліст быў упершыню надрукаваны М.В. Доўнар-Запольскім, потым запазычаны ў апошняга пры выданні кнігі «Памяць» Веткаўскага раёна і ўзноўлены ў манаграфіі А.А. Макушнікава (Довнар-Запольский М.В. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Приложения. № 14. С. 33—37; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Веткаўскага р-на. У 2 кн. Кн. 1 / Уклад. У.Я. Райскі. Мінск, 1997. С. 50—52; Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 196—199). Сам дакумент знаходзіцца ў складзе пакуль не выдадзенай 21-й кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ (НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 21. Арк. 186 адв.—189). Далейшыя спасылкі будуць дадзены на арыгінал дакумента.

Калі меркаваць па дзеяннях князя Талачынскага, ён успрымаў сваю пасаду як крыніцу асабістага ўзбагачэння і зусім не клапаціўся пра беражлівае стаўленне да тэрыторыі, зусім нядаўна адабранай у Масквы. Зрэшты, паводзіны князя можна зразумець. У той час яшчэ ішла вайна, вынік якой быў незразумелы. Падчас шэрагу ранейшых войнаў з Масквой ВКЛ у асноўным толькі губляла свае тэрыторыі. Натуральным імкненнем новага намесніка было атрымаць найбольшую выгаду з воласці, якая, цалкам верагодна, магла зноў вярнуцца пад маскоўскую ўладу. У падлеглых землях князь Васілій імкнуўся не затрымлівацца, а з'язджаў «з Гомя до именей своих»[543], чаго паводле абавязкаў дзяржаўцы ні ў якім разе не павінен быў рабіць. Новы дзяржаўца, верагодна, у першыя ж дні па сваім прыездзе ў Гомей, адабраў у мяшчан, што прыйшлі да яго, граматы, якія вызвалялі жыхароў воласці ад грашовай, мядовай, бабровай і кунічнай данін, падвод, серабшчызны і іншых выплат і павіннасцей на 10 гадоў (відавочна, прызначаных гаспадару), а таксама ад работ на замак (апроч зусім нязначных) на 1 год[544]. Відаць, у намер Талачынскага ўваходзіла збіраць, выкарыстоўваць і забіраць тыя платы і павіннасці, што павінны былі ісці на карысць вялікага князя. У той жа год дзяржаўца стаў патрабаваць выканання работ рознага кшталту, на некаторыя з іх мяшчане былі вымушаны наймаць людзей. Так, устаноўка еза (перагародка частаколам рэчышча ракі) каштавала ім 30 коп грошаў, пабудова грыдні і стайні, адпаведна, 5 рублёў і 4 капы грошаў[545]. Князь прыбраў да рук бабровыя берагі і азёры, а таксама 100 бітых баброў, адабраў «отчизныи» бортныя землі, з-за чаго іх гаспадары «проч оттол пошли»[546]. А калі князь Васілій «в объезде ездил и дан(ь) и тивуновъщину з них брал» (гэта значыць збіраў па воласці традыцыйныя паборы), было забрана 12 коп грошаў і мёду нішчымнага на 10 коп грошаў, з-за чаго «семъ сел людей от того для великого обътяженя прочъ пошло»[547]. Нечуваным наваўвядзеннем было патрабаванне паставак сена, якога «тамошние» людзі накасілі 500 вазоў «и незносную тяжкость в том приняли»[548]. Цяжкія ўмовы былі створаны для купцоў (гасцей), якія прыязджалі ў Гомей з зернем («зъбожем») і «з ыншыми речми». Для іх былі ўведзены высокія гандлёвыя мыты («мыта великие»), і ў выніку яны проста перасталі ездзіць у Гомей, а жыхары пачалі адчуваць нястачу ў «живностях»[549].

І тады да караля і вялікага князя было даслана некалькі чалавек са скаргай на дзяржаўцу. Але па дарозе іх перахапілі, збілі, абрабавалі і пасадзілі ў вежу, адабраўшы 16 коп грошаў і 20 баброў (якіх, відавочна, узялі з сабой) і ўсклаўшы віну аж на 200 коп грошаў[550]. Дазнаўшыся пра гэта ад іншых чалабітчыкаў, але не жадаючы прымаць недальнабачнае рашэнне, Жыгімонт накіраваў у Гомей шляхціца Івана Грыгор'евіча для збору звестак аб «кривдах и тяжкостях и грабежох» з боку дзяржаўцы і дапамогі жыхарам у вяртанні адабраных грошай і рэчаў і, галоўнае — «вызволеных» грамат[551]. Апошняй сваёй мэты ён не дамогся і нават яшчэ больш пагоршыў сітуацыю, бо князь Васілій не толькі нічога не аддаў, але яшчэ і зславіў

543 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 21. Арк. 187 адв.

544 Тамсама. Арк. 186 адв.

545 Тамсама. Арк. 186 адв.—187.

546 Тамсама. Арк. 187.

547 Тамсама.

548 Тамсама.

549 Тамсама.

550 Тамсама.

551 Тамсама. Арк. 187—187 адв.

жонак і дзяцей зняволеных чалабітчыкаў і запатрабаваў з іх дадаткова 120 коп грошаў. У той жа час вярнуўся да двара Іван Грыгор'евіч са спісам («реистром») спраў дзяржаўцы, а таксама падышло і другое пасольства ад мяшчан і валасных людзей[552].

Вялікі князь літоўскі меў намер «тот замок н(а)шъ зъ рукъ его [князя Васілія. — *В.Ц.*] взяти и инъшого державцу хто бы ся нам на то годный бы видел там послати», аднак, улічыўшы волю паноў рады і меркаванне віленскага ваяводы, вырашыў пакуль пакінуць ранейшага дзяржаўцу. Пры гэтым Жыгімонт звярнуў увагу Гаштольда на тое, што «тот замокъ за великимъ накладом къ рукамъ н(а)шимъ пришол», а дзяржаўца няўважліва паставіўся да дзяржаўнай маёмасці («на реч н(а)шу г(оспо)д(а)ръскую и земскую бачности не маеть»), пачаў рабаваць людзей, адбіраць іх землі і граматы, прыцягваць да замкавых работ, хаця варта было б пачакаць год, і гомельскія людзі павінны былі гэтыя работы выканаць «водле слушног(о) обычаю». Пры гэтым сам вялікі князь літоўскі, клапоцячыся пра насельніцтва памежнай зоны, каб яно гаспадарча ўмацавалася і папоўнілася новымі прышлымі людзьмі, на 10 гадоў адмовіўся ад усіх выплат на сваю карысць («мы сами им фолкгуючи вси платы н(а)шы до десяти год отпустили»)[553]. Канечне ж, пад кіраваннем князя Васілія людзі, якіх засталося даволі шмат у воласці пасля ваенных дзеянняў, не толькі не акрыялі, але і пайшлі прэч. З вуснаў караля і вялікага князя Жыгімонта Старога прагучала павучанне дзяржаўцу: «Сам он могъ бы тому розумети, иж тот замок на украине есть, а к людемъ украиннымъ треба ся ласкаве заховати и не годиться им ни в чомъ обътяженя чинити. Нижли коли бы ся они запомогли и добре там укгрунтовали, мог бы тымъ намъ г(оспо)д(а)ру пожиток привлащыти и собе теж знаючи по часу пожитокъ з них мети»[554].

Каб выправіць становішча, што склалася ў Гомейскай воласці, туды быў накіраваны шляхціц каралевы Боны Марцін Пацаткоўскі. Таксама віленскі ваявода абавязваўся «дать науку» князю Васілію, які павінен быў стаць больш дальнабачным, адмовіцца ад злоўжыванняў («уперод лепшую бачность на нас г(оспо)д(а)ря и на реч земскую мелъ, ослушне а радне на томъ справовал и такового обътяженя людем тамошнимъ украиннымъ не делал»), аддаць граматы «на вызволене даней и платовъ», адабранае вярнуць, за пабудаваныя «хоромы» заплаціць і больш іх не рабіць, жонак з парукаў вызваліць і «вин» з іх не браць, землі і азёры вярнуць. Па ўсіх гэтых справах дзяржаўца рабіў справаздачы перад шляхціцам каралевы Боны[555]. Фактычна дзейнасць князя Васілія была пастаўлена пад прамы кантроль з боку вялікакняжацкага прадстаўніка.

Але, акрамя таго, яшчэ два дзеянні даволі абмежаванага ў сваіх магчымасцях Жыгімонта маглі ў значнай ступені сцішыць самавольства гомейскага намесніка-дзяржаўцы.

У якасці асаблівай прывілеі для насельніцтва Гомейскай воласці было захавана права самастойна выбіраць валаснога старца — кіраўніка абшчыннай арганізацыі[556]. («А што ся дотычеть старца, хто бы мел старчество у той волости заведати, ино которого ч(е)л(о)в(е)ка волост на старченьство выбереть, тот нехай старцомъ у них

552 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 21. Арк. 187 адв.

553 Тамсама. Арк. 187 адв.—188.

554 Тамсама. Арк. 188.

555 Тамсама. Арк. 188 адв.

556 Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. С. 98.

будеть»[557]). Такім чынам, дзяржаўца пазбаўляўся кантролю (праз свайго стаўленіка) над жыццядзейнасцю абшчыны.

Пакінуўшы на месцы ўрадніка, які не спраўляўся са сваімі абавязкамі, вялікі князь літоўскі забяспечыў своеасаблівую гарантыю ад яго далейшых злоўжыванняў. За магчымыя «шкоды» Гомею, учыненыя князем Васіліем, павінен быў адказваць віленскі ваявода Ольбрахт Гаштольд. («И того б(о)же не дай, если збытъки а неслушною справою его мел оный замок н(а)шъ, который за немалым накладомъ нам ся достал ку якой шкоде прийти, мы того всего хочемъ на твоей м(и)л(о)сти смотрети»[558].)

Як доўга яшчэ заставаўся гомейскім дзяржаўцам князь В.Ю. Талачынскі, сказаць цяжка, аднак 13 лютага 1538 г. ён быццам бы атрымаў іншы ўрад — аршанскага («рошскага») дзяржаўцы. Да таго часу ранейшы дзяржаўца князь Фёдар Іванавіч Жаслаўскі быў пры смерці і не мог выконваць свае абавязкі. Ён паведаміў пра свой стан князю Васілію, каб той хадайнічаў аб атрыманні яго пасады. Паны рада і самі бачылі, што ўскраінны замак Орша (Рша) вымагае «державцы чуиного и справъного», а дазнаўшыся, што Талачынскі гатовы заняць гэтую пасаду, сталі прасіць пра яе вялікага князя[559]. Так, нягледзячы на ранейшую дзейнасць, князь Васілій атрымаў у дзяржанне яшчэ і Оршу. У Оршы ён быў абавязаны «верне а справедливе нам [королю. — *В.Ц.*] служыти, и к подданым нашымъ тамошънимъ без ихъ обтяжъливости заховати»[560]. Князь атрымаў тыя ж функцыі, правы і прыбыткі, што і ранейшыя дзяржаўцы.

Што тычыцца Гомея, то вялікі князь літоўскі меў намер «его по тому в держанье дати, кому будь воля наша г(о)с(по)д(а)ръская»[561]. Відавочна, горад Васілій Талачынскі павінен быў пакінуць. Аднак яшчэ ў жніўні 1538 г., гэта значыць праз больш чым паўгода, ён па-ранейшаму ўспрымаўся як гомейскі дзяржаўца.

20 жніўня 1538 г. кароль і вялікі князь Жыгімонт Стары накіраваў Васілію Юр'евічу Талачынскаму грамату, у якой заявіў пра чарговыя правіннасці князя і нават пра выспяванне сярод гомейскіх пушкароў змовы, вынікам якой магло б стаць вяртанне замка пад маскоўскую ўладу[562]. Як стала вядома каралю ад пана віленскага, найвышэйшага гетмана Юрыя Мікалаевіча Радзівіла, князь Васілій атрымаў грошы, каб наняць роту ў сто коней, але гэтага не зрабіў і пры гэтым стаў жыць у войску, «пробачивши тот замок наш украинны, который завжды того потребует, абы державцы нигде с него не з(ъ)ежал»[563]. У той жа час з прычыны «непильности» дзяржаўцы некаторыя пушкары задумалі «здраду», сталі збірацца і раіцца са старадубцамі і, найперш, з нейкім старадубскім папом. У сувязі з усім гэтым кароль і вялікі князь «под великою немилостью» загадваў, каб князь В.Ю. Талачынскі грошы пану віленскаму «з рук своих здал», а сам «днем и ночью на тот замок н(а)шъ ехал», разабраўся са змоўшчыкамі і пакараў іх. У Гомей павінны былі быць набраны іншыя пушкары. Жыгімонт патрабаваў, каб надалей князь «с того замка н(а)ш(о)го николи не зъежчал а обецны на нем мешкал и послуг г(оспо)д(а)рских там пилен был»[564].

557 НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 21. Арк. 188 адв.

558 Тамсама. Арк. 188 адв.—189.

559 LM. Kn. 20 (1536—1539) / Parengė R. Ragauskienė, D. Antanavičius. Vilnius, 2009. № 94. P. 156.

560 Тамсама.

561 Тамсама. P. 157.

562 AGAD. Arch. P. Sygn. 295. S. 37.

563 Тамсама.

564 Тамсама.

Такім чынам, становіцца зразумелым, што ў той час іншага дзяржання князь Васілій Талачынскі не меў ды і не мог мець, бо павінен быў знаходзіцца ўвесь час у адным месцы. Але ўсё ж зімой-вясной 1538/39 г. было прынятае канчатковае рашэнне пра перавод князя ў Оршу.

Увесну 1539 г. В.Ю. Талачынскі знаходзіўся ў Оршы. Пры гэтым, згодна з вялікакняжацкім прывілеем ад 30 красавіка 1539 г. на дзяржанне замка Орша «до жывота», князь не дасылаў каралю аналагічную грамату на дзяржанне Гомейскага замка, гэта значыць, па сутнасці, меў намер кіраваць ім па-ранейшаму. Сваім новым распараджэннем вялікі князь літоўскі ануляваў прывілей Талачынскаму на Гомей, а таксама пазначыў некаторыя новыя ўмовы кіравання князя ў Оршы. Дзяржаўца павінен быў «своимъ накладомъ и людми своими» аднавіць і забяспечыць замак («добре заробити и его справити такъ, яко того есть потъреба»). У адваротным выпадку князь пазбаўляўся пасады[565]. Мяркуючы па ўсім, Талачынскі выканаў распараджэнне караля, бо заставаўся аршанскім дзяржаўцам да 1546 г., калі і памёр[566].

Пасля Васілія Талачынскага гомейскім дзяржаўцам стаў пан Ян Дарашкевіч. Упершыню на гэтай пасадзе ён згадваецца на пачатку 1541 г.[567], але, верагодна, Гомей не заставаўся без кіравання на працягу амаль двух гадоў. Да вясны 1538 г. быў або прызначаны нейкі іншы, пакуль невядомы, дзяржаўца, або ім ужо тады стаў Ян Дарашкевіч. Апошні трымаў Гомей да сваёй смерці (у грамаце 1549 г., адрасаванай яго пераемніку, згадваецца як «небожчик»). У крыніцах паміж летам 1543 г. і пачаткам вясны 1549 г. называецца ўжо іншы гомейскі дзяржаўца — пан Ян Хршчановіч (Храшчонавіч)[568]. У храналогію згадак пра яго ўкліньваецца заўвага шэрагу даследчыкаў на з'яўленне ў Гомеі ў 1547 г. (нават з дакладнай датай — 6 верасня) новага дзяржаўцы — Анікея Гарнастая[569]. Апошні «добраахвотна» памяняўся месцамі з Янам Хршчонавічам пасля канфлікту з чаркаскімі баярамі і мяшчанамі[570]. Аднак у грамаце ад 15 сакавіка 1549 г. кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст пісаў яшчэ «державцу Гомейскому пану Яну Хрщчоновичу»[571]. Да снежня 1550 г. апошняга зноў змяніў Анікей Гарнастай[572]. Ян Хршчановіч паслядоўна называўся старастам чаркаскім і канеўскім у 1551 г.[573]. Ці было гэта чахардой заняцця пасады гомейскага

---

[565] LM. Kn. 20. № 182. P. 254.

[566] Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 350.

[567] АЗР. Т. II. № 208. С. 373.

[568] СИРИО. Т. 59. № 14. С. 216, 219; Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга № 30 (1480—1546 гг.). Кніга запісаў № 30 (копія канца XVI ст.) / Падрыхт. В.С Мянжынскі. Мінск, 2008. № 105. С. 176; № 176—177. С. 243; АЗР. Т. III. № 9. С. 21; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 30.

[569] Виноградов Л.А. Гомель. С. 14; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 87; Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 99; Яковенко Н.М. Українська шляхта з кінця XIV — до середини XVII століття. Волинь і Центральна Україна. Київ, 2008. С. 175.

[570] Яковенко Н.М. Українська шляхта з кінця XIV — до середини XVII століття. Волинь і Центральна Україна. С. 175.

[571] АЗР. Т. III. № 9. С. 21.

[572] СИРИО. Т. 59. № 21. С. 346.

[573] Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552 гг.). Кніга запісаў 28 / Падрыхтоўка тэкстаў да друку і навук. апарат: В. Мянжынскі, У. Свяжынскі. Мінск, 2000. № 113. С. 152; № 114. С. 154; № 116. С. 156; № 118. С. 159.

дзяржаўцы, ці мы маем храналагічную недакладнасць адной з крыніц, сказаць цяжка. Нарэшце, да 1560 г. — часу складання «Реестра ревизии замка, места и волости староства Гомейского», Гомей кіраваўся панам Каленікам (называў сябе Каляніцкім) Васільевічам Тышкевічам[574].

Пра сутыкненне інтарэсаў гомейскіх мяшчан і жыхароў воласці з імкненнямі дзяржаўцаў пасля смерці князя Васілія Талачынскага звестак пакуль не выяўлена, аднак пры Яну Дарашкевічу і Яну Хршчановічу адбываўся канфлікт са святарамі — уласнікамі зямель у Гомейскай воласці. Так, Ян Дарашкевіч не пускаў святароў царквы св. Міколы ў Гомеі па даніны да іх бортных зямель, падараваных яшчэ князем Сямёнам Мажайскім, і адабраў 10 пудоў мёду з той даніны[575]. Акрамя таго, як высвятляецца з граматы, адрасаванай ужо іншаму дзяржаўцу — Яну Хршчановічу, «небожчик» Ян Дарашкевіч беззаконна распараджаўся землямі той жа царквы Севасцьянаўшчынай і Багданаўшчынай, якія былі атрыманы ад таго ж князя Сямёна Мажайскага[576]. Таксама і Ян Хршчановіч святарам царквы Св. Міколы забараняў уязджаць у свае землі, а «пожитки» з іх браў на сябе[577]. Гаспадар стаў на абарону мясцовых землеўласнікаў і сваімі распараджэннямі абараніў царкоўную ўласнасць ад хцівасці намеснікаў.

Адным з напрамкаў палітыкі вялікіх князёў літоўскіх у памежнай Гомейскай воласці (што актыўна выявілася, праўда, ужо ў XVII ст.) стала садзейнічанне развіццю шляхецкага землеўладання.

Так, хутка пасля вызвалення Гомея былі вернуты землі дваранам Халецкім. Згодна з лістом караля і вялікага князя Жыгімонта І Старога ад 10 верасня 1537 г. уладанне «отчизное на имя Халчо и з иншими селы к нему прислухаючими со всимъ, яко ся оно здавна в собе мело» павінна было быць перададзена гомейскім намеснікам кн. Васіліем Юр'евічам Талачынскім (а ён не жадаў яго саступаць) дваранам Іосіфу і Астафею Халецкім, сынам оўруцкага намесніка Міхаіла Міхайлавіча Халецкага[578]. Паводле інфармацыі наўгародскіх гродскіх кніг, «иншими» сёламі, якія атрымалі ў 1537 г. браты Іосіф і Астафей, былі Навасёлкі і Юркавічы[579]. Аднак у 1560 г. пазначаныя два сялы адносіліся да гаспадарскай Гомейскай воласці і Халецкім не належалі[580]. У тых жа братоў у раёне Гомея акрамя Хальча былі названы: Сідны (?), Кузьмічы, Глыбаў, Чарны (Чорны), Пенянжэвічы (Пырэевічы?), а таксама ў Кіеўскім ваяводстве Ржышчаў[581]. Кампактнага ўладання ўсе сёлы не стваралі. Каля Хальча вышэй па р. Сож ляжалі Навасёлкі і Юркавічы. Глыбаў і Чорны былі побач, але па розныя бакі р. Дняпро паміж Горвалем і Рэчыцай. Кузьмічы размяшчаліся далёка

---

[574] Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 44. № 91. С. 105; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 359; Виноградов Л.А. Гомель. С. 15; Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 100.

[575] АЗР. Т. II. № 208. С. 373.

[576] АЗР. Т. III. № 9. С. 21.

[577] Тамсама.

[578] НГАБ. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 21. Арк. 232 адв.; LM. Kn. 20. P. 91; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 19.

[579] Kuczyński S.M. Rodowód Michała Chaleckiego // Miesięcznik Heraldyczny. 1934. № 2. S. 19. Юркавічы названы таксама ў лісце Жыгімонта, які знаходзіцца ў 20-й кнізе Метрыкі ВКЛ (LM. Kn. 20. № 49. P. 91).

[580] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 372—373.

[581] Kuczyński S.M. Rodowód Michała Chaleckiego. S. 19; Яковенко Н.М. Українська шляхта з кінця XIV — до середини XVII століття. Волинь і Центральна Україна. С. 185.

за Сожам ва ўсходняй частцы Гомейскай воласці (на момант складання «Рэестра» 1560 г. гэта, безумоўна, гаспадарскае сяло).

Да 1560 г. у раёне Горваля і Рэчыцы, за межамі гістарычнай Гомейскай воласці, склаўся комплекс уладанняў Халецкіх. Васілію і Андрэю належалі «в одном обрубе сел чотыри»: Чабатовічы, Засоўе, Кальскевічы і Чорныя[582]. Вытрымкі з наўгародскіх кніг дадалі да гэтага масіва сяло Глыбаў (размяшчалася непадалёку, гл. вышэй), а таксама назвалі ў Андрэя, Дзмітрыя і Яна Халецкіх уладанні Ржышчаў (у Кіеўскім ваяводстве), Хальч, Чорныя, Чабатовічы, Чэрнікаў (?), Пенянжэвічы (Пыраевічы?), Котры Келбасіны (?)[583]. У 1581 г. паміж Андрэем і Янам Халецкімі адбыўся абмен Чорным, Чабатовічамі і Целешавым на Хальч і Глыбаў[584]. Значыць, сама меней адно сяло (Целяшы-Целяшэвічы) далучылася да комплексу уладанняў Халецкіх. А каля Хальча, відаць, не так шмат зямель належала да яго старых уласнікаў. Грамата невядомаму Юрыю Багданавічу Халецкаму 1514 г., у якой ён быў быццам бы пажалаваны Жыгімонтам Аўгустам Старым Сялом (каля Хальча), з'яўляецца відавочнай падробкай, хаця С.М. Кучыньскі і падае розныя варыянты яе з'яўлення[585].

Зацвярджэнне ў Гомейскай зямлі землеўласніцтва Халецкіх, безумоўна, садзейнічала больш трывалай яе інтэграцыі з астатнімі тэрыторыямі ВКЛ. Аднак у адміністрацыйным плане землі Халецкіх былі выведзены са складу Гомейскай воласці.

Халецкія маглі садзейнічаць умацаванню абароназдольнасці Гомейскай зямлі, безумоўна, клапоцячыся пра свае ўладанні. Аднак асноўная вайсковая арганізацыі Гомея ўскладвалася на дзяржаўцу. Ад яго залежалі стан замка, камплектацыя і забеспячэнне войска, памежная служба. У выпадку з Гомеем свае асноўныя абавязкі дзяржаўцы выконвалі кепска: пакідалі горад на волю лёсу і сваёй абыякавасцю спрыялі выспяванню змовы. Зрэшты, калі меркаваць па матэрыялах маскоўска-літоўскіх пасольскіх кніг, сітуацыя на мяжы была адносна спакойнай. Ніводны з бакоў не здзяйсняў буйнамаштабных акцый, здольных парушыць раўнавагу мірнага часу.

Літоўска-маскоўская мяжа, якая з трох бакоў атачала Гомейскую зямлю, вылучалася сваім асаблівым «глухім» характарам. Лясы, балоты, амаль поўная адсутнасць дарог абцяжарвалі назіранне і кантроль за лініяй мяжы (якая наўрад ці наогул была дакладна вызначанай), стваралі магчымасці для пастаяннага пранікнення на чужую тэрыторыю, рабункаў, захопаў палонных і г.д. Асноўная колькасць памежных «обид» была звязана з захопам і рабункам лясных промыслаў і бліжэйшых паселішчаў. Небяспечнай Гомейшчына была для купцоў і ўсіх, хто карыстаўся яе ляснымі дарогамі. Свае, гомейскія, злачынцы хаваліся ў памежных маскоўскіх землях і адтуль працягвалі турбаваць тэрыторыю Гомейскай воласці. Нарэшце, на памежжы з абодвух бакоў увесь час адбываліся «кривды, зачепки и шкоды», за якімі хавалася штодзённае жыццё грамадства таго часу.

Да 12 ліпеня 1543 г. «человек гомейский» Палазовіч (Полаза), «шкоды и убытки починивши» ў Гомейскай воласці, уцёк за мяжу і адтуль працягваў сваю дзейнасць[586]. У той самы час казакі (верагодна, з Чарнігаўскага павета) паланілі 3 сям'і і забралі

582 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 376.

583 Kuczyński S.M. Rodowód Michała Chaleckiego. S. 19.

584 Тамсама.

585 Тамсама. S. 20—22.

586 СИРИО. Т. 59. № 14. С. 216, 219.

100 галоў «быдла рогатого» з гомейскага с. Слабада (Слабодка)[587]. У верасні 1544 г. з маскоўскага боку паступіла скарга, што «из Гомья приходят розбоем» ускраінныя людзі. Яны абрабавалі людзей на Чарнігаўскай дарозе і некаторых забілі[588]. У адказ паслы ВКЛ заяўлялі пра рабаванне купцоў і людзей, пра тое, што з маскоўскага боку ўступаюцца ў сёлы, людзі, землі і воды на гомейскай тэрыторыі[589]. У 1550 г. паўтарылася агульная заява аб «кривдах и обидах» з боку маскоўскіх «украинннных» людзей[590], а маскоўскім бокам быў складзены падрабязны «Список обидных дел»[591]. У асноўным гаворка ішла пра рабаванні і захопы лясных угоддзяў (пчаліных борцей і бабровых гонаў), але здараліся выпадкі, калі, напрыклад, у Горску (сяло Старадубскага павета) гомейскія людзі знялі з царквы звон, знеслі дзве кнігі і 5 вялікіх свечак, забралі ў папа Нячая 4 кані. Кража коней таксама была распаўсюджанай. Самай значнай падзеяй стаў прыход людзей дзяржаўцы Анікея Гарнастая (Ржэўскага з таварышамі) у старадубскае сяло Мікулічы і рабунак на 1200 рублёў[592]. У 1552 г. старосты Гомея і іншых памежных гарадоў паведамлялі вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту пра тое, што ў перамірныя гады ад маскоўскіх гарадоў «великие кривды, зачепки и шкоды стали», а іх намеснікі «управы никоторые... в тех делех обидных людем нашим не чинят»[593]. На самой справе прынцып, закладзены ва ўмовах перамірных грамат (князі, намеснікі і валасцелі «обиднымъ деломъ у всимъ праву вчынят на обе стороне»[594]), працаваў. Памежныя спрэчкі вырашаліся, нарабаванае вярталася, вінаватыя караліся. Вялікія канфлікты на літоўска-маскоўскай мяжы здараліся рэдка. Мірнае жыццё наладжвалася.

Такім чынам, стан Гомейскай зямлі пасля далучэння да ВКЛ характарызаваўся вельмі складанай унутранай сітуацыяй, звязанай, перш за ўсё, з негатыўнай дзейнасцю намеснікаў-дзяржаўцаў і ўплывам памежнага становішча. Тым не менш дзейнасць цэнтральных улад (найперш караля і вялікага князя) па палягчэнні падаткавага цяжару, абароне ад самавольства дзяржаўцаў, трыманні правоў уласнасці і, канечне ж, забеспячэнні ваеннай абароны насельніцтва садзейнічала паступоваму згладжванню супярэчнасцей. Самае галоўнае — Гомейская зямля не вярнулася пад маскоўскую ўладу, рэальная пагроза чаго існавала. Пытанне пра вяртанне Гомея ўвесь час уздымалася маскоўскім бокам падчас перамоў 40-х гг. XVI ст.[595]. Але безвынікова. Менавіта з таго часу Гомейшчына становіцца неад'емным складнікам ВКЛ, канчаткова адпадае ад такога гісторыка-геаграфічнага рэгіёна, як Северская зямля (часткай якой была са старажытнарускага часу), уключаецца ў працэс этнагенезу беларусаў і ў выніку далучаецца да дзяржаўнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

587 СИРИО. Т. 59. № 14. С. 216, 219.

588 Тамсама. № 15. С. 224, 230; № 17. С. 259.

589 Тамсама. № 15. С. 230.

590 Тамсама. № 20. С. 336.

591 Тамсама. № 21. С. 345—347.

592 Тамсама. С. 346—347.

593 Тамсама. № 23. С. 357.

594 LM. Kn. 15. № 164. P. 212.

595 СИРИО. Т. 59. № 9. С. 155—158; № 18. С. 278—279, 283—284.

## 7. Змены ў складзе Гомейскай воласці пасля 1537 г.

Вяртанне Гомея з усімі валасцямі ў склад ВКЛ было афіцыйна зацверджана маскоўска-літоўскай дамовай аб пяцігадовым перамір'і 18 лютага 1537 г. Нейкія асноўныя звесткі пра тэрыторыю, адарваную ад маскоўскіх зямель у 1535 г., верагодна, павінны быць адлюстраваны ў тэксце дамовы.

Як ужо адзначалася, у дагаворныя граматы ўносіўся пералік пераважна тых валасцей і сёл, якія знаходзіліся непадалёку ад мяжы. Тым самым спыняліся магчымыя прэтэнзіі на памежныя тэрыторыі і своеасаблівым чынам маркіравалася сама лінія мяжы, дакладнага вызначэння якой у большасці выпадкаў не патрабавалася. Унутраныя межы адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, а таксама межы, што страчваюць міждзяржаўны характар, як правіла, заставаліся па-за ўвагай складальнікаў грамат. Такім чынам, і ад дамовы 1537 г. варта было б чакаць звестак пра новую літоўска-маскоўскую мяжу.

Аднак тэкст дамовы 1537 г. запазычыў фармулёўкі папярэдніх грамат, і ў пераліку гомейскіх сёл аказаліся толькі тыя з іх, што калісьці фарміравалі заходнюю маскоўскую мяжу. Цяпер яны, канечне ж, адышлі на перыферыю. Зрэшты, частка сёл, прыпісаных на пачатку XVI ст. да Гомея, засталася ў Масквы і была цяпер аднесена да Паповай Гары[596]. «Воласці» Залессе, Бабічы, Свяцілавічы, Галодна, Скарбовічы, Лапічы па-ранейшаму вызначалі літоўска-маскоўскую мяжу. На значным участку яна ішла па рэчышчы ракі Сож і яе прытоку Бесядзі.

Тыя сёлы, што ў грамаце 1537 г. былі запісаны гомейскімі, і тыя, што засталіся за Масквой, ва ўсіх дамовах першай трэці XVI ст. абавязкова пералічаліся асобна ад Гомея на маскоўскім баку. Гэтыя сёлы складалі два асобныя масівы зямель (з заходняга і ўсходняга бакоў р. Сож), што ўвайшлі ў склад Гомейскага ўезда. Першапачаткова ж яны адносіліся не да Гомея, а да розных валасцей (Чачэрскай, Стрэшынскай і Горвальскай). Памяць пра гэта захоўвалася доўгі час.

Такім чынам, тэрыторыя, якая адносілася да Гомея, у перыяд маскоўскага панавання значна павялічылася. Калі ж у перамовах 1537 г. літоўская дэлегацыя адстойвала сваё права на вяртанне ВКЛ усёй Гомейскай воласці ў першапачатковым яе складзе, баяры маглі прэтэндаваць на тое, каб у Масквы засталіся ўсе сёлы, аднесеныя да Гомея пасля 1500 г. Так і здарылася ў адносінах да паселішчаў паўночнага масіву зямель (у левабярэжжы Сожа). Аднак заходні масіў зямель адразу, без усялякага абмеркавання, быў аддадзены ВКЛ[597]. Наконт яго ніякіх пытанняў або прэтэнзій з маскоўскага боку не ўзнікла: усе сёлы на захад ад Сожа, спецыяльна запісаныя ў тэксце перамірнай граматы 1537 г., засталіся ў складзе ВКЛ. Зрэшты, у гэтым выпадку саступлівасць маскоўскіх баяр не павінна здзіўляць. Яны, відаць, цудоўна разумелі, што пакінуць тыя сёлы ў складзе маскоўскіх уладанняў нельга: атрымаўся б эксклаў — тэрыторыя, з усіх бакоў акружаная літоўскімі ўладаннямі, кіраваць і кантраляваць іх было б праблематычна.

Асноўная працягласць гомейскай мяжы, што займела цяпер статус дзяржаўнай, а таксама ўнутраны склад Гомейскай зямлі, вернутай ВКЛ, у грамаце 1537 г. не фіксаваліся. Нейкія назіранні пра ўсходнія межы гомейскай тэрыторыі і высновы пра яе ўнутраны склад часткова можна зрабіць паводле матэрыялаў пасольскіх кніг. Так, паступовыя саступкі маскоўскім бокам гомейскай тэрыторыі (лінія ракі Сож, 10, 20, 30, 60 вёрст на

596 LM. Kn. 15. № 164. P. 211.

597 Маскоўскія баяры ад імя вялікага князя Івана IV гаварылі літоўскім паслам: «Которые села гомейские, Уваровичи и Телешовичи и иные села, имянно писаны были в перемирных грамотах в нашу сторону, и нам бы те села велети написати в королеву сторону имяны ж; и мы для покоя христьянского, чтобы кровь христьянская вперед боле того не лилася, те села гомейские велим написати в перемирную грамоту в гоподаря вашего сторону» (СИРИО. Т. 59. № 6. С. 105).

ўсход ад р. Сож) дазваляюць зрабіць выснову пра вялікую значнасць гомейскага сяла Прыбытковічы (у сярэднім цячэнні р. Уці, левага прытока Сожа). Апісанне двух участкаў прапанаванай маскоўскім бокам мяжы (спачатку па рэках Шчанаве і Уці, потым па рацэ Харапуці), магчыма, сведчыць пра рэзкае звужэнне тэрыторыі Гомея паміж рэкамі Іпуццю і Уццю, з наступным яе пашырэннем за с. Прыбытковічы і тым местам р. Іпуці, дзе ў яе ўпадае р. Харапуць і сама яна робіць выгіб у сваім цячэнні з поўдня на захад. На ўсход гомейскія землі шырыліся больш чым на 60 вёрст, бо маскоўская прапанова правесці мяжу пасярэдзіне паміж Гомеем і Старадубам (у абодва бакі па 60 вёрст) не была прынята.

Як было ўжо сказана, уяўленне пра першапачатковую тэрыторыю Гомейскай воласці (маецца на ўвазе тэрыторыя воласці да захопу Масквой) было вельмі ўстойлівым, аднак тыя ж пасольскія кнігі сведчаць пра тое, што пасля 1500 г. да самога Гомея было далучана шмат сёл са складу Прапойскай, Чачэрскай, Стрэшынскай, Горвальскай, Рэчыцкай і інш. валасцей. Няпэўны характар гэтых далучэнняў захоўваўся доўгі час, але паказальна, што пасля вяртання Гомея ў склад ВКЛ частка іх так і засталася ў складзе Гомейскай воласці. Больш таго, у яе склад увайшлі сёлы паміж Сожам і Дняпром, якія ў 1504—1511 гг. захоплівалі старадубскія ўдзельныя князі і на якія пазней прэтэндавалі памежныя маскоўскія намеснікі.

Імкненне маскоўскіх улад дасягнуць Дняпра і ўсталяваць уздоўж яго мяжу з ВКЛ, у прынцыпе, не завяршылася поспехам. А пасля вяртання Гомея ў склад ВКЛ тэрыторыя, падлеглая Гомею, усутыч наблізілася да Дняпра.

2 чэрвеня 1504 г. пасол караля Аляксандра Ягелончыка Мацвей Кунцэвіч сярод усяго іншага перадаў вялікаму князю маскоўскаму Івану III спіс з назвамі валасцей і сёл, якія пасля заключэння перамір'я былі захоплены Масквой. Сярод пералічаных фігуравалі горвальскія і рэчыцкія сёлы (пра іх гл. вышэй), каля берагоў р. Дняпро[598]. І ўжо ў 1560 г., паводле «Реестру ревизии господарской Гомейской волости», усе згаданыя горвальскія сёлы аказаліся ў складзе Гомейскай воласці[599]. Рэчыцкія сёлы, відавочна, засталіся ў сваёй воласці.

«Рэестр» 1560 г. дазваляе больш канкрэтна выявіць мяжу гомейскіх зямель з маскоўскімі ўладаннямі на ўсход ад р. Сож, а таксама аднавіць поўны ўнутраны склад гомейскай тэрыторыі.

Такім чынам, ва ўсходняй (засожскай) частцы тэрыторыі Гомейскай воласці канца XV і сярэдзіны XVI ст. амаль цалкам супадалі. Змены закранулі толькі суседнія з Любецкай воласцю землі. Клін з боку Любеча на поўнач уздоўж р. Сож быў значна скарочаны. Адбылося гэта, верагодна, у першай палове XVI ст., гэта значыць у перыяд паміж часам, да якога адносяцца звесткі «Рэестра» 1522 г. і датай складання «Рэестра» 1560 г. Канечне, зручней думаць, што пашырэнне тэрыторыі, якая адносілася да Гомея, на землі Любеча, адбывалася тады, калі абедзьве воласці знаходзіліся ў складзе адной дзяржавы (Гомей належаў Маскве ў 1500—1535 гг., а Любеч — у 1500—1508 гг.). Аднак, магчыма, лясныя і балоцістыя прасторы Любецкай воласці, чыё падначаленне свайму цэнтра было толькі намінальным, бесперашкодна асвойваліся з боку Гомея і тады, калі яны знаходзіліся ў складзе суседняй дзяржавы.

Істотныя трансфармацыі адбыліся ў заходняй частцы Гомейскай зямлі. Часткова яны былі спадчынай перыяду маскоўскага панавання (пра гэта ўжо гаварылася), але некаторыя, відаць, можна лічыць вынікам мерапрыемстваў улад ВКЛ.

Замацаванне стрэшынскіх і горвальскіх сёл за Гомеем было такім трывалым, што пасля вяртання воласці да ВКЛ яны ўвайшлі ў яе склад. «Рэестр» 1560 г. пералічвае новыя гомейскія сёлы на правабярэжжы Сожа так, што яны ідуць асобна адносна старых сёл Гомейскай воласці. Так, пасля Бабовічаў ішлі Валковічы (два

---

598 СИРИО. Т. 35. № 80. С. 469.

599 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 365, 366, 376.

старыя гомейскія сялы), потым Целяшы, Цярэнічы, Бацуны, Губічы, Марозавічы, Пірэевічы, Кашалёва, Уваравічы (новыя), затым пераліčаліся Данілавічы, Юркавічы, Навасёлкі, Старое, Валазковічы, Плёса, Прысна, Шэрсцін (старыя), а ў канцы — прыватнаўласніцкія сёлы Чабатовічы, Засоўе, Кальскевічы і Чорныя (з новых)[600].

Верагодна, што падчас правядзення апісання Гомейскай воласці з яе складу было выключана сяло Скепна. Падчас знаходжання рэвізораў Грыгорыя Валовіча і Мікалая Нарушэвіча ў Гомеі і правядзення імі рэвізіі да іх звярнуўся «врадник замку Стрешинского» (кіраўнік маёмасцю Віленскай капітулы)[601] князь Павел Гедройт. Апошні зазначыў, што людзей Стрэшынскай воласці сяла Скепна «примушают» да працы на замак гаспадарскі Гомейскі, тады як яны адносяцца да замку, які не з'яўляецца гаспадарскім або ўдзельных княжат ВКЛ. Паводле Паўла Гедройта, гэта ў той час, як Гомей быў заняты Масквой («кгды тот замок Гомейский в моц и держане неприятельское пришол»), тады і людзі, трапіўшы пад маскоўскую ўладу, вымушаны былі працаваць на замак у Гомеі («тогды и тое село капитульное при том же замку в руки неприятельские зашедши тот замок робыти мусило»)[602]. Характэрна, што с. Скепна было падпарадкавана маскоўскімі ўладамі толькі каля 1527 г. (гл. вышэй), але работы на Гомейскі замак сталі настолькі звыклымі, што ўжо пад уладай ВКЛ гомейскія староста і гараднічы атрымалі грамату «с канцелярей его м(ило)сти г(оспо)д(а)рское», паводле якой пацвердзілі права на прыгон людзей з суседняй воласці[603]. Відавочна ўжо тады (1560 г.) Скепна вярнулі да Стрэшына, да капітулы «костела головного светого Станислава у Вильни», гэта значыць да ўладанняў Віленскага каталіцкага біскупства[604]. У той час Стрэшын быў адным з найбольш буйных уладанняў каталіцкай царквы ў ВКЛ (другое — Сожыца (Сорьца) у Віцебскім ваяводстве)[605]. Сяло Скепна яшчэ больш павялічыла масіў яе зямель.

У складзе Гомейскай воласці ў сярэдзіне XVI ст. налічвалася 49 сёл. (Гл. таб. 7[606].) З іх гаспадарскімі (падеглымі вялікаму князю літоўскаму) было 31 сяло. 7 сёл належала мясцовым баярам (Кузьмічы, Сеўрукі, Вага, Рылавічы, Слабада, Валчковічы (Валазковічы), Волатава), 4 сялы дадзены панам Васілію і Андрэю Халецкім (Чабатовічы, Засоўе, Кальскевічы, Чорныя), 3 сялы былі «новорозданными», гэта значыць зусім нядаўна былі падараваны гомейскаму ротмістру пану Крыштофу Ленскаму (Прысна, Шэрсцін, Ліпінічы)[607], яшчэ адно сяло (Дуравічы), відаць, ужо задоўга да 1560 г. належала «поручнику» гомейскай роты[608]. Сяло Хальч пасля вяртання Гомея ў склад ВКЛ было

[600] АВАК. Т. XIII. № 100. С. 362—376.

[601] Капітула — савет па кіраванні біскупствам пры віленскім біскупе (Голубеў В.Ф. Абшчына ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці насельніцтва Горвальскай воласці... С. 74. Заўв. 5).

[602] Тэкст унікальнага дакумента амаль цалкам пададзены ў працы В.Ф. Голубева (Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. С. 251—252).

[603] Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. С. 252.

[604] Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі. С. 85—86. «До замку Стрешинского дано село Скепно» (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 376).

[605] Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі. С. 85; Голубеў В.Ф. Абшчына ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці насельніцтва Стрэшынскай воласці Рэчыцкага павета (паводле інвентарных апісанняў XVI—XVIII ст.) // Пятыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Рэчыца, 22—23 верасня 2005 г. Гомель, 2005. С. 205.

[606] Пры складанні табліцы выкарыстаны звесткі з публікацыі «Рэестра», зробленай Віленскай археаграфічнай камісіяй у 1886 г.

[607] На Ліпінічы ротмістр «листов данины господарской» не паказаў, спасылаючыся на тое, што яны знаходзяцца ў яго брата Лукаша (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 376).

[608] В.Л. Насевіч называе імя паручніка — Ян Фашч (Насевіч В.Л. Гомельская воласць. С. 543).

перададзена панам Халецкім (гл. вышэй). У царкоўным уладанні былі 2 сялы — Плёса (царквы св. Троіцы ў Гомеі) і Скепна (Віленскага каталіцкага біскупства). Пры гэтым апошняе ў 1560 г. было выведзена са складу Гомейскай воласці.

Таб. 7. Гомейскія сёлы паводле «Реестра ревизии господарской Гомейской волости» 1560 г.

| № | Назвы сёл | Прыналежнасць | Колькасць сялян | Рабочая жывёла | | Дымы[609] | Служ-бы[610] | Сенажаці (у вазах) | Сума выплат і прыбыткаў гаспадарскіх (толькі грашовых)[611] |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Валы | Коні | | | | |
| 1 | Азарчычы | гасп. | 1 | 2 | 2 | 1 | 1 | 20 | 3 капы 4 грошы |
| 2 | Антонавічы | гасп. | 4 | 5 | 4 | 4 | 1 | 25 | 4 капы 6 грошаў |
| 3 | Бабовічы | гасп. | 6 | 10 | 9 | 6 | 3 | 100 | 11 коп |
| 4 | Бацуны | гасп. | 3 | 3 | 3 | 3 | 2 | 12 | 3 капы 36 грошаў 8 пенязяў |
| 5 | Вага (Уважа) | баярск. | — | — | — | — | — | — | 4 капы 26 грошаў |
| 6 | Валковічы | гасп. | 15 | 22 | 19 | 12 | 5 | 105 | 30 коп 32 грошы |
| 7 | Валчковічы (Валазковічы) | баярск. | 8 | — | — | — | — | — | — |
| 8 | Волатава | баярск. | 3 | — | — | — | — | — | — |
| 9 | Галавінцы | гасп. | 4 | 5 | * | 4 | 2 | 41 | 5 коп *грошаў 4 пенязі |
| 10 | Губічы | гасп. | 12 | 12 | 4 | 15 | 4 | 100 | 14 коп 14 грошаў 4 пенязі |
| 11 | Данілавічы | гасп. | 8 | 10 | 6 | 8 | 4 | 60 | 9 коп 39 грошаў 5 пенязяў |
| 12 | Данілкавічы | гасп. | 8 | * | * | 7 | 2 | 80 | 8 коп* |
| 13 | Дзям'янавічы і Бярозцы | гасп. | 11* | 19 | 15 | 10 | 5 | * | 45* |
| 14 | Дзятлавічы | гасп. | 1 | 2 | 2 | 1 | 1 | 20 | 2 капы 59 грошаў |
| 15 | Добруша | гасп. | 10* | 15 | 10 | 9 | 3 | 115 | 15 коп 44 грошы |
| 16 | Дуравічы | панск. | — | — | — | — | — | — | — |
| 17 | Засоўе | панск. | — | — | — | — | — | — | — |
| 18 | Кальскевічы | панск. | — | — | — | — | — | — | — |
| 19 | Карма | гасп. | 6 | 4 | 4 | 5 | 2 | 40 | 7 коп 23 грошы |
| 20 | Кашалёва | гасп. | 12 | 16 | 13 | 12 | 4 | 45 | 8 коп 33 грошы |
| 21 | Кузьмічы (Кузьмінічы) | баярск. | — | — | — | — | — | — | 4 капы 16 грошаў 4 пенязі |
| 22 | Лагуновічы | гасп. | 7 | 10 | 8 | 7 | 3 | 30 | 7 коп 55 грошаў |
| 23 | Ліпінічы | панск. | 5 | — | — | — | — | — | — |
| 24 | Маркавічы | гасп. | 9 | 11 | 11 | 6 | 5 | 200 | 19 коп 10 грошаў |
| 25 | Марозавічы | гасп. | 5 | 5 | 3 | 4 | 2 | 20 | 4 капы 5 грошаў |
| 26 | Навасёлкі | гасп. | 5 | 5 | 5 | 5 | 2 | 60 | 5 коп 51 грош |
| 27 | Насовічы | гасп. | 2 | 4 | 4 | 2 | 2 | 30 | 5 коп 44 грошы |
| 28 | Пірэевічы | гасп. | 6 | 5 | 5 | 6 | 2 | 30 | 3 капы 35 грошаў |
| 29 | Плёса | царк. | — | — | — | 4 | — | 50 | — |
| 30 | Прыбытковічы | гасп. | 9 | 13 | 8 | 9 | 2 | 30 | 7 коп 4 грошы |
| 31 | Прысна | панск. | 26 | — | — | — | — | — | — |
| 32 | Раманавічы | гасп. | 9 | 18 | 15 | 8 | 3 | 220 | ? коп 11 грошаў* |
| 33 | Рылавічы | баярск. | — | — | — | — | — | — | 1 капа 9 грошаў 6 пенязяў |
| 34 | Сеўрукі | баярск. | — | — | — | — | — | — | — |
| 35 | Скепна | царк. | 30 | — | — | — | — | — | — |
| 36 | Слабада | баярск. | — | — | — | — | — | — | — |
| 37 | Старое | гасп. | 10 | 13 | 11 | 10 | 4 | 100 | 13 коп 9 грошаў |
| 38 | Целяшы (Целяшэвічы) | гасп. | 8 | 11 | 5 | 8 | 4 | 72 | 12 коп 4 грошы 8 пенязяў |
| 39 | Церашковічы | гасп. | 4 | 8 | 4 | 4 | 2 | 25 | 6 коп 22 грошы |
| 40 | Цярэнічы | гасп. | 2 | 2 | 1 | 2 | 1 | 30 | 3 капы 44 грошы |
| 41 | Тростынь | гасп. | 9 | 10 | 5 | 8 | 4 | * | 16 коп 34 грошы |
| 42 | Уваравічы | гасп. | 11* | 13 | 13 | 11 | 5 | 50 | 14 коп 34 грошы |
| 43 | Уцце | гасп. | 6 | 7 | 5 | 6 | 3 | 45 | 5 коп 46 грошаў |
| 44 | Хальч | панск. | — | — | — | — | — | — | — |
| 45 | Чабатовічы | панск. | — | — | — | — | — | — | — |
| 46 | Чорныя | панск. | — | — | — | — | — | — | — |
| 47 | Шэрсцін | панск. | 2 | — | — | — | — | — | — |
| 48 | Юркавічы | гасп. | 5 | 2 | 1 | 1 | 1 | 15 | 4 капы 15 грошаў |
| 49 | Юркавічы | гасп. | 4 | 6 | 5 | 4 | 2 | 50 | 9 коп 15 грошаў |
| Разам з гаспадарскай воласці | | | | | | 202 | 88 | — | 304 капы 16 грошаў 9 пенязяў |

* Звесткі няпоўныя э-за пропускаў у дакуменце
— Звесткі адсутнічаюць

Аднак у «Рэестры» 1560 г. згадваецца гомейскі баярын Ян Фашч, які валодаў пяццю пустаўшчызнамі вострава Дуравіцкага пры с. Уваравічы і Юркавічы (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 371—373). Безумоўна, назва вострава звязана з сялом Дуравічы, якое размяшчалася непадалёк, але відавочна, што гомейскі баярын і паручнік гомейскай роты — розныя асобы.

Акрамя таго, у царкоўным уладанні знаходзіўся шэраг зямель і ўгоддзяў у розных гаспадарскіх і баярскіх сёлах[612]. Спаскай царкве ў Гомеі належалі: востраў Міліненскі (Мілісіскі), ворыва і сенажаці ў с. Дзятлавічы[613], зямля Жывелеўшчына (Жівілаўшчызна), «пустовщизны» Міхалаўшчына (Міхалаўшчызна) і Мяхедаўшчына (Маходаўшчызна), бабровыя гоны на р. Ужы, частка вострава Доўгага пры с. Валковічы[614]. Троіцкай царкве ў Гомеі належалі: зямля Махалеўская (Шадыеўская) з трыма сялянамі пры с. Раманавічы[615], зямля Бушманаўская пры с. Лагуновічы[616]. Мікольскай гомейскай царкве належалі: зямля Шышаптураўская ў с. Добруша[617], зямля Пяхоцкая ў с. Уцці [618] і зямля Калбасаўшчына (Каўбасаўшчына) у с. Старым[619]. Пры сяле Волатаве святар мясцовай царквы св. Міколы трымаў зямлю Токарава поле[620]. Гэтай жа царкве належалі ворыва і сенажаці пры с. Навасёлкі[621], ралля і сенажаці пры с. Старым[622]. Пры с. Кашалёве царква Св. Міхаіла валодала зямлёй Пятроўшчынай[623]. Нарэшце, у Оршу царкве Св. Міколы ішлі даніны з с. Церашковічы[624].

З'яўленне некаторых царкоўных уладанняў у Гомейскай зямлі варта аднесці да XV ст. Так, святары аршанскай царквы св. Міколы атрымалі бортныя землі, з якіх збіралі даніну яшчэ пры князі Сямёне Іванавічы Мажайскім[625]. На пачатку XVI ст. у іх узніклі праблемы з уездам па даніну на тэрыторыю Вялікага Княства Маскоўскага, але пасля заключэння «вечнага» міру з Масквой (1508 г.) кароль, вялікі князь Жыгімонт загадаў мсціслаўскаму князю Міхаілу Іванавічу і крычаўскаму намесніку

609 Дым — падаткавая адзінка ў ВКЛ, звычайна дом і двор (гаспадарка) адной сялянскай сям'і (Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі. С. 164).

610 Службы — разнастайныя паводле памеру і складу зямельныя ўгоддзі, якімі распараджаліся, як правіла, дзве-тры сялянскія гаспадаркі (дымы). Служба была асноўнай адзінкай абкладання на карысць дзяржавы (Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси. С. 205; Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. С. 68—69).

611 Капа — грашовая адзінка, роўная 60 грошам. Грош складаўся з 10 пенязяў.

612 Пра царкоўнае землеўладанне ў Гомейскай зямлі гл.: Жудро Ф.А., Сербова И.А., Довгялло Д.И. Город Гомель. Географическо-статистический очерк // Записки Северо-Западного отдела Императорского Русского географического общества. Кн. 2. Вильна, 1911. С. 307—309; Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII в. С. 139—152; Кузьмин А.В. Гомельская и Жлобинская епархия // Православная энциклопедия / Под ред. Патр. Алексия II. М., 2006. Т. 12. С. 10.

613 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 356; АЮЗР. Т. 1. № 142. С. 153.

614 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 363—364; АЮЗР. Т. 1. № 142. С. 153.

615 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 344. Зямля Міхалеўская (АЗР. Т. V. № 16. С. 38).

616 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 352.

617 Тамсама. С. 345.

618 Тамсама. С. 357.

619 Тамсама. С. 374.

620 АЗР. Т. V. № 16. С. 65. Фрагмент з апісаннем уладанняў царквы св. Міколы ў Волатаве прапушчаны ў публікацыі «Рэестра», зробленай у 1886 г.

621 АВАК. Т. XIII. № 100. С. 373.

622 Тамсама. С. 375

623 Тамсама. С. 369.

624 Тамсама. С. 355.

625 АЗР. Т. II. № 48. С. 59—60.

Васку Ашушкіну раз на год прапускаць аршанскіх святароў на тэрыторыю суседняй дзяржавы[626]. У 1541 г. былі атрыманы пацверджанне на ўладанне бортнымі землямі і дазвол на праезд для збору з іх даніны[627].

Таксама яшчэ ў XV ст. Мікольская царква ў Гомеі атрымала ад князя Сямёна Іванавіча Мажайскага землі Севасцьянаўшчыну і Багданаўшчыну з ворывам і бортнымі дрэвамі[628]. У 1549, 1568, 1584 гадах былі атрыманы пацвярджэнні на гэтыя ўладанні[629].

Спецыфіка царкоўных уладанняў (землі, ворыва, бортныя ўгоддзі і г.д.) не дазваляе дакладна вызначыць іх месцазнаходжанне. Востраў Міліненскі (Мілісіскі) звычайна называецца Мільчыцкім[630], што, відавочна, суадносіць яго з узніклым пазней паселішчам Мільчам. Аднак сяло Дзятлавічы, да якога адносілася пазначаная зямля, размяшчаецца надта далёка ад вёсак Новай і Старой Мільчы, якія зліліся з горадам Гомелем у 1983 г.. Дзятлавіцкія землі фіксаваліся каля р. Сож і, відаць, не заходзілі на возера Глушэц, якое знаходзілася крыху на поўнач. Зрэшты, у першай палове XIX ст. Старая Мільча называлася Паповай Мільчай, што можа пазначаць яе былую царкоўную прыналежнасць[631].

Варта адзначыць, што падрабязнае апісанне ў «Рэестры» 1560 г. тычылася толькі тых сёл, якія адносіліся да гаспадарскай Гомейскай воласці, гэта значыць заставаліся ў тэрытарыяльнай абшчыне (воласці), чыё існаванне выяўлялася ў падначаленні, як правіла, аднаму землеўласніку (у дадзеным выпадку — вялікаму князю)[632]. Менавіта для іх падлічваліся дымы, службы, платы і прыбыткі, вызначалася якасць зямлі, пазначаліся межы ўла, месцы ўгоддзяў і г.д. Баярскія і царкоўныя сёлы ў рознай ступені цікавілі рэвізораў. Яны лічыліся выведзенымі са складу воласці. Так, баярскае сяло Сеўрукі толькі згадвалася (нават яго ўласнікі не называліся). У іншых баярскіх сёл былі названы толькі ўладальнікі, а, напрыклад, сяльцо Кузьмінічы, пажалаванае Ісаю Харковічу «до воли», а таксама царкоўнае сяло Плёса апісваліся падрабязна. Сёлы паноў Халецкіх, паручыка і ротмістра гомейскай роты не сталі аб'ектамі ўвагі рэвізораў. Усе паселішчы адміністрацыйна адносіліся да Гомея, але фармальна не ўваходзілі ў склад гаспадарскай Гомейскай воласці — прыбыткі з іх ішлі (апроч агавораных выпадкаў) на карысць непасрэдных гаспадароў, а не вялікага князя.

Наогул землі, што адносіліся да Гомея, шырыліся ад р. Дняпро на захадзе, далёка за раку Сож на ўсходзе, укліньваліся ў расійскую тэрыторыю. На большай сваёй працягласці паўночныя, усходнія і паўднёвыя межы воласці вызначалі літоўска-маскоўскую мяжу. Пры гэтым на поўначы яна была выразна пазначана ўчасткамі рэк Сожа, Бесядзі і Карна, але не выяўлена ў балотах паміж Бесяддзю і Іпуццю; на

626 АЗР. Т. II. № 48. С. 59—60.

627 Тамсама. № 208. С. 373. У загалоўку дакумента царква Св. Міколы памылкова называецца гомейскай.

628 АЗР. Т. III. СПб., 1848. № 9. С. 21—22.

629 Тамсама.

630 Жудро Ф.А., Сербова И.А., Довгялло Д.И. Город Гомель. Географическо-статистический очерк. С. 308; Кузьмин А.В. Гомельская и Жлобинская епархия. С. 10.

631 Рогалев А.Ф. От Гомиюка до Гомья. С. 193. Мілча Папоўская адзначана на захад ад Гомеля і на карце 1777 г. (Белицкой округ // Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты).

632 Голубеў В.Ф. Сельская грамада ў Беларусі XVI—XVIII стст. паводле дакументаў маёнтка Брашэвічы Віленскага каталіцкага біскупства і суседніх вёсак // Зборнік навуковых прац у гонар 70-годдзя Міхаіла Фёдаравіча Спірыдонава. Мінск, 2007. С. 140, 154.

ўсходзе фіксавалася паселішчамі з левага боку р. Вагі (прыток Снова); на поўдні гублялася ў неасвоеных мясцінах паміж Сожам і правым прытокам Дзясны Сновам.

Заходняя гомейская мяжа ў другой палове XVI ст. зноў зазнала моцныя змены. Сфарміраваная да сярэдзіны XVI ст. тэрыторыя Гомейскай воласці пачала памяншацца ўжо з 1560 г. Тады ад яе адабралі сяло Скепна. Да канца XVII ст. у гаспадарскай воласці засталося толькі 18 сёл і 2 слабады. Інвентар 1681 г. («Inwentarz Starostwa Homelskiego») пералічвае наступныя гомейскія сёлы: Валковічы (Wołkowicze), Стараселле (Starosiele), Пакалюбічы (Pokolubicze), Бабовічы (Bobowicze), Касцюкоўка (Kosciukowka), Карма (Korma), Старыя Юркавічы (Staree Jurkowicze), Добруша (Dobrusza), Раманавічы (Romanowicze), Маркевічы (Markiewicze), Ущце (Ucie), Дзям'янавічы (Demianowicze), Бярозцы (Berescij), Лагуны (Łohuny), Прыбытковічы (Prsybytkowicze), Азарчыцы (Ozarczyce), Беліца (Bielica) і слабоды: Юркоўская (Jurkowska) і Крупецкая (Krupiecka)[633]. Ад колькаснага складу сёл былой гаспадарскай воласці засталося менш за палову. Віной таму былі не столькі ваенныя спусташэнні[634], колькі паслядоўная перадача паселішчаў суседнім адміністрацыйна-тэрытарыяльным адзінкам і пераход часткі сёл у прыватнае ўладананне.

На рубяжы XVI—XVII стст. са складу Гомейскай воласці знікае цэлы шэраг сёл (Губічы, Кашалёва, Марозавічы, Пірэевічы, Целяшы, Цярэнічы, Уваравічы). Затое яны з'яўляюцца сярод стрэшынскіх уладанняў[635]. На думку В.Ф. Голубева, у архіве Віленскага епіскапства невыпадкова захавалася выпіска з рэвізіі Гомейскай воласці 1560 г. з пералікам сёл Марозавічы, Губічы, Пірэевічы, Кашалёва[636]. Магчыма, не ўсе гэтыя сёлы сталі належаць каталіцкай царкве, але адміністрацыйна яны выйшлі з падпарадкавання Гомею. Як заўважыў В.Ф. Голубеў, стрэшынская тэрыторыя павялічылася менавіта за кошт пажалаванняў сёл з суседняй гаспадарскай Гомейскай воласці[637].

Чатыры сялы, якія ў 1560 г. дасталіся Халецкім (Чабатовічы, Засоўе, Кальскевічы, Чорныя), былі адасоблены ад асноўнага масіву гомейскіх зямель тэрыторыяй уздоўж р. Узы, якая перайшла да Стрэшына. Відаць, у сувязі з гэтым яны сталі цягнуць да Горваля ці, больш верагодна, да Рэчыцы[638].

Аддаленыя ад гомейскай тэрыторыі Ліпінічы, верагодна, зноў былі вернуты ў склад Чачэрскай воласці[639]. Невядомы лёс Дзятлавічаў і некаторых іншых сёл.

Такім чынам, з другой паловы XVI ст. назіраецца тэндэнцыя вяртання аднесеных пры маскоўскай уладзе да Гомея сёл у падпарадкаванне сваім першапачатковым цэнтрам. Сяло Кашалёва, праўда, належала да гэтага Горвальскай, а не Стрэшынскай воласці. Аднак ужо перадача аднаго гэтага сяла Стрэшыну сведчыла пра ліквідацыю цераспалосіцы ўладанняў, якая відавочна існавала да 1500 г.

---

633 НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 259. Арк. 11—20.

634 Насевіч В.Л. Гомельская воласць. С. 543.

635 Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі. С. 86; Голубеў В.Ф. Абшчына ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці насельніцтва Стрэшынскай воласці. С. 205—206. Напрыклад, у інвентары Стрэшынскай воласці 1628 г.сустракаюцца сёлы Цярэнічы і Уваравічы (Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. С. 253).

636 Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі. С. 86; Голубеў В.Ф. Абшчына ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці насельніцтва Стрэшынскай воласці. С. 205—206.

637 Голубеў В.Ф. Сельская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII стст. С. 250.

638 Сярод горвальскіх сёл, вядомых паводле інвентароў XVIII ст., ніводнае з чатырох сёл Халецкіх не названа (Голубеў В.Ф. Абшчына ў сацыяльным і гаспадарчым жыцці насельніцтва Горвальскай воласці. С.66—67, 69).

639 Ліпінічы ўжо ў «Рэестры» 1560 г. названы «селом Чечерским» (АВАК. Т. XIII. № 100. С. 369).

Паводле дамовы 1537 г. Масква вярнула Гомейскую зямлю ў склад ВКЛ у тых межах, якія яна мела да 1500 г. (гэта значыць да далучэння да Вялікага Княства Маскоўскага). Гэта, канечне, тычылася тых меж, што працягвалі суседзіць з маскоўскімі землямі. У адносінах жа да іншых, унутраных, участкаў гомейскіх меж, улады ВКЛ захавалі адміністрацыйна-тэрытарыяльную сістэму, якая ўстаялася за гады маскоўскага панавання, і нават рэалізавалі нявыканы імкненне Расіі давесці тэрыторыю Гомея да р. Дняпро. І вось праз некаторы час тэрыторыя Гомейскай зямлі фактычна вяртаецца да тых меж, у якіх яна існавала ў XV ст. Выключэннем былі толькі натуральна асвоеныя тэрыторыі на поўдзень і захад ад Гомея.

Такім чынам, у Гомейскай воласці пасля 1537 г. адбыліся пэўныя змены, якія першапачаткова характарызаваліся захаваннем таго тэрытарыяльнага ўладкавання, што складалася пры маскоўскай уладзе. Аднак ужо з сярэдзіны XVI ст. з'яўляецца тэндэнцыя вяртання маскоўскіх далучэнняў да Гомея да сваіх першапачатковых цэнтраў (з некаторымі выключэннямі). Калі адкінуць фактар унутранай каланізацыі, то можна прыйсці да высновы, што Гомейская зямля ў канцы XVI—XVII ст. зноў вярнулася да тых меж, якія яна мела да 1500 г.

Даследаванне фарміравання тэрыторыі Гомейскай зямлі ў канцы XV — першай палове XVI ст. паказала, што ў складзе Вялікага Княства Маскоўскага яна значна павялічыла свае межы за кошт аскепкаў суседніх валасцей, захопленых разам з Гомеем у 1500 г. і пазней. Аднак у 1537 г. усходняя частка Гомейскай зямлі была вернута ВКЛ у тых межах, якія яна мела да 1500 г. Пры гэтым некаторыя аднесеныя пасля 1500 г. да Гомея сёлы і воласці так і засталіся ў Масквы. У заходняй частцы Гомейскай воласці былі захаваны ўсе тэрытарыяльныя пераўтварэнні, здзейсненыя пры маскоўскай уладзе. Акрамя таго, няздзейсненае намаганне маскоўскага боку ўсталяваць мяжу па р. Дняпро за кошт зямель Стрэшынскай, Горвальскай і Рэчыцкай валасцей было рэалізавана ўладамі ВКЛ: да Гомея былі далучаны некаторыя стрэшынскія і горвальскія сёлы.

Такім чынам, у цэлым тэрыторыя Гомейскай воласці пасля 1535 г. не стала цалкам тоеснай ранейшай воласці. У яе складзе засталіся тэрыторыі на захад ад даўняй воласці аж да р. Дняпро. Пры пашырэнні маскоўскага ўплыву ў рэгіёне яны былі або далучаны да Гомейскага ўезда, або былі часова захоплены, або былі толькі аб'ектам дамаганняў.

Ужо з сярэдзіны XVI ст. Гомей пачынае губляць свае тэрытарыяльныя набыткі на захадзе. У выніку воласць (з пэўнымі агаворкамі) вярнулася да сваіх ранейшых меж, вызначаных для пачатку XVI ст. — часу захопу Масквой.

Варта яшчэ раз заўважыць, што сур'ёзныя тэрытарыяльныя змены закранулі толькі заходнюю частку Гомейскай зямлі, раён паміж Сожам і Дняпром, што непасрэдна прымыкаў да апошняга. Тым не менш ужо гэтага дастаткова для таго, каб істотна скарэктаваць высновы А.А. Макушнікава пра прасторавую працягласць Гомейскай воласці ў XII—XIV ст.[640]. Даследчык перанёс дадзеныя сярэдзіны XVI ст. (канкрэтна — «Реестра ревизии господарской Гомейской волости» 1560 г.) на значна больш ранні перыяд, што, у адносінах да ўсходняй часткі гомейскіх зямель са значным абагульненнем і ўлікам каланізацыйнага фактару, можа, і мае сэнс. Аднак уяўленні пра заходнюю частку Гомейскай воласці, безумоўна, памылковыя. А.А. Макушнікаў, абапіраючыся на «Рэестр» 1560 г., залічыў да гомейскіх такія сёлы, як Чабатовічы, Губічы, Скепна, Чорныя, Пярэвічы, Ліпінічы, Кашалёва[641]. Аднак усе яны былі ўключаны ў склад Гомейскай зямлі толькі ў XVI ст.

---

640 Макушнікаў А.А. Рубяжы Гомейскай воласці ў XII—XIV стст. С. 42—59.

641 Тамсама. С. 45.

Уяўляецца натуральным праходжанне даўняй мяжы Гомейскай воласці па лініі, што не больш чым на 10 км адстаіць ад р. Сож і яе прытокаў Узы і Ліпы, усутыч да непралазнай мясцовасці, якая вядома як Кабыліна балота. Такой яна прасочваецца і ў другой палове XV ст.

З'яўляецца некарэктным таксама выкарыстанне метаду рэтраспекцыі і пры рэканструкцыі ўсходняй (засожской) часткі Гомейскай воласці. Тут, канечне ж, трэба ўлічваць фактар унутранай каланізацыі. Асваенне і засяленне тэрыторыі на ўсход ад р. Сож працягвалася на працягу XV—XVI ст. і пазней.

З левага боку р. Сож (на ўсход ад Гомея) у Гомейскую воласць уклінваліся з поўдня любецкія землі, а з поўначы — чачэрскія, пакідаючы для ўласна гомейскіх зямель шырокі калідор, што вёў да значнага масіву зямель, якія лічыліся гомейскімі ў XVI ст. Такая канфігурацыя тэрыторыі воласці можа сведчыць пра тое, што нейкі час яна развівалася толькі на некаторай нязначнай прасторы ў левабярэжжы р. Сож, а потым стала шырыцца на незанятыя землі на поўдзень, поўнач і ўсход, агібаючы землі суседніх тэрытарыяльных утварэнняў. Можна выказаць меркаванне, што першапачаткова воласць наогул фарміравалася толькі ў правабярэжжы р. Сож, непасрэдна каля самога Гомея. Буйная водная артэрыя магла з'яўляцца значнай перашкодай для сельскага рассялення і абцяжарваць сувязі грамады, збор падаткаў і г.д. Гомейскія сёлы ўпершыню пачынаюць згадвацца ў крыніцах толькі ў другой палове XV ст. Амаль усе яны знаходзіліся на правым баку р. Сож. Толькі першая палова XVI ст. дае звесткі аб паселішчах у левабярэжжы р. Сож.

Назіранне за размяшчэннем гомейскіх сёл у сярэдзіне XVI ст. паказвае, што каланізацыйная плынь ад Гомея рухалася на ўсход уздоўж значнай воднай артэрыі рэгіёна р. Іпуці, а таксама па параўнаўча дробных прытоках р. Сож — Уці, Цярусе. Відаць, да другой паловы XVI ст. насельніцтва пераадолела водападзел паміж Сожам і Сновам (прыток Дзясны) і стала сяліцца на правых прытоках р. Сноў і ў вярхоўях гэтай самай ракі. Такім чынам, памежны рэгіён, якім была Гомейская зямля, адчуў тэрытарыяльныя пераўтварэнні, звязаныя не толькі з палітычнымі падзеямі, але і з натуральным працэсам каланізацыі і асваення незанятых зямель.

Гомей гістарычна належаў да Северскай зямлі[642]. Аднак пасля 1535 г. — вяртання ў склад ВКЛ — горад пачаў цягнуць да так званых Падняпроўскіх валасцей (Бабруйскай, Горвальскай, Крычаўскай, Магілёўскай, Мазырскай, Рэчыцкай, Свіслацкай, Чачэрскай і інш.) і падчас адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1565—1566 гг. увайшоў у склад Рэчыцкага павета Менскага ваяводства. Змены ў тэрытарыяльнай структуры рэгіёна прадвызначылі трывалую інтэграцыю гомейскіх зямель з унутранымі абласцямі ВКЛ, уключэнне іх у працэс этнагенезу беларусаў і ў выніку гэтыя тэрыторыі сталі часткай Рэспублікі Беларусь.

## 8. Спрэчныя адрэзкі літоўска-маскоўскай мяжы ў першай палове XVI ст.

На пачатку XVI ст., калі ў выніку войн 1500—1503, 1512—1522 гг. маскоўскія землі ўсутыч наблізіліся да той тэрыторыі, якая з'яўляецца зараз часткай Рэспублікі Беларусь, пачалі фарміравацца два адрэзкі літоўска-маскоўскай мяжы, якія будуць

[642] Пра прыналежнасць Гомея да Северскай зямлі гл.: Русина Е.В. Персональный состав северских князей во второй половине XIV в. // Историческая генеалогия. Вып. 2. Екатеринбург; Париж, 1993. С. 14; Яна ж. Сіверська земля. С. 43, 51. А.У. Русіна са спасылкамі на крыніцы паказвае, што нават у XVII ст. захоўвалася ўяўленне пра Гомей як северскі горад (Русина О. Сіверська земля. С. 44).

разгледжаны ў дадзеным падраздзелы. Тады ж на трэць стагоддзя пад маскоўскую ўладу перайшла Гомейшчына. Першы ўчастак мяжы менавіта тады непасрэдна сутыкаўся з Гомейскай зямлёй і быў сфарміраваны на тэрыторыі, адарванай ад Чачэрскай воласці і адміністрацыйна падпарадкаванай Гомею. Чачэрскія сёлы, якія аказаліся па іншы бок мяжы, сваім месцазнаходжаннем цяпер пазначалі гэтую мяжу. Яны асобным блокам пералічваліся на маскоўскім баку ва ўсіх заключаных або толькі прапанаваных да заключэння літоўска-маскоўскіх дамовах XVI ст. — 1503, 1508, 1522, 1526, 1537, 1542, 1549, 1553, 1556, 1567, 1570, 1578, 1582, 1584, 1585, 1587, 1590 гг. (гл. табліцу). Мінімальныя розначытанні, што сустракаюцца ў вытрымках з дагаворных грамат, звязаны або са скажэннямі ў саміх дакументах, якія ўзніклі пры непасрэдным іх перапісванні, або адлюстроўваюць працу рэдактараў-публікатараў, якія самі расстаўлялі знакі прыпынку і з улікам дасягнутага ўзроўню археаграфічнай навукі пераасэнсоўвалі старажытныя тэксты. Фрагменты дамоў 1584, 1585, 1587 і 1590 гг. адсутнічаюць, але яны дакладна паўтараюць тэкст Ям-Запольскага перамір'я 1582 г.[643].

Таб. 8. Сёлы міжрэчча Сожа і Бесядзі ў літоўска-маскоўскіх перамірных граматах XVI — пачатку XVII стст.

| | |
|---|---|
| Грамата 1503 г. | ...города Гомъя з волостми, ... да волостеи: ... Поповы Горы, Мъглина, Дрокова и сел: ... Скарбовичъ, Залесья, Бабичъ, Светиловичъ, Голодна, Лапичъ...[644] |
| Грамата 1508 г. | ...в город в Гомеи з волостми, в город в Попову Гору зъ волостми, ... во Мглинъ, Дроковъ, и в села, ... в Скарбовичи, в Залесе, в Бабичи, в Светиловичи, в Голодно, в Лапичи...[645] |
| Грамата 1522 г. | ...города Гомья зъ волостьми, города Поповы Горы зъ волостьми, ... и селъ ... Скарбовичъ, Залесья, Бабичъ, Светиловичь, Голодна, Лапичъ...[646] |
| Грамата 1526 г. | ...города Гомья съ волостьми, города Поповы горы съ волостьми, ... и селъ ... Скарбовичь, Залесья, Бабиничь, Святиловичь, Голодна, Лапичь...[647]. |
| Грамата 1537 г. | ...города Почепа с волостми; города Поповы Горы з волостми и волостеи Залеся, Бабич, Светиловичъ, Голодни, Скарбовичъ, Лапичъ...[648] |
| Грамата 1542 г. | ...города Почепа с волостми города Поповы Горы с волостми, и волостей Залесья, Бабичь, Светиловичь, Голодна, Скарбовичь, Лапичь...[649] |
| Грамата 1549 г. | ...города Почепа с волостми, города Поповы Горы с волостми, и волостей: Залесья, Бабич, Светилович, Голодна, Скарбович, Липич...[650]<br>...города Почепа с волостми и волостей: Залесья, Бабич, Светилович, Голодна, Скарбович, Лапич...[651] |
| Грамата 1553 г. | ...города Почепа с волостми, города Поповы Горы с волостми, и волостей: Залесья, Бабичь, Светиловичь, Голодна, Скарбовичь, Лапичь...[652] |
| Грамата 1556 г. | ...города Почепа с волостми, города Поповы Горы с волостми, и волостей Залесья, Бабичь, Светиловичь, Голодна, Скарбовичь, Лапичь...[653] |
| Грамата 1567 г. (планавалася) | ...города Почепа с волостьми, города Поповы Горы с волостьми и волостей Залесья, Бабич, Светилович, Головна, Скарбович, Лапич...[654] |
| Грамота 1570 г. | ...города Почепа с волостьми, города Поповы Горы с волостьми и волостей Залесья, Бабич, Светилович, Голодна, Скарбович, Лапич...[655]<br>...города Почапа з волостьми, города Поповы Горы з волостьми и волостей Залесья, Бабич, Светилович, Голодна, Скарбович, Лапич...[656] |
| Грамата 1578 г. | ...города Почапа з волостьми, города Поповы Горы з волостьми и волостей Залесья, Бабич, Светиловичь, Голодна, Скарбович, Лапич...[657]<br>...города Почепа з волостьми, города Поповы Горы з волостьми, и волостей Залесья, Бабич, Свитиловичь, Голодна, Скарбович, Ланич...[658] |
| Грамата 1582 г. | ...города Почепа з волостьми, города Поповы Горы з волостьми, и волостей: Залесья, Бабич, Светиловичь, Голодна, Скарбович, Лапич...[659] |
| Грамата 1601 г. | ...города Почепа з волостьми, города Поповы Горы з волостьми, и волостей: Залесья, Бабичь, Светиловичь, Голодна, Скарбович, Лапич...[660]<br>...города Почепа з волостьми, города Поповы Горы з волостьми, и волостей: Залесья, Бабичь, Светиловичь, Голодна, Скарбовичь, Лапичь...[661] |
| Грамата 1608 г. | ...города Почепа з волостьми, города Поповы Горы з волостьми, и волостей Залесья, Бабичь, Светиловичь, Голодна, Скарбовичь, Лапичь...[662]<br>...города Почепа с волостми, города Поповы Горы с волостми, и волостей Залесья, Бабич, Светилович, Голодна, Скарбовичь, Лапич...[663] |

[643] Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России в XVI в. в связи с ее отношениями с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой. С. 70, 76—77.

Традыцыйна лічылася, што сёлы Скарбовічы, Залессе, Бабічы, Свяцілавічы, Галодна, Лапічы былі гомейскімі[664]. Аднак, як высвятляецца са «Списка о порубежных землях и о жалобах», дасланага ад імя караля, вялікага князя Жыгімонта Старога ў Маскву 30 сакавіка 1527 г., усе пералічаныя сёлы перайшлі «в сторону великого князя, по перемирной грамоте» са складу Чачэрскай воласці[665]. Відавочна, менавіта князь Сямён Іванавіч Мажайскі, які валодаў у ВКЛ Старадубам і Гомеем, набыў дадатковыя ўладанні пры пераходзе ў 1500 г. на маскоўскую службу. Названыя ў грамаце, а таксама некаторыя нязгаданыя сёлы і воласці былі далучаны да ўдзельнага княства князя Сямёна, а потым сталі часткай Гомейскага ўезда.

Такім чынам, паводле перамір'я 1503 г. сёлы на ўсход ад ракі Сож былі замацаваны за Масквой[666]. За выключэннем Скарбовічаў і Лапічаў усе астатнія населеныя пункты ўпэўнена лакалізуюцца паміж ракой Сож і яе прытокам Бесяддзю. Скарбовічы толькі з невялікай доляй верагоднасці можна атаясаміць з вядомымі ўжо

644 LM. Kn. 5 (1427—1506). № 118.13. P. 210.

645 LM. Kn. 8 (1499—1514). Vilnius, 1994. № 80. P. 126.

646 АЗР. Т. II. 1506—1544. СПб., 1848. № 120. С. 149.

647 LM. Kn. 15 (1528—1538). Vilnius, 2002. № 156. P. 199.

648 LM. Kn. 15. № 164. P. 211.

649 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I. № 10. С. 190.

650 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. II. № 18. С. 303.

651 Тамсама. № 19. С. 325.

652 Тамсама. № 27. С. 408, 412.

653 АЗР. Т. III. 1544—1587. СПб., 1848. № 17. С. 69.

654 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским государством. Т. III // СИРИО. Т. 71. СПб., 1892. № 24. С. 725—726, 490.

655 Тамсама. С. 725—726.

656 Тамсама. С. 730.

657 Книга посольская Метрики Великого Княжества Литовского, содержащая в себе дипломатические сношения Литвы в государствование короля Стефана Батория (с 1573 по 1583 год). М., 1843. № 17. С. 30—31.

658 Тамсама. № 18. С. 35.

659 Тамсама. № 82. С. 235; № 97. С. 261.

660 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. IV // СИРИО. Т. 137. СПб., 1912. С. 59—60.

661 Тамсама. С. 69.

662 Тамсама. С. 701.

663 Тамсама. С. 713.

664 Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. С. 519. Гэтую памылку заўважыла Н.Б. Шаламанава (Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России в XVI в. в связи с ее отношениями с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой. С. 80).

665 СИРИО. Т. 35. № 102. С. 751—752.

666 LM. Kn. 5. № 118.13. P. 210; LM. Kn. 8. № 80. P. 126.

з XVI ст. Сябровічамі[667]. Залессе знаходзілася непадалёк ад Чачэрска, на супрацьлеглым баку р. Сож[668]; Бабічы — пасярэдзіне, паміж рэкамі Сож і Бесядзь, каля берага яшчэ аднаго прытока р. Сож — Покаці[669]. Свяцілавічы і Галодна стаялі каля правага берага р. Бесядзі, прычым апошняе сяло — непадалёку ад вусця гэтай ракі[670].

Асобна трэба спыніцца на праблеме лакалізацыі сяла Лапічы. Даследчыкі змяшчаюць яго ў правабярэжжы р. Сож, на поўнач ад Уваравічаў і р. Узы[671]. У тым месцы сапраўды і зараз існуе населены пункт з тоеснай назвай[672]. Аднак логіка перамірнай граматы прымушае шукаць Лапічы сярод населеных пунктаў, вядомых у левабярэжжы р. Сож. У пошуках сяла Лапічы варта было больш уважліва вывучыць раён рэк Покаці (левы прыток р. Сож) і Бесядзі. Карты XVIII—XX стст. тут не дапамагаюць, аднак у інвентарах Чачэрскага староства 1704 і 1726 гг. пры апісанні меж с. Хлусы (на р. Бесядзі, гл. ніжэй) каля р. Нёманкі (прыток р. Сож) сустрэліся землі с. Лапічы, якія суседнічалі з тэрыторыяй сёл Жалезнікі і Рэчка[673]. У інвентары 1726 г. ёсць нават апісанне сяла Лапічы. Аднак нечакана яно аказваецца тым самым сялом, што знаходзілася (існуе і зараз) у правабярэжжы р. Сож[674]. Суседзямі Лапічаў названы сёлы Дуравічы і Данілавічы[675]. У падрабязным інвентары Чачэрскага староства 1754 г. Лапічы на левым баку р. Сож ужо не згадваюцца[676]. Магчыма, да сярэдзіны XVIII ст. гэтае сяло апусцела і таму не было зафіксавана на складзеных пазней картах (напрыклад, Генеральнага межавання канца XVIII ст.)[677].

Такім чынам, месцы лакалізаваных паселішчаў па перыметры ахоплівалі частку тэрыторыі Чачэрскай воласці, у 1500 г. далучаную да Гомея. Існуе верагоднасць таго,

---

667 Размяшчаюцца побач з правым берагам р. Сож, на поўдзень ад Чачэрска (Гомельская область. Атлас. Масштаб — 1 : 200 000. Минск, 2006. С. 17). На карце Генеральнага межавання пазначана яшчэ адно сяло Сябровічы, з левага боку р. Сож (Генерального плана Рогачевского уезда часть 5-я).

668 Цяпер — цэнтр сельсавета Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гомел. вобл.: нармат. давед. Мінск, 2006. С. 320).

669 Цяпер — вёска Нісімкавіцкага сельсавета Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. С. 323).

670 Свяцілавічы зараз цэнтр сельсавета Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. С. 109). Вёска Галодная (Галоднае) з 1924 г. пачала называцца Новаіванаўкай. На пачатку XX в. суіснавалі абедзве назвы (Рогалев А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области. С. 48, 107). Новаіванаўка адміністрацыйна падпарадкоўвалася Свяцілавіцкаму сельсавету (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. С. 110), але цяпер яна закінута (Гомельская область. Атлас. С. 17).

671 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 88; Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России. С. 504, 508 і карта.

672 Вёска Уваравіцкага пасялковага савета Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. С. 81; Гомельская область. Атлас. С. 16).

673 Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в центральном архиве в Витебске / Под ред. Д.И. Довгялло. Вып. 28. Витебск, 1900. С. 20, 21, 71. Жалезнікі і Рэчкі — вёскі Свяцілавіцкага сельсавета Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. С. 110—111).

674 Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Вып. 28. С. 37.

675 Тамсама.

676 З люстрацыі Чачэрскага староства... // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Чачэрскага р-на / Уклад. І.Я. Райскі, Я.А. Шыпенка. Мінск, 2000. С. 66—73.

677 Генерального плана Рогачевского уезда часть 4-я и 5-я.

што новыя маскоўскія ўладанні заходзілі ў гэтым раёне на правы бок р. Сож. Згодна з «Інвентаром Чачэрскага староства» 1704 г. да Залесся адносіўся асобны масіў зямель («osobliwa służba»), які займаў тэрыторыю на супрацьлеглым ад сяла баку р. Сож аж да р. Чачэры і ўніз па ёй да Сожа, гэта значыць усутыч падыходзіў да г. Чачэрска[678]. Таксама чачэрскія землі маглі заставацца на левым беразе, укліньваючыся паміж ужо цяпер маскоўскімі ўладаннямі.

Характэрна, што дамова пра перамір'е 1537 г. замацавала за ВКЛ адваяваны Гомей, але пакінула ў маскоўскім баку «воласці» Залессе, Бабічы, Свяцілавічы, Галодна, Скарбовічы, Лапічы[679], якія ўжо лічыліся часткай Гомейскага ўезда.

Паводле аналагічных грамаце 1537 г. дамоў 1542, 1549, 1553 і 1556 гг. раён вакол сёл Залессе, Бабічы і інш. замацоўваўся за Масквой[680]. Тэкст Ям-Запольскага перамір'я 1582 г. зазнаў істотныя змены, за выключэннем той часткі, якая тычылася сёл міжрэчча Сожа і Бесядзі, а ў гады Смуты гэтыя пункты ў складзе Старадубскай зямлі адышлі ад Расіі да Рэчы Паспалітай (былі замацаваны Дзеўлінскім перамір'ем 1618 г.). Такім чынам, дзесьці на пачатку XVII ст. землі паміж Сожам і Бесяддзю вярнуліся ў адміністрацыйнае падпарадкаванне Чачэрска. На момант заключэння Андросаўскага перамір'я 1667 г. пазначаная тэрыторыя трывала прырасла да свайго старога цэнтра і ў выніку не была аддадзена Расіі.

Шэраг сёл міжрэчча Сожа і Бесядзі названы ў «Инвентаре староства Чечерского» 1680 г.: Анісімковічы, Валосі... (Валосавічы?), Палессе, Залессе, Рэчка, Струмене[681]. З іх у той рэгіён, які да канца XVI ст. лічыўся маскоўскім, трапляюць толькі Залессе і Рэчка (суч. Рэчкі). Апошняя стаіць на поўнач ад вусця р. Бесядзі на прытоку р. Сож Нёманцы[682]. Паміж Нёманкай і Бесяддзю інвентар 1704 г. апісвае землі сёл Пліскі і Хлусы (зараз не існуюць)[683] і згадвае прыватнаўласніцкія сёлы Жалезнікі і Грамыкі (суч. Старыя Грамыкі на беразе р. Бесядзі)[684]. Да пачатку XVIII ст. тэрыторыя Чачэрскага староства пашырылася на ўсход, за р. Бесядзь. Там з'явілася сяло Сталбынь (суч. Сталбун)[685]. У інвентары 1726 г. адзначаны таксама землі с. Свяцілавічы на супрацьлеглым, левым беразе р. Бесядзі[686]. Падаецца, што ўжо ў той час была

---

678 Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Вып. 28. С. 18.

679 LM. Kn. 15. № 164. P. 211.

680 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. II. № 7. С. 126; № 10. С. 190; № 18. С. 302; № 27. С. 408; № 32. С. 511.

681 НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 888. Арк. 30—30 адв.

682 Абмежаванне зямель с. Рэчка ў інвентарах 1704 і 1726 гг. пацвярджае дакладнасць лакалізацыі (Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Вып. 28. С. 21, 74).

683 На карце 1777 г. Хлусы адзначаны на правым беразе р. Бесядзі больш на поўдзень ад Свяцілавічаў амаль на месцы в. Жалезнікі (Рогачевской округ // Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты, представляющей Могилевскую губернию).

684 Инвентарь Чечерского староства 1704 года. С. 3, 19—20. Старыя Грамыкі — вёска Свяцілавіцкага сельсавета Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. С. 111).

685 Инвентарь Чечерского староства 1704 года. С. 3, 18—19. Сталбун — цэнтр сельсавета Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. С. 112).

686 Инвентарь Чечерского староства 1704 года // Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Вып. 28. С. 36.

запоўнена тэрыторыя, якая шчыльна наблізіла чачэрскія землі да лініі сучаснай расійска-беларускай мяжы.

У 1667 г. маскоўская мяжа зноў наблізілася да гомейскіх зямель і хутка набыла такую канфігурацыю, якая праіснавала доўгі час (як мяжа Менскага ваяводства, Магілёўскага намесніцтва і Магілёўскай губерні) і стала на некаторых участках асновай для фарміравання дзяржаўнай мяжы БССР. На ранняй карце М.Ф. Спірыдонава «Беларусь у канцы XVI ст.»[687] раён паміж Сожам і Бесяддзю з пазначэннем сёл Бабічы, Свяцілавічы, Жалезнікі і Галодна аднесены да тэрыторыі Расіі[688]. Аднак на больш позняй карце з такой самай, па сутнасці, назвай і ўнутраным зместам «Беларусь у другой палове XVI ст.» тая ж тэрыторыя і тыя ж сёлы ўключаны ўжо ў склад ВКЛ[689]. Ці адбылася нейкая памылка або былі высветлены новыя факты, што дазволілі аднесці міжрэчча Сожа і Бесядзі да ВКЛ яшчэ ў сярэдзіне XVI ст. — невядома. Магчыма, высокая ваенная актыўнасць на літоўска-маскоўскай мяжы прывяла яшчэ падчас Лівонскай вайны ці адразу пасля яе да заняцця часткі маскоўскіх зямель. Звесткі пра гэта маглі і не трапіць у тэкст Ям-Запольскага перамір'я 1582 г. і наступных перамір'яў 1584, 1585, 1587, 1590, 1601 і 1608 гг., дзе стандартна паўтаралася фармулёўка папярэдніх дамоў.

Пасольскія кнігі фіксуюць ужо ў 1538 г. імкненне літоўскага боку вярнуць страчаныя калісьці чачэрскія землі. Згодна з паведамленнямі намеснікаў памежнай паласы Расіі, людзі караля, вялікага князя Жыгімонта «вступаются у его [вялікага князя маскоўскага — *В.Ц.*] волости и села, и земли на себе пашут, и воды ловят, и в ухожеи ходят»[690]. Пры гэтым з Рэчыцы і Чачэрска адбывалася пашырэнне літоўскай улады ў напрамку Паповай Гары, Залесся, Бабіч і Лапіч[691].

Аднак, як бы там ні было, літоўска-маскоўскія перамірныя граматы XVI — пачатку XVII ст. прама сведчаць пра падлегласць пазначанага рэгіёна Расіі. Такое ўяўленне знайшло адлюстраванне на ранніх картах М.Ф. Спірыдонава.

Да другога спрэчнага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы ішла памежная лінія, якая, вельмі верагодна, сфарміравалася да пачатку XVI ст. ці нават пад канец XV ст., а потым праіснавала практычна нязменнай аж да сёння.

Аб гэтым сведчыць унікальны комплекс дакументаў — рэестры меж чарнігаўскіх, любецкіх, мглінскіх, рослаўльскіх і мсціслаўскіх[692].

687 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 2. Мінск, 1994. С. 394—395. Перавыдадзена таксама ў «Атласе гісторыі Беларусі» — дадатку да 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 22—23). Да манаграфіі М.Ф. Спірыдонава «Закрепощение крестьянства Беларуси», выдадзенай у 1993 г., прыкладаецца чорна-белая карта, дзе раён паміж Сожам і Бесяддзю таксама аднесены да маскоўскага боку, але населеных пунктаў там не пазначана (Спиридонов М.Ф. Беларусь в конце XVI в.).

688 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 23. На асобнай карце Рэчыцкага павета разгляданы рэгіён заўважаем у складзе Вялікага Княства Літоўскага, што выдае агульную няўзгодненасць паміж сабой карт Атласа (Спірыдонаў М.Ф. Рэчыцкі павет у канцы XVI ст. // Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. С. 42).

689 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267.

690 СИРИО. Т. 59. № 8. С. 141.

691 Тамсама.

692 Границы Литовского государства с Вел. Кн. Московским, с показанием числа домов в пограничных селениях // Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. С. 63—67; «Пам'ять» 1527 р. С. 207—215.

◉ МАСКВА — Гарады – сталіцы дзяржаў

◎ ПОЛАЦК — Гарады – цэнтры ваяводстваў і земель ВКЛ

⊙ ОРША — Гарады – цэнтры паветаў ВКЛ, уездаў Вялікага Княства Маскоўскага (на 1537 г.)

МЦЭНСК — Гарады – цэнтры намесніцтваў ВКЛ

⊙ Крычаў — Іншыя гарадскія паселішчы

○ *Харабор* — Сёлы

Валкона — Цэнтры княжацкіх уладанняў

Межы дзяржаў на 1487 г.

Межы ваяводстваў і земель ВКЛ

Межы княжацкіх уладанняў

Межы далучаных тэрыторый

Літоўска-маскоўская мяжа

па ўмовах "вечнага" міру 1494 г.

па перамір'ю 1537 г.

Гады далучэння тэрыторый

1503 да Вялікага Княства Маскоўскага

1537 да Вялікага Княства Літоўскага

Тэрыторыі

Вялікага Княства Маскоўскага ў 1486 г.

Вялікага Княства Літоўскага з 1522 г.

далучаныя да Вялікага Княства Маскоўскага

па ўмовах "вечнага" міру 1494 г. (у выніку вайны 1486–1494 гг.)

па ўмовах 6-гадовага перамір'я 1503 г. (у выніку вайны 1500–1503 гг.)

па ўмовах 5-гадовага перамір'я 1522 г. (у выніку вайны 1512–1522 гг.)

па ўмовах 5-гадовага перамір'я 1537 г. (у выніку вайны 1534–1537 гг.)

Тэрыторыі, вернутыя ў склад ВКЛ

па ўмовах дамовы аб "вечным" міры 1508 г. (у выніку вайны 1507–1508 гг.)

па ўмовах 5-гадовага перамір'я 1537 г.

Сумесныя ўладанні

Масквы, Вільні і Вялікага Ноўгарада ("Чорнакунства") да 1494 г.

Вялікіх Княстваў Маскоўскага і Літоўскага паміж 1494–1503 гг.

Тэрыторыі, якія намінальна ўваходзілі ў склад Вялікіх Княстваў Маскоўскага і Літоўскага, фактычна – частка Поля (месца татарскіх качэўяў)

Карта 1. ЛІТОЎСКА-МАСКОЎСКАЯ МЯЖА ў другой палове XV — першай трэці XVI ст.




Карта 2. ТАРОПЕЦКІ ПАВЕТ у канцы XV ст.




Карта 3. РЖЭЎСКАЯ ЗЯМЛЯ ў другой палове XIV ст.




Карта 4. РЖЭЎСКІ ЎЧАСТАК ЛІТОЎСКА-МАСКОЎСКАЙ МЯЖЫ ў другой палове XV ст.




Карта 5. ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЦВЯРСКОЕ І ЯГО СУСЕДЗІ ў XIII—XV стст.



Карта 6. ЛІТОЎСКА-ЦВЯРСКАЯ МЯЖА ў другой палове XIV — пачатку XVI ст.




Карта 7. ФАМІНСКА-БЕРАЗУЙСКАЕ КНЯСТВА
на літоўска-маскоўска-цвярскім памежжы ў канцы XIV—XV ст.



Карта 8. ВЯЗЕМСКАЕ КНЯСТВА ў XV ст.




Карта 9. ТАРУСКАЕ КНЯСТВА І ЯГО ЗЕМЛІ ў другой палове XIV—XV ст.




Карта 10. МАЖАЙСКАЯ ЗЯМЛЯ ў XIV—XV ст.

Апакаў — Гарады
Шыбнева — Сёлы
(Рупасава) — Сучасныя населеныя пункты
Умацаванні ў населеных пунктах
Казлоў — Цэнтры ўдзелаў і княжацкіх уладанняў
Ашчытаў — Цэнтры валасцей
Вежычна? — Меркаванае месцазнаходжанне населеных пунктаў
Межы дзяржаў у пачатку XV ст.
Літоўска-маскоўская мяжа ў 1494 г.
Межы ўдзелаў і тэрыторый
ВЕЖКІ — Назвы валасцей
Дарогі
Броды
Паромы
0 10 км

Карта 11. ПАВУГОР'Е ў XV ст.




Карта 12. ЛЯСЫ Ў РАЁНЕ МАСАЛЬСКА на карце канца XVIII ст.




Карта 13. ВЯРХОЎСКІЯ КНЯСТВЫ ў канцы XIII — пачатку XVI ст.




Карта 14. ПАСЯЛЕННІ ГОМЕЙСКАЙ ВОЛАСЦІ ў XV ст.

СМАЛЕНСК Цэнтры ваяводстваў
СТАРАДУБ Рэзідэнцыя старадубскіх князёў
Іншыя гарады
Межы дзяржаў да 1486 г.
Межы далучаных тэрыторый
Межы Старадубскага ўдзельнага княства ў складзе ВКЛ да 1500 г.
Літоўска-маскоўская мяжа па перамір'і 1503 г.
Гады далучэння тэрыторый
1503 да Вялікага Княства Маскоўскага
1496 да Старадубскага княства
Тэрыторыі, далучаныя да Старадубскага княства пасля 1500 г.

Карта 15. УСХОДНЯЯ ЎСКРАІНА ВКЛ у канцы XV — пачатку XVI ст.

Цэнтры валасцей

Населеныя пункты, якія вядомы з XV – першай паловы XVI ст.

Сёлы, якія згадваюцца ў "Рэестры" 1560 г.

Умоўныя межы Гомейскай воласці па "Рэестру" 1526 г.

Удакладненыя межы Гомейскай воласці па "Рэестру" 1560 г.

Межы іншых валасцей да 1500 г.

Сучасныя дзяржаўныя межы

Парадак пералічэння сёл у "Рэестры" 1560 г.

0 10 км

© ЛЮБЕЧ

Карта 17. ТЭРЫТОРЫЯ ГОМЕЙСКАЙ ВОЛАСЦІ Ў ЛЕВАБЯРЭЖЖЫ Р. СОЖ (па дадзеных XVI ст.)




Карта 16. ТЭРЫТОРЫЯ ГОМЕЙСКАЙ ВОЛАСЦІ Ў ПРАВАБЯРЭЖЖЫ Р. СОЖ (па дадзеных першай чвэрці XVI ст.)

- Цэнтр уезда Вялікага Княства Маскоўскага
- Цэнтры валасцей
- Сёлы
- *(Ухава)* — Сучасныя назвы населеных пунктаў
- *Лапічы?* — Меркаванае месцазнаходжанне населеных пунктаў
- Умоўныя межы Гомейскага ўезда да 1535 г.
- Літоўска-маскоўская мяжа ў 1503 г.
- Межы валасцей і далучаных тэрыторый
- Сучасныя дзяржаўныя межы
- **1500** — Даты далучэння тэрыторый да Гомейскага ўезда
- **каля 1527** — Даты часовага далучэння тэрыторый да Гомейскага ўезда

Карта 18. ТЭРЫТОРЫЯ ГОМЕЙСКАГА ЎЕЗДА ў 1500—1535 гг.




Карта 19. ТЭРЫТОРЫЯ ГОМЕЙСКАЙ ВОЛАСЦІ ў сярэдзіне XVI ст.




Карта 20. ГОМЕЙСКАЯ ЗЯМЛЯ ў канцы XV — першай палове XVI ст.




| | |
|---|---|
| ◎ ЧАРНІГАЎ | Цэнтры ўездаў Вялікага Княства Маскоўскага |
| ⊙ Любеч | Цэнтры валасцей |
| ○ Плохава | Сёлы і іншыя населеныя пункты |
| (Плехаў) | Сучасныя назвы населеных пунктаў (пазначаны, калі не супадаюць з формай іх напісання ў крыніцах) |
| Леўча? | Меркаванае месцазнаходжанне населеных пунктаў |
| 1522 | Даты першых упамінанняў населеных пунктаў |
| | Літоўска-маскоўская мяжа ў 1503–1508 гг. |
| | Літоўска-маскоўская мяжа з 1537 г. |
| | Межы валасцей і далучаных тэрыторый |
| | Сучасныя дзяржаўныя граніцы |
| | Тэрыторыя Любецкай воласці ў першай палове XVI ст. |
| | Тэрыторыя Любецкай воласці, далучаная да Гомія паміж 1500–1535 гг. |
| | Тэрыторыі, якія засвойваліся з боку Любеча на працягу XVI ст. |

Карта 21. ЛЮБЕЦКАЯ ВОЛАСЦЬ у першай палове XVI ст.




Карта 22. СПРЭЧНЫЯ АДРЭЗКІ ЛІТОЎСКА-МАСКОЎСКАЙ МЯЖЫ ў першай палове XVI ст.




Карта 23. ПАХОДЫ АЛЬГЕРДА НА МАСКВУ. 1368—1372 гг.

МАСКВА Сталіцы дзяржаў
Бранск Іншыя гарады
Асечан Гарадкі – умацаваныя валасныя цэнтры і цэнтры княжацкіх уладанняў
Межы дзяржаў да 1406 г.
Межы ўдзельных і залежных княстваў
Лічбамі на карце пазначаны
1 Вялікае Княства Разанскае; 2 Валконскае княства; 3 Растоўскае княства
Напрамкі паходаў войскаў ВКЛ на чале з
Вітаўтам; іншымі князямі
Паходы маскоўскіх войскаў
Няўдалыя аблогі Вязьмы маскоўскімі войскамі ў чэрвені 1406 г.
Месцы "стаяння" войскаў і даты заключэння перамір'яў і мірнай дамовы
Тэрыторыі, залежныя ад Масквы да 1406–1407 гг.

Карта 24. ЛІТОЎСКА-МАСКОЎСКАЯ ВАЙНА 1406—1408 гг.




Карта 25. БІТВА НА СУХАДРЭВЕ. Зіма 1445 г.




Карта 26. МАСКОЎСКА-ЛІТОЎСКАЯ ВАЙНА 1486—1494 гг.




Карта 27. МАСКОЎСКА-ЛІТОЎСКАЯ ВАЙНА 1500—1503 гг.

ВІЛЬНЯ — Сталіца Вялікага Княства Літоўскага
Любеч — Іншыя гарады
Межы дзяржаў
Літоўска-маскоўская мяжа пасля 1508 г.
Межы далучаных тэрыторый
Тэрыторыі, на якіх быў падтрыманы мяцеж М.Глінскага
Тэрыторыі, вернутыя ў склад ВКЛ па дагавору 1508 г.
Паходы маскоўскіх войскаў
Напрамкі паходаў атрадаў М.Глінскага
Напрамкі паходаў войскаў ВКЛ
Безвыніковыя аблогі гарадоў атрадамі М.Глінскага
Гарады, занятыя і спаленыя войскамі ВКЛ

Лічбамі на карце пазначаны
1 Пскоўская зямля; 2 Каралеўства Польскае

Карта 28. МЯЦЕЖ МІХАЛА ГЛІНСКАГА
І МАСКОЎСКА-ЛІТОЎСКАЯ ВАЙНА 1507—1508 гг.

| | |
|---|---|
| ВІЛЬНЯ | Сталіца Вялікага Княства Літоўскага |
| Смаленск | Іншыя гарады |
| | Межы дзяржаў |
| | Літоўска-маскоўская мяжа пасля 1537 г. |
| | Межы далучаных тэрыторый |
| | Тэрыторыі, далучаныя да Масквы па перамір'і 1522 г. |
| | Месцы канцэнтрацыі маскоўскіх войскаў |
| | Паходы маскоўскіх войскаў |
| | Паходы войскаў ВКЛ |
| 31.07.1514 | Апошняя, паспяховая аблога Смаленска (з датай капітуляцыі) |
| Мсціслаўль | Гарады, жыхары якіх прысягнулі Васілію III пасля падзення Смаленска |
| | Безвыніковыя аблогі гарадоў маскоўскімі войскамі |
| 8.09. 1514 | Месцы і даты бітваў |

Карта 29. МАСКОЎСКА-ЛІТОЎСКАЯ ВАЙНА 1512—1522 гг.




Карта 30. ЛІТОЎСКА-МАСКОЎСКАЯ ВАЙНА 1534—1537 гг.

Карта 31. ГАРАДЗІШЧА ЖАРЫ 1. Топаплан
(З артыкула: Массалитина Г.А., Модин И.Н., Болдин И.В. Комплексные археологические и геофизические исследования на городище Жары 1 Юхновского района Калужской области // Дмитрий Донской и эпоха возрождения Руси. События, памятники, традиции. Тула, 2001. С. 45).



Карта 32. ЛАКАЛІЗАЦЫЯ ДЗМІТРАЎЦА




Карта 33. ФРАГМЕНТ ПЛАНА ГЕНЕРАЛЬНАГА МЕЖАВАННЯ ЮХНОЎСКАГА ЎЕЗДА 1780 г.




Карта 34. ФРАГМЕНТ НЯМЕЦКАЙ КАРТЫ 1941 г.



Карта 35. ПАГРАНІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў РАЁНЕ ПАВУГОРʼЯ ў першай трэці XVII ст.




Карта 36. ДЗМІТРАЎСКАЯ ВОЛАСЦЬ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVII ст. (Рэканструкцыя К.А. Аляксандрава)

На жаль, далёка не ўсе сёлы, згаданыя ў рэестрах 1522 г., можна знайсці на карце, аднак тыя, чыё месцазнаходжанне вызначаецца дакладна, выяўляюць на значнай адлегласці поўную адпаведнасць сучаснай мяжы Рэспублікі Беларусь. Так, сяло Мокрае лічылася «лучыцкім» і заставалася ў літоўскім баку[693], а сяло Кузняцэвічы (верагодна, знаходзілася ў раёне возера Кузнецкага) належала ўжо тэрыторыі Паповай Гары[694]. Якраз паміж імі праходзіць сучасная беларуска-расійская дзяржаўная мяжа. Улічваючы той факт, што звесткі рэестраў былі справядлівыя і для XV ст., можна зрабіць выснову пра ўстойлівасць некаторых адрэзкаў беларускай мяжы на працягу больш чым паўтысячагоддзя.

Лінія літоўска-маскоўскай мяжы, адштурхоўваючыся ад Гомейскай зямлі, аперазае Крычаўскі павет ВКЛ з яго Алучыцкай (Лучыцкай, Лучанскай) і Крычаўскай валасцямі. Менавіта там сустракаецца другі спрэчны ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы.

Разгляданы ўчастак літоўска-маскоўскай мяжы можа ўмоўна лічыцца крычаўска-рослаўльскім, бо па большай частцы сваёй даўжыні ён падзяляў Крычаўскую воласць ВКЛ з Рослаўльскім уездам Расіі.

Гэты ўчастак мяжы пачаў складацца на пачатку XVI ст., калі ў выніку войнаў 1500—1503 і 1512—1522 гг. уладанні вялікага князя маскоўскага ўшчыльную наблізіліся да той тэрыторыі, якая цяпер з'яўляецца часткай Рэспублікі Беларусь. У выніку да Расіі перайшлі спачатку Бранск (заняты ў траўні 1500 г. ваяводам Якавам Захар'евічам Кошкіным)[695] і частка мсціслаўскіх валасцей (Папова Гара, Дрокаў і Мглін, захопленыя ў верасні 1500 г. удзельнымі князямі ВКЛ, якія перайшлі на бок маскоўскага гасудара)[696], а потым Рослаўль (далучаны пасля захопу Смаленска ў канцы ліпеня 1514 г.)[697]. Бранск і былыя мсціслаўскія воласці, аднесеныя да Ста-

[693] Вёска Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці Беларусі. Зараз не існуе (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Магіл. вобл.: нармат. давед. Мінск, 2007. С. 169).

[694] З 1922 г. — Красная Гара, пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр раёна Бранскай вобласці Расійскай Федэрацыі.

[695] ПСРЛ. Т. VIII (Продолжение летописи по Воскресенскому списку). М., 2001. С. 239.

[696] «Лета 7009-го году сентебря в 7 день послал государь и великий князь Иван Васильевич всеа Русии из Стародуба в Литовскую землю ко Мстисловлю воевать служивых князей князя Семена Стародубского да князя Василья Шемятича. А с ними послал воевод своих...» (Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 63—64).

[697] Меркаванне пра захоп Рослаўля ў 1515 г., відаць, памылковае (Кром М.М. Меж Русью и Литвой. С. 195; Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 169). Па-першае, паводле Усцюжскага летапісу (з якога бярэцца інфармацыя пра захоп Рослаўля) горад быў захоплены падманам і абрабаваны, але жыхары яго не былі прыведзены да прысягі, а войска пскоўскага намесніка А.В. Сабурава вярнулася з палонам і здабычай назад («Рославль извоевал, и во Псков приде поздорову, а добра и полону приведе с собою много») (ПСРЛ. Т. 37. Устюжские и вологодские летописи XVI—XVIII вв. Л., 1982. С. 102). Такім чынам, абрабаваны горад у 1515 г. не стаў маскоўскім уладаннем. Па-другое, ёсць пэўная ступень перакананасці ў тым, што ўсцюжскі летапісец памылкова назваў Рослаўль замест Браслаўля. Больш дасведчаны пскоўскі летапісец сведчыць пра паход на Браслаўль («Бряслов») (ПЛ. Вып. 2. С. 260). Праўда, сама падзея апісана інакш. Цікава, што ва Усцюжскім летапісе гаворыцца пра захоп нямецкіх купцоў («гостей»), якіх вялікі князь маскоўскі загадаў адпусціць у «Немецкую землю» (ПСРЛ. Т. 37. С. 102). Такое гандлёвае значэнне Рослаўля, што прыцягнула б да сябе нямецкіх купцоў, выклікае сумненні. Іншая справа — Браслаўль, які быў блізка размешчаны да ордэнскіх зямель і меў з імі шчыльныя кантакты. У сувязі з гэтым можна выказаць меркаванне, што Рослаўль аказаўся пад маскоўскай уладай адразу пасля ўзяцця Смаленска ў канцы ліпеня 1514 г. Прынамсі, у 1516 (7024) г. Рослаўль ужо быў месцам канцэнтрацыі значнага кантынгенту маскоўскіх войскаў (Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 59—60; Разрядная книга 1475—1605 гг. С. 154).

радуба[698], былі пакінуты ў маскоўскім баку паводле дамовы аб 6-гадовым перамір'і 1503 г. [699], а Рослаўль быў прызнаны маскоўскім у дамове аб 5-гадовым перамір'і 1522 г.[700]. Характар гэтых дагаворных грамат сведчыў пра часовы характар саступак тэрыторыі ВКЛ, але ва ўсіх наступных перамір'ях XVI ст. Бранск, Дрокаў, Папова Гара, Мглін і Рослаўль зноў і зноў прызнаваліся расійскімі.

Непасрэдна межавалі з крычаўскай тэрыторыяй землі бранскай воласці Прыкладні, старадубскіх Дрокаўскай і Паповагорскай валасцей[701], урэшце, смаленскай Рослаўльскай воласці. Такім чынам, у сваю чаргу, крычаўскі ўчастак мяжы можна падзяліць на чатыры адрэзкі (крычаўска-бранскі, крычаўска-дрокаўскі, крычаўска-паповагорскі і крычаўска-рослаўльскі), умовы і час станаўлення якіх былі рознымі. Нягледзячы на тое, што тры названыя першымі адрэзкі літоўска-маскоўскай мяжы атрымалі магчымасць вызначыцца ўжо на самым пачатку XVI ст., іх фарміраванне расцягнулася на стагоддзі. А крычаўска-рослаўльскі адрэзак мяжы быў дакладна пазначаны ўжо ў самой літоўска-маскоўскай дамове 1522 г. Неабходна яшчэ адзначыць, што за тэрыторыю Крычаўскай воласці (павета) прымаецца тая, якая фіксуецца з другой трэці XVI ст. — гэта значыць разам з вялікай воласцю Алучычы (Лучыцкай), якая з пачатку XVI ст. паступова ўсё больш і больш «цягнула» да Крычава[702]. Акрамя таго, верагодна, са складу Крычаўскай воласці-павета ўжо з пачатку XVI ст. адбывалася вылучэнне асобых валасцей, якія пазней сталі называцца войтаўствамі[703]. Невыпадкова ва ўсіх літоўска-маскоўскіх дагаворных граматах XVI ст. Крычаў пазначаецца як горад «с волостьми»[704].

У дамове 1522 г. падрабязна апісваліся два ўчасткі мяжы — смаленскі і рослаўльскі. Аднак, калі вызначэнне першага было неабходна ў сувязі з тым, што Смаленшчына не ўся, не цалкам перайшла пад маскоўскую ўладу, і мяжа прайшла

---

698 «И князь великій пожаловалъ, придалъ... князю Семену [Іванавічу Мажайскаму — старадубскаму ўдзельнаму князю — В.Ц.] Почапъ да Мглинъ да Дроковъ да Попову Гору» (Полное собрание русских летописей. Т. XXIII (Ермолинская летопись). М., 2004. С. 196).

699 LM. Kn. 5 (1427—1506). Vilnius, 1994. № 118.13. P. 210.

700 АЗР. Т. II. 1506—1544. № 120. С. 150.

701 З дамовы 1508 г. Папова гара выступае ў якасці горада са сваімі валасцямі, гэта значыць набывае статус уезнага цэнтра (LM. Kn. 8 (1499—1514) / Parengė A. Baliulis ir kt. Vilnius, 1994. № 80. P. 126).

702 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 123. Як паказаў А.А. Мяцельскі, канчаткова Алучычы былі падпарадкаваны Крычаву 17 сакавіка 1529 г., калі кароль, вялікі князь Жыгімонт перадаў воласць пад кіраванне крычаўскага дзяржаўцы князя Васілія Сямёнавіча Жылінскага (Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 123). Хаця і надалей Алучычы выдзяляліся ў складзе Крычаўскай воласці або староства ў якасці войтаўства ці нават воласці (НГАБ. КМФ-5. Воп. 1. Спр. 1924. Арк. 31; Спр. 1926. Арк. 22; Спр. 1927. Арк. 33; Спр. 1928. Арк. 94; Спр. 1929. Арк. 16 і інш.).

703 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 128—129.

704 LM. Kn. 5 (1427—1506). № 118.13. P. 209; LM. Kn. 8 (1499—1514). № 80. P. 125; АЗР. Т. II. 1506—1544. № 120. С. 148; LM. Kn. 15 (1528—1538). Vilnius, 2002. № 156. P. 199; LM. Kn. 15. № 164. P. 212; Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I. № 75. С. 400; Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. II. № 18. С. 303; № 27. С. 409, 411; АЗР. Т. III. 1544—1587. СПб., 1848. № 17. С. 70; Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. III. № 24. С. 725; Книга посольская Метрики Великого Княжества Литовского, содержащая в себе дипломатические сношения Литвы в государствование короля Стефана Батория (с 1573 по 1583 год). М., 1843. № 17. С. 30; Тамсама. № 82. С. 235; № 97. С. 259.

па зусім новай лініі, то адносна другога ўчастка можна сцвярджаць, што ён існаваў і да 1522 г. Яго апісанне было па нейкай прычыне ўключана ў дамову з рэестраў меж, звесткі якіх адносіліся яшчэ да канца XV ст.

Цікава, што ў грамаце 1522 г. апісанне смаленскага рубяжа ідзе пасля фрагмента з рэестрам рослаўльскай мяжы. Першае складаецца з дзвюх нераўнамерных па аб'ёме частак, у якіх вызначаецца мяжа спачатку з левага, а потым з правага боку Дняпра. Першая частка апісання смаленскай мяжы завяршаецца менавіта ў тым раёне, з якога пачаўся разгляд рослаўльскай мяжы. Праўда, складальнікі граматы 1522 г. чамусьці не вытрымалі паслядоўнасць у дэмаркацыі літоўска-маскоўскай мяжы.

Такім чынам, згодна з фрагментам граматы 1522 г. рослаўльска-крычаўская мяжа (частка мсціслаўскай мяжы) ішла паміж Слоўневым і Шыбневым да Гнеўкава («промежи Словнева до Шибнева къ Гневкову»)[705]. Два апошнія населеныя пункты можна знайсці і на сучаснай карце. Шыбнева — вёска Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці Расіі. Гнеўкава — вёска, цэнтр сельсавета Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці Расіі. Слоўнева, верагодна, варта шукаць у раёне маленькай рэчкі Сланоўкі, пазначанай на карце Генеральнага межавання крыху на паўднёвы захад ад с. Шыбнева і р. Шыбнеўкі[706]. Характэрна, што і ў канцы XVIII ст. мяжа праходзіла ў гэтым раёне, а ад яго накіроўвалася на поўдзень да с. Гнеўкава, на левым беразе р. Добрай[707]. Як у 1522 г., так і ў канцы XVIII ст. мяжа вызначалася р. Добрай, якая ўпадала справа ў Асцёр (левы прыток р. Сож).

Паводле граматы 1522 г., па р. Добрай, выходзячы на «ваданос» (?), мяжа ішла да р. Асцёр («Вострь»)[708]. Далей пэўную працягласць мяжа, верагодна, трымалася р. Асцёр (як у канцы XVIII ст.). Хаця ў грамаце і сказана, што мяжа ішла праз вялікі бор («Доброю жъ речкою въ Вострь чересъ великий боръ в реку въ Шумачу…»), але, відаць, мелася на ўвазе, што ў тым раёне р. Асцёр працякала праз вялікі лес. Шумач-Шумяча граматы — гэта Шумячка, левы прыток р. Асцёр (на ёй стаіць раённы цэнтр Смаленскай вобласці — рабочы пасёлак Шумячы). Такім чынам, мяжа ішла па рацэ Асцёр і пераходзіла ў яе прыток Шумячку. Такая яе працягласць захавалася да канца XVIII ст. У раёне р. Шумячкі заканчваліся мсціслаўскія і пачыналіся крычаўскія землі, што вызначаліся населеным пунктам Стракула, што адпавядае, верагодна, сучаснай вёсцы Стракайлава таго ж Шумяцкага раёна[709]. Стракула заставалася ў баку, а мяжа ад р. Шумячы пераходзіла ў яе левы прыток Немяліцу. Такім чынам, сістэма рэк на значнай адлегласці ўтварала памежную лінію, якая падзяляла ВКЛ і Расію. Далей ад р. Немяліцы мяжа перасякала «старым рубежомъ» прастору да Забор'я і ракі Іпуці («а изъ Немелицы старымъ рубежомъ къ Заборью, въ Ипуть реку»)[710].

Згодна з сэнсам фрагмента граматы 1522 г., Забор'е павінна было знаходзіцца на р. Іпуці. Цяпер такога населенага пункта не існуе, аднак з супрацьлеглага боку вусця

---

705 АЗР. Т. II. № 120. С. 149.

706 Генеральный план Росповльского уезда. Масштаб — в 1 дюйме 1 верста (1 : 42 000). 1780.

707 Тамсама.

708 АЗР. Т. II. № 120. С. 149.

709 Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 177—178; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 124. На карце Клімавіцкай акругі 1777 г. — Стракайлы (Климовицкой округ // Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты, представляющей Могилевскую губернию), на карце-трохвёрстцы — Стракайлы (Военно-топографическая карта России. Могилевская губерния. Ряд 15. Л. 10).

710 АЗР. Т. II. № 120. С. 149.

р. Баравіцы, што з левага боку ўпадае ў Іпуць, яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. існавала сяло Красназабор'е[711]. Відавочна, менавіта яно было вядома ў XVI ст. як Забор'е, і да яго прыходзіў «старый рубеж» ад р. Немяліцы паміж рослаўльскімі і крычаўскімі землямі. Населены пункт Забароўе, як і рака Баравіца, відаць, набылі свае назвы ад вялікага лесу («Великого бора»), што знаходзіўся паміж р. Асцёр і р. Іпуццю.

Мяркуючы па матэрыялах Генеральнага межавання канца XVIII ст., лініяй мяжы па ўсёй даўжыні была рэчка Баравіца[712]. Гэта адпавядае і фармулёўцы граматы 1522 г. Такім чынам, ад Немяліцы мяжа ішла адразу да Забор'я і ў р. Іпуць. Аднак, згодна з матэрыяламі XVI—XVII стст. («Ограничению» Крычаўскай воласці 1560 г. і актам межавання 1634—1637 гг.), мяжа накіроўвалася на поўдзень, у бок яшчэ аднаго левага прытока р. Іпуці — Савенкі (Асавенка, Асоўна)[713]. Па Савенцы яна дасягала Іпуці і, значыць, каб прыйсці да Забор'я, ёй трэба было ісці пэўны час уніз па гэтай рацэ.

Пэўны ўчастак далейшай лініі мяжы складала цячэнне Іпуці. І калі да гэтага ў апісанні мяжы ніякіх супярэчнасцей не ўзнікала — усе даследчыкі (М.Ф. Спірыдонаў, Н.Б. Шаламанава і А.А. Мяцельскі) аднолькава дакладна праводзяць яе лінію, то яе далейшая працягласць падаецца спрэчнай.

Паводле граматы 1522 г. мяжа ішла ўніз па цячэнні ракі: «...а из Немелицы старым рубежом к Заборью, в Ипуть реку, да на низ Ипутьею к Хмелю»[714]. (Ёсць верагоднасць таго, што і да Забор'я мяжа праходзіла пэўную адлегласць уніз па Іпуці.) На гэтым, дарэчы, апісанне крычаўска-рослаўльскай мяжы завяршалася.

Хмель, цалкам верагодна, адпавядае населенаму пункту, які А.А. Мяцельскі, абапіраючыся на прамое ўказанне інвентара Крычаўскага староства 1694 г., атаясаміў з вёскай Гулькі[715]. Даследчык сцвярджаў, што прыблізна там жа лакалізавала Хмель Н.Б. Шаламанава[716]. Падобная лакалізацыя вельмі пераканаўчая яшчэ і таму, што менавіта ў напрамку Хмеля ішла дзяржаўная мяжа ў XVII—XVIII стст. Яна вельмі выразна бачная, напрыклад, на карце Генеральнага межавання[717]. Таксама можна заўважыць некаторую адпаведнасць у гэтым рэгіёне даўніх рубяжоў сучаснай мяжы Рэспублікі Беларусь[718]. Здавалася б, ніякіх сумненняў існаваць не павінна.

Але дзіўна, што ніхто з даследчыкаў не заўважыў супярэчнасці: месцазнаходжанне Хмеля, насуперак звесткам граматы 1522 г., вызначана не ўніз па цячэнні Іпуці ад Забор'я, а ўверх![719]

Тут найперш трэба звярнуць увагу на тое, што вызначанае Н.Б. Шаламанавай прыблізна месцазнаходжанне пункта з назвай Хмель можа і не адпавядаць той яго лакалізацыі, якую абгрунтаваў А.А. Мяцельскі. Вёска Гулькі, прынятая ім за Хмель першай чвэрці XVI ст., размяшчалася на левым беразе р. Іпуці каля самой мяжы

---

711 Военно-топографическая карта России. Ряд 15. Л. 10. Сяло Красназабор'е адзначана таксама і на Генеральным плане Рослаўльскага ўезда 1780 г.

712 Генеральный план Рословльского уезда.

713 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 124; Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 178.

714 АЗР. Т. II. № 120. С. 149.

715 У інвентары сказана: «Hulki alias Chmel». Цыт. па: Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 124.

716 Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 178, 182; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 124.

717 Генеральный план Рословльского уезда.

718 Общегеографический региональный атлас «Смоленская область». С. 44; Могилевская область. Атлас. Масштаб — 1 : 200 000. Минск, 2007. С. 17.

719 Гэтая фармулёўка граматы абавязкова паўтаралася ў наступных літоўска-маскоўскіх дамовах (Гл., напрыклад: LM. Kn. 15. № 156. P. 199; № 164. P. 211; АЗР. Т. III. № 17. С. 69).

Беларусі з Расіяй, што праходзіць якраз па рацэ. Гулькі-Хмель заўсёды належалі Крычаўскай воласці (старостве) ВКЛ. Цяпер гэтага населенага пункта не існуе, але раней ён адносіўся да Мсціслаўскага сельскага савета Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці Беларусі[720].

Маючы звесткі бранскай пісцовай кнігі 1625—1629 гг., Н.Б. Шаламанава звярнула ўвагу на згадку ў Прыкладненскай воласці селішчаў Забор'е, Давыдавічы і закінутага бортнага ўхажая Хмель з селішчам Хмелем[721]. Забор'е — гэта, відаць, ужо згаданы раней населены пункт, калісьці размешчаны насупраць вусця р. Баравіцы, левага прытока Іпуці. Давыдавічы на сучаснай карце таксама не фіксуюцца, але адзначаны на Генеральным плане Праслаўльскага павета 1780 г. і ваеннатапаграфічнай карце сярэдзіны XIX ст., адпаведна, як с. Давыдаўка і панскі двор Давыдаўка[722]. Давыдаўка знаходзілася паміж Красназабор'ем (Забор'ем) і Гулькамі (Хмелем?) таксама каля р. Іпуці, на правым яе баку. Падобна на тое, што месца Хмеля, абгрунтаванае А.А. Мяцельскім, адпавядае выснове Н.Б. Шаламанавай. Аднак, паводле звестак апошняй, Хмель знаходзіўся паміж рэчкамі Маскоўкай і Хвашчнёй з правага, а не левага бока Іпуці[723]. Хвашчня — правы прыток р. Іпуці ніжэй па цячэнні ад Забор'я[724]; Маскоўка — верагодна, не яшчэ адзін правы прыток Іпуці ў раёне р. Савенкі (як лічыла Н.Б. Шаламанава), а рака Рэкта, правы прыток Бесядзі, як зазначана ў Генеральным плане Рослаўльскага ўезда 1780 г. («Речька Ректа Московка тожъ»)[725].

Складальнік спіса рэк дняпроўскага басейна П.Л. Маштакоў зафіксаваў у раёне вярхоўяў Іпуці і Бесядзі дзве рэчкі з назвай Маскоўка — правы прыток Іпуці (вышэй па цячэнні ад Хвашчні) і левы прыток Рэкты (Рэхты), правага прытока Бесядзі[726].

Пра месца невялічкай рэчкі Маскоўкі — прытока Іпуці, не пазначанага на самых падрабязных сучасных картах, — даведваемся з «Инвентаря староства Кричевского» 1747 г. У ім пры апісанні зямель с. Макеевічы ёсць указанне на рэчку Маскоўку (Moskowka), «do Ipuci upadaiącey»[727]. Рэчка Маскоўка была тады памежнай з Расіяй. Вёска Макеевічы (у інвентары — wies Makieiewicze) існуе і цяпер і адносіцца да Мілаславіцкага сельсавета Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці Беларусі[728]. Макеевічы стаяць на левым баку Іпуці, а ўсе яе землі ў свой час ляжалі на правым беразе гэтай ракі і абмяжоўваліся дробнымі прытокамі Іпуці Маскоўкай і Пераралочанкай. Апошняя названа перад Маскоўкай (вышэй па цячэнні Іпуці) у спісе П.Л. Маштакова[729], а на яе месцазнаходжанне ўказвае сучасны населены пункт Пераралошня, размешчаны каля ракі, што мае, відавочна, сугучную назву[730]. Такім

720 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магіл. вобл.: нармат. давед. Мінск, 2007. С. 195.

721 Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 178.

722 Генеральный план Рословльского уезда 1780 г.; Военно-топографическая карта России. Ряд 15. Л. 10.

723 Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 178.

724 Военно-топографическая карта России. Ряд 15. Лист 11.

725 Генеральный план Рословльского уезда 1780 г.

726 Маштаков П.Л. Список рек Днепровского бассейна с картой и алфавитным указателем. СПб., 1913. С. 128, 125.

727 Инвентарь Кричевского староства 1747 г. // НГАБ. КМФ 5. Воп. 1. Спр. 1936. Арк. 189.

728 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магіл. вобл.: нармат. давед. Мінск, 2007. С. 191.

729 Маштаков П.Л. Список рек Днепровского бассейна с картой и алфавитным указателем. С. 128.

730 Пераралошня (Пераралочня) — вёска Мілаславіцкага сельсавета Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магіл. вобл.: нармат. давед. Мінск, 2007. С. 192).

чынам, ідучы па цячэнні Іпуці яе правы прыток і з'яўляецца рэчкай Маскоўкай. Вёска Ільюхіна (крыху на ўсход ад Макеевічаў, 1—2 км),[731] у сярэдзіне XVIII ст. стаяла ўжо на маскоўскай мяжы («osada nad Rzeczko Ipicio, na granicy Moskiewskiey»)[732], гэта значыць ад Ільюхіна і ўніз р. Іпуць ужо была памежнай. Значыць, паміж Макеевічамі і Ільюхіна трэба шукаць вусце р. Маскоўкі, на якую паварочвала мяжа Расіі з Рэччу Паспалітай. Праўда, здзейсненыя пошукі былі бясплённымі: на ваенна-тапаграфічнай карце Расіі сярэдзіны XIX ст. менавіта ў вызначаных вышэй месцах пазначаны абодва правыя прытокі Іпуці — як Перавалочанка, так і Маскоўка[733]. Апошняя служыла мяжой дзвюх губерняў — Магілёўскай і Смаленскай. Зірнуўшы на сучасную карту, можна пераканацца, што ў месцы цячэння гэтай ракі і сёння праходзіць дзяржаўная мяжа[734]. Аднак гэты ўчастак мяжы не трэба пераносіць на перыяд XVI ст., бо, праходзячы ніжэй па цячэнні Іпуці да Забор'я, літоўска-маскоўская мяжа тады ішла не ўверх, а зноў уніз па гэтай рацэ да Хмеля, што, канечне ж, пакідала ўбаку абгрунтаваную крыніцай сярэдзіны XVIII ст. памежную зону.

Ніжэй па цячэнні Іпуці ад вусця р. Маскоўкі, але вышэй Забор'я стаяў населены пункт, вядомы да канца XVII ст. пад назвай Хмель. Інвентары Крычаўскага староства 1671, 1673 і 1676 гг. згадваюць сяло Хмель (Chmiel)[735], а інвентар 1694 г. ужо называе «siolo Halki nazywaiący Chmiel po toy stronie rzeki Jpucia z Moskwoy granicycey»[736]. У апісаннях XVIII ст. сустракаецца толькі адна назва — Галькі (часцей у форме «Гулькі»)[737]. Пры гэтым у інвентары 1747 г. зноў указваецца на памежны характар р. Іпуці каля вёскі Гулькі, але, акрамя таго, у яе «ограничении» гаворыцца пра тое, што гэты населены пункт быў наноў закладзены сумеснымі намаганнямі мясцовых ураджэнцаў з жыхарамі сяла Асоўна («nowo założone z wsią Osowno, za spolną zgodo mužow obodwy wsi»)[738]. Ці было гэта зроблена на старым месцы, ці населены пункт быў перанесены — невядома. З аднаго боку землі вёскі межавалі па р. Савянцы з сялом Асоўна (цяпер нежылое, хаця і пазначаецца на картах), а з другога — з ужо згаданай вёскай Ільюхіна. У абмежаванні с. Асоўны не згадваецца мяжа з Масквой. Відаць, да гэтага часу яна ўжо ўсталявалася крыху на поўнач — не па р. Савенцы (гаворыцца, канечне, пра яе), а па р. Баравіцы, левым прытоку Іпуці, што можна заўважыць на Генеральным плане Рослаўльскага ўезда 1780 г. Але ў XVI ст. менавіта каля зямель, якія адносіліся да вядомага ў апошняй трэці XVII ст. сяла Хмель (каля р. Савенкі), літоўска-маскоўская мяжа дасягала р. Іпуці і ішла далей па яе цячэнні да Забор'я, а далей зноў уніз — да яшчэ аднаго Хмеля.

Другі тапонім з назвай Хмель варта шукаць або на вялікай прасторы з правага боку р. Іпуці ад р. Рэкты (Маскоўкі) да Хвашчні, або на адносна кароткім адрэзку

731 Ільюхіна — вёска Мілаславіцкага сельсавета Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці Беларусі (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магіл. вобл.: нармат. давед. Мінск, 2007. С. 191).

732 Инвентарь Кричевского староства 1747 г. Арк. 193.

733 Военно-топографическая карта России. Могилевская губерния. Ряд 15. Л. 10. На карце Генеральнага межавання рэчка, што служыла мяжой Рослаўльскага ўезда з правага боку Іпуці, называецца «ручьем безымянным» (Генеральный план Рославльского уезда 1780 г.).

734 Могилевская область. Атлас. С. 17.

735 Инвентарь Кричевского староства 1671 г. Спр. 1922. Арк. 13; Инвентарь Кричевского староства 1673 г. Спр. 1923. Арк. 24; Инвентарь Кричевского староства 1676 г. Спр. 1924. Арк. 29.

736 Инвентарь Кричевского староства 1694 г. Спр. 1928. Арк. 81.

737 Инвентарь Кричевского староства 1709 г. Спр. 1929. Арк. 33; Инвентарь Кричевского староства 1723 г. Спр. 1932. Арк. 178; Инвентарь Кричевского староства 1747 г.. Спр. 1936. Арк. 194.

738 Инвентарь Кричевского староства 1747 г. Спр. 1936. Арк. 194.

правага берага р. Іпуці паміж яе прытокамі Маскоўкай і Хвашчнёй. Апошні варыянт больш прымальны. Пры гэтым застаецца значная верагоднасць таго, што пункт Хмель знаходзіўся ніжэй па цячэнні р. Іпуці пасля Забор'я, што адпавядае сцвярджэнню граматы 1522 г. — «старымъ рубежомъ къ Заборью, въ Ипуть реку, да на низъ Ипутьею къ Хмелю»[739].

Магчыма, за Хмелем мяжа перасякала р. Іпуць і ішла ў тым напрамку, які ўсталяваўся (як гэта цвёрда вядома з крыніц) ужо ў XVII ст. Аднак яшчэ адна заўвага рэестраў меж 1527 г. быццам бы прама сведчыць на карысць таго, што крычаўская мяжа ішла і далей ўніз па цячэнні р. Іпуці. «Реистръ рославскии» пазначыў рубеж паміж уласна рослаўльскай і бранскай тэрыторыямі па р. Вароніцы, якая «втекла у Ипут, а Ипуть — рубеж кричевскии»[740]. Левы прыток Іпуці, рэчка Вароніца, знаходзіцца значна ніжэй па цячэнні ад Забор'я, ад якога, згодна з граматай 1522 г., на ніз ішла крычаўская (мсціслаўская) мяжа. Прычым крычаўская тэрыторыя падаўжалася, верагодна, і далей па цячэннні р. Іпуці пасля месца ўпадзення ў яе Вароніцы. Зрэшты, звесткі гэтай часткі рэестра рослаўльскіх меж не ўвайшлі ў афіцыйны тэкст літоўска-маскоўскіх дамоў, што адбылося, верагодна, яшчэ і таму, што яны ўжо не адлюстроўвалі рэальнай сітуацыі памежжа 20-х гг. XVI ст.

Тое, што рэестры, умоўна пазначаныя 1522 годам, паводле сваіх звестак адносіліся да значна больш ранняга часу, ілюструе той факт, што рослаўльска-бранская мяжа па рацэ Вароніцы спыніла сваё існаванне ўжо на самым пачатку XVI ст. Тады, падчас маскоўска-літоўскай вайны 1500—1503 гг., ад Смаленскай зямлі былі адарваны і аднесены да Бранска некаторыя рослаўльскія воласці. Сярод іх была Вароніца (Варонеч, Вароніцы) і Жарынь[741], размешчаныя з правага боку р. Вароніцы[742]. Значыць, рослаўльскі рэестр адлюстроўваў памежную сітуацыю, што папярэднічала падзеям пачатку XVI ст. Для таго часу, відавочна, была актуальнай і крычаўская мяжа, у якасці якой на вялікай адлегласці служыла р. Іпуць.

Раён міжрэчча вярхоўяў Бесядзі і Іпуці быў слаба асвоены да XVIII і нават XIX ст.[743]. Стрымлівала каланізацыйны працэс з абодвух бакоў пастаянная вайсковая небяспека — памежныя канфлікты, што не спыняліся, на думку А.А. Мяцельскага, да заключэння ў 1686 г. паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй «вечного мира»[744]. Толькі з 1709 г. пачынае згадвацца ў крыніцах слабада Хоцімск (сучасны раённы цэнтр Магілёўскай вобласці Беларусі), што стала пазней горадам і цэнтрам акругі ў вярхоўях р. Бесядзі[745]. Сітуацыя са слабай заселенасцю міжрэчча Бесядзі і Іпуці, відавочна, была характэрна і да таго моманту, калі да яго наблізілася літоўска-

[739] АЗР. Т. II. № 120. С. 149.

[740] «Пам'ять» 1527 р. С. 212.

[741] LM. Kn. 5. № 118.13. P. 210. Гл. таксама дамовы 1508 (LM. Kn. 8. № 80. P. 127) і 1522 гг. (АЗР. Т. II. № 120. С. 150; СИРИО. Т. 35. № 93. С. 639), духоўную грамату Івана III 1504 г. (ДДГ. № 89. С. 359).

[742] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 281; Политическая карта Литовско-Русского государства конца XV и начала XVI в. // Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства. Вкладыш.

[743] Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 173.

[744] Мяцельскі А.А. Хоцімск: да пытання аб часе ўзнікнення // Весці НАН Беларусі. Серыя гуманітарных навук. 1999. № 4. С. 21—22.

[745] Инвентарь Кричевского староства 1709 г. Спр. 1929. Арк. 22. Гэты населены пункт часта памылкова атаясамляецца з вёскай Хоцімск Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці Беларусі (зараз нежылой), якая згадваецца ў крыніцах першай чвэрці XVI ст. (Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магіл. вобл.: нармат. давед. Мінск, 2007. С. 169).

маскоўская дзяржаўная мяжа. Такім чынам, цалкам верагодна, што ва ўмовах малой асвоенасці рэгіёна, ды і слабога ўяўлення пра яго мясцовыя улады, мяжа была пазначана па натуральным прыродным рубяжы, якім з'яўлялася р. Іпуць. Чарговае наступленне з боку Вялікага Княства Маскоўскага падчас вайны 1514—1522 гг. не толькі наблізіла яго ўладанні да Іпуці, што лічылася фармальна памежнай, але і пашырыла маскоўскую ўладу далей на захад. Безумоўна, у літоўска-маскоўскіх перагаворных граматах павінна была быць зафіксавана лінія новай мяжы, якая ігнаравала «старые рубежи». Гэта было зроблена, напрыклад, у адносінах да Смаленскай зямлі, частка якой засталася ў ВКЛ. У дамову таксама трапіла частка рэестра рослаўльскай мяжы, хаця тая і праходзіла ў асноўным па «старых рубяжах». Але ў адносінах да новай мяжы, якая фарміравалася ў раёне паміж рэкамі Бесяддзю і Іпуццю, гэтага чамусьці зроблена не было. Можа, прычынай таму — поўная нявызначанасць гаспадарскай падлегласці мясцовасці, амаль цалкам пакрытай лясамі і балотамі. Невыпадкова тут пазней увесь час узнікалі памежныя канфлікты. Мяжу, сапраўды, вызначыць было цяжка.

У той жа час улады ВКЛ, відаць, па-ранейшаму лічылі р. Іпуць памежнай. Адсутнасць у маскоўска-літоўскіх дамовах вызначэння мяжы ад памежнага пункта Хмель быццам бы сведчыць пра настойлівасць літоўскага боку ў адстойванні сваіх зямель. Падаецца, што мяжа на захад ад Іпуці не была пазначана свядома, бо пра яе праходжанне на перамовах абодва перагаворныя бакі не змаглі дасягнуць згоды[746]. Часовы характар перамір'я дазваляў ігнараваць спрэчныя тэрыторыі, бо прыярытэтным было спыненне ваенных дзеянняў і атрыманне перадышкі. У якасці прыкладу можна прывесці выпадак з валасцямі Маслаў дзясятак, Крукаў дзясятак і Лучыгчы, якія падчас перамоў 1537 г. было вырашана «не писати ни в одну сторону», бо да гэтага часу яны кіраваліся сумесна «и на великого князя и на короля, кто силнее держит»[747].

Такім чынам, у сувязі з неабходнасцю дасягнення перамір'я, але ўсведамляючы яго часовасць, спрэчны памежны раён у міжрэччы вярхоўяў рэк Бесядзі і Іпуці ў тэксце шэрагу дамоў аб перамір'і, пачынаючы з 1522 г., быў проста праігнараваны. У той жа час улады ВКЛ склалі рэестры меж, што, відавочна, не мела мэтай фіксаванне рэальна ўсталяванай літоўска-маскоўскай мяжы, а хутчэй уяўляла вопіс страчаных з пачатку XVI ст. ВКЛ уладанняў[748], натуральна, з намерам іх адстойваць. У адным з гэтых рэестраў (рослаўльскім) захавалася ўнікальная згадка пра раку Іпуць, якая служыла мяжой Крычаўскай воласці.

З пачатку XVI ст. усходняя мяжа Крычаўскай воласці зазнала істотныя змены. Рака Іпуць заставалася памежнай толькі на невялікім адрэзку. Прычым трэба заўважыць, што пашырэнне маскоўскай улады ў бок правабярэжжа Іпуці магло пачацца не з захопу Смаленска і асноўнага масіву яго тэрыторыі (1514 г.), а яшчэ з таго часу, калі да Расіі быў далучаны шэраг рослаўльскіх валасцей, размешчаных на ўсходзе ад Іпуці (некаторыя каля яе левага прытока Вароніцы), а таксама Бранск і яго валасці, у прыватнасці, размешчаныя непадалёку ад Іпуці Салаўевічы і Прыкладні (1500—1503 гг.)[749].

Вядома, што маскоўскае наступленне на рослаўльскія землі ў непасрэднай блізкасці да разгляданага ўчастка мяжы працягнулася адразу пасля заключэння перамір'я 1503 г. У пасольскіх кнігах падаецца спіс «кривд и шкод», якія ўчынілі смаленскім князям і баярам «помещики и украинники великого князя

---

[746] У пасольскіх кнігах, на жаль, разглядаемы рэгіён нават не згадваецца.

[747] СИРИО. Т. 59. № 6. С. 105.

[748] Русина О.В. Сіверська земля. С. 21.

[749] LM. Kn. 5. № 118.13. P. 210.

московского»[750]. З Рослаўльскага павета ВКЛ маскоўскім бокам былі адабраны воласць Слабодка, сёлы Нагінскае, Жыліна, Князева, Баяркіна, двары Кошкін, Бехава, Клімаўскі, Пашкова Жаўтаногава і іншыя без назваў[751]. Некаторыя з пазначаных двароў стаялі ў сёлах (Кошкін і, магчыма, Бехава). З большай ці меншай упэўненасцю значная частка пералічаных тапонімаў лакалізуецца ў правабярэжжы вярхоўяў р. Вароніцы, якая тут разварочвае сваё цячэнне шырокай пятлёй з усходу на паўднёвы захад. Тут жа знаходзілася Жэрынь (суч. Жарынь) — цэнтр былой Рослаўльскай воласці. Невыпадкова як Жарынь, так і некаторыя занятыя населеныя пункты пазней увайшлі ў склад Вароніцкай воласці[752]. Воласць Слабодка з-за распаўсюджанасці назвы не паддаецца лакалізацыі. У якасці варыянтаў цэнтра гэтай воласці можна прапанаваць наступныя населеныя пункты: Слабада на ўсход ад Гнеўкава за ракой Асцёр, Слабада (Горлава Слабада, суч. Горлава) у самых вярхоўях р. Вароніцы[753], Слабада (сяло Лахірышкаўская Слабада, суч. Лахі) у вярхоўях р. Папоўкі, левага прытока Вароніцы[754]. Тры вылучаныя населеныя пункты аказваюцца на паўночным захадзе, поўначы і паўночным усходзе ад масіву зямель, занятых маскоўскімі ўладамі пасля перамір'я 1503 г.

Такім чынам, у напрамку рослаўльскіх зямель маскоўскія напады і захопы не былі спынены нават пасля перамір'я 1503 г. Відавочна, і за р. Іпуць, на яе правы бок пашыралася маскоўская ўлада. Ускосна пра гэта сведчыць скарга бранскага намесніка Васілія Сямёнавіча Рапалоўскага на крычаўскага намесніка Астафея Дашковіча, які быццам «вступался» ў бранскую воласць Прыкладні і прыкладнеўскія вёскі[755]. Падаецца, што ў дадзеным выпадку ўсё было якраз наадварот — бранскі намеснік захопліваў крычаўскія вёскі. Наогул жа, паводле В.С. Рапалоўскага: «Многие обиды чинятся нашим людем от кричевцов»[756]. Пасля 1503 г. скаргі на пранікненне з Крычава ў бранскую воласць Прыкладні паступалі неаднаразова, напрыклад, у 1537, 1538, 1544, 1550, 1552 гг.[757]. У адказ літоўскі бок, напрыклад, у 1524, 1525, 1526, 1529 гг. выказваў прэтэнзіі на дзеянні маскоўскіх намеснікаў памежнай зоны (старадубскага і інш.), якія «забирают и поседают» воласці Крычава, Прапойска, Чачэрска, Алучычаў і інш.[758]. Як бачым, не толькі рослаўльскі рубеж, але і крычаўскабранскае памежжа стала зонай канфліктаў. Спробы склікаць прадстаўнікоў абодвух бакоў (ад Мсціслава, Крычава і г.д.) да спрэчных участкаў мяжы, «их поправити», як у 1526, так і ў 1529 і іншых гадах не былі здзейснены[759].

Пры апісанні памежных канфліктаў на крычаўскай мяжы бранская воласць Прыкладні амаль увесь час згадваецца маскоўскім бокам. Менавіта яе тэрыторыя

---

750 СИРИО. Т. 35. № 77. С. 446.

751 Тамсама.

752 Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 179. У 1610 г. паводле жалаваных грамат караля, вялікага князя Жыгімонта III у складзе Вароніцкай воласці знаходзіліся: в. Бехава, сц. Кошкіна, в. Жыленка, сц. Жарыны, сц. Сеслаўль і інш., у якіх угадваюцца паселішчы і цэнтры былых рослаўльскіх валасцей, злучаных у адной бранскай воласці (АЗР. Т. IV. 1588—1632. СПб., 1851. № 183. С. 332, 333, 334, 335.

753 Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 186.

754 Генеральный план Росповльского уезда 1780 г.

755 СИРИО. Т. 35. № 77. С. 447.

756 Тамсама.

757 Тамсама. Т. 59. № 8. С. 132, 141; № 15. С. 230; № 20. С. 336; № 23. С. 357.

758 Тамсама. Т. 35. № 96. С. 684; № 98. С. 697—698; № 101. С. 716—717; № 105. С. 789.

759 Тамсама. № 107. С. 815; № 109. С. 837

вызначала спрэчны ўчастак літоўска-маскоўскага памежжа. Падступаючая да левага берагу р. Іпуці былая рослаўльская воласць Вароніца павялічвала свае межы ў асноўным за кошт паўднёвых зямель Рослаўльскага павета і, магчыма, толькі ў адным месцы пераходзіла на правы бераг Іпуці. (На правым беразе р. Іпуці насупраць вусця р. Калпіты размешчаны населены пункт Дабраносічы, які, цалкам верагодна, адпавядае селішчу з такой самай назвай, згаданаму ў 1610 г. у складзе Вароніцкай воласці[760]. Праўда, усе астатнія, названыя ў той жа грамаце пункты групуюцца вакол сяльца Жэрыны, гэта значыць на зусім іншым баку воласці.) А вось Прыкладненская воласць актыўна асвойвала прастору правабярэжжа Іпуці. Бортны ўхажай і селішча з назвай Хмель, а таксама селішчы Забор'е і Давыдавічы, пералічаныя ў бранскай пісцовай кнізе 1625—1629 гг., адносіліся якраз да гэтай воласці[761]. Аднак трэба адзначыць, што як Забор'е, так і Давыдавічы для памежнай сітуацыі XVI ст. павінны былі заставацца на літоўскім баку. Толькі ніжэй па цячэнні р. Іпуці ад Забор'я, у раёне размешчанага там Хмеля, маглі пачынацца маскоўскія ўладанні. Відаць, у гады расійскай смуты становішча на крычаўска-бранскай мяжы змянілася. Так, калі нават перамірная грамата 1608 г. патрабуе праходжання мяжы ад Забор'я ўніз па Іпуці да Хмеля, то ўжо акты межавання 1634—1637 гг. фіксуюць яе лінію па р. Асовенцы (суч. Савенка) да Іпуці, а ад апошняй у Маскоўку[762]. Левы прыток Іпуці — Савенка і ў сярэдзіне XVI ст., паводле агранічэння Крычаўскага староства, была памежнай, але па р. Маскоўцы — правым прытоку Іпуці — мяжа, відаць, сфарміравалася на пачатку XVII ст. У выніку тэрыторыя воласці Прыкладні пашырылася яшчэ далей на захад.

У той жа час участак мяжы ад Шыбнева і Гнеўкава да Забор'я заставаўся, відаць, непарушным. Селішчы Гнеўкава, Шыбнева ў граматах 1610 г. называюцца ў складзе Рослаўльскага ўезда[763]. Да апошняга належала і в. Шумячы[764], якая вырасла ў сучасны пасёлак гарадскога тыпу — цэнтр раёна Смаленскай вобласці. Вёска, відаць, знаходзілася на правым баку р. Шумячкі, а не на левым, дзе цяпер знаходзіцца асноўная тэрыторыя пасёлка. Толькі да сярэдзіны XVIII ст. мяжа адсунулася ад р. Савенкі да іншага левага прытока Іпуці — Баравенкі.

Участак мяжы ад Хмеля па-ранейшаму застаецца невызначаным. Даследчыкі намячаюць крычаўскі рубеж ВКЛ з Бранскім уездам Расіі на захад ад р. Іпуці, у асноўным уздоўж р. Бесядзі і сучаснай беларуска-расійскай мяжы[765]. Пры гэтым А.А. Мяцельскі справядліва крытыкуе М.Ф. Спірыдонава, які амаль цалкам запазычвае сучасны напрамак мяжы, але сам неасцярожна выкарыстоўвае звесткі нават XVIII ст. для вызначэння меж Крычаўскай воласці XVI ст.[766]. Н.Б. Шаламанава спыняецца на вызначэнні стыку рослаўльска-крычаўскага і бранскага рубяжоў 1503—1522 гг. паміж рэкамі Савенкай і Хвашчнёй і фіксаванні далейшага напрамку бранска-крычаўскай мяжы ад р. Маскоўкі[767]. Асноўная працягласць пазначанага апошнім ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы застаецца ў даследаванні Н.Б. Шаламанавай без тлумачэння.

---

760 АЗР. Т. IV. 1588—1632. Спб., 1851. № 183. С. 333.

761 Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 178, 182—183.

762 Тамсама. С. 178.

763 АЗР. Т. IV. № 183. С. 332, 333.

764 Тамсама. № 183. С. 332.

765 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 125.

766 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 125.

767 Шеламанова Н.Б. Рославльский уезд в XVI в. С. 178.

Прыблізную лінію няўстойлівай на працягу ўсяго XVI ст. бранска-крычаўскай мяжы ў пэўнай ступені дапамагае рэканструяваць толькі «Ограничение Кричевского староства» 1560 г. Выкарыстоўваць шматлікія крычаўскія інвентары XVII—XVIII стст. трэба асцярожна з-за істотных змен лініі мяжы на момант іх складання.

«Ограничение Кричевского староства» было складзена пры Андрэю Багданавічу Шалуху, крычаўскім старасце ў 1544—1563 гг.[768], але захавалася толькі ў копіі, знятай у 1604 г.[769]. А.А. Мяцельскі, відаць, справядліва дакладна датуе з'яўленне «Ограничения» 1560-м годам, гэта значыць часам правядзення аграрнай рэформы ў Крычаўскім павеце[770].

Галоўны недахоп «Ограничения» 1560 г. — немагчымасць вызначыць месца першага адрэзка крычаўскай мяжы ад р. Іпуці. Мяжа дасягала гэтай ракі з левага боку па яе прытоку Савенцы (Sawienka, Sowienka), а затым ручаём Бальшэвіцай (Balszewica), рэчкамі Арлоўкай (Orłowka), Крупнай (Krupna) і, нарэшце, ручаём Студзёным (Sciudziony) ішла да р. Бесядзь[771]. І вось, на жаль, ніводны з пералічаных водных аб'ектаў паміж р. Іпуццю і р. Бесяддзю не лакалізуецца. У сувязі з гэтым праблематычна не толькі правесці прыблізную лінію мяжы ад адной ракі да другой, але нават і вызначыць тое месца, адкуль гэтая лінія пачыналася.

А.А. Мяцельскі ў адной частцы сваёй працы сцвярджаў, што «ад вусця Савенкі да вусця Баравіцы крычаўскі "рубеж" ішоў па Іпуці, а потым зварочваў у кірунку Бесядзі»[772]. Гэта нечакана адпавядае намеру завярнуць літоўска-маскоўскую мяжу з ракі Іпуці далей за Забор'ем і адпавядае звесткам рэестраў меж 1527 г. і літоўска-маскоўскіх дагаворных грамат XVI — пачатку XVII ст. Аднак далей даследчык вядзе мяжу ад Іпуці па р. Маскоўцы да правага прытока Бесядзі — Смародзінкі, а ўздоўж апошняй і да самой Бесядзі[773]. Гэтая рэканструкцыя мяжы XVI ст. грунтуецца на абмежаванні сяла Макеевічы, пададзенага ў інвентары Крычаўскага староства 1747 г. Там, сярод аб'ектаў — меж зямель сяла — названы не толькі рэчкі Пераналочанка і памежная з Расіяй Маскоўка — пра гэта ўжо было сказана вышэй. Ад Маскоўкі ў «гору» (уверх па цячэнні), а потым праз балота мяжа Макеевічаў дасягала верху Бесядзі («wierch Biesiedzi»), а адтуль яшчэ праз два балоты — Пераналочанкі[774]. Такім чынам, абмежаванне сяла Макеевічы быццам бы выразна і недвухсэнсоўна вызначае ўчастак дзяржаўнай мяжы ад вусця р. Маскоўкі да верха р. Бесядзі. Аднак выток р. Бесядзі знаходзіцца ў баку ад астатніх згаданых у абмежаванні аб'ектаў. Вельмі складана ўявіць напрамак да яго мяжы ад р. Маскоўкі і вяртанне да Перасочанкі. У сувязі з гэтым А.А. Мяцельскі выказаў здагадку аб праходжанні

[768] Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 118, 151. На думку А. Банецкага, А.Б. Шалуха (Szołucha) быў крычаўскім намеснікам у 1544—1552 гг. (Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. S. 346, XXXII).

[769] Kopia Ograniczenia Starostwa Krzycewskiego... // НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 1155. Ч. 1. Арк. 68—69 адв. Само «Ограничение» складзена «Za Panowania Korola Zygimunta tretioho», і гэта можа выклікаць памылку, бо Жыгімонт III правіў у Польшчы і ВКЛ у 1587—1632 гг. Аднак нумарацыя каралёў і вялікіх князёў, адпаведна, у «Кароне» і «Княстве» не супадала. Трэцім Жыгімонтам у ВКЛ лічыўся Жыгімонт Аўгуст, чые гады праўлення (1548—1572 гг.) амаль цалкам увязваюцца з намесніцтвам Андрэя Багданавіча Шалухі.

[770] Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 118.

[771] Копия ограничения староства Кричевского 1604 г. // НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 1155. Ч. 1. Арк. 68.

[772] Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 124.

[773] Тамсама. С. 125.

[774] Инвентарь Кричевского староства 1747 г. Арк. 189.

мяжы па р. Смародзінцы ў Бесядзь (хаця пра гэта маўчаць крыніцы) і падмацаваў на першы погляд хісткую схему фактам існавання ў гэтым рэгіёне вёсак Літвінава і Літвінава Буда[775]. Але, як высвятляецца, ніякіх супярэчнасцей у дакуменце 1747 г. не было, а думка А.А. Мяцельскага часткова адпавядае рэчаіснасці. Справа ў тым, што тая рэчка, якая зараз па ўсёй сваёй даўжыні называецца Смародзінкай, у XVIII ст. называлася Бесяддзю. Сучасны ж вытак р. Бесядзі насіў назву Бяседка (каля абодвух яго берагоў і цяпер стаіць вёска Бяседка). Смародзінкай жа быў нязначны прыток старой Бесядзі[776].

Бесядзь XVIII ст. пачыналася ў тым месцы, дзе зусім блізка цякуць рэчкі Маскоўка і Пераналочанка. Тым самым землі с. Макеевічы ўяўляюцца даволі кампактнымі. Адзін адрэзак іх мяжы ад вусця р. Маскоўкі да вытоку Бесядзі (Смародзінкі) меў статус дзяржаўнай. Далей ход гэтай мяжы быў, відавочна, такім жа, як і ў канцы XVIII ст. — да ракі Рэкты, а па ёй — у Бесядзь. Але фарміраванне менавіта такой канфігурацыі літоўска-маскоўскай мяжы, безумоўна, варта адносіць да часу, што далёка адстаіць ад пачатку XVI ст. Верагодней за ўсё пазначаная лінія мяжы (Маскоўка — вытак Бесядзі-Смародзінкі — Рэкта — Бесядзь) склалася падчас размежавання, звязанага з рэалізацыяй умоў Палянаўскага міру 1634 г.

Расія пасля Смутнага часу мела значныя тэрытарыяльныя страты. Смаленская вайна 1632—1634 гг. мела вынікам толькі нязначнае вяртанне зямель вакол Сярпейска, Трубецка, Пуціўля і іншых месцаў. Важнай для ўсталявання новай мяжы ў раёне вярхоўяў рэк Іпуці і Бесядзі была саступка расійскаму боку шэрагу былых бранскіх валасцей — Салаўевічы, Прыкладні, Пацынь, Вароніч, Жарынь і інш. Па-ранейшаму ў складзе Рэчы Паспалітай заставаўся Смаленск і, у прыватнасці, Рослаўльскі павет, каля якога з Расіяй фарміравалася фактычна новая мяжа. Землі Вароніцкай і Пацынскай валасцей, сяла Жарынь якраз і вызначалі рослаўльска-бранскую мяжу. Другая ж вернутая воласць — Прыкладні — павінна была зафіксаваць рубяжы Расіі і Рэчы Паспалітай на крычаўска-бранскім адрэзку. Як сведчаць матэрыялы размежавання, ад ракі Асавенкі (суч. Савенка) пачыналася мяжа Крычаўскага павета з Бранскім паветам[777]. Такім чынам, у той час Савенка яшчэ служыла ўнутранай мяжой паміж Рослаўльскім і Крычаўскім паветамі ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай.

Характэрна, што крычаўска-бранскі адрэзак мяжы Расіі з Рэччу Паспалітай з'яўляўся адным з найбольш складаных для вызначэння. Межавыя камісіі ад абедзвюх дзяржаў доўга не маглі прыйсці да згоды, зрывалі тэрміны, вызначаныя ўмовамі мірнай дамовы, вылучалі свае праекты праходжання мяжы і, нарэшце, падзялілі спрэчныя землі папалам[778]. Так і склалася тая лінія мяжы, якая потым вызначала крычаўска-бранскае памежжа Рэчы Паспалітай з Расіяй паўтара стагоддзі.

Расейскі бок падчас спрэчкі за землі з правага боку Іпуці разлічваў замацаваць мяжу па рэках Савенцы, Іпуці, Маскоўцы, ад апошняй — праз Голае балота і дзве невядомыя рэчкі ў р. Мужычок (правы прыток Бесядзі) каля яе прытока Трасціны, а затым па Бесядзі да вусця Альшанкі і лесам і ярам ад яго да р. Вітавы (правы прыток Іпуці). Польска-літоўскі бок адстойваў кепска вызначаемую на сучаснай карце мяжу ўверх р. Іпуці да р. Пустынкі (?), ад яе — да Голага балота і вытока р. Бесядзі (відавочна, суч. Смародзінкі), па Бесядзі да р. Пясочны (?), уздоўж якой уверх, затым праз Княжае балота ў Альшоўку, некаторую адлегласць па апошняй,

---

775 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 125.

776 Генеральный план Рословльского уезда 1780 г.

777 Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 65.

778 Тамсама. S. 18, 65.

а потым ярам да вытокаў рэк Вялічай і Ліпаўкі[779], адрываючыся ад якіх праз лес да прытоку р. Вітавы Ясенавы і да вусця той неглыбокай рэчкі[780]. Хочацца думаць, што другі варыянт мяжы, прапанаваны польска-літоўскім бокам, адлюстроўваў імкненне аддаць менш сваёй тэрыторыі Расіі і, па магчымасці, аднавіць старыя рубяжы. Аднак з боку Рэчы Паспалітай пакідаўся без увагі вялікі ўчастак тэрыторыі правабярэжжа Іпуці, які, верагодна, у XVI ст. належаў Крычаўскай воласці. Згадка ў абодвух варыянтах размежавання Голага балота (у першым — за р. Маскоўкай, у другім — перад вусцем р. Бесядзі) сведчыць пра тое, што расійскі і польска-літоўскі бок пачыналі весці мяжу вельмі блізка адзін ад аднаго, а таксама побач з тым месцам, дзе яна і была ў выніку ўсталявана (па рацэ Маскоўцы — на выток Бесядзі). Магчыма таму, раз не было істотных прэтэнзій на тэрыторыю на ўсход ад р. Маскоўкі, ужо да 1634 г. межы Крычаўскай воласці далёка за яе не заходзілі. І ў цэлым мяжа на кароткім адрэзку ад Іпуці да Бесядзі ўжо сфарміравалася блізкай да той, што потым існавала без змен доўгі час.

А вось на тэрыторыю на ўсход (з левага боку) р. Бесядзі польска-літоўскі бок, відаць, выказаў празмерныя прэтэнзіі. Бо і паводле звестак сярэдзіны XVI ст. землі паміж р. Бесяддзю і яе левым прытокам Альшоўкай належалі Расіі. У выніку старыя рубяжы былі адноўлены. Яны захоўваліся і пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг., былі зафіксаваны ў ведамасці фарпостаў 1736 г.[781] і адлюстраваліся на картах апошняй чвэрці XVIII ст.[782].

Новая лінія дзяржаўнай мяжы згодна з размежаваннем 1634—1638 гг. ішла ад Іпуці па р. Маскоўцы, праходзіла паўз выток р. Бесядзі (суч. Смародзінка) да яшчэ адной Маскоўкі — левага прытоку Рэкты[783], па Рэкце пераходзіла ў Бесядзь, ад апошняй — у Альшоўку і да яе левага прытока Вялічай[784]. Ад вярхоўяў Вялічай мяжа накіроўвалася да вытока ракі Ліпаўкі (правы прыток Жадунькі), а ад яе — да вусця р. Зімніцы пры ўпадзенні апошняй у Жадуньку. Затым, змяніўшы ход з поўдня на захад, мяжа дасягала р. Вітавы, дзе заканчваліся крычаўскія землі[785]. Такая самая мяжа прасочваецца і па карце Генеральнага межавання Рослаўльскага павета 1780 г. На некаторых участках яна супадае з сучаснай беларуска-расійскай мяжой (ад вусця Маскоўкі да вусця Рэкты; ад вярхоўяў Ліпаўкі да Вітавы)[786].

Але ці можна перанесці цалкам гэтую рэканструкцыю лініі мяжы XVII—XVIII стст. (ад р. Іпуці на поўдзень зноў амаль да той жа рэчкі) на перыяд XVI ст.? У адносінах да некаторых адрэзкаў той мяжы на гэтае пытанне можна адказаць станоўча. Але, што характэрна, пра астатнія адрэзкі нічога канкрэтнага сказаць

---

779 Рэчка ці ручай Вялічай і ў канцы XVIII ст. заставаўся памежным (Генеральный план Рословльского уезда 1780 г.).

780 Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 65.

781 Французова Е.Б. К истории формирования западной границы России. Смоленский участок. 1678—1772 годы. С. 191.

782 Климовицкой округ // Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты, представляющей Могилевскую губернию; Генеральный план Рословльского уезда 1780 г.

783 На думку Уладзіслава Гадзішэўскага, рака Рэкта змяніла сваю назву на Маскоўку пасля ўсталявання па ёй мяжы (Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 65).

784 На плане Клімавіцкай акругі 1777 г. мяжа пазначана толькі па р. Альшоўцы, але гэта памылкова. Генеральны план Рослаўльскага павета фіксуе яе па прытоку Альшоўкі Вялічай.

785 Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 65.

786 Смоленская область. Региональный атлас. С. 44; Могилевская область. Атлас. С. 27.

нельга. Толькі патрабаванне правесці мяжу ад Забор'я ўніз па Іпуці прымушае змяшчаць Хмель недзе далей па цячэнні гэтай ракі да яе правага прытока Хвашчні. Арыентуючыся на прыблізнае месцазнаходжанне Хмеля, прыходзіцца весці мяжу да р. Бесядзі (цяпер дакладна вядома, што вытокам Бесядзі тады называўся яе цяперашні правы прыток Смародзінка). Мяркуючы па вялікай колькасці тапонімаў, якія пералічаны ў «Ограничении» Крычаўскага староства 1560 г., ад Іпуці да Бесядзі мяжа праходзіла вялікую адлегласць. Прычым з Іпуці мяжа спачатку ішла не па адным з яе правых прытокаў, а — як пазначана ў дакуменце — рубяжамі («rubiežami»)[787]. Далей лінія мяжы перасякала або ішла ўздоўж ручая, потым дзвюх рэчак і зноў па ручаі трапляла ў Бесядзь (пералічэння назваў гл. вышэй). Тым самым ускосна даказваецца неадпаведнасць мяжы XVI ст. мяжы ў XVII і XVIII ст., калі адлегласць ад Іпуці да Бесядзі складала не больш за 5 км і на шляху сустракалася толькі Голае балота.

Далейшы ход мяжы, мяркуючы па «Ограничению» 1560 г., адпавядаў той сітуацыі, якая фіксуецца і ў пазнейшы час.

Звяртае на сябе ўвагу канцэнтрацыя рэчак з ідэнтычнымі назвамі ў раёне Касцюковічаў (раённы цэнтр Магілёўскай вобласці Беларусі, вядомы з 1508 г. як сяло Касцюкова, у 1604 — сяло Касцюкі) і Хоцімска (таксама раённы цэнтр Магілёўскай вобласці Беларусі, заснаваны як слабада на рубяжы XVII—XVIII стст.). Назвы Жадунька, Ліпаўка і Альшанка-Альшоўка быццам бы акуратна зняты з аднаго месца і змешчаны далей на ўсход таксама каля ракі Бесядзі, але на правым яе баку. Характэрна, што адзін з буйных прытокаў Жадунькі, каля якой стаяць Касцюковічы, носіць назву Крупня[788], а ў «Ограничении» Крычаўскага староства 1560 г. як адна з памежных рэк паміж Іпуццю і Бесяддзю таксама згадваецца рака Крупна («od reki Orłowki do reki Krupny»)[789]. Каля ракі Рэкты ёсць населены пункт Арлоўка. Можа, каля яго працякала невялічкая рэчка з такой самай назвай? А Арлоўка таксама называецца ў «Ограничении» 1560 г. Можна выказаць думку: або ў раёне вярхоўяў р. Бесядзі ў працэсе каланізацыі з'явіліся рэчкі з падобнымі назвамі, або межы Крычаўскай воласці сярэдзіны XVI ст. ляжалі зусім не там, дзе іх спрабуюць шукаць. У сувязі з гэтым варта адзначыць, што апісанне меж Крычаўскай воласці (павета, староства) не было дакументам міждзяржаўнай значнасці, а рэальна адлюстроўвала сітуацыю з пашырэннем асвоеных зямель ВКЛ. (Між іншым, у крыніцы нават не згадваюцца якія-небудзь аб'екты, звязаныя з суседняй дзяржавай.) Магчыма менавіта таму крычаўскай мяжой названа р. Савенка, хаця, калі сыходзіць з логікі рослаўльскага рэестра 1527 г., мяжой павінна была быць р. Баравенка, што ўпадае ў Іпуць ніжэй. Адсюль і іншыя несупадзенні з той літоўска-расійскай мяжой, якая ўсталявалася ў больш позні час. Вельмі верагодна, што раён міжрэчча вярхоўяў Іпуці і Бесядзі проста не быў асвоены, а межы ў ім — зусім не вызначаны. Такім чынам, «Ограничение» 1560 г. магло ахопліваць толькі тыя землі, што былі асвоены ўладамі ВКЛ, а землі тыя ледзь заходзілі на левы бераг р. Бесядзі каля яе прытока Альшоўкі. Верагодна, імкненне штучна прывязаць да ўнутранай крычаўскай мяжы арыенцір, які б фіксаваў пачатак дзяржаўнай літоўска-маскоўскай мяжы, ад пачатку было памылковым. Аднак цалкам адмаўляць магчымасць выкарыстання «Ограничения»1560 г. для вызначэння мяжы ад Іпуці да Бесядзі і далей да Вітавы, відаць, нельга. Можна пераканацца, што ўчастак мяжы па Бесядзі на Альшоўку працягваў існаваць яшчэ два стагоддзі.

---

[787] Копия ограничения староства Кричевского 1604 г. Арк. 68.

[788] Могилевская область. Атлас. С. 26.

[789] Копия ограничения староства Кричевского 1604 г. Арк. 68.

Зрэшты, яшчэ адно меркаванне можа амаль цалкам вывесці разгляданы дакумент з выкарыстання яго для рэканструкцыі значнай працягласці літоўска-маскоўскай мяжы. Апрыёры за маштаб тэрыторыі, якая апісваецца «Ограничением» 1560 г. прымаецца ўвесь Крычаўскі павет. Але ж існуе верагоднасць таго, што фіксавалася толькі тэрыторыя адной Крычаўскай воласці, а, напрыклад, Лучыцкая воласць, якая быццам ужо і злілася з Крычавам, засталася па-за разглядам. І сапраўды, калі згодна з пералічанай у агранічэнні геаграфічнай наменклатурай праводзіць лінію па рэках Крупне, Альшоўцы, Палужы і Сенніцы, то мы якраз і прыйдзем да замка Прапойскага і р. Сож, каля якіх завяршаецца крычаўская мяжа. Па такой схеме ўся Лучыцкая воласць застаецца ўбаку (дарэчы, больш дакладна выяўляецца і яе паўночная мяжа). Але, на жаль, парадак пералічэння рэк (Арлоўка — Крупна — Бесядзь — Альшоўка — зноў Бесядзь — Палуж (?) — Сенніца) не дае поўнай пэўнасці ў такой рэканструкцыі.

Падводзячы вынікі чарговай спробы рэканструкцыі крычаўскага ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы, неабходна адзначыць, што даследчыкі традыцыйна праводзяць яго на захад ад р. Іпуці, у асноўным уздоўж ракі Бесядзі і сучаснай беларуска-расійскай мяжы[790]. Пры гэтым А.А. Мяцельскі справядліва крытыкуе М.Ф. Спірыдонава, які амаль цалкам запазычыў сучасны напрамак мяжы, але сам неасцярожна выкарыстаў звесткі нават XVIII ст. для вызначэння тэрыторыі Крычаўскай воласці XVI ст.[791].

Такім чынам, насуперак агульнапрынятаму меркаванню і адміністрацыйнаму падзелу XVII—XIX стст., існуе пэўная верагоднасць таго, што літоўска-маскоўская мяжа XVI ст. на крычаўска-рослаўльскім участку мела іншую, чым прынята лічыць, працягласць. На значнай адлегласці мяжой служыла р. Іпуць, якая сутыкалася ніжэй р. Вароніцы з бранскімі землямі.

Варта адзначыць, што больш-менш падрабязныя звесткі аб праходжанні літоўска-маскоўскай мяжы ў XVI ст. у крыніцах сустракаюцца вельмі рэдка. Здавалася б, тым участкам мяжы, на якія была звернута ўвага ў гэтым раздзеле, пашанцавала. Іх вельмі дакладна фіксуюць дакументы першай чвэрці XVI ст. Аднак высвятляецца, што і ў адносінах да іх ёсць магчымасць пэўнай карэкціроўкі. Прамыя ўказанні крыніц прымушаюць перагледзець ранейшыя ўяўленні.

---

790 Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у другой палове XVI ст. // Нацыянальны атлас Беларусі. С. 267; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 125.

791 Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. С. 125.

# Заключэнне

Даследаванне літоўска-маскоўскага памежжа дазволіла прыйсці да наступных высноў.

Паміж уладаннямі вялікіх княстваў Літоўскага і Маскоўскага доўгі час існавалі толькі месцы судакранання (у раёнах Ржэўскай зямлі і так званых Вярхоўскіх княстваў). Ад самага пачатку тут разгортваліся канфлікты, якія, аднак, былі згладжаны дзякуючы імкненню да кампрамісу з абодвух бакоў. Адначасова ішла пастаянная барацьба за ўплыў на шэраг княстваў, што падзялялі паміж сабой ВКЛ і Вялікае Княства Маскоўскае. Смаленскае, Чарнігаўскае (Бранскае) і Вярхоўскія княствы пераменна траплялі ў залежнасць ад Масквы або Вільні, аднак спачатку над Чарнігаўскім (у сярэдзіне XIV ст.), а потым Смаленскім і Вярхоўскімі (у пачатку XV ст.) княствамі замацавалася ўлада ВКЛ.

З далучэннем да ВКЛ значных тэрыторый з усходу нарэшце сфарміравалася літоўска-маскоўская мяжа, якая потым практычна без змен існавала амаль стагоддзе. Прычына такой устойлівасці не ў добрасуседскіх адносінах (канфлікты і нават войны па-ранейшаму адбываліся), а ў своеасаблівым характары мяжы, якая ў шмат якіх месцах уяўляла паласу незанятых і неасвоеных зямель. Прыродная адасобленасць сцерагла пакой літоўска-маскоўскага памежжа. Але выключэннем стаў адзін з «глухіх» участкаў мяжы ў раёне Павугор'я — найбольш зручны для варожых уварванняў, арэна маскоўска-літоўскага ваеннага супрацьстаяння. Стварэнне сістэмы абароны ўздоўж р. Угры як натуральнага бар'ера на шляху войскаў праціўніка стала адной з важных задач урада ВКЛ. У выніку ў першай маскоўска-літоўскай памежнай вайне 1486—1494 гг. абарончы рубеж уздоўж р. Угры паказаў сваю эфектыўнасць.

Наогул на ўсходняй мяжы ВКЛ была сфарміравана моцная сістэма абароны, якая да пэўнага часу паспяхова супрацьстаяла маскоўскаму ціску. Пасля першай памежнай вайны канца XV ст., нягледзячы на тэрытарыяльныя страты і захопы ключавых пунктаў, амаль уся лінія абароны была адноўлена. Толькі наступныя падзеі, якія адбываліся ўжо па-за памежнай зонай (Севершчына) зрабілі прыкрыццё значнай часткі ўсходніх зямель ВКЛ проста непатрэбным. Паступова роля аховы мяжы была перакладзена на іншыя абарончыя структуры, якія былі разгорнуты ўжо на тэрыторыі сучаснай Беларусі (уздоўж Дзвіны і Дняпра).

Рэканструкцыя літоўска-маскоўскай мяжы, назіранне за тэрытарыяльнымі зменамі паміж ВКЛ і Вялікім Княствам Маскоўскім немагчыма без спалучэння з аналізам ваенна-палітычных падзей. З іншага боку, менавіта ўвага да гістарычна-геаграфічных акалічнасцей дае магчымасць з большай дакладнасцю зразумець характар, асаблівасці і нават сам ход ваенных дзеянняў. У выніку ўяўленне аб маскоўска-літоўскіх канфліктах другой паловы XIV — першай паловы XV ст. і аб першай маскоўска-літоўскай памежнай вайне 1486—1494 гг. набывае асаблівае гучанне, якое шмат у чым канкрэтызуе і нават адмаўляе традыцыйныя меркаванні і погляды.

Звычайным вынікам маскоўска-літоўскіх войнаў станавіліся пэўныя тэрытарыяльныя пераразмеркаванні. Як правіла, з канца XV ст. ВКЛ толькі страчвала свае ўладанні. Аднак здараліся выпадкі (асабліва калі ініцыятыва ў вядзенні ваенных дзеянняў належала літоўскаму боку), калі ВКЛ вяртала або адстойвала ўжо захопленыя Масквой землі. Яркім і найбольш важкім прыкладам аднаўлення ўлады над сваёй былой тэрыторыяй стала далучэнне да ВКЛ у выніку так званай Старадубскай

вайны Гомейскай зямлі. 35 гадоў Гомейшчына знаходзілася ў складзе Вялікага Княства Маскоўскага, значна павялічыла свае межы і моцна інтэгравалася ў маскоўскую адміністрацыйна-тэрытарыяльную сістэму. Але ў выніку летняга 1535 г. наступлення войскаў ВКЛ Гомей быў захоплены і дзякуючы паслядоўнай пазіцыі літоўскіх паслоў на перагаворах у Маскве разам са сваёй воласцю (без некаторых напластаванняў часоў маскоўскага кіравання) быў замацаваны за ВКЛ. Такім чынам, маскоўскія ўладанні былі адсунуты ад Дняпра, а пасля і Сожа, што вызваліла ад варожага кантролю значныя водныя артэрыі і сухапутныя шляхі ВКЛ.

Літоўска-маскоўская мяжа пасля 1537 г. (заканчэння Старадубскай вайны — апошняй з шэрагу памежных войнаў) нібыта набыла стабільны характар. Аднак, калі ігнараваць рэаліі больш позняга часу (якія некрытычна пераносяцца на стагоддзі раней), а ўважліва прааналізаваць крыніцы, то можна даведацца аб існаванні даволі значных спрэчных участкаў літоўска-маскоўскай мяжы. Акрамя разгледжаных Пасожжа і Крычаўшчыны падобныя «праблемы» амаль стагоддзе вырашаліся ў раёнах Веліжа і Себежа, сярод полацкіх і віцебскіх валасцей. Для XVII ст. стала характэрнай з'ява межавання (напрыклад 1634—1648 гг.), калі польска-літоўская (з боку Рэчы Паспалітай) і маскоўская камісіі непасрэдна на месцах вызначалі лінію мяжы (працэс дэмаркацыі). Такім чынам, той феномен памежжа, які быў характэрны для XV—XVI стст. (палосы незанятых зямель) ужо амаль не сустракаўся. На той час праца над пазначэннем дзяржаўнай мяжы не выходзіла за рамкі дэлімітацыі — сцверджання агульнага кірунку лініі мяжы ў дамовах. І хаця неаднаразова прымалася сумеснае рашэнне абодвух бакоў аб стварэнні камісій з мэтай межавання, сустрэчы на памежжы так і не адбываліся. Справа ўдакладнення меж перакладвалася на мясцовыя органы кіравання (перш за ўсё — на намеснікаў-дзяржаўцаў), якія рабілі пэўныя крокі па зацвярджэнні і пазначэнні меж (насыпанне капцоў, зарубкі граняў), але іх дзейнасць не набывала дзяржаўнага ўзроўню. У выніку памежныя спрэчкі, захопы і спусташэнні сталі звычайнай з'явай, паўсядзённым жыццём памежжа.

Але нягледзячы на агульную невызначанасць, распаўсюджаную няўстойлівасць лініі літоўска-маскоўскай мяжы, на значнай сваёй працягласці яна ўжо з пачатку XVI ст. выяўляла дзяржаўныя межы сучаснай Рэспублікі Беларусь. Гэта сапраўды дзіўна, бо вядома, што межы Беларусі складваліся не ў адпаведнасці з натуральным тэрытарыяльным развіццём або арэалам рассялення беларускага этнаса, а паводле палітычных рашэнняў. Як бы там ні было, але да сённяшняга дня працягваюць сваё існаванне межы, закладзеныя яшчэ ў пачатку XVI, а можа і ў XV ст. (прыкладна ад Краснаполля да Хоцімска), вызначаныя ў 1522 г. (насупраць Смаленскай вобласці Расіі). Каб набыць свой сучасны выгляд, межы ВКЛ, а разам з ім і Беларусі, зведалі шмат якіх перамен, разгляду якіх і была прысвечана дадзеная праца.

## Дадатак 1.

## Уяўленні пра тэрыторыі і межы Верхняокскіх княстваў у працах даследчыкаў

З'яўленне тэрміна «Вярхоўскія княствы» звязана з адзіным згадваннем маскоўска-літоўскай дамовы пра вечны мір («перемирье вечное») 1449 г. вярхоўскіх князёў («верховъстии князи»)[1]. Безумоўна, у грамаце меліся на ўвазе князі, чые ўладанні размяшчаліся ў вярхоўях р. Акі. Мяркуючы па фармулёўцы граматы, яны знаходзіліся ў залежнасці ад ВКЛ, аднак, відавочна, захоўвалі пэўную самастойнасць, прычым далейшае распаўсюджванне на іх літоўскай ўлады было абмежаваным («А верховъстии князи, што будуть издавна давали в Литву, то имъ и нинечи давати, а болши того не примышляти»[2]). Вярхоўскімі не маглі быць тарускія князі, згаданыя асобна і ў якасці служылых Васілію Цёмнаму, а таксама, відавочна, не маецца на ўвазе і цэлы шэраг іншых верхняокскіх землеўласнікаў, якія служылі каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму Казіміру (Мезецкія, Масальскія і інш.). Статус паўнезалежных валадароў у рэгіёне Верхняй Акі да сярэдзіны XV ст. захавалі толькі князі Навасільскага княства (Адоеўскія, Варатынскія і Бялёўскія)[3]. Такім чынам, абазначэнне вярхоўскіх князёў неабходна суаднесці з прадстаўнікамі Навасільскага княжацкага дому і, адпаведна, пры апоры на крыніцу, варта было б адносіць да ліку Вярхоўскіх толькі само Навасільскае княства і яго ўдзелы.

Выяўляецца пераемнасць «листа перемирья вечного» 1449 г. з «грамотой докончальной» 1494 г., якая падводзіць вынікі літоўска-маскоўскай вайны 1486—1494 гг. Палітычная сітуацыя да канца XV ст., у параўнанні з пачаткам стагоддзя, істотна змянілася, і ў грамаце 1494 г. прасочваюцца сур'ёзныя змены фармуляра 1449 г. Аднак падабенства можна заўважыць. (Гл. табліцу.)

---

1 ДДГ. № 53. С. 162. У арыгінале дакумента (дакладней, копіі, якая захавалася ў складзенай у канцы XVI ст. 5-й кнізе запісаў Метрыкі ВКЛ) пазначана наступнае: «А верховъскии князи, што будуть зъдавна давали у Литву, то им и нинечы давати, а большы того не прымышляти» (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 5. Арк. 304). Пры гэтым першапачаткова, сапраўды, было напісана «верховъстии», але потым літара «т» была выпраўлена на «к». У публікацыі 5-й кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ, якую ажыццявіў Э. Баніёніс, прадстаўлена 2 спісы граматы 1449 г., першы з якіх сам па сабе з'яўляецца копіяй дакумента, якая была зроблена ў 1498 г. (Lietuvos Metrica — Lithuanian Metrica — Литовская Метрика. Vilnius, 1994. Kn. 5. № 78.1. P. 131—133). У ім пакінута форма «верховстии», але зроблены каментар складальніка: «Так в ркп., следует читать верховъские» (Тамсама. P. 133). У другім выпадку прыведзена напісанне «верховъскии» і дадзены наступны каментар: «к испр. из т» (Тамсама. № 136. P. 253). Процiўня (копія) дамовы не захавалася, да нас дайшоў толькі варыянт, складзены ад імя вялікага князя маскоўскага Васілія II Цёмнага. Першыя публікацыі зроблены ў 1836 і 1846 гг. П.А. Муханавым і І.І. Грыгаровічам (Сборник Муханова. М., 1836. (2-е выд. СПб., 1866). № 7. С. 6—9. Т. 1. 1340—1506. № 50. С. 62—65). У абодвух зборніках прынята форма «Верховскіи», «Верховъскіи».

2 ДДГ. № 53. С. 162.

3 Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. СПб., 2004. С. 108; Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в. М., 1995. С. 66.

Табліца 1. Параўнанне тэксту грамат 1449 і 1494 гг.

| Грамата 1449 г. | Грамата 1494 г. |
|---|---|
| А брат мои молодшыи, княз великии Иванъ Федоровичъ Разанскии, со мною, з великимъ кн(я)земъ Василемъ, в любви, а тобе, королю, его не обидити. А в чомъ тобе, брату моему, королю и великому кн(я)зю Казимиру, кн(я)зь великии Иванъ Федоровичъ Разанъскии зъгрубить, и тобе, королю и великому князю, мене обослати о томъ, и мне его въсчунути, и ему ся к тобе справити. А не исправиться к тобе, моему брату, Разанскии, и тобе, королю, Резаньского показнити, а мне ся в него не въступати. А усхочеть ли братъ мои молодшыи, княз великии Иванъ Федоровичъ, служыти тобе, моему брату, королю и великому кн(я)зю, и мне, великому князю Василью, про то на него не гневатьсе, ни мстити ему.<br>А верховъстии князи, што будуть издавна давали в Литву, то имъ и нинечы давати, а болшы того не примышляти.<br>А что ся вчынить межы вашыми людми и нашыми, и волостели нашы, зъехався вчинять тому исправу без перевода, а про то намъ нелюбъя не держати.<br>И о землях, и о водахъ, и о всихъ обидныхъ делехъ на обе стороны ме(жъ) нами суд от того веремяни объчыи, какъ дяди твоего, великого кн(я)зя Витовъта, в жывоте не стало[4]. | А княз велики Иванъ Василевичъ Резанъскии и братъ его, кн(я)зь Федор и зъ своими детми, и з своею землею в моеи стороне у великого кн(я)зя Иванове, а тобе, великому князю Алексанъдру, их не обидети, ни в земли ти их не въступатисе. А в чом тобе, великому князю, кн(я)з великии Иванъ Резанъскии а братъ его кн(я)зь Федор согрубят, и тобе о томъ прислати ко мне, к великому кн(я)зю Ивану, и мне то тобе направити.<br>А которыи кн(я)зи служат тобе, великому кн(я)зю Александру, зъ своих отчынъ, и мне, великому кн(я)зю Ивану, и моимъ детем их блюсти и не обидити. А которыи иметь обидити кн(я)зеи служебныхъ своего брата, и намъ о томъ сослати судеи, они тому вчынять исправу без перевода. А кн(я)зеи нам служебных по та места на обе стороны з оичынами не прыимати.<br>...[о детях Ивана Можайского и Ивана Шемячича, Михаиле Борисовиче Тверском и Василии Михайловиче — изменниках Ивана III]<br>А о землях и о водахъ, и о всихъ обидных делехъ на обе стороне межы насъ суд объчыи вперед от сего нашого доконъчанья[5]. |

Да запісу граматы 1449 г., які датычацца вярхоўскіх князёў, вышэй прымыкае артыкул пра разанскага князя. Артыкул пра двух разанскіх князёў ёсць і ў грамаце 1494 г. Замест артыкула пра вярхоўскіх князёў, у грамаце 1494 г. з'явілася ўстаўка аб урэгуляванні адносін са службовымі князямі. Безумоўна, асноўным зместам новага тэксту была ўмова: «А кн(я)зеи нам служебных по та места на обе стороны з оичынами не прыимати»[6]. Гэта ў нейкай ступені павінна было гарантаваць цэласнасць тэрыторыі дзвюх дзяржаў-суседак нават у выпадку ад'езду (здрады) службовых князёў.

Далей адпаведнасць разгледжаных фрагментаў грамат можна ўбачыць паміж артыкуламі аб урэгуляванні спрэчных пытанняў, якія маглі ўзнікнуць паміж дзвюма дзяржавамі. Толькі ў першай грамаце «обидные дела» павінны былі вырашацца судом па ўмовах, прынятых ад часу смерці Вітаўта (1430 г.), другая ж грамата зацвярджала будучы разгляд спрэчных пытанняў па ўмовах, зафіксаваных у самой дамове.

Такім чынам, складальнік граматы 1494 г. не палічыў патрэбным унесці запіс аб вярхоўскіх князях. Замест гэтага ў іншым месцы граматы з'явіўся артыкул аб князях Навасільскага дома, якія, відавочна, у дамове 1449 г. хаваліся за назвай «верховстии» («А кн(я)зи новоселскиі, одоевскиі, и воротынскиі, и перемышлскиі, и белевскиі вси твои, великого кн(я)зя Івана, и твоих детеи, и з своими отчизнами, к вашему великому княжству»)[7]. Магчыма, што ўдакладненне і канкрэтызацыя абазначэння князёў, якія ў папярэдняй грамаце былі названы абагульнена, было звязана з неабходнасцю дакладнага фіксавання новых умоў міждзяржаўных адносін пры падвядзенні вынікаў вайны. Ваеннымі дзеяннямі была закранута тэрыторыя ўсяго Верхняокскага рэгіёна, і да Вялікага Княства Маскоўскага былі далучаны землі не толькі залежнага ад ВКЛ Навасільскага княства, але і частка непасрэдных літоўскіх уладанняў, якія належалі мезецкім князям або тых, што кіраваліся намеснікамі (Казельск, Серанск). Відавочна, менавіта па гэтай прычыне тэрмін «верховстии князи» патрабаваў канкрэтызацыі. Можна выказаць здагадку, што літоўскі бок пры

4 LM. Kn. 5. № 78.1. C. 133.

5 Тамсама. № 78.2. C. 135—136.

6 ДДГ. № 83. С. 331.

7 Тамсама. С. 330. Гл. таксама: LM. Kn. 5. № 78.2. C. 135.

складанні граматы імкнуўся пазбегнуць магчымых прэтэнзій маскоўскага боку на ўсіх князёў вярхоўяў Акі. Гэта значыць, існавала верагоднасць таго, што вярхоўскімі малі быць аб'яўлены ўсе князі Верхняокскага рэгіёна, а калі першыя былі запісаны да Вялікага Княства Маскоўскага, то і ўсе астатнія павінны былі лічыцца маскоўскімі падданымі.

Такім чынам, ад тэрміна «верховстии князи» ў канцы XV ст. літоўскі і маскоўскі дамованыя бакі былі вымушаны адмовіцца. Але разам з тым у даследчыкаў ёсць ускосная прычына распаўсюдзіць найменні «вярхоўскія князі — Вярхоўскія княствы» на большую колькасць князёў і больш шырокую тэрыторыю вярхоўяў Акі.

На прыметнік «вярхоўскія» звярнуў увагу М.К. Любаўскі. Перанёсшы яго ад князёў да княстваў, ён выкарыстаў новы тэрмін для абазначэння рэгіёна Верхняй Акі, у якім князі, якія валодалі ўдзеламі, былі аб'яднаны сваім паходжаннем ад князя Сямёна Міхайлавіча Глухаўскага і Навасільскага[8]. Геаграфічныя межы Вярхоўскіх (часцей за ўсё ўжывалася форма «Верхняокскіх») княстваў, такім чынам, сапраўды адпавядалі разуменню складальніка граматы 1449 г. і ўключалі ў свой склад тэрыторыю Навасільскага княства, якое пазней распалася на ўдзелы і якое з'яўлялася аб'ектам дамаганняў Вялікіх Княстваў Літоўскага і Маскоўскага. Тэрмін «Вярхоўскія княствы» быў абгрунтаваны як адзінствам паходжання мясцовых валадароў, так і цэласнасцю, кампактнасцю фіксаванай тэрыторыі вакол вярхоўяў р. Акі. Зрэшты, менавіта ў форме «Вярхоўскія княствы» абазначэнне тэрытарыяльных фарміраванняў у вярхоўях Акі ў М.К. Любаўскага сустракаецца рэдка[9]. Як правіла, ім выкарыстоўваўся тэрмін Верхняокскія княствы.

Разам з тым той жа М. К. Любаўскі ў дачыненні да тэрытарыяльных фарміраванняў у вярхоўях Акі ўжываў і іншае азначэнне: Верхняокскі край[10]. Акрамя таго, у працах гісторыка часта сустракаецца назва «Верхняокская ўкраіна (украйна)», якое чаргуецца і, відавочна, з'ўляецца тоесным з «Верхняокскім краем»[11]. Пад Верхняокскай украінай разумелася тэрыторыя не толькі Навасільскага княства, але і іншых княстваў у вярхоўях р. Акі (Тарускага, Карачаўскага з удзеламі), а таксама непасрэдных уладанняў вялікага князя літоўскага — Мцэнскага і Любуцкага намесніцтва, уладанняў маскоўскага гасудара — Алексіна ды інш.[12].

Тэрмін «украйна» таксама абгрунтаваны крыніцамі — ужо выкарыстанымі граматамі 1449 і 1494 гг., у якіх Мцэнск, Любуцк, Сярпейск, Лучын, Апакаў і многія іншыя пункты з прыналежнымі да іх тэрыторыямі названы «Вкраиными (Украиными) местами»[13]. Праўда, да гэтых «мест» адносілі і Бранск, і некаторыя смаленскія

---

8 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 47. Тэрмін «вярхоўскія» князі ўжываўся М.К. Любаўскім як сінонім «верхняокскіх», у адным месцы ў двукоссі нават тлумачыцца: «верховским (т.е. верхнеокским) князьям» (Тамсама. С. 49).

9 Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 107; Ён жа. Обзор истории русской колонизации. М., 1996. С. 181.

10 Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 61, 63.

11 Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. Л., 1929. С. 121—122, 124; Ён жа. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 50.

12 Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 120—121; Ён жа. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 50.

13 ДДГ. № 53. С. 160, № 83. С. 330, 332.

зямлі, і тэрмін гэты характарызуе хутчэй стан занядбанасці або неасвоенасці тэрыторый, іх становішча ў аддаленні ад густанаселеных і адносна бяспечных раёнаў, чым адміністрацыйную ці іншую сувязь.

Характэрна пастаяннае выкарыстанне М.К. Любаўскім назваў Верхнянокскі край (Верхняокская ўкрайна) у дачыненні да канца XIV—XV стст. — часу суперніцтва і пачарговага панавання ў рэгіёне Верхняй Акі літоўскай і маскоўскай улады. Лагічна было б называць Вярхоўскімі княствамі фарміраванні другой паловы XIII—XIV ст. — княствы Навасільскае, Тарускае і Карачаўскае, аб'яднаныя адзінствам паходжання ад князя Міхаіла Усеваладавіча Чарнігаўскага. Такім чынам, тэрміны Вярхоўскія княствы — Верхняокскі край (украйна) можна было б падзяліць у залежнасці ад часу, да якога яны ўжыты, але, у той жа час, адзначыць іх пэўную тоеснасць (па ахопу тэрыторыі). Аднак М.К. Любаўскі не выпрацаваў устойлівай тэрміналогіі адносна рэгіёна вярхоўяў Акі і ў сваіх працах часам выкарыстоўваў тое ці іншае абазначэнне, абвяргаючы ўласнае ж іх абгрунтаванне (напрыклад, пастаянна называў «вярхоўскімі» далёка не толькі князёў Навасільскіх або паказаў на далучэнне да Масквы Вярхоўскіх княстваў у пачатку XVI ст.[14], гэта значыць тады, калі Навасільскае княства ўжо знаходзілася ў ліку маскоўскіх уладанняў [паводле дамовы 1494 г.]).

Такім чынам, абапіраючыся на даследаванні М.К. Любаўскага, але, тым не менш, трохі іх карэкціруючы, для рэгіёна верхняй Акі ў перыяд позняга сярэднявечча могуць быць прыняты наступныя найменні. 1) Вярхоўскія (як сінонім — Верхняокскія) княствы другой паловы XIII — канца XIV ст., у перыяд іх адносна незалежнага існавання (маюцца на ўвазе Карачаўскае, Навасільскае і Тарускае княствы з іх удзеламі); 2) Верхняокскі край (украйна) канца XIV — пачатку XVI ст., у перыяд размеркавання ўлады і зон уплыву ў рэгіёне паміж Вялікімі Княствамі Літоўскім і Маскоўскім. Другі тэрмін умоўна аб'ядноўвае тэрыторыю ў большасці былых (за выключэннем Навасільскага) княстваў вярхоўяў Акі, якія ў пазначаны перыяд з'ўляліся рознымі па ступені залежнасці ўладання Масквы і Вільні. Акрамя таго, можна выкарыстоўваць нейтральнае паняцце Верхняокскі рэгіён (рэгіён верхняй Акі) у якасці альтэрнатывы названых найменняў з мэтай абазначэння агульнага геаграфічнага размяшчэння ўказаных тэрытарыяльных фарміраванняў.

Да абгрунтавання М.К. Любаўскім тэрытарыяльнага адзінства, цэласнасці рэгіёна Верхняй Акі, вывучэнне тэрыторыі і меж Верхняокскіх княстваў практычна не ажыццяўлялася. Нават згадка падзей, звязаных з іх палітычнай гісторыяй насіла фрагментарны характар[15].

М.К. Любаўскі ў сваім даследаванні, якое было прысвечана абласному падзелу і мясцоваму кіраванню Літоўска-Рускай дзяржавы да часу выдання першага літоўскага статута, пачаў апісанне Верхняокскага рэгіёна з Навасільскага княства і яго ўдзелаў. Менавіта гэтыя тэрытарыяльныя фарміраванні былі названы ім «верхняокскімі княствамі»[16]. Толькі пазней паступова ў склад уладанняў князёў Вярхоўскіх або Верхняокскай украйны гістарычна ўвайшлі Перамышль, Казельск, Мцэнск, Любуцк, Карачаўскае княства і, магчыма, воласці мезецкіх князёў[17].

---

[14] «Черниговская земля “верховскими” княжествами по договору 1503 г. отошла к Москве» (Любавский М.К. Очерк истории русской колонизации. С. 181).

[15] Гл. гістарыяграфічны агляд у кнізе А.У. Шэкава (Шеков А.В. Верховские княжества. С. 9—10).

[16] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 49.

[17] Пад фразай М.К. Любаўскага «...все владения Мезецких князей ... в этом крае» маецца на ўвазе, відавочна, Верхняокскі край (Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 56). У

Такім чынам, вызначыўся спіс верхняокскіх гарадоў: Навасіль, Бялёў, Адоеў і Варатынск (Навасільскага княства), Мцэнск і Любуцк (намесніцтваў ВКЛ, апошні спачатку належаў разанскім князям), Карачаў, Масальск, Казельск, Перамышль (Карачаўскага княства, ліквідаванага Вітаўтам), Мезецк (Карачаўскага княства, выдзелены Вітаўтам тарускім князям)[18]. Ні Глухаў, ні Звянігарад — гарады, назвы якіх прысутнічалі ў тытулатуры верхняокскіх князёў — М.К. Любаўскі не згадаў. Адпаведна, не ставіліся праблемы страты вярхоўскімі князямі Глухава і лакалізацыі Звянігарада. Таксама адсутнічалі ў спісе гарады Таруса (і само Тарускае княства), Абаленск, Алексін, Калуга ды інш., якія з'яўляліся часткай уладанняў верхняокскіх князёў, але да моманту распаўсюджвання ў рэгіёне літоўскай улады, якія ўжо былі часткай маскоўскіх зямель. Апошні факт, відавочна, і з'яўляецца прычынай таго, што М.К. Любаўскі не ўпамінаў пра іх, калі пісаў пра тэрытарыяльны склад Вялікага Княства Літоўскага.

М.К. Любаўскі звярнуўся да гісторыі ўладальніцкай прыналежнасці некаторых гарадоў і прыйшоў да вельмі цікавых высноў (якія чамусьці не былі заўважаны пазнейшымі даследчыкамі). Так, напрыклад, заявіўшы пра Мцэнск і Любуцк, што «калі і ад каго набыты былі гэтыя гарады, у дакладнасці невядома»[19], гісторык, тым не менш, зрабіў дапушчэнне, што Любуцк належаў раней разанскім князям, а крыху далей прывёў абгрунтаванне таго, што Мцэнск належаў Карачаўскаму княству. З гэтай мэтай была выкарыстана згадка пра князёў Хацэтаўскіх (паходжаннем карачаўскіх), якія з'яўляліся мцэнскімі баярамі, і выведзена дата далучэння Карачава з Мцэнскам да ВКЛ (1406—1408 гг.)[20]. Паказальна, што азначаную дацыроўку падхапілі далейшыя даследчыкі, а факт пра Хацэтаўскіх, мцэнскіх баяр, паўсюдна замоўчвалі.

Паказ гісторыі ўладальніцкай прыналежнасці гарадоў і некаторых мясцовасцей паступова раскрывае працэс замацавання «панавання і ўплыву» (фармулёўка М.К. Любаўскага) вялікага князя літоўскага ў Верхняокскіх княствах. Страта маскоўскага ўплыву ў рэгіёне была растлумачана М.К. Любаўскім «унутранымі замяшаннямі» часоў Васілія Цёмнага. Распаўсюджанне ж на тэрыторыю вярхоўяў Акі ўлады вялікага князя Івана III, ад'езд у Маскву мясцовых князёў, захоп і далучэнне іх уладанняў абвешчана вяртаннем страчанага ўплыву[21].

Тэрытарыяльнае развіццё Навасільскага княства было паказана М.К. Любаўскім даволі неканкрэтна. Па сутнасці, былі толькі названы «цэнтры» навасільскіх удзелаў (Навасіль, Бялёў, Адоеў і Варатынск), прыведзены сюжэт пра перанос рэзідэнцыі навасільскага князя з Навасілля ў Адоеў і падрабязна ахарактарызавана ступень залежнасці навасільскіх князёў ад вялікага князя літоўскага[22]. Межы ці хаця б абсягі Навасільскага княства і яго ўдзелаў, нават прыкладная працягласць тэрыторыі, унутраны валасны склад не былі пазначаны.

---

«Очерке истории Литовско-Русского государства» М.К. Любаўскі далучае да Верхняокскага края Любуцк і Мцэнск, называе ў ім валадароў самастойных рускіх княстваў князёў Навасільскіх, Перамышльскага, Варатынскага, Адоеўскага і інш. У іншым месцы той жа працы дае спіс Вярхоўскіх княстваў: Навасільскае, Адоеўскае, Варатынскае, Бялёўскае і інш. (Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 63, 107).

18 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 47—56.

19 Тамсама. С. 51—52.

20 Тамсама. С. 52—53.

21 Тамсама. С. 50.

22 Тамсама. С. 47, 49—50.

Іншым быў падыход да тэрыторыі Карачаўскага княства. Перш за ўсё М.К. Любаўскі вызначыў яе агульную працягласць («у вобласці паміж верхняй Акой, Дзясной і Угрой»); затым апісаў працэс распада княства на ўдзелы (вылучыліся спачатку два ўдзелы: уласна Карачаўскі і Казельскі; ад першага пасля аддзяліўся Масальск, а ад другога — Перамышль і Ялец); абгрунтаваў час пераходу Карачава ў непасрэднае ўладанне вялікага князя літоўскага[23]. Гісторыкам былі акрэслены ўладанні мясцовых князёў, якія апынуліся пад уладай ВКЛ адразу пасля ліквідацыі Карачаўскага княства (князі Хацэтаўскія і Масальскія) і расказана гісторыя Казельскага княства, чые князі трапілі ў залежнасць ад Разані і Масквы, а сталіца часова перайшла пад уладу вялікага князя маскоўскага[24]. Даволі шмат увагі нададзена таксама і казельскаму ўдзельнаму цэнтру Перамышлю. Праўда, М.К. Любаўскі неаднаразова блытаў Перамышль на Ацэ з Перамышлем на р. Пахры. Апошні знаходзіўся далёка ў глыбіні маскоўскіх уладанняў[25]. Асабліва падрабязна апісаны зямельныя набыткі мезецкіх князёў (з роду Тарускіх), якія былі атрыманы імі са складу Карачаўскага княства (канкрэтна — Казельскага і Перамышльскага ўдзелаў). Тут мы сустракаем не толькі падрабязны пералік валасцей, у розны час выслужаных мезецкімі князямі, але і спробы лакалізацыі валасных цэнтраў па метаду лінгвістычнай адпаведнасці з сучаснымі М.К. Любаўскаму населенымі пунктамі[26].

Пры апісанні абласнога дзялення і мясцовага кіравання рэгіёна вярхоўяў Акі як складовай часткі ВКЛ (у другой палове XV ст.) М.К. Любаўскі ўжыў іншую схему. Адразу пасля далучэння Вяземскага, Смаленскага княстваў, зацвярджэння ўлады вялікага князя літоўскага над Вярхоўскімі княствамі была створана спецыяльная сістэма кіравання шэрагу перыферыйных княстваў і ўладанняў, на чале якой стаяў смаленскі намеснік. Па назіранні М.К. Любаўскага, створаны Смаленскі павет з усходняга боку быў акружаны «поясам княстваў і ўладанняў, якія аддаваліся ў судова-адміністрацыйным стаўленні намеснікам, прычым усе гэтыя княствы і ўладанні ў Смаленску мелі свой ваенна-палітычны цэнтр»[27]. Такім чынам, Верхняокскі край трапіў у адміністрацыйнае падпарадкаванне Смаленска, а цэнтры княжацкіх уладанняў і намесніцтваў на яго тэрыторыі лічыліся смаленскімі прыгарадамі. Зыходзячы з рэальна існаваўшага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, М.К. Любаўскі прывёў падрабязны пералік смаленскіх прыгарадаў і валасцей, вылучыў цэнтры намесніцтваў, апісаў вотчыны мясцовых князёў. У дадзеным выпадку сама назва Верхнеяокскі край гісторыкам не прымянялася. Нават прыблізна аддзяліць нейкія тэрыторыі ў бок Верхняокскага краю па прынятай схеме апісання вельмі цяжка. М.К. Любаўскі паступова прыцягваў крыніцы, з якіх выбіраў гарады, воласці, вёскі, якія лічыліся смаленскімі. Тым самым агульная карціна Смаленскай зямлі выглядала вельмі хаатычна без дакладнай сістэматызацыі і ўпарадкаванага пераходу ад адной тэрыторыі, населенага пункта да суседняга. Тым не менш для Верхняокскага рэгіёна можна вызначыць месцазнаходжанне многіх валасцей і вёсак, скласці ўяўленне аб сістэме землеўладання Вярхоўскіх князёў (напрыклад, князёў Варатынскіх), што, безумоўна, карысна для далейшага даследавання.

---

23 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 52—53.

24 Тамсама. С. 53—54.

25 Блытаніна з Перамышлямі была звычайнай для шмат якіх дарэвалюцыйных расійскіх даследаванняў. Гл., напрыклад: Симсон П.Ф. История Серпухова в связи с Серпуховским княжеством и вообще с отечественною историею. М., 1880. С. 7—8; Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей… С. 153.

26 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 55—56.

27 Тамсама. С. 286—287.

Своеасаблівым вынікам разгляду абласнога дзялення ВКЛ можа служыць «Палітычная карта Літоўска-Рускай дзяржавы канца XV і пачатку XVI ст.», якая з'яўляецца дадаткам да працы М.К. Любаўскага. На карце прыведзена мяжа абласцей і частак абласцей, якія адышлі да Масквы. У ёй можна ўбачыць усходні і паўднёва-ўсходні адрэзкі Верхняокскага краю. Таксама на карце пазначаны многія гарады, цэнтры валасцей, сёлы ў раёне вярхоўяў р. Акі.

Да разгледжанай з боку Вялікага Княства Літоўскага часткі Верхняокскага краю неабходна дадаць тыя землі, якія да пачатку XV ст. увайшлі ў склад Вялікага Княства Маскоўскага. Яшчэ адно даследаванне М.К. Любаўскага, прысвечанае ўтварэнню асноўнай дзяржаўнай тэрыторыі вялікарускай народнасці, запаўняе дадзены прабел.

Па словах М.К. Любаўскага, у Верхняокскай украйне з часоў Дзмітрыя Данскога і Васілія І Дзмітрыевіча Масква валодала Тарускім княствам, гарадамі Любуцкам на Ацэ і Казельскам. Таксама Навасільскія князі былі «с великим Московским князем за один человек»[28]. Аднак усе ўладанні ў Верхняокскім краі (за выключэннем Тарусы) у 30—40-я гг. XV ст. Масквой былі страчаны. Пераманьванне вярхоўскіх князёў на маскоўскую службу і прамы захоп тэрыторый ВКЛ, якія адбываліся пры Іване III, тлумачыліся імкненнем абараніць Верхняокскую ўкрайну ад пастаянных нападаў суседзяў (татар і выхадцаў з ВКЛ)[29]. Такія напады, напрыклад, увесь час непакоілі верхняокскі горад Алексін[30]. У сувязі з апісаннем маскоўска-літоўскіх ваенных дзеянняў канца XV — пачатку XVI ст. паняццем Верхняокская (ці проста Окская) украйна М.К. Любаўскі ахапіў уладанні многіх князёў вярхоўяў Акі, а пасля пералічыў (не падзяляючы) спісы гарадоў, валасцей і сёл рэгіёна верхняй Акі з прытокамі, ракі Дзясны з прытокамі, ніжняга Сожа і верхняга Дняпра з перамірнай граматы 1503 г.[31]. На жаль, спроб лакалізацыі пералічаных валасцей і сёл у разгляданай працы зроблена не было.

Такое было ўяўленне М.К. Любаўскага пра тэрыторыю Верхняокскага краю. Як бачым, гісторык прыйшоў да ўсведамлення вызначанага адзінства некаторай часткі зямель Верхняй Акі, сфармуляваў у адносінах да іх шэраг тэрмінаў, аднак усё ж не абгрунтаваў тэрытарыяльны склад, не даў канкрэтнага апісання тэрыторыі і меж Вярхоўскіх (Верхняокскіх) княстваў або Верхняокскага краю (украйны). Верагодныя прычыны гэтага — недахоп інфармацыі крыніц, якія былі выкарыстаны М.К. Любаўскім, а таксама абмежаванасць методыкі вывучэння тэрыторыі дзяржаўных утварэнняў вярхоўяў Акі. Ужыванне, напрыклад, метаду рэтраспекцыі, дазволіла б прыцягнуць больш шырокае кола крыніц. Дадзеныя археалогіі (відавочна, яшчэ не даступныя М.К. Любаўскаму), матэрыялы Генеральнага межавання канца XVIII ст., іншыя крыніцы дапамаглі б ажыццявіць больш дэталёвае вывучэнне мясцовасці, якая даследавалася.

Апанент М.К. Любаўскага, які зрэшты шмат у чым рухаўся за сваім калегам, Ф.І. Леантовіч выказаў свой погляд на гісторыю Верхняокскага рэгіёна. Па меркаванні даследчыка, «на паўночна-ўсходняй ускраіне Севершчыны, у зямлі старажытных вяцічаў, па вярхоўях Акі з яе прытокамі, размяшчаліся старадаўнія ўдзелы рускіх князёў Чарнігаўскага дому, пад імем *князёў вярхоўскіх* [курсіў аўтара. — *В.Ц.*], якія валодалі сваімі радавымі вотчынамі на працягу ўсёй літоўскай

---

[28] Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 121.

[29] Тамсама. С. 122, 124.

[30] Тамсама. С. 122.

[31] Тамсама. С. 123—126.

эпохі, аж да далучэння Севершчыны да Маскоўскай дзяржавы»[32]. Па суседстве з Браншчынай Ф.І. Леантовіч вылучыў некалькі груп валасцей, якія былі звязаны паміж сабой сваяцтвам мясцовых ліній вярхоўскіх князёў. З іх найбольш значнай была група валасцей-удзелаў, якая належала нашчадкам князя Сямёна Міхайлавіча Глухаўскага і Навасільскага і ўключала гарады Навасіль, Бялёў, Адоеў і Варатынск. Да другой групы былі аднесены ўладанні нашчадкаў князя Мсціслава Міхайлавіча Карачаўскага з удзеламі Карачаўскім, Кромскім, Казельскім, Масальскім, Перамышльскім, Ялецкім і Хацэтаўскім. Нарэшце, у трэцяй групе былі прадстаўлены нашчадкі князя Юрыя Міхайлавіча Тарускага князі Мезецкія і Гаўдырэўскія, якія валодалі, па меркаванні даследчыка, землямі ў басейне р. Жыздры, па суседстве з казельскімі і перамышльскімі валасцямі[33].

Разглядаючы працэс распаўсюджвання ўлады ВКЛ у Верхняокскім рэгіёне, Ф.І. Леантовіч ішоў за М.К. Любаўскім, але пры гэтым прыводзіў уласныя назіранні, напрыклад, аб з'яўленні гаспадарскіх гарадоў, якія знаходзіліся ў непасрэдным распараджэнні вялікіх князёў літоўскіх. Так, Мцэнск і Любуцк, па меркаванні Ф.І. Леантовіча, належалі раней да Карачаўскага княства, але ўжо ў першай палове XV ст. кіраваліся вялікакняжацкімі намеснікамі[34].

Характэрна, што з «вярхоўскімі» Ф.І. Леантовіч звязваў выключна ўладанні тых князёў, якія трапілі ў той ці іншы час пад уладу ВКЛ, але потым і ў той жа час служылі «на абодва бакі» Маскве і Літве. Нават называючы вярхоўскімі нашчадкаў князя Юрыя Тарускага, гісторык не згадвае гарады Тарусу і Абаленск у складзе іх удзелаў. З тарускіх пазначаны толькі Мезецкія і Гаўдырэўскія князі, якія, дарэчы, валодалі валасцямі не толькі ў басейне р. Жыздры і наогул атрымалі іх толькі пасля ад'езду на службу да Вітаўта са складу ліквідаванага Карачаўскага княства. Памылковым з'яўляецца ўяўленне Ф.І. Леантовіча аб прыналежнасці верхняокскіх зямель да такога гісторыка-геаграфічнага рэгіёна, як Севершчына («верхняокская Севершчына», «вярхоўскія вобласці Севершчыны»)[35]. Бяздоказнае і аднясенне Мцэнска і Любуцка да першапачатковай тэрыторыі Карачаўскага княства.

Наступны этап у вывучэнні тэрытарыяльных фарміраванняў у вярхоўях Акі неабходна звязаць з імем С.М. Кучыньскага, які ў 1936 г. апублікаваў даследаванне «Чарнігаўска-Северскія землі пад кіраваннем Літвы»[36]. Верхняокскі рэгіён яшчэ не стаў тэмай асобнага даследавання, аднак гісторык пазначыў асаблівую чарнігаўскую ўскраіну — Вярхоўскія княствы[37], чыёй тэрыторыі і межам надаў дастаткова шмат увагі.

Першая частка вялікай працы даследчыка была прысвечана гістарычнай геаграфіі чарнігава-северскіх зямель. Перш за ўсё абгрунтоўвалася сама назва вялікага рэгіёна для XIV і наступных стагоддзяў, які для таго часу не меў асноўнага цэнтра. З апорай на пісьмовыя крыніцы XIV—XVII стст. была прынята найбольш зручная, з пункта гледжання даследчыка, гісторыка-геаграфічная назва: Чарнігаўшчына або Севершчына, а таксама абагульненая — Чарнігаўска-Северскія

32 Леонтович Ф.И. Очерки истории литовско-русского права // Журнал Министерства народного просвещения. Ч. 290. Декабрь. СПб., 1893. С. 282.

33 Тамсама. С. 282—283.

34 Тамсама. С. 284.

35 Тамсама. С. 289, 290.

36 Kuczyński S. M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy.

37 Тамсама. S. 5.

землі[38]. Вылучэнне асобага рэгіёна мела і дзяржаўна-дынастычныя прычыны. Справа ў тым, што на разгляданай тэрыторыі кіравалі чарнігава-северскія князі з дынастыі Вольгавічаў. Літоўскія Гедымінавічы з'яўляліся толькі іх пераемнікамі. У пэўным сэнсе чарнігаўскімі княствамі, на думку С.М. Кучыньскага былі і надзелы т.зв. вярхоўскіх князёў. Гэтыя князі вялі паходжанне ад князя Алега Святаславіча — родапачынальніка ўсіх чарнігава-северскіх князёў, а дакладней ад Міхаіла Усеваладавіча Чарнігаўскага, прапраўнука Алега[39]. Да ліку вярхоўскіх князёў былі аднесены: Навасільскія (Адоеўскія, Бялёўскія, Варатынскія), Карачаўскія (Масальскія, Ялецкія, Казельскія, Звянігародскія), Тарускія, Мезецкія, Барацкія, Абаленскія і неназваныя іншыя[40].

Такім чынам, С.М. Кучыньскі па сутнасіці прыйшоў да высновы аб існаванні асобнага рэгіёна (які называўся таксама «Wierchowszczyzna»), які быў аб'яднаны адзіным паходжаннем мясцовых князёў і ўваходзіў у склад больш значнага тэрытарыяльнага фарміравання — Чарнігаўска-Северскай зямлі (быў адной з трох яе частак[41]). І калі астатнія чарнігава-северскія землі, якія апынуліся ў складзе ВКЛ, узначальваліся прадстаўнікамі Гедымінавічаў або раздаваліся па жаданні вялікага князя літоўскага, то на тэрыторыі, блізкай да маскоўскіх меж, заставаліся ўладанні мясцовых (вярхоўскіх) князёў, якія з'яўляліся літоўскімі леннікамі[42].

Пры разглядзе знешніх чарнігава-северскіх меж, С.М. Кучыньскі акрэсліў і паўночна-ўсходні і ўсходні адрэзкі верхняокскіх зямель. Паводле яго слоў, «уладанні Вярхоўскіх княстваў на поўначы пераходзілі за Угру і Аку, маючы памежнымі пунктамі ў другой палове XIV ст. Масальск, Варатынск, Любуцк, Тарусу (якая, патрапіўшы пад маскоўскае панаванне, такім чынам аддзялілася ад групы іншых княстваў). Мяжа гэтая ўтрымалася без вялікіх змен да часу адпадзення чарнігава-северскіх зямель ад Літвы»[43]. Наадварот, усходняя мяжа зведала значныя змены. З-за татарскіх набегаў і аслаблення Чарнігава яна адсунулася на захад да вытокаў Данца, Псёла, Сейма і Аскола, ішла з поўдня на поўнач праз вытокі Зушы і Плавы (правыя прытокі Акі) і завяршалася каля Любуцка і Акі[44]. У часы ж Вітаўта ўсходняя чарнігава-северская мяжа вярнулася амаль да ранейшых сваіх абрысаў. Абапіраючыся на Спіс гарадоў Свідрыгайлы і літоўска-разанскую дамову 1427 г., С.М. Кучыньскі лакалізаваў большасць згаданых у абодвух дакументах населеных пунктаў і па-свойму правёў участак чарнігава-северскай мяжы, палемізуючы пры гэтым з Я. Натансанам-Лескім і Ф. Пятрунем. Два апошнія даследчыкі напісалі спецыяльныя працы, прысвечаныя ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага[45]. Кола крыніц, якія былі выкарыстаны С.М. Кучыньскім, у параўнанні з папярэднікамі, не змянілася, аднак гісторык здолеў больш дакладна інтэрпрэтаваць абмежаваны набор звестак, што дазволіла не ўмоўна, а даволі дакладна пазначыць лінію мяжы ВКЛ 1-й трэці XV ст. Звяртаючыся да разгляду асобных уладанняў («włości»), С.М. Кучыньскі перш за ўсё пазначыў агульнае геаграфічнае

38 Kuczyński S. M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 31, 36.

39 Тамсама. S. 37.

40 Тамсама. Przyp. 32.

41 Тамсама. S. 44, 60—61.

42 Тамсама. S. 44.

43 Тамсама. S. 42.

44 Тамсама.

45 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej; Петрунь Ф. Східна межа Великого Князівства Литовського в 30-х рр. XV ст.

месцазнаходжанне Вярхоўскіх княстваў: над рэкамі Угрой і Акой на поўнач і ўсход ад валасцей Бранскай, Трубяцкой і Курскай[46]. Княствы дзяліліся на тры вялікія комплексы: навасільскі, карачаўскі і мезецка-тарускі. У XIV і пачатку XV ст. Вярхоўскія княствы так і называліся па імёнах сваіх князёў, але ўжо ў першай палове XV ст., па словах С.М. Кучыньскага, з'явілася агульная назва князёў — «вярхоўскія»[47]. Такім чынам, паведамленне граматы 1449 г. было няправільна растлумачана гісторыкам, які палічыў «вярхоўскімі» не толькі Навасільскіх князёў.

Далей даволі падрабязна, з апорай на пісьмовыя крыніцы і разам з крытыкай папярэдніх даследаванняў, С.М. Кучыньскі рэканструяваў тэрыторыі і межы трох Вярхоўскіх княстваў (Навасільскага, Карачаўскага і Мезецка-Тарускага). Пры апісанні Навасільскага княства была зроблена выснова пра існаванне рэшты былых чарнігаўскіх зямель (воласць Забярэга) у асяроддзі маскоўскіх уладанняў на поўнач ад р. Угры і Акі. Але, у той жа час, адмаўлялася паўсюднае распаўсюджванне адарванасці часткі ўладанняў княстваў ад асноўнага масіву іх зямель. Так, С.М. Кучыньскі выразна аддзяліў старажытныя навасільскія ўладанні ад тых, якія былі атрыманы Варатынскімі князямі ад вялікага князя літоўскага пасля 1455 г., верагодна, у карачаўскіх землях: «Яны не былі дзядзінай навасільскай, а толькі наданнем»[48].

Карачаўскае княства, па назіранні С.М. Кучыньскага, займала вельмі шырокую прастору. «На поўначы яно межавала са Смаленшчынай (Масальск) і Маскоўшчынай (Звянігарад), на ўсходзе з Навасільшчынай (Карачаў, Казельск) і разанска-пронскімі ўладаннямі (Ялец), на поўдні з літоўскай Севершчынай і на захадзе з Севершчынай і смаленскімі землямі»[49]. Важна наступнае апісанне ўсходняй мяжы княства, якая, на думку С.М. Кучыньскага, ішла ад вытокаў р. Акі на поўнач і месцамі саступала часткі правабярэжжа гэтай ракі (у раёне Бялёва, за Перамышлем) Навасільскаму княству, а затым рэзка паварочвала на паўднёвы захад, каб пакінуць значную частку зямель Мезецку і вярталася на поўнач, ужо да ракі Угры, прытоку Акі, дзе сустракалася са смаленскімі ўладаннямі[50]. З магчымай нязначнай розніцай апісаная мяжа існавала з XIII ст.

Заўважым, што гісторык не адносіў уладанні мезецкіх князёў да першапачатковай тэрыторыі Карачава, не прымаў пад увагу здагадкі М.К. Любаўскага (напрыклад, аб прыналежнасці Мцэнска да Карачава) і, ігнаруючы звесткі крыніц, не прылічваў да ўладанняў вярхоўскіх князёў у XIV—XV стст. частку левабярэжжа р. Угры.

Карачаўскаму княству, несумненна, належалі Ялец і Звянігарад. Абодва гарады, на думку С.М. Кучыньскага, ляжалі ў баку ад асноўнай тэрыторыі княства. І калі першы цвёрда атаясамліваецца з Яльцом на р. Хуткай Сасне, то другім, абапіраючыся на меркаванне іншых даследчыкаў, быў названы Звянігарад на р. Маскве[51]. У якасці доказу праведзена паралель з гарадамі Перамышль і Казельск, якія таксама перайшлі з карачаўскіх зямель у непасрэднае маскоўскае ўладанне. Карачаўскі

46 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 61.

47 Тамсама. S. 61.

48 Тамсама. S. 63.

49 Тамсама.

50 Тамсама. S. 63—64.

51 Тамсама. S. 64. Аб прыналежнасці маскоўскага Звянігарада карачаўскім (чарнігаўскім) князям гл.: Зотов Р.В. О черниговских князьях по Любецкому синодику и о Черниговском княжестве в татарское время. СПб., 1882. С. 132; Беляев И.Д. О географических сведениях в древней России // Записки Императорского Русского Географического Общества. Кн. VI. СПб., 1852. С. 110; Багалей Д.И. История Северской земли до половины XIV столетия. Киев, 1882. С. 306.

Перамышль нібыта запісаў свайму сыну Андрэю маскоўскі князь Іван Каліта. Аднак тут прысутнічае памылка, якая ўжо стала традыцыйнай: Перамышль на Аццэ атаясамліваецца з Перамышлем на р. Пахры. Доўгая гісторыя аб уладальніках Перамышля, выкладзеная С.М. Кучыньскім, на самой справе засноўвалася на непаразуменні. Казельск жа, сапраўды, у першай палове XV ст. фігураваў у складзе маскоўскіх уладанняў[52], праўда, да таго часу Карачаўскага княства ўжо не існавала, а за яго землі вялі барацьбу Масква і Вільня. Доказаў былой прыналежнасці Звянігарада на р. Маскве да Карачава так і не было прадстаўлена. Аднак у далейшым на старонках сваёй кнігі С.М. Кучыньскі разгарнуў цэлае асобнае даследаванне са спробай найбольш праўдападобнага вызначэння месцазнаходжання карачаўскага Звянігарада[53]. Было прапанавана некалькі варыянтаў, але выразнага адказу на пастаўленае пытанне так і не было дадзена. Бадай, найбольш блізкай да сапраўднасці выглядае гіпотэза, паводле якой карачаўскі Звянігарад можна атаясаміць з гарадзішчам каля с. Спаскага на р. Непаладзі, левым прытоку Акі[54], гэта значыць у глыбіні асноўнага масіву Карачаўскага княства.

Больш за ўсё выклікае нараканняў аповяд С.М. Кучыньскага пра тэрыторыі апошняга з Вярхоўскіх княстваў Мезецка-Тарускага (па фармулёўцы самога гісторыка). Падрабязна спыняцца на апісанні меж названага тэрытарыяльнага фарміравання няма сэнсу, тым больш што яно было запазычана ў Р.У. Зотава. Галоўная памылка С.М. Кучыньскага палягала ў тым, што ён змяшаў ранейшыя ўладанні тарускіх князёў і тыя, што атрымала частка тых князёў, якія пасля далучэння Тарусы да Масквы не засталіся на маскоўскай службе, а перайшлі да вялікага князя літоўскага. Аб гэтым, між іншым, пісаў М.К. Любаўскі[55]. Цікава, але пазбаўлена апоры на крыніцы, сцверджанне аб пераходзе ў канцы XIII ст. часткі тарускіх уладанняў (імі абвешчаны Лужа, Каломна, Вярэя, Бораўск, Кашыра, Лапасна) да смаленскіх і разанскіх зямель. Пазней яны сталі маскоўскімі[56]. У выніку як сам пералік валасцей Мезецка-Тарускага княства, так і апісанне яго меж выглядаюць фантастычна.

У канцы нарыса пра тэрыторыі Вярхоўскіх княстваў, С.М. Кучыньскі пазначыў паўднёвую і частку заходняй іх мяжы. З прычыны таго што Мезецка-Тарускае княства на поўначы ўкліньвалася ў Навасільскае і Карачаўскае княствы, названыя межы мелі дачыненне толькі да двух апошніх. Праведзены яны ўмоўна, але база крыніц не дазволіла зрабіць гэта больш дакладна. Такім чынам, ад стэпу каля вытокаў рэк Аскола і Хуткая Сасна мяжа пераходзіла да вярхоўя Акі, па апошняй ішла ўверх па цячэнні, адрывалася ад ракі ў раёне Кром і рухалася на ўсход, адкуль

52 ДДГ. № 17. С. 47; Т. 15. Стб. 472. А.А. Горскі, абапіраючыся на зручную для яго даціроўку духоўнай граматы князя Уладзіміра Андрэевіча Храбрага 1404-м годам, сцвярджае пра вельмі кароткі час уладання Масквой Казельскам (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII—XV в. вне Северо-Восточной Руси // Средневековая Русь. Вып. 5. М., 2004. С. 150—152). Аднак аналіз духоўных грамат і дамоў маскоўскіх вялікіх і ўдзельных князёў паказвае, што ўжо паміж 1423—1425 гг. Казельск зноў стаў маскоўскім, якім і з'яўляўся да 1448 г., і з XIV ст. да 1406 г. ён таксама належаў Маскве (Фетищев С.А. Московская Русь после Дмитрия Донского: 1389—1395 гг. М., 2003. С. 122—125).

53 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 178—179.

54 Неделин В.М. Орел изначальный XVI—XVIII вв. История. Архитектура. Жизнь и быт. Орел, 2001.

55 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 55—56.

56 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 67.

выходзіла на паўночны захад па лініі паміж Карачавам і Бранскам і завяршалася ў раёне р. Дзясны каля смаленскіх уладанняў[57].

Пры разглядзе палітычнай гісторыі Чарнігаўска-Северскіх зямель С.М. Кучыньскі яшчэ не аднойчы звяртаў увагу на тэрыторыю Вярхоўскіх княстваў. Так, у асобных раздзелах кнігі, прысвечаных навасільскім, карачаўскім і мезецка-тарускім князям была акрэслена структура ўдзелаў Вярхоўскіх княстваў, узноўлена генеалогія вярхоўскіх князёў. Сустракаліся нататкі аб наданні вярхоўскім князям шматлікіх уладанняў. Асобна паказаны лёс верхняокскіх удзелаў і іх уладальнікаў у другой палове XV ст. Падрабязна апісаны працэс уключэння верхняокскіх зямель у склад Вялікага Княства Маскоўскага. Раскрыта сістэма кіравання і прыведзены спіс адміністрацыі ў Верхняокскім краі.

Многія пералічаныя ў кнізе С.М. Кучыньскага населеныя пункты і воласці засталіся не лакалізаванымі, але некаторую іх частку мы можам убачыць на карцеўкладышы. Амаль уся карта (за малым выключэннем у бок Бранска і Ноўгарада-Северскага) ілюструе менавіта Вярхоўскія княствы. На ёй мы бачым самі княствы, уладанні і іх межы, падрабязна апісаныя ў самым даследаванні. Карта не страціла актуальнасці да цяперашняга часу, але патрабуе ўдакладнення месцазнаходжання шмат якіх населеных пунктаў у адпаведнасці з археалагічнымі дадзенымі і сур'ёзнай праўкі ўнутраных меж Вярхоўскіх княстваў (гэта перш за ўсё тычыцца ўладанняў тарускіх і мезецкіх князёў).

Тэрыторыя Вярхоўскіх княстваў яшчэ не стала тэмай асобнага даследавання, аднак С.М. Кучыньскі абгрунтаваў тэрытарыяльнае адзінства верхняокскіх зямель, разглядаў іх у якасці самастойнага рэгіёна са сваёй гісторыяй, структурай землеўладання, сістэмай кіравання і г.д., даволі дакладна вызначыў іх знешнія межы.

Такім чынам, нягледзячы на тое, што манаграфія С.М. Кучыньскага была напісана даўно і па некаторых палажэннях састарэла, да гэтага часу яна не страціла свайго навуковага значэння. На жаль, даследаванне выпала з полю зроку многіх гісторыкаў і было запатрабавана вельмі рэдка. Толькі зараз разгортваецца абмеркаванне і крытыка высноў С.М. Кучыньскага, выказваюцца думкі пра абмежаванасць выкарыстанай базы крыніц у яго даследаванні[58], робяцца заўвагі пра генеалагічныя пабудовы, карэкціруюцца праведзеныя межы.

Сваё арыгінальнае ўяўленне пра тэрыторыі і межы Вярхоўскіх княстваў выпрацаваў У.А. Кучкін. Нягледзячы на тое, што гісторык не выкарыстоўваў сам тэрмін Вярхоўскія княствы, у яго пабудовах фігуруе асобны рэгіён, чые князі аб'яднаны адзіным паходжаннем ад Міхаіла Усеваладавіча Чарнігаўскага[59]. Найбольш значнай часткай гэтага рэгіёна, на думку У.А. Кучкіна, было Бранскае княства, хаця да 1380 г. (а менавіта да гэтага часу падведзены назіранні разгляданай працы) Бранск знаходзіўся ўжо ў складзе Вялікага Княства Літоўскага і наогул, яшчэ з канца XIII ст. ім кіравалі князі са смаленскага роду[60]. Абапіраючыся ў асноўным

---

57 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 70.

58 Выкарыстаныя толькі актавыя і наратыўныя крыніцы (Русина О. Сіверська земля у складі Великого Князівства Литовського. С. 9).

59 Кучкин В.А. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой. С. 50. На дзвюх падрабязных картах, прыкладзеных да іншай працы У.А. Кучкіна, рэгіён Верхняй Акі названы Вярхоўскімі княствамі (Княжества Северо-Восточной Руси в середине XIV в.; Княжества Северо-Восточной Руси к 1389 г. // Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV вв. М., 1984. Вкладыш).

60 Горский А.А. Брянское княжество в политической жизни Восточной Европы. С. 76—77.

на адну крыніцу (грамату вялікага князя літоўскага Альгерда патрыярху Філафею) і адно даследаванне (М.К. Любаўскага), У.А. Кучкін вызначае тэрытарыяльны склад Карачаўскага і Навасільскага княстваў (гарады і цэнтры ўдзелаў) і паказвае іх прыкладнае размяшчэнне. Толькі мімаходзь згадваецца Абаленска-Тарускае княства — сусед Навасільскага. Вельмі каштоўным з'яўляецца доказ прыналежнасці Калугі і Мцэнска да Навасільскага княства (на падставе згаданай граматы 1371 г.)[61], аднак выглядае яно вельмі гіпатэтычна, тым больш, што заўвага М.К. Любаўскага пра магчымую сувязь Мцэнска з Карачавым У.А. Кучкіным папросту праігнаравана[62].

Няўважлівае, а мажліва і свядома выбарачнае, выкарыстанне прац папярэднікаў прыкметна таксама і на дзвюх картах, прыкладзеных да артыкула У.А. Кучкіна[63]. На іх мы зноў бачым тэрыторыю Тарускага княства з уключэннем у яе Мезецка; значная частка тэрыторыі Навасільскага княства чамусьці перанесена на левы бок р. Акі, а Варатынск пазначаны на тэрыторыі, якая належыць Навасіллю. У тэксце артыкула межы Вярхоўскіх княстваў ніяк не абгрунтоўваюцца. Характэрна, што на дзвюх іншых картах У.А. Кучкіна, якія з'яўляюцца дадаткам да іншай яго працы[64], унутраны падзел Вярхоўскіх княстваў прадстаўлены ўжо па-іншаму. Мезецк так і застаўся ў складзе Тарускага княства, але гэтым разам ужо быў аддзелены ад асноўнай яго тэрыторыі карачаўскай і навасільскай землямі; вярхоўе р. Акі саступлена Карачаву (зараз ужо з заходам на правы бок Акі Карачаўскага княства), а Варатынск вернуты Навасільскаму княству (разам з карачаўскім Перамышлем).

Безумоўна, у даследаваннях У.А. Кучкіна тэрыторыі Паўночна-Усходняй Русі, Верхнеокскі рэгіён з'яўляецца перыферыяй і, у прынцыпе, можна было б падрабязна не спыняцца на іх, а тым больш вылучаць іх у асобны этап развіцця ўяўленняў пра тэрыторыі і межы Вярхоўскіх княстваў. Аднак менавіта такі погляд знайшоў падтрымку і развіццё ў некаторых наступных працах (напрыклад, А.А. Горскага[65]), а таксама стаў звыклым для многіх энцыклапедычных і навучальных карт. У У.А. Кучкіна ўласных цвёрдых перакананняў аб тэрытарыяльным складзе і межах Вярхоўскіх княстваў, відаць, не склалася (што бачна пры параўнанні карт, прыкладзеных да розных яго прац, якія вельмі разняцца паміж сабой), але і такія ўяўленні аказаліся, відавочна, запатрабаванымі, у той час іншых папросту не існавала.

---

61 Кучкин В.А. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой. С. 50—51. Прим. 135.

62 А.А. Горскі абгрунтоўвае прапанаваную У.А. Кучкіным ідэю аб прыналежнасці Калугі і Мцэнска да Навасільскага княства. Вось што ён піша: «В конце 60-х гг.... среди новосильских князей происходит раскол. Один из них, Иван, становится зятем и союзником Ольгерда, другой — Роман Семенович — ориентируется на Москву. В письме константинопольскому патриарху Филофею 1371 г. Ольгерд жаловался, что Дмитрий Московский отнял у него ряд городов; в этом перечне после населенных пунктов Ржевского региона названы Калуга и Мценск. Вероятно, они были городами, принадлежавшими князю Ивану и захваченными москвичами и Романом Семеновичем, причем Калуга с этих пор стала московским владением: очевидно, она досталась Дмитрию Ивановичу Московскому в качестве платы за поддержку Романа Семеновича против соперника» (Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 150). Схема вельмі добра ўпісваецца ва ўжо існуючую тэрытарыяльную структуру, пабудаваную У.А. Кучкіным. На апошняга, між іншым, і спасылаецца А.А. Горскі.

63 Северо-Восточная Русь в 1360 г.; Северо-Восточная Русь в 1380 г. // Кучкин В.А. Русские княжества и земли перед Куликовской битвой. Уклейка паміж с. 46—47.

64 Княжества Северо-Восточной Руси в середине XIV в.; Княжества Северо-Восточной Руси к 1389 г. // Кучкин В.А. Формирование государственной территории Северо-Восточной Руси в X—XIV вв. Вкладыш.

65 Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV в. вне Северо-Восточной Руси. С. 114—191.

Адзіным да цяперашняга часу даследаваннем, якое прысвечана выключна Верхнеокскаму рэгіёну, з'яўляецца брашура А.У. Шэкава[66]. Пад Вярхоўскімі княствамі аўтар разумее дробныя ўдзельныя княствы другой паловы XIII — трэцяй чвэрці XVI ст., якія «ўтварыліся ў выніку драблення Карачаўскага, Навасільскага, Тарускага ўдзелаў князёў Чарнігаўскага дому на працягу паказанага перыяду на шматлікія княствы — Казельскае, Масальскае, Мезецкае, Варатынскае, Адоеўскае, Бялёўскае, Баратынскае, Кананскае, Мышагскае (Мышэцкае), Валконскае, Абаленскае»[67]. Гэтыя шматлікія княствы, на думку А.У. Шэкава, названы ў маскоўска-літоўскай дамове 1449 г. «вярхоўскімі». З гэтым цяжка пагадзіцца, аднак такое ўяўленне да цяперашняга часу з'яўлялася традыцыйным, а пачатак выкарыстанню тэрміна ў навуковай літаратуры паклаў М.К. Любаўскі. Аднак тут зноў неабходна заўважыць, што М.К. Любаўскі ў сваёй працы 1892 г. абгрунтаваў толькі паняцце Верхняокскія княствы, якое адносілася да ўладанняў князёў Навасільскага дому. Пры гэтым для рэгіёна ў цэлым гісторык імкнуўся ўжываць назву Верхняокскі край (украйна), што мела свой сэнс, бо ўжо з пачатку XV ст. у ім размяшчаліся не толькі княствы, але і, напрыклад, літоўскія намесніцтвы. Вярхоўскімі ж, сапраўды, называліся ўсе князі, якія паходзілі ад Міхаіла Усеваладавіча Чарнігаўскага і мелі ўладанні ў вярхоўях Акі.

Праца А.У. Шэкава наспела з прычыны адсутнасці ў айчыннай гістарыяграфіі спецыяльнай працы па гісторыі Вярхоўскіх княстваў і атрымала стымул да свайго з'яўлення, дзякуючы назапашванню археалагічнага матэрыяла. Сам аўтар не прэтэндуе на паўнату даследавання і, у сувязі з гэтым, лічыць важным не толькі праілюстраваць палітычнае развіццё Верхняокскага рэгіёна другой паловы XIII — першай паловы XVI ст., але і «азначыць магчымыя шляхі далейшага вывучэння гісторыі Вярхоўскіх княстваў»[68]. Асобым складнікам працы стаў раздзел, прысвечаны Валконскаму ўдзелу і княству XIV — пачатку XVI ст.[69]. Існаванне Валконскага ўдзела, які вылучыўся са складу Тарускага княства, як правіла, наогул ігнаравалася даследчыкамі. Генеалогія князёў Валконскіх яшчэ прыцягвала ўвагу, а палітычная гісторыя іх княства, лакалізацыя ўладанняў, наогул вызначэнне тэрытарыяльнага складу і меж удзела не былі вывучаны. Да А.У. Шэкава цэнтр княства — Валкона наогул не наносіўся на гістарычныя карты.

База крыніц, якія былі выкарыстаны ў працы А.У. Шэкава, папоўнілася толькі за кошт археалагічных матэрыялаў, аднак комплексны характар іх выкарыстання з апорай на даследаванні папярэднікаў дазволіў прыйсці да некаторых новых цікавых высноў і назіранняў.

Нягледзячы на заяўлены прыярытэт у паказе палітычнай гісторыі, значным кампанентам, падасновай разгляданай працы з'яўляюцца гісторыка-геаграфічныя дадзеныя. Ужо ў аглядзе гісторыі земель Верхняй Акі часоў, што папярэднічалі ўтварэнню Вярхоўскіх княстваў, ідзе гаворка пра працэс уваходжання рэгіёна ў склад Старажытнарускай дзяржавы, фарміраванне адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак (валасцей) у землях вяцічаў, з'яўленне на вывучаемай тэрыторыі гарадоў — будучых княжацкіх цэнтраў (Казельск, Карачаў, Варатынск). Аналіз археалагічных дадзеных сведчыць пра ўзнікненне ў басейне верхняй Акі сістэмы ўмацаваных паселішчаў, якія з'явіліся касцяком адміністрацыйна-тэрытарыяльнага апарата даменіяльных уладанняў ноўгарад-северскіх князёў Вольгавічаў[70]. Да другой

[66] Шеков А.В. Верховские княжества.

[67] Тамсама. С. 6.

[68] Тамсама.

[69] Тамсама.С. 51—67.

[70] Тамсама. С. 28.

паловы XIII ст. працэс складвання дамена Вольгавічаў у басейне верхняй Акі быў у асноўным завершаны. Менавіта пануючае княжацкае даменіяльнае землеўладанне, на думку А.У. Шэкава, стала асновай фарміравання Вярхоўскіх княстваў у другой палове XIII ст. і ў далейшым з'явілася адным з фактараў крайняга палітычнага драбнення княстваў верхняй Акі[71].

Фармальны пачатак утварэнню Вярхоўскіх княстваў быў пакладзены падзелам Чарнігаўскага княства пасля смерці князя Міхаіла Усеваладавіча паміж яго сынамі (1246 г.). Аднак да сярэдзіны XIV ст. чарнігаўскія ўдзелы захоўвалі адносную еднасць. І толькі пасля ліквідацыі Чарнігаўскага княства як самастойнага палітычнага ўтварэння да другой паловы XIV ст. Навасільска-Глухаўскі, Карачава-Казельскі і Тарускі ўдзелы ператварыліся ва ўдзельныя княствы. Ахарактарызаваўшы працэс утварэння і адасаблення Вярхоўскіх княстваў, А.У. Шэкаў адразу ж пазначае надзелы, на якія яны распаліся на працягу XIV ст. Такім чынам, з Навасільскага княства вылучыліся Варатынскі, Адоеўскі і Бялёўскі ўдзелы, з Карачаўскага — Казельскі, Ялецкі, Масальскі, Хацэтаўскі, Звянігародскі ўдзелы, з Тарускага — Мезецкі (Мяшчоўскі), Валконскі, Абаленскі, Конінскі, Баратынскі і Мышагскі (Мышэцкі) удзелы[72]. Такая структура ўдзелаў Вярхоўскіх княстваў, у прынцыпе, адпавядае і думцы С.М. Кучыньскага, толькі апошні ў Карачаўскім княстве вылучыў яшчэ Болхаўскі і Перамышльскі ўдзелы, а ў Навасільскім — Глухаўскі і, чамусьці, Вусценскі ўдзелы[73].

Адасабленне Вярхоўскіх княстваў было наўпрост звязана з метадычным пагромам Чарнігава-Бранскага княства, арганізаванага Ардой, якая імкнулася падавіць магчымы цэнтр супраціўлення яе ўладзе. Адным з мерапрыемстваў у гэтым напрамку было, на думку А.У. Шэкава, набыццё з санкцыі Арды разанскімі і маскоўскімі князямі шэрагу чарнігаўскіх валасцей (Лапасня, Кашыра, Бораўск, Вярэя), што адбылося да 1328 г.[74]. Спасылка на Р.У. Зотава ў пазначанай даце раскрывае памылку, якую зрабіў таксама і С.М. Кучыньскі. Справа ў тым, што да 1328 г. Р.У. Зотаў адносіў напісанне Іванам Калітой духоўнай граматы[75], у якой і фігуруюць, на яго думку, некаторыя былыя чарнігаўскія воласці (Звянігарад і Перамышль — карачаўскія, Тросна — таруская)[76]. Аднак пазначаныя пункты з-за ідэнтычнасці назваў былі проста пераблытаны з адвечна маскоўскімі. Падмаскоўны Звянігарад размяшчаўся ў вярхоўях р. Масквы, карачаўскі ж аднайменны горад знаходзіўся,

---

71 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 30.

72 Тамсама.

73 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 123, 137. На самой справе Перамышль вылучыўся са складу Казельскага княства, Вусце належала да ўладанняў Мезецкіх князёў.

74 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 33.

75 Зотов Р.В. О черниговских князьях по Любецкому синодику и о Черниговском княжестве в татарское время. С. 205. Р.В. Зотаў так робіць, відаць, следам за выдаўцом грамат наступнага зборніка: Собрание государственных грамот и договоров, хранящихся в государственной коллегии иностранных дел. Ч. I. М., 1813. № 21—22. С. 31—35. Агульнапрынятым зараз з'яўляецца датаванне абодвух варыянтаў тэстамента Івана Каліты 1339 годам (Черепнин Л.В. Русские феодальные архивы XIV—XVI вв. Ч. 1. С. 16; Алексеев Ю.Г. Духовные грамоты князей московского дома XIV в. как источник по истории удельной системы // Вспомогательные исторические дисциплины. Т. XVIII. Л., 1987. С. 97.).

76 Сцверджанне Р.В. Зотава запазычыў таксама М.С. Грушэўскі (Грушевський М.С. Історія України-Руси. Т. 3. Київ, 1992. С. 181)

верагодна, на месцы сучаснага с. Спаскага на р. Непаладзі, левым прытоку Акі[77]; Перамышль Маскоўскі вызначаўся на поўдні ад г. Масквы, на р. Мочы, прытоку Пахры[78], карачаўскі ж Перамышль ляжаў на р. Ацэ ніжэй упадзення ў яе р. Жыздры; нарэшце, Тросна прынята за ўладанне князёў Абаленскіх (з роду Тарускіх) — сяло Тросце (ад назвы якога ўтварылася прозвішча князёў Троценскіх), а воласць Тросна цягнула да Звянігарада на р. Маскве і размяшчалася вакол Тросценскага возера[79].

Значыць, ніякага далучэння былых чарнігаўскіх зямель да Масквы да 1328 г. не адбылося. Разань жа сапраўды набыла ў Чарнігава вялікую тэрыторыю (з Бораўскам, Вярэяй і інш.), але звычайна гэтую падзею датуюць канцом XIII ст.[80]. Потым ужо Масква абмяняла гэтыя землі на больш значныя для Разані Лапасну і іншыя пункты на правабярэжжы Акі. Дарэчы, Р.У. Зотаў датуе далучэнне да Масквы Кашыры, Бораўска і іншых гарадоў 1356 годам, заўважаючы, што да Разані яны трапілі ў другой палове XIII ст.[81].

Блытаніна з населенымі пунктамі і датамі далучэння адбілася таксама і ў працы С.М. Кучыньскага, які лічыў Перамышль на Ацэ маскоўскім з 1328 г.[82].

Такім чынам, на жаль, і праца А.В. Шэкава, нягледзячы на сваю навізну і строга навуковы характар, не пазбегнула традыцыйных памылак, праўда, як бачым, праявіліся яны ўскосна, праз запазычанне некаторых высноў аўтарытэтных аўтараў.

З сярэдзіны XIV ст. пачаўся новы этап у развіцці Вярхоўскіх княстваў. Пасля ардынскага пагрому Чарнігава яны пераўтварыліся ў незалежныя княствы, аднак не здолелі прэтэндаваць на вядучую, а пазней і проста самастойную ролю ў палітыцы рускіх зямель і сталі аб'ектамі прэтэнзій Масквы і Вільні[83]. А.У. Шэкаў падрабязна разгледзеў палітычную гісторыю вярхоўскіх князёў, вымушаных лавіраваць паміж больш значнымі сіламі ва Усходняй Еўропе (Масква, Вільня, Разань) для захавання ўласнай самастойнасці. Характэрным для вярхоўскіх князёў быў таксама саюз менавіта з тым бокам, які ў дадзены момант выступаў супраць Арды.

На пачатку XV ст. на Вярхоўскія княствы пашыраецца ўлада Вялікага Княства Літоўскага. Частка Карачаўскага княства нават перайшла пад непасрэднае кіраванне вялікага князя літоўскага (сам горад Карачаў), а мясцовым князям быў пакінуты

77 Аўтар выказвае падзяку А.К. Зайцаву за пададзеныя звесткі аб карачаўскім Звянігарадзе (Зайцев А.К. Черниговское княжество X—XIII вв.: Историко-географическое исследование. Дис... канд. ист. наук. М., 1976. С. 238, 239). Гл. таксама: Шеков А.В. Рецензия на: Тропин Н.А. Елецкая земля в XII—XV вв. // Вестник Елецкого государственного университета. Вып. 1. Серия «История, право». Елец, 2002. С. 228—229.

78 Юшко А.А. Московская земля IX—XIV веков. С. 86, 104, 129.

79 Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей... С. 150 і карта на с. 151; Любавский М.К. Образование основной государственной территории великорусской народности. С. 34; Готье Ю.В. Замосковный край в XVII веке. С. 562; Веселовский С.Б. Феодальное землевладение в Северо-Восточной Руси. С. 358.

80 Иловайский Д.И. История Рязанского княжества. М., 1858. С. 145; Грушевський М.С. Історія України-Руси. Т. 3. С. 181; Горский А.А. Политическая борьба на Руси в конце XIII в. и отношения с Ордой // Отечественная история. 1996. № 3. С. 81.

81 Зотов Р.В. О черниговских князьях по Любецкому синодику и о Черниговском княжестве в татарское время. С. 205.

82 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. S. 61. Спалучэнне непаразуменняў і памылковых высноў, якія нагрувасціліся вакол Перамышля Калужскага, прывяло да ўсталявання афіцыйнай даты заснавання горада ў 1328 г., і гэтая памылка не выкаранена да цяперашняга часу (гл. фота).

83 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 33.

Масальск. Час праўлення Вітаўта (а менавіта апошняе дзесяцігоддзе перад яго смерцю) характарызуецца поўным панаваннем у Верхняокскім рэгіёне Вялікага Княства Літоўскага. У 1427 г. васаламі літоўскага валадара сталі князі Навасільскага дому. Такім чынам, робіць выснову А.У. Шэкаў, да пачатку XV ст. Карачаўска-Казельскае і Тарускае княствы былі ліквідаваны, іх князі зведзены да становішча дробных літоўскіх і маскоўскіх васалаў, а пэўную самастойнасць і дагаворныя адносіны з ВКЛ захавала толькі Навасільска-Адоеўска-Варатынскае княства[84].

А.У. Шэкаў падрабязна пералічае набыткі Навасільскіх князёў (Адоеўскіх і Варатынскіх) ад Казіміра IV і Аляксандра Казіміравіча, але, на жаль, спроб лакалізацыі як асобных пунктаў, так і ў цэлым усіх новых уладанняў вярхоўскіх князёў не зрабіў.

Заключны этап гісторыі Вярхоўскіх княстваў характарызуецца працэсам уключэння іх у склад цэнтралізаванай Рускай дзяржавы з наступнай ліквідацыяй гэтых прывілеяваных княжацкіх уладанняў. А.У. Шэкаў апісвае падзеі канца XV — пачатку XVI стст., пераходы вярхоўскіх князёў на маскоўскую службу, маскоўскія паходы на землі верхняй Акі; распавядае пра наступную службу Варатынскіх, Адоеўскіх, Бялёўскіх і Масальскіх князёў маскоўскаму валадару і пра лёс Варатынскага ўдзела, які быў канчаткова знішчаны толькі ў 1562 г .

Асобную частку разгляданай кнігі, як ужо гаварылася, складае нарыс па гісторыі аднаго з тарускіх удзелаў — Валконскага княства. Тут найбольш удала спалучалася ўжыванне розных тыпаў крыніц, што дазволіла даволі поўна вывучыць канкрэтную гісторыю аднаго з княстваў Верхняокскага краю, якая пацвердзіла, дарэчы, агульныя высновы аб развіцці ўсіх Вярхоўскіх княстваў. А.У. Шэкаў заклікае і ў далейшым засяродзіцца на вывучэнні канкрэтнай гісторыі асобных княстваў Верхняокскага рэгіёна[85].

Свае ўласныя погляды на тэрыторыю і межы Вярхоўскіх княстваў А.У. Шэкаў не вызначыў на карце, ён узяў яе ў С.М. Кучыньскага. Аднак дадзеная карта была скарэкціравана ў бок удакладнення даціровак меж Вярхоўскіх княстваў і вызначэння месцазнаходжання населеных пунктаў. Сумніўныя лакалізацыі былі пазначаны пытальнікам[86].

У цэлым неабходна адзначыць, што пытанні развіцця тэрыторыі і меж Вярхоўскіх княстваў (за выключэннем Валконскага княства) не знайшлі адлюстравання ў разгляданай працы А.У. Шэкава. Сам гісторык вылучыў шэраг праблем, што неабходна вырашаць пры вывучэнні Верхняокскага рэгіёна, сярод якіх стаіць і праблема гістарычнай геаграфіі[87]. Звесткі, якія мы можам запазычыць пра тэрыторыі Вярхоўскіх княстваў з працы А.У. Шэкава, датычаць у асноўным структуры ўдзелаў, даціроўкі далучэнняў розных тэрыторый і абставін утварэння і ліквідацыі дзяржаўных фарміраванняў у вярхоўях Акі.

Зрэшты, праца А.У. Шэкава і не была арыентавана на разгляд тэрытарыяльнага развіцця Вярхоўскіх княстваў. Значна больш каштоўнай у гэтым плане з'яўляецца кандыдацкая дысертацыя таго ж аўтара, якая носіць назву «Вярхоўскія княствы (другая палова XIII — сярэдзіна XVI стст.)»[88]. Актыўнае прыцягненне археалагічных матэрыялаў у комплексе з традыцыйнымі пісьмовымі крыніцамі дазволіла аўтару:

84 Шеков А.В. Верховские княжества. С. 41.

85 Тамсама. С. 69.

86 Тамсама. С. 8.

87 Тамсама. С. 69.

88 Шеков А.В. Верховские княжества (вторая половина XIII — середина XVI в.): Дис. канд. ист. наук. М., 1998.

- прыйсці да вельмі цікавых высноў пра адпаведнасць памераў умацаваных плошчаў верхнеокскіх гарадзішчаў сацыяльнаму статусу іх княстваў;
- заўважыць тэндэнцыю пераносу сталіц Вярхоўскіх княстваў з больш буйных гарадоў у больш дробныя;
- ахарактарызаваць адміністрацыйную тэрыторыю, якая хілілася да аднаго з цэнтраў Вярхоўскіх княстваў — Адоева ў XIV—XVI стст. [89];
- прадэманстраваць перспектыўнасць вывучэння пераемнасці «паміж пасяленчымі і адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі структурамі Маскоўскай дзяржавы XVI ст. і больш ранніх удзельных княстваў»[90].

Асобны раздзел дысертацыі зноў прысвечаны гісторыі Валконскага княства. Тут, на аснове комплекснага даследавання разгледжана гісторыя Валконскага ўдзела Тарускага княства, ахарактарызавана гарадзішча Валконы і яго адміністрацыйная тэрыторыя, акрэслены этапы развіцця пасяленчай структуры на тэрыторыі Валконы ў XIV—XVI стст.

Асабліва значэнне маюць карты, прыкладзеныя да дысертацыі. Яны ілюструюць як сітуацыю XVI ст. у рэгіёне вярхоўяў Акі (Адоеўскі, Тульскі ўезды, у цэлым Верхняе Паочча), так і пасяленчую структуру Адоеўскай воласці і ўезда і, вядома ж, Валконы рэтраспектыўна на XIV—XVI стст. На жаль, складзеныя А.У. Шэкавым карты ўдакладняюць і канкрэтызуюць уяўленні толькі аб невялікай частцы Верхнеокскага рэгіёна.

Такім чынам, у дадзеным раздзеле разгледжаны даследаванні, якія з'явіліся пэўнымі этапамі ў вывучэнні тэрыторыі і меж Вярхоўскіх княстваў.

За рамкамі агляду засталіся шматлікія працы, якія ўмоўна можна падзяліць на некалькі груп. 1-я аб'ядноўвае даследаванні агульнага характару па гісторыі вялікіх дзяржаўных фарміраванняў ва Усходняй Еўропе і іх барацьбе паміж сабой (М.С. Грушэўскі[91], К.В. Базілевіч[92], М.М. Кром[93]). 2-ю групу складаюць даследванні, якія разглядаюць Вярхоўскія княствы, але не ў якасці асобнага ад Чарнігаўскай зямлі рэгіёна і без ужывання іх агульнай назвы (Р.У. Зотаў[94]), а таксама якія тычацца сумежных з вярхоўямі Акі тэрыторый (Д.І. Багалей[95], А. Русіна[96]). Даследаванні 3-й групы маюць дачыненне да трансфармацыі дзяржаўных меж, якія праходзяць праз Верхнеокскі рэгіён або кантактуюць з ім (Ф. Пятрунь[97], Я. Натансан-Лескі[98]). І нарэшце, даследаванні 4-й групы непасрэдна звязаны з разглядам гісторыі канкрэт-

[89] Шеков А.В. Верховские княжества (вторая половина XIII — середина XVI в.). Автореф. дис. канд. ист. наук: 07.00.06 / МГУ им. М.В. Ломоносова. Историч. фак-т. М., 1998. С. 14.

[90] Тамсама. С. 4.

[91] Грушевський М.С. Історія України-Руси. Т. 3.

[92] Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства.

[93] Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в. М., 1995.

[94] Зотов Р.В. О черниговских князьях по Любецкому синодику и о Черниговском княжестве в татарское время.

[95] Багалей Д.И. История Северской земли до половины XIV столетия. Киев, 1882.

[96] Русина О. Сіверська земля у складі Великого князівства Литовського.

[97] Петрунь Ф. Східня межа Великого Князівства Литовського в 30-х рр. XV ст.

[98] Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej.

ных Вярхоўскіх княстваў (К.У. Сычоў[99], М.А. Тропін[100], А.У. Антонаў[101]). Безумоўна, працы большасці пазначаных у дужках аўтараў таксама варты пільнай увагі. Але, тым не менш, для агляду былі выбраны толькі тыя нешматлікія даследаванні, якія або ўнеслі істотны ўклад у развіццё ўяўленняў пра тэрыторыі і межы Вярхоўскіх княстваў, або звярталіся да гісторыі рэгіёна, які непасрэдна нас цікавіць.

Даволі цяжка гаварыць аб такім характары працы кожнага новага пакалення гісторыкаў, пры якім нешта новае стваралася з апорай на папярэднікаў, шляхам удасканалення іх поглядаў. Здаралася, адбывалася выпадзенне вельмі значных даследаванняў з поля зроку гісторыкаў (праца С.М. Кучыньскага), часам прыкметна нават ігнараванне нязручных, нявыгадных палажэнняў, якія былі сфармуляваны, напрыклад М.К. Любаўскім. Ствараецца ўражанне аб своеасаблівай незалежнасці працы даследчыкаў, калі, напрыклад, знешнія і ўнутраныя межы Вярхоўскіх княстваў праводзяцца абсалютна адвольна, без узгаднення як з працамі папярэднікаў, так і з логікай нешматлікіх пісьмовых крыніц або дадзеных археалогіі (гл., напрыклад, моцна адрозныя як паміж сабой, так і ад рэканструкцый С.М. Кучыньскага, карты У.А. Кучкіна, выдадзеныя ў 1980 і 1984 гг.).

Такім чынам, да цяперашняга часу мы маем у наяўнасці некалькі розных пунктаў гледжання на тэрытарыяльнае развіццё дзяржаўных утварэнняў у Верхняокскім рэгіёне, выяўленых на гістарычных картах. Сам аўтар дадзенай працы паспрабаваў звесці разам уяўленні даследчыкаў і адлюстраваць іх на карце[102], аднак зрабіць гэта аказалася вельмі няпроста. Асобныя даследаванні А.У. Шэкава, Н.А. Тропіна, А.В. Антонава паслужылі добрай базай для адлюстравання на карце некаторых частак рэгіёна. Але запоўніць прабел, напрыклад, у паказе асноўнага масіву Карачаўскага княства або паўднёвай часткі Навасільскага княства амаль не было чым.

Такім чынам, неабходна канстатаваць той факт, што да гэтага часу рэгіён Верхняй Акі перыяду позняга сярэднявечча вывучаны недастаткова. Вядома, асноўная прычына гэтага — маўчанне крыніц, якія пачынаюць праліваць святло на тэрытарыяльнае развіццё Верхняокскага краю ў асноўным толькі з канца XV ст. Чакаць адкрыцця новых пісьмовых крыніц адпаведнага часу, відавочна, не даводзіцца, таму асноўны ўпор трэба рабіць на больш позні матэрыялы праз прымяненне мэтада рэтраспекцыі (рабіць гэта трэба вельмі асцярожна) і, перш за ўсё, праз выкарыстанне дадзеных археалогіі. Археалагічныя крыніцы даюць уяўленне аб структуры сельскага рассялення, сістэме валасцей, дапамагаюць лакалізаваць дагэтуль нявызначаныя цэнтры валасцей, сёлы і нават гарады, што ў выніку дазваляе ўдакладніць як знешнія, так і ўнутраныя, межы Вярхоўскіх княстваў і дакладней вызначыць іх унутраны склад.

У заключэнні неабходна адзначыць, што ў цяперашні час расійскімі гісторыкамі і археолагамі вядзецца актыўнае вывучэнне Верхняокскага рэгіёна (напрыклад, Тульскай археалагічнай экспедыцыяй) і ў агляднай будучыні можна чакаць новых адкрыццяў і фундаментальных прац, якія на новым узроўні адлюструюць тэрытарыяльную гісторыю малавывучаных сярэдневяковых дзяржаўных утварэнняў.

---

99 Сычев К.В. Происхождение Карачева и судьба Карачевского удела // Вопросы истории. 2004. № 6. С. 145—147.

100 Тропин Н.А. Елецкая земля в XII—XV вв. Елец, 1999.

101 Антонов А.В. К истории удела князей Одоевских. С. 258—285.

102 Цемушаў В.М. Вярхоўскія княствы ў канцы XIII — пачатку XVI ст. // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. Мінск, 2005. С. 477 (карта); Темушев В.Н. Верховские княжества // Большая Российская Энциклопедия. М., 2006. Т. 5. С. 198 (карта).

# Дадатак 2.

## Гарады ў сістэме абароны ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага. Дзмітравец у XV—XVII стст.

Да ліку горадоў-крэпасцей Вялікага Княства Літоўскага, што стаялі вартавымі на ўсходняй мяжы дзяржавы, адносіцца малавядомы Дзмітравец, які толькі раз быў згаданы ў крыніцах на працягу XV ст. і знік на пачатку наступнага стагоддзя. Узнікненне і існаванне гарадка было цалкам звязана з фарміраваннем на пачатку XV ст. літоўска-маскоўскай мяжы (да гэтага часу літоўскія і маскоўскія ўладанні толькі крыху судакраналіся ў некаторых месцах)[1]. Яму была прызначана роля забеспячэння рубяжа абароны ўсходняй ускраіны ВКЛ, і ён згас, як толькі гэтая роля была выканана (на пачатку XVI ст. літоўская мяжа адышла ад Дзмітраўца і р. Угры, каля якой ён стаяў, далёка на захад).

Дзмітравец у пісьмовых крыніцах літоўскага боку называўся звычайна Дзмітравым. У маскоўскім жа летапісанні і ў актавых матэрыялах было прынята выкарыстоўваць форму, якая адрознівалася ад аднайменнага населенага пункта, што стаяў на р. Яхраме, на поўнач ад Масквы. З гэтай жа прычыны і ў дадзенай працы будзе выкарыстоўвацца назва Дзмітравец.

У адпаведнасці з сістэмай адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ў Вялікім Княстве Маскоўскім і ўсходняй часткі ВКЛ Дзмітравец не быў горадам, гэта значыць цэнтрам, да якога адносілася некалькі валасцей. Ён быў толькі цэнтрам сваёй воласці. Мала вядома пра яго ролю ў эканамічным жыцці рэгіёна. У гэтым сэнсе ён значна саступае такому гораду на Угры, як Апакаў, які меў пасад, торг, мытню і кіраваў шэрагам валасцей па абодвух баках р. Угры. Магчыма, значэнне Дзмітраўца не выходзіла за рамкі выканання ім абарончай ролі і кантролю сельскай акругі ў рамках воласці. Дзмітравец цалкам падыходзіць пад апісаны С.Б. Весялоўскім старажытны тып паселішча — гарадок, асноўнай функцыяй якога была абарона навакольнага насельніцтва. Маскоўскія гарадкі з XIV ст. пачынаюць адміраць, страчваючы судова-адміністрацыйнае значэнне і саступаючы абарончае значэнне гарадам[2]. Дзмітравец, дзякуючы свайму стратэгічна выгаднаму становішчу, пратрымаўся больш, але і ён знік на пачатку XVI ст.

### Гісторыя вывучэння Дзмітраўца. Праблема яго лакалізацыі. Крыніцы

Ігнараваны крыніцамі Дзмітравец не зазнаў асаблівай увагі даследчыкаў. Гарадку было прысвечана некалькі невялікіх артыкулаў, яго згадвалі ў адпаведных месцах пры апісанні палітычных падзей пачатку і канца XV ст., улічвалі ў рознага кшталту зводах археалагічных помнікаў і змяшчалі на картах. З-за відавочнай памылкі ў адносінах да Дзмітраўца ўзнікла праблема, звязаная з яго лакалізацыяй. Пры гэтым характэрна, што спроб разгляду гісторыі Дзмітраўца ў суадносінах з месцам яго размяшчэння не было. У выніку ўсе даследаванні, якія ў той ці іншай ступені датычылі

---

[1] Пра фарміраванне літоўска-маскоўскай мяжы гл.: Цемушаў В.М. Літоўска-маскоўская граніца ў другой палове XV — пачатку XVI ст. С. 325—340; Ён жа. Формирование московско-литовской границы в XV — начале XVI в. С. 56—77.

[2] Веселовский С.Б. Московское государство: XV—XVII вв. Из научного наследия. М., 2008. С. 33.

мястэчка на р. Угры, можна падзяліць на дзве катэгорыі: працы, дзе згадваецца або аналізуецца яго роля ў палітычнай гісторыі, і працы, дзе спрабуюць даць дакладную прывязку гэтага населенага пункта да месца на карце.

Асобна стаіць рэдкая праца, надрукаваная яшчэ ў 1866 г. у «Прибавлениях к Смоленским епархиальным ведомостям» і прысвечаная 200-гадоваму юбілею сяла Дзмітраўца[3]. С.П. Багдановіч — аўтар гэтага гісторыка-статыстычнага нарыса і ўраджэнец тых мясцінаў — вёў гісторыю Дзмітраўца з 1665 г., калі «село Дмитровец пустой» было зноў заселена[4]. Такім чынам, уся папярэдняя гісторыя Дзмітраўца (а ў гэтым выпадку гаворыцца нават не пра гарадок Дзмітравец, а пра сяло, што вырасла ў яго наваколлі) проста не закраналася. Тым не менш праца цікавая сваімі краязнаўчымі назіраннямі за лёсам сяла і цэркваў у ім у другой палове XVII — першай палове XIX стст. Не мог не заўважыць С.П. Багдановіч і «одного огромного насыпного кургана на церковной земле», які, відавочна, і з'яўляўся старажытным гарадком[5]. Аўтар увесь час указвае на памежны характар р. Угры ў гэтым месцы і на сляды літоўскай прысутнасці (вёскі Каралёва, Латышы, Літвін Гарадок)[6]. Насупраць вялікага насыпнога кургана, на другім баку ракі ім былі заўважаны невялікія курганы, дзякуючы чаму была зроблена выснова пра поле бітвы, якое існавала тут у 1612 г. Згодна з указаннем С.П. Багдановіча, «путь к Москве из Польши мог идти на сие место»[7]. Так было вызначана стратэгічнае становішча мясцовасці каля Дзмітраўца, на літоўска-маскоўскай мяжы, па дарозе ў Маскву.

Асобнае даследаванне па палітычнай гісторыі Дзмітраўца — артыкул, як гэта ні парадаксальна, буйнога спецыяліста па гістарычнай геаграфіі Расіі К.А. Авяр'янава[8]. І, на жаль, у першых жа радках артыкула аўтар дапусціў сур'ёзную памылку гісторыка-геаграфічнага характару. «Забыты» гарадок Дзмітравец быў несправядліва размешчаны непадалёку ад Юхнаўца, «близ впадения в Угру реки Рессы»[9], а ўжо з-за гэтай недакладнай лакалізацыі натуральнай стала выснова пра адсутнасць інфармацыі пра Дзмітравец у некаторых даведачных выданнях.

Пры апісанні гісторыі Дзмітраўца К.А. Авяр'янаў карыстаўся ў асноўным дзвюма відамі крыніц — летапісамі і пасольскімі кнігамі. Пры гэтым зусім не былі закрануты дакументы Метрыкі ВКЛ[10], а «Списки населенных мест Российской им-

---

3 Богданович С.П. Двухсотлетний юбилей Юхновского уезда села Дмитровца // Прибавления к Смоленским епархиальным ведомостям. Января 15. № 2. 1866. С. 27—47. Аўтар выказвае падзяку К.А. Аляксандраву за магчымасць карыстацца копіяй дадзенага артыкула.

4 Тамсама. С. 28—29.

5 Тамсама. С. 31. У іншым месцы даецца больш падрабязнае апісанне: «На сей церковной земле находится весьма большой и высокий насыпной курган, окружностью у подошвы в 170 сажен, в виде усеченного конуса, на верху коего блюдообразная площадь, в диаметре около 30 сажен» (Тамсама. С. 32). Акрамя таго, дабаўлена, што гадоў з 9 таму на пляцоўцы ўтварыўся правал у выглядзе варонкі, які, увесь час павялічваючыся, ператварыўся ў «значительную яму») (Тамсама).

6 Тамсама. С. 31.

7 Тамсама. С. 32.

8 Аверьянов К.А. Средневековый Дмитровец // Вопросы археологии, истории, культуры и природы Верхнего Поочья. Материалы XI Всероссийской научной конференции 5—7 апреля 2005 г. Калуга, 2005. С. 80—82.

9 Тамсама. С. 80. Думка К.А. Авяр'янава, без сумнення, склалася пад уплывам кароткага каментара невядомага аўтара да нататак С. Герберштэйна выдання 1988 г.: «Город Дмитров на р. Угре при впадении в нее р. Рессы» (Герберштейн С. Записки о Московии. С. 328. Прим. 447).

10 Адзіная згадка дакумента з Метрыкі ВКЛ ідзе адразу за спасылкай на працу М.К. Любаўскага, з якой, відавочна, і ўзята без пазнакі месца і года выдання або архіўнага фонда.

перии» сярэдзіны XIX ст. і картаграфічныя матэрыялы (надрукаваныя В. Кордтам) выкарыстоўваліся толькі для паказу існавання населенага пункта з такой назвай у XVII—XIX стст.

Тым не менш з вылучанага кола пісьмовых крыніц даследчык старанна выбраў усю наяўную інфармацыю і падрабязна выклаў гісторыю Дзмітраўца аж да нібыта апошняй згадкі гэтай мясцовасці ў пісьмовых крыніцах на пачатку XVII ст.

Акрамя матэрыяла апісальнага характара, аснову зместу артыкула К.А. Авяр'янава склала гіпотэза ўзнікнення г. Дзмітраўца, які часта называўся Дзмітравым. Абапіраючыся на меркаванне аб прыналежнасці гарадка да сярэдзіны 90-х гадоў XV ст. князю Сямёну Фёдаравічу Варатынскаму, які быў васалам вялікіх князёў літоўскіх, а таксама на меркаванне аб валоданні гэтым населеным пунктам бацькам князя Сямёна — Фёдарам Варатынскім, і на факт шлюбу апошняга з дачкой літоўскага князя Карыбута (Дзмітрыя) Альгердавіча — Марыяй, К.А. Авяр'янаў прыйшоў да цікавай высновы. На думку даследчыка, Дзмітравец праз пасаг дачкі дастаўся ад князя Карыбута яго зяцю князю Фёдару Варатынскаму. З-за таго што Дзмітравец не згадваецца ў «Списке городов русских дальних и ближних» (паводле К.А. Авяр'янава, складзеным у 1374 г.) і таму, што ў 1377—1399 гг. князь Карыбут валодаў Северскай зямлёй, аўтар датаваў узнікненне горада якраз апошняй чвэрцю XIV ст. або «скорее всего» часам да сярэдзіны — другой паловы 90-х гадоў XIV ст.[11]. Такім чынам, Дзмітравец «быў збудаваны ў якасці памежнага фарпоста ўладанняў князя Дзмітрыя Альгердавіча»[12]. Думка пра паходжанне назвы мястэчка ад імя нейкага Дзмітрыя была выказана К.А. Авяр'янавым загадзя. Больш таго, можна смела сцвярджаць, што гіпотэза ўзнікнення Дзмітраўца з'яўляецца прамым вынікам атаясамлівання яго назвы з імем князя Карыбута-Дзмітрыя і наступным штучным падборам і нават падгонкай фактаў пад папярэдне выпрацаванае рашэнне. На самой справе гэтая лагічная схема, на жаль, не вытрымлівае крытыкі.

Перш за ўсё, Дзмітравец належаў толькі князю С.Ф. Варатынскаму і на працягу кароткага прамежку часу — дзякуючы захопу, пацверджанаму вялікім князем Іванам III[13]! Пасля пераходу на маскоўскую службу ў лістападзе-снежні 1492 г.[14] князь Сямён, напэўна, згодна з заключанай з маскоўскімі ўладамі папярэдняй дамовай, захаваў пад сваім кантролем усе тыя ўладанні, якія здолеў заняць. Ці быў сярод іх Дзмітравец — невядома, бо ў выніку похода літоўскіх войскаў на пачатку 1493 г. уся тэрыторыя з правага боку Угры была вернута ў склад ВКЛ. Аднак у наступным паходзе маскоўскіх войскаў былі заняты гарады Мезецк, Масальск, Сярпейск, Апакаў, Лучын, Мошчын, Гарадзечна, Дзмітраў, Залідаў і інш.[15], і, такім чынам,

---

[11] Аверьянов К.А. Средневековый Дмитровец. С. 82.

[12] Тамсама.

[13] Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I. № 24. С. 136.

[14] Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в. М., 1995. С. 85.

[15] СИРИО. Т. 35. № 22. С. 104, 106; Памятники дипломатических сношений Московского государства с Крымской и Нагайской ордами и с Турцией. Т. I (С 1474 по 1505 год, эпоха свержения монгольского ига в России) / Изданы под редакцией Г.Ф. Карпова // СИРИО. Т. 41. СПб., 1884. № 41. С. 186, 192; ПСРЛ. Т. VIII. Продолжение летописи по Воскресенскому списку. М., 2001. С. 225; Т. XII. Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью. М., 2000. С. 234; Т. XX. Львовская летопись. М., 2005. С. 358; Т. XXVIII. Летописный свод 1497 г. Летописный свод 1518 г. (Уваровская летопись). М.; Л., 1963. С. 322—323; Разрядная книга 1475—1598 гг. С. 22—23. Пры гэтым Мезецк не быў спалены (ПСРЛ. Т. VIII. С. 225).

толькі пасля лютага 1493 г. князь Сямён Фёдаравіч здолеў завалодаць пэўнымі землямі. Гэта былі не толькі Дзмітравец і ранейшыя вотчыны князя Сямёна, але і шэраг гарадоў і валасцей, якія былі адарваны ў вярхоўскіх і вяземскіх князёў[16]. Але напярэдадні заключэння маскоўска-літоўскага міру 1494 г. маскоўскі вялікі князь Іван III «поступился» шэрагам гарадоў і валасцей (сярод іх і Дзмітраўцом) на карысць вялікага князя літоўскага Аляксандра[17]. Тэрыторыі з правага боку р. Угры (а дзмітраўскія землі — і з левага боку) былі вернуты ў склад ВКЛ.

Князь Сямён Фёдаравіч гіпатэтычна мог валодаць Дзмітраўцом з моманту пераходу на маскоўскі бок у лістападзе-снежні 1492 г. да пачатку 1493 г. і, больш пэўна, на працягу года — з лютага 1493 па люты 1494. А да гэтага часу гарадок быў у прамым адміністрацыйным падпарадкаванні Смаленска[18], лічыўся каралеўскім[19]. Ні пра якую перадачу ў спадчыну Дзмітраўца ад князя Фёдара Львовіча (а не Юр'евіча, як памылкова пазначыў К.А. Авяр'янаў) сыну Сямёну не можа быць гаворкі[20]. Уладанні князя Ф.Л. Варатынскага добра вядомыя[21]. Дзмітраўца сярод іх няма.

Такім чынам, ланцужок перадачы Дзмітраўца паміж Дзмітрыем-Карыбутам Альгердавічам і Сямёнам Фёдаравічам Варатынскім разрываецца. Але нават калі гіпатэтычна ўявіць сувязь гарадка менавіта з пазначаным літоўскім князем, то ўзнікне вялікая праблема гісторыка-геаграфічнага кшталту. Дзмітравец нельга аднесці да складу Северскай зямлі, якой часткова валодаў Дзмітрый Альгердавіч[22]. Не мог літоўскі князь заснаваць свой фарпост на землях Смаленскага княства, ды яшчэ і ў той час, калі яно было незалежнай дзяржавай (да 1395, у 1401—1404 гг.).

Такім чынам, гіпотэза К.А. Авяр'янава пра ўзнікненне Дзмітраўца аказалася нежыццяздольнай. Падрабязны яе разгляд у гэтай працы звязаны з тым, што далей будзе зроблена яшчэ адна спроба тлумачэння часу і абставін з'яўлення гарадка-крэпасці на беразе р. Угры.

Некалькі асобных прац пра Дзмітравец напісана археолагамі, і прысвечаны яны высвятленню праблемы месцазнаходжання гэтага гарадка і супастаўленню археалагічных звестак з інфармацыяй, адлюстраванай у пісьмовых крыніцах[23].

Калужскія археолагі Г.А. Масаліціна і І.В. Болдзін на першым этапе працы абапіраліся выключна на ўласна сабраныя звесткі. Спрабуючы пераправерыць інфармацыю, пададзеную ў першым выданні «Археологической карты России:

---

16 ПСРЛ. Т. XII. С. 234; Т. XX. С. 358; СИРИО. Т. 35. № 24. С. 137.

17 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136.

18 Тамсама. № 24. С. 118.

19 «Выписка из посольских книг». С. 52.

20 Шеков А.В. О системе наследования княжеских столов среди князей Новосильских в XIV—XV веках // Забелинские научные чтения — Год 2005-й. Исторический музей — энциклопедия отечественной истории и культуры. Труды Государственного Исторического музея. Вып. 168. М., 2006. С. 259—260.

21 СИРИО. Т. 35. № 24. С. 136; АЗР. Т. I. 1340—1506. № 48. С. 61; № 57. С. 70; LM. Vilnius, 1998. Kn. 3 (1440—1498). P. 37, 39.

22 Пра склад Северскай зямлі гл.: Русина О.В. Персональный состав северских князей во второй половине XIV в. С. 14—18; Яна ж. Сіверська земля у складі Великого Князівства Литовського. С. 41—52 і інш.

23 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 126—129; Яны ж. Археологический поиск летописного Дмитровца // Природа и история Поугорья. Вып. 5. Калуга, 2009. С. 181—189; Яны ж. Реконструкция истории летописного Дмитровца на основе письменных и археологических источников // Труды регионального конкурса научных проектов в области гуманитарных наук. Вып.10. Калуга, 2009. С. 69—80.

Калужская область» на аснове звестак Т.Н. Нікольскай і І.К. Фралова, аўтары артыкула не выявілі ў пазначаным месцы гарадзішча Жары[24]. Таму былі праведзены дадатковыя пошукі, якія далі новы вынік: на правым беразе р. Угры, на 2-х км вышэй за вусце р. Воры было знойдзена гарадзішча, якое было ўведзена ў навуковы ўжытак пад назвай Жары 1[25]. Праз пэўны час выявілася, што ўрочышча Гарадзец, размешчанае непадалёку ад помніка, мае і іншую назву — Дзмітравец. «Список населенных мест Смоленской губернии» паказаў існаванне такога населенага пункта ў сярэдзіне XIX ст. і даў іншыя варыянты яго назвы: Дзмітраў, Гарадзец, Пакроў[26].

Такім чынам, Г.А. Масаліціна і І.В. Болдзін паўторна прыйшлі да адкрыцця месцазнаходжання сярэдневяковага горада Дзмітраўца. (Апісанне гарадзішча, размешчанага на поўнач ад в. Жары на правым беразе р. Угры, ужо было дадзена Т.М. Нікольскай[27]. Таксама і картаграфічныя матэрыялы XVIII—XIX стст. дазвалялі дакладна вызначыць месца гарадка.) Недахоп інфармацыі аб гісторыі горада быў папоўнены дзякуючы артыкулу К.А. Авяр'янава. Аўтары супаставілі гістарычныя звесткі, пададзеныя даследчыкам, з археалагічнымі звесткамі, атрыманымі падчас раскопак гарадзішча. У выніку выявілася няўзгодненасць паміж высновамі К.А. Авяр'янава з прычыны яго няўдалай гіпотэзы аб узнікненні Дзмітраўца, і, трэба думаць, аб'ектыўнымі заключэннямі, якія з'явіліся ў выніку інтэрпрэтацыі археалагічных знаходак. Г.А. Масаліцына і І.В. Болдзін паказалі, што ўмацаванне Дзмітраўца (пабудова насыпу і вала) трэба адносіць да часу, не раней за XV ст. Акрамя таго, на гарадзішчы быў добра прадстаўлены матэрыял часоў Старажытнай Русі. Зыходзячы з гэтага нельга гаварыць пра ўзнікненне гарадка ў канцы XIV ст.[28].

Г.А. Масаліцына і І.В. Болдзін звярнулі ўвагу на памылковую лакалізацыю Дзмітраўца К.А. Авяр'янавым «паблізу вусця Рэсы» і прыйшлі спачатку да высновы аб запазычанні такога ўяўлення з карты С.М. Кучыньскага (праўда, там сама Рэса не пазначана)[29], а пазней (што, відаць, адпавядае сапраўднасці) — з апісання С. Герберштэйна[30]. У свой час аўтарытэт буйнейшага даследчыка рэгіёнаў Северскай зямлі і Верхняй Акі (С.М. Кучыньскага) паўплываў на вызначэнне месца Дзмітраўца

[24] Археологическая карта России (далей: АКР): Калужская область / Сост. Ю.А. Краснов. М., 1992. № 597. С. 124; Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 126; Яны ж. Археологический поиск летописного Дмитровца. С. 181. У другім выданні археалагічнай карты Калужскай вобласці прайшла тая ж інфармацыя пра гарадзішча Жары (АКР: Калужская область. Изд. 2-е / Под ред. А.В. Кашкина. М., 2006. № 803/597. С. 252).

[25] Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 126; Яны ж. Археологический поиск летописного Дмитровца. С. 182; Памятники истории и культуры национального парка «Угра». С. 16—17.

[26] Список населенных мест по сведениям 1859 года. Т. XL: Смоленская губерния. СПб., 1868. С. 403. № 11285.

[27] Никольская Т.Н. Земля вятичей: К истории населения бассейна верхней и средней Оки в IX—XIII вв. С. 87.

[28] Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 127, 128; Яны ж. Археологический поиск летописного Дмитровца. С. 183, 184, 185—186; Яны ж. Реконструкция истории летописного Дмитровца. С. 71, 72.

[29] Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 128; Mapa ziem czernihowsko-siewierskich. Włości i kompleksy w XIV i XV wieku // Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy.

[30] Массалитина Г.А., Болдин И.В. Археологический поиск летописного Дмитровца. С. 184; Яны ж. Реконструкция истории летописного Дмитровца. С. 76.

і на картах аўтара гэтай працы[31]. Аднак, дзякуючы заўвазе краязнаўца К.А. Аляксандрава, які звярнуўся да карт XVIII—XIX стст., у новых выданнях гэтая памылка была выпраўлена[32].

Выклікае цікавасць заснаваная на археалагічных звестках выснова Г.А. Масаліцінай і І.В. Болдзіна аб запусценні пасялення на гарадзішчы Дзмітраўца ў канцы XV ст. Здавалася б, гэта не адпавядае сведчанням пісьмовых крыніц, дзе згадваецца Дзмітравец да пачатку XVII ст. і далей. Аднак, як паказалі Г.А. Масаліціна і І.В. Болдзін, ва ўрочышчы Гарадзец у 350 м ад гарадзішча працягвала існаваць пасяленне з такой самай назвай. Яго рэшткі захоўваліся да 70-х г. XX ст.[33].

Варта, праўда, адзначыць, што тыя пісьмовыя крыніцы, на якія спасылаўся К.А. Авяр'янаў і мелі на ўвазе Г.А. Масаліціна і І.В. Болдзін, фіксуюць існаванне Дзмітраўца, можна сказаць, па інерцыі. Кожная наступная маскоўска-літоўская дамова (гаворка ідзе пра гэты дакумент) запазычвала формулы папярэдняй, у прыватнасці, узнаўляла спісы геаграфічных аб'ектаў, многія з якіх даўно страцілі памежны характар (а таму не мела сэнсу іх пералічваць), а некаторыя і ўвогуле зніклі. Акрамя таго, пачынаючы з дамовы 1503 г. Дзмітравец называўся ужо гарадзішчам[34], гэта значыць складальнікі граматы ўлічылі факт заняпаду гэтага гарадка.

Тым не менш назіранні Г.А. Масаліцінай і І.В. Болдзіна нельга ігнараваць. У XVI—XVII стст. у складзе Мажайскага, а потым Вяземскага ўездаў існавала Дзмітраўская воласць, цэнтрам якой і было тое пасяленне (селішча каля запусцелага гарадка), на якое ўказвалі аўтары разгляданых прац. Пазней цэнтр воласці перайшоў да суседняга сяла Рупосава, якое на кароткі час нават стала цэнтрам уезда (праўда, у выніку гэты статус быў перададзены Юхнаву)[35].

У выдадзеных крыху пазней артыкулах тых самых аўтараў зноў была зроблена спроба аднавіць гісторыю Дзмітраўца на аснове комплекснага выкарыстання крыніц. Кола пісьмовых матэрыялаў засталося ранейшым, у якасці асновы для інтэрпрэтацый, як і раней, выкарыстоўвалася работа К.А. Авяр'янава, а з археалагічных дадзеных найбольш важным стала адкрыццё селішча на ўсход ад гарадзішча — месца, дзе працягвалася жыццё Дзмітраўца пасля заняпаду гарадка. У выніку былі выразна аддзелены адно ад аднаго і апісаны два пасяленні (селішчы Дзмітравец 1 каля падножжа гарадзішча і Дзмітравец 2 на ўсход ад яго), звесткі пра якія раней блыталіся[36] (Карта 2). Селішча Дзмітравец 2 першапачаткова было нават

---

[31] Темушев В.Н. Вярхоўскія княствы ў канцы XIII — пачатку XVI ст. Карта // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.1. Мінск, 2005. С. 477; Ён жа. Верховские княжества в конце XIII — начале XVI в. Карта // Большая Российская Энциклопедия. Т. 5. М., 2006. С. 198; Ён жа. Вяземское княжество в XIV—XV вв. Карта // Большая Российская Энциклопедия. Т. 6. М., 2006. С. 201.

[32] Темушев В.Н. Узаемаадносіны Вялікага Княства Літоўскага з Вялікім Княствам Маскоўскім і Крымскім ханствам. 1487—1537 гг. Карта // Вялікі гістарычны атлас Беларусі. Т. 1. Мінск, 2009. С. 74—75; Ён жа. Московско-литовская граница во второй половине XV — первой трети XVI в. Карта // Герберштейн С. Записки о Московии. Т. II. Вкладыш; Ён жа. Верховские княжества в конце XIII — начале XVI в. Карта 2 // Кром М.М. Меж Русью и Литвой. Уклейка паміж с. 48—49.

[33] Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 129.

[34] СИРИО. Т. 35. № 75. С. 400.

[35] Маслов В.Е. Юхнов. Калуга, 1995. С. 19—20.

[36] Новыя дадзеныя аб селішчах Дзмітраўца прадстаўлены ў наступным выданні: Памятники истории и культуры национального парка «Угра». С. 17—18.

прынята за яшчэ адно гарадзішча[37]. Менавіта на ім працягвалася жыццё пасялення пасля заняпаду гарадка Дзмітраўца[38].

Такім чынам, у работах Г.А. Масаліцінай і І.В. Болдзіна не толькі была канчаткова вырашана праблема лакалізацыі Дзмітраўца, але і было зроблена некалькі вельмі каштоўных высноў пра час яго ўзнікнення і развіццё ў XV ст. Пры гэтым праблема суадносін археалагічных дадзеных з паведамленнямі пісьмовых крыніц засталася па-ранейшаму актуальнай.

Даволі падрабязны агляд гісторыі Дзмітраўца даў А.В. Кузьмін у каментары да згадвання горада С. Герберштэйнам[39]. Згодна з аўтарам каментара, узімку 1492/93 г. Дзмітравец быў захоплены ў ВКЛ, але не замацаваны за Масквой па дамове 1494 г. Толькі пасля 1500 г. і паводле ўмоў міру 1503 г. горад увайшоў у склад Вялікага Княства Маскоўскага і стаў часткай Мажайскага ўезда. Выклікае цікавасць назіранне А.В. Кузьміна, зробленае на аснове ўказання С. Герберштэйна, якое не знайшло пакуль пацвярджэння, пра тое, што да часу прыезду пасла ў Расію (1517 г.) у Дзмітраўцы маглі быць пабудаваны новыя ўмацаванні[40].

З'яўленне Дзмітраўца на старонках іншых даследаванняў мае характар згадак пры разглядзе гісторыі маскоўска-літоўскіх адносін. Істотнымі з'яўляюцца ўяўленні пра месцазнаходжанне гарадка і некаторыя заўвагі пра падлеглую яму тэрыторыю.

Невядома, на якую крыніцу абапіраўся М.М. Карамзін, калі ў каментары да падзей 1407 г., дзе быў названы Дзмітравец, ахарактарызаваў яго месцазнаходжанне наступным чынам: «Зараз вёска ў Калужскай губерні, на рацэ Протве»[41]. Даследчык літоўска-маскоўскай мяжы Я. Натансан-Лескі пры апісанні кампаній літоўска-маскоўскай вайны 1406—1408 гг. таксама звярнуў увагу на Дзмітравец і прывёў думку М.М. Карамзіна пра яго месцазнаходжанне. Аднак глыбокае веданне мясцовасці дазволіла польскаму даследчыку ўзяць пад сумнеў такую лакалізацыю і выказаць здагадку пра тое, што гаворка ішла аб Дзмітраве над р. Угрой, насупраць вусця р. Воры[42]. Цалкам верагодна, што Я. Натансан-Лескаму былі даступны расійскія картаграфічныя матэрыялы XIX ст. і найперш ваенна-тапаграфічная карта («трохвёрстка») 1850 г.

Пры вызначэнні месца Дзмітраўца У.М. Дзябольскі, несумненна, карыстаўся іншай крыніцай — «Списком населенных мест Смоленской губернии». Паводле слоў даследчыка гісторыка-геаграфічнай кампаненты духоўных і дамованых грамат маскоўскіх князёў, «Дзмітравец ляжаў на Угры, у Юхноўскім уездзе, у 26-і вёрстах ад уезнага горада»[43]. Такія звесткі даў «Список населенных мест»[44], але іх, відаць, было недастаткова — на сваёй карце, прыкладзенай да працы, У.М. Дзябольскі Дзмітравец не пазначыў.

С.М. Кучыньскі тлумачэнняў у тэксце сваёй работы (прысвечанай чарнігава-северскім землям) адносна месцазнаходжання Дзмітраўца не зрабіў, але на карце з невялікай памылкай гарадок пазначыў[45], магчыма кіруючыся ўказаннем адлегласці

---

37 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Археологический поиск летописного Дмитровца. С. 186—187.

38 Тамсама. С. 185—187; Яны ж. Реконструкция истории летописного Дмитровца. С. 76.

39 Герберштейн С. Записки о Московии. Т. II. С. 416. Прим. 535.

40 Тамсама. С. 417. Заўв. 535.

41 Карамзин Н.М. История государства Российского в 12-ти томах. Т. V. С. 292. Прим. 199.

42 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 26. Pr. 44.

43 Дебольский В.Н. Духовные и договорные грамоты московских князей... Ч. 2. С. 43.

44 Список населенных мест по сведениям 1859 года. Т. XL: Смоленская губерния. С. 403. № 11285.

45 Mapa ziem czernihowsko-siewierskich. Włości i kompleksy w XIV i XV wieku // Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy.

ад Юхнава, пазначанай у «Списке населенных мест Смоленской губернии». Акрамя таго, польскі даследчык падаў цікавае, але, відаць, памылковае ўказанне на куплю вялікім князем маскоўскім Сямёнам Іванавічам у князя Івана Друцкага сяла ў Дзмітраве над Угрой[46]. Гэты набытак сапраўды згадваецца ў тэстаменце князя Сімяона[47], толькі без удакладнення месцазнаходжання і, хутчэй за ўсё, там ідзе гаворка пра Дзмітраў на р. Яхраме, на поўнач ад Масквы.

Верагодна, не без уплыву С.М. Кучыньскага на тым жа самым месцы, дзе і ён, паставіў Дзмітраў на сваёй карце і І.А. Галубцоў[48]. Наогул варта адзначыць, што з сярэдзіны XX ст. такіх падрабязных і дакладных карт, якія ілюстравалі б рэгіёны Павугор'я і Верхняй Акі, створана не было. Толькі ў 1993 г. А.У. Шэкаў пераклаў на рускую мову і надрукаваў карту С.М. Кучыньскага[49]. Дзмітравец застаўся ў ёй на ранейшым месцы. Інтарэсу даследчыкаў да вызначэння месцазнаходжання як Дзмітраўца, так і іншых населеных пунктаў у міжрэччы Акі і Угры, такім чынам, доўгі час не было. Толькі нядаўна былі надрукаваны дзве працы, спецыяльна прысвечаныя Дзмітраўцу. У іх была канчаткова вырашана праблема лакалізацыя гарадка на Угры, на аснове пісьмовых крыніц раскрыта яго гісторыя і выпрацавана гіпотэза пра яго ўзнікненне.

Агляд прац, звязаных з лакалізацыяй і гісторыяй Дзмітраўца, паказаў, што да нядаўняга часу даследчыкі мелі толькі прыблізнае ўяўленне пра яго месцазнаходжанне. Аднак і раней, нават без выкарыстання археалагічных звестак, існавала магчымасць для дакладнай лакалізацыі гарадка на карце. Месца гарадзішча зніклага Дзмітраўца выразна чытаецца на плане Генеральнага межавання Юхноўскага ўезда Смаленскай губерніі[50]. Там, крыху ў левы бок ад пагоста Дзмітравец, у якім можна заўважыць царкву, каля берага р. Угры намаляваны круглы пагорак, пад якім відавочна хаваецца шуканае гарадзішча (Карта 3). Г.А. Масаліціна і І.В. Болдзін знайшлі гарадзішча Жары 1 «на стромкім беразе Угры, паміж двума ярамі, на высокім узгорку правільнай конусападобнай формы як бы са зрэзанай вяршыняй»[51]. Яры, што абкружаюць гарадзішча, дакладна пазначаны на ваенна-тапаграфічнай карце 1850 г. («трохвёрстцы»)[52]. На ўсход ад выразна бачнага месца гарадзішча падпісаны Гарадзец Дзмітраў. Вельмі добра чытаецца Гарадзец і пагорак на захад ад яго на нямецкай карце 1941 г. На савецкай карце 1941 г., створанай па выніках здымкі 1939 г., Гарадзец яшчэ быў пазначаны, але не як жылое пасяленне[53]. Пасля вайны ні гэтага населенага пункта, ні ўсіх суседніх ужо не існавала.

Такім чынам, комплекснае выкарыстанне археалагічных і картаграфічных звестак дае магчымасць скласці даволі дакладнае і несупярэчлівае ўяўленне пра месцазнаходжанне сярэдневяковага гарадка. Пэўны час заставалася невырашанай праблема

---

46 Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. C. 62.

47 ДДГ. № 3. С. 14.

48 Голубцов И.А. Ликвидация феодальной раздробленности и татарского ига, присоединение к Русскому государству исконных русских земель. Карта // Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства. Вкладыш.

49 Верхняя Ока в XIII—XVI вв. (по С.М. Кучиньскому). Карта // Шеков А.В. Верховские княжества. Вклейка.

50 Геометрический план Юхновского целого уезда...

51 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 127.

52 Военно-топографическая карта г. Калужской и Смоленской. СПб., 1850. 3 версты в дюйме. Ряд XIII. Лист 13. Яр на захад ад гарадзішча сярод мясцовых жыхароў называецца Анціпаў Роў.

53 Генеральный штаб Красной Армии. N—36—46 (Знаменка). 1941. Масштаб 1 : 100 000 (В 1 см — 1 км). Кв. 86—26.

лакалізацыі пераемніка пакінутага ў канцы XV ст. гарадка Дзмітраўца. У асобнай працы Г.А. Масаліцінай і І.В. Болдзіна гэтае пасяленне памылкова пазначана ў 350 м на захад ад гарадзішча, побач з урочышчам Гарадзец[54]. Але на картах населены пункт (пагост, сяло, вёска) Дзмітравец размешчаны на ўсход ад гарадзішча, там, дзе і знаходзіцца ўрочышча Гарадзец! Тое селішча, якое пазначылі Г.А. Масаліціна і І.В. Болдзін, магло быць не Дзмітраўцом — цэнтрам воласці, што існавала ў XVI—XVII стст., а вёскай Вісялёвай (Хахловай, Мал. Вісялёвай, Хахлоўкай), якая пазначана на картах XVIII — першай паловы XX стст.[55]. Аднак у гэтым выпадку адбылася звычайная памылка. Канечне ж, Г.А. Масаліціна і І.В. Болдзін мелі на ўвазе селішча не на захадзе, а на ўсходзе ад гарадзішча. У нядаўніх працах, прысвечаных вывучэнню Дзмітраўца, даследчыкі прывялі падрабязнае апісанне пасялення ва ўрочышчы Гарадзец (помнік атрымаў назву селішча Дзмітравец 2), пераканаўча звязаўшы археалагічныя дадзеныя, якія яго датычылі, з гісторыяй пасялення, вядомага з пісьмовых крыніц[56].

Трэба адзначыць, што на ўсходзе ад гарадзішча было знойдзена селішча XIV—XVII стст. Малое Вусце[57]. Але, калі меркаваць па яго месцазнаходжанні прама насупраць вусця р. Воры, яго нельга прыняць за цэнтр Дзмітраўскай воласці. Гэта вёска Вусце XVIII ст. або Малое Вусце XIX ст., або Вялікае Вусце даваеннага часу, якая існавала, як высвятляецца, яшчэ ў часы сярэднявечча.

На тапаграфічным плане гарадзішча Жары 1, што прыведзены ў спецыяльным артыкуле, прысвечаным вывучэнню гэтага помніка, які яшчэ не быў атаясамлены з Дзмітраўцом, пазначана яшчэ адно селішча[58]. Яно размешчана на паўночным захадзе ад гарадзішча, на пакатым схіле пагорка, да яра. Селішча вялікае па плошчы і разоў у 5 перавышае само гарадзішча, але, на жаль, звесткі пра яго не былі пададзены. Жыццё гэтага паселішча (пасада Дзмітраўца?) было шчыльна звязана з гарадзішчам і спынілася ў той жа самы час (канец XV ст.). Менавіта яго як селішча Жары зафіксавала Археалагічная карта Калужскай вобласці[59]. Цяпер яно называецца селішчам Дзмітравец 1[60].

Такім чынам, месца пасялення — пераемніка сярэдневяковага Дзмітраўца — урэшце рэшт, таксама было дакладна вызначана.

Картаграфічныя матэрыялы яшчэ паслужаць важнай крыніцай інфармацыі для рэканструкцыі гісторыі памежнай зоны ў Павугор'і, але асноўная роля ў вырашэнні гэтай задачы па-ранейшаму застаецца за пісьмовымі крыніцамі.

На старонках летапіса Дзмітравец з'явіўся толькі аднойчы, пад 1407 г. Тады ён быў спалены маскоўскімі войскамі[61]. Гэта першая згадка гарадка разам з тым

54 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 129.

55 Хахлоўка таксама абкружалася ярам, што давала ёй прыродную абарону.

56 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Реконструкция истории летописного Дмитровца. С. 73—76, 79; Яны ж. Археологический поиск летописного Дмитровца. С. 186—187.

57 АКР: Калужская область. Изд. 2-е. № 808/601. С. 253; Памятники истории и культуры национального парка «Угра». С. 19.

58 Массалитина Г.А., Модин И.Н., Болдин И.В. Комплексные археологические и геофизические исследования на городище Жары 1 Юхновского района Калужской области // Дмитрий Донской и эпоха возрождения Руси. События, памятники, традиции. Тула, 2001. С. 45.

59 АКР: Калужская область. Изд. 2-е / Под ред. А.В. Кашкина. М., 2006. № 804/598. С. 252.

60 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Реконструкция истории летописного Дмитровца. С. 79.

61 ПСРЛ. Т. VIII. С. 81; ПСРЛ. Т. XI. Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью. М., 2000. С. 202; ПСРЛ. Т. XXV. Московский летописный свод конца XV века. М., 2004. С. 237; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 465.

ускосна засведчыла яго нядаўняе ўзнікненне, бо на маршрутах паходаў у раёне р. Угры раней ён не трапляўся і, акрамя таго, не быў пералічаны ў «Списке городов русских дальних и ближних» канца XIV ст.[62]. Пасля 1407 г. доўгі час Дзмітравец не быў закрануты значнымі палітычнымі падзеямі, таму інфармацыя пра яго не адлюстравалася ў пісьмовых крыніцах. Часткова дапамагаюць рэканструяваць жыццё гарадка ў той час матэрыялы Метрыкі ВКЛ. У канцы XV ст. у падзеях вайны паміж вялікімі Княствамі Маскоўскім і Літоўскім памежны Дзмітравец адчуў ціск з маскоўскага боку, з-за чаго трапіў на старонкі пасольскіх кніг, а таксама пачаў пастаянна згадвацца ў маскоўска-літоўскіх дамовах аж да пачатку XVII ст. Згадка гарадзішча Дзмітраўца ў духоўных граматах Івана III і Івана IV Грознага, заўвага С. Герберштэйна з лакалізацыяй гэтага «горада і крэпасці»[63] і матэрыялы межавання 1634—1648 гг. замыкаюць комплекс звестак, якія датычаць гісторыі гарадка на Угры.

## Дзмітравец у падзеях XV ст.

Відаць, невыпадкова Дзмітравец у 1407 г. сустрэўся на шляху маскоўскага войска, якое перайшло мяжу ВКЛ, а ў канцы XV ст. трапіў у зону маскоўска-літоўскага канфлікту. Лёс гарадка быў непарыўна звязаны з той сітуацыяй, што складвалася ў Павугор'і ў XIV—XV стст. на фоне фарміравання мяжы паміж вялікімі княствамі Маскоўскім і Літоўскім. Разгляд падзей, што адносілася да Дзмітраўца, дазволіць дасягнуць мэт гэтай працы — высвятліць ролю гэтага гарадка ў сістэме абароны ВКЛ. Безумоўна, без вызначэння яго месца на геаграфічнай карце (што ўжо было зроблена) цяжка было б абгрунтаваць некаторыя высновы. Цяпер жаназіранні за характарам мясцовасці, шляхамі, брадамі, іншымі пасяленнямі і апорнымі пунктамі ў раёне Дзмітраўца дазволяць па-новаму зірнуць на яго гісторыю. Рашэнне другасных задач (высвятленне статуса і ўладальніцкай прыналежнасці гарадка, часу яго ўзнікнення і знікнення) таксама суадносіцца з пастаўленай мэтай.

Адной з важных задач, на жаль, не будзе нададзена адпаведнай увагі. Сёння немагчыма прапанаваць дастаткова пераканаўчай гіпотэзы аб паходжанні назвы Дзмітраўца. Пошукі адпаведнасцей з імёнамі палітычных дзеячаў блізкага да пачатку XV ст. часу пакуль не даюць вынікаў. Існуе верагоднасць таго, што Дзмітравец запазычыў назву таго населенага пункта, які існаваў на яго месцы яшчэ са старажытнарускага часу, і тады поле пошуку пашыраецца. Магчыма, што назва гарадка звязана з чалавекам, чыя дзейнасць не знайшла адбітку ў пісьмовых крыніцах, або яна паходзіць ад імя святога (Дзмітрыя Салунскага?), якому, напрыклад, магла быць прысвечана царква Дзмітраўца. У апошнім выпадку найверагоднейшая, канечне, адваротная сітуацыя, калі заснавальнік мястэчка стварыў царкву, прысвечаную свайму патрону. І сапраўды, такая думка можа быць справядлівай. У апісанні дварцовых зямель Дзмітраўскай воласці (Дзмітраўскага гарадзішча) 1676—1678 гг. у сяле Дзмітрава гарадзішча была названа царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы (відавочна, нядаўна пабудаваная) і, акрамя таго, «два места церковных пустых ве-

---

62 Складзены, на думку М.М. Ціхамірава — паміж 1387 і 1392 гг., Я.П. Навумава — паміж 1394 і 1396 гг., В.Л. Яніна — паміж 1375 і 1381 гг. (Наумов Е.П. К истории летописного «Списка русских городов дальних и ближних». С. 155; Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. С. 67).

63 Герберштейн С. Записки о Московии. Т. I. С. 324—325.

ликого чюдотворца Николы да м(у)ч(е)н(и)ка Хр(и)ст(о)ва Димитрия»[64]. Верагодна, царкоўнае месца св. Міколы адносілася да сяла Рупосава (у воласці было толькі два сялы). А вось занядбаную царкву Дзмітрыя Салунскага гіпатэтычна можна звязаць са зніклым да таго часу гарадком Дзмітраўцом. Звесткі пра царкву ў самім Дзмітраўцы або на яго пасадзе адсутнічаюць, але, безумоўна, яна павінна была існаваць. Тады становіцца зразумелым высокае становішча чалавека, які заснаваў гарадок на Угры, аднак яго асоба па-ранейшаму застаецца невядомай.

Першая згадка пра гарадок звязана з тым, што ў 1407 г. на Спасаў дзень[65], маскоўскі вялікі князь Васілій I, сабраўшы вялікае войска, пайшоў на Літоўскую зямлю «и взя град Дмитровецъ и огнемъ пожьже»[66]. Ужо каля Вязьмы маскоўскае войска сустрэў Вітаўт. Было заключана перамір'е ад Нараджэння Прасвятой Багародзіцы (8 верасня) да Пятрова дня (29 чэрвеня)[67]. Сам паход ад Масквы да Вязьмы адбываўся з 16 жніўня (Трэці Спас) да пачатку верасня[68].

Такім чынам, у жніўні 1407 г. на шляху маскоўскага войска, якое рухалася праз Угру ў напрамку Вязьмы, сустрэўся населены пункт, да гэтага часу нецікавы для складальнікаў летапісаў, дамованых грамат і іншых пісьмовых крыніц. Відаць, Дзмітравец не мог сур'ёзна абараняцца — яго неўзабаве захапілі і спалілі. У сувязі з гэтым набывае асаблівае значэнне сведчанне археолагаў аб умацаванні гарадка ў пачатку XV ст. Магчыма, менавіта пасля спусташэння Дзмітраўца ў 1407 г. у ім былі створаны новыя, больш моцныя абарончыя збудаванні. Такім чынам, падчас літоўска-маскоўскай вайны выявілася важная стратэгічная роля гарадка на Угры, які прыкрываў шлях у глыбіню ВКЛ.

Наступнае з'яўленне Дзмітраўца на палітычнай арэне Усходняй Еўропы адносіцца да канца XV ст. Распачатая першая маскоўска-літоўская памежная вайна вызначыла важнае абарончае значэнне гарадка на Угры і, у той жа час, выявіла тэрыторыю, што да яго адносілася.

Да канца 1488 г., згодна з датаваннем пасольскіх кніг, адбылося наступленне людзей князя Андрэя Васільевіча Мажайскага на воласць «к Дмитрову»[69]. Наступленне ішло, відаць, з боку воласці Арэхаўны, якая ўжо належала князю Андрэю, уздоўж левага берага р. Воры (дзе ішла дарога) да яе вусця і закранула толькі левабярэжную частку Дзмітраўскай воласці. Пры гэтым было абрабавана 50 вёсак[70]. Сам Дзмітравец, відаць, не пацярпеў. Магчыма, пра тую ж самую падзею з падрабязнасцямі рас-

---

64 Список с писцовой книги дворцовых земель... письма и меры Петра Лихарева и подьячего Григория Неклюдова. 1676—1678 гг. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10808. Л. 727 об.

65 Паводле Ніканаўскага летапісу выйшаў з Масквы 6 (16) жніўня (ПСРЛ. Т. XI. С. 202), паводле Львоўскага летапісу — 6 жніўня (ПСРЛ. Т. XX. С. 225, паводле Г.Л. Харашкевіч — 16 жніўня (Хорошкевич А.Л. Документы начала XV в. о русско-литовских отношениях. С. 46). Гаворка ідзе пра так званы Яблычны спас, які адзначаецца 19 жніўня (6 жніўня па старым стылі), або пра Трэці спас (Арэхавы альбо Хлебны), які святкуюць 29 жніўня (16 па старым стылі).

66 ПСРЛ. Т. XXV. С. 237. Гл. таксама: ПСРЛ. Т. VIII. Продолжение летописи по Воскресенскому списку. М., 2001. С. 81; ПСРЛ. Т. XI. С. 202; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. С. 465. У Цвярскім летапісе гэтае паведамленне моцна сказілася: «Тогда же Москвичи и Дмитровци взяша градъ Литовский» (ПСРЛ. Т. XV. Стб. 478).

67 ПСРЛ. Т. I. Лаврентьевская летопись. М., 2001. Стб. 538; ПСРЛ. Т. XV. Стб. 478.

68 Паводле Г.Л. Харашкевіч, следам за апісанай падзеяй у Васкрасенскім летапісе змешчана паведамленне пра смерць смаленскага князя Юрыя Святаславіча 14 верасня (Хорошкевич А.Л. Документы начала XV ст. С. 47).

69 СИРИО. Т. 35. № 6. С. 20; № 8. С. 37.

70 Тамсама.

павядаецца ў пасольскіх кнігах 1489 г. са спасылкай на два гады раней. У такім выпадку датаванне нападзення на Дзмітраў можна ўдакладніць — лета 1487 г.[71]. Але таксама застаюцца верагоднымі дзве атакі на Дзмітравец: летам 1487 г. — Кашкара, Боціна брата, Аболта з братам і іншых «с своими товарищи» (людзей вялікага князя Івана III?) і да канца 1488 г. (людзей князя Андрэя). Менавіта ў першым выпадку было «выбрано» 50 вёсак, забрана 42 кані, нарабавана маёмасці на 70 рыжскіх рублёў[72]. У другі раз былі пабіты людзі, некаторыя трапілі ў палон, адбылося рабаванне. Недакладнасць і абстрактны характар фармулёўкі другога нападзення (адлюстраваны ў пасольскіх кнігах раней за першы) дазваляе думаць пра першапачатковы недахоп звестак аб рэальных стратах, памер якіх быў высветлены да часу наступнага пасольства. Такім чынам, магчымасць атаясамлівання абедзвюх падзей захоўваецца.

Нават падчас мірных перагавораў у Маскве і нават пасля заключэння «вечнага» міру 1494 г., паводле якога Дзмітравец і яго тэрыторыя ў левабярэжжы р. Угры захаваліся ў складзе ВКЛ, памежныя канфлікты не спыняліся.

У 1494 г. «боярин твой [Івана III. — *В.Ц.*], брата нашего, на имя Олферей, волостель туреский, тыми разы вжо сего году Дмитровское нашое волости засел десять деревень у Радунки; а перво сего, вжо после нашего с тобою докончаниа, тое жо волости нашое Дмитровское Скряба Травин засел два села, на имя Луково а Шибнево; а тивун вежецкий Абрам тое жо Дмитровское волости засел одинатцать деревень»[73]. Тры розначасовыя падзеі (адна раней, другая пасля заключэння міру — 5 лютага і трэцяя без удакладнення часу) тычацца непасрэдна Дзмітраўца і па сутнасці сваім апісаннем дапамагаюць рэканструяваць межы яго воласці. Характэрна, што наезд на дзмітраўскія землі ў 1494 г. быў вядомы Я. Натансану-Лескаму, але польскі даследчык, упэўнена акрэсліўшы лінію мяжы ўздоўж р. Угры, вымушаны быў прызнацца ў немагчымасці лакалізаваць згаданыя аб'екты[74].

Такім чынам, яшчэ ў тым жа годзе баярын Алферэй — «туреский» валасцель (воласці Тур'е, якая ўжо была аднесена да Мажайска, а да таго належала князям Глінскім)[75] «засел» 10 вёсак Дзмітраўскай воласці каля рэчкі Радункі. Нападзенне, такім чынам, ішло з боку левага прытока р. Угры Турэі, вакол якой груціравалася воласць, на другі левы прыток Угры — Радунку, якая вядома з карты Генеральнага межавання як Рудзенка[76].

Скраба Травін пасля заключэння міру (пасля 5 лютага) «засел» два дзмітраўскія сялы — Лукава і Шыбнева, якія сустракаюцца і на сучаснай карце па розныя бакі р. Воры, пры ўпадзенні ў апошнюю Істры[77].

Абрам — цівун вежацкі (воласці Вежкі, магчыма, ужо аднесенай да Мядыні) «засел» 11 вёсак Дзмітраўскай воласці. Час не пазначаны, але, відаць, адбывалася гэтая падзея тады ж, калі і папярэднія. Месцазнаходжанне вёсак не пазначана, але воласць Вежкі вызначана ў раёне яшчэ аднаго прытока Угры — Вярэжкі.

Такім чынам, тэрыторыя Дзмітраўскай воласці ў левабярэжжы Угры (пра яе пашырэнне на правы бераг ракі нічога не вядома) размяшчалася па абодва бакі р. Воры

---

71 Скардзіўся вялікаму князю Казіміру на спусташэнне Дзмітраўскай воласці смаленскі намеснік Іван Ільініч, які стаў ім на пачатку 1487 г. (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. № 41. S. 50).

72 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 37.

73 Тамсама. № 56. С. 268.

74 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 85. Pr. 179.

75 СИРИО. Т. 35. № 8. С. 36.

76 Геометрический план Юхновского целого уезда…

77 Атлас Калужской области. С. 14.

і абмяжоўвалася на паўночным захадзе рэчкай Радункай, на паўднёвым усходзе не даходзіла да ракі Вярэжкі, а на поўначы і паўночным усходзе кантактавала з валасцю Тур'е, а таксама з яшчэ адной вядомай у гэтым раёне валасцю — Арэхаўнай (на р. Істры, прытоку Воры)[78].

Цячэнне р. Угры ўверх ад Дзмітраўца ішло на паўночны захад, праходзіла каля Апчытава, а потым рабіла рэзкі паварот на паўднёвы захад, сыходзячы ў глыб зямель ВКЛ. У выніку для маскоўскіх уладанняў заставаўся толькі вузкі кавалак каля самага вусця р. Угры.

Трэба яшчэ раз адзначыць, што і пасля заключэння міру 1494 г. Дзмітравец захаваў сваю тэрыторыю на левым беразе Угры. Пры гэтым прыметнае імкненне маскоўскай адміністрацыі суседніх валасцей адрэзаць частку дзмітраўскіх зямель. Дзмітравец зазнаў пэўныя страты, але па-ранейшаму кантраляваў частку левабярэжжа Угры.

## Адміністрацыйная прыналежнасць Дзмітраўца ў канцы XV ст.

Размешчаны пасярэдзіне двух напрамкаў маскоўскага наступлення ў Павугор'і, Дзмітравец выстаяў сам (яго так і не захапілі) і абараніў сваю тэрыторыю. Пытанне аб тым, каму падпарадкоўваўся Дзмітравец і хто менавіта арганізоўваў абарону ўчастка літоўска-маскоўскай мяжы ў раёне гарадка, падаецца даволі складаным.

7 жніўня 1488 г., згодна з кароткім запісам ў рэестры «отправ» вялікага князя Казіміра, былі дадзены «Ивану Свиридонову кадь меду з дмитровъское дани въ Глазыны, а жеребя в Михаила, конюшого, а 8 локоть сукна махалского з мыта въ Смоленьску»[79]. Іван Свірыдонаў (Свірыдаў) — гэта смаленскі канюшы, вядомы ў 1488—1499 г.[80]. Значыць, адзін зураднікаў (службовых асоб) вялікакняжацкай адміністрацыі атрымаў згодна з гаспадарскай воляй, відаць аднаразова, як узнагароджанне, частку прыбыткаў (кадзь мёду) з Дзмітраўца і яго валасці ад Глазыны, каня («жеребя») ад Міхаіла[81] і 8 локцяў сукна са смаленскіх мытных збораў.

У запісе рэестра называлася выплата з мядовага мыта Дзмітраўца. Асобая катэгорыя людзей — даннікаў гаспадарскіх валасцей абавязана была выконваць службу — плаціць даніну ў скарб (у дадзеным выпадку — у смаленскі) мёдам[82]. Акрамя мядовай, даннікі Дзмітраўскай валасці павінны былі плаціць яшчэ грашовую, бабровую і кунічную даніну[83].

Згадванне гаспадарскага мыта з Дзмітраўца ў асяродку смаленскіх ураднікаў і прыбыткаў са Смаленска падводзіць да высновы аб адміністрацыйным статусе гарадка — ён быў цэнтрам гаспадарскай валасці і ўваходзіў у склад Смаленскай зямлі (намесніцтва, ваяводства, павета). Падстаў для вылучэння Дзмітраўца ў якасці цэнтра намесніцтва быццам бы няма. Але ж хто такі згаданы побач з Іванам Свірыдонавым Глазына?

---

78 Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 283.

79 LM. Kn. 4 (1479—1491) / Parengė L. Anužutė. Vilnius, 1994. № 16.6. P. 67.

80 АЛМ. 1.1. № 20. С. 14; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. № 22. S. 48.

81 Міхаіла можна атаясаміць з канюшым дворным і віленскім Міхайлам Грэгаровічам, які згадваецца ў 1481—1488 г. (Urzędnicy centralni i dignitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku. № 236. S. 54).

82 Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого Княжества Литовского при Ягеллонах. Т. I. Киев, 1901. С. 225.

83 LM. Kn. 6. № 137. P. 121.

Можна здагадацца, што гаспадарскай данінай з Дзмітраўца распараджаўся вядомы з актаў Метрыкі ВКЛ смаленскі акольнічы Алехна Васільевіч Глазына (Глазыніч)[84]. Такім чынам, з 7 жніўня 1488 г. частка збіранага ім мыта была падаравана згодна з гаспадарскім распараджэннем смаленскаму канюшаму Івану Свірыдонаву (Свірыдаву).

Акрамя Алехны, мець адносіны да збору дзмітраўскай даніны мог яшчэ адзін вядомы Глазына — яго брат Іван Глазына (Пузына). Аднак гэта кандыдатура адкідаецца ў сувязі з наступным.

Да 1492 г. (пры жыцці караля Казіміра) Іван Глазына збег у Маскву разам са сваімі сынамі, праўда, апошніх па дарозе злавілі[85]. Відавочна, гэта яны пералічаюцца ў Рэестры смаленскіх князёў, баяр і слуг 1492 г. на першым месцы («Князя Ивановых сыновъ, Глазынина брата [Алехны. — *В.Ц.*], пять: Дмитреи, Иван, Левъ, Михаило, Анъдреи»)[86]. Яшчэ адзін сын Івана Глазыны Юрый са сваёй маці ў 1496 г. марна спрабаваў аспрэчыць частку («делницу») воласці Мсціславец, якой валодаў яго бацька разам з братам. Доля Мсціслаўца пасля ўцёкаў князя Івана ў Маскву была перададзена спачатку Мікалаю Мікалаевічу Радзівілавічу («какъ держалъ от оица нашого Смоленъскъ»), а потым Алехну Глазыну[87]. Мікалай Радзівілавіч быў смаленскім намеснікам з 1482 па канец 1486 г.[88]. На пачатку 1487 г. намеснікам у Смаленску ўжо з'яўляўся Іван Ільініч[89]. Такім чынам, князь Іван Глазына ўцёк у Маскву яшчэ да «отправы» 1488 г.

Як бачым, больш верагоднай застаецца выснова пра збор даніны з Дзмітраўца князем Алехнам Глазынам.

Падаецца, што Алехна Глазына толькі збіраў даніну з Дзмітраўца, а не быў яго намеснікам (як лічыць глыбокі знаўца гісторыі Верхняокскага рэгіёна, краязнаўца Р.А. Бяспалаў). Практыка прыняцця мыта і збору недаімкаў («недополнков») з валасцей ВКЛ, нават тых, што мелі намеснікаў, рознымі службовымі асобамі (напрыклад, пісарамі) па даручэнні гаспадара, была шырока распаўсюджана[90]. Цалкам верагодна і выкананне такой функцыі смаленскім акольнічым. Вядома, што князь Алехна быў намеснікам Лучына Гарадка[91], пра яго кіраванне Дзмітраўцом звестак няма.

У гэтай сувязі можна лічыць непераканаўчым атаясамленне Глазыны з дзмітраўскім намеснікам. Даручэнне смаленскаму акольнічаму збору гаспадарскага

---

84 Вядомы з 1486 да 1500 г. (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. № 54. S. 52). Пра род Глазынічаў гл.: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 288; Boniecki A. Herbarz Polski. Cz. I. Wiadomości historyczno-genealogiczne o rodach szlacheckich. T. I. Warszawa, 1899. S. 293— 294; Ён жа. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 75; Пташицкий С.Л. Князья Пузыны; Власьев А.Г. Потомство Рюрика. С. 343—347.

85 LM. Kn. 6. № 147. P. 125.

86 LM. Kn. 4. № 141.1. P. 152.

87 LM. Kn. 6. № 147. P. 125.

88 LM. Kn. 4. № 72—74. P. 114—115; № 77. P. 116; № 92—94. P. 121—122; № 97. P. 124; № 100. P. 125; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. № 40. S. 50. 23 студзеня 1487 г. Мікалай Радзівілавіч згадваецца як былы смаленскі намеснік. Гэтую пасаду займаў ужо Іван Ільініч (LM. Kn. 4. № 100. P. 125).

89 LM. Kn. 4. № 100. P. 125; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. № 41. S. 50.

90 LM. Kn. 5. № 183. C. 295; LM. Kn. 6. № 597. P. 344; № 607. P. 347; LM. Kn. 8 (1499—1514) / Parengė A. Baliulis ir kt. Vilnius, 1994. № 115. P. 146; Груша А.І. Канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага. С. 34—37.

91 З 1495 па 1499 г. (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. 4. № 84. S. 56).

прыбытку (прыняцця даніны) з Дзмітрава не рабіла яго наменікам гэтага гарадка. Да канца XV ст. у крыніцах наогул не сустракаюцца згадкі пра намеснікаў у Дзмітраўцы або ўказанні на іх існаванне. Тым не менш пры новым вялікім князі літоўскім Аляксандры Казіміравічы намеснікі ў Дзмітраўцы з'явіліся.

10 лістапада 1495 г. у трыманне «до живота» Дзмітраў быў аддадзены пісару Івашке Сапежычу (Івану Сапегу)[92]. Прыблізна ў гэты ж час (да пачатку 1495 г.) ён вымяняў у брата Васілія частку Апакава, які належаў таму[93], і, разам з Дзмітраўцом, сфарміраваў на мяжы з Вялікім Княствам Маскоўскім значнае ўладанне. 20 снежня 1497 г. усе ўладанні Івашкі Сапежыча былі пацверджаны вялікім князем Аляксандрам[94]. Характэрна, што Дзмітраўца сярод іх не было.

Хутка гэтыя землі былі страчаны падчас маскоўска-літоўскай вайны 1500—1503 г. У перамірнай грамаце 1503 г. гарадзішча Дзмітравец, Апакаў і Мошчын былі запісаны на маскоўскім баку[95]. Перыяд існавання ў Дзмітраўцы намесніка, такім чынам, быў вельмі кароткім.

Падаецца, што да 1492 г. (дакладней пры вялікім князі Казіміры) Дзмітравец наогул не ведаў намеснікаў. Найперш, пры перадачы гарадка ў трыманне да жывата Івашку Сапежычу вялікі князь літоўскі Аляксандр, звяртаючыся да прыказчыка і ўсіх людзей дзмітраўскіх, заўважыў: «И вы бы его во всем были послушни по тому, какъ и перъвых наместниковъ *наших*»[96]. Намеснікі гэтыя (ранейшыя) паспелі змяніцца ў Дзмітраўцы за кароткі час праўлення Аляксандра Казіміравіча (з канца ліпеня 1492 г.)[97], а дакладней — у 1494—1495 гг., бо трэба ўлічваць тое, што з канца 1492 па пачатак 1494 г. мястэчка знаходзілася пад маскоўскай уладай і кіраваннем С.Ф. Варатынскага[98].

Акрамя таго, заслугоўвае ўвагі аналіз скаргаў прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі вялікаму князю літоўскаму аб нападах маскоўскага боку. Так, на спусташэнне горада Апакава Казіміру паступіла скарга ад яго гаспадароў — Івашкі і Васкі Сапежычаў («Жаловали нам слуги наши, пана Сопежины дети»)[99]. На рабаванне сваіх гарадоў і валасцей скардзіліся князі Вяземскія, Глінскія, Варатынскія[100]. Тое ж адбывалася і пры нападзеннях на Любуцк і Мцэнск — звесткі пра гэта паступалі ад мцэнскага і любуцкага намесніка князя Івана Трубяцкога[101]. Калі ж пачаліся спусташэнні ў воласці Дзмітраўца, то пра гэтую падзею паведамляў Казіміру

92 LM. Kn. 6. № 137. P. 121.

93 «Ему всю спустилъ свою дельницу Опаковскую своею доброю волею» (АЛМ. Т. 1. Вып. 1. № 152. С. 59; Литовская метрика. Отдел 1. Ч. 1. Книги записей. № 58. Стб. 567—569).

94 LM. Kn. 6. № 243. P. 166—168.

95 LM. Kn. 5. № 118.13. C. 210.

96 LM. Kn. 6. № 137. P. 121.

97 20 ліпеня 1492 г. у Вільні быў сабраны сойм, на якім 30 ліпеня вялікім князем літоўскім быў абраны Аляксандр Казіміравіч (Любавский М.К. Литовско-русский сейм. М., 1901. С. 136; Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieku. S. 6).

98 Магчыма, на кароткі тэрмін на самым пачатку 1493 г. Дзмітравец вяртаўся ў склад ВКЛ. Таксама магчымы захоп гарадка маскоўскімі войскамі толькі ў лютым 1493 г. (СИРИО. Т. 41. № 41. С. 186, 192). Такім чынам, у перыяд лета—восень 1492 г. у Дзмітравец маглі быць прызначаны намеснікі.

99 СИРИО. Т. 35. № 12. С. 49.

100 Тамсама. № 6. С. 20; № 12. С. 48—49.

101 Тамсама. № 6. С. 19.

смаленскі намеснік пан Іван Ільініч («писал к нам слуга наш, наместник смоленский пан Иван Ильинич»)[102]. Так ускосна пацвярджаецца прамая залежнасць Дзмітраўца ад цэнтральнай улады, прадстаўніком якой быў смаленскі намеснік.

Пасля заключэння маскоўска-літоўскага міру 1494 г., які замацаваў Вяземшчыну і тэрыторыю левабярэжжа Угры за Масквой, становішча Дзмітраўца, напэўна, змянілася. Цяпер гарадок набыў яшчэ большае значэнне як апорны памежны пункт, а пасля страты ВКЛ шэрагу адміністрацыйных цэнтраў стаў, магчыма, кантраляваць частку пакінутай без кіравання сельскай акругі Павугор'я. Рост стратэгічнага значэння і адміністрацыйнай ролі Дзмітраўца выклікаў і змяненні ў яго статусе. Невыпадкова гарадок быў выдзелены ў цэнтр намесніцтва.

У канцы XV ст. Дзмітраў быў шэраговым валасным цэнтрам. Маскоўскае наступленне падчас памежнай вайны ішло «у волость нашу [вялікага князя Казіміра. — *В.Ц.*] к Дмитрову» або «на нашу волость на Дмитров»[103]. Згодна са спісам смаленскіх прыгарадаў, які быў складзены падчас перагавораў пачатку 1494 г. літоўскімі памі, Дзмітраў названы смаленскай воласцю, нічым непрыкметнай на фоне іншых валасцей, такіх як Ашчытаў, Пусты Мошчын, Мошчын, Вежкі, Тур'е і інш. Пры гэтым Бышкавічы, Залідаў, Апакаў, размешчаныя ў Павугор'і, названы гарадамі «з волостьми»[104].

Вынікам няведання маскоўскімі ўладамі тэрытарыяльнай сістэмы ВКЛ з'яўляецца выпадак на пачатку 1494 г., калі баяры «спустили» літоўскім паслам «город Дмитров»[105]. Аднак тут магло мець значэнне і рэальнае веданне значэння гарадка, яго ўмацаванняў і падпарадкаванага наваколля, што, на думку масквічоў, вылучала Дзмітравец на фоне іншых валасных цэнтраў.

Неўзабаве зацверджаны пералік гарадоў і валасцей, якіх «поступился» Іван III вялікаму князю літоўскаму Аляксандру, быў складзены «ис того списка, который список послы дали» (спіс смаленскіх прыгарадаў), і ў ім Дзмітравец па-ранейшаму быў названы ў ліку валасцей[106].

Пэўныя змены ў статусе Дзмітраўца можна заўважыць пасля заключэння міру. У жніўні 1494 г. вялікі князь маскоўскі Іван III прадпісваў сваім «украинникам» не ўступацца ў валасці вялікага князя Аляксандра Пагарэлае, Ашчытаў і Дзмітраўскую зямлю. Пры гэтым зноў ад імя Івана III было дабаўлена: «...и мы въ те волости и земли своимъ людемъ въступатися не велимъ»[107]. Такім чынам, Дзмітравец быў няўпэўнена вылучаны як цэнтр зямлі — даволі неакрэсленая адміністрацыйная адзінка.

Літоўскі бок, як і раней, працягваў лічыць Дзмітравец воласцю. У падрабязным апісанні «кривд великих» у адносінах да Дзмітраўца 1498 г. ён паслядоўна называўся воласцю («Дмитровское нашое волости», «волости нашое Дмитровское» і «тоежо Дмитровское волости»)[108]. Статус Дзмітраўца так і не змяніўся.

Пасля далучэння да Вялікага Княства Маскоўскага, згодна з дамовай аб 6-гадовым пераміры 1503 г., рэгіён Павугор'я страціў сваё памежнае значэнне, а яго былыя буйныя ваенна-адміністрацыйныя цэнтры страцілі свой статус. Так, Залідаў, які

---

[102] СИРИО. Т. 35. № 6. С. 20.

[103] Тамсама. С. 20; № 8. С. 37.

[104] Тамсама. № 24. С. 118.

[105] Тамсама. С. 120.

[106] Тамсама. С. 136.

[107] Тамсама. № 28. С. 152.

[108] Тамсама. № 56. С. 268.

адыгрываў значную ролю ў кантролі над пераправай праз р. Угру каля яе вусця і з'яўляўся горадам — цэнтрам значнай акругі па абодвух баках р. Угры, у граматах 1503, 1508, 1526, 1537 г. быў пералічаны сярод валасцей, якія адносіліся да Апакава[109]. Дзмітравец, відаць, ужо на пачатку XVI ст. быў пакінуты насельніцтвам, якое атабарылася ў сяле каля гарадка. І сяло гэтае яшчэ доўгі час было цэнтрам Дзмітраўскай воласці. Пра лёс гарадка сведчыць характарыстыка, якая з'явілася ў перамірнай грамаце 1503 г.: «городища Дмитровца»[110]. Звяртае на сябе ўвагу і змена яго назвы: ён стаў Дзмітраўцом, хаця ў складзе ВКЛ заўсёды называўся Дзмітравым. Тут, відавочна, адбілася жаданне адасобіць маскоўскі Дзмітраў (на р. Яхраме) ад былога літоўскага (на р. Угры). Гэтым жа можна патлумачыць і з'яўленне Дзмітраўца (а не Дзмітрава) у маскоўскім летапісанні XV ст. пры разглядзе падзей 1407 г.

У грамаце 1503 г. гарадзішча Дзмітравец пастаўлена першым у пераліку валасцей, якія адносіліся да такіх гарадоў, як Мцэнск, Любуцк, Сярпейск і Масальск. Новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Вялікага Княства Маскоўскага быў у стадыі фарміравання. З пералічаных гарадоў Дзмітравец мог бы адносіцца да Масальска — астатнія былі занадта далёка. Аднак не варта забываць пра блізкія да горада старыя маскоўскія ўезныя цэнтры, якія не было патрэбы называць у дамовах, але якія маглі прэтэндаваць на адміністрацыйнае падпаракаванне нядаўна далучаных тэрыторый. У свой час наступленне і захоп Дзмітраўскай воласці ішлі з боку воласці Тур'е, а наогул — ад Мажайска. І сапраўды, у духоўнай грамаце Івана III Дзмітравец быў прыпісаны да складу Мажайскага ўезда: «Да ему ж [сыну Васілію. — *В.Ц.*] даю город Можаескъ с волостьми, и с путми, и з селы, и со всеми пошлинами, и зъ Чягощъю, и с Турьевым, и с Ореховною, и с Могилном, и с Миченками, и съ Шатеш(ь)ю, и з Сулидовым, и з Дмитровцом по обе стороны Угры, и с-ыными месты, что к ним потягло»[111]. Мяркуючы па духоўнай грамаце цара Івана Грознага ад 1572 г., такое становішча захоўвалася і ў другой палове XVI ст.[112].

У перамірнай грамаце 1508 г. Дзмітравец быў вылучаны і пастаўлены паміж двума гарадамі: «...и въ город въ Воротынескъ с волостьми, и в городищо Дмитровицъ, и в город у Вязму»[113]. Тое ж адбылося і ў дамове 1522 г. і было паўторана з невялікімі зменамі ў перамірных граматах 1526, 1537, 1542, 1549, 1553, 1556, 1567, 1570, 1601, 1602, 1608 г.: «Города Мценска з волостьми, и городища Дмитровца, и города Опакова з волостьми, города Мещеска з волостьми»[114]. Выклікае сумненне, што статус Дзмітраўца змяніўся: як бачым, гарадок заяўлены без валасцей. Але, здаецца, у перамірных граматах ён стаў фігураваць як пункт, які страціў нават сваё насельніцтва. Яго не адважваюцца ставіць сярод валасцей і размяшчаюць паводле

---

[109] СИРИО. Т. 35. № 75. С. 400; LM. Kn. 8. № 80. С. 127; АЗР. Т. II. 1506—1544. СПб., 1848. № 120. С. 148; СИРИО. Т. 35. № 102. С. 745; Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. II. № 7. С. 127.

[110] СИРИО. Т. 35. № 75. С. 400. У публікацыі Э. Баніёніса скарочанае «гороша Дмитровъца» было расцэнена як памылковае напісанне «города Дмитровъца» (LM. Kn. 5. № 118.13. С. 210).

[111] ДДГ. № 89. С. 355.

[112] ДДГ. № 104. С. 436.

[113] LM. Kn. 8. № 80. С. 126.

[114] АЗР. Т. II. № 120. С. 149. Гл. таксама: СИРИО. Т. 35. № 102. С. 745; Тамсама. Т. 59. № 7. С. 127; № 10. С. 191; № 18. С. 304; № 19. С. 326; № 29. С. 409, 413; № 32. С. 512; Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. III. № 18. С. 479, 490; № 24. С. 727, 732; Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Ч. IV. 1598—1608 гг. / Изданы под редакцией С.А. Белокурова // СИРИО. Т. 137. М., 1912. С. 60, 70, 714.

геаграфічнай прыкметы: спачатку паміж Варатынскам і Вязьмай, а потым, згодна з парадкам размяшчэння, ад р. Угры і далей на поўдзень (за выключэннем Мцэнска).

Такім чынам, у пачатку XVI ст. Дзмітравец страціў значэнне абарончага пункта на літоўска-маскоўскай мяжы, з-за чаго яго пакінула насельніцтва і ён прыйшоў у заняпад. Назва яго захоўвалася доўга, і нават у другой палове XVII ст. у дакументах называлася воласць Дзмітрава гарадзішча[115], якая таксама называлася Дзмітраўскай[116]. Функцыі адміністрацыйнага цэнтра перайшлі да паселішча (пасад Дзмітраўца, верагодна, таксама прыйшоў у заняпад)[117], што вырасла побач з гарадком.

## Дзмітравец на мяжы з Рэччу Паспалітай у XVII ст.

Памежнае становішча Дзмітраўца зноў выявілася ў XVII ст. Паводле Дэўлінскага перамір'я 1618 г. Расія вымушана была саступіць Рэчы Паспалітай велізарныя тэрыторыі (Смаленшчыну, Севершчыну і інш.). У выніку літоўска-маскоўская мяжа ледзь не вярнулася да таго становішча, якое існавала пасля заключэння вечнага міру 1494 г. Верхняе цячэнне р. Угры зноў стала літоўскім. Мяжа падступіла да Вязьмы, а на поўдзень — да Масальска і Мяшчоўска[118]. Тэрыторыя вакол Дзмітраўца лічылася спрэчнай, але, як паказваюць матэрыялы межавання Вяземскага ўезда 1634 г., вяземскія рубяжы саступалі яе на карысць Дарагабужа. Значыць, Дзмітраўская воласць, як, зрэшты, і шэраг іншых валасцей, да гэтага часу павінна была належаць ВКЛ[119]. Дзмітравец, відавочна, быў адняты ў Мажайскага ўезда. Паводле межавых роспісаў Вяземскага ўезда 1634 г. дарагабужская тэрыторыя змыкалася з вяземскай і мажайскай каля с. Сцяпанаўскага на р. Палічэнцы ў раёне р. Воры (Варэі)[120]. На поўдзень, каля левага прытока Угры р. Сохны, дарагабужскі рубеж сустракаўся ўжо з мядынскім. Значыць, нават пазнейшая Васкрасенская воласць (на ўсход ад Дзмітраўскай) трапіла ў склад дарагабужскіх валасцей Смаленскага павета ВКЛ. Такая выснова пацвярджаецца матэрыялам перапіснай кнігі Вяземскага ўезда 1678 г., у якой названа «село Воскресе*н*ское на прав*о*м берегу реки Вори, что было в Дорогобу*ж*ском уезде»[121]. Там гаворыцца пра абмен у 1635—1638 гг. гэтага сяла на

---

115 Список с переписной книги дворцовых сел, приселков, деревень и дворов… письма и переписи стряпчих Василья Богданова и Исая Спечова. 1664 г. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10813. Ч. 2. № 21. Л. 319—323.

116 Подлинная переписная книга посадских дворов города и поместных и вотчинных сел, деревень и дворов… Л. 481—493.

117 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Реконструкция истории летописного Дмитровца. С. 73—76, 79.

118 Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 1—96, карта; Шеламанова Н.Б. К истории западной границы России в первой половине XVII в. (Серпейский участок по Поляновскому миру 1634 г.) // Историческая география России. XII — начало XX в. Сборник статей к 70-летию профессора Л.Г. Бескровного. М., 1975. С. 62—68; Яна ж. К изучению западной границы России в первой половине XVII в. // Проблемы исторической географии России. Вып. 1. Формирование государственной территории России. М., 1982. С. 132—145.

119 Межевые росписи Вяземского уезда // Виноградов И.П. Исторический очерк города Вязьмы с древнейших времен до XVII в. С. 118—119. Аб прыналежнасці Дзмітраўскай воласці да Дарагабужа гл.: Бантыш-Каменский Н.Н. Переписка между Россиею и Польшею в государствование царя Михаила Феодоровича // Чтения в обществе истории и древностей российских при Московском университете. Кн. 4. М., 1862. С. 84, 90.

120 Межевые росписи Вяземского уезда. С. 118.

121 Подлинная переписная книга дворцовых сел и деревень письма и переписи Петра Семеновича Лихарева и подьячего Якова Назамаева. 1678 г. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10811. Л. 290.

вяземскі стан Свечын[122]. За гэты ж стан маскоўскаму боку была перададзена і «вол(о) сть Дмитроваго городища что было Дорогобужского уезду»[123].

Такім чынам, ад Дарагабужа далёка на ўсход працягнулася паласа зямель, якая адносілася да яго і дасягала каля р. Воры Мажайскага, каля вусця р. Сохны (левы прыток Угры каля Апакава) Мядынскага і дзесьці непадалёку — Мяшчоўскага ўездаў[124].

Мяркуючы па ўрыўкавых межавых роспісаў Вяземскага ўезда 1634 г., ствараецца ўражанне, што яго тэрыторыя або сама была рассечана на дзве часткі, або пакідала ў адрыве ад асноўнага масіву некаторыя дарагабужскія землі. У першым выпадку частка Вяземскага ўезда аказвалася ў асноўным за р. Угрой у кантакце з Сярпейскім уездам. Каля ракі Гарадзенкі ў раёне ніжняга цячэння левага прытока р. Угры Валосты зыходзіўся лес вяземскага, дарагабужскага і сярпейскага рубяжоў[125]. А ў іншым месцы сярпейскія землі падступалі з поўдня амаль да самога Дзмітраўца — сярпейскай была в. Ананіна (Ananin), якая знаходзілася на паўднёвым захадзе ад гарадзішча на Вяземскім шляху[126]. Паміж гэтымі дзвюма кантактнымі зонамі мог быць заціснуты кавалак Вяземскага ўезда. З поўначы ён абмяжоўваўся на левым баку Угры ніжнім цячэннем р. Валосты (Волстны), а на правым — ніжнім цячэннем р. Сігосы (Сігошы). Каля гэтых прытокаў Угры, магчыма, былі размешчаны дарагабужскія пусткі Марфіна і Сафонава і сяло Бяляева[127].

У аддалены раён Вяземскага ўезда трапляла Вялікапольская воласць. Аднак апошняя звычайна згадвалася ў складзе Дарагабужскага ўезда, напрыклад, у 1504, 1572, 1610 г.[128]. Відаць, толькі каля 1618 г. воласць была аднесена да Вязьмы, у сувязі з перараЗмеркаваннем адміністрацыйнага падпарадкавання часткі маскоўскіх уладанняў. Паказальна, што паводле крыніц другой паловы XVII ст. вядомы дзве Вялікапольскія воласці — у складзе Вяземскага і Дарагабужскага ўездаў[129]. Аднолькавая назва дзвюх адміністрацыйных адзінак, разнесеных паміж рознымі ўездамі, можа сведчыць пра тое, што раней яны складалі адно цэлае. Каля 1618 г. Вялікапольская, а пасля 1634 г. шэраг суседніх валасцей, якія ўтваралі клін Дарагабужскага ўезда на ўсход, былі аднесены да Вязьмы (Карабаўская, Васкрасенская,

---

[122] Подлинная переписная книга дворцовых сел и деревень письма и переписи Петра Семеновича Лихарева и подьячего Якова Назамаева. 1678 г. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10811. Л. 290—290 б.

[123] Список с писцовой книги дворцовых земель... письма и меры Петра Лихарева и подьячего Григория Неклюдова. 1676—1678 гг. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10808. Л. 727.

[124] Межевые росписи Вяземского уезда. С. 118—119.

[125] Тамсама. С. 118. Р. Гарадзенку на карце адшукаць не ўдалося, але яна знаходзілася побач з Яленкай (яе прыток?), левым прытокам Угры і пусткай Марфінай, якую можна атаясаміць з аднайменнай вёскай каля р. Валосты, пазначанай на картах XIX—XX стст. З рэчкай Гарадзенскай, верагодна, звязаны Гарадзечанскі стан Сярпейскага ўезда, вядомы з пачатку XVII ст. (АЗР. Т. IV. 1588—1632. СПб., 1851. № 183. С. 375).

[126] Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 17; Геометрический план Юхновского целого уезда...

[127] Межевые росписи Вяземского уезда. С. 118, 119. Военно-топографическая карта. Смоленская губерния. СПб., 1850. Масштаб 3 версты в дюйме. Ряд 13. Л. 12; Общегеографический региональный атлас «Смоленская область». Масштаб в 1 см — 2 км. М., 2001. С. 25, 26. Атаясамліванне сучасных населеных пунктаў з пусткамі XVII ст. грунтуецца на ненадзейным метадзе лінгвістычнай адпаведнасці.

[128] ДДГ. № 89. С. 355; № 104. С. 436; АЗР. Т. 4. № 183. С. 353.

[129] Водарский Я.Е. Население России в конце XVII начале XVIII в. С. 236, 237.

Дзмітраўская, Жулінская валасці)[130]. Пры гэтым Вялікапольская валасць была падзелена на два станы, адзін з якіх (з сялом Вялікае Поле) застаўся ў Рэчы Паспалітай у складзе ВКЛ.

Зрэшты, магчымы і іншы варыянт размеркавання зямель паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй у раёне Павугор'я. Нягледзячы на тое, што ў спісе з пісцовай кнігі 1624—1625 гг. не згадваліся такія спрадвечныя вяземскія валасці, як Ласмена і Валоста (уздоўж левых прытокаў Угры Валосты і Ласменкі)[131], магчыма, яны па-ранейшаму заставаліся ў складзе свайго ўезда. У тым жа дакуменце была названа вяземская валасць Азёрна, якую з вялікай ступенню верагоднасці можна лакалізаваць па правым прытоку р. Валосты Азёрнай. А на поўдзень размяшчалася вялізная Вялікапольская валасць, якая раней цягнула да Дарагабужа, але ў апісанні 1624—1625 г. была пазначана як вяземская. Да валасці адносіліся с. Вялікае Поле, вёскі па рэках Яленцы, Сялечанцы, Перадзеленцы, Нядзелцы, Валосце, Ласменцы, Вастранцы, Калдоменцы (Калдоўні), Дэбры, Вошчаўцы, Пясочне[132]. Такім чынам, вялізныя землі левабярэжжа р. Угры ў першай чвэрці XVII ст. належалі Вязьме. Пра гэта быццам бы сведчаць і дадзеныя пра вяземскую мяжу ў роспісе 1634 г. (мяжа судакраналася з рэкамі Дзяменкай, Яленкай, Ласменкай і г.д. і абыходзіла бокам пералічаныя вышэй валасці). Аднак далей на ўсход, у кантакце з Мажайскім, Мядынскім і Мяшчоўскім уездамі, зноў сустракаліся дарагабужскія землі.

Неакрэсленасць меж, нязручнасць кіравання церазпалосіцай уладанняў, якая непазбежна ўзнікала, выклікала імкненне маскоўскага боку змяніць такое становішча на сваю карысць. Прад'яўляліся прэтэнзіі на Дзмітраўскую валасць, а таксама на Жулінскі (на захад ад Дзмітраўскай валасці па абодвух берагах р. Угры) і Лучынскі станы. У апошнім, верагодна, не трэба бачыць мясцовасць паміж гарадамі Сярпейскам, Масальскам і Калугай, як меркаваў У. Гадзішэўскі[133], а прызнаць за ім раён вакол Лучына Гарадка ў вярхоўі р. Угры.

Вынік Смаленскай вайны 1632—1634 гг. для Расіі быў няўдалым (Смаленск не быў захоплены, а маскоўскае войска капітулявала каля яго сцен), аднак некаторыя землі паводле ўмоў Палянаўскага міру 14 чэрвеня 1634 г. і падчас размежавання 1634—1648 гг. былі ёй вернуты. У 1634 г. вызначалася мяжа ад р. Палянаўкі, каля якой у с. Сёмлеве была заключана мірная дамова, на паўднёвы ўсход[134]. Але кавалак, блізкі да гарадзішча Дзмітраўца, быў тады прапушчаны. Межаванне было працягнута на поўдзень, у раён, дзе Маскве перадаваўся Сярпейскі ўезд[135]. На з'ездах 1637 г. удалося пераканаць паслоў Рэчы Паспалітай «отвесть» гарадзішча Дзмітравец з яго

[130] У пісцовым апісанні 1624—1625 г. усе названыя валасці сярод вяземскіх не былі пералічаны (Список с писцовых книг поместных и вотчинных земель… писания и меры Василия Волынского с товарищи. 1624 и 1625 гг. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 619).

[131] У другой палове XVII ст. сярод вяземскіх вядомы станы Ласменскі (Уласменскі) і Волсценскі. (Водарский Я.Е. Население России в конце XVII начале XVIII в. С. 236).

[132] Список с писцовых книг поместных и вотчинных земель… писания и меры Василия Волынского с товарищи. 1624 и 1625 гг. // РГАДА. Ф. 1209. Оп.1. Д. 619. Л. 29 об.—54.

[133] За цэнтр стана было прынята вядомае па падзеях XV ст. Лычына. У выніку была зроблена не зусім справядлівая выснова пра існаванне значнага кліну ў бок маскоўскай тэрыторыі паміж гарадамі Вязьмай, Сярпейскам і інш. пад самы Мажайск (Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 25).

[134] Опись рубежей меж Вязьмы и Дорогобужа… // Виноградов И.П. Исторический очерк города Вязьмы с древнейших времен до XVII в. С. 115—118.

[135] Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 17.

зямлёй плошчай у 150 выцей (каля 500—700 га) да маскоўскага боку[136]. Канчаткова толькі ў 1638 г. спрэчныя Дзмітраўскі, Жулінскі і Лучынскі станы былі саступлены Маскве, за што, праўда, неабходна было ў іншым месцы падзяліцца такімі ж «добрыми землями и угодьями»[137]. Дадаткова, каб уладкаваць «Дорогобужские места, кои вошли в государеву землю клином», быў прадпрыняты яшчэ адзін размен. За запусцелыя землі паміж Дарагабужскім і Бельскім уездамі (станы Свечкаўскі, Жыкаўскі, Жадзінскі і Азярэцкі) плошчай 3092 выці (каля 10—14 тыс. га) маскоўскі бок атрымаў спачатку Васкрасенскі і Жылінскі (Жулінскі?) станы, а потым яшчэ Ізвольскую, Корабаўскую, Карцоўскую, Разынскую (?) і іншыя воласці такой жа плошчы[138]. Акрамя таго, нарэшце быў цалкам размежаваны Сярпейскі ўезд, так што ў выніку мяжа была адсунута на захад ад Мажайска больш чым на 100 вёрст (замест ранейшых 50), і маскоўскія землі падступілі да Дарагабужа, хаця ў напрамку Дзмітраўца часткова захаваўся клін тэрыторыі ВКЛ.

Верагодна, у той жа час Вялікапольская воласць была падзелена на дзве. Яе частка па левым беразе р. Угры з с. Вялікае Поле дасталося ВКЛ, а частка ўздоўж шляху Калуга—Вязьма і па абодвух берагах р. Угры з сёламі Гавяндзегі (Знаменскае) і Вешкі[139] — Маскве. Крыху на паўночны захад, каля с. Валоста (цэнтр воласці) доўгі час стаяў межавы слуп, паданні пра які захоўваліся да пачатку XX ст.[140].

Дзмітравец і Павугор'е захоўвалі блізкасць да памежжа да тых часоў, пакуль пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 г. літоўска-маскоўская мяжа не была адсунута да сваіх ранейшых рубяжоў, а ва ўкраінскіх землях — яшчэ далей, да Дняпра і за яго ў раёне Кіева.

Дзмітраўская воласць як у XV—XVI ст., так і ў XVII ст. пашырылася на абодва берагі р. Угры. У агульных рысах і з некаторымі зменамі яна захавала свае межы з правага боку ракі, але, калі меркаваць па некаторых звестках, у левабярэжжы адбыліся істотныя змены. У канцы XV ст. на р. Воры пры вусці р. Істры былі вядомы дзмітраўскія сёлы, але ў XVII ст. нават велізарная Васкрасенская воласць, якая сфарміравалася на ўсход ад Дзмітраўскай, не дасягала р. Істры. У складзе Дзмітраўскай воласці заўважаем вёску на месцы Ашчытава, які страціў сваю ваенную значнасць[141]. Такім чынам, у правябярэжжы Угры дзмітраўская тэрыторыя ўсё ж павялічылася. У далейшым (з 1777 г. у складзе Юхноўскага ўезда) фактычна без змен воласць існавала да канца XVIII ст.

Цэнтрам воласці ў XVII ст. па-ранейшаму было с. Дзмітрава Гарадзішча. Гаворка ідзе, канечне ж, пра пасяленне побач з гарадзішчам. Сам гарадок не існаваў як жылы. Да апошняй чвэрці XVII в. манахі Савіна-Старажоўскага манастыра і мірскія людзі пабудавалі ў сяле новую царкву (напэўна, узамен заняпалай або знішчанай падчас

---

[136] Бантыш-Каменский Н.Н. Переписка между Россиею и Польшею в государствование царя Михаила Феодоровича. С. 89—90.

[137] Тамсама. С. 93, 99—100; Godziszewski W. Granica polsko-moskiewska wedle pokoju polanowskiego. S. 24—25.

[138] Бантыш-Каменский Н.Н. Переписка между Россиею и Польшею в государствование царя Михаила Феодоровича. С. 100.

[139] Подлинная переписная книга посадских дворов города и поместных и вотчинных сел, деревень и дворов… Л. 321 об. Да стана адносілася яшчэ і с. Вешкі.

[140] Орловский И.И. Краткая география Смоленской губернии. Смоленск, 2006. С. 173.

[141] «К тому ж селу д(е)р(е)вня, что было село Ощитинское у реки у Угры а на ней место ц(е)рк(о)вное, что была ц(е)рк(о)вь Ивана Предотечи, разорена от литовских людей» (Список с писцовой книги дворцовых земель… письма и меры Петра Лихарева и подьячего Григория Неклюдова. 1676—1678 гг. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10808. Л. 729).

смуты)[142]. Наогул жа, паводле апісання 1676—1678 гг. манастыру належала значная частка воласці — яе ядро ў правабярэжжы р. Угры з сёламі Дзмітравым Гарадзішчам і Рупосавым[143]. На поўначы толькі Фядотава (на месцы Апчытава) не адносілася да ўладанняў манастыра. Такім чынам, можна меркаваць, што на правым баку р. Угры манастырская вотчына дакладна вызначала тэрыторыю старажытнай воласці.

## Дзмітравец на старых картах

Своеасаблівым чынам памяць пра Дзмітравец захоўвалася вельмі доўга. З сярэдзіны XVI па канец XVIII стст. гарадок пазначаўся на картах Вялікага Княства Літоўскага, Польшчы і Расіі, прычым часта са статусам (калі меркаваць па значках, што пазначалі яго месца), роўным суседнім гарадам Калузе, Варатынску, Вязьме і г.д. У некаторых выпадках разам з Дзмітраўцом быў адзначаны яшчэ адзін горад Павугор'я — Апакаў (Opakow, Opacow, Opaicow)[144]. Іншыя населеныя пункты ўздоўж р. Угры не прыцягвалі ўвагі картографаў.

Упершыню Дзмітравец (Demetriouicz) з'явіўся на карце Масковіі С. Герберштэйна 1546 г., выдадзенай яшчэ да выхаду ў свет «Запісак аб Масковіі»[145]. Дакладнага месцазнаходжання Дзмітраўца С. Герберштэйн не ведаў, але, узгадняючы з вядомымі яму адлегласцямі да іншых пунктаў[146], змясціў значок горада паміж Акой (Fl. Occa) і Дняпром (Boristenes vel. Nieper fl.), так што нават Смаленск (Smolenczko) стаяў на паўднёвым усходзе. Рака Угра (Fl. Ugra) пры гэтым была пазначана крыху на поўнач, у яе вусці быў пазначаны Варатынск (Vorotin). Форма напісання С. Герберштэйнам назвы горада (Demetriovuitz, Demetriowitz) замацавалася на гэтай карце і на ўсіх наступных. Аднак сама першая карта С. Герберштэйна была занадта вялікай для фармата «Запісак аб Масковіі» і была заменена спрошчанымі варыянтамі (1548, 1549, 1556, 1557 гг.), на якіх Дзмітравец адсутнічаў.

У якасці дадатка да італьянскага выдання «Запісак аб Масковіі» венецыянскі касмограф Дж. Гастальдзі ў 1550 г. падрыхтаваў уласную карту «Апісанне Масковіі» («Déscriptioné dé la Moscouia»). Карта адлюстроўвала звесткі, сабраныя падчас

---

142 Список с писцовой книги дворцовых земель... письма и меры Петра Лихарева и подьячего Григория Неклюдова. 1676—1678 гг. // РГАДА. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10808. Л. 727.

143 Тамсама. Л. 488.

144 У атласе Меркатара Апакаў (без Дзмітраўца) пазначаны нават на агульнай карце Еўропы (Mercator G. Atlas sive Cosmographicae Meditationes de Fabrica Mundi et Fabricati Figura. Duisburg, 1595. № B). Характэрна, што на карце Расіі таго ж атласа назва гарадка скажоная (не Opakow, а Opaicow) і месцазнаходжанне пазначана не каля правага берага Угры, а значна на поўнач ад ракі (Тамсама. № XXVI). На карце ВКЛ Апакаў (Opacow) пазначаны каля правага края без Дзмітраўца і нават без ракі Угры (Тамсама. № XXVII; Материалы по истории русской картографии / Под ред. В.А. Кордта. Вып. 2: Карты всей России и западных ее областей до половины XVII в. Киев, 1910. № X).

145 Moscovia Sigismundi Liberi Daronis in Herberstein Neiperg et Gutenhag. MDXLVI // Материалы по истории русской картографии / Под ред. В.А. Кордта. Вып. 1: Карты всей России и южных ее областей до половины XVII в. Киев, 1899. № XI; Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV — начала XVI века. М., 1974. С. 82—83.

146 У «Запісках аб Масковіі» адзначаецца, што Дзмітравец (Demetriovuitz, Demetriowitz) знаходзіўся ў 18 мілях (нямецкіх) ад Вязьмы і прыблізна ў 20 мілях ад Варатынска (Герберштейн С. Записки о Московии: В 2 т. / Под ред. А.Л. Хорошкевич. М., 2008. Т. I. С. 324—325).

падарожжаў імператарскага пасла (як з яго карт, так і з саміх запісак)[147]. На ранейшых картах Гастальдзі[148], як і на пазнейшых картах Герберштэйна, Дзмітравец пазначаны не быў, таму становіцца відавочным, што з'яўленне горада на карце 1550 г. звязана з выкарыстаннем ранняга твора Герберштэйна. Але на карце Гастальдзі 1550 г. значок горада (Demeriower) быў пастаўлены не зусім там, дзе яго змясціў С. Герберштэйн — ён быў прасунуты на поўнач і трапіў паміж Акой і яе левым прытокам (без сумнення, Угрой) на поўдзень ад Варатынска (Verotin)[149]. Такі ж погляд пра месца Дзмітраўца знайшоў адлюстраванне на яшчэ адной карце Гастальдзі 1566 г.[150].

Відавочным запазычаннем з ранніх прац С. Герберштэйна і Дж. Гастальдзі з'яўляецца карта Масковіі Дж.А. Маджыні (І. Магіна), прыкладзеная спачатку да венецыянскага, а потым — да кёльнскага лацінамоўнага выдання «Геаграфіі» Пталемея 1596 і 1597 г.[151]. На яшчэ адной карце Дж.А. Маджыні з атласа М. Квада «Geographisch Handbuch» 1600 г. выява раёна Павугор'я моцна сказілася. Дзмітравец (Demetiouer) быў змешчаны каля р. Акі (названа як Осса Mscenesk, гэта значыць з імем ракі сумясцілі назву горада) на поўдзень ад Варатынска (памылкова названы як Terotin)[152].

Уяўленні пра тэрыторыю Усходняй Еўропы хутка пашыраліся, і ўжо на «Карце часткі Польшчы» («Il desegno… del regno de Polonia, e parte del ducado di Moscovia…» выдання 1562 г. і «Il vero disegno della seconda parte dil Regno di Polonia…» выдання 1568 г.) Дж. Гастальдзі Дзмітравец (Demetrowiz) быў пазначаны побач з Апакавам (Opacu)[153]. Пры гэтым апошні стаяў на правым беразе р. Угры, а Дзмітравец — яшчэ

---

147 Багров Л. История русской картографии. М., 2005. С. 131.

148 Карта Московии Гастальди, 1548 г. // Багров Л. История русской картографии. С. 127; Карта Польшчы, Літвы і суседніх зямель «Regno di Polonia», Дж. Гастальдзі, 1548 // Казлоў Л.Р. Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. II. Мінск, 2006. С. 17; Карта Московщини. 1578 р., Базель // Вавричин М.Г., Дашкевич Я.Р., Кришталович У.Р. Україна на стародавніх картах. С. 55.

149 Déscriptioné dé la Moscouia pér Giacomo Gastaldo Piamotésé cosmographo in Vénetia MDL // Материалы по истории русской картографии. Вып. 1. № XV; Карта Руси Дж. Гастальдо (гравюра венецианского издания 1550 г.) // Герберштейн С. Записки о Московии. С. 143; Déscriptioné dé la Moscouia per Giacomo Gastaldo Piamo[n]tese cosmographo in Venetia MDL // Вавричин М.Г., Дашкевич Я.Р., Кришталович У.Р. Україна на стародавніх картах. Кінець XV — перша половина XVII ст. Київ, 2006. С. 33; «Апісанне Масковіі» Дж. Гаштальдзі. 1550 г. // Вялікі гістарычны атлас Беларусі. Т. 1. Мінск, 2009. С. 166.

150 Noun Descriptione de la Moscowia… // Материалы по истории русской картографии. Вып. 1. № XVI.

151 Карта России И. Магина из итальянского издания Географии Птолемея. Venetiis, 1596 // Материалы по истории русской картографии. Вып. 1. № XXV; Moscoviae Imperium. Московська Імперіяю 1597 р., Кельн // Вавричин М.Г., Дашкевич Я.Р., Кришталович У.Р. Україна на стародавніх картах. С. 86, 87.

152 Moscoviae Imperium. Coloniae formulis Jani Bussemecheri ani 1600 // Материалы по истории русской картографии. Вып. 1. № XXVII; Moscoviae imperivm. Coloniae formulis Joani Bussemecheri An. 1600. Московська імперія. Видана у Кельні Йоганном Буссемехером 1600. 1600 р., Кельн // Вавричин М.Г., Дашкевич Я.Р., Кришталович У.Р. Україна на стародавніх картах. С. 95.

153 Il desegno… del regno de Polonia, e parte del ducado di Moscovia… // Материалы по истории русской картографии. Вып. 1. № XXII; Il vero disegno della seconda parte dil Regno di Polonia… Giacomo Gastaldo Piamontese. Venetia, 1568 // Senieji Lietuvos žemėlapiai: Iš Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinių / Sudarė, aprašus parengė Alma Braziūnienė. Vilnius, 1999. I aplankas. № 5; «Карта часткі Польшчы» Дж. Гаштальдзі. 1568 г. // Вялікі гістарычны атлас Беларусі. Т. 1. Мінск, 2009. С. 171.

больш на поўдзень. Таксама памылкова (у вусці р. Угры, але з левага боку) быў пазначаны Варатынск (Vorotin).

Цалкам верагодна, што другі варыянт месцазнаходжання Дзмітраўца (на поўдзень ад Апакава на Угры) быў запазычаны Дж. Гастальдзі ў Г. Меркатара, які надрукаваў яшчэ ў 1554 г. карту Еўропы. Дзмітравец быў паказаны нямецкім картографам на паўднёвым захадзе ад Апакава, а Варатынск пры гэтым размяшчаўся ў вусці Угры з правільнага (правага) боку[154]. Г. Меркатар, у сваю чаргу, мог атрымаць новыя звесткі пра Усходнюю Еўропу, напрыклад, у Б. Вапоўскага[155]. Апошні ў 1526 г. стварыў карту Польшчы, але, на жаль, да нас дайшлі толькі яе фрагменты[156] і меркаваць пра тое, ці быў наогул паказаны на ёй Дзмітравец, а таксама Апакаў, даволі складана.

Новая традыцыя ў абазначэнні месцазнаходжання Дзмітраўца ішла, магчыма, ад карты «Вялікае Княства Літоўскае, Лівонія і Масковія» («Magni Ducatus Lithuaniae Livoniae et Moscoviae description») М. Струбіца, прыкладзенай да атласу Кромера 1589 г.[157]. У вытоку р. Угры з'явілася возера, над якім узвышаўся Дзмітравец (Demetrowicz). Пры гэтым да самой ракі Угры (толькі на карце Струбіца) быў прымаляваны левы прыток (відавочна, Рэса). Такое ж становішча Дзмітраўца адзначана на картах, звязаных з творчасцю Г. Меркатара («Russia» 1595 г., «Lithuania» 1628 г., «Taurica Chersonesus» 1630 г., «Russia cum confinijs» 1630 г., «Taurica Chersonesus» 1638 г., «Taurica Chersonesus» 1641 г.)[158]. На ўсіх іх прысутнічае і Апакаў, але ён пастаўлены значна на поўнач як ад Дзмітраўца, так і ад р. Угры.

У вядомым атласе Я.В. Блау («Atlas Maior») 1662 г. спецыяльная карта з выявай Pacii («Russiae vulgo Moscovia, Pars Australis») належала творчасці І. Масы, і на ёй Дзмітравец адсутнічаў[159]. Аднак на агульнай карце Еўропы на паўднёвы захад ад

[154] Изображение Центральной России на двух средних листах... карты Европы Меркатора, 1554 г. // Багров Л. История русской картографии. С. 136.

[155] Багров Л. История русской картографии. С. 139.

[156] Alexandrowicz S. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. Poznań, 1989. S. 39. На карце Польшчы і Вугоршчыны Б. Вапоўскага і С. Мюнстара 1540 г. рэгіён Павугор'я не быў адлюстраваны (Polonia et Vngaria. XV. Nova Tabvla. Нова карта Польщі та Угорщини. 1540 р., Базель // Вавричин М.Г., Дашкевич Я.Р., Кришталович У.Р. Україна на стародавніх картах. С. 28—29).

[157] Magni Dvcatvs Lithvaniae Livoniae et Moscoviae descriptio // Материалы по истории русской картографии. Вып. 2. № XII; Magni Ducatus Lithuaniae Livoniae et Moscoviae descriptio // Казлоў Л.Р. Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. II. С. 18; «Карта Вялікага Княства Літоўскага, Лівоніі і Масковіі» М. Струбіча. Раней 1589 г. // Вялікі гістарычны атлас Беларусі. Т. 1. Мінск, 2009. С. 185.

[158] Mercator G. Atlas sive Cosmographicae Meditationes de Fabrica Mundi et Fabricati Figura. Duisburg, 1595. № XXVI; Russia // Материалы по истории русской картографии. Вып. 1. № XXIV; Litvania // Материалы по истории русской картографии. Вып. 2. № X; Gerhard Mercator, mapa Litwy, Duisburg 1595 // Alexandrowicz S. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. Mapy i plany. Poznań, 1989. № 13; Lithuania // Вавричин М.Г., Дашкевич Я.Р., Кришталович У.Р. Україна на стародавніх картах. Кінец XV — перша половина XVII ст. Київ, 2006. С. 123; Tavrica Chersonesvs. Nostra aetate Przecopsca et Gazara dicitur // Тамсама. С. 141; Russia cum confinijs // Тамсама. С. 145; Tavrica Chersonesvs. Nostra aetate Przecopsca et Gazara dicitur // Тамсама. С. 163; Tavrica Chersonesvs. Nostra aetate Przecopsca et Gazara dicitur // Тамсама. С. 174.

[159] Аналагічныя карты Ісаака Масы, якія адлюстроўваюць Расію, гл.: Moscoviae pars avstralis // Материалы по истории русской картографии. Вып. 1. № XXX; Russiae, vulgo Moscovia, pars australis. Auctore Isaaco Massa. Південна частина Росії, в просторіччі Московщини, Исаака Масси. 1641 р., Амстердам // Вавричин М.Г., Дашкевич Я.Р., Кришталович У.Р. Україна на стародавніх картах. С. 182—183.

Варатынска (Worotin) гарадок быў пазначаны (Demetrowicz)[160]. На карце не была прамалявана р. Угра, таму меркаваць пра дакладнасць месцазнаходжання горада цяжка. Таксама і на асобнай карце, прысвечанай Крымскаму ханству («Tavrica Chersonesvs Nostra aetate Przecopsca, et Gazara dicitur»), каля паўночнага берага возера, з якога выцякала р. Угра, можна заўважыць Дзмітравец (Demetrowicz). Там прысутнічае і Апакаў, прасунуты даволі далёка на поўнач ад Угры і Дзмітраўца[161].

Бліжэй да вярхоўяў р. Угры, з левага боку, размешчаны Дзмітравец (Demetriowitz) на картах галандца Ю. Данкерца (Расіі 1680 г. і Польшчы з Літвой і інш. без пазначэння года)[162]. В.А. Кордт пісаў пра выкарыстанне Ю. Данкерцам карты Польшчы француза Ю. Жэло (Жэё, H. Jaillot)[163], аднак у апошняга на карце 1685 г. Дзмітравец яшчэ адсутнічаў, хаця і была пазначана р. Угра, а сам горад з'явіўся на карце 1696 г., гэта значыць значна пазней, чым у галандскага картографа[164]. Ю. Жэло набыў матэрыялы ў сыноў заснавальніка французскай школы картаграфіі Н. Сансона[165], у якога на картах Польшчы, выдадзеных на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў пасля яго смерці, Дзмітравец быў пазначаны такім самым чынам (з левага боку р. Угры бліжэй да вярхоўяў гэтай ракі)[166]. Тую ж карціну мы бачым на карце сына Н. Сансона Гіёма[167]. Магчыма, менавіта з сям'і Сансонаў і перайшлі звесткі пра частку Расіі да галандца Ю. Данкерца і француза Ю. Жэло[168].

Таксама трэба прыняць пад увагу дзейнасць Н. Вітсэна, галандца, які быў у Расіі ў 1664—1665 гг. і склаў дзённік свайго падарожжа, кнігу «Паўночная і Ўсходняя Тартарыя» і карты асобна Тартарыі (Сібіры) і Расіі[169]. Карта Тартарыі Н. Вітсэна, безумоўна, унікальная. Аднак карта «Рускай імперыі або Масковіі» («Imperii Russici sive Moskoviae») 1680 г., падпісаная яго імем, мае значнае падабенства з працамі Сансонаў, Данкерца і Жэло. Межы княстваў у Расіі ідэнтычныя тым, што з'явіліся на сансонавых картах, і Дзмітравец пазначаны там жа[170].

---

160 Evropa recens descripta á Guilielmo Blaeuw // Blaeu J. Wielki Atlas XVII-wiecznego świata. Londyn, 1992. S. 30—31.

161 Tavrica Chersonesvs Nostra aetate Przecopsca, et Gazara dicitur // Blaeu J. Wielki Atlas XVII-wiecznego świata. Londyn, 1992. S. 32—33.

162 Novissima et Accuratissima Totius Russiae Vulgo Muscoviae Tabula at Iusto Danckerts. Amsterdam, 1680; Regni Poloniae et Ducatus Lithuaniae, Voliniae, Podoliae, Ucraniae, Prussiae et Curlandiae description emendate per I. Dankerts. Amsterdami // Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. № 8.

163 Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. Київ, 1931. С. 7.

164 Estats de Pologne… 1685 // Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. № 5—6; Estats de la couronne de Pologne… 1696 // Тамсама. № 7.

165 Багров Л. История картографии. М., 2004. С. 300.

166 Sanson d'Abbeville, N. Estats de Pologne subdiveses suivant l'estendue das palatinats… Amsterdam: chaz Pierre Schenk [ca 1710] // Senieji Lietuvos žemėlapiai: Iš Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinių / Sudarė, aprašus parengė Alma Braziūnienė. Vilnius, 1999. II aplankas. № 6. Сам Н. Сансон памёр у 1667 г. (Багров Л. История картографии. С. 300).

167 Карта Московии Гийома Сансона 1674 г. // Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV — начала XVI века. № 18. С. 89.

168 Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV — начала XVI века. С. 86.

169 Витсен Н. Путешествие в Московию. СПб., 1996. С. 8—9.

170 Fr. De Wit, Chr. Browne. Imperii Russici sive Moskoviae, Status Generalis in ejus Regna, Ducatus, Provincias, Populos, Subjacentes Divisu, et ex Tabula Spectatmi. Domini N. Witsen. Amsterdam, London, 1680.

Падобным жа чынам адносна месца Дзмітраўца паступіў гравёр і выдавец з Нюрнберга І.Б. Хоман на сваёй карце Польшчы і ВКЛ 1707, 1712, 1729, 1739 гг. выдання[171], хаця ён жа на карце Украіны 1720 г. ужо больш дакладна пазначыў месца горада (гл. ніжэй). «Эклектык-картограф», як яго назваў В.А. Кордт, І.Б. Хоман нават у назвах сваіх карт выдаў крыніцу запазычанняў (польскі географ Ш. Старавольскі), але таксама актыўна ён карыстаўся працамі Г. Баплана, Г. Дэліля і інш.[172]. На карце Польшчы С. Старавольскага, якая вельмі нагадвае падобную працу Г. дэ Баплана 1652 г.[173], тэрыторыя на поўдзень ад Мажайска і вярхоўяў Дняпра закрыта табліцай з умоўнымі знакамі (Declaratio), таксама і ў тэксце «Палоніі» ні Дзмітравец, ні Угра не сустракаюцца[174]. Г. Дэліль ужо дакладна пазначаў месца горада, не так, як гэта рабіў І.Б. Хоман. І на адной з карт Г. дэ Баплана гэты пункт убачыць усё ж можна, хаця зноў жа, у дэталёвую карту Украіны 1650 г. раён Павугор'я не ўвайшоў[175]. Аднак высвятляецца, што на трэцяй частцы састаўной карты (ВКЛ і Белая Русь; Каралеўства Польскае; ВКЛ і Расія) французскім інжынерам была запазычана лакалізацыя Дзмітраўца, уласцівая картам М. Струбіца і Г. Меркатара, гэта значыць горад быў размешчаны на паўночным беразе возера каля вытокаў р. Угры[176].

Варыянт з лакалізацыяй Дзмітраўца з левага боку Угры і бліжэй да яе сярэдняга цячэння стаў пэўным этапам, які наблізіў да больш дакладнага адлюстравання месца горада на карце. Больш пэўныя звесткі пра тэрыторыю Расіі дазволілі таксама прыбраць возера ў вытоку р. Угры.

Цяжка нават выказаць меркаванне, хто быў крыніцай звестак пра Дзмітравец на пачатку XVIII ст., але ў шэрагу карт яго месцазнаходжанне набыло пэўную дакладнасць — на правым баку р. Угры, пасярэдзіне хвалістай лініі (адлюстраванне гэтай ракі), праўда, без уласцівых ёй рэзкіх паваротаў. Храналагічна першай картай з новым поглядам на месца Дзмітраўца стала праца Ж.Н. Дэліля (дэ л'Іль, Del'Isle) 1703 г. з выявай Польшчы. Тут жа, верагодна, упершыню, з'явіўся надпіс пра былое

---

171 Homann, J.B. Regni Poloniae Magnique Ducatus Lithuaniae nova et exacta tabula ad mentem Starovolcii descripta a Joh. Bapt. Homanno. Norimbergae. [ca 1707] // Senieji Lietuvos žemėlapiai: Iš Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinių / Sudarė, aprašus parengė Alma Braziūnienė. Vilnius, 1999. II aplankas. № 5; Homann, J.B. Regni Poloniae Magnique Ducat[us] Lithuaniae nova et exacta tabula ad mentem Starovclcii descripta a Johanne Bapt. Homanno. Norimbergae. [1712] // Тамсама. № 7; Regni Poloniae, Magnique Ducatus Lithuaniae. Nova et exacta tabula ad mentem Starovcicjj descripta a Ioh. Bapt. Homanno. Sac. Caes. Mai. Geographo Norimbergae. Cum Privil. Sac. Caes. Majest. [po 1729] // Polonia. Atlas map z XVI—XVIII wieku. S. 13; Homann, J.B. Regni Poloniae Magnique Ducatus Lithuaniae nova et exacta tabula ad mentem Starovolcii descripta a Joh. Bapt. Homanno. 1739 // Senieji Lietuvos žemėlapiai: Iš Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinių / Sudarė, aprašus parengė Alma Braziūnienė. II aplankas. № 10.

172 Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. С. 15.

173 Bauplan G. de. Regni Poloniae et Magnig Ducatus Lithuaniae. 1652 г. // Гістарычны атлас Беларусі. Т. 1. Беларусь ад старажытных часоў да канца XVIII ст. Варшава, 2008. Карта 16. С. 23.

174 Starovolsci S. Tractatus tres, I. Polonia. II. Sarmatiae bellatores. III. Scriptorum polonicorum ekatontae. Wratislaviae, MDCCXXXIV; Starowolski Sz. Polska albo opisanie położenia Królestwa Polskiego / Z języka łacińskiego przełożył, wstępem i komentarzami opatrzył Antoni Piskadło. Kraków, 1976.

175 Специальная карта Украины. Фрагмент 2 // Боплан Г.Л. де. Описание Украины / Пер. с фр. З.П. Борисюк; ред. перевода А.Л. Хорошкевич, Е.Н. Ющенко. М., 2004. С. 99.

176 Материалы по истории русской картографии. Вып. 2. № XXXIII; «Белая Русь» Гіёма дэ Баплана «Magnus Ducat: Lithuaniae et Russia Alba», Г. дэ Баплан, Гданьск, 1651 // Казлоў Л.Р. Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. II. С. 19. Дадзеная карта цікавая яшчэ і тым, што яе загаловак адным з першых адлюстроўваў назву Белая Русь у дачыненні да тэрыторыі сучаснай Беларусі.

праходжанне літоўска-маскоўскай мяжы ўздоўж р. Угры[177], узяты, відаць, з «Запісак аб Масковіі» С. Герберштэйна[178]. Яшчэ адным творам Дэліля стала карта Масковіі 1706 г. Тут адносна зямель вакол р. Угры была проста паўторана сітуацыя, адлюстраваная на карце Польшчы 1703 г. Адзіная змена — надпіс пра мяжу па р. Угры быў размешчаны не па левым, а па правым баку ад Дзмітраўца[179].

Дэліль пазначыў крыніцы, якія былі выкарыстаны пры стварэнні карты Польшчы (Старавольскі, Баплан, Гартнох, Гевэліюс і інш.), але ў каго канкрэтна з іх былі ўзяты звесткі пра раён Павугор'я — невядома. Інфарматарам па раёне Павугор'я для Г. Дэліля дакладна не быў Г. дэ Баплан, нягледзячы на тое, што карта апошняга была галоўнай крыніцай для яго працы[180]. Думка Б.А. Рыбакова пра складанне «тэндэнцыйнай удзельна-арыстакратычнай карты княстваў» князем І.М. Варатынскім каля 1526 г., якая стала крыніцай для карт Сансона і Дэліля[181], падаецца сумнеўнай. Перш за ўсё, карты двух французаў вельмі адрозніваюцца паміж сабой, хаця б адносна паказу месца Дзмітраўца. Хутчэй за ўсё ад маскоўскіх інфарматараў паступалі на захад вусныя сведчанні (напрыклад, праз пасольствы). Таксама і С. Герберштэйн назіраў у Маскве не карты, а ўважліва слухаў і запісваў размовы рускіх людзей, што яго абкружалі, таго ж І.М. Варатынскага.

Згаданыя дзве карты Дэліля неаднаразова перавыдаваліся і капіраваліся іншымі картографамі. Напрацоўкі французскага картографа выкарыстоўваліся як ім самім у картах іншых рэгіёнаў, так і яго калегамі пры стварэнні ўласных карт[182]. Так, напрыклад, І.Б. Хоман на карце Украіны 1720 г. выяву Павугор'я перанёс з карты Дэліля, але разам з тым зрабіў і ўласны ўнёсак у развіццё ўяўленняў пра гэты рэгіён. На карце І.Б. Хомана пазначаны дарогі, адна з якіх праведзена праз Бранск, Серанск, Дзмітравец, перасякае Угру ў яе верхнім цячэнні, сустракаецца з іншай

---

177 La Pologne. Dressée sur ce qu'en ont donné Starovolsk, Beauplan, Hartnoch et autres auteurs... Par Guillaume Del'Isle... A Amsterdam chez J. Covens et C. Mortier. 1703 // Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. № 12.

178 Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV — начала XVI века. С. 105.

179 Carte de Moscovie. Dressee par Guillaume De l'Isle, Premier Geographe du roy... A Paris. 1709 // Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. № 19; Карта Московии Гийома Делиля 1706 г. (Южная часть) // Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV — начала XVI века. № 19б. С. 94.

180 Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. С. 9.

181 Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV — начала XVI века. С. 85—111. Значныя адрозненні ў адлюстраванні меж княстваў Сансонам і Дэлілем не збянтэжылі Б.А. Рыбакова, а праводзіць параўнанне паміж адміністрацыйна-тэрытарыяльным уладкаваннем Расіі ў сярэдзіне XVII і пачатку XVIII з тым, як яно паказана ў адпаведных па часе працах французскіх картографаў ён чамусьці не стаў.

182 Carte de Tartarie dressee sur les Relations Par Gullaume De L'Isle. Paris, 1706; Nouvelle Carte Des Etats Du Grand Duc De Moscovie En Europe. Partie Meridionale. Henri Chatelain. Amsterdam, 1714; Moscovey in Europe from the latest Observations... by John Senex. London, 1721; Imperii Moscovitici pars Australis in lucem edita per Mathaus Seutter. Augspurg, 1730; Са школы Гіёма Дэліля «La Pologne», І. Ковенс і К. Марцье, Амстэрдам, 1733 // Казлоў Л.Р. Старажытная картаграфія Беларусі. Вып. II. С. 22; Polonia Regnum ut et Magni Ducatus Lithuaniae... Opera et studio Matth. Seutteri. Sac. Caes. Maj. Geogr. Aug. [po 1742] // Polonia. Atlas map z XVI—XVIII wieku. S. 14; Poland. Corrected from the Observations communicated... By His Obliged Humble Servant Ion. Senex [Ok. 1762] // Тамсама. S. 18; Mappa Geographica... Regnum Poloniae et Magnum Ducatum Lithuaniae. Cura et Sumptibus Tobiae Conradi Lotter Geogr. Aug. Vindel. Nach der Neuen Abtheilung. Portiones 1772 // Тамсама. S. 24; Mappa geographica ex novissimis observationibus... Regnum Poloniae et Magnum Ducatum Lithuaniae. Opera et Sumptibus Ioh. Michael Probst. Geogr. Aug. Vindel. MDCCXXCIII [1773] // Тамсама. S. 25; La Pologne. Dressée sur ce qu'en ont donne Starovolsk, Beauplan, Hartnoch, et autres Auteurs... A Paris... 1806 // Тамсама. S. 27.

дарогай з Вязьмы каля Благавешчання (Boglovestine) і ідзе да Дарагабужа[183]. Дарога каля Дзмітраўца ўжо не была працягам Мураўскага шляху (Morawski Slak), як гэта адлюстроўвалася на некаторых картах, пачынаючы, магчыма, з Ю. Данкерца[184]. Па версіі апошняга, Мураўскі шлях завяршаўся за Угрой, крыху правей за Дзмітравец.

Запазычанні з прац Г. Дэліля запоўнілі карты XVIII і нават пачатку XIX ст. Так рабілі вучань І.Б. Хомана М. Сэйтар, зяці апошняга Т.К. Лотар і Ё.М. Пробст і іншыя іх сваякі[185]. Імя Г. Дэліля, а потым і М. Сэйтара проста сціралася з друкаваных форм і замянялася новым[186]. У 1772 г. Т.К. Лотар дадаў да твора Дэліля межы першага падзелу Рэчы Паспалітай і абвясціў яго сваім[187]. Нічога новага, напрыклад, у бок удакладнення лініі лукавін р. Угры зроблена не было. Тыражаваліся ўяўленні, што склаліся яшчэ на пачатку XVIII ст. Характэрна, што на ўсіх картах XVIII ст. у Павугор'і быў пазначаны толькі адзін горад — Дзмітравец, Апакаў ужо адсутнічаў.

Тэрытарыяльная прыналежнасць Дзмітраўца на старых картах таксама вызначалася па-рознаму. На большасці карт XVIII ст. ён аднесены да Ноўгарад-Северскага княства, стаіць на самой мяжы са Смаленскім княствам і землямі, аднесенымі непасрэдна да Масквы. Карты XVI — пачатку XVIII стст., як правіла, не даюць звестак пра адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел у рэгіёне Павугор'я, за выключэннем карт французаў Н. Сансона (да 1667 г.) і яго сына Г. Сансона (1674 г.), галандца Ю. Данкерца (1680 г.) і гравёра і выдаўца з Нюрнберга І.І. Хомана (1707 г.), на якіх Дзмітравец паказаны ў складзе Смаленскага княства[188].

183 Ukrania quae et Terra Cosaccorum cum vicinis Walachiae, Moldoviae, Minoris q. Tartariae, Provincus exhibita a Ioh. Baptista Homanno. Noriberga, 1720 // Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. № 20.

184 Regni Poloniae et Ducatus Lithuaniae, Voliniae, Podoliae, Ucraniae, Prussiae et Curlandiae description emendate per I. Danckerts. Amsterdami // Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. Київ, 1931. № 8. См. также: Homann, J.B. Regni Poloniae Magnique Ducatus Lithuaniae nova et exacta tabula ad mentem Starovolcii descripta a Joh. Bapt. Homanno. Norimbergae. [з 1707] // Senieji Lietuvos žemėlapiai: Iš Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinių. II aplankas. № 5; Seutter M. Polonia Regnum ut et Magni Ducatus Lithuaniae accuratiss[ima] delineatione repraesentat / Opera et studio Matth. Seutteri Chalc. August. [Augustae Vindelucorum, 1728] // Тамсама. № 8; Polonia Regnum ut et Magni Ducatus Lithuaniae… Opera et studio Matth. Seutteri. Sac. Caes. Maj. Geogr. Aug. [po 1742] // Polonia. Atlas map z XVI—XVIII wieku. S. 14.

185 Seutter M. Polonia Regnum ut et Magni Ducatus Lithuaniae accuratiss[ima] delineatione repraesentat / Opera et studio Matth. Seutteri Chalc. August. [Augustae Vindelucorum, 1728] // Senieji Lietuvos žemėlapiai: Iš Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinių. II aplankas. № 8; Lotter T.K. Mappa geographica ex novissimis observationibus repraesentans Regnum Poloniae et Magnum Ducatum Lithuaniae… [Augsburg, ca 1780] // Тамсама. № 14; Probst J.M. Mappa geographica ex novissimis observationibus repraesentans Regnum Poloniae et Magnum Ducatum Lithuaniae… [Augsburg], 1783 // Тамсама. № 16.

186 Багров Л. История картографии. С. 287, 301.

187 Матеріяли до історії картографії України. Ч. 1. С. 9.

188 Sanson d'Abbeville N. Estats de Pologne subdiveses suivant l'estendue das palatinats… Amsterdam: chaz Pierre Schenk [ca 1710] // Senieji Lietuvos žemėlapiai: Iš Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinių. II aplankas. № 6; Карта Московии Гийома Сансона 1674 г. // Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV — начала XVI века. № 18. С. 89; Novissima et Accuratissima Totius Russiae Vulgo Muscoviae Tabula at Iusto Danckerts. Amsterdam, 1680; Homann, J.B. Regni Poloniae Magnique Ducatus Lithuaniae nova et exacta tabula ad mentem Starovolcii descripta a Joh. Bapt. Homanno. Norimbergae. [ca 1707] // Senieji Lietuvos žemėlapiai: Iš Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinių. II aplankas. № 5. Істотная розніца ў адлюстраванні прыналежнасці Дзмітраўца (да Смаленскага або Ноўгарад-Северскага княства) яшчэ раз паказвае розны характар крыніц, якія былі выкарыстаны французамі Сансонам і Дэлілем пры стварэнні сваіх карт.

Такім чынам, адносна Дзмітраўца на працягу другой паловы XVI — пачатку XVIII стст. складвалася некалькі традыцый паказу яго месца на карце: 1) адвольна паміж рэкамі Угрой і Акой; 2) над возерам у вытоку р. Угры; 3) з левага боку р. Угры бліжэй да яе вярхоўяў і 4) на правым беразе прыблізна ў сярэднім цячэнні р. Угры. Цікава, што толькі на пачатку XVIII ст., калі населены пункт цалкам страціў сваё значэнне, яго месца пачалі больш-менш дакладна пазначаць на картах.

Цікавасць да Дзмітраўца з боку заходнееўрапейскіх картографаў шмат у чым была абумоўлена згадкай яго С. Герберштэйнам. Расійская картаграфія XVI — канца XVIII стст. асаблівага значэння Дзмітраўцу не надавала. Няма яго на картах Масковіі Антонія Віда — І.В. Ляцкога 1542—1555 гг., Антонія Джэнкінсана 1562 г., Гесэля Герытса 1613 г. («Чарцёж царэвіча Фёдара Гадунова»)[189], гэта значыць на тых картаграфічных працах, істотную частку якіх склалі звесткі ад расійскіх інфарматараў (пераважна, канечне, у вусным або пісьмовым, але не ў картаграфічным выглядзе). Без сумнення, расійскія звесткі пры стварэнні сваіх карт выкарыстоўваў Герберштэйн, а Сансон і Дэліль карысталіся багатым і разнастайным матэрыялам з прац польскіх (Б. Вапоўскага, С. Старавольскага), французскіх (Г. дэ Баплан), магчыма, расійскіх і іншых картографаў і географаў.

На мяжы XVI—XVII стст. (пры Барысе Гадунове) быў складзены так званы «стары чарцёж», па сутнасці — першая расійская карта «всего Московского государства»[190]. Сам чарцёж не захаваўся, але на яго аснове (з дабаўленнем звестак «новага чарцяжа») у Разрадным прыказе ў 1627 г. была створана «Книга Большому чертежу», якая ўвабрала ў тэкставым выглядзе інфармацыю, што мелася на карце. Апісанне ішло па галоўных рэках і дарогах, і ў ім адну з асноўных пазіцый займала р. Угра. Да гідрасістэмы Угры была памылкова прыпісана р. Лужа (на самой справе прыток Протвы) з гарадамі Крамянескам і Малым Яраслаўцам. Лужа быццам бы ўпадала ў Угру каля с. Таваркава, з чаго становіцца зразумелым, што гаворка мусіла ісці пра р. Шаню. Таксама р. Сухадроў (Сухадрэў) павінна была ўпадаць не ў Лужу, а ў Шаню, і Мядынь (Мядынка) несці свае воды не ў Лужу, а ў Сухадрэў[191]. Такім чынам, складальнікі «Книги Большому чертежу» злілі разам дзве ракі — Лужу і Шаню, і пераблыталі іх прыtокі. З правага боку р. Угры апісана р. Сярпея, якая «потекла ... в ночь [на поўнач. — *В.Ц.*] в реку в Угру»[192]. Магчыма, у той час гэты прыток Угры так і называўся, але цяпер гэта Рэса. Акрамя с. Таваркава (варыянт — Таркава) «Книга Большому чертежу» захавала звесткі пра Спаскі манастыр «на усть Угры на Оке» (Крайшына XV ст.) і пра гарадзішча Зорава («а ниж Елии город Зарево»)[193]. Дзмітравец не згадваўся.

У першым атласе Расіі 1745 г., створаным на аснове навуковых вымярэнняў, цячэнне р. Угры заставалася нанесеным даволі адвольна, а Дзмітравец адсутнічаў[194]. Першая

---

[189] Рыбаков Б.А. Русские карты Московии XV — начала XVI века. № 2. Паміж с. 12—13; № 5. С. 24—25; № 12. Паміж с. 58—59; Вавричин М.Г., Дашкевич Я.Р., Кришталович У.Р. Україна на стародавніх картах. С. 178—179, 181.

[190] Книга Большому чертежу. С. 4, 5, 49.

[191] Тамсама. С. 56, 119.

[192] Тамсама.

[193] Тамсама. С. 101, 185. Выток р. Угры сапраўды размешчаны крыху на паўднёвы ўсход ад г. Ельні, але пра які горад (гарадзішча) з назвай Зарава (Зорава) ідзе гаворка — невядома.

[194] Московская губерния с лежащими вкруг местами // Атлас Российский, состоящий из девятнадцати специальных карт, представляющих Всероссийскую империю с пограничными землями, сочиненный по правилам географическим и новейшим обсервациям, с приложенной при том Генеральной картой Великой сей империи, старанием и трудами императорской Академии наук. СПб., 1745. № IV; Карта Смоленской губернии с частями губерний Киевской, Белогородской и Воронежской // Тамсама. № V.

дакладная выява на карце рэгіёна Павугор'я належала географу і картографу, ад'юнкту Геаграфічнага дэпартамента Акадэміі навук Я.Ф. Шміту. Ім у 1773 г. была складзена Генеральная карта Смаленскай губерні, на якой з вялікай дакладнасцю была праведзена лінія р. Угры і пазначаны многія населеныя пункты каля яе. Насупраць вусця р. Воры, якая ўпадала ва Угру, стаяў Гарадзец — так называўся тады Дзмітравец[195]. На плане Генеральнага межавання 1780 г. Дзмітравец, канечне, быў таксама пазначаны (Пагост Дзмітравец), але на агульных картах, напрыклад, «Атласе Смаленскай губерні» 90-х г. XVIII ст. або Смаленскага намесніцтва 1792 г., яго зноў няма[196]. Карты XIX—XX стст., выкананыя ў розным маштабе на сучасным навуковым узроўні, адлюстроўвалі рэальны стан мясцовасці і часта фіксавалі ўсе населеныя пункты Павугор'я. Жыццё пасялення — пераемніка Дзмітраўца, на працягу амаль двух стагоддзяў (да знікнення падчас Другой сусветнай вайны), змену яго назвы і статуса, такім чынам, можна бачыць з дастатковай пэўнасцю.

## Роля Дзмітраўца ў сістэме абароны ўсходняй мяжы ВКЛ

Інфармацыя пра Дзмітравец у пісьмовых крыніцах адлюстроўвалася ў большасці выпадкаў у сувязі з яго ўдзелам у маскоўска-літоўскіх памежных канфліктах. Гарадок узнік як перашкода на шляху маскоўскіх войскаў, якія імкнуліся прабрацца на тэрыторыю ВКЛ, сам быў аб'ектам нападзенняў і ўключаўся ў спісы маскоўска-літоўскіх дамоў як пункт магчымых прэтэнзій аднаго з бакоў.

Выкананне Дзмітраўцом пэўнай ролі ў сістэме абароны ўсходняй мяжы ВКЛ не выклікае сумненняў. Гэтая роля праявілася на пачатку XV ст., калі Павугор'е ўвайшло ў склад ВКЛ, і стала асабліва прыметнай пасля 1494 г., калі літоўска-маскоўская мяжа ўсутыч наблізілася да р. Угры. У чым жа выяўлялася абарончая роля гарадка на р. Угры?

Перш за ўсё сам Дзмітравец быў моцным замкам, які стаяў на крутым беразе р. Угры паміж двума ярамі. Натуральнага паходжання пагорак, на якім уладкавалася паселішча, быў сур'ёзна пераўтвораны ў сувязі з будаўніцтвам кальцавога вала і выраўноўваннем ўнутранай пляцоўкі (авальнай формы, памерам 36×56 м). Насып вала (ад 1 да 3 м) ствараўся з рачнога пяску, але быў падмацаваны спецыяльнай канструкцыяй з драўляных жэрдак і прутоў, абмазаных глінай і абпаленых. Земляны вал перыядычна падсыпаўся, прычым паміж падсыпкамі праходзіла даволі шмат часу. Каля падножжа вала быў вырыты роў, які добра бачны і зараз (глыбіня да 1 м). Агульная вышыня жылой пляцоўкі гарадзішча складала 34—35 м над узроўнем вады ў рацэ. Узвышша было такім значным, што падчас вызначэння мяжы ў 30-я гг. XVII стст. расійскім бокам яно было названа Дзмітраўскай гарой[197]. Унутры пясчанага насыпу быў знойдзены тонкі культурны слой, знаходка пасудзіны XV ст. у якім дала падставы для датавання абарончых збудаванняў не раней за XV ст.[198].

---

[195] Генеральная карта Смоленской губернии, на уезды разделенная / Соч. Акад. Наук адьюнкт Я.Ф. Шмид[т]; Вырез. Н. Зубков. [СПб.], 1773.

[196] Карта Юхновского уезда // Атлас Смоленской губернии. Смоленск, 179...; Карта Смоленского наместничества // Российский атлас, из сорока четырех карт состоящий и на сорок на два наместничества империю разделяющий. СПб., 1792.

[197] Бантыш-Каменский Н.Н. Переписка между Россиею и Польшею в государствование царя Михаила Феодоровича. С. 93.

[198] Массалитина Г.А., Модин И.Н., Болдин И.В. Комплексные археологические и геофизические исследования на городище Жары 1 Юхновского района Калужской области // Дмитрий Донской и эпоха возрождения Руси. События, памятники, традиции. С. 40, 42; Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 127; Яны ж. Реконструкция истории летописного Дмитровца. С. 71—72, 77.

Варта адзначыць, што пасяленне ў межах гарадзішча ўзнікла ў жалезным веку, існавала ў час Старажытнай Русі, але найбольш актыўна функцыянавала ў XIV—XV стст. Мяркуючы па археалагічных дадзеных, жыццё гарадка спынілася ў канцы XV ст.[199].

Гарадок Дзмітравец знаходзіўся на даволі значнай адлегласці (2 км) ад вусця р. Воры і таму не мог надзейна прыкрываць размешчаныя яшчэ ніжэй па цячэнні р. Угры брады. А менавіта апошнія былі найбольш зручнымі для варожых уварванняў. Галоўнымі функцыямі дзмітраўскага замка, верагодна, былі: кантроль брадоў, заслон дарогі на Вязьму і далей на Смаленск, вартавая і назіральная службы.

На тэндэнцыю ўзнікнення водападзельных гарадзішчаў (на водападзельных участках рэльефа) пры сухапутных дарогах звярнуў увагу А.М. Навумаў[200]. На думку даследчыка, гарадзішчы (не толькі водападзельныя) маглі функцыянаваць як ямы (пункты прыпынку), як месцы збору дарожных падаткаў на межах княстваў, а таксама «як фарпосты ваеннай абароны на найбольш зручных шляхах уварвання суперніка, якімі з'яўляліся сухапутныя дарогі развітага сярэднявечча і рачныя брады»[201]. А.М. Навумаў разглядаў у асноўным рэгіён Тульскай вобласці, але пазначыў шлях з Калугі на Мезецк (Мяшчоўск) і пры ім гарадзішча Спас-Гарадок (сярэдневяковая Крайшына) каля вусця р. Угры[202]. Шлях гэты ішоў з Бранска і далей. Так, маскоўскі пасол князь Іван Сямёнавіч Кубенскі ў 1500 г. накіроўваўся ў Крым, мінаючы Калугу і «перевезшися Угру»[203]. Маршрут крымскага пасла з Масквы да Рыльска апісаны пад 1502 г. па станах, з якіх Лісін, Калуга, Варатынск, Серанск прымушаюць перасячы р. Угру каля яе вусця[204]. Разгляданы шлях вядомы таксама паводле «Книги Большому чертежу» 1627 г. і падпісаны на карце Генеральнага межавання XVIII ст.[205]. Спаскі манастыр і сяло Спаскае пазначаны, адпаведна, у абедзвюх крыніцах[206].

Іншы шлях ад Калугі вёў да Смаленска, але ён не перасякаў р. Угру, а трымаўся яе левага боку і ішоў далей, пакідаючы ўбаку Мядынь[207]. Больш значным для

---

199 Массалитина Г.А., Болдин И.В. Средневековый Дмитровец. С. 128. Гл. таксама: Никольская Т.Н. Земля вятичей: К истории населения бассейна верхней и средней Оки в IX—XIII вв. С. 87. Т.М. Нікольская дакладна адзначыла месцазнаходжанне гарадзішча (на поўнач ад в. Жары на правым высокім беразе р. Угры) і характарызавала яго як феадальны замак, што складаўся з дзядзінца з селішчам, якое прымыкала да яго (Тамсама). Тым не менш гарадзішча Жары ў першым выданні археалагічнай карты Калужскай вобласці было названа феадальнай сядзібай, а яго існаванне працягнута да XVII ст. (Археологическая карта России: Калужская область / Сост. Ю.А. Краснов. М., 1992. С. 124. № 597).

200 Наумов А.Н. Водораздельные городища и сухопутные дороги на водоразделе Оки и Дона в развитом средневековье (К вопросу о методике археологического поиска) // Верхнее Подонье: Природа. Археология. История. Вып. 2: Сб. ст. в 2-х т. Т. 1. Природа. Археология / Под ред. А.Н. Наумова. Тула, 2007. С. 108—118.

201 Наумов А.Н. Водораздельные городища и сухопутные дороги на водоразделе Оки и Дона. С. 114—115.

202 Тамсама. С. 111, 116.

203 СИРИО. Т. 41. № 64. С. 314.

204 Тамсама. № 86. С. 441.

205 Книга Большому чертежу. С. 56, 119; Генеральный план Калужского уезда. Масштаб в английском дюйме 2 версты // Атлас Калужского наместничества, состоящего из двенадцати городов и уездов… Гл. таксама: Геометрический генеральный план Калугского наместничества…

206 Книга Большому чертежу. С. 119; Генерального плана Калужского уезда часть II-я. Масштаб в английском дюйме 2 версты // Атлас Калужского наместничества, состоящего из двенадцати городов и уездов… СПб., 1782.

207 Генеральный геометрический план Калугского наместничества…; Генерального плана Медынского уезда часть II-я.

Павугор'я быў шлях, які зліваўся са Смаленскім у раёне вусця р. Сухадрэў і ішоў ад вусця р. Шані, якая ўпадала злева ў Угру, далей — да Мяшчоўска або Вязьмы[208]. Значным пунктам гэтага шляху было сяло Таваркава, шмат разоў згаданае ў «Книге Большому чертежу»[209]. «На Шане слобода, что Товарков садил, по Угру ж» вядома з тэстамента вялікага князя Івана III[210]. Са слабады вырасла сяло — цэнтр воласці, размешчаны амаль каля самага вусця р. Шані[211]. Насупраць Таваркава, на правым баку р. Угры ў XVIII ст. стаяў пагост Раджэственскі, месца якога на карце Генеральнага межавання пазначана сімвалам манастыра — умацаванага пасялення з царквой. Археалагічныя дадзеныя пра час існавання пасялення на р. Угры насупраць вусця р. Шані адсутнічаюць, аднак, пераканаўшыся ў важнасці месца, з якога зручна было б кантраляваць перавоз[212] праз Угру па лініі вялікай дарогі, можна выказаць думку аб існаванні і ў XV ст. на месцы пагоста Ражэственскага (сяло Ражаство XIX ст.) умацаванага пункта. Дзякуючы размешчанаму крыху ніжэй па цячэнні Угры Залідаву і згадцы ў падзеях 1480 г. Старога і Новага горада з такой назвай[213], існуе некаторая верагоднасць атаясамлівання аднаго з Залідавых (Старога?) з пагостам Ражэственскім. Пункт насупраць вусця Шані можна параўнаць з Дзмітраўцом насупраць вусця Воры. У абодвух выпадках пераход на правы бераг р. Угры па перавозе або бродзе дазваляў пакінуць убаку буйны прыток гэтай ракі і пазбавіцца ад неабходнасці пераадолення лішніх водных перашкод.

Уздоўж р. Воры таксама была пракладзена вялікая дарога — з горада Калугі ў горад Гжаць[214]. У межаванні Юхноўскага ўезда яна названа гасцінцам з горада Гжаць у горад Юхнаў. Дарога ішла, агінаючы паўколам р. Вору, а потым р. Угру да Юхнава[215]. Пры жаданні ў любым месцы можна было сысці з дарогі і перасячы ў зручным месцы Вору або Угру. Якраз ніжэй вусця р. Воры пры в. Касая Гара існавалі два вялікія брады[216]. Падобныя брады знаходзіліся каля в. Калыхманаўкі — непадалёку ад Апакава і каля Фядоткава — побач з Аншчытавам[217]. Таксама, магчыма, Пусты Мошчын пры вусці р. Рэсы, якая ўпадала ў Угру, браў на сябе кантроль броду каля в. Баранаўкі праз Угру і пераправу праз саму р. Рэсу[218]. Такім чынам, цэлы шэраг гарадкоў уздоўж цячэння р. Угры сваім месцазнаходжаннем мог прыкрываць небяспечныя для пранікнення месцы. Пры гэтым брады каля Дзмітраўца былі асабліва

---

208 Генерального плана Медынского уезда часть II-я.

209 Книга Большому чертежу. С. 56, 101, 119.

210 ДДГ. № 89. С. 355.

211 Тамсама. № 104. С. 440, 441. Сучасны пасёлак гарадскога тыпу Таваркава быў заснаваны ў XVII ст. выхадцамі са зніклага пазней сяла з такой самай назвай.

212 Пра паром у раёне вусця р. Шані гл.: Военно-топографическая карта г. Калужской и Смоленской. Ряд XIII. Л. 13.

213 ПСРЛ. Т. XXVI. С. 273.

214 Генерального плана Медынского уезда часть III-я.

215 Геометрический план Юхновского целого уезда... Гл. таксама: Военно-топографическая карта г. Калужской и Смоленской. Ряд XIII. Л. 13.

216 Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 2. Смоленская губерния. С. 34; Военно-топографическая карта г. Калужской и Смоленской. Ряд XIII. Л. 13.

217 Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 2. С. 34. Ніжэй в. Калыхманавай стаяў пастаянны мост на сваях (Тамсама). Падаецца, што брод у раёне Аншчытава не меў вялікага значэння, бо для подступу да яго з паўднёвага ўсходу трэба было яшчэ перасячы буйны прыток р. Угры Вору, якая злівалася з Угрой якраз каля Дзмітраўца.

218 Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 2. С. 34.

важнымі з прычыны таго, што давалі магчымасць, пазбегнуўшы пераадолення перашкоды ў выглядзе р. Воры і адчувальна скараціўшы адлегласць, адразу трапіць на дарогу, якая вяла да Вязьмы.

Дарога з Юхнава ў Вязьму — яшчэ адна з існаваўшых здаўна ў Павугор'і. Яе лінія, адзначаная на картах Генеральнага межавання XVIII ст., зазнала да сённяшняга часу толькі нязначныя змены, звязаныя пераважна з развіццём новага цэнтра рэгіёна — Юхноўскай падманастырскай слабады, якая стала ў 1777 г. уезным горадам Юхнавам[219]. На геаметрычным плане Юхноўскага ўезда 1780 г. відаць, што Вялікі гасцінец з горада Мяшчоўска ў горад Юхнаў праходзіў калісьці паблізу новага ўезнага цэнтра: да яго ішло адгалінаванне ад асноўнага напрамку[220]. Нягледзячы на назву, дарога гэтая брала пачатак хутчэй з Калугі, чым з Мяшчоўска, да якога трэба было рабіць рэзкі паварот[221]. І сапраўды, у межавым роспісе Вяземскага ўезда 1634 г. яна названа Вялікай дарагабужскай дарогай з Калугі[222]. У сярэдзіне XIX ст. Вяземскі паштовы тракт ад Юхнава ішоў да маста праз р. Рэсу, на невялікім кавалке прытрымліваўся р. Угры і перасякаў апошнюю ў раёне с. Знаменскага. Дарога лічылася зручнай у любую пару года[223]. Паводле Спіса населеных мест Смаленскай губерні 1859 г., Вяземскі паштовы тракт праходзіў праз Рэсенскія заезныя двары (на левым беразе р. Рэсы) і шэраг іншых пасяленняў, пакідаючы ўбаку сяло Рупосава (Рупсава)[224]. У свой час гэтае пасяленне пераняла ролю валаснога цэнтра ў Дзмітраўца, а ў 1776 г. на кароткі час нават стала ўезным горадам[225]. Выбар Рупосава, верагодна, быў звязаны з яго цэнтральным становішчам на тэрыторыі ствараемага ўезда. Таксама да сяла мусіла падступаць важная дарога, быць якой магла толькі Вяземская. Рупосава размяшчалася крыху на поўнач ад Дзмітраўца і, такім чынам, можна выказаць думку аб першапачатковым праходжанні важнай дарогі амаль побач з суседнім Рупосавым. Аднак усё ж больш верагодным падаецца нязменнасць дарогі і існаванне адгалінавання ад яе да Дзмітраўца і Рупосава. 7 км да Рупосава і крыху больш за 6 км да Дзмітраўца — нязначная адлегласць, якая дазваляе лічыць абодва пункты ў межах дасягальнасці дарогі.

Вяземская дарога, несумненна, была асноўным шляхам, па якім перамяшчаліся войскі ў бок р. Угры. Відаць, менавіта яе збіраўся скарыстаць маскоўскі князь Сямён Горды ў 1352 г., калі ішоў на Смаленск; магчыма, яе прытрымліваўся вялікі князь літоўскі Альгерд у 1368 і 1372 г. у паходах на Маскву; яе ж выкарыстоўваў Вітаўт у 1406 і 1408 г. пры прасоўванні да р. Плавы і р. Угры. Нарэшце, вялікі князь Васілій II прайшоў па ёй аж да Вязьмы, знішчыўшы па дарозе Дзмітравец. Абарона і забеспячэнне стратэгічнай Вяземскай дарогі, такім чынам, было справай надзвычай важнай. Ланцужок гарадкоў з замкамі, размешчанымі ўздоўж р. Угры, якраз і выконваў, акрамя ўсяго іншага, функцыю заслоны Вяземскай дарогі. Асобая роля ў гэтым дзякуючы геаграфічнаму становішчу выпала Дзмітраўцу. Каб скараціць шлях

219 Маслов В.Е. Юхнов. С. 20.

220 Геометрический план Юхновского целого уезда…

221 Геометрическая карта Калужского наместничества // Атлас Калужского наместничества, состоящего из двенадцати городов и уездов…

222 Межевые росписи Вяземского уезда // Виноградов И.П. Исторический очерк города Вязьмы с древнейших времен до XVII в. С. 118.

223 Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. VIII. Ч. 2. С. 34, 75, 76. Асобная дарога ішла з Юхнава ў Дарагабуж (Тамсама. С. 82).

224 Список населенных мест по сведениям 1859 года. Т. XL: Смоленская губерния. С. 400.

225 Маслов В.Е. Юхнов. С. 19—20.

і пазбегнуць перашкод, як у выглядзе прыродных аб'ектаў (прытокі Угры), так і ў форме ўмацаванняў, створаных чалавекам (замкі ў Крайшына, Бышкавічах, Апакаве і г.д.), зручна было фарсіраваць Угру ў раёне Дзмітраўца і, зламаўшы яго абарону, прасунуцца ўжо без вымушаных спыненняў да самой Вязьмы. На адрэзку дарогі ад Дзмітраўца да Вязьмы невядома ніводнага гарадзішча, і нават паўторная сустрэча з Угрой, якая рабіла рэзкі паварот з паўночнага захаду на паўднёвы захад, не стварала асаблівай праблемы — у сваім верхнім цячэнні рака не была шырокай і глыбокай.

Цяпер тэрыторыя вакол Дзмітраўца фактычна не заселена — яе займае Нацыянальны парк «Угра». Верагодна, нечым падобным з'яўлялася Павугор'е і ў часы Вітаўта. Вояры Вітаўта, якія вярталіся ў 1408 г. ад вусця Угры, згодна з Хронікай Я. Длугаша, ішлі па адзінай дарозе, якая была практычна знішчана дажджамі і ператварылася ў балота, праз край, пакрыты пераважна лясамі і барамі, з невялікай колькасцю сёл і вёсак[226]. Для перамяшчэння войскаў у раён Угры зручней за ўсё было рухацца ад р. Протвы і яе прытокаў, больш-менш засвоеных Масквой, або ад Мядыні. Так можна было лёгка і хутка дасягнуць вусця р. Воры, дзе адзін толькі Дзмітравец перашкаджаў пераходу на правы бок р. Угры і дзе праходзіла прамая дарога на Вязьму.

Такім чынам, нягледзячы на існаванне цэлай сістэмы ўмацаваных пунктаў уздоўж р. Угры, нападзенне на адзін толькі Дзмітравец стварала небяспеку прарыву лініі абароны і ўварвання ва ўнутраныя раёны ВКЛ войскаў суперніка. У 1407 г. Дзмітравец не здолеў супрацьстаяць маскоўскай сіле і быў спалены[227]. Верагодна, пасля гэтага літоўскія ўлады паспяшаліся стварыць магутны замак, на які ў канцы XV ст. не адважваліся нападаць маскоўскія служылыя людзі і які стаў надзейным абаронцам не толькі раёна цячэння р. Угры, але і значнай тэрыторыі за ёй. Зрэшты, няпэўнае датаванне часу збудавання ў Дзмітраўцы новага вала (XV ст.), дае магчымасць звязаць гэтую падзею з перыядам апошніх гадоў існавання гарадка[228]. Яго значэнне асабліва ўзрасло пасля заключэння міру 1494 г. і, верагодна, адной з ініцыятыў намеснікаў (Івашкі Сапежыча і іншых, невядомых), якія на кароткі час з'явіліся ў ім, стала падрыхтоўка да абароны супраць пастаянных нападзенняў маскоўскага боку. Інфармацыя С. Герберштэйна пра Дзмітравец — горад і крэпасць[229], магчыма, адлюстравала сітуацыю менавіта канца XV ст.

Дзмітравец быў толькі адным са звёнаў у ланцужку гарадоў-крэпасцей уздоўж р. Угры (Ашчытаў, Апакаў, Пусты Мошчын, Бышкавічы, Залідаў, Крайшына), якія прыкрывалі небяспечны для нападзенняў у цэнтральныя рэгіёны ВКЛ участак мяжы. Падаецца, што, нягледзячы на існуючыя адрозненні ў прыналежнасці гарадкоў (гаспадарскія, прыватнаўласніцкія), яны скаардынавана вялі назіранне за перамяшчэннем войскаў і своечасова паведамлялі ў вялікакняжацкія службы аб якіх-небудзь варожых дзеяннях. Блізкая адлегласць паміж гарадкамі дазваляе меркаваць аб магчымасці перадачы інфармацыі паміж імі з дапамогай умоўных знакаў (агнёў або дыму). Пад кантроль было ўзята ўсё памежнае цячэнне р. Угры.

---

226 Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T. III. Ks. IX, X. S. 537.

227 Паводле звестак Г.А. Масаліцінай, атрыманых падчас археалагічных раскопак, але пакуль ненадрукаваных, пад насыпам або ў насыпе вала былі зафіксаваны сляды пажару, у якім згарэлі нейкія драўляныя канструкцыі. Цалкам магчыма, што гэта можна звязаць з падзеямі 1407 г.

228 Факт падсыпкі вала сведчыць пра некалькі этапаў умацавання горада (Массалитина Г.А., Болдин И.В. Реконструкция истории летописного Дмитровца. С. 77). Значыць, больш верагоднай з'яўляецца версія пра збудаванне ўмацаванняў Дзмітраўца на пачатку XV ст. з іх наступнай рэканструкцыяй па меры неабходнасці на працягу стагоддзя.

229 Герберштейн С. Записки о Московии. Т. I. С. 324—325.

Меркаванне пра актыўную дзейнасць улад ВКЛ, скіраваную на стварэнне абарончага шчыта на ўсходняй мяжы дзяржавы (у прыватнасці, па рацэ Угры) і канкрэтна праяўленую ў збудаванні ўмацаванняў Дзмітраўца, грунтуецца шмат у чым на археалагічных дадзеных. У сувязі з гэтым трэба адзначыць, што апора на высновы археолагаў не заўсёды надзейная. Далейшае або больш уважлівае вывучэнне археалагічных помнікаў і матэрыялаў з іх можа даць зусім іншую або больш дакладную інфармацыю, якая ў выніку абвергне думкі, што ўзніклі на аснове наяўных цяпер звестак.

Можа быць пастаўлена пад сумненне і цікавая выснова, звязаная з назіраннем за месцазнаходжаннем брадоў і выяўленнем у іх раёне гарадоў-крэпасцей Дзмітраўца, Апакава і г.д., што сведчыць пра ўсвядомленае імкненне арганізаваць кантроль за зручнымі для праходжання войскаў месцамі. Справа ў тым, што вядомыя нам брады на р. Угры былі такімі для сярэдзіны XIX ст., у XV жа стагоддзі яны маглі быць або другаснымі, або іх увогуле магло не існаваць. У той жа час ваенна-тапаграфічная карта Расіі («трохвёрстка») паказвае пачынаючы ад Гарадца Дзмітрава (старажытны Дзмітравец) 15 брадоў, часта зусім не ўзгодненых з быццам бы прызначанымі для іх аховы ўмацаванымі пунктамі[230]. Зрэшты, размешчаныя на невялікай адлегласці адзін ад аднаго ўздоўж Угры гарадкі-крэпасці маглі кантраляваць усё цячэнне ракі, таму іх прывязка да пэўных значных брадоў хаця і мае значэнне, але не абавязкова. Не ўсе брады і пераправы былі прыдатныя для перасячэння вялікімі кантынгентамі войскаў. Паводле В.В. Каргалава, для іх была важная не толькі глыбіня, але і шырыня, а таксама існаванне зручных падыходаў[231]. Асаблівы сэнс быў у кантраляванні менавіта тых брадоў, побач з якімі праходзілі важныя дарогі. У сувязі з гэтым, напрыклад, Дзмітравец набыў універсальнае значэнне, бо ён стаяў каля броду і назіраў за рухам з левага боку р. Угры, а таксама кантраляваў дарогу, якая цягнулася ўздоўж правага берага гэтай ракі.

Даследчык рускага абароннага дойлідства канца XIII — пачатку XVI ст. У.У. Костачкін пры разглядзе стратэгічнага значэння абарончых збудаванняў у перыяд феадальнай раздробленасці адзначаў іх значную ролю, якая далёка выходзіла за рамкі абароны бліжэйшай акругі і мясцовага насельніцтва, сканцэнтраванага ўнутры[232]. Па яго назіраннях, умацаваныя гарады ставіліся на сухапутных і, больш за ўсё, водных транспартных гандлёвых магістралях, што ў мірны час бараніла апошнія, а ў ваенны (калі яны ператвараліся ў адзіныя шляхі перамяшчэння войскаў) арганізоўвала асяродкі першага супраціўлення непрыяцелю і стрымлівала яго рух да цэнтраў рускіх зямель[233]. Прыклады У.У. Костачкіна па розных тэрыторыях можна папоўніць аналізам сітуацыі ў Павугор'і, на Смаленшчыне і ў іншых абласцях ВКЛ.

Аднак функцыі абарончых збудаванняў каля мяжы не абмяжоўваліся толькі абаронай. З цягам часу такія пункты сталі ператварацца ў апорныя базы, якія стваралі магчымасць для канцэнтрацыі, адпачынку, аснашчэння і г.д. войскаў, якія рухаліся на варожую тэрыторыю. Па словах У.У. Костачкіна, «у канцы XV ст. пасіўная абарона рускіх крэпасцей змяняецца актыўнай». Гэта цалкам адпавядала сутнасці маскоўскай палітыкі, «якая ставіла пытанне не толькі пра дзяржаўную недатыкальнасць, але і пра законныя правы рускага народа, ушчэмленыя яго суседзямі»[234].

230 Военно-топографическая карта г. Калужской и Смоленской. Ряд XIII. Л. 13.

231 Каргалов В.В. На границах Руси стоять крепко! С. 113—114.

232 Косточкин В.В. Русское оборонное зодчество конца XIII — начала XVI в. М., 1962. С. 66.

233 Тамсама. С. 66—68.

234 Тамсама. С. 71.

Варта заўважыць, што ўжо да гэтага часу ВКЛ актыўна выкарыстоўвала памежныя апорныя пункты ў якасці месцаў збору войск на кірунках запланаваных удараў (Вязьма, Любуцк). Любуцк, напрыклад, кантраляваў зручныя для пераправы праз р. Аку брады, што, з аднаго боку, перасцерагала ад нападзенняў з-за левага (маскоўскага) берага, а з іншага боку, забяспечвала зручнасць уласнага ўварвання ў землі Вялікага Княства Маскоўскага.

Па меркаванні У.У. Костачкіна, самастойныя звёны, якімі з'яўляліся парубежныя крэпасці, уваходзілі ў строга арыентаваныя памежныя лініі абароны, чыя роля не абмяжоўвалася толькі прыкрыццём цэнтраў княстваў, але вырастала да заслоны «жыццёвай прасторы» дзяржаў канца XIII — першай паловы XV стст. У памежных ліній існавалі свае цэнтры або «камандныя пункты»[235]. Да Ноўгарада, Пскова, Масквы і Цверы тут неабходна дадаць Смаленск і, магчыма, некаторыя іншыя гарады ВКЛ (Мцэнск, Менск і інш.), на якія абапіраліся лініі абароны, арыентаваныя супраць маскоўскага боку.

Але акрамя памежных ліній з іх кіруючымі цэнтрамі, існавалі яшчэ крэпасці ва ўнутраных раёнах краіны, якія былі прызначаны стрымліваць варожыя сілы, што прайшлі наперад. У самых сталіц фортамі стаялі манастыры, якія ўтваралі вакол ваенна-абарончыя колы (Масква, Ноўгарад, Пскоў, Цвер)[236].

Разгледжанае У.У. Костачкіным на прыкладах асобных рэгіёнаў рускіх зямель стратэгічнае значэнне абарончых збудаванняў не можа знайсці поўнай аналогіі са створанай на ўсходняй мяжы ВКЛ сістэмай супрацьстаяння маскоўскай пагрозе. Перш за ўсё, літоўскія памежныя гарадкі-крэпасці не былі арыентаваны на стрымліванне значных кантынгентаў варожых войскаў. Для гэтага яны былі занадта слабыя. У іх функцыі ўваходзіла адбіццё разбойніцкіх набегаў з-за мяжы, назіранне за перамяшчэннем войскаў праціўніка і апавяшчэнне аб гэтым, кантроль за рухам па сухапутных дарогах і водных артэрыях і г.д. У выпадках шырокамаштабных уварванняў у справу ўступалі крэпасці, размешчаныя ў другім эшалоне абарончай сістэмы, часта некалькі аддаленыя ад мяжы (Полацк, Віцебск, Дарагабуж, Вязьма, Мцэнск, Любуцк і інш.). Менавіта яны сваёй магутнасцю падтрымлівалі ўладу ВКЛ у досыць вялікіх рэгіёнах (Панямонне, Падняпроўе, вярхоўе Акі), перасцерагалі магчымыя прарывы праціўніка ўнутр тэрыторыі дзяржавы на важнейшых дарогах. Далей, ужо каля ключавых «камандных» пунктаў усёй абарончай сістэмы (такіх, як Смаленск) адбывалася асноўнае дзеянне, вынікам якога станавілася авалодванне значнай часткай тэрыторыі ВКЛ.

Натуральным чынам любая абарончая сістэма будавалася з апорай на характар і ўмовы мясцовасці. Невыпадкова дзейна ўмацоўваліся ў асноўным толькі сухапутныя дарогі і рачныя шляхі — бо амаль выключна па іх можна было перакінуць войскі на варожую тэрыторыю. Па словах сучаснага польскага гісторыка Конрада Бабятынскага, які спасылаўся на працы папярэднікаў: «З прычыны геаграфічных чыннікаў і слаба развітых шляхоў камунікацый патрапіць углыб тэрыторыі праціўніка можна было толькі праз некалькі так званых калідораў»[237]. На асаблівую ўласцівасць тэрыторыі Усходняй Еўропы, якая абараняла сваімі непраходнымі лясамі і балотамі дзяржавы, размешчаныя на ёй, звярталі ўвагу іншаземцы, якія наведвалі Расію (падборку іх выказванняў прывёў у сваёй працы У.У. Костачкін)[238]. Так, Іаан Фабр,

[235] Косточкин В.В. Русское оборонное зодчество конца XIII — начала XVI в. С. 72.

[236] Тамсама. С. 74—75.

[237] Бабятынскі К. Дзейнасць войска Васілія Пятровіча Шарамецева на тэрыторыі Полацкага ваяводства ў час вайны Рэчы Паспалітай з Масквой у 1654—1655 // ARCHE. Пачатак. № 4. 2009. С. 288.

[238] Тамсама. С. 77.

перакладчык пры рускім пасольстве, якое пабывала ў Іспаніі ў 1526 г., пісаў, што «масквіцяне, па меркаванні шматлікіх гісторыкаў, ніколі б не атрымлівалі асалоду ад каштоўных выгод свету, і вельмі часта былі б пераможаны, калі б царства іх не было агароджана самой прыродай і месцазнаходжаннем»[239]. Рэйнгольд Гейдэнштэйн, добры знаўца падзей Лівонскай вайны, сцвярджаў аб свядомай арганізацыі расійскім бокам прыродных перашкод па суседстве з непрыяцелем, «і яны [рускія. — *В.Ц.*] (лічаць) сябе ў бяспецы ад варожых набегаў, як хутка з усіх бакоў атачаюць сябе наколькі можна бясплоднымі пусткамі»[240]. Таксама і Жак Маржэрэт, які назіраў Расію ў пачатку XVII ст., лічыў, што яна «вельмі шырокая краіна, поўная вялікіх лясоў у самых населеных месцах, з боку Літвы і Лівоніі — вялікіх балот, якія служаць Расіі нібы крапасныя сцены»[241].

Праўда, не заўсёды і не ўсюды неспрыяльныя ўмовы мясцовасці маглі стрымаць волю палкаводцаў. Вядомы, напрыклад, імгненныя рэйды Альгерда, які раптам з'яўляўся ў нечаканых для праціўніка месцах, дзеянні Вітаўта, які пракладаў дарогі праз непраходныя лясы і балоты. Таксама і маскоўскі вялікі князь Васілій І, грэбуючы цяжкасцямі шляху, зварочваў свае войскі са звыклых маршрутаў і напрамкаў рухаўся да вызначанай мэты. У рэшце рэшт прыродная адасобленасць з'яўлялася толькі дапаможным фактарам, які спрыяў умацаванню меж. Непарушнасць апошніх залежала ад намаганняў людзей, якія забяспечвалі паспяховае функцыянаванне абарончых сістэм.

Дзмітравец стаў адным з вузлавых пунктаў у сістэме абароны ўсходняй мяжы ВКЛ, і хаця на пачатку XV ст. аказаўся не ў стане супрацьстаяць маскоўскаму войску, але ў далейшым здолеў доўгі час забяспечваць непарушнасць значнага ўчастка мяжы. У выніку пахода маскоўскіх войскаў у лютым 1493 г. Дзмітравец разам з шэрагам гарадоў з правага боку Угры быў заняты, але невядома, ці аказваў ён супраціўленне. Магчыма, у ім тады зусім не стаяла літоўскіх сіл, ці іх так жа лёгка ўзялі ў палон, як і ў астатніх гарадах («всех князей и панов вывели и привели их к государю к нашему к великому князю»)[242]. У лютым 1494 г. Дзмітравец быў вернуты ў склад ВКЛ разам з тэрыторыяй левабярэжжа Угры. Гарадок адстаяў усе свае землі, чаго не здолелі зрабіць такія гарады, як Апакаў, Бышкавічы і Залідаў. Але падчас пачатай ў 1500 г. новай маскоўска-літоўскай вайны Дзмітравец быў канчаткова далучаны да Масквы. Мяркуючы па звестках крымскіх пасольскіх кніг, адбылося гэта яшчэ да сакавіка 1501 г.[243].

Такім чынам, адзін з памежных гарадкоў — Дзмітравец, здолеў доўгі час адстойваць для ВКЛ сваю тэрыторыю за Угрой. Дзякуючы свайму зручнаму месцазнаходжанню, магутным умацаванням і ўвазе ўлад ВКЛ гарадок ператвараўся з шэраговай воласці ў цэнтр намесніцтва, асяродак абароны на самым краі дзяржавы. Аднак сітуацыя склалася так, што ўжо на пачатку XVI ст., дзякуючы грандыёзным поспехам Расіі ў чарговай вайне з ВКЛ, мяжа з берагоў Угры была адсунута далёка на захад. Як толькі гэта адбылося, згубілася цікавасць і да Дзмітраўца. У яго ўмацаваннях таксама перасталі адчуваць неабходнасць, і ў выніку яны былі пакінуты.

---

239 Донесение Д. Иоанна Фабра его высочеству Фердинанду инфанту испанскому, эрцгерцогу австрийскому, герцогу бургундскому и правителю Австрийской империи о нравах и обычаях Москвитян // Отечественные записки. Ч. 25. № 70. СПб., 1826. С. 300—301.

240 Гейденштейн Р. Записки о московской войне. СПб., 1889. С. 116.

241 Россия начала XVII в. Записки капитана Маржерета. М., 1982. С. 143.

242 СИРИО. Т. 41. № 41. С. 186.

243 Тамсама. Т. 70. № 41. С. 344.

## Дадатак 3.

## Звесткі аб маскоўска-літоўскім памежжы ў пасольскіх кнігах часу Івана III

Даследчыкі неаднаразова сустракаліся з праблемай картаграфічнага вызначэння літоўска-маскоўскай мяжы другой паловы XV — пачатку XVI ст. Так, напрыклад, у адносінах да літоўска-маскоўскай мяжы 1494 г. характэрна адмаўленне ад яе вывучэння (Н.Б. Шаламанава)[1], ігнараванне (М.К. Любаўскі)[2] або ўказанне на цяжкасць правядзення на карце (Я. Натансан-Лескі)[3].

Шмат у чым пазіцыя даследчыкаў тлумачыцца неапраўданым чаканнем знаходкі падрабязнага і вычарпальнага апісання праходжання лініі мяжы ў дакументах, у якіх згодна з іх прызначэннем яны могуць быць. Маскоўска-літоўскія дагаворныя граматы, як правіла, не ўтрымлівалі звестак аб дэлімітацыі мяжы[4], спасылаючыся на «старыя рубяжы», і абмяжоўваліся, у лепшым выпадку, пералікам гарадоў з валасцямі, якія адносіліся да таго ці іншага боку, а то і абазначэннем цэлых рэгіёнаў, якія заставаліся ці пераходзілі пад чыю-небудзь уладу.

Толькі ў выпадку экстраардынарнага парушэння цэласнасці нейкага канкрэтнага ўстойлівага масіву зямель прыводзілася дакладнае апісанне праходжання лініі мяжы (напрыклад, той, што аддзяляла Ржэўскую зямлю або рассякала смаленскія валасці). Такая пазіцыя складальнікаў дагаворных грамат абапіралася на існуючае, цвёрда вызначанае ў мінулым, становішча меж княстваў, зямель, валасцей, якое не патрабавала тлумачэння ў дагаворах. Таму даследчык, які імкнецца рэканструяваць літоўска-маскоўскую мяжу часоў Івана III, павінен выкарыстоўваць цэлы комплекс крыніц і ўжываць розную методыку іх выкарыстання.

Унікальнай крыніцай, што служыць адной з прыступак на шляху да дасягнення пастаўленай мэты, з'яўляюцца пасольскія кнігі часу Івана III[5]. Аналіз звестак пасольскіх кніг дае разнастайныя вынікі, якія ў цэлым дазваляюць запоўніць прабел у вывучэнні адносін дзвюх найбуйнейшых дзяржаў Усходняй Еўропы канца XV — пачатку XVI стст.

Перш за ўсё, неабходна адзначыць, што неад'емнай кампанентай пасольскіх кніг з'яўляюцца маскоўска-літоўскія дамовы канца XV — пачатку XVI стст. Яны арганічна ўплятаюцца ў структуру крыніцы, нібы падсумоўваючы і падводзячы вынікі ўсім пасольскім прамовам, зваротам, скаргам, самому ходу перагавораў. Інфармацыйная недастатковасць дагавораў, на якую звярталі ўвагу даследчыкі, адыходзіць на другі план, таму што доўгі перагаворны працэс, які папярэднічаў ім у пасольскіх кнігах, раскрывае змест невыразных месцаў і змоўчанняў дагаворных грамат.

---

1 Шеламанова Н.Б. Образование западной части территории России в XVI в. в связи с ее отношениями с Великим княжеством Литовским и Речью Посполитой. С. 6.

2 Любавский М. К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. Вкладыш.

3 Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. S. 81.

4 Дэлімітацыі мяжы — вызначэнне палажэння і напрамку лініі дзяржаўнай мяжы па дагаворы паміж сумежнымі дзяржавамі, зафіксаванае ў дамове і графічна намаляванае на прыкладзеных да яго картах.

5 Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-литовским. Т. 1. СИРИО. Т. 35. СПб., 1882. Таксама гл.: «Выписка из посольских книг».

Акрамя таго, пасольскія кнігі адлюстроўваюць працэс станаўлення мяжы, што натуральна праігнаравана ў фінальных дакументах — дагаворных граматах. Высвятляецца, што далёка не ўсе заваяваныя тэрыторыі ў выніку адыходзілі ў склад маскоўскіх уладанняў, а замацаванню за Масквой пэўнага спіса валасцей (не заўсёды поўнасцю прадстаўленых у дагаворных граматах) папярэднічала доўгая дыпламатычная барацьба, якая часта пераходзіла ў ідэалагічныя спрэчкі.

Так, тэрыторыі, захопленыя маскоўскімі войскамі ў 1500—1503 гг., былі значна большыя за тыя, што ў выніку былі прызнаны за Масквой па дамове 1503 г. Аднак, з-за пэўных прычын, некаторыя землі ў два этапы (падчас перагавораў 1503 г. і па дамове 1508 г.) вярнуліся ў склад ВКЛ. Перш за ўсё на Смаленскім напрамку адбылося памяншэнне заваяванай Масквой тэрыторыі шляхам саступак ВКЛ тых валасцей, у якіх маскоўская ўлада не магла на той момант замацавацца. Афіцыйна маскоўскі вялікі князь «поступался» шэрагам валасцей «для первого свойства со государемъ съ вашимъ»[6]. ВКЛ былі вернуты такія старажытныя смаленскія воласці, як Ельня, Руда, Шчучча, Ветліца, а таксама надзвычай важныя ў стратэгічным плане віцебскія воласці Свята і Азарышча.

Калі не глядзець на карту, гэтае вяртанне можа здацца натуральным, звязаным з імкненнем згладзіць межы або з нязручнасцю становішча шэрагу валасцей. Аднак, як высвятляецца, менавіта перадача назад ВКЛ пералічаных вышэй валасцей якраз і стварала два выступы ўглыб тэрыторыі ВКЛ (воласць Буйгарад) і Вялікага Княства Маскоўскага (Свята, Азарышча).

Для вяртання ВКЛ часткі ўжо захопленай тэрыторыі павінны былі быць сур'ёзныя прычыны. Відавочна, у некаторых валасцях маскоўская ўлада сустрэла актыўнае супраціўленне мясцовага насельніцтва і войскаў ВКЛ, у выніку чаго прызнала сваю няздольнасць у іх замацавацца. Гэта былі воласці, трывала інтэграваныя ў склад ВКЛ, блізкія да ўнутраных абшараў дзяржавы.

Характэрна, што нават пасля літоўска-маскоўскай вайны 1507—1508 гг., «вечны мір» 1508 г. пакідаў за ВКЛ тэрыторыі, якія выраўноўвалі мяжу не на карысць Масквы (воласць Буйгарад), хаця войскі Івана III зноў захапілі тыя смаленскія воласці, якія ўжо былі вернуты ў 1503 г. Такім чынам, вызначаецца рэгіён, які быў трывала інтэграваны ў склад ВКЛ і які даволі доўгі час супрацьстаяў маскоўскім нападзенням — своеасаблівы рубеж абароны. Толькі ў 1514 г., з узяццем Смаленска, літоўска-маскоўская мяжа адсунулася далей на захад, чым прымусіла ўлады ВКЛ шукаць новыя магчымасці і арганізоўваць іншыя апорныя пункты, якія былі б супрацьпастаўлены магутнаму суседу. У выніку перамір'я 1522 г. літоўска-маскоўская мяжа набыла стабільны характар, а з 1537 г. (пасля вяртання ВКЛ Гомея і перадачы Маскве Себежа) завершаны выгляд.

Такім чынам, матэрыялы пасольскіх кніг дазваляюць зрабіць вельмі цікавыя назіранні і высновы аб дынаміцы змены літоўска-маскоўскай мяжы. Атрымліваецца даволі складанае, супярэчлівае ўяўленне аб барацьбе толькі што ўтворанай адзінай Расійскай дзяржавы за рускія землі ВКЛ, у якой было месца і сур'ёзным саступкам з боку Масквы, і відавочнаму нежаданню насельніцтва некаторых рускіх тэрыторый пераходзіць у маскоўскае падданства.

Раёны ваеннай напружанасці на межах выразна фіксуюцца дзякуючы ўказанням пасольскіх кніг, на якія воласці і пагосты ажыццяўляліся нападзенні, што за вёскі і воласці былі заняты тым ці іншым бокам, адкуль і куды адвялі людзей і жывёлу і г.д. За кошт лакалізацый згаданых геаграфічных аб'ектаў вылучаецца памежны рэгіён, а пасля з досыць вялікай дакладнасцю пазначаецца лінія літоўска-маскоўскай

[6] СИРИО. Т. 35. С. 396.

мяжы. Характэрна, што такім чынам выяўляецца мяжа, якую варта лічыць састарэлай у адносінах да новай, зафіксаванай у дамове, якая замацоўвала вынікі вайны. І сапраўды, раён ваеннай актыўнасці вызначаў лінію старой мяжы, якая існавала да пачатку вайны. Пасля ж ваенных дзеянняў лінія мяжы змянялася.

Першым раёнам маскоўска-літоўскай канфрантацыі, якая добра прасочваецца па звестках пасольскіх кніг, сталі ўладанні князёў Крошынскіх. Вызначэнне месцазнаходжання іх валасцей можа дапамагчы вырашыць вельмі важную задачу: рэканструяваць першапачатковую літоўска-маскоўскую мяжу, якая сфарміравалася ў пачатку XV ст. і здолела пратрымацца больш за 80 гадоў. Праведзенае даследаванне паказала, што ўладанні князёў Крошынскіх знаходзіліся на значнай адлегласці ад асноўнага масіву асвоеных зямель ВКЛ, і іх становішча было вельмі ненадзейным[7]. Гэта і пацвердзілася ў самым пачатку маскоўска-літоўскай канфрантацыі ў 1486—1487 г. — князі Крошынскія былі проста змецены з тых месцаў, якія «деди и отци их дръжали, и они породилися на той своей отчине»[8].

Безумоўна, дамова пра «вечны мір» 1494 г., калі б у ёй утрымліваліся дастатковыя звесткі пра новую мяжу, фіксавала б яе ўжо зусім ў іншым рэгіёне. Мяжа ж гэтая, у сваю чаргу, вызначаецца пры назіранні за ходам ваенных дзеянняў і дыпламатычных спрэчак наступнай маскоўска-літоўскай вайны 1500—1503 гг. Пры гэтым перамір'е 1503 г., натуральна, зноў выглядае запозненым у дачыненні да выяўленага раёна маскоўска-літоўскай канфрантацыі.

Характэрна, што заключэнне дамовы зусім не азначала пераходу да працэсу пазначэння мяжы на мясцовасці (дэмаркацыі). Наогул, усе прызначаныя з'езды прадстаўнікоў маскоўскага і літоўскага бакоў для цвёрдага ўсталявання мяжы так і не адбыліся. Паступовае, схаванае і яўнае, пранікненне маскоўскай улады ў межы суседняй дзяржавы не спынялася. Перш за ўсё (і гэта добра відаць з аналізу пасольскіх кніг) і ў ходзе перагавораў, і пазней ішло засваенне маскоўскімі землеўласнікамі памежных валасцей ВКЛ. Так, паступова да Вялікага Княства Маскоўскага быў далучаны шэраг валасцей, суседніх з Луцкай зямлёй (Пуповічы і інш.)[9]. З маскоўскага боку рабіліся папераджальныя заявы ў пасольскіх прамовах «о Пуповичах и о иных волостках, что задавалися к Лукам»[10] з зацвярджэннем іх прыналежнасці да Наўгародскай зямлі. Да 1500 г. у Пуповічах з'явіўся спецыяльны маскоўскі намеснік[11].

Таму дакладны пералік з пазнакай уладальніцкай прыналежнасці ў дагаворных граматах такіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, як воласці, набыло вельмі вялікае значэнне. Аднак, як неўзабаве высветлілася, граматы гэтыя маглі ўтрымліваць істотныя пропускі, якімі тут жа карыстаўся маскоўскі бок. Так, згодна са скаргавым спісам, пададзеным літоўскім паслом Пятрашкам Сенкіным сынам Епімахавым у 1503 г., неўзабаве пасля заключэння перамір'я: «Которые села и волости у перемирной грамоте не стоят написаны у великого князя московского стороне, тые они забрали»[12].

Такім чынам, пасольскія кнігі не толькі дапамагаюць вызначыць лінію літоўска-маскоўскай мяжы ў тых выпадках, калі іншых крыніц недастаткова, але і паказваюць няўстойлівы яе характар і, увогуле, выяўляюць працэс паступовага

7 Темушев В.Н. К вопросу о московско-литовской границе XV в. (Владения князей Крошинских) // Древняя Русь. Вопросы медиевистики. № 3 (21). Сентябрь 2005. С. 102—103.

8 СИРИО. Т. 35. С. 74.

9 Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV вв. С. 161—163.

10 СИРИО. Т. 35. 141 (1494 г.). Гл. таксама аналагічнае сцверджанне: Тамсама. С. 256 (1498 г.).

11 Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV вв. С. 163.

12 СИРИО. Т. 35. С. 446.

распаўсюджвання маскоўскай улады на землі ВКЛ. Пасольскія кнігі прадастаўляюць унікальныя звесткі аб тэрытарыяльнай структуры памежных рэгіёнаў Вялікіх Княстваў Маскоўскага і Літоўскага.

Пералік валасцей, якія прыслухоўваліся да таго або іншага цэнтра (Казельск, Мезецк, Хлепень і г.д.), дазваляе рэканструяваць старажытныя адміністрацыйныя адзінкі ВКЛ, узнавіць карціну палітычнага ладу больш ранняга часу. З іншага боку, дзякуючы матэрыялам пасольскіх кніг, мы маем магчымасць назіраць працэс складвання новай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай сістэмы ў землях, далучаных да Масквы. Першапачаткова тэрытарыяльная структура новых маскоўскіх уладанняў мела незавершаны і няўстойлівы характар.

Так, у дамове 1503 г. шэраг валасцей быў пералічаны для некалькіх гарадоў разам, што можа сведчыць пра тое, што новая ўлада парушыла сталы адміністрацыйны падзел ВКЛ, пры гэтым у рамках Вялікага Княства Маскоўскага новага падзелу яшчэ не склалася. Цэлы спіс валасцей нададзены да гарадоў Чарнігаў, Старадуб, Пуціўль, Рыльск, Ноўгарад-Северскі, Гомей, Любеч, Почап, Трубецк, Радагошч, Бранск. Асобным спісам пералічаны воласці, якія належалі Мцэнску, Любуцку, Сярпейску, Масальску. З часткі валасцей, замацаваных за Масквой, быў штучна сфарміраваны Дарагабужскі ўезд. У складзе Дарагабужскага ўезда аказалася 28 валасцей (!), адабраных у асноўным у Смаленска[13].

Таксама шэраг валасцей быў адколаты ад сваіх цэнтраў, што склаліся гістарычна, але пры гэтым не далучаны да суседніх, ужо маскоўскіх адміністрацыйных адзінак. Таму некаторым валасным цэнтрам было нададзена значэнне гарадоў, а да іх, адпаведна, былі прыпісаны воласці. Так, полацкія воласці Беразай, Невель, Усвея, Лавец, Веснебалога былі дададзены да вылучанага са складу полацкіх жа валасцей у якасці горада Астрэя (Астрыя)[14].

Такім чынам, мы назіраем ломку складзенага адміністрацыйнага падзелу ВКЛ і пры гэтым заўважаем першыя спробы стварэння новых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак у складзе Вялікага Княства Маскоўскага (з цэнтрамі ў Дарагабужы і Астрэі). Складванне новага ладу ў нядаўна далучаных да Масквы землях толькі пачыналася.

Пасольскія кнігі вызначаюць таксама структуру землеўладання памежных раёнаў ВКЛ. Тут іх дадзеныя змыкаюцца з інфармацыяй дакументаў Метрыкі ВКЛ, дзе змешчаны шматлікія даравальныя і пацвярджальныя граматы вялікіх князёў літоўскіх на ўладанні князёў з перыферыі дзяржавы. У пасольскіх кнігах найбольш падрабязна раскрыты перапетыі з зямельнымі ўладаннямі князёў Варатынскіх. Дзякуючы падрабязным звесткам, нам даецца магчымасць прасачыць рост зямельных уладанняў князёў Варатынскіх у раёне літоўска-маскоўскага памежжа і фарміраванне ўздоўж ракі Угры асаблівай лініі абароны ВКЛ супраць Расійскай дзяржавы[15]. Што характэрна, нават пасля пераходу на маскоўскую службу князёў Варатынскіх і страты самога г. Варатынска для ВКЛ мяжа па рацэ Угры амаль на ўсім сваім працягу (акрамя маленькага раёна, які прымыкаў да Варатынска) захавалася. Больш таго, яна падоўжылася за кошт вяземскіх зямель і левабярэжнай часткі воласці Апакаў, якія адышлі да Масквы. Літоўска-маскоўская мяжа па рацэ Угры пасля 1494 г. вырасла ўдвая[16]. Створаны абарончы рубеж адыграў сваю ролю нават у вельмі неспрыяльных для ВКЛ палітычных умовах.

---

[13] СИРИО. Т. 35. С. 400.

[14] Тамсама.

[15] Темушев В.Н. Река Угра — вековой страж московско-литовской границы. С. 305—318.

[16] Тамсама. С. 311—312.

Назіранні за прыярытэтамі маскоўскай увагі да пэўных тэрыторый паказваюць, што апеляцыі да традыцыі і пошук прэцэдэнтаў у дачыненні да іх уступаў у сілу толькі тады, калі маскоўскі бок быў упэўнены ў сваёй здольнасці замацаваць іх за сабой. Так, пры абмеркаванні правоў на заняты Казельск маскоўскія баяры спасылаліся на дагаворныя граматы, па якіх, сапраўды, горад ужо быў у складзе Вялікага Княства Маскоўскага. У выніку Казельск па дамове 1494 г. быў далучаны да Масквы[17].

Але такія ж аргументы маглі быць прыведзены і ў дачыненні да Любуцка, які ў пачатку XV ст. таксама нейкі час быў у руках маскоўскіх улад[18]. Аднак чамусьці нічога не было супрацьпастаўлена наступнай заяве літоўскага боку: «Любутеск из старины государя нашего, и в докончаньех писан, того не можем учинити, чтобы нам его съступитися»[19]. Больш таго, Любуцк стаў своеасаблівай разменнай манетай у спрэчцы за валоданне Мезецкам. За саступку Любуцка ВКЛ, Масква разлічвала цалкам завалодаць цэнтрам уладанняў князёў Мезецкіх. Але ў выніку здарылася так, што Любуцк не быў аддадзены Маскве. А Мезецк, як і настойвалі літоўскія паслы, быў падзелены па ўладаннях князёў, якія служылі маскоўскаму або літоўскаму валадарам. Гэтыя факты тым больш дзіўныя, што Любуцк пасля заключэння мірнай дамовы аказаўся з усіх бакоў акружаны маскоўскімі ўладаннямі, гэта значыць стаў анклавам ВКЛ. Пры гэтым Казельск размяшчаўся на самым памежжы.

Прычына такога процілеглага стаўлення да блізкіх, здавалася б, па гістарычным лёсе тэрыторый, крыецца, мабыць, у статусе згаданых уладанняў. Калі Казельск кіраваўся залежнымі ад вялікага князя літоўскага мясцовымі князямі, то Любуцк быў цэнтрам намесніцтва ВКЛ, гэта значыць непасрэдным уладаннем літоўскага валадара. Такім чынам, вялікую ролю пры рашэнні аб далучэнні таго ці іншага ўчастка тэрыторыі да Масквы адыгрывалі статус уладання і пазіцыя мясцовага насельніцтва, перш за ўсё, землеўласнікаў або іх намеснікаў. Нават непасрэдны захоп, а таксама магчымасць абгрунтавання далучэння з апорай на дагаворныя граматы, адыходзілі пры гэтым на другі план.

Такім чынам, мерапрыемствы па арганізацыі абароны ўсходняй мяжы ВКЛ, як бачым з аналізу звестак пасольскіх кніг, мелі свае станоўчыя вынікі. Усталяванне шэрагу намесніцтваў у цэнтры ўладанняў вярхоўскіх князёў (Мцэнск, Любуцк, Перамышль і інш.) у якасці своеасаблівых фарпостаў літоўскай улады мела на мэце своеасаблівае цэментаванне тэрыторый не заўсёды надзейных васалаў. Па словах М.К. Любаўскага: «Літоўскі ўрад трымаў свае гарнізоны ў гэтых гарадах часткова для больш пасяховай абароны меж, часткова для ўтрымання ў падпарадкаванні падручных "вярхоўскіх" князёў» [20].

Для прамоў маскоўскіх паслоў і самога Івана III (што ўяўляецца цалкам натуральным) першапачаткова было характэрна імкненне абгрунтаваць тэрытарыяльныя захопы. На старонках пасольскіх кніг разгортваецца ўсё больш шырокая панарама прэтэнзій Івана III на рускія землі ВКЛ. Абарона тэрытарыяльных інтарэсаў падмацоўвалася сілавым ціскам, але будавалася часта і на пэўнай аргументацыі з апорай на традыцыю. З пазіцыі сілы гэтая традыцыя часта скажалася, прыводзіліся як факты лжывыя сцверджанні аб прыналежнасці тых ці іншых валасцей да цэнтраў

---

[17] ДДГ. № 83. С. 330.

[18] ДДГ. № 17. С. 47; Горский А.А. Московские «примыслы» конца XIII — XV вв. вне Северо-Восточной Руси. С. 151—152.

[19] СИРИО. Т. 35. С. 121.

[20] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. С. 51—52.

з маскоўскага боку. Прыкладаў мноства. Так, пра воласці князёў Крошынскіх, якімі яны валодалі з пачатку XV ст., маскоўскім бокам было абвешчана, што воласці гэтыя «издавна к Можайску потягли к нашему великому княозству Московскому»[21]. Хлепенская воласць Рагачоў аб'яўлялася «изстарины нашие [маскоўскага гасудара. — *В.Ц.*] отчины Тферские земли»[22]. Напярэдадні заключэння дамовы аб «вечным міры» 1494 г. цэлы шэраг смаленскіх валасцей быў абвешчаны прыцягнутым да некалькіх маскоўскіх цэнтраў. Воласці Трубна і Путынь аб'яўляліся бораўскімі, Гарадзечна, Няpожа, Даражміра гара, Кнутава Дуброва, Скавародзеск, Гасціжа, Белыя Уста, Вежкі — мядынскімі, Тур'е, Цешынаў, Сукромна, Альховец, Ад'езд (Крошынскіх князёў) — мажайскімі[23].

З аналізу пасольскіх кніг добра відаць, што на першых этапах супрацьстаяння з ВКЛ урад Івана III шырока выкарыстоўваў для абгрунтавання сваіх прэтэнзій на рускія землі апеляцыю да прэцэдэнту. Так, у абарону правоў Івана III на землі шэрагу вярхоўскіх князёў прыводзіліся факты іх былой службы «на обе стороны... с своими отчинами». Тым самым прысяга тых князёў валадарам ВКЛ і Каралеўства Польскага «на том, что им от них с вотчинами не отъехати»[24], губляла юрыдычную сілу. Не забыты былі і выпадкі, калі князі Вярхоўскіх княстваў служылі Маскве («Одоевские и Воротынские и Белевские князи наши слуги старые»[25], «Мезецкие князи из старины наши слуги, одны с Торусскими князми, и в старых докончаньех предков наших писаны»[26]). Таксама і князі Масальскі і Вяземскі былі прадстаўлены як старыя слугі вялікіх князёў маскоўскіх («...а из старины князи Вяземские и Мосалские служили предком нашим великим князем и с своими вотчинами, а и в старых докончаньех то писано»[27]).

Але не да ўсіх рускіх зямель ВКЛ магло знайсціся падыходзячае абгрунтаванне іх захопу. Ужо датычна Вяземскага княства маскоўскі бок заяўляў: «...о Вязме так нелзе быти, за все будут брани да жалобы, ино Вязме всей пригож быти за нашим государем»[28]. Безумоўна, падобныя прамовы хавалі за сабой, з аднаго боку, адсутнасць аргументацыі Івана III, які незаконна заняў частку тэрыторыі ВКЛ, а з другога боку — упэўненасць маскоўскага валадара ў сваіх ваенных сілах.

Сведчаннем развіцця ідэалагічных уяўленняў Івана III, прадстаўленых у пасольскіх кнігах, можа служыць заява маскоўскага гаспадара літоўскаму паслу Станіславу Пятровічу ў 1490 г.: «А волостей и земель и вод отчины королевы за собою не держим, а з Божьею волею держим земли и воды свои, которые нам дал Бог»[29]. Пры гэтым прыналежнасць у дадзены момант некаторых рускіх зямель да Вялікага Княства Літоўскага тлумачылася нягодамі дзяржавы ў часы ранейшых маскоўскіх валадароў («...а те Мезоцкие князи были у литовских великих князей в незгоду предков наших»[30] або «те докончанья незгодою государей наших, деда

[21] СИРИО. Т. 35. С. 6.

[22] Тамсама. С. 77.

[23] Тамсама. С. 119.

[24] Тамсама. С. 51.

[25] Тамсама. С. 106.

[26] Тамсама.

[27] Тамсама. С. 107.

[28] Тамсама. С. 119.

[29] Тамсама. С. 50.

[30] Тамсама. С. 106.

его великого князя Василья и отца его великого князя Василья»[31]). Менавіта ў пасольскіх кнігах упершыню з'явіўся новы тытул Івана III — «государь всеа Русии» (1493 г.)[32]. Нарэшце, у 1503 г. Іван III прама заявіў: «Ано и не то одно наша отчина, кои городы и волости ныне за нами: и вся Русскаа земля, Божьею волею, из старины, от наших прародителей наша отчина»[33]. У «вотчыну» ж караля польскага і вялікага князя літоўскага Аляксандра Казіміравіча адводзіліся толькі «Лядская земля да Литовская земля»[34]. Далейшыя доказы і абгрунтаванні прыналежнасці да Масквы тых ці іншых тэрыторый былі не патрэбны: «А которые городы и земли государь наш своей отчины взял, то его и есть»[35].

Такім чынам, на старонках пасольскіх кніг мы можам назіраць не толькі дынаміку тэрытарыяльных далучэнняў да Расійскай дзяржавы, але і разглядаць іх уяўленні Івана III аб працягласці сваёй «вотчыны», што апярэджвалі іх. Не ўсе планы маскоўскага валадара былі рэалізаваны, аднак у дыпламатычным і ідэалагічным дачыненнях яны, безумоўна, садзейнічалі поспехам маладой дзяржавы.

Такім чынам, пасольскія кнігі дапамагаюць рэканструяваць літоўска-маскоўскую мяжу часоў Івана III, даюць даследчыку неабходныя дадзеныя, якіх пазбаўлены іншыя крыніцы. Наступным крокам павінна стаць праца з крыніцамі іншага характару і часу — межавымі граматамі, пісцовымі кнігамі і г.д. На новым этапе ў сілу ўступіць метад рэтраспекцыі. Аднак у метадалагічным ланцужку, які вядзе да дасягнення навукова значнага выніку — рэканструкцыі літоўска-маскоўскай мяжы другой паловы XV — пачатку XVI ст. — незаменнай і ўнікальнай крыніцай застаюцца пасольскія кнігі часоў Івана III.

31 СИРИО. Т. 35. С. 115.

32 Тамсама. С. 80.

33 Тамсама. С. 380.

34 Тамсама. Тут неабходна зрабіць агаворку, што ў паняцце «Літоўская зямля» ўваходзіла тэрыторыя большай часткі сучаснай Беларусі.

35 Тамсама. С. 385.

## Спіс скарачэнняў

| | |
|---|---|
| АВАК | — Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией |
| АЗР | — Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией |
| АКР | — Археологическая карта России |
| АЛМ | — Акты Литовской метрики |
| АСЭИ | — Акты социально-экономической истории Северо-Восточной Руси конца XIV — начала XVI в. |
| АФЗХ | — Акты феодального землевладения и хозяйства XIV—XVI вв. |
| АЮЗР | — Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией |
| ДДГ | — Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV — XVI вв. М.; Л., 1950. |
| МАМЮ | — Документы Московского архива Министерства юстиции |
| МИА СССР | — Материалы по истории и археологии СССР |
| НГАБ | — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі |
| НПЛ | — Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов |
| «Пам'ять» 1527 р. | — «Пам'ять» 1527 р. // Русина О. Сіверська земля у складі Великого Князівства Литовського. Київ, 1998. С. 207—215 |
| ПСРЛ | — Полное собрание русских летописей |
| Радзивилловские акты | — Памятники истории Восточной Европы. Источники XV—XVII вв. Т. VI. Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в. М.; Варшава, 2002 |
| РГАДА | — Российский государственный архив древних актов |
| РИБ | — Русская историческая библиотека |
| СИРИО | — Сборник Императорского Русского Исторического общества |
| AGAD. Arch.P. | — Archiwum Główny Aktów Dawnych. Archiwum Potockich z Radzynia |
| LM | — Lietuvos Metrika — Lithuanian Metrica — Литовская Метрика |

## Спіс табліц

## Спіс карт

## Спіс фотаздымкаў і ілюстрацый

# Бібліяграфія

## Крыніцы

Акты XIII—XVII вв., представленные в Разрядный приказ представителями служилых фамилий после отмены местничества. Ч. I. 1257—1613 гг. // Чтения в обществе истории и древностей российских при Московском университете. Кн. 3. М., 1898.
Акты Литовской метрики / Собраны Ф.И. Леонтовичем. Т. 1. Вып. 1. 1413—1498 гг. Варшава, 1896.
Акты Литовской метрики / Собраны Ф.И. Леонтовичем. Т. 1. Вып. 2. 1499—1507 гг. Варшава, 1897.
Акты Русского государства 1505—1526 гг. М., 1975.
Акты социально-экономической истории Северо-Восточной Руси конца XIV — начала XVI в. Т. 1. М., 1952.
Акты социально-экономической истории Северо-Восточной Руси конца XIV — начала XVI в. Т. 3. М., 1964.
Акты феодального землевладения и хозяйства XIV—XVI вв. Ч. 1. М., 1951.
Акты феодального землевладения и хозяйства XIV—XVI вв. Ч. 2. М., 1956.
Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. Т. XIII. Вильна, 1886.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I. 1340—1506. СПб., 1846.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. II. 1506—1544. СПб., 1848.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. III. 1544—1587. СПб., 1848.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. IV. 4. 1588—1632. СПб., 1851.
Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. V. 1633—1699. СПб., 1853.
Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. Т. 1. СПб., 1863.
Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. Т. III. СПб., 1861.
Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. Т. IV. СПб., 1863.
Анпилогов Г.Н. Новые документы о России конца XVI — начала XVII в. М., 1967.
Атлас, состоящий из 12 окружных и 1 генеральной карты, представляющей Могилевскую губернию. Могилев, 1777.
Беларускія летапісы і хронікі: Пер. са старажытнарускай, старабеларус. і польск. Мінск, 1997.
Большой всемирный настольный атлас Маркса / Под ред. Э.Ю. Петри и Ю.М. Шокальского. СПб., 1910.
Боровский уезд в XVII в. (Материалы дозора 1613 г.). М., 1992.
Военно-топографическая карта. Могилевская губерния. СПб., 1850. 3 версты в дюйме.
Гваньїні О. Хроніка європейської Сарматії / Упорядкув. та пер. з пол. о. Юрія Мицика. Київ, 2009.
Генерального плана Гжатского уезда часть I, II, III-я. Масштаб: в 1 дюйме — 2 версты. 1780.
Генерального плана Зубцовского уезда часть I. Масштаб: в 1 дюйме — 2 версты. 1780—1790.
Генерального плана Медынского уезда часть I-я. Масштаб: в английском дюйме 2 версты // Атлас Калужского наместничества, состоящего из двенадцати городов и уездов… СПб., 1782.

Генерального плана Медынского уезда часть II-я. Масштаб: в английском дюйме 2 версты // Атлас Калужского наместничества, состоящего из двенадцати городов и уездов... СПб., 1782

Генеральный план Белицкого уезда / Генеральное межевание Могилевской губернии. 1784.

Генеральный план Рогачевского уезда / Генеральное межевание Могилевской губернии. 1784.

Генеральный штаб Красной Армии. Карты. М., 1942. Л. N-36-XXVII, N-36-XXVIII, N-36-XXXIII, N-36-XXXIV.

Географический атлас Российской империи, Царства Польского и Великого кн. Финляндского, расположенный по губерниям на двух языках / Соч. и грав.: 6-го Кл. Пядышев. СПб., 1821. № 13, 21.

Геометрический генеральный план Калугского наместничества оконч... Медынскому уезду со всеми внутри оного лежащими владельческими землями с показанием в нем каждого селения с отделенными специальными и городскими от других уездов межами, сочинен в орловской межевой конторе в городе Болхове первого класса землемером порутчиком Петром Нееловым Генваря дня 1779 году. Масштаб: в английском дюйме 500 саженей.

Геометрический план Юхновского целого уезда со всеми внутри оного лежащими градскими, казенными, и владельческими землями с показанием в нем каждого селения с отделением градскими и специальными от других межами, сочинен в смоленской межевой конторе землемером прапорщиком Григорьевым Накоскиным в 1780 году, января 10 дня. В 1 дюйме — 500 саженей.

Герберштейн С. Записки о Московии. М., 1988.

Герберштейн С. Записки о Московии: В 2 т. / Под ред. А.Л. Хорошкевич. Т. I. М., 2008.

Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. I. IX—XVIII ст. Склалі В.К. Шчарбакоў, К.І. Кернажыцкі і Д.І. Даўгяла. Менск, 1936.

Гомельская область. Атлас. Минск, 2006. Масштаб 1 : 200 000.

Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897.

Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV — XVI вв. М.; Л., 1950.

Дьяконов М. Акты, относящиеся к истории тяглого населения в Московском государстве. Вып. II. Грамоты и записи. Юрьев, 1897.

Инвентари Кричевского староства. 1670—1747 гг. // НГАБ. КМФ-5. Воп. 1. Спр. 1922, 1923, 1924, 1925, 1926, 1927, 1928, 1929, 1930, 1931, 1932, 1933, 1934, 1935, 1936.

Инвентарь Гомейского староства. 1681 г. // НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 259. Арк. 1—22 об.

Инвентарь Чечерского староства. 1680 г. // НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 888. Арк. 30—30 об.

Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в центральном архиве в Витебске / Под ред. Д.И. Довгялло. Вып. 28. Витебск, 1900.

Карта Могилевской губернии / Испр. и доп. А. Ильин. СПб., 1871. Масштаб: в 1 дюйме — 15 верст (1 : 630 000).

Карта Могилевской губернии. СПб., 1880. Масштаб: в 1 дюйме — 20 верст (1 : 840 000).

Книга Большому чертежу. М.; Л., 1950.

Литовская метрика. Отдел 1. Ч. 1. Книги записей // Русская историческая библиотека. Т. XXVII. СПб., 1910.

Лихачев Н.П. «Инока Фомы слово похвальное о благоверном великом князе Борисе Александровиче» // Памятники древней письменности и искусства. Вып. CLXVIII. 1908.

Межевой атлас Тверской губернии, составленный в 1848-49 гг. под наблюд. ген. Менде. Масштаб: в 1 дюйме — 2 версты.

Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28 (1522—1552 гг.). Кніга запісаў 28 / Падрыхтоўка тэкстаў да друку і навук. апарат: В. Мянжынскі, У. Свяжынскі. Минск, 2000.

Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга № 30 (1480—1546 гг.). Кніга запісаў № 30 (копія канца XVI ст.) / Падрыхт. В.С Мянжынскі. Минск, 2008.

Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 44: Кніга запісаў 44 (1559—1566) / Падрыхт. А.І. Груша. Минск, 2001.
Миллер Г.Ф. Сочинения по истории России. Избранное. М., 1996.
Можайские акты 1506—1775 гг., сообщил архимандрит Дионисий. СПб., 1892.
Московская битва в хронике фактов и событий. М., 2004.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. КМФ-18 (Ф. 389). Воп. 1. Спр. 3.
Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М., 2000.
Ограничение Кричевского староства. 1604 г. // НГАБ. Ф. 694. Воп. 4. Спр. 1155. Ч. 1. Арк. 60—71.
Опись архива Посольского приказа 1626 года. Ч. 1. М., 1977. С. 34—35.
Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. Ч. 1. Сношения с государствами европейскими. Т. I. Памятники дипломатических сношений с Империею Римскою (с 1488 по 1594 год). СПб., 1851.
Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. I // Сборник Императорского Русского Исторического общества. Т. 35. СПб., 1882.
Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским. Т. II // Сборник Императорского Русского Исторического общества. Т. 59. СПб., 1887.
Памятники дипломатических сношений России с азиатскими народами. Т. 1 // Сборник Императорского Русского Исторического общества. Т. 41. СПб., 1884.
Памятники дипломатических сношений России с азиатскими народами. Т. II // Сборник Императорского Русского Исторического общества. Т. 95. СПб., 1895.
Памятники древнерусского канонического права. Ч. 1 // Русская историческая библиотека. Т. 6. СПб., 1908.
Памятники истории Восточной Европы. Источники XV—XVII вв. Т. II. «Выписка из посольских книг» о сношениях Российского государства с Польско-Литовским за 1487—1572 гг. / Составитель Б.Н. Морозов. М.; Варшава, 1997.
Памятники истории Восточной Европы. Источники XV—XVII вв. Т. VI. Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в. / Составитель М.М. Кром. М.; Варшава, 2002.
Перапіс войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. публічных спраў 1. Минск, 2003.
Писцовые книги Московского государства. Ч. I. Отделение I. СПб., 1872.
Писцовые книги Московского государства / Под ред. Н.В. Калачова. Ч. I. Отделение II. СПб., 1877.
Подлинная переписная книга посадских дворов города и поместных и вотчинных сел, деревень и дворов… переписи Никифора Кондратьевича Озерова и подьячего Аввакума Григорьева. Копия. 1677 г. // Российский государственный архив древних актов. Ф. 1209. Оп. 1. Д. 10818.
Полное собрание русских летописей. Т. I (Лаврентьевская летопись). М., 2001.
Полное собрание русских летописей. Т. II (Ипатьевская летопись). М., 2001.
Полное собрание русских летописей. Т. III (Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов). М., 2000.
Полное собрание русских летописей. Т. IV. Вып. 2 (Новгородская четвертая летопись). Л., 1925.
Полное собрание русских летописей. Т. V (Софийская первая летопись). СПб., 1851.
Полное собрание русских летописей. Т. VI (Софийские летописи). М., 2000.
Полное собрание русских летописей. Т. VI. Вып. 2. (Софийская вторая летопись). М., 2001.
Полное собрание русских летописей. Т. VII (Летопись по Воскресенскому списку). М., 2001.
Полное собрание русских летописей. Т. VIII (Летопись по Воскресенскому списку). М., 2001.
Полное собрание русских летописей. Т. XI (Летописный сборник, именуемый Патриаршею или Никоновскою летописью). М., 2000.

Полное собрание русских летописей. Т. XII (Летописный сборник, именуемый Патриаршею или Никоновскою летописью). М., 2000.
Полное собрание русских летописей. Т. XV (Рогожский летописец. Тверской сборник). М., 2000.
Полное собрание русских летописей. Т. XVII (Западнорусское летописание). М., 2008.
Полное собрание русских летописей. Т. XVIII (Симеоновская летопись). М., 2007.
Полное собрание русских летописей. Т. XX (Львовская летопись). Вып. 1. М., 2005.
Полное собрание русских летописей. Т. XXIII (Ермолинская летопись). М., 2004.
Полное собрание русских летописей. Т. XXIV (Типографская летопись). М., 2000.
Полное собрание русских летописей. Т. XXV (Московский летописный свод конца XV в.). М., 2004.
Полное собрание русских летописей. Т. XXVI (Вологодско-Пермская летопись). М., 2006.
Полное собрание русских летописей. Т. XXVII (Никаноровская летопись. Сокращенные летописные своды конца XV века). М., 2007.
Полное собрание русских летописей. Т. XXVIII (Летописный свод 1497 г. Летописный свод 1518 г. (Уваровская летопись)). М.; Л., 1963.
Полное собрание русских летописей. Т. XXXII (Литовско-белорусские летописи). М., 1975.
Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. СПб., 2002.
Разрядная книга 1475—1598 гг. М., 1966.
Разрядная книга 1475—1605 гг. Т. 1. Ч. 1. М., 1977.
Редкие источники по истории России. Вып. 2: Новые родословные книги XVI в. М., 1977.
Российской атлас, из 44 карт состоящий и на 42 наместничества империю разделяющий. СПб., 1792.
Сборник Московского архива министерства юстиции. Т. 1. Ч. 1. М., 1913
Сборник Муханова. СПб., 1866.
Специальная десятиверстная карта Европейской России, И.А. Стрельбицкого. 1865—1871. Масштаб: в 1 дюйме 10 верст (1 : 420 000).
Специальная карта Западной части Российской Империи, составленная и гравированная ... при Военно-Топографическом депо с 1826 по 1840 год под руководством генерал-лейтенанта Шуберта. Масштаб: в 1 дюйме — 10 верст (1 : 420 000).
Спіс населенных пунктаў усходнебеларускіх губерняў у 1783—1785 гг. // Анішчанка Я.К. Генеральнае межаванне ў Беларусі. Дапаўненне да кнігі «Генеральнае межаванне ў Беларусі». Горкі—Магілёў, 2002. С.38—120.
Список населенных мест Гомельского округа. Гомель, 1927.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Список населенных мест Российской империи. Черниговская губерния. СПб., 1866.
Список населенных мест Черниговской губернии. Чернигов, 1924.
Хроника Быховца. М., 1966.
Шумаков С.А. Сотницы (1537 — 1597 гг.), грамоты и записи (1561 — 1696 гг.). Вып. 1. М., 1902.
Шумаков С.А. Сотницы, грамоты и записи. Вып. III. М., 1904.
Codex epistolaris Vitoldi magni ducis lithuanie. 1376—1430. Collectus opera A. Prochaska. Cracoviae, 1882.
Długosz J. Dziejów polskich ksiąg dwanaście. T. V. Ks. XII. Kraków, 1870.
Dzieje Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego od roku 1380 do 1535. Przez Bernarda z Rachtamowic Wapowskiego, ze świeżo odkrytego spółczesnego rękopismu, z języka łacińskiego na ojczysty przetłómaczył, przypisami objaśnił, poczet rzeczy i osób dodał Mikołaj Malinowski. T. I. Wilno, 1847.
Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. Przekład K. Mecherzyńskiego. T. III. Ks. IX, X. Kraków, 1868.

